2) зану́дны
**Ábgeschmacktheit** *f* - адсу́тнасць гу́сту, дрэ́нны густ
**ábgesehen**: ~ ***(von D)*** незважа́ючы (*на што-н.*); за выключэ́ннем; ~ ***davón, dass…*** не ка́жучы пра то́е, што…, акрамя́ таго́, што…
**ábgesessen** *a* спе́шны; ~ ***!*** *вайск.* злазь! (*з каня*)
**ábgesondert** *a* **1.** асо́бы; адасо́блены **2.** *adv* асо́бна, паасо́бку
**Ábgesonderheit** *f* - адасо́бленасць
**ábgespannt** *a* змямо́жаны, сто́млены
**ábgesperrt** *a* замкнёны; блакі́раваны
**ábgestanden** *a* 1) за́тхлы 2) які́ вы́тхнуў-ся (*пра віно, піва і г.д.*)
**ábgestellt:** ~ ***sein auf etw. (A)*** быць разлі́чаным на што-н.
**ábgestorben** *a* амярцве́лы (*пра часці цела*)
**ábgestumpft** *a* 1) прыту́плены; *перан.* атупе́лы 2) *матэм.* усе́чаны
**ábgetan** *a* 1) зако́нчаны, заве́ршаны; ***éine ~e Sáche*** вы́рашаная спра́ва, вы́рашанае пыта́нне 2) даве́дзены да гале́чы
**ábgetragen** *a* падно́шаны, зно́шаны
**ábgewinnen*** *vt* 1) выйграва́ць 2) дамагчы́ся (*чаго-н.*); ***man kann ihm kein Wort*** ~ з яго́ не вы́цягнеш ніво́днага сло́ва
**ábgewöhnen 1.** *vt* адву́чваць **2. ~, sich *(D) etw.*** адву́чваць сябе́ ад чаго́-н.; адвыка́ць; ***ein Kind*** ~ адву́чваць дзіця́ ад грудзе́й
**ábgezehrt** *a* змардава́ны, вы́петраны
**ábgezogen** *a* адця́гнены, абстра́ктны; ***~er Begríff*** *высок.* абстра́ктнае паня́цце
**ábgießen*** *vt* 1) зліва́ць; адліва́ць 2) адліва́ць (*рабіць з дапамогай ліцця*)
**Ábglanz** *m* -es во́дбліск, адбі́так
**ábgleiten*** *vi* (s), **ábglitschen** *vi* (s) саслі́згваць
**Ábgott** *m* -(e)s, -götter кумі́р, і́дал; *перан.* бо́жышча
**Ábgottanbeter** *m* -s, - ідалапаклó́ннік
**Abgötteréi** *f* - ідалапакло́нніцтва; ***mit j-m ~ tréiben**** абажа́ць, го́рача любі́ць (*каго-н.*)
**ábgöttisch 1.** *a* ідалапакло́нніцкі **2.** *adv*: ***j-n ~ líeben*** каха́ць ве́льмі мо́цна каго́-н., го́рача любі́ць каго́-н.
**ábgraben*** *vt* адко́пваць
**ábgrämen, sich** (*um A*) смуткава́ць, бедава́ць, тужы́ць (*па кім-н.*)
**ábgrasen** vt 1) аб’яда́ць (*траву на лузе*) 2) скасі́ць траву́ (на лузе) 3) разм. (*nach D*) абшука́ць (*якую-н. мясцовасць у пошуках чаго-н.*)
**ábgrenzen** *vt* **1.** размяжо́ўваць **2. ~ sich** (*gegen A*) адмежава́цца (*ад чаго-н.*)
**Ábgrund** *m* -(e)s, -gründe пpо́рва, бе́здань
**ábgrundtief** *a* бяздо́нны
**ábgucken** *vt разм.* перайма́ць; падгляда́ць; ***sich (D) die Áugen*** ~ прагле́дзець сабе́ во́чы
**Ábgunst** *f* - непрыхі́льнасць
**ábgünstig** *a* непрыхі́льны
**ábgürten** *vt* распяра́зваць
**Ábguss** *m* -es, -güsse 1) адліва́нне 2) *тэх.* адлі́ўка, адліва́нне
**ábhaben** *vt* 1) атрыма́ць (*сваю частку*); ***sein Teil [séine Stráfe]*** ~ атрыма́ць пакара́нне 2): ***er hat den Hut ab*** ён без капелюша́, ён зняў капялю́ш
**ábhacken** *vt* адсяка́ць, адшчапля́ць
**ábhaken** *vt* 1) адсяка́ць 2) адзнача́ць пту́шачкай (*у спісе і г.д.*)
**ábhalftern** *vt зняев.* пазбаўля́цца (*ад каго-н., чаго-н.*)
**ábhalten*** *vt* 1) затры́мліваць, не прапуска́ць (*ваду*) 2) (*von D*) утры́мліваць (*каго-н. ад чаго-н.*) 3) право́дзіць (*сход*)
**Ábhaltung** *f* -, -en 1) перашко́да, затры́мка 2) правядзе́нне (*сходу, заняткаў і г.д.*)
**ábhandeln** *vt* 1) вытаргó́ўваць 2) абмярко́ўваць
**abhánden**: ~ ***kómmen**** прапада́ць; згубі́цца
**Ábhandlung** *f* -, -en твор, арты́кул, навуко́вы трактá́т
**Ábhang** *m* -(e)s, -hänge схіл, адхо́н; ***stéiler*** ~ кру́ча, стро́ма, абры́ў
**ábhängen*** *vi* зале́жаць
**ábhängig** *a* 1) зале́жны; ***~e Réde*** ускó́сная мо́ва; ***~er Fall*** ускó́сны склон 2) пака́ты, нахі́лены
**Ábhängigkeit** *f* - зале́жнасць; ***in ~ gerá-***

***ten**** папа́сці ў зале́жнасць

**ábhärmen, sich** тужы́ць, смуткава́ць

**ábhärten 1.** *vt* гартава́ць, загарто́ўваць; умацо́ўваць **2. ~, sich** гартава́цца

**ábhauen*** **1.** *vt* 1) адсяка́ць, ссяка́ць, высяка́ць 2) *разм.* спі́сваць **2**.*vi* (s) *разм.* уцяка́ць; ***hau ab!*** *груб.* выбі́райся!

**ábhäuten** *vt* абдзіра́ць ску́ру

**ábheben*** **1.** *vt* здыма́ць **2. ~, sich** (*von D*) вылуча́цца (*на фоне чаго-н.*)

**ábhelfen*** *vi* (да)памага́ць (*у бядзе*)

**ábhetzen 1.** *vt* зацкава́ць (*звера*) **2. ~, sich** *разм.* памі́цца, змары́цца

**Ábhilfe** *f* - дапамо́га; ~ ***scháffen*** дапамагчы́; ***da gibt es kéine*** ~ гэ́таму не дапамо́жаш

**ábhold**: ***j-m ~ sein*** быць су́праць (*каго-н., чаго-н.*), не спрыя́ць (*каму-н.*)

**ábholen** *vt* захо́дзіць, заязджа́ць (*па каго-н., па што-н.*); ***j-n etw. ~ lássen**** пасыла́ць каго́-н. па што-н.; ***j-n am Báhnhof*** ~ сустрэ́ць каго́-н. на вакза́ле

**Ábholgebühr** *f* -, -en пла́та за дастáўку на дом

**ábholzen** *vt* высяка́ць (*лес*), адсяка́ць (*галінкі*)

**ábhorchen** *vt* 1) падслухо́ўваць 2) *мед.* выслухо́ўваць, слу́хаць

**Ábhördienst** *m* -es, -e *вайск.* слу́жба падслухо́ўвання і перахо́пу

**ábhören** *vt* выслухо́ўваць; пыта́ць (*урок*); падслухо́ўваць; праслухо́ўваць, слу́хаць; ***Zéugen*** ~ апро́шваць све́дкаў

**ábirren** *vi* (s) збіва́цца (*з дарогі*) 2) *фіз.* рассе́йвацца (*пра прамяні*)

**Abitúr** *n* -s, -e экза́мен на атэста́т ста́ласці; выпускны́ экзаме́н; ***sein ~ máchen*** здава́ць экза́мен на атэста́т ста́ласці

**Abituri¦ént** *m* -en, -en выпускні́к сярэ́дняй шко́лы [гімна́зіі]

**ábkanten** *vt* ско́шваць вуглы́ [ка́нты]; акругля́ць краі́

**ábkanzeln** *vt разм.* распяка́ць, чы́сціць, бэ́сціць

**ábkarten** *vt* (*mit D*) (за́гадзя тае́мна) змо́віцца, згавары́цца

**ábkapseln 1.** *vt* заключа́ць у ка́псулу [абало́нку] **2. ~, sich** замкну́цца, паглы́біцца ў сябе́

**Ábkauf** *m* -(e)s, -käufe 1) паку́пка, ску́пка 2) во́дкуп

**ábkaufen** *vt* (вы)купля́ць, закупля́ць

**Ábkehr** *f* - 1) адмо́ва; адыхо́д (*ад веры, перакананняў*); ***zur ~ von etw. (D) áuffordern*** заклі́каць да адмо́вы (*ад чаго-н.*) 2) адхіле́нне, ухіле́нне

**ábkehren, sich** адваро́чвацца

**ábklären 1.** *vt* даць адсто́яцца, ачышча́ць **2. ~, sich** адсто́йвацца (*пра вадкасць*)

**Ábklatsch** *m* (-es, -e) 1) адбі́так 2) ко́пія

**ábklingen*** *vi* (s) адгуча́ць, сціха́ць

**ábklopfen** *vt* 1) выбіва́ць; адбіва́ць 2) *мед.* высту́кваць

**ábknallen** *vt* падстрэ́ліць (*каго-н*)

**ábknicken** *vt* адло́мліваць

**ábknöpfen** *vt* адшпі́льваць

**ábknüpfen** *vt* 1) адшпі́льваць, адвя́зваць 2) (*D*) *разм.* вы́мантачыць, сцягну́ць (*што-н. у каго-н.*)

**ábkochen** *vt* 1) вары́ць 2) кіпяці́ць, па́рыць (*малако*)

**ábkommandieren** *vt* адкамандзірава́ць, накірава́ць

**Ábkomme** *m* -n, -n *гл.* Ábkömmling

**ábkommen*** *vi* (s) 1) збіва́цца (*з дарогі*); адхіля́цца (*ад тэмы*) 2) памяня́ць (*думку*) 3) выхо́дзіць з ужы́тку [з мо́ды] 4) вызваля́цца 5) пахо́дзіць, быць ро́дам

**Ábkommen** *n* -s, - пагадне́нне; зго́да; ***laut*** ~ зго́дна з дамо́вай: ***ein ~ tréffen**** заключа́ць пагадне́нне

**ábkömmlich** *a*: 1) ***er ist nicht*** ~ без яго́ не́льга абысці́ся 2) які́ пахо́дзіць (*ад чаго-н.*)

**Ábkömmling** *m* -s, -e *высок.* пато́мак, нашча́дак

**ábkratzen 1.** *vt* саскраба́ць, саскрэ́бваць **2.** *vi* (s) *разм.* здо́хнуць

**ábkriegen** *vt разм.* 1) атры́млiваць сваю́ ча́стку; ***er hat eins ábgekriegt*** яму́ папа́ла 2) здзіра́ць, зняць (*з цяжкасцю*)

**ábkühlen 1.** *vt* ахало́джваць, асту́джваць **2. ~, sich** ахало́джвацца (*пра паветра*), асту́джавацца (*пра ваду*)

**Ábkunft** *f* - пахóджанне
**ábkuppeln** *vt тэх.* раз'яднóўваць, адчапляць
**ábkürzen** *vt* скарачáць, падкарóчваць
**Ábkürzung** *f* -, -en (*у розн. знач.*) скарачэ́нне; змяншэ́нне; абрэвіятýра
**ábladen*** *vt* выгружáць
**Áblage** *f* -, -n 1) *гл.* Kléideráblage *f* 2) схóвішча 3) архíў
**áblagern 1.** *vt* 1) вытры́мліваць на склáдзе 2) адклáдваць **2. ~, sich** адкладáцца
**Áblagerung** *f* -, -en *геал.* адкладáнне, адклáды, напластавáнне
**Áblass** *m* -es, -lässe 1) спуск, вадасцёк 2) скíдка 3) *рэл.* адпушчэ́нне (*грахоў*); *перан.* даравáнне; ***óhne*** ~ безупы́нна, няспы́нна
**áblassen*** **1.** *vt* 1) спускáць (*ваду*) 2) адпускáць (*тавар, грахі*) **2.** *vi* 1) адмаўляцца 2) ***lass áb!*** перастáнь! 3) ***am Preis*** ~ рабíць скíдку ў цанé
**Áblassbrief** *m* -e(s), -e *гіст.* індульгéнцыя
**Áblativ** *m* -s, -e *грам.* аблятыў, твóрны склон
**Áblauf** *m* -s, -läufe 1) сцёк 2) плынь, ход; ***der ~ der Eréignisse*** ход падзéй 3) заканчэ́нне; ***nach ~ éiner Wóche*** па сканчэ́нні ты́дня
**áblaufen*** **1.** *vi* (s) 1) сцякáць, цячы́ 2) канчáцца 3) адплывáць, адыхóдзіць **2.** *vt* стóптваць; ***sich (D) die Béine*** ~ забéгацца, адбíць сабé нóгі **3. ~, sich** змары́цца ад беганíны
**áblauschen** *vt разм.* падслухóўваць
**Áblaut** *m* -s, -e *грам.* чаргавáнне галóсных; абля́ут
**ábleben** *vi* аджывáць, памірáць, канáць
**áblecken** *vt* аблíзваць
**áblegen** *vt* 1) адклáдваць 2) здымáць, знімáць (*вопратку*) 3) здавáць (*іспыт*)
**Ábleger** *m* -s, - 1) *бат.* атóжылак, пáрастак 2) філія́л, адгалінавáнне
**Áblegeraum** *m* -(e)s, - гардэрóб, распранáльня, раздзявáльня
**áblehnen** *vt* 1) адмаўля́цца (*ад чаго-н.*); адхіля́ць (*што-н.*); ***éinen Áuftrag*** ~ адхілíць закáз 2) *юрыд.* адвóдзіць (*абвінавачванне, суддзю, сведак*)
**áblehnend** *a* адмóўны; ***er nahm éine ~e Háltung ein*** ён аднёсся да гэ́тага адмóўна
**Áblehnung** *f* -, -en адмóва, адхілéнне; *юрыд.* адвóд (*сведкі*)
**ábleisten** *vt* 1) адбывáць (*тэрмін службы*); адпрацавáць (*прызначаны час*) 2): ***éinen Eid*** ~ давáць прыся́гу
**Ábleistung** *f* - адбывáнне (*тэрміну службы*)
**ábleiten** *vt* 1) адвóдзіць 2) вывóдзіць (*ад чаго-н.*); утварáць (*ад чаго-н.*); ***díeses Wort ist vom Gríechischen ábgeleitet*** гэ́тае слóва грэ́часкага пахóджання 3) звóдзіць, збівáць (*з дарогі*); ***j-n von der réchten Bahn*** ~ звóдзіць, збівáць кагó-н. з прáвільнага шля́ху
**Ábleiter** *m* -s, - 1) *тэх.* адвóд 2) громаадвóд
**Ábleitung** *f* -, -en 1) адвóд (*ракі*) 2) *матэм.* вытвóрная 3) *грам.* вытвóрнае слóва 4) спакушэ́нне, збівáнне з прáвільнага шля́ху
**áblenken 1.** *vt* адхіля́ць; адця́гваць (*увагу*) **2.** *vi* паварóчваць размóву ў íншы бок
**Áblenkung** *f* -, -en 1) адхілéнне; адця́гванне 2) забáва
**áblesen*** *vt* чытáць (*па чым-н.*); ***am Gesícht*** ~ прачытáць штó-н. на чыíм-н. твáры, адгáдваць па твáры
**ábleugnen** *vt* адмаўля́ць; адракáцца
**ábliefern** *vt* 1) здавáць; уручáць 2) пастаўля́ць, дастаўля́ць, адпускáць (*тавар*)
**Áblieferung** *f* -, -en здáча, падвóз, дастáўка, уручэ́нне; вóдпуск, пастáўка (*тавараў*)
**Áblieferungsschein** *m* -e(s), -e накладня́я
**Áblieferungssoll** *n* -s, - *i* -s нóрма пастáвак
**ábliegen*** *vi* (s) быць убакý, быць на адлéгласці
**áblisten** *vt* (*j-m*) *разм.* вымантáчваць (*у каго-н.*)
**áblohnen, áblöhnen** *vt* разлíчвацца (*з кім-н. за працу*)
**áblöschen** *vt* 1) тушы́ць (*агонь*) 2) прамакáць (*напісанае*) 3) сцірáць (*з дошкі*)
**áblösen** *vt* 1) адвя́зваць, аддзяля́ць 2) мяня́ць 3) выкупля́ць

**Áblösung** *f* -, -en 1) аддзяле́нне, адсло́йванне; адвя́званне 2) пла́та, вы́куп 3) зме́на (*варты і г.д.*)

**ábluchsen** *vt* (*j-m*) *разм.* вымантáчваць (*у каго-н.*)

**ábmachen** *vt* 1) аддзяля́ць, адвя́зваць; здыма́ць (*шыльду*) 2) дамаўля́цца (*пра што-н.*); даво́дзіць да ла́ду

**Ábmachung** *f* -, -en дагаво́р, зго́да, пагадне́нне; ***éine ~ tréffen**** заключы́ць пагадне́нне; дамо́віцца

**ábmagern** *vi* (s) схудне́ць, пахудзе́ць

**Ábmagerung** *f* -, -en пахудне́нне

**Ábmarsch** *m* -(e)s, -märsche выступле́нне, вы́хад (*войска*); ***~ ántreten**** вы́ступіць у пахо́д; ***zum ~ blásen**** даць сігна́л да выступле́ння

**ábmarschieren** *vi* (s) выступа́ць (*у паход*); адыхо́дзіць

**ábmelden 1.** *vt* выпі́сваць (*каго-н.*), здыма́ць з улі́ку, адмацо́ўваць **2. ~, sich** паведамля́ць пра свой ад’е́зд; выпі́свацца, адмацо́ўвацца

**Ábmeldeschein** *m* -s, -e 1) адмацава́льны тало́н 2) даве́дка аб вы́пісцы

**Ábmeldung** *f* -, -en адзна́ка (*аб выездзе*); зня́цце з улі́ку

**ábmessen*** *vt* 1) ме́раць, заме́рваць; сувымяра́ць 2) узва́жваць (*словы*)

**Ábmessung** *f* -, -en паме́р; вымярэ́нне; абме́рванне

**ábmontieren** *vt тэх.* разбіра́ць, дэманці́раваць

**ábmühen, sich** (*mit D*) нясто́мна працава́ць (*над чым-н.*); вазі́цца (*з чым-н.*); аддава́ць усе́ сваé сі́лы (*чаму-н.*)

**ábmurksen** *vt груб.* забі́ць, укако́шыць

**Ábnahme** *f* -, -n 1) адніма́нне, зня́цце, адраза́нне 2) збыт, купля́нне 3) прыём, прыня́цце; ***~ éines Éides*** прыня́цце прыся́гі 4) змяншэ́нне, спад 5) схудне́нне

**ábnehmbar** *a* 1) з’ёмны 2) які́ памянша́ецца

**ábnehmen*** **1.** *vt* 1) здыма́ць, зніма́ць 2) браць, забіра́ць **2.** *vi* памянша́цца, ме́ншаць; худне́ць ***éinen Eid ~*** прыма́ць прыся́гу

**Ábnehmer** *m* -s, - 1) пакупні́к, зака́зчык, кліе́нт 2) прыёмшчык

**ábneigen 1.** *vt* адхіля́ць **2.** *vi* адхіля́цца

**Ábneigung** *f* -, -en (*gegen A*) непрыхі́льнасць, антыпа́тыя (*да каго-н., чаго-н.*)

**abnórm** 1) не адпаве́дны но́рме [пра́вілам] 2) ненарма́льны, пачва́рны; хвараві́ты 3) нязвы́клы; вялі́зны, агро́мністы

**Abnormitä́t** *f* -, -en 1) ненарма́льнасць, анама́лія 2) выро́длівасць

**ábnötigen** *vt* вымуша́ць; (*D*) вымага́ць (*што-н. ад каго-н.*)

**ábnutzen, ábnützen 1.** *vt* зно́шваць (*вопратку*); прытупля́ць; ***ein Mésser ~*** прытупі́ць нож **2. ~, sich** зно́швацца; прытупля́цца

**Ábnutzung** *f* -, -en зно́шванне, знос; прытупле́нне

**Á-Bombe** *f* -, -n а́тамная бо́мба

**Abonnement** [abɔn(ə)ˈmãː] *n* -s, -s абанеме́нт, падпі́ска

**Ábonnént** *m* -en, -en 1) падпі́счык 2) абане́нт

**abonníeren** *vt*, *vi* (*auf A*) падпі́свацца (*на што-н.*); ***auf éine Zéitung abonníert sein*** быць падпі́счыкам газе́ты

**ábordnen** *vt* пасыла́ць; накіро́ўваць; адкамандзіро́ўваць

**Ábordnung** *f* -, -en 1) дэпута́цыя; дэлега́цыя 2) адкамандзірава́нне

**Ábort I** *m* -s, -e прыбіра́льня, туале́т

**Ábort II** *m* -s, -e *мед.* або́рт

**ábpacken** *vt* 1) разгру́жваць 2) упако́ўваць, фасава́ць

**ábpassen** *vt* 1) прымяра́ць; пryла́джваць 2) чака́ць, падпільно́ўваць; ***éine Gelégenheit ~*** вы́браць мо́мант

**ábpellen 1.** *vt* аблу́плівацъ, абдзіра́ць **2. ~, sich** аблу́плівацца

**Ábpfiff** *m* -es, -e *спарт.* фіна́льны свісто́к (*суддзі*)

**ábpflücken** *vt* рваць, абрыва́ць (*кветкі, плады і г.д.*)

**ábplagen 1.** *vt* (з)му́чыць **2. ~, sich** (*mit D*) му́чыцца, бі́цца (*над чым-н.*)

**ábprägen** *vt* адчака́ньваць, адціска́ць, адбіва́ць

**Ábprall** *m* -(e)s, -e адско́к; рыкашэ́т

**ábprallen** *vi* (s) адскóкваць

**ábpressen** *vt* 1) адціскáць, выціскáць 2) (*D*) дамагáцца (*шантажом*)

**ábputzen** *vt* 1) тынкавáць 2) чы́сціць 3) *разм.* аблáяць

**ábquälen 1.** *vt* мýчыць **2. ~, sich** змýчыцца; пакýтаваць

**ábrackern 1.** *vt* змýчыць **2. ~, sich** mit (*D*) мýчыцца; *фам.* (пра)валэ́ндацца (*з чым-н., з кім-н.*)

**ábraten*** *vt, vi* (*j-m von D*) адрáіць (*каму-н. што-н.*); адгавóрваць (*каго-н. ад чаго-н.*)

**Ábraum** *m* -es *горн.* раскрывáнне

**ábräumen** *vt* прымáць (*са стала*)

**ábreagieren, sich** супакóіцца (*адыграўшыся на кім-н.*)

**ábrechenbar** *a* аблічáльны

**ábrechnen 1.** *vt* вылічáць, аблічáць; адлічáць; утры́мліваць (*грошы*) **2.** *vi разм.* разлíчвацца; звéсці рахýнкі; ***mit j-m ~*** паквітáцца з кім-н.

**Ábrechnung** *f* -, -en 1) адлічэ́нне 2) разлíк; падрахóўванне, падрахýнак; ***mit j-m ~ hálten**** звéсці з кім-н. рахýнкі

**Ábrede** *f* -, -n пагаднéнне, угавóр; ***etw. in ~ stéllen*** аспрэ́чваць што-н.

**ábreden** *vt* адгавóрваць

**ábreiben*** *vt* 1) сцірáць, выцірáць 2) расцірáць; абцірáць

**Ábreibung** *f* -, -en 1) сцірáнне, выцірáнне 2) абцірáнне

**Ábreise** *f* -, -n ад’éзд

**ábreisen** *vi* (s) ад’язджáць, выпраўля́цца ў дарóгу

**ábreißen* 1.** *vt* 1) абрывáць 2) знóсіць, ламáць (*будынак*) **2.** *vi* (s) адрывáцца, абрывáцца

**Ábreißkalender** *m* -s, - адрыўны́ каляндáр

**ábrennen*** *vt*: ***sich (D) die Béine ~ nach (D)*** збéгацца (*у пошуках чаго-н.*)

**ábrichten** *vt* 1) прывучáць, дрэсіравáць 2) *тэх.* прылáджваць, рабíць прыгóнку

**ábriegeln** *vt* 1) зачыня́ць на засóўку 2) ізалявáць; адгарóджваць

**ábringen*** *vt* (*D*) адваёўваць (*што-н. у каго-н.*); дамагчы́ся (*прызнання*)

**Ábriss** *m* -es, -e 1) карóткі нáрыс 2) знос (*будынка*) 3) абры́ў

**ábrollen 1.** *vt* размóтваць **2.** *vi* (s) 1) скóчвацца 2) ісцí (*аб кінафільме*) **3. ~, sich** разгóртвацца, адбывáцца

**ábrosten** *vi* (s) ржавéць

**Ábrosten** *n* -s карóзія, ржаўлéнне

**ábrösten** *vt* абпáльваць; абсмáжваць (*аб прадуктах харчавання*)

**Ábrösten** *n* -s абпáльванне, абсмáжванне

**ábrücken 1.** *vt* адсóўваць **2.** *vi* (s) адсóўвацца, адступáць

**Ábruf** *m* -(e)s, -e 1) адклікáнне 2) пераклíчка 3) (за)патрабавáнне 4) *фін.* выключэ́нне з абарачэ́ння (*грашовых знакаў*)

**ábrufen*** *vt* 1) адклікáць (*пасла*) 2) рабíць (*пераклічку*) 3) аб’яўля́ць (*прыпынкі*)

**ábrunden** *vt* 1) акругля́ць 2) скругля́ць

**ábrupfen** *vt* абскубáць, абшчы́пваць

**abrúpt** *a* 1) адры́вісты, няскладны, нязвя́зны 2) раптóўны, рэ́зкі; ***etw. ~ unterbréchen**** раптóўна што-н. перарвáць [перапыніць]

**ábrüsten 1.** *vt* 1) раззбрóйваць 2) *буд.* разбірáць рыштавáнні **2.** *vi* раззбрóйвацца

**Ábrüstung** *f* -, -en раззбраéнне

**ábrutschen** *vi* (s) спаўзáць, з’язджáць, саслíзгваць

**Ábrutsch** *m* -es, -e апóўзень

**ábsacken** *vi* (s) 1) асядáць (*аб будынку*) 2) ісцí на дно

**Ábsage** *f* -, -n 1) адмóва (*каму-н.– D*); адмéна; адрачэ́нне 2) адмаўлéнне

**ábsagen** *vt* адмаўля́ць; адмяня́ць

**ábsägen** *vt* 1) адпілóўваць 2) *разм.* звальня́ць з пасáды

**ábsahnen** *vt* (*тс. перан.*) знімáць вяршкí

**Ábsatz** *m* -es, -sätze 1) абцáс 2) абзáц; нóвы радóк 3) пáўза, пярэ́рва, перапы́нак 4) збыт (*тавараў*) 5) (лéсвічная) пляцóўка 6) асáдак, адстóй

**Ábsatzmarkt** *m* -es, -märkte ры́нак збы́ту

**Ábsatzpreis** *m* -es, -e прадáжная цанá

**Ábsatzvermittlung** *f* -, -en пасрэ́дніцтва пры збы́це тавáраў

**ábsaugen** *vt* 1) адсмактáць, адпампавáць; выця́гваць 2) чы́сціць пыласóсам

**ábschaben** *vt* саскрэ́бваць

**ábschaffen** *vt* 1) касава́ць, ліквідо́ўваць, адмяня́ць; знішча́ць; ***Gesétze*** ~ адмяня́ць зако́ны 2) выво́дзіць з ужы́тку; *вайск.* зніма́ць з узбрае́ння

**Ábschaffung** *f* -, -en адме́на; скасава́нне, ліквіда́цыя

**ábschalten** *vt* выключа́ць (*ток*)

**Ábschaltung** *f* -, -en выключэ́нне (*току*)

**ábschattieren** *vt* адцяня́ць

**ábschätzen** *vt* 1) ацэ́ньваць; вызнача́ць (*адлегласць*) 2) недаацэ́ньваць

**ábschätzig** *a* знява́жлівы, пага́рдлівы; ***ein ~es Úrteil*** адмо́ўны во́дгук

**Ábschätzung** *f* -, -en ацэ́нка, расцэ́нка

**Ábschaum** *m* -(e)s 1) пе́на, на́кіп; шлак 2) ахво́сце; ~ ***der Ménschheit*** адкі́ды грама́дства

**ábscheiden*** **1.** *vt* аддзяля́ць **2.** *vi* (s) 1) аса́джвацца (у *растворы*) 3) скана́ць

**Ábscheu** *m* -s, *f* - агі́да; ~ ***éinflößen*** унуша́ць агі́ду

**ábscheuerregend** *a* які́ выклі́кае агі́ду

**ábscheulich** **1.** *a* агі́дны, бры́дкі **2.** *adv* агі́дна, гню́сна, бры́дка

**ábschicken** *vt* адсыла́ць, пасыла́ць, адпраўля́ць

**ábschieben*** *vt* 1) адсо́ўваць 2) *вайск.* эвакуі́раваць

**Ábschiebung** *f* -, -en вы́сылка, выдварэ́нне

**Ábschied** *m* -(e)s, -e 1) развіта́нне, расста́нне, ро́стань 2) адста́ўка, звальне́нне; ~ ***néhmen**** (*von D*) развітвацца (*з кім-н.*); ~ ***gében**** звальня́ць

**Ábschiedsgesuch** *m* -es, -e прашэ́нне [зая́ва] аб адста́ўцы

**ábschießen*** *vt* 1) падстрэ́ліць, збіць стрэ́лам 2) стрэ́ліць

**ábschinden*** **1.** *vt* злу́пліваць ску́ру **2.** **~, sich** надрыва́цца

**ábschirmen** *vt* (*gegen A*) захіна́ць; затры́мліваць; адгаро́джваць; барані́ць

**ábschirren** *vt* распрага́ць, выпрага́ць

**ábschlachten** *vt* рэ́зацъ, забіва́ць, кало́ць (*жывёлу*)

**Ábschlag** *m* -(e)s, -schläge 1) усту́пка; паслабле́нне; скі́дка (*з цаны*); ***auf*** ~ у растэрміно́ўку, на ра́ты 2) ссе́чаны лес; галлё 3) *спарт.* уда́р ад варо́таў

**ábschlagen*** **1.** *vt* 1) адбіва́ць; адсяка́ць; збіва́ць 2) адмаўля́ць **2.** *vi* 1) зніжа́ць сваю́ ва́ртасць 2) спуска́ць, зліва́ць (*ваду*)

**ábschlägig** *a*: ***éine ~e Ántwort*** адка́з, адмо́ва

**Ábschlagszahlung** *f* -, -en пла́та ў растэрміно́ўку [на ра́ты]

**ábschleifen*** *vt* абто́чваць, шліфава́ць

**ábschleppen** *vt* адця́гваць, адбуксіро́ўваць, адбуксава́ць, адбуксі́раваць

**ábschließen*** *vt* 1) замыка́ць 2) заключа́ць (*дагавор*) 3) канча́ць (*справу*)

**ábschließend** **1.** *a* заклю́чны, канчатко́вы **2.** *adv* на заканчэ́нне

**Ábschluss** *m* -es, -schlüsse 1) заканчэ́нне 2) падпіса́нне (*дагавору*) 3) *бухг.* вынікóвы бала́нс 4) сярэ́дняя (*спецыяльная*) адука́цыя 5) (*часцей pl*) згóда, пагадне́нне

**Ábschlussprüfung** *f* -, -en выпускны́ экза́мен

**ábschnallen** *vt* адшпі́льваць (*спражку*); здыма́ць (*канькі*)

**ábschneiden*** **1.** *vt* адраза́ць, адрэ́зваць; скарача́ць; ізалява́ць **2.** *vi*: ***gut [schlecht] bei der Prüfung*** ~ *разм.* до́бра [дрэ́нна] здаць іспы́ты

**ábschnellen** *vi* (s) адскóкваць, адлята́ць

**Ábschnitt** *m* -(e)s, -e 1) глава́; раздзе́л 2) адрэ́зак (*часу*) 3) учáстак (*мясцовасці*) 4) карашо́к (*кантрольны*) 5) *матэм.* сегме́нт

**ábschnitt(s)weise** *adv* па ча́стках, па раздзе́лах

**Ábschnitzel** *m* -s, - абрэ́зак

**ábschnüren** *vt* 1) адвя́зваць 2) перавя́зваць 3) ізалява́ць, аддзяля́ць 4) *перан.* не дава́ць про́дыху

**ábschöpfen** *vt* зніма́ць (*вяршкі, пену*)

**ábschrägen** *vt* зраза́ць (*вуглы*), рэ́заць наўскася́к, счэ́сваць

**ábschrauben** *vt* адшрубо́ўваць, адкру́чваць

**ábschrecken** *vt* 1) адпу́джваць, запало́хваць 2) *тэх.* ху́тка ахало́джваць

**ábschreckend** *a* застраша́льны, які́ адпу́джвае; ***ein ~es Béispiel*** застраша́льны пры́клад

**Ábschreckung** *f* -, -en запу́жванне, запало́хванне

**ábschreiben*** *vt* спі́сваць, перапі́сваць

**Ábschreibung** *f* -, -*en фін.* **1.** спіса́нне з раху́нку [баланса], анулява́нне **2.** амартыза́цыя

**ábschreiten*** *vt* вымяра́ць кро́камі (*поле*); абыхо́дзіць (*фронт*)

**Ábschrift** *f* -, -en ко́пія (*дакумента*); ***éine ~ von etw. (D) ánfertigen [besórgen]*** зняць ко́пію з чаго́-н.

**ábschuften, sich** напрацава́цца, намардава́цца

**Ábschürfung** *f* -, -en ра́нка, сіня́к

**Ábschuss** *m* -es, -schüsse 1) стрэл, вы́страл 2) збіва́нне ў паве́тры (*самалёта і г.д.*) 3) за́пуск (*ракеты*)

**ábschüssig** *a* стро́мкі, абры́вісты, круты́

**Ábschüssigkeit** *f* - круцізна́, пака́тасць

**Ábschussrampe** *f* -, -n пускава́я пляцо́ўка (*ракет*)

**ábschütteln** *vt* 1) стрэ́сваць 2) скіда́ць (*ярмо*); ***j-n von sich (D) ~*** адчапі́цца, адвяза́цца ад каго́-н.

**ábschütten** *vt* 1) зліва́ць, адліва́ць, адсыпа́ць, ссыпа́ць

**ábschwächen 1.** *vt* аслабля́ць, змякча́ць **2. ~, sich** слабе́ць

**Ábschwächung** *f* -, -en аслабле́нне, змякчэ́нне

**ábschweifen** *vi* (s) (*von D*) ухіля́цца, адхіля́цца (*убок*); адступа́ць (*ад тэмы*)

**Ábschweifung** *f* -, -en ухіле́нне, адступле́нне (*ад тэмы, шляху і г.д.*)

**ábschwemmen** *vt* 1) змыва́ць; зно́сіць (*вадой*) 2) сплаўля́ць (*лес*)

**ábschwenken** *vi* (s) заваро́чваць убо́к

**ábschwindeln** *vt* (*D*) выма́ньваць у каго́-н. хі́трасцю [падма́нам]

**ábsegeln** *vi* (s) адплыва́ць (*пад ветразем*)

**ábsehbar** *a* агля́дны; ***in ~er Zeit*** у недалёкім бу́дучым

**ábsehen*** **1.** *vt* 1) ба́чыць, прадба́чыць; ***an den Áugen ~*** ба́чыць [адга́дваць] па вача́х 2) перайма́ць **2.** *vi* адмаўля́цца; ***ábgesehen davón, dass…*** нягле́дзячы на то́е, што…

**ábseihen** *vt* зліва́цьваду́; працэ́джваць

**ábseitig** *a* 1) адда́лены, які́ стаі́ць убаку́ 2) дзі́ўны 3) фальшы́вы, памылко́вы

**ábseits** *adv* 1) збо́ку; убо́к 2) *спарт.* па́-за гульнёй, не ў гульні́

**ábsenden*** *vt* адсыла́ць, адпраўля́ць

**Ábsender** *m* -s, - адпра́ўшчык, адпраўні́к

**ábsetzbar** *a* 1) змяня́льны 2) які́ ма́е до́бры збыт (*пра тавар*) 3) *тэх.* зды́мны

**ábsetzen 1.** *vt* 1) ста́віць (*на зямлю*) 2) здыма́ць (*капялюш*) 3) звальня́ць, здыма́ць (*з пасады*) 4) збыва́ць (*тавар*) **2.** *vi* рабі́ць перапы́нак, спыня́цца

**Ábsetzung** *f* -, -en 1) звальне́нне з паса́ды; скіда́нне (*манарха*); *вайск.* адхо́д (*на новую пазіцыю*)

**Ábsicht** *f* -, -en наме́р, заду́ма; ***mit ~*** наўмы́сна; ***séine ~en auf etw. (A) ríchten*** дамага́цца (*чаго-н.*), імкну́цца (*да чаго-н.*); ***in der ~…*** з мэ́тай; ***auf j-n [etw] ~ háben*** мець меркава́нні [пла́ны, наме́ры] нако́нт каго́-н. [чаго́-н.]

**ábsichtlich 1.** *a* наўмы́сны **2.** *adv* знаро́к, наўмы́сна

**ábsichtslos 1.** *a* ненаўмы́сны **2.** *adv* без наме́ру, незнаро́к

**ábsinken*** *vi* (s) спада́ць; апуска́цца; зніжа́цца

**Ábsinken** *n* -s спад, зніжэ́нне

**ábsitzen* 1.** *vi* зла́зіць з каня́, спе́швацца **2.** *vt* адсе́джваць (*тэрмін пакарання*)

**absolút 1.** *a* 1) абсалю́тны, по́ўны 2) абсалю́тны, безумо́ўны **2.** *adv* абсалю́тна, безумо́ўна

**Absolutión** *f* -, -en *юрыд.* апраўда́нне 2) дарава́нне грахо́ў; ***j-m ~ ertéilen*** дарава́ць каму́-н. віну́

**Absolutísmus** *m* - самаўла́дства

**Absolvént** [-v-] *m* -en, -en той, хто канча́е курс (*навучальнай установы*), выпускні́к

**absolvíeren** [-v-] *vt* канча́ць (*навучальную ўстанову*)

**absónderlich** *a* асаблі́вы; дзі́ўны; ***nicht ~ gut*** не на́дта до́бра

**Absónderlichkeit** *f* - асаблі́васць, дзі́ўнасць

**ábsondern 1.** *vt* адасабля́ць; вылуча́ць **2. ~, sich** (*von D*) цура́цца (*каго-н.*)

**Ábsonderung** *f* -, -en 1) аддзяле́нне, адасабле́нне; ізалява́нне 2) *фізіял.* сакрэ́цыя

**absorbíeren** *vt хім.* паглына́ць, абсарбі́раваць

**Absorptión** *f* -, -en *хім. фіз.* паглына́нне, абсо́рбцыя

**ábspalten 1.** *vt* адшчапля́ць, адко́лваць **2.** *vi* (s) **~, sich** адшчапля́цца, адлуча́цца

**ábspannen** *vt* распрага́ць; аслабля́ць; ***ábgespannt sein*** быць сто́мленым [змо́раным]

**ábsparen** *vt*: ***sich (D) etw. vom [am] Múnde ~*** (з')экано́міць, адмаўля́ючы сабе́ ў са́мым неабхо́дным

**ábspeisen** *vt* (*mit D*) адкармі́ць (*каго-н., чым-н.*); ***j-n mit léeren Wórten ~*** *разм.* адкара́скацца (*ад каго-н. з дапамогай пустых абяцанак*)

**ábspenstig: ~ *máchen*** перава́блiваць, перацяга́ваць

**ábsperren 1.** *vt* 1) замыка́ць, зачыня́ць 2) адгаро́джваць; ачапля́ць; адрэ́заць (*шлях*); ***éine Stráße ~*** ачапля́ць ву́ліцу **2. ~, sich** адасабля́цца

**Ábsperrung** *f* -, -en 1) ачапле́нне 2) агаро́джа, бар'е́р 3) адасо́бленасць, ізаля́цыя

**ábspiegeln** *vt* адлюстро́ўваць, адбіва́ць

**Ábspiegelung** *f* -, -en адбі́так, адлюстрава́нне

**ábspielen 1.** *vt* 1) ады́грываць (*у каго-н. – D*) 2) ігра́ць па но́тах 3) *спарт.* ады́грываць (*мяч*) **2. ~, sich** адбыва́цца, мець ме́сца, разго́ртвацца (*аб падзеях*); ***wo spielte es sich ab?*** дзе гэ́та было́ [адбыва́лася]

**ábsplittern 1.** *vt* адшчапля́ць **2.** *vi* (s) адшчэ́плівацца

**Ábsprache** *f* -, -n дамо́ўленасць, пагадне́нне

**ábsprechen*** *vt* 1) адмаўля́ць, аспрэ́чваць 2) (*mit j-m*) дамо́віцца (*з кім-н.*)

**ábspringen*** *vi* (s) саско́кваць; адрыва́цца (*пра гузік*), злу́звацца (*пра фарбу*)

**Ábsprössling** *m* -s, -e 1) нашча́дак, ато́жылак 2) *бат.* па́растак

**Ábsprung** *m* -(e)s, -sprünge 1) скачо́к, саско́кванне 2) *перан.* адхіле́нне, адыхо́д 3) *спарт.* штуршо́к; скачо́к; ***der ~ mit dem Fállschirm*** скачо́к з парашу́там

**ábstammen** *vi* (s) пахо́дзіць, быць ро́дам

**Ábstammung** *f* -, -en 1) пахо́джанне, род 2) *біял.* эвалю́цыя

**Ábstammungslehre** *f* - вучэ́нне пра пахо́джанне ві́даў

**Ábstand** *m* -(e)s, -stände адле́гласць, дыста́нцыя, праме́жак; ***von etw. (D) ~ néhmen**** устрымо́ўвацца (*ад чаго-н.*); ***~ hálten**** *вайск.* трыма́ць дыста́нцыю

**Ábstandsgeld** *n* -es, -er *юрыд.* адсту́пныя (*грошы*)

**ábstatten**: ***éinen Besúch ~*** нане́сці візі́т, наве́даць; ***Beŕicht über etw. (A) ~*** зрабі́ць да́клад (*пра што-н.*)

**Ábstattung** *f* -, -en: ***~ éines Besúches*** наве́дванне, візі́т

**ábstauben** *vt* змята́ць [выбіва́ць] пыл

**ábstechen* 1.** *vt* 1) *тэх.* выпуска́ць (*чыгун*) 2) зарэ́заць, закало́ць (*жывёлу*) **2.** *vi* 1) (*gegen A, von D*) вылуча́цца, адро́знівацца (*ад каго-н., чаго-н.*) 2) (s): ***vom Lánde ~*** адча́льваць (*ад берага*)

**Ábstecher** *m* -s, - 1) кароткатэрміно́вая паездка (*убок ад загадзя вызначанага маршруту*) 2) адступле́нне (*ад тэмы*), э́кскурс

**ábstecken** *vt* 1) адко́лваць, адшчапля́ць; ***das Haar ~*** распуска́ць валасы́ 2) адзнача́ць ты́чкамі [калка́мі, іго́лкамі]

**ábstehen*** *vi* (*h, s*) 1) быць на адле́гласці 2) тырча́ць (*пра вушы*) 3) адсто́йвацца (*пра вадкасць*) 4) адмаўля́цца (*ад чаго-н.*)

**ábstehend** *a*: ***~e Óhren*** адтапы́раныя ву́шы

**ábsteigen*** *vi* (s) 1) сыхо́дзіць (*уніз*), зла́зіць, спуска́цца 2) (*bei, in D*) спыня́цца (*у знаёмых, у гасцініцы*) 3) зла́зіць (*з каня, веласіпеда*); выхо́дзіць (*з аўтамашыны і г.д.*)

**ábstellen** *vt* 1) адстаўля́ць (*убок*) 2) спыня́ць, выключа́ць 3) ліквідо́ўваць

**Ábstellraum** *m* -(e)s, -räume камо́рка (*для гаспадарчага рыштунку*)

**Ábstellung** *f* -, -en 1) адмéна, скасавáнне 2) устаранéнне 3) мéсца стаянкі веласіпéдаў 4) выключэ́нне (*станка*)

**ábsterben*** *vi* (s) адмірáць; дранцвéць (*пра канечнасці*)

**Ábstieg** *m* -(e)s, -e 1) спуск, зніжэ́нне (*самалёта*) 2) спуск, схóды 3) схіл 4) заняпáд

**ábstillen** *vt* перастáць кармíць грудзьмí (*дзіця*)

**ábstimmen** **1.** *vt* 1) настрóйваць, налáджваць 2) узгадняць **2.** *vi* галасавáць

**Ábstimmung** *f* -, -en 1) галасавáнне 2) настрóйка (*музычнага інструмента*) 3) узгаднéнне

**abstinént** *a* умéраны (*пра ўжыванне спіртных напояў*)

**Abstinénz** *f* - 1) устрымáнне ад алкагóлю, цвярóзы лад жыцця́ 2) *рэл.* пост

**Abstinénzler** *m* -s, - непітýшчы (*іран.*)

**Ábstoß** *m* -es, -stöße *спарт.* свабóдны ўдáр; штуршóк (*пры скачку*)

**ábstoßen*** **1.** *vt* адпíхваць, адштурхóўваць **2.** *vi* (*s, h*) адчáльваць, адштурхóўвацца

**ábstoßend** *a* агíдны, гáдкі

**ábstottern** *vt разм.* аплáчваць у малыя рáты

**abstrahíeren** *vt* абстрагавáць, абагульняць

**abstrákt** *a* абстрáктны, абстрагавáны, адцягнены

**Abstraktión** *f* -, -en абстрáкцыя, абстрагавáнасць

**ábstreichen*** *vt* 1) змáхваць 2) выцірáць 3) збаўляць (*цэны*); памяншáць (*якую-н. частку*)

**Ábstreicher** *m* -s, - палавíк, рашóтка (*для выцірання ног*)

**ábstreifen** **1.** *vt* скíдваць, здымáць **2.** *vi* (s) (*von D*) адхіляцца, збівáцца (*з дарогі*)

**ábstreiten*** *vt* (*D*) 1) аспрэ́чваць (*што-н. у каго-н.*) 2) (*j-m*) адспрэ́чыць (*што-н. у каго-н.*)

**Ábstrich** *m* -(e)s, -e скарачэ́нне (*бюджэту*); ***éinen ~ néhmen**** *мед.* узяць мазóк

**ábstufen** *vt* 1) адцяняць (*колеры*) 2) дзялíць па разрáдах, класіфікавáць

**Ábstufung** *f* -, -en 1) ступéнь, класіфікáцыя 2) адцéнне; ***Fárben in állen ~en*** кóлеры ўсíх адцéнняў 3) *вайск.* эшалóн

**ábstumpfen** **1.** *vt* прытупляць **2.** *vi* (s) *i* **~, sich** прытупляцца

**Ábsturz** *m* -es, -stürze) 1) падзéнне; ***zum ~ bríngen**** збіць (*самалёт*) 2) абрыў, прóрва

**ábstürzen** **1.** *vt* скідáць, звяргáць **2.** *vi* (s) пáдаць, звáльвацца; ***der flíeger ist ábgestürzt*** лётчык разбíўся

**ábsuchen** *vt* абшýкваць (*мясцовасць*)

**Ábsud** *m* -(e)s, -e адвáр

**absúrd** *a* недарэ́чны, абсýрдны

**Absurdität** *f* -, -en бяссэ́нсіца, недарэ́чнасць, абсýрднасць

**Abszéss** *m* -es, -e *мед.* абсцэ́с, чыр

**Abszísse** *f* -, -n *матэм.* абсцыса

**Abt** *m* -(e)s, Äbte абáт

**ábtakeln** *vt* праганяць, звальняць (*за непрыдатнасць*)

**ábtasten** *vt* абмáцваць; намáцваць

**ábtauen** **1.** *vi* (s) адтавáць **2.** *vt* давáць адтáць, растапляць, растóпліваць

**Abtéi** *f* -, -en абáцтва, кляштáр

**Ábteil** *n* -(e)s, -e 1) купэ́ (*у вагоне*) 2) аддзялéнне, вы́гарадка; бокс

**ábteilen** *vt* 1) дзялíць; падзяляць 2) адгарóджваць

**Abtéilung I** *f* -, -en 1) аддзялéнне, аддзéл 2) атрáд, грýпа 3) раён, учáстак

**Ábteilung II** *f* -, -en раздзялéнне (*дзяленне*); выдзялéнне

**ábtippen** *vt* друкавáць, перадрукóўваць на машы́нцы

**Äbtíssin** *f* -, -nen абаты́са, настаяльніца (*каталіцкага*) кляштара

**ábtöten** *vt* забівáць, амярцвяць; заглýшваць, прытупляць (*пачуцці*)

**ábtragen*** **1.** *vt* 1) аднóсіць 2) знóсіць (*будынак*) **2. ~, sich** знóшвацца

**ábträglich** *a* шкóдны

**Ábtragung** *f* -, -en разбóрка, злом; ліквідáцыя

**Ábtransport** *m* -(e)s, -e адгрýзка, адпрáўка; эвакуáцыя, вы́васпорт

**ábtransportieren** *vt* вывóзіць; адгру-

жáць; адпраўля́ць
**ábtreiben*** **1.** *vt* 1) адганя́ць 2) вытру́чваць (*плод*) **2.** *vi* (s) *марск.* дрэйфавáць 3) зносíць, аднóсіць
**Ábtreibung** *f* -, -en *мед.* абóрт
**ábtrennen** *vt* 1) аддзяля́ць, адрывáць 2) адпóрваць
**ábtreten*** **1.** *vt* 1) стóптваць, знóшваць 2) перадавáць 3) : ***sich (D) die Füße ~*** выцірáць нóгі 4) уступáць (*месца, тэрыторыю і г.д.*) **2.** *vi* (s) пакідáць слу́жбу; сыхóдзіць са сцэ́ны
**Ábtreter** *m* -s, - хóднік, палавíк
**Ábtretung** *f* 1) усту́пка, перадáча 2) адыхóд (*са сцэны*)
**Ábtritt** *m* -(e)s, -e 1) адыхóд, пакідáнне; адстáўка 2) прыбірáльня
**ábtrocknen** **1.** *vt* высу́шваць, выцірáць **2.** *vi* (s) высыхáць; прасыхáць, сóхнуць
**ábtrotzen** *vt* (*etw. j-m*) дабівáцца, вы́рваць (*што-н.* у *каго-н.*)
**ábtrünnig** *a* вералóмны; здрáдніцкі; ***~ wérden*** здрáдзіць; адпáсці
**ábtun*** *vt* 1) здымáць (*паліто*) 2) пакóнчыць, распрáвіцца (*з чым-н.*); ***etw. mit éinem Scherz ~*** ператвары́ць што-н. у жарт; ***die Sáche still ~*** замя́ць спрáву 3) *перан.* вызваля́цца (*ад чаго-н.*), кідáць (*што-н.*); ***éine Gewóhnheit ~*** кінуць прывы́чку, адвы́кнуць (*ад чаго-н.*) 4) забівáць, рэ́заць, калóць (*жывёлу*)
**áburteilen** *vt* вы́несці прысу́д, асудзíць (*тс. перан.*)
**ábwägen*** *vt* 1) узвáжваць (*што-н.*) 2) узвáжваць, абду́мваць; ***séine Wórte ~*** узвáжваць свае́ слóвы
**ábwälzen** *vt* адкóчваць; ***die Schuld von sich ~*** не прызнáць сваёй віны́; ***die Verántwortung von sich ~*** здымáць [знімáць] з сябé адкáзнасць
**Ábwälzung** *f -,* -en 1) скідáнне, перакóчванне 2) перакладáнне, звáльванне (*тс. перан.*) 3) *тэх.* абкáтка, абкáтванне
**ábwandeln** *vt* мяня́ць, рабíць варыя́цыі
**Ábwand(e)lung** *f* -, -en 1) варыя́цыя, змянéнне 2) *грам.* спражэ́нне, скланéнне
**ábwandern** *vi* (s) перасяля́цца; перабірáцца, перавандрóўваць
**Ábwanderung** *f* -, -en перасялéнне, міграцыя; ***~ von Intellektuéllen*** «уцéчка рóзуму»
**Ábwärme** *f* - *тэх.* адпрацавáнае цяплó
**ábwarten** *vt* чакáць, перачакáць; ***wárten wir ab!*** пачакáем! ◊ ***~ und Tee trínken*!*** (*разм.*) цярпéнне!, пажывём – пабáчым!
**ábwartend** *a* чакáльны
**ábwärts** *adv* уніз, дóлу; ***den fluss ~*** уніз па цячэ́нні ракí; ***~ géhen**** пагаршáцца, апускáцца; ***es geht ábwärts mit ihm*** ён старэ́е; яго спрáвы пагаршáюцца
**Ábwasch** *m* -es 1) скарыстáны пóсуд 2) мыццё пóсуду
**ábwaschbar** *a* які́ адмывáецца; які́ змывáецца
**ábwaschen*** *vt* 1) мыць, змывáць, вы́мыць; абмывáць 2) мыць пóсуд
**Ábwasser** *n* -s, -wässer сцёкавая вадá
**ábwechseln** **1.** *vt* мяня́ць; рабíць разнастáйным **2.** *vi* мяня́цца; чаргавáцца (*адзін з адным*) **3. ~, sich** (*mit D*) мяня́цца, чаргавáцца (*з кім-н.*)
**ábwechselnd** **1.** *a* змéнлівы, змéнны; ***mit ~em Erfólg*** з перамéнным пóспехам **2.** *adv* па чарзé, то адзíн то другí; упярэ́мешку
**Ábwech(e)lung** *f* -, -en 1) перамéна; разнастáйнасць 2) забáва; ***sich nach ~ séhnen*** жадáць нóвых урáжанняў [забáваў]
**ábwechselungsreich** *a* разнастáйны
**Ábweg** *m* -(e)s, -e кру́жны шлях, паварóт (*з дарогі*); *перан.* няпрáвільны шлях; ***auf ~e geráten**** *перан.* збíцца з дарóгі [пуцí]
**ábwegig** *a* памылкóвы, няслу́шны; ***auf ~e Gedánken kómmen**** памыля́цца
**Ábwehr** *f* - 1) абарóна; адпóр 2) *спарт.* абарóна 3) контрразвéдка (*у былой нямецкай арміі*)
**Ábwehrbereitschaft** *f -,* -en *вайск.* 1) гатóўнасць да абарóны 2) дзяжу́рная часць
**ábwehren** *vt* 1) прадухіля́ць 2) адхіля́ць 3) адхіля́ць; ***ein Únglück ~*** адхіля́ць

небяспéку; адмаўля́цца (*ад чаго-н.*); ***éinen Éinwand*** ~ адхіля́ць пя́рэчанне; адбіва́ць (*напад*)

**Ábwehrmaßnahme** *f* -, -n мéра барацьбы́ (*супраць каго-н., з чым-н.*)

**ábweichen*** **I.** *vi* (s) (*von D*) **1.** адхіля́цца, ухіля́цца; адступа́ць (*ад чаго-н.*) **2.** адрóзнівацца; разыхóдзіцца; ***vom Gesétz*** ~ адступа́ць ад закóна;***vom Théma*** ~ адхіля́цца ад тэ́мы; ***in den Méinungen voneinánder*** ~ разыхóдзіцца ў думках

**ábweichen II 1.** *vt* намóчваць **2.** *vi* (s) адмака́ць

**Ábweichung** *f* -, -en 1) адхілéнне 2) разыхóджанне, адрóзненне 3) *перан.* адступлéнне (*ад чаго-н.*)

**ábweiden**: ***éine Wíese*** ~ спáсвіць, патравíць луг

**ábweisen*** *vt* 1) адхіля́ць; адмаўля́ць; адсыла́ць; ***er wúrde abgewíesen*** ямý далí адкáз, ягó не прынялí 2) адбіва́ць (*наступ*)

**Ábweisung** *f* -, -en 1) адкáз, адмаўлéнне 2) *вайск.* адбіццё (*наступлення*)

**Ábwendbarkeit** *f* - магчы́масць прадухілéння

**ábwenden*** **1.** *vt* 1) адварóчваць 2) прадухіля́ць, адвóдзіць 3) перавáблiваць, адбіва́ць; ***j-n von séiner Árbeit*** ~ адця́гваць каго́-н. ад рабóты **2.** **~, sich** адварóчвацца, пакіда́ць; ***sich von j-m*** ~ адвярнýцца ад каго́-н.

**ábwendig** *a* нявéрны, здрáдлівы; ***j-n ~ máchen*** адбіва́ць каго́-н., адця́гваць

**ábwerfen*** *vt* 1) скіда́ць, скíдваць 2) прывóдзіць, дава́ць прыплóд

**ábwerten** *vt* 1) *эк.* правóдзіць дэвальвáцыю 2) *перан.* прыніжа́ць вáртасць

**Ábwertung** *f* -, -en *эк.* дэвальвáцыя, панiжэ́нне кýрсу

**ábwesend** *a* 1) адсýтны; ~ ***sein*** адсýтнічаць 2) *перан.* рассéяны, няўвáжлівы

**Ábwesende** *sub m, f* -n, -n адсýтны, -ая

**Ábwesenheit** *f* - 1) адсýтнасць; ***in*** ~ пры адсýтнасці 2) рассéянасць, няўвáжлівасць

**ábwickeln 1.** *vt* 1) размóтваць, раскрýчваць 2) закáнчваць, ліквідава́ць; ***das Geschäft*** ~ канча́ць спрáву **2.** **~, sich** адбыва́цца, развіва́цца, разгóртвацца (*пра падзеі*)

**Ábwicklung** *f* -, -en 1) размóтванне 2) ход, развіццё (*падзей*)

**ábwiegen*** *vt* 1) узвáжваць; адвáжваць; вáжыць 2) *перан.* узвáжваць, абдýмваць

**ábwiegeln** *vt* уціхамíрыць

**ábwimmeln** *vt разм.* адкарáсквацца (*ад каго-н.*)

**Ábwind** *m* -(e)s, -e *метэар.* сыхóдны вéцер

**ábwirtschaften** *vi* (*h*) дайсцí да галéчы, прагарэ́ць

**ábwischen** *vt* сцірáць, выцірáць, працірáць

**ábwracken** *vt* здава́ць на злом (*карабель*)

**Ábwurf** *m* -(e)s, -würfe 1) скідáнне, скíдванне, кідáнне 2) *тэх.* адкíды 3) *мед.* вы́кідыш 4) даходы, прыбы́так, вы́ручка 5) *спарт.* выбівáнне, кідóк ад варóт, выкід (*кап'я, дыска, мяча*) 6) *ав.* вымпел

**ábwürgen 1.** *vt* (за)душы́ць; ***die Produktión*** ~ скарачáць вытвóрчасць **2.** **~, sich** давíцца

**ábzahlen** *vt* выплáчваць (*у растэрміноўку, на раты*), ліквідава́ць доўг

**ábzählen** *vt* лічы́ць, адлíчваць; вылічáць; ***~!*** *вайск.* па парáдку разлічы́ся!

**Ábzählreim** *m* -(e)s, -e гульня́-лічы́лка

**Ábzahlung** *f* -, -en плáта (*у растэрміноўку*); ***auf*** ~ у растэрмінóўку

**Ábzählung** *f* -, -en лік, адлíчванне; падлíк, падлічэ́нне

**ábzapfen** *vt* сцэ́джваць, адцэ́джваць; ***j-n*** ~ *разм.* вымантáчваць грóшы ў каго́-н.

**ábzäunen** *vt* абгарóджваць, адгарóджваць (*плотам*)

**ábzehren 1.** *vt* мардава́ць; знясíльваць **2.** *vi* (s) сóхнуць, рабíцца квóлым **3.** **~, sich** мýчыцца, пакýтаваць

**Ábzehrung** *f* -, -en 1) змóрванне, змардавáнне, знясíленне 2) сухóты

**Ábzeichen** *n* -s, - 1) знак, значóк 2) знак адрóзнення

**ábzeichnen 1.** *vt* зрысава́ць; счэ́рчваць **2.** **~, sich** вызнача́цца, вылуча́цца (*сярод чаго-н.*)

**Ábzeichnung** *f* -, -en кóпія; рысýнак

**Ábziehbild** *n* -(e)s, -er малю́нак-перавóдка

**ábziehen*** **1.** *vt* 1) сцягваць, здымáць (*вопратку, абутак*) 2) здзірáць (*скуру*) 3) вылíчваць; ***éine Súmme ~*** вы́лічыць сýму 4) сцэ́джваць; злівáць, разлівáць у бутэ́лькі 5) *паліграф.* адціскáць 6) адцягваць; ***die Áufmerksamkeit ~*** адцягваць увáгу 6) адвéсці; ***die Trúppen ~*** адвéсці вóйскі **2.** *vi* (s) адыхóдзіць, ісцí; ад'язджáць

**Ábziehzahl** *f* -, -en *матэм.* аднімáемае

**ábzielen** *vi* (*auf A*) цэ́ліць (*на што-н.*); дамагáцца (*чаго-н.*), імкнýцца (*да чаго-н.*)

**Ábzug** *m* -(e)s, -züge 1) ад'éзд; адступлéнне (*войска*) 2) сцёк 3) скíдка, вы́лік 4) спуск (*курка*) 5) *паліграф.* адбíтак 6) душнíк

**Ábzughahn** *m* -(e)s, - hähne 1) *тэх.* выпускны́ кран 2) спускавы́ курóк (*у вінтоўцы і г.д.*)

**ábzüglich** *adv* не лíчачы, адкідáючы; за вы́лікам

**ábzupfen** *vt* адшчы́пваць; выдзірáць

**Ábzweig** *m* -(e)s, -e адгалінавáнне (*дарогі*)

**ábzweigen** **1.** *vt* 1) разгалінóўваць; адвóдзіць 2) выдзялáць, выкрóйваць (*сродкі*) **2. ~, sich** разгалінóўвацца, адгалінóўвацца

**Ábzweigung** *f* -, -en 1) адгалінавáнне (*дарогі*) 2) філíял (*фірмы*) 3) выдаткóўванне (*сродкаў*) 4) чыгýначная вéтка

**ábzwingen*** *vt* (*D*) адбірáць сíлай (*што-н. у каго-н.*); дамагáцца сíлай (*чаго-н.*)

**ach!** *int* ах!

**Ach** *n* -s, -s: ***mit ~ und Krach, mit ~ und Weh*** ледзь, насíлу, з грахóм папалáм; ***das Oh und ~*** óхі і ўзды́хі

**Achát** *m* -(e)s, -e *мін.* агáт

**Achíllesferse** *f* - слабóе мéсца

**Áchse** *f* -, -n вось; вал; шпень; стры́жань; ***auf der ~ sein*** *разм.* быць [знахóдзіцца] у дарóзе

**Áchsel** *f* -, -n плячó; ***die ~ n [mit den ~ n] zúcken*** пацiскáць плячáмі; ***j-n über die ~ ánsehen**** глядзéць на когó-н. звысóку; ***auf die léichte ~ néhmen**** не стáвіцца сур'ёзна

**Áchsel|grube**, **~höhle** *f* -, -n *анат.* падпáха

**Áchselklappe** *f* -, -n пагóн (*суконны, салдацкі*)

**Áchselstück** *n* -(e)s, -e пагóн (*афіцэрскі*)

**Áchselzucken** *n* -s, - пацiскáнне плячáмі

**Áchs(en)bruch** *m* -(e)s, -brüche палóм вóсі

**acht** *num* вóсем; ***in ~ Tágen*** праз ты́дзень; ***wir [únser] sind ~*** нас вóсем чалавéк

**Acht I** *f* -, -en (лíчба) вóсем; васьмёрка

**Acht II** *f* - увáга; асцярóжнасць; ***sich in ~ néhmen**** сцерагчы́ся; ***áußer ~ lássen**** не браць пад увáгу; ***~ gében**** *vi* (*auf A*) звяртáць увáгу, зважáць (*на каго-н., на што-н.*), наглядáць, назірáць (*за кім-н.*); ***gib ~!*** асцярóжна!, памáлу!, ***~ háben**** *vi* (*auf A*) звяртáць увáгу (*на каго-н., на што-н.*); наглядáць (*за кім-н.*)

**Acht III** *f* - апáла, выгнáнне; ***in ~ und Bann tun**** аб'яўляць пá-за закóнам

**áchtbar** *a* паважáны, (высóка)шанóўны

**áchteinhálb** *num* вóсем з палóвай

**Áchtel** *n* -s, - вóсьмая (*частка*), васьмýшка

**áchten** **1.** *vt* 1) паважáць, шанавáць 2) лічы́ць за… **2.** *vi* (*auf A*) звяртáць увáгу (*на каго-н., на што-н.*); зважáць (*на каго-н., на што-н.*); пільнавáць, даглядáць (*каго-н.*); ***auf etw. groß ~*** звяртáць асаблíвую ўвáгу на што-н.

**ächten** *vt* 1) аб'яўляць пá-за закóнам, асудзíць на выгнáнне 2) байкатавáць, забараня́ць

**Áchter** *m* -s, - *спарт.* лóдка-васьмёрка

**Áchterbahn** *f* -, -en рýскія гóркі (*атракцыён*)

**Áchterdeck** *n* -(e)s, -e *марск.* кармавáя пáлуба

**áchtern** *adv марск.* ззáду, за кармóю

**áchtfach** **1.** *a* васьміразóвы **2.** *adv* у вóсем разóў

**Áchtgroschenjunge** *m* -n, -n *пагардл.* шпік, шпег

**achthúndert** *num* восемсóт

**áchtjährig** *a* васьмігадóвы

**áchtlos** *a* няўвáжлівы, неасцярóжны

**Áchtlosigkeit** *f* - няўвáжлівасць, неасцярóжнасць; нядбáласць

**áchtmal** *adv* во́сем разо́ў
**áchtmonatig** *a* васьміме́сячны (*які доўжыцца восем месяцаў*)
**áchtmonatlig** *a* васьміме́сячны (*які паўтараецца кожныя восем месяцаў*)
**áchtsam** *a* ува́жлівы, асцяро́жны, пільны
**Áchtsamkeit** *f* - ува́жлівасць, пільнасць
**áchtstellig** *a матэм.* васьмізна́чны
**Áchtstundentag** *m* -(e)s, -e васьмігадзінны рабо́чы дзень
**Áchtung** *f* - ува́га; паша́на; ~ ***genießen**** це́шыцца ўва́гай; ~***!*** ува́га!, сцеражы́ся!; ***vor (D) ~ háben*** паважа́ць (*каго-н., што-н.*)
**Ächtung** *f* - выгна́нне, байко́т, забаро́на; ~ ***der Atómwaffen*** забаро́на а́тамнай збро́і
**áchtunggebietend** *a* аўтарытэ́тны
**Áchtungsbezeigung** *f* -, -en выка́званне пава́гі
**áchtungsvoll** **1.** *adv* з паша́най, з пава́гай (*у лістах, пісьмах*) **2.** *a* пачці́вы
**áchtzehn** *num* васемна́ццаць
**áchtzig** *num* во́семдзесят
**Áchtziger** *m* -s, - васьмідзесяцігадо́вы чалаве́к
**achtzigjährig** *a* васьмідзесяцігадо́вы
**Áchtzylinder** *m* -s, - *разм.* васьміцыліндро́вы мато́р
**ächzen** *vi* во́хкаць, во́йкаць, крахта́ць
**Ácker** *m* -s, Äcker по́ле, ралля́ ◊ ***das ist nicht auf éigenem ~ gewáchsen*** гэ́та зро́блена чужы́мі рука́мі
**Áckerbau** *m* -s земляро́бства; ~ ***tréiben**** займа́цца земляро́бствам
**Áckerbauer** *m* -s, - *i* -n, -n земляро́б, хлебаро́б
**Áckerbaukunde** *f* - аграно́мія
**Áckerbestellung** *f* -, -en апрацо́ўка по́ля
**Áckerboden** *m* -s, - böden по́ле, во́рная зямля́
**Áckererde** *f* -, -n во́рная зямля́, во́рыва
**Ácker|feld** *n* -(e)s, -er, **~land** *n* -(e)s -länder(eien) по́ле, ралля́, во́рыва
**áckern** **1.** *vt* ара́ць **2.** *vi* надрыва́цца (*з працы*), рваць сабе́ кі́шкі [пу́за]
**Áction** ['ɛkʃən] *f* -, -s во́стры сюжэ́т, напру́жанае дзе́янне
**a cónto** [-k-] *камерц. у* лік, ава́нсам
**ad absúrdum:** ~ ***führen*** 1) даво́дзіць да абсу́рду 2) *матэм.* дака́зваць ад процілеглага
**ad ácta:** ***etw. ~ légen*** 1) далучы́ць да спра́вы 2) спыні́ць разгля́д яко́й-н. спра́вы
**adágio** [a'da:dʒo] *муз.* ада́жыо
**Ádamsapfel** *m* -s, -äpfel кады́к
**adaptíeren** *vt* прыстасо́ўваць, дастасо́ўваць, адаптава́ць
**Adap(ta)tión** *f* -, -en дастасава́нне
**adäquát** *a* адпаве́дны, адэква́тны
**addíeren** *vt матэм.* дадава́ць, рабі́ць склада́нне
**Additión** *f* -, -en *матэм.*склада́нне
**adé!** *int* быва́й(це)!; ~ ***ságen*** разві́твацца
**Ádel** *m* -s двара́нства, шля́хта
**ád(e)lig** *a* 1) двара́нскі; шляхе́цкі 2) высакаро́дны, шляхе́тны
**Áder** *f* -, -n 1) крывяно́сны сасу́д; ве́на, артэ́рыя; жы́ла 2) *горн.* жы́ла
**ád(e)rig, äd(e)rig** *a* жы́лісты
**adiéu!** [a'di̯ø:] быва́й(це)!
**Ádjektiv** *n* -s, -e *грам.* прыме́тнік
**ádjektivisch** *грам.* ад'екты́ўны, у значэ́нні прыме́тніка
**Adjutánt** *m* -en, -en ад'юта́нт
**Ádler** *m* -s, - аро́л
**Ádlerhorst** *m* -(e)s, -e арлі́нае гняздо́
**ádlig** *a* 1) шляхе́цкі, двара́нскі 2) шляхе́тны
**Ádlige** *m, f* -n, -n дваранін, двара́нка; шля́хціч, шляхця́нка
**Administratión** *f* -, -en адміністра́цыя, (у)праўле́нне, упра́ва
**administratív** *a* адміністрацы́йны
**Administrátor** *m* -s, -tóren адміністра́тар
**administríeren** *vt* кірава́ць, адміністрава́ць
**Admirál** *m* -s, -e *марск.* адміра́л
**adoptíeren** *vt* усынаўля́ць
**Adoptión** *f* -, -en усынаўле́нне
**Adoptívkind** *n* -es, -er прыёмнае дзіця́
**Adressánt** *m* -en, -en адпра́ўшчык (*пісьма*)
**Adressát** *m* -en, -en адраса́т, атрыма́льнік
**Adrésse** *f* -, -n а́драс; ***an séine ~*** па яго́ а́драсе; ***sich an ríchtige ~ wénden****

звярну́цца па а́драсе
**Adréssbuch** *n* -(e)s, -bücher а́драсная кні́жка
**adressíeren** *vt* (за)адрасо́ўваць (*тс. перан.*)
**adrétt** *a* 1) згра́бны; акура́тны 2) спры́тны, паваро́тлівы
**ádrig, ädrig** *гл.* áderig, äderig
**ádsorbíeren** *vt хім.* адсарбі́раваць
**Advént** [-v-] *m* -(e)s *рэл.* Адвэ́нт (*час перад Калядамі*)
**Advérb** [-v-] *n* -s, -bi¦en *грам.* прысло́ўе
**adverbiál** *a грам.* які́ ўжыва́ецца ў я́касці прысло́ўя
**Adverbiále** [-v-] *n* -s, -li¦en *грам.* акалі́чнасць
**Adverbiálsatz** *m* -es, -sätze *грам.* акалі́чнасны дада́ны сказ
**adversatív** [-v-] *a грам.* супраціўны
**Advokát** [-v-] *m* -en, -en адвака́т; абаро́нца
**Aeróbic** [ae'ro:bik] *n* -s *спарт.* аэро́біка
**Aerodynámik** *f* - аэрадына́міка
**aerodynámisch** *a* аэрадынамі́чны
**Aeronáut** *m* -en, -en аэрана́ўт, паветрапла́вальнік
**Aeronáutik** *f* - аэрана́ўтыка, паветрапла́ванне
**Aerosól** *n* -s, -e *тэх.* аэразо́ль, распы́л
**Affäre** *f* -, -n 1) прыго́да, афёра; сканда́л; ***sich aus der ~ zíehen**** выпу́твацца з бяды́; 2) *юрыд.* спра́ва
**Áffe** *m* -n, -n 1) ма́лпа 2) *вайск.* ра́нец ◊ ***éinen ~n (sítzen) háben, sich (D) éinen ~n káufen [ánlegen]*** *разм.* быць падпі́ўшы, пад ча́ркаю; ***an j-m éinen ~n gefréssen háben*** тра́ціць ро́зум, вар'яце́ць ад каго́-н.
**Affékt** *m* -(e)s, -e (мо́цнае) хвалява́нне, афе́кт; ***in ~ geráten**** выхо́дзіць з сябе́
**affektíert** *a* афектава́ны; мане́рны; ненатура́льны
**Affektíertheit** *f* -, -en крыўля́нне, мане́рнасць, ненатура́льнасць
**Affektión** *f* -, -en 1) узбу́джанасць, узру́шанасць 2) прыхі́льнасць
**Affektivität** [-v-] *f* - узбу́длівасць, раздражня́льнасць
**áffen 1.** *vi разм. пагардл.* глядзе́ць, пазіра́ць **2. ~, sich** *разм.* пазіра́ць мане́рна [напы́шліва]
**äffen** *vt уст.* дражні́ць, передра́жніваць
**áffenartig** *a* малпападо́бны
**Áffenbrotbaum** *m* -(e)s, -bäume *бат.* баабаб
**Áffentheater** *n* -s, - *пагардл.* балага́н
**Áffenwerk** *n* -(e)s, -e *пагардл.* сляпо́е падража́нне
**Affiche** [a'fi:ʃə] *f* -, -n афі́ша, аб'я́ва, плака́т
**äffig** *a фам.* пыхлі́вы, фанабэ́рысты
**Äffin** *f* -, -nen ма́лпа (*самка*)
**Affinität** *f* -, -en (су)ро́днасць (*тс. хім.*)
**äffisch** *a* малпападо́бны
**Áffix** *n* -es, -e *грам.* а́фікс
**Affront** [a'frɔ̃:] *m* -s, -s *высок.* знява́га, здзек
**Afgháne** *m* -n, -n афга́нец
**afghánisch** *a* афга́нскі
**Afrikáner** *m* -s, - афрыка́нец
**afrikánisch** *a* афрыка́нскі
**Áfter** *m* -s, - *анат.* за́дні прахо́д
**Áfterrede** *f* -, -n *пагардл.* паклёп, нагаво́р
**Ágave** [-v-] *f* -, -n ага́ва (*субтрапічная расліна*)
**Ágens** *n* -, Agénzi¦en *i* Agéntia 1) ру́хаючая сі́ла 2) *філас.* акты́ўны пача́так 3) *хім.* аге́нт, дзе́йнічаючы фа́ктар
**Agént** *m* -en, -en 1) шпіён, аге́нт 2) аге́нт, упаўнава́жаны (*фірмы і г.д.*) 3) *гл.* Ágens
**Agentúr** *f* -, -en 1) агенту́ра 2) аге́нцтва 3) камерцы́йнае прадстаўні́цтва
**Aggregát** *n* -(e)s, -e 1) агрэга́т 2) *матэм.* мнагачле́н
**Aggregátzustand** *m* -(e)s, -stände *хім.*, *фіз.* агрэга́тны стан
**Aggressión** *f* -, -en агрэ́сія
**aggressív** 1) *a* агрэсі́ўны 2) *adv* агрэсі́ўна
**Aggressivität** [-v-] *f* -, -en агрэсі́ўнасць
**Aggréssor** *m* -s, -ssóren агрэ́сар
**Ägíde** *f* - *перан.* эгі́да; ***únter der ~ von j-m*** пад эгі́дай каго́-н.
**agíeren** *vi* 1) дзе́йнічаць; ***mit den Händen [Ármen] ~*** жэстыкуля́ваць рука́мі 2) *тэатр.* выко́нваць ро́лю
**agíl** *a* жва́вы
**Agiotáge** [aʒio'tɑ:ʒə ] *f* - *бірж.* ажыята́ж
**Agitatión** *f* -, -en 1) агіта́цыя; падбухто́рванне 2) неспако́й

**Agitátor** *m* -s, -tóren агітáтар
**agitatórisch** *a* агітацы́йны, агітáтарскі
**agitíeren** *vi* агітавáць
**agrár** *a* агрáрны, зямéльны; землярóбскі
**Agrárflugzeug** *n* -(e)s, -e самалёт сельскагаспадáрчай авіяцыі
**Agrement** [agrẹmã:] *m* -s, -s *дып.* агрэмáн, пагаднéнне
**Agrikultúr** *f* -, -en землярóбства, агракультýра
**agrochémisch** *a* аграхімíчны
**Agronóm** *m* -en, -en агранóм
**Agronomíe** *f* - агранóмія
**agronómisch** *a* агранамíчны
**Ägýpter** *m* -s, - егіпця́нін
**ägýptisch** *a* егíпецкі
**ah!** *int* ах! аёй!
**äh!** *int* эх!
**ahá!** *int* ага!
**Áhle** *f* -, -n шы́ла
**Ahn** *m* -(e)s *i* -en, -en прóдак, родапачынáльнік
**áhnden** *vt высок.* карáць; пóмсціць
**Áhne I** *m* -n, -n *гл.* Ahn
**Áhne II** *f* -, -n (пра)бáбка, прамáці; родапачынáльніца
**ähneln** *vi* (*D*) быць падóбным (*на каго-н., да каго-н.*)
**áhnen** *vt* 1) падазравáць; здагáдвацца 2) прадчувáць; ***mir ahnt etw.*** я нéшта прадчувáю
**Áhnenreihe** *f* -, -n род; пакалéнні прóдкаў
**ähnlich** *a* (*D*) падóбны (*на каго-н.*); аналагíчны; ***und Ähnliches*** і да тагó падóбнае; ***sie séhen sich ~ wie ein Ei dem ánderen*** яны́ падóбны адзíн да аднаго́ як дзве крóплі вады́
**Ähnlichkeit** *f* -, -en падабéнства, падóбнасць
**Áhnung** *f* -, -en прадчувáнне; уяўлéнне (*пра што-н.*); ***von etw. kéine ~ háben*** не мець уяўлéння пра што-н.
**áhnungslos** *adv* нічóга не падазравáючы, наíўна
**Áhnungslosigkeit** *f* - пóўнае нявéданне
**áhnungsvoll** *a* пóўны прадчувáнняў
**ahói!** *int* гэй! (*акліканне людзей на караблі, лодцы і г.п.*); ***Boot ~!*** эй, на шлю́пцы!
**Áhorn** *m* -(e)s, -e *бат.* клён
**Ähre** *f* -, -n кóлас, каласóк; ***in die ~n schíeßen**** каласíцца
**Ährenbund** *n* -es, -e сноп
**Ährenfeld** *n* -(e)s, -er пóле, якóе каласýе
**Aids** [AIDS] *n* (*часцей без артыкля*) *мед.* СНІД (*сіндром набытага імунадэфіцыту*)
**Airbus** ['ɛ:r-] *m* -ses, -se аэрóбус
**Akademíe** *f* -, -mí¦en акадэ́мія
**Akademíemitglied** *n* -(e)s, -er акадэ́мік, член акадэ́міі
**Akadémiker** *m* -s, - 1) чалавéк з вышэ́йшай (*універсітэцкай*) адукáцыяй 2) студэ́нт вышэ́йшай навучáльнай устанóвы
**akadémisch** *a* акадэмíчны; ***~e Bíldung*** вышэ́йшая адукáцыя; ***éine ~e Würde erlágen*** атрымáць вучóнае звáнне
**Akázie** [-tsi¦ə] *f* -, -n акáцыя
**akklimatisíeren 1.** *vt* акліматызавáць **2. ~, sich** прыстасóўвацца да нóвых умоў, акліматызавáцца
**Akkórd** *m* -(e)s, -e 1) акóрд, сугýчнасць; ***éinen ~ schlágen**** узя́ць акóрд 2) пагаднéнне, падрáд; ***im ~ stéhen**** працавáць здзéльна
**Akkórdarbeit** *f* -, -en здзéльная прáца
**Akkórdeon** *n* -s, -s акардэóн
**Akkórdlohn** *m* -(e)s, -löhne здзéльная зарабóтная плáта
**akkreditíeren** *vt* упаўнавáжваць; *дып.* акрэдытавáць
**Akkreditív** *n* -(e)s, -e 1) *фін.* акрэдыты́ў; **únbestätigtes ~** непацвéрджаны акрэдыты́ў; ***übertrágbares ~*** пераваднý акрэдыты́ў; ***Resérveakkreditiv*** [-v-] *n* рэзервóвы акрэдыты́ў 2) *дып.* давéрная грáмата
**Ákku** *m* -s, -s *разм.* акумуля́тар
**Akkumulatión** *f* -, -en акумуля́цыя, накаплéнне; ***~ des Kapitáls*** накаплéнне капітáла
**Akkumulatiónsrate** *f* -, -n *фін.* нóрма накаплéння
**Akkumulátor** *m* -s, -tóren акумуля́тар
**akkurát** *a* акурáтны, даклáдны

**Akkuratésse** *f* - акура́тнасць, дба́йнасць
**Ákkusativ** *m* -s, -e *грам.* вінава́льны склон
**Akrobát** *m* -en, -en акраба́т, гімна́ст
**Akrobátik** *f* - акраба́тыка
**akrobátisch** *a* акрабаты́чны
**Akt** *m* -(e)s, -e 1) акт, дзе́янне 2) дзе́я (*у п'есе*) 3) урачы́сты акт; ***ein féierlicher*** ~ урачы́стая цырымо́нія 4) *маст.* аго́леная фігу́ра
**Ákte** *f* -, -n 1) дзяржа́ўны акт 2) *pl* афіцы́йныя папе́ры, дакуме́нты; ***zu den ~n néhmen**** запратакалі́раваць; ***zu den ~n légen**** падшы́ць да спра́вы; пераДа́ць у архі́ў
**Aktéi** *f* -, -en 1) спра́вы, па́пка са спра́вамі 2) архі́ў
**Áktendeckel** *m* -s, - па́пка (*для дзелавых папераў*)
**áktenkundig** *a* пацве́рджаны дакуме́нтамі
**Áktenmappe** *f* -, -n партфе́ль, су́мка
**áktenmäßig** *a* дакумента́льны
**Áktenordner** *m* -s, - па́пка (*скорасшыва́льнік*)
**Áktenstoß** *m* -es, -stöße стос дакуме́нтаў [дзелавы́х папе́р]
**Áktenstück** *m* -s, -e дакуме́нт, афіцы́йная папе́ра
**Áktentasche** *f* -, -n партфе́ль
**Akteur** [ak'tø:r] *m* -s, -e 1) акто́р 2) дзе́йная асо́ба (*у палітычнай акцыі*)
**Áktie** [-tsi̯¦ə] *f* -, -n а́кцыя; пай
**Ákti¦enanteile** *pl фін.* вы́пушчаныя а́кцыі
**Ákti¦enbank** *f* -, -en *фін.* акцыяне́рны банк
**Áktiengesellschaft** [-tsi̯¦ən-] *f* -, -en акцыяне́рнае тавары́ства
**Ákti¦eninhaber** *m* -s, - *гл.* Aktionär
**Ákti¦enkontrollpaket** *n* -(e)s, -e *фін.* кантро́льны паке́т а́кцый
**Aktión** *f* -, -en 1) дзе́янне 2) адкры́тае выступле́нне, кампа́нія, а́кцыя; ***in ~ tréten**** пача́ць дзе́йнічаць
**Aktionär** *m* -s, -e акцыяне́р, улада́льнік а́кцый
**Aktiónsausschuss** *m* -es, -schüsse камітэ́т дзе́яння
**Aktiónsbereitschaft** *f* - гато́ўнасць да дзе́янняў
**Aktiónseinheit** *f* - адзі́нства дзе́яння
**Aktións|komitee** *n* -s, -s камітэ́т дзе́яння
**Aktiónsplan** *m* -(e)s, -pläne план дзе́яння
**Aktiónsradius** *m* - ра́дыус дзе́яння
**Áktiv I** *n* -s *грам.* незале́жны стан
**Aktív II** *n* -s, -e *i* -s акты́ў, гру́па актыві́стаў
**aktív** *a* акты́ўны, дзе́йны
**Aktíva** [-v-] *pl фін.* акты́ў, ная́ўнасць, дэ́бет; ~ ***und Passíva*** акты́ў і пасі́ў
**Aktívbestand** *m* -(e)s *фін.* акты́ў, акты́вы
**aktivíeren** [-vi-] *vt* актывава́ць, узмацня́ць
**Aktivíst** [-vi-] *m* -en, -en 1) актыві́ст; перадаві́к вытво́рчасці 2) прыхі́льнік акты́ўных дзе́янняў
**Aktivität** [-vi-] *f* - акты́ўнасць
**aktualisíeren** *vt* рабі́ць актуа́льным, здзяйсня́ць
**Aktualität** *f* -, -en актуа́льнасць; своечасо́васць, надзённасць
**aktuéll** *a* актуа́льны; своечасо́вы
**akupunktíeren** *vt* лячы́ць з дапамо́гай уко́лвання іго́лкамі
**Akupunktúr** *f* -, -en *мед.* акупункту́ра
**Akústik** *f* - аку́стыка (*у розных значэннях*)
**akústisch** *a* акусты́чны, гукавы́
**akút** *a* 1) *мед.* во́стры 2) *перан.* во́стры, сур'ёзны; неадкла́дны; ***éine ~e Fráge*** актуа́льнае пыта́нне
**Akút** *m* -(e)s, -e *лінгв.* знак на́ціску
**Akzeleratión** *f* -, -en паскарэ́нне, паско́ранасць; акселера́цыя
**Akzént** *m* -es, -e 1) акцэ́нт, на́ціск; ***~e sétzen*** ста́віць зна́кі на́ціску; ~ ***auf etw. (A) légen*** рабі́ць акцэ́нт на чым-н. 2) акцэ́нт, вымаўле́нне
**akzentuíeren** *vt* 1) рабі́ць на́ціск (*на што-н.*), падкрэ́сліваць 2) ста́віць знак на́ціску
**akzeptábel** *a* прыма́льны
**akzeptíeren** *vt* прызнава́ць, прыма́ць (*прапанову і г.д.*)
**Akzíse** *f* -, -n акцы́з
**à la** на мане́р
**Alabáster** *m* -s, - аля́ба́стра
**Alárm** *m* -(e)s, -e трыво́га; ***blínder*** ~ памылко́вая трыво́га; ~ ***zu Énde!*** адбой!;

~ ***blásen*** * ***[schlágen*]*** трубíць [біць] трывóгу

**Alármbereitschaft** *f* -, -en пóўная баявáя гатóўнасць; гатóўнасць па трывóзе

**alarmíeren** *vt* 1) непакóіць, падымáць на нóгі 2) падымáць па трывóзе

**alarmíerend** *a* трывóжны; ***éine ~e Ún-wissenheit*** страшэ́ннае нéвуцтва

**Alármsignal** *n* -s, -e сігнáл трывóгі

**Aláun** *m* -s, -e *хім.* галы́н

**Alb** *m* -(e)s, -e 1) кашмáр 2) *міф.* дамавíк

**Álbdruck** [Álpdruck] *m* -(e)s, -drücke, **Álbdrücken** *n* -s удýшша, кашмáр

**Albánier** [-i¦ər] *m* -s, - албáнец

**albánisch** *a* албáнскі

**álbern I** *a* 1) дурны́, недарэ́чны; бязглýзды; ***~es Zeug*** лухтá, глýпства 2) праставáты

**álbern II** *vi* дуры́цца; дурэ́ць

**Álbernheit** *f* -, -en 1) дурнóта; бязглýздзіца, абы-штó 2) дýрыкі

**Albíno** *m* -s, -s *біял.* альбінóс

**Albúm** *n* -s, -ben *або* -s альбóм

**Alchemíe** *f* - алхíмія

**Alchemíst** *m* -en, -en алхíмік

**alchemístisch** *a* алхімíчны

**Ale** [e:l] *n* -s эль (*гатунак англійскага піва*)

**Álge** *f* -, -n вóдарасць

**Álgebra** *f* -, -bren *матэм.* áлгебра

**algebráisch** [-a¦i-] *a* алгебраíчны

**Algérien** [-i¦ən-] *n* -s Алжы́р (*дзяржава*)

**Algérier** [-i¦ər] *m* -s, - алжы́рац

**Algíerer** *m* -s, - жыхáр гóрада Алжы́ра

**Algoríthmus** *m* -, -men *матэм.* алгары́тм

**álias** 1) ён жа (*як злучнік паміж імёнамі адной асобы*) 2) таксáма; акрамя́ тагó

**Álibi** *n* -s, -s *юрыд.* áлібі; ***sein ~ nách-weisen**** даказáць сваё áлібі

**Aliménte** *pl* алімéнты

**Alkáli** *n* -s, -áli¦en *хім.* шчóлач; ***káusti-sches*** ~ éдкая шчóлач

**alkálisch** *a хім.* шчóлачны

**Álkohol** *m* -s, -e алкагóль; спірт; ***únter ~ stéhen**** у стáне ап’янéння

**álkoholfrei** *a* неалкагóльны, безалкагóльны

**álkoholhaltig, álkoholisch** *a* спіртны́, алкагóльны, спіртавы́

**Alkoholísmus** *m* - п’я́нства, алкагалíзм

**all** *a* 1) увéсь; ***vor ~em*** перш за ўсё; ***~es Gúte!*** усягó дóбрага!; ***in ~er Frühe*** спазарáнку; ***auf ~e Fälle*** на ўсякі вы́падак; ***das Geld ist ~e*** грóшы кóнчыліся 2) кóжны; ~ ***und jéder*** пéршы – лéпшы; ~ ***e zwei Minúten*** кóжныя дзве хвілíны

**All** *n* -s сусвéт; кóсмас

**allábendlich, allábends** *adv* штовéчар

**Állah** *m* -s алáх

**állbekannt** *a* агульнавядóмы, усíм вядóмы

**állbeliebt** *a* папуля́рны, якóга ўсе лю́бяць

**álle** усé; ~ ***sein*** *разм.* (с)кóнчыцца, вы́йсці; *гл.* all 1)

**áll(e)dem**: ***bei*** ~ усё-такí, усё ж такí; пры ўсíм тым; ***trotz*** ~ насýперак усямý

**Alléе** *f* -, -lé¦en 1) прысáды 2) алéя

**allegórisch** *a* іншасказáльны, алегары́чны

**allégro** *adv муз.* алéгра, у хýткім тэ́мпе

**alléin 1.** *a* адзíн, самóтны; ***er steht*** ~ ён адзінóкі; ***das genügt ~ nicht*** аднагó гэ́тага не хапáе; ***für sich*** ~ сам па сабé **2.** *adv* тóлькі; ***éinzig und*** ~ як тóлькі, выклю́чна **3.** *cj* алé, аднáк; ***ich wártete auf ihn, ~ er kam nicht*** я ягó чакаў, алé ён не прыйшóў

**Alléinberechtigung** *f* -, -en выклю́чнае прáва

**Alléinherrschaft** *f* -, -en адзінаўлáдства; самаўлáдства

**alléinig** *a* адзíны (*пра магчымасць*); манапóльны; выклю́чны

**Alléinsein** *n* -s адзінóцтва

**allein stéhend** *a* адзíн, самóтны; халасты́; незамýжняя

**állemal** *adv* заўсёды, кóжны раз; ***ein für*** ~ раз і назаўсёды

**állenfálls** *adv* ва ўсякім рáзе [вы́падку]; бадáй; калí тóлькі

**állenthálben** *adv* усю́ды, паўсю́дна; ва ўсíх аднóсінах

**állerart** *a* усяля́кі, разнастáйны

**állerbéste 1.** *a* найлéпшы; ***am ~en*** лепш за ўсё; ***das ist das Állerbéste*** лепш за ўсё **2.** *adv*: ***aufs Állerbéste*** найлéпшым чы́нам

**állerdíngs** *adv* вядо́ма, пра́ўда, адна́к
**állerérst** *a* са́мы пе́ршы, найпе́ршы; першапачатко́вы
**Allergíe** *f* - *мед.* алергі́я
**allérgisch** *a мед.* алергі́чны
**állerhánd** *a* 1) ўся́кі, усяля́кі, ро́зны; ~ ***Zeug*** ўся́кая ўся́чына 2) няма́ла; сёе-тое; ***das ist (ja) ~!*** во́сь гэ́та здо́рава!
**Állerheiligen** *n* - *рэл.* дзе́нь Усі́х Святы́х (*каталіцкае свята 1 лістапада*)
**állerléi** *a* усяля́кі, які́ хо́чаш; ***das ist ~!*** гэ́та ўжо́ зана́дта!
**Állerléi: *Léipziger ~*** *кул.* рагу́ з гаро́дніны па-ле́йпцыгску
**állerlétzt 1.** *a* са́мы апо́шні, кра́йні; канцавы́ **2.** *adv:* у апо́шнюю ча́ргу; пад кане́ц
**állerliebst 1.** *a* са́мы мі́лы, са́мы ўлю́бёны **2.** *adv* ахво́тней за ўсё, лепш за ўсё
**állerméist 1.** *a* найбо́льшы; ***die ~e Zeit*** бо́льшая ча́стка ча́су **2.** *adv* найбо́льш
**állernä́chst** *a* найбліжэ́йшы
**Állernéu(e)ste** *sub n* -n са́мая апо́шняя навіна́
**állerórten, állerórts** *adv* усю́ды, скрозь, паўсю́дна
**Állerséelen** *n* - *рэл.* Дзень заду́шны; Во́сеньскія Дзяды́ (*свята памінання памерлых*)
**áll(er)séits** *adv* з усі́х бако́ў, адусю́ль
**áller|wä́rts, ~wégs** *adv* паўсю́дна; ца́лкам
**Állerweltskerl** *m* -(e)s, -e 1) ма́йстар залаты́я ру́кі 2) быва́лы хло́пец
**állerwénigst** *a* найме́ншы; ***am ~en*** менш за ўсё
**álles** усё; *гл* all
**állesámt** *adv* усе́ ра́зам
**Állesfresser** *m* -s, - усёедная жывёла
**állewéil(e)** *adv* заўсёды
**áll(e)zeit** *adv у* любы́ час, заўсёды
**állgemein 1.** *a* агу́льны, усеагу́льны **2.** *adv:* ~ ***beliébt*** ве́льмі папуля́рны; ***(ganz)*** ~ уво́гуле; ***im Állgemeinen*** уво́гуле і ца́лкам; ~ уво́гуле; ***im ~en*** нао́гул
**Állgeméinbefinden** *n* -s агу́льны стан
**állgemein bíldend** *a* агульнаадукацы́йны
**Állgeméinbildung** *f* -, -en агу́льная адука́цыя
**állgeméin gebräuchlich** *a* агульнаўжыва́льны
**állgeméin gültig** *a* агульнапрыня́ты, агульнаўжыва́льны
**Állgeméingut** *n* -e(s), -güter грама́дскае дабро́, грама́дская ўла́снасць
**Állgeméinheit** *f* - 1) (усе)агу́льнасць; грама́дства 2) чалаве́цтва 3) *pl* -, -en агу́льныя ме́сцы, бана́льнасці (*у разважанні*)
**állgeméin verbíndlich** *a* абавязко́вы для ўсі́х
**állgeméin verständlich** *a* агульназразуме́лы
**Állgeméinwohl** *n* -(e)s усеагу́льнае дабро́, усеагу́льны дабрабы́т
**Allhéilmittel** *n* -s, - панацэ́я, сро́дак ад усі́х хваро́б
**Alliánz** *f* -, -en саю́з, згуртава́нне, алья́нс
**Alligátor** *m* -s, -tóren *заал.* аліга́тар
**Alliíerte** *sub m* -n, -n саю́знік
**álljährlich 1.** *a* штаго́дні **2.** *adv* ко́жны год, штаго́д
**Állmacht** *f* - усемагу́тнасць
**allmächtig** *a* усемагу́тны
**allmählich 1.** *a* паступо́вы **2.** *adv* паступо́ва, ма́ла-пама́лу
**állmónatlich 1.** *a* штоме́сячны **2.** *adv* штоме́сячна, ко́жны ме́сяц
**állnä́chtlich 1.** *a* штано́чны **2.** *adv* ко́жную ноч
**Allótria** *pl* (*n*) свавол́ьства, глу́пства
**Allroundman** [ɔl'raondmən] *m* -s, -men living ро́знабако́вы чалаве́к
**állseitig** *a* усебако́вы
**állseits** *гл.* állerseits
**állstündlich** *a* штогадзі́нны
**Álltag** *m* -(e)s, -e бу́дні, бу́дзень
**álltäglich** *a* штодзённы; будзённы; звыча́йны
**álltags** *adv* па-будзённаму; у бу́дні
**Álltagskleid** *n* -(e)s, -er будзённае адзе́нне, штодзённая во́пратка
**Álltagsmensch** *m* -en, -en пасрэ́дны [звыча́йны] чалаве́к; ***den ~en éinmal áblegen [ábstreifen]*** скі́нуць з сябе́ цяжа́р бу́дняў
**Álltagsnöte** *pl* штодзённы кло́пат
**állumfássend** *a* усеабды́мны; ***ein ~es Prográmm*** шыро́кая прагра́ма
**Allüre** *f* -, -n 1) алю́р 2) *pl* прывы́чкі,

звы́чкі, зама́шкі
**állwíssend** *a* усёве́дны
**állwö́chentlich** *a* штотыднёвы
**állzéit** *adv* заўсёды, у любы́ мо́мант
**állzu** *adv* зана́дта
**állzu bald** *adv* зана́дта ху́тка
**állzu sehr** *adv* зана́дта, заду́жа, залі́шне
**állzu viel** *adv* зана́дта мно́га
**állzu weit** *adv* зана́дта далёка
**Alm** *f* -, -en го́рная [альпі́йская] па́ша
**Álma Máter** *f* -, - *высок.* ро́дны універсітэ́т [інстыту́т], а́льма ма́тэр
**Álmanach** *m* -s, -e альмана́х, штого́днік
**Álmosen** *n* -s, - міласціна, пада́чка; ***um ~ bítten**** прасі́ць мі́ласціну
**Alóe** *f* -, -n *бат.* алья́с
**Álp(e)** *f* -, -en го́рная [альпі́йская] па́ша
**Álpenveilchen** *n* -s, - *бат.* цыкламе́н
**Alphabét** *n* -s, -e алфаві́т, а́збука
**alphabetisíeren** *vt* упарадко́ўваць паво́дле алфаві́ту
**alpín 1.** альпі́йскі; **2.** высакаго́рны; альпіні́сцкі; **3.** альпі́йскі, высокаго́рны; ***der ~ e Sport*** го́рны спорт, альпіні́зм; ***~ er Skíläufer*** [ˈʃiː-] ***[Schíläufer, Rénnläufer]*** *m* -s, - горналы́жнік
**Alpinísmus** *m* -, **Alpinístik** *f* - альпіні́зм
**Alpiníst** *m* -en, -en альпіні́ст
**als** *cj* 1) калі́, у той час як; ***er fuhr erst auf Úrlaub, ~ séine Árbeit beéndet war*** ён пае́хаў у адпачы́нак то́лькі тады́, як закóнчыў сваю́ пра́цу 2) у вы́глядзе, у я́касці; ***er ist ~ Léhrer tätig*** ён працу́е наста́ўнікам; ***~ Béispiel díenen*** служы́ць [быць] пры́кладам 3) *пасля параўнальнай ступені* ***er ist größer ~ ich*** ён бо́льшы за мяне́ 4) напры́клад; ***verschíedene Úrsachen,*** ~… ро́зныя прычы́ны, напры́клад… 5) *пасля адмоў'я* як, акрамя́; ***kéin ánderer ~ du*** ні́хто другі́, акрамя́ цябе́ 6) ~ ***dass*** каб; ***sowóhl… ~ auch*** як…, так і; такса́ма…, як і…; ***~ ob, ~ wenn, ~ wie*** як бы́ццам бы; ***er tut ja so, ~ ob [wenn] nichts geschéhen wäre*** ён паво́дзіць сябе́ так, ні́бы ні́чо́га не зда́рылася
**alsbáld** *adv* адра́зу, ху́тка, неўзаба́ве
**alsdánn** *adv* пасля́, по́тым
**álso 1.** *cj* дык вось; зна́чыць; ~ ***doch*** зна́чыцца так **2.** *adv* такі́м чы́нам
**alt** *a* 1) стары́, пажылы́ 2) стары́, ране́йшы, былы́; ***wie ~ sind Sie?*** ко́лькі Вам гадо́ў?; ***ich bin 30 Jáhre*** ~ мне 30 гадо́ў; ***älter wérden*** старэ́ць
**Alt** *m* -(e)s, -e *муз.* альт (*голас і спявак*)
**Altár** *m* -s, -täre алта́р; ахвя́рнік; ***zum ~ führen*** ве́сці пад вяне́ц, жані́ць
**Altárbild** *n* -es, -er *царк.* абра́з
**áltbacken** *a* 1) чэ́рствы (*хлеб*) 2) устарэ́лы, старамо́дны
**Áltbau** *m* -(e)s, -ten стары́ (жылы́) буды́нак
**Áltbauwohnung** *f* -, -en кватэ́ра ў стары́м до́ме
**áltbekannt** *a* даўно́ вядо́мы
**áltbewährt** *a* вы́прабаваны
**Álte** *sub m, f* -n, -n стары́, стара́я
**Álter** *n* -s, - 1) узро́ст, век; ***hóhes ~*** стары́ [старэ́чы] узро́ст; ***gléichen ~s séin*** быць раве́снікам [аднаго́дкам] 2) ста́расць 3) даўніна́ 4) стаж
**áltern 1.** *vi* старэ́ць, рабі́цца стары́м **2.** *vt* зрабі́ць стары́м
**alternatív** *a* альтэрнаты́ўны
**Alternatíve** [-v-] *f* - альтэрнаты́ва
**álters: *seit ~ (her), von ~ her*** *уст.* здаўна́, здавён
**Áltersgenosse** *m* -n, -n аднаго́дак, раве́снік
**Áltersgrenze** *f* -, -n узро́ставы цэнз, ве́рхняя ўзро́ставая мяжа́
**Áltersheim** *n* -(e)s, -e дом састарэ́лых
**Áltersreife** *f* - узмужне́ласць, ста́ласць
**Áltersrentner** *m* -s, - пенсіяне́р па ста́расці
**áltersschwach** *a* ляда́чы, нямо́глы
**Áltersschwäche** *f* -, -n старэ́чая не́мач
**Áltersversicherung** *f* -, -en страхава́нне па ста́расці
**Áltersversorgung** *f* -, -en забеспячэ́нне па ста́расці
**Áltertum** *n* -s старажы́тнасць, старада́ўнасць, даўніна́
**Áltertümer** *pl* старажы́тныя рэ́чы
**áltertümlich** *a* 1) старада́ўні 2) устарэ́лы
**Älteste** *sub m, f* -n, -n 1) старэ́йшы, -ая 2) ста́раста

**áltgewohnt** *a* звы́клы
**Álthändler** *m* -s, - стары́знік
**althér|gebracht, ~kömmlich** *a* традыцы́йны, старадáўні
**Altíst** *m* -en, -en, **~in** *f* -, -nen альт (*спявак, спявачка*)
**áltklug** *a* разу́мны не па гадáх
**ältlich** *a* пажылы́
**Áltmetall** *n* -s металалóм
**áltmodisch** *a* старамóдны
**Áltpapier** *n* -s макулату́ра
**Altphilológe** *m* -n, -n філóлаг-спецыяліст па класíчных мóвах
**altruístisch** *a* бескары́слівы, альтруíсцкі
**áltsprachlich** *a* якí аднóсіцца да класíчных старажы́тных моў
**Áltstadt** *f* -, -städte стары́ гóрад, старóе мéсца
**Áltstoffe** *pl* утыль-сыравíна
**áltväterlich** *a* старасвéцкі
**Áltwarenhandel** *m* -s гáндаль ужывáнымі таварáмі
**Áltweibersommer** *m* -s, - бáбіна лéта
**Alú** *n* -s *разм. скар. ад* Alumínium
**Alumínium** *n* -s алюмíній
**am 1.**= an dem; ~ ***Móntag у*** панядзéлак **2.** *prtc перад superl*: ~ ***bésten*** лепш за ўсё, найлéпш
**Amalgám** *n* -s, -e 1) амальгáма 2) *перан.* сплаў
**Amateur** [-ˈtøːr] *m* -s, -e амáтар (*у розн. знач.*)
**Amazóne** *f* -, -n 1) амазóнка 2) *спарт.* вéршніца
**Ambitión** *f* -, -en амбíцыя, славалю́бства
**ambitiös** *a* амбіцы́йны, самалюбíвы
**Ámboss** *m* -es, -e) кавáдла
**ambulánt** *a* 1) нестацыя́нарны, вандрóўны; непасцéльны (*пра хворага*) 2) амбулатóрны
**Ambulánz** *f* -, -en 1) амбулатóрыя 2) машы́на хýткай дапамóгі
**Ámeise** *f* -, -n мурáшка
**Ámeisenhaufen** *m* -s, - мурáшнік
**Ámen** *n* -s, - *рэл.* áмэн, амíнь; ~ ***ságen*** *разм.* падтáкваць ◊ ***das ist so sícher wie das ~ in der Kírche*** гэ́та бясспрэ́чна [безумóўна]
**Amerikáner** *m* -s, - амерыкáнец
**amerikánisch** *a* амерыкáнскі
**Amethíst** *m* -es, -e *мін.* амеcты́ст
**Ámi** *m* -s, -s *разм.* амерыкáнец
**Ámmenmärchen** *n* -s, - дзіця́чая кáзка
**Ámme** *f* -, -n кармíцелька, ня́нька
**Ammoniák** *n* -s *хім.* аміяк
**Amnestíe** *f* -, -í¦en амнíстыя
**amnestíeren** *vt* памíлаваць
**Ámoklauf** *m* -(e)s апантáнасць, шалéнства, безразвáжнасць
**Ámokläufer** *m* -s, - *перан.* апантáны, маньяк, утрапёны
**Amór** *m* -s *міф.* Аму́р (*бог кахання*)
**amorálisch** *a* амарáльны
**amourös** [amu-] *a* любóўны, аму́рны
**Amortisatión** *f* -, -en 1) *камерц.* амартызáцыя, паступóвае пагашэ́нне дóўгу 2) *эк.* амартызáцыя (*асноўных сродкаў*) 3) амартызáцыя, змякчэ́нне (*удару*)
**amortisíeren** *vt* 1) *эк.* паступóва ліквідавáць доўг; амартызавáць 2) *тэх.* аслабля́ць, глушы́ць
**Ámpel** *f* -, -n 1) святлафóр 2) вíся́чая ля́мпа 3) падвéсная вáза (для квéтак)
**Ampere** [-ˈpɛːr] *n* -s, - *фіз.* ампéр
**Ámpfer** *m* -s, - *бат.* шчáўе
**Amphíbie** [-bi¦ə] *f* -, -n *заал.* земнавóдная жывёліна, амфíбія
**Amphíbienfahrzeug** [-bi¦ən-] *n* -(e)s, -e машы́на-амфíбія
**amphíbisch** *a* земнавóдны
**Amphítheater** *n* -s, - амфітэáтр
**Ámphora** *i* [Amphóre] *f* -, -óren áмфара
**Ampúlle** *f* -, -n áмпула
**Amputatión** *f* -, -en *мед.* ампутáцыя
**amputíeren** *vt мед.* ампутавáць, аднімáць (*нагу і г.д.*)
**Ámsel** *f* -, -n *заал.* (чóрны) дрозд
**Amt** *n* -(e)s, Ämter 1) пасáда, слу́жба; ***ein ~ bekléiden, im ~ stéhen**** займáць пасáду; ***séines ~es enthében**** вызвалíць ад пасáды; ***éin ~ ántreten**** прыступíць да выканáння абавя́зкаў 2) устанóва; упраўлéнне; вéдамства; ***das Áuswärtige*** ~ міністэ́рства замéжных спраў

**amtíeren** *vi* (*als N*) займáць пасáду (*каго-н.*); выкóнваць абавя́зкі (*каго-н.*)
**ámtlich 1.** *a* службóвы; афіцы́йны **2.** *adv* афіцыя́льна, афіцы́йна
**Ámtmann** *m* -es, -männer *або* -leute службóвая асóба, чынóўнік
**Ámtsantritt** *m* -(e)s, -e уступлéнне на пасáду
**Ámtsausübung** *f* -, -en выканáнне службóвых абавя́зкаў
**Ámtsblatt** *n* -es, -blätter афіцы́йны бюлетэ́нь
**Ámtsdauer** *f* -, -n тэ́рмін паўнамóцтваў
**Ámtsenthebung** *f* -, -en вызвалéнне з пасáды
**Ámtsmissbrauch** *m* -(e)s, -bräuche злоўжывáнне службóвым станóвішчам
**Ámtsrichter** *m* -s, - участкóвы суддзя́; суддзя́ ў судзé ніжэ́йшай інстáнцыі (*у Германіі*)
**Ámtsschimmel** *m* -s бюракраты́зм
**Ámtssitz** *m* -es, -e рэзідэ́нцыя, месцазнахóджанне (*установы*)
**Ámtsstube** *f* -, -n службóвае памяшкáнне, канцыля́рыя, кантóра
**Ámtsüberschreitung** *f* -, -en перавышэ́нне ўлáды
**Ámtswohnung** *f* -, -en службóвая кватэ́ра
**Amulétt** *n* -s, -e амулéт, талісмáн
**amüsánt** *a* смéшны, пацéшны, вясёлы
**Amüsement** [-ˈmã:] *m* -s, -s (пустáя) забáва
**amüsíeren 1.** *vt* весялíць; забаўля́ць **2. ~, sich** (*über A*) пакéпліваць (*з каго-н.*); весялíцца; забаўля́цца
**an 1.** *prp* 1) (*D – на пыт. «дзе?»*) пры, ля, каля́, пóбач; ~ ***der Wand*** на сцянé 2) (*на пыт. «калі?»*) у; ~ ***fréien Tágen*** у вóльныя [свабóдныя] дні; ***am Mórgen*** рáніцай 3) за; ~ ***der Hand führen*** вéсці за рукý 4) *пераклад залежыць ад беларускага кіравання:* die Schuld líegt ~ dir гэ́та твая́ вінá; ~ ***etw. krank sein*** хварэ́ць на што-н. 5) (*A – на пыт. «куды?»*) на, да ~ ***den fluss*** на ракý; ***bis*** ~ да; ***bis ~ den Wald*** да лéсу; ***ich hábe éine Bítte ~ Sie*** у мянé да Вас прóсьба, я мáю да Вас прóсьбу **2.** *adv:* ***von heute*** ~ з сённяшняга дня; ***von jetzt*** ~ ад [з] гэ́тага часу ◊ ~ ***und für sich*** самó сабóй, самó па сабé
**an=** *аддзял. прыстаўка, указвае на:* 1) *дакрананне, набліжэнне, злучэнне чаго-н. з чым-н.*: ánkleben прыклéйваць 2) *прырост, павелічэнне*: ánsteigen падымáцца *і г.д.*
**anachronístisch** [-kro-] *a* анахранíчны, які́ зжыў сябé
**Anachronísmus** [-kro] *m* -, -men анахранíзм
**analóg** *a* падóбны, аналагíчны
**Analogíe** *f* -, gí¦en падабéнства, аналóгія
**Analphabét** *m* -en, -en непісьмéнны
**Analýsenbefund** *m* -(e)s, -e дáныя аналізу
**Analýse** *f* -, -n анáліз; ***éine ~ líefern*** даць анáліз
**analysíeren** *vt* аналізавáць; расклáдваць, даслéдаваць
**analýtisch** *a* аналіты́чны
**Anämíe** *f* -, -mí¦en *мед.* малакрóўе
**Ánanas** *f* -, - *і* -se 1) ананáс 2) *разм.* трускáлкі (буйнаплóдныя)
**Anarchíe** *f* -, -chí¦en анáрхія, безулáддзе, беспарáдак
**anárchisch** *a* анархíчны, беспарáдкавы
**Anästhesíe** *f* -, -í¦en *мед.* 1) абязбóльванне, анестэзія 2) стрáта чуллíвасці
**Anästhesíst** *m* -en, -en дóктар-анестэзіёлаг
**Anatóm** *m* -en, -en анáтам
**Anatomíe** *f* -, -í¦en анатóмія
**ánbahnen 1.** *vt* падрыхтóўваць, распачынáць; ***éine Verbíndung*** ~ запачаткóўваць сýвязі **2. ~, sich** завя́звацца, пачынáцца
**Ánbahnung** *f* -, -en 1) праклáдванне (*шляху, дарогі*); падрыхтóўка, пачáтак 2) браць пачáтак (*сувязей, адносін*), пачынáць (*адносіны, сувязі*)
**ánbändeln** *vi* (*mit D*) *разм.* рабíць залёты, завóдзіць шáшні
**Ánbau** *m* -s, -ten 1) прыбудóва 2) вырóшчванне, развядзéнне
**ánbauen** *vt* 1) урабля́ць (*поле*); развóдзіць; вырóшчваць 2) (*an A*) прыбудóўваць (*да чаго-н.*)
**Ánbaufläche** *f* -, -n пасяўнáя плóшча
**Ánbaumöbel** *n* -s секцы́йная [камбініраваная] мэ́бля

**Ánbauwand** *f* -, -wände збóрная сцéнка (*з мэблі*)
**Ánbeginn** *m* -s пачáтак; ***vom (érsten) ~*** ад сáмага пачáтку
**ánbehalten*** *vt* трымáць на сабé, не здымáць з сябé; ***den Mántel ~*** застáцца ў палітó
**ánbei** [anbéi] *adv* пры гэ́тым, дадáны; у дадáтку
**ánbeißen*** **1.** *vt* надкýсваць **2.** *vi* папáсціся на кручóк; ***der fisch beißt an*** ры́ба тóркае
**ánbelangen** *vt* (да)ты́чыцца (*чаго-н.*); ***was mich ánbelangt…*** што да мянé…
**ánbequemen, sich** (*an A*) (неахвóтна) прыстасóўвацца, дапасóўвацца (*да чаго-н.*)
**ánberaumen** *vt* вызначáць, прызначáць (*тэрмін*)
**ánbeten** *vt* пакланя́цца (*каму -н.*), малíцца (*на каго-н.*)
**Ánbetracht: *in ~ (G)*** беручы́ пад увáгу, мáючы на ўвáзе
**ánbetreffen*** *vt гл.* ánbelangen
**Ánbetung** *f* -, -en пакланéнне, культ, абагатварэ́нне
**ánbiedern, sich** (*bei D*) *разм.* прымáзвацца, лéзці ў сябры́ (*да каго-н.*)
**Ánbiederung** *f* -, -en (на)дакýчлівае прапанóўванне сябé ў ся́бры
**ánbiegen*** *vt* 1) прыгінáць, загінáць 2) *канц.* дадавáць
**ánbieten*** **1.** *vt* 1) прапанóўваць 2) частавáць 3): ***ein Geft ~*** *вайск.* навя́зваць бой **2. ~, sich** напрóшвацца, прапанóўваць сваé паслýгі; ***er bot sich mir an*** ён прапанавáў мне сваé паслýгі
**ánbinden*** **1.** *vt* прывя́зваць **2.** *vi* (*mit D*) 1) завя́зваць знаёмства 2) пачáць сварыцца (*з кім-н.*) ◊ ***éinen Bären ~*** залéзці ў доўг; ***kurz ángebunden*** рэ́зкі, нялáскавы, нявéтлівы
**ánblasen*** *vt* 1) дзьмýць (*на што-н.*)*;* раздувáць 2) *разм.* аблáяць (*каго-н.*); накрычáць (*на каго-н.*)
**Ánblick** *m* -s, -e 1) пóзірк, пóгляд 2) від, відóвішча; ***beim érsten ~*** на пéршы пóгляд; ***éinen schönen ~ bíeten**** давáць цудóўнае відóвішча
**ánblicken** **1.** *vt* глядзéць, гля́нуць (*на каго-н.*) **2. ~, sich** перагля́двацца, глядзéць (адзíн на аднагó)
**ánbrechen*** **1.** *vt* надлóмваць; адкрывáць; ***eine Zigaréttenpackung ~*** адкры́ць [пачáць] пáчак цыгарэ́т **2.** *vi* (s) 1) надлóмвацца 2) надыхóдзіць; ***der Tag bricht an*** днée
**ánblinzeln** *vt* глядзéць (*на каго-н.*) прыжмýрваючыся; падмóргваць (*каму-н.*)
**ánbrennen*** **1.** *vt* 1) абпáльваць 2) падпáльваць **2.** *vi* 1) запáльвацца, успы́хваць 2) падгарáць
**ánbringen*** *vt* 1) прынóсіць, занóсіць (*што-н. куды-н.*) 2) прымацóўваць, прылáджваць, прыладкóўваць 3) *разм.* збывáць з рук (*тавар*) 4) падавáць прашэ́нне 5) размяшчáць, прыладкавáць; ***sein Geld ~*** (вы́гадна) палажы́ць сваé грóшы 6) нанéсці (*рану*)
**Ánbruch** *m* -(e)s, -brüche 1) надлóм 2) пачáтак, надыхóд; ***bei ~ des Táges*** на світáнні [зóл(а)ку, дóсвітку]
**ánbrüllen** *vt разм.* крычáць, гы́ркаць (*на каго-н.*)
**Ándacht** *f* -, -en 1) глыбóкая павáга 2) засярóджанасць 3) набажэ́нства
**ándächtig** *a* 1) набóжны, пабóжны 2) засярóджаны
**ándauern** *vi* праця́гвацца, дóўжыцца; ***der Régen dáuert an*** дождж не сціхáе
**ándauernd** *a* праця́глы; няспы́нны
**Ándenken** *n* -s, - 1) (*an A*) пáмяць, успамíн (*аб кім*-н.*, аб чым-н.*)*;* ***zum ~*** на [у] пáмяць 2) падарýнак на пáмяць [на пáмятку], сувенíр
**ánd(e)re** *a* (*ужываецца толькі ў скланяльных формах*) другí, íншы, настýпны; ***únter ~m*** сярóд íншага, мiж íншым; ***nichts ~es*** мiж íншым, у прывáтнасці
**ánder(e)nfalls** *adv* інáчай, у íншым рáзе
**ánder(e)norts** *adv у* íншым мéсцы
**ándererseits** *adv* з íншага бóку
**ándermal** *av*: ***ein ~*** íншым рáзам
**ändern** **1.** *vt* перарабля́ць, мяня́ць; ***das ändert die Sáche*** гэ́та мяняé спрáву

**2. ~, sich** (па)мяняцца; ***sich von Grund aus*** ~ змяніцца карэнным чынам; ***darán lässt sich nichts*** ~ тут нічога не зробіш [не дапаможаш]

**ánders** *adv* інакш, іначай; ***níemand ~ als…*** ніхто іначай, як; ~ ***wérden*** мяняцца; ~ ***máchen*** мяняць; ***so und nichts*** ~ так і не інакш; ***jémand*** ~ хтосьці іншы; ***írgendwo*** ~ дзе-небудзь у іншым месцы

**ánderséits** *гл.* ándererseits

**ánderswie** *adv* (як-н.) іначай, іншым чынам

**ánderswo** *adv* (дзе-н.) у іншым месцы

**ánderswohin** *adv* (куды-н.) у іншае месца

**ánderthalb** *num* паўтара, паўтары

**ánderthalbfach** *a* паўтарачны

**Ä́nderung** *f* -, -en змена, перараробка, папраўка; ***éine ~ tréffen*** * ***[vórnehmen*]*** змяніць, зрабіць папраўку

**ánderwärts** *adv* (дзе-н.) у іншым месцы; (куды-н.) у іншае месца

**ánderweit** *adv* іначай; збоку; у іншым месцы

**ánderweitig** *a* іншы, далейшы

**ándeuten** *vt* намякаць, указваць; намячаць, абазначаць; ***das déutet nichts Gútes an*** гэта нічога добрага не прарочыць; ***flüchtig*** ~ бегла абмалёўваць

**Ándeutung** *f* -, -en 1) намёк, абазначэнне; ***in ~en réden*** гаварыць намёкамі 2) прыкмета, знак

**ándeutungsweise** *adv* намёкамі

**Ándrang** *m* -s 1) напор; наплыў 2) штурханіна, таўханіна

**ándre** *гл.* ándere

**ándrängen 1.** *vi* (*an, gegen A*) націскаць, насядаць (*на каго-н., на што-н.*) **2.** *vt* (*an A*) прыціскаць (*да чаго-н.*) **3. ~, sich** тоўпіцца; прыціскацца

**ándrehen** *vt* 1) прыкручваць 2) заводзіць (*матор*) 3) уключаць (*святло, радыё*)

**ándringen*** *vi* (s) 1) наступаць, напіраць (*на каго-н.*) 2) *мед.* прыліваць (*пра кроў*)

**ándringlich** *a* настойлівы; дакучлівы,назойлівы

**ándrohen** *vt* (*j-m*) пагражаць (*каму-н.*); ***sie dróhen die Ánwendung von Gewált an*** яны пагражаюць прымяніць сілу

**Ándrohung** *f* -, -en пагроза; ~ ***von Wáffen*** пагроза зброяй

**Ándruck** *m* -(e)s, -drücke напор, націск

**ándrücken** *vt* прыціскаць

**ánecken** *vi* (*s*) 1) выцяцца (*аб рог чаго-н.*), зачапіць (*за рог чаго-н.*) 2) (*h, s*) *разм.* зачапіць (*каго-н.*)

**áneignen, sich** (*D, A*) 1) прысвойваць (*сабе што-н.*), прылаўчаць (*што-н.*) 2) засвойваць (*што-н.*)

**Áneignung** *f* -, -en 1) прысваенне, захоп; акупацыя 2) засваенне, авалоданне

**aneinánder** *pron rez* адзін да аднаго; адзін пры адным; адзін за аднаго; ***dicht*** ~ шчыльна, вельмі блізка; ~ ***geraten**** *vi* (s) (*mit D*) счапіцца, пасварыцца (*з кім-н.*); ~ ***réihen*** *vt* нанізваць; раскладаць, расстаўляць радком

**Anekdóte** *f* -, -n жартаўлівая гісторыя (*пра вядомую асобу*)

**ánekeln** *vt* 1) выклікаць агіду (*у каго-н.*); брыдзіць (*каго-н.*) 2) зневажаць

**Anemóne** *f* -, -n *бат.* кураслеп

**Ánerbieten** *n* -s, - прапанова; ***von Íhrem ~ wérde ich Gebráuch máchen*** я скарыстаю Вашу прапанову

**ánerkannt** *a* прызнаны, вядомы

**ánerkennen*** *vt аддз. і неаддз.* (*part II* ánerkannt, *inf* ánzuerkennen) 1) прызнаваць; ***die Dokuménte*** ~ прызнаваць дакументы сапраўднымі 2) паважаць, шанаваць; ***állgemein ánerkannt*** агульнапрызнаны

**ánerkennenswert** *a* варты павагі [пахвалы]

**Ánerkennung** *f* -, -en ухваленне, адабрэнне; ***in ~ (G)*** прызнаючы; ***j-m ~ zóllen*** выказваць каму-н. адабрэнне

**ánerkennend 1.** *a* пахвальны **2.** *adv* з пахвалой [пашанай]

**ánerziehen*** *vt* (*D*) прывіваць (*каму-н.*) (*выхаваннем); **Éigenschaften*** ~ прывіваць якасць

**ánfachen** *vt* раздзьмухваць; *перан.* узбуджаць (*пачуцці*)

**ánfahren*** **1.** *vt* 1) падвозіць, прывозіць 2) наехаць (*на каго-н.*) 3) *разм.* накрычаць, напасці (*на каго-н.*) **2.** *vi* (s) 1) прыязджаць, набліжацца 2) ад'язджаць; ***der***

***Zug fährt an*** цягнíк ад’язджáе
**Ánfahrt** *f* -, -en 1) прыéзд, прыбыццё 2) прыстань; пад’éзд, пад’язнáя дарóга
**Ánfall** *m* -s, -fälle 1) напáд 2) прыпáдак (*хваробы*)
**ánfallen*** **1.** *vt* 1) нападáць (*на каго-н.*) 2) апанóўваць (*каго-н.*) **2.** *vi* (s) узнікáць; збірáцца; ***in der nächsten Wóche wird viel Árbeit ~*** на настýпны тыдзень набрáлася мнóга рабóты
**ánfällig** *a* падáтлівы (*на што-н.*); урáзлівы; схíльны; ***gégen Kránkheit ~*** схíльны да хварóбы
**Ánfälligkeit** *f* - падáтлівасць, успрымáльнасць, схíльнасць; урáзлівасць
**Ánfang** *m* -(e)s, -fänge 1) пачáтак; ***kéinen ~ fínden**** не вéдаць, з чагó пачáць; ***séinen ~ néhmen**** пачынáцца; ***von ~ an*** з сáмага пачáтку 2) *pl* зараджэ́нне, пачаткóвы перыяд
**ánfangen*** **1.** *vt* пачынáць, пачынáць рабíць (*што-н.*); ***was fánge ich nun an?*** што мне цяпéр рабíць?; ***von vorn ~*** пачынáць спачáтку ◊ ***mit ihm ist nichts ánzufangen*** з ім кáшы не звáрыш **2.** *vi* пачынáцца; ***es fängt an zu régnen*** пачынáецца дождж
**Ánfänger** *m* -s, - 1) пачаткóвец 2) ініцыя́тар
**ánfänglich** **1.** *a* (перша)пачаткóвы **2.** *adv* спачáтку, першапачаткóва
**ánfangs** *adv* напачáтку, спачáтку
**Ánfangsgründe** *pl* пачáткі (*якой-н. навукі*)
**Ánfangsstadium** *n* -s, -i¦en пéршая стáдыя
**ánfassen** *vt* **1.** схапíць (*што-н.*); брáцца (*за што-н.*); дакранáцца (*да чаго-н.*); ***von únten ~*** падхапíць знíзу **2. ~, sich** узя́ць адзíн аднагó за рукý
**ánfauchen** *vt, vi* шыпéць, фыркаць (*на каго-н.*); *перан. разм.* накрычáць (*на каго-н.*)
**ánfaulen** *vi* (s) псавáцца, падгнівáць
**ánfechtbar** *a* спрэ́чны, неперакан´альны, прыстýпны
**ánfechten*** *vt* 1) аспрэ́чваць, апратэстóўваць, абскáрджваць 2) *высок.* спакушáць 3) турбавáць; ***das ficht mich gar nicht an*** гэ́та мянé нікóлькі не турбýе
**Ánfechtung** *f* -, -en 1) аспрэ́чванне; абскáрджванне 2) *высок.* спакýса
**ánfeinden** *vt* варóжа стáвіцца (*да каго-н.*); нападáць (*на каго-н.*)
**Ánfeindung** *f* -, -en нядобразычлíвасць, праслéдаванне; *pl* напáдкі
**ánfertigen** *vt* вырабля́ць, рабíць
**Ánfertigung** *f* -, -en вырáб; вытвóрчасць; выкóнванне
**ánfeuchten** *vt* намóчваць; ***die Kéhle ~*** *разм.* выпіць, прамачыць гóрла
**ánfeuern** *vt* 1) падпáльваць 2) *перан.* натхня́ць, падбадзёрваць, падганя́ць
**ánflehen** *vt* (*um A*) малíць (*каго-н. пра што-н.*); заклікáць (*каго-н. да чаго-н.*)
**ánfliegen*** *vi* (s) 1) падлятáць, прылятáць 2) *vt вайск., ав.* зрабíць налёт (*на што-н.*)
**Ánflug** *m* -(e)s, -flüge 1) прылёт, падлёт 2) *вайск., ав.* налёт 3) адцéнне, нюáнс, налёт; ***in éinem ~ von Gróßmut*** у парыве велікадýшнасці
**ánfordern** *vt* 1) (за)патрабавáць 2) падáць зая́ўку (*на што-н.*)
**Ánforderung** *f* -, -en 1) патрабавáнне, зая́ўка 2) *pl* прэтэ́нзіі, патрабавáнні; ***hóhe ~en stéllen*** стáвіць высóкія патрабавáнні
**Ánfrage** *f* -, -n зáпыт, інтэрпеля́цыя; ***éine ~ an j-n ríchten*** зрабíць зáпыт [запытáнне]
**ánfragen** *vi* (*bei D, nach D, um, über A*) давéдвацца, пытáцца (*у каго-н. пра што-н.*); рабíць зáпыт; ***bei j-m um Rat ~*** прасíць у кагó-н. парáды
**ánfressen*** *vt* аб’éсці, абгрызці
**ánfreunden, sich** (*mit D*) пасябравáць (*з кім-н.*); ***sich mit der Tátsache ~, dass…*** прымірыцца з фáктам, што…
**ánfrieren*** *vi* (s) падмярзáць, замярзáць, прымярзáць
**ánfügen** **1.** *vt* 1) далучáць; прырабля́ць, прыстаўля́ць 2) *тэх.* злучáць **2. ~, sich** (*D*) прыстасóўвацца (*да чаго-н.*)
**ánfühlen** *vt* 1) абмáцваць; намáцваць 2) (*D*) адчувáць (*па чым-н.*)
**Ánfuhr** *f* -, -en 1) падвóз, прывóз 2) вымóва; лáянка
**ánführen** *vt* 1) узначáльваць 2) прывóдзіць (*доказ*); цытавáць, спасылáцца (*на што-н.*); ***wéiter hábe ich nichts án-***

***zuführen*** мне ня́ма́ чаго́ больш дабáвіць 3) ашýкваць; падвóдзіць 4) падвóзіць, прывóзіць 5) заключáць у двукóссі

**Ánführer** *m* -s, - 1) кіраўнíк; завадáтар 2) ашукáнец, махляр

**Ánführungszeichen** *pl* (*n*) двукóссе

**ánfüllen** *vt* напаўняць, набівáць; нагружáць

**Ángabe** *f* -, -n 1) указáнне 2) паказáнне 3) *pl* дáныя 4) данóс 5) *спарт.* падáча

**ángängig** *a* магчы́мы, дапушчáльны, дазвóлены

**ángeben*** **1.** *vt* 1) укáзваць, называ́ць, давáць звéсткі 2) данóсіць (*на каго-н.*); ***den Ton*** ~ задавáць тон **2.** *vi* хвалíцца, выхваля́цца

**Ángeber** *m* -s, - 1) данóсчык 2) *разм.* хвалькó

**ángeberisch** *a* 1) пляткáрскі 2) фанабэ́рысты

**ángeblich** **1.** *a* уя́ўны **2.** *adv* нібы́та, бы́ццам бы

**ángeboren** *a* прырóдны, уласцíвы ад нараджэ́ння

**Ángebot** *n* -(e)s, -e 1) прапанóва, прапанавáны вы́бар; *камерц.* афéрта; ~ ***und Náchfrage*** *эк.* пóпыт і прапанóва; ***ein ~ máchen*** прапанавáць здзелку 2) першая [зыхóдная] цанá (*на таргах*)

**ángebracht** *adv* дарэ́чы ***etw. für ~ hálten**** лічы́ць што-н. да мéсца

**ángebrannt** *a* падгарэ́лы

**ángedeihen*** *vi*: ***j-m etw. ~ lássen**** давáць (*каму-н. што-н.*); ***j-m éine gúte Erzíehung ~ lássen**** давáць камý-н. дóбрае выхавáнне

**Ángedenken** *n* -s *высок.* пáмяць (*па кім-н.*); успамíн

**ángeführt** *a* прывéдзены, працытавáны; ***am ~en Ort(e)*** ва ўкáзаным мéсцы

**ángegriffen** *a* змардавáны, стóмлены; мóцна ўрáжаны

**ángeheiratet** *a* парóднены; ***~e Kínder*** нярóдныя дзéці

**ángeheitert** *a* нападпíтку

**ángehen*** **1.** *vt* 1) мець дачынéнне (*да каго-н.*), датычы́цца (*чаго-н.*); ***was geht das dich an?*** якáя табé да гэ́тага спрáва?; ***was mich ángeht…*** што (да)ты́чыцца мянé… 2) пачынáць; ***éinen Streit*** ~ пачынáць спрэ́чку **2.** *vi* (s) 1) пачынáцца; ***die Schúle ist schon ángegangen*** урóкі (у шкóле) ужó пачалíся 2) пачынáць псавáцца [загнівáць] 3) пускáць каранí; ***die Pflánze geht nicht an*** раслíна не прыжываéцца 4) загарэ́ццa, запáльвацца; уключáцца (*пра электрычнасць*) 5) адзявáцца, налáзіць (*пра вопратку, абутак*) 6): ***das geht nicht an!*** так нéльга!, гэ́та недапушчáльна!; ***das geht noch an*** гэ́та яшчэ́ кудэ́ ні былó; ***wie geht das an?*** як гэ́та мóжа быць?

**ángehend** *a* бýдучы; які́ пачынáецца; малады́; ***ein ~er Léhrer*** малады́ настáўнік; ***bei ~er Nacht*** з наступлéннем нóчы

**ángehören** *vi* (*D*) налéжаць (*да чаго-н.*)

**ángehörig** *a* прыналéжны

**Ángehörige** *sub m, f* -n, -n 1) сваяк, сваячка 2) член (*якой-н. арганізацыі*); грамадзянíн (*якой*-н. *дзяржавы*)

**Ángeklagte** *sub m, f* -n, -n *юрыд.* падсýдны, падсýдная; абвінавáчаны, абвінавáчаная

**ángekränkelt** *a* хваравíты, нездарóвы

**Ángel** *f* -n, -n 1) завéса (*на дзвярах*, *акне*) 2) вýда

**ángelegen**: ***sich (D) etw. ~ sein lássen**** рýпіцца пра што-н.

**Ángelegenheit** *f* -, -en спрáва, пытáнне; ***in wélcher ~?*** па якóй спрáве?; ***eine ~ untersúchen*** *юрыд.* весці следства па якóй-нéбудзь спрáве

**ángelegentlich** *a* **1.** настóйлівы **2.** *adv* настóйліва; ***sich nach j-m ~ erkúndigen*** настóйліва давéдвацца пра кагó-н.

**Ángelhaken** *m* -s, - рыбалóўны кручóк

**Ángelleine** *f* -, -n (рыбалавéцкая) лёска

**ángeln** *vt* вýдзіць, лавíць вýдай

**Ángelrute** *f* -, -n вудзíльна

**ángelsächsisch** *a* англасаксóнскі

**ángemessen** *a* 1) адпавéдны, налéжны, памяркóўны; ***éine ~e Frist*** дастаткóвы тэ́рмін 2) слýшны, дарэ́чны; ***für ~ hálten**** лічы́ць слýшным [да мéсца, патрэ́бным]

**Ángemessenheit** *f* - 1) адпавéднасць

2) слу́шнасць, патрэ́бнасць
**ángenehm** *a* прые́мны
**ángenähert** *a матэм.* прыблі́зны; наблі́жаны
**ángenommen** *a* прыёмны (*пра дзіця*)*;* умо́ўны, вы́думаны; ***ángenommen, dass…*** калі́ то́лькі…
**Ánger** *m* -s, - 1) (вяско́вы) пляц 2) вы́ган; паля́на 3) скуралу́пня
**ángeregt** *a* жва́вы, ажы́ўлены, узбу́джаны
**ángeschlagen** *a* 1) па(д)біты, аббіты 2) знямо́жаны
**Ángeschuldigte** *sub m,f* -n, -n *гл.* Ángeklagte
**ángeschwemmt** *a* намыўны́, нано́сны
**ángesehen** *a* шано́ўны, салі́дны
**ángesäuselt** *a разм.* нападпі́тку
**Ángesicht** *n* -s, -e *i* -er *высок.* аблі́чча, твар; ***im ~ des Tódes*** пе́рад аблі́ччам сме́рці; ***ich kénne ihn von ~*** я ве́даю яго́ зво́нку; ***im Schwéiße séines ~s*** у по́це чала́
**ángesichts** *prp* (*G*) з прычы́ны, пе́рад аблі́ччам (*чаго-н.*)
**ángespannt** *a* напру́жаны; ***mit ~er Áufmerksamkeit*** з напру́жанай ува́гай
**ángestellt** *a* залі́чаны (на пра́цу); наня́ты
**Ángestellte** *sub m, f* -n, -n слу́жачы, слу́жачая
**ángestammt** *a* прыро́джаны, радавы́, карэ́нны
**ángestrengt** *a* напру́жаны; ***in ~ er Stímmung*** у прыўзня́тым настро́і
**ángestrichen** *a* пафарбава́ны
**ángetan: *es j-m ~ háben*** зачарава́ць; прыва́біць; закруці́ць галаву́ *каму-н.*
**ángetrunken** *a гл.* ángeheitert
**ángewandt** *a* прыкладны́; ***~e Kunst*** прыкладно́е маста́цтва
**ángewiesen: *~ sein (auf A)*** быць вы́мушаным абыхо́дзіцца (*чым-н.*); быць зале́жным (*ад каго-н., чаго-н.*)*;* ***auf sich selbst ~ sein*** быць пакі́нутым на само́га сябе́
**ángewöhnen 1.** *vt* (*D*) прывуча́ць (*каго-н. да чаго-н.*) **2. *sich (D) etw. ~*** прызвыча́іцца да чаго́-н.
**Ángewohnheit** *f* -, -en звы́чка; ***aus ~*** па звы́чцы
**ángewurzelt**: ***er blieb wie ~ stéhen*** ён спыні́ўся, ніб́ы ўко́паны
**Angína** *f* -, -en *мед.* ангі́на
**Ángler** *m* -s, - рыба́к (*з вудай*)
**ángleichen*** ураўно́ўваць; прыво́дзіць у адпаве́днасць; *лінгв.* асімілява́ць
**Ángleichung** *f* -, -en ураўно́ўванне; уніфіка́цыя; *лінгв.* асіміля́цыя
**ángliedern** *vt* (*D*) далуча́ць (*да чаго-н.*)*;* залі́чваць у чле́ны (*грамадства*)
**anglikánisch** *a* англіка́нскі
**Anglístik** *f* - англі́стыка (*навука аб англійскай мове і літаратуры*)
**ánglotzen** *vt разм.* вылу́пліваць во́чы (*на каго-н.*)
**Angoláner** *m* -s, - анго́лец
**angolánisch** *a* анго́льскі
**Angórawolle** *f* - анго́рская во́ўна
**ángreifbar** *a* 1) ура́злівы 2) *тэх.* які́ паддае́цца ўздзе́янню
**ángreifen*** **1.** *vt* 1) хапа́ць, бра́ць 2) напада́ць, атакава́ць 3) натамля́ць, знясі́льваць; ***die Árbeit ~*** бра́цца за пра́цу; ***das greift die Nérven*** [-v-] ***an*** як гэ́та дзе́йнічае на не́рвы 4): ***j-s Éhre ~*** закрана́ць чый-н. го́нар **2. ~, sich** працава́ць, не шкаду́ючы сіл
**ángreifend** *a* 1) наступа́льны 2) знемага́льны
**Ángreifer** *m* -s, - 1) агрэ́сар; напада́льнік 2) *спарт.* напада́ючы
**ángrenzen** *vi* (*an A*) межава́ць, мець грані́цу (*з чым-н.*); прыляга́ць (*да чаго-н.*)
**ángrenzend** *a* суме́жны, сусе́дні
**Ángriff** *m* -(e)s, -e наступле́нне, напа́д, ата́ка; ***etw. in ~ néhmen**** бра́цца за што-н.; ***zum ~ (über)géhen**** *неаддз.* перахо́дзіць у наступле́нне
**Ángriffslust** *f* агрэсі́ўнасць, прыдзі́рлівасць
**Ángriffspunkt** *m* -(e)s, -e *перан.* сла́бае ме́сца
**Angst** *f* -, Ängste (*vor D*) страх (*перад чым-н.*), бо́язь; ***~ háben*** бая́цца; ***j-m ~ éinjagen*** напало́хаць (*каго-н.*); ***die ~ überkám ihn*** на яго́ напа́ў страх; ***in táusend Ängsten schwében*** трапята́ць ад стра́ху; ***schlótternde ~*** жывёльны страх

**Ángsthase** *m* -n, -n трус, баязлíвец

**ängstigen 1.** *vt* пужáць, палóхаць **2. ~, sich** баяцца (*каго-н.*, *чаго-н.*); трывóжыцца (*за каго-н.*)

**ängstlich** *a* палахлíвы, пужлíвы; ***mir wird ~ zu Múte [zumúte]*** мянé бярэ́ страх

**Ängstlichkeit** *f* - палахлíвасць, баязлíвасць

**Ángstschweiß** *m* -es, -e халóдны пот (*ад страху*)

**ángstvoll** *a* напалóханы; спалóханы; трывóжны

**ángucken** *vt разм.* глядзéць, вы́трашчыць вóчы (*на каго-н.*, *на што-н.*)

**ánhaben** *vt* 1) насíць, мець пры сабé, быць апранýтым; ***er hátte éinen Mántel an*** на ім былó палітó 2): ***(j-m etw.) ~ wóllen*** злавáць (*на каго-н. за што-н.*)

**ánhaften** *vi* **1.** прыставáць, прылiпáць, чапля́цца **2.** (*D*) быць уласцíвым (*каму-н., чаму-н*)

**ánhaken** *vt* 1) (*an A*) прычэ́пліваць (*да чаго-н.*) 2) адзначáць птýшачкай

**Ánhalt** *m* -(e)s, - 1) падстáва; нагóда, прычы́на 2) перапы́нак, пярэ́рва 3) прыпы́нак 4) апíрышча

**ánhalten*** **1.** *vt* спыня́ць, затры́мліваць; ***den Átem ~*** затаíць дыхáнне 2) (*zu D*) прывучáць (*да чаго-н.*) **2.** *vi* 1) спыня́цца, затры́млівацца; ***der Bus hält an*** аўтóбус спыня́ецца 2) цягнýцца, дóўжыцца; ***das Wétter wird ~*** надвóр'е пратрымáецца **3. ~, sich** (*an D*) трымáцца (*за што-н.*)

**ánhaltend** *a* працягглы; трывáлы; ***~er Béifall*** праця́глыя апладысмéнты

**Ánhalter: *(per) ~ fáhren*** *разм.* éхаць на спадарóжных машы́нах

**Ánhaltspunkt** *m* -(e)s, -e пункт апóры [арыентáцыі]

**ánhand** [an Hand] *prp* (*G*) або, *von* (*D*) з дапамóгай (*чаго-н.*), на падстáве (*чаго-н.*); ***~ von Unterlágen*** на падстáве дакумéнтаў

**Ánhang** *m* -(e)s, -hänge 1) дадáтак; ***er hat gróßen ~*** у ягó шмат прыхíльнікаў 2) *тк. sg* сям'я́, сваякí

**ánhängen*** **I** *vi* (*D*) 1) трымáцца (*за каго-н., за што-н.*) 2) быць аддáным [вéрным] (*каму-н.*)

**ánhängen II 1.** *vt* 1) вéшаць, падвéшваць; начапля́ць 2) прыбаўля́ць 3) (*j-m*) навя́зваць (*каму-н.*); ***j-m etw. ~*** памылкóва прыпíсваць камý-н. што-н. **2.** *vi* (*D*) 1) быць уласцíвым 2) прытры́млівацца (*чаго-н.*); ***einer Partéi ~*** быць прыхíльнікам якóй-н. пáртыі **3. ~, sich** (*an A*) прыставáць, набівáцца, навя́звацца (*да каго-н.*)

**Ánhänger** *m* -s, - 1) прыхíльнік ***~ éiner Mánnschaf sein*** *спарт.* балéць (*за якую-небудзь каманду і да т.п.*) 2) прычэ́п 3) ярлы́к 4) падвéска

**ánhängig** *a юрыд.* падсýдны; ***einen Prozéss gégen j-n ~ máchen*** завéсці спрáву супрóць кагó-н.

**ánhänglich** *a* аддáны; прыхíльны

**Ánhänglichkeit** *f* - аддáнасць (*чаму-н.*), прыхíльнасць (*да чаго-н.*)

**Ánhängsel** *n* -s, - 1) дадáтак; давáжка 2) *фам.* сям'я́, дзéці 3) бірýлька

**ánhauen*** *vt* на(д)сякáць; пачынáць сéкчы (*лес*)

**ánhäufen** *vt* нагрувáшчваць, звáльваць у кýчу

**Ánhäufung** *f* -, -en нагрувáшчванне; кýча

**ánheften** *vt* прымацóўваць; прыкóлваць; прыфастрыгóўваць; падшывáць (*паперы*)

**ánheimelnd** *a* утýльны, рóдны

**ánheimfallen*** *vi аддз.* (*s*) (*D*) *высок.* даставáцца (*каму-н.*), перайсцí (*да каго-н.*, *чаго-н.*); увайсцí (*у што-н.*)

**ánheimstellen** *vt аддз. высок.* аддáць (*каму-н.*)

**ánheischig**: ***sich ~ máchen*** узя́цца зрабíць (*што-н.*), падрадзíцца рабíць (*што-н.*)

**ánheizen** *vt* запáльваць (*печ*); падаграваць

**ánherrschen** *vt* накрычáць (*на каго-н.*)

**Ánhieb** *m* -(e)s, -e 1) засéчка 2): ***auf (den érsten) ~*** з пéршага рáзу; з хóду

**ánhimmeln** *vt разм.* быць у захаплéнні (*ад каго-н.*)

**Ánhöhe** *f* -, -n узвы́шша; пагóрак; вышыня́

**ánhören** *vt* вы́слухаць; ***sich (D) etw. ~***

праслу́хаць (*што-н.*); ***das hört sich gut [schlecht] an*** гэ́та (не)прые́мна слу́хаць; ***man hört ihm an, dass…*** па яго́ го́ласу чува́ць, што…

**Anilínfarbe** *f* -, -n анілі́навая фа́рба

**animál(isch)** *a* жывёльны

**animíeren** *vt* (*zu D*) 1) натхня́ць (*на што-н.*), заахво́чваць (*да чаго-н.*) 2) рабі́ць рухо́мымі (*фігуры ў мультфільме*)

**Ánis** *m* -es, -e *бат.* бядры́нец, ані́с

**Ánkauf** *m* -(e)s, -käufe набыццё; ку́пля, заку́пка

**ánkaufen 1.** *vt* (за)купля́ць, набыва́ць **2. ~, sich**: ***sich írgendwo ~*** купі́ць (*дзе-н.*) нерухо́масць, пасялі́цца (*дзе-н.*)

**Ánker** *m* -s, - 1) я́кар; ***sich vor ~ légen, vor ~ géhen**** стаць на я́кар; ***den ~ líchten*** зня́цца з я́кара 2) *эл.* ро́тар

**ánkern** *vi* станаві́цца на я́кар, стая́ць на я́кары

**Ánkerplatz** *m* -es, -plätze рэйд

**Ánkertau** *n* -(e)s, -e *марск.* я́карная лі́на

**ánketten** *vt* прымацо́ўваць ланцуго́м

**Ánklage** *f* -, -n) абвінава́чванне; ска́рга; ***gégen j-n (wégen G) ~ erhében**** пада́ць на каго́-н. у суд (*за што-н.*)

**Ánklagebank** *f* -, -bänke ла́ва падсу́дных

**ánklagen** *vt* (*G*) абвінава́чваць (*у чым-н.*); папрака́ць (*за што-н.*); ***j-n vor Gerícht*** ~ пада́ць на каго́-н. у суд

**Ánkläger** *m* -s, - абвінава́ўца; ***öffentlicher*** ~ дзяржа́ўны абвінава́ўца, пракуро́р

**Ánklageschrift** *f* -, -en *юрыд.* абвінава́ўчы акт

**ánklammern 1.** *vt* прымацо́ўваць кля́марам **2. ~, sich** (*an A*) (адча́йна) чапля́цца (*за каго-н., за што-н.*)

**Ánklang** *m* -(e)s, -klänge) 1) падабе́нства, сугу́чча 2) ~ ***fínden**** ***[hában]*** знайсці́ во́дгук, мець падтры́мку

**ánkleben 1.** *vt* наляпля́ць, накле́йваць **2.** *vi* лі́пнуць; прystава́ць

**ánkleiden 1.** *vt* апрана́ць **2.** *vi i* **~, sich** апрана́цца

**Ánkleide|raum** *m* -(e)s, -räume, **~zimmer** *n* -s, - гардэро́б, раздзява́льня; *тэатр.* прыбіра́льня

**ánklingeln** *vi разм.* (*bei D*) тэлефанава́ць (*каму-н.*); званí́ць (*каму-н.*) у дзве́ры

**ánklingen*** *vi* гуча́ць, чу́цца

**ánklopfen 1.** *vi* пасту́каць (*у дзверы*); ***bei j-m*** ~ праве́даць каго́-н.; *перан.* закі́нуць ву́ду, нама́цаць гле́бу **2.** *vt* прыбі́ць, прымацава́ць

**ánknipsen** *vt* уключа́ць, запа́льваць (*уключальнікам*)

**ánknöpfen** *vt* прышпі́льваць

**ánknüpfen 1.** *vt* 1) прывя́зваць 2) завя́зваць (*знаёмства*); распачына́ць (*размову*) **2.** *vi* 1) (*an A*) зыхо́дзіць (*з чаго-н.*); ***an etw. (A) anknüpfend*** зыхо́дзячы з чаго́-н.; у су́вязі (*з чым-н.*) 2) праця́гваць (*што-н.*)

**Ánknüpfungspunkt** *m* -es, -e агу́льны інтарэ́с; кро́пка сутыкне́ння

**ánkommen* 1.** *vi* (s) 1) прыязджа́ць, прыхо́дзіць, прыбыва́ць (*куды-н. – in D*) 2) (*auf A*) зале́жаць (*ад каго-н., чаго-н.*), вызнача́цца (*кім-н., чым-н.*) 3) атрыма́ць ме́сца; ***er ist als Árbeiter ángekommen*** ён уладкава́ўся рабо́чым 4): ***es kommt dárauf an…*** у залежнасці ад абста́він, гэ́та зале́жыць ад… **2.** *vt* апано́ўваць; ***die Furcht kam ihm an*** ім авало́даў страх

**Ánkömmling** *m* -s, -e пры́хадзень, прые́зджы

**ánkoppeln** *vt тэх.* злуча́ць; састыко́ўваць; счэ́пліваць

**ánkreuzen** *vt* пазна́чыць кры́жыкам

**ánkündigen** *vt* абвяшча́ць; аб’яўля́ць; паведамля́ць; прадрака́ць

**Ánkündigung** *f* -, -en паведамле́нне; абвяшчэ́нне

**Ánkunft** *f* - прыбыццё, прые́зд

**Ánkunftszeit** *f* -, -en час прыбыцця́

**ánkurbeln** *vt тэх.* заво́дзіць, *перан.* прыво́дзіць у дзе́янне

**ánlächeln** *vt* усміха́цца (*каму-н.*)

**Ánlage** *f* -, -n 1) заклада́нне (*будынка*) 2) збудава́нне 3) прыла́да, агрэга́т, устано́ўка 4) сквер, зялёныя паса́дкі 5) здо́льнасць; ***er hat ~n zur Mathematík*** у яго́ здо́льнасці да матэма́тыкі

**Ánlagekapital** *n* -s, -e *эк.* аснóўны капітáл
**ánlagern 1.** *vt* адклáдваць, нанóсіць, напластóўваць **2. ~, sich** адклáдвацца, напластóўвацца
**ánlangen** *vi* (s) прыбывáць, прыязджáць; дасягáць, дахóдзіць, дабірáцца; ***wir sind in Minsk ángelangt*** мы прыéхалі ў Мінск **2.** *vt* (да)ты́чыцца; ***was díese Sáche ánbelangt…*** што (да)ты́чыцца гэ́тай спрáвы…
**Ánlass** *m* -es, -lässe прычы́на, зачэ́пка, нагóда; ***aus ~*** з вы́падку; ***etw. zum ~ néhmen**** скарыстáць [вы́карыстаць] вы́падак
**ánlassen*** *vt* 1) *тэх.* завóдзіць (*матор, машыну*) 2) не знімáць (*вопратку і г.д.*)
**Ánlasser** *m* -s, - *тэх.* старцёр
**ánlässlich** *prp* (*G*) з вы́падку, з нагóды
**ánlasten** *vt* (*D*) вінавáціць (*каго-н. у чым-н.*)
**Ánlauf** *m* -(e)s, -läufe разбéг, разгóн; ***éinen ~ néhmen**** разганя́цца
**ánlaufen* 1.** *vi* (s) 1) пачáць дзéйнічаць, завéсціся 2) прыбягáць 3) разбягáцца 4) (*gegen A*) нападáць; натыкáцца (*на што-н.*); ***der néue film läuft an*** ідзé нóвы фільм **2.** *vt*: ***éinen Háfen ~*** захóдзіць у гáвань
**Ánlaufzeit** *f* -, -en перадпускавы́ час (*новага прадпрыемства*)
**Ánlaut** *m* -(e)s, -e *лінгв.* пачаткóвы гук, пачáтак слóва
**ánläuten 1.** *vt* 1) пазванíць 2) *спарт.* даць сігнáл пачáтку спабóрніцтва **2.** *vi* (*bei D*) затэлефанавáць (*каму-н.*)
**ánlegen 1.** *vt* 1) прыклáдваць 2) уклáдваць (*капітал*) 3) надзявáць; апранáць 4) заснóўваць 5) расклáдваць (*агонь*) **2.** *vi* прычáльваць (*да берага*); ***die létzte Hand ~*** закóнчыць
**Ánlegeplatz** *m* -es, -plätze пры́стань
**Ánlegestelle** *f* -, -n *гл.* Ánlegeplatz
**Ánlehen** *n* -s, - пазы́ка
**ánlehnen 1.** *vt* (*an A*) прыхінáць (*да чаго-н.*); прычыня́ць (*дзверы*) **2. ~, sich** прыхінáцца, прытуля́цца (*да чаго-н.*)
**ánlehnungsbedürftig** *a* несамастóйны, якóму патрабýецца падтры́мка
**Ánleihe** *f* -, -n пазы́ка; ***j-m éine ~ gewähren*** даць камý-н. пазы́ку
**ánleimen** *vt* прылéпліваць, прыклéйваць
**ánleiten** *vt* кіравáць (*кім-н., чым-н.*); (*zu D*) прывучáць (*да чаго-н.*)
**Ánleitung** *f* -, -en кіраўнíцтва, указáнне; інструктавáнне
**ánlernen** *vt* вучы́ць (*якой-н. прафесіі*)
**Ánlernzeit** *f* -, -en час навучáння прафéсіі
**ánliefern** *vt* пастаўля́ць, падвóзіць
**Ánlieferung** *f* -, -en пастáўка, падвóз
**ánliegen*** *vi* 1) (*an A*) межавáць 2) аблягáць (*пра вопратку*) 3): ***es liegt mir (sehr) an, dass…*** для мянé (вéльмі) вáжна, каб…
**Ánliegen** *n* -s, - прóсьба; задáча, імкнéнне; ***ich hábe ein ~ an Sie*** у мянé да Вас прóсьба [спрáва]
**ánliegend 1.** *a* 1) сусéдні, сумéжны 2) які́ прылягáе [прыстаé] **2.** *adv* пры гэ́тым
**Ánliegerstaat** *m* -(e)s, -en сусéдняя дзяржáва
**ánlocken** *vt* вáбіць, прыця́гваць
**ánmachen** *vt* 1) прымацóўваць, прылáджваць 2) запáльваць (*святло*) 3) гатавáць, запраўля́ць (*ежу*)
**ánmalen 1.** *vt* размалёўваць **2. ~, sich** *разм.* нафарбавáцца, намáзацца
**Ánmarsch** *m* -es падыхóд, набліжэ́нне; *вайск.* марш-пахóд
**Ánmarschweg** *m* -(e)s, -e дарóга, шлях (*да якого-н. месца*)
**ánmaßen, sich** (*D*) прыпíсваць сабé (*што-н.*); прылáшчваць сабé (*што-н.*)
**ánmaßend** *a* саманадзéйны, самаўпэ́ўнены
**Ánmaßung** *f* -, -en пы́ха, саманадзéйнасць
**ánmelden 1.** *vt* 1) аб’яўля́ць, заяўля́ць 2) дакладáць 3) рэгістравáць **2. ~, sich** 1) прапíсвацца (*на жыхарства*) 2) павéдаміць аб сваíм прыбыццí; ***sich ~ lássen**** загадáць, далажы́ць аб сабé 3): ***sich zu éinem Kurs ~*** запісáцца на курс (*лекцый і г.д.*)
**Ánmeldeformular** *n* -s, -e прапісны́ лістóк
**Ánmeldung** *f* -, -en 1) аб’яўлéнне; паведамлéнне 2) рэгістрáцыя; прапíска (*на жыхарства*) 3) зая́ўка; ***~ zum Wéttbewerb*** зая́ўка на ўдзéл у спабóрніцтвах
**ánmerken** *vt* 1) бáчыць, заўважáць (*што-н.*

*па кім-н.); **man merkt es dir an, dass…*** па табé відáць, што… 2) адзначáць, заўважáць, рэгістры́раваць

**Ánmerkung** *f* -, -en (крыты́чная) заўвáга, натáтак

**ánmessen*** *vt* 1) абмéрваць (*каго-н.*) 2) прыстасóўваць, прывóдзіць у адпавéднасць

**Ánmut** *f* - прывáбнасць, хараствó, грáцыя

**ánmuten** *vt* здавáцца; ***das mútet mich séltsam an*** гэ́та здаéцца мне дзíўным

**ánmutig** *a высок.* прывáбны; згрáбны

**ánnageln** *vt* прыбівáць (*цвікамі*); ***er sitzt wie ángenagelt*** ён сядзíць, нібы́ прыкýты

**ánnähen** *vt* прышывáць, нашывáць

**ánnähern 1.** *vt* набліжáць **2. ~, sich** набліжáцца (*да каго-н., чаго-н.*)

**ánnähernd 1.** *adv* прыблíзна, пры́кладна **2.** *a* прыблíзны, пры́кладны

**Ánnäherung** *f* -, -en набліжэ́нне; зблíжэ́нне

**Ánnäherungsversuch** *m* -e(s), -e спрóба замірэ́ння, спрóба пазнаёміцца

**Ánnahme** *f* -, -n 1) прыём, прыня́цце 2) прыёмны пункт 3) меркавáнне, гіпóтэза, дапушчэ́нне; ***in [únter] der ~*** дапускáючы, мяркýючы; ***die ~ liegt náhe*** мóжна дапусцíць

**Annálen** *pl* хрóнікі, лéтапіс

**ánnehmbar** *a* 1) прымáльны, дапушчáльны 2) верагóдны

**ánnehmen* 1.** *vt* 1) прымáць, браць; ***éinen Áuftrag ~*** прымáць закáз 2) узя́ць на сябé даручэ́нне; ***éinen Rat ~*** паслýхацца парáды 3) браць, усынаўля́ць, удачарáць (*дзіця*) 3) успрымáць 4) дапускáць, лічы́ць, згаджáцца; ***ángenommen, dass…*** дапýсцім, што… **2. ~, sich** (*G*) клапацíцца (*аб кім-н., аб чым-н.*); ***sich éiner Sáche ~*** узя́цца за якýю-н. спрáву

**Ánnehmer** *m* -s, - прыёмшчык

**Ánnehmlichkeit** *f* -, -en 1) *толькі sg* прыéмнасць; прымáльнасць **2.** *pl* зрýчнасць

**annektíeren** *vt* прымусóва далучáць; захóпліваць

**Annexión** *f* -, -en анéксія

**Ánno** [ánno] у… гóдзе; **~ *Dómini…*** …гóда нáшай э́ры; ***Ánno Tóbak*** *разм.* дапатóпны

**Annonce** [a'nɔ̃:sə] *f* -, -n (газéтная) аб'я́ва, рэклáма

**annoncieren** [anɔ̃'si:rən] *vt* аб'яўля́ць, анансавáць

**annulíeren** *vt* касавáць, анулёўваць

**Anóde** *f* -, -n *фіз.* анóд

**ánomal** *a* ненармáльны

**Anomáli¦e** *f* -, -li¦en адхілéнне, выключэ́нне з прáвілаў

**anoný́m** *a* безымéнны, ананíмны; невядóмы

**Anonymität** *f* -, -en безымéннасць, ананíмнасць

**Ánorak** *m* -s, -s спарты́ўная кýртка, штармóўка

**ánordnen** *vt* 1) упарадкóўваць, расстаўля́ць; ***alphabétisch ~*** размяшчáць у алфавíтным парáдку 2) загáдваць; прызначáць

**Ánordnung** *f* -, -en размяшчэ́нне, упарадкавáнне; лад 2) загáд, прызначэ́нне; ***éine ~ tréffen**** аддавáць распараджэ́нне

**ánorganisch** *a* неарганíчны

**ánormal** *a* ненармáльны; *мед.* паталагíчны

**ánpacken** *vt* 1) хапáць, схапíць 2) брáцца (*за што-н.*); ***den Gégner hart ~*** энергíчна атакавáць працíўніка; распачынáць (*што-н.*)

**ánpassen 1.** *vt* 1) мéраць (*сукенку*) 2) прыстасóўваць **2. ~, sich** (*D*) прыстасóўвацца, падлáджвацца

**Ánpassung** *f* -, -en 1) прымéрка 2) прыстасóўванне, падгóнка 3) узгаднéнне, пагаджэ́нне, прывядзéнне ў адпавéднасць

**ánpeilen** *vt марск.*, *ав.* пеленгавáць, засякáць

**ánpfeifen*** *vt* 1) *спарт.* даць свістóк (*да пачатку гульні*) 2) *разм.* напáсці на кагó-н. (*з лаянкай*)

**Ánpfiff** *m* -es, -e *спарт.* свістóк да пачáтку гульнí

**ánpflanzen** *vt* садзíць (*расліны*, *сад*)

**Ánpflanzung** *f* -, -en 1) плантáцыя, пасáдкі 2) пасéлішча, калóнія

**ánpöbeln** *vt* грýба звяртáцца (*да каго-н.*), задзявáць (*каго-н.*)

**Ánprall** *m* -(e)s сутыкнéнне; (мóцны)

штуршóк, удáр

**ánprallen** *vi* (s) (*an, gegen A*) вы́цяцца, удáрыцца (*аб што-н.*), наляцéць (*на што-н., каго-н.*); ***gegeneinánder*** ~ сутыкнýцца адзíн з адны́м

**ánprangern** *vt* ганьбавáць, выкрывáць, клеймавáць

**ánpreisen*** *vt* усхвалéць; рэкламавáць; ***hímmelhoch*** ~ вéльмі [залíшне] узнімáць [узнóсіць, расхвáльваць]

**Ánpreisung** *f* -, -en усхвалéнне, рэклáма

**Ánprobe** *f* -, -n прымéрка

**ánprobieren** *vt* мéраць (*вопратку*)

**ánpumpen** *vt* 1) *разм.* пазычáць 2) адпампóўваць (*ваду*)

**ánraten*** *vt* (*D*) (па)рáіць (*каму-н.*); ***er riet mir das an*** ён мне гэ́та парáіў

**ánrauchen** *vt* запáльваць (*цыгарэту і т.п.*); прыпáльваць; закýрваць, закурады́мліваць

**ánräuchern** *vt* падвэ́ндзіць; закуры́ць, закурóдыміць; ***mit Wéihrauch*** ~ кадзíць лáданам

**ánrechnen** *vt* залíчваць; стáвіць у лік

**Ánrecht** *n* -(e)s, -e 1) прáва; ***ein ~ auf etw. háben*** мець прáва на што-н. 2) *тэатр.* абанемéнт

**Ánrechtskarte** *f* -, -n абанемéнт, абанемéнтная кáртка

**Ánrede** *f* -, -n 1) (*an A*) зварóт (*да каго-н.*) 2) ты́тул; ***éine ~ hálten**** гавары́ць прывітáльную прамóву

**ánreden** *vt* загавóрваць (*з кім-н.*), звяртáцца (*да каго-н.*)

**ánregen** *vt* (*zu D*) 1) падахвóчваць, заахвóчваць 2) узбýджваць; ***éine Fráge*** ~ паднéць пытáнне 3) стымулявáць; ***in ángeregter Stímmung*** у прыўнéзтым настрóі

**ánregend** *a* 1) цікáвы, хвалю́ючы 2) ініцыяты́ўны; ~ ***wírken*** выклікáць, узбýджваць (*што-н.*)

**Ánregung** *f* -, -en 1) сты́мул, штуршóк; ***auf j-s*** ~ па чыёй-н. ініцыяты́ве; ***etw. in ~ bríngen**** праявíць ініцыяты́ву ў чым-н. 2) узбýджанасць

**Ánregungsmittel** *n* -s, - *мед.* узбуджáльны срóдак

**ánreichern** **1.** *vt* узбагачáць, насычáць **2. ~, sich** памнажáцца, павялíчвацца; узбагачáцца

**Ánreicherung** *f* -, -en узбагачэ́нне; насычэ́нне

**ánreihen** **1.** *vt* далучáць, размяшчáць радкóм **2. ~, sich** 1) станавíцца ў шэ́раг 2) (*an A*) далучáцца (*да каго-н., да чаго-н.*)

**Ánreise** *f* -, -n 1) прыéзд, прыбыццё 2) паéздка (*да пэўнага месца*)

**ánreisen** *vi* (s), **ángereist kómmen*** прыязджáць

**ánreißen*** *vt* 1) надрывáць (*канверт, пачак і г.д.*) 2) *тэх.* размячáць

**Ánreiz** *m* -es, -e сты́мул, íмпульс; ***éinen ~ gében**** падахвóчваць, стымулявáць

**ánreizen** *vt* 1) падахвóчваць, стымулявáць 2) (*zu D*) падбухтóрваць (*да чаго-н.*)

**ánrempeln** *vt* *разм.* зачаплéць (*каго-н.*); аблáяць (*каго-н.*)

**Ánrichte** *f* -, -n буфéт, сервáнт

**ánrichten** *vt* 1) гатавáць, запраўлéць, падавáць (*страву*) 2) учынíць, нарабíць (*бяды і г.д.*); ***was hast du da ángerichtet?*** што [чагó] ты там нарабíў? 3) *вайск.* візíраваць, навóдзіць на (*які-н.*) аб’éкт

**Ánrichtetisch** *m* -es, -e буфéт, стол, на які́ падаю́ць стрáвы

**ánrüchig** *a* які́ мáе дрэ́нную рэпутáцыю, адыёзны, сумнíцельны

**Ánrüchigkeit** *f* -, -en дрэ́нная рэпутáцыя, адыёзнасць

**ánrucken** *vi* (s) рэ́зка рýшыць з мéсца

**ánrücken** **1.** *vt* падсóўваць; падвóдзіць **2.** *vi* (s) набліжáцца, насóўвацца; ***der Feind rückt an*** вóраг наступáе [набліжáецца]

**Ánruf** *m* -(e)s, -e 1) (*тэлефонны*) званóк, вы́клік 2) вóкліч

**ánrufen*** *vt* 1) званíць (*па тэлефоне*) 2) аклікáць, зваць; ***j-n um Hílfe*** ~ клíкаць кагó-н. на дапамóгу; ***zum Zéugen*** ~ заклікáць у свéдкі

**ánrühren** *vt* 1) дакранáцца (*да чаго-н.*) 2) кранáць, хвалявáць 3) замéшваць

**ans** = an das

**Ánsage** *f* -, -n 1) абвяшчэ́нне, папярэ́джанне (*пра што-н.*) 2) канферáнс; аб'яўлéнне радыёперадáчы

**ánsagen** *vt* 1) аб'яўля́ць, абвяшчáць 2) падкáзваць; данóсіць

**Ánsager** *m* -s, - ды́ктар, канферансьé, камент́атар

**ánsammeln, sich** збірáцца, канцэнтравáцца

**Ánsammlung** *f* -, -en канцэнтрáцыя; скóпішча, натóўп, кýча

**ánsässig** *a* мясцóвы, асéлы; ***sich ~ máchen*** пасялíцца на мéсца жыхáрства

**Ánsatz** *m* -es, -sätze 1) насáдка, надстáўка; муштýк 2) пачáтак 3) схíльнасць; ***der ~ zur Korpulénz*** схíльнасць да паўнаты́ 4) падрыхтóўка, разгóн; падхóд; спрóба; ***auf den érsten ~*** з сáмага пачáтку, з пéршага захóду; ***der ~ zu éiner Áufgabe*** *матэм.* падыхóд да рашэ́ння задáчы

**Ánsatzpunkt** *m* -es, -e мéсца пачáтку

**ánsaugen** *vt* усмóктваць, засмóктваць

**ánschaffen** *vt* 1) набывáць, даставáць 2) нарыхтóўваць 3): ***sich (D) etw. ~*** абзавéсціся чым-н.

**Ánschaffung** *f* -, -en 1) набы́так; пакýпка 2) нарыхтóўка

**ánschauen** *vt* глядзéць (*на каго-н., на што-н.*); разглядáць (*што-н.*)

**ánschaulich** *a* нагля́дны, навóчны, вóбразны

**Ánschaulichkeit** *f* - нагля́днасць, вóбразнасць

**Ánschauung** *f* -, -en пóгляд; ***es kommt auf die ~ an*** гэ́та залéжыць ад пýнкту пóгляду; нагля́днае ўяўлéнне

**Ánschein** *m* -(e)s вы́гляд; ***állem ~ nach*** па ўсíм відáць, здаéцца; ***sich den ~ gében**** рабíць вы́гляд

**ánscheinend** **1.** *a* уя́ўны **2.** *adv* відáць, здаéцца

**ánscheißen*** *vt груб.* 1) абдуры́ць, ашукáць 2) накрычáць, нараўцí (*на каго-н.*)

**ánschicken, sich** збірáцца, мéрыцца (*што-н. рабіць*); ***er schíckte sich an zu géhen*** ён збірáўся ісцí

**ánschielen** *vt* касавýрыцца (*на каго-н.*)

**ánschimmeln** *vi* (s) пакрывáцца цвíллю

**ánschirren** *vt* запрагáць

**Ánschlag** *m* -(e)s, -schläge 1) штуршóк, удáр (*gegen A – аб што-н.*) 2) аб'я́ва, афíша 3) замáх; план, задýма; ***éinen ~ auf j-n máchen*** рабíць замáх на кагó-н. 4) каштары́с; ацэ́нка; ***in ~ bríngen**** унéсці ў каштары́с

**ánschlagen*** **1.** *vt* 1) прыбівáць, прымацóўваць 2) яб'яўля́ць 3) біць (*у звон*) **2.** *vi* (*h, s*) 1) (*an A*) вы́цяцца (*аб што-н.*) 2) зазванíць 3) забрахáць 4) запéць (*пра птушак*) 5) падзéйнічаць (*пра лякарства*); паўплывáць; ***die Wórte schlágen bei ihm nicht an*** да ягó слóвы не дахóдзяць

**ánschlägig** *a дыял.* 1) вынахóдлівы 2) кары́сны

**ánschleichen*, sich** падпаўзáць, падбірáцца крадкóм

**ánschließen*** **1.** *vt* 1) далучáць, падключáць 2) дадавáць **2.** *vi* (*s*) 1) зачыня́цца (*пра дзверы*) 2) сядзéць у аблíпку (*пра вопратку*); шчы́льна прылягáць 3) (*an A*) быць звя́заным (*з чым-н.*) **3. ~, sich** (*D, an A*) далучáцца (*да каго-н., да чаго-н.*); ***darf ich mich Ihnen ~ ?*** мóжна да Вас далучы́цца?

**ánschließend** *adv* услéд за…, пасля́; ***~ an die Sítzung*** адрáзу пасля́ пасяджэ́ння

**Ánschluss** *m* -es, -schlüsse 1) далучэ́нне, злучэ́нне 2) знаёмства 3) падключэ́нне, сýвязь 4) *тэх.* кантáкт; ***im ~ an (A)*** услéд за…, пасля́ заканчэ́ння

**Ánschlussgleis** *n* -es, -e *чыг.* адгалінавáнне дарóгі

**ánschmiegen, sich** (*an A*) 1) прыціскáцца, тулíцца (*да чаго-н.*), лáшчыцца, тулíцца (*да каго-н.*) 2) аблягáць пóстаць (*пра вопратку*)

**ánschmiegsam** *a* 1) гнýткі, які́ дóбра прыстасóўваецца 2) які́ дóбра аблягáе пóстаць (*пра вопратку*)

**ánschmieren** **1.** *vt* 1) запэ́цкаць, замáзаць 2) *разм.* абдуры́ць **2. ~, sich** 1) запэ́цкацца 2) (*bei D*) падлíзвацца (*да каго-н.*)

**ánschnallen** *vt* прышпíльваць (*спражкай*); надзявáць (*лыжы і г.д.*)

**ánschnauzen** *vt* накрычáць (*на каго-н.*)
**ánschneiden*** *vt* 1) надразáць 2) *тэх.* рабíць надрэ́зку 3) зачапíць (*тэму*); ***éine Fráge ~*** падымáць пытáнне
**Ánschnitt** *m* -(e)s, -e 1) разрэ́з, надрэ́з 2) зачы́н, пачáтак дзéяння 3) пéршы адрэ́заны кавáлак хлéба
**Anschóvis** [-v-] *f* -, - *кул.* хамсá з вóстрай прыпрáвай
**ánschrauben** *vt* прышрубóўваць, прыкру́чваць
**ánschreiben*** *vt* 1) запíсваць (*на дошцы*) 2) рэгістравáць 3) пíсáць (*каму-н.*)
**ánschreien*** *vt* 1) прыкры́кнуць, крычáць (*на каго-н.*) 2) клíкаць; ***um Hílfe ~*** прасíць ратýнку
**Ánschrift** *f* -, -en 1) áдрас, 2) нáдпіс, загалóвак
**ánschuldigen** *vt* (*G*) абвінавáчваць (*у чым-н.*)
**Ánschuldigung** *f* -, -en абвінавáчванне
**ánschüren** *vt* 1) раздзьмувáць; шуравáць 2) *перан.* распáльваць (*нянавісць і г.д.*)
**ánschwärzen** *vt* 1) чарнíць 2) *разм.* абгавóрваць, узвóдзіць паклёп (*на каго-н.*)
**ánschwellen*** **1.** *vt* дуць, надзімáць, напаўня́ць (*ветразь*) **2.** *vi* (s) 1) набракáць; прыбывáць (*пра ваду*) 2) апухáць, ацякáць 3) узмацня́цца (*пра гукі*)
**ánschwemmen** *vt* нанóсіць, прыбівáць (*вадой пясок і г.д.*)
**Ánschwemmung** *f* - нанóс, наплы́ў
**ánschwindeln** *vt* падмáнваць, абду́рваць
**ánsehen*** *vt* 1) (па)глядзéць (*на каго-н., на што-н.*); разгля́дваць (*каго-н., што-н.*); ***j-n schief ~*** кóса глядзéць на кагó-н.; ***sich (D) etw. ~*** разглядáць, глядзéць, аглядáць што-н.; ***ich hábe mir díesen film ángesehen*** я паглядзéў гэ́ты фільм 2) (*für, als A*) прымáць, лічы́ць (*за каго-н., што-н.*); ***sich für j-n ~ lássen**** выдавáць сябé за кагó-н. 3): ***etw. mit ~*** быць гледачóм [свéдкам] чагó-н.; ***ich will es nicht länger mit ~*** я не хачý гэ́тага больш цярпéць 4) (*D*) бáчыць, заўважáць (*па кім-н.*); ***man sieht es dir an*** па табé гэ́та бáчна
**Ánsehen** *n* -s 1) вы́гляд, знéшнасць; ***dem ~ nach*** на вы́гляд 2) павáга, пашáна; ***óhne ~ der Persón*** не зважáючы на асóбу; ***im hóhen ~ stéhen**** мець вялíкі аўтарытэ́т
**ánsehnlich** *a* 1) знáчны, істóтны 2) знáчны, вáжны; павáжны
**ánsetzen** **1.** *vt* 1) стáвіць, падстаўля́ць; ***das Glas ~*** паднóсіць шкля́нку да рóта 2) прымацóўваць; ***Knöpfe ~*** прышывáць гу́зікі 3) вызначáць, устанáўліваць, назначáць 4) пачынáць, брáцца (*за што-н.*) 5): ***fleisch ~*** таўсцéць, паўнéць **2.** *vi* 1) пачынáць, спрабавáць (*што-н.*) 2) асядáць, адкладáцца 3) *бат.* прыня́цца; распусцíцца 4) *муз.*: ***ríchtig ~*** браць прáвільны тон 5) павялíчвацца, расцí; ***Sprösslinge ~*** пускáць пáрасткі 6): ***etw. auf (A) ~*** дамагáцца; дабівáцца чагó-н.; ***er setzt es daráuf an*** ён тагó і дамагáецца
**Ánsicht** *f* -, -en (*über A*) 1) пóгляд, перакананне (*наконт чаго-н.*); ***méiner ~ nach*** на маю́ ду́мку; 2) краявíд
**ánsichtig** *a*: *высок.* ***~ wérden (G)*** убáчыць, зглéдзець (*каго-н., што-н.*)
**Ánsichtskarte** *f* -, -n паштóўка з краявíдам
**ánsiedeln** **1.** *vt* засяля́ць **2.** *vi і* **~, sich** пасяля́цца
**Ánsiedler** *m* -s, - пасялéнец; асáднік; каланíст
**Ánsiedlung** *f* -, -en 1) пасéлішча; пасялéнне 2) каланізáцыя; засялéнне
**Ánsinnen** *n* -s, - (надмéрнае) патрабавáнне; дзёрзкасць
**Ánsitz** *m* -es, -e 1) *паляўн.* засáда 2) мéсца жыхáрства
**ansónsten** *adv* 1) зрэ́шты, а так 2) інáчай
**ánspannen** **1.** *vt* 1) запрагáць 2) нацягваць; напру́жваць **2. ~, sich** 1) нацягвацца 2) напру́жвацца
**Ánspannung** *f* -, -en 1) нацяг; напру́га, нагру́зка 2) запрэ́жка (*коней*)
**ánspielen** *vi* 1) (*auf A*) намякáць (*на што-н.*) 2) пачынáць гульню́
**Ánspielung** *f* -, -en намёк
**Ánsporn** *m* -(e)s сты́мул; заахвóчванне; ***j-m éinen ~ (zu D) gében**** 1) заахвóч-

ваць (*каго-н. да чаго-н.*) 2) даць (*каму-н.*) штуршо́к (*да чаго-н.*)

**ánspornen** *vt* 1) прышпо́рваць; падганя́ць 2) заахво́чваць, стымулява́ць

**Ánsprache** *f* -, -n звaро́т, прамо́ва; выступле́нне

**ánsprechen*** **1.** *vt* 1) звярта́цца (*да каго-н.*), пачына́ць размо́ву, загаво́рваць (*з кім-н.*) 2) (*um A*) прасі́ць (*чаго-н.*) 3) падаба́цца; ***das spricht ihn nicht an*** гэ́та яму́ не падаба́ецца **2.** *vi:* ***bei j-m*** **~** наве́дваць каго́-н.; ***bei éinem Mädchen*** **~** рабі́ць прапано́ву дзяўчы́не

**ánsprechend** *a* прые́мны, прыва́бны; ***~es Äußeres*** прыва́бны вы́гляд

**ánsprengen**: ***ángesprengt kómmen**** прымча́цца [прыскака́ць] (*на кані*)

**ánspringen*** **1.** *vi* (s) 1) падбяга́ць падско́кваючы, падско́кваць 2) запрацава́ць, пача́ць дзе́йнічаць (*пра матор*); **~** ***lássen**** уключы́ць, запусці́ць, заве́сці (*матор*) **2.** *vt* кі́нуцца, наско́чыць (*на каго-н.*)

**Ánspruch** *m* -(e)s, -sprüche (*auf A*) прэтэ́нзія (*на што-н.*); ***in ~ néhmen**** займа́ць (*час*); **~** ***erhében**** прэтэндава́ць (*на што-н.*)

**ánspruchslos** *a* непатрабава́льны, неперабо́рлівы, сці́плы

**Ánspruchslosigkeit** *f* -, -en непатрабава́льнасць, сці́пласць, неперабо́рлівасць

**ánspruchsvoll** *a* патрабава́льны, прэтэнцыёзны

**ánstacheln** *vt* (*zu D*) падбухто́рваць, падбіва́ць (*на што-н.*); заахво́чваць (*да чаго-н.*)

**Ánstalt** *f* -, -en 1) устано́ва, інстыту́т 2) (псіхіятры́чная) ляка́рня; ***~en máchen [tréffen*]*** рабі́ць неабхо́дныя за́хады, рыхтава́цца; ***kéine ~en máchen*** не хаце́ць пачына́ць

**Ánstand** *m* -(e)s 1) прысто́йнасць, до́брыя паво́дзіны 2) вага́нні; затры́мка

**ánständig** *a* 1) прысто́йны, нале́жны 2) *разм.* зна́чны, нema̕лы; ***ein ~ es Áuskommen*** неблагі́ [до́бры] заро́бак

**Ánständigkeit** *f* - прысто́йнасць

**ánstandshalber** *adv* дзе́ля прылі́ку

**ánstandslos** *adv* без вага́нняў, адра́зу ж, без пярэ́чанняў

**ánstarren** *vt* ува́жліва глядзе́ць, утаро́піцца (*на каго-н.*)

**anstátt** **1.** *prp* (*G*) заме́ст, узаме́н за… **2.** *cj* заме́ст таго́, каб…; ***anstátt dass*** заме́ст таго́, каб; не каб

**ánstäuben** *vt біял.* апыля́ць

**ánstauen** **1.** *vt* запру́джваць; зага́чваць **2. ~, sich** збіра́цца (*аб вадзе*)

**ánstechen*** *vt* 1) нако́лваць, начапля́ць 2) падбухто́рваць, задзява́ць, спакуша́ць 3) *перан.:* ***ángestochen kómmen**** быць тут як тут; ***ángestochen sein*** *разм.* быць нападпі́тку 4) пачына́ць бо́чку (*піва, віна*) 5) пуска́ць у ход [эксплуата́цыю]

**ánstecken** **1.** *vt* 1) (*an A*) нако́лваць (*на што-н.*); прыко́лваць (*да чаго-н.*) 2) надзява́ць, насо́ўваць (*на што-н.*) 3) запа́льваць; падпа́льваць; ***éine Zigarétte*** **~** запалі́ць цыгарэ́ту 4) (*mit D*) заража́ць (*чым-н.*) **2. ~, sich** (*bei D*) заразі́цца (*ад каго-н.*)

**ánsteckend** *a* зара́зны, зара́злівы, інфекцы́йны

**Ánsteckung** *f* -, -en заражэ́нне, інфе́кцыя

**Ánsteckungsgefahr** *f* - небяспе́ка заразі́цца (*чым-н.*)

**ánstehen*** *vi* 1) (*nach D*) стая́ць у чарзе́ (*па што-н.*) 2) (*an D*) быць паблі́зу (*чаго-н.*) 3) (*j-m*) быць да тва́ру, падыхо́дзіць (*каму-н.*); цярпе́ць, чака́ць (*за чым-н.*); ***die Sáche kann noch éinige Zeit*** **~** з гэ́тым мо́жна яшчэ́ кры́ху пачака́ць

**ánsteigen*** *vi* (s) 1) падыма́цца; бо́льшаць, павыша́цца (*тс. перан.*) 2) *ав.* узлята́ць 3) ***ángestiegen kómmen**** наблiжа́цца вялі́кімі кро́камі

**anstélle** [an Stélle] *prp* (*G*) заме́ст (*каго-н., чаго-н.*), за (*каго-н., што-н.*)

**ánstellen** **1.** *vt* 1) прыстаўля́ць, прыхіна́ць 2) найма́ць, залі́чваць (*на працу*) 3) учыні́ць, нарабі́ць (*чаго-н.*); ***da hast du was Schönes ángestellt!*** але́ ж ты і

нарабі́ў! **2. ~, sich** 1) *разм.* паво́дзіць сябе́, трыма́цца; прыкі́двацца 2) (*nach D*) займа́ць чаргу́

**ánstellig** *a* 1) спры́тны, уме́лы, здо́льны 2) паслу́жлівы

**Ánstellung** *f* -, -en 1) залічэ́нне на пра́цу 2) паса́да, ме́сца (*працы*); ***óhne ~ sein*** не мець пра́цы (*пра служачых*)

**ánstemmen 1.** *vt* упіра́ць, падпіра́ць **2. ~, sich** (*gegen A*) 1) упіра́цца (*у што-н.*) 2) супрацiўля́цца (*чаму-н.*), упа́рціцца

**Ánstich** *m* -(e)s, -e 1) чарвято́чына (*у пладах*) 2) пачы́н

**Ánstieg** *m* -(e)s, -e 1) пад'ём, даро́га пад гару́ 2) узыхо́джанне 3) павелічэ́нне

**ánstiften** *vt* 1) (*zu D*) падбухто́рваць (*да чаго-н.*) 2) нарабі́ць, учыні́ць, распача́ць

**Ánstifter** *m* -s, - падбухто́ршчык, падпа́льшчык

**ánstimmen** *vt* зацягваць, заво́дзіць (*песню*); ***den Ton ~*** задава́ць тон

**Ánstoß** *m* -es, -stöße 1) штуршо́к; сты́мул 2) *спарт.* пача́так гульні́ (*у футболе*); ***den ~ zu etw. (D) gében**** стаць ініцыя́тарам (*чаго-н.*); ***~ errégen [gében, verúrsachen]*** выкліка́ць абурэ́нне [рэ́зкую нязго́ду] ◊ ***der Stein des ~ es*** ка́мень сутыкне́ння

**ánstoßen* 1.** *vt* 1) штурха́ць; падсо́ўваць, прысо́ўваць; ***die Gläser [mit den Glässern] ~*** чо́кацца 2) штурхану́ць, зачапі́ць (*незнарок*) 3) надстаўля́ць, надрабля́ць **2.** *vi* 1) (*h, s*) (*an A*) сту́кацца (*аб што-н.*); наляце́ць (*на што-н.*) 2) (*h*) (*an A*) межава́ць (*да чаго-н.*) 3) заіка́цца; ***mit der Zúnge ~*** шапяля́віць

**ánstoßend** *a* суме́жны, сусе́дні; ***das ~e Zímmer*** сусе́дні пако́й

**ánstößig** *a* непрысто́йны, амара́льны; ва́рты асуджэ́ння

**Ánstößigkeit** *f* -, -en амара́льнасць; непрысто́йнасць

**ánstreben 1.** *vt* імкну́цца (*да чаго-н.*), дамага́цца (*чаго-н.*) **2.** *vi* (*gegen A*) праці́віцца (*чаму-н.*); ***hoch ~*** высо́ка ме́рыцца [нацэ́львацца]

**ánstrebenswert** *a* прыва́бны (*пра мэту*)

**ánstreichen* 1.** *vt* 1) афарбо́ўваць, фарбава́ць 2) адзнача́ць, падкрэ́сліваць **2. ~, sich** *разм.* фарбава́цца, ма́зацца

**Ánstreicher** *m* -s, - маля́р; *пагардл.* пэ́цкаль

**ánstreifen** *vi* (*an A*) задзява́ць (*за што-н.*), кры́ху крана́цца (*чаго-н.*)

**ánstrengen 1.** *vt* напру́жваць, натамля́ць; ***éine Kláge [éinen Prozéss] ~ (gegen A)*** *юрыд.* падава́ць ска́ргу (*на каго-н.*), узбуджа́ць спра́ву су́праць (*каго-н.*) **2. ~, sich** намага́цца, рабі́ць намага́нні

**ánstrengend** *a* напру́жаны

**Ánstrengung** *f* -, -en напру́жанне, намага́нне

**Ánstrich** *m* -(e)s, -e 1) афарбо́ўка; фа́рба 2) вы́гляд; адце́нне; ***éiner Sáche éinen günstigen ~ gében**** прадста́віць спра́ву ў прысто́йным све́це

**ánstricken** *vt* надвя́зваць (*панчохі і да т.п.*)

**Ánsturm** *m* -(e)s, -stürme ата́ка, шту́рм; на́ціск

**ánstürmen 1.** *vt* напада́ць, атакава́ць **2.** *vi* імча́цца, не́сціся ві́храм

**ánsuchen** *vi* (*bei D um A*) прасі́ць (*каго-н. аб чым-н.*)

**Ánsuchen** *n* -s, - про́сьба, прашэ́нне

**Antagonísmus** *m* -, -men антаганíзм, varо́жасць

**antagonístisch** *a* антаганісты́чны,варо́жы

**Antárktis** *f* - Анта́рктыка

**antárktisch** *a* антаркты́чны

**ántasten** *vt* 1) датыка́цца, дакрана́цца (*да чаго-н.*); абма́цваць 2) *перан.* закрана́ць (*гонар і г.д.*) 3) *перан.* паруша́ць ◊ ***éinen gúten Námen ~*** запля́міць до́брае імя́

**Ánteil** *m* -(e)s, -e 1) ча́стка, до́ля, пай; удзе́л 2) спачува́нне; ***~ néhmen* (an D)*** выяўля́ць ціка́васць (*да чаго-н.*); браць удзе́л (*у чым-н.*)

**Ánteilhaber** *m* -s, - 1) па́йшчык, акцыяне́р 2) удзе́льнік

**ánteilig** *a* па до́лях, згодна з пая́мі

**ánteilmäßig** *a* адпаве́дны до́лі ўдзе́лу

**Ánteilnahme** *f* - 1) (*сумесны*) удзе́л 2) спачува́нне, сімпа́тыя; ***~ an j-s Únglück zéigen*** вы́казаць спачува́нне ў чы́м-н.

няшча́сці

**Anténne** *f* -, -n 1) антэ́на 2) *заал.* ву́сік, шчу́пальца

**Anthologíe** *f* -, -í¦en анталóгія, вы́бар твóраў

**Antrazít** *m* -s антрацы́т

**Anthropologíe** *f* - антрапалóгія

**antiautoritär** *a* які́ адмаўля́е аўтарытэ́ты, антыаўтарыта́рны

**Antibabypille** [-ˈbe:bi-] *f* -, -n супрацьзача́тковая пілю́лька

**Antibiótikum** *n* -s, -ka антыбіёты́к

**Antifaschísmus** *m* - антыфашы́зм

**Antifaschíst** *m* -en, -en антыфашы́ст

**antifaschístisch** *a* антыфашы́сцкі

**antiimperialístisch** *a* антыімперыялі́сцкі

**antík** *a* анты́чны, старажы́тны

**Antíke** *f* - анты́чнасць, анты́чная культу́ра

**Antikommunísmus** *m* - антыкамуні́зм

**antikommunístisch** *a* антыкамуністы́чны

**antimilitarístisch** *a* антымілітары́сцкі

**Antilópe** *f* -, -n *заал.* антылóпа

**Antimón** *n* -s *хім.* сурма́

**Antiquár** *m* -s, -e букіні́ст

**Antiquariát** *n* -s, -e букіністы́чная кніга́рня

**antiquárisch** *a* 1) антыква́рны; рэ́дкі 2) букіністы́чны; ***ein Buch ~ káufen*** купі́ць кні́гу ў букіні́ста

**Antiquität** *f* -, -en 1) (анты́чная) рэлі́квія 2) прадме́т антыква́ру 3) антыкварыя́т, магазі́н антыква́рных рэ́чаў

**Antiquitätenhandel** *m* -s антыква́рны га́ндаль

**Antiquitätenladen** *m* -s -läden антыква́рны магазі́н

**Antisemít** *m* -en -en антысемі́т, юдафóб

**antisemítisch** *a* антысемі́цкі, юдафóбскі

**Antisemitísmus** *m* антысеміты́зм, юдафóбства

**antiséptisch** *a мед.* абеззара́жвальны, антысепты́чны; дэзінфекцы́йны

**Antistátiktuch** *m* -(e)s, -tücher антыстаты́чная сурвэ́тка для выдале́ння пы́лу

**antistátisch** *a тэкст.* антыстаты́чны

**Antithése** *f* -, -n супрацьле́глае сцвярджэ́нне; *спец.* антытэ́за

**antithétisch** *a* супрацьле́глы, супярэ́члівы

**Antizipatión** *f* - антыцыпа́цыя, прадуга́дванне, апярэ́джванне

**Ántlitz** *n* -es, -e *паэт.* аблі́чча, твар

**Ántrag** *m* -(e)s, -träge 1) прапанóва, зая́ва; дамага́нне; ***éinen ~ stéllen [éinbringen*]*** унóсіць прапанóву 2) хада́йніцтва

**ántragen*** **1.** *vt* 1) прапанóўваць 2) прынóсіць, паднóсіць 3) нанóсіць (*раствор*) **2.** *vi* хада́йнічаць **3. ~, sich** прапанóўваць свае́ паслу́гі; ***die Gelégenheit trägt sich nur an*** мне трапля́ецца вы́падак

**ántragsgemäß** *a* зго́дна з прапанóвай

**Ántragsteller** *m* -s, - зая́ўнік, про́сьбіт

**ántreffen*** *vt* 1) заспява́ць, знахóдзіць; ***er ist níemals ánzutreffen*** яго́ ніко́лі не заста́неш (до́ма) 2) сустрака́ць

**ántreiben*** **1.** *vt* 1) падганя́ць, прыспе́шваць 2) прыво́дзіць у рух (*машыну*) 3) заахво́чваць; застаўля́ць; прымуша́ць, падахво́чваць; ***die Not treibt ihn dazú an*** патрэ́ба застаўля́е яго́ пайсці́ на гэ́та 4) прыганя́ць, прыно́сіць цячэ́ннем **2.** *vi* (s) 1) (*часцей* ***ángetrieben kómmen****) прыплыва́ць 2) пуска́ць расткí

**Ántreiber** *m* -s, - 1) нагля́дчык; пагóншчык 2) падбухтóршчык 3) *тэх.* кулачóк

**ántreten*** **1.** *vt* пачына́ць, распачына́ць; ***éine Réise ~*** вы́правіцца ў падарóжжа; ***ein Amt ~*** прыступі́ць да выкана́ння службóвых абавя́зкаў; ***den Úrlaub ~*** ісці́ ў адпачы́нак [вóдпуск] **2.** *vi* (s) 1) (*zu D*) падрыхтава́цца (*да чаго-н.*) 2) ***~!*** (*каманда*) станаві́ся! 3) (*gegen A*) *спарт.* вы́ступіць (*супраць каго-н.*) 4) пачына́ць рух; ***mit dem línken Fuß ~*** пачына́ць з ле́вай нагі́

**Ántrieb** *m* -(e)s, -e 1) падахвóчванне, сты́мул; ***aus éigenem ~*** добраахвóтна, па ўла́снаму пачы́ну 2) *тэх.* пры́вад, перада́ча, ця́га

**Ántritt** *m* -(e)s, -e 1) пача́так; надыхóд 2) уступле́нне (*на пасаду*)

**ántun*** *vt* 1) надзява́ць; апрана́ць 2) учыня́ць, рабі́ць; ***j-m etw. ~*** рабі́ць каму́-н. лі́ха; ***j-m Éhre ~*** ака́зваць гóнар каму́-н.

**Ántwort** *f* -, -en адка́з: ***Réde und ~ stéhen**** трыма́ць адка́з

**ántworten** *vi* адкáзваць; ***daráuf lässt sich nichts*** ~ на гэ́та нямá чагó адказáць

**ánvertrauen** *аддз. і неаддз.* **1.** *vt* (*D*) давярáць (*каму-н.*) **2. ~, sich** давéрыцца (*каму-н.*)

**Ánverwandte** *sub m, f* -n, -n рóдзіч, сваяк

**Ánwachs** *m* -es 1) прырóст, павелічэ́нне 2) нарóст

**ánwachsen*** *vi* (s) 1) (*an A*) прырастáць (*да чаго-н.*) 2) узрастáць, павялíчвацца

**Ánwalt** *m* -(e)s, -wälte 1) адвакáт, павéраны 2) пракурóр 3) упаўнавáжаны

**ánwandeln** *vi* (s) *разм.* павóльна ісцí, набліжáцца

**Ánwand(e)lung** *f* -, -en 1) пры́ступ, прыпáдак 2) дзівáцтва

**ánwärmen** *vt* падагравáць; абагравáць

**Ánwärter** *m* -s, - (*auf A, zu D*) кандыдáт, прэтэндэ́нт (*на пасаду, на што-н.*)

**Ánwartschaft** *f* -, -en 1) кандыдатýра 2) прáва 3) кандыдáцкі тэ́рмін

**ánweisen*** *vt* 1) укáзваць, пакáзваць; настаўляць, інструкцíраваць 2) загáдваць, даручáць 3) выдзяляць, адвóдзіць (*каму-н. што-н.*) 4) перавóдзіць, рабíць (паштовы) перавóд; адкрывáць крэды́т, асігнавáць 5): ***ich bin daráuf ángewiesen…*** я вы́мушаны…; ***sie sind aufeinánder ángewiesen*** яны́ залéжаць адзíн ад аднагó

**Ánweiser** *m* -s, - распарáдчык; інструктар

**Ánweisung** *f* -, -en 1) указáнне, настаўлéнне; інстрýкцыя 2) перавóд; óрдэр 3) выдзялéнне (*чаго-н.*) 4) *камп.* камáнда (*мова кіравання заданнем*)

**ánwendbar** *a* прыдáтны (*для ужывання*)

**ánwenden*** *vt* ужывáць, прыкладáць; ***étwas auf sich*** ~ прымáць на свой рахýнак

**Ánwendung** *f* -, -en ужывáнне, ужы́так; выкарыстáнне; ***únter ~ (von D)*** з прымянéннем (*чаго-н.*)

**ánwerben*** **1.** *vt* набірáць, наймáць, прыцягваць **2.** *vi* (*um A*) дамагáцца (*чаго-н.*)

**Ánwerbung** *f* -, -en вярбóўка

**Ánwesen** *n* -s, - сядзíба, зямéльны ўчáстак з буды́нкамі

**ánwesend** *a* прысýтны; ~ ***sein*** прысýтнічаць

**Ánwesende** *sub m, f* -n, -n прысýтны, -ая

**Ánwesenheit** *f* - 1) прысýтнасць 2) знахóджанне 3) наяўнасць

**Ánwesenheitsliste** *f* -, -n спіс прысýтных

**ánwidern** *vt* выклікáць агíду; ***das wídert mich an*** гэ́та мне агíдна [пры́кра]

**Ánwohner** *m* -s, - сусéд, жыхáр на ўзмéжжы (*чаго-н.*)

**Ánwuchs** *m* -es, -wüchse 1) прырóст, павелічэ́нне 2) малады́я пáрасткі 3) кідáнне; *спарт.* пéршы кідóк (*у пачатку гульні*); кідóк з сярэ́дзіны; ***den ~ háben*** пачынáць гульню́ (*у мяч*)

**Ánwurf** *m* -(e)s, -würfe 1) *буд.* тынкóўка; тынк 2) напáдкі; хлусня, паклёп 3) нарóст, пухлíна 4) урастáнне

**ánwurzeln** *vi* (s) пускáць каранí, узяцца (*расці*) ◊ ***wie ángewurzelt stéhen**** стаяць як укóпаны

**Ánzahl** *f* -, -en (пэ́ўная) кóлькасць; ***éine gróße*** ~ мнóства, бéзліч

**ánzahlen** *vt* плацíць задáтак, аплáчваць пéршы ўзнос

**Ánzahlung** *f* -, -en задáтак; пéршы ўзнос

**ánzapfen** *vt* 1) рабíць адвóд; ***ein Kábel*** ~ падключы́цца да кáбеля (*з мэтай падслухоўвання і да т.п.*) 2) адкаркóўваць (*бочку*)

**Ánzeichen** *n* -s, - 1) прыкмéта; знак; праява; сімптóм 2) *юрыд.* дóказ

**ánzeichnen** *vt* 1) адзначáць 2) малявáць (*на дошцы*)

**Ánzeige** *f* -, -n 1) аб’ява, абвяшчэ́нне 2) данóс

**ánzeigen** *vt* 1) апавяшчáць; аб’яўляць (*у газеце і г.д.*); ***den Empfáng*** ~ пацвéрдзіць атрымáнне 2) данóсіць 3) пакáзваць (*пра прыборы*) 4) прадказваць; ***das zeigt nichts Gútes an*** гэ́та не абяцáе нíчóга дóбрага 5): ***es für ángezeigt hálten**** лічы́ць што-н. дарэ́чным [слýшным]

**Ánzeiger** *m* -s, - 1) паказáльнік, íндэкс 2) інфармацы́йны бюлетэ́нь 3) індыкáтар 4) аб’яўляльнік 5) данóсчык

**ánzetteln** *vt* задýмваць, распачынáць, учыняць; ***éinen Krieg*** ~ развязваць вайнý

**ánziehen*** **1.** *vt* 1) наця́гваць; прыця́гваць; зацягваць; ***die Zügel ~*** нацягну́ць ле́йцы 2) *тэх.* падкруці́ць (*шрубу*); заці́снуць 3) апрана́ць, адзява́ць; ***die Stíefel ~*** абува́ць бо́ты 4) прыця́гваць, прыва́бліваць 5) прыво́дзіць (*што-н.*), спасыла́цца (*на што-н.*) **2.** *vi* 1) (s) *разм.* набліжа́цца; ***das Gewítter zieht an*** набліжа́ецца навальні́ца 2) (*h*) *шахм.* рабі́ць ход пе́ршым **3. ~, sich** апрана́цца

**ánziehend** *a* прыва́бны, прыцяга́льны

**Ánziehung** *f* -, -en 1) прыцягне́нне 2) прыва́бнасць

**Ánziehungskraft** *f* -, -kräfte сíла прыцягне́ння

**Ánzug** *m* -(e)s, -züge 1) гарніту́р, касцю́м 2) набліжэ́нне, прыбліжэ́нне; ***ein Gewítter ist im ~*** набліжа́ецца навальні́ца

**ánzüglich** *a* з'е́длівы; двухсэнсо́ўны

**Ánzüglichkeit** *f* -, -en з'е́длівасць, (зняважлівы) намёк; двухсэнсо́ўнасць

**Ánzugstoff** *m* -(e)s, -e ткані́на на гарніту́р [касцю́м]

**ánzünden** *vt* 1) запа́льваць (*печ*), закуры́ць (*цыгарэту*) 2) захапля́ць, прыця́гваць

**Ánzünder** *m* -s, - 1) падпа́льшчык 2) запальні́чка, запа́льнік

**ánzweifeln** *vt* сумнява́цца (*у чым-н., у кім-н.*)

**Aórta** *f* -, -ten *анат.* ао́рта

**apárt** *a* **1.** 1) асо́бны 2) прыва́бны, вы́танчаны; арыгіна́льны **2.** *adv* асо́бна

**Apártheid** [-hɛit] *f* - апартэі́д, ра́савая сегрэга́цыя

**Apathí¦e** *f* -, -thí¦en апа́тыя, абыя́кавасць

**apáthisch** *a* апаты́чны

**Aperitíf** *m* -s, -s аперыты́ў, стало́вае віно́

**Ápfel** *m* -s, Äpfel я́блык ◊ ***in den sáuren ~ béißen**** *пераан.* скары́цца пры́край неабхо́днасці; ***der ~ der Zwíetracht*** я́блык разла́ду

**Ápfelbaum** *m* -(e)s, -bäume я́блыня

**Ápfelmus** *n* -ses я́блычнае пюрэ́

**Ápfelschimmel** *m* -s, - шэ́ры конь у я́блыкі

**Apfelsíne** *f* -, -n апельсі́н

**Ápfelstrudel** *m* -s, - я́блычны піро́г

**Ápfelwein** *m* -(e)s, - я́блычны сідр

**Aphorísmus** *m* -, -men афары́зм

**aphorístisch** *a* афарысты́чны, тра́пны

**apodíktisch** *a* бясспрэ́чны, неабве́ржаны, безапеляцы́йны

**Apokalýpse** *f* -, -n *рэл.* апака́ліпсіс, кане́ц све́ту (*адна з кніг Новага Запавету аб канчыне сусвету*)

**apokalýptisch** *a* тае́мны, злаве́сны, апакаліпты́чны

**apolítisch** *a* апаліты́чны, абыя́кавы да палі́тыкі

**Apologét** *m* -en, -en апалаге́т, абаро́нца, заўзя́ты прыхі́льнік

**apologétisch** *a* усхваля́льны, апалагеты́чны

**Apóstel** *m* -s, - 1) апо́стал 2) прапаве́днік, прарóк

**apostólisch** *a* апо́стальскі, па́пскі; ***Apostólischer Stuhl*** па́пскі прасто́л, па́пскае [епі́скапскае] крэ́сла

**Apostróph** *m* -s, -e апо́страф

**Apothéke** *f* -, -n аптэ́ка

**Apothéker** *m* -s, - аптэ́кар

**Apotheóse** *f* -, -n апафео́з; абагаўле́нне, услаўле́нне

**Apparát** *m* -(e)s, -e апара́т (*у розн. знач.*); ***der ~ ist gestört*** тэлефо́н сапсава́ны

**Apparátebau** *m* -es, -e прыборабудаўні́цтва, прыборавытво́рчасць

**Apparatúr** *f* -, -en апарату́ра; агрэга́т, механі́зм

**Appartement** [-ˈmã:] *n* -s, -s *або* -e (раско́шная) кватэ́ра; ну́мар-люкс (*у атэлі*)

**Appéll** *m* -s, -e 1) за́клік, звaро́т (*an A – да каго-н.*) 2) пераклі́чка, збор; ***den ~ ábhalten**** рабі́ць пераклі́чку 3) *юрыд.* апеля́цыя, пратэ́ст

**Appellatión** *f* -, -en *юрыд.* апеля́цыя, пратэ́ст

**appellíeren** *vi* (*an A, wegen G*) апелява́ць (*да каго-н. з якой-н. прычыны*)

**Appetít** *m* -s, -e 1) апеты́т; ***gúten ~!*** прые́мнага апеты́ту! 2) жада́нне, ахво́та; ***~ háben (auf A, nach D)*** мець жада́нне [ахво́ту] (*да чаго-н.*); ***j-m den ~ néhmen**** адбі́ць у каго́-н. ахво́ту

**appetítanregend** *a* які́ ўзбуджа́е апеты́т

**appetítlich** *a* апеты́тны, сма́чны

**appetítlos** *a* **1.** *a* пазбаўле́ны апеты́ту **2.** *adv* без апеты́ту, без ахво́ты

**applaudíeren** *vi* апладзíраваць
**Appláus** *m* -es, -e апладысмéнты, вóплескі; ***stürmischer [bráusender] ~*** гром апладысмéнтаў
**Appositión** *f* -, -en *грам.* прыдáтак; апазíцыя
**approbíeren** *vt* апрабавáць; ухвалúць, дазвалúць; ***ein approbíertes Mittel*** выпрабавáны [правéраны] срóдак
**Aprikóse** *f* -, -n абрыкóс
**Apríl** *m* - *i* -s красавíк ◊ ***in den ~ schícken*** пажартавáць (*над кім-н.*)
**Aquaréll** *n* -s, -e акварэ́ль; -s жы́вапіс вадзяны́мі фáрбамі
**Aquárium** *n* -s, -ri¦en аквáрыум
**Äquátor** *m* -s эквáтар
**Äquivalént** [-va-] *n* -es, -e эквівалéнт
**Ar** *n, m* -s, -e *і з ліч.* - ар (*мера плошчы*)
**Ära** *f* -, Ären э́ра, летазлічэ́нне
**Aráber** *m* -s, - 1) арáб 2) арáбскі конь
**arábisch** *a* арáбскі
**Árbeit** *f* -, -en прáца, рабóта, занятак, спрáва; ***éine ~ léisten*** выкóнваць рабóту; ***an die ~ géhen**** прыступíць да рабóты [прáцы]; ***sich an die ~ máchen*** брáцца за рабóту; ***géistige ~*** разумóвая прáца; ***mir geht die ~ leicht von der Hand*** мне працýецца дóбра; ***sich vor kéiner ~ schéuen*** не баяцца [не цурáцца] ніякай рабóты [прáцы]
**árbeiten** *vi* 1) працавáць, рабíць 2) функцыянíраваць
**Árbeiter** *m* -s, - рабóчы, рабóтнік, працаўнíк; ***úngelernter ~*** чорнарабóчы
**Árbeiterausschuss** *m* -es, -schüsse рабóчы камітэ́т
**Árbeiterjugend** *f* - рабóчая мóладзь
**Árbeiterklasse** *f* -, -n рабóчы клас
**Árbeiterstamm** *m* -(e)s, -stämme кáдравыя рабóчыя
**Árbeiterpartei** *f* -, -en рабóчая пáртыя
**Árbeiterschaft** *f* - рабóчыя, рабóчы клас
**Árbeiterstudent** *m* -en -en студэ́нт з рабóчых, студэ́нт-завóчнік, студэ́нт-рабфáкавец
**Árbeiterverband** *m* -(e)s, -e рабóчы саю́з
**Árbeitgeber** *m* -s, - працадáўца, гаспадáр
**Árbeitnehmer** *m* -s, - той, хто працýе па найму
**árbeitsam** *a* працавíты
**Árbeitsamt** *n* -(e)s, -ämter бíржа прáцы
**Árbeitsangebot** *n* -(e)s, -e прапанóва рабóты [прáцы]
**Árbeitsbehinderte** *sub m, f* -n, -n інвалíд; непрацаздóльны, -ая
**Árbeitsdienstpflicht** *f* -, -en працóўная павíннасць
**Árbeitseinheit** *f* -, -en працадзéнь
**Árbeitseinsatz** *m* -es, -einsätze рабóта, нарáд; удзéл у (*якой-н.*) рабóце
**árbeitsfähig** *a* працаздóльны
**Árbeitsfeld** *n* -es, -er сфéра дзéяння
**Árbeitsgemeinschaft** *f* -, -en 1) працóўная абшчы́на 2) супрацóўніцтва 3) гуртóк
**Árbeitsgesetzgebung** *f* -, -en працóўнае заканадáўства
**Árbeitsgericht** *n* -(e)s, -e суд па працóўных канфлíктах
**Árbeitshaus** *n* -es, -häuser папрáўчы дом
**Árbeitskleidung** *f* -, -en спяцóўка, спецадзéнне
**Árbeitskraft** *f* -, -kräfte рабóчая сíла; *pl* рабóчыя рýкі; рабóтнік, -ца; працаўнíк, -ца
**Árbeitsleistung** *f* -, -n прадукцы́йнасць прáцы, выпрацóўка
**Árbeitslohn** *m* -(e)s, -löhne зарабóтная плáта, зарóбак
**árbeitslos** *a* беспрацóўны
**Árbeitslose** *sub m, f* -n, -n беспрацóўны, -ая
**Árbeitslosigkeit** *f* - беспрацóўе
**Árbeitsmarkt** *m* -es, -märkte ры́нак прáцы
**Árbeitsnachweis** *m* -es, -e бíржа прáцы
**Árbeitsordnung** *f* -, -en прáвілы ўнýтранага распарáдку (*на прадпрыемстве*)
**Árbeitspause** *f* -, -n перапы́нак у рабóце (*на абед, вячэру*)
**Árbeitspersonal** *n* -s штат рабóчых (*работнікаў, служачых*)
**Árbeitsplan** *m* -(e)s, -pläne план рабóты
**Árbeitsplatz** *m* -es, -plätze рабóчае мéсца
**Árbeitsproduktivität** *f* - прадукцы́йнасць рабóты
**Árbeitsprozess** *m* -es, -e рабóчы працэ́с
**Árbeitsrecht** *n* -(e)s, -e заканадáўства аб

прáцы, працóўнае прáва
**árbeitsscheu** *a* лянíвы, гультаявáты
**Árbeitsschutz** *m* -es ахóва прáцы
**Árbeitstag** *m* -(e)s, -e 1) рабóчы [працóўны] дзень 2) *pl* бýдні
**árbeitsunfähig** *a* непрацаздóльны
**Árbeitsvermittlung** *f* -, -en пасрэ́дніцкая кантóра (*па пошуку працы*)
**Árbeitsvertrag** *m* -(e)s, -verträge працóўны дагавóр
**Árbeitsvorgang** *m* -(e)s, -vorgänge рабóчы працэ́с
**Árbeitszeit** *f* - рабóчы [працóўны] час
**Árbeitszimmer** *n* -s, - рабóчы пакóй, кабінéт; стýдыя
**Arbitráge** [-ʒə] *f* -, -n 1) *юрыд* арбітрáж; трацéйскі суд; 2) *камерц.* арбітрáж 3) (прыклaдная) ацэ́нка
**archáisch** *a* старадáўні; старажы́тны, архаíчны
**Archaísmus** *m* -, -men архаíзм, устарэ́лае слóва
**archaístisch** *a* застарэ́лы, устарэ́лы
**Archäológe** *m* -en, -en археóлаг
**Archäologíe** *f* - археалóгія
**Árche** *f* -, -n *рэл.* каўчэ́г; ***die ~ Nóahs*** Нóяў каўчэ́г; ***aus der ~ Nóahs*** дапатóпны, з дапатóпных часóў
**Archipél** *m* -s, -e архіпелáг
**Architékt** *m* -en, -en архітэ́ктар, дóйлід
**architektónisch** *a* архітэктýрны
**Architektúr** *f* -, -en архітэктýра
**Archív** *n* -s, -e архíў
**Archivár** [-v-] *m* -s, -e архівáрыус
**Aréna** *f* -, -nen 1) арэ́на 2) пóле дзéйнасці
**Areál** *n* -s, -e 1) прастóра, тэрытóрыя 2) арэáл, тэрытóрыя распаўсю́джання жывёл 3) дзялянка зямлí, надзéл
**arg 1.** *a* дрэ́нны, злы, благí; ***~e Gedánken háben*** задýмваць злачы́нства; ***im Árgen líegen*** быць у дрэ́нным станóвішчы **2.** *adv* 1) злóсна 2) мóцна; ***das ist zu ~!*** гэ́та ўжо занáдта!
**Argentíni¦er** *m* -s, - аргенцíнец
**argentínisch** *a* аргенцíнскі
**Ärger** *m* -s 1) пры́красць; гнеў 2) непрыéмнасць, засмучэ́нне; ***zum*** ~ на злосць
**ärgerlich** *a* 1) злóсны, раздражнёны 2) пры́кры; ***es ist ~, dass…*** пры́кра, што…
**ärgern 1.** *vt* злавáць, раздражня́ць; увóдзіць у злосць; ***es ärgert ihn*** ямý пры́кра **2. ~, sich** злавáцца
**Ärgernis** *n* -ses, -se 1) пры́красць 2) скандáл
**árglistig** *a высок.* падстýпны, кавáрны, хíтры
**árglos** *a* прастадýшны, давéрлівы; незласлíвы
**Árglosigkeit** *f* - прастадýшнасць, давéрлівасць; незласлíвасць
**Argót** [-go:] *m*, *n* -s аргó, жаргóн
**Argumént** *n* -(e)s, -e 1) аргумéнт, дóвад, дóказ 2) *матэм.* незалéжная перамéнная
**Árgwille** *m* -ns зламы́снасць
**Árgwohn** *m* -s *высок.* падазрэ́нне, недавéр; ~ ***schöpfen [fássen]*** падазравáць; ~ ***gégen j-n hégen*** адчувáць недавéр’е да кагó-н.
**árgwöhnen** *vt* падазравáць, прадчувáць
**árgwöhnisch** *a* падазрóны, недавéрлівы; насцярóжаны
**Ári¦e** *f* -, -n *муз.* áрыя
**árisch** *a* індаеўрапéйскі, ары́йскі
**Aristokrát** *m* -en -en арыстакрáт
**Arithmétik** *f* - арыфмéтыка
**arithmétisch** *a* арыфметы́чны; ***~es Míttel*** сярэ́дняе арыфметы́чнае
**Arkáde** *f* -, -en *архіт.* аркáда
**árktisch** *a* аркты́чны
**arm** *a* 1) бéдны 2) няшчáсны 3) ***~e Rítter*** *pl кул.* грэ́нкі
=**arm** *паўсуф. прыметнікаў, указвае на адсутнасць* у *прадмета той ці іншай уласцівасці ці прыкметы*: blútarm малакрóўны
**Arm** *m* -(e)s, -e 1) рукá (*ад кісці да пляча*) 2) пратóк (*рэчкі*) 3) рычáг 4) рýчка (*у крэсла*); ***in den ~en*** у абды́мках; ***j-m únter die ~e gréifen**** дапамагáць камý-н.; ***únter den ~ néhmen* [fássen]*** узя́ць пад рукý; ~ ***in*** ~ рукá ў рукý; ***éinen gánzen ~ voll*** пóўны абярэ́мак [ахáпак]
**Ármband** *n* -(e)s, -bänder бранзалéт
**Ármbanduhr** *f* -, -en ручны́ гадзíннік
**Ármbinde** *f* -, -n павя́зка (*на руцэ*)

**Ármbrust** *f* -, - brüste арбалéт, самастрэ́л
**Árme** *sub m, f* -n, -n бéдны, -ая; бядня́к, -я́чка
**Armée** *f* -, -mé¦en áрмія, вóйска
**Arméeangehörige** *sub m, f* -n, -n ваеннаслу́жачы, -чая
**Arméebefehl** *m* -(e)s, -e загáд па áрміі
**Arméeoberkommando** *n* -s, -s штаб áрміі
**Ärmel** *m* -s, - рукáў (*вопратkі*); ***das lässt sich nicht aus dem ~ schütteln*** гэ́та спрáва нялёгкая
**Ärmelaufschlag** *m* -(e)s, -schläge абшлáг (*на рукаве*)
**Ármen|anstalt** *f* -, -en, ~**haus** *n* -es, -häuser прыту́лак для бéдных, багадзéльня
**Arméni¦er** *m* -s, - армянíн
**arménisch** *a* армя́нскі
**Ármenpflege** *f* -, -n дабрачы́ннасць, клóпат пра бéдных
**Ármleuchter** *m* -s, - 1) кандэля́бр 2) *груб.* зáдніца, зáдні прахóд
**ärmlich** *a* бéдны, мізэ́рны, убóгі; ***ein ~es Áuskommen háben*** перабівáцца сяк-так
**Ärmling** *m* -s, - 1) нарукáўнік 2) бéдны, бядня́к
**ármlos** *a* бязру́кі
**ármselig** *a* мізэ́рны, убóгі
**Ármsessel** *m* -s, - крэ́сла
**Ármspiegel** *m* -s, - нарукáўны знак
**Ármut** *f* - 1) бéднасць, убóства, галéча 2) галóта
**Árom** *n* -s, -e, **Aróma** *n* -s, -men 1) вóдар 2) букéт (*пра віно*)
**aromátisch** *a* вóдарны, пáхкі
**Arrést** *m* -(e)s, -e 1) áрышт; ***im*** ~ пад áрыштам 2) канфіскáцыя; забарóна; ***dínglicher*** ~ рэ́чавы áрышт
**arretíeren** *vt* 1) арыштавáць, затрымáць 2) блакíраваць, фіксавáць
**Arretíerung** *f* -, -en 1) áрышт 2) канфіскáцыя 3) *тэх.* затры́мка, астанóўка
**arrogánt** *a* фанабэ́рысты, ганары́сты, пагáрдлівы
**Arrogánz** *f* - фанабэ́рыстасць, ганарлíвасць
**Arsén** *n* -s мыш'я́к, аршэ́нік
**Art** *f* -, -en 1) род, від, гату́нак; парóда; ***néuer [álter]*** ~ нóвага [старóга] узóру 2) спóсаб, манéра; ***auf díese ~ (und Wéise)*** такíм спóсабам; ***in séiner*** ~ па-свóйму; ***die ~ und Wéise*** спóсаб дзéяння; ***auf éigene*** ~ па-свóйму
**árteigen** *a* рóдны, рóднасны
**árten** *vt* (s) (*nach D*) урадзíцца (*у каго-н.*), быць падóбным (*да каго-н.*)
**Artéri¦e** *f* -, -ien артэ́рыя
**arteri¦éll** *a* артэрыя́льны
**Artéri¦enverkalkung** *f* -, -en *мед.* артэрыясклерóз
**ártfremd** *a* іншарóдны, неадпавéдны, чужы́
**Arthrítis** *f* -, -tiden *мед.* артры́т, запалéнне сустáваў
**arthrítisch** *a мед.* артры́тны, хвóры на артры́т
**ártig** *a* паслухмя́ны, вéтлівы; далікáтны
=**artig** *паўсуф. прыметнікаў, указвае на падабенства з чым-н.*: flóckenartig *a* падóбны на сняжы́нку
**Ártigkeit** *f* - вы́хаванасць, вéтлівасць, паслухмя́насць
**Artíkel** *m* -s, - 1) арты́кул (*у газеце*) 2) тавáр, прадмéт; пункт (*дагавору*) 3) *грам.* арты́кль
**Artikulatión** *f* -, -en 1) *біял.* сустáў, члянéнне 2) *муз., лінгв.* артыкуля́цыя
**artikulíeren** *vt* 1) *лінгв.* артыкулíраваць, вырáзна вымаўля́ць 2) чляні́ць, разбівáць
**Artillerie** *f* -, -rí¦en артылéрыя
**Artillerieabteilung** *f* -, -en артылеры́йскі дывізіён
**Artillerist** *m* -en, -en артылеры́ст
**Artischócke** *f* -, -n *бат.* артышóк
**Artíst** *m* -en, -en 1) арты́ст (*цырка, эстрады*) 2) *уст.* мастáк (*у любой сферы мастацтва*)
**Artístik** *f* - 1) мастáцтва цы́рка [эстрáды, вар'етэ́] 2) майстэ́рства
**artístisch** *a* цыркавы́, эстрáдны; акрабаты́чны
**Ártung** *f* -, -en уласцíвасць; канстыту́цыя
**ártverwandt** *a* рóднасны, блíзкі (*сваёй сутнасцю*)
**Arznéi** *f* -, -en, ~**mittel** *n* -s, - лéкі, лякáрства; ***éine ~ verschréiben* [verórdnen]***

прапісáць лякáрства
**Arzt** *m* -es, Ärzte дóктар, лéкар, урáч
**ärztlich** *a* медыцы́нскі, лéкарскі; ~ ***be-hándeln*** лячы́ць
**Asbést** *m* -(e)s, -e асбéст
**áschblond** *a* пóпельнага кóлеру
**Ásche** *f* -, -n пóпел; прах, трухлé; ***in (Schutt und) ~ légen*** спаліць датлá (*го-рад і да т.п.*)
**Áschenbahn** *f* -, -en *спарт.* гáравая дарóжка
**Áschenbecher** *m* -s, - пóпельніца, па-пяльнíчка
**Áschenbrödel** *n* -s, - папялýшка; мýрза
**Áschen|krug** *m* -(e)s, -krüge, ~**urne** *f* -, -n ýрна (*для праху*)
**Áschenputtel** *n* -s, - *гл.* Áschenbrödel
**Áschermittwoch** *m* -s серадá на пéршым ты́дні Вялíкага пóсту
**áschfahl** *a* пóпельнага кóлеру (*пра твар*)
**áschgrau** *a* пóпельны, пóпельнага кóлеру
**Áschkasten** *m* -s, -kästen папяльнíк
**äsen** *vi паляўн.* пáсвіцца, кармíцца
**aséptisch** *a мед.* асепты́чны
**Aserbaidsháner** *m* -s, - азербайджáнец
**aserbaidshánisch** *a* азербайджáнскі
**Asiát** *m* -en, -en азія́т
**asiátisch** *a* азія́цкі
**Ási¦en** *n* -s Áзія
**Askése** *f* - аскеты́зм
**Askét** *m* -en, -en аскéт
**askétisch** *a* аскеты́чны; пакая́нны
**asoziál** *a* 1) антыграмáдскі 2) пазбáў-лены пачуццяˊ калектывíзму
**Aspékt** *m* -(e)s, -e 1) аспéкт, пункт глé-джання 2) *грам.* трывáнне
**Asphált** *m* -s, -e асфáльт
**Aspháltbahn** *f* -, -en *спарт.* асфáльтавая дарóжка
**asphaltíeren** *vt* асфальтавáць
**Aspháltpresse** *f* - *разм.* бульвáрная прэ́са
**Aspík** *m, n* -s, -e халадзéц, квашнíна; за-ліўнóе; жэлé
**Aspiránt** *m* -en, -en 1) аспірáнт 2) канды-дáт, прэтэндэ́нт 3) навучэ́нец (*сярэд-няй спецыяльнай навучальнай уста-новы ў ФРГ*)
**Aspirantúr** *f* -, -en аспірантýра
**Ass** *n* -es, -e 1) *карт.* туз 2) ас, вытдáтны мáйстар (*асабліва ў спорце*)
**ass** *impf ад* éssen*
**Ássel** *f* -, -n *заал.* макры́ца; *pl* ракападóбныя
**Assemblee** [asãˈble:] *f* -, -blé¦en асамблéя
**Asséssor** *m* -s, -sóren асэ́сар; засядáцель
**Assi¦étte** *f* -, -n плóская талéрачка з алю-мíніевай фальгí
**Assimilatión** *f* -, -en 1) асімілЯ́цыя 2) *бат.* засваéнне
**assimilíeren 1.** *vt* асімілявáць, прыпадаб-ля́ць; засвóйваць **2. ~, sich** асімілявáцца
**Assistént** *m* -en, -en асістэ́нт, памóчнік, супрацóўнік
**Assisténz** *f* -, -en дапамóга, садзéянне, удзéл, супрацóўніцтва; ***únter ~ von (D)*** пры дапамóзе (*каго-н.*)
**Assisténzarzt** *m* -es, -ärzte дóктар-асіс-тэ́нт, малóдшы ардынáтар
**assistíeren** *vi* (*D*) садзéйнічаць, дапамагáць (*каму-н.*), быць асістэ́нтам (*каго-н.*)
**Assoziatión** *f* -, -en асацыя́цыя (*у розн. знач.*); тавары́ства, супóлка
**assoziíeren 1.** *vt* злучáць, яднáць **2. ~, sich** (*mit D*) уваходзіць у кампáнію [тавары́ства] (*з кім-н.*)
**Ast** *m* -(e)s, Äste 1) галíн(к)а, сук; сучóк 2) *pl паляўн.* рóгі алéня 2) *разм.* горб ◊ ***den ~ ábsägen, auf dem man sitz*** падрэ́зацьсук, на якíм сядзіш
**Áster** *f* -, -n *бат.* áстра
**Ästhét** *m* -en, -en эстэ́т
**Ästhétik** *f* - эстэ́тыка
**ästhétisch** *a* эстэты́чны, зграбны
**Ásthma** *n* -s áстма, ады́шка
**Asthmátiker** *m* -s, - астмáтык
**asthmátisch** *a* астматы́чны
**ástrein** *a* бессучкóвы (*драўніна*); ***díese Sáche ist nicht ganz ~*** гэ́тая спрáва не зусíм чы́стая
**Astrologíe** *f* - астралóгія
**astrológisch** *a* астралагíчны
**Astronáut** *m* -en, -en астранáўт
**Astronáutik** *f* - астранáўтыка, касманáўтыка
**Astronóm** *m* -en, -en астранóм
**Astronomíe** *f* - астранóмія
**astronómisch** *a* астранамíчны

**Behínderung** *f* -, -en перашкóда, абмежавáнне

**behórchen** *vt разм.* 1) праслухóўваць (*сэрца, пульс*) 2) падслухóўваць, праслухóўваць

**Behörde** *f* -, -n 1) улáда, óрган улáды 2) устанóва, вéдамства; ***die óberste ~*** найвышэ́йшая інстáнцыя

**behördlich** *a* афіцы́йны

**Behúf** *m* -(e)s, -e *канц.* патрэ́ба

**behúfs** *prp* (*G*) *канц.* дзéля (*чаго-н.*); з мэ́тай (*чаго-н.*)

**behüten** *vt* (*vor D*) зберагáць, бараніць, засцерагáць (*ад каго-н., чаго-н.*); ***ein Gehéimnis ~*** захóўваць тáйну; ***behüte!*** ні ў я́кім рáзе!

**behútsam** *a* асцярóжны, абáчлівы

**bei** *prp* (*D*) 1) у (*каго-н.*); ***er wohnt ~ séinem Brúder*** ён жывé ў свайгó брáта 2) (ка)ля́, пóбач, пóруч, пры (*пра месца*); ***Pótsdam liegt ~ Berlín*** Патсдáм знахóдзіцца каля́ Берлíна [пад Берлíнам] 3) у, пры, у час (*пра час*); ***~ Begínn*** у пачáтку; ***~ Táge*** удзéнь, днём 4) пры (*пра якую-н. магчымасць*); ***~ all(e)dém*** пры ўсім тым; ***~ wéitem nicht*** далёка не 5) каля́ (*пра колькасць*) ***~ húndert Mann*** каля́ ста чалавéк; ***~ wéitem*** знáчна, шмат 6) за (*што-н. узяць*) ***~ der Hand fássen*** узя́ць за рукý

**bei=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на*: 1) *набліжэнне, далучэнне да каго-н., да чаго-н.*: béitreten* далучáцца 2) *блізкасць, сумеснасць* béiwohnen прысýтнічаць *і г.д.*

**béibehalten*** *vt* захóўваць, пакідáць (у сябé), утры́млiваць

**Béiblatt** *n* -(e)s, -blätter дадáтак (*да газеты*)

**Béiboot** *n* -(e)s, -e *марск.* шлю́пка

**béibringen*** *vt* 1) прывóдзіць (*доказы*) 2) навучáць (*чаму-н.*); ***j-m Fértigkeiten ~*** прывівáць камý-н. нáвыкі; растлумáчваць 3) прычыня́ць (*страту*)

**Béichte** *f* -, -n спóведзь (*тс. перан.*); ***zur ~ géhen**** спавядáцца; ***éine ~ tun* [áblegen]*** спавядáцца; ***j-m ~ ábnehmen**** спавядáць кагó-н.

**béichten** *vt* спавядáцца (*у чым-н.*)

**Béichtkind** *n* -(e)s, -er той , хто кáецца [спавядáецца], ідзé пéршы раз на спóведзь

**Béichtstuhl** *m* -(e)s, -stühle спавядáльня

**béide** *pron indef* абóдва, абéдзве; абóе; той і íншы ◊ ***es mit ~n hálten**** быць і вáшым, і нáшым

**béidemal** *adv* абóдва разы́

**béiderlei** *a inv* двая́кі; і такí, і такí; ***~ Geschléchts*** абóдвух рóдаў

**béiderseitig** **1.** *a* узаéмны **2.** *adv* з абóдвух бакóў, узаéмна

**béiderseits** **1.** *adv* узаéмна, з абóдвух бакóў **2.** *prp* (*G*) па абóдва бакí

**beieinánder** *adv* адзíн каля́ аднагó, пóруч

**Béifahrer** *m* -s, - другí шафёр (*машыны, аўтобуса*); пасажы́р, які́ сядзíць пóбач з вадзíцелем

**Béifall** *m* -(e)s 1) вóплескі, апладысмéнты; ***~ klátschen*** апладзíраваць 2) пóспех; ухвалéнне

**béifällig** **1.** *a* станóўчы, пахвáльны **2.** *adv* станóўча, пахвáльна

**Béifilm** *m* -(e)s, -e (дадаткóвы) каротка-метрáжны фільм (*перад сеансам*)

**béifolgend** **1.** *a канц.* які́ дадаéцца (пры гэ́тым) **2.** *adv* пры гэ́тым (*у пісьме*)

**béifügen** *vt* (*D*) дадавáць (*да чаго-н.*); прыбаўля́ць (*што-н. да чаго-н.*)

**Béifügung** *f* -, -en 1) дадáтак 2) *грам.* прыдáтак

**Béifuß** *m* -es *бат.* палы́н

**Béigabe** *f* -, -n прыдáча; дабáўка, прыбáўка

**beige** [be:ʃ *і* ˈbe:ʒə] *a нескл.* бэ́жавы

**béigeben*** *vt* (*D*) дадавáць, прыклáдваць (*да чаго-н.*); ***klein ~*** забая́цца, спасавáць; падпарадкавáцца

**Béigeordnete** *sub m, f* -n, -n *гіст.* намéснік бургамíстра; упаўнавáжаны

**Béigericht** *n* -(e)s, -e *кул.* гарнíр

**Béigeschmack** *m* -(e)s пры́смак; ***éinen ~ von etw. (D) háben*** мець пры́смак чагó-н.

**béigesellen** **1.** *vt* (*D*) далучáць (*каго-н. да каго-н.*) **2. ~, sich** далучáцца (*да каго-н.*)

**Béiheft** *n* -(e)s, -e уклáдыш, дадáтак (*да кнігі, брашуры*)

**Béihilfe** *f* -, -n дапамóга (*тс. грашовая*);

***j-m ~ léisten [gewähren]*** дапамагáць (*каму-н.*)

**béikommen*** *vi* (s) (*D*) падступáцца, набліжáцца (*да каго-н.*)

**Béil** *n* -(e)s, -e сякéра

**Béilage** *f* -, -n 1) дадáтак 2) гарнíр, прысмáкі (*да ежы*)

**béiläufig 1.** *a* выпадкóвы, падарóжны **2.** *adv* між íншым, мімахóдзь

**béilegen** *vt* 1) (*D*) прыкладáць (*да чаго-н.*) 2) улáджваць (*спрэчку*); ***éine Ángelegenheit ~*** улагóдзіць спрáву 3) прыпíсваць (*каму-н. што-н.*)

**beiléibe** *adv*: ~ ***nicht!*** крый Бóжа!, ні за што!

**Béileid** *n* -(e)s спачувáнне; ***für j-n ~ empfínden**** спачувáць камý-н.

**Béileidsbezeigung** *f* -, -en выкáзванне спачýвання

**béiliegend** *a* дадáны, прыклáдзены

**beim** = bei dem

**béimessen*** *vt* (*D*) прыпíсваць (*каму-н. што-н.*), надавáць (*значэнне*)

**béimischen** *vt* (*D*) дамéшваць, падмéшваць

**Bein I** *n* -(e)s, -e 1) нагá 2) нóжка (*стала і г.д.*); ***láufen*, was die ~e können*** бéгчы з усíх ног ◊ ***was man nicht im Kópfe hat, muss man in den ~en háben*** ≅ дурнáя галавá нагáм спакóю не даé; ***wíeder auf die ~e kómmen**** вы́здаравець

**Bein II** *n* -(e)s, -e кóстка, косць ◊ ***du bist mein Fleisch und ~*** ты мая́ плоць і кроў

**béinah(e)** *adv* амáль, лéдзь(ве) не…; ***er ist ~ fünfzig Jáhre alt*** ямý амáль пяцьдзеся́т гадóў

**Béiname** *m* -ns, -n 1) мянýшка 2) ты́тул

**Béinbruch** *m* -(e)s, -brüche палóм нагí [кóсці]

**beínhalten** *vt* утры́мліваць, ахóпліваць

**béiordnen** *vt* залíчваць, далучáць

**béiordnend** *a грам.* злучáльны

**béipflichten** *vi* (*j-m in D*) згаджáцца (*з кім-н. адносна чаго-н.*); ***ich pflíchte Íhnen bei*** я згóдзен з Вáмі

**Béirat** *m* -(e)s, -räte 1) рáда; камíсія 2) *уст.* рáдца; кансультáнт

**beírren**: ***sich nicht ~ lássen**** не давáць збіць сябé з трóпу

**beisámmen** *adv* рáзам, адзíн каля́ аднагó; ***séine Gedánken ~ háben*** сабрáцца з дýмкамі

**Béisatz** *m* -es, -sätze 1) *грам.* прыдáтак 2) прыбáўка, дадáтак

**Béisein** *n* -s прысýтнасць; ***óhne j-s ~*** без свéдкаў; ***in séinem ~*** пры ягó прысýтнасці

**beiséite** *adv* убóк; убакý; ~ ***légen [tun*]*** адклáдваць (убóк); ~ ***stéllen [rücken]*** адстаўля́ць [адсóўваць]; ***etw. ~ lássen**** 1) прапускáць, апускáць што-н. (*напр., пры чытанні*) 2) не звяртáць увáгі; забывáць, забывáцца; ***etw. ~ légen*** 1) адклáдваць (*грошы, кнігу для каго-н.*) 2) адклáдваць рабóту [прáцу] (*над чым-н.*); ***j-n ~ scháffen*** звальня́ць, знімáць кагó-н.

**béisetzen** *vt* 1) пахавáць 2) дабаўля́ць, дадавáць

**Béisetzung** *f* -, -en *высок.* пахавáнне

**Béisitzer** *m* -s, - *юрыд.* засядáцель (*у судзе*)

**Béispiel** *n* -(e)s, -e пры́клад; узóр ***zum ~*** напры́клад ◊ ***böse ~e verdérben* gúte Sítten*** ≅ дурны́ пры́клад зарáзлівы

**béispielhaft** *a* узóрны, вáрты перайммáння

**béispiellos** *a* нечувáны, небывáлы

**béispielsweise** *adv* напры́клад, у я́касці пры́кладу

**béispringen*** *vi* (s) (*D*) дапамагáць, спяшáць на дапамóгу (*каму-н.*); выручáць (*каго-н.*)

**béißen* 1.** *vt* 1) кусáць, джáліць; ***auf die Zúnge ~*** прыкусíць язы́к (*тс. перан.*); ***um sich (A) ~*** агрызáцца; ***nichts zu ~ háben*** не мець ні кавáлка хлéба 2) тóркаць (*пра рыбу*) **2.** *vi* пячы́, шчыпáць; ***der Rauch beißt in die Áugen*** дым есць вóчы

**béißend** *a* 1) éдкі 2) з'éдлівы

**Béißkorb** *m* -(e)s, -körbe *дыял.* намóрднік

**Béißzange** *f* -, -n абцугí, кусáчкі

**Béistand** *m* -(e)s дапамóга, садзéянне; ~ ***léisten*** акáзваць садзéянне, падтры́мліваць

**béistehen*** *vi* (*j-m mit D*) дапамагáць (*ка-

*му-н. чым-н.*); заступáцца (*за каго-н.*)
**Béisteuer** *f* -, -n узнóс, склáдка
**béisteuern** *vt* (*zu D*) ахвяраваць (*на што-н.*), унóсіць сваю дóлю (*у што-н.*)
**béistimmen** *vi* (*D*) згаджáцца, пагаджáцца (*з кім-н, чым-н.*)
**Béistrich** *m* -(e)s, -e кóска
**Béitrag** *m* -(e)s, -träge узнóс, уклáд; ахвяравáнне; ***éinen ~ zu etw. (D) léisten*** унéсці ўклáд у што-н.
**béitragen*** *vi* (*zu D*) садзéйнічаць (*чаму-н.*); спрычыняцца (*да чаго-н.*)
**béitreten*** *vi* (s) (*D*) уступáць (*у якую-н. арганізацыю*); далучáцца (*да каго-н., чаго-н.*)
**Béitritt** *m* -(e)s, -e (*zu D*) уступлéнне (*у што-н.*), далучэнне (*да чаго-н.*)
**Béitrittserklärung** *f* -, -en заява аб уступлéнні (*у што-н.*) [далучэнні (*да чаго-н.*)]
**Béiwagen** *m* -s, - каляска (*у матацыкла*); *чыг.* прычапны вагóн
**béiwohnen** *vi* 1) (*D*) прысýтнічаць (*на чым-н.*) 2) быць уласцíвым (*каму-н., чаму-н.*)
**béizählen** *vt* далучáць; залíчваць
**Béize** *f* -, -n 1) *тэх.* траўлéнне 2) *паляўн.* прынáда
**beizéiten** *adv* 1) зáгадзя, своечасóва 2) рáна
**béizen** *vt* 1) *тэх.* вытраўляць 2) марыць (драўніну) 3) кансерваваць
**bejáhen** *vt* пацвярджáць, станóўча адкáзваць (*на што-н.*)
**bejáhend** *a* сцвярджáльны, згóдны
**bejáhrt** *a* пажылы, у гадáх, стары
**Bejáhung** *f* -, -en сцвярджэнне; згóда
**bejámmern** *vt* шкадаваць (*каго-н., чаго-н.*); аплáкваць (*каго-н., што-н.*)
**bejámmerns|wert, ~würdig** *a* плачэўны, жалóбны, журбóтны
**bejúbeln** *vt* сустракáць з рáдасцю [з захаплéннем] (*каго-н.*)
**bekämpfen** *vt* змагáцца, вéсці змагáнне (*з кім-н, чым-н.*); *вайск.* перамагчы, падавíць; ***Híndernisse ~*** пераадóльваць перашкóды
**bekánnt** *a* знаёмы, вядóмы; ***~ máchen (mit D)*** знаёміць (*з кім-н, з чым-н.*); ***sich ~ máchen*** атрымáць рóзгалас; ***~ gében**** *vt* абвяшчáць, аб'яўляць, апублікóўваць; паведамляць
**Bekánnte** *sub m, f* -n, -n знаёмы, -мая
**bekánntlich** *adv* як вядóма
**Bekánntmachung** *f* -, -en аб'ява
**Bekánntschaft** *f* -, -en знаёмства; ***éine ~ ánknüpfen*** пазнаёміцца
**bekéhren 1.** *vt* (*zu D*) павярнýць, схілíць (*напр., у іншую веру*) **2. ~, sich** (*zu D*) прыняць (*новую веру*); памяняць дýмку; ***er bekéhrte sich zu méiner Áuffassung*** ён стаў на мой пункт пóгляду
**bekénnen* 1.** *vt* 1) прызнавáць, усведамляць; прызнавáцца (*у чым-н.*); ***Fárbe ~*** *перан.* раскрыць свае кáрты **2. ~, sich** (*zu D*) прызнáцца (*у чым-н.*); абвяшчáць аб сваёй прыналéжнасці (*да чаго-н.*); абвяшчáць сябé прыхíльнікам (*чаго-н.*)
**Bekénntnis** *n* -ses, -se 1) прызнáнне; ***éidliches ~*** прызнáнне [заява] пад прысягай 2) абвяшчэнне сябé прыхíльнікам 3) вéра, рэлігія, канфéсія
**beklágen 1.** *vt* шкадаваць, аплáкваць **2. ~ sich** (*über A*) скáрдзіцца (*на што-н.*)
**beklágenswert** *a* вáрты шкадавáння [жáлю]
**Beklágte** *sub m, f* -n, -n *юрыд.* адкáзчык, -зчыца
**beklében** *vt* абклéйваць, залéпліваць, аблéпліваць
**bekléckern** *vt* запляміць, запэцкаць
**bekléiden** *vt* (*mit D*) 1) апранáць (*каго-н. у што-н.*) 2) абліцóўваць, аббіваць (*што-н. чым-н.*) 3): ***ein Amt [éine Stéllung]*** ~ займáць пасáду
**Bekléidung** *f* -, -en 1) адзéнне, *вайск.* фóрма 2) выкóнванне (*абавязкаў і г.д.*)
**beklémmen** *vt* 1) сціскáць, цíснуць 2) прыгнятáць, засмучáць
**Beklémmung** *f* -, -en 1) прыгнéчанасць 2) цяжкасць (*у грудзях і г.д.*)
**beklómmen** *a* прыгнéчаны, спакýтаваны; цяжкі (*паветра і г.д.*)
**Beklómmenheit** *f* - непакóй, тугá
**beklópft** *a разм.* дурны, кранýты
**bekómmen* 1.** *vt* атрымліваць **2.** *vi* (s): ***gut [schlecht]*** ~ ісцí на карысць [на

шко́ду]; ***wohl bekómm's!*** на здаро́ўе! (*у час яды*)

**bekömmlich** *a* кары́сны, здаро́вы, спажы́ўны (*пра стравы*)

**beköstigen** *vt* карміць, дава́ць харчава́нне (*каму-н.*)

**Beköstigung** *f* - харчава́нне

**bekräftigen** *vt* 1) пацвярджа́ць 2) узмацня́ць, мацава́ць; ***j-n in séiner Méinung*** ~ умацава́ць каго́-н. у яго́най ду́мцы

**bekréuzigen 1.** *vt* перажагна́ць, перахрысціць **2. ~, sich** жагна́цца, хрысціцца

**bekümmern 1.** *vt* засмуча́ць **2. ~, sich** засмуча́цца, трыво́жыцца

**Bekümmernis** *f* -, -se 1) журбо́та, туга́ 2) кло́пат

**bekúnden** *vt* 1) паведамля́ць (*што-н.*), выка́звацца (*наконт чаго-н.*) 2) выяўля́ць, выка́зваць, дэманстрава́ць (*сімпатыю і г.д.*)

**Bekúndung** *f* -, -en 1) паведамле́нне (*аб чым-н.*), паказа́нне (*у судзе*) 2) выяўле́нне, праяўле́нне (*сімпатыі, зацікаўленасці і г.д.*)

**belächeln** *vt* усміха́цца (*у адказ на што-н.*); пасме́йвацца (*з каго-н.*)

**beláchen** *vt* высме́йваць (*каго-н., што-н.*), насміха́цца (*над кім-н., чым-н.*)

**beláden*** *vt* 1) нагружа́ць, грузіць 2) абцяжа́рваць, турбава́ць

**Belág** *m* -(e)s, Beläge 1) пакрыццё; насціл; сло́й 2) *мед.* налёт 3) то́е, што кладзе́цца на бутэрбро́д

**belágern** *vt вайск.* рабіць абло́гу (*тс. перан.*)

**Belágerung** *f* -, -en *вайск.* абло́га; ***die ~ áufheben**** зняць абло́гу [блака́ду]

**Belágerungszustand** *m* -(e)s, -zustände *вайск.* стан абло́гі, ***über etw. (A) den ~ verhängen*** увéсці дзе-н. стан абло́гі

**belämmert** *a разм.* 1) дрэнны, непрые́мны 2) абду́раны

**Belang** *m* -(e)s, -e 1) значэ́нне; ***von größem*** ~ які́ ма́е вялі́кае значэ́нне 2) дачыне́нне 3) *pl* інтарэ́сы, патрабава́нні

**belángen** *vt* мець дачыне́нне (*да чаго-н.*); даты́чыцца (*чаго-н.*); ***was mich belángt…*** што (да)ты́чыцца мяне́

**belánglos** *a* нязна́чны, неісто́тны

**Belánglosigkeit** *f* -, -en нязна́чнасць, неісто́тнасць

**Belarússe** *m* -n, -n белару́с, **Belarússin** *f* -, -nen беларуска

**belarússisch** *a* белару́скі

**belássen*** *vt* пакіда́ць (*без змен*)

**Belástbarkeit** *f* - грузапад'ёмнасць

**belásten** *vt* 1) нагружа́ць 2) (*юрыд.*) абвінава́чваць 3) *перан.* перагружа́ць 4) *фін.* дэбетава́ць; ***j-s Kónto*** ~ дэбетава́ць чый-н. раху́нак

**belästigen** *vt* (*mit D*) назаля́ць (*чым-н.*); турбава́ць (*чым-н.*); ***ich will Sie nicht*** ~ не хачу́ Вас турбава́ць

**Belästigung** *f* -, -en надакуча́нне; абцяжа́рванне

**Belástung** *f* -, -en 1) нагру́зка, цяжа́р (*тс. перан.*) 2) *юрыд.* абвінава́чванне

**beláubt** *a* пакры́ты лісто́тай; лісто́ўны

**beláuern** *vt* падпільно́ўваць; падгля́дваць (*за кім-н.*)

**Beláuf** *m* -(e)s, Beläufe вы́нік, су́ма; ***im ~e von…*** на су́му ў…

**beláufen* 1.** *vt* 1) аббе́гчы 2) абця́гваць, зацягваць (*смугой і г.д.*) **2.** *vi* (s) цямне́ць; зацягвацца (*чым-н.*) **3. ~, sich** (*auf A*) склада́ць (*якую-н. суму*)

**beláuschen** *vt* 1) падслухо́ўваць 2) падгля́дваць

**belében** *vt* 1) ажыўля́ць, уваскраша́ць; прыво́дзіць у прыто́мнасць 2) насяля́ць

**belébt** *a* 1) ажы́ўлены, жва́вы, жывы́ 2) мнагалю́дны, шу́мны (*пра вуліцу і г.д.*)

**belécken** *vt* ліза́ць, аблі́зваць

**Beleg** *m* -(e)s, -e 1) (рэ́чавы) до́каз; даве́дка 2) све́дчанне, аргуме́нт

**belégen** *vt* 1) накрыва́ць, засціла́ць; ***Brot mit Wurst*** ~ пакла́сці ка́ўбасу на хлеб 2) абла́йваць 3) абклада́ць (*падаткамі*) 4) пацвярджа́ць, дака́зваць (*з дапамогай дакументаў*); ***etw. mit Eid*** ~ пацве́рдзіць што-н. пад прыся́гай

**Belégschaft** *f* -, -en калекты́ў рабо́чых і слу-

жачых, персана́л; ***éine fünfzig Mann stárke*** ~ калекты́ў у пяцьдзеся́т чалаве́к

**Belégstelle** *f* -, -n цыта́та, спасы́лка

**Belégstück** n -(e)s, -e 1) апраўда́льны дакуме́нт 2) архі́ўны экземпля́р

**belégt** *a* 1) абкла́дзены; ***~es Brötchen*** бутэрбро́д; ***~e Stímme*** хры́плы [сі́плы, глухі́] го́лас 2) заня́ты (*пра месца*) 3) падмацава́ны (*пісьмовымі доказамі*)

**beléhren** *vt* (*über A*) вучы́ць, навуча́ць (*каго-н. чаму-н.*); ***sich gern ~ lássen**** слу́хацца пара́даў

**Beléhrung** *f* -, -en павучэ́нне, пара́да, настаўле́нне

**beléibt** *a* то́ўсты, по́ўны, сы́ты

**beléidigen** *vt* абража́ць, знеража́ць, кры́ўдзіць

**Beléidigung** *f* -, -en знява́га, абра́за

**belésen** *a* начы́таны

**beléuchten** *vt* асвятля́ць (*тс. перан.*)

**Beléuchtung** *f* -, -en асвятле́нне, ілюміна́цыя

**beléum(un)det**: ***übel [gut]*** ~ з дрэ́ннай [до́брай] рэпута́цыяй

**Bélgi¦er** *m* -s, - бельгі́ец

**bélgisch** *a* бельгі́йскі

**belíchten** *vt* асвятля́ць; *фота* экспанава́ць

**Belíchtung** *f* -, -en асвятле́нне (*натуральнае*); *фота* экспазі́цыя

**Belíchtungsdauer** *f* - *фота* вы́трымка

**Belíchtungsmesser** *m* -s, - *фота* экспано́метр

**Belíchtungszeit** *f* -, -en *гл.* Belíchtungsdauer

**belíeben** *vt, vi vimp* жада́ць (*сабе*), хаце́ць, мець жада́нне; ***tu, was dir*** ~ рабі́, як сам мярку́еш

**Belíeben** *n* -s жада́нне, до́брая во́ля; ***es steht in Íhrem*** ~ (*zu + inf*) ад Вас зале́жыць (*што-н. зрабіць*); ***nach Íhrem*** ~ як Ва́ша ла́ска, як Вы (сабе́) хо́чаце; ***nach*** ~ ко́лькі хо́чаш [хо́чаце], ко́лькі жада́еш [жада́еце]

**belíebig** *a* любы́, ко́жны; ***jéder ~e*** пе́ршы сустрэ́чны

**belíebt** *a* любі́мы, папуля́рны

**Belíebtheit** *f* - папуля́рнасць, прыхі́льнасць, любо́ў; ***er erfréut sich größer*** ~ ён карыста́ецца вялі́кай папуля́рнасцю

**belíefern** *vt* (*mit D*) забяспе́чваць (*чым-н.*); пастаўля́ць; ***j-n mit Wáren*** ~ пастаўля́ць каму-н. тава́ры

**béllen** *vi* 1) браха́ць (*пра сабаку*), скавыта́ць (*пра ваўка*) 2) *перан.* бурчэ́ць (*пра людзей*)

**Belletrístik** *f* - маста́цкая літарату́ра; белетры́стыка

**Bellevue** [bɛl'vy:] *f* -, -n *архіт.* бельведэ́р

**belóbigen** *vt* хвалі́ць, ухваля́ць

**Belóbigungsschreiben** *n* -s, - пахва́льны ліст [гра́мата]

**belóhnen** *vt* узнагаро́джваць, адзнача́ць (*mit D – чым-н., für A – за што-н.*)

**Belóhnung** *f* -, -en прыз, узнагаро́да, узнагаро́джанне

**belüften** *vt* праве́трываць, вентылі́раваць

**Belüftung** *f* - вентыля́цыя

**belügen** *vt* ашу́кваць; мані́ць (*каму-н.*)

**belústigen** **1.** *vt* це́шыць, весялі́ць, забаўля́ць **2.** **~, sich** 1) (*mit D*) забаўля́цца (*чым-н.*) 2) (*über A*) здзе́квацца (*з каго-н.*), смяя́цца (*з каго-н.*)

**Belústigung** *f* -, -en заба́ва, паце́ха

**bemächtigen, sich** (*G*) (з)авало́дваць (*чым-н.*); ахо́пліваць

**bemäkeln** *vt* знахо́дзіць хі́бы (*у чым-н.*); асуджа́ць, ганьбава́ць (*што-н.*)

**bemálen** *vt* фарбава́ць, афарбава́ць

**bemängeln** *vt* ганьбава́ць; знахо́дзіць хі́бы [недахо́пы] (*у чым-н.*)

**Bemánnung** *f* -, -en *вайск.* ками́нда, экіпа́ж, разлі́к

**bemänteln** *vt* камуфлява́ць, прыхо́ўваць, маскірава́ць, вуалі́раваць

**bemérkbar** *a* прыкме́тны, адчува́льны; ***sich ~ máchen*** звярну́ць на сябе́ ўва́гу

**bemérken** *vt* 1) заўважа́ць, прыкмяча́ць 2) рабі́ць заўва́гу; пярэ́чыць

**bemérkenswert** *a* ва́рты ўва́гі, выбітны́

**Bemérkung** *f* -, -en 1) заўва́га 2)ната́тка

**beméssen*** *vt* вымяра́ць; ацэ́ньваць; вызнача́ць

**bemítleiden** *vt* шкадава́ць; спачува́ць (*каму-н.*)

**bemítleidens|wert**, **~würdig** *a* ва́рты шка-

давáння [спачувáння]
**Bémme** *f* -, -en хлеб з маслáм, бутэрбрóд
**bemíttelt** *a* замóжны; ~ ***sein*** мець срóдкі
**bemógeln** *vt разм.* ашукáць, абдуры́ць
**bemóost** *a* пакры́ты мóхам [імхóм], абамшэ́лы
**bemühen 1.** *vt* турбавáць **2. ~, sich** (*um A*) працавáць, шчыравáць (*над чым-н.*); (*für A*) клапаціцца (*аб кім-н.*)
**Bemühung** *f* -, -en намагáнне, вы́сілак, клóпат (*um A – аб чым-н.*)
**bemúttern** *vt* клапаціцца (*пра каго-н.*)
**benáchbart** *a* сусéдні, сумéжны, навакóльны
**benáchrichtigen** *vt* (*von D*) паведамляць (*каму-н. аб чым-н.*), апавяшчáць
**Benáchrichtigung** *f* -, -en 1) паведамлéнне, абвяшчэ́нне 2) павéстка
**benáchteiligen** *vt* рабіць шкóду (*каму-н.*); абдзяляць; ***benáchteiligt sein*** цярпéць стрáты, быць пакры́ўджаным
**benágen** *vt* 1) абгры́зці 2) (патаéмна) шкóдзіць (*чаму-н.*)
**benähen** *vt* 1) абшывáць (*што-н. mit D – чым-н.*); нашывáць (*што-н. на што-н.*) 2) *разм.* абшывáць (*каго-н.*)
**benébeln** *vt* 1) затумáніць 2) *перан.* зачмуры́ць (*галаву*)
**benéhmen* I** *vt* (*D*) пазбаўляць (*каго-н. чаго-н.*); ***j-m die Lust*** ~ адбівáць у кагó-н. ахвóту да чагó-н.; ***Schmérzen*** ~ уціхамíрваць [сунімáць] боль
**benéhmen*, sich II** павóдзіць сябé (*gegen A – у адносінах да каго-н.*)
**Benéhmen** *n* -s павóдзіны, учы́нак
**benéiden** *vt* (*um A*) зайздрóсціць (*каму-н. у чым-н.*); ***er ist nicht zu*** ~ яму́ не пазайздрóсціш
**benéidenswert** *a* зайздрóсны; ***dies ist*** ~ гэ́таму мóжна пазайздрóсціць
**benénnen*** *vt* 1) назывáць, давáць імя́ (*каму-н., чаму-н.*) 2) вылучáць (*кандыдатуру*); выяўляць (*вінаватага*)
**Benénnung** *f* -, -en 1) нáзва 2) вылучэ́нне (*кандыдатуры*)
**benétzen** *vt паэт.* арасіць; акрапіць; намачы́ць
**Béngel** *m* -s, -(s) 1) хлóпец, хлапчу́к 2) *разм.* шы́бенік, вісус
**benómmen** *a* аглу́шаны, агалóмшаны, здранцвéлы; збянтэ́жаны; ***mein Kopf ist*** ~ у мянé цяжкая галавá
**Benómmenheit** *f* - 1) здранцвéнне, анямéнне, несвядóмы стан 2) збянтэ́жанасць, прыгнéчанасць
**benóten** *vt* пастáвіць адзнáку (*за што-н.*); ацаніць
**benötigen** *vt* мець [адчувáць] патрэ́бу (*у чым-н.*)
**benútzen, benützen** *vt* карыстáцца (*чым-н.*); выкарыстóўваць, ужывáць; ***die Gelégenheit*** ~ скарыстáць [вы́карыстаць] вы́падак
**Benútzer** *m* -s, - карыстáльнік
**Benútzerordnung** *f* -, -en прáвілы [парáдак] карыстáння
**Benútzung** *f* - карыстáнне, выкарыстóўванне, ужывáнне
**Benútzungsanweisung** *f* -, -en інстру́кцыя па карыстáнні [эксплуатáцыі]
**Benzín** *n* -s, -e бензін
**beóbachten** *vt* 1) назірáць (*што-н., за кім-н., за чым-н.*); сачы́ць; ***scharf*** ~ пільна сачы́ць 2) выкóнваць (*правілы, законы*); ***séine Pflíchten*** ~ выкóнваць сваé абавя́зкі
**Beóbachter** *m* -s, - 1) назірáльнік; ***únbefangener*** ~ нейтрáльны назірáльнік 2) лётчык-назірáльнік
**Beóbachtung** *f* -, -en 1) назірáнне 2) захавáнне, выканáнне; ***j-n, etw. (A) únter ~ stéllen*** устанавіць назірáнне за кім-н., за чым-н.
**beórdern** *vt* выклікáць, загáдваць камý-н. прыйсці; (*zu + inf*) даручáць (*каму-н. што-н. зрабіць*)
**bepácken** *vt* нагружáць, наўю́чваць
**bepflánzen** *vt* (*mit D*) засадзіць, абсадзіць (*раслінамі*)
**bepflástern** *vt* 1) (за)масціць [брукавáць] (*вуліцу*) 2) накладáць плáстыр (*на што-н.*)
**bequém** *a* 1) зру́чны, уту́льны 2) лянівы, запавóлены, вя́лы, інéртны; ***es sich*** ~

***máchen*** ула́джвацца зру́чна [ёмка]

**bequémen, sich** (*mit D*) задаво́львацца (*чым-н.*); (*zu D з inf+zu*) бра́цца за што-н., пачына́ць (*што-н. рабіць*)

**Bequémlichkeit** *f* -, -en зру́чнасць, уту́льнасць, камфо́рт, прые́мнасць; ***das hat séine ~en*** гэ́та ма́е свае́ вы́годы; ***die gewóhnte ~ vermíssen*** быць пазба́ўленым прывы́чнай [звы́клай] зру́чнасці

**beráppen** *vt разм. фам.* (*für A*) плаці́ць, раскашэ́львацца (*за што-н.*)

**beráten*** **1.** *vt* 1) ра́іць; дава́ць кансульта́цыю (*каму-н.*); ***Sie sind gut [übel] ~*** Вам далі́ до́брую [дрэ́нную] пара́ду 2) абмяркó́ўваць (*што-н.*) **2. ~, sich** (*über A*) ра́іцца (*аб чым-н.*)

**berátend** *a* дара́дчы; ***mit ~er Stímme*** з дара́дчым го́ласам

**Beráter** *m* -s, - дара́дца; кансульта́нт

**berátschlagen** **1.** *неаддз. vt* абмяркó́ўваць, ра́іцца **2.** *vi i* **~, sich** (*über A*) ра́іцца (*аб чым-н.*)

**Berátung** *f* -, -en 1) нара́да 2) абмеркава́нне 3) кансульта́цыя (*установа*); ***etw. zur ~ bríngen* [stéllen]*** паста́віць што-н. на абмеркава́нне

**Berátungsstelle** *f* -, -en кансульта́цыя, кансультацы́йны пункт; *мед.* дыспансе́р

**beráuben** *vt* 1) абрабава́ць, абабра́ць 2) (*G*) пазбаўля́ць (*чаго-н.*); ***j-n der Éhre ~*** абнясла́віць каго́-н.

**Beráubung** *f* -, -en 1) рабу́нак, грабе́ж 2) пазбаўле́нне

**beräuchern** *vt* 1) абку́рваць 2) вэ́ндзіць

**beráuschen** *vt* 1) ап'яня́ць 2) *перан.* ахапля́ць

**beráuschend** **1.** *a* хме́льны, мо́цны (*пра напоі*) **2.** *adv* ве́льмі, на́дта, надзвыча́йна

**beréchenbar** *a* аблі́ча́льны, які́ мо́жна падлічы́ць; які́ мо́жна прадба́чыць

**beréchnen** *vt* 1) вылі́чваць, разлі́чваць 2) улі́чваць

**beréchnend** *a* развáжлівы

**Beréchnung** *f* -, -en 1) разлі́к, падлі́к, калькуля́цыя; ***méiner ~ nach*** па маймý разлі́ку [меркава́нню] 2) улі́к

**beréchtigen** *vt* (*zu D*) дава́ць (*каму-н.*) пра́ва, упаўнава́жваць (*на што-н.*)

**beréchtigt** *a* 1) які́ ма́е пра́ва, праваму́цны 2) абгрунтава́ны

**Beréchtigung** *f* -, -en (*zu D*) пра́ва, паўнамо́цтвы, падста́вы; ***nicht óhne ~*** з пэ́ўнымі падста́вамі; ***dies hat tíefe ~*** гэ́та ца́лкам апраўда́на

**beréden** **1.** *vt* 1) абмяркó́ўваць 2) абгаво́рваць (*каго-н.*) 3) угаво́рваць, падгаво́рваць, падбухто́рваць; ***er ist leicht zu ~*** яго́ лёгка ўгавары́ць **2. ~, sich** ра́іцца, дамаўля́цца

**Berédsamkeit** *f* - красамо́ўства; гаварлі́васць

**berédt** *a* гаваркі́, красамо́ўны (*тс. перан.*)

**berégnen** *vt* араша́ць; абпы́рскваць

**Beréich** *m* -(e)s, -e галіна́, сфе́ра; дыяпазо́н; кампетэ́нцыя; ***das liegt áußer méinem ~*** гэ́та не ў маёй кампетэ́нцыі; ***im ~ der Stadt*** у ме́жах го́рада

**beréichern** **1.** *vt* (*mit D*) узбагача́ць (*чым-н.*) **2. ~, sich** (*an D*) багаце́ць, нажыва́цца (*на чым-н.*)

**Beréifung** *f* -, -en шы́на (*аўтамабільная*)

**beréin(ig)en** *vt* 1) ула́джваць; разабра́цца (*з чым-н.*) 2) пераадо́льваць, ліквідó́ўваць; ***die Luft ~*** *перан.* разрадзі́ць атмасфе́ру

**beréisen** *vt* аб'язджа́ць; падаро́жнічаць

**beréit** *a* (*zu D*) гато́вы (*да чаго-н.*); падрыхтава́ны; ***sich zu etw. ~ erklären*** вы́казваць сваю́ гато́ўнасць (*да чаго-н.*); ***sei ~!*** будзь гато́ў [напагато́ве]!; ***sich ~ hálten**** быць напагато́ве

**beréiten I** **1.** *vt* 1) падрыхто́ўваць, рыхтава́ць 2) гатава́ць (*страву*) 3) прычыня́ць; учыня́ць **2. ~, sich** (*zu D*) рыхтава́цца (*да чаго-н.*)

**beréiten*** **II** *vt* 1) аб'язджа́ць (*каня*) 2) аб'язджа́ць ко́нна (*мясцовасць*)

**beréit hálten*** *vt* трыма́ць напагато́ве, падрыхто́ўваць

**beréit légen** *vt* падрыхто́ўваць

**beréit máchen** **1.** *vt* падрыхто́ўваць **2. ~ , sich** (*zu D*) рыхтава́цца (*да чаго-н.*)

**beréits** *adv* ужó

**Beréitschaft** *f* - 1) гатóўнасць; згóда 2) дзяжýрная часць

**Beréitschaftsarzt** *m* -es, -ärzte дзяжýрны ўрач

**beréit stéhen*** *vi* стаяць напагатóве; быць гатóвым

**beréit stéllen** *vt* 1) рыхтавáць 2) нарыхтóўваць 3) выраблЯць 4) выдзяляць, давáць (*крэдыты*), асігнавáць (*грошы*) 5) *вайск.* вывóдзіць на зыхóднае станóвішча

**Beréitstellung** *f* -, -en 1) падрыхтóўка; вы́раб 2) выдзялéнне, асігнавáнне 3) *вайск.* зыхóдны раён

**Beréitung** *f* -, -en падрыхтóўка, вы́раб

**beréitwillig** *a* паслýжлівы; паслухмяны, гатóвы

**Beréitwilligkeit** *f* - гатóўнасць; рýпнасць; паслýжлівасць

**beréuen** *vt* раскáйвацца (*у чым-н.*); шкадавáць (*чаго-н.*)

**Berg** *m* -(e)s, -e 1) гарá ***auf den ~ hináuf*** на гарý, пад гарý; ***vom ~ heráb*** з гары́; 2) *перан.* кýча ◊ ***er ist längst über ~ und Tal*** ягó даўнó і след прасты́ў; ***über den ~ sein*** пераадóлець сáмае цЯжкае; ***über den ~ schwátzen*** вярзці́ лухтý; ***mir stéhen die Háare zu ~e*** у мянé валасы́ станóвяцца ды́бам

**bergáb(wärts)** *adv* з гары́

**bergán** *adv* на гарý, пад гарý; увéрх па цячэ́нні

**Bérgarbeiter** *m* -s, - гарняк, шахцёр; чорнарабóчы

**bergáuf(wärts)** *adv* пад гарý, на гарý; ***~, bergáb*** то на гарý, то з гары́

**Bérgbahn** *f* -, -en 1) гóрная чыгýнка 2) фунікулёр, канáтная дарóга

**Bérgbau** *m* -(e)s 1) гóрная прамыслóвасць 2) гóрныя распрацóўкі [радóвішчы]

**bérgen*** *vt* 1) хавáць, ратавáць, баранíць 2) падбірáць; ***die Érnte ~*** убірáць ураджáй; ***Verwúndete ~*** падбірáць рáненых

**Bérgfried** *m* -(e)s, -e галóўная вéжа (*у крэпасці*)

**Bérgführer** *m* -s, - правадні́к (*у гарах*)

**Bérggrat** *m* -(e)s, -e гóрны хрыбéт

**bérghoch** *a* вышынёй з гарý; высóзны

**bérgig** *a* гары́сты, багáты на гóры

**Bérgkessel** *m* -s, - 1) катлавíна 2) крáтэр

**Bérgkette** *f* -, -n гóрны ланцýг

**Bérgmann** *m* -(e)s, -leute 1) гарняк 2) гóрац

**bérgmännisch** *a* гарняцкі, шахцёрскі

**Bérgrutsch** *m* -(e)s, -e апóўзень

**Bérgsteigen** *n* -s альпінізм, горны туры́зм

**Bérgsteiger** *m* -s, - альпіні́ст

**Bérgsturz** *m* -es, -stürze гóрны абвáл

**Bérgung** *f* -, -en 1) захавáнне; ратавáнне 2) схóвішча; абарóна 3) хавáнне

**bergúnter** *adv гл.* bergáb

**Bérgwerk** *n* -(e)s, -e руднíк, капáльні

**Bérgwesen** *n* -s гóрная прамыслóвасць

**Berícht** *m* -(e)s, -e даклáд, справаздáча; паведамлéнне; ***~ erstátten*** рабíць справаздáчу; ***éinen ~ ábfassen*** склáсці справаздáчу

**beríchten** *vt, vi* даклáдваць, данóсіць; паведамляць (*über A – аб чым-н.*); ***es wird beríchtet, dass…*** паведамляюць, што…

**Beríchterstatter** *m* -s, - 1) карэспандэ́нт 2) даклáдчык, рэферэ́нт

**Beríchterstattung** *f* -, -en 1) даклáд, данясéнне; карэспандэ́нцыя 2) справаздáчнасць

**beríchtigen** *vt* 1) выпраўляць, папраўляць; (с)карэкці́раваць 2) абвяргáць (*ілжывае паведамленне*) 3) плацíць (*доўг*); ***éine Réchnung ~*** плацíць па рахýнку

**Beríchtigung** *f* -, -en 1) выпраўлéнне, папрáўка; абвяржэ́нне 2) *фін.* плáта

**beríechen*** *vt* абню́хваць; *разм.* прыню́хвацца, прыглядáцца (*да каго-н.*)

**beríeseln** *vt* арашáць, абваднЯць

**berítten 1.** *a* кóнны **2.** *adv* кóнна, вярхóм

**Berlíner** *m* -s, - берлíнец

**berlínerisch, berlínisch** *a* берлíнскі

**Bernhardíner** *m* -s, - сенбернáр (*парода сабакі*)

**Bérnstein** *m* -(e)s бурштын
**bérnsteine(r)n** *a* бурштынавы, з бурштыну
**Bersérker** *m* -s, - раз'юшаны ваяр (*у скандынаўскіх паданнях*); *перан.* раз'юшаны чалавéк
**bérsten** *vi* (s) лóпацца; трэ́скацца; разрывáцца; разбурáцца; ***der Wágen war zum Bérsten voll*** вагóн быў набіты біткóм
**berüchtigt** *a* нядóбрай слáвы; сýмна вядóмы
**berücksichtigen** *vt* браць [прымáць] пад увáгу; улíчваць
**Berúf** *m* -(e)s, -e 1) прафéсія, спецыя́льнасць; ***von ~*** па прафéсіі; ***im ~ stéhen**** працавáць (па спецыя́льнасці); ***séinem ~ náchgehen**** выкóнваць свае́ абавя́зкі 2) прызвáнне
**berúfen*** **1.** *vt* 1) заклікáць; склікáць (*сход і да т.п.*) 2) запрашáць, назначáць (*на працу*); (*in A*) выбірáць (*у які-н. орган*) **2. ~, sich** (*auf A*) 1) спасылáцца (*на каго-н., на што-н.*) 2) звяртáцца, апелявáць (*да каго-н.*)
**berúflich** *a* прафесíйны, службóвы; вытвóрчы
**berúfsfremd** *a*: ***~e Tätigkeit*** прáца [рабóта] не па спецыя́льнасці
**Berúfsjahre** *pl* працóўны стаж
**Berúfskleidung** *f* - спецадзéнне, спецвóпратка
**berúfsmäßig** **1.** *a* прафесíйны **2.** *adv* па прафéсіі, згóдна з пасáдай
**Berúfsschule** *f* -, -n прафесíйная шкóла, прафесíйнае вучы́лішча
**berúfstätig** *a* які́ працýе, заня́ты на прáцы
**Berúfstätige** *sub m, f* -n, -n які́ [якáя] працýе па прафéсіі
**Berúfsverkehr** *m* -s рух рабóчых цягнікóў, падвóз рабóчых да мéсца прáцы
**Berúfung** *f* -, -en 1) вы́клік; запрашэ́нне (*да сябе*) 2) прызначэ́нне (*на працу*) 3) (*auf A*) спасы́лка (*на што-н.*); ***únter ~ auf j-n, auf etw.*** спасылáючыся на кагó-н., на штó-н. 4) апеля́цыя 5) склікáнне (*сходу*)
**berúhen** *vi* (*auf D*) абапірáцца, грунтавáцца, трымáцца (*на чым-н.*)
**berúhigen** **1.** *vt* супакóйваць, уціхамíрваць **2. ~, sich** супакóйвацца
**berúhigend** *a* супакóйны
**Berúhigung** *f* -, -en 1) уціхамíрванне, супакóйванне 2) суцяшэ́нне
**Berúhigungsmittel** *n* -s, - супакóйлівы [болесуцяшáльны] срóдак
**berühmt** *a* славýты, выдáтны, знакамíты; ***durch etw. [für etw. (A), wégen (G)] ~ sein*** слáвіцца (*чым-н.*)
**Berühmtheit I** *f* -, -en 1) слáва, вядóмасць 2) славýтасць, славýты чалавéк
**Berühmtheit II** *f* -, -en знакамíтасць, знакамíты чалавéк
**berühren** **1.** *vt* датыкáцца, дакранáцца; *перан.* закранáць ◊ ***j-n empfíndlich ~*** закранýць [зачапíць] (*каго-н.*) за жывóе **2. ~, sich** 1) чапáць, крáтаць (*датыкацца адзін да аднаго*) 2) (*mit D*) датыкáцца, дакранáцца (*чым-н.*)
**Berührung** *f* -, -en дóтык, кантáкт; сутыкнéнне; ***mit j-m in ~ kómmen**** сутыкнýцца з кім-н., мець спрáву з кім-н.
**berúpfen** vt абшчы́пваць, абскубáць
**besäen** *vt* 1) засявáць 2) абсыпáць
**beságen** *vt* 1) гаварыць, свéдчыць (*пра што-н.*) 2) знáчыць; ***das beságt, dass...*** гэ́та знáчыць, што...; ***das will gar nichts ~*** гэ́та зусíм нíчóга не знáчыць
**beságt** *a* вышэйпамянёны
**besámen** *vt* абсемяня́ць, апладня́ць
**besänftigen** **1.** *vt* 1) супакóйваць, утаймóўваць 2) злагóджваць **2. ~, sich** 1) супакóйвацца 2) змякчáцца
**Besänftigung** *f* -, -en супакае́нне, утаймавáнне, уціхамíрванне; змякчэ́нне (*гневу і г.д.*)
**besät** *a* (спрэс) пакры́ты; засéяны
**Besátzung** *f* -, -en 1) гарнізóн; экіпáж, камáнда 2) акупáцыя
**Besátzungstruppen** *pl* акупацы́йныя вóйскі
**besáufen, sich** *груб.* напівáцца, набірáцца
**Besäufnis** *f* - п'я́нства
**besäumen** *vt* 1) аблямóўваць; падрýблівацъ (*тканіну*) 2) абсякáць

**beschädigen** *vt* прычыні́ць шко́ду; пашко́дзіць, папсава́ць; пара́ніць
**bescháffen I** *vt* 1) дастава́ць, набыва́ць 2) пастаўля́ць, прыво́зіць
**bescháffen II** *a* які́ ма́е пэ́ўныя я́касці
**Bescháffenheit** *f* -, -en 1) уласці́васць, я́касць; ***die ~ des Körpers*** целасклад́; ***die besóndere ~*** своеасаблі́васць 2) стан (*спраў*); ***je nach ~ der Úmstände*** у зале́жнасці ад акалі́чнасцей [абста́він]
**Bescháffung** *f* -, -en набыццё, нарыхто́ўка, паста́ўка; ~ ***von Kapitálen*** прыця́гванне капіта́лу
**beschäftigen 1.** *vt* займа́ць, дава́ць рабо́ту; ***er ist viel [sehr, stark] beschäftigt*** ён на́дта заня́ты; ён заня́ты чалаве́к **2. ~, sich** займа́цца (*mit D – чым-н.*)
**beschäftigt** *a* заня́ты
**Beschäftigung** *f* -, -en заня́так, рабо́та, пра́ца
**beschállen** *vt* 1) напаўня́ць гу́камі (*залу*) 2) *тэх.* апрацо́ўваць ультрагу́кам
**beschämen** *vt* сарамаці́ць, прысаро́млiваць
**beschämt** *a* прысаро́млены, засаро́млены
**Beschämung** *f* - со́рам, сарамлі́васць
**beschátten** *vt* 1) зацьмі́ць 2) абараня́ць ад со́нца 3) азмро́чваць 4) сачы́ць, віжава́ць (*за кім-н.*)
**bescháuen** *vt* 1) разгляда́ць, агляда́ць 2) кантралява́ць
**bescháulich** *a* 1) задуме́нны, летуце́нны 2) уту́льны, ці́хі
**Beschéid** *m* -(e)s, - 1) адка́з; тлумачэ́нне, указа́нне 2) рашэ́нне; заключэ́нне; ~ ***wíssen* (über A)*** быць у ку́рсе (*пра што-н.*); ~ ***ságen*** паве́даміць, перада́ць, даць адка́з
**beschéiden I** *a* сці́плы, памяркоўны
**beschéiden* II** *vt* 1) інфармава́ць, паведамля́ць (*рашэнне*) 2) ***(j-m) ~*** *паэт.* надава́ць (*каму-н. што-н.*); дарава́ць, дары́ць, дава́ць (*каму-н. што-н.*); ***jédem séinen Teil ~*** выдзяля́ць ко́жнаму яго́ ча́стку
**Beschéidenheit** *f* - сці́пласць; ***éine fálsche ~*** напускна́я [няшчы́рая] сці́пласць
**beschéinen*** *vt* асвятля́ць, свяці́ць (*на што-н.*)
**beschéinigen** *vt* све́дчыць, пацвярджа́ць; ***den Empfáng ~*** распіса́цца ў атрыма́нні
**Beschéinigung** *f* -, -en пасве́дчанне; распі́ска; квіта́нцыя
**beschéißen*** *vt груб.* 1) надуры́ць, абдуры́ць 2) запэ́цкаць, абга́дзіць
**beschénken** *vi* (*mit D*) адо́рваць, рабі́ць падару́нак (*каму-н.*)
**beschéren** *vt* (*j-m*) дары́ць (*каму-н.*); быць накана́ва́ным
**Beschérung** *f* -, -en 1) (*непрыемная*) неспадзява́нка 2) каля́дны падару́нак ◊ ***da háben wir die ~!*** вось табе́ і на!
**beschéuert** *a разм.* дурны́, звар'яце́лы
**beschícken** *vt* 1) пасыла́ць (*куды-н.*) 2) выклiка́ць да сябе́ (*каго-н.*)
**beschíelen** *vt* касі́ць, глядзе́ць ко́са; глядзе́ць крадко́м (*на каго-н., што-н.*)
**beschíeßen*** *vt* абстрэ́льваць; страля́ць (*па якой-н. цэлі*)
**beschímpfen** *vt* ла́яць, зневажа́ць
**Beschímpfung** *f* -, -en ла́янка, зневажа́нне
**beschírmen** *vt паэт.* бараніць; засланя́ць (*vor D, gegen A – каго-н., што-н. ад каго-н., чаго-н.*)
**Beschíss** *m* -es *груб.* падма́н, ашука́нства
**beschíssen** *a груб.* паску́дны; абпэ́цканы
**beschláfen*** *vt* адкла́дваць (*да раніцы якое-н. рашэнне*); ува́жліва абду́маць [абмеркава́ць] (*план, прапанову*)
**Beschlág** *m* -(e)s, Beschläge 1) абшы́ўка, абабі́ўка 2) падко́ва; падко́ўванне (*коней*) 3) армату́ра
**beschlágen I** *a* дасве́дчаны, во́пытны; ***er ist auf díesem Gebíet gut ~*** у гэ́тай галіне́ ён до́бра дасве́дчаны
**beschlágen* II 1.** *vt* 1) абшыва́ць, аббіва́ць 2) падко́ўваць **2. ~, sich** пакрыва́цца налётам; запаце́ць (*пра шкло*)
**beschlágen* III** *vt* канфіскава́ць
**Beschlágenheit** *f* - дасве́дчанасць, паінфармава́насць, ве́данне (*чаго-н.*)
**Beschlágnahme** *f* -, -n канфіска́цыя, апіса́нне (*маёмасці*)
**beschlágnahmen** *vt неаддз.* канфіско́ўваць; накла́сці а́рышт

**beschléichen*** *vt* 1) падкра́двацца (*да каго-н.*); шпіёніць, віжава́ць (*за кім-н.*) 2) *высок.* ахо́пліваць, авало́дваць (*аб пачуццях*); ***ein Gefühl der Angst beschlích ihn*** яго́ ахапі́ла пачуццё стра́ху

**beschléunigen** *vt* паскара́ць, прыспе́шваць; ***die Geschwíndigkeit ~*** павялі́чыць ху́ткасць

**Beschléunigung** *f* -, -en паскарэ́нне

**beschlíeβen*** *vt* 1) выраша́ць; пастанаўля́ць; прыма́ць (*рэзалюцыю, закон*) 2) раша́цца 3) сканча́ць (*пра справу*); ***den Empfáng beschlóss ein Konzért*** пасля́ прыёму адбы́ўся канцэ́рт

**Beschlúss** *m* -es, Beschlüsse 1) рашэ́нне; пастано́ва; ***~ fássen*** прыма́ць рашэ́нне 2) заключэ́нне, завяршэ́нне

**beschlússfähig** *a* правамо́цны

**Beschlússfassung** *f* -, -en прыня́цце рашэ́ння [пастано́вы]

**beschmíeren** *vt* зама́зваць; пэ́цкаць; размалёўваць (*mit D – чым-н.*)

**beschmútzen** *vt* забру́джваць, засме́чваць; пэ́цкаць

**beschnéiden*** *vt* 1) абраза́ць, падраза́ць; абстрыга́ць 2) скарача́ць, памяншáць; ***das Éinkommen ~*** урэ́заць дахо́д

**beschnéit** *a* пакры́ты сне́гам, сне́жны

**beschnüffeln** *vt* 1) абню́хваць 2) прыгляда́цца (*да чаго-н.*)

**beschnúppern** *vt* 1) абню́хваць (*пра жывёл*) 2) прыглядáцца (*да каго-н.*); *разм.* прыню́хвацца (*да каго-н.*)

**beschönigen** *vt* 1) прыхаро́шваць 2) апра́ўдваць

**beschränken 1.** *vt* абмяжо́ўваць (*auf A, in D – чым-н., у чым-н.*)**2. ~, sich** (*auf A*) абмяжо́ўвацца (*чым-н.*)

**beschränkt 1.** *a* абмежава́ны; ***~e Zeit*** абмежава́ны [каро́ткі] час; ***Geséllschaft mit ~er Háftung*** (*скар.* GmbH) *камерц.* тавары́ства з абмежава́най адка́знасцю **2.** *adv* абмежава́на

**Beschränktheit** *f* - абмежава́насць (*у розн. знач.*)

**Beschränkung** *f* - абмежава́нне, скарачэ́нне

**beschréiben*** *vt* 1) апі́сваць 2) спі́сваць; ***éine Kúrve ~*** апі́сваць крыву́ю

**beschréibend** *a* апіса́льны; ***~e Geometríe*** начарта́льная геаме́трыя

**Beschréibung** *f* -, -en 1) апіса́нне; ***das spóttet jéder ~*** гэ́та не паддае́цца ніяка́му апіса́нню 2) *тапагр.* леге́нда (ка́рты)

**beschréien*** *vt разм.* суро́чыць

**beschréiten*** *vt* ступа́ць, наступа́ць (*на што-н.*); ***éinen Weg ~*** *перан.* ступі́ць на шлях; ***den Réchtsweg ~*** падава́ць [звярта́цца] у суд

**beschríften** *vt* рабі́ць на́дпіс, надпі́сваць

**beschúldigen** *vt* (*G*) абвінава́чваць; вінава́ціць (*у чым-н.*); ***éines Mórdes beschúldigt wérden*** абвінава́чвацца ў забо́йстве

**Beschúldiger** *m* -s, - *юрыд.* абвінава́ўца

**Beschúldigte** *sub m, f* -n, -n абвінвáчаны, абвінава́чаная

**Beschúldigung** *f* -, -en абвінава́чанне; ***éine ~ erhében**** абвінава́чваць

**beschúmmeln** *vt разм.* ашу́кваць, абду́рваць

**Beschúss** *m* -es, -schüsse абстрэ́л; ***únter ~ líegen**** знахо́дзіцца [быць] пад абстрэ́лам

**beschütten** *vt* 1) абсыпа́ць, пасыпа́ць, засыпа́ць (*што-н.*) 2) абліва́ць, залiва́ць (*што-н. вадой*)

**beschützen** *vt* (*vor D, gegen A*) 1) абараня́ць, аберага́ць, барані́ць (*ад каго-н., ад чаго-н.*) 2) апекава́цца (*над кім-н., над чым-н.*)

**Beschüzer** *m* -s, - 1) абаро́нца, апяку́н 2) засту́пнік

**beschwätzen** *vt* угаво́рваць; *фам.* загаво́рваць зу́бы; ***zu etw. ~*** схіля́ць да чаго́-н.

**Beschwérde** *f* -, -n 1) ця́жкасць 2) хваро́ба, не́мач 3) ска́рга; ***~ éinlegen*** падава́ць ска́ргу; ***~n láufen* über j-n, über etw. ein*** паступа́юць ска́ргі на каго́-н., на што-н.

**Beschwérdebuch** *n* -(e)s, -bücher кні́га ска́ргаў

**beschwérdefrei** *a* без ска́ргаў

**beschwéren 1.** *vt* 1) (*mit D*) абцяжа́рваць,

паклáсці што-н. ця́жкае (*на-што-н.*) 2) *перан.* абця́жваць; ***j-n mit Bítten*** ~ турбавáць кагó-н. прóсьбамі**2. ~, sich** (*über A*) скáрдзіцца (*на што-н., на кагó-н.*)

**beschwérlich** *a* цяжкавáты, ця́жкі; ~ ***sein*** быць цяжáрам

**Beschwérlichkeit** *f* -, -en ця́жкасць; стóмленасць

**beschwíchtigen** *vt* супакóйваць, заспакóйваць, сунімáць; ***éinen Streit*** ~ улáдзіць спрэ́чку

**Beschwíchtigung** *f* -, -en супакóй, прымірэ́нне; ***zur*** ~ ***méines Gewíssens*** для супакóю майгó сумлéння

**beschwíndeln** *vt* падмáнваць, ашýкваць

**beschwíngt** *a* 1) крылáты 2) *перан.* акры́лены

**beschwípst** *a разм.* нападпíтку

**beschwören*** *vt* 1) прысягáць (*у чым-н.*) 2) заклінáць

**Beschwörung** *f* -, -en 1) пацвярджэ́нне прыся́гай 2) заклінáнне 3) загавóры

**beséelen** *vt* натхня́ць

**beséhen*** *vt* аглядáць, разглядáць; ***sich im Spíegel*** ~ глядзéцца ў люстэ́рка

**beséitigen** *vt* ліквідóўваць; прымáць (*з дарогі*) 2) знішчáць; ***den Verdácht*** ~ рассéяць падазрэ́нні

**Beséitigung** *f* -, -en ліквідáцыя, знішчэ́нне, скасавáнне

**beséligen** *vt* ашчаслíвіць; прывóдзіць у захаплéнне; ***beséligt*** у захаплéнні

**Bésen** *m* -s, - мятлá, вéнік; дзяркáч, шчóтка

**Bésenstiel** *m* -(e)s, -e рýчка ад мятлы́ ◊ ***er steht steif wie ein*** ~ ён (стаіць) як мы́ла з’éўшы

**beséssen** *a* апантáны; шалёны

**Beséssenheit** *f* - шалёнасць; апантáнасць; утрапёнасць; фанаты́чнасць

**besétzen** *vt* 1) займáць (*месца, памяшкане*) 2) акупíраваць 3) займáць (*пасаду*) 4) абшывáць, унíзваць

**Besétzung** *f* -, -en 1) заня́цце (*памяшкання*); акупáцыя 2) замяшчэ́нне (*пасады*) 3) вызначэ́нне (*на пасаду*) 4) *тэатр.* размеркавáнне (*роляў*); склад выканáўцаў 5) *спарт.* камáнда; састáў, склад

**besíchtigen** *vt* аглядáць

**Besíchtigung** *f* -, -en 1) агля́д 2) рэвíзія, інспéкцыя 3) медыцы́нскі агля́д

**besíedeln** *vt* засяля́ць; каланізавáць

**Besíedlung** *f* -, -en засялéнне; каланізáцыя

**besíegeln** *vt* 1) прыклáдваць пячáтку (*да чаго-н.*); запячáтваць (*што-н.*) 2) пацвярджáць; ***j-s Schícksal*** ~ вы́рашыць чый-н. лёс

**besíegen** *vt* перамагáць, адóльваць, асíльваць

**besíngen*** *vt* апявáць, услаўля́ць

**besínnen, sich** 1) апáмятацца 2) (*G auf A*) успамінáць (*пра што-н.*) 3) раздýмваць, разважáць; ***sich ánder, [éines Béssern]*** ~ адýмацца, перадýмаць ◊ ***erst besínn’s, dann begínn’s*** ≅ сем разóў адмéрай, адзíн раз адрэ́ж

**Besínnen** *n* -s рóздум; ***nach kúrzem [lángem]*** ~ пасля́ карóткага [дóўгага] рóздуму

**besínnlich** *a* 1) пáмятны 2) задýмлівы; удýмлівы 2) глыбакадýмны 4) спакóйны; утýльны

**Besínnlichkeit** *f* - сузірáнне, рóздум; ~ ***nicht áufkommen lássen**** не даць задýмацца

**Besínnung** *f* - свядóмасць, пáмяць, прытóмнасць; ***die*** ~ ***verlíeren**** 1) стрáціць прытóмнасць, знепрытóмнець 2) трáціць [губля́ць] галавý

**besínnungslos 1.** *a* без пáмяці, непрытóмны **2.** *adv* у непрытóмным стáне

**Besítz** *m* -es 1) уладáнне; маёнтак 2) маёмасць; ***etw. in*** ~ ***néhmen**** авалóдваць чым-н.; ***den*** ~ ***ergréifen**** уступíць у валóданне

**besítzanzeigend** *a*: ***~es Fürwort*** прыналéжны займéннік

**besítzen*** *vt* мець, валóдаць (*чым-н.*); ***die Áchtung der Fréunde*** ~ карыстáцца павáгай сяброў

**besítzend** *a* маёмны; ***die ~en Klássen*** маёмныя клáсы

**Besítzer** *m* -s, - уладáльнік, гаспадáр,

ула́снік
**Besítzergreifung** *f* -, -en 1) авало́данне 2) экспрапрыя́цыя
**besítzlos** *a* немаёмны
**Besítztum** *n* -s, -tümer 1) маёмасць 2) маёнтак, улада́нне
**Besítzung** *f* -, -en 1) вало́данне, улада́нне 2) маёнтак, (зяме́льнае) улада́нне; кало́нія
**besóffen** *a груб.* п'я́ны
**besóhlen** *vt* падбіва́ць падно́скі; ***die Stíefel ~*** пастаўіць на бо́ты но́выя падно́скі
**besólden** *vt* плаці́ць (*каму-н.*) зарпла́ту [жа́лаванне]
**Besóldung** *f* -, -en жа́лаванне, акла́д (*служачага*)
**besónder(e)** *a* асаблі́вы, асо́бны; ***im Besónderen*** у прыва́тнасці; ***étwas Besónderes*** не́шта асаблі́вае
**Besónderheit** *f* -, -en (свое)асаблі́васць
**besónders** *adv* асаблі́ва, асо́бна; ***nicht ~*** не на́дта
**besónnen 1.** *a* разва́жны, разва́жлівы; асцяро́жны; уду́млівы **2.** *adv* разва́жна, асцяро́жна
**Besónnenheit** *f* - разва́жнасць, разва́жлівасць; уду́млівасць
**besórgen** *vt* 1) даставаць, прыно́сіць 2) выко́нваць (*даручэнне*) 3) займа́цца, клапаці́цца; ***die Wírtschaft ~*** ве́сці гаспада́рку; ***Éinkäufe ~*** рабі́ць заку́пкі 4) (*высок., уст.*) непако́іцца; ***es ist zu ~, dass…*** ёсць апа́ска, што…
**Besórgnis** *f* -, -se непако́й, трыво́га; турбо́ты; ***~ errégen*** непако́іць
**besórgniserregend** *a* трыво́жны; які́ выклі́кае заклапо́чанасць
**besórgt** *a* клапатлі́вы; ***um [für] j-n, um [für] etw. (A) ~ sein*** клапаці́цца, турбава́цца, хвалява́цца (*за каго-н, за што-н.*)
**Besórgung** *f* -, -en 1) выкана́нне 2) дару́чэнне; паку́пка; ***~en máchen*** закупля́ць, рабі́ць за́купы [паку́пкі]
**bespánnen** *vt* 1) абця́гваць; нацягваць 2) (*mit D*) запрага́ць (*коней у воз і г.д.*)
**bespíegeln, sich** адбіва́цца, адлюстро́ўвацца (*у вадзе, люстэрку і г.д.*)
**bespíelen** *vt* 1) (і)гра́ць (*на музычным інструменце*), выпрабо́ўваць (*музычны інструмент*) 2) рабі́ць за́піс (*на плыту, на стужку*)
**bespítzeln** *vt* сачы́ць (*за кім-н.*), шпіёніць
**bespötteln** *vt* паке́пліваць (*з каго-н., чаго-н.*); жартава́ць, падсме́йвацца (*з каго-н., чаго-н.*)
**bespótten** vt насміха́цца (*з каго-н., чаго-н.*) здзе́квацца (*з каго-н., чаго-н.*)
**bespréchen*** **1.** *vt* гавары́ць (*пра што-н., пра каго-н.*) 2) абмяркоўваць 3) нагаво́рваць (*на стужку, плыту*) **2. ~, sich** ра́іцца (*аб чым-н.*); згаво́рвацца (*аб чым-н.*)
**Bespréchung** *f* -, -en 1) абмеркава́нне, перагаво́ры, нара́да 2) рэцэ́нзія 3) заклі́на́нне, загаво́р
**bespréngen** *vt* апы́рскваць, араша́ць; ***die Stráßen ~*** паліва́ць ву́ліцы
**bespritzen** *vt* апы́рскваць, паліва́ць
**bespúcken** *vt* аплёўваць
**bespülen** *vt* абмыва́ць, мыць
**bésser 1.** *a* ле́пшы **2.** *adv* лепш, ле́пей; ***désto ~, um so ~*** тым лепш
**béssern 1.** *vt* паляпша́ць, выпраўля́ць **2. ~, sich** паляпша́цца, папраўля́цца; ***die Kúrse ~ sich*** (біржавы́) курс павыша́ецца
**Bésserung** *f* -, -en паляпшэ́нне, папра́ўка; выздараўле́нне; ***er ist auf dem Wége der ~*** ён папраўля́ецца
**Bésserungsanstalt** *f* -, -en выхава́ўча-папра́ўчая кало́нія для малале́тніх правапаруша́льнікаў
**Bésserwisser** *m* -s, - *іран.* разу́мнік, усяве́д
**best 1.** *a* найле́пшы; ***beim ~en Wíllen*** хоць бы і мо́цна захаце́ць, пры ўсім жада́нні; ***der érste béste*** пе́ршы сустрэ́чны **2.** *adv* ***am ~en*** лепш за ўсё; як мага́ лепш, як найле́пш; ***aufs Béste*** як не́льга лепш
**Bestánd** *m* -(e)s, Bestände 1) склад, склад, саста́ў; стан 2) ная́ўнасць (ка́сы); фонд, запа́с 3) трыва́ласць; цэ́ласнасць ***~ háben, von ~ sein*** быць трыва́лым 4) *с.-г.* пагало́ўе

5) *лес.* (леса)насаджэ́нне; дрэвасто́й

**beständig 1.** *a* пастая́нны, усто́йлівы, трыва́лы **2.** *adv* пастая́нна, заўсёды; ***er bleibt ~ hier*** ён застае́цца тут на пастая́ннае жыха́рства

**Beständigkeit** *f* - пастая́нства, нязме́ннасць, трыва́ласць

**Bestándsliste** *f* -, -n інвента́рны спіс

**Bestándsaufnahme** *f* -, -n інвентарыза́цыя, во́піс (*тавару*)

**Bestándteil** *m* -(e)s, -e састаўна́я ча́стка, скла́днік, элеме́нт

**Béstarbeiter** *m* -s, - перадаві́к [выда́тнік] вытво́рчасці (*у былой ГДР*)

**bestärken** *vt* падмацо́ўваць; пацвярджа́ць; мацава́ць, падтры́млiваць; ***j-n in séiner Méinung ~*** умацава́ць у кім-н. яго́ную ду́мку

**Bestärkung** *f* -, -en умацава́нне, перакана́нне, пацвярджэ́нне

**bestätigen** *vt* пацвярджа́ць, све́дчыць; зацвярджа́ць

**Bestätigung** *f* -, -en пацвярджэ́нне; ратыфіка́цыя, зацвярджэ́нне

**bestátten** *vt* хава́ць (*пра нябожчыка*)

**Bestáttung** *f* -, -en пахава́нне, хаўту́ры; крэма́цыя

**bestáuben 1.** *vt* запылі́ць **2.** *vi* (s) пылі́цца

**bestäuben** *vt* 1) запылі́ць 2) *бат.* апыля́ць 3) пасыпа́ць (*мукой і г.д.*); зацерусі́ць (*снегам*)

**Bestäubung** *f* -, -en *бат.* апыле́нне

**bestáunen** *vt* глядзе́ць са здзіўле́ннем, дзіві́цца (*з каго-н., з чаго-н.*)

**béste 1.** *a* найле́пшы; ***der érste ~*** пе́ршы сустрэ́чны **2.** *adv* ***am ~n*** лепш за ўсё; ***aufs Béste*** як магá лепш

**Béste** *sub* **1.** *m, f* -n, -n (най)ле́пшы, -шая **2.** *n* найле́пшае; дабро́, кары́сць; вы́гада; ***sein ~s tun*** рабі́ць усё магчы́мае

**bestéchen** *vt* 1) падкупля́ць; ***sich ~ lássen* (von j-m)*** браць ха́бар (*з каго-н.*); (*durch A*) спакуша́цца (*чым-н.*) 2) *перан.* падкупля́ць

**bestéchlich** *a* прада́жны, падку́пны

**Bestéchlichkeit** *f* - прада́жнасць, хаба́рніцтва

**Bestéchung** *f* -, -en по́дкуп, ха́бар; ***der ~ zúgänglich*** прада́жны, падку́пны; ***passíve ~*** *юрыд.* атрыма́нне ха́бару; ***aktíve ~*** да́ча ха́бару

**Bestéck** *n* -(e)s, -e 1) прыбо́р, начы́нне (*сталовае*) 2) набо́р інструме́нтаў; гатава́льня

**bestéhen* 1.** *vt* вытры́млiваць, перадо́льваць; ***die Prüfung ~*** вы́трымаць экза́мен [іспы́т] **2.** *vi* 1) існава́ць 2) (*auf D*) насто́йваць (*на чым-н.*) 3) (*aus D*) склада́цца (*з чаго-н.*) 4) (*in D*) заключа́цца; утры́млiвацца (*у чым-н.*) 5) (*vor D, gegen A*) вы́трымаць, устая́ць (*супраць каго-н., чаго-н.*); ***im Kampf ~*** устая́ць у барацьбе́

**Bestéhen** *n* -s 1) існава́нне 2) трыва́ласць 3) зда́ча (*іспытаў*) 4) насто́йванне (*auf D – на чым-н.*)

**bestéhend** 1) *a* існу́ючы; ***die ~en Gesétze*** існу́ючыя [дзе́ючыя] зако́ны 2) які́ [што] існуе́

**bestéhlen*** *vt* абкра́дваць, абкрада́ць

**bestéigen*** *vt* 1) узыхо́дзіць, падыма́цца (*на што-н.*) 2) сяда́ць (*на каня, на параход*)

**bestéllen I** *vt* 1) зака́зваць, замаўля́ць сабе́ 2) урабля́ць (*поле*) 3) перадава́ць, перака́зваць (*прывітанне*) 4) (*mit D*) абстаўля́ць, застаўля́ць (*чым-н.*) 5): ***es ist gut [schlecht] um ihn, um etw. (A) [mit ihm, mit etw.] bestéllt*** яго́ спра́вы [спра́вы нако́нт гэ́тага] іду́ць до́бра [дрэ́нна]; ***die Zéitung ~*** вы́пісаць [падпіса́цца на] газе́ту

**bestéllen II** *vt* прызнача́ць (*на якую-н. пасаду, выконваць функцыі*)

**Bestéller** *m* -s, - зака́зык

**Bestéllliste** *f* -, -n спіс зака́заў

**Bestéllschein** *m* -(e)s, -e бланк зака́зу

**Bestéllung** *f* -, -en 1) даручэ́нне; зака́з; ***auf ~*** на зака́з; ***éine ~ máchen*** зрабі́ць зака́з 2) дастáўка, разно́ска (*пісьмаў*) 3) ураблéнне (*зямлі*) 4) назначэ́нне (*zu D – кім-н.*)

**béstenfalls** *adv* у са́мым ле́пшым вы́падку

**béstens** *adv* найле́пш, лепш за ўсё; ***ich***

**Éichel** *f* -, -n 1) жóлуд 2) жóлудзі, хрэ́сці (у *картах*)
**Éichelkaffee** *m* -s, -s жалудóвая кáва
**éichen I** *a* дубóвы
**éichen II** *vt* правярáць, тары́раваць, кляйміць (*меры і вагі*); калібравáць; рэгулявáць ◊ ***daráuf bin ich geéicht*** на гэ́тым я сабáку з’еў
**Éichenholz** *n* -es дубóвы лес (*матэрыял*)
**Éichenlaub** *n* -s дубóвае лісце
**Éich|horn** *n* -s, -hörner, ~**hörnchen** *n* -s, - *заал.* вавёрка
**Eid** *m* -es, -e кля́тва, прыся́га; ***éinen ~ léisten [áblegen]*** прысягáць; ***éinen ~ schwören*** кля́сціся; ***j-m den ~ ábnehmen**** прывóдзіць кагó-н. да прыся́гі; ***den ~ bréchen**** парýшыць кля́тву [прыся́гу]
**Éidbruch** *m* -s, -brüche парушэ́нне кля́твы [прыся́гі], клятвапарушэ́нне
**éidbrüchig** *a* клятвапарушáльны; ***éine ~e Áussage*** фальшы́вае свéдчанне
**Éidechse** *f* -, -n я́шчарка
**Éiderdaunen** *pl* гáгаў [гагáчы] пух
**Éider|ente** *f* -, -n, ~**gans** *f* -, -gänse *заал.* гáга
**Éidgenosse** *m* -n, -n 1) саю́знік 2) грамадзянін Швейцáрыі, швейцáрац
**Éidgenossenschaft** *f* -: ***Schweízerische ~*** Швейцáрская канфедэрáцыя
**éidgenössisch** *a* швейцáрскі
**éidlich** *a* пад прыся́гай; пацвéрджаны кля́твай
**Éidotter** *m* -s, - яéчны жаўтóк
**Éierkuchen** *m* -s, - амлéт
**Éierschale** *f* -, -n шкарлупíна я́йка ◊ ***er hat noch ~n hínter den Óhren*** *разм.* у ягó яшчэ́ матчы́на малáко на губáх не абсóхла; ён яшчэ́ зусім блазню́к [блазнóта]
**Éierstock** *m* -s, -e *анат.* яéчнік
**Éierteig** *m* -s здóбнае цéста (*на яйках*)
**Éieruhr** *f* -, -en пясóчны гадзіннік, гадзіннік для замéру чáсу гатавáння [варэ́ння]
**Éifer** *m* -s старáннасць, рýпнасць; ***im ~*** у запáле; ***~ bekúnden*** праявіць запáл; ***in ~ geráten**** гарачы́цца, увайсці ў азáрт
**éifern** *vi* 1) (*nach D*) старáцца, дбаць; старáнна дамагáцца (*чаго-н.*) 2) (*gegen A*) гóрача пратэставáць (*супраць чаго-н.*) 3) (*mit* j-*m in D*) спабóрнічаць (*з кім-н.* у *чым*-н.)
**Éifersucht** *f* - рэ́ўнасць; ***j-s ~ errégen*** вы́клікаць рэ́ўнасць у кагó-н. ◊ ***~ ist éine Léidenschaft, die mit Éifer sucht, was das Léiden schafft*** рэ́ўнасць – гэ́та схільнасць знахóдзіць усё нóвыя і нóвыя пакýты
**éifersüchtig** *a* раўнівы; ***(auf A) ~ sein*** раўнавáць (*каго*-н.)
**éiförmig** *a* яйцападóбны
**éifrig 1.** *a* старáнны, заўзя́ты, руплівы **2.** *adv* заўзя́та, рупліва; ***~ (bei etw. D) sein*** рупліва займáцца (*чым-н.*)
**Éifrigkeit** *f* - запáл, старáннасць, руплівасць
**Éigelb** *n* -(e)s, -e *і з ліч.* - *гл.* Éidotter
**éigen** 1) свой, улáсны, уласцівы; ***das ist mein ~*** гэ́та мая́ ўласнасць; ***etw. zu ~ háben*** валóдаць чым-н. 2) своеасаблівы, дзіўны, асаблівы; ***sich (D) etw. zu ~ máchen*** прысвóіць сабé штó-н.; ***auf ~e Faust*** на сваю́ ры́зыку; ***auf ~e Réchnung*** на свой кошт; ***es ist mir ~ zumúte [zu Múte]*** мне не па сабé
**Éigenart** *f* -, -en своеасаблівасць, арыгінáльнасць
**éigenartig** *a* своеасаблівы, асаблівы, самабы́тны
**Éigenbericht** *m* -s, -e паведамлéнне ўлáснага карэспандэ́нта
**Éigenbrötler** *m* -s, - дзівáк, арыгінáльная асóба
**Éigendünkel** *m* -s ганарлівасць, зазнáйства
**Éigengewicht** *n* -s, -e 1) чы́стая вагá 2) *фіз.* удзéльная вагá
**éigenhändig 1.** *a* уласнарýчны **2.** *adv* уласнарýчна, улáснымі [сваімі] рукáмі
**Éigenheim** *n* -s, -e дом (*на адну сям’ю*), асабня́к, катэ́дж
**Éigenheit** *f* -, -en своеасаблівасць, асаблівасць
**Éigenliebe** *f* - эгаізм, сябелю́бства
**Éigenlob** *n* -es самахвáльства
**Éigenmacht** *f* - самавóльства
**éigenmächtig** *a* самавóльны; ***~ händeln***

дзéйнічаць самавóльна

**Éigenname** *m* -ns, -n *грам.* імя́ ўлáснае

**Éigennutz** *m* -es карысталю́бства, кары́слівасць, эгаíзм

**éigennützig** *a* (свое)кары́слівы

**éigens** *a высок.* спецыя́льна, наўмы́сна, знарóк

**Éigenschaft** *f* -, -en я́касць, уласцíвасць; ***in der ~ als…*** у я́касці кагó-н., чагó-н.

**Éigenschaftswort** *n* -es, -wörter *грам.* прымéтнік

**Éigensinn** *m* -s упáртасць; ***das ist nur ~ von dir*** гэ́та тóлькі ўпáртасць з твайгó бóку

**éigensinnig** *a* упáрты; наравíсты

**Éigensucht** *f* - эгаісты́чнасць, сябелю́бства, сябелю́бнасць; кары́слівасць, карысталю́бства

**éigensüchtig** *a* эгаісты́чны, сябелю́бны, кары́слівы

**éigentlich 1.** *a* улáсны, сапрáўдны; ***~e Ábsichten*** шчы́рыя [сапрáўдныя] намéры 2) прамы́, непасрэ́дны; ***~er Zusámmenhang*** прамáя [непасрэ́дная] су́вязь **2.** *adv* улáсна (кáжучы); ***was wóllen Sie ~?*** Чагó Вы, улáсна кáжучы, хóчаце [жадáеце]?; ***er hat ~ Recht*** ён, улáсна кáжучы, мáе рáцыю

**Éigentum** *n* -s, Éigentümer улáснасць; маёмасць

**Éigentümer** *m* -s, - улáснік, уладáльнік, гаспадáр

**éigentümlich 1.** *a* 1) улáсны 2) своеасаблíвы, дзíўны **2.** *adv* дзíўна, незразумéла, незвычáйна

**Éigenverbrauch** *m* -s улáснае спажывáнне

**éigenwillig** упáрты, свавóльны, наравíсты, капры́зны

**éignen, sich** (*zu D*) быць прыдáтным (*да чаго*-н.), падыхóдзіць (*для чаго*-н.), быць здáтным (*на што*-н.)

**Éignung** *f* -, -en прыдáтнасць; здáтнасць

**Éiland** *n* -s, -e *паэт.* (*невялікі*) вóстраў, вы́спа

**Éilbote** *m* -n, -n кур'éр, пасланéц, ганéц

**Éilbrief** *m* -s, -e спéшнае пісьмó, дэпéша

**Éile** *f* - паспéшлівасць, спéшка; ***in áller ~*** спéшна, спяшáючыся; ***in der ~*** у спéшцы, спéхам; ***die Sáche hat ~, es hat ~ damít*** спрáва не цéрпіць адклáду

**éilen** *vi* 1) (*s*) спяшáцца 2) (*h*) (*mit D*) спяшáцца (*зрабіць што*-н.); ***ich hábe mit der Árbeit geéilt*** я спяшáўся зрабíць рабóту; ***zu Hílfe ~*** спяшáцца на дапамóгу; ***die Zeit eilt*** час бяжы́ць

**éilends** *adv* спéшна, у спéшцы

**éilfertig** *a* паспéшлівы

**Éilgut** *n* -es, -güter тэрмінóвы груз, экспрэ́с-груз

**éilig** *a* спéшны, тэрмінóвы; ***ich hábe es ~*** я спяшáюся; ***nur nicht so ~!*** Не спяшáйся так!

**Éilmarsch** *m* -es, -märsche *вайск.* фарсíраваны марш

**Éilzug** *m* -es, -züge *уст.* ху́ткі цягнíк [пóезд]

**Éimer** *m* -s, - вядрó; ***es gießt wie mit ~n*** дождж лье як з вядрá

**ein I** *m* (*f* éine, *n* ein) 1) *num* (*без назоўніка*: *m* éiner, *f* éine, *n* éines) áдзін, áдна, аднó; ***~ für álle Mal*** раз назаўсёды 2) *неазначальны артыкль* 3) *pron indef* хтóсьці, штóсьці, хто-нéбудзь, што-нéбудзь

**ein II** 1) *аддз. дзеясл. прыстаўка*, *указвае на*: 1) *рух, пранікненне ўсярэдзіну чаго-н.*; éintreten* увахóдзіць 2) *набыццё чаго-н.;* éinkaufen купля́ць, закупля́ць; éinsameln збірáць (*напр. узносы*) 3) *пераход дзеючай асобы або аб'екта дзеяння ў які-н. другі стан*: éinfrieren* замярзáць; éinschlafen* засынáць

**Éinakter** *m* -s, - аднаактóвая п'éса

**einánder** *pron rez inv* адзíн аднагó, узаéмна; ***~ hélfen**** дапамагáць адзíн аднаму́

**éinarbeiten 1.** *vt* 1) прывучáць да прáцы; ўвóдзіць у курс спрáвы 2) *тэх.* уманцíраваць, урабíць (уну́тр) 3) уключáць; ***die Fórderung in die Resolutión ~*** улючы́ць патрабавáнне ў рэзалю́цыю **2. ~, sich** унікáць у спрáву; асвóйвацца, прывыкáць; ***sich aufeinánder ~*** спрацавáцца аднó з другíм; ***sich in ein néues Amt ~*** асвóйвацца з нóвай пасáдай

**éinarmig** *a* 1) аднару́кі 2) *тэх.* аднапле́чны
**éinartig** *a* аднаро́дны
**éinäschern** *vt* перада́ць крэма́цыі, крэмі́раваць; спапялі́ць, ператвары́ць у по́пел
**Éinäscherung** *f* -, -en 1) крэма́цыя 2) ператвара́энне ў по́пел
**éinatmen** *vt* удыха́ць, ды́хаць (*чым-н.*)
**Éinatmung** *f* -, -en уды́х, уды́хванне
**éinäugig** *a* 1) аднаво́кі 2) монакуля́рны
**Éinbahnstraße** *f* -, -n ву́ліца [даро́га] аднабако́вага ру́ху (*па якой язда дазваляецца ў адным напрамку*)
**Éinband** *m* -s, -bände пераплёт (*кнігі*)
**éinbändig** *a* аднато́мны
**Éinbau** *m* 1) (-s) *тэх.* усталява́нне 2) -s, -ten *горн.* уру́б
**éinbauen** *vt* 1) устана́ўліваць, усталёўваць (*машыны*) 2) урабля́ць, устаўля́ць, умуро́ўваць
**Éinbaumöbel** *n* -s, - убудава́ная, [уманці́раваная] мэ́бля
**éinbegreifen*** *vt* уключа́ць (*куды-н. што-н.*)
**éinbegriffen**: ***mit*** ~ уклю́чна; ***díese Súmme (mit)*** ~ гэ́тую су́му ўклю́чна
**éinbeinig** *a* аднано́гі
**éinbeißen*** **1.** *vi* (A) куса́ць (*што-н.*); надку́сваць (*што-н.*) **2. ~, sich** (*in A*) угрыза́цца (*у што-н.*), упіва́цца (*у што-н.*)
**éinberechnen** *vt* уключа́ць у раху́нак, улі́чваць
**éinberufen*** *vt* 1) склікаць 2) *вайск.* прызыва́ць (*на службу*)
**Éinberufung** *f* -, -en 1) склі́канне 2) *вайск.* прызы́ў, набо́р (*на службу*); ~ ***von Banknóten*** *фін.* зня́цце банкно́таў (*з абарачэння*)
**éinbetten** *vt* укла́дваць (*у пасцель; кабель*)
**éinbeziehen*** *vt* уключа́ць; далуча́ць; уця́гваць
**éinbiegen*** **1.** *vt* загну́ць; увагну́ць **2.** *vi* (s) зваро́чваць; ***um die Éke*** ~ завярну́ць за ву́гал
**Éinbiegung** *f* -, -en загі́н, прагі́н
**éinbilden**: ***sich (D) etw.*** ~ уяўля́ць сабе́ што-н.; ***sich (D) viel [étwas]*** ~ зазна́цца, зафанабэ́рыцца
**Éinbildung** *f* -, -en 1) уяўле́нне, фанта́зія 2) пага́рда, фанабэ́рыя
**Éinbildungskraft** *f* - сі́ла ўяўле́ння, фанта́зія
**éinbinden*** *vt* 1) заго́ртваць; завя́зваць 2) пераплята́ць (*кнігу*)
**éinblasen*** *vt* удзіма́ць; ***Luft in éinen Ballón*** ~ надзьму́ць бало́н паве́трам
**éinbläuen** *vt* (*D*) удзяўбці́ ў галаву́ (*каму-н., што-н.*)
**Éinblick** *m* -s, -e 1) (*in A*) по́гляд (*на што-н.*); азнаямле́нне (*з чым*-н.); ***j-m ~ in etw. gében**** азнаёміць каго́-н. з чым-н. 2) *тэх.* акуля́р, адту́ліна акуля́ра
**éinbrechen*** **1.** *vt* прало́м(лі)ваць, прагіба́ць **2.** *vi* (s) 1) урыва́цца 2) абва́львацца; абарача́цца 3) раптоўна пачына́цца, надыхо́дзіць
**Éinbrecher** *m* -s, - узло́мшчык
**éinbrennen*** **1.** *vt* выпа́льваць, прапа́льваць **2.** *vi* (s) загарэ́ць (*на сонцы*); выгара́ць
**éinbringen*** *vt* 1) прыво́дзіць, уно́сіць 2) ***die Érnte*** ~ убіра́ць ураджа́й 3) прыно́сіць прыбы́так; ***Geld*** ~ дава́ць дахо́д 4) уно́сіць (*прапанову і г.д.*); ***éine Resolutión*** ~ прапанава́ць рэзалю́цыю 5) нагна́ць, навярста́ць; ***die verlórene Zeit*** ~ навярста́ць прапу́шчаны час
**Éinbringung** *f* -, -en 1) увядзе́нне, уняс́енне (*угнаенняў*) 2) убо́рка (*ураджаю*) 3) прад'яўле́нне (*доказу*) 4) унясе́нне (*прапановы*)
**éinbrocken** *vt* 1) накрышы́ць 2) *разм.* заверы́ць ка́шу ◊ ***er hat uns éine schöne Súppe éingebrockt*** ну і ка́шу ён нам завары́ў
**Éinbruch** *m* -s, -brüche 1) узло́м 2) абва́л 3) надыхо́д (*пачатак чаго*-н.) 4) уварва́нне; ата́ка; ~ ***kálter Luft*** прыто́к хало́днага паве́тра
**Éinbuchtung** *f* -, -en вы́гін, загі́н
**éinbürgern** **1**. *vt* дава́ць правы́ грамадзя́нства **2. ~, sich** 1) атры́мліваць правы́ грамадзя́нства 2) укарані́цца, ата́барыцца
**Éinbuße** *f* -, -n стра́та, шко́да; ~ ***erléiden*** ***[erfáhren*, háben] (an D)*** пацярпе́ць стра́ту (у *чым-н.*)

**éinbüßen** *vt* (*an D*) трáціць, губля́ць (*што-н.*)
**éindämmen** *vt* 1) запрýджваць, гацíць 2) абмяжóўваць, звýжваць; ***die Kritík ~*** зацiскáць кры́тыку
**éindecken**, **sich** (*mit D*) запасáцца (*чым-н.*), рабíць запáсы
**Éindecker** *m* -s, - 1) *ав.* манаплáн 2) *марск.* аднапáлубнае сýдна
**éindeutig 1.** я́сны, недвухсэнсóўны 2) *матэм.* адназнáчны, лiнéйны **2.** *adv* я́сна, бясспрэ́чна; ***das ist (klar und) ~ geságt*** гэ́та я́сна скáзана
**Éindeutgkeit** *f* 1) - зразумéласць, недвухсэнсóвасць, даклáднасць 2) - *матэм.* адназнáчнасць 3) -, -en грýбасць
**éindimensional** *a тэх.* аднамéрны
**éindrängen 1.** *vt* уцíскваць **2. ~, sich:** ***sich in j-s Vertráuen ~*** улáзiць да кагó-н. у давéр
**éindrillen** *vt* 1) прасвiдрóўваць, свiдравáць 2) *разм.* цвiчыць; *перан.* нашпiгóўваць; ***fürs Exámen ~*** *разм.* нашпiгóўваць да экзáмена
**éindringen*** *vi* (s) 1) пранiкáць, урывáцца 2) унiкáць, уваxóдзiць 3) (*auf A*) напiрáць, насядáць (*на каго-н.*)
**éindringlich** *a* настóйлiвы, пераканáўчы
**Éindringling** *m* -s, -e 1) праны́ра 2) захóпнiк, акупáнт
**Éindringung** *f* -, -en уварвáнне, пранiкнéнне
**Éindruck** *m* -s, -drücke 1) урáжанне; ***den ~ máchen*** рабíць уражáнне 2) адбíтак, след; ***der ~ háftet*** урáжанне застаéцца ў пáмяцi
**éindrücken** *vt* 1) уцiскáць, выцiскáць (*паглыбленне*) 2) працiскáць, выцiскáць (*шыбу, дно бочкi*)
**éindrücklich 1.** *a* катэгары́чны **2.** *adv* 1) вáрта ўвáгi 2) пераканáўча; вырáзна
**éindrucksvoll** *a* вырáзны, знáчны; ***~e Ántwort*** вáжкi адкáз
**éine** *гл.* ein
**éineinhálb** *num* паўтарá, паўтары́
**éinem** *D ад* ein; (*ужываецца ў D замест* man): ***das kann ~ álle Táge passíeren*** гэ́та ў любы́ мóмант мóжа з кóжным здáрыцца
**éinen** *A ад* ein; (*ужываецца ў A замест* – man): ***das freut ~*** гэта прыéмна (цéшыць)
**éiner** *гл.* ein
**Éiner** *m* -s, - 1) *матэм.* адзíнка 2) *спарт.* адзiнóчка (*лодка*)
**éinerléi** *adv inv* усё рóўна, усё аднó, абыя́кава
**éinernten** *vt* збiрáць ураджáй
**éinerseits** *adv* з аднагó бóку
**éines** *гл.* ein
**éinfach 1.** *a* прóсты, нескладáны, звычáйны; ***die Sáche liegt ganz ~*** спрáва зусíм я́сная **2.** *adv* прóста; сапраўды́; ***das ist éinfach únmöglich*** гэ́та прóста немагчы́ма
**Éinfachheit** *f* - прастáта; ***der ~ hálber*** дзéля прастаты́
**éinfädeln** *vt* 1) зацягваць, уця́гваць (*нiтку ў iголку*) 2) задýмваць, выдýмваць
**éinfahren*** **1.** *vt* 1) увóзiць, звóзiць (*збожжа*) 2) аб’éздж ваць (*напр., каня*) 3) наéзджваць (*дарогу*) **2.** *vi* (s) заязджáць (*унутр*); ***in den Schacht ~*** спускáцца ў шáхту; ***in etw. (A) éingefahren sein*** *перан.* зайсцí ў тупíк
**Éinfahrt** *f* -, -en уéзд; варóты, пад’éзд
**Éinfahrts|bewilligung** *f* -, -en, **~visum** [-vi-] *n* -s, -visa дазвóл [вíза] на прыéзд (*у краiну*)
**Éinfall** *m* -s, fälle 1) абвáл 2) уварвáнне, напáд 3) неспадзявáная дýмка, iдэ́я, задýма; ***auf den ~ kómmen**** напáсцi на дýмку; ***jmdn. auf den ~ bríngen**** навéсцi кагó-н. на дýмку
**éinfallen*** *vi* (s) 1) абрýшвацца, абвáльвацца, абрынáцца 2) урывáцца 3) прыxóдзiць у галавý; ***es ist mir éingefallen*** я ўспóмнiў
**éinfallsreich** *a* вынахóдлiвы
**Éinfallswinkel** *m* -s, - *фiз.* вýгал падзéння
**Éinfalt** *f* - наíўнасць, прастатá, абмежавáнасць, тупагалóвасць
**éinfältig** *a* наíўны, няхíтры, дурнавáты; ***~es Zeug*** глýпства; недарэ́чнасць
**Éinfaltspinsel** *n* -s, - *разм.* дýрань, дурнéнькi

**Éinfamili¦enhaus** *n* -es, -häuser асабня́к, катэ́дж

**éinfangen*** *vt* злаві́ць, улаві́ць

**éinfarbig** *a* аднакаляро́вы

**éinfassen** *vt* 1) апраўля́ць (*каштоўны камень*), аблямо́ўваць, абшыва́ць 2) *вайск.* акружа́ць; атача́ць 3) браць у ра́мку 4) развліва́ць у бо́чкі

**Éinfassung** *f* -, -en апра́ва; абшы́ўка; апу́ха

**éinfetten** *vt* нашмаро́ўваць, ма́заць (*маслам, тлушчам*)

**éinfinden*, sich** паяві́цца, з'яві́цца; знайсці́ся; ***sich an Ort und Stélle ~*** з'яві́цца ў назна́чанае ме́сца

**éinflechten*** *vt* 1) заплята́ць (*валасы*) 2) уплята́ць; ***ein Wort in die Réde ~*** уста́віць сло́ва (*у размову*) 3) аплята́ць

**éinflicken** *vt* (па)ста́віць ла́ту

**éinfliegen*** **1.** *vi* (s) 1) залята́ць (*унутр*), заляце́ць 2) падлята́ць да аэрадро́ма; зніжа́цца на аэрадро́м **2.** *vt* выпрабо́ўваць (*самалёт у палёце*) **3. ~, sich** набыва́ць лётны во́пыт

**éinfließen*** *vi* (*s*) 1) уліва́цца, упада́ць 2) прыбыва́ць, прыбаўля́цца (*пра грошы*)

**éinflößen** *vt* 1) уліва́ць 2) нагання́ць (*страх*); ***j-m Furcht ~*** выкліка́ць страх у каго́-н.; ***Mut ~*** надава́ць бадзёрасць

**Éinflug** *m* -(e)s, -flüge 1) *вайск.* паве́траны налёт 2) прылёт, падыхо́д да аэрадро́ма 3) аблёт [выпрабава́нне] самалёта 4): ***der ~ der Rakéte in die Flúgbahn*** вы́хад ракéты на арбі́ту

**Éinfluss** *m* -es, Éinflüsse 1) уплы́ў; ***~ áusüben*** рабі́ць уплы́ў; ***~ háben*** мець уплы́ў; ***únter j-s ~ stéhen**** быць пад чыі́м-н. уплы́вам; ***ein Mann von ~*** уплыво́вы чалаве́к

**Éinflussbereich** *m, n* -s, -e сфе́ра ўплы́ву

**éinflussreich** *a* уплыво́вы

**éinflüstern** *vt* нашэ́птаваць

**éinförmig** *a* аднаста́йны, манато́нны

**éinfried(ig)en** *vt* абгаро́джваць, загаро́джваць

**Éinfried(ig)ung** *f* -, -en агаро́джа

**éinfrieren*1.** *vi* (s) замярза́ць; ***~ lássen**** замаро́жваць **2.** *vt* замаро́жваць

**éinfügen 1.** *vt* 1) устаўля́ць, укла́дваць, урабля́ць, прыла́джваць 2) устаўля́ць, уключа́ць (*у спіс*) **2. ~, sich** (*in A*) 1) уключа́цца (*у што-н.*) 2) прывыка́ць (*да чаго*-н.), звыка́цца (*з чым-н.*)

**Éinfügung** *f* - 1) устаўле́нне, укла́дванне, прыла́джванне 2) уключэ́нне (*у спіс*)

**éinfühlen, sich** (*in A*) праніќнуцца, прася́кнуцца (*якім-н. пачуццём*); звы́кнуцца, зжы́цца (*з думкай*)

**Éinfühlung** *f* - (*in A*) пранікне́нне (*у сутнасць*)

**Éinfühlungs|kraft** *f* -, ~**vermögen** *n* -s інтуі́цыя; здо́льнасць праніќлівасці (*у што-н.*)

**Éinfuhr** *f* -, -en уво́з, прыво́з, і́мпарт (*чаго-н. – von D*)

**Éinfuhrartikel** *m* -s, - арты́кул [прадме́т] і́мпарту

**Éinfuhrbeschränkung** *f* -, -en абмежава́нне і́мпарту

**éinführen 1.** *vt* 1) уво́зіць, заво́зіць 2) уво́дзіць ***das ist hier so éingeführt*** тут такая завядзёнка, тут гэ́так прыня́та **2. ~, sich: *er hat sich gut éingeführt*** ён зрабі́ў до́брае ўра́жанне

**Éinfúhrlizenz** *f* -, -en *эк.* ліцэ́нзія на ўво́з

**Éinführung** *f* -, -en 1) увядзе́нне 2) уво́дзіны 3) уво́з, і́мпарт 4) *эл.* уво́д

**Éinfuhrverbot** *n* -(e)s, -e забаро́на ўво́зу

**Éinfuhrware** *f* -, -n і́мпартны тава́р

**éinfüllen** *vt* запаўня́ць, напаўня́ць; засыпа́ць

**Éingabe** *f* -, -en 1) зая́ва 2) пада́ча (*заявы*); ***eine ~ éinreichen (bei D) [ríchten] (an A)*** пада́ць зая́ву (*куды-н.*) 3) *камп.* уво́д (да́ных); ***die ~ per Máusklick bestätigen*** пацве́рдзіць уво́д (да́ных) шчаўчко́м мы́шы

**Éingabefeld** *n* -(e)s, -felder *камп.* ме́сца ўво́да да́ных

**Éingang** *m* -s, -gänge 1) ўвахо́д 2) уступле́нне, пача́так 3) *камерц.* дахо́д 4) паступле́нне (*чаго-н.*)

**éingangs** *adv* напача́тку, спача́тку

**Éingangsbuch** *n* -es, -bücher журна́л [кні́га] уваxо́дных папе́р

**éingebaut** *a* усталява́ны ўнутры́, убудава́ны, уманціраваны; ***ein ~er Schrank*** сцэ́нная ша́фа

**éingeben*** *vt* 1) дава́ць (*лякарства*) 2) *перан.* наво́дзіць (*на думку*) 3) падава́ць (*заяву*) 4) *камп.* уво́дзіць да́ныя

**Éingeber** *m* -s, - падбухто́ршчык

**éingebildet** 1) *a* уя́ўны; ~ ***sein*** быць пра сябе́ высо́кай ду́мкі, быць ганары́стым, зазна́цца; ***der ~e Kránke*** прытво́рна хво́ры 2) той, хто мно́га аб сабе́ ўяўля́е, фанабэ́рысты; ***auf sich (A) ~ sein*** высо́ка [мно́га] ду́маць аб сабе́, шмат з сябе́ стро́іць

**Éingeborene** *m, f* -n, -n ураджэ́нец, -нка, карэ́нны жыха́р, ту́былец

**Éingebung** *f* -, -en натхне́нне, інтуі́цыя; ***éine glückliche ~*** уда́лая [тра́пная] ду́мка

**éingebürgert** *a* які́ атрыма́ў правы́ грамадзя́нства; *перан.* укаране́лы

**éingedenk:** ~ ***sein (G)*** по́мніць, па́мятаць (*пра што-н.*); ***sei déssen ~!*** по́мні пра гэ́та!; ~ ***déssen, dass…*** па́мятаючы пра то́е, што…

**éingefallen** 1) запа́лы 2) які́ абвалі́ўся, правалі́ўся (*пра дах*, *страху*)

**éingefleischt** *a* закаране́лы; заўзя́ты

**éingefroren** *a* замаро́жаны

**éingehakt, éingehängt**: ~ ***géhen**** *разм.* ісці́ пад руку́

**éingehen*** **I 1.** *vi* (s) 1) прыбыва́ць, паступа́ць; ***es sind Bríefe éingegangen*** прыйшлі́ пісьмы [лісты́] 2) уваходзіць (у *стан справы*); ***auf die Fráge ~*** спыні́цца на пыта́нні; ***auf jéden Schüler ~*** індывідуа́льна падыхо́дзіць да ко́жнага ву́чня 3) (*auf A*) пагаджа́цца (*з чым-н.*), пайсці́ (*на што-н.*); ***auf éinen Vórschlag ~*** прыня́ць прапано́ву **2.** *vt* (*h, s*) заключа́ць (*здзелку, пагадненне*); ***éine Wétte ~*** ісці́ ў закла́д; ***éine Éhe ~*** усту́піць у шлю́б

**éingehen*** **II** *vi* 1) спыня́цца, спыні́ць існава́нне, гі́нуць (*пра расліны, жывёл*) 2) садзі́цца (*пра тканіну*)

**éingehend** *a* 1) падрабя́зны, грунто́ўны, дакла́дны 2) уваходны

**éingelegt: *~e Árbeit*** інкруста́цыя; ***~es Obst*** кансервава́ная [марынава́ная] садавіна́

**éingemacht**: ***~e Kírschen*** вішнёвае варэ́нне

**Éingemachte** *sub n* -n кансервава́ная садавіна́

**éingenommen** *a*: 1) ***von sich (D) ~ sein*** шмат з сябе́ стро́іць 2) ~ ***sein gégen etw. (A)*** быць прадузя́та настро́еным су́праць каго-н. 3) ~ ***sein für (A)*** быць прыхі́льным (*да каго-н.*)

**Éingenommenheit** *f* - прадузя́тасць, прадузя́тая ду́мка, прыхі́льнасць

**éingerichtet** *a* ула́джаны, абсталява́ны; ***gut*** ~ добраўпарадкава́ны

**éingeschmuggelt** *a* кантраба́ндны

**éingeschränkt** *a* абмежава́ны

**éingeschrieben** *a* заказно́е (*надпіс на канверце*)

**Éingeständnis** *n* -ses, -se усведамле́нне (*чаго-н.*), прызна́нне (у *чым-н.*)

**éingestehen*** *vt* прызна́цца (у *чым-н.*), прызна́ць (*сваю віну*)

**éingetragen** *a* зарэгістрава́ны; ***~e Geséllschaft*** зарэгістрава́нае тавары́ства

**Éingeweide** *n* -s, - *анат.* вантро́бы, кі́шкі; чэ́рава

**Éingeweihte** *sub m, f* -n -n азнаёмлены, -ая, паінфармава́ны, -ая

**éingewöhnen 1.** *vt* прывуча́ць **2. ~, sich** (*in A*) прывыка́ць (*да чаго-н.*); звыка́цца, асво́йвацца (*з чым-н.*); акліматызава́цца

**éingewurzelt** *a* закаране́лы, застарэ́лы; ***er blieb wie ~ stéhen*** ён спыні́ўся, ні́бы ўко́паны

**éingezogen** *a* 1) само́тны, адасо́блены 2) сці́плы, устры́маны 3) канфіскава́ны 4) прызва́ны (*на вайсковую службу*)

**Éingezogene** *sub m* -n, -n *вайск.* прызыўні́к, рэ́крут

**Éingezogenheit** *f* - адзіно́касць, адасо́бленасць 2) сці́пласць, уме́ранасць, устры́манасць

**éingießen*** *vt* уліва́ць, наліва́ць; ***übervoll*** ~ наліва́ць це́раз край

**éingittern** *vt* абгаро́джваць агаро́джай

**Éinglas** *n* -es, -gläser *уст.* мано́кль

**éingleisig** *a* аднакалéйны, аднакаляёвы
**éingliedern** *vt* уключáць, увóдзіць (*у склад чаго-н.*), далучáць
**Éingliederung** *f* - уключэ́нне, увядзéнне (*у склад чаго-н.*), далучэ́нне
**éingliedrig** *a* адначлéнны
**éingraben*** **1.** *vt* 1) закóпваць, укóпваць 2) вырэ́зваць (*па метале*); гравіравáць разцóм **2. ~, sich** запóмніць, захавáцца ў пáмяці 2) *вайск.* акóпвацца
**éingravieren** [-vi-] *vt* вы́гравіраваць
**éingreifen*** *vi* умéшвацца; рабіць зá-хады; ***in j-s Réchte ~*** рабіць замáх на чыé-н. правы́, парушáць чыю́-н. кам-петэ́нцыю 2) уступáць у бой
**éingreifend** *a* рашу́чы (*пра мерапрыем-ствы*)
**Éingriff** *m* -s, -e 1) умяшáнне; *мед.* ***ein chirúrgischer ~*** хірургі́чнае умяшáнне 2) садзéйнічанне, садзéянне
**éinhacken 1.** *vt* 1) (*in A*) біць [кíркай] (*па чым-н.*) 2) (*in A*) уцінáцца (*кіпцюрамі ў што-н.*) 3) дрóбна насякáць (*мяса і г.д.*) **2.** *vi* (*auf A*) нападáць (*на каго-н.*) (*пра драпежную птушку, тс. перан.*)
**éinhaken 1.** *vt* зашчапля́ць (*дзверы*), зашпíльваць (*гаплік*); падчапíць на кручóк; **2. ~, sich** (*bei D*) *разм.* браць пад руку́ (*каго*-н.)
**Éinhalt** *m* -s: ***éiner Sáche (D) ~ gebíeten**** спынíць што-н.; ***j-m ~ gebíeten*** спы-нíць [асадзíць] кагó-н.
**éinhalten*** **1.** *vt* 1) прытры́млівацца, трымáцца (*тэрміну, умовы*) 2) спы-ня́ць **2.** *vi* (*mit D*) перастававáць, спы-ня́ць; ***mit dem Gelächter ~*** перастáць смяя́цца
**Éinhaltung** *f* -, -en захавáнне, выканáнне
**éinhämmern** *vt* 1) убівáць 2) *разм.* удзёўб-ваць [убівáць] у галаву́
**éinhändig** *a* 1) аднару́кі 2) *спарт.* аднóй рукóй
**éinhändigen** *vt* уручáць; ***éinen Órden ~*** уручáць óрдэн
**Éinhändigung** *f* - уручэ́нне
**éinhängen 1.** *vt* навéшваць (*на завесы*); ***den Hörer ~*** павéсіць тэлефóнную тру́бку **2. ~, sich** (*bei D*) *разм.* браць (*каго-н.*) пад руку́
**éinhauchen** *vt* 1) удыхáць 2) *перан.* удыхну́ць; усялíць, абудзíць
**éinhauen*1.** *vt* высякáць; насякáць **2.** *vi* (*auf A*) біць, калацíць (*па чым-н., каго-н., што-н.*); ***tüchtig ~*** *разм.* як след налéгчы на éжу
**éinheben*** 1) навéшваць (*дзверы і г.д.*) 2) браць (*працэнты. падаткі*)
**éinheften** *vt* ушывáць, брашуравáць
**éinheimisch** *a* 1) айчы́нны 2) тутэ́йшы, мясцóвы; ***sich ~ fühlen*** атáбарыцца, акліматызавáцца
**Éinheimische** *sub m, f* -n, -n мясцóвы жыхáр, мясцóвая жыхáрка, ту́былец
**éinheimsen** *vt* 1) збірáць ураджáй 2) *пе-ран.* заграбáць; ***Erfólg ~*** карыстáцца вялíкім пóспехам
**éinheiraten** *vi i* **~, sich** парадніцца праз шлюб; ***in éine Famíli¦e ~*** парадніцца з кім-н.; ***in ein Geschäft ~*** стаць кампаньёнам прадпрыéмства
**Éinheit** *f* -, -en 1) адзíнства, éднасць, ад-надушнасць 2) адзíнка 3) *вайск.* пад-раздзялéнне
**éinheitlich** *a* 1) адзíны, уніфікавáны 2) аднаду́шны 3) аднастáйны
**Éinheitlichkeit** *f* - 1) адзíнства 2) адна-стáйнасць; уніфікáцыя
**Éinheitsaktion** *f* -, -en аднаду́шнае вы-ступлéнне
**Éinheitsfront** *f* - адзíны фронт, аб’яднá-ны фронт
**Éinheitsgröße** *f* -, -n стандáртны памéр
**Éinheitspreis** *m* -es, -e адзíн [страндáрт-ны] кошт
**Éinheitszeit** *f* - адзíны [сярэднееўрапéй-скі] час
**éinheizen** *vi* запалíць, падпалíць (*у пе-чы*); ***j-m ~*** *разм.* задáць ды́хту камý-н.
**éinhelfen*** *vi* падказваць; суфлíраваць
**éinhellig** *a* аднагалóсны, аднаду́шны 2) адзíны, цэ́ласны
**einhér** = *аддз. дзеясл. прыстаўка, указ-вае на рух без пэўнай мэты*: einhérfah-ren* éздзіць (*туды-сюды*)

**einhérgehen*** *vi* (*s*) хадзíць, пахáджваць; ***Probléme gíngen mit Erfólgen einhér*** праблéмы суправаджáліся пóспехамі
**einhérschreiten*** *vi* (s) крóчыць
**einhérstolzieren** *vi* (s) вáжна [павáжна] крóчыць
**éinhöckerig** *a* аднагóрбы
**éinholen** *vt* 1) даганя́ць, наганя́ць 2) закупля́ць (*прадукты*) 3) дастáць, прыбрáць, здабы́ць; ***éinen Rat*** **~** рáіцца, рáдзіцца 4) прымáць ***die Fáhne*** **~** апускáць сцяг ***féierlich*** **~** урачы́ста сустракáць
**Éinholtasche** *f* -, -n сýмка на пакýпкі
**éinhüllen** захýтваць, захінáць; ***sich (in A)*** **~** захýтвацца ў што-н.; ***sich in Schwéigen*** **~** паглы́біцца ў рóздум
**Éinhüllung** *f* -, -en 1) ухýтванне; загóртванне 2) абалóнка, пóкрывы; *тэх.* кажýх
**éinhundert** [einhúndert] *num* сто, аднá сóтня
**éinig** *a* адзíны, згуртавáны, з’ яднáны, згóдны, аднадýшны; **~ *wérden (über A)*** дамóвіцца (*аб чым-н.*)
**éinige** *pron indef f* (*n* éiniges, *pl* éinige) 1) некатóрая (некатóрае, некатóрыя); нéйкая (нéйкае, нéйкія); ***er hat ~ Erfáhrung darín*** у ягó ў гэ́тым ёсць некатóры [пэ́ўны] вóпыт 2) *толькі pl* нéкалькі, некатóрыя; *перад лічэбнікам* каля́, нéкалькі
**éinigen 1.** *vt* аб’ яднóўваць, злучáць; (*auf, über A*) дамóвіцца (*аб чым-н.*) **2. ~, sich** аб’ яднóўвацца; (*auf, über A*) дамóвіцца (*аб чым-н.*)
**éiniger** *pron indef m* некатóры; нямнóга; *гл.* éinige
**éinigermaßen** *adv* да пэ́ўнай ступéні
**éiniges** *pron indef* сёе-тóе, штó-нéбудзь; *гл.* éinige
**Éinigkeit** *f* - яднáнне; éднасць, згóда, аднадýшнасць
**Éinigung** *f* -, -en пагаднéнне, узгóдненасць
**éinimpfen** *vt* 1) *мед.* прышчэ́п(лі)ваць 2) усяля́ць, убівáць у галавý
**éinjagen** *vt*: ***j-m Schrécken*** **~** наганя́ць стрáх на кагó-н.
**éinjährig** *a* гадавы́ , аднагадóвы
**éinkalkulieren** *vt* уключáць у калькуля́цыю; улíчваць, разлíчваць
**éinkapseln 1.** *vt тэх.* замыкáць у абалóнку, змяшчáць у карóбку [у кажýх] **2. ~, sich** замкнýцца, адасóбіцца, ізалявáцца
**éinkassieren** *vt* інкасíраваць, інкасавáць, атры́млíваць (*грошы*); збірáць, спаганя́ць (*членскія ўзносы*); ***Schúlden*** **~** спаганя́ць даўгí
**Éinkauf** *m* -s, -käufe кýпля, закýпка
**éinkaufen** *vt* закупля́ць, купля́ць
**Éinkäufer** *m* -s, - пакупнíк, закýпшчык; скýпшчык
**Éinkaufshaus** *n* -es, -häuser *уст.* гандлёвы дом, гандлёвая фíрма
**Éinkaufspreis** *m* -es, -e пакупня́я цанá
**Éinkaufstasche** *f* -, -n *гл.* Éinholtasche
**Éinkaufszentrum** *n* -s, -tren гандлёвы цэнтр
**éinkehren** *vi* (s) (*bei D*) заязджáць, завíтваць, захóдзіць (*да каго-н.*), спыня́цца (*у каго-н.*)
**éinkeilen 1.** *vt* забівáць, заганя́ць (*клін*); заклінóўваць; ***wir wáren in der Ménschenmenge éingekeilt*** нас зацíснулі ў натóўпе **2. ~, sich** уклíньвацца
**éinkerben** *vt* насякáць, рабíць зарýбкі
**éinkerkern** *vt* саджáць у турмý
**éinkesseln** *vt вайск.* а(б)кружáць, атачáць
**Éinkesselung** *f* -, -en *вайск.* акружэ́нне
**éinklammern** *vt* 1) прымацóўваць скабóй 2) брáць у дýжкі
**Éinklang** *m* -s, -klänge сугýчнасць, згóда; ***in ~ bríngen**** узгóдніць
**éinkleben** *vt* уклéйваць
**éinkleiden** *vt* 1) адзявáць, апранáць, абмундзірóўваць 2) выкáзваць (*думку*)
**éinklemmen** *vt* прыціскáць, заціскáць
**éinkochen 1.** *vt* увáрваць; ***Früchte*** **~** вары́ць варэ́нне **2.** *vi* (s) увáрвацца, выкіпáць
**éinkommen*** *vi* (s) 1) прыбывáць, паступáць; ***wie viel ist éingekommen?*** кóлькі паступíла (*грошай*)? 2) (*um A*) хадáйнічаць (*пра што-н.*)
**Éinkommen** *n* -s, - дахóд, прыбы́так; ***das ~ aus Stéuern*** дахóд ад падáткаў
**Éinkommeneffekt** *m* -(e)s, -e эфéкт дахó-

да [прыбы́тку]

**Éinkommen(s)steuer** *f* -, -n падахо́дны пада́так

**éinkreisen** *vt* акружа́ць, ізалява́ць, блакі́раваць

**Éinkreisung** *f* -, -en *вайск.* а(б)кружэ́нне

**Éinkünfte** *pl* дахо́ды, прыбы́ткі

**éinladen* I** *vt* нагружа́ць, грузі́ць

**éinladen* II** *vt* запраша́ць; ***zu sich (D)*** ~ запрашаць да сябе́ ў госці

**Éinladung** *f* -, -en запрашэ́нне; ***éine ~ schícken*** (*D, an A – каму-н.*); пасла́ць запрашэ́нне

**Éinlage** *f* -, -n 1) змéсціва, тóе, што змяшча́ецца [знахóдзіцца] (*у чым-н.*), улажэ́нне; уклада́нне, дада́так 2) *тэх.* пракла́дка, устаўка 3) грашо́вы ўклад [узно́с]; ~ ***auf Sicht*** укла́д да патрабава́ння; ***únbefristete*** ~ бестэрміно́вы ўклад; ***die ~(von ver Bank) ábheben*** зняць укла́д (з ба́нка) 4) *мед.* тампо́н, уста́ўка; часо́вая пло́мба

**Éinlass** *m* -es, -lässe 1) упу́ск, до́ступ; ~ ***begéhren*** патрабава́ць до́ступу; ***j-m den ~ verwéhren*** забарані́ць каму́-н. до́ступ [увахо́д] 2) увахо́д; ве́снічкі 3) пало́нка (*у лёдзе*)

**éinlassen* 1.** *vt* упуска́ць, запуска́ць **2. ~, sich** 1) (*auf A, in A*) пуска́цца (*на што-н.*) ◊ ***sich auf kéine Verhándlungen*** ~ адмо́віцца ад перамо́ў 2) (*mit D*) звя́звацца (*з кім-н.*)

**Éinlauf** *m* -s, -läufe 1) паступле́нне (*папер*) 2) *pl* увахо́дныя (*паперы*); ***Éinläufe erlédigen*** адка́зваць на папе́ры 3) *спарт.* заканчэ́нне дыста́нцыі, фінішава́нне 4) прыбыццё (*судна*)

**éinlaufen*** *vi* (s) 1) увахо́дзіць у га́вань (*пра карабель*) 2) паступа́ць (*пра тавары, пісьмы*); ***die Post ist éingelaufen*** по́шта прыйшла́ 3) збяга́цца (*пра тканіну*) ◊ ***j-m das Haus*** ~ надаку́чыць каму́-н. (*наведваннем*)

**éinleben, sich** (*in A*) зжыва́цца (*з чым-н.*); ***sich in éinem Lánde*** ~ акліматызава́цца ў краі́не; (*mit D*) зжыва́цца (*з кім-н.*)

**éinlegen** *vt* 1) уклада́ць 2) марынава́ць, салі́ць; ***für j-n ein gútes Wort*** ~ закі́нуць до́брае сло́ўца за каго́-н.; ***Protést [Verwáhrung]*** ~ заяві́ць пратэ́ст

**Éinlegesohle** *f* -, -n ву́сцілка

**éinleiten** *vt* пачына́ць рабі́ць усту́п; ***die Verhándlungen*** ~ пача́ць перагаво́ры

**éinleitend 1.** *a* усту́пны **2.** *adv* ва ўсту́пным сло́ве; у пача́тку

**Éinleitung** *f* -, -en усту́п, уво́дзіны, прадмо́ва, прэлю́дыя

**éinlenken** *vi* 1) (s) збо́чваць, зваро́чваць (*пры яздзе*) 2) (*h*) паступа́цца (*чым-н.*); ***nach dem Streit*** ~ перамяні́ць тон пры спрэ́чцы 3) (*h*) вярта́ць (*да чаго-н. у размове*)

**éinleuchten** *vt* быць відаво́чным [я́сным]; ***das léuchtet (mir) ein*** гэ́та гучы́ць пераканаўча

**éinleuchtend** *a* зразуме́лы, відаво́чны; ***~e Gründe*** ува́жлівыя прычы́ны

**éinliefern** *vt* уруча́ць, здава́ць, дастаўля́ць

**Éinlieferung** *f* -, -en даста́ўка; паста́ўка; зда́ча; уручэ́нне

**éinliegend 1.** *a* укла́дзены **2.** *adv* з уклада́ннем

**éinloggen, sich** *камп.* адкры́ць паро́ль, уве́сці ко́давае сло́ва

**éinlogieren** [-ʒi:-] **1.** *vt* 1) пасялі́ць у ква-тэ́ры **2. ~, sich** (*bei D*) пасялі́цца (на кватэ́ры) (*у каго-н.*)

**éinlösen** *vt* 1) выкупля́ць 2) аплаці́ць (*вэксаль*) 3) выруча́ць (*пра даходы*); ***sein Wort*** ~ стрыма́ць сло́ва

**Éinlösung** *f* -, -en 1) вы́куп 2) пла́та, вы́плата (*па вэксалі*)

**éinlullen** *vt* закалы́хваць; ***in den Schlaf*** ~ укалы́хваць, люля́ць

**éinmachen** *vt* марынава́ць, кансервава́ць, вары́ць варэ́нне (*з чаго-н.*)

**Éinmachglas** *n* -es, -gläser шкля́ны сло́ік (*пад варэнне*)

**Éinmachobst** *n* -es кансервава́ная садавіна́

**éinmal** *adv* 1) (адзі́н) раз 2) адно́йчы, калі́сьці, аднаго́ ра́зу; ***auf*** ~ ра́птам; ***nicht*** ~ на́ват не; ***er kann nicht ~ lésen*** ён на́ват чыта́ць не ўме́е

**Einmaléins** *n* -, - табліца мно́жання

**éinmalig** *a* 1) ра́завы, аднаразо́вы 2) адзі́ны (у сваі́м ро́дзе), выклю́чны
**Éinmalspritze** *f* -, -n аднаразо́вы шпрыц
**Éinmarsch** *m* -es, -märsche увахо́д, уступле́нне (*войска*)
**éinmarschieren** *vi* (s) *вайск.* уступа́ць
**éinmauern** *vt* замуро́ўваць
**éinmengen 1.** *vt* уме́шваць **2. ~, sich** уме́швацца (у *справы*)
**éinmieten I 1.** *vt* знiма́ць памяшка́нне (*для каго-н.*) **2. ~, sich** знiма́ць памяшка́нне (*для сябе*)
**éinmieten II** *vt с.-г.* 1) сiласава́ць 2) захо́ўваць у бурта́х [капца́х]
**éinmischen 1.** *vt* уме́шваць (*тс.перан.*) **2. ~, sich** уме́швацца (*у чужыя справы і г.д.*)
**Éinmischung** *f* -, -en умяша́нне
**éinmotorig** *a* аднамато́рны
**éinmotten** *vt* перасыпа́ць нафталі́нам
**éinmummeln, éinmummen 1.** *vt* захýтваць, захіна́ць **2. ~, sich** захýтвацца, захіна́цца
**éinmünden** *vi* s (*in A*) 1) упада́ць (*куды-н. – пра раку*) 2) выхо́дзіць (*куды-н. – пра дарогу*)
**éinmütig 1.** *a* аднадýшны, аднагало́сны **2.** *adv* аднадýшна ~ ***hándeln*** дзе́йнічаць узго́днена
**Éinmütigkeit** *f* - аднадýшнасць
**éinnähen** *vt* ушыва́ць
**Éinnahme** *f* -, -n 1) прыхо́д; утаргава́ныя гро́шы; збор 2) *вайск.* узя́цце, захо́п
**Éinnahmeposten** *m* -s, - *фін.* прыхо́дны арты́кул; ***als ~ búchen*** запрыхо́даваць
**éinnebeln** *vt вайск.* ста́віць дымавýю засло́ну, задымля́ць
**éinnehmen*** *vt* 1) атры́мліваць (*даход*) 2) займа́ць (*пасаду*) 3) прыма́ць (*лякарства*) 4) (*für A*) зацiка́віць (*каго-н. чым-н.*) 5) *вайск.* браць, захо́пліваць, авало́даць; ***in Sturm ~*** браць штýрмам
**éinnehmend** *a* прыва́бны; ***er hat ein ~es Wésen*** ён абая́льны; *жарт.* ён абжо́ра, ён заграба́ла
**Éinnehmer** *m* -s, - *уст.* 1) збо́ршчык пада́ткаў 2) інкаса́тар
**éinnicken** *vi* (s) задрама́ць
**éinnisten, sich** 1) гнездава́цца, гняздзі́цца 2) *перан.* гнездава́цца, знайсці́ прытýлак, прытулі́цца 3) размясці́цца, пасялі́цца (*без запрашэння*) 4) *вайск.* ако́пвацца
**éinochsen** *vt разм.* вы́зубрыць (*урок і г.д.*)
**Éinode** *f* -, -n глуш, глушыня́; пусты́ня, бязлю́дная мясцо́васць
**éinordnen** *vt* 1) расстаўля́ць (у *пэўным парадку*), размяшча́ць; класіфікава́ць, падшыва́ць (*паперы*) 2) уключа́ць (у *план*)
**Éinordnung** *f* -, -en размяшчэ́нне; уклюю чэ́нне; класіфіка́цыя, упарадкава́нне; ***~ etw. in (A)*** уступле́нне ў рады (*якой-н. арганізацыі*)
**éinpacken 1.** *vt* пакава́ць, упако́ўваць, уладкава́ць; ***du kannst ~!*** ідзі́ [выбіра́йся] прэч!; ***wir können ~*** *разм.* нам тут рабіць няма́ чаго́ **2. ~, sich** захýтвацца, ухýтвацца
**Éinpackung** *f* -, -en укла́дка, упако́ўка
**éinpauken** *vt разм.* 1) зубры́ць 2) удзёўбваць; ***j-m etw. ~*** *разм.* нашпіго́ўваць каго́-н. у чым-н. [па чым-н.]
**éinpeitschen** *vt* падганя́ць
**éinpferchen** *vt разм.* запі́хваць, уці́скваць
**éinpflanzen 1.** *vt* 1) садзі́ць (*расліны*) 2) наса́джваць **2. ~, sich** укараня́цца
**éinplanen** *vt* запланава́ць, уключы́ць у план
**éinpökeln** *vt* засо́льваць, кла́сці ў засо́л (*мяса, рыбу*)
**éinprägen 1.** *vt* 1) вы́гравіраваць, выбіва́ць; ***sich (D) etw. ~*** захава́ць што-н. у па́мяці, запо́мніць што-н.; ***díese Wórte prägten sich ihm gut ein*** гэ́тыя сло́вы ямý до́бра запо́мніліся 2) навуча́ць, перако́нваць **2. ~, sich** запо́мніцца
**éinproben**, **éinprobieren** *vt* 1) спрабава́ць 2) право́дзіць рэпеты́цыю (*п’есы*)
**éinquartieren 1.** *vt* ста́віць на пасто́й, размяшча́ць **2. ~, sich**: ***sich bei j-m ~*** пасялі́цца на кватэ́ры (*у каго-н.*)
**éinrahmen** *vt* устаўля́ць у ра́мку, аса́джваць, аканто́ўваць
**Éinrahmung** *f* -, -en 1) ра́мка, апра́ва

2) абмяжóўванне
**éinrammen** *vt* забівáць пáлі
**éinräumen** *vt* 1) уступáць 2) давáць (*права*) 3) (*in A*) прымáць (*куды-н.*); ***die Wóhnung*** ~ абсталёўваць кватэ́ру
**Éinräumung** *f* 1) устýпка 2) дапушчэ́нне
**éinrechnen** *vt* уключáць (у *лік*); ***mit éingerechnet*** уключáючы, уклю́чна
**Éinrede** *f* -, -en пярэ́чанне; ~ ***erhében**** пярэ́чыць
**éinreden 1.** *vt* угавóрваць, перакóнваць; ***das lásse ich mir nicht*** ~ дарэ́мна мяне́ хóчуць у гэ́тым пераканáць **2.** *vi* (*auf A*) угавóрваць (*каго*-н.)
**éinreiben*** *vt* уцірáць, націрáць (*маззю*)
**éinreichen** *vt* падавáць (*заяву*), унóсіць (*прапанову*); ***séinen Ábschied*** ~ падáць у адстáўку
**éinreihen 1.** *vt* залíчваць, прымáць, стáвіць у рад **2. ~, sich** уключáцца
**Éinreiher** *m* -s, - аднабóртны [аднабартóвы] касцю́м
**Éinreise** *f* -, -n уéзд (*у краіну*)
**Éinreise|bewilligung** *f* -, -en, **~erlaubnis** *f* -, -se, **~genehmigung** *f* -, -en дазвóл [віза] на прыéзд (*у краіну*)
**éinreisen** *vi* (s) уязджáць (*у краіну*)
**Éinreiseverbot** *n* -s, -e забарóна прыéзду (*у краіну*)
**Éinreisevisum** [-vi:-] *n* -s, -sa *гл.* Éinreisebewilligung
**éinreißen* 1.** *vt* 1) надрывáць 2) ламáць, знóсіць (*пабудову*) **2.** *vi* (s) распаўсю́джвацца, укараня́цца (*пра адмоўныя з'явы*)
**éinrenken** *vt* выпраўля́ць (*вывіх*); улáджваць (*справу*)
**éinrennen*** *vt* прабівáць, разбівáць з разбéгу ◊ ***óffene Türen*** ~ біцца за пусты́ мех
**éinrichten 1.** *vt* 1) уладкóўваць, арганізóўваць 2) абсталёўваць **2. ~, sich** 1) уладкóўвацца 2) (*auf A*) *разм.* падрыхтавáцца (*да чаго-н.*) 3) (*nach D*) прыстасóўвацца (*да чаго-н.*), лічы́цца (*з чым-н.*)
**Éinrichtung** *f* -, -en 1) прылáда, механíзм, абсталявáнне (*тс. кватэры*) 2) падрыхтóўка, арганізáцыя (*дзеянне*) 3) устанóва 4) *мед.* выпраўлéнне (*вывіху*)
**éinriegeln** *vt* зашчапля́ць, зачыня́ць (*на завалу, засаўку*)
**éinritzen** *vt* выдзірáць, вырэ́зваць (*на дрэве*)
**éinrollen** *vt* скрýчваць трýбкай [у трýбку]; укрýчваць, загóртваць
**éinrosten** *vi* (s) заржавéць
**éinrücken 1.** *vt* (*in A*) устаўля́ць, змяшчáць, уключáць (*у што-н*) **2.** *vi* (s) *вайск.* 1) паступáць (*на службу*) 2) уступáць, увахóдзіць (*у горад*)
**éinrühren** *vt* замéшваць, завáрваць ◊ ***j-m étwas Schlímmes [éine schöne Súppe]*** ~ зрабíць камý-н. непрыéмнасць, завары́ць камý-н. кáшу
**éinrüsten** *vt* 1) *буд.* стáвіць рыштавáнне 2) абсталёўваць усім неабхóдным
**eins** *num* 1) аднó 2) адзíн, раз (*пры ліку*); ***halb*** ~ палóва пéршай; ***álles*** ~ усё аднó, ***wir sind*** ~ мы ў згóдзе
**Éins** *f* -, -en 1) адзíнка; пéршы нýмар 2) «адзíнка» (*самая высокая ацэнка ў нямецкай школе*)
**éinsacken 1.** *vt* 1) клáсці ў мяшóк 2) *разм.* прысвóйваць, крáсці **2.** *vi* (s) асядáць; абвáльвацца
**éinsalben** *vt* 1) мáзаць, націрáць (*маззю*) 2) бальзамíраваць
**éinsalzen** *vt* засóльваць, салíць
**éinsam** *a* адзінóкі, адасóблены, самóтны
**Éinsamkeit** *f* - адзінóта, самóтнасць, бязлю́ддзе; ***sich in die ~ zurückziehen**** адасóбіцца
**éinsammeln** *vt* збірáць; ***die Érnte*** ~ збірáць ураджáй
**éinsargen** *vt* клáсці ў трунý
**Éinsatz** *m* -es, -sätze 1) удзéл (*an D – у чым-н.*); уступлéнне (*у дзеянне*) 2) стáўка (*у гульні*) 3) устáўка (*на сукенцы*); ***mit dem ~ áller Kräfte*** з напрýжаннем усіх сіл
**éinsatzbereit** *a* 1) напагатóве 2) гатóвы да бóю; ***sich ~ máchen*** прывóдзіць сябé ў баявýю гатóўнасць; ***sich ~ hálten**** быць напагатóве

**Éinsatzbereitschaft** *f* -, -en 1) гатóўнасць да дзéяння 2) баявáя гатóўнасць
**Éinsatzgruppe** *f* -, -n 1) рабóчая брыгáда 2) *вайск.* баявáя [аператы́ўная] грýпа
**Éinsatzwagen** *m* -s, - 1) дадаткóвы вагóн 2) аўтамашы́на асóбага прызначэ́ння
**éinsäuern** *vt* 1) квáсіць, марынавáць 2) *с.-г.* сіласавáць
**éinsaugen*** *vt* усмóктваць, убірáць (*у сябе*)
**éinsaümen** *vt* 1) падрýбліваць, аблямóўваць, абшывáць (*сукенку*) 2) атачáць (*пра дрэвы і да т.п.*)
**éinschalten** *vt* уключáць; устаўля́ць, застаўля́ць
**Éinschalter** *m* -s, - *эл.* выключáльнік
**éinschärfen** *vt* настóйліва ўнушáць, павучáць; ***du musst dir das ~*** *разм.* запóмні гэ́та дóбра
**éinscharren** *vt* закóпваць
**éinschätzen** *vt* ацэ́ньваць
**Éinschätzung** *f* -, -en 1) ацэ́нка 2) адзнáка (*у школе – за работу вучня*); ***die ~ und Bewértung der Kénntnisse der Schüler*** ацэ́нка вéдаў вýчняў; адзнáка
**éinschenken** *vt* налівáць (*напітак*) ◊ ***j-m réinen Wein ~*** сказáць камý-н. усю прáўду
**éinschiffen 1.** *vt* грузíць (на) сýдна; рабíць пасáдку на сýдна **2. ~, sich** садзíцца на карабéль [на парахóд]
**éinschlafen*** *vi* (s) 1) засыпáць 2) зацякáць (*пра ногі*)
**éinschläfern** *vt* закалы́хваць, наганя́ць сон (*на каго-н.*)
**éinschläfernd** *a* снатвóрны
**Éinschlag** *m* -s, -schläge 1) удáр; пападáнне ў цэль (*бомбы*) 2) ухíл; ***mit téchnischem ~*** з тэхнíчным ухíлам 3) вóкладка; канвéрт
**éinschlagen* 1.** *vt* 1) забівáць 2) разбівáць 3) загóртваць 4) ісцí (*якім-н. шляхам*) **2.** *vi* 1) ударáць, пападáць (*пра маланку, снарад*) 2) мець пóспех, быць хóдкім; ***das schlägt nicht in mein Fach ein*** гэ́та не па маймý абся́гу
**éinschlägig** *a* адпавéдны, які аднóсіцца (*да чаго-н.*); ***die ~e Literatúr*** літаратýра па дáдзенаму прадмéту
**Éinschlagpapier** *n* -e, -s абгóртачная папéра
**éinschleichen*** *vi* (s) *i* **~, sich** пралáзіць, пракрáдвацца; ***sich in j-s Vertráuen ~*** уцéрціся да кагó-н. у давéр'е
**éinschließen* 1.** *vt* 1) замыкáць 2) акружáць, атачáць 3) уключáць; ***die Betréuung mit éingeschlossen*** уключáючы абслугóўванне **2. ~, sich** зачыня́цца
**éinschließlich 1.** *adv* уклю́чна **2.** *prp* (*G*); ***~ der Kósten*** уключáючы выдáткі
**éinschlummern** *vi* (s) задрамáць
**Éinschlupf** *m* -s, -schlüpfe пралáз, лаз
**Éinschluss** *m* -es, -schlüse уключэ́нне; ***mit ~ von (D)*** уключáючы
**éinschmeicheln, sich**: ***sich bei j-m ~*** ліслíвасцю дамагчы́ся (*чыёй-н.*) прыхíльнасці, улéзці ў давéр (*да каго-н.*)
**éinschmeichelnd** *a* ліслíвы; ***~e Musík*** мелады́чная мýзыка
**éinschmelzen* 1.** *vt* растапля́ць; расплаўля́ць; распускáць **2.** *vi* (*s*) 1) плáвіцца, растапля́цца, распускáцца 2) мéншаць
**éinschmieren** *vt* 1) мáзаць, змáзваць 2) запэ́цкаць
**éinschmuggeln 1.** *vt* 1) увóзіць кантрабáндай 2) *перан.* працягваць (*рэзалюцыю, закон*) **2. ~, sich** *разм.* пракрадáцца
**éinschnappen** *vi* (s) 1) зашчóўкнуцца 2) *тэх.* пападáць у паз 3) ***éingeschnappt sein*** *разм.* быць незадавóленым [пакры́ўджаным]
**éinschneiden* 1.** *vt* уразáць, надразáць; ***Kohl ~*** шынкавáць капýсту **2.** *vi* урэ́зацца; ***die Wórte schnítten tíef in die Séele ein*** слóвы глыбóка ўрэ́заліся ў душý
**éinschneidend** *a* карэ́нны, радыкáльны; ***~e Kürzung*** рэ́зкае скарачэ́нне; ***in ~er Wéise*** сáмым рашýчым чы́нам
**éinschneien 1.** *vi* (s) быць занéсеным снéгам **2.** *vt* занóсіць снéгам
**Éinschnitt** *m* -s, -e 1) надрэ́з; разрэ́з 2) вы́разка 3) вы́ямка
**éinschnüren** *vt* зацягваць, зашнурóўваць
**éinschränken 1.** *vt* абмяжóўваць, скара-

ча́ць **2. ~, sich** абмяжо́ўвацца

**Éinschränkung** *f* -, -en абмежава́нне; ~ ***der Rüstungen*** скарачэ́нне ўзбрае́нняў; ***sich (D) ~en áuferlegen*** абмежава́ць сябе́ ў чым-н.

**éinschrauben** *vt* укру́чваць, ушрубо́ўваць

**éinschrecken** *vt* запу́жваць, запало́хваць

**Éinschreib(e)brief** *m* -s, -e заказно́е пісьмо́

**éinschreiben*** **1.** *vt* запі́сваць, упі́сваць; ***éinen Brief ~ lássen**** адпра́віць пісьмо́ [ліст] заказны́м **2. ~, sich** запі́свацца (*у кнігу наведвальнікаў і да т.п.*)

**éinschreiten*** *vi* (s) рабі́ць за́хады, уме́швацца; ***geríchtlich ~*** прыцяга́ваць да судо́вай адка́знасці

**éinschrumpfen** *vi* (s) 1) змо́ршчвацца, караба́ціцца 2) *перан.* скарача́цца

**éinschüchtern** *vt* запало́хваць; ***sich nicht ~ lássen**** не даць сябе́ запужа́ць

**Éinschüchterung** *f* -, -en запало́хванне

**éinschulen** *vt* 1) вучы́ць 2) аддава́ць дзяце́й у шко́лу

**éinschütten** *vt* 1) засыпа́ць; насыпа́ць 2) ulіва́ць, налі́ва́ць

**éinschwenken** *vi* (s) збо́чваць, заваро́чваць (*куды-н.*)

**éinsegnen** *vt рэл.* 1) асвяча́ць, пасвяча́ць; благаслаўля́ць 2) канфірмава́ць

**éinsehen*** **1.** *vt* 1) прагляда́ць 2) загляда́ць (*у што-н.*) 3) разуме́ць, усведамля́ць; ***sein Únrecht ~*** прызна́цца ў сваёй памы́лцы **2.** *vi* (*in A*) зазіра́ць (*у што-н.*)

**Éinsehen** *n* -s 1) прагля́д 2) разуме́нне; ***háb(e) doch ein ~ !*** будзь жа разва́жным [разу́мным]!

**éinseifen** *vt* 1) намы́льваць 2) *разм.* ашу́кваць, абду́рваць

**éinseitig** **1.** *a* аднабако́вы **2.** *adv* аднабако́ва (*тс. перан.*)

**éinsenden*** *vt* дасыла́ць, дастаўля́ць; пасыла́ць, адпраўля́ць

**Éinsender** *m* -s, - адпраўні́к, а́ўтар (*допісу*)

**Éinsendung** *f* -, -en 1) дасыла́нне, даста́ўка; пасы́лка, адпра́ўка 2) паступле́нне (*на склад*)

**éinsetzen** **1.** *vt* 1) устаўля́ць, уса́джваць; упраўля́ць; ***etw. in die Zéitung ~*** памясці́ць што-н. у газе́це 2) садзі́ць (*расліны*) 3) (*zu D, als A*) прызнача́ць (*кім-н.*) 4) напру́жваць (*сілы*); ***sein Lében ~*** рызыкава́ць сваі́м жыццём 5) *вайск.* уво́дзіць у бой 6) укла́дваць (*грошы ў прадпрыемства*); ***etw. zum Pfand ~*** дава́ць што-н. пад зало́г **2.** *vi* 1) пачына́цца (*пра музыку, хваробу і г.д.*); надыхо́дзіць (*пра мароз і г.д.*) **3. ~, sich** (*für A*) заступа́цца (*за каго-н.*)

**Éinsetzung** *f* -, -en 1) уста́ўка 2) прызначэ́нне (*на пасаду*) 3) уво́д (*у дзеянне; валоданне*)

**Éinsicht** *f* -, -en 1) прагля́д 2) разва́га; ***aus éigener ~*** паво́дле свайго́ меркава́ння; ***zur ~ kómmen**** пераканáцца, упэ́ўніцца, абразу́міцца, прыйсці́ да ро́зуму; ***etw. aus éigener ~ tun**** рабі́ць што-н. па ўла́снаму меркава́нню

**éinsichtig** *a* разва́жлівы, разва́жны

**éinsichtslos** *a* неразва́жны

**éinsichtsvoll** *a* разва́жны, разва́жлівы

**éinsickern** *vi* (s) прасо́чвацца

**Einsiedeléi** *f* -, -en скіт, пустэ́ча, адасо́бленае ме́сца

**Éinsiedler** *m* -s, - пустэ́льнік; эрэмі́т

**éinsilbig** *a* 1) аднаскладо́вы 2) негаваркі́

**éinsingen*** **1.** *vt* закалы́хваць, люля́ць; ***ein Kind in den Schlaf ~*** люля́ць дзіця́ **2. ~, sich** распе́цца, распява́цца, увайсці́ ў го́лас

**éinsinken*** *vi* (s) 1) апуска́цца; гру́знуць 2) асяда́ць 3) патану́ць (*пра судна*)

**Éinsitzer** *m* -s, - аднаме́сны аўтамабі́ль [самалёт, экіпа́ж]

**éinsitzig** *a* аднаме́сны

**éinspannen** *vt* 1) запрага́ць (*коней*) 2) наця́гваць (*на што-н.*) 3) *разм.* загружа́ць рабо́тай

**Éinspänner** *m* -s, - 1) аднако́нны вы́езд 2) *жарт.* халасця́к

**éinspännig** *a* аднако́нны

**éinsparen** *vt* (з)экано́міць, накапля́ць, ашчаджа́ць, зберага́ць

**éinsperren** *vt* зачыня́ць (*каго-н.*); пасадзі́ць у турму́

**éinspielen, sich** удаскана́львацца ў ігры́

[гульні]
**Éinsprache** *f* -, -n пярэ́чанне; ~ ***erhében**** пярэ́чыць
**éinsprechen* 1.** *vt* унушаць; ***j-m den Mut*** ~ падбадзёрваць каго́-н. **2.** *vi* (*auf A*) перако́нваць (*каго-н.*)
**éinspregen** *vt* 1) спы́рскваць (*бялізну*) 2) падмє́шваць 3) выло́мваць, з сілай адчыня́ць
**éinspringen*** *vi* (s) 1) ускокваць 2): ***für j-n*** ~ (ху́тка) замяніць каго́-н. 3) збяга́цца (*пра тканіну*) 4) патрэ́скацца (*пра скуру*)
**éinspritzen** *vt* упры́скваць (*што-н.*), рабіць ін’екцыю
**Éinspritzung** *f* -, -en упы́рскванне, прышчэ́пка, ін’екцыя
**Éinspruch** *m* -s, -sprüche пярэ́чанне, пратэ́ст, прэтэ́нзія, за́кід; ~ ***erhében**** пратэстава́ць
**éinspurig** *a* аднакале́йны
**éinst** *a* 1) адно́йчы, калі́сьці, не́калі 2) калі́-не́будзь (у *будучым*)
**éinstampfen** *vt* утрамбо́ўваць, трамбава́ць
**Éinstand** *m* -(e)s, -stände 1) уступле́нне (у *пасаду*) 2) ро́ўны лік (*ачкоў*)
**Éinstands|gebühr** *f* -, -en, ~**geld** *n* -s, -er усту́пны ўзно́с
**éinstechen*** *vt* 1) прако́лваць; прабада́ць 2) утыка́ць
**éinstecken** *vt* укла́дваць, запіхваць, засо́ўваць 2) *разм.* сцягну́ць, укра́сці, прысво́іць 3) цярпе́ць (*пабоі, абразы, зняваґі*) 4) *разм.* пасадзі́ць у турму́ 5) *разм.* мець пры сабе́ (*пра грошы*); ***ich hábe nur Rúbel éingesteckt*** у мяне́ з сабо́ю то́лькі рублі́
**éinstehen** *vi* (s) (*für A*) адка́зваць, руча́цца (*за каго-н., што-н.*)
**éinstehlen*, sich** ~ пракрада́цца; ***in j-s Vertráuen*** ~ уце́рціся ў даве́р’е (*да каго-н.*)
**éinsteigen*** *vi* (s) увахо́дзіць, зала́зіць, садзі́цца (у *вагон*)
**Éinsteigloch** *n* -s, -löcher лаз, прала́з
**éinstellbar** *a* які́ рэгулю́ецца, рэгуля́ваны
**éinstellen I 1.** *vt* 1) устаўля́ць, застаўля́ць 2) пры́маць (*на працу*) 3) спыня́ць (*працу, плацяжы*) 4) *тэх.* рэгулява́ць **2. ~, sich** 1) з’яўля́цца, прыбыва́ць (у *пэўны час, у пэўнае месяца*) 2) пачына́цца, наступа́ць (*пра мароз, кашаль і г.д.*) 3) (*auf A*) арыентава́цца, настро́йвацца (*на што-н.*); прыстасо́ўвацца (*да чаго-н.*)
**éinstellen II** *vt* спыня́ць (*работу, стральбу і г.д.*)
**éinstellig** *a матэм.* адназна́чны
**Éinstellung** *f* -, -en 1) уста́ўка 2) устано́ўка, пункт по́гляду 3) прыня́цце (*на працу*) 4) спыне́нне (*працы, плацяжоў*) 5) *тэх.* рэгуліро́ўка 6) *вайск.* я́ўка па прызы́ву
**Éinstieg** *m* -(e)s, -e лаз, прала́з, уваxо́д
**éinstig** *a* 1) былы́, ко́лішні 2) бу́дучы
**éinstimmen** *vi* 1) згаджа́цца (*mit D, in A* – *з чым-н.*) 2) падпява́ць, уступа́ць (*пра голас*)
**éinstimmig 1.** *a* аднагало́сны; для аднаго́ го́ласу **2.** *adv* аднагало́сна, у адзі́н го́лас
**Éinstimmigkeit** *f* - аднагало́снасць
**Éinstimmung** *f* -, -en 1) зго́да; ***mit Íhrer*** ~ з Ва́шага дазво́лу 2) сугу́чнасць, гармо́нія
**éinstmalig** былы́, ране́йшы, даўне́йшы
**éinstmals** *a* адно́йчы
**éinstöckig** *a* аднапавярхо́вы (*адпавядае беларускаму* двухпавярхо́вы)
**éinstopfen** *vt* засо́ўваць; набіва́ць, напіхваць
**éinstoßen*** *vt* 1) запіхваць (*унутр чаго-н.*) 2) выбіва́ць (*дзверы*)
**éinstreuen** *vt* усыпа́ць; перасыпа́ць
**éinströmen** *vi* (s) уліва́цца, упада́ць
**éinstudieren** *vt* заву́чваць, развучваць
**éinstufen** *vt* размяркóўваць па катэго́рыях
**éinstufig** *a тэх.* аднаступе́нны, аднаразо́вы
**éinstürmen** *vi* (*auf A*) нахлы́нуць (*пра ўражанні*); ***auf j-n*** ~ накі́нуцца на каго́-н. (*з просьбамі, пытаннямі*)
**Éinsturz** *m* -es, -stürze абва́л; падзе́нне
**éinstürzen 1.** *vi* (s) абва́львацца, абрына́цца, абру́швацца **2.** *vt* разбура́ць, ламáць

**éinstweilen** *a* паку́ль што, тым ча́сам
**éinstweilig 1.** *a* часо́вы **2.** *adv* часо́ва
**éintägig** *a* аднадзённы; су́тачны
**éintauchen 1.** *vt* акуна́ць, мача́ць **2.** *vi* (s) ныра́ць, нырцава́ць, дава́ць нырца́
**Éintausch** *m* -es, -e (*von D*) абме́н (*чым-н., чаго-н.*)
**éintauschen** *vt* (*gegen A*) абме́ньваць; мяня́ць (*на што-н.*)
**éinteilen** *vt* 1) дзялі́ць; падзялі́ць 2) размяркóўваць; ***sein Geld*** ~ ашча́дна выдаткóўваць гро́шы
**éinteilig** *a* 1) непадзе́льны, суцэ́льны 2) аднастворкавы
**Éinteilung** *f* -, -en падзе́л, дзяле́нне; размеркава́нне, класіфіка́цыя, шкала́
**éintönig** *a* аднаста́йны, манато́нны
**Éintopf** *m* -s, töpfe, ~**gericht** *n* -s, -e густы́ суп, які́ замяня́е пе́ршую і другу́ю стра́ву
**Éintracht** *f* - аднаду́шнасць, зго́да; ***in ~ lében*** жыць у зго́дзе
**éinträchtig** *a* аднаду́шны, дру́жны, зго́дны
**Éintrag** *m* -s, -träge 1) унясе́нне (у *спіс*) 2) стра́та, шко́да; ~ ***tun****** прыно́сіць шко́ду
**éintragen*** **1.** *vt* зано́сіць (у *спіс*); рэгістрава́ць; ***Gewínn*** ~ прыно́сіць прыбы́так; ***auf das Kónto*** ~ запіса́ць на раху́нак **2. ~, sich** зарэгістрава́цца (*у спісе*)
**éinträglich** дахо́дны, прыбытко́вы
**Éinträglichkeit** *f* - 1) прыбытко́васць, дахо́днасць 2) *pl* -en дахо́дны арты́кул бюджэ́та
**Éintragung** *f* -, -en унясе́нне, за́піс (*у спіс*)
**éintränken** *vt* 1) намо́чваць, прамо́чваць, насыча́ць 2) (*j-m*) адпо́мсціць (*каму-н. за што-н.*)
**éinträufeln** *vt* нака́паць, уліва́ць па кро́плях
**éintreffen*** *vi* (s) 1) прыбыва́ць, прыхо́дзіць, прыязджа́ць (*in D – куды-н.*) 2) здзяйсня́цца
**Éintreffen** *n* -s 1) (*in D*) прыбыццё (*куды-н.*) 2) здзяйсне́нне (*жаданняў*)
**éintreiben*** *vt* 1) заганя́ць, убіва́ць, уганя́ць 2) заганя́ць (*скаціну*); ***Stéuern*** ~ збіра́ць пада́ткі
**éintreten*** **1.** *vi* (s) 1) увахо́дзіць 2) надыхо́дзіць 3) уступа́ць (у *арганізацыю*) 4) адбыва́цца 5) (*für A*) заступа́цца (*за каго-н.*) **2.** *vt* 1) уто́птваць; ***sich (D) éinen Splítter in den Fuß*** ~ застрамі́ць нагу́ 2) вы́біць (*дзверы нагой*) 3) разно́шваць (*абутак*)
**éintrichtern** *vt* 1) наліва́ць праз ле́йку 2) *разм.* удзёўбваць, убіва́ць (*у галаву*)
**Éintritt** *m* -s, -e 1) увахо́д 2) уступле́нне; ~ ***verbóten!*** увахо́д забаро́нены! 3) наступле́нне (*халадоў і г.д.*)
**Éintrittsbeitrag** *m* -(e)s, -träge усту́пны ўзно́с
**Éintrittsexamen** *n* -s, - *і* -mina усту́пны экза́мен [іспы́т]
**Éintrittsgeld** *n* -es, -er увахо́дная пла́та, усту́пны ўзно́с
**Éintrittskarte** *f* -, -en увахо́дны біле́т
**Éintrittspreis** *m* -es, -e пла́та за ўвахо́д
**éintrocknen 1.** *vi* (s) засыха́ць; усыха́ць **2.** *vt* засу́шваць
**Éintrübung** *f* -, -en хма́рнасць, па́хмурнасць
**éintunken** *vt* мача́ць
**éintüten** *vt* фасава́ць (*у пакецікі, торбачкі*)
**éinüben 1.** *vt* развучваць, выву́чваць; *спарт.* трэніравацца **2. ~, sich** практыкава́цца, трэніравацца
**éinverleiben** *vt* (*D*) далуча́ць (*да чаго-н.*), уз'ядноўва́ць (*з чым-н.*); анексі́раваць (*пра тэрыторыю*)
**Éinverleibung** *f* -, -en ане́ксія, далучэ́нне, уз'ядна́нне
**Éinvernehmen** *n* -s (узае́мная) зго́да; ***in ~ mit j-m*** заадно́ з кім-н.
**éinverstanden** *a* (*mit D*) зго́дны (*з кім-н.*); ~ **!** зго́дны!, до́бра!, зго́дзен!
**Éinverständnis** *n* -ses, -se зго́да, пагадне́нне; ***im ~ mit j-m hándeln*** дзе́йнічаць заадно́ з кім-н.
**éinwachsen*** *vi* (s)ураста́ць
**Éinwand** *m* -s, -wände пярэ́чанне; адгаво́рка; ~ ***erhében**** пярэ́чыць, пратэстава́ць
**Éinwand(e)rer** *m* -s, - імігра́нт, перасяле́нец

**éinwandern** *vi* (s) іміграва́ць
**éinwandfrei 1.** *a* бездако́рны, беззага́нны **2.** *adv* бездако́рна, беззага́нна
**éinwärts** *adv* уну́тр, усяро́дзіну; ***nach ~ geríchtet [gekéhrt]*** накірава́ны ўнутр
**éinwärts géhen*** *vi* (s) хадзі́ць наска́мі ўнутр
**éinwechseln** *vt* абме́ньваць (*грошы*); разме́ньваць
**éinwecken** *vt* рабі́ць кансе́рвы, кансервава́ць (*садавіну, гародніну*)
**Éinweckglas** *n* -es, -gläser шкляны́ сло́ік (*для кансерваў з садавіны і гародніны*)
**Éinwegspritze** *f* -, -n аднаразо́вы шпрыц
**éinweichen** *vt* размо́чваць
**éinweihen** *vt* 1) (урачы́ста) адкрыва́ць; асвяча́ць 2) дзялі́цца (*з кім-н., чым-н.*), адкрыва́ць (*каму-н. што-н.*)
**Éinweihung** *f* -, -en 1) (урачы́стае) адкрыццё 2) пасвячэ́нне, адкрыццё (*таямніцы*)
**éinweisen*** *vt* 1) ука́зваць, інструктава́ць 2) дава́ць накірава́нне [о́рдэр]
**Éinweisung** *f* -, -en 1) інструкта́ж, указа́нне 2) накірава́нне, о́рдэр, пуцёўка; ***~ in ein Sanatórium*** пуцёўка ў санато́рый
**éinwenden*** *vt* пярэ́чыць, супярэ́чыць; ***ich hábe dagégen nichts éinzuwenden*** у мяне́ няма́ нія́кіх пярэ́чанняў су́праць гэ́тага
**Éinwendung** *f* -, -en пярэ́чанне; ***óhne ~*** безагаво́рачна; ***~en erhében* [máchen, vórbringen*]*** пярэ́чыць, пратэстава́ць
**éinwerfen*** *vt* 1) кі́даць (*у што-н.*); ***Bríefe ~*** укіда́ць пі́сьмы (*у скрынку*) 2) выбіва́ць (*шыбы*) 3) пярэ́чыць; ***Bemérkungen ~*** устаўля́ць заўва́гі
**éinwickeln 1.** *vt* заго́ртваць, закру́чваць, заху́тваць **2. ~, sich** закру́чвацца, заху́твацца
**Éinwickelpapier** *n* -s, -e абго́ртачная папе́ра
**éinwiegen** *vt* укалы́хваць, закалы́хваць
**éinwilligen** *vt* (*in A*) згаджа́цца (*на што-н.*)
**Éinwilligung** *f* -, -en зго́да; ***die ~ verwéigern*** не пагаджа́цца
**éinwirken 1.** *vi* (*auf A*) уплыва́ць, рабі́ць уплы́ў (*на каго-н., на што-н.*) **2.** *vt* уплята́ць, уватка́ць (*у тканіну*)
**Éinwirkung** *f* -, -en уплы́ў, уздзе́янне; ***chémische ~*** хімі́чная рэа́кцыя
**éinwohnen, sich** абжы́цца
**Éinwohner** *m* -s, - жыха́р, кватара́нт
**Éinwohnerschaft** *f* -, -en насе́льніцтва, жыхары́
**Éinwohnerzahl** *f* - ко́лькасць насе́льніцтва [жыхаро́ў]
**Éinwurf** *m* -s, -würfe 1) разрэ́з, шчы́ліна (*для кідання манет*) 2) пярэ́чанне; ***éinen ~ widerlégen*** абвярга́ць пярэ́чанне
**éinwurzeln** *vi* (s) *i* **~, sich** укараня́цца
**Éinzahl** *f* - *грам.* адзіно́чны лік
**éinzahlbar** *a* які́ падлягáе пла́це; за які́ трэ́ба плаці́ць
**éinzahlen** *vt* уно́сіць (*грошы*), плаці́ць
**Éinzahlung** *f* -, -en плаце́ж, узно́с, апла́та
**éinzäunen** *vt* абгаро́джваць (пло́там)
**Éinzäunung** *f* -, -en 1) абгаро́джванне 2) агаро́джа, плот
**éinzeichnen 1.** *vt* 1) маля́ваць, чарці́ць (*што-н. на чым-н.*); адзнача́ць, нано́сіць (*што-н. на карціну і г.д.*) 2) зано́сіць, уно́сіць (*у спіс*) **2. ~, sich** запіса́цца, зарэгістрава́цца
**Éinzelausgabe** *f* -, -n асо́бнае выда́нне
**Éinzelbau** *m* -s, -e індывідуа́льнае будаўні́цтва
**Éinzelbauer** *m* -n *i* -s, -n (селяні́н-)аднаасо́бнік
**Éinzelblattzuführung** *f* -, -en *камп.* аўтапада́ча старо́нак
**Éinzelerscheinung** *f* -, -en адзі́нкавая з’я́ва
**Éinzelfall** *m* -s, -fälle адзі́нкавы вы́падак
**Éinzelfertigung** *f* -, -en шту́чная вытво́рчасць
**Éinzelhaft** *f* - адзіно́чнае зняво́ленне
**Éinzelhandel** *m* -s ро́знічны га́ндаль
**Éinzelhändler** *m* -s, - гандля́р (*які вядзе рознічны гандаль*)
**Éinzelheit** *f* -, -en падрабя́знасць, дэ́таль; ***auf ~en éingehen**** паглыбля́цца ў падрабя́знасцях
**Éinzelkampf** *m* -(e)s, -kämpfe паяды́нак; *спарт.* адзінабо́рства
**éinzellig** *a біял.* аднакле́тачны

**éinzeln 1.** *a* адзінкавы; асобны; адзінокі **2.** *adv* асобна, паасобку; ***im ~en*** у прыватнасці

**Éinzelpreis** *m* -es, -e кошт адной штукі

**Éinzelverkauf** *m* -s, -verkäufe рознічны гандаль

**Éinzelverkaufspreis** *m* -(e)s, -e *камерц.* рознічная цана

**Éinzelverpflichtung** *f* -, -en індывідуальнае абавязацельства; ***éine ~ éingehen**** узяць (на сябе) індывідуальнае абавязацельства

**Éinzelwertung** *f* -, -en *спарт.* асабісты залік

**éinziehen*** **1.** *vt* 1) уцягваць, зацягваць 2) здымаць (*парус*) 3) апускаць (*сцяг*) 4) збіраць (*падаткі і г.д.*) **2.** *vi* (s) 1) засяляцца (у *кватэру*) 2) уступаць (*у горад*); ***Erkúndigungen ~*** даведвацца, наводзіць даведкі

**éinzig 1.** *a* адзіны (*адрозны ад іншых*) **2.** *adv* толькі; ***~ und alléin*** толькі, выключна

**éinzigartig** *a* адзіны ў сваім родзе; ***das ~e dabéi ist, dass…*** асаблівае ў гэтым выпадку тое, што…

**Éinzigkeit** *f* -, -en, **Éinzigartigkeit** *f* -, -en выключнасць, беспрыкладнасць, непаўторнасць

**Éinzimmerwohnung** *f* -, -en аднапакаёвая кватэра

**Éinzug** *m* -s, -züge 1) засяленне (*у кватэру*) 2) уступленне (*напр. у горад*) 3) наступленне (*пары года*)

**Éinzugsfeier** *f* -, -n навасёлле, уваходзіны

**éinzwängen** *vt* уціскваць, запіхваць

**éirund** *a* яйкападобны, авальны

**Eis** *n* -es 1) лёд; ***aufs ~ géhen**** ісці на каток 2) марожанае; *геал.* ***fossíles ~*** вечная мерзлата

**Éisbahn** *f* -, -en каток, каўзель; *спарт.* ледзяная дарожка

**Éisbär** *m* -en -en белы мядзведзь

**Éisbein** *n* -s, -e 1) свіная ножка (*страва*) 2) *pl* халодныя [ледзяныя] ногі; ***~e bekómmen**** пахаладзець ад страху

**Éisberg** *m* -es, -e айсберг

**Éisblume** *f* -, -n ледзяны ўзор (*на вокнах*)

**Éisbrecher** *m* -s, - ледакол

**Éisbruch** *m* -s крыгаход

**Éisdecke** *f* -, -n ледзяное покрыва

**Éisdiele** *f* -, -n кафэ-марожанае, кавярня з марожаным

**Éisen** *n* -s, - 1) жалеза 2) кайданы 3) падкова 4) меч; ***in ~ schlágen* [légen*]*** закаваць у кайданы

**Éisenabfälle** *pl* жалезны лом

**Éisenbahn** *f* -, -en чыгунка; ***auf [mit] der ~ fáhren**** ездзіць па чыгунцы

**Éisenbahnabteil** *n* -s, -e *чыг.* купэ

**Éisenbahnbeamte** *sub m* -n, -n служачы (*на чыгунцы*)

**Éisenbahnbetrieb** *m* -(e)s, -e чыгуначны рух

**Éisenbahndamm** *m* -s, -e чыгуначнае палатно

**Éisenbahner** *m* -s, - чыгуначнік

**Éisenbahnfahrplan** *m* -s, -pläne расклад (руху) цягнікоў

**Éisenbahnfahrt** *f* -, -en праезд па чыгунцы; паездка па чыгунцы

**Éisenbahngleis** *n* -s, - чыгуначная каляя

**Éisenbahnknotenpunkt** *m* -es, -e чыгуначны вузел

**Éisenbahnkursbuch** *n* -(e)s, -bücher чыгуначны даведнік

**Éisenbahnlini¦e** *f* -, -n чыгуначная лінія

**Éisenbahnschiene** *f* -, -n чыгуначная рэйка

**Éisenbahnschranke** *f* -, -en шлагбаум

**Éisenbahnschwelle** *f* -, -n шпала

**Éisenbahnstation** *f* -, -en (чыгуначная) станцыя

**Éisenbahnunfall** *m* -s, -e чыгуначнае крушэнне; ***ein ~ hat sich zúgetragen*** здарылася крушэнне цягніка

**Éisenbahnverbindung** *f* -, -en чыгуначныя зносіны

**Éisenbahnverkehr** *m* -s чыгуначныя зносіны, чыгуначны рух

**Éisenbahnwagen** *m* -s, - чыгуначны вагон

**Éisenbahnwesen** *n* -s чыгунка, чыгуначная справа

**Éisenbau** *m* -s, -ten жалезная канструкцыя

**Éisenbeton** *m* -s жалезабетон

**Éisenblech** *n* -s, -e бляха
**Éisenerz** *n* -es, -e жалезная руда
**Éisengewinnung** *f* -, -en вытворчасць жалеза; выплаўка сталі
**éisenhaltig** *a* жалезісты
**Éisenhütte** *f* -, -n металургічны завод
**Éisenlegierung** *f* -, -en жалезны сплаў; ферасплаў
**Éisenschrott** *m* -s, -e жалезны лом
**Éisenwaren** *pl* жалезныя вырабы
**Éisenverhüttung** *f* -, -en металургічная перапрацоўка жалезных руд; выплаўка чыгуну
**Éisenwalzwerk** *n* -s, -e сталепракатны завод [цэх, стан]
**Éisenzeit** *f* - *гіст.* жалезны век
**éisern** *a* жалезны; ***~er Fleiß*** надзвычайная руплівасць [дбайнасць, старанпасць]
**éisfrei** *a* свабодны ад лёду; ***~er Háfen*** незамярзальны порт
**Éisfuchs** *m* -es, -füchse *заал.* пясец
**Éisgang** *m* -s крыгаход
**éisgrau** *a* 1) сівы 2) вельмі стары
**Éishockey** [-ke *i* -ki] *n* -s хакей (з шайбай)
**Éishockeyschläger** [-ke-] *m* -s, - клюшка (*хакей*)
**éisig** *a* ледзяны, халодны (як лёд)
**éiskalt** *a* марозны, халодны, як лёд
**Éiskeller** *m* -s, - *уст.* лядоўня
**Éiskunstlauf** *m* -s *спарт.* фігурнае катанне на коньках
**Éislauf** *m* -s, -läufe коўзанне [катанне] на коньках
**Éismachine** *f* -, -n 1) рэфрыжэратар, машына, якая робіць лёд 2) марожаніца (*форма пад марожанае*)
**Éismeer** *n* -s палярнае мора
**Éisrevue** [-vy:] *f* -, -n [-vy:ən-] балет на лёдзе
**Éisschicht** *f* -, -en ледзяны слой, ледзяное покрыва
**Éisschlitten** *m* -s, - *спарт.* буер
**Éisschnelllauf** *m* -(e)s, -läufe бег на каньках (*спаборніцтва*)
**Éisscholle** *f* -, -n крыга
**Éisschrank** *m* -(e)s, -schränke *уст.* халадзільнік
**Éisstand I** *m* -(e)s, -stände ледастаў
**Éisstand II** *m* -(e)s, -stände кіёск па прадажы марожанага
**Éisstärke** *f* -, -n таўшчыня лёду
**Éisvogel** *m* -s, -vögel *заал.* зімародак
**Éiszapfen** *m* -s, - лядзяш
**Éiszeit** *f* - ледавіковы [леднiковы] перыяд
**Éiszone** *f* -, -n *геагр.* ледзяны пояс
**éitel** *a* 1) пусты, пыхлівы; ***auf etw. (A) ~ sein*** ганарыцца, выхваляцца чым-н; ***~ [éitler] Tang*** мішура 2) чысты (*без дамешкаў*) 3) пусты, нікчэмны; ***~ Lug und Trug*** адна хлусня
**Éitelkeit** *f* -, -en 1) ганарыстасць, пыхлівасць, фанабэрыя 2) мітуслівасць, нікчэмнасць, хлуслівасць
**Éiter** *m* -s гной (*ад нарыву*); *~ **ábsetzen*** гнаіцца
**Éiter|beule** *f* -, -n, **~geschwulst** *f* -, -wülste, **~geschwür** *n* -(e)s, -e гнойны нарыў, абсцэс
**éiterig** *a* гнойны
**éitern** *vi* гнаіцца
**Éiweiß** *n* -es, -e бялок; альбумін; ***die ~e steif schlágen**** *кул.* узбіваць бялкі
**éiweißhaltig** *a* які змяшчае ў сабе бялок
**Éizelle** *f* -, -en *біял.* яйцавая клетка, яйцо
**Ékel** *m* -s (*vor D*) агіда (*да чаго-н.*); ***zum ~ wérden*** абрыднуць, апрыкраць; надакучыць
**Ékelgefühl** *n* -(e)s, - грэблівасць; адчуванне мóташнасці
**ékelhaft, ék(e)lig** *a* агідны, брыдкі; ***es ist*** ~ агідна [мóташна]
**ékeln, sich** *vimp* (*vor D*) брыдзіцца (*чаго-н.*), адчуваць агіду; ***es ékelt mich [mir], ich ék(e)le mich davór*** мне брыдка ад гэтага
**Ekstáse** *f* -, -n экстаз, захапленне; ***in ~ geráten**** прыходзіць у захапленне
**Ekzém** *n* -s, -e *мед.* экзэма
**Elán** [e'lã: *i* e'la:n] *m* -s, -s уздым, натхненне, размах; ***mit ~ árbeiten*** працаваць з натхненнем
**Eláste** *pl* *тэх.* эластычныя матэрыялы
**elástisch** *a* 1) эластычны; гнуткі 2) пругкі

**Elastizität** *f* - эластычнасць, гнуткасць; пругкасць

**Élativ** *m* -s, -e *грам.* 1) элятыў (*выходны склон*) 2) найвышэйшая ступень (*у значэнні абсалютна высокай ступені якасці*)

**Elch** *m* -(e)s, -e *заал.* лось

**Elefánt** *m* -en -en слон

**Elefántenrüssel** *m* -s, - (сланóвы) хóбат

**elegánt** *a* элегáнтны, прыгóжы

**Elegánz** *f* - элегáнтнасць, прыгóжасць, шык; ***gedíegene ~*** сціплая элегáнтнасць

**Elegíe** *f* -, -gí¦en *літ.* элéгія

**Elektrifizíerung** *f* - электрыфікáцыя

**Eléktriker** *m* -s, - электратэ́хнік

**eléktrisch 1.** *a* электры́чны; ***~e Léitung*** электры́чны прóвад, электры́чная правóдка **2.** *adv*: ***~ geláden*** зарáджаны тóкам; ***~ betréiben**** прывóдзіць у рух электратóкам

**elektrisíeren** *vt* 1) *фіз., мед.* электрызавáць; *мед. тс.* лячы́ць электры́чнасцю; ***sich ~ lássen**** прайсці́ курс электралячэ́ння 2) ажыўля́ць, натхня́ць

**Elektrizitä́t** *f* - электры́чнасць

**Elektrizitä́tsrechner** *m* -s, - *тэх.* лічы́льнік электраэнéргіі

**Elektrizitä́tswerk** *n* -(e)s, -e электрастáнцыя

**Elektrizitä́tszähler** *m* -s, - электры́чны лічы́льнік

**Eléktroartikel** *pl* электратавáры

**Elektrochemíe** *f* - электрахі́мія

**Elektróde** *f* -, -n *фіз.* электрóд

**Elektrodynámik** *f* - электрадынáміка

**Elektrogenerátor** *m* -s, -tóren электрагенерáтар

**Eléktroingenieur** [-inʒənjø:r] *m* -s, -e інжынéр-элéктрык

**Eléktrokarren** *m* -s, - электракáр

**Eléktro|lok** *f* -, -s, **~lokomotive** [-və-] *f* -, -n электравóз

**Elektromagnét** *m* -s *i* -en, -e *i* -en электрамагні́т

**Eléktromonteur** [-tø:r] *m* -s, -e электраманцёр

**Eléktromotor** *m* -s, -tóren электрарухавíк, электраматóр

**Eléktron** [Élektron] *n* -s, -tróne *фіз.* электрóн

**Elektrónenröhre** *f* -, -n электрóнная ля́мпа

**Elektrónik** *f* - электрóніка

**Eléktroschweißen** *n* -s электразвáрка

**Eléktrotechnik** *f* - электратэ́хніка

**Elemént** *n* -(e)s, -e 1) стыхíя 2) элемéнт 3) *pl* аснóвы (*ведаў*); ***in séinem ~ sein*** адчувáць сябé ў сваёй стыхíі

**elementár** *a* 1) элементáрны, першапачаткóвы; аснóўны 2) стыхíйны

**Elementárbildung** *f* - пачаткóвая адукáцыя

**Elementárgewalt** *f* -, -en стыхíйная сíла

**Elementárschule** *f* -, -n пачаткóвая шкóла

**Elementárstoff** *m* -(e)s, -e *хім.* элемéнт; прóстае рэ́чыва

**Elementárunterricht** *m* -(e)s пачаткóвае навучáнне

**Élen** *n, m* -s, - *гл.* Elch

**élend** *a* 1) вáрты жáлю, жáласны 2) бядóтны, гарóтны 3) пóдлы; ***~es Zeug*** дрэнь

**Élend** *n* -s 1) бядá, няшчáсце 2) галéча, бéднасць; ***ins ~ bríngen**** давясці́ да галéчы; ***ins ~ geráten**** упáсці ў беднатý, разары́цца

**Élendsviertel** *n* -s, - бéдны [жабрáчы] квартáл

**Elevator** [-ˈva:-] *m* -s, -tóren элевáтар; пад'ёмнік, грузавы́ ліфт

**Elève** [-və] *m* -n -n вýчань, выхавáнец (*у сельскай і лясной гаспадарцы; тс. у тэатральным, балетным, музыкальным вучылішчы*)

**elf** *num* адзінáццаць

**Elf I** *f* -, -en 1) (лік) адзінáццаць 2) камáнда (*футбольная*)

**Elf II** *m* -en, -en, **Élfe** *f* -, -n *міф.* эльф, гном

**Élfenbein** *n* -(e)s сланóвая косць

**élfjä́hrig** *a* адзінáццацігадóвы

**Élfmeter** *m* -s, - адзінаццаціметрóвы ўдар (*футбол*)

**Élfmeterpunkt** *m* -es, -e адзінаццаціметрóвая адзнáка (*футбол*)

**élfte** *a* адзінáццаты

**Eliminatión** *f* -, -en выключэ́нне, элімінáцыя, выдалéнне

**eliminíeren** *vt* выключа́ць, элімінава́ць, выдаля́ць, устараня́ць

**Elíte** *f* -, -en адбо́рнае, элі́та; ~ ***der Armée*** адбо́рныя во́йскі

**Elixíer** n -s, - эліксі́р, насто́й

**Éllbein** *n* -(e)s, -e *анат.* лакцява́я косць

**Éllbogen** *m* -s, - ло́каць; ***sich auf die ~ stützen*** аблакаці́цца

**Élle** *f* -, -n 1) лакцява́я косць 2) ло́каць (*мера даўжыні*) ◊ ***mit [nach] der ~ méssen**** ме́раць адны́м аршы́нам; ***mit der negatíven*** [-v-] ***~ méssen*** варо́жа ста́віцца, падвярга́ць сумне́нню

**éllenlang** *a* 1) даўжынёй у ло́каць 2) *перан.* на́дта до́ўгі

**Ellípse** *f* -, -en *матэм., лінгв.* эліпс

**ellíptisch** *a* эліпты́чны

**Eloquénz** *f* - красамо́ўства

**Élster** *f* -, -n саро́ка; ***geschwätzig [díebisch] wie éine ~*** балбатлі́вы [зладзе́йскі] як саро́ка ◊ ***etw. der ~ auf den Schwanz bríngen**** пусці́ць плётку

**élterlich** *a* бацько́ўскі

**Éltern** *pl* бацькі́ ◊ ***das ist nicht von schléchten ~*** гэ́та не дрэ́нна

**Éltern|ausschuss** *m* -es, -schüsse, ~**beirat** *m* -(e)s, -räte бацько́ўскі камітэ́т (*пры школе*)

**Élternberatung** *f* -, -en бацько́ўскі сход (*у школе*)

**Élternhaus** *n* -es, -häuser 1) дом бацько́ў 2) ро́дны [бацько́ўскі] дом

**E-Mail** [i:ˈme:il] *f* - электро́нная по́шта

**Emaille** [eˈma:ljə] *f* -, -n эма́ль

**Emanatión** *f* -, -en *фіз.* эмана́цыя; выпраме́ньванне

**Emanzipatión** *f* -, -en эмансіпа́цыя, вызвале́нне, свабо́да

**Embárgo** *n* -s, -s эмба́рга; ***auf etw. ~ légen, etw. mit ~ belégen*** накла́сці эмба́рга на што-н.

**Emblém** *n* -s, -e эмбле́ма

**Émbryo** *m* -s, -ónen *біял.* эмбрыён, заро́дак

**Emerít** *m* -en, -en пенсіяне́р (*найчасцей аб настаўніках, навуковых супрацоўніках*)

**emeritíeren** *vt* звальня́ць на пе́нсію (*прафесара вышэйшай навучальнай установы*)

**Emigránt** *m* -en, -en эмігра́нт

**emigríeren** *vt* (s) эміграва́ць, перасяля́цца (*у другую краіну*)

**eminént** *a* выда́тны; зна́чны

**Eminénz** *f* -, -en 1) перава́га, высо́кая го́днасць 2): ***Éuer [Éure] ~*** Ва́ша высо́капраасвяшчэ́нства

**Emissär** *m* -s, -e 1) эміса́р, пасла́нец 2) лазу́тчык

**Emissión** *f* -, -en 1) *эк.* эмі́сія, вы́пуск кашто́ўных папе́р 2) *фіз.* выпраме́ньванне

**Emissiónsstrafe** *f* - штраф за вы́кіды адходаў

**emitíeren** *vt* *эк.* пуска́ць у абрачэ́нне [абаро́т], эмітава́ць

**emotionál** *a* эмацыяна́льны

**emp**= *неаддз. дзеясл. прыстаўка, сустракаецца толькі ў некалькіх дзеясловах і не мае выразна акрэсленага значэння*

**empfáhl** *impf ад* empféhlen*

**empfánd** *impf ад* empfínden*

**Empfáng** *m* -(e)s, -fänge 1) прыём, прыня́цце, атрыма́нне 2) прыём, сустрэ́ча (*гасцей*) 3) прыём (*радыёперадачы*); ***etw. in ~ néhmen**** атры́млівацъ, прыма́ць што-н.; ***j-n in ~ néhmen**** сустрэ́ць, прыня́ць каго́-н.

**empfángen*** **1.** *vt* 1) атры́мліваць, прыма́ць, браць 2) сустрака́ць (*гасцей*) **2.** *vi* зацяжа́рыць, зача́ць

**Empfänger** *m* -s, - 1) атрыма́льнік, прыёмшчык 2) радыёпрыёмнік

**empfänglich** *a* (*für A*) успрыі́млівы, схі́льны (*да чаго-н.*)

**Empfängnis** *f* -, -se зача́цце

**Empfä́ngnisverhütung** *f* - пазбяга́нне [прадухіле́нне] цяжа́рнасці

**Empfángs¦bescheinigung** *f* -, -en, ~**bestätigung** *f* -, -en квіто́к [распі́ска] атрыма́ння (*чаго-н.*)

**Empfángs¦chef** [-ʃɛf] *m* -s, -s адміністра́тар (*у гасцініцы*)

**Empfángschalle** *f* -, -n вестыбю́ль

**Empfángszimmer** *n* -s, - прыёмная; пры-

ёмны пакóй

**empféhlen*** **1.** *vt* рэкамендавáць, ра́іць; ***gut empfóhlen sein*** мець дóбрыя рэкамендáцыі **2. ~, sich** 1) адвíтвацца, развíтвацца 2) прапанóўваць сваé паслýгі

**empféhlens|wert**, ~**würdig** *a* які́ трэ́ба [вáрта] парэкамендавáць

**Empféhlung** *f* -, -en 1) рэкамендáцыя 2) паклóн, прывітáнне

**empfíndbar** *a* адчувáльны, чуллíвы

**Empfíndbarkeit** *f* - адчувáльнасць, чуллíвасць

**empfínden*** *vt* адчувáць, зазнавáць; ***mit j-m*** ~ спачувáць (*камусьці*)

**empfíndlich** **1.** *a* 1) чуллíвы; успрыíмлівы; хваравíты; адчувáльны 2) крыўдлíвы, далікáтны **2.** *adv* адчувáльна; прыкмéтна, знáчна; ***es ist ~ kalt*** давóлі хóладна

**Empfíndlichkeit** *f* -, -en 1) чуллíвасць, урáзлівасць, успрыíмлівасць 2) крыўдлíвасць, далікáтнасць

**empfíndsam** *a* чуллíвы, сентыментáльны; ***éine ~e Séele*** пяшчóтная [ласкáвая] душá

**Empfíndsamkeit** *f* -, -en чуллíвасць, сентыментáльнасць

**Empfíndung** *f* -, -en пачуццё, адчувáнне, успрымáнне

**empfíndungslos** *a* неадчувáльны, нечуллíвы

**empfíng** *impf ад* empfángen*

**empfóhlen** *impf ад* empféhlen*

**empfúnden** *impf ад* empfínden*

**empírisch** *a філас.* эмпіры́чны

**empór** *a* угóру, увéрх

**empór=** *аддз. дзеясл. прыстаўка*, *указвае на рух угору*: empórfliegen* узлятáць

**empórarbeiten, sich** прабівáць сабé дарóгу (*bis zu D – да чаго-н.*)

**empórblicken** *vi* глядзéць угóру

**empören** **1.** *vt* абурáць **2. ~, sich** 1) (*über A*) абурáцца (*чым-н.*) 2) (*gegen A*) паўставáць (*супраць каго-н.*)

**empörend** *a* абурáльны

**Empörer** *m* -s, - мяцéжнік, бунтаўшчы́к, падбухтóршчык

**empörerisch** *a* мяцéжны; ***ein ~er Áufruf*** зáклік да мецяжý

**empórfliegen*** *vi* (s) узлятáць

**empórheben*** *vt* 1) падымáць, узнімáць 2) узвышáць, узнóсіць

**empórhelfen*** *vi* памагáць устáць, стáвіць на нóгі

**empórkommen*** *vi* (s) 1) усхóдзіць (*пра расліну*) 2) рабíць кар’éру

**Empórkömmling** *m* -s, -e вы́скачка, кар’éрыст

**empórragen** *vi* (s) 1) (*über A*) вы́сіцца, узвышáцца (*над чым-н.*) 2) перасягáць, перавышáць (*каго-н.*)

**empórrichten** **1.** *vt* 1) падымáць, выпрóстваць 2) падтры́мацца (*маральна*) **2. ~, sich** падымáцца, выпрóстваецца

**empórschießen*** *vi* (s) 1) вырастáць 2) ускóкваць, усхóпліваецца 3) страля́ць угарý

**empórschnellen** **1.** *vi* (s) ускóкваць, усхóпліваецца **2.** *vt* кíдаць увéрх

**empórschwingen*** **1.** *vt* узмáхваць **2. ~, sich** высóка ўзлятáць, падня́цца, узня́цца

**empórsehen*** *vi гл.* empórblicken

**empórsteigen*** *vi* (s) падымáцца ўгóру; ***die Tréppe*** ~ падымáцца па лéсвіцы

**empórstreben** *vi* (s) 1) цягнýцца ўгóру 2) (*zu D*) цягнýцца, імкнýцца (*да чаго-н.*)

**empört** *a* (*über A*) абýраны (*кім-н.,чым-н.*)

**empórtreiben*** *vt* гнаць угарý, наганяць, узнімáць (*тс.цэны*)

**Empörung** *f* -, -en 1) абурэ́нне 2) бунт, мяцéж

**empórwachsen*** *vi* (s) падрастáць, вырастáць

**émsig** *a* старáнны, руплíвы

**Ému** *m* -s, -s *заал.* э́му

**=(e)n** *суф. прыметнікаў*, *указвае на матэрыял, з якога зроблена рэч*: metállen металíчны

**Éndausscheid** *n* -(e)s, -e *спарт.* фінáльны тур

**Énde** *n* -s, -n 1) канéц 2) смерць; ***létzten ~s*** урэ́шце; ***ein ~ máchen*** паклáсці канéц; ***ein ~ néhmen**** скóнчвацца; ***zu ~ géhen**** скóнчвацца; ***zu ~ bríngen**** канчáць; ***am ~ der Welt*** на краí свéту ◊ ***das dícke ~ kommt nach*** ≅ гэ́та яшчэ́

квéтачкі, а я́гадкі бýдуць

**énden 1.** *vt* канчáць, закáнчваць **2.** 1) *vi* канчáцца, закáнчвацца; ***nicht ~ wóllen*** не спыня́цца, не змаўкáць 2) памірáць, канáць

**Éndergebnis** *n* -ses, -se канчаткóвы вы́нік

**Éndesunterzeichnete** *sub m, f* -n, -n *уст.* які́ падпісáўся [якáя падпісáлася] ніжэ́й

**en détail** [ãde'tae] *adv камерц.* у рóзніцу

**Éndgleis** *n* -es, -e *чыг.* тупі́к

**éndgültig** *a* канчаткóвы

**éndigen** *гл.* énden

**Éndkampf** *m* -(e)s, -kämpfe *спарт.* фі́ніш, фінáл; ***in den ~ kómmen**** вы́йсці ў фінáл

**éndlich 1.** *adv* урэ́шце, нарэ́шце **2.** *a* 1) канчаткóвы; абмежавáны 2) доўгачакáны 3) канéчны

**Éndlichkeit** *f* - 1) *матэм., філас.* канéчнасць 2) тлéннасць

**éndlos** *a* бяскóнцы, бязмéжны

**Éndlosigkeit** *f* 1) *матэм.* бесканéчнасць 2) бяскóнцáсць; бязмéжнасць

**Éndlospapier** *n* -s стýжка самапі́сца

**Éndsieg** *m* -(e)s, -e канчаткóвая перамóга

**Éndsilbe** *f* -, -n *грам.* канцавы́ склад

**Éndspiel** *n* -(e)s, -e 1) заклю́чная гульня́, фінáл 2) *шахм.* э́ндшпіль, заканчэ́нне пáртыі

**Éndstation** *f* -, -en канцавáя стáнцыя

**Éndstück** *n* -(e)s, -e наканéчнік

**Éndung** *f* -, -en *грам.* канчáтак

**Éndziel** *n* -(e)s, -e канчаткóвая мэ́та

**Energétik** *f* - энергéтыка

**Energíe** *f* -, -gí¦en энéргія

**Energíemaschinen** *pl* сілавы́я машы́ны

**Energíesystem** *n* -s, -e энергасістэ́ма

**Energíeverbrauch** *m* -(e)s спажывáнне энéргіі

**Energíeversorgung** *f* - энергазабеспячэ́нне

**enérgisch** *a* энергі́чны

**eng 1.** *a* вýзкі, цéсны; ***~e Beziehungen*** блі́зкія [цéсныя] кантáкты; ***im ~en Sínne*** у вýзкім сэ́нсе **2.** *adv* цéсна, шчы́льна; ***~ nebeneinánder sítzen**** сядзéць вéльмі блі́зка адзі́н да аднагó; ***aufs Éngste [aufs éngste]*** вéльмі цéсна, сáмым цéсным чы́нам

**Engagement** [ãgaʒə'mã:] *m* -s, -s 1) прызначэ́нне [запрашэ́нне] на рабóту; *тэатр.* ангажэмéнт 2) слýжба, мéсца, пасáда

**engagieren** [ãga'ʒi:-] **1.** *vt* прымáць на рабóту [слýжбу], наймáць; *тэатр.* ангажы́раваць; ***polítisch engagiert sein*** займáцца паліты́чнай дзéйнасцю **2. ~, sich** паступáць на слýжбу, наймáцца

**Énge** *f* -, -n 1) цеснатá 2) цясні́на, дэфілé 3) пралі́ў; ***j-n in die ~ tréiben**** стáвіць кагó-н. у безвыхóднае станóвішча

**Éngel** *m* -s, - анёл; ***gúter ~*** дóбры гéній; ***böser ~*** злы дух ◊ ***die ~ im Hímmel síngen hören*** не пóмніць сябе (*ад радасці*); звар'яцéць [завы́ць] ад бóлю

**Éngelaut** *m* -(e)s, -e *лінгв.* шчы́лінны [фрыкаты́ўны] гук, спірáнт

**éngherzig** *a* чэ́рствы, бяздýшны

**Éngländer** *m* -s, - англічáнін

**énglisch** *a* англі́йскі

**Éngpass** *m* -es, -pässe цясні́на; *перан.* слáбае мéсца

**en gros** [ã'gro:] *adv камерц.* óптам

**Engroshandel** [ã'gro:-] *m* -s аптóвы гáндаль

**éngspurig** *a чыг.* вузкакалéйны

**Énkel** *m* -s, - унýк

**Énkelkind** *n* -es, -er унýк, унýчка

**enórm 1.** *a* вялі́кі, вялі́зны **2.** *adv* празмéрна

**Ensemble** [ã'zã:b(ə)l] *n* -s, -s ансáмбль

**ent=** *неаддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на*: 1) *аддаленне*: entláufen* уцякáць 2) *пазбаўленне, аддзяленне*: enthä́uten здымáць (скýру)

**entárten** *vi* (s) 1) выраджáцца, звóдзіцца 2) псавáцца (*аб норавах*)

**Entártung** *f* -, -en выраджэ́нне, дэгенерáцыя, дэградáцыя; псавáнне (*нораваў*)

**entäußern, sich** (*G*) *высок.* адмаўля́цца (*ад чаго-н.*)

**Entäußerung** *f* -, -en 1) адмóва (*ад чаго-н.*), устýпка (*чаго-н.*) 2) адчужэ́нне

**entbéhren** *vt* (*радзей vi G*) быць пазбáўленым (*чаго-н.*); цярпéць нястáчы (*у чым-н.*); ***etw. ~ können*** абыхóдзіцца

без чагó-н.
**entbéhrlich** *a* залíшні, непатрэ́бны
**Entbéhrung** *f* -, -en нягóды, нястáча
**entbínden*** *vt* 1) вызваля́ць 2): *уст.* ***ent-búnden wérden*** абрадзíцца, нарадзíць дзіця́
**Entbíndung** *f* -, -en 1) вызвалéнне (*ад абавязку*) 2) рóды
**Entbíndungsanstalt** *f* -, -en радзíльны дом
**entblättern 1.** *vt* пазбаўля́ць лíсця **2. ~, sich** губля́ць лíсце
**entblöden, sich** навáжвацца, адвáжвацца; ***sich nicht ~*** не пасарóмецца
**entblößen 1.** *vt* агаля́ць; ***das Schwert ~*** агалíць меч **2. ~, sich** агаля́цца
**Entblößung** *f* -, -en 1) агалéнне, галізнá 2) пазбаўлéнне чагó-н.
**entblößt** *a* агóлены, непакры́ты; ***~en Háuptes*** з непакры́тай галавóй
**entbrénnen*** *vi* (s) загарáцца, успы́хваць; ***in Líebe für j-n ~*** загарэ́цца любóўю да кагó-н.
**entbúnden** *part II ад* entbínden*
**entdécken 1.** *vt* адкрывáць, выяўля́ць, знахóдзіць **2. ~,sich** адкры́цца, давéрыцца
**Entdécker** *m* -s, - чалавéк, які́ нéшта адкры́ў; ***er ist der ~ von…*** ён адкры́ў…
**Entdéckung** *f* -, -en адкрыццё
**Énte** *f* -, -n 1) кáчка 2) *перан.* (газéтная) вýтка
**entéhren 1.** *vt* згáньбіць, абняслáвіць, зняважыць **2. ~, sich** абняслáвіцца, знясла́віць сябé
**entéhrend** *a* ганéбны
**entéignen** *vt* адчужáць, экспрапрыíраваць
**Entéigner** *m* -s, - экспрапрыя́тар
**Entéignung** *f* -, -en адчужэ́нне, экспрапрыя́цыя
**entéilen** *vi* (s) 1) спéшна адыхóдзіць [уцякáць] 2) праляцéць (*пра час*)
**Énter** *n, m* -s, - гадавáлае жарабя́
**entérben** *vt* пазбаўля́ць спáдчыны
**Entérbung** *f* -, -en пазбаўлéнне спáдчыны
**Énterhaken** *m* -s, - *марск.* абардáжны крук
**Énterich** *m* -s, -e *заал.* кáчар
**éntern** *vt марск.* брáць на абардáж
**entfáchen 1.** *vt* раздзімáць, распáльваць **2.** *vi* (s) загарáцца
**entfáhren*** *vi* (s) (*D*) вы́скачыць, вы́рвацца (*пра слова*)
**entfállen*** *vi* (s) 1) выпадáць; вы́лецець (з галавы́) (*D – у каго-н.*); ***das Wort ist mir ~*** я забы́ў гэ́та слóва 2) (*auf A*) даставáцца, выпадáць (*на долю*)
**entfálten 1.** *vt* 1) разгóртваць 2) развівáць, выяўля́ць (*здольнасці*) **2. ~, sich** разгóртвацца; расквітнéць; *перан.* развівáцца, квітнéць
**Entfáltung** *f* -, -en 1) разгóртванне, расчлянéнне; *ав.* раскрыццё (*парашута*) 2) развіццё, рóсквіт, праяўлéнне; ***zur ~ kómmen**** набы́ць размáх
**entfärben, sich** 1) ліня́ць, бля́кнуць, аблáзіць; жóўкнуць (*пра лісце*) 2) палатнéць, мяня́цца з твáру
**entférnen 1.** *vt* 1) выдаля́ць; ліквідавáць 2) вывóдзіць (*плямы*) **2. ~, sich** ісцí, сыхóдзіць; ***sich vom Gégenstand ~*** адхілíцца ад тэ́мы
**entférnt 1.** *a* 1) аддáлены, далёкі; ***ich bin weit davón ~*** я далёкі ад тагó, каб… **2.** *adv* здалёк, далёка, на адлéгласці; ***etw. ~ ándeuten*** тóнка намякнýць на штосьці.; ***~ verwándt sein*** быць далёкім сваякóм
**Entférnung** *f* -, -en 1) адлéгласць, аддáленасць; ***sich in éiniger ~ hálten**** трымáцца на адлéгласці 2) выдалéнне, звальнéнне (*ад пасады*)
**Entférnungsermittlung** *f* -, -en вызначэ́нне адлéгласці
**entfésseln** *vt* 1) вызваля́ць ад кайданóў 2) развя́зваць (*вайну*), выклікáць (*буру*)
**Entfésselung** *f* -, -en вызвалéнне ад кайданóў [пýтаў], развя́званне (*тс. перан.*); ***die ~ éines néuen Krieges*** развя́званне нóвай вайны́
**entfétten** *vt* абястлýшчваць
**Entféttungskur** *f* -, -en лячэ́нне ад атлусцéння
**entflámmbar** *a* запáльны, лёгкі на загарáнне; *перан.* пáлкі
**entflámmen 1.** *vt* 1) распáльваць, запáльваць 2) натхня́ць; ***j-s Zorn ~*** вы́клікаць

гнеў у кагó-н. **2. ~, sich** 1) загарáцца, успалы́хваць 2) натхня́цца; ***sich für éine Idée ~*** захапíцца ідэ́яй

**entfléchten*** *vt* 1) расплятáць 2) разблы́тваць, раскру́чваць

**entflécken** *vt* вывóдзіць [удаля́ць] пля́мы

**entflíehen*** *vi* (s) збягáць, уцякáць, ратавáцца бéгствам

**entflíeßen*** *vi* (s) выцякáць, браць пачáтак (*D – з чаго-н.*)

**entfrémden 1.** *vt* (*D*) 1) рабíць чужы́м (*каго-н.*), аддаля́ць (*ад каго-н.*) 2) адчужáць (*у каго-н.*) **2.** *vi* (s) *i* **~, sich** (*D*) станавíцца чужы́м (*каму-н.*), астывáць (*да каго-н.*)

**Entfrémdung** *f* -, -en адчу́жанасць, раз'еднáнасць, разлу́чнасць

**entführen** *vt* выкрáдаць, звóдзіць

**Entführer** *m* -s - выкрадáльнік

**Entführung** *f* -, -en выкрадáнне

**entgángen** *part II ад* entgéhen*

**entgásen** *vt* дэгазíраваць, дэгазавáць

**Entgásung** *f* -, -en *тэх.* дэгазáцыя, выдалéнне гáзу

**entgégen 1.** *prp* (*D*) су́праць, насу́перак; ***dem Wind [Strom] ~*** су́праць вéтру [цячэ́ння], насу́страч вéтру [цячэ́нню] **2.** *adv* 1) насу́страч 2) наперакóр, су́праць, прóціў

**entgégen=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на*: 1) *супрацьдзеянне, супраціўленне*: entgégenwirken процідзéйнічаць 2) *сустрэчны рух*: entgégengehen* ісцí насу́страч

**entgégenarbeiten** *vi* процідзéйнічаць

**entgégenbringen*** *vt* (*D*) стáвіцца, аднóсіцца (*да каго-н. з якім-н. пачуццём*); ***j-m Vertráuen ~*** акáзваць каму́-н. давéр'е

**entgégeneilen** *vi* (s) спяшáцца насу́страч

**entgégengehen*** *vi* (s) ісцí насу́страч

**entgégengesetzt 1.** *a* процілéглы, процілéжны; ***~er Sinn*** адварóтны сэнс; ***in ~er Ríchtung*** у адварóтным напрáмку; у адварóтны бок **2.** *adv у* процілéглым (на)кіру́нку

**entgégenhandeln** *vi* процідзéйнічаць, дзéйнічаць насу́перак (*чаму-н.*)

**entgégenkommen*** *vi* (s) ісцí насу́страч (*тс. перан.*)

**Entgégenkommen** *n* -s вéтлівасць, далікáтнасць, зычлíвасць

**entgégenkommend** *a* (*gegen A*) далікáтны, вéтлівы, увáжлівы (*да каго-н.*)

**entgégenlaufen*** *vi* (s) 1) выбягáць [бéгчы] насу́страч 2) супярэ́чыць (*пра думкі*)

**Entgégennahme** *f* 1) прыня́цце, прыёмка, атрымáнне 2) заслухóўванне; ***nach ~ des Beríchtes*** пасля́ заслу́хвання даклáда

**entgégennehmen*** *vt* прымáць, браць (*заказ*)

**entgégensehen*** *vi* чакáць; ***wir séhen größen Eréignissen entgégen*** мы (знахóдзімся) напярэ́дадні вáжных падзéй

**entgégensetzen 1.** *vt* процістаўля́ць, супрацьстаўля́ць **2. ~, sich** працíвіцца, супраціўля́цца

**entgégenstéhen*** *vi* процістая́ць, супрацьстая́ць; процідзéйнічаць

**entgégenstellen 1.** *vt* процістаўля́ць **2. ~, sich** супраціўля́цца

**Entgégenstellung** *f* -, -en проці(па)стаўлéнне, антытэ́за

**entgégenstrecken** *vt* працягваць (насу́страч), падавáць (*руку*); ***die hélfende Hand ~*** прыйсцí на дапамóгу

**entgégentreten*** *vi* (s) выступáць супрóць; працíвіцца (*чаму-н.*)

**entgégenwirken** *vi* (*D*) процідзéйнічаць (*чаму-н.*), змагáцца (*з чым-н.*)

**entgégnen** *vi* пярэ́чыць; адкáзваць, давáць адкáз (*у спрэчцы*)

**Entgégnung** *f* -, -en пярэ́чанне, адкáз, рэ́пліка

**entgéhen*** *vi* (s) (*D*) бéгчы, уцякáць (*ад каго-н., чаго-н.*); пазбягáць (*каго-н., чаго-н.*); ***das entgíng mir*** гэ́та я прапусцíў, гэ́тага я не заўвáжыў; ***sich (D) étwas ~ lássen**** прапусцíць што-н.; ***sich (D) etw. nicht ~ lássen*** не адкáзваць сабé ў чым-н.

**entgéistert 1.** *a* няўвáжлівы, летуцéнны (*пра позірк*) **2.** *adv* няўвáжліва

**Entgélt** *n* -(e)s плáта, аплáта; кампенсáцыя; адплáта; ***gégen ~*** за плáту

**entgélten*** *vt* паплаці́цца (*за што-н.*); ***er hat séinen Féhler ~ müssen*** ён паплаці́ўся за сваю памы́лку

**Entgéltung** *f* -, -en адплáта, кáра, расплáта; збавéнне

**entgíften** *vt* 1) дэгазавáць, вызвалáць ад ядавíтых гáзаў 2) абеззарáжваць, дэзінфікавáць

**Entgíftung** *f* - 1) дэгазáцыя, вызвалéнне ад ядавíтых гáзаў 2) абеззарáжванне, дэзінфéкцыя

**entgléisen** *vi* (s) сыхóдзіць з рэ́ек; *перан.* збíцца з прáвільнай дарóгі

**Entgléisung** *f* -, -en 1) крушэ́нне (*цягніка*) 2) прóмах, прамáшка

**entgléiten*** *vi* (s) (*D*) выслíзгваць (*з чаго-н.*); ***das Wort ist dem Múnde entglítten*** слóва сарвáлася з языкá; ***den Händen ~*** вы́слізнуць з рук

**entglímmen*** *vi* (s) загарэ́цца, затлéць

**entglítten** *part II ад* entgléiten*

**entgräten** *vt* вымáць кóсці (*з рыбы*)

**Entháarung** *f* -, -en выдалéнне валасóў

**enthálten* 1.** *vt* змяшчáць, утры́мліваць **2. ~, sich** устры́мліваца (*ад чаго-н.*), не рабíць (*чаго-н.*); ***sich der Stímme ~*** устрымáцца пры галасавáнні

**entháltsam** *a* устры́маны, памяркóўны

**Entháltsamkeit** *f* - памяркóўнасць, умеркавáнасць, устры́манасць

**Entháltung** *f* -, -en адмаўлéнне (*ад чаго-н.*), устрымáнне; ***mit zehn ~en*** пры дзесяці, што ўстрымáліся (*пры галасаванні*)

**entháupten** *vt* зняць галавý, абезгалóвіць

**enthäuten** *vt* здымáць [злýп(лі)ваць] скýру (*з чаго-н.*)

**enthében*** *vt высок.* вызвалáць (*ад працы*); ***sich áller Sórgen ~*** пазбáвіцца ўсякага клóпату

**Enthébung** *f* -, -en *высок.* вызвалéнне (*ад пасады*); *спарт.* адхілéнне (*ад гульні*), дыскваліфікáцыя

**enthémmen** *vt* вызвалáць ад перашкóд

**enthüllen** *vt* 1) здымáць пóкрыва (*з чаго-н.*); выяўлáць; ***ein Dénkmal ~*** адкрывáць пóмнік 2) выкрывáць

**Enthüllung** *f* -, -en 1) знáцце пóкрыва [пакрывáла]; адкрыццё (*помніка*) 2) выкрыццё

**enthülsen** *vt* лушчы́ць, аддзялáць шалупíнне; *с.-г.* шатравáць (*збожжа*)

**Enthusiásmus** *m* - энтузіáзм; ***vom ~ gepáckt sein*** быць ахóпленым энтузіáзмам

**entkéimen 1.** *vi* (s) прарастáць; давáць пáрасткі **2.** *vt* стэрылізавáць

**entkérnen** *vt* вымáць зярнáты [кóстачкі] (*з пладоў*)

**entkléiden 1.** *vt высок.* раздзявáць, распранáць; ***j-n séines Ámtes ~*** зняць катó-н. з пасáды **2. ~, sich** раздзявáцца, распранáцца

**entkómmen*** *vi* (s) уцякáць, унікáць; ***der Gefáhr ~*** унíкнуць небяспéкі

**entkóppeln** *vt* раз’ядно́ўваць, расшчаплáць

**entkórken** *vt* адкаркóўваць

**entkörnen** *vt* ачышчáць ад зярнáт, аддзялáць зярнáты

**entkräften**, **entkräftigen** *vt* 1) знясíльваць, аслаблáць 2) анулявáць, адмянáць 3) абвяргáць (*довады*)

**entkräftet** *a* знямóжаны, бяссíльны, пазбáўлены сіл

**entláden* 1.** *vt* 1) разгружáць 2) *эл.* разраджáць **2. ~, sich** 1) разрадзíцца 2) узнáцца (*пра навальніцу*)

**Entláderampe** *f* -, -n *чыг.* тавáрная платфóрма

**Entládung** *f* -, -en 1) разгрýзка, вы́грузка 2) *эл.* разрáдка 3) дэтанáцыя, вы́бух

**entláng** *prp* (*A, D*) уздóўж; ***den Fluss ~, dem Fluss ~*** уздóўж ракí

**entlánglaufen*** *vi* (s) бéгчы ўздоўж чагó-н.; ***das Úfer ~*** бéгчы ўздоўж бéрага

**entlárven** *vt* зрывáць мáску, выкрывáць

**Entlárvung** *f* -, -en выкрыццё, выкрывáнне

**entlássen*** *vt* 1) адпускáць, вызвалáць; ***aus der Haft ~*** вы́зваліць з-пад áрышту 2) звальнáць; ***aus dem Dienst ~*** звóльніць [вы́зваліць] з пасáды, вы́зваліць ад пасáды

**Entlássung** *f* -, -en 1) вызвалéнне 2) звальнéнне, адстáўка

**entlásten** *vt* (*G, von D*) 1) разгружáць; вызвалáць (*ад чаго-н.*) 2) знімáць (*віну*

*з каго-н.*)

**Entlástung** *f* -, -en 1) разгру́зка; вызвале́нне (*ад чаго-н.*) 2) зня́цце (*віны*)

**Entlástungszeuge** *m* -n, -n *юрыд.* све́дка абаро́ны

**entláuben** *vt гл.* entblättern

**entláufen*** *vi* (s) (*D*) збяга́ць, уцяка́ць (*ад каго-н., чаго-н.*); ***die Gedánken ~*** ду́мкі разбяга́юцца

**Entláusung** *f* -, -en дэзінфе́кцыя, зніш-чэ́нне во́шай

**entlédigen, sich** (*G*) *высок.* пазбаўля́цца (*ад каго-н., чаго-н.*); склада́ць з сябе́ (*што-н.*)

**entléeren 1.** *vt* апаражня́ць; ***den Darm ~*** апаражні́ць кішэ́чнік **2. ~, sich** апаражня́цца

**entlégen** *a* далёкі, адда́лены

**entléhnen** *vt* запазы́чваць (*D, von D – у каго-н.*); ***díeses Wort ist aus dem Énglischen entléhnt*** гэ́тае сло́ва запазы́чана з англе́льскай мо́вы

**Entléhnung** *f* -, -en 1) запазы́чанне 2) плагія́т

**entléihen*** *vt* пазыча́ць, браць напрака́т

**entlócken** *vt* (*D*) выманта́чваць, выду́рваць (*што-н. у каго-н.*); ***j-m ein Gehéimnis ~*** вы́ведаць та́йну ў каго́-н.

**entlóhnen** *vt* 1) узнагаро́джваць (*за працу*); распла́чвацца (*з кім-н.*) 2) дава́ць разлі́к (*каму-н.*), звальня́ць (*каго-н.*)

**Entlóhnung** *f* -, -en 1) узнагаро́да, пла́та 2) разлі́к, звальне́нне

**entlüften** *vt* 1) вентылі́раваць, праве́трываць 2) *тэх.* выпампо́ўваць паве́тра

**entmáchten** *vt* пазба́віць ула́ды

**entmánnen** *vt* 1) кастры́раваць 2) *перан.* расслабля́ць 3) зняць экіпа́ж (*з судна*)

**entménschen, entménschlichen** *vt* пазбаўля́ць чалаве́чага аблі́чча

**entménscht** *a* бесчалаве́чны, лю́ты, азвярэ́лы

**entmilitarisíeren** *vt* дэмілітарызава́ць; ***entmilitarisíerte Zóne*** дэмілітарызава́ная зо́на

**entmínen** *vt вайск.* размініраваць, зняць мі́ны

**entmísten** *vt* выво́зіць гной

**entmündigen** *vt* браць пад апе́ку; *перан. тс.* пазбаўля́ць самасто́йнасці

**entmútigen 1.** *vt* пазбаўля́ць му́жнасці, бянтэ́жыць **2. ~, sich** па́даць ду́хам

**entnazifizíeren** *vt* дэнацыфікава́ць

**entnéhmen*** 1) браць, запазы́чваць (*D – з чаго-н.*) 2) (*D, aus D*) рабі́ць вы́вад (*з чаго-н.*); ***aus den Áusführungen lässt sich ~, dass…*** з выступле́ння мо́жна заключы́ць, што…

**entnérven** *vt* аслабля́ць, вы́петрыць

**Entpersönlichung** *f* - абязлі́чванне; абязлі́чка

**entpúppen, sich** 1) *заал.* вылупля́цца (*з кукалкі*) 2) аказа́цца, вы́явіцца

**entráhmen** *vt* здыма́ць смята́нку, аддзяля́ць [сепары́раваць] смята́ну

**enträtseln** *vt* разга́дваць; расшыфро́ўваць

**entréchten** *vt* пазбаўля́ць право́ў

**Entree** [ã'tre:] *n* -s, -s 1) ўвахо́д 2) пярэ́дні пако́й, вестыбю́ль 3) ўвахо́дная пла́та

**entréißen*** **1.** *vt высок.* (*D*) вырыва́ць, выхо́пліваць (*у каго-н.*); ***j-n dem Tod(e) ~*** вы́рваць каго́-н. у сме́рці **2. ~, sich** вы́рвацца; ***sich den Ármen ~*** вы́рвацца з абды́мкаў

**Entrepreneur** [ãt(ə)rprə'nø:r] *m* -s, -s 1) падра́дчык 2) *тэатр.* антрэпрэнёр

**entríchten** *vt* плаці́ць, выплочваць; ***j-m séinen Dank ~*** падзя́каваць каму́-н.

**Entríchtung** *f* -, -en апла́та, распла́та, узно́с, плаце́ж; ***die ~ der [von] Stéuern*** пла́та пада́ткаў

**entríngen*** **1.** *vt* (*D*) вырыва́ць (*у каго-н.*) **2. ~, sich** (*D*) вы́рвацца (*у каго-н. з чаго-н.*)

**entrínden** *vt* здыма́ць кару́ (*з дрэва*), ако́рваць (*дрэва*)

**entrínnen*** *vi* (s) (*D*) 1) выцяка́ць (*пра вадкасць*) 2) пазбяга́ць (*чаго-н.*); уцячы́ (*ад каго-н., чаго-н.*); ***die Zeit entrínnt*** час бяжы́ць

**entróllen 1.** *vt* раско́чваць, разго́ртваць **2. ~, sich** разго́ртвацца

**entrücken** *vt* адпі́хваць, адсо́ўваць; выдаля́ць; ***das ist méinem Gedächtnis ent-***

***rückt*** гэ́та знікла з маёй па́мяці

**entrümpeln** *vt* ачы́сціць ад хла́му (*якое-н. памяшканне*)

**entrüsten 1.** *vt* абура́ць; ***entrüstet sein (über A)*** абура́цца (*кім-н., чым-н.*) **2. ~, sich** абура́цца

**entrüstet** *a* абу́раны

**Entrüstung** *f* -, -en 1) абурэ́нне; ***von ~ ergríffen*** абу́раны, ахо́плены абурэ́нем 2) раззбрае́нне

**entságen** *vi* (*D*) адмаўля́цца (*ад курэння, дамаганняў*)*;* вырака́цца (*трона*)

**Entságung** *f* -, -en адмаўле́нне; адрачэ́нне

**entságungsvoll** *a* самаадда́ны, самаахвя́рны

**entsátteln** *vt* рассядла́ць

**entschädigen** *vt* (*für A*) аплаці́ць (*каму-н. што-н.*); кампенсава́ць (*страты*)

**Entschädigung** *f* -, -en пакрыццё (*страт*), кампенса́цыя; рэпара́цыя

**entschälen** *vt* здыма́ць лупі́ну [шкарлу́піну]

**entschärfen** *vt* 1) абясшко́джваць (*бомбу*) 2) *перан.* прытупля́ць, змякча́ць (*вастрыню чаго-н.*)

**Entschéid** *m* -(e)s, -e рашэ́нне, рэзалю́цыя; ***éinen ~ tréffen**** прыня́ць рашэ́нне [рэзалю́цыю]

**entschéiden*** **1.** *vt* выраша́ць, прыма́ць рашэ́нне **2. ~, sich** адва́жвацца, нава́жвацца (*für A – на што-н.*)

**entschéidend** *a* рашу́чы, выраша́льны; ***éine ~e Überlégenheit*** панава́жная бо́льшасць; ***~e Stímme*** рашу́чы го́лас; выраша́льны го́лас

**Entschéidung** *f* -, -en 1) рашэ́нне, вырашэ́нне; ***éine ~ tréffen**** прыма́ць рашэ́нне 2) *юрыд.* прысу́д

**Entschéidungsbefugnis** *f* -, -se пра́ва выраша́ць

**Entschéidungskampf** *m* -es, -kämpfe рашу́чы бой

**entschéidungsvoll** *a* рашу́чы

**entschíeden 1.** *a* 1) рашу́чы, пэ́ўны 2) выраша́льны **2.** *adv* 1) рашу́ча 2) безумо́ўна; ***aufs Entschíedenste [aufs entschíedenste]*** рашу́чым чы́нам; безумо́ўна

**Entschíedenheit** *f* - рашу́часць, цвёрдасць; ***éine gróße ~ an den Tag légen*** праяві́ць [паказа́ць] вялі́кую рашу́часць

**entschláfen*** *vi* (s) *высок.* 1) засына́ць 2) скана́ць, паме́рці

**entschléiern** *vt* 1) адкрыва́ць, здыма́ць вэ́люм 2) выкрыва́ць (*тайну і да т.п.*)

**entschlíeßen*, sich** (*für A, zu D*) адва́жвацца (*на што-н.*)*;* ***er kann sich dazú nicht ~*** ён не мо́жа на гэ́та рашы́цца

**Entschlíeßung** *f* -, -en рашэ́нне, пастано́ва, рэзалю́цыя

**entschlóssen** *a* рашу́чы; ***er ist zu állem ~*** ён гато́вы на ўсё; ***fest ~ sein*** быць по́ўным рашу́часці

**Entschlóssenheit** *f* - рашу́часць

**entschlúmmern** *vi* (s) задрама́ць, засну́ць

**entschlüpfen** *vi* (s) вы́слізнуць, вы́рвацца; сарва́цца (*пра словы*)

**Entschlúss** *m* -es, -schlüsse рашэ́нне; ***éinen ~ fássen*** прыма́ць рашэ́нне; ***durch éigenen ~*** добраахво́тна

**entschúldigen 1.** *vt* дарава́ць, выбача́ць **2. ~, sich** (*bei j-m, wegen G*) прасі́ць праба́чыць, прасі́ць прабачэ́ння (*у каго-н. за што-н.*) ◊ ***wer sich entschúldigt, klagt sich an*** ≅ на зло́дзеі ша́пка гары́ць; хто парася́ ўкра́ў, у таго́ ў вуша́х пішчы́ць

**Entschúldigung** *f* -, -en выбачэ́нне, апраўда́нне; ***um ~ bítten**** прасі́ць прабачэ́ння; ***éine ~ vórbringen**** прыне́сці (свае́) прабачэ́нні

**entschúppen** *vt* скрэ́бці (*рыбу*), здыма́ць луску́ (*з рыбы*)

**entschwínden*** *vi* (s) *высок.* зніка́ць; ***dem Gedächtnis ~*** сце́рціся з па́мяці, вы́ляцець з галавы́

**entséelt** *a* мёртвы, які́ не ды́хае

**entsénden*** *vt* пасыла́ць, адпраўля́ць; ***éine Delegatión ~*** накірава́ць дэлега́цыю

**entsétzen I** *vt* (*G*) 1) здыма́ць (*з пасады*) 2): ***éine Féstung ~*** здыма́ць аса́ду крэ́пасці

**entsétzen II 1.** *vt* пужа́ць, пало́хаць, прыво́дзіць у жах **2. ~, sich** (*über A, vor D*)

жаха́цца (*чаго-н.*)

**Entsétzen** *n* -s жах; ***von ~ gepáckt*** ахо́плены жа́хам; ***vor ~*** ад жа́ху

**entsétzlich** *a* жахлі́вы, жу́дасны, агі́дны

**Entsétzlichkeit** *f* -, -en жах (*якога-н. становішча і да т.п.*)

**entsétzt** *a* спало́ханы, напужа́ны; ***er war ~*** яго́ ахапі́ў жах, ён калацíўся ад жа́ху

**Entsétzung** *f* -, -en 1) зня́цце (*з пасады*) 2) разжа́лаванне

**entséuchen** *vt* абеззара́жваць, дэзінфіцы́раваць

**entsíchern** *vt* зняць з засцерага́льніка (*пра зброю*)

**entsíegeln** *vt* распяча́тваць, зрыва́ць пяча́тку

**entsínnen*, sich** (*G*) успаміна́ць (*пра што-н.*); ***soviel ich mich entsínne*** нако́лькі я по́мню; ***wenn ich mich recht entsínne*** калі́ мяне́ па́мяць не падво́дзіць

**entspánnen 1.** *vt* аслабля́ць напру́жанне 2) распрага́ць, выпрага́ць (*каня*) **2. ~, sich** адпачыва́ць

**Entspánnung** *f* -, -en 1) паслабле́нне напру́жання, палёгка, разра́дка 2) адпачы́нак

**entspínnen* sich** завя́звацца, пачына́цца (*пра размову, адносіны*)

**entspréchen*** *vi* адпавяда́ць (*чаму-н.*), адка́зваць (*чаму-н.*)

**entspréchend 1.** *a* адпаве́дны **2.** *prp* (*D*) у адпаве́днасці (*з чым-н.*), згодна (*з чым-н.*)

**entspríeßen*** *vi* (s) *высок.* (*D*) 1) выраста́ць 2) пахо́дзіць (*з сям'і, з роду*)

**entspríngen*** *vi* (s) (*D*) 1) уцяка́ць (*ад каго-н., адкуль-н.*); ***aus dem Gefängnis ~*** уцячы́ з турмы́ 2) выцяка́ць, цячы́ (*з чаго-н.; аб рацэ*) 3) узніка́ць, пахо́дзіць

**entstámmen** *vi* (s) (*D*) пахо́дзіць (*адкуль-н.*)

**entstánden** *part II ад* entstéhen*

**entstáuben** *vt* ачышча́ць ад пы́лу

**entstéhen*** *vi* (s) 1) узніка́ць 2) выніка́ць (*з чаго-н.*) ◊ ***was auch daráus ~ mag*** няха́й бу́дзе, што бу́дзе

**Entstéhung** *f* - узнікне́нне, пахо́джанне; ***in der ~ begríffen sein*** быць у ста́дыі ўзнікне́ння [арганіза́цыі]

**entstéllen** *vt* скажа́ць, перакру́чваць; зняве́чваць

**entstéllt** *a* скажо́ны, перакры́ўлены (*тс. перан.*)

**Entstéllung** *f* -, -en скажэ́нне, перакру́чванне

**entströmen** *vi* (s) (*D*) выцяка́ць, цячы́ (*з чаго-н.*); ***Rauch entströmt dem Schórnstein*** дым ва́ліць з ко́міна

**enttäuschen 1.** *vt* расчаро́ўваць **2. ~, sich** расчаро́ўвацца

**enttäuscht** *a* расчарава́ны; ***von j-m ~ sein*** быць расчарава́ным у кім-н.

**Enttäuschung** *f* -, -en расчарава́нне

**entthrónen** *vt* скіда́ць (*з трона*)

**enttrǘmmern** *vt* прыбіра́ць абло́мкі, расчышча́ць ад руі́наў

**Enttrümmerung** *f* -, -en расчы́стка ад разва́лінаў [абло́мкаў]

**entwáchsen*** *vi* (s) (*D*) выраста́ць (*з чаго-н.*); ***den Kínderschuhen ~*** вы́йсці з мале́нскага ўзро́сту

**entwáffnen** *vt* раззбро́йваць, абяззбро́йваць

**Entwáffnung** *f* -, -en раззбрае́нне, абяззбро́йванне

**entwálden** *vt* абязле́сіць, высяка́ць лес

**entwárnen** *vt* адмяня́ць стан баяво́й гато́ўнасці

**Entwárnung** *f* -, -en *вайск.* адбо́й (*пасля трывогі*)

**entwǟssern** *vt* асу́шваць, адво́дзіць ваду́

**Entwässerung** *f* -, -en абязво́джванне, дрэна́ж, асушэ́нне

**entwéder** *cj*: **~... óder** або́... або́; **~ *óder!*** адно́ з двух!

**entwéichen*** *vi* (s) аддаля́цца, зніка́ць (*з вачэй*), уцяка́ць (*адкуль-н.*)

**entwéihen** *vt* 1) апага́ньваць, га́ньбіць 2) *царк.* пазбаўля́ць са́ну 3) разве́нчваць

**entwénden*** *vt* (*D*) выкрада́ць, кра́сці (*у каго-н.*)

**Entwéndung** *f* -, -en выкрада́нне, крадзе́ж

**entwérfen*** *vt* накі́дваць (*план*), праектава́ць

**entwérten 1.** *vt* абясцэ́ньваць, дэвальві́раваць; ***éine Márke ~*** пагаша́ць

**erzéigen** *vt* акáзваць (*давер*); рабíць (*ласку*); ***Éhre*** ~ аддавáць павáгу; ***Gedúld*** ~ выяўля́ць цярплíвасць

**Érzengel** *m* -s, - *рэл.* архáнгел

**erzéugen** *vt* рабíць, выраблáць, стварáць

**Erzéuger** *m* -s, - 1) *біял.* бáцька; вытвóрнік, самéц 2) *эк.* вытвóрца 3) *тэх.* генерáтар

**Erzéugerpreis** *m* -es, -e *эк.* сабекóшт

**Erzéugnis** *n* -ses, -se вы́раб, прадýкт; ***pflánzliche und tíerische ~se*** прадýкты раслінавóдства і жывёлагадóўлі

**Erzéugung** *f* -, -en вы́пуск; вы́раб; вытвóрчасць, прадýкцыя

**Erzéugungskosten** *pl* кошт вытвóрчасці

**Erzéugungskraft** *f* -, -kräfte прадукцы́йная сíла

**Erzéugungsplan** *m* -(e)s, -pläne вытвóрчы план; грáфік рабóт

**Erzéugungsvorgang** *m* -(e)s, -vorgänge вытвóрчы працэ́с

**Érzfeind** *m* -(e)s, -e заклятытвы вóраг

**Érzförderung** *f* - здабы́ча руды́

**Érzgebirge** *n* -s Рýдныя гóры

**Érzgießerei** *f* -, -en рудаплавíльня

**Érzgrube** *f* -, -n капáльня, руднíк

**Érzhütte** *f* -, -n *гл.* Érzgießerei

**erzíehen*** *vt* выхóўваць; гадавáць

**Erzíeher** *m* -s, - выхавáцель, выхавáльнік

**erzíeherisch, erzíehlich** *a* выхавáўчы, педагагíчны (*пра дзейнасць*)

**Erzíehung** *f* -, -en 1) выхавáнне; ***éine gúte ~ genießen**** атрымáць дóбрае выхавáнне 2) гадавáнне, гадóўля

**Erzíehungs|anstalt** *f* -, -en, **~einrichtung** *f* -, -en навучáльна-выхавáўчая ўстанóва

**Erzíehungsheim** *n* -(e)s, -e папрáўчы дом (*для падлеткаў*)

**erzíelen** *vt* дасягáць, дамагáцца

**erzíttern** *vi* (s) задрыжáць, уздры́гваць, здрыганýцца

**Érzlager** *n* -s, - паклáды руды́, радóвішча

**Érzrevier** *n* -s, -e рýдны басéйн

**erzürnen 1.** *vt* раззлавáць, узлавáць **2.** *vi* (s) *i* **~, sich** раззлавáцца, узлавáцца

**erzürnt** *a* раззлавáны; ***~ sein (über A)*** злавáць (*на каго-н., на што-н.*)

**Érzvater** *m* -s, -väter прабáцька, патрыя́рх

**Érzvorkommen** *n* -s, - паклáды руды́, радóвішча

**erzwécken** *vt уст.* дамагáцца (*чаго-н.*), дабівáцца

**erzwíngen*** *vt* 1) вымушáць, змушáць, дамагáцца сíлай 2) *вайск.* фарсíраваць

**erzwúngen** *a* вы́мушаны, змýшаны

**es 1.** *pron pers* якó (*G* séiner, *D* ihm, *A* es) **2.** *pron dem* гэ́та **3.** *pron vimp не перакладаецца*: ~ ist warm цёпла

**Ésche** *f* -, -n *бат.* я́сень

**Ésel** *m* -s, - асёл; ***j-n zum ~ máchen*** абдуры́ць кагó-н.

**Éselsbank** *f* -, -bänke *разм., пагардл.* апóшняя пáрта (*у класе, для дрэнных вучняў*)

**Éselsohr** *n* -(e)s, -en *разм.* загнýты рог старóнкі (*у кнізе*)

**eskalíeren** *vt* эскалíраваць, нагнятáць, узмацня́ць (*напружанасць і г.д.*)

**Éskimo** *m* -s *i* -, -s *i* - эскімóс

**Eskórte** *f* -, -n эскóрт, канвóй, прыкрыццё

**Éspe** *f* -, -n *бат.* асíна

**Éspenholz** *n* -es, -hölzer 1) асíнавая драўнíна 2) асíнавыя дрóвы

**Éspenlaub** *n* -(e)s асíнавае лíсце

**Essai** [Essay] [ɛ'se:] *m* -s, -s *літ.* нáрыс, эцю́д

**éssbar** *a* ядóмы, прыдáтны да яды́

**Éssbesteck** *n* -(e)s, -e сталóвы прыбóр

**Ésse** *f* -, -n 1) кавáльскі гóран 2) кóмін; ◊ ***das kannst du in die ~ schréiben*!*** пішы́ прапáла!

**éssen*** *vt* éсці; ***zu Míttag*** ~ абéдаць, палýдневаць; ***zu Ábend*** ~ вячэ́раць

**Éssen** *n* -s, - éжа, харчавáнне, ядá; ***fréies*** ~ бясплáтны абéд

**Esséns** *f* -, -en 1) сýтнасць, істóтнае 2) эсéнцыя, экстрáкт

**Ésser** *m* -s, - ядóк

**Éssgeschirr** *n* -(e)s, -e сталóвы пóсуд

**Éssig** *m* -s, -e вóцат; ***in ~ éingemacht*** марынавáны ◊ ***damít ist es ~!*** прапáшчая спрáва!

**Éssiggurke** *f* -, -n карнішóн, марынавáны агурóк

**Éssigsäure** *f* - вóцатная кіслатá

**Ésslöffel** *m* -s, - сталóвая лы́жка

**Éssteller** *m* -s - талéрка

**Ésstisch** *m* -(e)s, -e абéдзенны стол

**Ésswaren** *pl* харчы́, прадýкты (харчавáння)

**Éste** *m* -n, -n эстóнец

**éstnisch** *a* эстóнскі

**Estráde** *f* -, -n 1) эстрáда, пamóст, адкры́тая сцэ́на 2) *тэатр.* эстрáда (*жанр*)

**Estragón** *m* -s *бат.* палы́н эстрагóн

**Éstrich** *m* -s, -e 1) бясшвóвая падлóга, падлóга з глі́ны, цэменту 2) *с.-г.* ток, гумнó

**etablíeren 1.** *vt* заснóўваць **2. ~, sich** уладкóўвацца, пачынáць працавáць (*кім-н.*)

**Etablissement** [etablis(ə)ˈmãː] *n* -s, -s *або* -e устанóва, прадпрыéмства

**Etage** [eˈtaːʒə] *f* -, -n павéрх

**Etagere** [etaˈʒeːrə] *f* -, -n этажэ́рка, кні́жная палі́ца

**Etáppe** *f* -, -n 1) этáп; ***éine néue ~ éinleiten*** адкры́ць нóвую старóнку (*у гісторыі чаго-н.*) 2) *вайск.* тыл 3) мéсца адпачы́нку

**etáppenweise** *adv* паэтáпна; па этáпу

**Etat** [eˈtaː] *m* -s, -s 1) (дзяржáўны) бюджэ́т; каштары́с 2) штат, асабóвы склад; ***den ~ überschréiten**** перавы́сіць штáтны расклáд

**etatmäßig** [eˈtaː-] *a* 1) каштары́сны 2) штáтны; ***nicht*** ~ звышштáтны

**etepetéte** *a разм.* разбóрлівы, манéрысты

**éthisch** *a* эты́чны, марáльны

**Ethnográph** [Ethnográf] *m* -en -en этнóграф

**Etikétt** *n* -(e)s, -e(n) *i* -s, **Etikétte** *f* -, -n этыкéтка, ярлы́к

**étlicher** *pron indef m* (*f* étliche, *n* étliches, *pl* étliche) 1) некатóры 2) *sg n* сёе-тóе; ***ich weiß Étliches darüber zu erzählen*** я магý сёе-тóе расказáць пра гэ́та 3) *pl* нéкалькі; некатóрыя; ***étliche zehn Táge*** нéйкіх дзéсяць дзён

**Etüde** *f* -, -n 1) эцю́д 2) *жыв.* эцю́д, нáкід з натýры

**Etui** [etˈviː] *n* -s, -s 1) футарáл, футля́р 2) партабáк

**étwa** *adv* 1) каля́, прыблі́зна 2) магчы́ма; хі́ба, няўжó (*у пытаннях*) 3) у вы́падку, калі́…; ***dénken* Sie nicht ~, dass…*** не дýмайце, што…

**étwaig** *a* магчы́мы, мажлі́вы; ***im ~en Fálle*** у вы́падку, калі́…

**étwas 1.** *pron* што-нéбудзь, нéшта; ***írgend*** ~ сёе-тóе; ~ ***von éinem Künstler háben*** чым-нéбудзь нагáдваць мастакá **2.** *adv* трóхі, крыхý; ~ ***über zwánzig*** крыхý бóльш за двáццаць

**Etymologíe** *f* -, -gí¦en *лінгв.* этымалóгія

**euch** вас, вам (*A i D ад* ihr)

**éuer** 1) *pron pers* вас (*G ад* ihr) 2) *pron poss* ваш, вáша(е), вáша(я), вáшы(я)

**Eukalýptus** *m* -, -ten *i* - *бат.* эўкалі́пт

**Éule** *f* -, -n савá; ***j-n zur ~ máchen*** зрабі́ць з кагó-н. прадмéт кпі́наў ◊ ***~n nach Áthen trágen**** ≅ вазі́ць дрóвы ў лес

**Euphemísmus** *m* -, -men *лінгв.* эўфемі́зм

**éurerseits** *adv* з вáшага бóку

**éuresgleichen** *pron* такі́ як вы, падóбны да вас

**euret|hálben, ~wégen, ~wíllen** *adv* дзéля вас, праз [з-за] вас

**éurig** *pron poss*: ***der, die, das ~e*** ваш, вáша(я), вáша(е); ***die Éurigen*** вáшы(я) (*радня, сваякі*)

**Európa** (*n*) -s Еўрóпа

**Europäer** *m* -s, - еўрапéец

**europäisch** *a* еўрапéйскі

**Europäische Geméinschaft** (EG) *f* - Еўрапéйскае супóльніцтва

**Europäisches Parlamént** *n* -(e)s Еўрапéйскі парлáмент

**Europäische Unión** *f* - Еўрапéйскі Саю́з

**Europäische Wírtschaftsgemeinschaft** (EWG) *f* - Еўрапéйскае эканамі́чнае супóльніцтва

**Európameister** *m* -s, - чэмпіён Еўрóпы

**Európarat** *m* -(e)s Савéт Еўрóпы

**Éuter** *n* -s, - вы́мя

**evakuíeren** [-va-] *vt* 1) эвакуі́раваць 2) *тэх.* разрэ́джваць, адпампóўваць (*паветра*)

**evangélisch** [-vaŋ-] *a рэл.* 1) евангелі́чны 2) евáнгельскі 3) пратэстáнцкі

**eventuál** [-vɛn-] *a* магчы́мы (*пры пэўных абставінах*), умóўны

**eventuéll** [-vɛn-] **1.** *a* 1) магчы́мы 2) выпадкóвы **2.** *adv* пры нагóдзе; мáбыць
**Evergreen** ['ɛvərgri:n] *m*, *n* -s, -s эвергры́н, шля́гер, які́ не стрáціў папуля́рнасць
**Evolutión** [-vo-] *f* -, -en эвалю́цыя
**éwig** **1.** *a* вéчны, адвéчны; ***auf*** ~ навéкі, навéк **2.** *adv* вéчна, бяскóнца
**Éwigkeit** *f* -, -en вéчнасць; ***éine ~ dáuern*** цягну́цца вéчнасць; ***bis in (álle)*** ~ да скaнчэ́ння вéку; ***in die ~ éingehen**** заснýць навéкі
**ex** *adv разм.* 1) канéц!, бáста! 2): *~!* вы́п'ем!; ~ ***trínken**** піць да дна
**Éx=** экс-; Éxminister экс-міністр, былы́ міністр
**exákt** *a* даклáдны, пунктуáльны; ***~e Wíssenschaften*** даклáдныя навýкі
**Exáktheit** *f* -, -en даклáднасць, пунктуáльнасць, акурáтнасць
**exaltíert** *a* экзальтавáны, захóплены (*чым-н.*), узбýджаны
**Exámen** *n* -s, - *i* -mina экзáмен, іспы́т; ***ein ~ áblegen [máchen]*** здавáць экзáмен; ***im ~ dúrchfallen*, durchs ~ fállen**** правалíцца на экзáмене
**Examinánd** *m* -en, -en экзаменýемы
**Examinátor** *m* -s, -tóren экзаменáтар
**Exekutión** *f* -, -en 1) выканáнне прысýду 2) смярóтная кáра 3) вóпіс маёмасці
**exekutív** *a* выканáўчы
**Exekutíve** [-və] *f* -, -n выканáўчая ўлáда
**Exekutívkomitee** *n* -s, -s выканáўчы камітэ́т
**Exémpel** *n* -s, - 1) пры́клад 2) *матэм.* задáча; ***ein ~ líefern*** служы́ць пры́кладам; ***zum*** ~ да пры́кладу, напры́клад; ***ein ~ an (D) néhmen**** браць пры́клад з чагó-н.
**Exemplár** *n* -s, -e 1) экземпля́р, асóбнік 2) тып (*пагардліва – пра чалавека*)
**exemplárisch** **1.** *a* навучáльны, павучáльны (*пра пакаранне і т. п.*) **2.** *adv* навучáльна, павучáльна; ***j-n ~ bestráfen*** пакарáць кагó-н. для навучáння другíх
**exerzíeren** **1.** *vt* навучáць (*хадзіць у страі*), цвíчыць **2.** *vi* займáцца страявóй падрыхтóўкай, маршыравáць
**Exerzíerordnung** *f* -, -en *вайск.* страявы́ статýт
**Exíl** *n* -s, -e 1) выгнáнне, вы́сылка 2) мéсца вы́сылкі; ***im ~ lében*** жыць у выгнáнні
**Existénz** *f* -, -en 1) існавáнне 2) срóдкі існавáння; ***kéine síchere ~ háben*** не мець дастаткóва срóдкаў да існавáння 3) чалавéк, асóба
**existénzfähig** *a* жыццяздóльны
**Existénzkampf** *m* -(e)s, -kämpfe барацьбá за існавáнне
**Existénzminimum** *n* -s, -ma пражытóвы мíнімум
**existíeren** *vt* існавáць, жыць, быць
**Éxitus** *m* - *мед.* лятáльны зыхóд, смерць
**exklusív** *a* 1) выклю́чны 2) замкнёны, адасóблены
**exklusíve** *adv* за выключэ́ннем, выклю́чна
**Exkúrs** *m* -es, -e 1) адхілéнне (*ад тэмы і г.д.*) 2) агля́д, э́кскурс
**Exkursión** *f* -, -en экскýрсія
**Exmatrikulatión** *f* -, -en выключэ́нне са склáду студэ́нтаў
**exmatrikulíeren** *vt* выключáць са склáду студэ́нтаў
**exogén** *a мед.*, *геал.* які́ мáе знéшняе пахóджанне, экзагéнны
**exótisch** *a* экзаты́чны
**Expansión** *f* -, -en экспáнсія, распаўсю́джванне, пашырэ́нне
**Expeditíon** *f* -, -en экспеды́цыя
**Experimént** *n* -(e)s, -e дóслед, эксперымéнт; ***~e máchen [ánstellen]*** рабíць дóследы
**experimentíeren** *vi* эксперыментавáць, рабíць дóследы
**expért** *a* вóпытны, дасвéдчаны
**Expérte** *m* -n, -n экспéрт, дасвéдчаны чалавéк
**Explikatión** *f* -, -en тлумачэ́нне, вытлумачэ́нне
**explodíeren** *vi* (s) узрывáцца; лóпацца; ***vor Wut*** ~ лóпацца ад злóсці
**Exploitatión** [-plo̯a-] *f* - *уст.* эксплуатáцыя
**exploitíeren** [-plo̯a-] *vt* эксплуатавáць
**Explosión** *f* -, -en вы́бух; ***zur ~ bríngen****

узарва́ць, падарва́ць

**Explosiónsmotor** *m* -s, -tóren рухаві́к уну́транага згара́ння

**explosív** *a* 1) узрыўны́, выбухо́вы, грыму́чы 2) запа́льчывы

**Explosívlaut** *m* -(e)s, -e *лінгв.* выбухо́вы гук

**Explosívstoff** *m* -(e)s, -e выбухо́вае рэ́чыва

**Exponát** *n* -(e)s, -e экспана́т

**Exponént** *m* -en, -en 1) экспане́нт, улада́льнік экспана́та 2) прадстаўні́к па́ртыі [накіру́нку] 3) *матэм.* пака́зчык ступе́ні

**exponíeren** *vt* 1) растлума́чваць 2) падвярга́ць (*небяспецы*) 3) *фатагр.* экспанава́ць

**exponíert** *a* адкры́ты, незасцяро́жаны; ***éine ~e Stélle*** адкры́тае [незасцяро́жанае] ме́сца; небяспе́чнае ме́сца (*тс. перан.*)

**Expórt** *m* -(e)s, -e э́кспарт, вы́ваз

**exportíeren** *vt* экспартава́ць, выво́зіць

**Exposé** [-'ze:] *n* -s, -s 1) мемара́ндум, дакла́д, запі́ска 2) *літ.* уво́дзіны; праспе́кт, канспе́кт, экспазі́цыя

**expréss** *adv* катэгары́чна; я́сна; недвухсэнсо́ўна; спецыя́льна

**Expositión** *f* -, -en 1) вы́стаўка, выста́ва 2) *літ.* уво́дзіны, экспазі́цыя 3) *фатагр.* экспазі́цыя

**Expréss** *m* -es, -e *i* -züge экспрэ́с (*цягнік*)

**Expressionísmus** *m* - экспрэсіяні́зм

**expropriíeren** *vt* экспрапрыі́раваць, адчужа́ць

**exquisít** *a* вы́браны, адбо́рны; рэ́дкі

**extemporíeren** *vt* рабі́ць [пі́са́ць, гавары́ць] без падрыхто́ўкі, імправізава́ць

**extensív** *a* 1) вялі́зны, шыро́кі 2) экстэнсі́ўны

**extérn** *a* во́нкавы, знадво́рны; чужы́; пазаштáтны; ***~er Léhrer*** пазаштáтны наста́ўнік

**éxtra** *adv* спецыя́льна 1) асаблі́ва, дадатко́ва 2) тэрміно́ва

**Éxtraausgabe** *f* -, -n э́кстраны вы́пуск; спецыя́льнае выда́нне

**Éxtrablatt** *n* -(e)s, -blätter э́кстраны вы́пуск (*газеты*)

**Extrákt** *m*, *n* -(e)s, -e 1) вы́трымка (*з кнігі*) 2) *хім.* экстра́кт, вы́цяжка

**extraordinär** *a* надзвыча́йны, экстраардына́рны

**Extrém** *n* -s, -e кра́йнасць; ***ins ~ verfállen**** упада́ць у кра́йнасць

**Extremitäten** *pl анат.* кане́чнасці

**exzellént** a цудо́ўны, надзвыча́йны

**Exzellénz** *f* -, -en ***Éuer*** ~ Ва́ша правасхадзі́цельства, ягамо́сць

**exzerpíeren** *vt* рабі́ць вы́піскі [вы́баркі] з кні́гі

**Exzéss** *m* -es, -e 1) эксцэ́с, сканда́л 2) *тэх.* лі́шак, збы́так

# F

**Fábel** *f* -, -n 1) ба́йка; ка́зка 2) фа́була, сюжэ́т
**Fábeldichter** *m* -s, - байка́р, байкапі́сец
**fábelhaft 1.** *a* ка́зачны; цудо́ўны, фа́йны **2.** *adv* ка́зачна; ***das ist ja ~!*** гэ́та цудо́ўна!
**fábeln** *vi* фантазі́раваць; вярзці́ лухту́
**Fábeltier** *n* -(e)s, -e 1) міфі́чная [ка́зачная] жывёліна 2) жывёліна з ба́йкі
**Fabrík** *f* -, -en фа́брыка, заво́д; ***in die ~ géhen**** ісці́ на фа́брыку
**Fabríkanlage** *f* -, -n фабры́чны буды́нак; фа́брыка
**Fabrikánt** *m* -en, -en фабрыка́нт, заво́дчык; а́ўтар вы́рабу (*якога-н. тавару*)
**Fabríkarbeiter** *m* -s, - фабры́чны [заво́дскі] рабо́чы
**Fabrikát** *n* -(e)s, -e фабрыка́т, фабры́чны вы́раб
**Fabrikatión** *f* -, -en вытво́рчасць, вы́раб, фабрыка́цыя
**Fabríkhalle** *f* -, -n фабры́чны [заво́дскі] цэх
**Fabríkmarke** *f* -, -n фабры́чная ма́рка
**fabríkmäßig 1.** *a* фабры́чны **2.** *adv* фабры́чным спо́сабам
**Fabríkstilllegung** *f* -, -en закрыццё фа́брыкі [заво́да]
**Fabríkzeichen** *n* -s, - *гл.* Fabríkmarke
**fabrizíeren** *vt* 1) рабі́ць, выракля́ць 2) фабрыкава́ць
**fabulíeren** *vi*, *vt* 1) піса́ць, склада́ць (*байку, казку*) 2) *перан.* выдумля́ць, прыдумля́ць
**Facette** [fa'sɛtə] *f* -, -n грань; фацэ́т, фа́ска
**Fach** *n* -(e)s, Fächer 1) шуфля́да (*у стале*) 2) палі́ца (*у шафе*) 3) галіна́ (*навукі*) 4) прадме́т (*навучання*); ***er verstéht sein ~*** ён до́бры спецыялі́ст; ***das schlägt in sein ~*** гэ́та па яго́ спецыя́льнасці ◊ ***etw. únter Dach und ~ bríngen**** ула́дзіць [ско́нчыць] што-н.; звёзці што-н. у схо́вішча
**=fach** *паўсуф. колькасных лічэбнікаў, з дапамогай якога ўтвараюцца словы са значэннем колькасці разоў*: dréifach трохразо́вы, трайны́, патро́йны
**Fácharbeiter** *m* -s, - кваліфікава́ны рабо́чы
**Fácharzt** *m* -es, -ärzte до́ктар-спецыялі́ст
**Fáchausdruck** *m* -(e)s, -ausdrücke спецыя́льны вы́раз, тэ́рмін
**Fáchausbildung** *f* -, -en прафесіяна́льная адука́цыя
**Fáchblatt** *n* -(e)s, -blätter спецыя́льны (навуко́ва-тэхні́чны) часо́піс
**fächeln 1.** *vt* абма́хваць (*веерам, хусткай*) **2. ~, sich** абма́хвацца
**Fächer** *m* -s, - ве́ер, апаха́ла
**fächer|artig, ~förmig** *a* як ве́ер, падо́бны да ве́ера
**Fáchgebiet** *n* -(e)s, -e спецы́яльнасць
**Fáchgelehrte** *sub m, f* -n, -n вучо́ны-спецыялі́ст
**fáchgemäß 1.** *a* спецыя́льны; кампетэ́нтны **2.** *adv* з ве́даннем спра́вы
**fáchgerecht** *adv* (зро́блены) з ве́даннем спра́вы, зро́блены кваліфікава́на
**Fáchkenntnisse** *pl* спецыя́льныя ве́ды
**Fáchkraft** *f* -, -kräfte спецыялі́ст; ***er ist éine wértvolle ~*** ён кашто́ўны рабо́тнік
**fáchkundig** *a* дасве́дчаны (*у дадзенай галіне*), абазна́ны
**Fáchlehrgang** *m* -(e)s, -gänge спецыя́льны курс
**fáchlich** *a* спецыя́льны, прафесі́йны
**Fáchliteratur** *f* - спецыя́льная літарату́ра
**Fáchmann** *m* -(e)s, -männer *і* -leute спецыялі́ст
**fáchmännisch 1.** *a* спецыя́льны, кампетэ́нтны; ***ein ~es Úrteil*** заключэ́нне спецыялі́ста **2.** *adv* як спецыялі́ст
**Fáchpresse** *f* - спецыя́льны перыяды́чны друк
**Fáchrichtung** *f* -, -en (ву́зкая) спецыя́льнасць
**Fáchschule** *f* -, -n сярэ́дняя спецыя́льная навуча́льная ўстано́ва; тэ́хнікум
**Fáchunterricht** *m* -(e)s, -e 1) прафесі́йнае навуча́нне 2) прадме́тнае навуча́нне

**Fáchverband** *m* -(e)s, -bände галіно́вае аб'ядна́нне
**Fáchwerk** *n* -(e)s, -e *буд.* карка́снае збудава́нне
**Fáchzeitschrift** *f* -, -en *гл.* Fáchblatt
**Fáckel** *f* -, -n пахо́дня, фа́кел; *перан.* све́тач
**fáckeln** *vi* 1) мігце́ць, мільгаце́ць 2) мару́дзіць, зацяга́ваць; ***ich wérde nicht erst lánge ~*** я не бу́ду до́ўга цырымо́ніцца
**Fáckelträger** *m* -s, - фа́кельшчык
**Fáckelzug** *m* -(e)s, -züge фа́кельнае шэ́сце, шэ́сце з пахо́днямі
**fád(e)** *a* 1) нясма́чны 2) ну́дны; по́шлы; ***~es Zeug réden*** гавары́ць [каза́ць] по́шласці
**fädeln** *vt* зацяга́ваць ні́тку (*у іголку*); нані́зваць (*пацеркі, каралі на нітку*)
**Fáden** *m* -s, Fäden ні́тка (*тс. перан.*); ***sich wie ein róter ~ hindúrchziehen**** прахо́дзіць чырво́най ні́ткай; ***an éinem ~ hängen**** вісе́ць на валаску́ ◊ ***da beißt kéine Maus den ~ ab*** тут ні́чо́га не зро́біш
**fádennass** *a* прамо́клы наскро́зь [да ні́ткі]
**Fádennudel** *f* -, -n вермішэ́ль
**fádenscheinig** *a* пано́шаны, пацёрты (*пра тканіну*); ***~e Gründe*** слабы́я до́вады
**Fádheit** *f* -, -en 1) *толькі sg* прэ́сны смак 2) безгусто́ўнасць; по́шласць 3) бля́класць
**Fagótt** *n* -(e)s, -e *муз.* фаго́т
**fähig** *a* 1) (*zu D*) здо́льны (*да чаго-н., на што-н.*); ***zu állem ~ sein*** быць здо́льным на ўсё 2) таленаві́ты (*für A – да чаго-н.*)
**Fähigkeit** *f* -, -en здо́льнасць, уме́нне; ***überdurchschnittliche ~en (zu D)*** надзвыча́йныя здо́льнасці (*да чаго-н.*)
**fahl** *a* бле́дны, бля́клы; бяля́вы
**Fähnchen** *n* -s, - 1) сцяжо́к; флю́гер; *марск.* вы́мпел 2) *разм.* лёгкая суке́нка
**fáhnden** *vi*, *vt* (*nach D, auf A*) пасле́даваць, высо́чваць (*каго-н.*)
**Fáhndung** *f* -, -en пасле́даванне, высо́чванне; по́шук
**Fáhndungsdienst** *m* -es, -e крыміна́льны вы́шук
**Fáhne** *f* -, -n 1) сцяг, штанда́р; ***mit fliégenden ~n*** з разго́рнутымі сцяга́мі; ***éine ~ áufpflanzen [híssen]*** узня́ць сцяг; ***die ~ sénken*** апусці́ць [спусці́ць] сцяг; ***zu den ~n éilen*** стаць пад знамёны 2) флю́гер 3) *паліг.* гра́нка 4) хвост (*паляўнічага сабакі*)
**Fáhneneid** *m* -(e)s, -e ва́енная прыся́га; ***den ~ léisten*** прысяга́ць
**Fáhnenflucht** *f* - дэзерці́рства
**Fáhnenflüchtige** *sub m* -n, -n дэзерці́р
**Fáhnen|stange** *f* -, -n, **~stock** *m* -(e)s, -stöcke дрэ́ўка сця́га
**Fáhnenträger** *m* -s, - сцягано́сец
**Fáhnentuch** *n* -(e)s, -tücher пало́тнішча сця́га
**Fähnrich** *m* -s, -e *вайск.* фе́нрых (*выпускнік кадэцкага корпуса, кандыдат у афіцэры – Германія*)
**Fáhrbahn** *f* -, -en 1) брук, прае́зджая [езда́вая] ча́стка 2) *чыг.* рэ́йкавы пуць 3) *марск.* фарватэ́р
**fáhrbar** *a* 1) прае́зны; суднахо́дны 2) перасо́вачны (*груз*)
**Fáhrbefehl** *m* -(e)s, -e пуцявы́ ліст, пуцёўка (*шафёра*)
**Fáhrbereich** *m* -(e)s, -e запа́с хо́ду; далёкасць пла́вання
**fáhrbereit** *a* гато́вы да адыхо́ду [адплыцця́]
**Fáhrdamm** *m* -(e)s, -dämme брук, прае́зджая ча́стка
**Fáhrdienst** *m* -(e)s, -e *чыг.* слу́жба ру́ху
**Fähre** *f* -, -n паро́м; перавóз
**fáhren*** **1.** *vi* (s) 1) е́хаць, е́здзіць; плы́сці, ката́цца; ***aufs Land ~*** пае́хаць за го́рад [у вёску]; ***Boot [Rad, Schlítten] ~*** ката́цца на ло́дцы [веласіпе́дзе, са́нках] 2): ***das Mésser fuhr ihm aus der Hand*** нож вы́паў у яго́ з рукі́; ***in die Tásche ~*** палезці ў кішэ́ню; ***j-m in die Háare ~*** учапі́цца каму́-н. у валасы́ ◊ ***was ist in ihn gefáhren?*** *разм.* яка́я му́ха яго́ ўкусі́ла?; ***~ lássen**** *vt разм.* адмаўля́цца (*ад чаго-н.*), пакіда́ць (*што-н.*), упуска́ць (*што-н.*); ***éinen Gedánken ~ lássen**** адмо́віцца ад ду́мкі [наме́ру] **2.** *vt* ве́сці, вадзі́ць, кірава́ць; ***(ein) Áuto ~*** кірава́ць аўтамабі́лем; ***wélchen Brénnstoff ~ Sie?*** на які́м

па́ліве Вы е́здзіце?

**Fáhrenheitthermometer** *n* -s, - тэрмо́метр Фарэнге́йта

**Fáhrer** *m* -s, - 1) шафёр, вадзі́цель 2) язды́к; веласіпеды́ст; матацыклі́ст

**Fahreréi** *f* - язда́ (*бязладная*); раз'е́зды

**Fáhrerhaus** *n* -es, -häuser кабі́на шафёра

**Fáhrerlaubnis** *f* -, -se шафёрскія правы́

**Fáhrgast** *m* -(e)es, -gäste пасажы́р

**Fáhrgebühr** *f* -, -en пла́та за прае́зд; фрахт; пла́та за раво́з

**Fáhrgeld** *n* -(e)s, -er пла́та за перавóз

**Fáhrgestell** *n* -(e)s, -e 1) *аўта* шасі́ 2) *тэх.* цяле́жка

**fáhrig** *a* 1) неспако́йны, нерво́вы; ***~e Bewégungen*** нерво́выя ру́хі 2) рассе́яны, няўва́жлівы

**Fáhrkarte** *f* -, -n біле́т, квіто́к (*праязны*); ***éine ~ lösen*** браць [купля́ць] (праязны́) біле́т

**Fáhrkartenautomat** *m* -en, -en біле́тны аўтама́т

**Fáhrkartenschalter** *m* -s, - біле́тная ка́са

**fáhrlässig** *a* нядба́йны, неасцяро́жны

**Fáhrlässigkeit** *f* - (злачы́нная) нядба́йнасць, галаваця́пства; ***sich (D) éine ~ zuschúlden [zu Schúlden] kómmen lássen**** дапусці́ць (злачы́нную) неасцяро́жнасць

**Fährmann** *m* -(e)s, -männer *i* -leute паро́мшчык, перавóзчык

**Fáhrplan** *m* -(e)s, -pläne раскла́д ру́ху (*транспарту*)

**Fáhrplanbild** *n* -(e)s, -er гра́фік ру́ху (*розных відаў транспарту*)

**fáhrplanmäßig** *a* паво́дле раскла́ду

**Fáhrpreis** *m* -es, -e пла́та за прае́зд, кошт прае́зду

**Fáhrpreisermäßigung** *f* -, -en ільго́тны тары́ф (*на транспарце*)

**Fáhrrad** *n* -(e)s, -räder веласіпе́д, ро́вар

**Fáhrradweg** *m* -(e)s, -e веласіпе́дная даро́жка

**Fáhrrichtung** *f* -, -en напра́мак ру́ху

**Fáhrschiff** *n* -(e)s, -e паро́м, перавóзачнае су́дна

**Fáhrschein** *m* -(e)s, -e 1) (праязны́) біле́т 2) правы́ на кірава́нне аўтамашы́най

**Fáhrschule** *f* -, -n ку́рсы шафёраў

**Fáhrspur** *f* -, -en каляі́на

**Fáhrstraße** *f* -, -n прае́зная даро́га; шаша́, шасэ́, брук

**Fáhrstrecke** *f* -, -en адрэ́зак шля́ху; далёкасць рэ́йса; адле́гласць

**Fáhrstuhl** *m* -(e)s, -stühle 1) ліфт 2) крэ́сла на калёсах (*для хворых*)

**Fáhrstuhlführer** *m* -s, - ліфцёр

**Fahrt** *f* -, -en 1) язда́; пае́здка 2) прае́зд; ***fréie ~*** бяспла́тны прае́зд 3) ход, ху́ткасць (*судна*); ***auf ~ géhen**** адпра́віцца ў падаро́жжа; ***in vóller ~*** по́ўным хо́дам; ***in ~ kómmen**** раз'ю́шыцца, разбушава́цца; нала́дзіцца, увайсці́ ў каляі́ну; ***in ~ sein*** быць у фо́рме, до́бра сябе́ адчува́ць; ***éine ~ ins Bláue*** пае́здка без пэ́ўнай мэ́ты

**Fährte** *f* -, -n след; ***auf der ríchtigen [fálschen] ~ sein*** натра́піць на пра́вільны [фальшы́вы] след; ***der ~ fólgen, die ~ verfólgen*** ісці́ па сле́ду; ***von der ~ ábkómmen**** згубі́ць след

**Fáhrtliste** *f* -, -n маршру́т перавóзкі; пуцёўка

**Fáhrtreppe** *f* -, -n эскала́тар

**Fáhrtruppen** *pl* *вайск.* аўтамабі́льныя во́йскі

**Fáhrunterricht** *m* -(e)s навуча́нне ваджэ́нню аўтамабі́лем

**Fáhrverkehr** *m* -s рух тра́нспарту, чыгу́начныя [аўто́бусныя] зно́сіны

**Fáhrwasser** *n* -s, - *марск.* фарва́тэр; ***in séinem ~ sein*** быць у сваёй стыхі́і; ***in j-s ~ ségeln*** плы́сці ў чыі́м-н. фарва́тэры, дзе́йнічаць па чыёй-н. ука́зцы; скака́ць пад чыю́-н. ду́дку

**Fáhrzeit** *f* -, -en час адпраўле́ння (*цягніка*); час язды́

**Fáhrzeug** *n* -(e)s, -e тра́нспартны [перавóзачны] сро́дак

**fair** [fɛ:r] *a* прысто́йны, сумле́нны; ***er zeigt ein ~es Benéhmen*** ён паво́дзіць сябе́ прысто́йна

**fáktisch** *a* факты́чны, сапра́ўдны

**Fáktor** *m* -s, -tóren фа́ктар, акалі́чнасць; ***etw. als ~ in Réchnung stéllen*** улі́чваць

якую-н. акалічнасць

**Faktoréi** *f* -, -en *уст.* фактóрыя, гандлёвая кантóра (у *калоніях*)

**Fáktum** *n* -s, -ta *i* -ten факт; ***ein únleugbares ~*** бясспрэ́чны факт; ***das ~ steht fest*** бясспрэ́чны факт

**Fakultät** *f* -, -en факультэ́т; ***die ~en an der Universität*** факультэ́ты універсітэ́та

**fakultatív** *a* факультаты́ўны; неабавязкóвы

**falb** *a* 1) бля́клы 2) булáны (*пра каня*)

**Fálke** *m* -n, -n сóкал

**Fall I** *m* -(e)s, Fälle 1) падзéнне; ***j-n zu ~ bríngen**** паваліць каго-н., збіць з ног; скінуць, звéргнуць каго-н.; ***zu ~ kómmen**** быць звéргнутым; упáсці 2) змяншэ́нне, спадáнне 3) схіл, адхóн 4) вадаспáд

**Fall II** *m* -(e)s, Fälle 1) вы́падак, здарэ́нне; ***auf álle Fälle*** на ўсяля́кі вы́падак 2) *юрыд.* спрáва 3) вы́падак, акалічнасць; ***auf jéden ~*** на ўсяля́кі вы́падак, ва ўсяля́кім вы́падку; ***im ~e, dass...*** у (тым) вы́падку, калі... ◊ ***auf Knall und ~*** рáптам, нечакáна; ***das ist ganz mein ~*** гэ́та ў маім гýсце

**Fall III** *m* -(e)s, Fälle *грам.* склон

**Fállbeil** *n* -(e)s, -e гільяціна

**Fállbrücke** *f* -, -n пад'ёмны мост

**Fálle** *f* -, -n 1) пáстка; ***j-n in die ~ lócken*** завáбіць каго-н. у пáстку; ***in die ~ géhen* [geráten*]*** папáсці ў пáстку 2) кля́мка

**Fálleisen** *n* -s, - пáстка

**fállen* I** *vi* (s) 1) пáдаць; ***auf die [zur] Érde ~*** пáдаць [упáсці] на зямлю́; ***einánder in die Árme ~*** кінуцца адзін аднамý ў абды́мкі; ***~ lássen**** упусціць, вы́пусціць; адмóвіцца (*ад каго-н., чаго-н.*); адвярнýцца (*ад каго-н.*); ***die Máske ~ lássen**** скінуць мáску 2) пáдаць, панiжáцца; ***das Barométer fällt*** барóметр пáдае 3) пáсці, загінуць; ***er fiel als Held*** ён загінуў герóем 4) пáсці, здáцца (*пра горад і г.д.*); пáсці, быць скінутым [звéргнутым] (*пра ўрад*) 5) ісці, выпадáць (*пра снег, дождж, расу*) 6) пáдаць (*пра святло*) 7) пáдаць, выпадáць на дóлю; ***die Wahl fiel auf ihn*** вы́бар паў на ягó дóлю; ***das fällt ihm leicht [schwer]*** гэ́та даéцца ямý лёгка [ця́жка]; ***die Entschéidung ist gefállen*** рашэ́нне прыня́та 8): ***j-m auf die Nérven ~*** нервавáць, раздражня́ць каго-н.; ***j-m ins Wort ~*** перабівáць каго-н.; ***díese Fárbe fällt ins Gélbe*** гэ́ты кóлер адлівáе [аддаé] жóўтым; ***j-m zur Last ~*** быць камý-н. ця́жарам; ***j-m zur Ópfer ~*** стаць ахвя́рай каго-н. ◊ ***die Würfel sind gefállen!*** жэ́рабя кінута!

**fállen* II** *vi* (s) прыпадáць; падпадáць; ***auf éinen Sónntag ~*** прыпадáць на нядзéлю; ***únter éine Bestímmung ~*** падпадáць пад дзéянне пастанóвы [прадпісáння, загáду]

**fällen** *vt* 1) сячы́ (*лес*) 2): ***ein Úrteil ~*** вынóсіць прысýд; ***das Bajonétt ~*** браць вінтóўку наперавéс 3) *матэм.* апускáць (*перпендыкуляр*)

**fállend** *a*: ***~e Réihe*** *матэм.* спадáючы рад; ***~es Gelände*** схіл, гарá

**Fállgrube** *f* -, -n пáстка, вóўчая я́ма

**Fállholz** *n* -es ламáчча, галлё

**fällig** *a* 1) тэрмінóвы, які́ падлягáе вы́плаце; ***~ wérden*** канчáцца (*пра тэрмін*) 2): ***der Zug ist in zehn Minúten ~*** цягнік павінен прыбы́ць праз дзéсяць хвілін

**Fälligkeit** *f* -, -en *фін.* тэ́рмін аплáты, набліжэ́нне [надыхóд] тэ́рміну; ***ein Tag vor ~*** за дзень да надыхóду тэ́рміну

**Fallít** *m* -en, -en *фін.* банкрýт, неплацежаздóльная асóба

**Fállobst** *n* -(e)s апáд (*яблыкаў і г.д.*)

**falls** *cj* (у вы́падку) калі

**Fállschirm** *m* -(e)s, -e парашýт; ***mit dem ~ ábspringen**** скакáць з парашýтам

**Fállschirmabsprung** *m* -(e)s, -sprüge скачóк з парашýтам

**Fállschirmjäger** *m* -s, - *вайск.* парашуты́ст

**Fállschirmlandung** *f* -, -en парашýтны дэсáнт

**Fállschirmspringer** *m* -s, - парашуты́ст

**Fállschirmtruppen** *pl* парашýтна-дэсáнтныя вóйскі

**Fállsucht** *f* - *мед.* падýчка, эпілéпсія

**fällt** *präs ad* fallen* *i* fällen

**Fálltreppe** *f* -, -n трап

**Fálltür** *f* -, -en люк

**falsch 1.** *a* 1) фальшы́вы; штýчны, падрóблены 2) няпрáвільны, памылкóвы; ***únter ~em Námen*** пад чужы́м íмем; ***éinen ~en Weg éinschlagen**** стаць на няпрáвільны шлях **2.** *adv* няпрáвільна, памылкóва; ~ ***schréiben**** пісáць з памы́лкамі

**Falsch** *m*: *высок.* ***óhne ~*** адкры́та, шчы́ра

**fälschen** *vt* падрабля́ць; фальсіфікавáць; ***Kárten ~*** мéціць кáрты

**Fälscher** *m* -s, - падрóбнік; фальсіфікáтар

**Fálschheit** *f* -, -en 1) фальшы́васць; несапрáўднасць 2) крывадýшнасць; ***er ist vóller ~*** ён манíюка

**fälschlich** *adv* памылкóва, няпрáвільна

**fälschlicherweise** *adv* памылкóва; праз непаразумéнне

**Fálschmünzer** *m* -s, - фальшываманéтчык

**Fálschspieler** *m* -s, - шýлер, махля́р

**Fälschung** *f* -, -en падлóг; падрóбка; фальсіфікáцыя

**Falsétt** *n* -(e)s, -e *муз.* фальцэ́т, фíстула

**Falsifikatión** *f* -, -en падрóбка, фальсіфікáцыя

**falsifizíeren** *vt* 1) падрабля́ць 2) фальсіфікавáць, скажáць

**fáltbar** *a* складны́, які́ склáдваецца (*пра стул, палатку*), які́ згінáецца

**Fáltboot** *n* -(e)s, -e *спарт.* разбóрная байдáрка

**Fálte** *f* -, -n 1) склáдка, збóрка; фальбóнка 2) маршчы́на, змóршчына; ***die Stirn in ~n zíehen**** мóршчыць лоб; ***~n wérfen* [schlágen*]*** мóршчыць, маршчы́ніць (*пра вопратку*)

**fälteln** *vt* збірáць збóркі (*пра вопратку*); заклáдваць склáдкі [фальбóнкі]; плісíраваць; плóіць

**fálten** *vt* 1) склáдваць, складáць, згóртваць; ***die Hände ~*** злажы́ць [склáсці] рýкі 2) змóршчваць (*лоб, твар*)

**Fáltengebirge** *n* -s, - *геал.* склáдкаватыя гóры

**Fáltenrock** *m* -(e)s, -röcke фальбóнкавая спадніца

**Fálter** *m* -s, - матылёк, маты́ль

**fáltig** *a* 1) у склáдкі, у збóркі 2) маршчы́ністы

**Falz** *m* -es, -e *тэх.* паз, фальц, жóлаб

**fálzen** *vt паліг.* фальцавáць; *тэх.* шпунтавáць, фальцавáць

**familiär** *a* 1) фамілья́рны 2) нязмýшаны; інты́мны 3) надакýчлівы, назóйлівы

**Famíli¦e** *f* -, -n сям'я́, радзíна; ***das liegt in der ~*** гэ́та сямéйная [фамíльная] ры́са; ***éine ~ gründen*** завéсці сям'ю́; ***éine ~ háben*** мець дзяцéй

**Famíli¦enangehörige** *sub m, f* -n, -n член сям'í

**Famíli¦enhaupt** *n* -(e)s, -häupter галавá сям'í

**Famíli¦enleben** *n* -s сямéйнае жыццё

**Famíli¦enmitglied** *n* -(e)s, -er член сям'í

**Famíli¦enname** *m* -ns, - прóзвішча; ***Famíli¦en- und Persónenname*** прóзвішча і імя́

**Famíli¦enrückhalt** *m* -(e)s падтры́мка з бóку сваякóў

**Famíli¦enrücksichten** *pl* сямéйныя меркавáнні

**Famíli¦enstand** *m* -(e)s сямéйнае станóвішча, сямéйны стан

**Famíli¦enzuschlag** *m* -(e)s, -schläge дабáўка (да зарплáты) сямéйным [тым, хто мáе дзяцéй]

**Famíli¦enzuwachs** *m* -es павелічэ́нне сям'í

**famós 1.** *a* 1) слáўны, выдáтны, вéльмі дóбры 2) сýмна [скандáльна] вядóмы **2.** *adv* на слáву

**Fámulus** *m* -, -se *i* -li памóчнік, асістэ́нт; *уст.* збраянóсец

**Fan** [fɛn] *m* -s, -s заўзя́тар, балéльшчык (*спартыўных спаборніцтваў*)

**Fanál** *n* -s, -e 1) мая́к, сігнáл 2) перадвéснік (*падзей*)

**fanátisch** *a* фанаты́чны

**Fanfáre** *f* -, -n фанфáра

**fand** *impf ад* fínden*

**Fang** *m* -(e)s, Fänge 1) лóўля; лóвы 2) улóў, здабы́ча; ***éinen ~ háben*** атрымáць дóбры ўлóў; мець удáчу 3) *pl* íклы (*дзіка, сабакі*) 4) *pl* лáпы (*драпежнай птушкі*)

**Fángeisen** *n* -s, - пáстка (*з металу*)

**fángen* 1.** *vt* 1) лавíць, злавíць 2) *перан.* злавíць на вýду, перахíтры́ць; ***sich ~***

***lássen**** папáсцíся на вýду, даць ашукáць сябé 3): ***Féuer*** **~** запáльвацца, загарэ́цца; *перан.* загарэ́цца (*якім-н. пачуццём*), захапíцца, закахáцца ◊ ***Grillen*** **~** хандры́ць **2. ~, sich** лавíцца; ***sich in séinen éigenen Wórten fángen**** заблы́тацца (*ва ўласных словах*)

**Fánggarn** *n* -(e)s, -e сéтка, сілó (*на птушак*)

**Fángleine** *f* -, -n канáт; *марск.* фáлінь; *ав.* страпá (*парашута*)

**Fángschlinge** *f* -, -n, **Fángseil** *n* -(e)s, -e сілó, аркáн

**Fángspiel** *n* -(e)s, -e квач (*дзіцячая гульня*)

**Fángzahn** *m* -(e)s, -zähne ікóл

**Fant** *m* -(e)s, -e малакасóс, фацэ́т

**Fárbband** *n* -(e)s, -bänder стýжка (*для друкавальнай машынкі*)

**Fárbe** *f* -, -n 1) кóлер 2) фáрба 3) масць (*у карт. гульні*); ***frísche ~n háben**** мець дóбры кóлер твáру; **~ *bekénnen**** адказáць той жа мáсцю, хадзíць у масць; *перан.* раскрывáць сваé кáрты; адкры́та заявíць аб сваíх аднóсінах да чагó-н.

**fárbecht** *a* які не аблáзіць (*пры мыцці*)

**Färbemittel** *n* -s, - фарбавáльнае рэ́чыва, фарбавáльнік

**färben** *vt* фарбавáць, афарбóўваць; ***bunt*** ~ размалёўваць

**Fárbenabstufung** *f* -, -en адцéнне кóлеру

**Fárbenblindheit** *f* - *мед.* дальтанíзм, кóлеравая слепатá

**Fárbenbrett** *n* -(e)s, -er палíтра

**Fárbendruck** *n* -(e)s, -e калярóвы друк

**Fárbenpracht** *f* - маляўнíчасць, багáцце кóлераў

**fárbenprächtig** *a* квяцíсты; маляўнíчы

**fárbenreich** *a* шматкóлерны, маляўнíчы

**Fárbenspiel** *n* -(e)s, -e пералíвы [зíхацéнне] кóлераў [фáрбаў]

**Fárbenspektrum** *n* -s, -tren *i* -tra *фіз.* спектр

**Färber** *m* -s, - фарбавáльшчык, фарбáр

**Färberéi** *f* -, -en фарбавáльня, фарбавáльная фáбрыка

**Fárbfernsehen** *n* -s калярóвае тэлебáчанне

**Fárbfilm** *m* -(e)s, -e калярóвы фільм

**fárbig** *a* 1) калярóвы, стракáты 2) вóбразны, маляўнíчы

**Fárbige** *sub m, f* -n, -n калярóвы, -вая (*пра чалавека*)

**Fárbkasten** *m* -s, - *i* -kästen скры́нка з фáрбамі

**fárblos** *a* бяскóлерны

**Fárbmuster** *n* -s, - размалёўка, расфарбóўка

**Fárbstich** *m* -(e)es, - калярóвая гравю́ра

**Fárbstift** *m* -(e)s, -e калярóвы алóвак

**Fárbstoff** *m* -(e)s, -e фарбавáльнае рэ́чыва; пігмéнт

**Färbung** *f* -, -en 1) афарбóўка, фарбавáнне 2) адцéнне, тон

**Färbungsmittel** *n* -s, - *хім.* фарбавáльнае рэ́чыва; фарбавáльнік

**Farm** *f* -, -en фéрма; хýтар

**Fármer** *m* -s, - фéрмер

**Farn** *m* -(e)s, -e, **~kraut** *n* -(e)s, -kräuter *бат.* пáпараць

**Fárre** *m* -n, -n бычóк

**Färse** *f* -, -n цялýшка

**Fásching** *m* -s, -e *i* -s 1) карнавáл 2) мáсленіца

**Faschísmus** *m* - фашы́зм

**faschístisch** *a* фашы́сцкі

**Faseléi** *f* -, -en *разм.* бязглýздзіца, недарэ́чнасць, лухтá

**fáselig** а недарэ́чны, бязглýзды, бяссэ́нсавы

**fáseln** *vi* вярзцí лухтý (*über A – пра каго-н., што-н.*)

**Fáser** *f* -, -n 1) валакнó, фíбра; ***mit állen ~n séines Hérzens an etw. (D) hängen**** быць прывя́заным да чагó-н. усíмі фíбрамі сваёй душы́ 2) валакнó, нíтка

**fáserig** *a* валакнíсты

**fashionabel** [fɛʃəˈna:bəl] мóдны, раскóшны

**Fass** *n* -es, Fässer бóчка, бóчачка (*як мера пасля лічэбнікаў ужываецца ў адз. ліку*); ***zwei ~ Bier*** дзве бóчкі пíва ◊ ***das schlägt dem ~ den Bóden aus*** *разм.* гэ́та ўжо занáдта

**Fassáde** *f* -, -n 1) *буд.* фасáд, пéрад (*будынка*) 2) дэкóрум, знéшняя прыстóйнасць 3) *груб.* твар, фізіянóмія

**fássbar** *a* 1) улóўны 2) зразумéлы, спас-

ціга́льны

**Fássbarkeit** *f* - зразуме́ласць, дасту́пнасць (*для розуму*)

**Fássbinder** *m* -s, - бо́ндар ◊ ***láufen* [rénnen*] wie ein ~*** *разм.* лётаць, як ашале́лы

**fássen 1.** *vt* 1) хапа́ць, браць, лаві́ць; ***éinen Verbrécher ~*** схапі́ць [арыштава́ць] злачы́нца 2) устаўля́ць у апра́ву [ра́му] 3) змяшча́ць; ***das Glas fasst ein Líter*** у шкля́нку ўвахо́дзіць (адзі́н) літр; ***das können kéine Wórte ~*** гэ́тага не́льга вы́казаць нія́кімі сло́вамі 4) *перан.* разуме́ць, ахо́пліваць (*розумам*) 5) *вайск.* паража́ць, накрыва́ць агнём 6): ***zu j-m Vertráuen ~*** прася́кнуцца даве́рам да каго́-н.; ***Hóffnung [Mut] ~*** акрыя́ць; ажы́ць ду́хам [душо́й]; ***sich (D) ein Herz ~*** сабра́цца з ду́хам, набра́цца хра́брасці; ***j-n ins Áuge ~*** сачы́ць за кім-н.; ***éinen Beschlúss ~*** прыня́ць раша́нне; ***Wúrzel ~*** пусці́ць карані́; *перан.* укарані́цца, прыві́цца **2.** *vi* схо́пліваць, схва́тваць; ***der Mörtel fasst*** раство́р схва́твае [цвярдзе́е]; ***der Nágel fasst nicht*** цвік не трыма́ецца **3. ~, sich** 1) супако́йвацца, браць сябе́ ў ру́кі, сабра́цца з ду́мкамі 2): ***sich kurz ~*** быць сці́слым

**fássförmig** *a* бочкападо́бны

**fásslich** *a* зразуме́лы, дасту́пны

**Fasson** [fa'sõ:] *f* -, -s 1) фасо́н, узо́р; ***aus der ~ sein*** стра́ціць фо́рму 2) мане́ры

**Fássreifen** *m* -s, - абру́ч

**Fássung I** *f* -, -en 1) апра́ва; *эл.* патро́н 2) фармулёўка; вы́клад, рэда́кцыя

**Fássung II** *f* - самавало́данне; ***aus der ~ bríngen**** выво́дзіць з цярпе́ння [з сябе́]; ***die ~ bewáhren*** захо́ўваць спако́й; ***aus der ~ kómmen**** тра́ціць самавало́данне [цярпе́нне], бянтэ́жыцца

**Fássungs|gabe** *f* -, **~kraft** *f* - спазнава́льная здо́льнасць, здо́льнасць да ху́ткага ўспрыня́цця (*інфармацыі*)

**fássungslos** *a* збянтэ́жаны, разгу́блены; непрыто́мны

**Fássungslosigkeit** *f* - разгу́бленасць, збянтэ́жанасць

**Fássungsraum** *m* -(e)s, -räume ёмістасць; аб'ём

**Fássungsvermögen** *n* -s, - 1) ёмістасць 2) здо́льнасць да засво́йвання (*вучэбнага матэрыялу*)

**fast** *adv* ама́ль, траха́ (не); **~ *nichts*** ама́ль нічо́га; ***er wäre ~ gefállen*** ён ледзь не ўпа́ў

**fásten** *vi* пасці́ць

**Fásten** *n* -s 1) пост, 2) прытры́мліванне по́сту

**Fástenzeit** *f* - пост, час по́сту

**Fástnacht** *f* -, -nächte 1) за́пускі (*пярэдадне Вялікага посту*); ма́сленіца 2) карнава́л

**fasziníeren** *vt* зачаро́ўваць, асляпля́ць

**fatál** *a* 1) фата́льны 2) пры́кры, непрые́мны

**Fáta Morgána** *f* -, -nen *i* -s міра́ж

**Fátum** *n* -s, -ta фа́тум, лёс, наканава́нне

**Fátzke** *m* -n, -n шалапу́т; бла́зан

**fáuchen** *vi* фы́ркаць, шыпе́ць (*пра кошку*)

**fául** *a* 1) гнілы́, ту́хлы; ***die Sáche ist ~*** спра́ва дрэнь 2) ляні́вы, гультаява́ты; ***éine ~e Geschíchte*** пры́края гісто́рыя; ***éine ~e Áusrede*** пуста́я адгаво́рка

**Fáulbeerbaum** *m* -(e)s, -bäume *бат.* 1) крушы́на, жасцёр 2) чаро́мха

**Fáulbeere** *f* -, -n я́гада крушы́ны [чаро́мхі]

**Fäule** *f* - гнілата́, гнілі́зна, гніль; гніццё

**fáulen** *vi* гні́сці, ту́хнуць, псава́цца; ***den Flachs ~ lássen**** мачы́ць лён

**fáulenzen** *vi* гультаява́ць, ленава́цца, біць бі́бікі

**Fáulenzer** *m* -s, - 1) гульта́й 2) *разм.* кушэ́тка

**Fáulheit** *f* - ляно́та, гульта́йства

**fáulig** *a* гнілава́ты, падгні́лы, які́ [што] падгні́ў

**Fäulnis** *f* - гніе́нне; гнілі́зна, гніль; ***in ~ übergehen**** загніва́ць

**Fáulpelz** *m* -es, -e *разм.* гульта́й, абібо́к

**Fáultier** *n* -(e)s, -e 1) *заал.* ціхахо́д 2) *разм.* ло́дар, гульта́й

**Fáuna** *f* -, -nen фа́ўна

**Fáust** *f* -, Fäuste кула́к; ***auf éigene ~*** сваі́м о́думам, самахо́ць, па-сво́йму; ***die ~ bállen*** сціска́ць кула́к ◊ ***das passt wie die ~ aufs Áuge*** ≅ гэ́та падыхо́дзіць як

каро́ве сядло́

**Fäustchen** *n* -s, - кулачо́к; ***sich (D) ins ~ láchen*** спадцішка́ зларадні́чаць, смяя́цца ў кулачо́к

**fáustdick** **1.** *a* таўшчынёй з кула́к **2.** *adv*: ~ ***lügen*** наха́бна [гру́ба] ілга́ць [хлу́сіць, мані́ць]; ~ ***áuftragen**** бязме́рна пераб́ольшваць ◊ ***er hat es ~ hínter den Óhren*** яго́ не ашука́еш, ён быва́лы чалаве́к

**Fáusthandschuh** *m* -(e)s, -e рукаві́ца

**Fauteuil** [foˈtø:j] *m* -s, -s крэ́сла, фатэ́ль

**Fauxpas** [foˈpa:] *m* -, - нетакто́ўнасць

**Favorít** [-vo-] *m* -en, -en фавары́т, улюбёнец

**Fáxen** *pl* лама́нне, крыўля́нне; ~ ***máchen*** дуры́цца, лама́цца

**Fázit** *n* -s, -e *i* -s падраху́нак, су́ма, вы́нік; ***das ~ aus etw. zíehen**** падво́дзіць вы́нікі, зрабі́ць вы́вад (*з чаго-н.*)

**Feature** [ˈfi:tʃər] *n* -s, -s (дакумента́льны) на́рыс (*у газеце, па радыё, тэлебачанні*)

**febríl** *a* ліхама́нкавы

**Fébruar** *m* - *i* -s лю́ты (*месяц*)

**Féchser** *m* -s, - *бат.* па́растак, ато́жылак (*вінаградн**ай лазы*)

**féchten*** *vi* 1) фехтава́ць 2) змага́цца ◊ ~ ***géhen**** *разм.* бадзя́цца, валацу́жнічаць

**Féchter** *m* -s, - фехтава́льшчык, шпажы́ст

**Féder I** *f* -, -n 1) пяро́ ◊ ***éine gúte ~ schréiben**** піса́ць до́брым сты́лем 2) пух, пе́р'е (*птушкі*); ***in den ~n líegen**** валя́цца, ляжа́ць у ло́жку ◊ ***den Vógel erkénnt man an den ~n*** віда́ць пту́шку па палёце

**Féder II** *f* -, -n *тэх.* 1) спружы́на, рысо́ра; ***álle ~n spíelen lássen**** пусці́ць у ход усе́ сро́дкі 2) шпо́нка

**Féderball** *m* -(e)s бадмінто́н (*гульня*); *m* -(e)s, -bälle вала́н (*для гульні ў бадмінтон*)

**Féderballtennis** *n* - бадмінто́н (*гульня*)

**Féderbett** *n* -(e)s, -en пяры́на

**Féderbrett** *n* -(e)s, -er *спарт.* трамплі́н

**Fédergewicht** *n* -(e)s, -e *спарт.* паўлёгкая вага́, вага́ «пяра́» (*бокс*)

**Féderhalter** *m* -s, - ру́чка (*для пісьма*)

**Féderkasten** *m* -s, - *i* -kästen пена́л

**Féderkissen** *n* -s, - паду́шка з пе́р'я

**Féderkraft** *f* - *фіз.* пру́гкасць, эласты́чнасць

**féderleicht** *a* лёгкі як пёрка

**Féderlesen**: ◊ ***nicht viel ~ (s) máchen*** не цырымо́ніцца; ***óhne viel*** ~ без лі́шніх слоў, без цырымо́ній

**féderlos I** *a* бяспёравы, бяспе́р'евы

**féderlos II** *a* безрысо́рны, бесспружы́нны

**Fédermesser** *n* -s, - сцізо́рык

**fédern I** *vi* ліня́ць (*пра птушак*)

**fédern II** *vi* спружы́ніць

**fédernd** *a* эласты́чны, пру́гкі

**Féderschmuck** *m* -(e)s аздабле́нне [упрыго́жанне] з пе́р'я

**Féderstrich** *m* -(e)s, -e ро́счырк пяра́; ры́са, праве́дзеная пяро́м

**Féderung** *f* -, -en *тэх.* 1) дзе́янне спружы́ны; аддача 2) падве́ска; падрысо́рванне

**Fédervieh** *n* -(e)s сво́йскія пту́шкі

**Férervolk** *n* -(e)s пту́шкі

**Féderwolken** *pl* пе́рыстыя во́блакі

**Féderzug** *m* -(e)s, -züge *гл.* Féderstrich

**Féderzeichnung** *f* -, -en малю́нак пяро́м

**Fee** *f* -, Fé¦en фе́я

**Feedback** [Feed-back] [ˈfitbɛk] *n* -s, -s эфе́кт зваротнай су́вязі

**fé¦enhaft** *a* феэры́чны, цудо́ўны, чаро́ўны

**Fége** *f* -, -n *тэх.* сі́та, рэ́шата

**Fégefeuer** *n* -s *рэл.* чысцэ́ц

**fégen** **1.** *vt* ме́сці, падмята́ць ◊ ***jéder fége vor séiner Tür*** ≅ не ўтыка́й нос у чужы́я спра́вы **2.** *vi* (s) імча́цца (*пра вецер*); ***es fegt héute*** сёння заві́ру́ха; ***das Áuto fegt durch die Stráße*** аўтамабі́ль ві́храм імчы́цца па ву́ліцы

**Feh** *n* -(e)s, -e вавёркавае фу́тра, вавёркавая шку́ра

**Féhde** *f* -, -en варо́жасць; спрэ́чка, сва́дка; ***mit j-m in ~ líegen**** варагава́ць з кім-н.

**féhden** *vi* *уст.* варагава́ць, быць во́рагамі

**Féhe** *f* -, -n са́мка пушно́га звера

**féhl:** ~ ***am Ort [am Plátz(e)] sein*** быць не да ме́сца [недарэ́чы]

**Fehl**: ◊ ***níemand ist óhne ~*** ніхто́ не безграхо́ўны; ***frei von Schuld und*** ~ без уселя́кай віны́, бязгрэ́шны; бездако́рны, беззага́нны

**Féhlanzeige** *f* -, -n заява аб нястачы чаго-н., заява пра невыкананне чаго-н.
**Féhlbericht** -(e)s, -e няпраўдзівае [фальшывае] паведамленне
**Féhlbestand** *m* -(e)s, -bestände недахоп, недахват
**Féhlbetrag** *m* -(e)s, -beträge недахоп, дэфіцыт
**féhlen 1.** *vi* (*an D*) 1) нехапаць, не хапаць, бракаваць (*чаго-н.*); ***es fehlt uns an Geld*** нам не хапае грошай; ***es fehlt uns Geld*** мы не далічваемся (*пэўнай сумы*) грошай; ***es sich (D) an nichts ~ lássen**** ні ў чым сабе не адмаўляць; ***an mir soll es nicht ~*** за мной справа не стане; ***das fehlt geráde noch!*** толькі гэтага і не хапала! 2) адсутнічаць, быць адсутным; ***wer fehlt héute?*** хто сёння адсутнічае? 3) памыляцца, правініцца; ***weit geféhlt!*** вельмі памыляецеся! 4): ***was fehlt Íhnen?*** што з Вамі? **2.** *vt* прамахнуцца, не папасці ў цэль
**Féhlen** *n* -s недастача, нястача
**Féhlentscheidung** *f* -, -en няслушнае [памылковае] рашэнне
**Féhler** *m* -s - 1) памылка; ***éinen ~ máchen [begéhen*]*** зрабіць памылку [промах] 2) загана, дэфект, хіба; ***j-m séine ~ vórhalten**** паказваць каму-н. на недахопы
**féhlerfrei** *a* беспамылковы, бездакорны
**féhlerhaft** *a* няправільны, з памылкамі
**Féhlerhaftigkeit** *f* - памылковасць
**féhlerlos** *a* беспамылковы, беззаганны
**féhlfahren** *аддз. vi* (s) 1) збіцца з дарогі, заблукаць 2) *перан.* прамахнуцца, даць маху
**Féhlgang** *m* -(e)s -gänge няправільны ход
**Féhlgeburt** *f* -, -en заўчасныя роды, выкідыш
**féhlgehen*** *аддз. vi* (s) 1) збіцца з дарогі 2) памыляцца
**Féhlgewicht** *n* -(e)s, -e недавага, недаважка
**féhlgreifen** *аддз. vi* спудлаваць, прамахнуцца, памыліцца; ***er hat mit díeser Behäuptung féhlgegriffen*** ён памыліўся, сцвярджаючы гэта
**Féhlgriff** *m* -(e)s, -e промах, памылка
**Féhlleistung** *f* -, -en 1) промах, прамашка 2) брак
**féhlleiten** *аддз. vt* накіраваць на няправільны шлях; *перан.* збіць з толку [панталыку]
**Féhlmenge** *f* -, -n недастача, нястача, дэфіцыт
**féhlschießen*** *аддз. vi* спудлаваць, прамахнуцца (*пры стральбе*)
**Féhlschlag** *m* -(e)s, -schläge 1) промах 2) няўдача, правал
**féhlschlagen*** *аддз. vi* 1) прамахнуцца (*пры ўдары*) 2) не здзяйсняцца, не ўдавацца; ***(bei) ihm schlägt álles fehl*** яму ніколі нічога не ўдаецца
**Féhlschluss** *m* -es, -schlüsse памылковы вывад
**Féhlschuss** *m* -es, -schüsse промах (*пры стральбе*)
**féhltreten*** *аддз. vi* (s) 1) спатыкацца 2) зрабіць памылку, памыляцца
**Féhltritt** *m* -(e)s, -e няправільны крок, правіннасць; памылка
**Féhlurteil** *n* -(e)s, -e няправільны [памылковы] прысуд
**Féhn** *n* -(e)s, -e 1) багна, твань; распрацаванае балота 2) тарфянікі
**féien** *vt* заваражыць, загаварыць; рабіць непаражальным [непрыступным]; ***gégen etw. (A) geféit sein*** быць застрахаваным ад чаго-н.
**Féier** *f* -, -n 1) свята, урачыстасць; ***éine ~ ábhalten**** святкаваць 2) адпачынак пасля працы
**Féierábend** *m* -(e)s, -e 1) канец рабочага дня 2) пярэдадне свята; ~ ***máchen*** канчаць працу
**féierlich 1.** *a* урачысты, святочны **2.** *adv* урачыста, святочна
**Féierlichkeit** *f* -, -en 1) урачыстасць 2) *pl* урачыстасці, свята
**féiern 1.** *vt* 1) святкаваць; спраўляць; ***die Hóchzeit ~*** спраўляць вяселле; ***Silvéster ~*** сустракаць Новы год 2) ушаноўваць **2.** *vi* адпачываць, не працаваць, быць без працы; бяздзейнічаць

**Féierstunde** *f* -, -n урачы́сты сход

**Féiertag** *m* -(e)s, -e 1) свя́та 2) выхадны́ дзень

**féiertäglich** *a* святóчны

**Féierzug** *m* -(e)s, -züge урачы́сты пахóд, працэ́сія, шэ́сце

**Féigbohne** *f* -, -n *бат.* лу́бін

**féig(e)** **1.** *a* баязлі́вы, маладу́шны; ***éine ~e Mémme*** *разм.* баязлі́вец **2.** *adv* баязлі́ва, маладу́шна

**Féige** *f* -, -n 1) інжы́р, смóква, фі́га 2) *груб.* фі́га, ду́ля, ку́кіш; ***j-m éine ~ zéigen [wéisen*]*** паказа́ць каму́-н. фі́гу [ду́лю]

**Féigenbaum** *m* -(e)s, -bäume *бат.*: ***geméiner ~*** фі́кус, інжы́р, смакóўніца (звыча́йная)

**Féigheit** *f* - баязлі́васць, маладу́шнасць

**féigherzig** *a* маладу́шны

**Féigling** *m* -s, -e баязлі́вец, палахлі́вец

**feil** *a* прада́жны; які́ прадае́цца; ***éine ~e Séele*** прада́жная душа́

**Féilbank** *f* -, -bänke варшта́т; ціскі́

**féilbieten*** *vt аддз.* прапанóўваць [выстаўля́ць] на прóдаж

**Féile** *f* -, -n напі́льнік; ***die létzte ~ ánlegen*** навéсці глянец

**féilen** *vt* пілава́ць; апрацóўваць напі́льнікам; *перан.* адшліфава́ць; ***die Spráche ~*** адшліфóўваць мóву

**féilhaben** *аддз. vt*, **féilhalten*** *аддз. vt*, **féilbieten*** *аддз. vt* мець у прóдажы

**Féilkloben** *m* -s, - ручны́я [сляса́рныя] ціскі́

**féilschen** *vi* таргава́цца (*um A – з-за чаго-н.*)

**Féilspäne** *pl* металі́чныя апі́лкі; металі́чная стру́жка

**Feim I** *m* -(e)s, -e на́кіп

**Feim II** *m* -(e)s, -e, **Féime** *f* -, -n, **Féimen** *m* -s, - сці́рта (*збажыны*); стог (*сена*)

**fein** **1.** *a* 1) тóнкі 2) дрóбны; ***~er Régen*** дрóбны дождж 3) дакла́дны, тóнкі 4) тóнкі, чу́ткі; ***~es Gehör*** тóнкі слых 5) бага́ты, зна́тны, вы́танчаны; ***~e Maníeren*** дóбрыя [вы́танчаныя] манéры 6) дóбры, выда́тны; ***das ist áber ~!*** дык гэ́та цудóўна! **2.** *adv* 1) тóнка 2) цудóўна; ***er ist ~ heráus*** ён уда́ла адкруці́ўся [адчапі́ўся] **3.** **~ máchen, sich** прыбіра́цца, прыхарóшвацца

**Féinbäcker** *m* -s, - канды́тар

**Feind** *m* -(e)s, -e вóраг, непрыя́цель, праці́ўнік

**feind**: ***j-m ~ sein*** варóжа ста́віцца да каго́-н.; ***j-m ~ wérden*** зненаві́дзець каго́-н.

**féindlich** *a* (*gegen A*) варóжы; непрыя́зны (*да каго-н.*)

**Féindschaft** *f* -, -en варóжасць; ***sich j-s ~ zúziehen**** нажы́ць сабé вóрага ў кім-н.; ***darúm kéine ~*** *разм.* не ў кры́ўду ка́жучы

**féindschaftlich** *a* варóжы, непрыя́зны, непрыхі́льны

**féindselig** *a* (*gegen A*) варóжы, незычлі́вы (*да каго-н.*)

**Féindseligkeit** *f* -, -en 1) варóжасць 2) *pl* ваéнныя дзéянні; ***die ~en éinstellen*** спыні́ць ваéнныя дзéянні

**Féinfrostgemüse** *n* -s, - свежазамарóжаная гарóдніна

**féinfühlend**, **féinfühlig** *a* чу́лы, далі́ка́тны

**Féingarn** *n* -(e)s, -e тóнкая пра́жа

**Féingebäck** *n* -(e)s канды́тарскія вы́рабы [вы́печка]

**fein gefróstet** *a* ху́тка замарóжаны

**Féingefühl** *n* -(e)s, **Féingefühligkeit** *f* - чу́ласць, далі́ка́тнасць, тактóўнасць, спага́длівасць

**Féingewicht** *n* -(e)s чы́стая вага́

**Féingut** *n* -(e)s, -güter фарфóр вышэ́йшай я́касці

**Féinheit** *f* -, -en 1) тóнкасць, далі́ка́тнасць, зґра́бнасць, прыгóжасць 2) чыстата́, чысціня́ (*металу*)

**féinhörig** *a* з вóстрым слы́хам

**féinkörnig** *a* дробназярні́сты

**Féinkost** *f* - гастранóмія, далікатэ́сы

**Féinmechanik** *f* - дакла́дная меха́ніка

**Féinmessgerät** *n* -(e)s, -e дакла́дны вымяра́льны прыбóр, мікрóметр

**Féinsäge** *f* -, -n *тэх.* лóбзік

**Féinschmecker** *m* -s, - ама́тар дóбра пад’éсці, гурма́н

**Féinseife** *f* -, -n туалéтнае мы́ла

**Féinwaage** *f* -, -n дакла́дныя ва́гі

**feist** *a* тлу́сты, тóўсты

**féixen** *vi* (з’éдліва) усміха́цца, шчэ́рыцца

**Féld** *n* -(e)s, -er 1) пóле, ралля́; ***ein bestélltes***

ляро́вы

**Gefásel** *n* -s балбатня́, пустасло́ўе, лухта́

**Gefäß** *n* -es, -e 1) пасу́дзіна 2) эфе́с 3) *анат.* сасу́д

**gefásst** *a* спако́йны, стры́маны; ***sich ~ má-chen auf etw.*** быць гато́вым да чаго́-н.

**Geféçht** *n* -(e)s, -e бі́тва, бой; ***áußer ~ sétzen*** вы́весці са стро́ю, абясшко́дзіць

**Geféchtsalarm** *m* -(e)s, -e *вайск.* баява́я трыво́га

**Geféchtsausbildung** *f* -, -en *вайск.* баява́я падрыхто́ўка

**Geféchtsbereich** *m* -(e)s, -e *вайск.* раён баявы́х дзе́янняў

**Geféchtsbereitschaft** *f* - *вайск.* баява́я га-то́ўнасць

**Geféchtsordnung** *f* -, -en *вайск.* баявы́ пара́дак

**Geféchtsstand** *m* -(e)s, -stände *вайск.* ка-ма́ндны пункт

**Geféchtsstellung** *f* -, -en баява́я пазі́цыя

**Geféchtsvorposten** *m* -s, - *часцей pl вайск.* баява́я ахо́ва

**Geféierte** *sub m, f* -n, -n юбіля́р; *разм.* віно́ўнік, -ца ўрачы́стасці [свя́та]

**geféilt** *a* адто́чаны (*пра стыль*)

**geféit** *a* няўра́злівы; непаража́льны; не-прысту́пны; ***gégen etw. (A) ~ sein*** быць гарантава́ным ад чаго́-н.; ***gégen Kránkheit ~ sein*** быць неўспрыма́ль-ным да хваро́бы

**Gefíedel** *n* -s пілі́канне, (надаку́члівая) ігра́ на скры́пцы

**Gefíeder** *n* -s, - 1) апяро́нне, пе́р'е 2) *заал.* пту́шкі

**gefíedert** *a* 1) птушы́ны 2) пёрысты

**Gefílde** *n* -s, - *высок.* по́ле, ні́ва; мясцо́-васць, ро́ўнядзь

**Gefläcker** *n* -s зіхаце́нне; міга́нне, міга-це́нне (*агню*)

**geflámmt** *a* плямі́сты, муа́равы

**Geflátter** *n* -s пы́рханне (*птушак*); ***das ~ der Fáhnen*** калыха́нне сцягоў

**Geflécht** *n* -(e)s, -e 1) пляце́нне 2) пля-цёнка, пле́цены вы́раб

**gefléckt** *a* у пля́мах, плямі́сты

**Geflímmer** *n* -s мільга́нне, мігаце́нне, зіхаце́нне

**geflíssentlich** **1.** *a* наўмы́сны **2.** *adv* наў-мы́сна, знаро́к

**geflóchten** *part II ад* fléchten*

**geflógen** *part II ад* flíegen*

**geflóhen** *part II ад* flíehen*

**geflóssen** *part II ад* flíeßen*

**Geflügel** *n* -s жы́ўнасць; сво́йскія пту́шкі

**Geflügelhaus** *n* -es, -häuser пту́шнік

**Geflügelmast** *f* -, -en *с.-г.* адко́рм пту́шак

**geflügelt** *a* крыла́ты; ***~es Wort*** крыла́тае сло́ва; ***éine ~e Phantasíe*** жыво́е ўяўле́нне

**Geflügelzucht** *f* - птушкагадо́ўля

**Geflüster** *n* -s шэпт, перашэ́птванне; *паэт.* шалясце́нне, шамаце́нне

**gefóchten** *part II ад* féchten*

**Gefólge** *n* -s, - 1) сві́та; дружы́на; эско́рт 2) вы́нік; ***im ~ háben*** мець вы́нікам

**Gefólgschaft** *f* -, -en *гл.* Gefólge

**gefräßig** *a* ненажэ́рны; ***~es Elemént*** аго́нь

**Gefréite** *sub m* -n, -n *вайск.* яфрэ́йтар

**gefréssen** *part II ад* fréssen*

**Gefríeranlage** *f* -, -n халадзі́льная ўста-но́ўка

**gefríeren*** **1.** *vi* (s) замярза́ць; ***~ lássen**** замаро́жваць **2.** *vimp* маро́зіць; ***es hat in der Nacht gefróren*** уначы́ быў маро́з [маро́зіла]

**Gefríerfleisch** *n* -(e)s маро́жанае мя́са

**Gefríergerät** *n* -(e)s, -e рэфрыжэра́тар

**Gefríerobst** *n* -(e)s замаро́жаная садаві́на

**Gefríerpunkt** *m* -(e)s *фіз.* кро́пка замяр-за́ння

**gefróren** *part II ад* fríeren* *i* gefríeren*

**Gefrórene** *sub n* -n маро́жанае

**Gefüge** *n* -s, - будо́ва, структу́ра, карка́с; ***stádtbauliches*** ~ горадабудаўні́чая струк-ту́ра; ***das ~ der Dáchsparren*** карка́с да́ху

**gefügelos** *a* амо́рфны, бясфо́рменны

**gefügig** *a* 1) пада́тлівы, паслухмя́ны; ~ ***wérden*** уступа́ць 2) гну́ткі, пласты́ч-ны, мя́ккі (*напр., пра гліну і г.д.*)

**Gefühl** *n* -(e)s, -e 1) пачуццё, чуццё, адчу-ва́нне (*für A – чаго-н.*); эмо́цыя; ***dúnkles*** ~ невыра́знае [цьмя́нае] пачуццё; ***ein***

***féines ~ háben*** то́нка адчува́ць; ***j-s ~ verlétzen*** абра́зіць каго́-н.; ***das ~ für Recht háben*** мець пачуццё справядлі́васці; ***er ist ganz ~*** ён на́дта чуллі́вы 2) пачуццё [адчува́нне] до́тыку; ***nach ~ erkénnen**** пазна́ць наво́бмацак

**gefühllos** *a* 1) чэ́рствы, бязду́шны 2) нечуллі́вы

**Gefühllosigkeit** *f* - 1) неадчува́льнасць 2) нечуллі́васць, ня́чуласць; абыя́кавасць 3) заця́тасць

**Gefühlsausbruch** *n* -(e)s, -brüche (шчы́рае) вы́казванне пачу́ццяў

**gefühlsbetont** *a* эмацыяна́льны

**gefühlsmäßig** *a* прадыктава́ны пачуццём, эмацыяна́льны; ***~e Erkénntnis*** інтуі́цыя

**Gefühlsmensch** *m* -n, -n эмацыяна́льная нату́ра

**Gefühlsregungen** *pl* эмо́цыі

**gefühlsseelig** *a* сентыментальны

**Gefühlssinn** *m* -(e)s пачуццё до́тыку

**gefühlvoll** *a* чуллі́вы, чу́лы; сардэ́чны

**gefüllt** *a* 1) *бат.* махро́вы 2) нашпігава́ны, фаршырава́ны

**gefúnden** *part II ад* fínden*

**gegángen** *part II ад* géhen*

**gegében 1.** *part II ад* gében* **2.** *a* да́дзены; гэ́ты; ***die ~en Bedíngungen*** абста́віны, якія [што] скла́ліся; ***im ~en Áugenblick*** у цяпе́рашнім ча́се

**Gegébene** *sub n* -n да́дзенае; да́дзены факт; *матэм.* да́дзеная велічы́ня ◊ ***es ist das ~*** гэ́та са́мае пра́вільнае

**gegébenenfalls** *adv* у гэ́тым вы́падку, пры гэ́тых умо́вах

**gégen** *prp* (*A*) 1) су́праць, супро́ць; насу́перак; ***Kampf ~ Kránkheiten*** бараццьба́ з хваро́бамі; ***~ éigenen Willen*** насу́перак [про́ціў] сваёй во́лі 2) да, на, у напра́мку на; ***~ Nórden*** (у напра́мку) на по́ўнач 3) у параўна́нні (*з кім-н., з чым-н.*) 4) за, узаме́н, замест; ***~ Entgélt*** за ўзнагаро́ду 5) каля́ (*пра час, колькасць чаго-н.*); прыблі́зна; ***es ist ~ Mítternacht*** цяпе́р прыблі́зна по́ўнач 6) у адно́сінах да (*чаго-н., каго-н.*), пе́рад (*чым-н., кім-н.*); ***~ die Kínder gerécht sein*** быць справядлі́вым да [у адно́сінах да] дзяце́й

**Gégen=** *прыстаўка назоўнікаў, паказвае на*: 1) *сустрэчны рух*: Gégenmaßnahme ко́нтрмера 2) *узаемнасць*: Gégenliebe узае́мнае каха́нне

**Gégenangebot** *n* -(e)s, -e *камерц.* сустрэ́чная прапано́ва, контрпрапано́ва

**Gégenangriff** *m* -(e)s, -e контрата́ка, контрнаступле́нне

**Gégenanklage** *f* -, -n сустрэ́чнае абвінава́чванне

**Gégenantrag** *m* -(e)s, -träge контрпрапано́ва

**Gégenaussage** *f* -, -n *юрыд.* све́дчанне супрацьле́глага бо́ку

**Gégenbefehl** *m* -(e)s, -e контрзага́д

**Gégenbemerkung** *f* -, -en пярэ́чанне

**Gégenbesuch** *m* -(e)s, -e візі́т у адка́з

**Gégenbeweis** *m* -es, -e контраргуме́нт

**Gégend** *f* -, -en мясцо́васць; краі́на; край; ***die úmliegende ~*** навако́лле

**Gégendienst** *m* -(e)s, -e узае́мная паслу́га; ***éinen ~ léisten [erwéisen*]*** зрабі́ць [аказа́ць] узае́мную паслу́гу

**Gégendruck** *m* -(e)s адпо́р, процідзе́янне; ***éinen ~ áusüben*** аказва́ць процідзе́янне [супрацьдзе́янне]

**gegeneinánder** *pron rez* адзі́н су́праць аднаго́; узае́мна; ***~ hálten**** *vt* параўно́ўваць, спра́ўджваць

**Gégenfall** *m* -(e)s, -fälle супрацьле́глы вы́падак; ***im ~(e)*** у адваро́тным вы́падку

**Gégenforderung** *f* -, -en сустрэ́чнае патрабава́нне, контрпрэтэ́нзія; *юрыд.* сустрэ́чны іск

**Gégengewicht** *n* -(e)s, -e процівага; ***als ~ für etw. (A) díenen*** кантрасці́раваць з чым-н.

**Gégengift** *n* -(e)s, -e проція́ддзе

**Gégenklage** *f* -, -n *юрыд*. сустрэ́чны іск

**Gégenleistung** *f* -, -n узнагаро́да; паслу́га ў адка́з; ***óhne ~ übergében**** перада́ць дармо́ва, бязвы́платна

**Gégenlicht** *n* -(e)s, -e святло́, якое па́дае з проціле́глага бо́ку

**Gégenliebe** *f* - узае́мная любо́ў [каха́нне], узае́мнасць; ***mit séinem Vórschlag fand er kéine ~*** яго́ прапано́ва не знайшла́ спачува́ння

**Gégenmaßnahme** *f* -, -n контрме́ра, *pl* контрзáхады

**Gégenmittel** *n* -s, - *мед.* процідзе́йны сро́дак

**Gégenrede** *f* -, -n 1) прамо́ва ў адка́з 2) пяpэ́чанне, рэ́пліка

**Gégensatz** *m* -es, -sätze процілéгласць; кантра́ст; ***Gégensätze zíehen sich zúsammen an*** кра́йнасці схо́дзяцца; ***im ~ zu etw. stéhen**** кантраставáць з чым-н., супярэ́чыць чаму́-н.; ***im ~ zu etw. (D)*** насу́перак чаму́-н.; ***Kampf der Gégensätze*** барацьба́ процілéгласцей [супрацьлéгласцей]

**gégensätzlich** *a* процілéглы, супрацьлéглы

**Gégensätzlichkeit** *f* -, -en процілéгласць, супрацьлéгласць, антаганíзм

**Gégenschlag** *m* -(e)s, -schläge контруда́р; ***zum ~ áusholen*** падрыхтава́цца да ўда́ру ў адка́з, размахну́цца да сустрэ́чнага ўда́ру

**Gégenseite** *f* -, -n процілéглы [супрацьлéглы] бок; ***auf der ~ stéhen**** стая́ць на супрацьлéглых пазíцыях

**gégenseitig** *a* узае́мны, абаю́дны; ***~er Vertrág*** двухбако́вы дагаво́р; ***~e Bezíehungen*** узаемаадно́сіны

**Gégenseitigkeit** *f* - узае́мнасць; ***auf Grúndlage der ~*** на асно́ве ўзае́мнасці; ***das berúht auf ~*** гэ́та грунту́ецца на пры́нцыпах узае́мнасці

**Gégenspieler** *m* -s, - 1) праціўнік 2) партнёр (*у гульні*)

**Gégenstand** *m* -(e)s, -stände 1) прадме́т, рэч 2) тэ́ма, аб'е́кт; ***éinen ~ berühren*** закрану́ць яку́ю-н. тэ́му

**gégenständig** *a бат.* супрацьстая́чы, супраці́ўны

**gégenständlich** *a* 1) *філас.* рэа́льны, аб'екты́ўны 2) спра́ўны, дзелавы́

**Gégenständlichkeit** *f* - *філас.* рэчаіснасць, рэа́льнасць, аб'екты́ўнасць

**gégenstandslos** *a* бязмэ́тны; неабгрунтава́ны; ***~ wérden*** стра́ціць значэ́нне

**Gégenstellung** *f* -, -en во́чная ста́ўка

**Gégenstoß** *m* -es, -stöße контрата́ка, контруда́р

**Gégenströmung** *f* -, -en сустрэ́чная плынь

**Gégenteil** *n* -(e)s, -e супрацьлéгласць; ***im ~*** наадваро́т; у сваю́ чаргу́

**gégenteilig** *a* процілéглы [супрацьлéглы], адваро́тны; ***~e Méinung*** процілéглая [супрацьлéглая] ду́мка

**gégenteils** *adv* у адваро́тным вы́падку

**gegenüber** *prp* (*D*) *ставіцца часцей пасля назоўніка:* 1) насу́праць; ***dem Háuse ~*** насу́праць до́ма 2) у адно́сінах да; ***die Pflicht der Héimat ~*** абавя́зак пе́рад радзíмаю 3) у параўна́нні з; ***~ únserer Natúr*** у параўна́нні з на́шай пры́родай

**gegenüber=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, надае дзеясловам значэнне размяшчэння каго-н., чаго-н. насупраць чаго-н., а таксама значэнне адносінаў да чаго-н.*: gegenüberliegen* ляжа́ць [знахо́дзіцца] насу́праць (*каго-н., чаго-н.*)

**gegenüberliegen*** *аддз. vi* (*D*) быць [мясці́цца] насу́праць

**gegenüberliegend** *a* процілéглы, супрацьлéглы

**gegenüberstehen*** *аддз. vi* (*D*) процістая́ць, супрацьстая́ць

**gegenüberstellen** *аддз. vt* (*D*) процістаўля́ць, супрацьстаўля́ць; ***j-n j-m ~*** рабíць во́чную ста́ўку каго́-н. з кім-н.

**Gegenüberstellung** *f* -, -en 1) процістаўлéнне; супастаўлéнне, параўна́нне 2) *юрыд.* во́чная ста́ўка

**Gégenverkehr** *m* -s сустрэ́чны тра́нспарт [рух]

**Gégenverpflichtung** *f* -, -en сустрэ́чны абавя́зак, абавя́зак, узя́ты на сябе́, узае́мны абавя́зак

**Gégenvorschlag** *m* -(e)s, -schläge контрпрапано́ва

**Gégenwart** *f* - 1) прысу́тнасць 2) цяпе́рашні час, сучáснасць; ***die Literatúr der ~*** сучáсная літарату́ра

**gégenwärtig** **1.** *a* цяпе́рашні, сучáсны **2.** *adv* цяпе́р; ***~ sein*** прысу́тнічаць

**Gégenwehr** *f* - самаабарóна, супраціўлéнне

**Gégenwert** *m* -(e)s, -e эквівалéнт, раўнацэ́нная замéна

**Gégenwind** *m* -(e)s, -e сустрэ́чны вéцер

**Gégenwinkel** *m* -s, - *матэм.* процілéглы вýгал [кут]

**Gégenwirkung** *f* -, -en процідзéянне, супрацьдзéянне, рэáкцыя

**Gégenzeuge** *m* -n, -n *юрыд.* свéдка супрацьлéглага бóку; свéдка абарóны

**Gégenzug** *m* -(e)s, -züge 1) сустрэ́чны рух 2) сустрэ́чная калóна; сустрэ́чны цягнíк 3) контрмéра 4) *шахм.* ход у адкáз

**gegéssen** *part II ад* éssen*

**geglíchen** *part II ад* gléichen*

**geglíedert** *a* раздзéлены; састаўны́, складóвы

**geglítten** *part II ад* gléiten*

**geglómmen** *part II ад* glímmen*

**Gégner** *m* -s, - 1) праціўнік; вóраг 2) апанéнт 3) *спарт.* праціўнік, сапéрнік; ***den ~ bínden**** блакíраваць праціўніка; ***den ~ rémpeln*** штурхáць сапéрніка; ***den ~ úmgehen**** абыйсці [абвéсці] праціўніка

**gégnerisch** *a* варóжы, чужы́нскі; ***~es Spíelfeld*** *спарт.* чужáя палавíна [палóва] пóля

**Gégnerschaft** *f* -, -en 1) праціўнік; праціўны бок 2) варóжасць, сапéрніцтва

**gególten** *part II ад* gélten*

**gegóren** *part II ад* gären*

**gegóssen** *part II ад* gíeßen*

**gegráben** *part II ад* gráben*

**gegríffen** *part II ад* gréifen*

**Gegröle** *n* -s крык, гам

**Gehábe** *n* -s манéрнасць, какéцтва

**Geháckte** *sub n* -n сырóе (па)сéчанае мяса, фарш

**Geháder** *n* -s пастая́нныя свáркі, звáдкі, разлáд

**Gehált I** *n* -(e)s, -hälter *уст.* заробóтная плáта, жáлаванне; ***mit séinem ~ áuskommen**** жыць на сваю́ заробóтную плáту

**Gehált II** *m* -(e)s, -e 1) змест; змястóўнасць; ***~ und Gestált*** фóрма і змест 2) прóба 3) умяшчáльнасць; ёмістасць

**gehåltlos** *a* беззмястóўны, пусты́

**gehåltreich** *a* змястóўны; высóкай прóбы (*пра метал*)

**Gehåltsabzug** *m* -(e)s, -züge утрымáнне з зарплáты

**Gehåltserhöhung** *f* -, -en павышэ́нне заробóтнай плáты

**Gehåltsstufe** *f* -, -n тары́фная грýпа, разрáд

**Gehålts|zulage** *f* -, -n, **~zuschlag** *m* -(e)s, -schläge надбáўка да зарплáты

**gehåltvoll** *a* змястóўны

**gehángen** *part II ад* hängen*

**Gehängte** *sub m, f* -n, -n павéшаны, -ая, пакарáны, -ая смéрцю

**gehárnischt** *a* 1) закавáны ў браню́ 2) пагрóзлівы, ваяўнíчы; ***éine ~e Ántwort*** рэ́зкі адкáз

**gehärtet** *a* загартавáны (*пра сталь*)

**gehässig** *a* 1) злóсны, зласлíвы, з'éдлівы 2) ненавíсны; ***~e Réden führen*** гавары́ць з'éдліва, падкóлваць; ***gégen j-n [j-m] ~ sein*** ненавíдзець кагó-н.

**Gehässigkeit** *f* -, -en непрыя́знасць, варóжасць, нянáвісць; з'éдлівасць

**geháuen** *part II ад* háuen*

**Gehäuse** *n* -s, - кýзаў; кáмера; абалóнка; кóрпус; футарáл

**Gehége** *n* -s, - агарóджа, загóн ◊ ***j-m ins ~ kómmen**** умéшвацца ў чыé-н. спрáвы

**gehéim 1.** *a* (па)таéмны, сакрэ́тны **2.** *adv* сакрэ́тна; ***im ~en*** упóтай; ***~ tun**** сакрэ́тнічаць; ***mit etw. (D) ~ tun**** рабíць з чагó-н. сакрэ́т; ***~ hálten**** *vt* (*vor D*) захóўваць у таямнíцы, утóйваць (*ад кагó-н.*)

**Gehéimábkommen** *n* -s, - таéмнае [сакрэ́тнае] пагаднéнне

**Gehéimdienst** *m* -(e)s, -e сакрэ́тная палíцыя

**Gehéimfach** *n* -(e)s, -fächer тайнíк; патаéмная скры́нка

**Gehéimnis** *n* -ses, -se таямнíца, сакрэ́т; ***hínter ein ~ kómmen*, ein ~ lüften*** (рас)пазнавáць таямнíцу; ***Wáhrung des ~ses*** захавáнне тáйны; ***Préisgabe des***

~***ses*** выдавáнне тáйны; ***ein öffentliches*** ~ усíм вядóмы сакрэ́т

**gehéimnisvoll** *a* таямнíчы, таéмны; ~ ***tun**** сакрэ́тнічаць

**Gehéimpolizei** *f* - тáйная палíцыя

**Gehéimpolizist** *m* -en, -en агéнт сакрэ́тнай палíцыі

**Gehéimrat** *m* -(e)s, -räte 1) тáйная рáда 2) тáйны савéтнік [дарáдчык]

**Gehéimsache** *f* -, -n сакрэ́тная спрáва, сакрэ́тны дакумéнт

**Gehéimschrift** *f* -, -en шыфр

**Gehéimtuerei** *f* - сакрэ́тнічанне

**Gehéimvertrag** *m* -(e)s, -träge сакрэ́тны дагавóр

**Gehéiß** *n* -es загáд; ***auf sein*** ~ па ягó загáду

**gehéißen** *part II ад* héißen*

**géhen*** **1.** *vi* (s) 1) ісцí, хадзíць, прахóдзіць; ***vor sich*** ~ адбывáцца; ***j-n ~ lássen**** адпускáць кагó-н.; ***sícher*** ~ дзéйнічаць упэ́ўнена; ***auf ein Kílo ~ 20 Stück*** на кілагрáм ідзé 20 штук 2) éхаць, адʼязджáць; ***auf Réisen*** ~ выпраўля́цца ў падарóжжа; ***aufs Land*** ~ éхаць у вёску (*за горад*) 3) выхóдзіць (*напр., на поўнач*); ***das Fénster geht nach Nórden*** акнó выхóдзіць на пóўнач 4) пайсцí, паступíць; ***auf die Universität*** ~ паступíць ва універсітэ́т 5) функцыянавáць, працавáць; дзéйнічаць; ***an die Árbeit*** ~ узя́цца за рабóту; ***das Geschäft geht gut*** спрáва (*камерцыйная*) ідзé дóбра; 6) ісцí, прахóдзіць (*пра час*); ***die Zeit geht lángsam*** час ця́гнецца дóўга [марýдна] 7) *камерц.* ісцí, карыстáцца пóпытам ◊ ~ ***lássen**** пакідáць у спакóі; ***sich ~ lássen**** быць нядбáйным, быць няўвáжлівым, давáць вóлю сваíм захаплéнням, распускáцца **2.** *vimp*: ***wie geht es dir?*** як - мáешся?, што ў цябé нóвага?; ***es geht!*** нічóга (сабé)!; ***es geht nichts darüber*** нямá нічóга лéпей [лепш]; ***es geht nicht nach mir*** гэ́та не па-мóйму; ***es geht um álles*** на кáрту пастáўлена ўсё; ***das geht zu weit*** гэ́та занáдта; ***es geht nicht*** так немагчы́ма [нéльга]

**Géhen** *n* -s хаджэ́нне, хадзьбá; ***das ~ fällt ihm schwer*** ямý ця́жка хадзíць

**Géher** *m* -s, - *спарт.* скарахóд

**Gehétze** *n* -s 1) беганíна, мітуся́ 2) цкавáнне

**gehéuer**: ***es ist mir nicht ~ zumúte [zu Múte]*** мне (нéшта) вýсцішна

**Gehéul** *n* -(e)s выццё, скавытáнне, галашэ́нне; роў

**Gehílfe** *m* -n, -n 1) памóчнік, асістэ́нт 2) *юрыд.* саўдзéльнік

**Gehírn** *n* -(e)s, -e 1) (галаўны́) мозг 2) мазгí (*страва, ежа*)

**Gehírnblutung** *f* -, -en кровазліццё ў мозг

**Gehírnentzündung** *f* -, -en запалéнне мазгóў

**Gehírnlosigkeit** *f* - бязмóзгласць, глýпства

**Gehírnrinde** *f* - курá галаўнóга мóзгу

**Gehírnschale** *f* -, -n чэ́рап

**Gehírnschlag** *m* -(e)s, -schläge *мед.* апаплексíчны ўдáр

**gehóben** **1.** *part II ад* hében* **2.** *a* павы́шаны (*аб якасці, патрабаваннях*)

**Gehöft** *n* -(e)s, -e двор, сядзíба, хýтар

**gehólfen** *part II ад* hélfen*

**Gehölz** *n* -es, -e гай, лясóк

**Gehópse** *n* -s скачкí; *іран.* скóкі, тáнцы

**Gehör** *n* -(e)s слых; ***nach dem*** ~ на слых; ~ ***fínden**** быць вы́слуханым; ***sich (D) bei j-m ~ verscháffen*** застáвіць кагó-н. вы́слухаць сябé; ***j-m ~ schénken*** добразычлíва вы́слухаць кагó-н.

**gehórchen** *vi* (*D*) слýхацца (*каго-н.*), падпарадкóўвацца (*каму-н.*); ***aufs Wort*** ~ падпарадкóўвацца без пярэ́чанняў

**gehören** **1.** *vi* 1) налéжаць 2) (*zu D*) датычыцца (*да чаго-н.*); ***das gehört nicht zur Sáche*** гэ́та спрáвы не даты́чыцца 3) быць патрэ́бным; ***dazú gehört Geld*** на гэ́та патрэ́бны грóшы **2.** *vimp*: ***wie es sich gehört*** як налéжыць; ***es gehört sich nicht*** не прыня́та, непрыстóйна

**gehörig** **1.** *a* 1) які́ налéжыць (*каму-н.*); які́ аднóсіцца (*да чаго-н.*) 2) налéжны; давóлі вялíкі **2.** *adv* налéжным чы́нам, як налéжыць, мóцна; ***j-m ~ die Wáhrheit ságen*** сказáць камý-н. усю прáўду ў вóчы

**gehörlos** *a* глухí, пазбáўлены слы́ху
**Gehörn** *n* -(e)s, -e рóгі
**gehörnt** *a* 1) рагáты 2) непаражáльны, непрыстýпны
**gehórsam** **1.** *a* паслухмя́ны **2.** *adv* паслухмя́на
**Gehórsam** *m* -s пакóра, пакóрлівасць, паслухмя́насць; ***den ~ verwéigern*** выхóдзіць з падпарадкавáння; ***~ bezéigen [léisten, üben]*** слýхацца, падпарадкóўвацца
**gehórsamst** *adv*: ***mélde ~*** слухмя́на дакладваю, мáю гóнар далажы́ць
**Gehörsinn** *m* -(e)s слых, пачуццё слы́ху
**Gehörtrommel** *f* -, -n *анат.* барабáнная перапóнка
**Géhre** *f* -, -n 1) крысó; клін (*адзення*) 2) клін (*палетка*) 3) вóсці
**Géhren** *m* -s, - *тэх.* трохвугóльнік, клін; вугóльнік
**Géhrung** *f* -, -en *буд.* напрáмак пад вуглóм 45˚, скос
**Géhrock** *m* -(e)s, -rőcke сурдýт
**Géhsport** *m* -(e)s (спарты́ўная) хадзьбá
**Géhsteig** *m* -(e)s, -e, **Géhweg** *m* -(e)s, -e тратуáр, пешахóдная дарóжка
**Géhwerk** *n* -(e)s, -e гадзíннікавы механíзм
**Géier** *m* -s, - *заал.* каршýн, кóршак, шуля́к ◊ ***hol dich der ~!*** *лаянк.* каб цябé чорт узя́ў!
**Géifer** *m* -s 1) слíна, пéна 2) *перан.*; атрýта; ~ ***sprítzen*** злóснічаць
**géifern** *vi* пы́рскаць слíнай; *перан.* быць раз’ю́шаным
**Géige** *f* -, -n скры́пка; ***die érste ~ spíelen*** граць пéршую скры́пку ◊ ***der Hímmel hängt ihm vóller ~n*** ≅ ён на вышынí шчáсця
**géigen** *vt, vi* ігрáць на скры́пцы ◊ ***j-m gründlich die Wáhrheit ~*** вы́казаць камý-н. усю́ прáўду; ***j-n nach Háuse ~*** адшы́ць кагó-н.; ***ich wérde dir éinen ánderen Tanz ~!*** ты ў мянé паскáчаш!
**Géigenbau** *m* -(e)s вытвóрчасць скры́пак
**Géigenbauer** *m* -s, - скрыпíчны мáйстар
**Géigenbogen** *m* -s, - *i* -bögen (скрыпíчны) смык
**Géigenharz** *n* -es канiфóль
**Géiger** *m* -s, - скрыпáч
**geil** **1.** *a* 1) пажадлíвы; юрлíвы 2) тлýсты, урадлíвы (*пра глебу*) **2.** *adv*: ***~ wáchsen**** пы́шна [бýйна] расцí
**géilen** *vi* 1) быць юрлíвым, пажадлíвым 2) *біял.* мець цéчку, быць у цéчцы
**Géilheit** *f* - юр, юрлíвасць; стрáснасць 2) *біял.* цéчка 3) урадлíвасць (*глебы*)
**Géisel** *m* -s, - *i* -n, *f* -, -n залóжнік, -ніца; ***~n néhmen**** брáць залóжнікаў
**Géiß** *f* -, -en *заал.* казá; сéрна, лань
**Géißel** *f* -, -n 1) бізýн, пýга 2) *перан.* кáра
**géißeln** **1.** *vt* 1) хвастáць 2) *перан.* бічавáць **2. ~, sich** займáцца самабічавáннем
**Géist** *m* -(e)s, -er 1) дух; душá; рóзум 2) здань, пры́від; ***im ~e war er bei uns*** у дýмках ён быў з нáмі; ***man weiß, wes ~es Kind er ist*** вядóма, што ён сабóю ўяўля́е
**géisterhaft** *a* пры́відны; ***~e Geschíchten*** апавядáнні аб пры́відах
**géistern** *vi* 1) блукáць, як здань 2) мільгацéць
**Géisterstunde** *f* -, -n паўнóчная гадзíна
**géistesabwesend** рассéяны, адсýтны (*пра позірк*)
**Géistesabwesenheit** *f* - рассéянасць
**Géistesanlagen** *pl* разумóвыя здóльнасці
**Géistesarbeit** *f* -, -en разумóвая прáца
**Géistesarmut** *f* - разумóвае ўбóства, духóўнае калéцтва [жабрáцтва]
**Géistesbildung** *f* - разумóвае развіццё
**Géistesgabe** *f* -, -n здóльнасць, тáлент; інтэлéкт
**Géistesgegenwart** *f* - прысýтнасць дýху
**géisteskrank** *a* псіхíчнахвóры
**Géisteskrankheit** *f* -, -en псіхíчнае расстрóйства, вар’я́цтва, душэ́ўная хварóба
**Géistesschaffende** *sub m, f* -n, -n інтэлігéнт, чалавéк разумóвай прáцы; *pl* інтэлігéнцыя
**géistesschwach** *a* прыдуркавáты
**Géistesschwäche** *f* -, -n прыдуркавáтасць
**géistesverwandt** *a* блíзкі [падóбны] па дýху

**Géisteswissenschaften** *pl* гуманітáрныя навýкі
**géistig** I. *a* **1.** духóўны; разумóвы; ***~e Árbeit*** разумóвая прáца **2.** *adv* разумóва, духóўна; ***der ~ beflíssene Mensch*** чалавéк разумóвай прáцы
**géistig** II *a* спіртны́; ***~e Getränke*** спіртны́я напíткі [напóі]
**géistlich** *a* духóўны, рэлігíйны, царкóўны
**Géistliche** *sub m* -n, -n духóўная асóба, свяшчэ́ннік, святáр
**Géistlichkeit** *f* - духавéнства, клір
**géistlos** *a* бяздáрны; сýмны, шэ́ры, пусты́
**géistreich** *a* дасцíпны, трáпны
**géistvoll** *a* натхнёны; разýмны
**Géiz** *m* -es скýпасць, прáгнасць, хцíвасць
**géizen** *vi* 1) скупíцца (*mit D – на што-н.*); ***mit der Zeit ~*** эканóміць час 2) ***(nach D) ~*** прáгнуць (*чаго-н.*)
**Géizhals** *m* -es, -hälse скнáра
**géizig** *a* сквáпны, прáгны
**Gejámmer** *n* -s ля́мант, стóгны, éнкі, галашэ́нне
**Gejáuchze** *n* -s лікавáнне
**Gejódel** *n* -s (цірóльскае) спявáнне з пералíвамі
**Gejóhle** *n* -s кры́кі, роў, ля́мант
**Gejúbel** *n* -s лікавáнне
**gekáchelt** *a* абліцавáны кафля́най плíткай
**gekánnt** *part II ад* kénnen*
**Gekícher** *n* -s хіхíканне
**Gekläff** *n* -(e)s гáўканне, ця́ўканне
**Geklápper** *n* -s стук, бразгатáнне, бráзганне; ***das ~ der Zähne*** ля́сканне зубáмі
**Geklímper** *n* -s бры́нканне (*напр., на гітары*)
**Geklírr**(e) *n* -(e)s бры́нканне, звон, бráзганне
**geklómmen** *part II ад* klímmen*
**Geklüft** *n* -(e)s, -e цяснíна
**geklügelt** *a* хíтры, мудрагéлісты; *разм.* мýдры
**geklúngen** *part II ад* klíngen*
**Geknárre** *n* -s скрып, рыпéнне
**Geknátter** *n* -s трэск, траскатня́, грýкат; стралянíна
**gekníffen** *part II ад* knéifen*
**gekómmen** *part II ад* kómmen*
**gekónnt** *part II ад* können*
**gekóren** *part II ад* kíesen* *i* küren*
**Gekrächze** *n* -s 1) кракта́нне, хрыпéнне 2) кáрканне
**gekränkt** *a* пакры́ўджаны
**gekräuselt** *a* кучарáвы
**gekráust** *a* 1) завíты, кучарáвы 2) сабрáны ў малéнькія збóркі (*пра тканіну*)
**Gekréische** *n* -s віск, кры́кі
**gekréuzt** *a* перакрыжавáны, скрыжавáны
**Gekrítzel** *n* -s крымзóлі
**gekróchen** *part II ад* kríechen*
**gekrönt** *a* каранавáны, увéнчаны
**gekünstelt** *a* штýчны, ненатурáльны; надýманы
**gekúppelt** *a* спáраны, здвóены
**Gelächter** *n* -s, - смех, рагатáнне; ***zum ~ wérden*** стаць пасмéшышчам; ***in ~ áusbrechen**** зарагатáць, рассмяя́цца
**geláden** *part II ад* láden*
**Geláge** *n* -s, - банкéт, бясéда, папóйка
**gelähmt** *a* (с)паралізавáны
**Gelände** *n* -s, - 1) мясцóвасць, тэрытóрыя; ***durchschníttenes ~*** перасéчаная мясцóвасць 2) зямля́, дзяля́нка (*зямлі*)
**Geländebeschaffenheit** *f* - харáктар мясцóвасці
**Geländeerkundung** *f* -, -en *вайск.* развéдка мясцóвасці
**Gelädefahrzeug** *n* -(e)s, -e усюдыхóд, аўтамабíль павы́шанай [высóкай] прахóднасці
**geländegängig** *a* усюдыхóдны
**Geländekunde** *f* - тапагрáфія
**Geländelauf** *m* -(e)s, -läufe *спарт.* крос, бег па перасéчанай мясцóвасці
**Geländer** *n* -s, - парэ́нчы, парапéт
**Gelǻndeübung** *f* -, -en *вайск.* вучэ́нне на мясцóвасці
**Geländewagen** *m* -s, - аўтамабíль высóкай [павы́шанай] прахóднасці
**geláng** *impf ад* gelíngen*
**gelángen** *vi* (s) (*in, an A, zu D*) 1) трапля́ць, пападáць 2) дахóдзіць, дасягáць; ***zum Verkáuf ~*** трапля́ць у прóдаж; ***j-m zu Óhren ~*** дайсцí да кагó-н. [да чый-

го́-н. ве́дама]

**gelássen** **1.** *part II ад* lássen* **2.** *a* спако́йны, стры́маны

**Gelássenheit** *f* - спако́й, стры́манасць, непару́шнасць

**Gelatíne** [ʒə-] *f* - жэлацін

**geláufen** *part II ад* láufen*

**geläufig** **1.** *a* ужыва́льны, прывы́чны **2.** *adv* бе́гла, свабо́дна, лёгка (*размаўляць на якой-н. мове*)

**Geläufigkeit** *f* - бе́гласць; лёгкасць; ~ ***im Spréchen*** свабо́днае вало́данне мо́вай

**geláunt**: ***gut [schlecht]*** ~ у до́брым [дрэ́нным] настро́і, [не] у гумо́ры

**Geläut** *n* -(e)s, -e, **Geläute** *n* -s звон, перазво́н

**gelb** *a* жо́ўты; ***der ~e Neid*** чо́рная за́йздрасць; ***das ~e Fíeber*** жо́ўтая ліхама́нка

**gélbbraun** *a* жо́ўта-кары́чневы

**Gélbe** *sub n* -n жаўцізна́; ***das ~ vom Ei*** жаўто́к

**Gélbfieber** *n* -s жо́ўтая ліхама́нка

**Gélbguss** *m* -es, -güsse 1) лату́нь 2) лату́ннае ліццё

**gélblich** *a* жаўтава́ты, жаўтля́вы

**Gélbschnabel** *m* -s, - *разм.* (жаўтаро́ты) маладзён

**Gélbsucht** *f* - *мед.* жаўту́ха

**gélbsüchtig** *a* жаўту́шны

**Geld** *n* -es, -er гро́шы; ***báres*** ~ гато́ўка; ***zu ~ kómmen**** разбагаце́ць, нажы́цца; ***das kóstet viel*** ~ гэ́та кашту́е шмат гро́шай; ***~er éinkassieren*** збіра́ць гро́шы [узно́сы, пада́ткі]; ***bei ~(e) sein*** *разм.* мець гро́шы, быць пры граша́х; ~ ***éinheimsen*** *разм.* заграба́ць гро́шы; ***j-n um sein ~ bríngen**** пазба́віць каго́-н. гро́шай; ***~(er) unterschlágen**** зрабі́ць растра́ту гро́шай; ***schwéres ~ kósten*** до́рага абысці́ся [каштава́ць]; ***er hat ~ wie Heu*** у яго́ про́цьма [бе́зліч] гро́шай; ***mit dem ~(e) um sich wérfen* [schméißen*]*** раскіда́цца грашы́ма

**Géldabwertung** *f* -, -en інфля́цыя

**Géldanlage** *f* -, -n уклада́нне [змяшчэ́нне] гро́шай, інвесты́цыя

**Géldanleihe** *f* -, -n пазы́ка (*грашовых сродкаў*)

**Géldanweisung** *f* -, -en грашо́вы перaво́д

**Géldaufwand** *m* -s расхо́д, выда́ткі

**Géldbestand** *m* -(e)s, -bestände грашо́выя фо́нды

**Géld|beutel** *n* -s, -, **~börse** *f* -, -n кашалёк

**Géldeinlage** *f* -, -n грашо́вы ўкла́д, дэпазі́т

**Géldeinnahme** *f* -, -n паступле́нне гро́шай, вы́ручка

**Géldeinwurf** *m* -(e)s, -würfe шчы́ліна для апуска́ння [укіда́ння] мане́т

**Géldentwertung** *f* -, -en *гл.* Géldabwertung

**Géldfälscher** *m* -s, - фальшываманэ́тчык

**géldgierig** *a* скваа́пны, пра́гны, карыстаю́бны

**Géldheirat** *f* -, -en шлюб па разлі́ку, шлюб з-за раху́бы

**Géldknappheit** *f* - ця́жкасці з грашы́ма, недахо́п гро́шай

**Géldkurs** *m* -es, -e валю́тны курс

**Géldmarkt** *m* -(e)s, -märkte *эк.* валю́тны ры́нак

**Géldreform** *f* -, -en *фін.* грашо́вая рэфо́рма

**Géldschein** *m* -(e)s, -e банкно́т, купю́ра, крэды́тны біле́т

**Géldschrank** *n* -(e)s, -schränke незгара́льная ша́фа

**Géldstück** *n* -(e)s, -e мане́та

**Géld- und Sáchwertlotterie** *f* -, -ri¦en грашо́ва-рэ́чавая латарэ́я

**Géld|überführung** *f* -, -en, **~überweisung** *f* -, -en грашо́вы перaво́д

**Géld|umlauf** *m* -(e)s, **~umsatz** *m* -es *эк.* грашо́вае абарачэ́нне

**Géldwechsel** *m* -s разме́н гро́шай

**Gelée** [ʒə'le:] *n*, *m* -s, -s жэле́

**gelégen** **1.** *part II ад* líegen* **2.** *a* зру́чны; ***zu ~er Zeit*** у зру́чны [адпаве́дны] час; ***bin ich ~?*** я не перашкаджа́ю? **3.** *adv* у час, своечасо́ва; дарэ́чы; ***kómmen wir ~?*** мы не перашко́дзім? ***es ist mir sehr darán*** ~ гэ́та для мяне́ ве́льмі ва́жна

**Gelégenheit** *f* -, -en вы́падак, наго́да; ***bei érster*** ~ пры пе́ршай наго́дзе; ***ich hátte*** ~ мне тра́піўся вы́падак

**Gelégenheitsarbeiter** *m* -s, - чалаве́к, які́ ма́е выпадко́вы заро́бак

**gelégentlich** **1.** *a* выпадко́вы **2.** *adv* у вы́падку; з вы́падку **3.** *präp* (*G*) у су́вязі (*з чым-н.*), нако́нт (*чаго-н.*); ~ ***des Jubiläums*** з наго́ды юбіле́ю

**geléhrig** *a* ця́млівы, ке́млівы

**Geléhrsamkeit** *f* - вучо́насць, эруды́цыя

**Geléhrte** *sub m* -n, -n вучо́ны, навуко́вец

**Geléhrtheit** *f* - вучо́насць

**Geléise** *n* -s, - каляя́, рэ́йкавы пуць; ***ein tótes*** ~ тупі́к; ***aus dem ~ kómmen**** вы́біцца з каляі́ны

**Geléit** *n* -(e)s, -e 1) право́дзіны; ***j-m das létzte ~ gében**** право́дзіць каго́-н. у апо́шні шлях 2) ахо́ва, канво́й, ва́рта

**geléiten** *vt* право́дзіць, суправаджа́ць; ***j-n durchs Lében*** ~ быць чыі́м-н. ве́рным спадаро́жнікам жыцця́

**Geléitwort** *n* -(e)s, -e прадмо́ва (*да кнігі*); ска́занае на даро́гу сло́ва

**Gelénk** *n* -(e)s, -e 1) *анат.* суста́ў 2) *тэх.* шарні́р

**gelénkig** *a* гну́ткі; спры́тны, паваро́тлівы, вёрткі

**Gelénkigkeit** *f* - спрыт, гну́ткасць

**Gelénkwelle** *f* -, -n *тэх.* кале́нчаты вал, ко́рбавы вал

**gelérnt** *a* кваліфікава́ны, наву́чаны

**gelésen** *part II ад* lésen*

**Gelíchter** *n* -s *разм. уст.* ша́йка, ба́нда, хе́ўра

**gelíebt** *a* каха́ны, улюбёны

**Gelíebte** *sub m*, *f* -n, -n каха́ны, -ная; палюбо́ўнік, -ніца

**gelíehen** *part II ад* léihen*

**gelínd**(e) **1.** *a* мя́ккі, памярко́ўны; ***beim ~en Féuer*** на слабы́м агні́; ***~es Wétter*** мя́ккае надво́р’е **2.** *adv* мя́кка, памярко́ўна; ***~e geságt*** мя́кка ка́жучы

**gelíngen*** *vi* (s) ла́дзіцца, атры́мліваццa, ісці́ на лад; ***die Sáche will nicht*** ~ спра́ва не ідзе́ на лад; ***es wird mir*** ~ гэ́та мне ўда́сца

**Gelíngen** *n* -s уда́ча, по́спех

**Gelíspel** *n* -s шэпт, лёгкае шамаце́нне (*лісця*)

**gelítten** *part II ад* léiden*

**géllen** *vi* прарэ́зліва гуча́ць; ***in den Óhren*** ~ рэ́заць слых; ***die Óhren ~ ihm*** у яго́ ў вуша́х звіні́ць

**géllend** *a* рэ́зкі, прарэ́злівы, праніз́лівы (*пра гук*)

**gelóben** *vt* урачы́ста абяца́ць, дава́ць абяца́нне; ***sich (D) etw.*** ~ прысвяці́ць сябе́ чаму́-н.

**Gelöbnis** *n* -ses, -se (урачы́стае) абяца́нне; ***ein ~ áblegen [tun*]*** даць урачы́стае абяца́нне

**gelóbt** *a*: ***das ~e Land*** *паэт.* запаве́тная зямля́

**gelógen** *part II ад* lügen*

**gélten*** **1.** *vi* 1) быць ва́ртым; ***die Éhre gilt mehr als das Lében*** го́нар даражэ́й за жыццё 2) быць сапра́ўдным; ***der Fáhrausweis gilt nicht*** біле́т не сапра́ўдны 3) мець значэ́нне [вагу́]; ***sein Wort gilt étwas*** яго́ сло́ва ма́е вагу́; ***j-n ~ lássen**** лічы́цца з кім-н.; ***das lásse ich*** ~ я зго́дзен з гэ́тым, я ні́чо́га не ма́ю су́працьгэ́тага; ***lássen* wir’s*** ~ няха́й бу́дзе так 4) (*D*) даты́чыцца (*каго-н.*); ***das gilt von ihm*** гэ́та ты́чыцца яго́ 5) (*für A, als N*) лічы́цца, сла́віцца як **2.** *vimp* ***es gilt*** (*zu + inf*) патрэ́бна, неабхо́дна; спра́ва ў тым, каб…; ***es gilt Lében und Tod*** спра́ва ідзе́ аб жыцці́ і сме́рці; ***es gilt!*** до́бра!, у зго́дзе!; ***es gilt éinen Versúch*** ва́рта рызыкну́ць, мо́жна паспрабава́ць ◊ ***Bánge máchen gilt nicht!*** мяне́ [нас] не запало́хаеш!

**géltend** *a* дзе́йны, які́ ма́е сі́лу; ***etw. ~ máchen*** прад’яўля́ць свае́ правы́; ***sich ~ máchen*** дамагчы́ся прызна́ння, заваява́ць аўтарытэ́т

**Géltung** *f* -, -en значэ́нне, зна́чнасць, ва́жнасць; ***zur ~ bríngen**** пада́ць у вы́гадным святле́; ***áußer ~ sein*** быць несапра́ўдным; ***von [in] ~ sein*** быць сапра́ўдным, мець сі́лу; ***sich (D) ~ verscháffen*** набы́ць уплы́ў, заваява́ць аўтарытэ́т; ***sich zur ~ bríngen**** прыму́сіць лічы́цца з сабо́ю

**Géltungs|bedürfnis** *n* -ses, **~drang** *m* -(e)s славалю́бства, ганарлі́васць, жада́нне паказа́ць сябе́

**Gelübde** *n* -s, - абяцáнне, урачы́стае абяцáнне; ***ein ~ áblegen*** даць абяцáнне [зарóк]

**Gelúmpe** *n* -s *пагардл.* хлам, рыззё

**gelúngen** **1.** *part II ад* gelíngen* **2.** *a* які ўдáўся, удáлы

**Gelüst** *n* -(e)s, -e, **Gelüste** *n* -s, - (*nach D*) мóцная [гарáчая] прыхíльнасць (*да чаго-н.*)

**gelüsten**: ***es gelüstet ihn (nach D)*** ён вéльмі жадáе (*чаго-н.*); ***er tut, was ihn gelüstet*** ён рóбіць усё, што ямý ў галавý ўзбрыдзé

**gemách** **1.** *a* спакóйны, цíхі, павóльны **2.** *adv* спакóйна, цíха, памáлу, павóльна; ***nur ~!*** спакóйна, цішэ́й!

**Gemách** *n* -s, -mächer (пярэ́дні) пакóй

**gemächlich** **1.** *a* павóльны, спакóйны **2.** *adv* не спяшáючыся

**Gemächlichkeit** *f* - 1) спакóй 2) вы́гада, камфóрт

**gemácht** *a* 1) прытвóрны 2) штýчны, ненатурáльны 3): ***ein ~er Mann*** чалавéк, які дабíўся пóспеху ў жыццí

**Gemáhl** *m* -s, -e муж

**gemáhlen** **1.** *part II ад* máhlen **2.** *a* змéлены

**Gemáhlin** *f* -, -nen жóнка

**gemáhnen** *vt высок.* (*an A*) нагáдваць (*каму-н. пра што-н.*)

**Gemälde** *n* -s, - карцíна, палатнó; *перан. тс.* апісáнне (*чаго-н.*); ***ein groß ángelegtes ~*** *літ.* шырóкае палатнó

**Gemäldegalerie** *f* -, - i¦en карцíнная галерэ́я

**Gemäldesammlung** *f* -, -en збор [калéкцыя] карцíн

**gemált** *a* размалявáны; ***das ist wie ~*** ад гэ́тага прóста вачэ́й не адвéсці

**gemäß** *prp* (*D*) адпавéдна, згóдна (з), павóдле, па, у адпавéднасці, па мéры; ***der Vórschrift ~*** згóдна з прадпісáннем; ***den Verdíensten ~*** па заслýгах

**gemäßigt** *a* памяркóўны, стры́маны; ***éine ~e Réde*** стры́маная прамóва

**gemästet** *a* вы́кармлены, адкóрмлены

**Gemäuer** *n* -s, - камéнныя сцéны, мур; ***áltes ~*** руíны

**gemein** **1.** *a* 1) агýльны; ***auf ~e Kósten*** на агýльныя срóдкі; ***sich mit j-m ~ máchen*** быць з кім-н. за панібрáта 2) прóсты, звычáйны; ***ein ~er Tag*** бýдны дзень; ***das ~e Volk*** прóсты нарóд; ***das ~e Lében*** штодзённае жыццё; ***~es Métall*** прóсты [звычáйны] метáл; ***der ~e Soldát*** радавы́ 3) пóдлы, нíзкі, вульгáрны; ***~e Rédensarten*** вульгáрныя вы́разы **2.** *adv* нíзка, пóдла, вульгáрна

**Geméinde** *f* -, -n 1) абшчы́на 2) муніцыпалітэ́т, магістрáт 3) *рэл.* прыхóд, парáфія

**Geméindebesitz** *m* -es, -e абшчы́нная ўлáснасць

**Geméinderat** *m* -(e)s, -räte 1) муніцыпалітэ́т 2) муніцыпáльны рáдца 3) рáда абшчы́ны

**Geméindesteuer** *f* -, -n камунáльны падáтак

**Geméindeverwaltung** *f* -, -en абшчы́ннае [камунáльнае] кíраўніцтва

**geméindlich** *a* абшчы́нны, камунáльны, муніцыпáльны

**Geméine** *sub m* -n, -n радавы́, (салдáт)

**Geméin|besitz** *m* -es, **~eigentum** *n* -s грамáдская ўлáснасць; ***~ von Grund und Bóden*** грамáдскае [абшчы́ннае] землекарыстáнне

**geméingefährlich** *a* небяспéчны для грамáдства

**geméingültig** *a* агульнапрыня́ты

**Geméingut** *n* -(e)s грамáдскі набы́так

**Geméinheit** *f* -, -en пóдласць, свíнства, пóшласць, вульгáрнасць

**geméinhin** *adv* звычáйна, наóгул

**Geméinkosten** *pl эк.* агýльныя (накладны́я) выдáткі

**geméinnützig** *a* агульнакары́сны; некамерцы́йны; ***ein ~es Unternéhmen*** прадпрыéмства грамáдскага карыстáння

**Geméinnützigkeit** *f* - грамáдская [агýльная] кары́сць

**geméinnützlich** *гл.* geméinnützig

**geméinsam** **1.** *a* агýльны, калекты́ўны; ***~er Nénner*** *матэм.* агýльны назóўнік; ***~e Erklärung*** сумéсная зая́ва **2.** *adv* рáзам, сумéсна

**Geméinsamkeit** *f* - супóльнасць, агýльнасць

**geméinschädlich 1.** *a* шкóдны для грамáдства **2.** *adv* на шкóду грамáдству

**Geméinschaft** *f* -, -en 1) супóльнасць, агýльнасць, садрýжнасць; ***in ~ mit (D)*** рáзам з кім-н. 2) таварыства, аб'яднáнне, згуртавáнне

**geméinschaftlich** *a гл.* geméinsam

**Geméinschaftsarbeit** *f* -, -en грамáдская [калектыўная] прáца

**Geméinschaftsbesuch** *m* -(e)s, -e культпахóд (*у тэатр, кіно*)

**Geméinschaftsverpflegung** *f* - грамáдскае харчавáнне

**Geméinsinn** *m* -(e)s дух салідáрнасці

**geméinverständlich** *a* агульназразумéлы, дастýпны ўсім, папулярны

**Geméinwesen** *n* -s, - 1) калектыў, камýна 2) грамáдства; ***das städtische*** ~ гарадскáя гаспадáрка

**Geméinwirtschaft** *f* -, -en абагýленая гаспадáрка

**Geméinwohl** *n* -(e)s усеагýльнае дабрó

**Geménge** *n* -s, - 1) мешанíна 2) мітусня; натóўп

**geméssen 1.** *part II ад* méssen* **2.** *a* 1) размéраны, мéрны; ***~er Schritt*** рóўны [размéраны] крок 2) даклáдны, вызначаны; ***~e Wórte*** скупыя слóвы; ***~e Zeit*** *спарт.* засéчаны час **3.** *adv* мéрна, размéраным крóкам [тэмпам]

**Gemétzel** *n* -s, - разня

**gemíeden** *part II ад* méiden*

**Gemísch** *n* -(e)s, - сýмесь; *тэх.* сплаў

**gemíscht** *a* змéшаны; *перан.* мяшáны, разнамáсны; ***~e Früchte*** кампóт; ***~er Zug*** таварапасажырскі цягнік

**gemócht** *part II ад* mögen*

**gemólken** *part II ад* mélken*

**Gémsbock** *m* -(e)s, -böcke гóрны казёл

**Gémse** *f* -, -n *заал.* сáрна

**Gémsleder** *n* -s зáмша

**Gemúnkel** *n* -s пагалóска, чýткі, плёткі

**Gemúrmel** *n* -s, - шэпт; ціхая гамóнка; цурчáнне, цýрканне

**Gemúrre** *n* -s бурчáнне, гул, гóман

**Gemüse** *n* -s, - (а)гарóдніна, зялéніва ◊ ***júnges*** ~ зялёная мóладзь

**Gemüsebau** *m* -(e)s агарóдніцтва

**Gemüsebeilage** *f* -, -n гарнíр (*з гарод-ніны*)

**Gemüsegarten** *m* -s, -gärten (а)гарóд

**Gemüsegärtner** *m* -s, - агарóднік

**Gemüsehändler** *m* -s, - зялéніўшчык, гандляр (а)гарóднінай

**Gemüsespeicher** *m* -s, - схóвішча пад (а)гарóдніну

**Gemüsetrockenanlage** *f* -, -n устанóўка для сýшкі гарóдніны

**Gemüseverarbeitungsindustrie** *f* - гарóднінаперапрацóўчая прамыслóвасць

**Gemüsezucht** *f гл.* Gemüsebau

**gemússt** *part II ад* müssen*

**gemústert** *a* 1) квяцíсты, узóрысты, у малюнках; ***~er Stoff*** матэрыя з квяцíстым узóрам 2) падабрáны па ўзóры

**Gemüt** *n* -(e)s, -er 1) нóраў, харáктар, душá; ***ein Mensch von ~*** *разм.* душá-чалавéк; ~ ***háben*** быць дóбрым [чýлым] **2.** *pl* грамáдская дýмка; ***die ~er áufregen [errégen]*** хвалявáць грамáдскую дýмку; ***die errégten ~er beschwíchtigen [berúhigen]*** супакóйваць [супакóіць] усхвалявáную грамáдскую дýмку

**gemütlich** *a* 1) утýльны 2) прыéмны, сардэчны; ***nur ímmer ~!*** спакóйна!, не хвалюйцеся!

**Gemütlichkeit** *f* - 1) утýльнасць 2) прыéмнасць; ***in áller*** ~ не спяшáючыся, спакóйна; ***da hört áber die ~ auf!*** гэта ўжó занáдта!; ***in Géldsachen hört die ~ auf*** *прым.* дрýжба дрýжбай, а грóшы аддáй

**gemütlos** *a* бессардэчны, бяздýшны; абыякавы

**Gemütlosigkeit** *f* - бессардэчнасць, бяздýшнасць, абыякавасць

**Gemütsart** *f* -, -en тэмперáмент, нóраў, харáктар

**Gemüts|bewegung** *f* -, -en, **~erregung** *f* -, -en афéкт; эмóцыя, душэўнае перажывáнне

**gemütskrank** *a* псіхічнахвóры

**Gemütslage** *f* - *гл.* Gemütszustand

**Gemütsruhe** *f* - душэўны спакóй, ціхамíрнасць; ***in áller*** ~ спакóйна, ціхамíрна

**Gemüts|stimmung** *f* -, -en, **~verfassung** *f* -, -en, **~zustand** *m* -(e)s, -stände душэўны стан, настрóй

**gemütvoll** *a* сардэ́чны, шчы́ры

**Gen** *n* -s, -e *біял.* ген

**gen** *prp* (*A*) *паэт.* (у напрáмку) да; ***~ Hímmel*** да нéба, у нéба

**genánnt** *part II ад* nénnen*

**genás** *part II ад* genésen*

**Genäsel** *n* -s гнусáвасць, гамзáтасць

**genáu 1.** *a* даклáдны; падрабя́зны; старáнны; ***in állem ~ sein*** быць даклáдным [акурáтным] ва ўсíм **2.** *adv* даклáдна, рóўна, якрáз; ***etw. ~ kénnen**** грунтóўна вéдаць што-н.; ***es ist ~ dassélbe*** гэ́та зусíм [цáлкам] тóе ж сáмае; ***~ so viel wie…*** рóўна стóлькі ж, кóлькі…; ***~ in der Mítte*** у сáмай сярэ́дзіне; ***~er betráchtet*** пры бóльш дэталёвым [даклáдным] разгля́дзе; ***~ genómmen*** стрóга кáжучы, улáсна кáжучы, па сýтнасці

**Genáuigikeit** *f* - даклáднасць; падрабя́знасць, старáннасць, спрáўнасць; ***péinliche ~*** надзвычáйная сумлéннасць; педанты́чнасць

**genáuso** *adv* рóўна [якрáз] такí ж (сáмы) (*доўгі і г.д.*)

**Gendárm** [ʒan- *і* ʒã-] *m* -en, -en жандáр

**Genealogíe** *f* -, -gí¦en генеалóгія, радаслóў’е

**genealógisch** a генеалагíчны, радаслóўны

**genéhm** *a* 1) прыéмны 2) прымáльны

**genéhmigen** *vt* дазваля́ць, ухваля́ць, пагаджáцца (*на што-н.*); ***ein Gesúch ~*** задавóліць прóсьбу [прашэ́нне]; ***noch éinen ~*** *разм.* прапусцíць яшчэ́ чáрачку

**Genéhmigung** *f* -, -en згóда, дазвóл; адабрэ́нне; ***behördliche ~*** афіцы́йны дазвóл [дазвóл ад улад]

**genéigt** *a* 1) схíльны, настрóены 2) нахíлены

**Genéigtheit** *f* - схíльнасць, настрóенасць, прыхíльнасць, добразычлíвасць

**Generál** *m* -s, -e *і* -räle генерáл

**Generálabrechnung** *f* -, -en *камерц.* канчаткóвы разлíк

**Generálintendant** *m* -en, -en 1) *тэатр.* галóўны кіраўнíк [дырэ́ктар] 2) *вайск.* галóўны інтэндáнт

**generalisíeren** *vt* абагульня́ць

**Generálkommando** *n* -s, -s *вайск.* штаб кóрпуса

**Generálprobe** *f* -, -n генерáльная рэпеты́цыя

**Generálsrang** *m* -(e)s, -ränge генерáльскае звáнне, генерáльскі чын

**Generálstab** *m* -(e)s, -stäbe генерáльны штаб

**Generálstäbler** *m* -s, - афіцэ́р генерáльнага штáба, генштабíст

**Generálstreik** *n* -(e)s, -s *і* -e усеагýльная забастóўка; ***in den ~ tréten**** абвясцíць усеагýльную забастóўку

**generálüberholen** *неаддз. vt* (*ужыв. толькі ў inf і part II*) зрабíць капітáльны рамóнт (*аўтамабіля і г.д.*)

**Generálversammlung** *f* -, -en 1) агýльны сход 2) генерáльная асамблéя (*напр.*, ААН)

**Generatión** *f* -, -en пакалéнне, генерáцыя

**generéll 1.** *a* (усе)агýльны; універсáльны **2.** *adv* наóгул

**genésen*** *vi* (s) папраўля́цца, ачýньваць; ***éines Kíndes ~*** нарадзíць; *разм.* паспяхóва вы́радзіць (дзіця́)

**Genésis** *f* - генéзіс, узнікнéнне, пахóджанне

**Genésung** *f* -, -en ачýньванне, пóпраўка, папрáўка; ***der ~entgégengehen**** быць на шляхý папрáўкі

**Genétik** *f* - генéтыка

**geniál** *a* геніяльны

**Genialität** *f* - геніяльнасць

**Geníck** *n* -(e)s, -e паты́ліца; ***sich (D) ~ bréchen**** скруцíць сабé галавý; ***am ~ pácken*** схапíць за каршэ́нь; ***ein stéifes ~ háben*** быць упáртым [незгавóрлівым]

**Geníe** [ʒe:-] *n* -s, -s гéній, геніяльнасць

**geníeren** [ʒe:-] **1.** *vt* сарóміць; бянтэ́жыць **2. ~, sich** сарóмецца

**geníeßbar** *a* 1) ядóмы 2) прыдáтны, дапушчáльны

**geníeßen*** *vt* 1) смакавáць, мець асалóду

2) спажыва́ць, е́сці 3) карыста́цца, мець; ***er hat éine gúte Erzíehung genóssen*** ён атрыма́ў до́брае выхава́нне; ***ein hóhes Ánsehen*** ~ карыста́цца вялі́кім аўтарытэ́там

**Genitáli¦en** *pl* палавы́я о́рганы

**Génitiv** *m* -s, -e *грам.* ро́дны склон

**Génius** *m* -, -ni¦en до́бры ге́ній; засту́пнік

**genómmen** *part II ад* néhmen*

**genórmt** *a* нарміраваны; станда́ртны, уніфікава́ны

**genóss** *impf ад* geníeßen*

**Genósse** *m* -n, -n тава́рыш; спадаро́жнік

**genóssen** *part II ад* geníeßen*

**Genóssenschaft** *f* -, -en тавары́ства; саю́з; арце́ль; кааператы́ў

**genóssenschaftlich** *a* кааператы́ўны, які́ прыма́е ўдзе́л у тавары́стве

**Genóssenschaft(l)er** *m* -s, - член кааператы́ва, кааперáтар, кампаньён

**Genóssenschaftsanteil** *m* -(e)s, -e кааператы́ўны пай

**Genóssenschaftsbauer** *m* -s, - член сельскагаспада́рчага вытво́рчага кааператы́ва (*у былой ГДР*)

**Genóssin** *f* -, -nen тава́рыш (*пра жанчыну*)

**genötigt** *a* вы́мушаны, зму́шаны; ***sich ~ séhen*, ~ sein*** быць вы́мушаным

**Genre** [ʒã:r] *n* -s, -s род, гату́нак, жанр

**Gens** *f* -, Géntes *гіст.* род; радавы́ саю́з

**Gentílgesellschaft** *f* -, -en *гіст.* радаво́е грама́дства

**Gentleman** [ˈʤɛntlmən] *m* -s, -men джэнтльме́н

**Gentlemen's Agreement** [ˈʤɛntlməns əˈgriment] *m* -s, -s *юрыд.* джэнтльме́нскае пагадне́нне

**genúg** *adv* го́дзе, даво́лі, до́сыць; ***gut*** ~ даво́лі до́бра; ***mehr als*** ~ больш чым даво́лі; ***ich hábe ~ (davón)*** з мяне́ гэ́тага хапа́е; мне гэ́та надаку́чыла; ~ ***des Gúten!*** до́брага пакрысе́!

**Genüge** *f* - задавальне́нне; ***zur*** ~ до́сыць; ***j-m ~ léisten [tun*]*** задавальня́ць каго́-н.; адда́ць нале́жнае

**genügen** *vi* 1) хапа́ць, става́ць, быць дастатко́вым 2) задавальня́ць; ***sich an etw. (D) ~ lássen**** задаво́ліцца (*чым-н.*); ***das genügt mir nicht*** мне гэ́тага ма́ла

**genügend** *a* дастатко́вы, здавальня́ючы

**genügsam** *a* сці́плы, непатрабава́льны, неперабо́рлівы

**Genügsamkeit** *f* - сці́пласць, непатрабава́льнасць

**Genúgtuung** *f* -, -en задавальне́нне; ***j-m ~ gében**** задаво́ліць каго́-н.; ~ ***verlángen*** патрабава́ць задавальне́ння; ***séiner größen ~ Áusdruck gében**** вы́казаць вялі́кае задавальне́нне

**Génus** *n* -, -nera 1) *грам.* стан 2) *біял.* род

**Genúss** *m* -es, -nüsse 1) асало́да; задавальне́нне; ~ ***bieten**** дава́ць аса́лоду 2) карыста́нне; спажыва́нне (*ежы*); ***das war ein*** ~ гэ́та было́ сма́чна ◊ ***willst du den ~, so nimm auch den Verdrúss*** ≅ любі́ш ката́цца – любі́ і са́начкі вазі́ць

**Genússmittel** *pl* 1) сро́дак асало́ды 2) вы́рабы сма́кавай прамысло́васці; дáліката́сы

**Genússsucht** *f* - сладастра́снасць, ця́га [пра́гнасць] да асало́ды

**genússsüchtig** пра́гны да асало́ды

**geöffnet** *a спарт.* разамкнёны; ***~e Formatión*** разамкнёны шэ́раг; ***~e Flánkensäule*** разамкнёная кало́на; ***~e Stírnsäule*** разамкнёная шарэ́нга

**Geographíe** [Geografíe] *f* - геагра́фія

**geölt**: ***es geht wie*** ~ ідзе́ (гла́дка), як па ма́сле

**Georgette** [ʒərˈʒɛt(ə)] *m*, *f* -, -s *тэкст.* крэп-жаржэ́т

**Geórgi¦er** *m* -s, - грузі́н

**geórgisch** *a* грузі́нскі

**Georgíne** *f* -, -n *бат.* вяргі́ня

**Gepäck** *n* -(e)s бага́ж, рэ́чы; ***das ~ abfértigen*** здаць бага́ж; ***das ~ im Wágen verstáuchen*** размясці́ць бага́ж у ваго́не

**Gepäckabfertigung** *f* - *гл.* Gepäckaufgabe

**Gepäckanhänger** *m* -s, - бага́жны ярлы́к; бі́рка, бля́мба

**Gepäckannahme** *f* -, -n прыём багажу́

**Gepäckaufbewahrung** *f* -, -en захо́ўванне багажу́

**Gepäckaufbewahrungsraum** *m* -(e)s, -räume ка́мера захо́ўвання багажу́
**Gepäckaufgabe** *f* - адпра́ўка багажу́
**Gepäckausgabe** *f* -, -n вы́дача багажу́
**Gepäckschein** *m* -(e)s, -e бага́жны квіто́к
**Gepäckschließfach** *n* -(e)s, -fächer аўтаматы́чная ка́мера захо́ўвання багажу́
**Gepä́ckstück** *n* -(e)s -e ме́сца (*багаж*)
**Gepäckwagen** *m* -s, - бага́жны ваго́н
**gepánzert** *a* браніраваны
**gepféffert 1.** *a* во́стры, з пе́рцам; ***~e Préise*** узня́тыя цэ́ны; ***éine ~e Ántwort*** з’е́длівы адка́з **2.** *adv*: ~ ***und gesálzen*** неймаве́рна до́рага
**gepfíffen** *part II ад* pféifen*
**gepflástert** *a* мо́шчаны; брукава́ны
**gepflégt** *a* дагле́джаны, вы́пешчаны; ***~e Spráche*** культу́рная мо́ва
**gepflógen** *part II ад* pflégen*
**Gepflógenheit** *f* -, -en звы́чай, звы́чка, трады́цыя; ***mit der ~ bréchen**** пару́шыць трады́цыю; ***entgégen der sónstigen ~*** насу́перак устано́ўленаму пара́дку; ***von der ~ ábgehen**** спыні́ць пра́ктыку чаго́-н.
**geplágt** *a* вы́мучаны, няшча́сны
**Geplänkel** *n* -s, - 1) *вайск.* перастрэ́лка 2) *разм.* сва́рка, ла́янка
**Geplápper** *n* -s балбатня́, пляву́зганне
**Geplätscher** *n* -s пляск, плёскат; цурча́нне
**Gepláuder** *n* -s гу́тарка; балбатня́
**Gepólter** *n* -s 1) гру́кат 2) шум, ла́янка
**Gepräge** *n* -s 1) чака́нка, адбі́так 2) прыкме́та; ***das ~ gében**** наклада́ць адбі́так
**Geprássel** n -s трэск
**gepríesen** *part II ад* préisen*
**gepúnktet** *a* пакры́ты кра́пінамі, у кра́пінку (*пра тканіну*)
**Gequáke** [Gequäke] *n* -s ква́канне
**gequóllen** *part II ад* quéllen*
**geráde 1.** *a* 1) про́сты, прамы́ 2) адкры́ты, шчы́ры 3) *матэм.* цо́тны **2.** *adv* якра́з, про́ста, ро́ўна; ***da fällt mir ~ ein*** дарэ́чы сказа́ць; ***nun ~ nicht!*** дык не (ж)!; ***das wóllte ich ~ ságen*** менаві́та гэ́та я і хацеў сказа́ць; ~ ***hálten**** трыма́ць пра́ма [стро́ма, вертыка́льна]; ***sich ~ hálten**** трыма́цца [стая́ць] пра́ма; ~ ***légen*** кла́сці пра́ма, папраўля́ць; прыво́дзіць у пара́дак; ~ ***máchen*** выпро́стваць; выраўно́ўваць; *перан., разм.* улад-ко́ўваць; ~ ***stéhen**** стая́ць сме́рна
**Geráde** *f* -, -n 1) *матэм.* про́стая [прама́я] лі́нія 2) *спарт.* прама́я (*дарожка*)
**geradeáus** *adv* про́ста, напрасткі́, напрасця́к
**gerádebiegen*** *аддз. vt* распраста́ць, разагну́ць
**geradeheráus** *adv* пра́ма, напрасткі́; ***die Wáhrheit ~ ságen*** сказа́ць усю́ пра́ўду
**geradehín** *adv* 1) усё [увесь час] пра́ма, напрасткі́ 2) *перан.* напрасткі́, про́ста, без хі́трыкаў
**gerádeso** *adv* якра́з, і́менна, менаві́та, якра́з-такі́, якра́з таксама; ***er ist ~ groß wie du*** ён тако́га са́мага ро́сту, як ты; ~ ***gut*** з такі́м жа по́спехам, такса́ма до́бра; ~ ***viel*** якра́з сто́лькі
**gerádewegs** *adv* 1) пра́ма, про́ста 2) про́ста, адкры́та, шчы́ра
**gerádezu** *adv* 1) про́ста-такі́ 2) рашу́ча, шчы́ра, адкры́та
**gerádlinig** *a* просталіне́йны
**gerádwinklich** *a* прамавуго́льны, прастаку́тны
**gerádzahlig** *a матэм.* цо́тны
**geráfft** *a*: ***ein ~er Überblick*** каро́ткі [сці́слы] агля́д
**geránnt** *part II ад* rénnen*
**Gerássel** *n* -s гру́кат, шум, ля́скат, бра́згат
**Gerät** *n* -(e)s, -e 1) прыбо́р; прыла́да; інструме́нт 2) начы́нне; по́суд 3) *спарт.* снара́д 4) *тэатр.* рэквізі́т
**Gerätebau** *m* -(e)s прыборабудава́нне
**geráten I** *part II ад* ráten* *і* geráten*
**geráten* II** *vi* (s) 1) тра́піць, папа́сці, апыну́цца; ***in éine Fálle ~*** папа́сці ў па́стку (*тс. перан.*); ***in die Klémme ~*** папа́сці ў бяду́ [у ця́жкае стано́вішча]; ***aus den Schíenen ~*** сысці́ з рэ́ек; ***auf den Éinfall ~*** натра́піць на ду́мку 2) прыйсці́ (*у які-н. стан*); ***in Verzwéiflung ~*** прыйсці́ ў адча́й; ***in Wut ~*** раз’ю́шыцца; ***in Vergéssenheit ~*** забыва́цца; ***áußer sich (D) ~*** выхо́дзіць

**Glánzpapier** *n* -s, -e гля́нцавая папе́ра
**Glánzpunkt** *m* -(e)s кульмінацы́йны пункт, апаге́й
**glánzvoll** *a* бліску́чы
**Glas** *n* -es, Gläser 1) шкло 2) шкля́нка, ча́рка, ке́ліх 3) *pl* акуля́ры 4) біно́кль
**glásartig** *a* шклопадо́бны, празры́сты, як шкло
**Glásbläser** *m* -s, - шкловыдзіма́льшчык
**Gläschen** *n* -s, - шкля́начка, ча́рачка, кі-лі́шак; ***ein ~ über den Durst trínken**** вы́піць лі́шняе
**Gláser** *m* -s, - шкляр ◊ ***ist [war] dein Vá-ter ~?*** што, твой ба́цька [быў] шкляр? (адыдзі ад святла́ [ўбо́к])!
**gläsern** *a* шкляны́
**Glásfaser** *f* -, -n шкляно́е валакно́, шкло-валакно́
**Glásglocke** *f* -, -n шкляны́ каўпа́к
**Gláshütte** *f* -, -n шклозаво́д, гу́та
**glasíeren** *vt* 1) замаро́жваць 2) пакры-ва́ць глазу́рай 3) надава́ць гля́нец
**glásig** *a* шклопадо́бны; ***~er Blick*** шкляны́ [засты́лы] по́зірк
**Gláslinse** *f* -, -n апты́чнае шкло
**Glásmalerei** *f* -, -en жы́вапіс на шкле́
**Glásscheibe** *f* -, -n шы́ба, шы́біна
**Glásschneider** *m* -s, - *тэх.* шкларэ́з
**Glasúr** *f* -, -en 1) *тэх.* палі́ва 2) *кул.* гла-зу́ра
**glásweise** *adv* шкля́нкамі, ча́ркамі, кілі́ш-камі
**glatt 1.** *a* 1) гла́дкі, ро́ўны 2) слі́зкі, ко́ўз-кі; *перан.* ліслі́вы, падлі́злівы; ***éine ~e Lüge*** чы́стая хлусня́; ***~er Únsinn*** лу́х-та, глу́пства ◊ ***éine ~e Réchnung*** кру́г-лы [акру́глены] раху́нак **2.** *adv* наад-рэ́з, рашу́ча; гла́дка, ро́ўна; ***álles geht ~*** усё ідзе́ спра́ўна [гла́дка]; ***~ vergés-sen**** зусі́м забы́цца; ***álles ~ léugnen*** адмаўля́ць усё наадрэ́з
**Glätte** *f* - 1) гла́дкасць 2) слі́зкасць; гала-лёдзіца, галалёд
**Glátteis** *n* -es галалёдзіца, галалёд; ***j-n aufs ~ führen*** падма́нваць, падво́дзіць каго́-н.
**glätten 1.** *vt* 1) разгла́джваць, прасава́ць 2) палірава́ць **2. ~, sich** супако́іцца (*пра мора*)
**gláttmachen** *аддз.* *vt* 1) *разм.* ула́джваць (*справу*) 2) *разм.* расквіта́цца (*з чым-н.*), аплочваць, распла́чвацца; ***éine Schuld ~*** заплаці́ць доўг
**gláttweg** *adv* про́ста; наадрэ́з
**Glátze** *f* -, -n лы́сіна
**Glátzkopf** *m* -(e)s, -köpfe 1) лы́сая галава́ 2) лы́сы
**glátzköpfig** *a* лы́сы
**Gláubbarkeit** *f* - вераго́днасць, праўда-падо́бнасць
**Gláube** *m* -ns, -n *гл.* Gláuben
**gláuben 1.** *vt* ве́рыць, меркава́ць, ду́маць; ***man sóllte ~…*** здава́лася б…; ***sich sí-cher ~*** лічы́ць сябе́ ў бяспе́цы **2.** *vi* (*an A*) ве́рыць (*у каго-н., у што-н.*); ***das gláube ich schon*** мярку́ю, што гэ́та так; ***j-m ~*** ве́рыць каму́-н.; ***er glaubt fest darán*** ён упэ́ўнены ў гэ́тым ◊ ***er muss [soll] darán ~*** *разм.* яму́ пры́й-дзецца з гэ́тым (пры)міры́цца; яму́ ка-не́ц, яго́ пе́сня спе́та
**Gláuben** *m* -s, - 1) ве́ра, даве́р’е, даве́р; ***j-m ~ schénken*** ве́рыць, давяра́ць ка-му́-н.; ***auf Treu und ~*** сумле́нна; ***für séinen ~ éinstehen**** пастая́ць за сваé перакана́нні; ***~ fínden**** набы́ць даве́р; ***den ~ an etw. (A) verlíeren**** стра́ціць ве́ру ў што-н.; ***etw. aus gútem ~ tun**** рабі́ць што-н., кіру́ючыся найле́пшым наме́рам; ***sich um állen ~ bríngen**** стра́-ціць уся́кае даве́р’е, дыскрэдытава́ць сябе́ 2) ве́ра, ве́раванне; ***der chrístliche ~*** хрысція́нская ве́ра [рэлі́гія]
**Gláubensbekenntnis** *n* -ses, -se веравыз-на́нне
**Gláubensfreiheit** *f* -, -en свабо́да сумле́ння
**Gláubensgenosse** *m* -n, -n аднаве́рац
**Gláubenslehre** *f* -, -n багасло́ўе, верану-чэ́нне
**gláubenslos** *a* няве́руючы
**gláubensstark** *a* перакана́ны, які́ цвёрда ве́рыць, сто́йкі ў сваі́х перакана́ннях
**gláubhaft** *a* праўдападо́бны, напэ́ўны
**Gláubhaftigkeit** *f* - праўдападо́бнасць,

верагóднасць

**gläubig 1.** *a* вéруючы, набóжны **2.** *adv* давéрліва, легкавéрна

**Gläubige** *sub m, f* -n, -n вéрнік, вéрніца

**Gläubiger** *m* -s, - крэдытóр; ***den ~ ábfinden**** разлічы́цца з крэдытóрам

**Gläubigkeit** *f* - 1) рэлігíйнасць, набóжнасць 2) давéрлівасць, легкавéрнасць

**gláublich, gláubwürdig** *a* верагóдны, праўдападóбны, магчы́мы

**Gláubwürdigkeit** *f* - верагóднасць, праўдападóбнасць; ***an ~ verlíeren**** здавáцца непраўдападóбным

**glaziál** *a геал.* ледніко́вы

**gleich 1.** *a* 1) рóўны, аднóлькавы, падóбны; ***zu ~er Stúnde*** у тýю ж гадзíну; у той жа час; ***in ~er Wéise*** аднóлькава; ***~ sein*** *матэм.* раўня́цца; ***zwei mal zwei [ist] ~ vier*** два на два – чаты́ры; ***~ zu ~ stéhen**** быць раўнапрáўным 2) абыя́кавы; ***ganz*** ~ усё рóўна ◊ ***~ und ~ geséllt sich gern*** ≅ рыбáк рыбакá бáчыць здалякá; ***~e Brüder ~e Káppen*** ≅ адзíн другóга вáрты, абóе рабóе; ***~ bléiben*, sich (D) ~ bléiben**** не змянццца; ***~ bleibend*** *a* стáлы, пастая́нны, нязмéнны; ***~ láufend*** *a* паралéльны, раўналéжны; ***~ láutend*** *a* 1) сугýчны 2) аднаначны; ідэнты́чны (тэкст); ***mit dem Originál ~*** згóдна з арыгінáлам **2.** *adv* зáраз, неадклáдна; ***~ daráuf, ~ nachhér*** услéд [слéдам] за тым; ***~ viel*** стóлькі ж, аднóлькава; ***~ groß*** аднóлькавай велічыні́; ***~ am Ánfang*** з сáмага пачáтку

**gléichalt(e)rig** *a* адны́х гадóў, аднагó ўзрóсту

**gléichartig** *a* аднарóдны, аналагíчны; ***~e Sátzglieder*** *грам.* аднарóдныя члéны скáза

**Gléichartigkeit** *f* - аднарóднасць, аналагíчнасць, аднóлькавасць

**gléichbedeutend** *a* раўназнáчны, раўнасíльны; тóесны

**gléichberechtigt** *a* раўнапрáўны

**Gléichberechtigung** *f* - раўнапрáўе

**Gléiche** *sub* 1) *m, f* -n, -n раўня́ 2) *n*: ***ein ~s tun**** рабíць тóе ж сáмае

**gléichen* 1.** *vt* выраўнóўваць, ураўнóўваць **2.** *vi* (*D*) быць падóбным (*да каго-н.*); ***das gleicht ihm ganz*** гэ́та якрáз падóбна на ягó, гэ́та характэ́рна для ягó; ***sie ~ einánder wie Tag und Nacht*** яны́ як зямля́ і нéба, яны́ пóўная працілéгласць адзíн другóму

**gléicher|máßen, ~wéise** *adv* таксáма, рóўным чы́нам

**gléichfalls** *adv* таксáма, гэ́так жа

**gléichförmig** *a* падóбны, аднастáйны, раўнамéрны

**Gléichförmigkeit** *f* - 1) падабéнства, падóбнасць 2) аднастáйнасць

**gleich gesínnt** *a* які́ [што] мáе аднóлькавы склад дýмак

**Gléichgesinnte** [gleich Gesínnte] *sub m, f* -n, -n аднадýмец

**Gléichgewicht** *n* -(e)s раўнавáга; ***aus dem ~ bríngen**** вы́весці з раўнавáгі; *перан.* разэлавáць; ***ins ~ bríngen**** ураўнавáжваць

**Gléichgewichtskünstler** *m* -s, - эквілібры́ст

**Gléichgewichtslehre** *f* -, -n стáтыка, вучэ́нне аб раўнавáзе

**gléichgültig** *a* (*gegen A*) абыя́кавы, раўнадýшны (*да каго-н., да чаго-н.*)

**Gléichgültigkeit** *f* - абыя́кавасць, раўнадýшша

**Gléichheit** *f* -, -en рóўнасць; тóеснасць; ***~ vor dem Gesétz*** рóўнасць пéрад закóнам

**Gléichheitszeichen** *n* -s, - знак рóўнасці

**gléichkommen*** *аддз. vi* (s) ***j-m (an D) ~*** раўнавáцца з кім-н. (*у чым-н.*)

**gléichmachen** *аддз. vt* раўня́ць, ураўнóўваць

**Gleichmacheréi** *f* -, -en ураўнíлаўка

**Gléichmachung** *f* -, -en ураўнавáнне; нівелірóўка (*тс. перан.*)

**Gléichmaß** *n* -es суразмéрнасць, сімéтрыя

**gléichmäßig** *a* раўнамéрны, суразмéрны, сувымéрны

**Gléichmäßigkeit** *f* -, -en суразмéрнасць, адпавéднась, сіметры́чнасць; раўнамéрнасць

**Gléichmut** *m* -(e)s раўнадýшнасць, абыякавасць; ~ ***bewáhren*** заставáцца раўнадýшным; ***aus dem ~ wérfen**** вы́весці са стáну раўнадýшнасці

**gléichmütig** *a* раўнадýшны, абыя́кавы; спакóйны

**gléichnamig** *a* аднаймéнны; ***~e Ménschen*** цёзкі; ***Brüche ~ máchen*** *матэм.* прывóдзіць дрóбы да агýльнага назóўніка

**Gléichnamigkeit** *f* - аднаймéннасць

**Gléichnis** *n* -ses, -se параўнáнне; пры́тча; ***in ~sen réden*** выкáзвацца алегары́чна [іншасказáльна]

**Gléichrichter** *m* -s, - *эл.* выпрамля́льнік

**gléichsam** *adv* як бы́ццам, нíбы, нібы́та, так сказáць

**gléichschalten** *аддз.* **1.** *vt* уніфікавáць **2. ~, sich** дапасóўвацца

**Gléichschaltung** *f* - уніфікáцыя

**gléichschenk(e)lig** *a матэм.* раўнабéдраны

**Gléichschritt** *m* -(e)s мéрны крок; ***im ~*** *вайск.* у нагý; ***áußerhalb des ~(e)s*** не ў нагý

**gléichsehen*** *аддз. vi* (*D*) быць падóбным (*да каго-н., да чаго-н.*); ***das sieht ihm gleich*** гэ́та на ягó падóбна

**gléichseitig** *a* раўнабóкі

**gléichsetzen** *аддз. vt* прыраўнóўваць; ***etw. einánder ~*** атаясáмліваць

**gléichstehen*** *аддз. vi* (*D, an D*) быць нараўнé (*з кім-н., чым-н.*), стая́ць на аднóлькавай вышынí (*з кім-н., чым-н.*)

**gléichstellen** *аддз.* **1.** *vt* (*mit D*) раўня́ць, стáвіць нарóўні (*каго-н., што-н. з кім-н., чым-н.*) **2. ~, sich** стáвіць сябé нарóўні [на аднý дóшку] з кім-н.

**Gléichstimmigkeit** *f* - 1) *муз.* унісóн 2) згóда

**Gléichstrom** *m* -(e)s, -ströme *эл.* пастая́нны ток

**Gléichstrommotor** *m* -s, -en рухавíк пастая́ннага тóку

**gléichtun*** *аддз. vt*: es ***j-m ~*** брáць пры́клад (*з каго-н., чаго-н.*); імітавáць (*каго-н., што-н.*); пераймáць; ***álles j-m ~*** пераймáць кагó-н. ва ўсíм

**Gléichung** *f* -, -en *матэм.* ураўнéнне

**gleichvíel** *adv* усё рóўна, як бы там ні былó

**gléichwertig** *a* раўнацэ́нны, эквівалéнтны

**Gléichwertigkeit** *f* - раўнацэ́ннасць; эквівалéнтнасць

**gléichwie** *cj* падóбна да тагó як, таксáма як і; нíбы, бы́ццам

**gléichwink(e)lig** *a матэм.* роўнавугóльны

**gléichwohl** *cj* усё ж, аднáк, нягле́дзячы на тóе, насýперак гэ́таму

**gléichzeitig** **1.** *a* адначасóвы, аднача́сны **2.** *adv* адначасóва, рáзам, у адзíн і той жа час

**Gléichzeitigkeit** *f* - адначасóвасць, сінхрóннасць

**Gleis** *n* -es, -e *гл.* Geléise

**Gléisbett** *n* -(e)s, -en палатнó чыгýнкі

**Gléisner** *m* -s, - крывадýшнік, ханжá, аблýднік

**Gleiß** *m* -es *паэт.* бляск, лоск

**gléißen*** *vi* (я́рка) блішчэ́ць

**gléißend** бліскýчы, блішчáсты

**Gléitbahn** *f* -, -en каўзéль, катóк; павéрхня кóўзання

**Gléitboot** *n* -(e)s, -e *марск.* глíсер

**gléiten*** *vi* 1) слíзгаць, слізгацéць, паслізнýцца; ***aus den Händen ~*** вы́слізнуць з рук 2) (*h*) *ав.* планíраваць

**Gléiter** *n* -s, - 1) планёр 2) глíсер

**Gléitflieger** *m* -s, - планеры́ст

**Gléitflug** *m* -(e)s, -flüge планíруючы палёт

**Gléitflugzeug** *n* -(e)s, -e *ав.* планёр

**Gléitlager** *n* -s, - *тэх.* падшы́пнік

**gléitsicher** *a* някóўзкі, устóйлівы сýпраць слíзгання

**Gléitung** *f* -, -en *тэх.* слíзганне; *ав.* планíраванне, парэ́нне

**Glétscher** *m* -s, - ляднíк, ледавíк, глéтчар

**Glétscherbrille** *f* -, -n снéжныя акуля́ры

**glich** *impf ад* gléichen*

**Glied** *n* -(e)s, -er 1) член (*цела*) 2) звянó (*ланцуга*) 3) *вайск.* шарэ́нга; ***in Reih und ~*** у страí; ***ins ~ tréten**** стаць у строй; ***in Reih und ~ stéhen**** стая́ць стрóем [у страí]

**Glíederfüßer** *m* -s, - членістанóгі

**Glíederlähmung** *f* - паралíч [*разм.* парá-

люш] кане́чнасцей

**glíedern** *vt* расчляня́ць, дзялі́ць

**Glíederpuppe** *f* -, -n манеке́н; марыяне́тка

**Glíeder|reißen** *n* -s; **~schmerz** *m* -es, -en боль [ламо́та] у суста́вах

**Glíederung** *f* -, -en 1) расчляне́нне, структу́ра, арганіза́цыя, класіфіка́цыя 2) *вайск.* баявы́ пара́дак

**Glíedmaßen** *pl* чле́ны, кане́чнасці; ***mit héilen ~ davónkommen**** заста́цца цэ́лым і непашко́джаным

**glímmen*** *і па слаб. спр. vi* тлець

**Glímmer** *m* -s, - 1) слюда́ 2) мільгаце́нне, сла́бае святло́

**glímpflich 1.** *a* пабла́жлівы, нястро́гі, мя́ккі, лаго́дны **2.** *adv* пабла́жліва, мя́кка ◊ ~ ***davónkommen**** лёгка адчапі́цца [адкруці́цца]

**glítschen** *vi* (*s, h*) слі́згаць, слізгаце́ць; ко́ўзацца; глісі́раваць

**glítsch(e)rig** *a* слі́зкі, ко́ўзкі

**glitt** *impf ад* gléiten*

**glítzern** *vi* блішча́ць, блі́скаць, зіх(а)це́ць

**globál** *a* агу́льны, глаба́льны, тата́льны

**Globetrotter** ['glo:bətrɔtər *і* 'glo:ptrətər] *m* -s, - чалаве́к, які́ туля́ецца па све́це, сусве́тны валацу́га

**Glócke** *f* -, -n звон, звано́к; ***etw. an die gróße ~ hängen*** разно́сіць што-н. (*напр., чутку*), выдава́ць што-н. (*напр., сакрэт*)

**Glóckenblume** *f* -, -n *бат.* звано́чак

**glóckenförmig** *a* звонападо́бны, у вы́глядзе звана́

**Glócken|geläut** *n* -(e)s, -, **~geläute** *n* -s, - звон, перазво́н

**Glóckenrock** *m* -(e)s, -röcke шыро́кая спадні́ца, спадні́ца «клёш»

**Glóckenschlag** *m* -(e)s, -schläge 1) удар звана́ 2) бой гадзі́нніка; ***er kommt mit dem*** ~ ён прыхо́дзіць хвілі́на ў хвілі́ну

**Glóckenspiel** *n* -(e)s звон, перазво́н, біццё (ве́жавага) гадзі́нніка [кура́нтаў]; кура́нты

**Glóckenturm** *m* -(e)s, -türme звані́ца

**Glóckenzeichen** *n* -s, - звано́к (*сігнал*); ***auf das*** ~ па званку́

**Glöckner** *m* -s, - звана́р

**glomm** *impf ад* glímmen*

**Glóri¦e** *f* -, -n сла́ва, бляск, блі́ску́часць; арэо́л; ***mit ~ umgében**** акружы́ць бля́скам [арэо́лам] сла́вы; ***sich in vóller ~ zéigen*** паказа́цца ва ўсі́м сваі́м бля́ску

**Glóri¦enschein** *m* -(e)s, -, **Glorióle** *f* -, -n арэо́л

**glórreich** *a* сла́ўны, славу́ты

**Glossár** *n* -s, -e *і* -en гласа́рый, тлумача́льны слоўнік

**Glósse** *f* -, -n тлумачэ́нне, заўва́га (*на палях*), камента́рый; ***séine ~n máchen*** рабі́ць іранічныя заўва́гі

**Glótzauge** *m* -s, -n *мед.* вірлаво́касць, лупа́тасць, зірка́тасць; ***~n máchen*** вы́тарашчыць [вы́каціць] во́чы

**glótzäugig** *a* вірлаво́кі, лупа́ты, зірка́ты

**glótzen** *vi* (*auf A*) глядзе́ць, вылу́пліваць во́чы, утаро́піцца (*на каго-н., што-н.*)

**Glótzer** *m* -s, - разява́ка

**Gloxíni¦e** *f* -, -n *бат.* глаксі́нія

**Glück** *n* -(e)s шча́сце, по́спех; ~ ***háben*** шанцава́ць; ~ ***auf!*** у до́бры час!; ***auf gut ~*** наўда́чу, на шча́сце; наўга́д ◊ ***mehr ~ als Verstánd háben*** ≅ ду́рням шанцу́е; ***das ~ ist ihm hold*** яму́ смяе́цца шча́сце; ***sein ~ versúchen*** паспрабава́ць шча́сця

**Glückáb** *n* -s прывіта́нне ў лётчыкаў перад палётам (шчаслі́вай паса́дкі!)

**Glückáuf** *n* -s пажада́нне ўда́чы ў гарнякоў

**Glúcke** *f* -, -n квакту́ха

**glúcken** *vi* 1) куда́хкаць, квахта́ць 2) бу́лькаць 3) *разм.* сядзе́ць без спра́вы, гульта́йнічаць

**glücken** *vi* (*h, s*) *і vimp* пашанцава́ць, пашча́сціць; ***es ist schlecht [übel genúg] geglückt*** гэ́та ско́нчылася няўда́чна

**glücklich 1.** *a* шчаслі́вы, шча́сны, уда́лы, паспяхо́вы; ***~e Réise!*** шчаслі́вай даро́гі! **2.** *adv* шчаслі́ва

**Glückliche** *sub m, f* -n, -n шчаслі́вец, -лі́ўка ◊ ***dem ~n schlägt kéine Stúnde***

шчаслíвыя на час не зважáюць

**glücklicherweise** *adv* на шчáсце

**glücklos** *a* няшчáсны

**Glücksbote** *m* -n, -n прадвéснік шчáсця

**glückselig** *a* шчаслíвы, шчáсны

**Glückseligkeit** *f* - шчáсце; раскóша, асалóда

**glúcksen** *vi* 1) квактáць 2) бýлькаць, булькатáць

**Glücksfall** *m* -(e)s, -fälle шчаслíвы вы́падак

**Glücks|kind** *n* -(e)s, -er, **~pilz** *m* -es, -e шчаслíўчык, улюбёнец лёсу

**Glücksritter** *m* -s, - авантуры́ст

**Glücksspiel** *n* -(e)s, -e азáртная гульня́

**glückstrahlend** *a* які́ ззя́е ад шчáсця

**glückverheißend** *a* які́ [што] абяцáе шчáсце

**Glückwunsch** *m* -(e)s, -wünsche віншавáнне; ***j-m (zu D) ~ ábstatten*** віншавáць кагó-н. з чым-н., жадáць [зы́чыць] камý-н. шчáсця; méinen ***hérzlichsten ~!*** (прымí, -це) маё сардэ́чнае віншавáнне!

**Glückwunschschreiben** *n* -s, - віншавáльны ліст

**Glühbirne** *f* -, -n ля́мпачка напáльвання

**glühen 1.** *vt* напáльваць, награвáць **2.** *vi* палáць, гарэ́ць, распáльвацца

**glühend** *a* распáлены; *перан.* пáлкі, гарáчы; ***~e Hítze*** спёка

**Glühfaden** *m* -s, -fäden ніць напáлу

**Glühlampe** *f* -, -n ля́мпачка напáльвання

**Glűhwürmchen** *n* -s, - светлячóк

**Glut** *f* -, -en спёка, гарачыня́, жар, пéкла

**glútrot** *a* барвóвы, агнíста-чырвóны

**Glúthauch** *m* -(e)s, -e гарáчы пóдых [павéў] (*пра пустыню*)

**glútheiß** *a перан.* агнíсты, пáлкі

**Glútsicherheit** *f* - *тэх.* гарачатрывáласць, вогнетрывáласць

**Gnáde** *f* - мíласць, лíтасць; ***auf ~ und Úngnade*** на лíтасць перамóжцы; ***aus ~*** з лáскі; ***um ~ bítten**** прасíць лíтасці; ***j-n in ~ entlássen**** лíтасціва [мíласціва, лáскава] адпусцíць кагó-н.

**Gnádenbrot** *n* -(e)s мíласціна; ***das ~ éssen**** быць нахлéбнікам

**Gnádenfrist** *f* -, -en ільгóтны тэ́рмін

**Gnádengesuch** *n* -(e)s, -e прашэ́нне аб памíлаванні

**Gnádenstoß** *m* -es, -stöße апóшні ўдар (*паляўнічага, кáта*); ***j-m den ~ gében**** дабíць, прыкóнчыць кагó-н. (*пазбавіўшы ад пакут*)

**gnädig** *a* лíтасцíвы, прыхíльны; ***~er Herr!*** вáша мíласць,васпáне!; ***~e Frau!*** вáша мíласць (*пра жанчыну*)!, васпáні!

**Gneis** *m* -es, -e *мін.* гнейс

**Gnom** *m* -en, -en гном, кáрлік

**Góckel** *m* -s, - пéвень

**Gold** *n* -(e)s зóлата; ***gedíegenes ~*** самарóдак зóлата; ***in ~ záhlen*** плацíць зóлатам; ***das ist ~(es) wert, das ist nicht mit dem ~ zu bezáhlen*** гэ́таму нямá цаны́

**Góldanstrich** *m* -(e)s, -e пазалóта

**Góldbarren** *m* -s, - залаты́ злíтак

**gólden** *a* залаты́; ***das ~e Zéitalter*** залаты́ век; ***~e Bérge versprécheń**** абяцáць залаты́я гóры; ***éine ~e Medáille*** [-ˈdaljə] залаты́ медáль; ***die ~e Régel*** *матэм.* трайнóе прáвіла

**Góldfelder** *pl* залаты́я рóссыпы

**Góldfuchs** *m* -es, -füchse конь ры́жай мáсці, булáны конь

**Góldgräber** *m* -s, - золаташукáльнік

**Góldgrube** *f* -, -n капáльня зóлата; *перан.* залатóе дно

**góldhaltig** *a* залатанóсны

**góldig** *a* 1) залацíсты 2) мíлы, чарóўны, прывáбны

**Góldklumpen** *m* -s, - злíтак [самарóдак] зóлата

**Góldmacher** *m* -s, - алхíмік

**Góldschatz** *m* -es 1) *фін.* залатáя ная́ўнасць 2) (залаты́) скарб

**Góldschmied** *m* -(e)s, -e ювелíр

**Góldstück** *n* -(e)s, -e залаты́ (*манета*), чырвóнец

**Golf I** *m* -(e)s, -e залíў (*марскі*)

**Golf II** *n* -s *спарт.* гольф; ***~ spíelen*** гуля́ць у гольф

**Góndel** *f* -, -n гандóла

**Gong** *m*, *n* -s, -s гонг; *муз.* тамтáм

**góngen** *vi* біць у гонг

**gönnen** *vt* 1) не зайздрóсціць (*чаму-н.*), (па)жадáць 2) дазваля́ць, удастóйваць;

даваць магчымасць; ~ ***Sie mir die Rúhe!*** дайце мне спакою!; ***j-m álles Gúte*** ~ жадаць каму-н. усяго добрага; ***j-m sein Glück*** ~ рáдавацца чыйму-н. шчáсцю; ***sich (D) etw.*** ~ дазвóліць сабé што-н.; ~ ***Sie sich die Zeit!*** Не спяшáйцеся!; ***j-m die Éhre*** ~ удастóіць кагó-н. гóнару
**Gönner** *m* -s, - добразычлíвец; застýпнік
**gönnerhaft** *a* добразычлíвы, застýпніцкі
**Gönnerschaft** *f* - застýпніцтва, пратэ́кцыя
**gor** *impf ад* gären*
**górdisch**: ***~er Knóten*** гóрдзіеў вýзел; ***den ~en Knóten lösen [zerháuen]*** рассячы́ гóрдзіеў вýзел; ***ein ~er Fall*** заблы́таная спрáва
**Göre** *f* -, -n 1) малóе (дзіця́) 2) дзёрзкая дзяўчы́нка
**goss** *impf ад* gíeßen*
**Gósse** *f* -, -n вадасцёкавы жóлаб, сцёкавая канáўка
**Gótik** *f* - *гіст.* гóтыка, гаты́чны стыль
**gótisch** *a* 1) гаты́чны 2) *гіст.* гóцкі
**Gott** *m* -es, Götter Бог, бóжышча; ~ ***sei Dank!*** дзя́куй Бóгу!; ~ ***beföhlen!*** з Бóгам!; ***um ~es wíllen!*** далібóг!; ~ ***bewáhre [behüte]!*** барані́ [крый] Бóжа!; ***zu*** ~ ***béten*** малíцца Бóгу; ~ ***hábe ihn sélig!*** цáрства ямý нябéснае!; ***auf*** ~ ***báuen*** спадзявáцца на Бóга; ***weiß ~!*** Бог вéдае!
**góttbegnadet** *a* таленавíты
**gott|behüte!, ~bewáhre!** *int* не дай Бóжа!
**Gőtterdämmerung** *f* -, -n 1) заняпáд 2) *міф.* змрок багóў
**Góttergebenheit** *f* - набóжнасць, пакóрлівасць (*Божай волі*), пакóра
**Góttesdienst** *m* -es, -e набажэ́нства, імшá
**góttesfürchtig** *a* богабая́зны
**Gótteslästerung** *f* -, -en блюзнéрства, кашчýнства
**Góttheit** *f* -, -en бóжышча
**Göttin** *f* -, -nen багíня
**göttlich** *a* бóскі, бóжы; *перан. тс.* цудóўны
**góttlob!** *int* дзя́куй Бóгу!
**góttlos** *a* бязбóжны
**Góttlose** *sub m, f* -n, -n бязбóжнік, -ніца; атэíст, -ка
**Góttlosigkeit** *f* - бязбóжнасць
**Góttseligkeit** *f* - набóжнасць
**góttsjämmerlich 1.** *a* вáрты жáлю, убóгі **2.** *adv* стрáшна, жахлíва; ***sich ~ fühlen*** адчувáць сябé зусíм дрэ́нна
**Götze** *m* -n, -n, **Götzenbild** *n* -(e)s, -er íдал, кумíр
**Götzendiener** *m* -s, - ідалапаклóннік
**Götzendienst** *m* -(e)s ідалапаклóнства
**Gouvernánte** [guvɛr-] *f* -, -n гувернáнтка
**Gouvernement** [guvɛrnəˈmã:] *n* -s, -s *гіст.* губéрня
**Gouverneur** [guvɛrˈnø:r] *m* -s, -e 1) губернáтар 2) гувернёр
**Grab** *n* -(e)s, Gräber магíла; ***zu ~e trágen**** хавáць; ***ein frühes*** ~ рáнняя смерць; ***ins ~ bríngen**** давóдзіць да магíлы; ***j-n zu ~e geléiten*** аддáць камý-н. апóшні доўг; ***verschwiegen wie das*** ~ нéмы як магíла
**gráben* 1.** *vt* 1) капáць, рыць; ***in die Érde*** ~ рыць зямлю́ **2)** (*nach D*) шукáць (*у зямлі – руду і г.д.*) **2. ~, sich** закóпвацца, зарывáцца; ***sich ins Gedächtnis*** ~ запáсці ў пáмяць
**Gráben** *m* -s, Gräben роў, канáва; акóп; ***éinen ~ zíehen**** капáць роў
**Grábenkrieg** *m* -(e)s, -e пазіцы́йная вайнá
**Gräber** *m* -s, - 1) землякóп 2) далакóп 3) землекапáлка
**Grábesruhe** *f* - магíльная цíша
**Grábesstille** *f* - мёртвая цішыня́
**Grábgewölbe** *n* -s, - (магíльны) склеп
**Grábhügel** *m* -s, - магíла, кургáн
**Grábmal** *n* -(e)s, -e *i* mäler надмагíльны пóмнік
**Grábrede** *f* -, -n надмагíльная прамóва
**Grábstätte** *f* -, -n магíла
**Grábstein** *m* -(e)s, -e надмагíльны кáмень
**Gracht** *f* -, -en (гарадскí) суднахóдны канáл
**Grad** *m* -(e)s, -e 1) грáдус; ***fünf ~ Kälte*** пяць грáдусаў марóзу 2) ступéнь; ***bis zu éinem gewíssen ~e*** да нéйкай ступéні; ***im höchsten ~e*** у вышэ́йшай ступéні 2) чын, ранг, ступéнь; ***der akadémische*** ~ акадэмíчнае звáнне; вучóная ступéнь

**Gradatión** *f* -, -en градáцыя
**Grádbogen** *m* -s, - *i* -bögen транспарцíр; *вайск.* квадрáнт
**gráde** *гл.* geráde
**Grádeinteilung** *f* -, -en шкалá, раздзялéнне на грáдусы [па грáдусах]
**Gradíerwerk** *n* -(e)s, -e *тэх.* градзíрня
**Grádmesser** *m* -s, - 1) шкалá 2) грáдуснік 3) крытэ́рый; ***das ist ein ~ für (A)*** гэ́та пакáзчык (*чаго-н.*)
**grádlinig** *a* просталінéйны
**graduéll** *a* пaступóвы
**graduíeren** *vt* 1) прысуджáць акадэмíчную [вучóную] ступéнь 2) градуíраваць, калібравáць
**Graduíerung** *f* - прысуджэ́нне акадэмíчнай [вучóнай] ступéні
**Graf** *m* -en, -en граф
**Grafikprogramm** *n* -s, -e [Gráphik-] *камп.* прагрáма для апрацóўкі графíчных адлюстравáнняў
**Gräfin** *f* -, -nen графíня
**gräflich** *a* грáфскі
**Gráfschaft** *f* -, -en грáфства
**Gram** *m* -(e)s смýтак, журбá, сум, гóра; ***vom ~ gebéugt*** прыцíснуты смýткам [бядóю]
**gram**: ***j-m ~ sein*** злавáцца на кагó-н. (*wegen G – за штo-н.*)
**grämen** **1.** *vt* засмучáць; ***das soll mich wénig ~!*** гэ́та мянé мáла засмучáе! **2. ~, sich** (*um, über A*) сумавáць, жу-рыцца, смуцíцца (*па кім-н., па чым-н.*)
**Gramm** *n* -s, -e грам (*мера вагі*)
**Grammátik** *f* -, -en грамáтыка; ***gégen die ~ verstóßen**** парýшыць прáвілы грамáтыкі
**grammatikálisch**, **grammátisch** *a* граматы́чны
**Grammophón** [Grammofón] *n* -s, -e грамафóн, патэфóн
**grámvoll** *a* журбóтны, смýтны
**Granáte** *f* -, -n гранáта; мíна
**Granáttrichter** *m* -s, - варóнка ад снарáда
**Granátwerfer** *m* -s, - мінамёт
**grandiós** *a* грандыёзны, вéлічны
**Grand Prix** [grã: ˈpri:] *m* -, - гран-пры́, галóўны прыз
**Granít** *m* -s, -e гранíт; ***auf ~ béißen**** паламáць сабé зýбы на чым-н.; наткнýцца на неадóльную перашкóду
**Gránne** *f* -, -n восць, вýсік, шчацíнне
**grántig** *a разм.* буркатлíвы
**Grapefruit** [ˈgre:pfru:t] *f* -, -s *бат.* грэйпфрýт
**Gráphik** [Gráfik] *f* -, -en 1) грáфіка (*твор*) 2) *без pl* грáфіка (*мастацтва*)
**Gráphiker** [Gráfiker] *m* -s, - 1) грáфік (*мастак*) 2) чарцёж
**gráphisch** [gráfisch] *a* графíчны; ***~e Dárstellung*** грáфік, малю́нак
**Graphologíe** [Grafologíe] *f* - графалóгія
**grápschen, grábschen** *vt разм.* прáгна хапáць, цáпаць
**grápsen** *vt разм.* сцíбрыць, укрáсці
**Gras** *n* -es, Gräser травá; ***únter dem ~e líegen**** ляжáць [спачывáць] у магíле; ***ins ~ béißen**** *разм.* адкíнуць капыты́, памéрці ◊ ***darüber ist längst ~ gewáchsen*** ≅ гэ́та былó, ды быллём парасло́; ***er hört das ~ wáchsen**** *іран.* ≅ ён дýмае, што ён наймудрэ́йшы
**grásartig** *a* травяністы; злáкавы
**grásen** *vi* 1) пáсвіцца 2) касíць травý 3) *вайск.* страля́ць насцíльным агнём
**grásfressend** *a* траваéдны
**Grásfutter** *n* -s пáша, паднóжны корм
**Gráshüpfer** *m* -s, - *заал.* кóнік
**grásig** *a* парóслы травóй
**Grásland** *n* -(e)s луг, пáша
**Grásmäher** *m* -s, -, **Grásmähmaschine** *f* -, -n сенакасíлка
**grassíeren** *vi* распаўсю́джвацца, лютавáць (*пра эпідэмію*)
**grässlich** *a* жахлíвы, жýдасны, агíдны
**Grat** *m* -(e)s, -e 1) кант, рабры́на 2) гóрны хрыбéт [краж] 3) *тэх.* задзíрына
**Gräte** *f* -, -n кóстка ры́бы; ***sich an éiner ~ verschlúcken*** падавíцца [удавíцца] ры́бінай кóсткай ◊ ***ein Paar ~n zusámmenbringen**** ≅ сабрáць сякýю-такýю капéйку, кры́ху ўзбíцца на грóшы
**Grätenmusterstich** *m* -(e)s, -e вы́шыўка ў éлачку [éлачкай]

**Gratifikatión** *f* -, -en (аднаразо́вае) грашо́вае ўзнагаро́джанне
**grätig** *a* касці́сты (*пра рыбу*)
**grátis** *adv* дарма́, бяспла́тна; ~ ***und fránko*** *камерц.* бяспла́тна
**grätschen** *vi спарт.* разве́сці но́гі, паста́віць но́гі паасо́бку
**Gratulatión** *f* -, -en віншава́нне
**gratulíeren** *vi* (*j-m zu D*) віншава́ць (*каго-н. з чым-н.*); ***wenn ich dich erwísche, da kannst du dir*** ~ калі́ ты мне пападзе́шся – крыўду́й [наракáй] на сябе́
**gráu** *a* шэ́ры, сівы́; ***sich kéine ~en Háare wáchsen lássen**** не трыво́жыцца, не турбава́цца; ***der ~e Álltag*** шэ́рыя бу́дні; ***das ~e Élend*** непрагля́дная гале́ча
**Grau** *n* -s, - шэ́ры ко́лер
**Gráubart** *m* -(e)s, -bärte стары́; сівáя барадá
**gráuen I** *vi, vimp* днець, шарэ́ць; ***der Mórgen graut*** дне́е
**gráuen II** *vimp i* **~, sich** (*vor D*) бая́цца (*чаго-н.*); ***mir graut davór*** я баю́ся гэ́тага
**Gráuen** *n* -s жах, жу́дасць; агі́да; ***áhnungsvolles*** ~ жахлі́вае прадчува́нне
**gráuhaarig** *a* сівы́, сівавало́сы
**gráuen|haft, ~voll** *a* страшэ́нны, жахлі́вы, жу́дасны
**graumelíert** *a* з сівізно́й; ***~es Háar*** валасы́ з сівізно́й
**gráulen** *vimp i* **~, sich** (*vor D*) *разм.* бая́цца (*каго-н., чаго-н.*)
**Gráupe** *f* -, -n (*часцей pl*) я́чныя кру́пы
**Gráupel** *f* -, -n (*часцей pl*) дро́бны град; кру́пы (*снег*)
**gráupeln** *vimp*: ***es gráupelt*** ідзе́ дро́бны град
**Gráupelz** *m* -es Шэ́ры Воўк (*у казцы*)
**Graus I** *m* -es жах, жу́дасць
**Graus II** *m* -es *уст.* шчэ́бень, друз
**gráusam** *a* бязлі́тасны, лю́ты, жо́рсткі (*gegen A – да каго-н.*)
**Gráusamkeit** *f* -, -en бязлі́таснасць, лю́тасць, жо́рсткасць, бесчалаве́чнасць, зве́рства
**gráusen** *vimp*: ***mir graust davór*** я баю́ся гэ́тага; ***ihm graust davór, es graust ihm davór*** ён гэ́тага на́дта баі́цца, гэ́та наво́дзіць на яго́ жах
**gráusig** *a* жахлі́вы, жу́дасны
**Graveur** [-ˈvø:r] *m* -s, -e гравёр
**Grávis** [-v-] *m* -, - *лінгв.* знак на́ціску (ˋ)
**Gravität** [-vi-] *f* - *часта іран.* ва́жнасць, урачы́стасць; ме́рнасць (*рухаў*)
**Gravitatión** [-vi-] *f* - *фіз.* прыцягне́нне, гравіта́цыя
**gravitätisch** [-vi-] *a часта іран.* пава́жны, ва́жны; ме́рны
**Grázi¦e** *f* 1) -, -en *міф.* гра́цыя 2) - гра́цыя; ***mit*** ~ грацыёзна
**graziös** *a* грацыёзны, згра́бны
**gréifbar** *a* 1) які́ ўспрыма́ецца до́тыкам; ***in ~er Nähe*** у непасрэ́днай блі́зкасці 2) *перан.* віддаво́чны
**gréifen*** *vt, vi* (*nach D, an A, in A, bei D*) 1) хапа́ць, схапі́ць (*каго-н., што-н.*), хапа́цца (*за што-н.*); браць, узя́ць; лаві́ць, злаві́ць (*каго-н., што-н.*); ***die Säge greift gut*** пі́ла́ бярэ́ до́бра; ***j-n beim Krágen*** ~ узя́ць каго́-н. за каршэ́нь [каўне́р]; ***an den Kopf*** ~ хапа́цца за галаву́ (*ад здзіўлення*) ◊ ***das greift an den Béutel*** гэ́та б’е па кішэ́ні; ***falsch*** ~ памыля́цца; ***zu hoch*** ~ запрасі́ць на́дта вялі́кую су́му (*грошай*); ***zu weit*** ~ зайсці́ на́дта далёка [зана́дта хапі́ць]; ***um sich*** ~ хапа́ць вако́л сябе́ рука́мі; распаўсю́джвацца (*пра агонь і г. д.*); ***ins Léere*** ~ не мець [не знайсці́] апо́ры 2) бра́цца, узя́цца (*за што-н.*), звярта́цца (*да чаго-н.*); ***nach dem Buch*** ~ узя́цца за кні́гу, пача́ць чыта́ць; ***zu den Wáffen*** ~ узя́цца за збро́ю; ***zur Flásche*** ~ пача́ць піць запо́ем, запі́ць
**gréinen** *vi* 1) хны́каць; ***im Schlaf*** ~ гавары́ць [мармыта́ць] у сне 2) бу́ркаць, выка́зваць незадаво́ленасць
**Greis** *m* -es, -e стары́ дзед
**Gréisenalter** *n* -s ста́расць
**gréisenhaft** *a* старэ́чы, дру́злы; ***~e Marótten*** старэ́чыя дзіва́цтвы
**Gréisin** *f* -, -nen стара́я, бабу́ля
**grell** *a* 1) рэ́зкі, прарэ́злівы 2) я́ркі, крыклі́вы (*пра колер*)

**Grémium** *n* -s, -mi¦en аб'яднáнне, карпарáцыя; камíсія; калéгія; вучóная рáда
**Grenadíer** *m* -s, -e *гіст.* грэнадзёр
**Grénzanalyse** *f* -, -n *эк., фін.* маржынáльны анáліз
**Grénze** *f* -, -n 1) граніца, мяжá, рубéж; ***die ~ überschréiten**** перайсці граніцу [мяжý]; ***die ~ verlétzen*** парýшыць граніцу [мяжý] 2) граніца, край, мяжá, рубéж; ***álles hat séine ~n*** усямý ёсць канéц
**grénzen** *vi* (*an A*) межавáць (*з чым-н.*); прымыкáць (*да чаго-н.*)
**grénzenlos 1.** *a* бязмéжны, бяскóнцы **2.** *adv* бязмéжна, бяскóнца, беззапавéтна
**Grénzenlosigkeit** *f* - бязмéжнасць, бяскóнцасць; самаадданасць, самаахвярнасць; нястрымнасць, неўтаймавáнасць
**Grénzer** *m* -s, - 1) пагранічнік 2) жыхáр пагранічча [памéжжа]
**Grénzfall** *m* -(e)s, -fälle 1) пагранічны інцыдэнт 2) крáйні вы́падак; ***im ~*** у крáйнім вы́падку
**Grénzlini¦e** *f* -, -n дэмаркацы́йная лінія; мяжá, граніца
**Grénzpfahl** *m* -(e)s, -pfähle пагранічны слуп
**Grénzsperre** *f* - закрыццё граніцы
**Grénzverletzung** *f* -, -en парушэнне граніцы
**Grénzwert** *m* -(e)s, -e *матэм.* гранічнае значэнне
**Grénzzwischenfall** *m* -(e)s, -fälle *гл.* Grénzfall
**Gréuel** *m* -s, - жах, брыдóта; агíда; ***Schrécken und ~*** жах і агíда
**Gréueltat** *f* -, -en гнюснае злачы́нства, звéрства
**gréulich** *a* жахлíвы, жýдасны; агíдны; ***mir ist ~ zumúte [zu Múte]*** мне блáга
**Gríebe** *f* -, -n сквáрка
**Grieche** *m* -n, -n грэк
**gríechisch** *a* грэчаскі, грэцкі
**gríenen** *vi разм.* скáліць зýбы, усміхáцца (*крыва*)
**Gríesgram** *m* -(e)s, -e 1) панýры чалавéк, буркýн 2) панýрасць, бурклíвасць
**gríesgrämig, gríesgrämlich** *a* сварлíвы, панýры, хмýрны
**Gríeß** *m* -es, - 1) мáнныя крупы́ 2) пясóк, жвір 3) *мед.* пясóк (*у нырках*)
**griff** *impf ад* gréifen*
**Griff** *m* -(e)s, -e 1) *спарт.* хвáтка, захóп, прыём; ***ein éiserner ~*** жалéзная хвáтка 2) схóпліванне, хапáнне; ***éinen ~ in etw. (A) tun**** запусціць рукý ў што-н. 3) *pl* хітрыкі, вы́крута; ***~e und Kníffe*** хітрыкі і вы́крута 4) рýчка, дзяржáльна, рукаятка, эфéс; *муз.* грыф
**gríffbereit 1.** *a* зрýчны ў карыстáнні **2.** *adv* напагатóве, пад рукóю
**Gríffel** *m* -s, - 1) гры́фель 2) *бат.* пéсцік
**Gríffhebel** *m* -s, - рýчка, рычáг
**Gríffstange** *f* -, -n парэнча
**Grílle I** *f* -, -n кóнік, цвыркýн
**Grílle II** *f* -, -n капры́з; дзівáцтва; ***~n im Kopf háben*** дзівáчыць
**gríllen** *vt* падсмáжваць (*на рашотцы*)
**Gríllenfänger** *m* -s, - *разм.* меланхóлік
**gríllenhaft** *a* капры́зны
**Grimásse** *f* -, -n грымáса; ***~n schnéiden**** рабіць грымáсы
**Grimm** *m* -(e)s *уст.* лютасць, гнеў; ***séinen ~ an j-m áuslassen**** вы́ліць свой гнеў на кагó-н.
**Grímmen** *n* -s рэзь у жывацé, кóлікі
**grímmig** *a* 1) люты, злóсны 2) *перан.* страшэнны, дзíкі; ***éine ~e Kälte*** люты марóз
**Grímmigkeit** *f* - жóрсткасць, лютасць, злосць
**Grind** *m* -(e)s, -e струп, карóста, лішáй
**gríndig** *a* паршы́вы, пакры́ты карóстай, карóслівы
**grínsen** *vi* скáліць зýбы, ухмыляцца, блюзнéрыць
**Gríppe** *f* -, -n *мед.* грып
**Grips** *m* -es *разм.* рóзум; ***er hat ~ im Kopf*** ён чалавéк кéмлівы
**Grisly** ['grisli] *m* -s, -s, **~bär** *m* -en, -en мядзвéдзь гры́злі
**grob** *a* 1) грýбы, вялíкі 2) неачэсаны; ***~e Árbeit*** чóрная рабóта 3) грýбы (*няветлівы*); ***~er Kerl*** грубіян; ***~er Únfug*** ху-

ліга́нства

**Gróbheit** *f* -, -en гру́басць

**Gróbian** *m* -(e)s, -e грубія́н, наха́бнік

**grόbkörnig** *a* буйназярністы

**gröblich 1.** *a* грубава́ты **2.** *adv* гру́ба; ***sich ~ írren*** ду́жа памыля́цца

**grόbschlächtig** *a* неабчэ́саны, гру́бы

**Grog** *m* -s, -s грог (*напітак*)

**gróggy** ['grɔgi] *a* 1) аслабе́лы ад уда́раў (*бокс*) 2) сто́млены, знямо́глы

**grölen** *vi* крыча́ць, раўці́, гарла́ніць

**Groll** *m* -(e)s злосць, непрыя́знасць; ***éinen ~ gégen j-n hégen*** адчува́ць [мець] зло́бу на каго́-н.

**gróllen** *vi* 1) (*D*) злава́ць (*на каго-н.*) 2) грыката́ць (*пра гром*)

**Grönländer** *m* -s, - грэнла́ндзец

**grönländisch** *a* грэнла́ндскі

**Gros** [gro:] *n* -, - 1) гало́ўная ча́стка 2) *вайск.* гало́ўныя сілы 3) гало́ўная гру́па (*велагонкі*)

**Gróschen** *m* -s, - грош (*манета*); ***kéinen ~ wert sein*** не быць ва́ртым ні шэ́лега ◊ ***bei ihm ist der ~ gefállen*** нарэ́шце да яго́ дайшло́; ***der ~ bringt den Táler*** ≅ капе́йка рубе́ль зберага́е

**groß 1.** *a* 1) вялікі, буйны́; ***ein ~er Búchstabe*** вялі́кая лі́тара 2) вялікі, даро́слы 3) ве́лічны, высакаро́дны; ***éinen ~en Herrn spíelen*** уяўля́ць ва́жнага па́на 4) зна́чны, ва́жны; ***ein ~er Tag*** вялікі [урачы́сты] дзень ◊ ***Groß und Klein*** стары́ і малы́; ***~e Áugen máchen*** вы́трашчыць [вы́лупіць] во́чы (*ад здзіўлення*); ***das ~e Wort führen*** ≅ задава́ць тон, ігра́ць пе́ршую скры́пку; ***der Gróße Teich*** *жарт.* Атланты́чны акія́н; ***auf ~em Fuß lében*** жыць на шыро́кую нагу́ **2.** *adv*: ***im Größen und Gánzen*** уво́гуле і ца́лкам; ***etw. ~ schréiben**** піса́ць што-н. з вялі́кай лі́тары; надава́ць чаму́-н. вялі́кае значэ́нне; ***im Größen geséhen*** разгляда́ючы (*што-н.*) у агу́льным пла́не

**gróßartig** *a* ве́льмі до́бры, цудо́ўны, грандыё́зны, адмысло́вы

**Gróßaufnahme** *f* -, -n (кіна)зды́мка буйны́м пла́нам

**Gróßbauer** *m* -n *i* -s, -n буйны́ [замо́жны] селянін; *гіст.* кула́к

**Gróßbetrieb** *m* -(e)s, -e буйна́я вытво́рчасць, буйно́е прадпрые́мства

**Gróßblockbauweise** *f* -, -n буйнабло́чнае будаўні́цтва

**Gróßhandelspreisindex** *m* -es, -e *камерц.* і́ндэкс о́птавых цэн

**Gróßhandelsunternehmen** *n* -s, - прадпрые́мства апто́вага га́ндлю

**Größe** *f* -, -n 1) велічыня́, паме́р; рост; ***in gánzer ~*** на ўве́сь рост 2) славу́тасць, славу́ты чалаве́к 3) ве́ліч

**Gróßeinkaufspreis** *m* -es, -e апто́вая заку́пачная ца́на

**Gróßeinsatz** *m* -es, -sätze буйно́е мерапрые́мства; ма́савы ўдзе́л (*bei, zu D – у чым-н.*)

**Gróßeltern** *pl* дзед і ба́бка

**Gróßenkel** *m* -s, - пра́ўнук

**Größentabelle** *f* -, -n табліца паме́раў

**größenteils** *гл.* größtenteils

**Größenwahn** *m* -(e)s ма́нія вялі́касці

**größenwahnsinnig**: ~ ***wérden*** перажыва́ць ма́нію вялі́касці

**Gróßgrundbesitz** *m* -es, -e буйно́е землеўлада́нне

**Gróßgrundbesitzer** *m* -s, - буйны́ землеўлада́льнік

**Gróßhandel** *m* -s апто́вы га́ндаль; ~ ***tréiben**** гандлява́ць о́птам; ***im ~*** о́птам

**gróßherzig** *a* 1) велікаду́шны; шляхе́тны, высакаро́дны 2) му́жны

**Gróßherzigkeit** *f* - 1) велікаду́шнасць, шляхе́тнасць; высакаро́днасць 2) му́жнасць

**Gróßhirn** *n* -(e)s, -e галаўны́ мозг

**Gróßindustrie** *f* -, -stri¦en буйна́я прамысло́васць

**Grossíst** *m* -n, -en апто́вы гандля́р, аптаві́к

**gróßjährig** *a* паўнале́тні, даро́слы

**Gróßjährigkeit** *f* - даро́сласць, паўнале́цце

**Gróßkaufmann** *m* -(e)s, -leute буйны́ камерса́нт, буйны́ гандля́р

**Gróßmacht** *f* -, -mächte вялі́кая дзяржа́ва, супердзяржа́ва

**Gróßmama** *f* -, -s *разм.* бабу́ля
**Gróßmaul** *n* -(e)s, -mäuler хвалько́, балбату́н
**gróßmäulig** *a* балбатлі́вы, выхва́льны
**Gróßmeister** *m* -s, - *шахм.* гросма́йстар
**Gróßmut** *f* - велікаду́шнасць, высакаро́днасць; *~ üben* праяўля́ць велікаду́шнасць
**gróßmütig** *a* велікаду́шны, шляхе́тны
**Gróßmutter** *f* -, -mütter бабу́ля, ба́бка
**Gróßpapa** *m* -s, -s *разм.* дзед, дзяду́ля
**Gróßplattenbauweise** *f* -, -n *буд.* буйнапанэ́льнае будаўні́цтва
**Gróßreinemachen** *n* -s, - генера́льная ўбо́рка
**gróßschnäuzig** *a разм.* выхва́льны
**Gróßsprecher** *m* -s, - ама́тар гу́чных слоў, хвалько́
**gróßspurig** *a разм.* фанабэ́рысты, ганары́сты
**Gróßstadt** *f* -, -städte вялі́кі го́рад, буйны́ цэнтр
**Gróßstädter** *m* -s, - жыха́р вялі́кага го́рада
**gróßstädtisch** *a* гарадскі́; сталі́чны
**Gróßtat** *f* -, -en сла́ўны по́дзвіг, вялі́кая спра́ва
**größtenteils** *adv* перава́жна, гало́ўным чы́нам, у бо́льшасці
**gröʹßtmöglich** a 1) магчы́ма [як мага́] бо́льшы 2) усяме́рны, максіма́льна магчы́мы
**Gróßtuer** *m* -s, - *разм.* хвалько́, зазна́йка
**gróßtuerisch** *a* выхва́льны, фанабэ́рысты, пыхлі́вы
**gróßtun*** *vi* хвалі́цца, выхваля́цца (*mit D – чым-н.*), задзіра́ць нос (угару́)
**Gróßunternehmer** *m* -s, - буйны́ прадпрыма́льнік
**Gróßvater** *m* -s, -väter дзед, дзяду́ля
**gróßväterlich** *a* дзе́даўскі
**Gróßveranstaltung** *f* -, -en вялі́кі сход, ма́савае мерапрые́мства, вялі́кая імпрэ́за
**Gróßvieh** *n* -(e)s буйна́я рага́тая жывёла
**Gróßwürdenträger** *m* -s, - ва́жны сано́ўнік
**gróßziehen*** *аддз. vt* 1) выро́шчваць, разво́дзіць 2) выхо́ўваць, выгадо́ўваць
**gróßzügig** *a* шыро́кі (па нату́ры); шчо́дры, велікаду́шны, высакаро́дны; ***ein ~er Plan*** грандыёзны план
**Gróßzügigkeit** *f* - шырыня́ по́глядаў, шырыня́ нату́ры
**grotésk** *a* гратэ́скавы, вы́чварны, дзі́ўны
**Grotéske** *f* -, -n 1) *архіт.* гратэ́ск, вы́чварны [мудраге́лісты] арна́мент 2) *літ.* гратэ́ск, во́страя саты́ра
**Grótte** *f* -, -n грот
**grub** *impf ад* gráben*
**Grübchen** *n* -s, - я́мачка
**Grúbe** *f* -, -n 1) я́ма; нара́ 2) рудні́к, капа́льня 3) *анат.* па́зуха, упа́дзіна ◊ ***j-n in die ~ bríngen**** увагна́ць каго́-н. у магі́лу [палажы́ць у труну]
**Grübeléi** *f* -, -en ро́здум, ма́ры, летуце́нні; ***sich ~en híngeben**** аддава́цца ма́рам
**grübeln** *vi* (*über A*) ду́маць, развaжа́ць, лама́ць сабе́ галаву́ (*над чым-н.*)
**Grúbenarbeiter** *m* -s, - шахцёр, гарня́к
**Grúbenbetrieb** *m* -(e)s, - эксплуата́цыя рудніка́ [капа́льні]
**Grúbenbau** *m* -(e)s го́рная [рудні́чная] распрацо́ўка
**Grúbengas** *n* -es, - руднiко́вы газ, мета́н
**Grübler** *m* -s, - летуце́ннік
**grüblerisch** *a* схі́льны да до́ўгіх развaжа́нняў; летуце́нны
**Gruft** *f* -, Grüfte (магі́льны) склеп; магі́ла
**grúmmeln** *vi разм.* 1) мармыта́ць; ду́цца (*на каго-н.*) 2) груката́ць
**Grúmmet** *n* -s, **Grumt** *n* -(e)s ата́ва
**grün** *a* зялёны; няспе́лы; малады́; ***ein ~er Júnge*** *разм.* малакасо́с; ***~es Holz*** сыры́я дро́вы
**Grün** *n* -s 1) зялёны ко́лер 2) зеляні́на, зе́лень, зяле́ніва; ***ins Grüne fáhren**** пае́хаць за го́рад [на ўло́нне прыро́ды]
**Grünanlage** *f* -, -n сквер, зялёныя паса́дкі
**Grund** *m* -(e)s, Gründe 1) глéба, грунт; ***der ~ und Bóden*** зямля́, зяме́льнае вало́данне, землеўлада́нне 2) дно; ***ein Schiff in den ~ bóhren*** патапі́ць карабе́ль, пусці́ць карабе́ль на дно; ***das Schiff sinkt [geht] zu ~e*** карабе́ль ідзе́ на дно 3) падста́ва, прычы́на; ***von ~***

***aus*** грунтóўна, карэ́нным чы́нам; ***im ~e genómmen*** па сýтнасці; ***man hat állen ~ ánzunehmen**** ёсць усé падстáвы меркавáць; ***dazú liegt áller ~ zuvór*** на гэ́та мáюцца ўсé падстáвы; ***Gründe géltend máchen*** выстаўляць прычы́ны ◊ ***in ~ und Bóden*** канчаткóва

**Grúndausbildung** *f* - папярэ́дняя падрыхтóўка, вывучэ́нне аснóў (*якой-н. дысцыпліны, навукі*); *вайск.* страявáя падрыхтóўка

**Grúndbedingung** *f* -, -en галóўная ўмóва

**Grúndbegriff** *m* -es, -e аснóўнае панятце

**Grúndbesitz** *m* -es, -e зямéльная ўлáснасць, землеўладáнне

**Grúndbesitzer** *m* -s, - землеўладáльнік

**Grúndbestandteil** *n* -s, -e галóўная чáстка

**Grúndeigentum** *n* -s зямéльная ўлáснасць, улáснасць на зямлю

**gründen 1.** *vt* 1) заснóўваць, утварáць; ***éine Famíli¦e ~*** завéсці сям'ю 2) (*auf A, auf D*) абгрунтóўваць (*чым-н.*) **2. ~, sich** (*auf A*) грунтавáцца (*на чым-н.*)

**Gründer** *m* -s, - заснавáльнік

**grúndfalsch** *a* па сваёй сýтнасці фальшы́вы; няпрáвільны, няслýшны

**Grúndfarbe** *f* -, -n грунтавáя фáрба, грунтóўка

**Grúndfehler** *m* -s, - галóўная [карэ́нная] памы́лка

**Grúndfeste** *f* -, -n аплóт; фундáмент; *pl тс.* аснóвы

**Grúndfreiheiten** *pl* аснóўныя [палíты́чныя] свабóды

**Grúndgedanke** *m* -ns, -n галóўная дýмка; ідэ́я

**grundíeren** *vt* грунтавáць

**Grúndkenntnisse** *pl* аснóвы навýк [вéдаў]

**Grúndlage** *f* -, -n аснóва, бáзіс, фундáмент; ***etw. auf éine néue ~ stéllen*** падвéсці нóвую бáзу пад што-н.; ***die ~ scháffen**** заклáсці аснóвы; ***es dient als ~*** гэ́та слýжыць падстáвай; ***auf der ~ von (D)*** на падстáве (*чаго-н.*)

**grúndlegend** *a* аснóўны, прынцыпóвы; ***die ~e Fráge*** карэ́ннае [грунтóўнае] пытáнне

**gründlich 1.** *a* грунтóўны, тры́вáлы **2.** *adv* грунтóўна, мóцна; ***j-m ~ die Méinung ságen*** сказáць камý-н. прáўду ў вóчы

**Gründlichkeit** *f* - грунтóўнасць, трывáласць, глыбіня́

**Grúndlini¦e** *f* -, -n 1) аснóўная лíнія, галóўная ры́са 2) *матэм.* аснóва, бáзіс

**grúndlos** *a* 1) бяздóнны 2) негрунтóўны, беспадстáўны; беспрычы́нны

**Grúndlosigkeit** *f* - беспадстáўнасць, негрунтóўнасць, галаслóўнасць

**Gründonnerstag** *m* -(e)s, -e *рэл.* Перадвелікóдны [Чы́сты] чацвéр

**Grúndpreis** *m* -es, -e *камерц.* бáзісная ценá

**Grúndrechnungsart** *f* -, -en *матэм.* дзéянне; ***die vier ~en*** чаты́ры дзéянні (*арыфметыкі*)

**Grúndrente** *f* -, -n зямéльная рэ́нта

**Grúndrichtung** *f* -, -en галóўны напрáмак

**Grúndriss** *m* -es, -e 1) план; абры́с 2) аснóвы

**Grúndsatz** *m* -es, -sätze аснóўнае прáвіла, пры́нцып; аксіёма; ***es sich zum ~ máchen*** узяць сабé за прáвіла

**grúndsätzlich** *a* прынцыпóвы

**Grúndsatzprogramm** *n* -s, -e галóўная прагрáма (*дзеяннеяў*)

**Grúndschule** *f* -, -n пачаткóвая шкóла

**Grúndstein** *m* -(e)s, -e фундáментны кáмень, краевугóльны кáмень; ***den ~ zu etw. légen*** заклáдваць падмýрак чагó-н.

**Grúndstellung** *f* -, -en 1) *спарт.* аснóўнае [зыхóднае] станóвішча 2) *вайск.* страявáя стóйка

**Grúndsteuer** *f* -, -n пазямéльны падáтак

**Grúndstoff** *m* -(e)s, -e *хім.* элемéнт

**Grúndstück** *n* -(e)s, -e зямéльны ўчáстак

**Grúndstufe** *f* -, -n звычáйная ступéнь (*параўнання*)

**Gründung** *f* -, -en заснавáнне; стварэ́нне

**Gründungsfeier** *f* -, -n урачы́стасць з нагóды заснавáння [установы, заклáдкі] чагó-н.

**grúndverschieden** *a* прынцыпóва (ад)рóзны

**Grúndwasser** *n* -s, - грунтавáя вадá

**Grúndwissen** *n* -s бáзавыя веды; аснóвы

навýк

**Grúndwort** *n* -(e)s, -wörter галóўнае слóва, галóўная чáстка складáнага слóва

**Grúndwortbestand** *m* -(e)s, -stände аснóўны слóўнікавы фонд

**Grúndzahlwort** *n* -(e)s, -wörter *грам.* кóлькасны лічэ́бнік

**Grúndzug** *m* -(e)s, -züge аснóўная [галóўная] ры́са

**Grüne** *n* -n: ***ins ~ fáhren**** паéхаць за гóрад [на ўлóнне прырóды]

**grünen** *vi, vimp* зелянéць ◊ ***es grünte in séinem Hérzen*** у ягó сэ́рца рáдавалася

**grünlich** *a* зеленавáты

**Grünschnabel** *m* -s, -schnäbel *разм.* малакасóс, блазню́к

**Grünspan** *m* -(e)s мядзя́нка (*фарба*); ***voll ~ sítzen**** пазелянéць (*пра метал*)

**grúnzen** *vi* рóхкаць

**Grünzeug** *n* -(e)s зéлень, зялéніва; (а)гарóдніна

**Grúppe** *f* -, -n грýпа; дружы́на; ансáмбль; *вайск.* аддзялéнне

**grúppenweise** *adv* па грýпах, грýпамі

**grúppieren 1.** *vt* групавáць **2. ~, sich** (*zu D – як-н., у што-н.*) групавáцца

**Grúppierung** *f* -, -en групóўка; групавáнне

**Grus** *m* -es, -e *горн.*, *геал.* (вýгальная) дрóбязь, штыб

**grúselig** *a* жýдасны, страшэ́нны

**Grusín(i)er** *m* -s, - *гл.* Geórgi¦er

**grusínisch** *a гл.* geórgisch

**Gruß** *m* -es, Grüße паклóн, прывітáнне; салю́т; ***mit hérzlichen Grüßen*** з сардэ́чнымі прывітáннямі; ***éinen ~ überbríngen* [bestéllen, áusrichten]*** перадáць [пераказáць] прывітáнне

**grüßen** *vt* вітáць (*каго-н.*), вітáцца, здарóўкацца (*з кім-н.*); клáняцца (*каму-н.*); ***er lässt Sie ~*** ён шле Вам паклóн

**Grütze** *f* -, -n крýпы, кáша; ***~ im Kopf háben*** быць разýмным [кéмлівым]

**Guáno** *m* -s *с.-г.* гуáна (*птушыны памёт*)

**gúcken** *vi* глядзéць, пазірáць (*auf A, nach D – на каго-н., што-н.*); ***sich (D) die Áugen aus dem Kopf ~*** *разм.* праглéдзець усé вóчы

**Gúckfenster** *n* -s, - дáхавае акнó

**Gúckloch** *n* -(e)s, -löcher (па)таéмнае акéнца

**Guillotine** [giljo'ti:nə] *f* -, -n *гл* гільяцíна

**Gúlasch** *n*, *m* -s *кул.* гуля́ш

**Gúlaschkanone** *f* -, -n *вайск.* пахóдная кýхня

**gülden** *a паэт. гл.* gólden

**Gülle** *f* -, -n вáдкі гной

**Gúlly** *m*, *n* -s, -s вадасцёк

**gültig** *a* сапрáўдны, закóнны; ***~ sein*** мець сíлу, ужывáцца, быць у абарачэ́нні (*пра манеты*)

**Gültigkeit** *f* - сапрáўднасць, закóннасць

**Gültigkeitsdauer** *f* - тэ́рмін дзéяння

**Gúmmi** *m* -s, - *i* -s 1) каўчýк, гýма 2) гýмка, сцíрка

**Gúmmiband** *n* -(e)s, -bänder гумóвая тасьмá, гýмка

**gúmmibereift** *a* на гумóвых шы́нах, на гумóвым ходý

**Gúmmibereifung** *f* -, -en гумóвая шы́на, пнеўмáтыка

**gummíeren** *vt* прагумóўваць

**Gúmmiknüpfel** *m* -s, - гумóвая дубíнка (*паліцэйскага*)

**Gúmmilösung** *f* -, -en гумóвы клей

**Gúmmischuh** *m* -(e)s, -e галóш, галёш

**Gunst** *f* - прыхíльнасць; мíласць; добразычлíвасць; ***zu Íhren ~en*** на Вáшу кары́сць; ***sich zu séinen ~en verändern*** змянíцца да лéпшага; ***j-m éine ~ erwéisen**** зрабíць камý-н. лáску; ***j-s ~ genießen**** карыстáцца чыёй-н. прыхíльнасцю [добразычлíвасцю]; ***in j-s ~ stéhen**** карыстáцца чыёй-н. прыхíльнасцю; ***zu j-s ~*** на чыю́-н. кары́сць; ***etw. zu séinen ~en vórbringen* [vórtragen*]*** сказáць што-н. у свaю́ абарóну

**Gúnstbezeigung** *f* - выкáзванне добразычлíвасці [прыхíльнасці]

**günstig** *a* спрыя́льны; прыхíльны; ***~er Wind*** спадарóжны вéцер; ***~e Gelégenheit*** спрыя́льны вы́падак

**Günstling** *m* -s, -e улюбёнец, фавары́т

**Gúrgel** *f* -, -n гóрла, глóтка; гартáнь; ***in die únrechte ~ kómmen**** папáсці не ў

тóе гóрла; ***j-n an die ~ pácken, j-m an die ~ fáhren**** схапíць кагó-н. за гóрла

**gúrgeln** *vi* 1) паласкáць гóрла 2) клекатáць (*пра птушак*), булькатáць (*пра ваду*)

**Gúrgelwasser** *n* -s вадá для паласкáння гóрла

**Gúrke** *f* -, -n агурóк; ***sáure ~n*** салёныя агуркí 2) *разм.* нос

**gúrren** *vi* буркавáць (*пра галубоў*)

**Gurt** *m* -(e)s, -e 1) пóяс, дзя́га, рэ́мень, папрýга 2) папрýга (*у сядла*), пас 3) *вайск.* кулямётная стýжка

**Gürtel** *m* -s, - 1) пóяс, папрýга, дзя́га, рэ́мень; ***bis zum ~ im Wásser*** па пóяс у вадзé 2) *геагр.* пóяс, зóна

**Gürtelbahn** *f* -, -en аб’язднáя (чыгýначная) лíнія

**gürtellos** *a* без пóяса, расперазáны

**Gürtelschnalle** *f* -, -n спрáжка пóяса

**gürten 1.** *vt* падпярáзваць **2. ~, sich** 1) падпярáзвацца 2) рыхтавáцца да бóю [да далёкай дарóгі]

**Gúrtwerk** *n* -(e)s ля́мкі парашýта

**Guss** *m* -es, Güsse 1) ліццё, адлíўка 2) пралíўны́ дождж, лíвень

**Gússeisen** *n* -s ліцéйны чыгýн

**gússeisern** *a* чыгýнны

**Gússmörtel** *m* -s лíты бетóн

**Gússstahl** [Gúss-Stahl] *m* -(e)s, -stähle *i* -e ліцéйная сталь

**Gússstahlwerk** [Gúss-Stahl-Werk] *n* -(e)s, -e сталеліцéйны завóд

**gut** (*comp* bésser, *superl* best) **1.** *a* дóбры, харóшы, дабрая́касны, прыдáтны; ***~en Ábend!*** дóбры вéчар!; ***~en Mórgen!*** дóбрай рáніцы!; ***~e Nacht!*** дабрáнач!; ***~en Tag!*** дóбры дзень!; ***~en Erfólg!*** жадáю пóспеху!; ***~e Réise!*** шчаслíвай дарóгі!; ***Séien Sie so ~!*** бýдзьце так ласкáвы!; ***der ~e Hírt(e)*** дóбры пáстыр, Хрыстóс; ***éine ~e Haut und ~e Séele*** дóбрая душá, дабрáк ◊ ***~e Míene zum bösen Spiel máchen*** рабíць дóбрую мíну пры дрэ́ннай гульні́; ***éiner ist so ~ wie der ándere*** ≅ абóе рабóе **2.** *adv* дóбра; ***~!*** дóбра!; ***kurz und ~*** адны́м слóвам; ***schon ~!*** дóбра!, ну, дóбра!, у згóдзе!; ***möglichst ~*** найлéпшым чы́нам; ***so ~ wie*** амáль, нíбы; ***so ~ wie nichts*** амáль (што) нічóга; ***er hat es ~*** ямý жывéцца дóбра; ***du hast ~ réden*** табé дóбра гавары́ць; ***~er Dínge sein*** быць у дóбрым настрóі [гумóры]; ***j-m ~ sein*** любíць кагó-н., дóбра стáвіцца да кагó-н.; ***~ zwei Dútzend*** пóўныя два тýзіны ◊ ***wer ~ sitzt, rücke nicht*** ≅ ад дабрá дабрá не шукáюць

**Gut** *n* -(e)s, Güter 1) дабрó, дабрóты; вы́гады; ***nicht um álle Güter der Welt*** ні за што на свéце 2) маёнтак, маёмасць; ***Hab und ~*** уся́ маёмасць, увéсь набы́так 3) тавáр; груз; ***Güter des täglichen Bedárfs*** тавáры штодзённага пóпыту

**Gútachten** *n* -s, - 1) дýмка, меркавáнне 2) вóдгук, заключэ́нне, экспертызá; ***ein ~ éinholen*** запрасíць заключэ́нне (*па якому-н. пытанню*); ***sein ~ ábgeben**** даць сваё заключэ́нне, вы́канаць экспертызу

**Gútachter** *m* -s, - экспéрт; рэцэнзéнт

**gútartig** *a* 1) дóбры (*па натуры*) 2) дабрая́касны *тс. мед.*

**Gútdünken** *n* -s меркавáнне, пóгляд; ***nach Íhrem ~*** на Вáша меркавáнне, на Ваш пóгляд

**Gúte** *sub n* -n дабрó; ***des ~n zu víel tun**** перастарáцца; ***álles ~!*** усягó дóбрага!

**Güte** *f* - 1) дабратá, дабрыня́, прыхíльнасць 2) я́касць (*матэрыялу*); дабрая́каснасць; ***háben Sie die ~!*** калí лáска!, бýдзьце ласкáвыя!; ***in áller ~*** падóбраму, палюбóўна; ***du méine ~!*** Бóжа мой!; ***éine Wáre érster ~*** тавáр вышэ́йшай я́касці

**Güteklasse** *f* -, -n *камерц.* ступéнь я́касці, гатýнак

**Gütekontrolle** *f* -, -n 1) кантрóль за я́касцю 2) аддзéл тэхнíчнага кантрóлю

**gütemäßig** *a* (дабра)я́касны

**Güterablieferung** *f* -, -en адпрáўка грýзаў

**Güterabsender** *m* -s, - адпрáўшчык грýзу, экспеды́тар

**Güteraustausch** *m* -(e)s тавараабмéн

**hilft** *präs ад* hélfen*

**Hímbeere** *f* -, -n малíны

**Hímmel** *m* -s, - нéба, небасхíл; ***am ~*** на нéбе; ***únter fréiem ~*** пад адкры́тым нéбам; ***j-n in den ~ hében**** узнімáць каго́-н. да нéба; ***das kam wie der Blitz aus héiterem ~*** гэ́та было́ як гром з я́снага нéба; ***um ~s wíllen!*** Бо́гам прашу́ [про́сім]!; ***du líeber ~!*** Бо́жа мой!; ***weiß der ~!*** аднаму́ Бо́гу вядо́ма!

**hímmelangst**: *а разм.*: ***mir ist [wird] ~*** я страшэ́нна баю́ся

**Hímmelbett** *n* -(e)s, -en ло́жак з по́лагам [балдахíнам]

**hímmelblau** *a* нябéсна-блакíтны

**Hímmeldonnerwetter!** *int* д’я́бал!

**Hímmelfahrt** *f* - *рэл.* Унебаўшэ́сце

**hímmelhoch** *a* (які́ ўзвышáецца) да нéба, высачэ́зны

**Hímmelschlüssel** *m*, *n* -s, - *бат.* клю́чык

**hímmelschreiend** *a* страшэ́нны, недапушчáльны, абурáльны

**Hímmelsgegend** *f* -, -en *геагр. уст.* краíна [кіру́нак] свéту

**Hímmelsgewölbe** *n* -s нябéснае скляпéнне

**Hímmelskörper** *m* -s, - *астр.* нябéснае цéла

**Hímmelsrichtung** *f* -, -en *геагр.* кіру́нак свéту

**Hímmelsstrich** *m* -(e)s, -e кліматы́чная зо́на, [во́бласць]

**Hímmelszelt** *m* -es нябéснае скляпéнне

**hímmelwärts** *adv* да нябёс, увы́сь

**hímmelweit** *a* 1) вéльмі далёкі 2) *тс. перан.* як нéба ад зямлí; ***ein ~er Únterschied*** велізáрнае адро́зненне

**hímmlisch** *а рэл., паэт.* 1) нябéсны; рáйскі 2) цудо́ўны, чаро́ўны

**hin** *adv* 1) туды́; прэч, у напрáмку да…; ***geh ~!*** ідзí туды́!; ***wo willst du ~?*** куды́ ты?; ***~ und her*** узáд і ўпéрад; ***~ und wieder*** раз-по́раз, чáсам; ***~ und zurück*** туды́ і сюды́ 2) *для ўзмацнення*: ***~ bis zur Tür*** да сáмых дзвярэ́й; ***álles ist ~*** усё прапáла

**hin=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, часта аб’ядноўваецца з іншымі прыстаўкамі, указвае на напрамак руху ад таго, хто гаворыць*: hínfahren* паéхаць (туды́)

**Hin**: ***ein éwiges ~ und Her*** пастая́нная [вéчная] мітуся́, пастая́нны [заўсёдны] рух

**hináb** *adv* уніз, адсю́ль уніз; ***den Berg ~*** уніз з гары́

**hináb=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на рух уніз у напрамку ад таго, хто гаворыць:* hinábsteigen* сыхо́дзіць, злáзіць

**hinábführen** *vt* зво́дзіць (уніз)

**hinábgehen*** *vi* (s) сыхо́дзіць, ісцí ўніз, спускáцца

**hinábklettern** *vi* злáзіць

**hinábsteigen*** *vi* (s) сыхо́дзіць, злáзіць; ***die Tréppe ~*** ісцí ўніз па схо́дах

**hinábstoßen*** *vt* спíхваць

**hinábstürzen** *vi* (s) (імклíва) пáдаць (уніз)

**hinán** *adv* угóру, увéрх, дагары́; ***den Berg ~*** на гару́, пад гару́

**hináuf** *adv* угóру, дагары́; ***von únten ~*** знíзу ўвéрх; ***den Fluss ~*** увéрх па рацэ́ [па цячэ́нню ракí]

**hináuf=** *аддз. дзеясл. прыстаўка указвае*: 1) *на рух уверх у напрамку ад таго, хто гаворыць:* hináufgehen* падымáцца 2) *на павышэнне, павелічэнне*: hináufsteigen* падымáцца, узыхо́дзіць

**hináuffahren*** *vi* уз’язджáць навéрх, падымáцца

**hináufgehen*** *vi* (s) узыхо́дзіць, падымáцца

**hináuf|klettern** *vi* (s), **~klimmen** *vi* (s) лéзці навéрх, карáскацца ўгóру, залáзіць

**hináufschrauben** *vt* уздымáць, уздувáць, узвышáць (*цэны*)

**hináufschwingen*, sich** узвівáцца, узлятáць

**hináufsteigen*** *vi* узыхо́дзіць, падымáцца

**hináufziehen* 1.** *vt* усця́гваць **2.** *vi* (s) перасяля́цца навéрх

**hináus** *adv* 1) во́нкі, з: ***~!*** прэч!; ***darüber ~*** звыш тагó 2) *пры абазначэнні часу* на; ***auf Jáhre ~*** на до́ўгія гады́; ***darüber bin ich ~*** гэ́та для мянé про́йдзены этáп [шлях]

**hináus=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае*: 1) *на рух вонкі ў напрамку ад таго, хто гаворыць:* hináusgehen* выхо́-

дзіць 2) *на аддаленне, рух удалечыню*: hináusfahren* выязджáць

**hináusbegleiten** *vt* 1) правóдзіць да дзвя-рэ́й 2) выстаўля́ць за дзвéры

**hináusdrängen** *vt* 1) выціскáць 2) выціс-кáць, адцясня́ць

**hináusfahren*** **1.** *vi* (s) выязджáць **2.** *vt* (*h*) вывóзіць

**hináusfallen*** *vi* вывáльвацца, выпадáць

**hináusgehen*** *vi* (s) 1) выхóдзіць 2) (*über A*) перавышáць (*што-н.*) 3) (*auf A*) мець на ўвáзе [прымéце] (*што-н.*); імкнýцца (*да чаго-н.*); ***woráuf geht das hináus?*** да чагó гэ́та хіліцца?

**hináusjagen** *vt* выганя́ць

**hináuslaufen*** *vi* (s) 1) выбягáць 2) (*auf A*) звóдзіцца (*да чаго-н.*), сыхóдзіць (*на што-н.*)

**hináuslehnen, sich** высóўвацца, выгля́д-ваць (*з акна*)

**hináusschaffen** *vt* выдаля́ць, выстаўля́ць

**hináustragen*** *vt* вынóсіць

**hináuswollen*** *vi* 1) хацéць вы́йсці 2) (*auf A*) хілíцца (*да чаго-н.*), мець намéры (*на што-н.*), мéціць (*куды-н.*); ***wo will er hinaus?*** кудь́і ён мéціць?; ***wo will das hinaus?*** што з гэ́тага вы́йдзе [бý-дзе]?; кудь́і [на што] гэ́та скіравáна?; ***er will hoch hináus*** у ягó вялíкія плáны

**hináuszögern** *vt* адклáдваць, адтэрмінóў-ваць, зацягваць; ***die Entschéidung ~*** зацягваць прыня́цце рашэ́ння

**Hínblick** *m*: ***im ~ (auf A)*** прымáючы [бе-ручы́] пад увáгу; ***im ~ daráuf, dass…*** улíчваючы, што…

**hínbringen*** *vt* 1) прынóсіць, аднóсіць, адвóзіць, адвóдзіць 2) правóдзіць (*час*)

**hínderlich** *a* цяжкавáты, нязрýчны, які перашкаджáе; ***j-m ~ sein*** перашка-джáць (*каму-н.*)

**híndern** *vt* (*an D, bei D, in D*) перашка-джáць, замінáць (*каму-н. у чым-н.*); ***sich nicht durch etw. (A) ~ lássen**** не хацéць [не жадáць] звя́зваць сабé чым-н. рýкі

**Híndernis** *n* -ses, -se перашкóда, ця́ж-касць, ускладнéнне, затры́мка; ***auf ~se stóßen**** наткнýцца на перашкóды; ***ein Rénnen mit ~sen*** скáчкі з перашкóда-мі; ***ich schrécke vor kéinen ~sen zurück*** мяне́ не спы́няць ніякія перашкóды; ***j-m ~se beréiten [in den Weg légen]*** ра-біць камý-н. перашкóды; ***~se aus dem Wége räumen*** прымáць [прыбірáць] перашкóды на шляхý

**Híndernisbahn** *f* -, -en *спарт.* (бегавáя) дарóжка з перашкóдамі, паласá пера-шкóд

**Híndernislauf** *m* -(e)s, -läufe *спарт.* бег з перашкóдамі

**Hínderung** *f* -, -en затры́мка, перашкóда, памéха

**híndeuten** *vi* (*auf A*) 1) укáзваць, пакáзваць (*на што-н.*) 2) намякáць (*на што-н.*)

**Híndeutung** *f* -, -en указáнне, намёк

**Híndi** *n* - мóва хíндзі

**Híndu** *m* -(s), -(s) індýс (*прыхільнік індуізму*)

**hindúrch** *adv* (*ставіцца пасля назоўніка, да якога адносіцца*) цéраз, праз, наскрóзь; ***die gánze Nacht ~*** цэ́лую ноч, усю ноч

**hindúrch=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на рух скрозь што-н.*: hindúrch-gehen* прахóдзіць (наскрóзь)

**hindúrchfühlen** *vt* прамáцваць; *перан.* адчувáць

**hindúrchgehen*** *vi* (s) прахóдзіць (на-скрóзь)

**hindúrchziehen*** **1.** *vt* працягваць **2.** ~, **sich** прахóдзіць (*скрозь што-н.*)

**híneilen** *vi* (s) спяшáцца (тудь́і)

**hinéin** *adv* 1) у, унýтр; углы́б 2) аж да…; ***bis in die Nacht ~*** да пóзняй нóчы

**hinéin=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на рух унутр у напрамку ад таго, хто гаворыць*: hinéinlegen клáсці, уклáдваць

**hinéinarbeiten, sich** уцягнýцца ў прáцу, засвóіць рабóту

**hinéinblicken** *vi* заглядваць, зазірáць (*у памяшканне*)

**hinéindenken*, sich** удýмвацца

**hinéindrängen, sich** *vi* працiскáцца

**hinéindrücken** *vt* уціскáць, уцíскваць

**hinéinfinden*, sich** (*in A*) міры́цца,

звыка́цца (*з чым-н.*)

**hinéingehen*** *vi* (s) 1) увахо́дзіць; ***in den Krieg ~*** *разм.* пайсці́ на вайну́ 2) змяшча́цца, увахо́дзіць

**hinéinlassen*** *vt* (за)пуска́ць (*унутр*)

**hinéinlegen** *vt* 1) укла́дваць, змяшча́ць 2) падма́нваць, падво́дзіць

**hinéinlesen*, sich** учы́тввацца (*у радкі і г.д.*)

**hinéinmischen, sich** уме́швацца

**hinéinpassen** *vi* (*in A*) падыхо́дзіць (*да чаго-н.*), увахо́дзіць (*у што-н., паводле памераў*)

**hinéinschmuggeln** *vt* уво́зіць кантраба́ндай

**hinéinstoßen*** **1.** *vt* упі́хваць, запі́хваць, утыка́ць **2.** *vi* (s) *вайск.* урыва́цца

**hinéintreiben*** *vt* заганя́ць, забіва́ць (*унутр*)

**hinéintun*** *vt* 1) устаўля́ць, укла́дваць 2) кла́сці (*куды-н.*), дадава́ць

**hinéinwachsen*** *vi* (s) ураста́ць (*тс. перан.*)

**hinéinziehen*** **1.** *vt* уця́гваць (*у розн. знач.*) **2.** *vi* (s) захо́дзіць, увахо́дзіць, заязджа́ць (*унутр*)

**hinéinzwängen** *vt* уці́скваць, уціска́ць

**hínfahren*** **1.** *vt* адво́зіць **2.** *vi* (s) 1) з’язджа́ць, пае́хаць (*куды-н.*)

**Hínfahrt** *f* -, -en пае́здка (*куды-н.*), пае́здка ў адзі́н кане́ц; ***auf der ~*** па даро́зе туды́, у час пае́здкі туды́; ***Hín- und Hérfahrt, Hín- und Rückfahrt*** прае́зд [пае́здка] туды́ і наза́д

**hínfallen*** *vi* (s) па́даць, упа́сці

**hínfällig** *a* хі́сткі, трухля́вы, сла́бы; ~ ***wérden*** слабе́ць, тра́ціць сі́лы; парахне́ць

**Hínfälligkeit** *f* - 1) трухля́васць, ляда́часць, сла́басць 2) няўсто́йлівасць, хі́сткасць 3) *перан.* неабгрунтава́насць

**hinfórt** *adv* ад (з) гэ́тага ча́су, надале́й

**hínführen** **1.** *vt* адво́дзіць, прыво́дзіць **2.** *vi* ве́сці куды́-н. (*пра дарогу*)

**hing** *impf ад* hängen*

**Híngabe** *f* - 1) адда́насць, самаахвя́рнасць; ***mit ~*** (сама)ахвя́рна, адда́на 2) захапле́нне, захо́пленасць (*навукай і г.д.*); ***éinen Áuftrag mit größer ~ lösen*** ца́лкам адда́цца рашэ́нню даручэ́ння

**Híngang** *m* -(e)s, -gänge скон, смерць

**híngeben*** **1.** *vt* аддава́ць; перадава́ць у валода́нне; уступа́ць; ахвярава́ць **2. ~, sich** аддава́цца, прысвяці́ць сябе́; ***sich der Hóffnung ~*** суцяша́ць сябе́ надзе́яй, спадзява́цца

**Híngebung** *f* - *гл.* Híngabe

**híngebungsvoll** *a* бязме́жна [шчы́ра] адда́ны

**hingégen** **1.** *adv* насу́перак, насупо́р **2.** *cj* а, зато́е, жа, ну а

**híngehen*** *vi* (s) 1) ісці́, пайсці́ 2) прахо́дзіць (*пра час*) 3) *разм.* паме́рці, скана́ць 4): ***über etw. (A) ~*** злёгку закрану́ць (*што-н.*) у размо́ве; ***j-m éine Gróbheit ~ lássen**** сцярпе́ць чыю́-н. гру́басць; ***das geht so in éinem hin*** гэ́та бу́дзе вы́рашана [зро́блена] адначасо́ва [мімахо́дзь]

**híngehören** *vi* (*D*) 1) нале́жаць, адно́сіцца (*да каго-н., да чаго-н.*) 2) быць да ме́сца

**híngelangen** *vi* (s), **híngeráten*** *vt* (s) трапля́ць (*куды-н.*), апыну́цца (*дзе-н.*)

**híngerissen** *a* захо́плены, натхнёны; ***von j-s Wórten ~*** у захапле́нні ад чыі́х-н. слоў

**hínhalten*** *vt* 1) праця́гваць, падава́ць, падстаўля́ць; ***die Hand ~*** працягну́ць [пада́ць] руку́ (*для падтрымкі*); *перан.* пада́ць руку́ дапамо́гі 2) заця́гваць, затры́млівацъ; ***mit báren Verspréchungen ~*** ≅ вадзі́ць за нос; ***j-n mit der Bezáhlung ~*** затры́мліваць каму́-н. вы́плату; ***j-n ~*** не дава́ць каму́-н. адка́зу, пакі́нуць каго́-н. у няве́данні

**hínhauen** **1.** *vi* уда́рыць **2.** *vt разм.* шпурну́ць ◊ ***das haut éinen hin!*** я збянтэ́жаны!; ***das haut hin!*** *разм.* гэ́та дарэ́чы!

**hínhören** *vi* прыслухо́ўвацца, услухо́ўвацца

**hínken** *vi* 1) кульга́ць, чыкільга́ць 2) не ісці́ на лад; ***es hinkt damít*** спра́ва не ла́дзіцца

**hínkommen*** *vi* (s) 1) прыхо́дзіць, трапля́ць (*куды-н.*) 2) падзе́цца; ***wo ist mein Buch híngekommen?*** дзе падзе́лася мая́ кні́жка?

**hínkriegen** *vt разм.* адо́лець (*што-н.*), спра́віцца ( *з чым-н.*)

**hínlänglich** *a* дастаткóвы, задавальня́ючы; ***es ist*** ~ гэ́тага дóсыць

**hínlegen 1.** *vt* клáсці, палажы́ць; ***hínlegen!*** лажы́ся! **2. ~, sich** лажы́цца, клáсціся

**hínnehmen*** *vt* 1) браць, узя́ць (сабé) 2) прымáць, цярпéць, міры́цца (*з чым-н.*); 3): ***von der Musík híngenommen sein*** быць у захаплéнні ад мýзыкі

**hínnen**: ***von*** ~ адсю́ль

**hínpfeifen*:** ***vor sich*** ~ пасві́стваць, насві́стваць сабé

**hínreichen** *vt* 1) падавáць, працяґваць 2) хапáць, быць дастаткóвым

**hínreichend 1.** *a* дастаткóвы **2.** *adv* дóсыць, давóлі

**Hínreise** *f* -, -n падарóжжа, паéздка (*туды*)

**hínreißen*** *vt* захапля́ць, паланíць; ***sich*** ~ ***lássen**** захапíцца, даць сябé захапíць чым-н.

**hínreißend** *a* захапля́ючы; прывáбны, чарóўны

**hínrichten** *vt* карáць смéрцю

**Hínrichtung** *f* -, -en пакарáнне [кáра] смéрцю; стрáта

**hínschaffen** *vt* дастаўля́ць (*туды*)

**hínscheiden*** *vi* (s) памéрці, сканáць

**hínschlagen*** *vi* (s) *разм.* упáсці, пля́снуцца

**hín sehen*** *vi* гля́нуць, зірнýць

**hínsein*** *vi* (s) прападáць, загíнуць; ***álles ist hin*** усё прапáла [пайшлó прáхам]; ***das Kleid ist hin*** сукéнка сапсавáна; ***er ist hin*** ён загíнуў [памёр]

**hínsetzen 1.** *vt* 1) стáвіць, клáсці, садзíць (*каго-н.*) 2) *разм.* прызначáць (*на пасаду*); **2. ~, sich** сядáць, садзíцца

**Hínsicht** *f* -, -en аднóсіны, сýвязь, дачынéнне, пункт глéджання; ***in díeser*** ~ у гэ́тых аднóсінах, з гэ́тага бóку; ***in ~ auf etw. (A)*** прымáючы пад увáгу штo-н.

**hínsichtlich** *prp* (*G*) у аднóсінах (*да чаго-н.*), аднóсна (*чаго-н.*), што да (*каго-н., чаго-н.*)

**hínstellen 1.** *vt* 1) пастáвіць (*туды*) 2) паказáць, асвятлíць (*факт*); **2. ~, sich** 1) станавíцца; размяшчáцца, атáбарыцца 2) (*als A*) прыкíдвацца (*кім-н.*), выдавáць сябé (*за каго-н.*)

**hínstrecken 1.** *vt* 1) працяґваць 2) валíць з ног; **2. ~, sich** расцягнýцца, лéгчы

**hínten** *adv* ззáду; за плячы́ма; ***nach*** ~ назáд; ***von*** ~ ззáду

**hintendréin** *разм. гл.* hinterdréin, hintenherúm

**hintenherúm** *adv* упóтайкі; наўкóльным шля́хам

**hintenüber** *adv* дагары́

**hínter I 1.** *prp* (*D*) – *на пытанне «дзе»?*; (*A*) – *на пытанне «куды»?* за, ззáду, за спінóй **2.** *a* зáдні, ты́льны

**hínter= II** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на рух назад, размяшчэнне ззаду чаго-н.*: híntergehen* ісцí назáд; захóдзіць ззáду

**hinter= III** *неаддз. дзеясл. прыстаўка, указвае*: *1*) *на патаемнае дзеянне, падман:* hinterzíehen* утóйваць (*грошы*), ухіля́цца ад плацяжý 2) *на пакіданне, адкладванне*: hinterlássen* пакідáць пасля́ сябé

**Hínterachse** *f* -, -n *аўта* зáдняя вось

**Hínterbein** *n* -(e)s, -e зáдняя нагá; ***sich auf die ~e stéllen*** устáць на дыбы́ [ды́ба]; *перан.* упéрціся, занаравíцца; ***mit ~en schlágen**** брыкáцца

**Hínterbliebene** *sub m*, *f* -n, -n блíзкі свая́к нябóжчыка, блíзкая свая́чка нябóжчыка; *pl* сям’я́ нябóжчыка

**hinterbríngen*** *vt* данóсіць, таéмна паведамля́ць

**hinterdréin** *adv* услéд; пóтым, пасля́

**Híntere** *sub m* -n, -n *груб.* зад

**hintereinánder** *adv* адзíн за адны́м; па чарзé, паслядóўна

**hínteressen*** *vt разм.* праглынáць (*ежу*)

**Híntergebäude** *n* -s, - надвóрная пабудóва; зáдні кóрпус; флíгель

**Híntegedanke** *m* -ns, -n зáдняя дýмка; патаéмная задýма ◊ ***~n háben*** ≅ трымáць кáмень за пáзухай

**hintergéhen*** *vt* падмáнваць, ашýкваць, звóдзіць; злоўжывáць давéрам

**Híntergrund** *m* -(e)s, -gründe зáдні план; фон (*тс. перан.*); падаплёка; ***sich im ~ hálten**** трымáцца ў цянí [на зáднім

плáне]; ***die Híntergründe der Eréignisse*** закулíсны бок падзéй

**Hínterhalt** *m* -(e)s, -e 1) засáда; ***j-m éinen ~ légen*** арганізавáць [зрабíць] засáду на кагó-н.; ***im ~ líegen**** сядзéць [быць] у засáдзе 2) *вайск.* рэзéрв 3): ***im ~ háben*** хавáць, скрывáць; мець [трымáць] у рэзéрве [пра запáс]; ***óhne ~*** без зáдняй дýмкі, шчы́ра, адкры́та

**hínterhältig** *a* кавáрны; вералóмны; хíтры; скры́тны

**Hínterhand** *f* - *карт.* другáя рукá (*гулец*); ***in der ~ sein*** быць апóшнім, плéсціся [цягнýцца] у хвасцé

**Hínterhaus** *n* -es, -häuser *гл.* Híntergebäude

**hinterhér** *adv* 1) ззáду, слéдам 2) зáднім рóзумам

**Hínterhof** *m* -(e)s, -höfe 1) *с.-г.* задвóркі, зáдні двор

**Hínterkopf** *m* -(e)s, -köpfe паты́ліца

**Hínterland** *n* -(e)s *вайск.* (глыбóкі) тыл

**hinterlássen*** *vt* пакідáць пасля́ сябé

**Hinterlássenschaft** *f* -, -en спáдчына

**hinterlégen** *vt* дэпаніраваць, аддавáць на захавáнне (*грошы*)

**Hínterlist** *f* - хíтрасць, кавáрства, вералóмства

**hínterlistig** *a* хíтры, пóдлы; кавáрны, вералóмны

**Híntermann** *m* -(e)s, -männer) 1) які́ знахóдзіцца ззáду 2) *камерц.* індасáнт 3) інспірáтар, падбухтóршчык 4) *спарт.* абарóнца

**Híntern** *n* -s, - *груб.* зад

**Hínterpförtchen** *n* -s, - зáдняя брáмка, зáднія вéснічкі

**hínterrücks** *adv* ззáду, за плячáмі, паздрáдніцку, вералóмна

**hintertréiben*** *vt* перашкаджáць, замінáць; разлáдзіць, сарвáць (*што-н.*)

**Híntertreppe** *f* -, -n зáдняя лéсвіца, чóрны ход; ***das álles sieht nach ~ aus*** *разм.* усё гэ́та падóбна на фарс *разм.* па блáту

**Híntertreppenroman** *m* -s, -e бульвáрны рамáн

**Híntertür** *f* -, -en зáднія дзвéры, чóрны ход; ***etw. durch die ~ éinführen [éinlassen*]*** увéсці [дапусціць] што-н. неафіцыя́льна [нелегáльна]; ***durch die ~***

**hinterzíehen*** *vt* прыхóўваць, утóйваць (*грошы*), ухіля́цца ад аплáты падáткаў

**híntun*** *vt* падзéць, пастáвіць, паклáсці

**hinüber** *adv* цéраз, праз, на той бок, на тым бакý

**hinüber=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на рух у напрамку ад таго, хто гаворыць*: hinübergehen* перахóдзіць (*на той бок*)

**hinüberfahren*** **1.** *vt* перавóзіць **2.** *vi* (s) пераязджáць

**hinübergehen*** *vi* (s) 1) перахóдзіць (*на другі бок*) 2) памірáць

**hinüberziehen*** **1.** *vt* перацягваць **2.** *vi* (s) перабірáцца (*на другі бок, у другі дом*)

**Hín-und-hér-Fahren** *n* -s безупы́нная яздá, безупы́нныя паéздкі

**hinúnter** *adv* 1) уніз, дóлу (*у напрамку ад таго, хто гаворыць*) 2): ***~ mit j-m, etw. (D)!*** далóў кагó-н., што-н.!

**hinúnter=** *аддз. дзеясл прыстаўка, указвае на рух зверху ўніз у напрамку ад таго, хто гаворыць*: hinúntergehen* сыхóдзіць уніз

**hinúntergehen*** *vi* (s) сыхóдзіць (*долу*)

**hinúnterwerfen*** *vt* скідáць, скíдваць

**hinwég** *adv* прэч!; ***~ mit dir!*** прэч!, вымятáйся!

**hinwég=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на рух у напрамку ад таго, хто гаворыць*: hinwégräumen прыбірáць (*прэч*)

**Hinwég** *m* -(e)s, -e шлях, дарóга (*туды*)

**hinwégfegen** *vt* змятáць, знóсіць

**hinwéggehen*** *vi* (s) (*über A*) не зважáць, не звяртáць увáгі (*на што-н.*); ***über éine Bemérkung ~*** не рэагавáць на заўвáгу

**hinwégräumen** *vt* прыбірáць (*прэч, з дарогі*)

**hinwégsehen*** *vi* (*über A*) глядзéць вышэ́й (*над галовамі, паўз акуляры і да т.п.*)

**hinwégsetzen** **1.** *vi* (s) параскóкваць, перасякáць **2. ~, sich** (*über A*) не звяр-

тáць увáгі (*на што-н.*), не рэагавáць (*на што-н.*); не прымáць блíзка да сэ́рца (*што-н.*)

**Hínweis** *m* -es, -e указáнне, спасы́лка, намёк; ***krítischer*** **~** крыты́чная заўвáга; ***éinen ~ bríngen* [gében*]*** вы́казаць заўвáгу, зрабíць указáнне; ***únter [mit] ~ auf etw. (A)*** са спасы́лкай на што-н., спасылáючыся на што-н.

**hínweisen*** *vi* (*auf A*) пакáзваць, спасылáцца, намякáць (*на што-н.*)

**Hínweisschild** *n* -(e)s, -er (даро́жная) шы́льда, указáльнік, знак

**hínwerfen*** *vt* кíдаць (*куды-н.*), накíдваць, накідáць; ***éine Bemérkung ~*** зрабíць [устáвіць] заўвáгу

**hínziehen*** **1.** *vt* 1) цягну́ць (*туды*) 2) вáбіць, прывáбліваць **2.** *vi* (s) ру́шыць, ісцí, éхаць (*туды*); **2. ~, sich** зацягну́цца, до́ўжыцца; ***sich über méhrere Mónate ~*** зацягну́цца на нéкалькі мéсяцаў

**hinzú** *adv* да; звыш тагó; **~ *kommt, dass…*** да гэ́тага трэ́ба дадáць, што…

**hinzú=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на*: 1) *дадатак*: hinzúrechnen прылічáць, далíчваць 2) *рух у напрамку да чаго-н*: hinzútreten* падыхóдзіць

**hinzúdenken*** *vt* даду́мваць, дадавáць у ду́мках

**hinzúfügen** *vt* дабаўля́ць, дадавáць, дапаўня́ць

**Hinzúgabe** *f* -, -n прыдáча, прыбáўка

**hinzúkommen*** *vi* (s) 1) падыхóдзіць 2) далучáцца, дадавáцца; ***es kommt noch hinzú*** да тагó ж

**hinzúlegen** *vt* прыкладáць, дадавáць

**hinzúrechnen** *vt* прылічáць, далíчваць

**Hinzúrechnung** *f* -, -en дабаўлéнне (*да рахунку*)

**hinzústeigen***vi* (s) падсéсці (*у цягнік і г. д.*)

**hinzútun*** *vt* дадавáць

**Hinzútun**: ***óhne mein ~*** без майгó ўдзéлу, без мянé

**hinzúziehen*** *vt* (zu *D*) прыця́гваць (*напр., да работы*)

**Híobsbotschaft** *f* -, -en су́мная навінá [вéстка]

**Hippodróm** *m*, *n* -s, -e іпадро́м

**Hirn** *n* -(e)s, -e (галаўны́) мозг, мазгí; ***sich (D) das ~ nach etw. (D) zermártern [zergrübeln]*** ламáць сабé галаву́ над чым-н.

**Hírngespinst** *n* -(e)s, -e вы́думка, фантáзія, ілюзія

**Hírnhaut** *f* - *анат.* мазгавáя абало́нка

**Hírnrinde** *f* -, -n *анат.* мазгавáя карá

**Hírnschale** *f* -, -n чэ́рап

**Hírnschlag** *m* -(e)s *мед.* удáр, кровазліццё ў мозг; ***éinem ~erlíegen**** памéрці ад удáру

**hírnverbannt** *a разм.* вар'я́цкі, шалёны, дзівáцкі

**Hírnwindungen** *pl анат.* мазгавы́я звíліны

**Hírnzelle** *f* -, -n *анат.* мазгавáя клéтка

**Hírsch** *m* -(e)s, -e алéнь

**Hírschfänger** *m* -s, - паляўнíчы нож

**Hírschkäfer** *m* -s, - *заал.* жук-рагáч

**Hírschkalb** *n* -(e)s, -kälber цяля́ алéня

**Hírschkuh** *f* -, -kühe сáмка алéня, алéніха

**Hírschzucht** *f* - аленегадо́ўля

**Hírse** *f* - прóса

**Hirt** *m* -en, -en пасту́х

**Hírtenflöte** *f* -, -n жалéйка

**Hírtenjunge** *m* -n, -n падпáсак

**Hírtenmädchen** *n* -s, - пасту́шка

**híssen** *vt* падня́ць (*сцяг, вымпел*); распусцíць (*ветразі*)

**Histórì¦e** *f* -, -n гістóрыя (*у розн. знач.*)

**Históriker** *m* -s, - гістóрык

**históriscн** *a* гістары́чны

**Hítze** *f* - 1) гарачыня́, спёка; ***vor ~*** ад спёкі 2) запáл, заўзя́тасць; ***in der ~*** у гарáчцы; ***in ~ kómmen* [geráten*]*** разгарачы́цца, ускіпéць

**hítzebeständig** *a* вогнетрывáлы, цеплатрывáлы, тугаплáўкі

**Hítzebläs¦chen** *n* -s, - пузы́р, пухíр

**Hítzewelle** *f* -, -n хвáля гарáчага павéтра

**hítzig** *a* гарáчы, запáльчывы; пáлкі ◊ **~ *ist nicht wítzig*** ≅ паспéх – людзя́м на смех

**Hítzkopf** *m* -(e)s, -köpfe запáльчывы чалавéк

**Hítzschlag** *m* -(e)s, -schläge цеплавы́ ўдáр

**hob** *impf ад* hében*

**Hóbby** *n* -s, -s любі́мы [улюбёны] заня́так, хо́бі

**Hóbel** *m* -s, - гэ́блік

**Hóbelbank** *f* -, -bänke сталя́рны варшта́т

**hóbeln** *vt* габлява́ць, абгаблёўваць

**Hóbelspan** *m* -(e)s, -späne стру́жка

**hoch** [ho:x] **1.** *a* высо́кі; ***vier Méter ~*** чатыры ме́тры вышынёй; ***hóhes Álter*** старэ́чы ўзро́ст; ***auf hóher Sée*** у адкры́тым мо́ры; ***es ist höchste Zeit*** даўно́ пара́ [час] **2.** *adv* высо́ка; ***zwei Tréppen ~*** на трэ́цім паве́рсе; ***~ gespánnte Erwártungen*** вялікія надзе́і; ***~ und héilig*** урачы́ста ◊ ***da geht es ~ her*** там банке́т на ўве́сь свет

**Hoch I** *n* -s, -s сла́ва, ура́ (*прывітальны выгук*); тост; ***ein ~ auf j-n áusbringen**** гавары́ць тост за каго́-н.

**Hoch II** *n* -s, -s зо́на высо́кага паве́траната ціску; антыцыкло́н

**hóch áchten** *vt* глыбо́ка паважа́ць

**Hóchachtung** *f* -, -en глыбо́кая пава́га; ***j-m ~ zóllen*** аддава́ць каму́-н. даніну пава́гі

**hóchachtungsvoll** *adv* з глыбо́кай пава́гай [паша́най]

**hócharbeiten, sich** *аддз*. вы́лучыцца [вы́значыцца] ула́снымі намага́ннямі

**Hóchbahn** *f* -, -en 1) надзе́мная чыгу́нка 2) эстака́да

**Hóchbau** *m* -(e)s, -ten 1) гмах 2) надзе́мнае збудава́нне 3) *без pl* надзе́мнае будаўніцтва

**hóch begábt** [hóchbegabt] *a* надзвы́чай здо́льны

**hóchbetagt** *a* стары́, старо́га [паважа́нага] ўзро́сту [ве́ку]

**Hóchbetrieb** *m* -(e)s 1) (вялі́кае) ажыўле́нне 2) кіпу́чая пра́ца (*ва ўстанове, на прадпрыемтсве*) 3) гадзіна [час] пік

**Hóchburg** *f* -, -en цытадэ́ль, апі́рышча, цвярды́ня (*тс. перан.*)

**hóchdeutsch** *a лінгв*. верхненяме́цкі

**Hóchdeutsch(e)** *sub n* -(e)n верхненяме́цкая (літарату́рная) мо́ва

**Hóchdruck** *m* -(e)s 1) высо́кі ціск 2) *паліг*. высо́кі друк; ***etw. mit ~ betréiben**** рупліва займа́цца чым-н.; ***die Árbeit geht mit ~ vorán*** рабо́та кіпі́ць

**Hóchdruckgebiet** *n* -(e)s, -e зо́на высо́кага ціску

**Hóchebene** *f* -, -n пласкаго́р'е, плато́ (*у гарах*)

**hoch entwíckelt** *a* высокаразвіты́

**hócherfreut** *a* ве́льмі ра́ды, ве́льмі ўзра́даваны

**hóchfahren*** *аддз. vi* (s) 1) е́хаць угору 2) ускочыць 3) здрыгану́цца

**hóchfahrend** *a* фанабэ́рысты

**hóchfein** *a* высо́кай я́касці, вы́танчаны

**Hóchfinanz** *f* - грашо́вая арыстакра́тыя, [фіна́нсавыя] магна́ты

**hóchfliegend** *a*: ***~e Pläne*** славалюбі́выя пла́ны

**Hóchflut** *f* - 1) паво́дка 2) *перан.* узды́м, пад'ём

**hoch geáchtet** *a* паважа́ны, шано́ўны

**Hóchgebirge** *n* -s, - высо́кі го́рны хрыбе́т, го́рны масі́ў

**hoch geéhrt** *a* высокашано́ўны, высокапаважа́ны

**Hóchgefühl** *n* -(e)s узвы́шанае пачуццё 2) энтузія́зм

**hóchgehen*** *аддз. vi* (s) 1) расхвалява́цца (*у розн. знач.*) 2) узрыва́цца 3) папа́сціся, быць вы́крытым

**hóchgelegen** *a* вышы́нны, высакаго́рны

**hóchgeschossen** *a* даўгалы́гі; цыба́ты (*пра чалавека*)

**hóchgesinnt** *a* шляхе́тны, высакаро́дны, з узвы́шанай нату́рай

**hoch gewáchsen** [hoch gewáchsen] *a* высо́кі, высакаро́слы

**hóchgradig** *adv* у найвышэ́йшай ступе́ні, надзвыча́йна

**hóchhalten*** *аддз. vt* 1) высо́ка трыма́ць (*тс. перан.*), ***die Préise ~*** трыма́ць цэ́ны на высо́кім узро́ўні; ***den Kopf ~*** го́рда трыма́ць галаву́ 2) шанава́ць, высо́ка цані́ць (*каго-н.*)

**Hóchhaus** *n* -es, -häuser шматпавярхо́вы дом; высо́тны буды́нак

**hóchheben*** *аддз. vt* высо́ка падыма́ць, задзіра́ць

**hóchherrschaftlich** *a* вéльмі элегáнтны
**hóchherzig** *a* велікадýшны, шляхéтны
**Hóchherzigkeit** *f* - шляхéтнасць, высакарóднасць
**hóchkant** *adv* на рабрó
**hóchkrempeln** *аддз. vt* закасáць (*рукавы*)
**Hóchland** *n* -(e)s, -länder *i* -e пласкагóр'е, гóрная краíна
**Hóchländer** *m* -s, - гóрац, жыхáр гор
**hóchleben** *vi*: ***j-n ~ lássen**** гаварыць [падымáць] тост у гóнар (*каго-н.*); ***es lébe hoch…!*** няхáй жывé…!
**hóchleistungsfähig** *a* высокапрадукцыйны; *эл.* вялíкай магýтнасці
**hóchmodern** *a* звышсучáсны, сáмы мóдны
**Hóchmut** *m* -(e)s пыха, пагáрда; ***j-m den ~ áustreiben**** збіць гóнар з кагó-н.
**hóchmütig** *a* пыхлíвы, фанабэ́рысты
**hóchnäsig** *a* фанабэ́рысты, ганарысты, напышлівы
**Hóchnäsigkeit** *f* - фанабэ́рыстасць, ганарыстасць, напышлівасць
**hóchnehmen*** *аддз. vt* 1) падымáць 2) зрабíць вымóву (*каму-н.*) 3) высмеяць (*каго-н.*) 4) *разм.* ашукáць, аблічыць, абдзялíць
**Hóchofen** *m* -s, -öfen дóмна, дóменная печ; ***den ~ beschícken*** загрузíць дóмну
**Hóchparterre** [-tɛr] *n* -s, -s *буд.* высóкі партэ́рны паверх; бельэтáж
**hóchrot** *a* пунсóвы, я́рка-чырвóны
**Hóchruf** *m* -(e)s, -e крык «урá!»; ***mit ~en empfángen**** сустракáць прывітáльнымі выкрыкамі; ***~e áusbringen**** вітáць вóклічамі
**Hóchsaison** [-sɛzɔ̃:] *f* -, -s разгáр сезóну
**hóch schätzen** *vt* глыбóка шанавáць, глыбóка паважáць
**hóchschrauben** *vt* узвíнчваць (*цэны*)
**Hóchschule** *f* -, -en вышэ́йшая навучáльная ўстанóва, ВНУ; ***~ für Verkéhrswesen*** трáнспартная ВНУ
**Hóchschulwesen** *n* -s сістэ́ма вышэ́йшай адукáцыі
**Hóchseeflotte** *f* -, -n марскí [акія́нскі] флот
**Hóchsommer** *m* -s сярэ́дзіна [разгáр] лéта
**Hóchspannung** *f* -, -en *эл.* высóкае напрýжанне
**Hóchsprache** *f* -, -n (нямéцкая) літаратýрная мóва
**Hóchsprung** *m* -(e)s, -sprünge *спарт.* скачкí ў вышыню́
**höchst 1.** *a* найвышэ́йшы, надзвычáйны, найвялíкшы, найбóльшы; ***die ~e Not*** пíльная патрэ́ба; ***von ~er Wíchtigkeit*** найвялíкшай вáжнасці; ***das ~e Máchtorgan*** вярхóўны óрган улáды; ***(es ist) ~e Zeit*** даўнó парá [час] **2.** *adv* надзвычай, вéльмі; ***am ~en*** найвышэ́й, вышэ́й за ўсíх; ***aufs ~e*** надзвычай
**höchstämmig** *a бат.* высакаствóльны
**Hóchstand** *m* -(e)s, -stände 1) высóкі ўзрóвень; ***éinen ~ erzíelen*** падня́ць на налéжную вышыню́ 2) прылíў 3) *вайск.* вышка
**Hóchstapler** *m* -s, - прайдзісвéт, аферыст, махля́р
**Höchstbelastung** *f* -, -en найвышэ́йшая [максімáльная] нагрýзка
**Höchstbetrag** *m* -(e)s, -beträge максімáльная сýма, максімáльны вынік
**hóch stehend** *a* 1) вéрхні 2) высокапастáўлены
**höchsteigen** *a высок.*: ***in ~er Persón*** улáснай персóнай
**hóchstellen** *аддз. vt* 1) (па)стáвіць высóка 2) ценíць, высóка стáвіць
**höchstens** *adv* не больш за; сáмае бóльшае
**Höchstgrenze** *f* -, -n мáксімум, мяжá
**Hóchstimmung** *f* - вясёлы [дóбры] настрóй [гýмар]
**Höchstleistung** *f* -, -en 1) найвышэ́йшае дасягнéнне, рэкóрд 2) *тэх.* максімáльная магýтнасць
**Höchstmaß** *n* -es, -e мáксімум, вышэ́йшая мéра [ступéнь] (*an D – чаго-н.*)
**hőchstpersönlich** *adv* асабíста
**Höchstpreis** *m* -es, -e сáмая высóкая [максімáльная] цанá
**Höchstprofit** *m* -es, -e максімáльны прыбытак
**Höchstpunktzahl** *f* -, -en *спарт.* найбóльшая кóлькасць [сýма] ачкóў

**höchstwahrschéinlich** *adv* найбольш верагодна, найбольш праўдападобна
**Höchstwert** *m* -(e)s, -e найбольшае значэнне, максімум; ***éinen ~ an etw. (D) erréichen*** дасягнуць максімуму ў чым-н.
**Hóchtal** *n* -(e)s, -täler высакагорная даліна
**Hóchtour** [-tu:r] *f* -, -en 1) горная экскурсія 2): ***auf ~en árbeiten [láufen*]*** працаваць на поўную [усю] магутнасць
**hóchtourig** [-tu:-] *a тэх.* высокаабаротны (*рухавік*)
**hóchtrabend** *a* напышлівы
**hóchverehrt** *a* глыбокапаважаны
**Hóchverrat** *m* -(e)s дзяржаўная здрада
**Hóchverräter** *m* -s, - дзяржаўны здраднік
**Hóchwasser** *n* -s, - 1) паводка 2) марскі прыліў
**hóchwertig** *a* высакаякасны, найлепшага гатунку, найлепшай вартасці
**Hóchwild** *n* -(e)s каштоўная дзічына
**Hóchwürden**: ***Éuer [Éuere] ~*** Ваша прападобнасць (*зварот да каталіцкага святара*)
**Hóchzahl** *f* -, -en *матэм.* экспанент, паказчык ступені
**Hóchzeit** *f* -, -en вяселле, шлюб ◊ ***es ist nicht álle Táge ~*** ≅ не заўсёды кату масленіца
**hóchzeitlich** *a* вясельны
**Hócke I** *f* -, -n *спарт.* 1) прысяданне; ***sich in die ~ sétzen*** прысесці на кукішкі 2) пастава на сагнутых нагах (*лыжы*) 3) скачок, перамах (*гімнастыка*)
**Hócke II** *f* -, -n бабка (*снапоў у полі*)
**hócken** *vi* сядзець на кукішках; ***zu Háuse ~*** *разм.* сядзець дома
**Hócker** *m* -s, - зэдлік, услончык, табурэтка
**Höcker** *m* -s, - 1) горб, нарасць 2) узгорак
**höckerig** *a* шышкаваты, гузаваты, шурпаты; калдобісты (*пра дарогу*)
**Hockey** *n* [ˈhɔke *i* -ki] *n* -s *спарт.* хакей
**Hockey|schläger** [ˈhɔke-] *m* -s, -, ~**stock** *m* -(e)s, -stöcke (хакейная) клюшка
**Hóckstellung** *f* -, -en *спарт.* (пастава) на кукішках
**Hóde** *m* -n, -n, *f* -, -n, **Hóden** *m* -s, - *анат.* (семявое) яйцо
**Hódensack** *m* -(e)s, -säcke *анат.* машонка
**Hof** *m* -(e)s, Höfe 1) двор, сядзіба, хутар ◊ ***wéder Haus noch ~ háben*** не мець ні кала ні двара 2) двор (*каралеўскі*) 3) заезны двор; ***j-m den ~ máchen*** заляцацца да каго-н.
**Hóffart** *f* - пыха, фанабэрыя
**hóffärtig** *a* пыхлівы, фанабэрысты
**hóffen** *vi* (*auf A*) спадзявацца, мець надзею (*на што-н.*); ***das will ich ~*** спадзяюся, што гэта так
**hóffentlich** *adv* трэба спадзявацца, спадзяюся, можа быць
**Hóffnung** *f* -, -en надзея, спадзяванне; ***gúter ~ sein*** быць цяжарнай, чакаць дзіця; ***in der ~, dass…*** спадзеючыся, што… ◊ ***j-m ~ máchen*** абнадзейваць каго-н.; ~ ***hégen*** песціць надзею
**hóffnungslos** *a* безнадзейны, бязвыйсцевы
**Hóffnungslosigkeit** *f* - безнадзейнасць
**Hóffnungsschimmer** *m* -s, - пробліск надзеі
**hóffnungsvoll** *a* поўны спадзяванняў, поўны надзей; які падае надзеі
**Hófhund** *m* -(e)s, -e дварняк, дваровы сабака
**hofíeren** *vi* (*D*) (лісліва) дагаджаць каму-н.
**höfisch** *a* 1) прыдворны 2) вытанчаны (*пра манеры*)
**Hófleute** *pl* 1) прыдворныя 2) *гіст.* паншчынныя сяляне, халопы
**höflich** *a* ветлівы, далікатны
**Höflichkeit** *f* -, -en 1) далікатнасць, ветлівасць 2) ласкавасць; ***~en áustauschen*** абменьвацца кампліментамі
**Höfling** *m* -s, -e прыдворны
**Hófnarr** *m* -en, -en прыдворны блазен
**Hófrat** *m* -(e)s, -räte прыдворны радца, гофрат (*тытул*)
**Höhe** *f* -, -n 1) вышыня, узровень 2) верх, мяжа 3) памер; ***in der ~ von*** у памеры, на суму; ***in die ~ fáhren**** ускокваць; ***auf gléicher ~ mit (D)*** на адным узроўні з чым-н.; ***auf der ~ sein*** адчуваць сябе добра; ***auf die erfórderliche ~ bríngen**** падняць на належны ўзровень; ***das ist áber die ~!*** гэта ўжо занадта!; ***auf der ~ des Lébens*** у росквіце гадоў

**Hóheit** *f* -, -en 1) вялíкасць 2) высóкасць (*зварот*) 3) суверэнітэ́т, вярхóўная ўлáда

**Hóheitsgebiet** *n* -(e)s, -e тэрытóрыя дзяржáвы

**Hóheitszeichen** *n* -s, - эмблéма, сíмвал дзяржáўнай улáды, знак дзяржáўнай прыналéжнасці

**Hóhelied** [Hóhe Lied] *n* -es *бібл.* пéсня пéсняў

**Höhenflug** *m* -(e)s, -flüge вышы́нны палёт

**Höhenklima** *n* -s, -s *i* -ate гóрны клíмат

**Höhenlage** *f* - узрóвень, вышыня́; ***in éiner ~ von húndert Métern*** на вышыні́ ста мéтраў

**Höhenleitwerk** *n* -(e)s, -e *ав.* вертыкáльнае хваставóе апярэ́нне

**Höhenschichtlini¦e** *f* -, -n гарызантáль (*на карце*)

**Höhensonne** *f* - 1) гóрнае сóнца 2) -, -n кварцавая лямпа з ультрафіялетавым выпраменьваннем

**Höhenstrahlung** *f* -, en касмíчныя прóмні, касмíчнае выпрамéньванне

**Höhenzug** *m* -(e)s, -züge ланцу́г гор [узгóркаў]

**Höhepunkt** *m* -es, -e найвышэ́йшы пункт, кульмінацы́йны пункт, апагéй

**höher 1.** *a* больш высóкі, вышэ́йшы; ***die ~e Mathematík*** вышэ́йшая матэмáтыка; ***die ~e Stélle*** вышэ́йшая інстáнцыя **2.** *adv* вышэ́й; ~ ***máchen*** зрабíць вышэ́й, падня́ць ◊ ~ ***geht's nicht mehr!*** далéй нямá куды́! (*гэта ўжо мяжа*)

**hohl** *a* 1) пусты́, парóжні 2) запáлы, увагну́ты; ***~e See*** марскі зыб ◊ ***das ist kéine ~e Nuss wert*** ≅ гэ́та не вáрта вы́едзенага яйкá; ***éine ~e Hand háben*** браць хáбар

**Höhle** *f* -, -n 1) пячóра 2) бярлóг, лóгвішча 3) дупло́ (*дрэва*) 4) халу́па, дзíрка (*пра жытло*) 5) дуплó (*у зубе, дрэве*)

**höhlen** *vt* выдзёўбваць

**Höhlenmalerei** *f* - пячóрны жы́вапіс

**Höhlenmensch** *m* -en, -en пячóрны чалавéк

**Hóhlheit** *f* -, -en пустатá (*тс. перан.*)

**Hóhlkörper** *m* -s, - пóлая, пустáя (у сярэ́дзіне) рэч; пóлае цéла

**Hóhlmaß** *n* -es, -e мéра ёмістасці

**Hóhlraum** *m* -(e)s, -räume пустатá, пустáя прастóра

**Hóhlsaum** *m* -(e)s, -säume мярэ́жка

**Hóhlspiegel** *m* -s, - увагну́тае люстэ́рка, рэфлéктар

**Höhlung** *f* -, -en 1) выдзёўбванне 2) дуплó, вы́емка

**hóhlwangig** *a* з запáлымі шчóкамі

**Hóhlweg** *m* -(e)s, -e лагчы́на, цяснíна; яр

**Hóhlziegel** *m* -s, - пустацéлая цэ́гла

**Hohn** *m* -(e)s насмéшка, здзек, глум; ірóнія; ***das spricht áller Vernúnft ~*** гэ́та супярэ́чыць здарóваму сэ́нсу; ***das ist der réine ~*** гэ́та прóста смéшна; ***j-m zum ~*** на злóсць камý-н.

**höhnen** *vt* здзéквацца (*з каго-н., чаго-н.*), высмéйваць (*каго-н.*)

**höhnisch** *a* насмéшлівы; кплíвы, з'éдлівы

**hóhnlachen** *неаддз. vi* (*D*) насміхáцца, кпіць, здзéквацца (*з каго-н., з чаго-н.*)

**Höker** *m* -s, - *уст.* гандля́р драбязóю

**Hokuspókus** *m* - фóкусы; махля́рства

**Hólocaust** [*тс.* ˈholəkɔːst] -[s], -s знішчэ́нне вялíкай кóлькасці людзéй, асаблíва яўрэ́яў у фашы́сцкай Нямéччыне; (*ад старажытна-грэчаскага звычаю спальвання ахвярнай жывёлы*)

**hold** *a* 1) мíлы, чарóўны, прывáбны, цудóўны 2) (*D*) прыхíльны (*да каго-н.*); ***sie ist mir ~*** янá стáвіцца прыхíльна [добразычлíва] да мяне́

**hóldselig** *a* чарóўны, прывáбны, цудóўны

**hólen** *vt* 1) прынóсіць, прывóдзіць, прывóзіць; ***éinen Arzt ~*** вы́клікаць дóктара; ***j-n etw. ~ lássen**** пасылáць кагó-н. за чым-н. 2) здабывáць; ***hol ihn der Téufel!*** *разм.* каб ягó д'я́бал [чорт] забрáў! 3): ***Átem [Luft] ~*** перавéсці дух; ***sich (D) éinen Schnúpfen ~*** схапíць нáсмарк; ***sich (D) éine Kránkheit ~*** заразíцца хварóбай; ***sich (D) bei [von] j-m Rat ~*** звярну́цца да кагó-н. за парáдай

**hollá!** *int* гэй!, слу́хай!

**Hólländer** *m* -s, - 1) галáндзец; нідэрлáндзец 2) галáндскі сыр; ***der fliegende ~***

лятýчы галáндзец
**hólländisch** *a* галáндскі
**Hólle** *f* -: ***Frau ~*** (пáні) Мяцéліца (*у казцы*)
**Hölle** *f* -, -n 1) пéкла 2) запéчча; ***j-m die ~ heiß máchen*** *разм.* даць ды́хту камý-н. ◊ ***dort ist die ~ los*** там сам чорт нагý злóміць; ***j-m das Lében zur ~ máchen*** пераматвары́ць чыё-н. жыццё ў пéкла
**Höllenangst** *f* - смярóтны жах
**Hőllenlärm** *m* -(e)s страшэ́нны шум; гвалт
**Höllenstein** *m* -(e)s пякéльны кáмень, ля́піс, азотнакíслае срэ́бра
**höllisch** *a* пякéльны, страшэ́нны
**Holm** *m* -(e)s, -e 1) тапары́шча 2) *тэх.* папярэ́чына, пераклáдзіна 3) *спарт.* жэ́рдка
**hólp(e)rig** *a* нярóўны, калдóбісты
**hólpern** *vi* спатыкáцца; трэ́сціся (*пра аўтамашыны*)
**Holúnder** *m* -s, - *бат.* бузінá
**Holz** *n* -es, Hölzer 1) дрэ́ва, драўнíна, дрóвы; ***aus ánderem ~(e) geschnítten [geschnítzt] sein*** быць чалавéкам íншага склáду 2) лес; ***~ fällen [háuen]*** сячы́ лес
**Hólzapfel** *m* -s, -äpfel, **~baum** *m* -(e)s, -bäume дзíкая я́блыня
**Hólzarbeit** *f* -, -en драўля́ны вы́раб
**Hólzart** *f* -, -en драўнíнная парóда
**Hólzbau** *m* -(e)s, -ten драўля́ная будóва, драўля́ны буды́нак
**Hólzbearbeitung** *f* - апрацóўка драўнíны
**Hólzbeschaffung** *f* - нарыхтóўка лéсу [дроў]
**Hólzblock** *m* -(e)s, -blöcke драўля́ная калóда
**hólzen** *vt* 1) сячы́ лес, нарыхтóўваць дрóвы 2) *спарт., разм.* грýба гуля́ць
**hölzern** *a* 1) драўля́ны 2) няўклю́дны
**Hólzfäller** *m* -s, - дрывасéк
**Hólzfaser** *f* -, -n драўнíна, драўля́нае валакнó
**Hólzgeist** *m* -es драўня́ны спірт
**Hólz|hacker** *m* -s, -, **~hauer** *m* -s, - *гл.* Holzfäller
**hólzig** *a* драўля́ністы, як дрэ́ва
**Hólzindustrie** *f* - лесапрамыслóвасць, лясня́я [дрэваапрацóўчая] прамыслóвасць
**Hólzkelle** *f* -, -n драўля́ная лы́жка
**Hólzklotz** *m* -es, -klötze палéна, калóда, плáха, плáшка
**Hólzkohle** *f* -, -n драўня́ны вýгаль
**Hólzpflaster** *n* -s, - драўля́ная маставáя
**Hólzpflock** *m* -(e)s, -pflöcke драўля́ны калóк
**Hólzscheit** *n* -(e)s, -e палéна
**Hólzschlag** *m* -(e)s, -schläge 1) вы́сечка лéсу 2) лесасéка, вы́сечка
**Hólzschneider** *m* -s, - рэ́зчык па дрэ́ве
**Hólzschnitt** *m* -(e)s, -e дрэвары́т (*гравюра на дрэве*)
**Hólzschwamm** *m* -(e)s, -schwämme драўля́ны грыб
**Hólzstamm** *m* -(e)s, -stämme ствол дрэ́ва
**Hólzstoff** *m* -(e)s драўня́ная мáса; цэлюлóза
**Hólzstoß** *m* -es, -stöße штáбель [касцёр] дроў, дрывóтня
**Hólzverarbeitung** *f* - дрэвапераапрацóўка
**Hólzverkleidung** *f* -, -en драўля́ная абшы́ўка [ашалёўка]
**Hólzverschlag** *m* -(e)s, -schläge драўля́ная перагарóдка
**Hólzweg** *m* -(e)s, -e лесавóзная дарóга ◊ ***auf dem ~ sein*** памыля́цца, збíцца з трóпу
**homogén** *a* аднарóдны, аднастáйны
**Homoným** *n* -(e)s, -e *лінгв.* амóнім
**Homöopathíe** *f* - гамеапáтыя
**homosexuéll** *a* гомасексуáльны
**Hónig** *m* -s мёд; ***j-m ~ ums Maul schmíeren*** *разм.* дагаджáць [падмáзваць] камý-н.
**Hónigbiene** *f* -, -n рабóчая пчалá
**Hónigkuchen** *m* -s, - мядóвы пéрнік
**hónigsüß** *a* салóдкі як мёд; *перан. тс.* саладжáвы
**Hónigwaben** *pl* сóты
**Honorár** *n* -s, -e ганарáр, узнагарóджанне
**Hópfen** *m* -s *бат.* хмель; ***da ist ~ und Malz verlóren*** гэ́та мáрная прáца [спрáва]
**Hópfenbau** *m* -(e)s хмелявóдства
**Hópfenstange** *f* -, -n 1) тычы́на для хмéлю 2) *разм.* бамбíза
**hópsen** *vi* (s) падскóкваць, скакáць

**hópsgehen*** *аддз. vi* (s) 1) *разм.* згубíцца 2) *груб.* загíнуць

**Hóra** *f* -, -ren 1) час, пáра 2) *pl царк.* час слýжбы, малéння

**Hörapparat** *m* -(e)s, -e, **Hörgerät** *n* -(e)s, -e слухавы́ апарáт

**hörbar** *a* чýтны, вырáзны; ***kaum*** ~ ледзь улóўны

**Hörbarkeit** *f* - чýтнасць

**horch!** *int* ша!, цíха!

**Hórchgerät** *n* -(e)s, -e прылáда для падслухóўвання; гукаўлóўнік

**Hórchposten** *m* -s, - *вайск.* пост падслухóўвання; сакрэ́т

**Hórchdienst** *m* -(e)s, -e *вайск.* слýжба радыёразвéдкі

**hórchen** *vi* прыслухóўвацца, падслухóўваць; ***an der Tür*** ~ падслухóўваць каля́ дзвярэ́й

**Hórde** *f* -, -n хéўра, бáнда

**hórdenweise** *a* 1) пляме́намі 2) натóўпамі, бáндамі

**hören 1.** *vt*, *vi* чуць, слýхаць; ***Vórlesungen*** ~ слýхаць лéкцыі; ***ich hábe sie síngen*** ~ я чуў, як янá пяé; ***er lässt nichts von sich*** ~ аб ім нічóга не чувáць; ***j-m zu ~ gében**** давéсці да чыйгó-н. вéдама; ***das lässt sich*** ~ гэ́та дóбра скáзана; аб гэ́тым мóжна пагаварыць **2.** *vi* (*auf A*) слýхацца (*каго-н.*), прыслухóўвацца (*да чаго-н.*); ***auf j-s Rat*** ~ слýхацца чыёй-н. парáды

**Hören** *n* -s слых, здóльнасць чýць ◊ ***es vergíng ihm ~ und Séhen*** ён зусíм разгубíўся, збянтэ́жыўся ≅ у ягó галавá закруцíлася

**Hörensagen** *n*: ***vom*** ~ павóдле чýтак

**Hörer** *m* -s, - 1) слухáч 2) трýбка (тэлефóна) 3) навýшнікі

**Hörfehler** *m* -s, - памы́лка слы́ху

**Hörfolge** *f* -, -n 1) сéрыя радыёперадáч 2) аднá перадáча з сéрыі радыёперадáч

**Hörgerät** *n* -(e)s, -e слыхавы́ апарáт (*для тых, хто дрэнна чуе*)

**hörig** *a гіст.* прыгóнны; залéжны

**Hörige** *sub m, f* -n, -n *гіст.* прыгóнны, -ная

**Hörigkeit** *f* - 1) прыгóнная залéжнасць; кабалá, нявóля 2) залéжнасць, падпарадкавáнасць

**Hórizont** *m* -(e)s, -e гарызóнт, далягля́д

**horizontál** *a* гарызантáльны

**Horn** *n* -(e)s, Hörner 1) рог (*у розн. знач.*); ***j-m die Hörner stútzen*** паабівáць камý-н. рóгі, збíць з кагó-н. пы́ху 2) ражóк; ***ins ~ stóßen**** трубíць у рог; ***das ~ blásen**** іграць на ражкý

**Hórnbläser** *m* -s, - гарнíст

**Hórnhaut** *f* -, -häute 1) *мед.* рагавáя абалóнка (*вока*) 2) мазóль

**hórnhäutig** *a* мазóлісты

**hórnig** *a* грýбы, цвёрды (як рог)

**Hornísse** *f* -, -n *заал.* шэ́ршань

**Horníst** *m* -en, -en гарнíст, трубáч

**Hórnvieh** *n* -s рагáтая жывёла

**horrénd** *a* агрóмністы, страшэ́нны, неймавéрны

**Hörrohr** *n* -(e)s, -e 1) слыхавáя трýбка 2) слыхавы́ ражóк 3) *мед.* стэтаскóп

**Hörsaal** *m* -(e)s, -säle аўдытóрыя

**Hörspiel** *n* -(e)s, -e музыкáльная радыёперадáча; тэáтр пéрад мікрафóнам

**Horst** *m* -(e)s, -e гняздó (*драпежнай птушкі*)

**Hort** *m* -(e)s, -e 1) скарб 2) прытýлак, прыстáнішча, апíрышча; ~ ***des Fríedens*** аплóт мíру 3) грýпа падóўжанага дня

**hórten** *vt* назапáшваць, збірáць

**Horténsi¦e** *f* -, -n *бат.* гартэ́нзія

**Hórtnerin** *f* -, -nen выхавáцелька (*у групе падоўжанага дня*)

**Hörweite** *f* - мяжá чýтнасці [дасягáльнасці] гýку

**Hóse** *f* -, -n штаны́, нагавíцы ◊ ***sie hat die ~n an*** янá кірýе дóма ўсíмі спрáвамі; ***das Herz fiel ihm in die*** ~ у ягó душá ў пя́ткі [пя́ты] ўцяклá; ***das ist Jácke wie*** ~ гэ́та аднó і тóе ж, гэ́та ўсё рóўна; ***j-m die ~ straff zíehen**** *разм.* адлупцавáць кагó-н.; ***sich auf die ~n sétzen*** засéсці за навýку; зубры́ць

**Hósenbein** *n* -(e)s, -e штанíна

**Hósenboden** *m* -s, - *i* -böden зад штанóў

**Hósenbügel** *m* -s, - вéшалка для штанóў

**Hósenrock** *m* -(e)s, -röcke спаднíца-штаны́

**Hósenstreifen** *m* -s, - лампáс
**Hósenträger** *pl* шлéйкі
**Hospitál** *n* -s, -e *i* -täler шпітáль, лазарэ́т
**Hospitánt** *m* -en, -en вóльны слухáч, практыкáнт
**Hospitatión** *f* -, -en узаеманавéдванне заня́ткаў; ***er hat zwei ~en dúrchgeführt*** ён навéдаў два ўрóкі
**hospitíeren** *vi* 1) навéдваць урóкі настáўніка 2) быць вóльным слухачóм, быць практыкáнтам
**Hospíz** *n* -es, -e прыту́лак
**Hóstess** [-tis] *f* -, -en перакладчыца (*на выставах, фестывалях інфармацыйных бюро і г.д.*)
**Hósti¦e** *f* -, -n *царк.* прóсфіра, прычáсце
**Hotél** *n* -s, -s атэ́ль
**Hotélgast** *m* -(e)s, -gäste прыéзджы (*у гасцініцы*)
**Hub** *m* -(e)s, Hübe 1) пад’ём; вышыня́ пад’ёму 2) размáх 3) *тэх.* ход
**hüben**: ~ ***und drüben*** на гэ́тым і тым баку́; тут і там
**Húbraum** *m* -(e)s, -räume *тэх.* рабóчы аб’ём цылíндра
**hübsch** *a* 1) (пры)гóжы, мíлы, прывáбны; ***sich ~ máchen*** выстрóйвацца 2) *ужываецца ў разм. мове для ўзмацнення і тады не перакладаецца*: ~ ***sáuber*** чы́сценькі, чысцю́ткі; ~ ***rúhig*** ціха, ціхенька
**Húbschrauber** *m* -s, - верталёт
**húckepack:** ~ ***trágen**** *разм.* насíць на спíне [на пагэ́ршках]
**Hudeléi** *f* -, -en 1) нядбáйнасць 2) дрэ́нная рабóта [прáца]
**húdeln** *vi разм.* нядбáла працавáць
**Huf** *m* -(e)s, -e капы́т; ***mit den ~en schlágen**** брыкáцца
**Húfbeschlag** *m* -(e)s кавáнне (каня́)
**Húfeisen** *n* -s, - падкóва
**húfeisenförmig** *a* падковападóбны
**Húfschlag** *m* -(e)s, -schläge гру́кат капытóў
**Húfschmied** *m* -(e)s, -e кавáль
**Hüftbein** *n* -(e)s, -e тазасцегнавáя косць
**Hüfte** *f* -, -n бядрó, сцягнó, бок; *спарт.* пóяс; ***~en fest!*** ру́кі на [у] бóкі! (*каманда*); ***Béugen in den ~n*** згінáнне ту́лава (*гімнастыка*); ***Hand an der ~!*** рукá на баку́! (*каманда*)
**Hüftnerv** *m* -s, -en сядáлішчны нерв
**Hüftschwung** *m* -(e)s, -schwünge *спарт.* кідóк цéраз сцягнó
**Hügel** *m* -s, - узгóрак, пагóрак
**hügelig** *a* пагóрысты, узгóрысты
**Huhn** *n* -(e)s, Hühner ку́рыца; ***ein dúmmes ~*** ду́рань, дурніца ◊ ***ich hábe mit dir noch ein Hühnchen zu rúpfen*** мне трэ́ба з табóю яшчэ́ звéсці раху́нкі
**Hühnerauge** *n* -s, -n мазóль (*на назе*); ***j-m auf die ~n tréten**** наступíць каму́-н. на мазóль, закрану́ць каму́-н. балю́чае мéсца
**Hűhnerbrühe** *f* -, -n куры́ны булён
**Hühnerfarm** *f* -, -en птушкафéрма
**Hühnerfleisch** *n* -(e)s куры́нае мя́са
**Hühnerhabicht** *m* -(e)s, -e *заал.* я́страб-курáтнік
**Hühnerhof** *m* -(e)s, -höfe птушы́ны двор
**Hühnerhund** *m* -(e)s, -e вы́жал, лягáвы сабáка
**Hühnerleiter** *f* -, -n курасáдня, сéдала
**Hühnerstall** *m* -(e)s, -ställe курасáдня, курáтнік
**Hühnerzucht** *f* - птушкагадóўля (*пра курэй*)
**Huld** *f* - *уст., іран.* прыхíльнасць, добразычлíвасць
**húldigen** *vi* (*D*) 1) шанавáць, паважáць (*каго-н.*); ***éiner Frau ~*** заляцáцца да жанчы́ны; ***den Künsten ~*** служы́ць мастáцтву; ***dem Alkohól ~*** *жарт.* служы́ць Бáхусу 2) прысягáць на вéрнасць (*каму-н.*)
**Húldigung** *f* -, -en 1) шанавáнне, пашáна 2) *гіст.* прынясéнне прыся́гі на вéрнасць
**húldreich, húldvoll** *a* добразычлíвы, лíтасцівы; прыхíльны
**Hülle** *f* -, -n 1) абалóнка; пóкрыва 2) футарáл; ***in ~ und Fülle*** у вялíкай кóлькасці, удóсталь; ***die stérbliche ~*** тлéнныя астáнкі [рэ́шткі]
**hüllen 1.** *vt* заху́тваць, захінáць, загóртваць; **2. ~, sich** заху́твацца

**Hülse** *f* -, -n 1) гільза; абало́нка 2) струк 3) *тэх.* уту́лка
**Hülsenfrucht** *f* -, -früchte стру́кавая [бабо́вая] расліна
**humán** *a* гума́нны
**Humanität** *f* - гума́ннасць, чалаве́чнасць
**Húmbug** *m* -s *разм.* містыфіка́цыя, ашука́нства
**Humilität** *f* - пако́рлівасць, цярплі́васць, маўклі́васць
**Humilitatión** *f* -, -en знява́га; уніжэ́нне
**Húmmel** *f* -, -n чмель; ***~n im Kópfe háben*** быць капры́зным
**Húmmer** *m* -s, - *заал.* ама́р
**Humór** *m* -s гу́мар; ***áusgelassener ~*** во́льныя жа́рты; ***Sinn für ~ háben*** мець пачуццё гу́мару
**humórvoll** *a* дасці́пны, тра́пны
**húmpeln** *vi* чыкільга́ць, кульга́ць, наку́льгваць
**Húmpen** *m* -s, - ке́ліх, ча́ша
**Húmus** *m* - перагно́й; гу́мус
**Hund** *m* -(e)s, -e саба́ка; ***vor die ~e géhen**** *разм.* прапа́сці, загі́нуць, збанкрутава́ць ◊ ***da liegt der ~ begráben*** *разм.* вось дзе саба́ка закапа́ны; ***mit állen ~en gehétzt sein*** ≅ прайсці́ агонь і ваду́; ***j-n auf den ~ bríngen**** *разм.* разары́ць [даве́сці да гале́чы] каго́-н.; ***getróffener ~ bellt*** ≅ на зло́дзеі ша́пка гары́ць; хто парася́ ўкра́ў, таму́ і ў вуша́х пішчы́ць
**Húndearbeit** *f* -, -en ка́таржная рабо́та
**Húndefraß** *m* -es агі́дная стра́ва [е́жа]
**Húndegekläff** *n* -es га́ўканне, ця́ўканне (*сабакі*)
**Húndehütte** *f* -, -n (саба́чая) бу́дка
**Húndekälte** *f* - *разм.* саба́чы хо́лад, страшэ́нная халадэ́ча
**húndemüde** *a* сто́млены [змо́раны] як саба́ка
**Húndepeitsche** *f* -, -en (г)ара́пнік
**Húnderasse** *f* -, -n паро́да саба́к
**húndert** *num* сто
**Húndert I** *n* -s, -e со́тня; ***zu ~en*** со́тнямі; ***~e und áber ~e*** со́тні і со́тні
**Húndert II** *f* -, -en сто (*лік*)
**Húnderter** *m* -s, - 1) со́тня; ***auf die Zéhner fólgen die ~*** за дзеся́ткамі іду́ць со́тні 2) со́тня (*купюра*)
**húnderterlei** *adv* со́тні ро́зных
**húndertfach 1.** *a* сторазо́вы **2.** *adv* у сто разо́ў
**Húndertjahrfeier** *f* -, -en стогадо́вы юбіле́й
**húndertjährig** *a* стогадо́вы; ***der ~e Gebúrtstag*** со́тыя ўго́дкі, сто год з дня нараджэ́ння
**Húndertschaft** *f* -, -en со́тня (*людзей*)
**Húndertstel** *n* -s, - со́тая ча́стка [до́ля]; *pl* *матэм.* со́тыя
**Húndesperre** *f* -, -n забаро́на спуска́ць саба́к з пры́вязі
**Húndewetter** *n* -s саба́чае [агі́днае] надво́р'е
**Hündin** *f* -, -nen су́ка
**hündisch** *a* саба́чы; *перан.* по́длы, гню́сны
**húndsgemein** *a груб.* по́длы, гане́бны, ні́зкі
**Húndstage** *pl* са́мыя гара́чыя дні го́да (*ад 23 ліпеня да 23 жніўня*)
**Hüne** *m* -n, -n во́лат, асі́лак, гіга́нт
**Hünengrab** *n* -(e)s, -gräber курга́н
**Húnger** *m* -s 1) го́лад; ***~ háben*** быць гало́дным, хаце́ць е́сці; ***den ~ stíllen*** утаймава́ць го́лад; ***vor ~ stérben**** памі́раць з го́ладу 2) *перан.* пра́га, мо́цнае жада́нне
**Húngerdasein** *n* -s гало́днае жыццё; ***ein ~ führen*** жыць на́дгаладзь [у го́ладзе]
**Húngerkur** *f* -, -en гало́дная дые́та
**húngern** *vi* галада́ць, быць гало́дным; ***mich húngert*** я хачу́ е́сці; ***sich zu Tóde ~*** замары́ць сябе́ го́ладам; ***sich gesúnd ~*** вы́лячыцца гало́днай дые́тай
**Húngerpfote** *f*: ***an den ~n sáugen**** смакта́ць ла́пу, галада́ць
**Húngersnot** *f* -, -nöte го́лад (*масавы*)
**Húngerstreik** *m* -(e)s, -s *i* -e галадо́ўка; ***in den ~ tréten**** аб'яві́ць галадо́ўку
**Húngertuch**: ***am ~ nágen*** жыць напо́ўгаладзь [галаднава́та], ≅ пакла́сці зу́бы на палі́цу
**húngrig** *a* гало́дны; ***nach etw. (D) ~ sein***

жада́ць, пра́гнуць (*чаго-н.*)

**Hunt** *m* -(e)s, -e го́рны ваго́нік

**Húpe** *f* -, -n сігна́льны гудо́к, сірэ́на

**húpen** *vi* дава́ць гудо́к, гудзе́ць, сігна́ліць; ***ein Áuto hupt*** аўтамашы́на сігна́ліць

**hüpfen** *vi* (*h, s*) 1) скака́ць, падско́кваць 2) калаці́цца (*пра сэрца*)

**Hürde** *f* -, -n 1) тын; парка́н 2) заго́н 3) *спарт.* бар'е́р; ***die ~ úmstürzen*** збіць бар'е́р

**Hürdenlauf** *m* -(e)s, -läufe *спарт.* бег з бар'е́рамі, бар'е́рны бег

**Húre** *f* -, -n ву́лічная дзе́ўка, прастыту́тка

**hurrá!** ура́! сла́ва!

**Hurráruf** *m* -(e)s, -e крык ура́

**Húrrikan** *m* -s, -e урага́н, смерч

**húrtig** *a* спры́тны, паваро́тлівы; *~!* жваве́й!

**Húrtigkeit** *f* - спрыт, быстрыня́, шпа́ркасць

**Husár** *m* -en, -en гуса́р

**Husárenstreich** *m* -(e)s, -e сме́лая вы́хадка, дзёрзкі мане́ўр

**husch**! *int* шмыг!, шусь!

**húschen** *vi* (s) мільгану́ць, прамільгну́ць; ***ein Lächeln húschte über sein Gesícht*** усме́шка прамільгну́ла на яго́ тва́ры; ***hin und her*** ~ сно́ўдацца туды́-сюды́

**hüsteln** *vi* пака́шліваць

**hústen 1**. *vi* ка́шляць; ***ich wérde dir was ~!*** *разм.* чхаць я на цябе́ хаце́ў! **2.** *vt* адка́шліваць (*макроту*)

**Hústen** *m* -s ка́шаль; ***von ~ befállen wérden*** раска́шляцца

**Hut I** *m* -(e)s, Hüte 1) капялю́ш; ***den ~ áufsetzen*** надзе́ць капялю́ш; ***den ~ lüften [zíehen*]*** прыўзня́ць капялю́ш (*для прывітання*); ***~ ab!*** ша́пкі далоў!; ***únter éinen ~ kómmen**** *перан.* стаць аднаду́мцамі, аб'ядна́цца; ***víele Köpfe únter éinen ~ bríngen**** аб'ядна́ць ро́зныя ду́мкі [по́гляды], дабі́цца аднагало́снасці; ***j-n únter dem ~ háben*** зладзіць каго́-н. у па́стку, ашука́ць каго́-н.; ***der ~ wird Íhnen hoch géhen**** ≅ Вы аж рот разя́віце ад дзі́ва ◊ ***wie der Kopf, so der ~*** ≅ які́ пан, такі́ і капта́н 2) *тэх.* гало́ўка, капялю́шык

**Hut II** *f* - ахо́ва, засцяро́га; ***auf der ~ sein*** быць напагато́ве; ***in gúter ~ sein*** быць у небяспе́цы

**hüten 1.** *vt* 1) ахо́ўваць, засцерага́ць; абараня́ць, бараніць; ***Kínder ~*** дагляда́ць дзяце́й; ***das Bett ~*** хварэ́ць, ляжа́ць у пасце́лі; ***die Zúnge ~*** трыма́ць язы́к за зуба́мі 2) па́свіць; **2. ~, sich** (*vor D*) сцерагчы́ся (*чаго-н.*)

**Hüter** *m* -s, - 1) хава́льнік; вартаўні́к 2) пасту́х

**Hútkrempe** *f* -, -n палі́ капелюша́

**Hútmacherin** *f* -, -nen капялю́шніца, мады́стка

**Hútnadel** *f* -, -n шпі́лька для капелюша́

**Hútschachtel** *f* -, -n каро́бка пад капялю́ш

**Hütte** *f* -, -n 1) хаці́на, ха́та 2) металургі́чны заво́д 3) шклозаво́д, гу́та

**Hüttenindustrie** *f* -, -stri¦en металургі́чная прамысло́васць

**Hüttenwerk** *n* -(e)s, -e 1) металургі́чны заво́д 2) шклозаво́д

**Hüttenwerker** *m* -s, - металу́рг

**Hüttenwesen** *n* -s металу́ргія

**Hyäne** *f* -, -n *заал.* гіе́на

**hybríd** *a* гібры́дны

**Hybríde** *f* -, -n гібры́д

**Hýdra** *f* -, -dren гі́дра

**Hydránt** *m* -en, -en гідра́нт, водазабо́рны кран; пажа́рны кран

**hydráulisch** *a тэх.* гідраўлі́чны

**Hydroplán** *m* -s, -e гідрапла́н, гідрасамалёт

**Hygi¦éne** *f* - гігіе́на

**hygi¦énisch** *a* гігіені́чны

**hydroskópisch** *a* гідраскапі́чны

**Hýmne** *f* -, -n гімн

**Hypérbel** *f* -, -n *матэм.*, *літ.* гіпе́рбала

**hyperbólisch** *a* гіпербалі́чны

**Hypertoníe** *f* -, -ní¦en гіпертанія

**Hypnóse** *f* -, -n гіпно́з

**Hypothék** *f* -, -en *эк.* іпатэ́ка, закла́д

**Hypothése** *f* -, -n гіпо́тэза

**hypothétisch** *a* гіпатэты́чны

**Hysteríe** *f* -, -rí¦en істэры́я

# I

**ibídem** (*скар.* ib., ibíd.) там жа (*пры спасылках на крыніцы*)
**Íbis** *m* -ses, -se *заал.* íбіс
**ich** я (*G* méiner, *D* mir, *A* mich) ~ ***für méine Persón…*** што да мяне́, дык…
**Ích-Bewusstsein** [Íchbewusstsein] *n* -s самасвядо́масць (асобы)
**Íchform**: ***in der*** ~ у пе́ршай асо́бе
**Íchsucht** *f* - эгаíзм
**íchsüchtig** *a* эгаісты́чны
**Ichthyologíe** *f* - іхтыяло́гія
**ideál** *a* ідэа́льны
**Ideál** *n* -s, -e ідэа́л; ***ein ~ an Schönheit*** ідэа́льная прыгажо́сць
**idealisíeren** *vt* ідэалізава́ць
**Idealísmus** *m* - 1) *філас.* ідэалізм 2) ідэалі́зм, імкне́нне да ідэа́лу
**Idealíst** *m* -en, -en ідэалі́ст
**idealístisch** *a філас.* ідэалісты́чны
**Idée** *f* -, Idé¦en 1) ідэ́я; ду́мка; ***éine fíxe*** ~ назо́йлівая ідэя; ***nicht die blásse ~!*** не магу́ сабе́ ўявíць; ***auf éine ~ kómmen**** натра́піць на ду́мку 2) *разм.* паня́ццe; уяўле́нне, разуме́нне; ***kéine ~ (von D) háben*** не мець уяўле́ння (*аб чым-н.*) 3): ***éine*** ~ кры́ху [кры́шку]
**ide¦éll** *a* ідэ́йны, ідэа́льны
**idé¦enarm** *a* бе́дны на ідэ́і [ду́мкі]
**Idé¦en|gehalt** *m* -(e)s, -e, ~**gut** *n* -(e)s ідэ́йны змест, ідэ́йнае бага́цце, ідэ́йнасць
**idé¦enlos** *a* безыдэ́йны
**Idé¦enlosigkeit** *f* - безыдэ́йнасць
**Identifikatión** *f* -, -en ідэнтыфіка́цыя, атаяса́мліванне
**identifizíeren** *vt* 1) атаяса́мліваць, ідэнтыфікава́ць 2) ідэнтыфікава́ць (асо́бу)
**idéntisch** *a* 1) то́есны, ідэнты́чны 2) *матэм.* раўназна́чны
**Identität** *f* - то́еснасць
**Ideographíe** [Ideografíe] *f* -, -í¦en ідэаграфі́чнае пісьмо́, ідэагра́фія
**Ideologíe** *f* -, -¦en ідэало́гія
**ideológisch** *a* 1) ідэалагíчны; ***auf ~em Gebíet*** у галіне́ ідэало́гіі 2) ідэ́йны, ідэалагíчна вы́трыманы
**Idióm** *n* -s, -e *лінгв.* 1) ідыёма, ідыяматы́чны вы́раз 2) ідыём, дыяле́кт, гаво́рка
**Idiót** *m* -en, -en ёлупень, ідыёт, прыдуркава́ты
**idiótisch** *a* ідыяты́чны
**Idól** *n* -s, -e íдал, кумі́р (*тс. перан.*)
**Idolatríe** *f* -, -trí¦en 1) ідалапакланéнне 2) абагатварэ́нне, абагаўле́нне
**Idýll** *n* -s, -e, **Idylle** *f* -, -n іды́лія
**idýllisch** *a* ідылі́чны
**=ig** *суф. прыметнікаў, указвае на наяўнасць якога-н. прадмета або якой-н. якасці*: bärtig барада́ты, fléißig стара́нны
**Ígel** *m* -s, - во́жык; ***so ein ~!*** які́ ўпа́рты!; ***stáchelig [bórstig] wie ein*** ~ калю́чы, як во́жык
**=igkeit** *суф. назоўнікаў жан. роду, утварае назвы якасцей, характарыстык стану*: Müdigkeit сто́мленасць
**Ignoránt** *m* -en, -en не́вук
**Ignoranz** *f* - не́вуцтва
**ignoríeren** *vt* ігнарава́ць, не хаце́ць ве́даць (*чаго-н.*), не звярта́ць ува́гі (*на што-н.*)
**ihm** *D ад* er, es
**ihn** *A ад* er
**íhnen** *D ад* sie *pl*
**Íhnen** D *ад* Sie
**ihr 1.** *pron pers* 1) вы 2) *D ад* sie (sg) **2.** *pron poss* яе, іх, свой
**Ihr** *poss pron* **Íhre, Ihr, Íhre** Ваш (Ва́ша, Ва́ша(е), Ва́шы)
**íhre** *гл.* íhrige
**íhrer** *G ад* sie
**Íhrer** *G ад* Sie
**íhrerseits** *adv* са свайго́ (з яе́, з іх) бо́ку
**Íhrerseits** *adv* з Ва́шага бо́ку
**íhresgleichen** *a* такі́, як яна́; такíя, як яны́
**Íhresgleichen** *a inv* такі́, як Вы, падо́бны да Вас, ро́ўны Вам, падо́бны да сябе́, ро́ўны сабе́ (*форма ветлівага звароту*)
**íhret|hálben, ~wegen** *adv* дзе́ля яе́, дзе́ля іх

**Íhret|hálben, ~wegen** *adv* дзéля Вас
**íhrige** *pron poss*: ***der ~ [die ~, das ~]*** яе; іх; свой (*пры ўказанні на прыналежнасць дзейнікаў*)
**Íhrige** *pron poss*: ***der ~ [die ~, das ~, die ~n]*** ваш [вáша, вáша, вáшы, *у пісьмах* Ваш, Вáша, Вáша, Вáшы] (*форма ветлівага звароту*); *пры ўказанні на прыналежнасць дзейнікаў свой* [свая, сваё, свае]; ***die ~n*** Вáша сям'я́
**Ikóne** *f* -, -n ікóна, абрáз
**íllegal** *a* нелегáльны, незакóнны, падпóльны
**Íllegale** *sub m, f* -n, -n нелегáльны [падпóльны] рабóтнік
**Illegalität** *f* - 1) нелегáльнасць, незакóннасць 2) *перан.* падпóлле; ***in die ~ géhen**** пайсці ў падпóлле; ***in die ~ versétzen*** закансніравáць
**illegitím** *a* незакóнны, нелегіты́мны
**Illegitimität** *f* - незакóннасць; неправамéрнасць
**Illuminatión** *f* -, -en 1) ілюмінáцыя 2) расфарбóўка
**illuminíeren 1.** *vt* ілюмінавáць **2. ~, sich** *разм.* кры́ху вы́піць, падвы́піць
**Illusión** *f* -, -en ілю́зія, падмáн пачу́ццяў; ***sich ~en híngeben**** аддавáцца ілю́зіям; ***sich (D) ~en máchen (von D)*** цéшыць сябé ілю́зіямі (*наконт чаго-н.*)
**illusórisch** *a* ілюзóрны, пры́відны, мáрны, дарэ́мны
**illúster** *a* бліску́чы, знакаміты, славу́ты
**Illustratión** *f* -, -en ілюстрáцыя
**illustríert** *a* ілюстравáны
**Illustríerte** *sub f* -, -n ілюстравáны часóпіс
**illustríeren** *vt* ілюстравáць
**Íltis** *m* -ses, -se *заал.* тхор, шашóк
**im** = in dem
**Image** ['imidʒ] *n* -(s), -s 1) *псіхал.* вóбраз, уяўлéнне 2) íмідж
**imaginär** *a* уя́ўны, фікты́ўны
**Ímbiss** *m* -es, -e заку́ска, зáкусь; ***éinen ~ máchen*** перакусíць
**Ímbiss|halle** *f* -, -n, **~raum** m -(e)s, -räume, **~stube** *f* -, -n заку́сачная, буфéт
**imitíeren** *vt* імітавáць, перамáць, падрабля́ць
**Ímker** *m* -s, - пчаля́р
**Imkeréi** *f* -, -en пáсека, пчаля́рства
**ímkern** *vi* займáцца пчаля́рствам
**immanént** *a філас.* іманéнтны
**Immatrikulatión** *f* -, -en залічэ́нне (ва універсітэт, у ВНУ)
**immatrikulíeren** *vt* залíчваць у лік студэ́нтаў
**imméns** *a* неабся́жны, вялíзны
**ímmer** *adv* 1) заўсёды, заўжды́ 2) усё (*перад вышэйшай ступ.*); ***~ mehr*** усё бóлей; ***~ wíeder*** зноў і зноў; ***was (auch) ~*** што б ні
**immerdár** *adv* заўсёды
**ímmerfort** *adv* пастая́нна, няспы́нна, увéсь час
**ímmerhin** *adv* усё ж, тым не менш
**ímmer während** *adv* безупы́нна, без супы́ну
**ímmerzu** *adv* пастая́нна, без перапы́нку
**Immigránt** *m* -en, -en імігрáнт
**Immigratión** *f* -, -en імігрáцыя
**immigríeren** *vi* (s) іміграваць, прыязджáць на стáлае мéсца жыхáрства
**Immissión** *f* -, -en пранікнéнне, шкóднае ўздзéянне (*дыму і г.д.*)
**Immobíli¦en** *pl* нерухóмая маёмасць
**Immobilisíerung** *f* -, -en 1) *мед.* імабілізáцыя, фіксáцыя ў нерухóмым стáне (пашкоджанай канечнасці) 2) *камерц.* імабілізáцыя, абарачэ́нне ў нерухóмасць
**Immoralität** *f* - амарáльнасць
**Immortélle** *f* -, -n *бат.* сухацвéт, бяссмéртнік
**immún** *a* 1) *мед.* іму́нны, неўспрымáльны (*да хвароб, да атруты*) 2) які карыстáецца прáвам недакранáльнасці [імунітэ́ту] (*пра дэпутата*)
**immunisíeren** *vt* (*gégen A*) *мед.* імунізавáць, рабíць неўспрымáльным (да хварóбаў, я́даў)
**Immunität** *f* - 1) імунітэ́т, неўспрымáльнасць (да хварóбаў) 2) імунітэ́т, недатыкáльнасць; ***diplomátische ~*** дыпламаты́чны імунітэ́т
**Ímperativ** *m* -s, -e *грам.* загáдны лад; *філас.*, *філал.* Імператы́ў

**Ímperfekt** *n* -s, -e *грам.* імперфéкт (*прошлы час*)
**Imperialísmus** *m* - імперыялíзм
**Imperialíst** *m* -en, -en імперыялíст
**imperialístisch** *a* імперыялістычны
**impertinént** *a* дзёрзкі, нахáбны
**ímpfen** *vt* 1) *мед.* прышчэп(лі)ваць 2) прышчэп(лі)ваць (расліны); ***j-m den Hass ins Herz*** ~ унушáць камý-н. нянáвісць
**Ímpfreis** *n* -es, -er *с.-г.* чаранóк для прышчэпкі
**Ímpfschein** *m* -(e)s, -e пасвéдчанне аб прышчэпліванні [вакцынáцыі]
**Ímpfung** *f* -, -en прышчэп(лі)ванне, вакцынáцыя
**Ímpfzwang** *m* -(e)s абавязкóвае прышчэп(лі)ванне
**Ímpfstoft** *m* -(e)s, -e *мед.* вакцына
**Implantatión** *f* -, -en 1) *с.-г.* прышчэпка 2) *мед.* імплантáцыя, перасáдка, падсáдка (*органаў, тканак*)
**Implikatión** *f* -, -en 1) перан. перапляцéнне, непарыўная [неразрыўная] сýвязь 2) уключэнне, падразумевáнне 3) *лог.*, *матэм.* імплікáцыя
**implizíeren** *vt* уключáць (*што-н. куды-н.*); далучáць, уцягваць
**imponíeren** *vt* імпанавáць, выклікáць павáгу; рабíць урáжанне
**Impórt** *m* -(e)s, -e завóз, íмпарт
**Impórtartikel** *m* -s, - прадмéт увóзу [íмпарту]
**Importeur** [-ˈtø:r] *m* –s, -e *эк.* імпарцёр
**Impórtgeschäft** *n* -(e)s, -e 1) íмпартная здзéлка 2) íмпартная фíрма, íмпартнае гандлёвае прадпрыéмства
**Impórtgut** *n* -(e)s, -güter íмпартны тавáр
**importíeren** *vt* завóзіць, імпартавáць
**Impórtlizenz** *f* -, -en *эк.* ліцэнзія на ўвóз, íмпартная ліцэнзія
**Impórtmeldung** *f* -, -en íмпартная дэкларáцыя
**Impórtrestriktion** *f* -, -en скарачэнне [абмежавáнне] íмпарту
**Impórtware** *f* -, -n *гл.* Impórtgut
**Impórtzertifikat** *n* -(e)s, -e *эк.* íмпартны сертыфікáт, íмпартнае пасвéдчанне
**Impórtzoll** *m* -(e)s, -e *эк.* íмпартная [увазнáя] мытная пóшліна
**imposánt** *a* імпазáнтны, унушáльны
**impotént** *a* бяссíльны, нягдóльны; *мед.* імпатэнтны
**imprägníeren** *vt тэх.* прапíтваць
**imprägníert** *a* прапíтаны, непрамакáльны
**Impressário** *m* -s, -s і -sari¦en *тэатр.* імпрэсáрыо; антрэпрэнёр
**Impressión** *f* -, -en урáжанне
**Impressionísmus** *m* - імпрэсіянíзм
**Impressioníst** *m* -en, -en імпрэсіянíст
**Impréssum** *n* -s, -ssen выхадныя звéсткі [дáдзеныя] (*кнігі, часопіса*)
**Improvisatión** [-vi-] *f* -, -en імправізáцыя, экспрóмт
**improvisíeren** [-vi-] *vt* імправізавáць, стварáць экспрóмтам
**Impúls** *m* -es, -e íмпульс
**impulsív** *a* 1) імпульсíўны, запáльчывы 2) íмпульсны
**imstánde** [im Stánde]: ~ ***sein*** магчы, быць здóльным (зрабíць што-н.)
**in** *prp* (*A – на пытанне* «куды»?, *D – на пытанне* «дзе»? і «калі»?) у, на; ***ins Konzért géhen**** ісцí на канцэрт; ***in Minsk*** у Мíнску; ***in 3 Tágen*** праз 3 дні
**=in** *суф. назоўнікаў жан. роду, утварае*: 1) *назвы асоб жан. полу ад назваў асоб муж. полу*: Fréundin сябрóўка 2) *назвы самак жывёл*: Wölfin ваўчыца
**Inángriffnahme** *f* - пачáтак, пачынáнне (*якой-н. работы, справы*)
**Inánspruchnahme** *f* -, -en 1) выкарыстáнне; ***únter*** ~ за кошт (*чаго-н.*) 2) *тэх.* напрýжанне, нагрýзка
**Inaugurálrede** *f* -, -n устýпнае слóва; прамóва з нагóды ўступлéння на пасáду
**Inauguratión** *f* -, -en 1) (святóчнае) адкрыццё 2) святóчнае ўвядзéнне [уступлéнне] на пасáду
**Ináussichtstellung** *f* -, -en абнадзéйванне, абяцáнне; *перан.* перспектыва
**Ínbegriff** *m* -(e)s, -e сýтнасць, сукýпнасць; ***mit ~ von…*** уключáючы; уключна; ***mit ~ áller Éinzelheiten*** з усíмі падрабязнасцямі

**ínbegriffen** *adv* уклю́чна
**Inbetríeb|nahme** *f* -, **~setzung** *f* - пуск, уво́д у эксплуата́цыю (*машыны, завода*)
**Ínbrunst** *f* - стара́ннасць, па́лкасць, запа́л; ***mit*** ~ стра́сна, усёй душо́й
**ínbrünstig** *a* стара́нны, па́лкі, з запа́лам
**ínchoativ** [-k-]: ***~e Vérben*** *грам*. пачына́льныя дзеясло́вы
**Indefinítpronomen** *n* -s, - *i* -mina, **Indefinítum** *n* -s, -ta неазнача́льны займе́ннік
**indém** *conj* **1.** тым ча́сам, між тым, у той час **2.** *указвае на спосаб дзеяння*: ***~ er an díesem Werk árbeitete, studíerte er víele Dokuménte*** працу́ючы над гэ́тым тво́рам, ён вы́вучыў шмат дакуме́нтаў
**In-den-Tág-hinein-Leben** *n* -s бесклапо́тнае жыццё
**Índer** *m* -s, - інды́ец
**indés(sen)** **1.** *adv* тым ча́сам **2.** *conj* усё ж, адна́к
**Índex** *m* -es, -e i -dizes 1) паказа́льнік, і́ндэкс 2) рэ́естр, спіс; ***Bücher auf den ~ sétzen*** уне́сці які́я-н. кнігі ў лік забаро́неных
**Indiáner** *m* -s, - індзе́ец
**indiánisch** *a* індзе́йскі
**Indíensthaltung** *f* - *тэх*. эксплуата́цыя, утрыма́нне ў ста́не спра́ўнасці
**Indíenststellung** *f* - *тэх*. зда́ча [пуск] у эксплуата́цыю 2) *вайск*. залічэ́нне на слу́жбу; уступле́нне ў строй (*тэхнікі*)
**Índi¦er** *m* -s, - *гл*. Inder
**indifferént** *a* індыферэ́нтны, абыя́кавы, нейтра́льны
**Indifferénz** *f* -, -en індыферэ́нтнасць, абыя́кавасць
**indigén** *a* ту́быльны, мясцо́вы, аўтахто́нны, тузе́мны
**Índikativ** *m* -s, -e *грам*. абве́сны лад
**indirékt** *a* ускóсны, пасрэ́дны
**índisch** *a* інды́йскі
**índiskret** *a* нясці́плы, бестакто́ўны
**Individualisatión** *f* -, -en індывідуаліза́цыя
**Individualísmus** *m* - індывідуалі́зм
**individualístisch** [-vi-] *a* індывідуалісты́чны
**Individualität** [-vi-] *f* -, -en індывідуа́льнасць
**individuéll** [-vi-] *a* індывідуа́льны, асабі́сты
**Indivíduum** [-vi-] *n* -s, -duen 1) індыві́д, асо́бны чалаве́к 2) *біял*. асо́біна 3) *пагардл*. няго́днік, падлю́га
**Indíz** *n* -es, -i¦en *часцей pl* 1) прыме́та 2) *юрыд*. ускóсны до́каз
**índoeuropäisch** *a лінгв*. індаеўрапе́йскі
**índogermánisch** *a лінгв*. індагерма́нскі, індаеўрапе́йскі
**indolént** *a* абыя́кавы, вя́лы, іне́ртны
**Indonési¦er** *m* -s, - інданезі́ец
**indonésisch** *a* інданезі́йскі
**Induktión** *f* -, -en 1) інду́кцыя, вы́вад ад асо́бнага да агу́льнага 2) *фіз*. інду́кцыя; ***gégenseitige*** ~ узаемаінду́кцыя
**induktív** *a* індукты́ўны; *фіз*. індукцы́йны
**Indulgénz** *f* -, -en 1) паслушэ́нства; *царк*. по́слух 2) цярпі́масць; пабла́жка 3) змякчэ́нне пакара́ння; *рэл.* адпушчэ́нне грахо́ў; *гіст*. індульге́нцыя
**industrialisíeren** *vt* індустрыялізава́ць
**Industríe** *f* -, -strí¦en інду́стрыя, прамысло́васць; *pl* галі́ны прамысло́васці; ***örtliche*** ~ мясцо́вая прамысло́васць
**Industríeabfälle** *pl* прамысло́выя адхо́ды
**Industríeabwässer** *pl* прамысло́выя сцёкавыя во́лы
**Industríeanlage** *f* -, -n прамысло́вае збудава́нне, прамысло́вае абсталява́нне
**Industríearbeiter** *m* -s, - індустрыя́льны рабо́чы
**Industríeausrüstung** *f* -, -en прамысло́вае абсталява́нне
**Industríeausstellung** *f* -, -en прамысло́вая вы́стаўка
**Industríebau** *m* 1) -(e)s прамысло́вае будаўні́цтва 2) -(e)s, -ten прамысло́вае збудава́нне [буды́нак]
**Industríebedarf** *m* -(e)s: ***für den ~*** для прамысло́вых патрэ́б
**Industríebeschäftigte** *sub m, f* -en, -en той, хто заня́ты ў прамысло́васці
**Industríebetrieb** *m* -(e)s, -e 1) прамысло́вае прадпрые́мства 2) прамысло́вая вытво́рчасць
**Industríebezirk** *m* -(e)s, -e індустрыя́льны [прамысло́вы] раён
**Industríeeinrichtung** *f* -, -en прамысло́-

вае абсталява́нне

**Industríegewerkschaft** *f* -, -en прафесíйны саю́з рабóтнікаў прамыслóвасці

**Industríekreise** *pl* прамыслóвыя [дзелавы́я] кóлы

**Industríeland** *n* -(e)s, -länder індустрыя́льная дзяржáва

**industri¦éll** *a* прамыслóвы, індустрыя́льны

**Industri¦élle** *sub m* -n, -n прамыслóвец

**Industríenormen** *pl* прамыслóвыя стандáрты

**Industríepflanzen** *pl* тэхнíчныя культу́ры [раслíны]

**Industríeproduktion** *f* - 1) прамыслóвая вытвóрчасць 2) прамыслóвая прадýкцыя

**Industríesiedlung** *f* -, -en рабóчы пасёлак

**Industríetransportmittel** *pl* трáнспартныя срóдкі для прамыслóвых перавóзак

**Industríeunternehmen** *n* -s, - прамыслóвае прадпрыéмства

**Industríeverband** *m* -(e)s, -verbände 1) прамыслóвы прафесіянáльны саю́з 2) саю́з прамыслóўцаў

**Industríeviertel** *n* -s, - прамыслóвы раён (*горада*)

**Industríewaren** p*l* прамыслóвыя тавáры

**Industríewerte** *pl* áкцыі прамыслóвых прадпрыéмстваў

**Industríezentrum** *n* -s, -tren прамыслóвы [індустрыя́льны] цэнтр

**Industríezweig** *m* -(e)s, -e галінá прамыслóвасці

**ineinánder** *adv* аднó ў аднó, адзíн у аднагó

**ineinánder fügen** *vt* злучáць (аднó з адны́м), устаўля́ць (аднó ў аднó)

**ineinánder gréifen*** *аддз. vi* 1) *тэх.* счэ́пліваццa адзíн з адны́м 2) быць ва ўзаемадзéянні, узаемадзéйнічаць

**Inempfángnahme** *f* - *канц.* атрымáнне; ***j-n zur ~ bevóllmächtigen*** упаўнавáжыць кагó-н. атрымáць [прыня́ць] штó-н.

**inért** *a* інéртны, няспрáўны, пасíўны

**infám** *a* пóдлы, ганéбны, несумлéнны

**Infamíe** *f* -, -í¦en 1) пóдласць 2) гáньба

**infamíeren** *vt* абражáць, зневажáць

**Infanteríe** *f* -, -í¦en пяхóта

**Infanteríebegleitpanzer** *m* -s, - танк непасрэ́днай падтры́мкі пяхóты

**Infanteríst** *m* -en, -en пехацíнец

**infantíl** *a* інфанты́льны

**Infantilität** *f* - інфанты́льнасць, недарáзвітасць, дзяцíнасць

**Infárkt** *m* -(e)s, -e *мед.* інфáркт

**Infektión** *f* -, -en інфéкцыя, зарáза

**Infektiónserreger** *m* -s, - узбуджáльнік інфéкцыі

**Infektiónsherd** *m* -(e)s, -e ачáг інфéкцыі

**Infektiónskrankheit** *f* -, -en інфекцы́йная хварóба

**infektös** *a* інфекцы́йны, зарáзны

**Inférno** *n* -s пéкла; апрамéтная

**Infiltránt** *m* -en, -en (варóжы) агéнт (*які́ пранікае ў якую-н. арганізацыю*)

**Ínfinitiv** *m* -s, -e *грам.* інфініты́ў, неазначáльная фóрма дзеяслóва

**Ínfinitivsatz** *m* -es, -sätze *грам.* інфініты́ўны зварóт

**Infíx** *n* -es, - *грам.* інфíкс

**in flagránti** *юрыд.* на мéсцы злачы́нства; **~ *ertáppen*** заспéць на мéсцы злачы́нства

**Inflatión** *f* -, -en *эк.* інфля́цыя

**inflationístisch** *a* інфляцы́йны

**inflexíbel** *a* 1) нягнýткі, нерухóмы 2) *грам.* які́ не змяня́ецца

**Inflexibilität** *f* - 1) нягнýткасць, нерухóмасць 2) *грам.* нязмéнлівасць

**infólge** *prp* (*G*, von *D*) з прычы́ны (*чаго-н.*), у вы́ніку (*чаго-н.*)

**infolgedéssen** *adv* у вы́ніку гэ́тага, з гэ́тай прычы́ны

**Informatión** *f* -, -en інфармáцыя, звéсткі; ***~en éinziehen**** збірáць давéдкі

**informíeren 1.** *vt* 1) інфармавáць, паведамля́ць 2) навучáць **2. ~, sich** атры́мліваць інфармáцыю

**Ingáng|setzen** *n* -s, ~**setzung** *f* - *тэх.* пуск (у ход), зáпуск, прывядзéнне ў дзéянне

**Ingebráuchnahme** *f* - прыня́цце ў карыстáнне

**Ingenieur** [inʒəˈni̯øːr] *f* -, -n інжынéр; тэ́хнік (*са спецыяльнай адукацыяй*)

**Ingenieurschule** [inʒəˈni̯øːr-] *m* -s, -e сярэ́дняя тэхнíчная навучáльная ўстанóва, тэ́хнікум

**Ingenieurwesen** [inʒəˈni̯øːr-] *n* -s інжынéрная спрáва

**Ingredi¦énz** *f* -, -en *часцей pl* інгрэдыéнт, састаўнáя чáстка (*сумесі і г. д.*); *тэх.* прымéшка, пры́месь, прысáдка

**Íngrimm** *m* -(e)s (затóеная) злосць, азлóбленасць

**Íngwer** *f* -s *бат.* імбíр, імбéрац

**Ínhaber** *m* -s, - уладáльнік, гаспадáр; ~ ***der Dóktorwürde sein*** мець ступéнь дóктара навýк; ~ ***des Léhrstuhls*** загáдчык кáфедры; ~ ***von etw. (D) sein*** мець што-н., валóдаць чым-н.

**Ínhaberscheck** *m* -(e)s, -s *фін.* чэк на прад'яўнікá

**Ínhabersparguthaben** *n* -s, - *фін.*, *бухг.* уклáд на прад'яўнікá

**inhaftíeren** *vt* арыштавáць

**Inhaftíerung** *f* -, -en, **Inháftnahme** *f* -, -n áрышт

**Ínhalt** *m* -(e)s, -e 1) змест; ***dem ~ nach*** па змéсту 2) змéсціва 3) ёмістасць; *матэм.* аб'ём, плóшча

**ínhaltlich** *a* павóдле змéсту, з пýнкту глéджання змéсту

**ínhaltlos** *a* беззмястóўны

**Ínhaltsangabe** *f* -, -n 1) (карóткая) перадáча змéсту 2) *гл.* Ínhaltsverzeichnis

**Ínhaltsanzeiger** *m* -s, - аўта лічы́льнік расхóду; пакáзчык кóлькасці (*напр.*, бензіну)

**Ínhaltsbestimmung** *f* -, -en 1) выяўлéнне [вызначэ́нне] змéсту (*кнігі, рэчыва і г.д.*) 2) *матэм.* вылічэ́нне плóшчы, аб'ёму (цела)

**ínhaltsreich** *a* змястóўны, багáты змéстам

**ínhaltsschwer** *a* істóтны, вáжны 2) знáчны

**Ínhaltsverzeichnis** *n* -ses, -se змест, паказáльнік, вóпіс

**Initiál** *n* -s, -e, **Initiále** *f* -, -n пачаткóвая лíтара, ініцыя́л

**Initiálgeschwindigkeit** *f* -, -en *фіз.*, *тэх.* пачаткóвая хýткасць

**Initiatíve** [-və] *f* -, -n ініцыяты́ва, пачынáнне; ***die ~ ergréifen**** браць на сябé ініцыяты́ву; ***aus éigener ~*** па ўлáснай ініцыяты́ве; ***die ~ an sich réißen**** захапíць ініцыяты́ву

**Initiatívrecht** *n* -(e)s, -e прáва (заканадáўчай) ініцыяты́вы

**Initiátor** *m* -s, -tóren ініцыя́тар

**Injektión** *f* -, -en *мед.* ін'éкцыя, упы́рскванне

**injizíeren** *vt* *мед.* рабíць ін'éкцыю [упы́рскванне], упы́рскваць

**Inkapazität** *f* -, -en няздóльнасць

**Inkásso** *n* -s, -s *фін.* 1) інкáсавая аперáцыя 2) інкáсавы спóсаб разлíку

**inklusíve** [-və] *adv* уклю́чна, уключáючы; ~ ***Kósten*** уключáючы расхóды

**inkógnito** *adv* інкóгніта, пад чужы́м íмем

**ínkompetent** *a* некампетэ́нтны, недасвéдчаны

**Ínkompetenz** *f* -, -en некампетэ́нтнасць, недасвéдчанасць

**ínkongruent** *a* 1) *матэм.* не падóбны, нярóўны 2) *грам.* недапасавáны

**Ínkongruenz** *f* -, -en 1) *матэм.* нярóўнасць, несупадзéнне 2) *грам.* недапасавáнне

**ínkonsequent** *a* непаслядóўны

**Inkorporatión** *f* -, -en 1) інкарпарáцыя, далучэ́нне 2) *юрыд.* інкарпарáцыя [сістэматызáцыя] закóнаў

**Inkráftsetzung** *f* -, -en *юрыд.* увядзéнне ў дзéянне

**Inkrátttreten** *n* -s *юрыд.* уступлéнне ў сíлу

**Inkrustatión** *f* -, -en 1) інкрустáцыя 2) *тэх.* нáкіп, налёт, асáдак

**Inkubatión** *f* - інкубáцыя

**Inkubátor** *m* -s, -tóren інкубáтар

**Ínland** *n* -(e)s 1) свая́ краíна (*у адрозненне ад замежных краін*); ***im ~*** у мéжах краíны 2) *вайск.* глыбóкі тыл

**Ínländer** *m* -s, - грамадзянíн [жыхáр] пэ́ўнай краíны

**ínländisch** *a* унýтраны, айчы́нны

**Ínlandsaktiva** pl *фін.* унýтраныя акты́вы

**ínliegend** **1.** *a* уклáдзены **2.** *adv* *канц.* з укладáннем, прыклáдзены (пры гэ́тым)

**in memóriam** на пáмяць

**inmítten** *prp* (*G*) сярóд, пасярóд

**ínnebehalten*** *аддз.* *vt* утры́мліваць, за-

хо́ўваць

**ínnehaben*** *аддз. vt* мець, займа́ць (*месца, кватэру, пасаду*)

**ínnehalten*** *аддз.* **1.** *vt* прытры́млівацца, выко́нваць (*законы*) **2.** *vi* спыня́цца; (in, mit *D*) перапыня́ць (*што-н.*)

**ínnen** *adv* унутры́, усярэ́дзіне; ***nach*** ~ уну́тр, у сярэ́дзіну; ***von*** ~ знутры́

**Ínnenabsatz** *m* -es, -absätze *эк.* уну́траны збыт

**Ínnenantenne** *f* -, -n пакаёвая антэ́на

**Ínnenausstattung** *f* -, -en уну́транае абсталява́нне; уну́траная апрацо́ўка (*кватэры і г.д.*)

**Ínneneinrichtung** *f* -, -en *часцей pl* 1) уну́транае абсталява́нне [аснашчэ́нне, канстру́кцыя] 2) *эл.* уну́траная право́дка

**Ínnenhandel** *m* -s, - уну́траны га́ндаль

**Ínnengestaltung** *f* -, -en уну́траная планіро́ўка (*будынка*)

**Ínnenmessung** *f* -, -en вымярэ́нне па ўну́транай паве́рхні

**Ínnenminister** *m* -s, - міні́стр уну́траных спраў

**Ínnenpolitik** *f* - уну́траная палі́тыка

**Ínnenseite** *f* -, -n уну́траны бок

**Ínnensohle** *f* -, -n вусці́лка, сці́лка

**Ínnenstadt** *f* -, -städte уну́траная ча́стка го́рада, цэнтр го́рада

**Ínnenstürmer** *m* -s, - *спарт.* паўсярэ́дні фо́рвард

**Ínnenverkehr** *m* -s 1) уну́траны [унутрызаво́дскі] тра́нспарт; уну́траная су́вязь 2) *эк.* уну́траны абаро́т

**Ínnenwelt** *f* - уну́траны свет, духо́ўны свет (чалаве́ка)

**ínner** *a* уну́траны; ***eine ~e Ángelegenheit*** уну́траная спра́ва

**Ínnere** *n* -r(e)n уну́траная ча́стка, сярэ́дзіна; ***ins ~ des Lándes*** углы́б краі́ны; ***im Ínnern*** унутры́, у душы́, у глыбіні́ душы́; ***das Ministérium des Ínnern*** міністэ́рства ўну́траных спраў

**ínnerhalb** *prp* (*G*, von *D*) 1) уну́траны; у 2) на праця́гу

**ínnerlich** **1.** *a* уну́траны **2.** *adv* уну́трана; унутры́; ~ ***ánzuwenden*** *мед.* для ўну́транага ўжыва́ння

**Ínnerlichkeit** *f* - 1) уну́траная су́тнасць, нутро́ 2) уну́транае жыццё

**ínnewerden*** *аддз. vi* (s) спазнава́ць, разуме́ць (*што-н.*), перако́нвацца (*у чым-н.*)

**ínnewohnen** *аддз. vi* (*D*) быць уласці́вым (*чаму-н.*)

**ínnig** *a* сардэ́чны, шчы́ры, глыбо́кі, пранікнёны (*пра пачуцці*)

**Ínnigkeit** *f* - 1) шчы́расць, сардэ́чнасць 2): ***die ~ des Kontáktes*** *тэх.* шчы́льнасць канта́кта

**Innovatión** [-va-] *f* -, -en абнаўле́нне, наві́на́, наві́зна́, новаўвядзе́нне; інава́цыя

**Innovatiónsbank** [-v-] *f* -, -en інавацы́йны банк

**Ínnung** *f* -, -en *гіст.* карпара́цыя, гі́льдыя, цэх; ***er blamíert die gánze*** ~ ён га́ньбіць усі́х

**ínoffizi¦ell** *a* 1) неафіцыя́льны, неафіцы́йны, пазаслужбо́вы 2) канфідэнцыя́льны, канфідэнцы́йны

**in pétto**: *разм.* ***etw.*** ~ ***háben**** мець што-н. напагато́ве; заду́мваць што-н.

**Ínput-Óutput-Analýse** ['au-] *эк.*, *фін.* ана́ліз выда́ткаў і вы́нікаў

**Inquisitión** *f* -, -en 1) *юрыд.* дазна́нне, сле́дства, до́пыт 2) *гіст.* інквізі́цыя

**ins** = in das

**Ínsasse** *m* -n, -n 1) *уст.* мясцо́вы жыха́р 2) пасажы́р, сядо́к 3) вя́зень (*у турме*)

**ínsbesond(e)re** *adv* асаблі́ва, у прыва́тнасці

**Ínschrift** *f* -, -en на́дпіс

**ínseitig** *a* уну́траны, знутры́

**Insékt** *n* -s, -en насяко́мае

**Inséktenkunde** *f* - энтамало́гія

**Ínsel** *f* -, -n во́страў, вы́спа

**Ínsensibilität** *f* - неадчува́льнасць, неўспрыма́льнасць

**Inserát** *n* -(e)s, -e аб'я́ва (*у газеце*); ***ein ~ áufgeben**** даць аб'я́ву ў газе́це

**inseríeren** *vt* дава́ць аб'я́ву (*у газеце*)

**insgeheím** *adv* упо́тай, цішко́м

**insgeméin** *adv* 1) нао́гул, звыча́йна 2) усяго́, ра́зам (*пра суму*)

**insgesámt** *adv* у сукýпнасці, усягó, рáзам
**Insígni¦en** *pl* знáкі ўзнагарóды, рэгáліі
**Insinuánt** *m* -en, -en паклёпнік
**insófern 1.** *adv* у гэ́тых аднóсінах; у такóй ступéні; пакýль **2.** *cj* пакóлькі, бо
**Insolatión** *f* -, -en 1) сóнечная радыя́цыя; інсаля́цыя 2) сóнечны ўдáр
**ínsolent** *a* дзёрзкі, нахáбны
**Ínsolenz** *f* -, -en дзёрзкасць, нахáбнасць, нахáбства
**ínsolvent** *a* неплацежаздóльны, банкрýтны
**Ínsolvenz** *f* -, -en неплатаздóльнасць, банкрýцтва
**insóweit** *гл.* insófern
**in spé** у бýдучым
**Inspekteur** [-ˈtø:r] *m* -s, -e інспéктар, начáльнік інспéкцыі
**Inspektión** *f* -, -en інспéкцыя, нагля́д
**Inspéktor** *m* -s, -tóren інспéктар, нагля́дчык
**Inspiratión** *f* -, -en 1) натхнéнне 2) падбухтóрванне 3) унушэ́нне, інспірáцыя 4) *мед.* удыхáнне, уды́х
**inspiríeren** *vt* (zu *D*) інспіравáць, натхня́ць (*каго-н. на што-н.*), падбухтóрваць (*на што-н.*)
**Inspiziént** *m* -en, -en *тэатр.* памóчнік рэжысёра
**inspizíeren** *vt* інспектавáць; наглядáць (*за чым-н.*)
**Inspizíerung** *f* -, -en інспéкцыя (*дзеянне*)
**Installateur** [-ˈtø:r] *m* -s, -e манцёр, устанóўшчык
**Installatión** *f* -, -en 1) назначэ́нне на пасáду 2) *тэх.* устанóўка, мантáж, абсталявáнне
**Installatiónsleitung** *f* -, -en электраправóдка (*у доме*)
**installíeren** *vt* 1) прызначáць на пасáду 2) *тэх.* устанáўліваць (*машыну*); манціраваць
**Installíerung** *f* -, -en *гл.* Installatión
**instánd** [in Stand]: ~ ***hálten**** трымáць у спрáўнасці; ~ ***sétzen*** рамантавáць, прáвіць, прывóдзіць у спрáўнасць
**Instándhaltung** *f* - утрымáнне ў спрáўнасці [парáдку]; дóгляд (*за машынай і г.д.*)
**Instándhaltungskosten** *pl* эксплуатацы́йныя расхóды, кошт утрымáння
**Instándsetzung** *f* - рамóнт, прывядзéнне ў спрáўны стан
**ínständig** *a* настóйлівы, вéльмі мóцны, стрáсны
**Instánz** *f* -, -en інстáнцыя
**Instínkt** *m* -(e)s, -e інсты́нкт, чуццё; ***éinen ríchtigen ~ für etw. háben**** прáвільна разумéць што-н.
**instinktív, instínktmäßig** *a* інстынкты́ўны
**Instínktmäßigkeit** *f* - інстынкты́ўнасць
**instituíeren** *vt* 1) налáджваць, заснóўваць 2) распараджáцца, укáзваць
**Institút** *n* -(e)s, -e інстытýт; ***~ für Téchnik und Prüfwesen*** інстытýт тэхнíчнага кантрóлю
**Institutión** *f* -, -en устанóва; інстытýт; ***öffentliche ~en*** грамáдскія ўстанóвы
**instruíeren** *vt* інструктавáць, інфармавáць, настаўля́ць
**Instrukteur** [-ˈtø:r] *m* -s, -e інструктар
**Instruktión** *f* -, -en 1) інстрýкцыя, указáнне 2) *вайск.* навучáнне
**Instruktiónsstunde** *f* -, -n інструктáж; *вайск.* клáсныя заня́ткі
**instruktív** *a* інструкты́ўны, павучáльны
**Instrumént** *n* -(e)s, -e *тэх.*, *муз.* інструмéнт
**Instrumentálbegleitung** *f* -, -en інструментáльнае суправаджэ́нне
**Instrumentális** *m* -, -les *лінгв.* твóрны склон
**Instrumentálmusik** *f* - інструментáльная мýзыка
**Instrumentár** *m* -s, -e, **Instrumentárium** *n* -s, -ri¦en інструментáрый, набóр інструмéнтаў [прылáд]; *перан.* сукýпнасць срóдкаў
**Instruméntenauswertung** *f* -, -en апрацóўка [ацэ́нка] пакáзчыкаў прыбóраў
**Instruméntenkocher** *m* -s, - *мед.* стэрылізáтар (*для інструментаў*)
**Instruméntenstimmer** *m* -s, - *муз.* налáдчык
**Insuffizi¦énz** *f* -, -en *мед.* недастаткóвасць; няздóльнасць
**Insuláner** *m* -s, - жыхáр вы́спы [вóстрава], астраўля́нін

**insultíeren** *vt* зневажа́ць, абража́ць; зачапля́ць

**in súmma** 1) у цэ́лым, усё (ра́зам) 2) адны́м сло́вам

**insurgíeren 1.** *vi* (s) паўстава́ць, арганізо́ўваць паўста́нне **2.** *vt* падыма́ць на паўста́нне

**inszeníeren** *vt* інсцэні́раваць

**Inszeníerung** *f* -, -en інсцэніро́ўка

**intákt 1.** *a* непашко́джаны, цэ́лы; спра́ўны; бездако́рны; **~ *sein*** быць у спра́ўнасці **2.** *adv* спра́ўна, у до́брым ста́не

**integrál** *a матэм.* інтэгра́льны

**Integrál** *n* -s, -e *матэм.* інтэгра́л

**Integrálgleichung** *f* -, -en *матэм.* інтэгра́льнае ўраўне́нне

**Integrálrechnung** *f* -, -en *матэм.* інтэгра́льнае вылічэ́нне

**Integratión** *f* - 1) *матэм.* інтэграва́нне 2) інтэгра́цыя; прымусо́вае аб’ядна́нне (*адной краіны з другой*)

**integríeren** *vt* 1) *матэм.* інтэграва́ць 2) рабі́ць інтэгра́цыю, (прымусо́ва) аб’ядно́ўваць (*адну краіну з другой*)

**Integrität** *f* - цэ́ласнасць, недзялі́масць; недатыка́льнасць (*тэрытарыяльная*)

**Intellékt** *m* -(e)s інтэле́кт, ро́зум

**intellektuéll** *a* інтэлектуа́льны, разумо́вы

**Intellektuélle** *sub m, f* -n, -n чалаве́к разумо́вай пра́цы, інтэлігéнт

**intelligént** *a* разу́мны; адукава́ны, культу́рны, інтэліге́нтны

**Intelligénz** *f* - 1) ро́зум, інтэле́кт; развіццё; інтэліге́нтнасць, культу́рнасць 2) інтэліге́нцыя; ***wérktätige [schäffende]*** **~** працо́ўная інтэліге́нцыя

**Intendánt** *m* -en, -en 1) дырэ́ктар [кіраўні́к] (*тэатра*), зага́дчык (*радыёвяшчання*) 2) *вайск.* інтэнда́нт

**Intendantúr** *f* -, -en 1) дырэ́кцыя (*тэатра*) 2) *вайск.* інтэнда́нцтва

**Intendánz** *f* -, -en дырэ́кцыя (*тэатра, радыёвяшчання*)

**Intensität** *f* - інтэнсі́ўнасць, сі́ла; напру́жанне, дзе́йнасць

**Intensitätsabfall** *m* -(e)s, -fälle падзе́нне [зніжэ́нне, памяншэ́нне] напру́жання

**intensív 1.** *a* інтэнсі́ўны, напру́жаны; мо́цны, узмо́цнены **2.** *adv* інтэнсі́ўна, напру́жана, узмо́цнена

**intensivieren** [-ˈvi:-] *vt* інтэнсіфікава́ць, рабі́ць больш інтэнсі́ўным, напру́жваць (*што-н.*)

**Intensivierung** [-ˈvi:-] *f* - інтэнсіфіка́цыя, узмацне́нне [павелічэ́нне] напру́жання

**Intentión** *f* -, -en наме́р

**interessánt** *a* ціка́вы, займа́льны

**Interésse** *n* -s, -n 1) ціка́васць; ***~ für etw. (A), für j-n háben* [zéigen]*** ціка́віцца чым-н., кім-н.; ***von ~ sein*** быць ціка́вым; ***das ~ áuslösen [erwécken]*** вы́клікаць ціка́васць, заціка́віць 2) інтарэ́с, вы́гада; ***sein ~ wáhren*** абараня́ць [бараніць] свае́ інтарэ́сы

**Interéssengebiet** *n* -(e)s, -e 1) ко́ла інтарэ́саў 2) сфе́ра ўплы́ву (*якой-н. дзяржавы*)

**Interéssengemeinschaft** *f* 1) - агу́льнасць інтарэ́саў 2) -, -en гурто́к (*аматараў чаго-н*) 3) -, -en *эк.* канцэ́рн

**Interessént** *m* -en, -en 1) заціка́ўленая асо́ба; заціка́ўлены бок 2) *камерц.* (са)ўдзе́льнік, кампаньён

**interessíeren 1.** *vt* 1) ціка́віць (*каго-н.*) 2) (*für A, an D*) заціка́віць (*каго-н. чым-н.*), узбуджа́ць інтарэ́с [заціка́ўленасць] (*у каго-н.*) **2. ~, sich** (*für A*) ціка́віцца (*чым-н.*)

**Interessíertheit** *f* - заціка́ўленасць

**Interferénz** *f* - інтэрферэ́нцыя

**Ínterims|schein** *m* -(e)s, -, **~zeugnis** *n* -ses, -se часо́вае пасве́дчанне

**Interjektión** *f* -, -en *грам.* выклі́чнік

**Intermézzo** *n* -s, -s *i* -zi 1) *тэатр.*, *муз.* інтэрме́цца; ***lýrisches*** **~** лiры́чнае адступле́нне 2) вясёлае здарэ́нне

**intérn** *a* 1) уну́траны 2) канфідэнцыя́льны, закры́ты

**Internát** *n* -(e)s, -e інтэрна́т; закры́тая навуча́льная ўстано́ва

**internationál** *a* міжнаро́дны, інтэрнацыяна́льны

**Internationále** *f* - *гіст.* Інтэрнацыяна́л

**Internationalísmus** *m* 1) - інтэрнацыяналі́зм 2) -, -men *лінгв.* інтэрнацыя-

на́льнае сло́ва

**Internét** *n* -(e)s *камп.* інтэрнэ́т; ***die Verbíndung zum ~ herstéllen*** увайсці ў інтэрнэ́т

**Internátsschule** *f* -, -n шко́ла-інтэрна́т

**interníeren** *vt* інтэрні́раваць

**Interníerte** *sub m, f* -n, -n інтэрнава́ны, -ная

**Interníst** *m* -en, -en тэрапе́ўт, урач па ўну́траных хваро́бах

**interparlamentárisch** *a* міжпарла́менцкі

**Interpellatión** *f* -, -en за́пыт, інтэрпеля́цыя (*у парламенце*)

**interpellíeren** *vi* рабі́ць за́пыт, інтэрпелява́ць (*у парламенце*)

**interplanetár** *a* міжплане́тны

**Interpolatión** *f* -, -en *філал., матэм.* інтэрпаля́цыя

**Interpretatión** *f* -, -en інтэрпрэта́цыя, (вы)тлумачэ́нне

**interpretíeren** *vt* інтэрпрэтава́ць, вытлума́чваць

**Interpunktión** *f* -, -en пунктуа́цыя, расстано́ўка зна́каў прыпы́нку

**Interpunktiónszeichen** *n* -s, - знак прыпы́нку

**Interrogatívpronomen** *n* -s, - *i* -mina *грам.* пыта́льны займе́ннік

**Interrogatívsatz** *m* -es, -sätze пыта́льны сказ

**interterritoriál** *a* міжтэрытарыя́льны

**Intervál** [-v-] *n* -s, -e інтэрва́л, прамежак, дыста́нцыя

**intervaníeren** [-v-] *vi* 1) нала́джваць інтэрве́нцыю; уме́швацца 2) быць пасрэ́днікам

**Intervént** [-v-] *m* -en, -en 1) інтэрве́нт 2) пасрэ́днік

**Interventión** [-v-] *f* -, -en 1) інтэрве́нцыя; умяша́нне 2) пасрэ́дніцтва

**Interview** [-ˈvju:] *n* -s, -s інтэрв’ю́, гу́тарка

**interviewen** [-ˈvju:ən] *vt* інтерв’юіраваць

**interzonál** *a* міжзана́льны, які́ дзе́йнічае памі́ж зо́намі

**intím** **1.** *a* 1) інты́мны, блі́зкі; ***~e Geschíchten*** асабі́стыя спра́вы 2) уту́льны, заці́шны **2.** *adv* 1) інты́мна, блі́зка 2) уту́льна

**intoleránt** *a* нецярпі́мы, недапушча́льны, неталера́нтны

**Íntoleranz** *f* -, -en нецярплі́васць, непрыміра́льнасць, неталера́нтнасць (*да чаго-н.*)

**Intonatión** *f* -, -en інтана́цыя

**intoníeren** *vt* інтані́раваць

**intramuskulär** *a мед.* унутрымы́шачны

**intransitív** *a грам.* неперахо́дны (*пра дзеяслоў*)

**Intrigánt** *m* -en, -en інтрыга́н

**Intríge** *f* -, -n 1) інтры́га; *pl* падко́пы 2) *літ.* інтры́га, завя́зка

**Intrígenspiel** *n* -(e)s, -e се́тка інтры́гаў, пако́пы

**intrigíeren** *vi* інтрыгава́ць, рабі́ць падко́пы

**Intuitión** *f* -, -en інтуі́цыя

**Invalíde** [-v-] *m, f* -n, -n інвалі́д (*тс. пра жанчыну*)

**Invalídenheim** [-v-] *n* -(e)s, -e дом інвалі́даў

**Invalidität** [-v-] *f* - інвалі́днасць, стра́та працаздо́льнасці

**ínvariabel** [-v-] *a мат.* нязме́нны, пастая́нны; ***~e Faktóren*** пастая́нныя фа́ктары

**ínvariant** [-v-] *a лінгв., матэм.* інварыя́нтны

**Ínvariante** [-v-] *sub f* -, -n нязме́нная велічыня́, інварыя́нт

**Invasión** [-v-] *f* -, -en нашэ́сце, напа́д

**Inventár** [-v-] *n* -s, -e інвента́р; ***ein ~ über etw. (A) áufnehmen**** склáсці во́піс чаго́-н., інвентарызава́ць

**inventarisíeren** [-v-] *vt* інвентарызава́ць, рабі́ць інвентарыза́цыю

**Inventúr** [-v-] *f* -, -en 1) улік тава́раў, інвентарыза́цыя 2) во́піс маёмасці; ***~ máchen [áufnehmen*]*** рабі́ць інвентарыза́цыю; ***wégen ~ geschlóssen*** зачы́нена на ўлі́к

**Inventúrausverkauf** [-v-] *m* -(e)s распро́даж тава́раў у канцы́ сезо́ну

**Inversión** [-v-] *f* -, -en *грам.* інве́рсія, адваро́тны пара́дак слоў (*у сказе*)

**invertíeren** [-v-] *vt* падвяргáць інве́рсіі; размяшча́ць у адваро́тным пара́дку

**investíeren** [-v-] *vt эк.* укла́дваць (*капітал*), рабі́ць інвесты́цыі

**Investíerung** [-v-] *f* -, -en, Investitión *f* -, -en *эк.* 1) інвеставáнне 2) капіталаўкладáнне

**Investitiónsgüter** [-v-] *pl эк.* (аснóўныя) срóдкі вытвóрчасці

**Investitiónsvorhaben** [-v-] *pl* плáны капітáльнага будаўніцтва

**ínwärts** *adv* унýтр, у сярэ́дзіну

**ínwendig 1.** *a* унýтраны **2.** *adv* унутры́

**inwieférn, inwiewéit** *adv* 1) накóлькі, у якóй мéры [ступéні]; якíм чы́нам 2) чамý

**Inzidént** *m* -s, -e інцыдэ́нт, здарэ́нне, вы́падак

**inzwíschen** *adv* між тым, тым чáсам; ~ ***wúrde es dúnkel*** між тым сцямнéла

**Ión** *n* -s, -en *фіз.* іён

**ionisíeren** *vt фіз.* іянізавáць

**Í-Punkt** *m* -s, -e крóпка над «і»; ***etw. bis auf den létzten ~ genáu erlédigen*** зрабíць усё як магá лепш

**Iráker** *m* -s, - жыхáр Ірáка

**irákisch** *a* ірáкскі, ірáцкі

**Iráner** *m* -s, - ірáнец

**iránisch** *a* ірáнскі

**írden** *a* глiня́ны; ***~es Geschírr*** керамíчны пóсуд

**írdisch** *a* зямны́; звычáйны; штодзённы; ***~e Dínge*** 1) зямны́я [звычáйныя] спрáвы 2) зямны́я дабрóты

**Íre** *m* -n, -n ірлáндзец

**írgend** *adv* тóлькі, як-нéбудзь; ***~etwas*** што-нéбудзь; ***~jémand*** хто-нéбудзь

**írgendéin** *pron indef m* [*f* írgendéine, *n* írgendéin, *pl* írgendwélche] якí-нéбудзь, нéйкі, якíсьці; ***~ánderer*** хто-нéбудзь íншы

**írgendéiner** *pron indef m* [*f* ~éine, *n* ~éin(es)] *гл.* írgendéin

**írgendwánn** *adv* калí-нéбудзь, нéкалі

**írgendwás** *pron indef* што-нéбудзь, нéшта, што-кóльвечы

**írgendwélcher** *m* [*f* ~wélche, *n* ~wélches, *pl* ~wélche] якí-нéбудзь, нéйкі

**írgendwér** *pron indef* хто-нéбудзь, хтóсьці, нéхта

**írgendwíe** *adv* як-нéбудзь, нéяк

**írgendwó** *adv* дзе-нéбудзь, нéдзе, ~ ***ánders*** дзе-н. у другíм мéсцы

**írgendwohér** *adv* адкýль-нéбудзь

**írgendwohín** *adv* куды́-нéбудзь, нéкуды

**Íris** *f* -, - 1) *анат.* íрыс (*вока*) 2) *бат.* касáч

**írisch** *a* ірлáндскі

**Írländer** *m* -s, - *гл.* Íre

**írländisch** *гл.* irisch

**Ironíe** *f* -, -í¦en ірóнія, насмéшка

**irónisch** *a* іранíчны, насмéшлівы

**ironisíeren** *vt* іранізавáць (*над кім-н., чым-н.*)

**irrationál** [írrational] *a* ірацыянáльны, нерацыянáльны

**Irrationalísmus** *m* - *філас.* ірацыяналíзм

**Irrationálzahl** *f* -, -en *часцей pl* ірацыянáльны лік

**írre** *a* 1) якí памыля́ецца; ***er ist ganz ~*** ён зусíм збíты з трóпу [з панталы́ку] 2) звар’яцéлы; ~ ***im Kopf sein*** быць не пры сваíм рóзуме; ~ ***wérden*** звар’яцéць; ~ ***Réden führen*** выкáзваць шалёныя [дзівáцкія] дýмкі

**Írre I** *sub m*, *f* -n, -n вар’я́т, -ка

**Írre II**: ***j-n in die ~ führen*** збіць кагó-н. з дарóгі [трóпу, панталы́ку]

**írreal** *a* нерэáльны, несапрáўдны

**írreführen** *аддз*, *vt* увóдзіць у зман, збівáць з трóпу

**írregehen*** *аддз. vi* (s) 1) заблудзíць, заблукáць 2) памыля́цца

**írregular** *a* 1) няпрáвільны, нерэгуля́рны 2) *вайск.* ірэгуля́рны

**írreleiten** *аддз.vt* увóдзіць у зман, дэзарыентавáць (*каго-н.*)

**írremachen** *аддз. vt* збівáць з трóпу [з панталы́ку]

**írren 1.** *vi* блукáць, хадзíць **2. ~, sich** памыля́цца; ***sich in j-m, in etw. (D) ~*** памыля́цца ў кім-н., чым-н.; ***sich in der Persón ~*** абазнáцца ў чалавéку, прыня́ць аднагó чалавéка за другóга; ***sich im Ábteil ~*** памылíцца ў купэ́

**Írrenanstalt** *f* -, -en *разм.* псіхіятры́чная бальнíца

**Írrenarzt** *m* -es, -ärzte *пагардл.* псіхія́тр

**Írrenhaus** *n* -es, -häuser *пагардл.* вар’я́цкі дом, вар’я́тня

**írreparа|bel** *a* непапра́ўны; ***~bler Féhler*** непапра́ўная памы́лка

**írrereden** *аддз. vi* тры́зніць

**Írresein** *n* -s псіхо́з, вар'я́цтва

**Írrfahrt** *f* -, -en блука́нне, бадзя́нне, вандрава́нне

**Írrgarten** *m* -s, -gärten лабіры́нт

**írrig** *a* памылко́вы, ілжы́вы; ***éine ~e Méinung vertréten**** памыля́цца

**Irrigatión** *f* -, -en 1) ірыга́цыя, арашэ́нне, абвадне́нне 2) *мед.* прамыва́нне

**irritíeren** *vt* раздражня́ць, збіва́ць з тро́пу

**Írrlehre** *f* -, -en е́рась, ілжэвучэ́нне

**Írrlicht** *n* -(e)s, -er блука́ючы аго́нь, падма́нлівы аге́ньчык

**Írrrede** *f* -, -n трызне́нне

**Írrsinn** *m* -(e)s вар'я́цтва

**írrsinnig** *a* звар'яце́лы, шалёны

**Írrtum** *m* -s, -tümer памы́лка; ***éinen ~ begéhen**** зрабі́ць памы́лку; ***im ~ sein*** памыля́цца

**írrtümlich 1.** *a* памылко́вы, няслу́шны **2.** *adv* памылко́ва

**írrtümlicherweise** *adv* памылко́ва

**Írrung** *f* -, -en непаразуме́нне, памы́лка

**Írrwahn** *m* -(e)s вялі́кая памы́лка; забабо́ны, пры́мхі

**Írrweg** *m* -(e)s, -e няпра́вільны [памылко́вы] шлях

**=isch** *суф. прыметнікаў, указвае на паходжанне, прыналежнасць, суадноснасць з чым-н.:* polítisch палíты́чны

**Ísegrim** *m* -s, -e 1) Воўк (*у казках і байках*) 2) пану́ры чалаве́к; бурку́н

**Islám** *m* -s іслáм, магаметáнства, мусульмáнства

**islámisch** *a* магаметáнскі, мусульмáнскі, іслáмскі

**Ísländer** *m* -s, - ісла́ндзец

**ísländisch** *a* ісла́ндскі

**Isolátor** *m* -s, -tóren 1) *эл.* ізаля́тар; ізаляцы́йны матэрыя́л 2) *мед.* ізаля́тар

**Isolíerband** *n* -(e)s, -bänder *эл.* ізаляцы́йная сту́жка

**isolíeren** *vt* (*gegen A*) ізалява́ць (*ад чаго-н.*)

**Isolíerhaft** *f* - адзіно́чнае заключэ́нне

**Isolíerkörper** *m* -s, - *эл.* ізаля́тар

**isolíert** *a* ізалява́ны, адасо́блены, адарва́ны

**Isolíertheit** *f* -, -en ізалява́насць; адасабле́нне, аддзяле́нне; разлу́чанасць, раз'ядна́насць

**Isolíerung** *f* -, -en ізаля́цыя, адасо́бленасць

**Isotóp** *n* -s, -e *хім.* ізато́п; ***radioaktíves ~*** радыёакты́ўны ізато́п

**israélisch** *a* ізра́ільскі

**Israelít** *m* -en, -en 1) ізраільця́нін 2) прыхі́льнік іудзе́йства

**iss**, **isst** *imp, impf ад* éssen*

**ist** *präs ад* sein*

**Ístbestand** [Íst-Bestand] *m* -(e)s, -stände 1) *эк.* сапра́ўдны стан, ная́ўнасць 2) *вайск.* ная́ўны склад

**Ísthmus** *m* -, -men *геагр.* перашы́ек

**Ístleistung** [Íst-Leistung] *f* -, -en факты́чная магу́тнасць [прадукцы́йнасць]

**Íststärke** [Íst-Stärke] *f* -, -n *вайск.* ная́ўны састáў

**Ístwert** [Íst-Wert] *m* -(e)s, -e сапра́ўдная велічыня́, сапра́ўднае значэ́нне

**Itali¦éner** *m* -s, - італья́нец

**itali¦énisch** *a* італья́нскі

**ítem** *adv* такса́ма; дале́й

**Iteratión** *f* -, -en паўто́р, паўтарэ́нне; *матэм.* ітэра́цыя

**Í-Tüpfelchen** *n* -s, - кро́пка над «і»; ***bis aufs ~*** як магá дэталёвей; да са́май дро́бязі

**i wó!** *разм.* ды што ты! ні ў я́кім ра́зе!

# J

**ja 1.** *prt* 1) так, але́, ага́, безумо́ўна, бясспрэ́чна, як жа; о *~!* так!, ага́!; ***ach ~!*** шкада́, але́ так!; ***na ~!*** няха́й так! 2) зна́чыць, зна́чыцца; ***dann ist es ~ bésser, dass er hier bleibt*** тады́, зна́чыцца, бу́дзе лепш, калі́ ён застане́цца тут 3) *ва ўступным значэнні*: ***sie ist ~ hübsch, aber nicht klug*** яна́ безумо́ўна прыго́жая, але́ не разу́мная 4) а вось і…; ***da ist ~ Tánte!*** а вось і цёця! 5) про́ста; ***das ist ~ únmöglich!*** гэ́та про́ста немагчы́ма! **2.** *cj* 1) бо; ***bleib hier, es regnet ~ stark!*** застава́йся тут, бо ідзе́ мо́цны дождж! 2) на́ват; ***Húnderte, ~ Húnderte sind gekómmen*** прышлі́ со́тні, на́ват со́тні

**Ja** *n* - але́, зго́да; ***für etw. (A) mit ~ stímmen*** галасава́ць за што-н.

**Jabot** [ʒa'bo:] *n* -s, -s жабо́

**Jacht** *f* -, -en я́хта

**Jácke** *f* -, -n ку́ртка; ко́фта ◊ ***die ~ voll kríegen*** *фам.* атрыма́ць па вуша́х; ***das ist die álte ~!*** *перан.* гэ́та стара́я гісто́рыя [прыго́да]!; ***j-m die ~ voll háuen* [áusklopfen], j-m eins auf die ~ gében**** *разм.* пабі́ць каго́-н.; ***j-m die ~ voll lügen**** ≅ нахлу́сіць каму́-н. цэ́лы мех

**Jackétt** [ʒa-] *n* -s, -e *і* -s пінжа́к; *вайск.* кі́цель

**Jagd** *f* -, -en 1) палява́нне 2) пагоня, прасле́даванне; ***auf der ~ nach j-m, etw. (D) sein*** ганя́цца за кім-н., чым-н., быць у по́шуках каго́-н., чаго́-н.

**Jágdbomber** *m* -s, - *ав.* знішча́льнік-бамбардзіро́ўшчык

**Jágdflieger** *m* -s, - 1) *ав.* лётчык-знішча́льнік 2) самалёт-знішча́льнік

**Jágdflugzeug** *n* -(e)s, -e *ав.* самалёт-знішча́льнік

**Jágdfrevel** [-v-] *m* -s, - парушэ́нне пра́вілаў палява́ння, браканье́рства

**Jágdhund** *m* -es, -e паляўні́чы саба́ка

**Jágdrevier** [-vi:r] *n* -s, -e паляўні́чы абша́р

**Jágdschein** *m* -(e)s, -e пасве́дчанне на пра́ва палява́ння, паляўні́чы біле́т

**Jágdstaffel** *f* -, -n *ав.* знішча́льная эскадрылля

**Jágdtasche** *f* -, -n ягта́ш, паляўні́чая су́мка

**Jágd-U-Boot** *n* -(e)s, -e супрацьло́дачная падво́дная ло́дка

**jágen 1.** *vt* 1) палява́ць 2) гнаць, прасле́даваць; ***ein Pferd zu Tóde ~*** загна́ць каня́ да сме́рці; ***j-n in den Tod ~*** увагна́ць каго́-н. у магі́лу; ***sich (D) éine Kúgel durch den Kopf ~*** пусці́ць сабе́ ку́лю ў лоб; ***ein Eréignis jagt das ándere*** падзе́і ху́тка змяня́юць адна́ дру́гую; ***j-n von Haus zu Haus ~*** ≅ пусці́ць каго́-н. з то́рбай **2.** *vi* імча́цца, гна́цца (*за чым-н.*); ***nach Ábenteuern ~*** шука́ць (сабе́) прыго́д; ***damít kannst du mich ~*** я і слу́хаць аб гэ́тым не жада́ю **3. ~, sich** ганя́цца адзі́н за адны́м

**Jäger** *m* -s, - 1) паляўні́чы 2) е́гер 3) *ав.* самалёт-знішча́льнік

**Jägerbataillon** [-taljo:n] *n* -s, -e знішча́льны батальён

**Jägeréi** *f* - 1) палява́нне, паляўні́чы про́мысел 2) лесніко́ва ха́та; лясні́цтва

**Jägerhaus** *n* -es, -häuser паляўні́чаяварто́ўня, паляўні́чая ха́та

**Jägerlatein** *n* -s 1) паляўні́чыя ба́йкі 2) паляўні́чы жарго́н

**Jägersmann** *m* -(e)s, -leute *паэт.* паляўні́чы, ло́ўчы

**Jáguar** *m* -s, -e *заал.* ягуа́р

**jäh 1.** *a* 1) раптоўны; ***ein ~es Énde néhmen**** раптоўна ко́нчыцца [абарва́цца] 2) кругы́, стро́мы **2.** *adv* 1) раптоўна, знянацку; імклі́ва, стрымгалоў, як магá 2) кру́та, стро́ма

**jählings** *adv* 1) раптоўна, імклі́ва, стрымгалоў 2) кру́та

**Jahr** *n* -(e)s, -e год, ***von ~ zu ~*** з го́ду ў год, з ко́жным го́дам; ***ein hálbes ~*** паўго́да; ***ein gánzes ~ hindúrch*** кру́глы

год; *~ für ~* год за гóдам; ***vor zwei ~en*** два гадьі тамý назáд; ***pro ~, im ~*** у год; ***übers ~*** праз год; ***drei ~e lang*** на працяѓу трох гадóў; ***seit ~ und Tag*** даўньім-даўнó; ***in die ~e kómmen**** (са)стáрыцца; ***in den bésten ~en*** у рóсквіце сіл; ***er ist schon bei ~en*** ён ужó пажылы́ чалавéк

**jahráus**: *~, jahréin* з гóда ў год

**Jáhrbuch** *n* -(e)s, -bücher штогóднік, гадавíк

**jáhrelang 1.** *a* шматгадóвы **2.** *adv* гадáмі, шмат гадóў

**jähren, sich** надыхóдзіць, спаўня́цца (*пра дату падзеі*)

**Jáhresabschluss** *m* -es, -schlüsse *фін.* гадавы́ балáнс

**Jáhresbeginn** *m* -s пачáтак гóда; ***seit ~*** з пачáтку гóда; ***am ~*** у пачáтку гóда

**Jáhresbericht** *m* -(e)s, -e гадавáя справаздáча

**Jáhresdevidende** *f* -, -n гадавы дэвідэ́нд

**Jáhres|einkommen** *n* -s, -, ~**einkünfte** *pl* гадавы́ дахóд

**Jáhresende** *n* -s канéц гóда; ***am ~*** к канцý гóда; ***seit ~*** з канцá гóда

**Jáhresfeier** *f* -, -n святкавáнне ўгóдкаў, юбілéй

**Jáhresrechnung** *f* -, -en гадавáя справаздáча; ***die ~ áblegen*** здавáць гадавýю справаздáчу

**Jáhresschrift** *f* -, -en штогóднік, гадавíк

**Jáhrestag** *m* -(e)s, -e гадавíна, угóдкі; ***am ~*** на гадавíну [угóдкі]

**Jáhresumsatz** *m* -es, -sätze *эк.* гадавы́ абарóт

**Jáhresviertel** *n* -s, - квартáл, чвэрць гóда

**Jáhres|wechsel** *m* -s, -, ~**wende** *f* -, -en надыхóд нóвага гóда

**Jáhreszeit** *f* -, -en парá гóда, сезóн

**Jahrfünft** *n* -(e)s, -e пяцігóдка, пяцігóддзе

**Jáhrgang** *m* -(e)s, -gänge 1) год выдáння 2) *вайск.* прызыўны́ ўзрóст, вы́пуск (*навучэнцаў*)

**Jahrhúndert** *n* -s, - стагóддзе, век

**jahrhúndertelang 1.** *a* якí працягваецца стагóддзі [вякí] **2.** *adv* на працягý (нéкалькіх) стагóддзяў, стагóддзямі, вякáмі

**Jahrhúndertwende** *f* - надыхóд нóвага стагóддзя; ***um die ~*** на рубяжы́ стагóддзя [вéку]

**jährig** *a* гадавы́, аднагадóвы

**jährlich 1.** *a* гадавы́, штогадóвы **2.** *adv* штогóд

**Jáhrmarkt** *m* -(e)s, -märkte кірмáш

**Jahrtáusend** *n* -s, -e тысячагóддзе

**Jahrzéhnt** *n* -(e)s, -e дзесяцігóддзе

**Jähzorn** *m* -(e)s 1) запáльчывасць 2) раптóўны гнеў; ***im ~*** з гарáчкі, пагарачы́ўшыся

**Jalousie** [ʒaluˈziː] *f* -, -sí¦en жáлюзі

**Jam** [ʤɛm] *n* -s, -s, *f* -, -s джэм

**Jámbus** *m* -, -ben *літ.* ямб, ямбíчны метр

**Jámmer** *m* -s 1) плач, галашэ́нне, ля́мант; ***es ist ein ~, das ánzusehen**** жáласна глядзéць на гэ́та; ***~ und Schánde!*** якí жаль! 2) гóра, няшчáсце; ***in ~ und Not*** у гóры і няшчáсці

**Jámmergestalt** *f* -, -en убóгая [мізэ́рная] фігýра, вáрты жáлю чалавéк

**jämmerlich 1.** *a* 1) жáласны, сýмны 2) мізэ́рны, нікчэ́мны **2.** *adv* жáласна

**Jämmerlichkeit** *f* - 1) мізэ́рнае [убóгае, вáртае жáлю] існавáнне 2) нікчэ́мнасць

**jámmern 1.** *vi* (*über, um A, wegen G*) крычáць, лямантавáць, бедавáць (*па чым-н.*) **2.** *vt* выклікáць жаль; ***er jámmert mich*** мне ягó прóста [вéльмі] шкадá

**jámmerschade** *adv* вéльмі шкадá

**jámmervoll** *a* 1) вáрты жáлю; жáласны 2) мізэ́рны, убóгі

**Jänner** *m* - *i* -s, - *дыял.* стýдзень

**Jánuar** *m* - *i* -s, -e стýдзень; ***im ~*** у стýдзені; ***Ánfang [Mítte, Énde] ~*** у пачáтку [сярэ́дзіне, канцы́] стýдзеня

**Japáner** *m* -s, - япóнец

**japánisch** *a* япóнскі

**jáppen, jápsen** *vi разм.* перары́вiста ды́хаць, пы́хкаць, сапцí

**Jargon** [ʒarˈgɔ̃ː] *m* -s, -s жаргóн

**Jásagen** *n* -s паддáкванне

**Jasmín** *m* -s, -e *бат.* язмíн

**Jaspís** *m* - *i* -ses, -se *мін.* яшмá

**jäten** *vt* палóць

**Jäten** *n* -s прапóлка

**Jáuche** *f* -, -n 1) гнóевая жы́жка 2) бурдá, дрэ́ннае піва

**jáuchzen** *vi* рáдавацца, рáдасна крычáць; ***da jáuchzt éinem das Herz im Léibe*** душá цéшыцца

**Jáuchzer** *m* -s крык рáдасці, рáдасны вóкліч

**jáulen** *vi* выць, віскатáць, скавытáць

**jawóhl** *adv* так, безумóўна; *вайск.* так, ёсць

**Jáwort** *n* -(e)s згóда; ***sein ~ gében**** выкáзваць сваю́ згóду

**Jazz** [ʤɛz] *m* – джаз, джáзавы аркéстр, джáзавы ансáмбль

**Jazzband** [ˈʤɛzbɛnt] *f* -, -s джáзбанд

**je 1.** *adv* 1) калі-нéбудзь; ~ ***und*** ~ заўсёды 2) па (*перад лічэбн.*); ~ ***drei*** па тры, па трóе **2.** *cj* 1): ***je…, désto…, je… je…*** чым…, тым…; ***je mehr, désto bésse***r чым больш, тым лепш 2): ***je nachdém*** у залéжнасці ад

**Jeans** [ʤi:nz] *pl* джы́нсы

**Jeck** *m* -en, -en *дыял.* 1) франт, зух 2) дýрань, дзівáк

**jédenfalls** *adv* ва ўся́кім рáзе; абавязкóва

**jédenorts** *adv* усю́ды, скрозь, паўсю́дна

**jéder** *m* [*f* jéde, *n* jédes] 1) кóжны [кóжная, кóжнае] 2) усякі [ўся́кая, уся́кае]; ***auf jéden Fall*** на ўся́кі вы́падак

**jéderléi** усяля́кі(я)

**jédermann** кóжны (*чалавек*), уся́кі

**jéderzeit** *adv* у любы́ час, заўсёды

**jédes Mal** *adv* кóжны раз, шторáз, у кóжным выпáдку

**jedóch** *cj* усё-такі, аднáк

**jédweder, jéglicher** *pron indef* кóжны, уся́кі, любы́

**jéhér**: ***von*** ~ здаўнá, з дáўніх часóў

**jémals** *adv* калі-нéбудзь

**jémand** *pron indef* хто-нéбудзь, хтóсьці, нéхта

**Jemenít** *m* -en, -en йéменец

**jemenítisch** *a* йéменскі

**jéner** *pron dem m* [*f* jéne, *n* jénes, *pl* jéne] той (тáя, тóе, ты́я)

**jénseitig** *a* які ляжы́ць на тым бакý; супрацьлéглы; ***das ~e Lében*** тагасвéтнае [замагі́льнае] жыццё

**jénseits** *prp, adv* (*G*) па той бок; на другі́м бакý

**Jénseits** *n* - *рэл.* той свет; ***j-n ins ~ befördern [schícken]*** *разм.* адпрáвіць кагó-н. на той свет

**Jersey** [ˈʤø:rzi] *m* -s, -s 1) джэ́рсі (*матэрыя*) 2) футбóлка, фуфáйка (*спартыўная*)

**Jesuít** *m* -en, -en езуíт

**jesuítisch** *a* езуíцкі

**Jésus** (*m*) - *рэл.* Ісýс; ~ **Chrístus** (*G* Jésu Chrísti, *D* Jésus Chrístus *або* Jésum Chrístum; *пры звароце* Jésus Chrístus *або* Jésu Chríste) Ісýс Хрыстóс

**Jet** [ʤɛt] *m* -, -s рэакты́ўны рухавíк; *разм.* рэакты́ўны самалёт

**Jeton** [ʒəˈtõ:] *m* -s, -s жэтóн

**jétzig** *a* цяпéрашні, сучáсны; ***in der ~en Zeit*** у цяпéрашні час, у сучáсны мóмант

**jetzt** *adv* цяпéр; ***bis*** ~ да гэ́тага чáсу; ***von ~ ab*** ад [з] гэ́тага чáсу; ~ ***ében*** тóлькі што

**Jétztzeit** *f* - цяпéрашні час; сучáснасць

**jéweilig** *a* цяпéрашні, дзéйны, дзéючы (*у сучасны момант*); адпавéдны

**jéweils** *adv* у залéжнасці ад абстáвін, у кóжным вы́падку, адпавéдна

**jíddisch**: ***~e Spráche*** íдыш; яўрэ́йская мóва

**Jiu-Jitsu** [ʤiuˈʤitsu:] *n* - *i* -s *спарт.* джы́уджы́цу

**Job** [ʤɔp] *m* -s, -s 1) выгóдная спрáва, выгóдны заня́так 2) прáца

**Jóbber** [ˈʤɔbər] *m* –s, -s біржавы́ спекуля́нт

**Joch** *n* -(e)s, -e 1) ярмó, прыгнёт; ***in [únter] dem*** ~ пад íгам [прыгнётам]; ***ein schwéres ~ trágen**** быць пад ця́жкім прыгнётам; ***j-n (tüchtig) ins ~ spánnen*** ≅ запрэ́гчы кагó-н. у рабóту; ***im ~e sein*** цягнýць ля́мку 2) ярмó, хамýт; ***ein ~ Óchsen*** пáра быкóў [валóў] 3) гóрны перавáл, седлавíна 4) бык, пралёт (мастá)

**Jockey, Jockei** [ˈʤɔkae̯ *i* ˈʤɔki] *m* -s, -s жакéй, кóннік

**Jod** *n* -s *хім.* ёд

**jódeln** *vi* спявáць з пералíвамі (*на ты-*

*рольскі лад*)

**jódhaltig** *a* ёдзісты, які́ ўтры́млівае ёд

**Jódler** *m* -s, - 1) пе́сня (*на тырольскі лад*) 2) спява́к (*які спявае на тырольскі лад*)

**Jódtinktur** *f* -, -en насто́йка ёду

**jóggen** [ʤ-] *vi* бе́гчы трушко́м, займа́цца джо́гінгам

**Jóghurt** [Jógurt] *m*, *n* -s ёгурт

**Jógi** *m* -s, -s ёг

**Johánnisbeere** *f* -, -n пары́чка; ***schwárze*** ~ чо́рная пары́чка

**Johánnis|käfer** *m* -s, -, **~würmchen** *n* -s, - *заал.* святля́к

**jóhlen** *vi* крыча́ць, гарла́ніць, раўці́

**Jóker** [ˈjo:- *i* ˈʤo:-] *m* -s, -s джо́кер

**Jólle** *f* -, -n я́лік, шлю́пка

**Jongleur** [ʒɔŋˈglø:r] *m* -s, -e, **~in** *f* -, -nen жанглёр; жанглёрка

**jonglieren** [ʒɔŋˈli:rən] *vt* жанглі́раваць (*тс. перан.*)

**Jóppe** *f* -, -n ку́ртка, тужу́рка

**Jordáni¦er** *m* -s, - жыха́р Іарда́ніі

**jordánisch** *a* іарда́нскі

**Jóta** *n* - *i* -s ёта (*грэчаская літара*) ◊ ***um kein ~ náchgeben**** не уступа́ць ні на ёту [ні на крок]

**Journál** [ʒur-] *n* -s, -e часо́піс, газе́та, дзённік; *марск.* суднавы́ журна́л

**Journalíst** [ʒur-] *m* -en, -en журналі́ст, публіцы́ст

**jovial** [-ˈvia:l] *a* жыццяра́дасны, вясёлы, жва́вы

**Júbel** *m* -s (нястры́мная) ра́дасць, веселосць, трыумфава́нне

**Júbelfest** *n* -es, -e *гл.* Jubilä¦um

**júbeln** *vi* ра́давацца, весялі́цца, трыумфава́ць

**Jubilä¦um** *n* -s, -läen юбіле́й

**jubilíeren** *vi гл.* júbeln

**Júchten** *m*, *n* -s юхт (*гатунак скуры*)

**júchzen** *vi разм. гл.* jáuchzen

**júcken 1.** *vi vimp* свярбе́ць; ***es juckt mich am Rücken*** у мяне́ свярбі́ць спі́на; ***es juckt mir in den Béinen*** у мяне́ но́гі про́сяцца ў ско́кі; ***mir juckt es an den Fíngern*** у мяне́ ру́кі свярбя́ць (*зрабіць што-н.*) **2. ~, sich**; ***sich blútig júcken*** разадра́ць ску́ру да крыві́

**Júcken** *n* -s, **Júckreiz** *m* -es сверб

**Júdas** *m* -, -se (*ад уласнага імя*) ю́да, іу́да, прада́жнік

**Júde** *m* -n, -n яўрэ́й

**jüdisch** *a* яўрэ́йскі

**Judo** [ˈʤu:do *i* ʤuˈdo:] *n* -s *спарт.* дзюдо́

**Júgend** *f* - 1) маладо́сць, юна́цтва; ***von ~ auf*** за́малада, з малады́х гадо́ў; ***die ~áufleben lássen**** успо́мніць юна́цтва, успамяну́ць маладо́сць 2) мо́ладзь; ***die ~ von héute*** суча́сная мо́ладзь

**Júgendblüte** *f* - *паэт.* ле́пшыя гады́ жыцця́; ***in vóller ~*** у са́мым ро́сквіце гадо́ў

**Júgendfreund** *m* -(e)s, -e ся́бар юна́цтва

**Júgendheim** *n* -(e)s, -e 1) інтэрна́т для мо́ладзі 2) дом мо́ладзі

**Júgendherberge** *f* -, -n юна́цкая турба́за

**Júgendklasse** *f* -, -n *спарт.* юна́цкі разра́д

**júgendlich** *a* 1) малады́, юна́цкі, юна́чы 2) маладжа́вы

**Júgendliche** *sub m*, *f* -n, -n падле́так, юна́к, дзяўчы́на; *pl* мо́ладзь; ***~ háben (kéinen) Zútritt*** дзе́цям до́ступ (не)дазво́лены (*на фільм*)

**Júgendpresse** *f* - маладзёжны друк, газе́та для мо́ладзі

**Júgendschutzgesetz** *n* -es, -e *юрыд.* зако́н аб права́х мо́ладзі

**Júgendstrafanstalt** *f* -, -en папра́ўча-працо́ўная кало́нія для непаўнале́тніх правапаруша́льнікаў

**Júgendtreffen** *n* -s, - злёт мо́ладзі

**Júgendweihe** *f* -, -n ю́гендвае, грамадзя́нская канфірма́цыя, свя́та паўнале́цця (*гіст. – у былой ГДР*)

**Júli** *m* - *i* -s, -s лі́пень

**Jumper** [ˈʤampər] *m* -s, - джэ́мпер

**jung** *a* малады́, ю́ны; ***~es Volk*** мо́ладзь; ***von ~ auf*** з малады́х гадо́ў ◊ ***~ gefréit hat níemand geréut*** ≅ ра́на ажэ́нішся – не пашкаду́еш

**Júngarbeiter** *m* -s, - малады́ рабо́чы; *pl* рабо́чая мо́ладзь (*гіст. – у былой ГДР*)

**Júngbauer** *m* -s *i* -n, -n малады́ селяні́н

**Júnge I** *m* -n, -n, *pl разм. тс.* Jungs *i* Júngens хло́пчык, юна́к, хло́пец

**Júnge II** *sub n* -n, -n дзіцяня́ (жывёл); ~ ***bekómmen* [wérfen*]*** дава́ць пато́мства

**júngen** *vi* дава́ць [прыно́сіць] пато́мства (*пра жывёл*)

**júngenhaft** *a* хлапе́чы

**jünger** *a* маладзе́й(шы); ***der ~e*** мало́дшы

**Jünger** *m* -s, -e паслядо́ўнік, ву́чань

**Júngfer** *f* - -n дзе́ўка, дзяўчы́на; ***álte ~*** стара́я дзе́ўка

**Júngfernschaft** *f* - 1) дзяво́цкасць 2) нявіннасць, цнатлі́васць

**Júngfrau** *f* -, -en *высок.* дзе́ва, дзяўчы́на; ***die Héilige ~*** *рэл.* Ма́ці Бо́жая

**júngfräulich** *a* **1.** нявінны, дзяво́цкі, цнатлі́вы **2.** некрану́ты **3.** дзяво́чы

**Júnggeselle** *m* -n, -n халасця́к, кавале́р

**Jüngling** *m* -s, -e юна́к, маладзён

**jüngst 1.** *a* 1) наймаладзе́йшы, (са́мы) мало́дшы 2) няда́ўні; ***die ~en Eréignisse*** апо́шнія падзе́і ◊ ***das Jüngste Gerícht*** *рэл.* Стра́шны суд **2.** *adv* няда́ўна

**Júni** *n* - *i* -s, -s чэ́рвень

**júnior** *a* мало́дшы

**Juniórenrekord** *m* -(e)s, -e *спарт.* рэко́рд сяро́д юнако́ў

**Júnker** *m* -s, - 1) *гіст.* ю́нкер, буйны́ абша́рнік (*у б. Прусіі*) 2) па́ніч

**Junkie** ['ʤaŋki] *m* -s, -s наркама́н

**Júra I** правазна́ўства, юрыспрудэ́нцыя, наву́ка аб пра́ве; *разм.* юры́стыка; ~ ***studíeren*** вывуча́ць пра́ва [юрыспрудэ́нцыю]

**Júra II** *m* -s 1) ю́ра (*горная града*) 2) *геал.* ю́рскі перы́яд

**Júra III** *m* -s ю́ра **1**. *горы ў Швейцарыі і Францыі* **2.** *кантон у Швейцарыі*

**Jurisprudénz** *f* - юрыспрудэ́нцыя, юрыды́чныя наву́кі

**Juríst** *m* -en, -en юры́ст

**jurístisch** *a* юрыды́чны

**Jurór** *m* -s, -en член журы́

**Jury** [ʒy'ri: *i* 'ʒy:ri] *f* -, -s 1) журы́ 2) суд прыся́жных

**just** *adv дыял.* якра́з, менаві́та, і́менна

**justíeren** *vt тэх.* вывяра́ць, рэгулява́ць, юсці́раваць

**Justifizíerung** *f* -, -en *камерц.* пацвярджэ́нне; ~ ***éiner Réchnung*** пацвярджэ́нне [праве́рка] раху́нку

**Justíz** *f* - юсты́цыя

**Jistízmaschine** *f* -, -n *перан.* судо́вая машы́на

**Justízminister** *m* -s, - міні́стр юсты́цыі

**Justízrat** *m* -(e)s, -räte саве́тнік [дара́дчык] юсты́цыі

**Júte** *f* - джут

**Juwél** *n, m* -s, -en 1) кашто́ўны ка́мень, кашто́ўнасць 2) n -s, -e *перан.* скарб; жамчу́жына; ***ein ~ von éinem Ménschen*** залаты́ чалаве́к

**Jux** *m* -es, -e **1.** жарт, вясёлая вы́хадка; ***sich (D) éinen ~ mit j-m máchen*** паджартава́ць над кім-н. **2.** дро́бязь; ~ ***tréiben**** жартава́ць

**júxen** *vi разм.* жартава́ць, дуры́ць

# K

**Kabále** *f*-, -n кава́рства; падко́пы, інтры́гі
**Kabarett** [-ˈrɛt *і* -ˈre:] *n* -s, -e *і* -s 1) кабарэ́, эстра́дны дывертысме́нт 2) шынóк, кабарэ́
**Kabarettier** [-ˈtje:] *m* -s, -s гаспада́р [ула-да́льнік] кабарэ́
**Kabarettíst** *m* -en, -en арты́ст кабарэ́
**Kábel** *n* -s, - 1) ка́бель; ***ábgeschirmtes*** ~ экрані́раваны ка́бель; ***armíertes [bewährtes]*** ~ брані́раваны ка́бель; ***zweiádriges*** ~ двухжы́льны ка́бель 2) трос, я́карны кана́т
**Kábeljau** *m* -s, -e *і* -s *заал*. траска́
**Kábel|leitung** *f*-, -en, **~lini¦e** *f*-, -n ка́бельная лі́нія су́вязі
**kábeln** *vt*, *vi* *уст*. тэлеграфава́ць (*па кабелю*); пасыла́ць каблагра́му
**Kábelschuh** *m* -(e)s, -e *эл*. ка́бельны нака́не́чнік
**Kabíne** *f*-, -n каю́та; кабі́на
**Kabinétt** *n* -s, -e 1) *у розн. знач*. кабіне́т 2) *разм*. прыбіра́льня
**Kabotáge** [-ʒə] *f* - кабата́ж, кабата́жнае пла́ванне
**Káchel** *f*-, -n ка́фля
**kácheln** *vt* абліцо́ўваць ка́фляй
**Káchelofen** *m* -s, -öfen ка́фельная пе́чка, гала́ндская пе́чка
**Kácke** *f* - *груб. гл*. Kot
**Kadáver** [-vər] *m* -s, - труп; па́дла
**Kadénz** *f*-, -en 1) *муз., літ*. кадэ́нцыя 2) тэмп страля́ння, тэхні́чная ху́ткасць (*аўтаматычнай зброі*)
**Káder** *m* -s, - 1) ка́дры 2) ка́дравы супрацо́ўнік; *вайск*. кадраві́к
**Káderabteilung** *f* -, -en аддзе́л ка́драў (*у былой ГДР*)
**Káderausbildung** *f* - падрыхто́ўка ка́драў
**Káderleiter** *m* -s, - нача́льнік па ка́драх (*у былой ГДР*)
**Kadétt** *m* -en, -en 1) кадэ́т, выхава́нец кадэ́цкага ко́рпуса 2) ю́нкер
**Kádi** *m* -s, -s ка́дзі (*суддзя ў мусульман*); ***zum ~ láufen**** *разм*. падава́ць ска́ргу ў суд
**Käfer** *m* -s, - жук; ***ein nétter [süßer]*** ~ *разм*. прыго́жая дзяўчы́на
**Kaff** *n* -s, -s *і* -e *разм*. глухі́ закуто́к; глухме́нь
**Káffee** *m* -s, -s 1) ка́ва [ко́фе] 2) гату́нак ка́вы; ~ ***máchen*** вары́ць ка́ву [ко́фе] ◊ ***das ist álles kálter ~!*** гэ́та ўсё даўны́м-даўно́ вядо́ма [забы́та]!
**Káffeebohne** *f*-, -n ка́вавы [кафе́йны] боб
**Káffee-Ersátz** [Káffeeersatz] *m* -es сурага́т ка́вы
**Káffeehaus** *n* -es, -häuser кавя́рня [кафэ́]
**Káffeekanne** *f*-, -n кафе́йнік
**Káffeeklatsch** *m* -(e)s, -e *разм*. плёткі
**Káffeekocher** *m* -s, - кавава́рка, ко́феварка
**Káffeemaschine** *f* -, -n машы́на для гатава́ння ка́вы
**Káffeemühle** *f* -, -n ка́вавы [кафе́йны] млыно́к
**Káffeesatz** *m* -es ка́вавая [кафе́йная] гу́шча: ***aus dem ~ wáhrsagen [orákeln]*** *разм*. варажы́ць на ка́вавай [кафе́йнай] гу́шчы
**Káffeeservice** [-ˌvi:s] *n* - *і* -*s* [-ˌvi:s *і* -ˌvi:səs], - [-ˌvi:s *і* -ˌvi:sə] ка́вавы [кафе́йны] сервíз
**Káffeestube** *f* -, -n кафе́йная, кавя́рня
**Káffeezusatz** *m* -es, -sätze даме́шка да натура́льнай ка́вы
**Käfig** *m* -s, -e 1) кле́тка 2) *тэх*. кажу́х
**kahl** *a* го́лы; лы́сы; ~ ***wérden*** лысе́ць; ~ ***fréssen**** абгрыза́ць (*пра с.-г. шкоднікаў*)
**Káhlkopf** *m* -(e)s, -köpfe 1) лы́сая галава́ 2) лы́сы (*чалавек*)
**Káhlschlag** *m* -(e)s, -schläge *лес*. суцэ́льная вы́рубка
**Kahm** *m* -s бро́сня
**Kahn** *m* -(e)s, Kähne ло́дка, чо́вен; ба́ржа; ~ ***fáhren**** плы́сці на ло́дцы [чаўне́]
**Kai** *m* -s, -e *і* -s набярэ́жная; пірс
**Káiman** *m* -s, -e *заал*. кайма́н (*паўднёва-амерыканскі кракадзіл*)

**Káimauer** *f* -, -n сцяна́ набярэ́жнай
**Káiser** *m* -s, - імпера́тар, ка́йзер ◊ ***sich um des ~s Bart stréiten**** спрача́цца аб чым-н. неканкрэ́тным [неісто́тным]
**Káiserhaus** *n* -es, -häuser дына́стыя
**káiserlich** *a* імпера́тарскі, ка́йзераўскі
**Káiserreich** *n* -(e)s, -e імпе́рыя
**Káiserschnitt** *m* -(e)s, -e *мед.* ке́сарава сячэ́нне
**Kájak** *m , n* -s, -e *i* -s *спарт.* байда́рка
**Kajüte** *f*-, -n *марск.* каю́та
**Kakáo** *m* -s, -s кака́ва; ***j-n durch den ~ ziehen**** *разм.* збэ́сціць каго́-н.; падсме́йвацца, паджартоўваць над кім-н., паке́пліваць з каго́-н.
**Kákerlak** *m* -s *i* -en, -en чо́рны тарака́н
**Kaktée** *f*-, -n, **Káktus** *m* -, -se *бат.* ка́ктус
**Kalamität** *f*-, -en няшча́сце, бяда́; ця́жкасці, турбо́ты; ***wírtschaftliche ~*** эканамі́чнае ўзрушэ́нне
**Kálauer** *m* -s, - по́шласць, тупы́ жарт
**Kalb** *n* -(e)s, Kälber цяля́; ***das Góldene ~*** залаты́ цяле́ц ◊ ***ein ~ wird schnell zum Óchsen*** ≅ апеты́т [смак] прыхо́дзіць у час яды́; ***das ~ will klüger sein als die Kuh*** ≅ яйцо́ ку́рыцу не ву́чыць
**Kálbe** *f* -, -n цялу́шка
**kálben** *vi* (а)цялі́цца ◊ ***ihm kalbt der Óchse*** ≅ яму́ шанцу́е, як ду́рню
**kälbern** 1) *гл.* kálben 2) прыду́рвацца, паво́дзіць сябе́, як дзіця́ 3) *груб.* рыга́ць, ваніта́ваць
**Kálbsauge**: ***~n máchen*** вы́лупіць [вы́трашчыць] во́чы
**Kálbsbraten** *m* -s, - сма́жаная цяля́ціна
**Kálbsbrust** *f* - цяля́чая грудзі́нка
**Kálbsfleisch** *n* -(e)s цяля́ціна
**Kaldáunen** *pl* (я́лавічныя, гавя́жыя) кі́шкі, трыбухі́; *кул.* рубцы́
**Kaleidoskóp** *n* -s, -e калейдаско́п
**kalendárisch** *a* каляндá́рны
**Kalendárium** *n* -s, -ri¦en 1) *царк.* каляндáр 2) натáтнік з календаро́м
**Kalénder** *m* -s, - 1) каляндáр 2) альманáх
**Kalésche** *f* -, -n бры́чка, тарата́йка
**Kalfákter** *m* -s, -, **Kalfáktor** *m* -s, -tóren 1) слу́жка, прыбіра́льшчык (*часцей турэмны*) 2) дано́счык, паклёпнік
**Káli** *n* -s калі́йнае ўгнае́нне
**Kalíber** *n* -s, - калі́бр; ***von gléichem ~*** аднаго́ калі́бру [ты́пу]
**Kalíf** *m* -en, -en халі́ф, калі́ф; ***~ auf kúrze Dáuer*** *іран.* калі́ф на гадзі́ну
**Káliko** *m* -s, -s *тэкст.* 1) парка́ль 2) календо́р 3) мітка́ль
**Kalk** *m* -(e)s, -e ва́пна; вапня́к; ***gelöschter ~*** га́шаная ва́пна; ***mit ~ bewérfen**** тынкава́ць
**Kálkanstrich** *m* -(e)s, -e ва́пнавая пабе́лка
**Kálkbewurf** *m* -(e)s, -würfe тынк, тынко́ўка
**Kálkbrennerei** *f*-, -en устано́ўка для аб-па́львання ва́пны
**Kálkdünger** *m* -s ва́пнавае ўгнае́нне
**kálken** *vt* 1) бялі́ць ва́пнай 2) вапнава́ць (*глебу*)
**kálkhaltig** *a* які́ ўтры́млівае ва́пну
**Kálkhütte** *f*-, -n *гл.* Kálkbrennerei
**Kálkmörtel** *m* -s, - ва́пнавы раство́р
**Kálkstein** *m* -(e)s вапня́к
**Kalkül** *n* -s, -e 1) разлі́к, вылічэ́нне 2) каштары́с
**Kalkulatión** *f* -, -en калькуля́цыя, разлі́к
**kalkulíeren** *vt* 1) калькулява́ць, склада́ць каштары́с 2) браць [прыма́ць] у разлі́к, узва́жваць
**Kálla** *f* -, -s *бат.* капы́тнік
**Kalligraphíe** [Kalligrafíe] *f* - калігра́фія, чыстапіса́нне
**Kalmück(e)** *m* -en, -en калмы́к
**kalmückisch** *a* калмы́цкі
**Kálmus** *m* -, -se *бат.* ае́р
**Kaloríe** *f* -, -rí¦en *фіз.* кало́рыя
**Kalorí¦en|gehalt** *m* -(e)s, -e, **~wert** *m* -(e)s, -e калары́йнасць
**Kalótte** *f* -, -n 1) кру́глая ша́пачка, ярмо́лка, фе́ска; п’ю́шка (*круглая шапачка ў каталіцкіх святароў*)
**kalt 1.** *a* хало́дны; ***~es Blut bewáhren*** заставáцца спако́йным; ***das lässt mich ~*** гэ́та мяне́ не хвалю́е **2.** *adv*: ***es läuft mir ~ über den Rücken*** мяне́ маро́з па ску́ры дзярэ́; ***~ bleiben**** застава́цца абыя́кавым [хало́дным]

**káltblütig** *a* 1) халаднакро́ўны 2) *перан.* спако́йны, абыя́кавы

**Káltblütigkeit** *f* - спако́й, стры́манасць

**Kälte** *f* - 1) маро́з, хо́лад; ***bíttere [strénge] ~*** (лю́тая) сцю́жа 2) хало́днасць; ***mit éisiger ~*** з ледзяно́ю хало́днасцю

**Kälteanlage** *f* -, -en *тэх.* халадзі́льная ўстано́ўка

**Kältebeständigkeit** *f* - *с.-г., тэх.* марозатрыва́ласць, марозаўсто́йлівасць, халадаўсто́йлівасць

**Kälteeinbruch** *m* -(e)s надыхо́д халадо́ў

**kälteempfindlich** *a* немарозатрыва́лы, успрыі́млівы да хо́ладу

**kälten** *vt* студзі́ць, асту́джваць

**Kältepol** *m* -s, -e по́люс хо́ладу

**Kälteschauer** *m* -s, - дры́жыкі

**káltherzig** *a* чэ́рствы, бязду́шны, хало́дны

**Káltherzigkeit** *f* - хало́днасць, чэ́рстласць, бессардэ́чнасць

**kalt lássen*** *vt* не ўзруша́ць, не ціка́віць; ***das lässt ihn kalt*** гэ́та яго́ ма́ла абыхо́дзіць [не ціка́віць]; ~ ***máchen*** *разм.* забі́ць; ~ ***stéllen*** пазбаўля́ць уплы́ву; зняць (*з пасады*); абясшко́дзіць

**Káltwelle** *f* -, -n хімі́чная [хало́дная] заві́ўка

**Kálzium** *n* -s *хім.* ка́льцый

**kam** *impf ад* kómmen*

**Kamél** *n* -s, -e 1) вярблю́д 2) *разм.* ду́рань, ёлупень

**Kamélzucht** *f* - вярблюдагадо́ўля

**Kamélhaar** *n* -(e)s -e вярблю́джая поўсць

**Kaméllen** *pl*: ***das sind ja álte [ólle] ~*** *разм.* гэ́та ўсё стара́я пе́сня

**Kaméltreiber** *n* -s, - паганя́ты вярблю́даў

**Kámera** *f* -, -s *фат.* кінака́мера; фотаапара́т, фотака́мера

**Kamerád** *m* -en, -en тава́рыш, ся́бар, хаўру́снік

**Kamerádschaft** *f* -, -en тавары́скія адно́сіны, дру́жба, сябро́ўства

**kamerádschaftlich** **1.** *a* сябро́ўскі, тавары́скі **2.** *adv* па-сябро́ўску, па-тавары́ску

**Kámeramann** *m* -s, -männer *i* -leute кінаапера́тар

**Kamílle** *f* -, -n *бат.* рамо́нак

**Kamíllentee** *m* -s насто́йка на рамо́нках

**Kamín** *m* -s, - 1) камі́н 2) ко́мін

**Kamínfeger** *m* -s, - каміна́р

**Kamm** *m* -(e)s, Kämme 1) грэ́бень, грабяне́ц, расчо́ска 2) грэ́бень (*гор*) ◊ ***da liegt der ~ auf der Bútter*** ≅ тут сам чорт но́гі скале́чыць; ***álle(s) über éinen ~ schéren**** стры́гчы ўсі́х (усё) пад адзі́н грэ́бень

**kämmen** **1.** *vt* 1) прычэ́сваць, расчэ́сваць; ***das Haar in éinem Schéitel ~*** прычаса́цца на прабо́р 2) часа́ць (*воўну*) 3) *вайск.* прачэ́сваць (*мясцовасць*) **2. ~, sich** прычэ́свацца; ***sich kléidsam ~*** зрабі́ць прычо́ску да тва́ру

**Kámmer** *f* -, -n 1) пако́й; камо́рка 2) пала́та (*дэпутатаў*) 3) судо́вая пала́та 4) *вайск.* цэйхга́ўз 5) жалу́дачак (*сэрца*) 6) *тэх.* каро́бка, ка́ртэр

**Kämmeréi** *f* -, -en *гіст.* гарадско́е казнача́йства

**Kámmerfrau** *f* -, -en камеры́стка, пакаёўка

**Kámmergericht** *n* -(e)s, -e *гіст.* Вышэ́йшы (*апеляцыйны*) суд (*у былой Прусіі*)

**Kámmermädchen** *n* -s, - пакаёўка

**Kámmermusik** *f* - ка́мерная му́зыка

**Kámmerpräsident** *m* -en, -en 1) старшыня́ парла́мента 2) старшыня́ судо́вай пала́ты 3) гарадскі́ казначэ́й

**Kámmersänger** *m* -s, - ка́мерны спява́к

**Kámmerspiele** *pl* ка́мерны тэа́тр

**Kámmerzofe** *f* -, -n *гл.* Kámmermädchen

**Kámmgarn** *n* -(e)s, -e камво́льнае пра́дзіва, га́рус

**Kámmwolle** *f* - камво́льная [чэ́саная] во́ўна

**Kampagne** [-ˈpanjə] *f* -, -n 1) кампа́нія 2) *вайск.* пахо́д

**Kämpe** *m* -n, -n *паэт.* бае́ц, ваяр, геро́й

**kämpeln, sich** *разм.* свары́цца

**Kampf** *m* -(e)s, Kämpfe барацьба́, змага́нне, бі́тва; (*für, um A – за што-н.; mit D – з кім-н., з чым-н.; gegen A – супраць [супроць, процiў] каго-н., чаго-н.*); ***der ~ ums Dásein*** барацьба́ за існава́нне; ***ein ~ auf Lében und Tod*** змага́нне не на жыццё, а на смерць

**Kámpfabschnitt** *m* -(e)s, -e *вайск.* уча́сстак (*баявых дзеянняў*)

**Kámpfansage** *f* -, -n вы́клік (*на бой*) (*тс. перан.*)
**Kámpfaufstellung** *f* -, -en *вайск.* баявы́ парáдак
**Kámpfbahn** *f* -, -en *спарт.* дарóжка, трáса (*спаборніцтва*)
**Kámpfbanner** *n* -s, - баявы́ сцяг, сцяг барацьбы́
**kámpfbereit** *a* гатóвы да бóю, баяздóльны
**kämpfen** *vi* (*für, um A*) змагáцца, ваявáць, біцца (*за што-н.*); (*gegen A*) змагáцца (*супраць каго-н., чаго-н.*); ***mit óffenem Visíer ~*** змагáцца з адкры́тым забрáлам; ***für [um] den Fríeden ~*** змагáцца за мір; ***auf Lében und Tod ~*** змагáцца [біцца] не на жыццё, а на смерць; ***mit dem Láchen ~*** ледзь стры́мліваць смех
**Kámpfer** *m* -s кáмфара
**Kämpfer** *m* -s, - барацьбіт, змагáр; баéц, вая́р; ***~ und Wáffen*** *pl вайск.* жывáя сіла і тэ́хніка
**kämpferisch 1.** *a* баявы́, ваяўнíчы; ***ein ~es Lében*** жыццё, пóўнае барацьбы́ **2.** *adv* па-баявóму
**kámpferprobt** *a* выпрабавáны ў бая́х
**kámpffähig** *a* баяздóльны
**Kámpfflugzeug** *n* -(e)s, -e *ав.* баявы́ самалёт, самалёт-бамбардзірóўшчык
**Kámpfgenosse** *m* -n, -n паплéчнік, баявы́ тавáрыш
**Kámpfgruppe** *f* -, -n *вайск.* баявáя грýпа
**Kámpfhahn** *m* -(e)s, -hähne 1) *заал.* турухтáн 2) *перан.* пéвень, забія́ка
**Kámpfhandlungen** *pl вайск.* баявы́я дзéянні
**Kámpfkraft** *f* -, -kräfte баявáя сіла, баяздóльнасць
**kámpflustig** *a* ваяўнíчы
**Kámpfplatz** *m* -es, -plätze арэ́на барацьбы́; пóле бітвы
**Kámpfrichter** *m* -s, - *спарт.* арбітр, суддзя́ (*на спаборніцтвах*)
**Kámpfring** *m* -(e)s, -e рынг (*бокс*)
**Kámpfruf** *m* -(e)s, -e баявы́ (пó)кліч
**Kámpfspiel** *n* -(e)s, -e турнір, спабóрніцтва; ваéнная гульня́
**Kámpfstätte** *f* -, -n 1) арэ́на барацьбы́ 2) пóле бітвы
**Kámpfstellung** *f* -, -n *вайск.* баявóе размяшчэ́нне, баявáя пазіцыя
**Kámpfstoff** *m* -(e)s, -e баявóе атрýтнае рэ́чыва
**kámpfunfähig** *a* небаяздóльны; ***~ máchen*** вы́весці са стрóю
**Kámpfwagen** *m* -s, - *гіст., уст.* баявáя калясніца
**Kámpfwille** *m* -ns гатóўнасць да барацьбы́, баявы́ энтузія́зм
**Kámpfzone** *f* -, -n зóна ваéнных дзéянняў
**kampíeren** *vi* 1) стая́ць лáгерам 2) жыць у палáтцы; жыць у прымітыўных умóвах [без выгóд]
**Kanádi¦er** *m* -s, - канáдзец
**kanádisch** *a* канáдскі
**Kanaille** [ka'naljə] *f* -, -n падлю́га, нягóднік
**Kanál** *m* -s, Kanäle 1) канáл 2) фарвáтэр, прахóд ◊ ***ich hábe den ~ voll*** *разм.* з мянé гэ́тага хóпіць, мне гэ́та надакýчыла
**Kanalisatión** *f* -, -en каналізáцыя
**kanalisíeren** *vt* 1) шлюзавáць (*рэкі*) 2) праклáдваць канáлы (*дзе-н.*), каналізавáць (*што-н.*) 3) накірóўваць па рóзных канáлах
**Kánapee** *n* -s, -s канáпа
**Kanári¦envogel** *m* -s, -vögel *заал.* канарэ́йка
**Kandáre** *f* -, -n цýглі (*у каня*)
**Kándelzucker** *m* -s *гл.* Kándis
**Kandeláber** *m* -s, - кандэля́бра
**Kandidát** *m* -en, -en 1) кандыдáт; ***j-n als ~en áufstellen*** выстаўля́ць чыю́-н. кандыдатýру 2) студэ́нт-дыплóмнік; ***~ der Philosophíe*** студэ́нт-дыплóмнік філасóфскага факультэ́та
**Kandidatúr** *f* -, -en кандыдатýра; ***die ~ áufstellen*** выстаўля́ць [вылучáць] чыю́-н. кандыдатýру; ***von der ~ ábsehen**** зняць чыю́-н. кандыдатýру
**kandidíeren** *vi* (*für A*) выстаўля́ць сваю́ кандыдатýру (*на які-н. пост*), з’яўля́цца кандыдáтам
**kandíeren** *vt* зацукрóўваць; ***kandíerte Früchte*** цукáты
**Kándis** *m* -, **~zucker** *m* -s ледзянéц, лядзя́ш

**Kanéel** *m* -s, -e карыца (*вышэйшага гатунку*)
**Känguru** *n* -s, -s *заал.* кенгурý
**Kanín** *n* -s, -e трусíнае фýтра
**Kanínchen** *n* -s, - *заал.* трус
**Kanínchenstall** *m* -(e)s, -ställe трусятнік
**Kanínchenzucht** *f* - трусагадóўля
**Kaníster** *m* -s, - бак пад гарýчае, бітóн, канíстра; бýтля ў пляцёнцы
**kann** *präs ад* können
**Kánn-Bestímmung** [Kánnbestimmung] *f* -, -en забеспячэ́нне свабóды вы́бару
**Kánne** *f* -, -n кóнаўка, кýбак; збан(óк); чáйнік ◊ ***es gießt wie mit [aus] ~n*** *разм.* дождж лье як з вядрá
**Kannibále** *m* -n, -n людаéд, канібáл
**kánnte** *impf ад* kénnen*
**Kánon** *m* -s, -s 1) канóн, прáвіла 2) *муз.* канóн
**Kanóne** *f* -, -n 1) гармáта 2) *жарт.* вáжная персóна, шы́шка, туз ◊ ***únter áller ~*** ніжэ́й за ўсякую кры́тыку; ***mit ~n nach [auf] Spátzen schíeßen**** страляць з гармáт па вераб'я́х
**Kanónenboot** *n* -(e)s, -e *вайск.* кананéрка
**Kanónendonner** *m* -s кананáда
**Kanónenfutter** *n* -s гармáтнае мяса
**Kanónenschuss** *m* -es, -schüsse гармáтны стрэл
**Kanoníer** *m* -s, -e *вайск.* радавы́ артылéрыі, кананíр
**Kantáte** *f* -, -n *муз.* кантáта
**Kánte** *f* -, -n 1) кант; край, грань 2) кант, бардзю́р; шляк, аблямóўка 3) акрáец (*хлеба*) ◊ ***auf die hóhe ~ légen*** адклáдваць на чóрны дзень, рабíць зберажэ́нні
**kánten** *vt* 1) кантавáць; аблямóўваць; 2) стáвіць на кант [руб] (*скрынку, дошку*)
**kántig** *a* вуглавáты, рабры́сты, гранёны
**Kantíne** *f* -, -n сталóўка, буфéт (*пры казарме, фабрыцы*)
**Kantón** *m* -s, -e кантóн (*адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў некаторых краінах*)
**Kántor** *m* -s, -tóren *муз.* кáнтар, рэ́гент хóру
**Kantoréi** *f* -, -en царкóўны [касцéльны] хор
**Kánu** *n* -s, -s *спарт.* канóэ (*лодка*)
**Kanúte** *m* -n, -n *спарт.* канаíст (*вясляр на каноэ*)
**Kánzel** *f* -, -n царкóўная кáфедра
**Kanzléi** *f* -, -en канцылярыя
**Kanzléisprache** *f* -, -n канцылярская мóва
**Kanzléistil** *m* -(e)s, -e канцылярскі стыль
**Kánzler** *m* -en, -en кáнцлер
**Kanzlíst** *m* -en, -en канцыляры́ст
**Kap** *n* -s, -s 1) мыс 2) перадгóр'е 3) хваляpэ́з
**Kapazität** *f* -, -en 1) *тэх.* ёмістасць 2) (вытвóрчая) магýтнасць 3) знакамíтасць, велічыня́ (*у навуцы*)
**Kapélle** *f* -, -n 1) каплíца 2) *муз.* капэ́ла
**Kapéllmeister** *m* -s, - капельмáйстар, дырыжóр
**kápern 1.** *vt* захóпліваць (*карабель*); *разм.* падчапíць **2.** *vi* займáцца пірáцтвам
**kapíeren** *vt разм.* (з)разумéць, (с)кéміць, (у)цямíць
**Kapilláre** *f* -, -n *фіз., анат.* капіля́р
**kapitál** *a* капітáльны; мóцны; грунтóўны
**Kapitál** *n* -s, -e капітáл; ***konstántes ~*** пастая́нны капітáл; ***variábles ~*** перамéнны капітáл; ***fíxes ~*** аснóўны капітáл; ***zirkulíerendes ~*** абарóтны капітáл; ***tótes ~*** мёртвы капітáл; ***~ aus etw. (D) schlágen**** здабываць вы́гаду [кары́сць] з чагó-н.; ***das ~ verzínst sich gut*** капітáл даé вялíкія працэ́нты
**Kapitálanlage** *f* -, -n капіталаўкладáнне
**kapitalisíeren** *vt* ператварáць у капітáл, капіталізавáць
**Kapitalísmus** *m* - капіталíзм
**kapitalístisch** *a* капіталісты́чны
**Kapitálrentabilität** *f* - *фін.* нóрма акýпнасці капітáла
**Kapitálverkehrsbilanz** *f* -, -en *эк.* рахýнак рýху капітáлаў
**Kapitän** *m* -s, -e капітáн; ***~ zur Sée*** *марск.* капітáн пéршага рáнгу
**Kapítel** *n* -s, - главá, раздзéл; ***das ist ein tráuriges ~*** гэ́та сýмная гістóрыя; ***das ist ein ~ für sich*** гэ́та асóбая спрáва [асóбы пункт]
**Kapitéll** *n* -s, -e *архіт.* капітэ́ль, вéрхняя чáстка калóны

**Kapítelüberschrift** *f* -, -en на́зва раздзе́лу [главы́]

**Kapitulatión** *f* -, -en капіту́ля́цыя; ***bedíngungslose ~*** безагаво́рачная капіту-ля́цыя

**kapitulíeren** *vi* капітулява́ць, здава́цца

**Kaplán** *m* -s, Kapläne *царк.* капла́н, віка́-рый (*у каталікаў*)

**Káppe** *f* -, -n 1) ша́пка, капту́р, капю-шо́н; шлем (*матацыкліста*) 2) *тэх.* чахо́л, каўпа́к

**káppen** *vt* 1) адсяка́ць 2) абсяка́ць; пад-раза́ць (*верхавіну і г.д.*) 3) кастры́ра-ваць 4) схапі́ць (*злодзея*)

**Käppi** *n* -s, -s кэ́пі

**Káppnaht** *f* -, -en двайно́е шво

**Kapríce** [-sə] *f* -, -n капры́з; упа́ртасць

**Kapriόle** *f* -, -n 1) скачо́к, скачо́к на ме́с-цы (*верхавая язда*) 2) дзіва́цтва, кап-рыз; недарэ́чная вы́хадка

**kapriziös** *a* капры́зны, упа́рты

**Kápsel** *f* -, -n 1) футара́л, абало́нка, ко́рпус (*гадзінніка*) 2) *тэх.* зло́жніца, ка́псуль, кажу́х 3) каро́бка (*чарапная, семянная*)

**kapútt** *a разм.* 1) разбі́ты, палама́ны, сап-сава́ны; ~ ***máchen*** (са)псава́ць, (па)ла-ма́ць 2) сто́млены, змо́раны, знямо́жа-ны; ~ ***géhen**** *vi* (s) (са)псава́цца, разбі́ц-ца: ***sich ~ láchen*** *разм.* паміра́ць са сме́ху

**Kapúze** *f* -, -n капту́р, капюшо́н, башлы́к; ***die ~ überzíehen**** надзява́ць [наця́гваць] капюшо́н; ***die ~ zurückschlagen**** апус-ці́ць капюшо́н [башлы́к]; *царк.* клабу́к

**Karabíner** *m* -s, - карабі́н

**Karáffe** *f* -, -n графі́н

**Karambolage** [-ˈlaːʒə] *f* -, -n 1) карамбо́ль (*у більярдзе; удар адным шаром па некалькіх*) 2) *перан.* сутыкне́нне

**Karamél** *m*, *n* -s *гл.* Karamélzucker

**Karamélle** *f* -, -n караме́ль, цуке́рка

**Karamélzucker** *m* -s па́лены цу́кар

**Karát** *n* -s, -e *і з лічэб.* - кара́т

**Karaté** *n* - *або* -s *спарт.* каратэ́

**Karáusche** *f* -, -n кара́сь

**Karawánne** *f* -, -n 1) карава́н 2) працэ́сія, ход, цуг

**Karbíd** *n* -(e)s *хім.* карбі́д

**Karbόl** *n* -s, **~säure** *f* - карбо́лавая кісла-та́; *разм.* карбо́лка

**Karbonáde** *f* -, -n адбіўна́я катле́та, кар-бана́д

**Karbonát** *n* -(e)s, -e *хім.* вуглекі́слая соль

**Karbúnkel** *m* -s, - *мед.* карбу́нкул

**Kardamóm** *m*, *n* -s, -e *або* -en кардамо́н (*прыправа*)

**kardinál** *a* галоўны, асно́ўны, карды-на́льны

**Kardinál** *m* -s, -näle **1.** *царк.* кардына́л **2.** крушо́н з бе́лага віна́

**Kardinálzahl** *f* -, -en *грам.* ко́лькасны лі-чэ́бнік

**Kardiográmm** *n* -s, -e *мед.* кардыягра́ма

**Karéli¦er** *m* -s, - карэ́л(ец)

**karélisch** *a* карэ́льскі

**Karénzzeit** *f* -, -en час [тэ́рмін] чака́ння

**Kárfreitag** *m* -(e)s, -e *рэл.* Вялі́кая (*перадвелікодная*) пя́тніца

**Karfúnkel** *m* -s, - 1) карбу́нкул (*каштоў-ны камень*) 2) *разм. гл.* Karbúnkel

**karg** *a* 1) скупы́, мізэ́рны 2) убо́гі, бе́д-ны; ***ein ~es Lében führen*** жы́ць у га-ле́чы; ***bésser ~ als arg*** *прым.* бе́днасць не зага́на

**kárgen** *vi* (*mit D*) скупі́цца (*на што-н.*), шкадава́ць (*чаго-н.*); ***mit Wórten ~*** быць скупы́м на сло́вы

**Kárgheit** *f* - ску́пасць, скна́рнасць, скна́-рыстасць

**kärglich** *a* бе́дны, заняпа́лы, мізэ́рны, нікчэ́мны

**karíert** *a* клятча́сты

**Karikatúr** *f* -, -en карыкату́ра, шарж

**karikíeren** *vt* малява́ць [пака́зваць] у ка-рыкату́рным вы́глядзе, шаржы́раваць

**Karmesín** *n* -s кармазі́н (*фарбавальнае рэчыва*)

**karmesínrot** *a* ярка-чырво́ны, кармі́нны

**karmínfarben**, **karmínrot** *a* кармі́нны, ярка-чырво́ны, малі́навы

**Kárneval** [-val] *m* -s, -e *і* -s карнава́л

**Karníckel** *n* -s, - 1) *заал., дыял.* трус 2) *іран.* віно́ўнік, казёл адпушчэ́ння

**Káro** *n* -s, -s 1) ромб 2) зво́нкі (*у картах*)

**Karósse** *f* -, -n брычка, дыліжа́нс
**Karosseríe** *f* -, -i¦en *тэх.* ку́заў
**Karótte** *f* -, -n мо́рква, карат́эль
**Kárpfen** *m* -s, - карп
**Kárre** *f* -, -n, **Kárren** *m* -s, - вазо́к, та́чка, каля́ска ◊ ***die ~ läuft schief*** ≅ спра́ва не ла́дзіцца; ***die ~ aus dem Dreck zíehen**** вы́правіць [нала́дзіць] спра́ву
**Karrée** *n* -s, -s чатырохку́тнік, чатырохвуго́льнік; *вайск., гіст.* карэ́
**kárren** *vt* (паво́льна) ве́зці (*у вазку, на тачцы*)
**Karri¦ére** *f* -, -n 1) кар'е́ра; ~ ***máchen*** рабі́ць кар'е́ру 2) кар'е́р (*алюр*); ***in vóllster*** ~ кар'е́рам, наўска́ч, стрымгало́ў
**Karri¦eríst** *m* -en, -en кар'еры́ст
**Karsámstag** *m* -(e)s Вялі́кая субо́та (*субота перад Вялікаднем*)
**Karst** *m* -(e)s *геал.* карст
**Kartätsche** *f* -, -n карце́ч
**Kartäuser** *m* -s, - картэзія́нец (*манах*)
**Kárte** *f* -, -n 1) ка́ртка (*у розн. знач.*); ***die gélbe [grüne, róte]*** ~ жо́ўтая [зялёная, чырво́ная] ка́ртка 2) *геагр.* ка́рта 3) паштоўка, ка́ртка 4) біле́т, квіто́к 5) ка́ртка меню́ 6) ка́ртка (*харчовая*) 7) ка́ртка (*візітная*) 8) ка́рта (*ігральная*); ***álles auf éine ~ sétzen*** *тс. перан.* паста́віць усё на ка́рту; ***~n légen*** раскла́дваць пасья́нс; варажы́ць на ка́ртах; ***ein Spiel ~n*** кало́да ка́ртаў; ***~n áufdecken*** адкрыва́ць ка́рты; ***éine ~ áusspielen*** пайсці́ з (*якой-н.*) ка́рты; ***die ~ sticht*** ка́рта бярэ́ [б'е]; ***sich nicht in die ~n gúcken lássen**** не дава́ць загляда́ць у сваé ка́рты; *перан.* скрыва́ць [таі́ць] сваé наме́ры; ***álle ~n in der Hand behálten**** мець усé ка́рты на рука́х; ***mit óffenen ~n spíelen*** гуля́ць [дзе́йнічаць] адкры́та
**Kartéi** *f* -, -en картат́эка
**Kartéll** *n* -s, -e 1) *эк.* карт́эль 2) пагадне́нне, блок
**Kártenbestellung** *f* -, -en зака́з біле́таў; ***~en entgégennehmen**** прыма́ць папяр́эднія зака́зы на біле́ты
**Kártenhaus** *n* -es, -häuser ка́ртачны дамо́к (*тс. перан.*)
**Kártenkunde** *f* - картагра́фія
**Kártenlegerin** *f* -, -nen гада́лка
**Kártenspiel** *n* -(e)s, -e гульня́ ў ка́рты
**Kártensystem** *n* -s, -e ка́рткавая сіст́эма забеспячэ́ння
**kartíeren** *vt* 1) уключа́ць у картат́эку 2) пазна́чаць [адлюстрава́ць] на ка́рце [ма́пе]
**Kartóffel** *f* -, -n бу́льба (*без pl культура*); бу́льбіна; ***néue [júnge] ~n*** малада́я бу́льба; ***~n in der Schále*** нялу́пленая бу́льба [з лупі́намі]; ***~n áusmachen [gráben, róden]*** капа́ць бу́льбу; ***~n lésen**** збіра́ць бу́льбу (*на полі*); ***~n légen [áuslegen, sétzen]*** садзі́ць бу́льбу
**Kartóffelernte** *f* -, -n 1) убо́рка бу́льбы 2) ураджа́й бу́льбы
**Kartóffelkäfer** *m* -s, - бульбяны́ [кала-ра́дскі] жук
**Kartóffelkraut** *n* -(e)s, -kräuter бульбя́нік, бульбо́ўнік
**Kartóffelmehl** *n* -(e)s бульбяна́я мука́, бульбяны́ крухма́л
**Kartóffelmiete** *f* -, -n бульбасхо́вішча (*у полі*), бульбяны́ бурт
**Kartóffelpuffer** *m* -s, - дра́нік, ала́дка з бу́льбы
**Kartóffelroder** *m* -s, - бульбакапа́лка
**Kartóffelstärke** *f* - крухма́л з бу́льбы
**Kartóffelsuppe** *f* -, -n бульбяны́ суп; ***jéden Tag ~*** *іран.* ко́жны дзень адно́ і то́е са́мае
**Karton** [-ˈtɔŋ *i* -ˈtoːn] *m* -s, -s *i* -e 1) кардо́н 2) кардо́нная каро́бка
**kartoníeren** *vt* пакава́ць у кардо́нкі; браць у кардо́нны пераплёт
**kartoníert** *a* кардо́нны, у кардо́нным пераплёце
**Kartothék** *f* -, -en картат́эка
**Karusséll** *n* -s, -e *i* -s карусе́ль
**Kárwoche** *f* -, -n *рэл.* перадвеліко́дны ты́дзень
**karzinogén** *a мед.* канцэрагéнны, які́ выклі́кае рак
**Kasáche** *m* -n, -n каза́х
**kasáchisch** *a* каза́хскі
**Kaschémme** *f* -, -n *разм.* шыно́к, забяга́лаўка

**kaschíeren** *vt* 1) *паліграф.* абклéйваць папéрай 2) хавáць, прыхóўваць

**Käse** *m* -s, - сыр; ***das ist doch álles*** ~ *разм.* гэ́та ўсё (пóўная) лухтá; ***drei*** ~ ***hoch*** недарóслы

**Käsekuchen** *m* -s, - сы́рнік, ватрýшка

**Kasemátte** *f* -, -n казэмáт

**käsen** *vt* 1) гатавáць сыр (*з чаго-н.*) 2) *vi разм.* малóць [вярзці́] лухтý

**Käseréi** *f* -, -en сыравáрня

**Kasérne** *f* -, -n *вайск.* казáрма, кашáра

**kaserníeren** *vt вайск.* рассялáць па казáрмах; переводзíць на казáрменнае станóвішча

**käseweiß** *a разм.* спалатнéлы, блéдны (як палатнó)

**käsig** *a* 1) тварóжысты; ~ ***wérden*** ствaróжыцца 2) блéдны

**Kasíno** *n* -s, -s казінó; (афіцэ́рскі) клуб

**Kaskáde** *f* -, -n каскáд (*у розн. знач.*)

**Káskoversicherung** *f* - страхаванне кáско (*сродкаў перавозкі*)

**Kásper** *m* -s, - *разм.* блáзен, дýрань

**Kásperletheater** *n* -s, - тэáтр лáлек

**káspern** *vi разм.* дуры́цца; дурэ́ць

**Kassatión** *f* -, -en *юрыд.* касáцыя

**Kásse** *f* -, -n 1) кáса; ***bei der*** ~ ***sein*** быць пры грашáх; мець (пры сабé) гатóўку; ***Geld auf der*** ~ ***záhlen*** плацíць грóшы ў кáсу; ~ ***máchen*** падлíчваць кáсу; ***getrénnte*** ~ ***führen*** жыць кóжнаму на сваé срóдкі 2) бальнíчная кáса

**Kássenarzt** *m* -es, -ärzte урáч бальнíчнай кáсы

**Kássenbestand** *m* -(e)s, -bestände наяў́насць (кáсы)

**(Kássen)bon** [-bɔŋ]*m* -s, -s *камерц.* кáсавы чэк

**Kássengeschäft** *n* -(e)s, -e *камерц.* аперáцыя з неадклáднай аперáцыяй

**Kássenschalter** *m* -s, - акéнца кáсы, кáса

**Kássensturz** *m* -es, -stürze *разм.* рэвíзія кáсы

**Kássenzettel** *m* -s, - (кáсавы) чэк

**Kasserólle** *f* -, -n рóндаль, кастрýля

**Kassétte** *f* -, -n 1) грашóвая шкатýлка 2) *тэх.* касéта 3) футарáл (*кнігі*)

**Kassétténrecorder** *m* -s, - касéтны магнітафóн

**kassíeren** *vt* 1) прымáць у кáсу; ***Béiträge*** ~ збірáць узнóсы [склáдкі] 2) *юрыд.* касавáць, скасóўваць, адмянáць

**Kassíerer** *m* -s, - касíр, скáрбнік

**Kássler** [Kásseler] *n* -s кавáлак вэ́ндажанай свініны

**Kastagnetten** [-tanˈjɛtən] *pl* кастаньéты

**Kastáni¦e** *f* -, -n каштáн, каштáнавае дрэ́ва; ***für j-n die ~n aus dem Féuer hólen*** цягáць каштáны з агню́ для кагó-н.; ***sich ~n aus dem Féuer hólen lássen**** чужы́мі рукáмі жар заграбáць

**Kastáni¦enbaum** *m* -(e)s, -bäume каштáн (*дрэва*)

**kastánienbraun** *a* каштáнавы (*колер*); цёмна-гняды́ (*пра коней*)

**Káste** *f* -, -n кáста

**Kastéll** *n* -s, -e 1) старажытнары́мскае ўмацавáнне 2) зáмак

**Kastellán** *m* -s, -e каштэлáн (*даглядчык замка, грамадскага будынку*)

**Kásten** *m* -s, - *і* Kästen 1) скры́нка; кýфар; ***álles in éinen*** ~ ***schméißen**** валíць усё ў аднý кýчу 2) *паліграф.* набóрная кáса 3) *вайск.* магазíнная карóбка 4) *разм.* (рáдыё)прыёмнік

**Kástenbrot** *n* -(e)s, -e фармавы́ хлеб

**Kástengeist** *m* -es кáставы дух, кáставая неталерáнтнасць

**kastríeren** *vt* кастры́раваць, лягчáць, пакладáць

**Kasuístik** *f* - казуíстыка

**Kásus** *m* -, - 1) *грам.* склон; ***oblíquer*** ~ ускóсны склон 2) кáзус, здарэ́нне

**Katakómbe** *f* -, -n катакóмбы, сутарэ́нні

**Katalóg** *m* -(e)s, -e каталóг

**katalogisíeren** *vt* каталагізавáць, унóсіць у каталóг (*што-н.*), складáць каталóг (*чаго-н.*)

**Katalýse** *f* -, -n *хім.* катáліз

**Kataplexíe** *f* -, -í¦en *мед.* катаплéксія (*аняменне*)

**Katapúlt** *m*, *n* -(e)s, -e 1) *ав.* катапýльта 2) рагáтка, прáшча

**Katárrh** *m* -s, -e *мед.* кáтар

**Katáster** *m*, *n* -s, - *юрыд*. кадáстр
**katastrophál** *a* катастрафíчны
**Katastróphe** *f* -, -n катастрóфа; ***éine ~ spíelte sich ab*** адбылáся катастрóфа
**Káte** *f* -, -n хáта, хацíна
**Katechét** *m* -en, -en выклáдчык катэхíзму
**Katechísmus** *m* -, -men катэхíзіс, катэхíзм
**Kategoríe** *f* -, -rí¦en катэгóрыя; *спарт*. клас, разрáд, катэгóрыя
**kategórisch** *a* катэгары́чны, безумóўны
**Káter I** *m* -s, - кот; ***der Gestiefelte Káter*** Кот у бóтах (*у казцы*)
**Káter II** *m* -s, - пахмéлле, перапóй; ***er hat éinen ~*** у ягó галавá трашчы́ць з перапóю
**Kathéder** *n*, *m* -s, - кáфедра, катэ́дра
**Kathéderweisheit** *f* -, -en вучóная прамýдрасць
**Kathedrále** *f* -, -n (кафедрáльны) сабóр
**Kathéte** *f* -, -n *матэм*. кáтэт
**Kathéter** *m* -s, - *мед*. катэ́тэр
**Kathóde** *f* -, -n *фіз*. катóд
**Katholík** *m* -en, -en катóлік
**kathólisch** *a* каталíцкі
**Katholizísmus** *m* - каталіцы́зм
**Kattún** *m* -s, -e *тэкст*. паркáль ◊ ***j-m ~ gében**** ≅ даць [задáць] пéрцу камý-н.
**kattúnen** *a* паркалёвы
**Katz:** ***~ und Maus (mit j-m) spíelen*** гулáць у кóшкі-мы́шкі (*з кім-н.*); ***das ist für die ~*** гэ́та дарэ́мна, гэ́та ні на што не вáрта
**kátzbuckeln** *vi* 1) (*vor D*) падлíзвацца (*да каго-н.*), лізáць бóты (*каму-н.*) 2) *спарт.* выгінáць спíну
**Kätzchen** *n* -s, - 1) кóцік, кацяня́ 2) каташóк, кóцік (*на дрэве*)
**Kátze** *f* -, -n кóшка, кóт; ***geschméidig [flink] wie éine ~*** зварóтлівы як вуж [спры́тны як кот]; ***da war kéine ~*** там не былó ні душы́ ◊ ***die ~ aus dem Sack lássen**** вы́даць намéр [сакрэ́т]; ***wie die ~ um den héißen Brei herúmgehen**** ≅ хадзíць кругóм ды навакóл
**Kátzenbuckel** *m* -s, - нíзкі паклóн; ***éinen ~ máchen (vor D)*** нíзка клáняцца; ліслíвіць (*перад кім-н.*)
**Kátzenjammer** *m* -s пахмéлле, перапóй; ***er hat*** ~ у ягó галавá трашчы́ць з перапóю
**Kátzensprung** *m*: ***es ist nur ein ~ (dahín)*** гэ́та тут зусíм пóбач [пад бóкам]
**Káuderwelsch** *n* - *i* -s 1) ламáная мóва 2) тарабáршчына, незразумéлая гавóрка
**káuderwelschen** *vt*, *vi* 1) скажáць мóву 2) гавары́ць бесталкóва, плéсці лухтý, гарадзíць глýпства
**káuen** *vt* 1) жавáць 2) гры́зці; ***die Nägel [an den Nägeln] ~*** гры́зці нóгці 3): ***die Wórte ~*** мя́мліць
**káuern 1.** *vi* сядзéць на кýкішках **2. ~, sich** 1) прысáджвацца на кýкішкі; сядзéць скýрчыўшыся 2) прытаíцца
**Kauf** *m* -(e)s, Käufe 1) пакýпка 2) кýпля, здзéлка, гэшэ́фт; ***étwas in ~ néhmen**** задавóльвацца чым-н., міры́цца з чым-н. (*з разлікам на лепшае*)
**káufen** *vt* купля́ць; ***auf Ábzahlung [auf Ráten] ~*** купля́ць у растэрмінóўку; ***im Éinzelhandel ~*** купля́ць у рóзніцу; ***im Gróßhandel ~*** купля́ць óптам ◊ ***sich (D) éinen Áffen ~*** *разм.* напíцца, быць вы́піўшым
**káufenswert** *a* вáрты, каб быць кýпленым
**Käufer** *m* -s, - пакупнíк
**Káufhalle** *f* -, -n гандлёвыя лáўкі, ры́нак пад дáхам
**Káufhaus** *n* -es, -häuser універсáльны магазíн
**Káufkraft** *f* - пакупнáя здóльнасць, пакупнáя сíла (*грошай*)
**Káufladen** *m* -s, -läden магазíн, крáма
**käuflich 1.** *a* прадáжны **2.** *adv* шля́хам прóдажу [кýплі], праз прóдаж [кýплю]
**Käuflichkeit** *f* - прадáжнасць
**Káufmann** *m* -(e)s, -leute камерсáнт, гандля́р, купéц
**káufmännisch** *a* камерцы́йны; гандля́рскі, купéцкі
**Káufmannschaft** *f* - купéцтва
**Káufpreis** *m* -es, -e пакупнáя цанá; ***éinen ~ bíeten**** прапанавáць цанý (*з боку пакупніка*)
**Káufvertrag** *m* -(e)s, -verträge гандлёвая дамóва

**káufweise** *adv* праз пакýпку [кýплю]
**Káufwünsche** *pl* запатрабавáнні пакупнікóў
**Káufzettel** *m* -s, - 1) чэк (*у магазіне*) 2) аб'яўа аб прóдажы [кýплі]
**Káugummi** *m* -s, -s 1) (жавáльная) гýмка 2) *перан. іран.* жвáчка
**Káulbarsch** *m* -(e)s, -e *i* -bärsche ёрш
**Káulquappe** *f* -, -n *заал.* апалóнік
**kaum** *adv* ледзь, лéдзьве; чуць; ***es ist ~ zu gláuben*** цяжка павéрыць [даць вéры]
**káupeln, käupeln** *vi дыял.* гандлявáць патаéмна [з-пад прылáўка]
**kausál** *a* прычы́нны
**Kausálsatz** *m* -es, -sätze *грам.* дадáны сказ прычы́ны
**kausatív** *a грам.* каўзаты́ўны; ***~es Verb*** каўзаты́ўны [пабуджáльны] дзеяслóў
**Káutabak** *m* -s, -e жавáльны тытýнь
**Kautión** *f* -, -en *юрыд.* залóг, зарýка; ***gégen ~*** пад парýчэ́нне; пад залóг
**Káutschuk** *m*, *n* -s, -e 1) каўчýк 2) рызíна, гýма
**Kauz** *m* -es, Käuze 1) савá, сыч 2) *разм.* дзівáк; ***ein sónderbarer ~*** дзíўны суб'éкт; ***ein lústiger ~*** весялýн
**Káuzahn** *m* -(e)s, -zähne карэ́нны зуб
**Kavalíer** [-va-] *m* -s, -e кавалéр
**Kavalleríe** [-va-] *f* -, -rí¦en кавалéрыя, кóнніца
**Káviar** [-viar] *m* -s, -e ікрá; ***körniger ~*** зярнíстая ікрá; ***gepréßter ~*** пáюсная ікрá
**keck** *a* смéлы, дзёрзкі; ***ein ~es Hütchen*** какéтлівы капялю́шык
**Kéckheit** *f* - смéласць, дзёрзкасць, хвáцкасць
**Keepsmiling** ['ki:psmaıliŋ] *n* - паказны́ аптымíзм
**Kégel** *m* -s, - 1) кéгля; ~ ***schíeben**** гуляць у кéглі 2) кóнус ◊ ***mit Kind und ~*** з усёй сям'ёю, з дзéцьмі і жóнкай
**kégel|artig**, **~förmig** *a* конусападóбны
**Kégelbahn** *f* -, -en кéгельбан, пляцóўка [памяшкáнне] для гульні ў кéглі
**kégeln** *vi* гуляць у кéглі
**Kégelschnitt** *m* -(e)s, -e канíчнае сячэ́нне
**Kégelstumpf** *m* -(e)s, -stümpfe *матэм.* усéчаны кóнус
**Kéhle** *f* -, -n гóрла, гартáнь, глóтка; ***aus vóller ~*** на ўсё гóрла, гýчна, мóцна; ***sich die ~ áusschreien**** ахры́пнуць ад кры́ку; ***etw. in die únrechte ~ bekómmen**** папярхнýцца чым-н.; ***mir ist die ~ wie zúgeschnürt*** у мянé перахапíла дух; ***j-m das Mésser an die ~ sétzen*** брáць кагó-н. за гóрла
**Kéhlkopf** *m* -(e)s, -köpfe гартáнь
**Kéhlkopfentzündung** *f* -, -en *мед.* ларынгíт, запалéнне гартáні
**Kéhllaut** *m* -(e)s, -e гартáнны гук
**Kéhraus**: ***den ~ máchen (mit D)*** 1) пакóнчыць (*з чым-н.*) 2) вы́гнаць (*каго-н.*)
**Kéhrbesen** *m* -s, - мятлá
**Kéhre** *f* -, -n звíліна, вірáж, (круты́) паварóт
**kéhren 1.** *vt*, *vi* (s) 1) паварóчваць; ***álles zum Bésten ~*** павярнýць усё да лéпшага; ***kehrt!*** кругóм! (*каманда*)***;*** ***in sich (A) gekéhrt*** задумéнны, задýмлівы, паглы́блены ў свае́ дýмкі 2) мéсці, падмятáць **2. ~, sich** 1) паварóчвацца 2) (*an A*) лічы́цца (*з кім-н., з чым-н.*), звяртáць увáгу (*на каго-н., на што-н.*)
**Kéhricht** *n*, *m* -s смéцце; *перан.* дрэнь
**Kéhrreim** *m* -(e)s, -e прыпéў, рэфрэ́н
**Kéhrseite** *f* -, -n адварóтны бок, вы́варат; ***die ~ der Medáille*** [-'daljə] адварóтны бок медаля́
**kéhrtmachen** *аддз. vi* 1) *вайск.* паварóчвацца кругóм 2) пайсці́ назáд; павярнýць
**Kéhrtwendung** *f* -, -en *вайск., спарт.* паварóт (*кругом*); *ав.* разварóт
**kéifen** *vi* свары́цца, лáяцца, крычáць
**Keiferéi** *f* - свáрка, лáянка
**Keil** *m* -(e)s, -e клін; ***éinen ~ in (A) (éin)tréiben**** заклíньваць, забівáць клін (*у што-н.*); ***éinen ~ in die gégnerischen Réihen tréiben**** раскóлваць шэ́рагі працíўніка ◊ ***ein ~ treibt den ánderen*** ≅ клін клíнам выбівáюць
**kéilen 1.** *vt* 1) заганяць клін; расшчапляць; *разм.* (ад)лупцавáць 2) (*für A*) *разм.* вербавáць (*куды-н.*) **2. ~, sich** 1) (*durch A*) прабівáцца, працíскáцца

**kránkheitshalber** *adv* па хваро́бе, з прычы́ны хваро́бы

**Kránkheitsverhütung** *f* -, -en папярэ́джанне хваро́бы, прафіла́ктыка

**kränklich** *a* хвараві́ты, кво́лы

**kránkmachen** *аддз. vi разм.* быць на бюлетэ́ні

**Kränkung** *f* -, -en абра́за, знява́га, крыўда; ***éine ~ zúfügen*** нане́сці знява́гу [абра́зу, крыўду]; ***éine ~ verschmérzen*** сцярпе́ць крыўду [абра́зу]

**Kranz** *m* -es, Kränze 1) вяно́к; ***éinen ~ erríngen* [gewínnen*, davóntragen*]*** здабы́ць вяно́к перамо́жцы; ***éinen ~ aufs Grab [am Grábe] níederlegen*** ускла́сці вяно́к на магі́лу 2) ко́ла, гурт (*людзей*) 3) *тэх.* фла́нец; во́бад, вяне́ц (*кола*)

**Kränzchen** *n* -s, - 1) вяно́чак 2) гурто́к

**kränzen** *vt* уве́нчваць

**Kránzniederlegung** *f* -, -en усклада́нне вянко́ў

**Kräpfel** *m* -s, - *дыял.*, **Krápfen** *m* -s, - ала́дка, бу́лачка

**krass** *a* выра́зны, яскра́вы; рэ́зкі, гру́бы, крыклі́вы; ***ein krásses Béispiel*** яскра́вы пры́клад; ***eine krásse Lüge*** наха́бная хлусня́; ***ein ~er Gégensatz*** по́ўная процілёгласць

**Kráter** *m* -s, - кра́тэр

**krátzbürstig** *a* сварлі́вы

**Krätze** *f* - *мед.* каро́ста

**Krátzeisen** *n* -s, - скрабо́к, скраба́лка

**krátzen** *vt* **1.** дра́паць, чу́хаць, скрэ́бці; ***den Hals ~*** дра́паць [раздражня́ць] у го́рле (*пра дым і г.д.*); ***er fühlt sich gekrätzt*** *разм.* ён адчува́е сябе́ уце́шаным [задаво́леным] **2.** *vi разм.* дра́паць, пі́саць кара́кулямі [крамзо́лямі]; ***auf der Géige ~*** пілі́каць на скры́пцы **3. ~, sich** чу́хацца, скрэ́бціся; ***sich hínter dem Ohr ~*** пачу́хаць [паскрэ́бці] сябе́ за ву́хам

**Krátzer** *m* -s, - 1) дра́піна 2) *тэх.* скрабо́к

**Krátzfuß** *m*: ***éinen ~ máchen*** расша́ркваццa

**krátzig** *a* буркли́вы, зану́длівы, сварлі́вы

**Krátzwunde** *f* -, -n дра́піна

**kráuchen** *vi дыял.* по́ўзаць

**kráulen I** *vt* пачэ́сваць, ці́хенька казыта́ць, гла́дзіць, ла́шчыць

**kráulen II** *vi* плыць кро́лем [сты́лем «кроль»]

**kraus** *a* кучара́вы; ***éine ~e Stirn*** намо́ршчаны лоб

**Kráuse** *f* -, -n 1) брыжы́, жабо́ 2) заві́ўка (*валасоў*)

**kräuseln 1.** *vt* 1) заві́ваць 2) падыма́ць зыб (*на вадзе*), рабаці́ць (*ваду*) **2. ~, sich** ві́цца, заві́вацца

**Kráushaar** *n* -(e)s, -e кучара́выя валасы́

**kráushaarig** *a* кучара́вы

**kráusköpfig** *a* кучара́вы, з кучара́вай гало́вой

**Kraut** *n* -(e)s, Kräuter 1) трава́; зеляні́на, зяле́ніва; зе́лле, пустазе́лле; бацві́нне; ***ins ~ schíeßen**** ісці́ ў бацві́нне; *перан.* разраста́цца ◊ ***wie ~ und Rüben*** як папа́ла; ***ein bítteres ~ sein*** быць ця́жкай спра́вай; ***das macht das ~ nicht fett*** гэ́та бядзе́ не дапамо́жа; ***dagégen ist kein ~ gewáchsen*** тут нічы́м не дапамо́жаш; ад гэ́тага няма́ нія́кіх сро́дкаў 2) капу́ста

**kráutig** *a* травяні́сты, заро́слы зе́ллем [бацві́ннем]

**Kráutkopf** *n* -(e)s, -köpfe кача́н капу́сты

**Krawáll** *m* -s, -e шум, мітусня́, сумятня́

**Krawátte** *f* -, -n га́льштук; ***die ~ úmlegen*** павяза́ць га́льштук

**kráxeln** *vi* (*h, s*) кара́скацца, ла́зіць

**Kreatión** *f* -, -en 1) ствар э́нне 2) твор мо́ды, мадэ́ль

**kreatív** *a* ствара́льны, тво́рчы

**Kreatúr** *f* -, -en стварэ́нне; *пагардл.* пачва́ра

**Krebs** *m* -es, -e *заал.* рак; -es *мед.* рак

**krébsen** *vi* 1) лаві́ць ра́каў 2) *разм.* адступа́ць наза́д; паўзці́, кара́скацца 3) намага́цца (*зрабіць што-н.*)

**krébserregend** *a мед.* канцэраге́нны

**Krébsgang:** ***den ~ géhen**** падава́цца наза́д [за́дам], адступа́ць; *перан.* дэградзі́раваць

**Krébsgeschwulst** *f* -, -schwülste *мед.* ра́кавая пухлі́на

**krébsrot** *a* чырво́ны, як рак

**Krébsschere** *f* -, -n клю́шня (*рака*)
**kredénzen** *vt высок.* падава́ць (*віно*), частава́ць
**Kredít** *m* -(e)s, -e 1) крэды́т 2) даве́р; ***auf ~*** у крэды́т; ***~ gewähren*** крэдытава́ць, дава́ць крэды́т; ***j-m ~ gében**** дава́ць крэды́т каму́-н.; ве́рыць каму́-н.; ***j-n um séinen [állen] ~ bríngen**** дыскрэдытава́ць каго́-н.; ***den ~ kündigen*** закры́ць крэды́т
**Krédit** *n* -s, -s *бухг.* крэ́дыт; ***gestúndeter ~*** адтэрмінава́ны крэды́т
**Kredítbank** *f* -, -en камерцы́йны банк
**Kredítbrief** *m* -(e)s, -e *фін.* акрэдыты́ў
**Kredítgewährung** *f* -, -en выдзяле́нне крэды́ту, крэдытава́нне
**Kreditív** *n* -s, -e вяры́цельная гра́мата (*пасла*)
**Kréditor** *m* -s, -tóren крэдыто́р, пазыкада́ўльнік
**Krédo** *n* -s, -s сі́мвал ве́ры, крэ́да
**Kréide** *f* -, -n мел, крэ́йда ◊ ***bei j-m in der ~ stéhen* [stécken]*** завінава́ціцца [залажы́цца] каму́-н.; ***mit dóppelter ~ (án)schréiben**** аблі́чваць, склада́ць рабаўні́цкі раху́нак; ве́сці двайну́ю бухгалтэ́рыю
**kréidebleich** *a* спалатне́лы
**Kréidepapier** *n* -(e)s, -e мелава́я папе́ра
**kréideweiß** *a* бе́лы, як мел
**Kreis** *m* -es, -e 1) круг, акру́жнасць, ко́ла; ***~e zíehen**** кругі́цца, кружы́ць; *перан.* распаўсю́джвацца (*пра чуткі і г.д.*); ***im ~ herúm*** наво́кал; ***éinen ~ um etw. (A) schlíeßen**** акружы́ць што-н. 2) раён (*адміністр. адзінка*) 3) *эл.* ланцу́г 4) ко́ла, кампа́нія, гурто́к; ***im häuslichen ~*** у сяме́йным асяро́ддзі 5) сфе́ра дзе́йнасці ◊ ***féhlerhafter ~*** зага́нны круг
**Kréisabschnitt** *m* -(e)s, -e *матэм.* сегме́нт
**Kréisausschnitt** *m* -(e)s, -e *матэм.* се́ктар
**Kréisbahn** *f* -, -en арбі́та
**Kréisbewegung** *f* -, -en кругавы́ [вярча́льны] рух
**Kréisbogen** *m* -s, - *і* -bögen *матэм.* дуга́
**kréischen** *vi* вішча́ць, праніі́зліва [прарэ́зліва] крыча́ць
**kréischend** *a* праніі́злівы, прарэ́злівы, віскліі́вы
**Kréisel** *m* -s, - 1) ваўчо́к (*цацка*); ***sich wie ein ~ dréhen*** круці́цца, як ваўчо́к 2) *фіз.* жыраско́п, гіраско́п
**kréiseln** **1.** *vi* 1) круці́цца, кружы́цца 2) гуля́ць з ваўчко́м **2. ~, sich** круці́цца, кружы́цца
**Kréiselpumpe** *f* -, -n цэнтрабе́жная по́мпа
**Kréiselwind** *m* -(e)s, -e віхо́р, ві́хар
**kréisen** **1.** *vi* круці́цца, кружы́цца, вярце́цца; цыркуля́ваць, абарача́цца (*пра кроў*) **2.** *vt* круці́ць, вярце́ць
**Kréisfläche** *f* -, -n *матэм.* пло́шча кру́га
**kréisförmig** *a* кругападо́бны, кру́глы
**Kréislauf** *m* -(e)s цыкл, кругаваро́т; ***~ des Blútes*** кровазваро́т
**Kréisleitung** *f* -, -en *гіст.* раённы камітэ́т
**Kréisrat** *m* -(e)s, -räte *гіст.* крайсра́т, саве́т раёна (*выканаўчы орган крайстага*)
**Kréissäge** *f* -, -n ды́скавая [цыркуля́рная] піла́
**Kréisschreiben** *n* -s, - *дыял.* цыркуля́р
**Kréißende** *sub f* -n, -n парадзі́ха
**Kréisstadt** *f* -, -städte раённы цэнтр
**Kréistag** *m* -(e)s, -e *гіст.* крайста́г, раённы сход дэпута́таў
**Kréisumfang** *m* -(e)s, -umfänge *матэм.* акру́жнасць
**Krem** *f* -, -s *і разм. m* -s, -e крэм
**Krematión** *f* -, -en крэма́цыя
**Krematórium** *n* -s, -ri¦en крэмато́рый
**krémfarben** *a* крэ́мавага ко́леру, крэ́мавы
**Krémpe** *f* -, -n палі́ (*капелюша*)
**Krémpel** *m* -s хлам'ё, старызна́
**krémpeln** *vt* зака́сваць (рукавы́)
**krémpen** *vt* закаса́ць, адгіна́ць (*палі капелюша*)
**Krémser** *m* -s, - бры́чка, экіпа́ж (*з верхам*)
**krepíeren** *vi* (s) 1) *груб.* здыха́ць, загіна́цца 2) *вайск.* разрыва́цца, узрыва́цца
**Krepp** *m* -s, -s *і* -e крэп (*тканіна*)
**Kretin** [-ˈtɛ̃:] *m* -s, -s, **Kretíne** *f* -, -n крэці́н, прыду́рак, ідыёт
**Kreuz** *n* -es, -e 1) крыж; ***das Róte ~*** чыр-

вóны крыж; ***etw. übers ~ légen*** паклáсці што-н. крыж-нáкрыж; ***ein ~ schlágen*, das Zéichen des ~es máchen*** перажагнáцца; ***ans ~ schlágen* [nágeln]*** раскрыжавáць, укрыжавáць 2) *анат.* паясніца 3) *карт.* жóлудзі, крэ́сці 4) крыж, ця́жар, мýка, пакýта; ***sich in sein ~ schícken*** пакóрліва нéсці свой крыж, прымíрыцца з сваíм лёсам 5) *муз.* дыéз ◊ ***ein ~ über etw. (A) máchen*** пастáвіць крыж на чым-н.; махнýць рукóю на што-н.

**kreuz**: ~ ***und quér*** уздóўж і ўпóперак

**Kréuzband** *n* -(e)s, -bänder бандэрóль

**Kréuzblütler** *pl бат.* крыжаквéтныя

**kréuzen I 1.** *vt* 1) скрыжóўваць, перакрыжóўваць 2) перасякáць ◊ ***j-s Pläne*** ~ разлáдзіць чыé-н. плáны 3) *біял.* скрыжóўваць **2. ~, sich** перасякáцца, скрыжóўвацца; размінýцца (*пра лісты, навіны*)

**kréuzen II** *vi марск.* крэйсíраваць

**Kréuzer** *m* -s, - *марск.* крэ́йсер

**Kréuzfahrer** *m* -s, - *гіст.* крыжáк

**Kréuzfahrt** *f* -, -en 1) круíз 2) *гл.* Kréuzzug

**Kréuzfeuer** *n* -s *вайск.* перакрыжавáны агóнь; ***j-n ins ~ néhmen**** *вайск.* узя́ць кагó-н. пад перакрыжавáны агóнь; ***im ~*** (***der Kritík*** *і да т.п.*) ***stéhen**** быць пад агнём (кры́тыкі *і т.п.*)

**Kréuzgang** *m* -(e)s, -gänge 1) накры́тая галерэ́я 2) *царк.* хрэ́сны ход

**kréuzigen** *vt* распя́ць, раскрыжавáць, укрыжавáць; ***sein Fleisch ~*** *царк.* утаймóўваць сваю́ плоць

**Kréuzigung** *f* -, -en распя́цце, раскрыжавáнне, укрыжавáнне

**kréuzlahm** *a* разбíтая на зáднія нóгі (*пра жывёлу*)

**Kréuzotter** *f* -, -en *заал.* гадзю́ка

**Kréuzpunkt** *m* -(e)s, -e *матэм.* пункт перасячэ́ння

**Kréuzritter** *m* -s, - *гл.* Kréuzfahrer

**Kréuzspinne** *f* -, -n *заал.* павýк-крыжавíк

**Kréuzstich** *m* -(e)s, -e шво кры́жыкам; перакрыжавáны шывóк

**Kréuzung** *f* -, -en скрыжавáнне, перакрыжавáнне

**Kréuzverhör** *n* -(e)s, -e перакрыжавáны дóпыт

**Kréuzweg** *m* -(e)s, - раздарóжжа, скрыжавáнне, рóстань

**kréuzweise** *adv* крыж-нáкрыж

**Kréuzworträtsel** *n* -s, - красвóрд, крыжавáнка

**Kréuzzug** *m* -(e)s, -züge *гіст.* крыжóвы пахóд

**kríbb(e)lig** *a разм.* нервóвы, неспакóйны

**kríbbeln** *vimp* 1) кішэ́ць; ***es kríbbelt und krábbelt*** аж кішы́ць, кішмя́ кішы́ць 2) свярбéць; ***es kríbbelt mir in den Fíngern*** у мянé рýкі свярбя́ць (*тс. перан.*)

**Kríckelkrakel** *n* -s, - *разм.* карáкулі, неразбóрлівая пісанíна

**Krícket** *n* -s *спарт.* крыкéт

**kríechen*** *vi* (*h, s*) 1) пóўзаць; ***aus dem Ei*** ~ вылýпвацца з я́йка; ***auf állen víeren*** ~ паўзцí на карáчках; ***ins Bett*** ~ забрáцца ў пасцéль 2) падлíзвацца, падлабýньвацца; ***im Stáube*** ~ быць прынíжаным; ***j-m auf den Leim*** ~ папáсціся камý-н. на вýду [кручóк]

**kríechend** *a* рабалéпны

**Kríecher** *m* -s, - ліслíвец, падлíзнік, падхалíм

**Kriecheréi** *f* -, -en падлíзванне, падлабýньванне, нізкапаклóнства, лакéйства, лёкайства

**Kríechspur** *f* -, -n паласá рýху ця́жкіх машы́н (*на аўтамагістралі*)

**Kríechtier** *n* -(e)s, -e *заал.* паўзýн, рэпты́лія

**Krieg** *m* -(e)s, -e вайнá; ***éinen ~ áuslösen*** распалíць вайнý; ***éinen ~ erklären*** аб’явíць вайнý; ***in den ~ zíehen**** ісцí на вайнý; ~ ***bis aufs Mésser*** вайнá не на жыццё, а на смерць; ***den ~ entfésseln*** развязáць вайнý; ***den ~ führen*** вéсці вайнý; ***zum ~(e) rüsten*** узбрóйвацца, рыхтавáцца да вайны́; ***zum ~ tréiben**** уця́гваць у вайнý

**kríegen I** *vt разм.* атры́мліваць, здабывáць; ***Húnger*** ~ вы́галададцца; ***éinen***

***Mann*** ~ вы́йсці зáмуж; ***er ist nicht tot zu*** ~ ≅ ён жыву́чы як змяя́
**kríegen II** *vi уст.* ваявáць, вéсці вайну́
**Kríeger** *m* -s, - вóін, ваяр, салдáт
**Kríegerdenkmal** *n* -s, -mäler пóмнік палéглым вóінам
**kríegerisch** *a* ваяўнíчы, баявы́
**Krieg führend** *a* ваю́ючы
**Kríegsausbruch** *m* -(e)s, -ausbrüche пачáтак вайны́
**Kríegsbereitschaft** *f* - гатóўнасць да вайны́, баявáя гатóўнасць
**Kríegsbericht** *m* -(e)s, -e аператы́ўная звóдка
**Kríegsberichterstatter** *m* -s, - ваéнны карэспандэ́нт [аглядáльнік]
**Kríegsbeschädigte** *sub m* -n, -n інвалíд вайны́
**Kríegsbrandstifter** *m* -s, - *гл.* Kríegshetzer
**Kríegsdienst** *m* -(e)s, -e вайскóвая слу́жба
**kríegsdienstfähig** *гл.* kríegsverwendungsfähig
**Kríegsdienstverweigerung** *f* -, -en адмóва ад вайскóвай слу́жбы
**Kríegsehren** *pl* баявы́я ўшанавáнні
**Kríegseinwirkung** *f* -, -en уплы́ў вайны́; ***durch ~ zerstört sein*** быць разбу́раным у вы́ніку вайны́
**Kríegsentschädigung** *f* -, -en пакрыццё ваéнных выдáткаў; *pl* рэпарáцыі
**Kríegserklärung** *f* -, -en аб’яўлéнне вайны́
**Kríegsfall**: ***im*** ~ у вы́падку вайны́; ***für den*** ~ на вы́падак вайны́
**Kríegsfuß**: ***mit j-m auf dem ~ stéhen**** ваявáць з кім-н.; быць не ў ладáх з кім-н.
**Kríegsgefährte** *m* -n, -n баявы́ тавáрыш, паплéчнік, тавáрыш па збрóі
**Kríegsgefangene** *sub m* -n, -n ваеннапалóнны
**Kríegsgefangenschaft** *f* - палóн
**Kríegsgericht** *n* -(e)s, -e вайскóвы суд, вайскóвы трыбунáл
**Kríegsgeschehen** *n* -s вайнá, ваéнныя дзéянні
**Kríegshandlungen** *pl* ваéнныя дзéянні
**Kríegsherd** *m* -(e)s, -e ачáг вайны́
**Kríegshetzer** *m* -s, - падпáльшчык вайны́
**Kríegshysterie** *f* -, -ri¦en ваéнная істэры́я
**Kríegsindustrie** *f* -, - stri¦en абарóнная [ваéнная] прамыслóвасць
**Kríegslehre** *f* -, -n 1) вучэ́нне аб вайнé, ваéнная дактры́на 2) *pl* урóкі вайны́
**Kríegsmarine** *f* - ваéнна-марскí флот, ваéнна-марскíя сíлы
**Kríegsmaterial** *n* -s, -i¦en баявáя тэ́хніка
**kríegspflichtig** *a* ваеннаабавя́заны
**Kríegsrecht** *n* -(e)s вайскóвыя закóны, вайскóвае прáва
**Kríegsrüstung** *f* -, -en узбраéнне, падрыхтóўка да вайны́
**Kríegsschauplatz** *m* -es, -plätze тэáтр ваéнных дзéянняў
**Kríegsstärke** *f* -, -n *вайск.* штáтная кóлькасць на ваéнны час
**Kríegstreiber** *m* -s, - *гл.* Kríegshetzer
**Kríegsverbrecher** *m* -s, - ваéнны злачы́нец
**Kríegsverhältnisse** *pl* умóвы ваéннага чáсу
**kríegsversehrt** *a* пацярпéлы ад вайны́
**Kríegsversehrte** *sub m* -n, -n *гл.* Kríegsbeschädigte
**kríegsverwendungsfähig** *a* прыдáтны да страявóй слу́жбы
**Kríegswesen** *n* -s вайскóвая спрáва
**Kríegszeiten** *pl* ваéнны час; ***in*** ~ у час вайны́
**Kríegszustand** *m* -(e)s, -zustände ваéннае станóвішча; стан вайны́; ***den ~ verhängen [erklären] (über A)*** увéсці [аб’явíць] (*дзе-н.*) ваéннае станóвішча
**Krími** *m* -s, -s *разм.* крымінáльны [дэтэкты́ўны] рамáн, фільм-дэтэкты́ў
**kriminál** *a юрыд.* крымінáльны
**Kriminál|abteilung** *f* -, -en, **~amt** *n* -(e)s, -ämter), **~dienst** *m* -(e)s крымінáльны вы́шук
**Kriminálfall** *m* -(e)s, -fälle крымінáльная спрáва, крымінáльны вы́падак
**Kriminalístik** *f* - *юрыд.* крыміналíстыка
**Kriminál|reißer** *m* -s, -, **~roman** *m* -(e)s, -e дэтэкты́ўны [крымінáльны] рамáн
**Kriminálpolizei** *f* - палíцыя крымінáльнага вы́шуку
**kriminalístisch** *a* крыміналíсцкі
**kriminéll** *a* крымінáльны

**Kriminélle** *sub m* -n, -n крымінáльны злачы́нец
**Krímmer** *m* -s, - карáкуль (*футра ці яго імітацыя*)
**Krímskrams** *m* -(es) *разм.* 1) забаўля́нкі, цáцкі, зáбаўкі 2) хлóмазд
**Kríngel** *m* -s, - крэ́ндзель, бýблік
**kríngeln** *vi i* **~, sich** скрýчвацца ў кóльца, віцца
**Krípo** *f разм. скар. гл.* Kriminálpolizei
**Kríppe** *f* -, -n 1) я́слі (*у розн. знач.*) 2) запрýда, дáмба (*папярэчная*)
**Kríse** *f* -, -n кры́зіс; ***die ~ überwínden**** пераадóлець кры́зіс; ***von éiner ~ befállen sein*** паражывáць кры́зіс
**kríseln** *vimp*: ***es kríselt*** набліжáецца кры́зіс
**krísenhaft** *a* кры́зісны
**krísenlos** *a* бяскры́зісны
**Kristáll I** *m* -s, -e *горн.* крыштáль
**Kristáll II** *n* -s крыштáль (*шкло*)
**kristállen** *a* крыштáльны (*у розн. знач.*); чы́сты [празры́сты] як крыштáль
**kristallín, kristallínisch** *a* крышталíчны, якí складáецца з дрóбных крыштáляў
**kristallisíeren 1.** *vt тэх.* крышталізавáць **2.** *vi i* **~, sich** крышталізавáцца
**Kritérium** *n* -s, -ri¦en крытэ́рый
**Kritík** *f* -, -en 1) кры́тыка; ***in Áuswertung der ~*** улíчваючы [прымáючы пад увáгу] кры́тыку; ***der ~ unterzíehen**** крытыкавáць; ***únter áller ~*** ніжэ́й за ўся́кую кры́тыку 2) рэцэ́нзія, крыты́чны арты́кул
**Kritikáster** *m* -s, - крытыкáн
**Krítiker** *m* -s, - кры́тык
**krítisch I** *a* крыты́чны; ***~e Bemérkungen*** крыты́чныя заўвáгі
**krítisch II** *a* крыты́чны, кры́зісны; ***~es Álter*** крыты́чны ўзрóст
**kritisíeren** *vt* крытыкавáць (*каго-н., што-н.*), крыты́чна стáвіцца (*да каго-н., чаго-н.*)
**Kritteléi** *f* -, -en крытыкáнства
**krítteln** *vi* прыдзíрліва крытыкавáць; чапля́цца, прыдзірáцца
**Kritzeléi** *f* -, -en *разм.* крымзóлі, карáкулі
**krítzeln** *vt*, *vi разм.* пісáць неразбóрліва [дрэ́нным пóчыркам], крамзóліць
**Kroáte** *m* -n, -n харвáт
**kroátisch** *a* харвáцкі
**kroch** *impf ад* kríechen*
**Krockét** [Krócket] *n* -s *спарт.* кракéт
**Krokánt** *m* -s зацукравáныя арэ́хі, кракáнт
**Krokodíl** *n* -s, -e кракадзíл
**Krokodílstränen** *pl* кракадзíлавы слёзы; ***~ wéinen [vergíeßen*]*** ліць кракадзíлавы слёзы
**Krókus** *m* -, - *i* -se *бат.* шафрáн
**Króne** *f* -, -n 1) карóна, вянéц 2) карóнка (*зуба*); ***sich (D) éine ~ áufsetzen lássen**** пастáвіць (сабé) карóнку 3) крóна (*манета*) 4) вяршáліна, верхавíна (*дрэва*) 5) лю́стра, жырандóль ◊ ***das setzt állem die ~ auf!*** гэ́та ўжó верх усягó!; гэ́та ўжó занáдта!; ***wie die Pérle in der ~ sein*** вызначáцца (*у грамадстве і г.д.*); ***was ist ihm in die ~ gefáhren?*** што ямý прыйшлó ў галавý?
**krönen** *vt* 1) (*zu D, als A*) каранавáць (*каго-н. на…*); ***sich ~ lássen**** каранавáцца 2) (*mit, von D*) увéнчваць (*чым-н.*); ***von Erfólg gekrönt sein*** увянчáцца пóспехам
**Krónleuchter** *m* -s, - лю́стра, кандэля́бр, жырандóль
**Krönung** *f* -, -en 1) каранáцыя, каранавáнне 2) *перан.* завяршэ́нне, увянчáнне; ***séine ~ in etw. (D) fínden**** увянчáцца, завяршы́цца чым-н.
**Krónzeuge** *m* -n, -n *юрыд.* галóўны свéдка
**Kropf** *m* -(e)s, Kröpfe валлё, валля́к; ***éinen ~ háben*** хварэ́ць на базéдаву хварóбу
**kröpfen** *vi* дзяўбцí, éсці (*пра драпежных птушак*)
**Króppzeug** *n* -(e)s *разм.* дзятвá, малышня́
**Krösus** *m* -, -se багацéй, багаты́р, крэз
**Kröte** *f* -, -n *заал.* рапýха, жáба
**Krücke** *f* -, -n мы́ліца, кýльба; ***an [auf] ~n géhen**** хадзíць на мы́ліцах ◊ ***auf frémden ~n géhen**** не ўмéць абыхóдзіцца без чужóй дапамóгі, жыць чужы́м рóзумам
**Krug** *m* -(e)s, Krüge 1) збан, кýбак, карэ́ц, кýфаль 2) *дыял.* карчмá, шынóк
**Krügel** *n* -s, - кýбачак
**Krümchen** *n* -s, - крóшка (*хлеба*); ***ein ~***

кры́ху, тро́хі
**Krúme** *f* -, -n 1) мя́кіш (*хлеба*) 2) *pl* кро́шкі 3) ры́хлая во́рная зямля́
**krümelig** *a* ры́хлы, рассы́пісты
**krümeln 1.** *vt* крышы́ць **2.** *vi* крышы́цца
**krumm 1.** *a* 1) крывы́, скры́ўлены, сагну́ты; ~ ***wérden*** згарба́ціцца, стаць суту́лым 2) нячы́сты, несумле́нны; ***~e Sáchen máchen*** займа́цца нячы́стымі спра́вамі ◊ ***es geht mit ihm ~*** *разм.* яго́ спра́вы дрэнь **2.** *adv* кры́ва, ко́са; ***etw. ~ bíegen**** скрыўля́ць, згіна́ць што-н.; ***etw. j-m ~ néhmen**** *разм.* кры́ўдзіцца за што-н. на каго́-н.
**krúmmbeinig** *a* крывано́гі
**krümmen 1.** *vt* крыві́ць, скрыўля́ць, згіна́ць; ***kéinen Fínger (für A) ~*** па́льцам не паварушы́ць (*дзеля каго-н., чаго-н.*) (*тс. перан.*) **2. ~, sich** 1) выгіна́цца, ку́рчыцца (*ад болю*) 2) рабале́пстваваць, нізкапаклóннічаць
**Krúmmholz** *n* -es, -hölzer дугá (*вупражная*)
**Krümmung** *f* -, -en вы́гін, заві́ліна; крывізна́
**krúmpf¦echt** *a* які́ не садзі́цца, безуса́дкавы (*пра тканіну*)
**Krupp** *m* -s *мед.* круп
**Krúppe** *f* -, -n крыж (*каня*)
**Krüppel** *m* -s, - кале́ка, інвалі́д; ***j-n zum ~ schlágen* [máchen]*** скале́чыць каго́-н.
**krüppelhaft** *a* пакале́чаны, скале́чаны
**krüppelig** *гл.* krüppelhaft
**Krúste** *f* -, -n 1) скары́нка, ко́рка 2) *тэх.* ко́рка 3) *геал.* (зямна́я) кара́
**Kruzifíx** *n* -es, -e распя́цце (*выява*)
**Krýpta** *f* (-, -ten) *археал.* кры́пта
**Kubáner** *m* -s, - кубі́нец
**kubánisch** *a* кубі́нскі
**Kubatúr** *f* - 1) кубату́ра 2) *матэм.* узвядзе́нне ў куб
**Kübel** *m* -s, - 1) цэ́бар, ка́дка 2) *тэх.* коўш
**Kubíkmeter** *n*, *m* -s, - (*скар.* cbm, kbm, $m^3$) кубі́чны метр
**kúbisch** *a* які́ ма́е фо́рму ку́ба, кубі́чны
**Kübler** *m* -s, - бо́ндар
**Küche** *f* -, -n 1) ку́хня 2) стол, е́жа; ***kálte ~*** хало́дная стра́ва; ***éine gúte ~ führen*** мець до́брую ку́хню (*у рэстаране*)
**Kúchen** *m* -s, - піро́г, піро́жнае; ку́хан, торт, пе́чыва ◊ ***ja ~!*** *іран.* як бы не так!, дзе там!, але́ не то́е!; ***der ~ ist ángebrannt*** спра́ва не вы́гарала
**Küchenchef** [-ʃɛf] *m* -s, -s ста́ршы ку́хар
**küchenfertig** *a* гато́вы да кулі́нарнай апрацо́ўкі
**Küchenjunge** *m* -n, -n куха́рчык, паварчу́к
**Küchenmädchen** *n* -s, - пасу́дніца
**Küchenwaage** *f* -, -n (кухо́нны) бязме́н, ва́гі
**Küchlein** *n* -s, - кураня́
**Kü(c)ken** *n* -s, - 1) кураня́ 2) *разм.* малакасо́с; наі́ўны чалаве́к ◊ ***das ~ will klüger sein als die Hénne*** ≅ яйцо́ ку́рыцу не ву́чыць
**Kúckuck** *m* -s, -e 1) *заал.* зязю́ля; ***der ~ ruft*** зязю́ля куку́е 2) *вайск., разм.* паходная ку́хня ◊ ***(das) weiß der ~!*** чорт [лі́ха] яго́ ве́дае!; ***hol' dich der ~!*** *лаянк.* каб цябе́ тра́сца!; ***ei der ~!*** *іран.* гэ́та ж трэ́ба!, вось дык сюрпры́з!; ***da ist der ~ los!*** там чорт ве́дае што ро́біцца!, там чорт но́гі пало́міць!
**Kúckucksei** *n* -(e)s, -er я́йка зязю́лі; ***j-m ein ~ ins Nest légen*** зрабі́ць каму́-н. непрые́мнасць
**Kúddelmuddel** *m*, *n* -s *дыял., разм.* вэ́рхал, беспара́дак
**Kúfe I** *f* -, -n цэ́бар, бо́чка
**Kúfe II** *f* -, -n по́лаз (*саней*)
**Kúfengestell** *n* -(e)s, -e *ав.* лы́жнае шасі́
**Küfer** *m* -s, - *дыял.* 1) бо́ндар 2) вінаро́б; зага́дчык ві́ннага скле́па; дэгуста́тар він
**Kúgel** *f* -, -n 1) шар 2) ку́ля; ядро́ ***die ~ stóßen*** *спарт.* штурха́ць ядро́ ◊ ***éine gróße ~ schíeben**** *разм.* правярну́ць вялі́кую спра́ву; ***die ~ kommt ins Róllen*** рашу́чы мо́мант блі́зка; ≅ лёд крану́ўся
**Kúgelabschnitt** *m* -(e)s, -e *матэм.* шаравы́ сегме́нт
**Kúgelausschnitt** *m* -(e)s, -e *матэм.* шаравы́ се́ктар
**kúgelförmig, kúgelig** *a* шарападо́бны,

сферы́чны, кру́глы
**Kúgellager** *n* -s, - шарыкападшы́пнік
**kúgeln 1.** *vt* кача́ць; надава́ць фо́рму ша́ра, каці́ць **2.** *vi* 1) (s) кача́цца, каці́цца 2) (*h*) (*über A*) балаці́раваць (*шарамі чыю-н. кандыдатуру*) **3. ~, sich** кача́цца, каці́цца; ***sich vor Láchen*** **~** кача́цца [захо́дзіцца] ад [са] сме́ху
**Kúgelregen** *m* -s, - град куль
**kúgelrund** *a* кру́глы як шар
**Kúgelschreiber** *m* -s, - ша́рыкавая ру́чка, самапі́ска
**kúgelsicher** *a* які́ не прабіва́ецца ку́лямі, куленепрабіва́льны
**Kúgelstoßen** *n* -s *спарт.* штурха́нне ядра́
**Kuh** *f* -, Kühe каро́ва; ***éine mílchende [mélkende]*** **~** до́йная каро́ва; ***éine trágende*** **~** це́льная каро́ва ◊ ***der ~ das Kalb ábfragen*** заму́чыць каго́-н. пыта́ннямі [ро́спытам]; ***da müsste ja die ~ láchen*** ≅ кура́м на смех
**Kúhhandel** *m* -s закулі́сныя перагаво́ры, закулі́сны га́ндаль
**kühl** *a* 1) халаднава́ты, прахало́дны 2) стры́маны, разва́жлівы; ***ein ~er Kopf*** цвяро́зы [стры́маны] чалаве́к
**Kühlanlage** *f* -, -n халадзі́льная ўстано́ўка
**Kúhle** *f* -, -n *разм.* я́ма, вымо́іна; *горн.* шурф
**Kühle** *f* - 1) прахало́да, халадо́к 2) стры́манасць, хало́днасць
**kühlen** *vt* ахало́джваць ◊ ***sein Mütchen an j-m, an etw. (D)*** **~** *разм.* спагна́ць сваю́ злосць [пры́красць] на кім-н., чым-н.
**kühlend** *a* прахаладжа́льны
**Kühler** *m* -s, - *тэх.* ахаладжа́льнік; халадзі́льнік, рэфрыжэра́тар; радыя́тар (*у рухавікоў*), кандэнса́тар
**Kühlhaus** *n* -es, -häuser лядо́ўня, халадзі́льнік
**Kühlschiff** *n* -(e)s, -e рэфрыжэра́тарнае су́дна
**Kühlschrank** *m* -(e)s, -schränke халадзі́льнік
**Kühlung** *f* - ахало́джванне
**Kühlwagen** *m* -s, - халадзі́льны ваго́н, ваго́н-лядо́ўня
**kühn 1.** *a* сме́лы, адва́жны **2.** *adv* сме́ла
**Kühnheit** *f* - сме́ласць, адва́га
**Kúhstall** *m* -(e)s, -ställe каро́ўнік
**kúhwarm**: ***~e Milch*** сырадо́й
**Küken** *гл.* Kücken
**kulánt** *a* 1) паслу́жлівы, ува́жлівы, даліка́тны (*звычайна ў дзелавых адносінах*) 2) схо́дны (*аб цане*)
**Kulánz** *f* - прыве́тнасць, (пры)ве́тлівасць
**Kúli** *m* -s, -s 1) *разм. гл.* Kúgelschreiber 2) ку́лі, чорнарабо́чы
**kulinárisch** *a* куліна́рны
**Kulísse** *f* -, -n кулі́са; ***hínter die ~n séhen**** загля́дваць за кулі́сы
**kúllern** *vi* (s) *разм.* куля́цца, пераку́львацца
**Kulm** *m* -(e)s, -e вяршы́ня (*гары*)
**Kulminatión** *f* -, -en 1) найвышэ́йшы пункт, вяршы́ня; 2) *астр.* кульміна́цыя
**Kulminatiónspunkt** *m* -(e)s, -e кульмінацы́йны пункт
**Kult** *m* -(e)s, -e культ; ***éinen ~ mit j-m, mit etw. (D) tréiben**** багатвары́ць, абагаўля́ць каго́-н., рабі́ць культ з каго́-н., з чаго́-н.
**kultivieren** [-ˈvi:-] *vt* культывава́ць (*тс. перан.*); разво́дзіць, выро́шчваць
**kultiviert** [-ˈvi:-] *a* 1) культывава́ны, уро́блены 2) культу́рны, адукава́ны 3) пе́шчаны, вы́танчаны
**Kultúr** *f* -, -en 1) культу́ра; ***ein Mensch mit [óhne]*** **~** (не)культу́рны чалаве́к 2) *с.-г.* культу́ра; развядзе́нне, культывава́нне; ***téchnische ~en*** тэхні́чныя культу́ры
**Kultúrarbeit** *f* - культу́рна-асве́тная рабо́та
**kulturéll** *a* культу́рны
**Kultúrerbe** *n* -s культу́рная спа́дчына
**Kultúrfilm** *m* -(e)s, -e навуко́ва-асве́тны фільм
**Kultúrgruppe** *f* -, -n гурто́к маста́цкай самадзе́йнасці
**Kultúrgut** *n* -(e)s, -güter культу́рны набы́так
**Kultúr|haus** *n* -es, -häuser, **~heim** *n* -(e)s, -e дом культу́ры

**Kultúrleiter** *m* -s, - культрабóтнік
**Kultúrpflanze** *f* -, -n культýрная расліна
**Kultúrpolitik** *f* - палíтыка ў галінé культýрнага будаўніцтва
**Kultúrraum** *m* -(e)s, -räume клýбнае памяшкáнне, пакóй адпачы́нку
**Kultúrschaffende** *sub m, f* -n, -n дзéяч [рабóтнік] культýры
**Kultúrschätze** *pl* скáрбы культýры
**Kultúrveranstaltung** *f* -, -en культýрнае мерапрыéмства
**Kultúrwerte** *pl* культýрныя каштóўнасці
**Kúltus** *m* -, -te *гл.* Kult
**Kümmel** *m* -s, - 1) *бат.* кмен 2) кмéнная гарэ́лка
**Kúmmer** *m* -s гóра, смýтак, журбá; ***aus*** ~ з гóра; ***j-m ~ beréiten [máchen, verúrsachen]*** засмучáць кагó-н.; ***das macht mir wénig*** ~ гэ́та мяне́ мáла турбýе
**kümmerlich** *a* мізэ́рны, убóгі; бéдны
**Kümmerlichkeit** *f* - мізэ́рнасць, убóства, беднóта
**Kümmerling** *m* -s, -e замóрак
**kümmern 1.** *vt* турбавáць; засмучáць; ***was kümmert mich das?*** якáя мне да гэ́тага спрáва? **2. ~, sich** (*um A*) турбавáцца, клапацíцца (*пра каго-н., пра што-н.*)
**Kümmernis** *f* -, -se гóра, турбóта, клóпат
**kúmmervoll** *a* засмýчаны, гарóтны
**Kúmmet** *n* -s, -e *гл.* Kumt
**Kumpán** *m* -s, -e *разм.* тавáрыш; сябрýк, сабутэ́льнік
**Kumpanéi** *f* -, -en *разм.* кампáнія, хéўра
**Kúmpel** *m* -s, - 1) гарня́к, шахцёр 2) *разм.* тавáрыш, сябрýк
**Kumt** *n* -(e)s, -e хамýт
**kund**: ~ ***sein*** быць вядóмым [знаёмым]
**Kúnde I** *f* -, -n вéстка; ***von etw. (D) ~ gében**** свéдчыць пра што-н.
**Kúnde II** *m* -n, -n 1) пакупнíк, кліéнт 2) *разм.* суб'éкт; ***ein geríebener [geríssener, schláuer]*** ~ хíтры спрытню́га, разбітны́ чалавéк
**künden** *vt* паведамля́ць, давóдзіць да вéдама, апавяшчáць
**Kúndendienst** *m* -(e)s абслугóўванне пакупнікóў [спажыўцóў, кліéнтаў]; ***Büro für*** ~ бюрó абслугóўвання (*у гатэлі*)
**Kúndgabe** *f* - 1) апавяшчэ́нне, аб'я́ва, абнарóдаванне 2) выяўлéнне, выкáзванне (*пачуццяў*)
**kúndgeben*** *аддз. vt* 1) паведамля́ць, абвяшчáць; ***j-m etw.*** ~ павéдаміць камý-н. пра штó-н. 2) выяўля́ць, выкáзваць (*пачуцці*)
**Kúndgebung** *f* -, -en дэманстрáцыя, маніфестáцыя, мíтынг
**kúndig** *a* (*G*) дасвéдчаны, спрактыкавáны (*у чым-н.*); ***séiner Sáche ~ sein*** вéдаць сваю́ спрáву
**kündigen 1.** *vt* адмяня́ць, касавáць (*дагавор*); ***j-m den Gehórsam*** ~ вы́йсці з-пад чыйгó-н. падпарáдкавання **2.** *vi* (*D*) 1) звальня́ць (*каго-н.*); ***éinem Fáchmann*** ~ звóльніць спецыялíста 2) падáць зая́ву на звальнéнне
**Kündigung** *f* -, -en 1) касавáнне (*дагавору*) 2) адмóва, звальнéнне
**Kündigungsfrist** *f* -, -en тэ́рмін для зая́вы пра звальнéнне з прáцы
**kúndmachen** *аддз. vt высок гл.* kúndgeben*
**Kúndschaft** *f* -, -en пакупнікí, кліентýра, закáзчыкі
**Kúndschafter** *m* -s, - развéдчык, лазýтчык
**kúndtun*** *аддз. гл.* kúndgeben*
**künftig 1.** *a* бýдучы, які́ мáе адбы́цца **2.** *adv* надалéй, у далéйшым
**Kunst** *f* -, Künste 1) мастáцтва; ***die schönen [bíldenden] Künste*** выяўлéнчае мастáцтва; ***ángewandte*** ~ прыкладнóе мастáцтва 2) умéльства, майстэ́рства; ***die héimliche*** ~ вядзьмáрства; ***es war kéine größe*** ~ гэ́та былó не вéльмі [не нáдта] ця́жка; ***was macht die ~?*** *жарт.* ну, што нóвага на рабóце?, як спрáвы?
**Kúnstart** *f* -, -en від мастáцтва
**Kúnstartikel** *pl* мастáцкія вы́рабы
**Kúnstausstellung** *f* -, -en мастáцкая вы́стаўка [выстáва]
**Kúnstdünger** *m* -s, - мінерáльнае ўгнаéнне
**Kúnsteisbahn** *f* -, -en штýчны (наліўны́) катóк, лéтні катóк

**Kúnsteislauf** *m* -(e)s фігу́рнае ката́нне на каньках́
**Künsteléi** *f* -, -en мане́рнасць, шту́чнасць, прытво́рства
**künsteln 1.** *vt* выдава́ць сябе́ (*за каго-н.*), прыкі́двацца; ***Fréude*** ~ прыкі́двацца ўзра́даваным **2.** *vi* мудрава́ць, мудрагéліць
**Kúnstensemble** [-ãsã:bl] *n* -s, -s анса́мбль маста́цкай самадзе́йнасці
**Kúnstfaser** *f* -, -n шту́чнае [шта́пельнае] валакно́
**kúnstfertig** *a* майстэ́рскі, уме́лы
**Kúnstfertigkeit** *f* - майстэ́рства, уме́льства; уме́нне, спрыт
**kúnst|gemäß, ~gerecht** *adv* па ўсі́х пра́вілах маста́цтва
**Kúnstgeschichte** *f* - гісто́рыя маста́цтва
**Kúnstgewerbe** *n* -s прыкладно́е маста́цтва, маста́цкая прамысло́васць
**Kúnstgriff** *m* -(e)s, -e 1) уме́лы прыём 2) хі́трасць, прыём
**Kúnsthändler** *m* -s, - улада́льнік магазі́на маста́цкіх вы́рабаў, антыква́р
**Kúnsthandwerk** *n* -(e)s маста́цкі про́мысел
**Kúnsthonig** *m* -s шту́чны мёд, па́така
**Kúnstläufer** *m* -s, - *спарт.* фігуры́ст
**Kúnstleder** *n* -s, - шту́чная ску́ра, імітацыя ску́ры
**Künstler** *m* -s, - 1) маста́к, дзе́яч маста́цтва; ***verdíenter*** ~ заслу́жаны дзе́яч маста́цтва 2) арты́ст
**künstlerisch** *a* маста́цкі, артысты́чны
**Künstlerwerkstatt** *f* -, -stätten атэлье́ [майстэ́рня] мастака́
**künstlich** *a* 1) шту́чны 2) ненатура́льны, сінтэты́чны
**Kúnstliebhaber** *m* -s, - 1) ама́тар маста́цтва 2) дылета́нт (*у галіне мастацтва*)
**kúnstlos** *a* натура́льны, про́сты
**Kúnstmaler** *m* -s, - жывапі́сец
**Kúnstmuse¦um** *n* -s, -se¦en музе́й выяўле́нчых маста́цтваў
**Kúnstreiter** *m* -s, - (цыркавы́) нае́знік
**Kúnstschaffende** *sub m, f* -n, -n дзе́яч маста́цтва
**Kúnstseide** *f* -, -n шту́чны шоўк
**Kúnstspringen** *n* -s *спарт.* скачкі́ ў ваду́
**Kúnststoff** *m* -(e)s, -e пласты́чная ма́са, пластма́са
**Kúnststück** *n* -(e)s, -e фо́кус
**Kúnstturnen** *n* -s *спарт.* маста́цкая гімна́стыка
**kúnstvoll** *a* уме́лы, майстэ́рскі
**Kúnstwerk** *n* -(e)s, -e) маста́цкі твор, твор маста́цтва
**kúnterbunt 1.** *a* страка́ты, бязла́дны **2.** *adv* як папа́ла
**Kúpfer** *n* -s 1) медзь 2) ме́дны по́суд 3) ме́дныя гро́шы
**Kúpferbergwerk** *n* -(e)s, -e ме́дны руднí́к
**Kúpfergrün** *n* -s *хім.* яр-мядзя́нка (*фарба*)
**Kúpferhütte** *f* -, -n меднаплаві́льны заво́д, ме́дная гу́та
**kúpferig** *a* падо́бны на медзь, ме́дзісты, ме́дны
**kúpfern** *a* ме́дны, медзяны́, мядзя́ны
**kúpferrot** *a* мядзя́нага ко́леру, ме́днаычырво́ны
**Kúpferschmied** *m* -(e)s, -e ме́днік
**Kúpferstich** *m* -(e)s, -e гравю́ра на ме́дзі, эста́мп
**Kúpfervitriol** [-vi-] *m, n* -s ме́дны купарва́с
**kupieren** *vt* 1) адраза́ць, падраза́ць, падкаро́чваць 2) кампасці́раваць, прабіва́ць (*білет*) 3) *мед.* купі́раваць, лакалізава́ць
**Kupon** [-ˈpɔ̃:] *m* -s, -s 1) купо́н, адрэ́з (*матэрыялу*) 2) купо́н (*акцыі, пазыкі*)
**Küppe** *f* -, -n 1) вяршы́ня (*гары*) 2) пле́шка (*цвіка*), галоўка (*запалкі і г.д.*)
**Küppel** *f* -, -n 1) скляпе́нне, ку́пал 2) каўпа́к (*лямпы*)
**kúppeln** *vt* 1) счэ́пліваць, злуча́ць 2) займа́цца зво́дніцтвам, сва́таць
**Kúpp(e)lung** *f* -, -en 1) *тэх.* счапле́нне 2) злучэ́нне, счэ́пліванне
**Kúppler** *m* -s, - *пагардл.* зво́днік
**Kúpplung** *f* -, -en *тэх.* счапле́нне, злучэ́нне; счапля́льная му́фта
**Kur** *f* -, -en 1) лячэ́нне, курс лячэ́ння; ***zur*** ~ ***sein*** быць на лячэ́нні; ***éine*** ~ ***erhálten**** атрыма́ць санато́рную пуцёўку; ***éine*** ~ ***máchen*** прахо́дзіць курс

лячэ́ння 2) ***j-m die ~ máchen*** заляца́цца (*да жанчыны*)

**Kür** *f* -, -en 1) вы́бар, выбра́нне 2) *спарт.* адво́льная прагра́ма

**Kúranstalt** *f* -, -en лячэ́бная ўстано́ва, санато́рый

**kuránt** *a* які́ ма́е хаджэ́нне; хо́дкі

**Kurátor** *m* -s, -tóren апяку́н, кура́тар

**Kuratórium** *n* -s, -tóri¦en апяку́нская ра́да

**Kúrbel** *f* -, -n *тэх.* ру́чка; крывашы́п

**kúrbeln** *vt* круці́ць ру́чку; ***éinen Film ~*** рабі́ць кіназды́мку

**Kúrbelstange** *f* -, -n *тэх.* шату́н

**Kúrbelwelle** *f* -, -n *тэх.* кале́нчаты вал

**Kürbis** *m* -ses, -se 1) гарбу́з 2) *разм. пагардл.* мазгаўня́, галава́

**küren** *vt высок.* выбіра́ць, абіра́ць

**Kúrfürst** *m* -en, -en *гіст.* ку́рфюрст

**Kúrgast** *m* -(e)s, -gäste куро́ртнік

**Kuríer** *m* -s, -e кур’е́р

**kuríeren** *vt* лячы́ць

**kuriós, kuriös** *a* забаўны, дзі́ўны

**Kuriosität** *f* -, -en 1) незвыча́йнасць, дзі́ўнасць 2) рэ́дкасць (*рэч*)

**Kuriósum** *n* -s, -sa 1) заба́ўны вы́падак 2) рэ́дкая рэч

**Kürlauf** *m* -(e)s, **Kürlaufen** *n* -s *спарт.* адво́льнае ката́нне

**Kúrort** *m* -(e)s, -e куро́рт

**Kúrpfuscher** *m* -s, - *пагардл.* шарлата́н, знаха́р

**Kürprogramm** *n* -s, -e *спарт.* адво́льная прагра́ма

**Kurrénde** *f* -, -n (ву́лічны) царко́ўны хор хло́пчыкаў

**Kurs** *m* -es, -e 1) *ав.* курс; ***~ auf etw. (A) néhmen*** [***hálten****] брацы [трыма́ць] курс на што-н.; ***den ~ féstlegen*** пракла́дваць курс 2) курс, накіру́нак (*палітыкі*); ***den ~ verfólgen*** ажыццяўля́ць [право́дзіць] курс 3) курс, каціро́ўка (*вартасцяў на біржы*); ***die ~e fállen**** курс а́кцый па́дае; ***áußer ~ sétzen*** зняць з абарачэ́ння; ***bei j-m hoch im ~ stéhen**** карыста́цца вялі́кай пава́гай у каго́-н. 4) курс ле́кцый

**Kúrsbuch** *n* -(e)s, -bücher даве́днік, раскла́д (*руху цягнікоў*)

**Kürschner** *m* -s, - кушне́р

**kursíeren** *vi* 1) быць у абарачэ́нні (*пра манеты, каштоўныя паперы*) 2) хадзі́ць, курсі́раваць (*пра транспарт*) 3) хадзі́ць, пашыра́цца, цыркуля́ваць (*пра чуткі*)

**kursív 1.** *a* курсі́ўны (*пра шрыфт*) **2.** *adv* курсі́вам; ***~ gedrúckt*** надрукава́на курсі́вам

**kursórisch** *a пед.* курсо́рны; ***~e Lektüre*** курсо́рнае чыта́нне

**Kúrsus** *m* -, Kúrse курс (*лекцый*); *pl* ку́рсы

**Kúrswechsel** *m* -s, - змяне́нне ку́рса (*палітыкі*)

**Kúrswert** *m* -(e)s, -e ва́ртасць па ку́рсу

**Kúrszettel** *m* -s, - біржавы́ бюлетэ́нь

**Kúrtaxe** *f* -, -n куро́ртны збор

**Kúrve** [-və] *f* -, -n 1) крыва́я (лі́нія) 2) паваро́т даро́гі, віра́ж; ***aus der ~ heráuskommen**** вы́йсці з паваро́ту; ***das Flúgzeug in die ~ légen*** уве́сці самалёт у віра́ж

**Kúrvenlineal** [-vən-] *n* -s, -e ляка́ла

**kúrven** [-v-] *vi* рабі́ць віра́ж, закругля́цца, звіва́цца (*пра дарогу*)

**kurz 1.** *a* каро́ткі; ***in ~en Wórten*** сці́сла; ***~e Schrítte*** дро́бныя кро́кі 2) каро́ткі, нядо́ўгі, кароткачасо́вы, кароткатэрмі́новы; ***in [nach] ~er Zeit*** неўзаба́ве, ху́тка ◊ ***éinen ~en Prozéss máchen*** расправі́цца, расквіта́цца **2.** *adv* ко́ратка; ***~ und bündig*** ко́ратка і я́сна; ***über ~ óder lang*** ра́на ці по́зна; ***~ nach vier Uhr*** у пача́тку пя́тай (гадзі́ны); ***er kommt mit dem Geld zu ~*** яму́ не хапа́е гро́шай; ***j-n ~ hálten**** *разм.* не дава́ць во́лі каму́-н., абмяжо́ўваць каго́-н.; ***~ tréten**** ісці́ мале́нькімі кро́камі; дзе́йнічаць асцяро́жна

**Kúrzarbeit** *f* - няпо́ўны рабо́чы дзень [ты́дзень]

**Kúrzarbeiter** *m* -s, - рабо́чы, які́ працу́е няпо́ўны рабо́чы дзень [ты́дзень]

**kúrzärm(e)lig** *a* з каро́ткімі рукава́мі

**kúrzatmig** *a* хво́ры на зады́шку, астма-

тычны

**kúrzdauernd** *a* нядоўгачасóвы, кароткатэрмінóвы, нядóўгі

**Kürze** *f* - сцíсласць, лаканíзм; ***in áller ~*** кóратка; сцíсла ◊ ***in der ~ liegt die Würze*** ≅ чым карацéй, тым лепш

**Kúrzeit** *f* -, -en лячэ́бны сезóн

**Kürzel** *n* -s, - знак скарачэ́ння (*у стэнаграфіі*)

**kürzen** *vt* укарóчваць, скарачáць, памяншáць; ***sich (D) die Zeit ~*** забаўлянца, бáвіць час

**kürzer** *comp ад* kurz

**kúrzerhand** *adv* нядóўга дýмаючы; спéхам, пóхапкам

**kürzest** *superl ад* kurz

**Kúrzfilm** *m* -(e)s, -e кароткаметрáжны фільм

**kúrzfristig 1.** *a* кароткатэрмінóвы **2.** *adv* за карóткі час

**kúrzgefasst 1.** *a* 1) сцíслы, карóткі, кóратка вы́кладзены (*напр., курс*) 2) рашýчы, спрáўны, бы́стры **2.** *adv* 1) кóратка 2) хýтка, рашýча

**kürzlich** *adv* нядáўна

**Kúrzschluss** *m* -es, -schlüsse *эл.* карóткае замыкáнне

**Kúrzschrift** *f* -, -en стэнагрáфія

**kúrzsichtig** *a* блізарýкі; недальнабáчны

**Kúrzsichtigkeit** *f* - блізарýкасць; *перан.* недальнабáчнасць

**kurzúm** *adv* адны́м слóвам; карацéй кáжучы

**Kürzung** *f* -, -en скарачэ́нне

**Kúrzwaren** *pl* галантарэ́я

**kúrzweg** *adv* прóста, без хíтрыкаў

**Kúrzweil** *f* - забáва, пацéха

**Kúrzwelle** *f* -, -n *радыё* карóткая хвáля

**Kúrzwellenempfänger** *m* -s, - караткахвáлевы прыёмнік

**Kúrzwellensender** *m* -s, - караткахвáлевы перадáтчык

**Kúrzwort** *n* -(e)s, -wörter абрэвіятýра, скарóчанае слóва

**kusch!** *int* (*да сабакі*) цыц!, ляжáць!

**kúscheln, sich** *разм.* 1) утýльна ўлéгчыся 2) (*an j-n*) прытулíцца, прыгарнýцца (*да каго-н.*)

**kúschen** *vi i* **~, sich** 1) клáсціся (*пра сабаку*) 2) *разм.* не пíкнуць, падпарáдкавацца без слоў; ***kuscht euch!*** *груб.* цыц, вы!

**Kusíne** *f* -, -n стрыéчная [дваю́радная] сястрá, кузíна

**Kuss** *m* -es, Küsse пацалýнак

**küssen** *vt* цалавáць

**Kússhand** *f* -, -hände павéтраны пацалýнак; ***éine ~ wérfen**** паслáць павéтраны пацалýнак

**Küste** *f* -, -n марскí бéраг, узбярэ́жжа

**Küstenbefestigung** *f* -, -en *вайск.* берагавóе ўмацавáнне

**Küstenfahrt** *f* -, -en *марск.* кабатáж

**Küstenland** *n* -(e)s прымóрскі край, прыбярэ́жная мясцóвасць, узбярэ́жжа

**Küstenschutz** *m* -es берагавáя ахóва [абарóна]

**Küster** *m* -s, - дзяк, дзячóк, царкóўны слýжка

**Kústos** *m* -s, -stóden захавáльнік (*бібліятэкі, музея*)

**Kútschbock** *m* -(e)s, -böcke кóзлы

**Kútsche** *f* -, -n карэ́та, павóзка, экіпáж

**Kútscher** *m* -s, - фýрман, вóзчык

**kutschíeren** *vi* 1) (*h*) кіравáць кóньмі 2) (*h, s*) éхаць у карэ́це

**Kútte** *f* -, -n рáса (*манаская*)

**Kútter** *m* -s, - кáтэр, шлю́пка

**Kuvert** [-ˈvɛ:r *i* -ˈvɛ:rt] *n* -s, -s канвéрт

**Kuvertüre** [-v-] *f* -, -n шакалáдная глазýра

**Kwass** *m* - *i* -es квас

**Kybernétik** *f* - кібернéтыка

**kyríllisch** *a* кіры́лічны (*шрыфт*)

# L

**lább(e)rig** *a* 1) кіселепадóбны 2) прэ́сны
**lábbern** *vt* 1) хлябтáць, чмя́каць 2) балбатáць, вярзці́ абы-штó
**láben 1.** *vt* падмацóўваць, давáць асалóду; асвяжáць **2.** *vi i* **~, sich** падмацóўвацца, асвяжáцца
**lábend** *a* жыватвóрны, асвяжáльны, прыéмны
**labiál** *a лінгв.* лабія́льны, губны́ (*пра гук*)
**labíl** *a* няўстóйлівы, лабі́льны
**Labilität** *f* -, -en няўстóйлівасць, лабі́льнасць
**labiodentál** *a лінгв.* лабіядэнтáльны, гýбна-зубны́ (*гук*)
**Lábkraut** *n* -(e)s *бат.* марýна, паві́ліца
**Labór** *n* -s, -s *i* -e *гл.* Laboratórium
**Laboránt** *m* -en, -en лабарáнт
**Laboratórium** *m* -s, -ri¦en лабаратóрыя
**laboríeren** *vi* (*an D*) *разм.* 1) працавáць (*над чым-н.*); ***an éinem Experimént ~*** правóдзіць [рабі́ць] дóслед [эксперымéнт] 2) пакýтаваць (*на хваробу*)
**Lábsal** *n* -(e)s, -e 1) асалóда, уцéха 2) падмацавáнне, асвяжэ́нне
**Labyrínth** *n* -(e)s, -e лабіры́нт
**Láchanfall** *m* -(e)s, -anfälle прыпáдак смéху
**Láche I** *f* -, -n смех, рóгат
**Láche II** *f* -, -n лýжына
**lächeln** *vi* усмiхáцца; ***das Glück lächelt ihm*** ямý шанцýе
**Lächeln** *n* -s усмéшка
**láchen** *vi* (*über A*) смяя́цца (*з каго-н., з чаго-н.*); рагатáць; ***aus vóllem Hálse ~*** смяя́цца на ўсё гóрла; ***über das gánze Gesícht ~*** ззяць, расплывáцца ўсмéшкай; ***Tränen ~*** смяя́цца да слёз; ***sich krank [krumm, schief] ~*** памірáць са смéху, смяя́цца да ўпáду; ***sich (D) ins Fäustchen ~*** смяя́цца ў кулáк; ***der hat nicht zu ~*** ямý не да смéху; ***du hast gut ~*** табé дóбра смяя́цца; ***sich (D) ein Loch in den Bauch ~*** *разм.* парвáць жывóт ад смéху ◊ ***wer zulétzt lacht, lacht am bésten*** (дóбра) смяéцца той, хто смяéцца апóшні
**Láchen** *n* -s смех, рóгат; ***das ist zum ~!*** гэ́та смéшна!; ***da vergéht éinem das ~*** тут ужó не да смéху; ***zum ~ bríngen**** рассмяшы́ць; ***in ~ áusbrechen**** зарагатáць
**láchend** *a* які́ смяéцца; ***das ~e Lében*** цудóўнае жыццё; ***der ~e Mai*** вясёлы мéсяц май [трáвень]
**Lácher** *m* -s, - смехатýн, рагатýн, насмéшнік
**lächerlich 1.** *a* смéшны, забáўны; ***~ máchen*** падня́ць на смех; ***sich ~ máchen*** рабі́цца пасмéшышчам **2.** *adv* смéшна, забáўна
**Lächerliche** *sub n* смéшнае; ***j-n ins ~ zíehen**** падня́ць кагó-н. на смех
**Lächerlichkeit** *f* -, -n 1) нéшта смéшнае, смяхóтнасць; дрóбязь 2) смяшлі́васць, смяхóтнасць, смехатвóрнасць
**láchhaft** *adv* смéшна
**Láchkrampf** *m* -(e)s, -krämpfe сýтаргавы [істэры́чны, нястры́мны] смех; ***éinen ~ bekómmen**** смяя́цца без упы́нку
**Lachs** *m* -es, -e ласóсь, сёмга
**Láchsalve** [-v-] *f* -, -n вы́бух смéху
**láchsfarben** *a* жаўтавáта-ружóвы
**Lack** *m* -(e)s, -e 1) лак 2) сургýч ◊ ***fértig ist der ~!*** *разм.* ≅ усё ў парáдку!
**Láckanstrich** *m* -(e)s, -e 1) лакірóўка, нанясéнне лáку 2) лáкавае пакрыццё
**Láckfarbe** *f* -, -n эмáлевая фáрба, фарбавáльнік для лáкаў
**lackíeren** *vt* 1) лакіравáць, пакрывáць лáкам 2) *разм.* падмáнваць, ашýкваць
**Lackíerer** *m* -s, - лакірóўшчык
**Láckmus** *n* - лáкмус
**Láckschuh** *m* -(e)s, -e лакіравáны тýфель [чаравíк]
**Láde** *f* -, -n шуфля́да
**Ládefähigkeit** *f* -, -en 1) грузападымáльнасць 2) водазмяшчэ́нне
**Ládegeld** *m* -(e)s, -er кошт пагрýзкі

**láden*** **I** **1.** *vt* 1) грузíць 2) зараджáць, набівáць ладýнкам; ***scharf [blind]*** ~ зараджáць баявы́мі [халасты́мі] патрóнамі 3) *эл.* зараджáць; ***mit Energíe geláden sein*** быць пóўным энéргіі 4): ***das Vertráuen auf sich*** ~ узя́ць на сябé адкáзнасць; ***éine Schuld auf j-n*** ~ узвалíць вінý на кагó-н.; ***er hat schwer geláden*** *разм.* ён мнóга [грунтóўна] вы́піў **2.** *vi спарт.* засярóдзіцца пéрад спабóрніцтвам

**láden*** **II** *vt* 1) запрашáць; ***zu Gast*** ~ запрашáць у гóсці 2) выклікáць; ***vor Gerícht*** ~ выклікáць у суд 3) прыцягваць, вáбіць, прывáбліваць

**Láden I** *m* -s, - *i* Läden 1) крáма, магазíн 2) аканíца ◊ ***der*** ~ ***klappt!*** *разм.* усё ў парадку!; ***den*** ~ ***schméißen**** спрáвіцца ў адзíн мóмант [як бáчыш]; ***mach kéinen*** ~ ***auf!*** не валавóдзь!, не марýдзь!, не цягнí!

**Láden II** *n* -s нагрýзка; пагрýзка; зарáдка (*акумулятара*)

**Ládenfenster** *n* -s, - вітры́на

**Ládengeschäft** *n* -(e)s, -e магазíн, крáма

**Ládenhüter** *m* -s, - *разм.* тавáр, які́ дрэ́нна прадаéцца, няхóдкі тавáр

**Ládenpreis** *m* -es, -e рóзнічная цанá, прадáжная цанá

**Láder** *m* -s, - 1) грýзчык 2) *вайск.* зараджáльшчык 3) *эл.* выпрамля́льнік для зарáдкі ад сéткі 4) *тэх.* нагнятáльнік 5) пагрýзчык

**Láderampe** *f* -, -n пагрýзачная платфóрма

**Láderaum** *m* -(e)s, -räume трум

**Ládeschein** *m* -(e)s, -e накладнáя (квітáнцыя)

**Ládeschütze** *m* -n, -n *вайск.* зараджáльшчык

**Ládestock** *m* -(e)s, -stöcke шóмпал

**Ládestreifen** *m* -s, - *вайск.* патрóнная абóйма, абóйма з патрóнамі

**Ládezettel** *m* -s, - *гл.* Ládeschein

**lädíeren** *vt* псавáць, пашкóджваць

**lädt** *präs ад* láden*

**Ládung I** *f* -, -en 1) груз 2) нагрýзка 3) *вайск.* зарáд, ладýнак; ***gebállte*** ~ звя́зак ручны́х гранáт 4) *эл.* зарáд

**Ládung II** *f* -, -en запрашэ́нне; вы́клік (*у суд*)

**Lady** ['le:di:] *f* -, -s лэ́дзі, дáма

**Lafétte** *f* -, -n *вайск.* лафéт, баявы́ станóк

**Láffe** *m* -n, -n дуры́ла, ёлуп

**lag** *impf ад* líegen*

**Láge** *f* -, -n 1) станóвішча, месцазнахóджанне 2) стан, сітуáцыя; ***in der*** ~ ***sein*** быць у стáне, магчы́; ***Herr der*** ~ ***sein*** быць гаспадарóм станóвішча; ***nach*** ~ ***der Dínge*** па стáну рэ́чаў; ***j-n in éine péinliche*** ~ ***bríngen**** пастáвіць кагó-н. у непрыéмнае станóвішча; ***versétze dich in méine*** ~ пастáў сябé на маё мéсца 3) слой, шыхт 4) *вайск.* залп, чаргá 5) *кул.* пóрцыя 6): ***éine*** ~ ***Bier*** па кýфлю пíва

**Lágebericht** *m* -(e)s, -e аператы́ўная звóдка

**Láger** *n* -s, - 1) пасцéль 2) лáгер; *перан.* лáгер, бок, групóўка; ***ein*** ~ ***áufschlagen**** ***[bezíehen*]*** разбíць лагéр, стаць лáгерам; ***das*** ~ ***ábbrechen**** зня́цца з лáгера 3) -s, - *i* Läger склад, схóвішча; ***etw. auf*** ~ ***háben*** мець што-н. на склáдзе; *перан.* мець што-н. у запáсе 4) *тэх.* падшы́пнік 5) *геал.* радóвішча; пласт 6) *буд.* апóра, лóжа 7) *паляўн.* лóгава, бярлóг

**Lágerbestand** *m* -(e)s, -stände наяўнасць тавáраў (*на складзе*)

**Lagerbeständigkeit** *f* - стóйкасць рэ́чыва (*пры захаванні*)

**Lágerfeuer** *n* -s, - вóгнішча (*пры біваку, прывале*)

**Lágerhaltung** *f* - 1) складскáя гаспадáрка 2) захавáнне на склáдзе

**Lágerholz** *n* -es, -hölzer лес, лáгі, шпáлы

**lágern** **1.** *vi* (*h, s*) 1) размяшчáцца, станавíцца (лáгерам) 2) захóўвацца на склáдзе; ***der Wein hat noch nicht genügend gelágert*** вінó яшчэ́ недастаткóва вы́трымана **2.** *vt* складзíраваць, складавáць, захóўваць на склáдзе **3.** ~, ***sich*** размяшчáцца лáгерам, ляжáць, адпачывáць; ***sich in Schíchten*** ~ размяш-

ча́цца пласта́мі [сла́ямі]

**Lágerplatz** *m* -s, -plätze 1) ме́сца захо́ўвання тава́раў 2) ме́сца размяшчэ́ння ла́герам

**Lágerraum** *m* -(e)s, -räume склад, свіран; складско́е памяшка́нне, кладо́ўка

**Lágerstätte** *f* -, -n 1) пасце́ль 2) *геал.* радо́вішча

**Lágerung** *f* -, -en 1) размяшчэ́нне ла́герам 2) (за)хава́нне на скла́дзе; *~ der Wáffen* накапле́нне збро́і 3) *тэх.* апо́ра (*сістэма падшыпнікаў*); устано́ўка, укла́дка 4) *геал.* заляга́нне, напластава́нне

**Lágerverwalter** *m* -s, - кладаўшчы́к

**Lagúne** *f* -, -n лагу́на

**lahm** *a* кульга́вы; паралізава́ны; ***éine ~e Áusrede*** няслу́шная [сла́бая, неперакана́ўчая] адгаво́рка; ***éine ~e Énte*** *фам.* капу́ха, непаваро́тлівая жанчы́на

**láhmen** *vi* кульга́ць

**lähmen, lahm légen** *vt* паралізава́ць, расслабля́ць, прыпыня́ць, спыня́ць (*тс. перан.*)

**Láhmheit** *f* - 1) кульга́васць 2) *перан.* бяссі́лле, сла́басць

**Láhmlegung** *f* - прыпыне́нне, спыне́нне дзе́йнасці, засто́й

**Lähmung** *f* -, -en 1) *мед.* пара́люш 2) засто́й, стагна́цыя

**Laib** *m* -(e)s, -e бо́хан (*хлеба*), галава́ (*сыру*)

**Laich** *m* -(e)s, -e ікра́ (*рыб, амфібій*)

**Láichablage** *f* -, -n, **Láiche** *f* -, -n не́раст, нераства́нне

**láichen** *vi* кла́сці ікру́, нерасці́цца

**Láie** *m* -n, -n 1) прафа́н, дылета́нт 2) неспецыялі́ст, ама́тар; ***er ist ein blútiger ~ darín*** ён по́ўны прафа́н у гэ́тай спра́ве

**Láienbühne** *f* -, -n ама́тарская сцэ́на

**láienhaft** *a* 1) недасве́дчаны, дылета́нцкі 2) све́цкі

**Láienkunst** *f* -, -künste мастацкая самадзе́йнасць

**Láienkünstler** *m* -s, - арты́ст-ама́тар

**Láienkunstgruppe** *f* -, -n гурто́к маста́цкай самадзе́йнасці, самадзе́йны анса́мбль

**Láienschaffende** *sub m, f* -n, -n удзе́льнік, -ца маста́цкай самадзе́йнасці

**Láienspiel** *n* -(e)s, -e 1) п’е́са для драмгуртка́ 2) драматы́чная маста́цкая самадзе́йнасць

**Lakái** *m* -en, -en лёкай, лаке́й

**lakáienhaft** **1.** *a* лёкайскі **2.** *adv* па-лёкайску

**Láke** *f* -, -n расо́л, марына́д

**Láken** *n* -s, - прасціна́, прасціра́дла, палатно́

**lakónisch** *a* лакані́чны, каро́ткі, лапіда́рны

**Lakonísmus** *m* -s, -men лакані́зм, лакані́чны вы́раз

**Lakrítze** *f* -, -n лакры́ца

**lalá**: ***sosó ~*** нішто́ сабе́, так сабе́ (*у адказ на пытанне* ***wie geht’s?*** як ма́ецеся?, як жывяце́?)

**lállen** *vi* мармыта́ць, запіна́цца

**Láma I** *n* -s, -s 1) *заал.* ла́ма 2) поўсць ла́мы

**Láma II** *m* - *i* -s, -s ла́ма (*манах у Цібеце*)

**Lamélle** *f* -, -n *тэх.* (металі́чная) пласці́на; сегме́нт, дыск; то́нкая до́шка

**lamentíeren** *vi* ска́рдзіцца, пла́кацца, галасі́ць, лямантава́ць; го́ласна [мо́цна] выка́зваць сваё незадавальне́нне

**Lamétta** *n* -s 1) (сярэ́браны, залаты́) дождж (*ёлачныя аздабленні*) 2) *іран.* іканаста́с (*пра бязмерна начэпленыя ўзнагароды*); ***viel ~ trágen**** начапля́ць медалёў

**Lamm** *n* -(e)s, Lämmer ягня́, казляня́ ◊ ***das ~ beim Wolf verpfänden*** ≅ пусці́ць казла́ ў газро́д

**Lämmergeier** *m* -s, - *заал.* каршу́н-ягня́тнік

**Lämmerwolken** *pl* бара́нчыкі (*воблакі*)

**Lámmesgeduld** *f* - анёльскае цярпе́нне

**Lampás** *m* -, - лампа́сная (*шаўковая*) ткані́на

**lámmfromm** *a* лаго́дны, пако́рлівы (як ягня́)

**Lámpe I** *f* -, -n ля́мпа ◊ ***zu viel auf die ~ gießen**** вы́піць лі́шняга, перабра́ць

**Lámpe II** *m* -s: ***(Méister) ~*** Ла́мпэ, Зая́ц (*у казках і байках*)

**Lámpenfieber** *n* -s хвалява́нне пе́рад вы́хадам на сцэ́ну [пе́рад які́м-н. выступле́ннем]
**Lámpenschirm** *m* -(e)s, -e абажу́р
**Lampion** [-ˈpiɔŋ *i* -ˈpiɔ̃:] *m*, *n* -s, -s каляро́вы ліхта́рык
**Lampréte** *f* -, -n *заал.* міно́га
**lancieren** [lãˈsi:rən] *vt* 1) *вайск.* выстрэ́льваць 2) *марск.* спуска́ць на ваду́ 3) *перан.* пуска́ць у ход, уво́дзіць ва ўжы́так; ***j-n*** ~ прасо́ўваць каго́-н.; пратэжы́раваць, падтры́млівацъ каго́-н.
**Land** *n* -(e)s, Länder 1) краі́на, край; ***das gelóbte*** ~ запаве́тная зямля́; ***áußer ~(es) géhen**** пакі́нуць радзі́му; ***wohér des ~es?*** з які́х краёў?, ≅ адку́ль даро́гу ма́еш [ма́еце]?; ***bei uns zu ~e*** у на́шай краі́не ◊ ***aus állen Hérren Ländern*** ≅ з усі́х канцо́ў све́ту, адусю́ль 2) *без pl* зямля́, гле́ба 3) -(e)s, Länder зямля́, праві́нцыя 4) *без pl* су́ша; ***über ~ und Méer*** вако́л све́ту; ***an(s) ~ géhen* [stéigen*, kómmen*]*** вы́садзіцца [сысці́] на бе́раг; ***zu Wásser und zu ~e*** на вадзе́ і (на) су́шы, па вадзе́ і (па) су́шы 5) *без pl* се́льская мясцо́васць, вёска; ***auf dem ~e*** у вёсцы, на да́чы, за го́радам; ***aufs ~ géhen**** паéхаць у вёску; ***aufs ~ ziehen**** пераéхаць у вёску; ***die Éinfalt vom ~e*** вяско́вая прастата́; *пагардл.* дзераве́ншчына
**landáb** *гл.* landáuf
**Lándarbeit** *f* -, -en палявы́я рабо́ты
**Lándarbeiter** *m* -s, - сельскагаспада́рчы рабо́чы, батра́к
**lándarm** *a* малазямéльны
**Lándarmee** *f* -, -me¦en сухапу́тная а́рмія
**landáuf**: ***~, landáb*** *adv* уздо́ўж і ўпо́перак, па ўсёй краі́не
**Lándaufenthalt** *m* -(e)s, -e знахо́джанне ў вёсцы [на да́чы]
**landáus**: ***~, landéin*** з краі́ны ў краі́ну
**Lándbau** *m* -(e)s земляро́бства
**Lándbesitz** *m* -es, -e 1) землеўлада́нне 2) маёнтак, фальва́рак
**Lándbesitzer** *m* -s, - землеўлада́льнік
**Lándbevölkerung** *f* -, -en вяско́вае [се́льскае] насе́льніцтва
**Lándbewohner** *m* -s, - вяско́вы [се́льскі] жыха́р
**Lände** *f* -, -n пры́стань
**Lándebahn** *f* -, -en *ав.* узлётна-паса́дачная паласа́
**landéin** *гл.* landáus
**landéinwärts** *adv* уну́тр краі́ны
**lánden** **1.** *vi* (s) 1) прыстава́ць да бе́рага, выса́джвацца; прызямля́цца 2) прыбыва́ць на ме́сца, дабі́цца [дасягну́ць] свайго́; ***der Rádfahrer lándete auf dem drítten Platz*** веласіпеды́ст прыйшо́ў трэ́цім **2.** *vt* 1) выса́джваць (*на бераг, з самалёта*) 2) *спарт.*: ***éinen Schlag ~*** нане́сці ўда́р; ***éinen Sieg ~*** перамагчы́, заня́ць пе́ршае ме́сца (*бокс*)
**Lándenge** *f* -, -n *геагр.* перашы́ек
**Länderéi** *f* -, -en зямля́; маёнтак, фальва́рак
**Länderkampf** *m* -(e)s, -kämpfe *спарт.* міжнаро́днае спабо́рніцтва
**Länderkunde** *f* - геагра́фія, краіназна́ўства
**Ländername** *m* -ns, -n на́зва краі́ны
**Länder|spiel** *n* -(e)s, -e, **~treffen** *n* -s, - *гл.* Länderkampf
**Lándesaufnahme** *f* -, -n тапагра́фія
**lándesbeste** *a* найле́пшы ў краі́не
**Lándesfahne** *f* -, -n дзяржа́ўны сцяг
**Lándesfarben** *pl* нацыяна́льныя ко́леры (*сцяга*)
**lándesflüchtig** *a* які́ эмігры́раваў, які́ ўцёк з краі́ны
**Lándesgebiet** *n* -(e)s, -e тэрыто́рыя краі́ны
**Lándeshoheit** *f* - суверэнітэ́т
**Lándeskunde** *f* - краіназна́ўства, краязна́ўства
**lándeskundig** *a* які́ ве́дае краі́ну [свой край]
**Lándesmeister** *m* -s, - *спарт.* чэмпіён краі́ны
**Lándesmeisterschaft** *f* -, -en *спарт.* першынство́ краі́ны
**Lándesregierung** *f* -, -en ура́д зямлі́ (*у Аўстрыі і ФРГ*)
**Lándessperre** *f* -, -n блака́да краі́ны
**Lándessprache** *f* -, -n нацыяна́льная мо́ва,

мо́ва краі́ны

**Lándestracht** *f* -, -en нацыяна́льны строй [убо́р, касцю́м]

**Lándestrauer** *f* - нацыяна́льная жало́ба; ~ ***beféhlen**** абвясці́ць нацыяна́льную жало́бу

**lándesüblich** *a* агульнапрыня́ты ў (гэ́тай) краі́не

**Lándesverrat** *m* -(e)s дзяржа́ўная здра́да, здра́да дзяржа́ве

**Lándesverräter** *m* -s, - дзяржа́ўны здра́днік [злачы́нец]

**Lándesverteidigung** *f* - абаро́на краі́ны

**Lándesvertretung** *f* -, -en прадстаўні́цтва краі́ны

**Lándesverweisung** *f* -, -en выгна́нне [вы́сылка] з краі́ны

**Lándeswährung** *f* -, -en нацыяна́льная валю́та

**lándfremd** *a* чужы́, чужазе́мны

**Lándfrieden** *m* -s мір, спако́й ◊ ***dem ~ nicht (recht) tráuen*** не (ве́льмі) ве́рыць чаму́-н.; прадчува́ць небяспе́ку

**Lándfunk** *m* -s, -e 1) се́льскі радыёву́зел 2) се́льская радыёперада́ча

**Lándgericht** *n* -es, -e зяме́льны суд (*у ФРГ*)

**lándgestützt** *a* назе́мнага базі́равання (*пра ракетныя ўстаноўкі і г.д.*)

**Lándgut** *n* -(e)s, -güter маёнтак, двор, паме́сце

**Lándhaus** *n* -es, -häuser за́гарадны дом, да́ча

**Lándkarte** *f* -, -n геаграфі́чная ка́рта [ма́па]

**Lándkreis** *m* -es, -e *гіст.* раён (*адміністрацыйная адзінка ў Германіі*)

**lándläufig** *a* прыня́ты ў (гэ́тай) краі́не, звыча́йны, распаўсю́джаны

**Ländler** *m* -s, - ле́ндлер (*нямецкі танец на 3/4 такту*)

**ländlich** *a* се́льскі, вяско́вы

**Lándmacht** *f* -, -mächte 1) кантынента́льная дзяржа́ва 2) *вайск.* сухапу́тныя [сухазе́мныя] сі́лы [во́йскі]

**Lándmann** *m* -(e)s, -leute селяні́н

**Lándmaschine** *f* -, -n сельскагаспада́рчая машы́на

**Lándmesser** *m* -s, - камо́рнік

**Lándmine** *f* -, -n *вайск.* фуга́с; мі́на (*сапёрная*)

**Lándpartie** *f* -, -ti¦en пікні́к, бясе́да на прыро́дзе; ***éine ~ máchen*** арганізава́ць пікні́к

**Lándparzelle** *f* -, -n дро́бны зяме́льны ўча́стак, дзяля́нка

**Lándplage** *f* -, -n бе́дства [бяда́, няшча́сце] для ўсёй краі́ны, нацыяна́льнае бе́дства

**Lándrat** *m* -(e)s, -räte 1) ла́ндрат, нача́льнік акружно́й упра́вы (*ФРГ*) 2) кантана́льны саве́т (*Швейцарыя*)

**Lándregen** *m* -s, - зацяжны́ дождж

**Lándrichter** *m* -s, - суддзя́ ў зяме́льным судзе́ (*у Германіі*)

**Lándrücken** *m* -s, - узвы́шша

**lándsässig** *a* які́ жыве́ ў да́дзенай мясцо́васці, тутэ́йшы

**Lándschaft** *f* -, -en 1) краяві́д, ландша́фт, пейза́ж 2) край, мясцо́васць; акру́га, праві́нцыя

**Lándschafter** *m* -s, - (маста́к-)пейзажы́ст

**lándschaftlich** *a* 1) абласны́, правінцыя́льны 2) ландша́фтны, пейза́жны, маляўні́чы

**Lándschaftsbild** *n* -(e)s, -er *жыв.* ландша́фт, пейза́ж

**Lándschaftsmalerei** *f* - пейза́жны жы́вапіс

**Lándschaftsschutz** *m* -es ахо́ва запаве́днікаў і прыро́дных по́мнікаў

**Lándschule** *f* -, -n се́льская [вяско́вая] шко́ла

**Lándser** *m* -s, - *разм.* 1) салда́т 2) зямля́к

**Lándsersprache** *f* -, -n салда́цкі жарго́н

**Lándsitz** *m* -es, -e маёнтак

**Lándsknecht** *m* -(e)s, -e 1) *гіст.* ландскне́хт, наёмны салда́т 2) *перан.* ландскне́хт, наймі́т

**Lándsmann** *m* -(e)s, -leute зямля́к, суайчы́ннік, суро́дзіч

**Lándsmännin** *f* -, -nen зямля́чка, суайчы́нніца

**Lándsmannschaft** *f* -, -en зямля́цтва

**Lándspitze** *f* -, -n мыс

**Lándstraße** *f* -, -n) прасёлак, палява́я даро́га; шаша́

**Lándstreicher** *m* -s, - валацу́га, бадзя́га
**Lándstreitkräfte** *pl* сухапутныя во́йскі
**Lándstrich** *m* -(e)s, -e мясцо́васць
**Lándstück** *n* -(e)s, -e зямéльны ўча́стак
**Lándsturm** *m* -(e)s *вайск.* ла́ндштурм (*апалчэнне другога разраду ў былой германскай арміі*)
**Lándtag** *m* -(e)s, -e ландта́г (*прадстаўнічы сход, мясцовае самакіраванне ў землях Германіі*)
**Lándtier** *n* -(e)s, -e назéмная жывёла
**Lándung** *f* -, -en 1) вы́садка, вы́грузка 2) *ав.* прызямлéнне, паса́дка 3) *вайск.* дэса́нт, вы́садка дэса́нта
**Lándungs|ort** *m* -(e)s, -e, **~platz** *m* -es, -plätze пры́стань; *вайск.* мéсца вы́садкі дэса́нта; *ав.* мéсца паса́дкі
**Lándungssteg** *m* -(e)s, -e *марск.* схо́ды, схо́дкі
**Lándungstruppen** *pl* дэса́нтныя во́йскі [падраздзялéнні, ча́сці]
**lándwärts** *adv* да зямлí, да бéрага
**Lándweg** *m* -(e)s, -e палява́я даро́га
**Lándwehr** *f* - *вайск.* ла́ндвэр (*апалчэнне першага разраду ў былой германскай арміі*)
**Lándwind** *m* -(e)s, -e берагавы́ вéцер
**Lándwirt** *m* -(e)s, -e (вяско́вы) гаспада́р, фéрмер
**Lándwirtschaft** *f* - сéльская гаспада́рка
**lándwirtschaftlich** *a* сельскагаспада́рчы
**Lándwirtschaftswissenschaft** *f* - аграно́мія
**Lándzunge** *f* -, -n *геагр.* каса́, мыс
**lang** *a* 1) до́ўгі; ***zwei Méter ~*** два мéтры даўжынёй 2) до́ўгі, праця́глы; ***auf ~e Zeit*** надо́ўга ◊ ***etw. auf die ~e Bank schíeben**** *разм.* адклада́ць што-н. на немавéдама калí; ***~e Fínger máchen [háben]*** *разм.* кра́сці, быць зло́дзеем; ***~e Zähne máchen*** *разм.* быць пераборлівым; ***éine ~e Látte*** *разм.* даўгалы́гі, цыба́ты; бамбіза
**lángatmig** *a* праця́глы, до́ўгі; су́мны
**lánge** *adv* до́ўга, до́ўгі час; ***zwei Jáhre lang*** на праця́гу двух год; ***schon ~*** ужо́ даўно́; ***mein Lében lang*** (за) усё маё жыццё; ***es ist noch nicht ~ her*** гэ́та было́ яшчэ́ не так даўно́; ***so ~, bis…*** да таго́ ча́су, паку́ль…; ***das ist noch ~ kein Bewéis*** гэ́та яшчэ́ нічо́га не дака́звае [ні аб чым не свéдчыць]; ***das ist noch ~ nicht genúg*** гэ́тага яшчэ́ далёка недастатко́ва
**Länge** *f* -, -n 1) даўжыня́; праця́гласць; ***der ~ nach*** у даўжыню́, даўжынёй 2) праця́гласць; ***auf die ~*** надо́ўга, на до́ўгі час; etw. ***in die ~ zíehen**** заця́гваць (*якую-н. справу*); ***(sich) in die ~ zíehen**** заця́гваць, заця́гвацца 3) *геагр.* даўгата́; ***10 Grad östlicher ~*** 10 гра́дусаў усхо́дняй даўгаты́
**lángen 1.** *vi* 1) (*nach D*) настава́ць, даця́гвацца (*да чаго-н.*); ***ich lángte nach dem Téller*** я працягну́ў руку́ па талéрку 2) (*bis an A, bis zu D*) быць дастатко́вым, хапа́ць; ***das Geld lángte nicht*** гро́шай не хапíла **2.** *vt* дава́ць, праця́гваць; ***j-m éine ~*** даць аплявýху каму́-н., даць по́ўху каму́-н.; ***er lángte sich das Buch*** ён узя́ў сабé кнíгу
**längen 1.** *vt* падаўжа́ць, надстаўля́ць **2.** *vi* падаўжа́цца
**Längeneinheit** *f* -, -en адзíнка даўжынí
**Längengrad** *m* -(e)s, -e *геагр.* гра́дус даўгаты́
**Längenkreis** *m* -es, -e мерыдыя́н
**Längenmaß** *n* -es, -e мéра даўжынí
**Langétte** *f* -, -n рышэльé з фесто́намі (*спосаб вышыўкі*)
**Lángeweile** *f* - нуда́; ***~ háben*** нудзíцца, сумава́ць; ***vor ~ vergéhen* [úmkommen*]*** памíра́ць ад су́му [марко́ты]
**Lángfinger** *m* -s, - *разм.* зло́дзей, зладзю́жка
**lángfristig** *a* доўгатэрміно́вы
**lánggestreckt** *a* до́ўгі, расця́гнуты, прадаўгава́ты
**lánghaarig** *a* доўгавало́сы
**lángjährig** *a* шматгадо́вы
**Lánglauf** *m* -(e)s, -läufe *спарт.* бег на до́ўгія дыста́нцыі
**Lánglaufschier** *pl* *спарт.* го́начныя лы́жы
**lánglebig** *a* даўгалéтні, даўгавéчны

**lánglegen, sich** *аддз. разм.* выця́гвацца, разляга́цца
**länglich** *a* (пра)даўгава́ты
**Lángmut** *f* - (доўга)цярплі́васць; лаго́днасць, пако́рлівасць
**lángmütig** *a* цярплі́вы; пабла́жлівы, спага́длівы; лаго́дны, пако́рлівы
**Lángmütigkeit** *f* - *гл.* Lángmut
**längs** *prp* (*G, радзей D*) уздо́ўж, паўз; ~ ***des Wéges*** уздо́ўж даро́гі
**Längsachse** *f* -, -n падо́ўжная вось
**lángsam 1.** *a* паво́льны, мару́дны; ~ ***von Begríff sein*** мару́дна разуме́ць [ця́міць, ке́міць], быць тугаду́мам **2.** *adv* паво́льна, ці́ха; ***~, áber sícher*** паво́льна, ды дакла́дна ◊ ***was ~ kommt, kommt gut*** ≅ цішэ́й е́дзеш – да́лей бу́дзеш; паспе́х – кура́м на смех
**Lángsamkeit** *f* - 1) паво́льнасць 2) мару́длівасць, няспе́шнасць; лянота
**Lángschläfer** *m* -s, - *разм.* со́ня
**Lángschuss** *m* -es, -schüsse *вайск.* пералёт пры стральбе́
**lángsichtig** *гл.* lángfristig
**Lángspielplatte** *f* -, -n доўгайгра́ючая пласці́нка [кружэ́лка]
**Längsrichtung** *f* -, -en падо́ўжны накіру́нак [напра́мак]
**Längsschnitt** *m* -(e)s, -e *тэх.* падо́ўжнае сячэ́нне, падо́ўжны разрэ́з
**längst 1.** *a* са́мы до́ўгі **2.** *adv* ве́льмі даўно́; здавён, з да́ўніх часо́ў; ***von ~ her*** здаўна́
**längstens** *adv* не даўжэ́й як…, не пазне́й як…, са́мае по́зняе
**lángstielig** *a* 1) з до́ўгім сцябло́м 2) *разм.* ну́дны (*даклад і г. д.*)
**Lángstrecke** *f* -, -n вялі́кая адле́гласць; *спарт.* до́ўгая дыста́нцыя
**Langúste** *f* -, -n *заал.* лангу́ст
**Lángweile** *f* - *гл.* Lángeweile
**lángweilen** *неаддз.* **1.** *vt* дакуча́ць, назаля́ць **2. ~, sich** ну́дзіцца; ***sich zu Tóde ~*** паміра́ць ад нуды́
**lángweilig** *a* ну́дны; надаку́члівы
**Lángwelle** *f* -, -n *радыё* до́ўгая хва́ля
**lángwierig** *a* праця́глы, до́ўгі, зацяжны́; ***ein ~es Léiden*** храні́чная хваро́ба
**Lángwierigkeit** *f* - праця́гласць; зацяжны́ характа́р
**Lánze** *f* -, -n пі́ка, дзі́да, кап'ё ◊ ***für j-n éine ~ bréchen**** заступі́цца за каго́-н.; ***mit j-m éine ~ bréchen**** уступі́ць у бой з кім-н.
**Lanzétte** *f* -, -n *мед.* ланцэ́т
**Laóte** *m* -n, -n лао́сец, жыха́р Лао́са
**laótisch** *a* лао́скі
**lapidár** *a* лапіда́рны, сці́слы (*пра стыль*)
**Lápis** *m* - *фарм.* ля́піс
**Lappáli¦e** *f* -, -n дро́бязь, драбяза́
**Láppe** *m* -n, -n лапла́ндзец
**Láppen** *m* -s, - 1) ану́ча, ану́чка; *pl* лахманы́, рыззё 2) *анат., бат.* до́ля 3) *тэх.* ло́пасць; ла́па; вы́ступ; борт ◊ ***j-m durch die ~ géhen**** уцячы́, вы́слізнуць ад каго́-н.
**Läpperéi** *f* -, -en *разм.* драбяза́, драбні́ца; глу́пства
**läppern 1.** *vt* хлёбаць, сёрбаць, паця́гваць **2. *~, sich*** *разм.* назбіра́цца [накапі́цца] па дро́бязі
**láppig** *a разм.* 1) парва́ны, абарва́ны 2) сла́бы, кво́лы 3) нядба́лы; дурны́, бесталко́вы
**läppisch** *a* 1) по́шлы 2) недарэ́чны, бесталко́вы
**Láppländer** *m* -s, - *гл.* Láppe
**láppländisch** *a* лапла́ндскі
**Lápsus** [-su:s] *m* -, - ля́псус, памы́лка; ~ ***Cálami*** апі́ска; ~ ***Linguae*** [ˈliŋguɛ] памы́лка, агаво́рка
**Laptop** [ˈlɛptop] *m* -s, - *камп.* партаты́ўны кампу́тар
**Lärche** *f* -, -n *бат.* лісто́ўніца
**lárgo** *adv муз.* ве́льмі паво́льна, праця́гла
**Lärm** *m* -s шум; мітусня́; ***viel ~ um nichts*** мно́га шу́му [вэ́рхалу] з нічо́га; ~ ***schlágen**** біць трыво́гу, нарабі́ць шу́му; ***blínder*** ~ несапра́ўдная [памылко́вая] трыво́га
**lärmen** *vi* шуме́ць, усчына́ць шум [вэ́рхал, гвалт]
**lärmend** *a* шу́мны, шумлі́вы
**Lárve** *f* -, -n 1) лічы́нка 2) ма́ска; ***j-m die ~ vom Gesícht réißen**** вы́крыць каго́-н., сарва́ць ма́ску з чыйго́-н.

аблíчча 3) *разм.* твар; ***éine hübsche ~*** прыгóжы твáрык

**las** *impf ад* lésen*

**lasch** *adv спарт.* расслáблена, свабóдна

**Lásche** *f* -, -n 1) язычóк (*чаравíка*) 2) *тэх.* наклáдка 3) клін (*у вопратцы*); клáпан (*кішэні*)

**Láschheit** *f* - расслáбленасць

**Láser** *m* -s, - *фіз.* лáзер

**Láserstrahlen** *pl фіз.* лáзерныя прóмні

**lasíeren** *vt* глазуравáць

**lass** *a* слáбы, стóмлены, вя́лы, лянíвы

**lássen*** **1.** *vt* 1) пакідáць, кíнуць; не чапáць; ***áußer Acht ~*** не звяртáць увáгі, пакíнуць без увáгі; ***lass mich in Rúhe!*** не чапáй мянé!; ***sich (D) Zeit ~*** не спяшáцца; ***wo hast du das Buch gelássen?*** куды́ ты дзеў кнíгу?; ***~ wir es dabéi (bewénden)*** пакíнем гэ́та так 2) кíнуць, перастававáць; ***lass das Wéinen!*** кінь [перастáнь] плáкаць; ***das Ráuchen ~*** кíнуць [перастáць] куры́ць; ***lass das!*** кінь гэ́та; ***ich weiß nicht, was ich tun oder ~ soll*** я не вéдаю, што мне рабíць **2.** *vi* (*von D*) адмаўля́цца (*ад чаго-н.*), расстáцца (*з кім-н.*); ***von séinem Entschlúss ~*** адмóвіцца ад свайгó рашэ́ння; ***er kann nicht von ihr ~*** ён не мóжа расстáцца з ёю **3.** *з мадальным значэннем* 1) давáць магчы́масць, дазваля́ць, распараджáцца, загáдваць, прымушáць, застаўля́ць; ***er hat mich schréiben ~*** ён даручы́ў мне напісáць; ***lass das Kind spielen!*** няхáй дзіця́ гуля́е; ***sich (D) éinen Ánzug máchen ~*** заказáць (пашы́ць) сабé касцю́м; ***es daráuf ánkommen ~*** не спынíцца ні пéрад чым; ***sich séhen ~*** пакáзвацца (*у грамадстве*); ***von sich hören ~*** падавáць вéсткі аб сабé; ***lass uns géhen!*** давáй пóйдзем! (*суразмоўцаў двое*); ***lasst uns géhen!*** давáйце пóйдзем! (*суразмоўцаў не менш трох*)

**lässig** 1) нядбáйны, неахáйны 2) марýдны, вя́лы

**Lässigkeit** *f* -, -en 1) нядбáйнасць, неахáйнасць 2) марýднасць, вя́ласць

**lässlich** 1) дапушчáльны, даравáльны 2) паблáжлівы

**Lásso** *m*, *n* -s, -s ласó, аркáн

**lässt** *präs ад* lássen*

**Last** *f* -, -en 1) цяжáр, груз 2) цяжáр, гнёт; ***j-m zur ~ fállen**** быць цяжáрам камý-н.; быць пастáўленым у вінý камý-н.; ***j-m etw. zur ~ légen*** стáвіць у вінý камý-н. што-н., вінавáціць кагó-н. у чым-н.; ***éine ~ fiel ihm ab*** у ягó гарá звалíлася з плячэ́й 3) *pl камерц.* адлічэ́нні; ***zu ~en des Käufers*** за кошт пакупнікá

**Lástauto** *n* -s, -s грузавíк, грузавы́ аўтамабíль

**lásten** *vi* (*auf D*) вісéць (*над кім-н.*), ляжáць цяжáрам (*на кім-н., чым-н.*); ***auf díesem Unternéhmen ~ gróße Schúlden*** гэ́тая фíрма ўвя́зла ў даўгáх

**Lástenaufzug** *m* -(e)s, -züge грузападымáльнік, грузавы́ ліфт

**Láster I** *n* -s, - распýста; загáна; ***dem ~ frönen*** аддавáцца загáне

**Láster II** *m* -s, - *разм.* грузавíк

**Lästerer** *m* -s, - паклёпнік; блюзнéр, богазневажáльнік

**lásterhaft** *a* распýсны, разбэ́шчаны

**Lásterhaftigkeit** *f* - кашчýнства, блюзнéрства; паклёпніцтва

**lästerlich** *a* кашчýнны, блюзнéрскі; богазневажáльны, паклёпніцкі

**Lästermaul** *n* -(e)s, -mäuler *разм.* паклёпнік

**lästern** *vi* (*auf, wider, gegen A*) зласлóвіць, узвóдзіць паклёп (*на каго-н.*)

**Lästerung** *f* -, -en 1) зласлóўе, паклёп, знеслаўлéнне, лáянка 2) богазневажáнне

**Lástfuhre** *f* -, -n фурмáнка, падвóда

**lästig** *a* дакýчлівы, назóйлівы, ця́жкі; ***j-m ~ wérden [fállen*]*** назаля́ць, дакучáць камý-н.; ***ein ~er Gast*** няпрóшаны госць

**Lästigkeit** *f* - 1) дакýчлівасць, назóйлівасць 2) цяжáр, ця́жкасць; неспакóй, няёмкасць

**Lástkahn** *m* -(e)s, -kähne бáржа

**Lástkraftwagen** *m* -s, - грузавíк, грузавáя

аўтамашы́на
**Lástschiff** *n* -(e)s, -e грузаво́е су́дна, грузавы́ карабе́ль
**Lásttier** *n* -(e)s, - ую́чная жывёла
**Lástträger** *m* -s, - гру́зчык, насі́льшчык
**Lástwagen** *m* -s, - 1) тава́рны ваго́н 2) грузаві́к
**Lástzug** *m* -(e)s, -züge 1) аўтапо́езд, грузаві́к з прычэ́пам, фурго́н 2) тава́рны по́езд [цягні́к]
**Lasúr** *f* -, -en глазу́ра
**lasúrblau** *a* блакі́тны
**Latéin** *n* -s лаці́на, лаці́нская мо́ва ◊ ***mit séinem ~ zu Énde sein*** быць у тупіку́; не ве́даць, што рабі́ць далёй
**latéinamerikanisch** *a* лацінаамерыка́нскі
**latéinisch 1.** *a* лаці́нскі **2.** *adv* на лаці́не, па-лаці́нску
**latént** *a* скры́тны, невідо́чны
**Laténz** *f* - латэ́нтнасць; скры́ты стан
**Latérna mágica** *f* -, -nae [-nɛ] *i* -cae [-kɛ] 1) чаро́ўны ліхта́р 2) *разм.* прымітыў́ны дыяско́п
**Latérne** *f* -, -n 1) ліхта́р; ліхта́рня; слуп з ліхтаро́м ◊ ***ihm geht éine ~ auf*** *фам.* яму́ тра́піла ду́мка; ***etw. mit der ~ súchen*** насто́йліва шука́ць што-н. 2) зо́рачка (*на ілбе дамашніх жывёл*)
**Latérnenpfahl** *m* -(e)s, -pfähle ліхта́рны слуп
**Látex** *m* - ла́тэкс, сок з каўчуку́
**Latríne** *f* -, -n прыбіра́льня; памы́йная я́ма
**Latsch** [-a:-] *m* -(e)s, -e, **Látsche** [-a-] *f* -, -n 1) (ха́тні) панто́фель 2) стапта́ны чараві́к 3) *разм., зневаж.* чалаве́к з ця́жкай [няўклю́днай] памо́дкай
**Látsche** *f* -, -n *бат.* сасна́ го́рная
**látschen** *vi разм.* шо́ргаць панто́флямі, шлёпаць, цяга́ць но́гі
**látschig** *a* нязгра́бны, непаваро́тлівы
**Látte** *f* -, -n 1) рэ́йка, папярэ́чына, пераклáдзіна, плáнка, лі́штва; ***lánge ~*** *разм.* бамбі́за 2) *спарт.* плáнка, рэ́йка; ве́рхняя штáнга, перакла́дзіна; ***über die ~ schíeßen**** біць це́раз перакла́дзіну [вышэ́й перакла́дзіны]
**Láttenzaun** *m* -(e)s, -zäune плот (са штыке́цінаў)
**Latz** *m* -es, Lätze 1) ла́цкан 2) нагру́днік
**Látzhose** *f* -, -n паўкамбінезо́н
**Látzschürze** *f* -, -n фарту́к з нагру́днікам
**lau** *a* 1) цеплава́ты 2) абыя́кавы, індыферэ́нтны
**Laub** *n* -(e)s лі́сце, лісто́та; ***der Baum steht im zwéiten ~*** гэ́таму дрэ́ву ідзе́ другі́ год; ***das ~ verlíeren**** агалі́цца, асы́пацца
**Láubbaum** *m* -(e)s, -bäume лі́сцевае дрэ́ва
**Láube** *f* -, -n 1) альта́нка, ле́тні садо́вы дамо́к; 2) *буд.* галерэ́я са скляпе́ннямі ◊ ***fértig ist die ~!*** усё гато́ва!, спра́ва вы́рашана!
**Láubengang** *m* -(e)s, -gänge кры́тая але́я [даро́жка]
**Láubenkolonie** *f* -, -ni¦en за́гарадны пасёлак з лёгкіх пабудо́ў; пры́гарадныя агаро́дныя ўча́сткі з лёгкімі пабудо́вамі; да́чы
**Láubfall** *m* -(e)s лістапа́д, абсыпа́нне лі́сця
**Láubfrosch** *m* -(e)s, -frösche *заал.* ква́кша
**Láubhütte** *f* -, -n шала́ш
**láublos** *a* бязлі́сцевы, без лісто́ты
**Láubsäge** *f* -, -n ло́бзік
**láubtragend** *a* лі́сцевы
**Láubwald** *m* -(e)s, -wälder лі́сцевы лес
**Láubwerk** *n* -(e)s, -e *гл.* Laub
**Lauch** *m* -(e)s, -e *бат.* цыбу́ля
**Laudátio** *f* -, -ónes, **Laudatión** *f* -, -en пане́гірык, усхвале́нне
**Láuer** *f* - заса́да; ***auf der ~ sein [líegen*]*** падпі́льноўваць; ***sich auf die ~ légen*** засе́сці ў заса́ду
**láuern** *vi* (*auf A*) падпі́льно́ўваць (*каго-н.*)
**Lauf** *m* -(e)s, Läufe 1) бег, ход; ***in vóllem ~*** бяго́м, наўска́ч, стрымгало́ў; *спарт.* бег, забе́г 2) цячэ́нне, рух, плынь; ***im ~e éiner Wóche*** на праця́гу ты́дня; ***im ~e der Zeit*** з ця́гам ча́су; ***im ~e des Gespráchs*** у час размо́вы [гу́таркі]; ***das ist der ~ der Welt*** так ужо быва́е ў жыцці́; ***séinen Gedánken fréien ~ lássen**** даць во́лю сваі́м ду́мкам; ***den Díngen***

***íhren (fréien) ~ lássen**** даць падзéям развівáцца так, як яны́ ідýць 3) ствол (*ружжа*) 4) *муз.* пасáж, рулáда

**Láufbahn** *f* -, -en 1) пóле дзéйнасці, нíва, кар'éра 2) *спарт.* бегавáя дарóжка, трэк

**Láufband** *n* -(e)s, -bänder канвéер

**Láufbrücke** *f* -, -n схóдні

**Láufbursche** *m* -n, -n хлапчýк на пабягýшках, пасы́льны

**láufen*** *vi* (s) 1) бéгаць, бéгчы; ***sich áußer Átem ~*** задыха́цца ад бéгу; ***sich müde ~*** набéгацца да стóмы [змóру]; ***j-n ~ lássen**** адпусцíць кагó-н., даць свабóду камý-н. 2) *спарт.* бéгаць; ***éine Rúnde ~*** прабéгчы круг; ***Schlíttschuh [Schi] ~*** катáцца на канькáх [лы́жах] 3) *тэх.* круцíцца, функцыянíраваць; ***die Maschíne läuft*** машы́на працýе; ***leer ~*** *тэх.* працавáць ухаластýю 4) цячы́; ***das Fass läuft*** бóчка цячэ́; ***die Náse läuft*** з нóса цячэ́ (*ад насмарку*) 5) ісцí (*пра фільм*) 6) мінáць, праміна́ць 7) мець сíлу; ***die Ákti¦e läuft únbegrenzt*** áкцыя мáе неабмежавáны тэ́рмін 8) спяшáць (*пра гадзіннік*) 9) *перан.* прабягáць; ***ein Scháuder lief ihm über den Rücken, es lief ihm kalt über den Rücken*** у ягó мурáшкі прабéглі па спíне ◊ ***Gefáhr ~*** трапля́ць у небяспéку, быць у небяспéцы; ***ins Geld ~*** *разм.* абысцíся [каштавáць] задóрага; ***álles läuft durcheinánder*** усё пераблы́талася; ***es läuft auf eins hináus*** усё звóдзіцца да аднагó і тагó ж

**Láufen** *n* -s беганíна, бéганне; ***im ~*** на бягý

**láufend** *a* 1) бягýчы, якí бяжы́ць; ***am ~en Band*** па канвéеры 2) бягýчы; цяпéрашні; ***~en Jáhres*** гэ́тага гóда, сёлетні; ***der ~e Méter*** пагóнны метр **2.** *adv* беспераы́нна, безупы́нна; ***die Préise stéigen ~*** цэ́ны растýць безупы́нна; ***auf dem Láufenden sein [bléiben*]*** быць у кýрсе падзéй; ***j-n auf dem Láufenden hálten**** трымáць кагó-н. у кýрсе (спрáвы)

**Läufer** *m* -s, - 1) бягýн; лы́жнік, канькабéжац 2) паўабарóнца (*у футболе*) 3) *шахм.* слон 4) дарóжка, хóднік 5) *тэх.* рóтар; бегунóк

**Lauferéi** *f* -, -en беганíна

**Läuferreihe** *f* -, -n лíнія паўабарóны (*футбол*)

**Láuffeuer** *n* -s *вайск.* бéглы агóнь

**Láufgang** *m* -(e)s, -gänge прахóд, калідóр

**Láufgitter** *n* -s, - дзіця́чы манéжык

**Láufgraben** *m* -s, -gräben *вайск.* траншэ́я; ***éinen ~ zíehen**** капáць траншэ́ю

**Láufjunge** *m* -n, -n *гл.* Láufbursche

**läufig** *a дыял.* звы́клы, вядóмы

**Láufkran** *m* -(e)s, -kräne *тэх.* маставы́ кран

**Láufmasche** *f* -, -n вóчка, якóе спусцíлася (*у панчохах*); ***~n áufnehmen**** падня́ць [сабрáць] вóчкі

**Láufmündung** *f* -, -en дýла ствалá; жэ́рла гармáты

**Láufpass** *m* -es *разм.* адстáўка, звальнéнне, разлíк; ***j-m den ~ gében**** *разм.* звóльніць кагó-н.; *іран.* даць адстáўку камý-н., прагнáць кагó-н.

**Láufrad** *n* -(e)s, -räder *тэх.* апóрнае [вядýчае] кóла

**Láufriemen** *m* -s, - *тэх.* прываднý пас

**Láufschritt** *m* -(e)s, -e крóкі пóдбегам; ***im ~*** бягóм; ***im ~ marsch!*** бягóм марш! (*каманда*)

**Láufzeit** *f* -, -en 1) тэ́рмін дзéяння 2) *тэх.* пацягласць хóду; мотарэсýрс 3) *фіз.* час прабéгу (*хвалі*) 4) *спарт.* час бéгу

**Láuge** *f* -, -n 1) *хім.* шчóлач 2) *перан.* жоўць, атрýта ; ***die ~ des Spóttes [des Hóhnes]*** éдкі саркáзм [насмéшак, кпíнаў]

**láugen** *vt* вышчалóчваць; вылугóўваць

**Láuheit** *f* -, **Láuigkeit** *f* - 1) сярэ́дняя тэмператýра [цеплыня́] 2) *перан.* раўнадýшша, абыя́кавасць

**Láune** *f* -, -n 1) настрóй, гýмар; ***gúter ~ sein, bei [in] gúter ~ sein*** быць у гумóры; ***j-n in üble ~ versétzen*** сапсавáць настрóй камý-н. 2) капры́з; ***~n des Glücks*** капры́зы фартýны; ***~n háben*** капры́зіць, капры́знічаць

**láunenhaft** *a* капры́зны

**Láunenhaftigkeit** *f* -, -en 1) капры́з, наравíстасць, дзівáцтва 2) змéнлівасць,

пераме́нлівасць, няўсто́йлівасць
**láunig** *a* паце́шны, вясёлы
**láunisch** *гл.* láunenhaft
**Laureát** *m* -en, -en лаўрэа́т
**Laus** *f* -, Läuse во́ш(ка); *pl* во́шы ◊ ***ihm ist éine ~ über die Léber geláufen [gekróchen]*** *разм.* ён не ў гумо́ры [не ў настро́і] ◊ ***j-m Läuse in den Pelz sétzen*** *разм.* рабі́ць каму́-н. непрые́мнасці
**Láusbub(e)** *m* -n, -n *разм.* блазню́к, жэ́ўжык, свавольнік, ві́сус
**láuschen** *vi* 1) (*D*) прыслухо́ўвацца 2) падслухо́ўваць; віжава́ць
**Láuscher** *m* -s, - 1) *паляўн.* ву́ха (*ваўка, лісіцы*) 2) той, хто падслухо́ўвае; шпіён, віж
**láuschig** *a* ці́хі; уту́льны; адасо́блены
**Láusebengel** *m* -s, - *гл.* Láusbub(e)
**láusen** **1.** *vt* шука́ць во́шай (*у каго-н.*) **2.** ***~, sich*** шука́ць во́шай (*у сябе*)
**láusig** *a* 1) вашы́вы 2) *разм.* абы-які́, ва́рты жа́лю
**laut I 1.** *a* гу́чны, шу́мны; галаслі́вы; ~ ***wérden*** стаць вядо́мым, пашы́рыцца, распаўсю́дзіцца **2.** *adv* гу́чна, галаслі́ва, шу́мна
**laut II** *prp* (*G*) адпаве́дна, па(во́дле), у адпаве́днасці з…, згóдна з…
**Laut** *m* -(e)s, -e гук, тон; ***kéinen ~ von sich (D) gében**** не вымаўля́ць ні сло́ва, не выдава́ць ні гу́ку
**láutbar**: ~ ***wérden*** атрыма́ць агало́ску, стаць вядо́мым
**Láute** *f* -, -n *муз.* лю́тня
**láuten** *vi* 1) гуча́ць 2) гавары́ць, све́дчыць; ***das Gesétz láutet*** зако́н гаво́рыць
**läuten** *vt*, *vi* звані́ць; звіне́ць; ***es [man] läutet!*** звано́к! [зво́няць!]; ***Sturm [Féuer]*** ~ біць у наба́т [звон] ◊ ***er hat's ~ hören, aber nicht zusámmenschlagen*** ≅ ён чуў звон, ды не ве́дае, дзе ён
**láuter 1.** *a* 1) чы́сты 2) сумле́нны **2.** *adv* выклю́чна, скрозь, спрэс ◊ ***den Wald vor ~ Bäumen nicht séhen**** за дрэ́вамі не ба́чыць ле́су
**Láuterkeit** *f* - 1) чыстата́, я́снасць 2) сумле́ннасць
**läutern** *vi* ачышча́ць; *пераң. тс.* надава́ць высакаро́днасць
**Läuterung** *f* - ачышчэ́нне; *пераң. тс.* нада́нне высакаро́днасці
**Läut(e)werk** *n* -(e)s, -e 1) электры́чны звано́к, гукава́я сігналіза́цыя 2) механі́зм бо́ю (*у гадзінніку*) 3) будзі́ннік
**láuthals**: ~ ***láchen*** гу́чна рагата́ць
**lautíeren** *vt* чыта́ць па склада́х
**Lautíermethode** *f* -, -n гукавы́ ме́тад (*навучання чытанню*)
**Láutlehre** *f* -, -n фане́тыка
**láutlich** *a* гукавы́, фанеты́чны
**láutlos** *a* бязгу́чны, ці́хі, маўклі́вы
**Láutlosigkeit** *f* - цішыня́; маўча́нне
**Láutmalerei** *f* -, -en гукаперайма́нне
**Láutschrift** *f* -, -en транскры́пцыя
**Láutsprecher** *m* -s, - гучнагавары́льнік, дына́мік
**láutstark** *a* гу́чны, мо́цны
**Láutstärke** *f* - сі́ла гу́ку, гу́чнасць
**Láutung** *f* -, -en гуча́нне, вымаўле́нне (*якога-н.*) гу́ку
**Láutverschiebung** *f* -, -en *лінгв.* перахо́д [пераб́ой] зы́чных
**Láutverstärker** *m* -s, - гукаўзмацня́льнік, мікрафо́н
**láuwarm** *a* цеплава́ты
**Láva** [-va] *f* -, -ven *мін.* ла́ва
**Lavéndel** [-v-] *m* -s, - *бат.* лава́нда
**lavíeren** [-v-] *vi* выкру́чвацца, круці́цца туды́-сюды́, лаві́раваць
**Lawíne** *f* -, -n лаві́на, снегавы́ абва́л
**lax** *a* 1) вя́лы, дру́злы, сла́бы 2): ***~e Sítten*** распу́шчаныя но́равы; ***~e Morál*** хі́сткая мара́ль
**laxíeren 1.** *vt мед.* ачышча́ць, аслабля́ць (*страўнік*) **2.** *vi* хварэ́ць на пано́с
**Lazarétt** *n* -(e)s, -e шпіта́ль, лазарэ́т
**Leader** ['li:-] *m* -s, - лі́дэр (*у розн. знач.*)
**Leásing-Unternehmen** ['li:-] *n* -s, - арэ́нднае прадпрые́мства
**Leasing** ['li:] *n* –s, -s *эк.* лі́зінг
**Lebehóch** *n* -s, - *i* -s тост; ура́!; ***ein ~ spréchen**** гавары́ць тост [здра́віцу]
**lébelang**: ***(all) mein ~*** *разм.* усё (сваё) жыццё

**Lébemann** *m* -(e)s, -männer марнатрáвец жыццЯ́; гулЯ́ка

**lében** *vi* жыць, быць, існавáць; ***flott ~*** жыць шырóка; жыць лёгка [бестурбóтна]; ***frei ~*** жыць на свабóдзе; ***in den Tag hinéin ~*** жыць бестурбóтна, жыць сённяшнім днём; ***von séiner Árbeit ~*** жыць сваёй прáцай; ***es lebt sich gut*** жывéцца дóбра; ***es lébe…!*** няхáй жывé…!; ***lébe wohl!*** бывáй! будзь здарóў!

**Lében** *n* -s, - 1) жыццё, існавáнне; ***ins ~ tréten**** уступáць у жыццё; ***am ~ bléiben**** застáцца жывы́м; ***ums ~ kómmen**** загíнуць; ***mit dem ~ davónkommen**** вы́ратаваць сваё жыццё; ***~ und Tréiben*** жыццё-быццё; ***das ~ genießen**** мець асалóду ад жыццЯ́; ***sich (D) das ~ leicht máchen*** не турбавáцца ні аб чым; ***am ~ hängen**** любíць сваё жыццё; ***in méinem gánzen ~*** за ўсё сваё жыццё; ***fürs gánze ~*** на ўсё жыццё; ***sich (D) das ~ néhmen**** пакóнчыць з сабóю, пазбáвіць сябé жыццЯ́; ***~ spéndend*** жыватвóрны; ***~ sprühend*** жыццярáдасны, пóўны жыцця 2) жыццё, ажыўлéнне, рух; ***das ~ ist erstórben*** жыццё замéрла; ***das ~ in die Búde bríngen**** *разм.* унéсці ажыўлéнне ў кампáнію; ***ins ~ rúfen**** вы́клікаць да жыццЯ́; стварáць (*што-н.*); паклáсці пачáтак (*чаму-н.*)

**lébend 1.** *a* які́ жывé, жывы́ **2.** *adv* жыўцóм, жывы́м

**Lébendgewicht** *n* -(e)s жывáя вагá (*жывёлы*)

**lebéndig 1.** *a* 1) жывы́ 2) пóўны жыццЯ́, жвáвы **2.** *adv* жвáва, ажы́ўлена

**Lebéndigkeit** *f* - ажы́ўленасць, жвáвасць

**Lébensabend** *m* -(e)s, -e стáрасць; ***am ~*** на схíле дзён

**Lébensabschnitt** *m* -(e)s, - перы́яд жыццЯ́

**Lébensalter** *n* -s, - узрóст, век (*чалавека*)

**Lébensart** *f* -, -en 1) лад [спóсаб] жыццЯ́ 2) павóдзіны; вéтлівасць

**Lébensaufgabe** *f* -, -n мэ́та жыццЯ́

**Lébensbedingungen** *pl* умóвы жыццЯ́, бытавы́я ўмóвы

**Lébensbedürfnisse** *pl* жыццёвыя патрэ́бнасці

**lébensbejahend** *a* жыццесцвярджáльны

**Lébensbeschreibung** *f* -, -en біягрáфія, жыццяпíс

**Lébensdauer** *f* - 1) працЯ́гласць жыццЯ́; ***auf die ~*** на ўсё жыццё, назаўсёды 2) *тэх.* тэ́рмін слу́жбы

**lébensecht** *a* праўдзíвы, жыццёвы

**Lébenserfahrung** *f* -, -en жыццёвы вóпыт

**lébensfähig** *a* жыццяздóльны, жыву́чы

**Lébensfähigkeit** *f* - жыццяздóльнасць, жыву́часць

**Lébensfreude** *f* - жыццярáдаснасць

**Lébensführung** *f* -, -en лад [спóсаб] жыццЯ́, павóдзіны

**Lébensfunktion** *f* -, -en жыццядзéйнасць

**Lébensgang** *m* -(e)s жыццёвы шлях, жыццёвая дарóга

**Lébensgefahr** *f* - небяспéка для жыццЯ́, смярóтная небяспéка; ***áußer ~ sein*** быць па-за небяспéкай

**lébensgefährlich** *a* небяспéчны для жыццЯ́

**Lébensgefährte** *sub m* -n, -n спадарóжнік жыццЯ́

**Lébensgeister** *pl* жыццёвыя сíлы; ***séine ~ wúrden wíeder wach*** ён ажывíўся

**Lébensgemeinschaft** *f* - 1) сумéснае жыццё, шлюб 2) *біял.* сімбіёз

**lébensgroß** *a* ва ўвесь рост, у натурáльную велічынЮ́

**Lébensgröße** *f* - натурáльная велічынЯ́

**Lébenshaltung** *f* -, -en 1) жыццёвы ўзрóвень 2) уклáд жыццЯ́, пóбыт

**Lébensinhalt** *m* -(e)s змест жыццЯ́, памкнéнні [інтарэ́сы] у жыццí

**Lébensjahr** *n* -(e)es, -e год жыццЯ́

**Lébenskraft** *f* -, -kräfte жыццёвая энéргія; жыву́часць

**lébenskräftig** *a* жыццяздóльны

**Lébenslage** *f* -, -n вару́нкі [абстáвіны] жыццЯ́; ***sich in jéder ~ zuréchtfinden**** знахóдзіць вы́хад з любóга станóвішча; ***jéder ~ gewáchsen sein*** быць на вышынí (станóвішча) пры любы́х абстáвінах

**lébenslang 1.** *adv* (праз) усё жыццё **2.** *a* які́ працЯ́гваецца [захóўваецца] на ўсё жыццё

**lébenslänglich 1.** *a* пажыццёвы; ***j-n zu ~er Haft verúrteilen*** прыгаварыць каго́-н. да пажыццёвага зняво́лення **2.** *adv* усё жыццё

**Lébenslauf** *m* -(e)s, -läufe 1) жыццё 2) біягра́фія, жыццяпі́с

**Lébenslicht** *n* -(e)s *паэт.* жыццё

**Lébenslust** *f* - жыццяра́даснасць

**lébenslustig** *a* жыццяра́дасны, вясёлы

**Lébensmittel** *pl* харчы́, праду́кты харчава́ння

**Lébensmittelgeschäft** *n* -(e)s, -e прадукто́вы магазі́н

**Lébensmittelindustrie** *f* - харчо́вая прамысло́васць

**Lébensmittelkarte** *f* -, -n прадукто́вая ка́ртка

**Lébensmittelversorgung** *f* -, -en забеспячэ́нне харчава́ннем [праду́ктамі]

**lébensmüde** *a* сто́млены ад жыцця́

**Lébensmut** *m* -(e)s жыццяра́даснасць, жва́васць, бадзёрасць, эне́ргія

**Lébensniveau** [-vo:] *n* -s, -s узро́вень жыцця́

**Lébensstandard** *m* -s, -s жыццёвы ўзро́вень

**Lébensstellung** *f* -, -en грама́дскае стано́вішча; паса́да, слу́жба; ***gesícherte ~*** трыва́лае [мо́цнае, грунто́ўнае] стано́вішча

**Lébensüberdruss** *m* -es пе́расыць жыццём

**Lébensumstände** *pl* бытавы́я ўмо́вы, умо́вы жыцця́

**Lébensunterhalt** *m* -(e)s пражы́так, prакóрм

**Lébensverhältnisse** *pl* жыццёвыя ўмо́вы [вару́нкі]

**Lébensversicherung** *f* -, -en страхава́нне жыцця́

**Lébensvorräte** *pl* харчо́выя прыпа́сы

**Lébenswandel** *m* -s лад [спо́саб] жыцця́, паво́дзіны

**Lébensweg** *m* -(e)s, -e жыццёвы шлях, жыццёвая даро́га

**Lébensweise** *f* - лад [спо́саб] жыцця́

**Lébenswerk** *n* -(e)s, -e спра́ва ўсяго́ жыцця́

**Lébenszeichen** *n* -s, - прыкме́та жыцця́; ***kein ~ von sich (D) gében**** не падава́ць ніякіх прыкме́т жыцця́

**Lébenszeit** *f* -, -en жыццё, час жыцця́; ***auf ~*** на ўсё жыццё, назаўсёды

**Lébensziel** *n* -(e)s, -e мэ́та жыцця́

**Léber** *f* -, -n *анат.* пячо́нка; ***frei [frisch] von der ~ (weg) spréchen**** гавары́ць без хітрыкаў [шчы́ра, адкры́та]; ***was ist dir in die ~ gekróchen [geláufen]?*** ≅ яка́я му́ха цябе́ ўкусі́ла?

**Léberfleck** *m* -(e)s, -e радзі́мы знак, радзі́мка

**Léberkäse** *m* - s, - лі́верны паштэ́т

**léberkrank** *a* хво́ры на пячо́нку

**Léberpastete** *f* -, -n по́нчык з пячо́нкай

**Lébertran** *m* -s ры́бін тлушч

**Léberwurst** *f* -, -würste лі́верная каўбаса́

**Lébewesen** *n* -s, - істо́та, жывы́ арганізм

**Lébewohl** *n* -(e)s, -e *i* -s развіта́нне; ***j-m ~ ságen*** разві́твацца з кім-н.; ***das létzte ~*** апо́шняе «быва́й»

**lébhaft 1.** *a* ажы́ўлены, жывы́, жва́вы, бо́йкі **2.** *adv* жва́ва, ажы́ўлена

**Lébhaftigkeit** *f* - ажы́ўленасць, жва́васць, бо́йкасць

**Lébkuchen** *m* -s, - пе́рнік

**léblos** *a* 1) мёртвы, без прыкме́т жыцця́, змярцве́лы 2) вя́лы, нежывы́

**Lébtag** *m*: ***mein ~*** (за) усё (маё) жыццё

**Lébzeiten** *pl*: ***bei ~*** пры жыцці́; ***zu méines Váters ~*** пры жыцці́ майго́ ба́цькі

**léchzen** *vi* (*nach D*) 1) пра́гнуць, жада́ць (*чаго-н.*) 2) сма́гнуць, хаце́ць піць

**leck** *a* ляда́чы, ляда́шчы, з це́ччу; ***~ sein [wérden]*** цячы́, дава́ць це́чу, мець працёк (*пра судна, бочку*)

**Leck** *n* -(e)s, -e працёк, прабо́іна

**lécken 1.** *vt* лізаць **2.** *vi* цячы́, працяка́ць

**lécker** *a* 1) сма́чны 2) ла́сы, ахво́чы (*да смачнага*)

**Lécker** *m* -s, - 1) *разм.* ласу́н, ласу́ха, гурма́н 2) падлі́за, падхалі́м

**Léckerbissen** *m* -s, - сма́чны кава́лак; ласу́нак, далікатэ́с

**Leckeréi** *f* -, -en 1) ласу́нак 2) перабо́рлівасць (*у ядзе*)

**Léckermaul** *n* -(e)s, -mäuler ласу́н

**Léder** *n* -s, - 1) скýра (*вырабленая*); ***ein díckes ~ háben*** *перан.* быць таўстаскýрым 2) футбóльны мяч ◊ ***j-m das ~ gérben*** аддубáсіць кагó-н.; ***(zú)schlágen* was das ~ hält*** *разм.* удáрыць з усíх сіл ◊ ***aus frémdem ~ ist gut Ríemen schnéiden*** ≅ быць дóбрым за чужы́ кошт

**Léderband** *m* -(e)s, -bänder кніга ў скураны́м пераплёце

**Lédereinband** *m* -(e)s, -bände скураны́ пераплёт (*кнігі*)

**Léderhandschuh** *m* -(e)s, -e скуранáя пальчáтка

**Léderhose** *f* -, -n скураны́я штаны́

**Léderindustrie** *f* -, -ri¦en гарбáрная прамыслóвасць

**Léder|jacke** *f* -, -n, **~joppe** *f* -, -n скуранáя кýртка

**lédern** I *a* 1) скураны́ 2) *разм.* занýдлівы, занýдны

**lédern II 1.** *vt* 1) дубíць 2) абшывáць скýрай **2. ~, *sich*** *разм.* знемагáць ад нуды́ [тугí, смýтку]

**Léderwaren** *pl* скураны́я тавáры

**Léderzurichter** *m* -s, - гарбáр

**lédig** *a* 1) нежанáты, кавалéр, незамýжняя 2) пусты́, вакáнтны, свабóдны; ***áller Sórgen ~*** свабóдны ад усякíх турбóт [ад усялякага клóпату]

**Lédigenheim** *n* -(e)s, -e інтэрнáт для халасцякóў і незамýжніх

**lédiglich** *adv* тóлькі, выклю́чна

**Lee** *f* - *марск., ав.* падвéтраны бок

**leer 1.** *a* пусты́, парóжні; ~ ***stéhend*** пусты́, парóжні; незаня́ты (*пра памяшканне*); ***ein ~es Geréde*** пусты́я размóвы; ***ins Léere gréifen**** не знайсці апóры ◊ ***~es Stroh dréschen**** ≅ пералівáць з пустóга ў парóжняе; таўчы́ вадý ў стýпе **2.** *adv* паражнякóм; ***ein Zímmer ~ míeten*** наня́ць пакóй без мэ́блі ◊ ~ ***áusgehen**** ≅ пайсці, шы́лам пáтакі схапíўшы; пайсці, слінý каўтнýўшы

**=leer** *паўсуф. прыметнікаў, указвае на адсутнасць у прадмета той ці іншай прыкметы ці ўласцівасці:* lúftleer беспавéтраны

**Léere** *f* - пустатá, пустэ́ча; паражня́к; вáкуум; ***géistige ~*** бездухóўнасць

**léeren 1.** *vt* апаражня́ць, апусташáць; ***den Bríefkasten ~*** вымáць пíсьмы з паштóвай скры́нкі **2. ~, *sich*** пусцéць; ***die Stráßen léerten sich*** вýліцы апусцéлі

**Léergewicht** *n* -(e)s, -e *чыг.* вагá тáры; *ав.* мáса пустóга самалёта

**Léerlauf** *m* -(e)s *тэх.* халасты́ ход

**Léerschuss** *m* -es, -schüsse халасты́ вы́страл [стрэл]

**Léerung** *f* -, -en апаражнéнне

**Léeseite** *f* -, -n *марск.* падвéтраны бок

**Léfze** *f* -, -n губá (*у жывёл*)

**legál** *a* легáльны, закóнны

**legalisíeren** *vt* легалізавáць

**Legalitä́t** *f* - легáльнасць, закóннасць

**Legát I** *n* -(e)s, -e легáт, завяшчáнне

**Legát II** *m* -en, -en легáт, упаўнавáжаны ры́мскага пáпы

**Legatár** *m* -s, -e легатáр; той, хто атры́млівае штó-н. па завяшчáнню

**Legatión** *f* -, -en пасóльства, мíсія

**Lég(e)henne** *f* -, -n, **Lég(e)huhn** *n* -(e)s, -hühner кýрыца-нясýшка

**légen 1.** *vt* 1) клáсці, палажы́ць; ***von sich (D) etw.*** ~ зняць з сябé штó-н. (*частку вопраткі*); ***ein Schloss vor die Tür*** ~ павéсіць замóк на дзвéры 2) уклáдваць (*трубы*); стáвіць (*міны*); ***den Fúßboden*** ~ насцілáць падлóгу 3) садзíць (*бульбу і т.п.*) 4): ***Éier*** ~ нéсці [клáсці] я́йкі; ***j-m Kárten*** ~ варажы́ць камý-н. на кáртах; ***Wert [Gewícht] auf etw. (A)*** ~ надавáць значэ́нне чамý-н.; ***den Grund zu etw. (D)*** ~ паклáсці аснóву чамý-н.; ***den Hund an die Kétte*** ~ пасадзíць [навязáць] сабáку на ланцýг; ***ein Haus in Ásche*** ~ спалíць дом датлá [дашчэ́нту]; ***in Trümmer*** ~ разруйнавáць, разбуры́ць; ***Híndernisse in den Weg*** ~ рабíць перашкóды; ***j-m etw. (A) zur Last*** ~ абвінавáчваць кагó-н. у чым-н. **2. ~, sich** 1) клáсціся, лажы́цца; ***sich zu Bett*** ~ клáсціся спаць; ***sich vor Ánker*** ~ стаць на я́кар 2) сціхáць; ***der Sturm légte sich*** бýра сцíхла; ***sich auf etw. (A)*** ~

энергíчна брáцца за што-н.; ***sich aufs [auf das] Bítten*** ~ перайсцí да прóсьбаў; ***sich für j-n ins Zeug*** ~ заступíцца за кагó-н.; ***sich in die Rúder [ins Rúder]*** ~ налéгчы на вёслы; заўзя́та ўзя́цца за спрáву; *разм.* нацíснуць на што-н.

**legendär** *a* легендáрны, кáзачны

**Legénde** *f* -, -n легéнда, падáнне

**legéndenhaft** *a* легендáрны

**leger** [-ˈʒɛ:r] *a* 1) лёгкі, (занáдта) вóльны 2) неахáйны

**legíeren I** *vt* сплаўля́ць, легíраваць (*металы*)

**legíeren II** *vt* завяшчáць

**Legíerung** *f* -, -en *тэх.* сплаў, лігатýра

**Legíerungstahl** *m* -(e)s, -stähle *i* -e легíраваная сталь

**Legión** *f* -, -en 1) легiён 2) *перан.* легiён, вялíкая кóлькасць, мнóства

**Legionär** *m* -s, -e легiянéр

**Legislatíve** [-və] *f* -, -n заканадáўчы сход, заканадáўчая ўлáда

**Legislatúr** *f* -, -en заканадáўчыя óрганы; заканадáўства

**Legislatúrperiode** *f* -, -en перы́яд [тэ́рмін] дзéйнасці заканадáўчага óргана, тэ́рмін склікáння

**legitím** *a* закóнны, легіты́мны

**Legitimatión** *f* -, -en, **Legitimatiónsschein** *m* -(e)s, -e пасвéдчанне асóбы

**legitimíeren 1.** *vt* 1) узакóньваць 2) засвéдчыць чыю́-н. асóбу **2. ~, *sich*** засвéдчыць сваю́ асóбу

**Legitimität** *f* - закóннасць, легіты́мнасць

**Leguán** *m* -s, -e *заал.* легуáн

**Léhen** *n* -s, - *гіст.* лен; лéннае памéсце

**Lehm** *m* -(e)s, -e глíна, суглíнак

**Léhmboden** *m* -s, - *i* -böden 1) суглíнак 2) гліня́ная падлóга

**Léhmhütte** *f* -, -n мáзанка

**léhmig** *a* глíністы, абмáзаны глíнай

**Léhne** *f* -, -n спíнка (*крэсла*)

**léhnen 1.** *vt* (*an, gegen A*) прыхіля́ць, прыстаўля́ць (*да чаго-н.*) **2. ~, *sich*** 1) (*an, gegen A*) прыпірáцца, прыхіля́цца (*да чаго-н.*), абапірáцца, аблакóчвацца (*на што-н.*) 2) (*über A*) перавéшвацца (*цераз што-н.*); ***sich aus dem Fénster*** ~ высóўвацца з акнá

**Léhnsessel** *m* -s, - крэ́сла

**Léhnsherr** *m* -n, -en *гіст.* сюзерэ́н, феадáл

**Léhnsmann** *m* -(e)s, -männer *i* -leute *гіст.* лéннік, васáл

**Léhnstuhl** *m* -(e)s, -stühle *гл.* Léhnsessel

**Léhnübersetzung** *a* -, -en *лінгв.* кáлька

**Léhnwort** *n* -(e)s, -wörter запазы́чанае слóва

**Léhramt** *n* -(e)s, -ämter пасáда настáўніка

**Léhranstalt** *f* -, -en навучáльная ўстанóва

**Léhrart** *f* -, -en мéтад выкладáння

**Léhrauftrag** *m* -(e)s, -träge нагрýзка (*выкладчыка*); курс (*прафесара*)

**Léhrausbilder** *m* -s, - мáйстар вытвóрчага навучáння

**Léhrbeauftragte** *sub m, f* -en, -en выклáдчык

**Léhrbrief** *m* -(e)s, -e 1) пасвéдчанне аб заканчэ́нні (вытвóрчага) навучáння 2) *пед.* метады́чнае пісьмó

**Lehr** *n* -(e)s, -e *тэх.* узóр, мадэ́ль; калíбр, шаблóн

**Léhrbuch** *n* -(e)s, -bücher падрýчнік

**Léhre** *f* -, -n 1) вучэ́нне, тэóрыя, дактры́на 2) навучáнне, вучóба; ***j-n in die ~ gében**** аддáць кагó-н. у вучэ́нне [навучáнне]; ***bei j-m in der ~ sein*** быць у навучáнні ў кагó-н. 3) *перан.* урóк, навучáнне; ***j-m éine ~ ertéilen*** правучы́ць кагó-н.; ***das soll dir éine ~ sein!*** гэ́та табé навýка!; ***~n aus etw. (D) zíehen**** атрымáць урóк з чагó-н. 4) *гл.* Lehr

**léhren** *vt* вучы́ць, навучáць, выкладáць; *іран.* павучáць; ***das wird die Zúkunft*** ~ гэ́та бýдучыня пакáжа

**Léhrer** *m* -s, - настáўнік, выклáдчык

**Léhrerschaft** *f* -, -en настáўніцкі калекты́ў (*школы*); настáўніцтва, настáўнікі

**Léhrervortrag** *m* -(e)s увядзéнне настáўнікам нóвага матэрыя́лу (*на уроку*)

**Léhrerweiterbildung** *f* - павышэ́нне кваліфікáцыі настáўнікаў

**Léhrfach** *n* -(e)s, -fächer дысцыплíна, (навучáльны) прадмéт, прадмéт выкладáння

**Léhrgang** *m* -(e)s, -gänge 1) педагагíчны працэ́с 2) навучáльны курс; ***in den ~ áufnehmen**** прымáць на кýрсы; ***es láufen Léhrgänge für Dólmetscher*** працýюць кýрсы перакладчыкаў

**Léhrgangsteilnehmer** *m* -s, - слухáч кýрса

**Léhrgangsvertreter** *m* -s, - стáраста кýрса

**Léhrgegenstand** *m* -(e)s, -stände дысцыплíна, прадмéт выкладáння

**Léhrgeld** *n* -es, -er плáта за навучáнне; ***~ záhlen*** *перан.* вучы́цца на гóркім вóпыце

**léhrhaft** *a* 1) дыдакты́чны, павучáльны 2) мéнтарскі

**Léhrjahr** *n* -(e)s, -e навучáльны год

**Léhrkörper** *m* -s, - прафéсарска-выклáдчыцкі склад (*навучальнай установы*)

**Léhrkraft** *f* -, -kräfte педагóг, настáўнік, выклáдчык

**Léhrling** *m* -s, -e вýчань (*на прадпрыемстве*)

**Léhrmaterial** *n* -s, -i¦en навучáльны [вучэ́бны] матэрыя́л

**Léhrmeister** *m* -s, - 1) мáйстар у вучэ́бнай майстэ́рні 2) *перан.* настáўнік

**Léhrmittel** *n* -s, - навучáльны дапамóжнік

**Léhrmittelfreiheit** *f* - забеспячэ́нне бясплáтнымі вучэ́бнымі дапамóжнікамі

**Léhrplan** *m* -(e)s, -pläne навучáльны [вучэ́бны] план

**léhrreich** *a* павучáльны

**Léhrsaal** *m* -(e)s, -säle аўдытóрыя

**Léhrsatz** *m* -es, -sätze 1) навукóвае палажэ́нне, тэ́зіс 2) тэарэ́ма

**Léhrstelle** *f* -, -n мéсца навучáння

**Léhrstoff** *m* -(e)s, -e навучáльны [вучэ́бны] матэрыя́л

**Léhrstuhl** *m* -(e)s, -stühle кáфедра; ***Proféssor mit ~*** прафéсар загáдчык кáфедры

**Léhrtätigkeit** *f* - педагагíчная дзéйнасць

**Léhrton** *m* -(e)s мéнтарскі тон

**Léhr|werkstatt** *f* -, -stätten, **~werkstätte** *f* -, -n майстэ́рня, майстэ́рня пры шкóле

**Léhrzeit** *f* -, -en час навучáння

**Leib** *m* -(e)s, -er 1) цéла, тýлава; ***am gánzen ~ zíttern*** дрыжáць [трэ́сціся, калацíцца] усíм цéлам; ***etw. am éigenen ~e verspüren*** зазнáць [звéдаць] што-н. на сабé [на ўлáсным вóпыце, на ўлáснай шкýры]; ***bei lebéndigem ~e*** зáжыва; ***er ist mit ~ und Séele bei der Sáche*** ён аддáны спрáве душóй і цéлам 2) жывóт, чэ́рава; нутрó; ***geségneten ~es sein*** *паэт.* быць у стáне цяжáрнасці, чакáць дзíцяці; ***mir geht's im ~e herúm*** у мянé ўсё балíць ◊ ***bleib mir (damít) vom ~e!*** адчапíся ты ад мянé!; ***sich (D) j-n vom ~e hálten**** трымáцца ад какó-н. на адлéгласці, не падпускáць какó-н. блíзка да сябé; ***éiner Sáche (D) auf den ~ rücken*** энергíчна ўзя́цца за штó-н.; ***es geht mir an den ~*** гэ́та прымáе для мянé дрэ́нны абарóт; ***ein ~ und éine Séele sein*** жыць душá ў душý; ***mit ~ und Séele*** усёй душóй; ***das ist ihm auf den ~ geschríeben*** ён бы́ццам ствóраны [нарадзíўся] для гэ́тага; ***~ und Lében éinsetzen [wágen]*** пастáвіць усё на кáрту, рызыкавáць усім

**Léibchen** *n* -s, - лíфчык, стáнік, гарсэ́т

**Léibchenrock** *m* -(e)s, -röcke сарафáн

**Léibeigene** *sub m, f* -n, -n *гіст.* прыгóнны, -ная

**Léibeigenschaft** *f* - *гіст.* прыгóннае прáва

**Léibeserbe** *m* -n, -n прамы́ наслéднік

**Léibesfrucht** *f* -, -früchte зарóдак, плод

**Léibeskraft** *f* -, -kräfte фізíчная сíла; ***aus Léibeskräften*** з усíх сіл

**Léibesübungen** *pl* фізíчныя практыкавáнні

**Léibesvisitation** *f* -, -en вóбыск (асóбы)

**Léibgarde** *f* - лейб-гвáрдыя

**Léibgericht** *n* -(e)s, -e улюбёная [любíмая] стрáва

**léibhaft(ig)** *a* увасóбленаы; *перан.* вы́літы, жывы́

**léiblich** *a* 1) цялéсны, фізíчны 2) рóдны; ***~er Brúder*** рóдны брат

**Leibháftige** *sub m* -n нячы́сты [злы] дух, сатанá, д'я́бал

**Léibrente** *f* -, -n пажыццёвая рэ́нта

**Léibriemen** *m* -s, - *вайск.* паясны́ рэ́мень, папрýга

**Léibschmerz** *m* -es, -en боль у жываце́
**Léibwache** *f* -, -en асабі́стая ахо́ва
**Léibwächter** *m* -s, - целаахо́ўнік
**Léibwäsche** *f* - спо́дняя бялі́зна
**Léiche** *f* -, -n труп, (мёртвае) це́ла, мярцвя́к ◊ ***über ~n géhen**** ступа́ць па тру́пах; дзе́йнічаць бязлі́тасна
**léichenartig** *a* падо́бны да тру́па, змярцве́лы
**Léichen|begängnis** *n* -ses, -se, **~begräbnis** *n* -ses, -se пахава́нне, хаўту́ры
**Léichenbittermiene** *f* -, -n *разм.* вы́раз тва́ру як на хаўту́рах, журбо́тны твар
**léichenblass** *a* бле́дны як смерць, спалатне́лы
**Léichenhalle** *f* -, -n трупя́рня
**Léichenmahl** n -(e)s, -mähler *i* -e памі́нкі; жало́бны абе́д
**Léichenrede** *f* -, -n пахава́льная прамо́ва, надмагі́льнае сло́ва
**Léichenschmaus** *m* -es, -schmäuse *гл.* Léichenmahl
**Léichentuch** *n* -(e)s, -tücher са́ван
**Léichenverbrennung** *f* -, -en крэма́цыя
**Léichenwagen** *m* -s, - катафа́лк
**Léichenzug** *m* -(e)s, -züge пахава́льная працэ́сія
**Léichnam** *m* -s, -e труп, мёртвае це́ла
**leicht 1.** *a* 1) лёгкі; ***ein ~er Schlaf*** чу́ткі сон 2) невялі́кі, нязна́чны; ***mit j-m ~es Spiel háben*** лёгка спра́віцца з кім-н.; ***etw. von der ~en Séite néhmen**** не браць што-н. да галавы́; ***er ist ~ gekränkt*** ён ве́льмі лёгка кры́ўдзіцца **2.** *adv* лёгка; злёгку, мімахо́дзь, крыху́; ***das ist ~ möglich*** гэ́та ве́льмі лёгка мо́жа быць; ***~ erkältet sein*** быць крыху́ прасту́джаным; ***~ fállen**** лёгка дава́цца; ***etw. ~ néhmen**** лёгка глядзе́ць на што-н., легкаду́мна ста́віцца да чаго́-н.; ***~ verdérblich*** нетрыва́лы, які́ ху́тка псуе́цца (*прадукт*); ***~ verständlich*** зразуме́лы, лёгка ўспрыма́льны; ***~ verwúndet*** лёгка пара́нены
**Léichtathlet** *m* -en, -en лёгкаатле́т
**Léichtathletik** *f* - *спарт.* лёгкая атле́тыка
**Léichter** *m* -s, - *марск.* лі́хтэр, грузаво́е су́дна
**léichtfertig** *a* 1) легкаду́мны, легкава́жны, бестурбо́тны 2) непраду́маны, аванту́рны
**Léichtferigkeit** *f* - легкаду́мнасць, неабду́манасць
**Léichtfuß** *m* -es, -füße легкаду́мны [неразва́жлівы] чалаве́к; ***Brúder ~*** гуля́ка, ві́сус
**léichtfüßig** *a* грацыёзны, з лёгкай хадо́ю
**Léichtgewicht** *n* -(e)s *спарт.* лёгкая вага́
**léichtgläubig** *a* легкаве́рны
**Léichtgläubigkeit** *f* - даве́рлівасць, легкаве́рнасць
**léichtherzig** *adv з* лёгкім сэ́рцам
**léichthin** *adv* мімахо́дзь
**Léichtigkeit** *f* - лёгкасць
**Léichtindustrie** *f* -, -i¦en лёгкая прамысло́васць
**Léichtmetall** *n* -s, -e лёгкі мета́л
**Léichtsinn** *m* -(e)s легкаду́мнасць
**léichtsinnig** *a* легкаду́мны
**leid**: ***es tut mir ~*** мне шкада́, я шкаду́ю; ***sie tut mir ~*** мне яе́ шкада́
**Leid** *n* -(e)s 1) боль, паку́та 2) го́ра, сму́так; ***j-s ~ téilen*** падзялі́ць чыё-н. го́ра; ***j-m sein ~ klágen*** дзялі́цца сваі́м го́рам з кім-н.; ***dir soll kein ~ geschéhen*** цябе́ ніхто́ не пакры́ўдзіць; ***j-m ein ~ tun**** пакры́ўдзіць каго́-н., прыне́сці каму́-н. го́ра; ***~ trágen* (um, über A)*** смуткава́ць [бедава́ць, тужы́ць] (*па кім-н., чым-н.*); ***vor ~ vergéhen**** гарава́ць, бедава́ць, паку́таваць ◊ ***kein ~ óhne Freud*** ≅ няма́ лі́ха без дабра́
**Léideform** *f* -, -en *грам.* зале́жны стан
**léiden* 1.** *vt* 1) паку́таваць 2) цярпе́ць, дапуска́ць; ***Schäden ~*** цярпе́ць стра́ту; ***j-n gut [gern] ~ können* [mögen*]*** до́бра ста́віцца да каго́-н. **2.** *vi* 1) (*an D, unter D, durch A*) паку́таваць (*ад чаго-н.*) 2) (*an D*) хвара́ць (*чым-н., на што-н.*); ***únter etw. (D) ~*** паку́таваць ад чаго́-н.
**Léiden** *n* -s, - 1) паку́та 2) хваро́ба
**léidend** *a* 1) які́ паку́туе [му́чыцца] 2) хвараві́ты 3) ***die ~e Form*** *грам.* зале́жны стан

**Léidenschaft** *f* -, -en пáлкасць, страсць, палымя́насць, захаплéнне; ***das ist séine ~*** ён гэ́тым захапля́ецца; ***séinen ~en frönen [fréien Lauf lássen*]*** быць рабóм сваíх захаплéнняў, аддавáцца сваíм захаплéнням

**léidenschaftlich 1.** *a* заўзя́ты, пáлкі, стрáсны, гарáчы **2.** *adv* пáлка, гóрача, стрáсна

**Léidenschaftlichkeit** *f* - пáлкасць, стрáснасць, азáрт

**léidenschaftslos** *a* бясстрáсны

**Léidens|gefährte** *m* -n, -n, **~gefährtin** *f* -, -nen, **~genosse** *m* -n, -n, **~genossin** *f* -, -nen ся́бар у няшчáсці

**Léidensweg** *m* -(e)s, -e шлях пакýт; хаджэ́нне па пакýтах

**léider** *adv* на жаль; ***zum Éinkehren bleibt ~ kéine Zeit*** заéхаць [зайсцí] (*куды-н.*) нямá на жаль чáсу

**léidig** *a* бры́дкі, агíдны, мярзóтны

**léidlich 1.** *a* ніштавáты, цярпíмы **2.** *adv* сяк-так, ніштавáта, так сабé, давóлі

**Léidlichkeit** *f* - нядрэ́нны [ніштавáты] стан, дапушчáльнасць, цярпíмасць, памяркóўнасць

**léidlos** *a* бесклапóтны, бестурбóтны; нядбáлы

**léidtragend** *a* які́ смуткýе

**Léidtragende** *sub m, f* -n, -n той, тáя, хто смуткýе (*па блізкім памерлым*)

**Léidwesen** *n* -s смýтак, жаль; ***zu méinem ~*** на (мой) жаль

**Leier** *f* -, -n 1) лíра 2) катры́нка 3) *астран.* Лíра ◊ ***ímmer die álte ~!*** *разм.* старáя пéсня!

**Léierkasten** *m* -s, - *i* -kästen катры́нка

**léiern** *vi* 1) (і)грáць на катры́нцы 2) *разм.* гавары́ць аднó і тóе, манатóнна чытáць [гавары́ць]

**Léihamt** *n* -(e)s, -ämter ламбáрд

**Léihbibliothek** *f* -, -en бібліятэ́ка (*з выдачай кніг на дом*)

**Léihbücherei** *f* -, -en *гл.* Léihbibliothek

**Léihe** *f* -, -n 1) пазы́ка 2) пракáт 3) *разм.* ламбáрд

**léihen*** *vt* 1) (*D*) пазычáць (*што-н. каму-н.*) 2) (*von D*) пазычáць (*у каго-н.*) 3): ***j-m séinen Béistand ~*** прыйсцí камý-н. на дапамóгу; ***j-m sein Ohr ~*** вы́слухаць кагó-н.

**Léihfrist** *f* -, -en тэ́рмін абанемéнта; тэ́рмін пазы́кі

**Léihgabe** *f* -, -n вы́дача ў (часóвае) карыстáнне, вы́дача напракáт

**Léihgebühr** *f* -, -en абанемéнтная плáта (*у бібліятэцы*)

**Léihhaus** *n* -es, -häuser ламбáрд

**Léihkapital** *n* -s, -e пазыкóвы капітáл

**Léihsatz** *m* -es, -sätze *фін.* пазыкóвы працэ́нт

**léihweise** *adv* у пазы́ку; напракáт

**Leim** *m* -(e)s, -e клей; ***(ganz) aus dem ~ géhen**** рассóхнуцца [расклéіцца] (*пра мэблю*) ◊ ***j-m auf den ~ géhen* [kríechen*]*** папáсціся камý-н. на вýду [вýдачку, кручóк]; ***j-n auf den ~ lócken [führen]*** злавíць кагó-н. на вýду, ашукáць [падманýць] кагó-н.

**léimen** *vt* 1) клéіць, склéйваць 2) *разм.* ашýкваць, падмáнваць, абдýрваць

**léimig** *a* клéйкі, лíпкі

**=lein** *суф. назоўнікаў, утварае памяншальныя назоўнікі н.р.:* Tíschlein *n* стóлік

**Lein** *m* -(e)s, -e лён

**Léinbau** *m* -(e)s (і)льнавóдства

**Léine** *f* -, -n вярóўка; лéйцы, матýз ◊ ***j-n an der ~ háben*** трымáць кагó-н. у рукáх; ***~ zíehen**** *разм.* скруцíць [зматáць] вýды, зліня́ць, уцячы́; ***an dersélben ~ zíehen**** быць [дзéйнічаць] заоднó з кім-н.

**léinen** *a* (і)льняны́, палатня́ны

**Léinen** *n* -s, - 1) палатнó 2) бялíзна (*пасцельная, сталовая*)

**Léinenband** *m* -(e)s, -bände палатня́ны пераплёт (*кнігі*)

**Léinkuchen** *m* -s (і)льнянáя макýха

**Léinöl** *n* -(e)s (і)льняны́ алéй

**Léintuch** *n* -(e)s, -tücher 1) палатнó 2) прасцінá

**Léinwand** *f* - 1) палатнó 2) *кіно* экрáн; ***über die ~ géhen**** дэманстравáцца ў кінó, ісцí на экрáне

**léise 1.** *a* ціхі; слáбы; ***ein ~r Schlaf*** чýткі сон **2.** *adv* ціха; ***nicht im Léisesten*** зусíм не, нікóлечкі

**Léisetreter** *m* -s, - *разм.* праны́ра, пралáза

**Léiste** *f* -, -n 1) плáнка, рэ́йка, плíнтус; ***die ~ réißen**** збіць рэ́йку [плáнку] (*пры скачках*) 2) *анат.* пахвíна 3) аблямóўка (*тканіны*), шлях, беражóк

**léisten** *vt* 1) рабíць, выкóнваць; ***die geléistete Árbeit*** вы́кананая рабóта 2): ***éinen Dienst ~*** акáзваць паслýгу; ***j-m Geséllschaft ~*** склáсці камý-н. кампáнію; ***Ábbitte ~*** прасíць прабачэ́ння; ***Wíderstand ~*** супрацíўля́цца; ***éine Záhlung ~*** зрабíць [унéсці] плацеж; ***Hílfe ~*** дапамагáць; ***éinen Eid ~*** прысягáць, кля́сціся; ***Fólge ~*** (па)слýхаць, паслýхацца; ***Gewähr [Bürgschaft] ~*** ручáцца 3) ***sich (D) etw. ~*** дазваля́ць сабé штó-н.; ***sich éine Fréchheit ~*** *разм.* дазвóліць сабé дзёрзкасць

**Léisten** *m* -s, - капы́л ◊ ***álle über éinen ~ schlágen**** ≅ мéраць усíх на адзíн капы́л; ***Schúster, bleib bei déinem ~!*** ≅ не сунь нóса не ў сваё прóса; калí худ, не лезь на кут

**Léistung** *f* -, -en 1) вы́кананая прáца; ***éine hervórragende [vórzügliche] ~*** выдáтнае дасягнéнне, выдáтны твор 2) *тэх.* прадукцы́йнасць, магýтнасць 3) пóспех, дасягнéнне 4) *спарт.* рэкóрд, дасягнéнне, вы́нік 5) паспяхóвасць (*вучняў і г.д.*) 6) павíннасць, плацеж; ***soziále ~en*** вы́платы на сацыя́льныя патрэ́бы 7): ***~ éines Éides*** прынясéнне прысягі [кля́твы]

**léistungsfähig** *a* 1) працаздóльны 2) *тэх.* прадукцы́йны

**Léistungsfähigkeit** *f* -, -en 1) працаздóльнасць 2) *тэх.* прадукцы́йнасць, магýтнасць

**Léistungsfaktor** *m* -s, -tóren *тэх.* каэфіцыéнт магýтнасці

**Léistungsgrenze** *f* -, -n *тэх.* мяжá магýтнасці

**Léistungskapazität** *f* -, -en эфекты́ўная магýтнасць

**Léistungsklasse** *f* -, -n *спарт.* разрáд, клас

**Léistungskurventafel** [-vən-] *f* -, -n таблíца [грáфік] вытвóрчых пакáзчыкаў

**Léistungslohn** *m* -(e)s акóрдная [здзéльная] аплáта прáцы

**Léistungsnorm** *f* -, -en вытвóрчая нóрма

**Léistungsprinzip** *n* -s, -pi¦en пры́нцып здзéльнай аплáты прáцы

**Léistungssport** *m* -(e)s вялíкі спорт

**Léistungssteigerung** *f* -, -en 1) павышэ́нне прадукцы́йнасці 2) павышэ́нне [паляпшэ́нне] паспяхóвасці (*у навучальнай установе*)

**Léistungsstipendium** *n* - s, -di¦en павы́шаная стыпéндыя (*за паспяховасць*)

**Léistungsvermögen** *n* -s *тэх.* магýтнасць

**Léistungs|zulage** *f* -, -n, **~zuschlag** *m* -(e)s, -schläge надбáўка да зарóбку [стыпéндыі] (*за добрую працу, паспяховасць*)

**Léitartikel** *m* -s, - перадавы́ арты́кул, перадавíца

**léiten** *vt* 1) кіравáць, вéсці; ***sich von j-m ~ lássen**** паддавáцца чыймý-н. уплы́ву; ***sich von etw. (D) ~ lássen**** кіравáцца чым-н.; ***etw. in die Wége ~*** падрыхтавáць, арганізавáць штó-н. 2) накірóўваць 3) *эл.* правóдзіць

**Léiter I** *f* -, -n 1) лéскі, драбíны 2) *эл.* праваднíк 3) градáцыя шкалы́ 4) *муз.* гáма

**Léiter II** *m* -s, - кіраўнíк, загáдчык, начáльнік, шэф; трэ́нер, інстрýктар

**Léitersprosse** *f* -, -n ступéнь(ка), перакládзіна

**Léiterwagen** *m* -s, - воз, драбíны

**Léitfaden** *m* -s, -fäden пуцявóдная нíтка дапамóжнік (*падручнік*); настаўлéнне

**léitfähig** *a фіз., тэх.* правóдны, які́ правóдзіць

**Léitfähigkeit** *f* - *фіз.* правóднасць

**Léithammel** *m* -s, - барáн-важáк стáтку

**Léitmotiv** *n* -s, -e лейтматы́ў

**Léitsatz** *m* -es, -sätze 1) тэ́зіс, лóзунг 2) кірýючы пры́нцып

**Léitstern** *m* -(e)s, -e 1) Паля́рная зóрка

2) пуцяво́дная зо́рка
**Léittier** *n* -(e)s, -e важа́к ста́тку
**Léitung** *f* -, -en 1) зага́дванне, кірава́нне 2) кіраўні́чы о́рган, кіраўні́цтва 3) *эл.* про́вад, право́дка, лі́нія ◊ ***éine lánge ~ háben*** быць няця́млівым [някéмлівым], мару́дна ўзва́жваць [меркава́ць]
**Léitungsdraht** *m* -(e)s, -drähte про́вад
**Léitungsfähigkeit** *f* - *фіз.* право́днасць
**Léitungsnetz** *n* -es, -e сéтка правадо́ў
**Léitungswasser** *n* -s водаправо́дная вада́
**Léitvermögen** *n* -s *фіз.* право́днасць
**Lektión** *f* -, -en 1) уро́к 2) лéкцыя; ***j-m éine ~ ertéilen*** зрабі́ць каму́-н. вымо́ву
**Léktor** *m* -s, -tóren 1) лéктар 2) выкла́дчык некато́рых дысцыплі́н у вышэ́йшай навуча́льнай устано́ве 3) выдавéцкі рэда́ктар
**Lektorát** *n* -s, -e рэдакцы́йная калéгія
**Lektüre** *f* -, -n 1) чыта́нне 2) літарату́ра (*для чытання*)
**Lénde** *f* -, -en 1) паясні́ца 2) сцягно́ ◊ ***séine ~n gürten*** *разм.* рыхтава́цца да ад’éзду
**Léndenbraten** *m* -s, - *кул.* смажані́на з філé (я́лавічыны)
**léndenlahm**: ~ ***sein*** быць вéльмі сто́мленым (*пасля доўгай хадзьбы*)
**lénkbar** *a* 1) кіру́емы; ***~es Geschóss*** *вайск.* кіру́емы снара́д 2) паслухмя́ны
**Lénkbarkeit** *f* - 1) кіру́емасць 2) паслухмя́насць, паслушэ́нства, пада́тлівасць, гну́ткасць
**lénken** *vt* 1) кірава́ць (*аўтамашынай*) 2) кірава́ць, накіро́ўваць; ***er ist schwer zu ~*** ён ця́жка паддаéцца выхава́нню 3) (*auf A*) накіро́ўваць (*на што-н.*); ***j-s Áufmerksamkeit auf etw. (A) ~*** накірава́ць чыю́-н. ўвагу на што-н.
**Lénker** *m* -s, - 1) рулявы́, стырнавы́, шафёр, кіро́ўца 2) *тэх.* каро́мысел; рыча́г; руль (*веласіпеда*)
**Lénkrad** *n* -(e)s, -räder рулявóе ко́ла, абара́нак
**lénksam** *a* паслухмя́ны, пада́тлівы, усту́пчывы
**Lénkstange** *f* -, -n 1) стырно́, руль 2) *тэх.* шату́н, ця́га
**Lénkung** *f* -, -en 1) кірава́нне (*машынай*) 2) кіраўні́цтва; планава́нне
**Lenz** *m* -es, -e *паэт.* вясна́; ***der ~ des Lébens*** *паэт.* малады́я гады́
**Leopárd** *m* -en, -en леапа́рд, пантэ́ра
**Lépra** *f* - *мед.* прака́за
**leprós** *a* пракажо́ны, струпля́вы
**=ler** *суф. назоўнікаў м. р., утварае назвы людзей паводле іх роду дзейнасці, спосабу жыцця:* Spórtler *m* спартсмéн, спарто́вец
**Lérche** *f* -, -n (палявы́) жа́варанак ◊ ***éine ~ schießen**** валі́цца ўні́з галаво́й (*з каня*)
**Lérnbegierde** *f* - пра́га вéдаў
**lérnbegierig** *a* пра́гны да вéдаў
**Lérneifer** *m* -s стара́ннасць (*у вучобе*)
**lérnen** *vt*, *vi* вучы́цца, навуча́цца (*чаму-н.*); ***lésen ~*** вучы́цца чыта́ць; вучы́ць (*што-н.*); ***ein Gedícht áuswendig ~*** вы́вучыць верш на па́мяць
**Lérnen** *n* -s вучо́ба, навуча́нне
**Lérnerfolg** *m* -(e)s, -e пасляхо́васць
**Lérnmittel** *pl* навуча́льныя дапамо́жнікі, падру́чнікі
**Lérnmittelfreiheit** *f* - бясплáтнае забеспячэ́нне падру́чнікамі і дапамо́жнікамі
**Lésart** *f* -, -en варыя́нт (тэксту), тлумачэ́нне тэ́ксту
**lésbar** *a* разбо́рлівы, чытэ́льны, выра́зны
**Lésbarkeit** *f* - выра́знасць, разбо́рлівасць; *разм.* чыта́бельнасць
**lésbisch** *a* лесбія́нскі (*гомасексуальны – пра жанчын*)
**Lése** *f* -, -n 1) збор ураджа́ю (*вінаграду, грыбоў*) 2) адбо́р, вы́бар; выбрако́ўка
**Lésebuch** *n* -(e)s, -bücher хрэстама́тыя; чыта́нка
**Lésehalle** *f* -, -n чыта́льня
**Lésekarte** *f* -, -n чыта́цкі білéт
**lésen*** **I** *vt* чыта́ць; ***ein Buch ~*** чыта́ць кні́гу; ***sich in den Schlaf ~*** засну́ць чыта́ючы; ***j-m die Levíten [den Text] ~*** чыта́ць каму́-н. ната́цыі, дава́ць каму́-н. прачуханца́
**lésen*** **II** *vt* збіра́ць (*плады, бульбу і г.д.*); перабіра́ць (*гарох*)
**lésenswert** *a* які́ заслуго́ўвае быць пра-

чы́таным
**Léseprobe** *f* -, -n *тэатр.* чы́тка
**Lésepult** *n* -(e)s, -e пюпітр; ка́федра, катэ́дра (*лектара*)
**Léser** *m* -s, - чыта́ч
**léserlich** *a* выра́зны, разбо́рлівы, чытэ́льны
**Léserlichkeit** *a* - *гл.* Lésbarkeit
**Lésesaal** *m* -(e)s, -säle *гл.* Lésehalle
**Lésezeichen** *n* -s, - 1) закла́дка (*для кнігі*) 2) *паліг*р. карэкту́рны знак
**Lésung** *f* -, -en чыта́нне (*законапраекта*)
**Lethargíe** *f* - *мед.* летаргія
**lethárgisch** *a мед.* летаргічны
**Léthe** *f* - 1) *міф.* Ле́та (*рака забыцця*) 2) забыццё
**Létte** *m* -n, -n латы́ш
**Létter** *f* -, -n *палігр.* літара
**léttisch** *a* латы́шскі, латві́йскі
**Léttner** *m* -s, - ле́тнер, катэ́дра (*узвышанае месца ў гатычных храмах*)
**Letzt**: ***zu gúter ~*** урэ́шце, нарэ́шце; напрыканцы́, пад кане́ц
**létzt(e)** *a* апо́шні, міну́лы; аста́тні; ***~n Éndes*** урэ́шце, нарэ́шце
**Létzte 1.** *sub m* -n, -n апо́шні; ***der ~ des Mónats*** апо́шняе чысло́ [апо́шні дзень] ме́сяца **2.** *n* -n апо́шняе; ***sein ~s híngeben**** адда́ць апо́шняе, ахвярава́ць усім; ***es geht ums ~*** на ка́рту пастаў́лена ўсё ◊ ***das ~ ist das Béste*** (*літаральна*) апо́шняе – са́мае ле́пшае; ≅ сало́дкі кусо́к зно́йдзе рато́к [куто́к]
**létztens** *adv* 1) няда́ўна 2) нарэ́шце, урэ́шце
**létzt|erwähnt, ~genannt** *a* вышэйзгада́ны, вышэйпамянёны
**létzthin** *adv* няда́ўна, дня́мі
**létztlich** *adv* 1) на заканчэ́нне, напрыканцы́ 2) зрэ́шты, у рэ́шце рэшт
**létztmalig** *a* апо́шні, няда́ўні
**létztmöglich** *a, adv* апо́шні з магчы́мых
**Leu** *m* -en, -en *паэт.* леў
**Léuchtboje** *f* -, -n *марск.* светлавы́ буй [ба́кен]
**Léuchte** *f* -, -n свяці́льня, ля́мпа; *пера*н. свяці́ла; све́тач; ***éine ~ der Wíssenschaft*** све́тач наву́кі
**léuchten** *vi* 1) свяці́ць, свяці́цца; ззяць, зіхаце́ць, блі́скаць, блішча́ць 2) *пера*н. блі́снуць, вы́значыцца; ***séine Kénntnisse ~ lássen**** блі́снуць [вы́значыцца] сваімі ве́дамі
**Léuchter** *m* -s, - падсве́чнік, кандэля́бр
**Léuchtfeuer** *n* -s, - мая́к, сігна́льны аго́нь
**Léuchtgas** *n* -es, - свяці́льны газ
**Léuchtgeschoss** *n* -es, -e асвятля́льны снара́д
**Léuchtkäfer** *m* -s, - святля́к
**Léuchtkraft** *f* - *фіз.* сіла святла́
**Léuchtkugel** *f* -, -n сігна́льная раке́та; ***éine ~ ábschießen**** даць сігна́л раке́тай
**Léuchtpistole** *f* -, -n раке́тніца, раке́тны пісталет
**Léuchtschiff** *n* -(e)s, -e плыву́чы мая́к
**Léuchtspurgeschoss** *n* -es -e трасі́руючы снара́д
**Léuchtturm** *m* -(e)s, -türme мая́к
**léugnen** *vt* адмаўля́ць (*што-н.*), пярэ́чыць (*чаму-н.*); аспрэ́чваць (*што-н.*), не прызнава́ць (*чаго-н.*)
**Léugner** *m* -s, - чалаве́к, які́ не прызнае́ чаго́-н., адмаўля́е што-н.
**Leukämíe** *f* - *мед.* лейкемія
**Leukoplást** *n* -es, -e лейкапла́стыр, пла́стыр
**Léumund** *m* -(e)s рэпута́цыя, сла́ва; ***gúter ~*** до́брая рэпута́цыя; ***j-n in bösen ~ bríngen**** зняславі́ць каго́-н., узве́сці паклёп на каго́-н.
**Léute** *pl* лю́дзі: ***etw. únter die ~ bríngen**** выно́сіць што-н. на лю́дзі; ***wir sind geschíedene ~*** памі́ж на́мі ўсё ско́нчана; ***er ist gúter ~ Kind*** ён з до́брай сям'і [до́брага ро́ду]
**Léutnant** *m* -s, -e *i* -s *вайск.* лейтэна́нт
**léutselig** *a* 1) тавары́скі, про́сты, ве́тлівы 2) прыхільны, добразычлі́вы
**Léutseligkeit** *f* - 1) тавары́скасць, ве́тлівасць 2) прыхі́льнасць, добразычлі́васць
**Levánte** [-ˈvantə] *f* - *уст.* Блі́жні Усхо́д, Лева́нт
**Levíten** [-vi:-]: ***j-m die ~ lésen**** адчы́тваць, прабіра́ць каго́-н.
**Levkóje** *f* -, -n *бат.* ляўко́нія

**Léxik** *f* - *лінгв.* лéксіка
**lexikálisch** *a* лексíчны
**Lexikographíe** [Lexikografíe] *f* - лексікагрáфія
**lexikográphisch** [lexikográfisch] *a* лексікаграфíчны
**Lexikologíe** *f* - лексікалóгія
**Léxikon** *n* -s, -ka *i* -ken слóўнік; лексікóн
**Lezithín** *n* -s *біяхім.* лецыцін
**Liaison** [li̯ɛ'zɔ̃:] *f* -, -s *уст.* любóўная сýвязь
**Liáne** *f* -, -n *бат.* ліяна
**Libanése** *m* -n, -n ліванец
**libanésisch** *a* лівáнскі
**Libélle** *f* -, -n 1) страказá 2) *тэх.* ватэрпáс, грунтвáга
**liberál** *a* ліберáльны
**Liberále** *sub m, f* -n, -n ліберáл, -ка
**liberalisíeren** *vt* лібералізавáць, змякчáць (*рэжым, умовы*)
**Liberalísmus** *m* - лібералíзм
**Líbero** *m* -s, -s *спарт.* свабóдны абарóнца (*у футболе*)
**Líbido** [Libído] *f* - лібíда, палавáя цяга
**Líbretto** *n* -s, -s *i* Librétti лібрэта
**Líbyer** *m* -s, - лівíец
**líbysch** *a* лівíйскі
**licht** *a* 1) свéтлы, ясны, яркі; ***am ~en Táge*** сярóд бéлага дня 2) рэдкі (*лес*)
**Licht** *n* 1) -(e)s святлó, асвятлéнне; ~ ***máchen*** *разм.* запалíць святлó ◊ ***das ~ der Welt erblícken*** убáчыць свет, нарадзíцца 2) -(e)s *перан.* святлó, асвятлéнне; ~ ***auf etw. (A) wérfen**** унéсці яснасць у штo-н.; ***ans ~ bríngen**** выкрывáць, выяўляць; ***ans ~ kómmen**** выяўляцца; ***j-n hínters ~ führen*** ашукáць кагó-н.; ***mir geht ein ~ auf*** да мянé дайшлó, тут я разумéю; ***etw. ins réchte ~ stéllen [sétzen]*** прáвільна асвятлíць штo-н. 3) *pl* -er агні, агéньчыкі; ***die ~er der Gróßstadt*** агні вялíкага гóрада 4) -(e)s, -er *i* -e свéчка 5) -(e)s, -er свяцíла, свéтач, рóзум; ***sein ~ léuchten lássen**** блíснуць [вызначыцца] сваíм рóзумам
**Líchtanlage** *f* -, -n асвятляльная ўстанóўка
**Líchtbild** *n* -(e)s, -er 1) фатагрáфія, здымак 2) светлавóе адлюстраванне 3) дыяпазíтыў
**Líchtblick** *m* -(e)s, -e прасвéт
**Líchtbogen** *m* -s, - *i* -bögen электрычная дугá
**líchtdicht** *a* які не прапускáе святлá
**líchtecht** *a* які не выцвітáе
**Líchteffekt** *m* -(e)s, -e светлавы эфéкт
**líchtempfindlich** *a* святлоадчувáльны
**Líchtempfindlichkeit** *f* - 1) *фота* святлоадчувáльнасць 2) *мед.* святлабóязь
**líchten I 1.** *vt* 1) разрэджваць, ачышчáць (*лес*) 2) праясняць, разганяць (*цемру*) **2. *~, sich*** 1) радзéць, радчэць (*пра лес*) 2) праясняцца, яснéць (*пра неба*)
**líchten II** *vt* разгружáць (*карабель*); ***den Ánker ~*** знімáцца з якара, падымáць якар
**líchterloh: *~ brénnen**** гарэць яркім пóлымем
**Líchthof** *m* -(e)s, -höfe 1) *буд.* светлавы двор 2) *фота* арэóл
**Líchtjahr** *n* -(e)s, -e *астран.* светлавы год
**Líchtmesser** *m* -s, - *фіз.* фатóметр
**Líchtpause** *f* -, -n святлакóпія, сíнька
**Líchtquelle** *f* -, -n крынíца святлá
**Líchtreklame** *f* -, -n светлавáя рэклáма
**Líchtschalter** *m* -s, - выключáльнік
**Líchtschein** *m* -(e)s, -e ззянне
**líchtscheu** *a* які баíцца святлá; *перан.* які баíцца публíчнасці; несумлéнны
**Líchtschimmer** *m* -s, - прóбліск святлá
**Líchtschirm** *m* -(e)s, -e абажýр
**Líchtseite** *f* -, -n 1) асвéтлены бок 2) станóўчы бок
**Líchtsignal** *n* -(e)s, -e светлавы сігнáл
**Líchtspiegel** *m* -s, - рэфлéктар
**Líchtspiel|haus** *n* -es, -häuser, **~theater** -s, - кінатэáтр
**Líchtstrahl** *m* -(e)s, -en прамéнь святлá
**Líchtstrahlung** *f* -, -en выпрамéньванне святлá
**Líchtstrom** *m* -(e)s, -ströme патóк святлá
**Líchtung** *f* -, -en прасéка, прагáліна
**líchtwendig** *a бат.* геліятрапíчны
**Líchtzeichen** *n* -s, - светлавы сігнáл
**Lid** *n* -(e)s, -er павéка

**lieb** *a* мілы, дарагі, любімы; ***es ist mir ~*** мне прыемна; ~ ***behálten**** любіць паранейшаму [як і раней], не разлюбіць; ~ ***gewínnen**** палюбіць, пакахаць; ~ ***háben**** любіць, кахаць

**líebäugeln** *неаддз. vi* заляцацца, какетнічаць; ***er hat schon lánge mit díesem Gedánken gelíebäugelt*** ён ужо даўно насіўся з гэтай думкай

**Líebchen** *n* -s, - *разм.* каханая

**Líebe I** *f* - любоў, каханне; ***tu mir die ~ (an)!*** *разм.* зрабі мне (такую) ласку!; ***séine ~ gestéhen* [erklären]*** прызнацца ў каханні ◊ ***álte ~ róstet nicht*** старая любоў не іржавее ◊ ***éine ~ ist der ánderen wert*** ≅ што вінен, аддаць павінен

**Líebe II** *sub m, f* -n, -n каханы, -ная, дарагі, -гая; ***méine ~n!*** мае дарагія! (*зварот у пісьме*)

**líebebedürftig** *a* які прагне любові [пяшчоты]

**Líebediener** *m* -s, - ліслівец, падлізнік, падхалім

**líebedienerisch** *a* ліслівы, падлізлівы, падхалімскі

**Liebeléi** *f* -, -en флірт, заляцанне, залёты

**líebeln** *vi* (*mit D*) *разм.* заляцацца (*да каго-н.*), улягаць, удаваць (*за кім-н.*)

**líeben** *vt* любіць, кахаць; ***was sich liebt, das neckt sich*** хто каго любіць, той таго чубіць; хто любіцца, той чубіцца

**líebenswert** *a* варты любові

**líebenswürdig** *a* мілы, ветлівы, ласкавы, прыязны

**Líebenswürdigkeit** *f* -, -en ласкавасць, ветлівасць, прыязнасць; ***er ist die ~ selbst*** ён сама ветлівасць

**líeber 1.** *a* мілейшы, даражэйшы **2.** *adv* лепш, лепей, ахвотней

**Líebesbrief** *m* -(e)s, -e любоўнае пісьмо

**Líebesdienst** *m* -(e)s, -e сяброўская паслуга; ***j-m éinen ~ erwéisen**** зрабіць каму-н. ласку

**Líebeserklärung** *f* -, -en прызнанне ў каханні

**Líebesgabe** *f* -, -n 1) (па)дарунак 2) ахвяраванне, міласціна

**Líebespaar** *n* -(e)s, -e закаханая пара; каханкі

**Líebesverhältnis** *n* -ses, -se любоўная сувязь

**líebevoll** *a* ласкавы

**Líebhaber** *m* -s, - 1) палюбоўнік, каханак 2) аматар

**Líebhaberaufführung** *f* -, -en аматарскі спектакль

**Líebhaberbühne** *f* -, -n аматарскі тэатр

**Liebhaberéi** *f* -, -en (*für A*) аматарства; схільнасць (*да чаго-н.*); захапленне (*чым-н.*)

**liebkósen** *i* ['li:p-] *неаддз. vt* песціць, лашчыць, мілаваць, галубіць

**Liebkósung** *f* -, -en ласка

**líeblich** *a* мілы, мілага выгляду, прыгожанькі

**Líeblichkeit** *f* - мілавіднасць, прыгажосць

**Líebling** *m* -s, -e улюбёнец

**líeblos** *a* бессардэчны, чэрствы

**líebreich** *a* ласкавы, пяшчотны, шчыры, прыемны

**Líebreiz** *m* -es прывабнасць, зачараванне, чароўнасць

**líebreizend** *a* чароўны, прывабны, цудоўны

**Líebschaft** *f* -, -en любоўная сувязь

**liebst 1.** *a* (*superl ад* lieb) найлепшы, наймілейшы **2.** *adv* (*superl ад* gern): ***am ~en*** найбольш ахвотна

**Líebste** *sub m, f* -n, -n 1) каханы, -ная 2) *m, f* -n, -n самы дарагі, самая дарагая, самае дарагое

**Líebstöckel** *n, m* -s, - *бат.* любісцік, ладук, сардэчнік

**Lied** *n* -(e)s, -er песня, спеў ◊ ***es ist ímmer dassélbe [das álte] ~ !*** гэта ўсё тая ж песня!; ***davón kann ich ein ~ síngen**** я магу многа расказаць пра гэта

**Líederbuch** *n* -(e)s, -bücher песеннік, спеўнік

**Líederjan** *m* -(e)s, -e неахайны, шалапут, гуляка

**líederlich** *a* 1) неахайны 2) распусны

**Líederlichkeit** *f* -, -en 1) бесталкóвасць, неахáйнасць, нядбáйнасць 2) распýснасць

**lief** *imp ад* láufen*

**Lieferánt** *m* -en, -en пастаўшчы́к

**Líeferauto** *n* -s, -s машы́на для дастáўкі закáзаных [кýпленых] тавáраў

**líeferbar** *a* 1) пастáўлены, які́ бýдзе пастáўлены [прывéзены] 2) які́ ёсць на склáдзе

**Líeferbetrieb** *m* -(e), -e завóд-пастаўшчы́к

**Líeferfrist** *f* -, -en тэ́рмін дастáўкі [пастáўкі]

**líefern** *vt* 1) дастаўля́ць, пастаўля́ць; ***frei Haus*** ~ дастаўля́ць бясплáтна на дом, ***éinen Zéugen*** ~ прывéсці [прадстáвіць] свéдку 2): ***éinen Bewéis*** ~ даказáць, прывéсці дóказ; ***j-m éine Schlacht*** ~ давáць бой камý-н. 3) выпускáць (*прадукцыю*) ◊ ***er ist gelíefert, er ist ein gelíeferter Mann*** ён кóнчаны чалавéк

**Líeferschein** *m* -(e)s, -e *камерц*. накладнáя

**Líeferung** *f* -, -en 1) дастáўка; пастáўка 2) пастаўля́емы тавáр 3) вы́пуск (*кнігі*); ***in ~en*** вы́пускамі; выпрацóўка (*прадукцыі*)

**Líefervertrag** *m* -(e)s, -träge дагавóр на пастáўку

**Líeferwagen** *m* -s, - аўтамашы́на, што развóзіць тавáры

**Líeferzettel** *m* -s, - *гл*. Líeferschein

**Líege** *f* -, -n кушэ́тка

**líegen*** *vi* 1) ляжáць 2) мясці́цца; быць размéшчаным, знахóдзіцца; ***zugrúnde [zu Grúnde]*** ~ ляжáць у аснóве [падмýрку]; ***auf der Hand*** ~ быць відавóчным 3) быць, знахóдзіцца (*у якім-н. стане*); ***im Wéttbewerb vórne*** ~ лідзíраваць у спабóрніцтве; ***mit j-m im Prozéss*** ~ судзíцца з кім-н.; ***in der Schéidung*** ~ развóдзіцца; ***auf der Láuer*** ~ ляжáць [сядзéць] у засáдзе; ***auf der Zúnge*** ~ круцíцца на язы́ку; ***j-m zur Last*** ~ абцяжáрваць [турбавáць] камý-н.; ***wie die Dínge*** ~ як выглядáюць спрáвы; ***die Sáche liegt so*** спрáва ідзé так; ***das liegt mir nicht*** гэ́та не па мне, гэ́та мне не падыхóдзіць; ***worán liegt es?*** у чым спрáва?; ***es liegt an dir*** гэ́та залéжыць ад цябé; ~ ***bléiben**** заставáцца [працягваць] ляжáць; ***die Árbeit bleibt líegen*** рабóта стаíць (на мéсцы); ~ ***lássen**** пакідáць, забывáць дзе-н. ◊ ***j-n links ~ lássen**** 1) забы́ць пра кагó-н. 2) ігнаравáць кагó-н.

**líegend 1.** *a* ляжáчы, гарызантáльны, размéшчаны **2.** *adv* лéжачы

**Líegenschaft** *f* -, -en нерухóмая маёмасць

**Líegeplatz** *m* -es, -plätze 1) месцазнахóджанне, мéсца 2) *чыг*. спáльнае мéсца 3) *марск*. я́карная стая́нка

**Líegestuhl** *m* -(e)s, -stühle шэзлóнг

**Líegezeit** *f* -, -en прастóй, час прастóю (*машыны*)

**lieh** *imp ад* léihen *

**lies** *imp ад* lésen*

**ließ** *impf ад* lássen*

**Lift** *m* -(e)s, -s *i* -e ліфт

**Líga** *f* -, Lígen 1) лíга, саю́з 2) *спарт*. разрáд, клас

**li¦íeren** *vt* аб’яднóўваць, цéсна звя́зваць

**Likör** *m* -s, -e лікёр

**líla** *a* лілóвы

**Líli¦e** *f* -, -n лíлія

**Liliputáner** *m* -s, - ліліпýт

**Límes** *m* -, - 1) *гіст*. лíмэс, памéжная паласá, мяжá 2) *матэм*. грані́ца

**Límit** *n* -s, -s *i* -e) мяжá, грані́ца, ліміт, абмежавáнне

**limitíeren** *vt* абмяжóўваць, лімітавáць

**Limonáde** *f* -, -n ліманáд

**Limousíne** [-mu-] *f* -, -n лімузíн

**línd(e)** *a* мя́ккі, лёгкі (*ветрык*)

**Línde** *f* -, -n лíпа

**Líndenblütentee** *m* -s, -s чай з лíпавага цвéту

**líndern** *vt* аблягчáць, змякчáць, суцíшваць

**Línderung** *f* -, -en змякчэ́нне, аблягчэ́нне, заспакóйванне, сцíшванне; ~ ***bríngen**** ***[verschäffen]*** давáць [рабíць] аблягчэ́нне

**Línderungsmittel** *n* -s, - болесуцішáльны

сро́дак

**líndgrün** *a* зялёны як лі́па

**Líndwurm** *m* -(e)s, -würmer цмок, змей, драко́н

**Lineál** *n* -s, -e ліне́йка

**lineár** *a* ліне́йны

=**ling** *суф. назоўнікаў м. р., утварае назвы людзей*: Léhrling *m* ву́чань

**Linguístik** *f* - лінгві́стыка, мовазна́ўства

**linguístisch** *a* лінгвісты́чны, мовазна́ўчы

**Líni¦e** *f* -, -n 1) лі́нія, ры́са; напра́мак; ***éine geráde ~*** прама́я лі́нія; ***ein Heft mit ~n*** сшы́так у ліне́йку 2) ліне́йка, радо́к 3) лі́нія, тра́са; маршру́т; ***~ 8 der Stráßenbahn*** трамва́й маршру́та 8; ***auf díeser ~ verkéhren die Bússe álle 10 Minúten*** па гэ́тым маршру́це аўто́бусы хо́дзяць праз 10 хвілі́н 4) *вайск*. эшало́н (*баявога парадку*); рубе́ж; ***die vórderste ~*** передава́я лі́нія, пярэ́дні край (*абароны, тс. перан.*) 5): ***die ~ des Ánstandes überschréiten**** перайсці́ мяжу́ прысто́йнасці; ***in érster ~*** у пе́ршую чаргу́, галоўным чы́нам; ***éine míttlere ~ éinhalten**** трыма́цца сярэ́дняй лі́нії; ***j-n auf die gléiche ~ mit j-m stéllen*** ста́віць каго́-н. на адну́ до́шку з кім-н.; ***mit j-m auf gléicher ~ stéhen**** быць ро́ўным каму́-н., не ўступа́ць каму́-н.

**Líni¦enblatt** *n* -(e)s, -blätter транспара́нт (*для пісьма*)

**Líni¦enrichter** *m* -s, - *спарт.* бакавы́ суддзя́, суддзя́ на лі́ніі

**Líni¦enschiff** *n* -(e)s, -e *вайск*. лінко́р

**lin(i)íeren** *vt* ліне́іць

**línk(e)** *a* ле́вы; ***~e Séite*** ле́вы бок, вы́варат (*тканіны*); ***~er Hand*** зле́ва, левару́ч; ***zur ~en Hand*** па ле́вую руку́

**Línke** *sub f* -n, -n 1) ле́вая рука́ 2) ле́вы бок 3) ле́вая па́ртыя

**línkerseits** *adv* з ле́вага бо́ку

**línkisch** *a* няспры́тны, няўме́лы, нязгра́бны

**links** *adv* нале́ва, з ле́вага бо́ку; ***~ sein*** быць левару́кім [ляўшо́й]; ***~ um!*** нале́ва! (*каманда*)

**Links¦außen** *m* -s, - ле́вы кра́йні напада́ючы (*футбол*)

**Línkshänder** *m* -s, - ляўша́, левару́кі

**línkshändig** *a* які́ працу́е ле́вай руко́й; ***er ist ~*** ён ляўша́ [левару́кі]

**línksherum** *adv* у ле́вы бок

**Linksínnen** *m* -, - ле́вы паўсярэ́дні нападаючы (*футбол*)

**Línkskurs** *m* -es *паліт.* ле́вы курс

**línksseitig** *a* левабако́вы; з ле́вага бо́ку

**Línnen** *n* -s, - *высок. гл.* Léinen

**Linóle¦um** *n* -s ліно́леум, ліно́ль

**Linón** [-ɔ̃: *і* ˈlinɔn] *m* -s *і* -s *тэкст*. ліно́н, то́нкі лён (*тканіна*)

**Linotype** [ˈlainotaip] *f* -, -s, **Linotýpe-Sétzmaschine** *f* -, -n *палігр*. лінаты́п

**Línse** *f* -, -n 1) *бат.* сачаві́ца, сачы́ўка 2) *фіз*. лі́нза 3) *анат*. крышта́лік (*у воку*)

**línsen** *vi разм.* 1) утаро́піцца (*на што-н.*), выгляда́ць (*што-н.*) 2) падмі́ргваць

**Línsen|gericht** *n* -(e)s, -e, **~suppe** *f* -, -n сачаві́чная по́ліўка

**Líppe** *f* -, -n губа́, *pl* гу́бы, ву́сны; ***die ~n hängen* lássen**** надзьму́ць гу́бы, пакры́ўдзіцца; ***die ~n spöttisch [verächtlich] kräuseln*** насме́шліва [пага́рдліва] скрыві́ць гу́бы; ***kein Wort soll über méine ~n kómmen**** з маі́х ву́снаў не сарве́цца ні сло́ва, я не скажу́ ні (аднаго́) сло́ва; ***kein Wort über die ~n bríngen**** не сказа́ць ні (аднаго́) сло́ва; ***das Wort schwebt mir auf den ~n*** сло́ва кру́ціцца ў мяне́ на язы́ку ◊ ***an j-s ~n hängen**** лаві́ць ко́жнае сло́ва каго́-н.

**Líppenbekenntnis** *n* -ses, -se фарма́льнае прызна́нне (*толькі на словах*), крывадушнае прызна́нне

**Líppenblütler** *m* -s, - *бат*. губакве́тныя

**Líppenlaut** *m* -(e)s, -e *лінгв*. губны́ гук

**Líppenstift** *m* -(e)s, -e губна́я пама́да

**liquíd** *a* 1) ва́дкі, цяку́чы 2) *камерц*. ліквідны

**Liquidatión** *f* -, -en 1) разлі́к, высвятле́нне ўзае́мных прэтэ́нзій 2) ліквіда́цыя

**liquidíeren** *vt* 1) ліквідава́ць 2) устараня́ць; ***ein Missverständnis ~*** выясня́ць непаразуме́нне

**Liquidíerung** *f* -, -en ліквіда́цыя; спыне́н-

не дзéйнасці

**líspeln** *vi* 1) шаптáць 2) шапляя́віць, гамзáць 3) шалясцéць, шапацéць

**List** *f* -, -en хíтрасць, кавáрства, пóдласць; ***zu éiner ~ gréifen****, ***éine ~ gebráuchen*** хітры́ць

**Líste** *f* -, -n спіс; вéдамасць; рэéстр; ***auf der ~ stéhen**** стая́ць у спíсе

**lístig** *a* хíтры, кавáрны

**Lístigkeit** *f* -, -en хíтрасць

**Litanéi** *f* -, -en 1) дакýчлівыя скáргі, галашэ́нне 2) *рэл.* літáнне, літанія

**Litáuer** *m* -s, - літóвец

**litáuisch** *a* літóўскі

**Líter** *n*, *m* -s, - літр

**Lítera** *f* -, -s *i* гä лíтара, бýква

**literárisch** *a* літаратýрны

**Literát** *m* -en, -en 1) літарáтар, пісьмéннік 2) *іран.* інтэлігéнт

**Literatúr** *f* -, -en літаратýра; ***die éinschlägige ~*** літаратýра па пэ́ўнаму пытáнню; ***die schöne [schöngeistige] ~*** мастáцкая літаратýра, белетры́стыка

**Literatúrnachweis** *m* -es, -e паказáльнік літаратýры, бібліягрáфія

**Literatúrvertrieb** *m* -(e)s распаўсю́джванне літаратýры

**Literatúrverzeichnis** *n* -ses, -se бібліягрáфія

**Literatúrwissenschaft** *f* -, -en літаратуразнáўства

**líterweise** *adv* лíтрамі

**Lítfaßsäule** *f* -, -n слуп [калóнка] для афíш

**Lithographíe** [Lithografíe] *f* -, -fí¦en літагрáфія

**Litótes** *f* - *літ.* літóта, літóтэс

**litt** *impf ад* léiden*

**Liturgíe** *f* -, -í¦en *царк.* літургíя

**Lítze** *f* -, -n 1) плéцены шнур, галýн; пятлíца 2) *тэх.* рамíзка 3) гнýткі электры́чны прóвад

**live** [laif] *a* прамы́, непасрэ́дны (*пра тэле- і радыётрансляцыю*); ***~ sénden*** вéсці прамýю перадáчу

**Livesendung** [ˈlaif-] *f* -, -en перадáча ў прамóй [непасрэ́днай] трансля́цыі (*радыё, тэлебачанне*)

**lívisch** [-v-] *a гіст.* лівóнскі

**Livrée** *f* -, -ré¦en ліўрэ́я

**Lizénz** *f* -, -en ліцэ́нзія, дазвóл; ***~ für die Herstéllung (G)*** ліцэ́нзія на вытвóрчасць (*чаго-н.*)

**lizenzíeren** *vt* выдавáць ліцэ́нзію (*на што-н.*)

**Lob** *n* -(e)s пахвалá; ***~ spénden [ertéilen]*** (па)хвалíць; ***über álles ~ erhában sein*** быць вышэ́й усякай пахвалы́; ***Gott sei ~ (und Dank)!*** дзя́куй Бóгу!, слáва Бóгу!

**lóben** *vt* (*um, für A, wegen G*) хвалíць (*за што-н*), ухваля́ць ◊ ***jéder Krämer lobt séine Wáre*** ≅ кóжная жáба-квóчка сваё балóта хвáліць; дзе хвóя ні стаíць, сваймý бóру шумíць; ***j-n über den grünen Klée ~*** захвалíць кагó-н.; ***man soll den Tag nicht vor dem Ábend ~*** ≅ кураня́т увóсень лíчаць

**lóbenswert** *a* пахвáльны

**Lóbeserhebung** *f* -, -en усхвалéнне, услаўлéнне, ***sich in ~en ergéhen**** рассыпáцца ў пахвалáх, пець дыфірáмбы

**Lóbgesang** *m* -(e)s, -gesänge хвалéбная пéсня, óда, панегíрык

**Lobhudeléi** *f* -, -en ліслíвасць, падлáшчванне, дагаджэ́нне

**lóbhudeln** *неаддз. vt* ліслíвіць, шчóдра сы́паць [дары́ць] пахвалы́

**löblich** *a* пахвáльны

**Löblichkeit** *f* - пахвáльнасць

**Lóblied** *n* -(e)s, -er дыфірáмб, хвалéбная пéсня, панегíрык, óда

**lóbpreisen*** *неаддз. vt* усхваля́ць, узнóсіць (да нябёс), пець дыфірáмбы

**Lóbpreisung** *f* -, -en усхвалéнне, услаўлéнне, дыфірáмбы

**Lóbrede** *f* -, -n хвалéбная прамóва, панегíрык

**lóbsingen*** *неаддз. vi* (*D*) услаўля́ць, усхваля́ць, апявáць (*каго-н.*)

**Loch** *n* -(e)s, Löcher 1) дзíрка, адтýліна 2) нарá 3) халýпа 4) лýза (*більярда*) 5) *разм.* кутýзка, турмá ◊ ***sich (D) ein ~ in den Bauch láchen*** падарвáць жы-

ваты́ ад сме́ху; ***j-m ein ~ in den Bauch frágen*** заму́чыць каго́-н. пыта́ннямі; ***ein ~ in die Luft gúcken*** глядзе́ць у адну́ кро́пку адсу́тным по́зіркам [по́глядам]; ***j-m zéigen, wo der Zímmermann das ~ gelássen hat*** вы́ставіць каго́-н. за дзве́ры, прагна́ць каго́-н.; ***auf dem létzten ~ pféifen*** кана́ць, дахо́дзіць, канча́цца, паміра́ць; ***aus éinem ánderen ~ pféifen*** пець на другі́ лад [мане́р]; ***ein ~ mit dem ánderen zústopfen*** плаці́ць стары́я даўгі́ за кошт но́вых

**Lóchband** *n* -(e)s, -bänder перфасту́жка

**lóchen** *vt* дзіра́віць, прабіва́ць, перфары́раваць

**Lócher** *m* -s, - 1) дзірако́л 2) перфара́тар 3) кампо́сцер

**löcherig** *a* дзіра́вы, наздрава́ты

**Lóchkarte** *f* -, -n перфака́рта

**Lóchstickerei** *f* - вы́шыўка сты́лем рышэлье́

**Lóchstreifen** *m* -s, - *гл.* Lóchband

**Lóchzange** *f* -, -n перфара́тар; кампо́сцер

**Lócke** *f* -, -n ло́кан, завіто́к; *pl* ку́чары

**lócken I 1.** *vt* завіва́ць; ***das Háar ~*** завіва́ць валасы́ **2. ~, sich** ві́цца, кучара́віцца

**lócken II** *vt* ва́біць, прыця́гваць; зама́ньваць; ***j-n ins Garn ~*** *разм.* замані́ць каго́-н. у сіло́ [па́стку]; ***das lockt mich nicht*** гэ́та мяне́ не ва́біць [не ціка́віць]

**Lóckenkopf** *m* -(e)s, -köpfe 1) кучара́вая галава́ 2) кучара́вы (чалаве́к)

**Lóckenwickel** *n* -s, - бігудзі́

**lócker** *a* 1) ры́хлы, хі́сткі, сла́бы 2) легкаду́мны 3) *тэх.* расхіста́ны, расшата́ны

**Lóckerheit** *f* - 1) ры́хласць, хі́сткасць, сла́басць 2) распу́снасць, легкаду́мнасць

**lóckerlassen*** *аддз.* **1.** *vt* аслабля́ць, паслабля́ць **2.** *vi*: ***nicht ~*** не дава́ць спу́ску, не адступа́ць

**lóckermachen** *аддз. vt разм.:* ***er muss das Geld schon ~*** яму́ давядзе́цца раскашэ́ліцца

**lóckern 1.** *vt* 1) разрыхля́ць 2) аслабля́ць; ***Beschränkungen ~*** паме́ншыць абмежава́нні **2. ~, sich** слабе́ць; ***Sítten ~ sich*** но́равы псу́юцца

**Lóckerung** *f* -, -en 1) разрыхле́нне, размякчэ́нне 2) аслабле́нне

**lóckig** *a* кучара́вы

**Lóckmittel** *n* -s, - прына́да

**Lóckruf** *m* -(e)s, -e *паляўн.* крык-прына́да (*імітацыя голасу жывёлы*)

**Lóckspeise** *f* -, -n прына́да; жыве́ц

**Lóckung** *f* -, -en 1) *паляўн.* прына́да (*дзеянне*) 2) спаку́са

**Lóden** *m* -s, - грубашэ́рснае сукно́

**Lódenmantel** *m* -s, -mäntel непрамака́льнае паліто́ (*з грубога сукна*)

**lódern** *vi* пала́ць, палымне́ць

**Löffel** *m* -s, - 1) лы́жка 2) *тэх.* коўш (*экскаватара*) 3) ву́ха (*зайца, труса*); ***séine ~ spítzen*** *разм.* навастры́ць ву́шы, насцеражы́цца ◊ ***mit éinem sílbernen [góldenen] ~ im Mund gebóren sein*** пахо́дзіць з забяспе́чанай сям'і́; *пеpан.* нарадзі́цца пад шчаслі́вай зо́ркай; ***die Wéisheit mit ~n gegéssen [gefréssen] háben*** *іран.* лічы́ць сябе́ на́дта разу́мным; ***j-n über den ~ barbíeren*** абдуры́ць каго́-н.; ***eins hínter die ~ bekómmen**** атрыма́ць наганя́й; ***j-m ein paar hínter die ~ háuen*** даць каму́-н. апляву́ху

**Löffelbagger** *m* -s, - *тэх.* аднако́ўшны экскава́тар

**löffeln** *vt* сёрбаць, чэ́рпаць лы́жкай, хлябта́ць

**log** *impf ад* lügen*

**Logaríthmentafel** *f* -, -n *матэм.* табл́іца лагары́фмаў

**Logaríthmus** *m* -, -men *матэм.* лагары́фм

**Lógbuch** *n* -(e)s, -bücher *марск.* ва́хтавы журна́л

**Lóge** [-ʒə] *f* -, -n 1) ло́жа (*тэатральная*) 2) ло́жа (*масонская*) 3) швейца́рская ло́жа

**Lógendiener** [-ʒən-] *m* -s, - капельды́нер

**Loggia** [ˈlɔʤ(i)a] *f* -, Loggi¦en [ˈloʤ(i)ən] ло́джыя, балко́н; накры́тая скразна́я галерэ́я

**logíeren** [-ˈʒi:-] *vi* (часо́ва) жыць, пражыва́ць (*у гатэлі і да т.п.*)

**Lógik** *f* - лóгіка; ***áller ~ ins Gesícht schlágen**** пярэ́чыць усякай лóгіцы
**Logis** [-ˈʒiː] *n* - [-ˈʒiː(s)], - [-ˈʒiːs] кватэ́ра, жыллё; ***Kost und ~*** кватэ́ра і стол (*харчаванне*)
**lógisch** *a* лагíчны
**loh** *a* я́ркі, палымнéючы
**Lóhe** *f* -, -n пóлымя; ~ ***von Bränden*** пóлымя [агóнь] пажа́раў
**lóhen I** *vi* пала́ць, палымнéць
**lóhen II** *vt* дубíць (*скуру*)
**Lóhgerber** *m* -s, - гарба́р
**Lohn** *m* -(e)s, Löhne 1) зарабóтная пла́та, зарóбак 2) узнагарóда; *перан.* адпла́та, пóмста ◊ ***wie die Árbeit, so der ~*** ≅ як дба́еш, так і ма́еш; як узарэ́ш, так і збярэ́ш
**Lóhnabbau** *m* -(e)s зніжэ́нне зарпла́ты [зарóбку]
**Lóhnabrechnung** *f* -, -en разлíк
**Lóhnabzug** *m* -(e)s, -abzüge вы́лік з зарпла́ты
**Lóhnarbeit** *f* - наёмная пра́ца
**Lóhnarbeiter** *m* -s, - наёмны рабóчы
**lóhnen 1.** *vt* 1) (*j-m*) узнагарóджваць (*за што-н. каго-н.*); ***es lohnt die Mühe*** пра́ца апла́чваецца [акупляецца]; адплацíць (*за што-н. каму-н.*); ***j-m etw. Übel ~*** адплацíць каму́-н. злом (*за дабро*) 2) плацíць (*каму-н.*), апла́чваць **2.** *vi i* **~, sich** быць ва́ртым, быць вы-гóдным, мець сэнс; ***es lohnt sich nicht*** няварта
**löhnen** *vt* выпла́чваць зарпла́ту [зарóбак]
**lóhnenswert** *a* пахва́льны, ухва́льны
**Lóhnerhöhung** *f* -, -en па(д)вышэ́нне зарпла́ты [зарóбку]
**Lóhnfonds** [-fɔ̃ː], *m* - [-fɔ̃ː(s)], - [-fɔ̃ːs] фонд зарабóтнай пла́ты
**Lóhnforderung** *f* -, -en патрабава́нне павышэ́ння зарпла́ты [зарóбку]
**Lóhngruppe** *f* -, -n тары́фны разра́д, тары́фная ста́ўка
**Lóhnkampf** *m* -(e)s, -kämpfe барацьба́ за па(д)вышэ́нне зарабóтнай пла́ты
**Lóhn|kürzung** *f* -, -en, **~senkung** *f* -, -en *гл.* Lóhnabbau
**Lóhnliste** *f* -, -n плацёжная вéдамасць
**Lóhnsteigerung** *f* -, -en *гл.* Lóhnerhöhung
**Lóhnsteuer** *f* -, -n падахóдны пада́так
**Lóhnstopp** *m* -s, -s *эк.* замарóжванне зарабóтнай пла́ты
**Lóhnstreik** *m* -s, -s *i* -e эканамíчная забастóўка з патрабава́ннем павышэ́ння зарабóтнай пла́ты
**Lóhnstufe** *f* -, -n разра́д зарабóтнай пла́ты
**Lóhntag** *m* -(e)s, -e дзень вы́платы зарабóтнай пла́ты [зарóбку]
**Lóhntarif** *m* -s, -e тары́ф зарпла́ты
**Lóhntüte** *f* -, -n канвéрт з зарабóтнай пла́тай [зарóбкам]
**Lóhnzahlung** *f* -, -en вы́плата зарабóтнай пла́ты [зарóбку]
**Lóhnzahlungsliste** *f* -, -en вéдамасць на вы́плату зарабóтнай пла́ты [зарóбку]
**Lóhnzettel** *m* -s, - разлікóвая кнíжка, разлікóвы лістóк
**Lóhnzuschlag** *m* -(e)s, -schläge надба́ўка да зарабóтнай пла́ты [зарóбку]
**Lok** *f* -, -s *гл.* Lokomotíve
**lokál** *a* мясцóвы, лака́льны, мясцóвага значэ́ння
**Lokál** *n* -s, -e 1) памяшка́нне 2) рэстара́н, кавя́рня
**Lokálbahn** *f* -, -en чыгу́нка мясцóвага прызначэ́ння, пад’язны́ пуць
**lokalisíeren** *vt* лакалізава́ць
**Lokalisíerung** *f* -, -en лакаліза́цыя
**Lokalität** *f* -, -en 1) мясцóвасць 2) памяшка́нне
**Lokálnachrichten** *pl* мясцóвая хрóніка, здарэ́нні (*раздзел газет*)
**Lokálsatz** *m* -es, -sätze *грам.* (акалíчнасны) дада́ны сказ мéсца
**Lokáltermin** *m* -s, -e *юрыд.* выязна́я сéсія; вы́езд для агля́ду мéсца злачы́нства
**Lokálverkehr** *m* -s 1) *чыг.* мясцóвыя знóсіны 2) мясцóвы (тавара)абарóт
**Lokatív** *m* -s, -e *грам.* мéсны склон
**Lókbrigade** *f* -, -n паравóзная брыга́да
**Lókführer** *m* -s, - машынíст (*паравоза*)
**Lókheizer** *m* -s, - качага́р
**Lokomobíle** *f* -, -n лакамабíль
**Lokomotíve** [-və] *f* -, -n паравóз, лакаматы́ў

**Lokomotívführer** *m* -s, - машыніст (*паравоза*)

**Lókus** *m* - *i* -ses, - *i* -se *разм.* прыбіральня

**Lombárd** *m*, *n* -(e)s, -e ламбард

**Look** [luk] *m* -s, -s вонкавы выгляд

**Looping** ['lu:p-] *m* -s, -s *ав.* мёртвая пятля

**Lórbeer** *m* -s, -en 1) лаўр 2) лаўры, слава; ***unverwélklicher*** ~ неўвядальная [неўміручая, нязгасная] слава ◊ ***~en érnten*** пажынаць лаўры; ***sich auf den ~en rúhen*** спачыць на лаўрах

**Lórbeerbaum** *m* -(e)s, -bäume лаўровае дрэва

**Lórbeerblatt** *n* -(e)s, -blätter лаўровы ліст

**Lórbeerkranz** *m* -es, -kränze лаўровы вянок

**Lord** *m* -s, -s лорд

**Lóre** *f* -, -n 1) адкрыты таварны вагон; вагон-платформа 2) ваганетка

**Lorgnétte** [lɔrn'i̯ɛtə] *f* -, -n, **Lorgnon** [lɔrn'i̯ɔ̃:] *n* -s, -s ларнет

**los 1.** *a* адарваны, адчэплены, адвязаны; свабодны; ***der Knopf ist*** ~ гузік адарваўся; ***der Hund ist*** ~ сабака сарваўся; ***was ist ~?*** што здарылася? **2.** *adv* ***~!*** давай!, пачынай!; *спарт., вайск.* марш!, руш!

**los=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на:* 1) *аддзяленне, вызваленне ад чаго-н.:* lósbinden* адвязваць 2) *пачатак дзеяння:* lósgehen* пачынацца

**=los** *паўсуф. прыметнікаў, указвае на адсутнасць у прадмета пэўнай прыкметы ці ўласцівасці:* árbeitslos беспрацоўны

**Los** *n* -es, - 1) жэрабя; ***das ~ fällt auf ihn*** жэрабя пала на яго; ***das ~ ist gefállen*** *перан.* выбар зроблены, рашэнне прынята 2) латарэйны білет; ***er hat das gróße ~ gewónnen*** яму дастаўся самы вялікі выйгрыш 3) лёс, доля; ***sein ~ (gedúldig) trágen**** (цярпліва) несці свой крыж; ***únter séinem ~ zusámmenbrechen**** не вынесці ўдараў лёсу; ***mit séinem ~ hádern*** наракаць на свой лёс

**lósarbeiten** *аддз.* **1.** *vt* вызваляць (*з цяжкасцю*) **2.** *vi* 1) энергічна ўзяцца за работу 2) (*auf A*) дамагацца (*чаго-н.*)

**lösbar** *a* 1) вырашальны 2) *хім.* растваральны 3) *тэх.* разборны, рассоўны

**Lösbarkeit** *f* - 1) растваральнасць 2) вырашальнасць

**lósbinden*** *аддз. vt* развязваць, адвязваць

**lósbrechen*** *аддз.* **1.** *vt* адломваць, адколваць, разломваць **2.** *vi* (s) пачынацца, узнімацца (*пра буру, сварку і г.д.*)

**losch** *impf ад* löschen*

**Löschapparat** *m* -(e)s, -e вогнетушыцель

**Löschblatt** *n* -(e)s, -blätter *гл.* Löschpapier

**löschen 1.** *vt* 1) тушыць, гасіць; ***den Durst*** ~ праганяць [наталяць] смагу 2) прамакаць (*напісанае*) 3) *камерц.* ануляваць, нішчыць, пагашаць 4) *марск.* выгружаць (*судна*) **2.** *vi паэт.* тухнуць, гаснуць

**Löscher** *m* -s, - прэс-пап'е, прамакальная папера

**Löschkalk** *m* -(e)s гашаная вапна

**Löschkopf** *m* -(e)s, -köpfe сціральная галоўка (*магнітафона*)

**Löschmannschaft** *f* -, -en пажарная каманда

**Löschpapier** *n* -s, -e прамакальная папера

**Löschung I** *f* -, -en 1) тушэнне, гашэнне 2) *камерц.* пагашэнне, ануляванне

**Löschung II** *f* -, -en выгрузка (*судна*)

**lósdrehen** *аддз. vt* адкручваць

**lósdrücken** *аддз. vt* спускаць (*курок*)

**lóse 1.** *a* 1) свабодны 2) слабы, хісткі 3) распушчаны (*пра валасы*) 4) легкадумны, распушчаны (*пра чалавека*) ◊ ~ ***Zúnge*** балбатлівы язык; ***~r Streich*** свавольства 5) не(рас)фасаваны **2.** *adv* 1) свабодна 2) слаба

**Lösegeld** *n* -(e)s, -er) выкуп (*грашыма*)

**Lösemittel** *n* -s, - растваральнік

**lósen** *vi* кідаць жэрабя, вызначаць лёс

**lösen 1.** *vt* 1) развязваць; ***den Knóten*** ~ развязаць вузел 2) скасаваць (*дагавор*) 3) рашаць (*задачу*); вырашаць (*спрэчкі*); ***die Zwéifel*** ~ разагнаць сумненні 4) *хім.* раствараць 5) браць (*білет на цягнік і да т.п.*) **2. ~, sich** 1) *вайск.* адрывацца, адыходзіць, адступаць

2) (*von D*) расставáцца (*з кім-н.*) 3) адмежавáцца, адарвáцца 4): ***er löste sich aus der Erstárrung*** здранцвéнне [анямéнне] у ягó прайшлó

**lósfahren*** *аддз. vi* (s) 1) ад’язджáць, адпраўля́цца; ***fahr los!*** пайшóў!, едзь! 2) *разм.* налятáць 3) накíдвацца (*на каго-н.*)

**lósgehen*** *аддз. vi* (s) 1) развя́звацца, распускáцца 2) стрэ́ліць 3) пачынáцца; ***es geht los!*** пачынáецца! 4) ісцí да намéчанай мэ́ты; мéрыцца, нацэ́львацца (*куды-н.*) 5) (*auf A*) кíнуцца (*на каго-н.*); ***aufeinánder*** ~ кíнуцца адзíн на аднагó, счапíцца [схапíцца] адзíн з адны́м (*у бойцы*)

**lósgelöst 1.** *a* адарвáны **2.** *adv* у адры́ве

**lóshaken** *аддз. vt* адчэ́п(лí)ваць

**Lóskauf** *m* -(e)s, -käufe вы́куп

**lóskaufen** *аддз. vt* выкупля́ць

**lósketten** *аддз. vt* раскóўваць; спускáць з ланцугá

**lóskläffen** *аддз. vi* 1) (*gegen A*) загáўкаць (*на каго-н.*) 2) пачáць ля́яцца

**lóskommen*** *аддз. vi* (s) адвязáцца, вы́зваліцца; уцячы́; ***von der Érde [vom Wásser]*** ~ *ав.* адарвáцца ад зямлí [вады́]

**lóskuppeln** *аддз. vt тэх.* расчапля́ць

**lóslassen*** *аддз. vt* 1) адпускáць, вызваля́ць 2) (*auf A*) нацкóўваць, напускáць 3): ***éinen Witz*** ~ адпусцíць жарт, пажартавáць; ***éine Réde*** ~ *іран.* пачáць прамóву [гавары́ць]

**lóslaufen*** *аддз. vi* (s) *разм.* пабéгчы, паляцéць; *спарт.* стартавáць

**lóslegen** *аддз. vi разм.* хýтка пачынáць (*што-н. рабíць*)

**löslich** *a хім.* растварáльны

**Löslichkeit** *f - хім.* растварáльнасць

**lóslösen** *аддз.* **1.** *vt* аддзяля́ць, адвя́зваць, адрывáць; вызваля́ць **2. ~, sich** адрывáцца, адставáць, аддзяля́цца

**lósmachen** *аддз.* **1.** *vt* развя́зваць **2. ~, sich** вызваля́цца

**lósplatzen** *аддз. vi* (s) 1) разрывáцца, лóпацца 2) (*mit D*) *разм.* вы́паліць, сказáць што-н. (*нечакана, раптоўна*); пачáць (*смяяцца і г.д.*)

**lósrattern** *аддз. vi* загрукатáць, загрымéць

**lósreißen*** *аддз.* **1.** *vt* адрывáць **2. ~, sich** вырывáцца; *перан.* адрывáцца

**Löß** [Löss] *m* -es, -e *геал.* лёс, жаўтазём

**lóssagen, sich** *аддз.* (*von D*) адмаўля́цца (*ад чаго-н.*), выракáцца (*чаго-н.*)

**lósschießen*** *аддз. vi* 1) страля́ць, адкрывáць агóнь; ***schieß los!*** *разм.* пачынáй!, выкладвай! 2) (s) кíнуцца, ры́нуцца

**lósschlagen*** *аддз.* **1.** *vi* (*auf A*) нанóсіць удáры (*каму-н*), біць (*каго-н.*); ***sie schlúgen aufeinánder los*** яны́ распачалí бóйку **2.** *vt* збывáць, распрадавáць (*па зніжаных цэнах*)

**lósschnallen** *аддз. vt* расшпíльваць (*пражку*)

**lósschrauben** *аддз. vt* раскрýчваць, адкрýчваць (*шрубу, вінт*)

**lósschwimmen*** *аддз. vi* (s) адплывáць; *спарт.* стартавáць (*у плыўцоў*)

**lóssprechen*** *аддз. vt* вы́зваліць (*ад якога-н. абавязку*) ◊ ***j-n von séiner Schuld*** ~ зняць з кагó-н. вінý

**lóssteuern** *аддз. vi* (s) (*auf A*) накірóўвацца (*куды-н*); ***auf sein Ziel*** ~ ісцí да сваёй мэ́ты (*тс. перан.*)

**lósstürmen** *аддз. vi* (s), **lósstürzen** *аддз. vi* (s) (*auf A*) кíдацца (*на каго-н., на што-н.*)

**lóstrennen** *аддз. vt* распóрваць, адпóрваць

**Lósung I** *f* -, -en 1) лóзунг 2) *вайск.* парóль

**Lósung II** *f* -, -en 1) тырáж латарэ́і [пазы́кі] 2) *спарт.* жараб’ёўка

**Lösung** *f* -, -en 1) (вы)рашэ́нне 2) скасавáнне (*дагавора*) 3) развя́званне, паслаблéнне; разблы́тванне 4) *хім.* раствóр 5) *перан.* развя́зка; ***das wäre die béste*** ~ такóе рашэ́нне былó б сáмым лéпшым

**Lösungsmittel** *n* -s, - растварáльнік

**Lósungswort** *n* -(e)s, -wörter *гл.* Lósung I 2)

**lóswerden*** *аддз. vt* (s) пазбы́цца, пазбáвіцца, адчапíцца, адвязáцца (*ад каго-н., ад чаго-н.*)

**lóswickeln** *аддз. vt* разгóртваць, раскрýчваць, разблы́тваць

**lósziehen*** *аддз.* **1.** *vt* расцягваць, выцягваць **2.** *vi* (s) 1) бéгчы, уцякáць 2) адпраўля́цца (*куды-н.*) 3) (*über, gegen A*) накíнуцца, напáсці, навалíцца (*на каго-н.*); лáяць, гáньбіць, знеслаўля́ць (*каго-н., за вочы*)

**Lot** *n* -(e)s, -e 1) грузíла, лот 2) перпендыкуля́р 3) прыпóй

**lóten** *vi* 1) вымярáць глыбінí лóтам 2) *буд.* правярáць адвéсам 3) *матэм.* апускáць перпендыкуля́р

**löten** *vt* літавáць, пая́ць

**Lotión** [*i* ˈlo:ʃən] *f* -, -en *і пры англ. вымаўленні* -s ласьён

**Lötkolben** *m* -s, - пая́льнік

**Lötlampe** *f* -, -n пая́льная ля́мпа

**Lótlini¦e** *f* -, -n вертыкáль

**Lótosblume** *f* -, -n квéтка лóтаса

**lótrecht** *a* вертыкáльны, перпендыкуля́рны

**Lótse** *m* -n, -n 1) *марск.* лóцман 2) правадні́к (*напр., у гарах*)

**lótsen** *vt* 1) вéсці (*судна*) 2) *разм.* (за)цягнýць (*каго-н. куды-н.*)

**Lótterbube** *m* -n, -n, **Lótter** *m* -s, - гультáй, лóдар, абібóк

**Lotteríe** *f* -, -rí¦en латарэ́я

**Lotteríelos** *n* -es, -e латарэ́йны білéт

**lótterig** *a* нядбáйны; шалапýтны, распýшчаны

**Lótterleben** *n* -s пустóе [бесклапóтнае, распýснае] жыццё

**lóttern** *vi* бадзя́цца, валачы́цца, швэ́ндацца; гультаявáць, лóдарнічаць

**Lótterwirtschaft** *f* - безгаспадáрчасць, беспарáдак

**Lótto** *n* -s, -s латó

**Lötung** *f* -, -en пая́нне, спáйка

**Lötzinn** *n* -(e)s пая́льнае вóлава

**Löwe** *m* -n, -n 1) леў 2) Леў (*сузор'е*)

**Löwenanteil** *m* -(e)s, -e (і)львíная чáстка

**Lö́wenbändiger** *m* -s, - утаймавáльнік ільвóў

**Löwenhaut** *f* -, -häute (і)львíная шкýра ◊ ***der Ésel in der ~*** баязлíвец, які выдаé сябé за храбрацá

**Löwenjunge** *n* -n, -n ільвяня́, ільвянё

**Löwenmaul** *m* -(e)s *бат.* званéц

**Löwenzahn** *m* -(e)s *бат.* дзьмухавéц, малачáй

**loyal** [loˈja:l] *a* лая́льны

**Loyalität** [loja:l-] *f* - лая́льнасць

**Luchs** *m* -es, -e 1) рысь 2) хітрýн, прайдзісвéт

**Lúchsauge** *n* -s, -n зóркае вóка

**lúchsen** *vi* 1) вéльмі ўважліва назірáць [сачы́ць] 2) падпільнóўваць (*каго-н.*)

**Lücke** *f* -, -n 1) пустóе мéсца 2) адтýліна; ***éine ~ réißen**** прабівáць адтýліну; прычыня́ць шкóду 3) *pl* хíбы, прагáлы (*у ведах*)

**Lǘckenbüßer** *m* -s, - 1) *зняв.* (непаўнацэ́нны) намéснік; «заты́чка» 2) *тэатр.* дублёр

**lückenhaft** *a* няпóўны, з прабéламі

**lückenlos** *a* без прабéлаў [прагáлаў], суцэ́льнае

**lud** *impf ад* láden*

**Lúder** *n* -s, - 1) пáдла 2): ***so ein ~!*** *груб.* якáя дрэнь!; ***áltes ~*** *груб.* старáя каргá, сцéрва, падлюга; ***ein ~ von éinem Fráuenzimmer [von éinem Wéibsstück]*** сцéрва, падлю́ка

**Luft** *f* -, Lüfte павéтра; ***frísche ~ schöpfen*** ды́хаць свéжым павéтрам; ***an der fríschen ~*** на адкры́тым [свéжым] павéтры; ***die ~ ánhalten**** затрымáць дыхáнне; ***an die frísche ~ géhen**** выхóдзіць на свéжае павéтра; ***er ist für mich ~*** ён для мянé пустóе мéсца, ён не існýе для мянé; ***séinem Hérzen ~ máchen*** адвéсці душý; вы́казаць усё, што набалéла ◊ ***(es ist) dícke ~!*** *разм.* увáга!, небяспéка!; *марск.* палýндра!; ***etw. aus der ~ gréifen**** вы́смактаць штóсьці з пáльца; ***die ~ ist rein*** *разм.* небяспéкі нямá; ***na, gúte ~!*** *разм.* што ж, дай Бóжа!; ***in die ~ flíegen**** вы́бухнуць, узляцéць на павéтра; ***es liegt in der ~*** гэ́та нóсіцца ў павéтры 2) *тэх.* зазóр, люфт

**Lúftabwehr** *f* - *вайск.* супрацьпавéтраная

абаро́на
**Lúftangriff** *m* -(e)s, -e *вайск.* паве́траны напа́д
**Lúftaufklärung** *f* -, -en паве́траная разве́дка
**Lúftaufnahme** *f* -, -n аэрафотазды́мка
**Lúftballon** *m* -s, -e *i* -s аэраста́т
**Lúftbild** *n* -(e)s, -er аэрафотазды́мак
**Lúftbrücke** *f*-, -n паве́траны мост
**lúftdicht** *a* гермеи́ычны
**Lúftdruck** *m* -(e)s ціск паве́тра; паве́траная хва́ля
**Lúftdruckbremse** *f* -, -n пнеўматы́чны то́рмаз
**Lúftdruckmesser** *m* -s, - баро́метр
**lüften** *vt* 1) праве́трываць; ***den Hut*** ~ віта́цца, віта́ць (*прыпадымаючы капялюш*) 2): ***ein Gehéimnis*** ~ адкры́ць сакрэ́т; ***das Dúnkel um etw. (A)*** ~ праліць святло́ (*на што-н.*)
**Lüfter** *m* -s, - вентыля́тар
**Lúfterhitzer** *m* -s, - калары́фер
**Lúfterkundung** *f* -, -en паве́траная разве́дка
**Lúftfahrt** *f* -, -en 1) палёт 2) аэранавіга́цыя
**Lúftfahrtgesellschaft** *f* -, -en авіякампа́нія
**Lúftfahrzeug** *n* -(e)s, -e паве́траны сро́дак зно́сін (*самалёт, дырыжабль і г.д.*), лята́льны апара́т
**Lúftfenster** *n* -s, - фо́рт(ач)ка, лю́фцік
**Lúftflotte** *f* -, -n паве́траны флот
**lúftförmig** *a* газападо́бны
**Lúftgefecht** *n* -(e)s, -e *гл.* Lúftkampf
**lúftgestützt** *a* паве́транага базі́равання (*пра ракетныя ўстаноўкі і г.д.*)
**Lúftgewehr** *n* -(e)s, -e пнеўматы́чнае ружжо́
**Lúfthafen** *m* -s, -häfen аэрапо́рт
**Lúfthammer** *m* -s, -hämmer пнеўматы́чны мо́лат
**Lúftheizung** *f* -, -en паве́транае ацяпле́нне
**lúftig** *a* 1) які́ змяшча́е ў сабе́ шмат паве́тра і святла́ 2) лёгкі, то́нкі, празры́сты 3) легкаду́мны
**Lúftikus** *m* -, -se ветраго́н, легкаду́мны чалаве́к
**Lúftkampf** *m* -(e)s, -kämpfe паве́траны бой
**Lúftkissen** *n* -s, - надзіма́ная паду́шка
**Lúftkühlung** *f* - паве́транае ахаладжэ́нне
**Lúftkurort** *m* -s, -e кліматы́чны куро́рт
**Lúftlandetruppen** *pl* авіядэса́нтныя во́йскі [ча́сці]
**Lúftlandung** *f* -, -en паве́траны дэса́нт
**lúftleer** *a* беспаве́траны
**Lúftleere** *f* - ва́куум, беспаве́траная прасто́ра
**Lúftlini¦e** *f* -, -n 1) прама́я лі́нія (*паміж двума геаграфічнымі пунктамі*) 2) паве́траная [авіяцы́йная] лі́нія [тра́са], лі́нія паве́траных зно́сін
**Lúftloch** *n* -(e)s, -löcher 1) адду́шына; душні́к 2) *ав.* паве́траная я́ма
**Lúftmatratze** *f* -, -n надзіма́ны матра́ц
**Lúftpost** *f* - паве́траная по́шта; авіяпо́шта
**Lúftpumpe** *f* -, -n паве́траная по́мпа
**Lúftraum** *m* -(e)s паве́траная прасто́ра
**Lúftreifen** *m* -s, - пнеўматы́чная шы́на
**Lúftreiniger** *m* -s, - паветраачышча́льнік
**Lúftröhre** *f* -, -n 1) вентыляцы́йная труба́ 2) *анат.* трахе́я, ды́хальнае го́рла
**Lúftschacht** *m* -(e)s, -schächte вентыляцы́йная ша́хта, паве́траны кана́л
**Lúftschiff** *n* -(e)s, -e дырыжа́бль
**Lúftschlauch** *m* -(e)s, -schläuche ка́мера (пнеўматы́чнай) шы́ны
**Lúftschloss** *n* -es, -schlösser *пераи.* паве́траны за́мак ◊ ***Lúftschlösser báuen*** пе́сціць нязздзе́йсныя ма́ры
**Lúftschraube** *f* -, -n вінт, прапе́лер (*самалёта*)
**Lúftschutz** *m* -es *гл.* Lúftabwehr
**Lúftschutzkeller** *m* -s, - бамбасхо́вішча
**Lúftspiegelung** *f* -, -en міра́ж
**Lúftstreitkräfte** *pl вайск.* ва́енна-паве́траныя сі́лы
**Lúftstrom** *m* -(e)s, -ströme паве́траны пато́к
**Lúftstützpunkt** *m* -(e)s, -e авіяба́за
**Lüftung** *f* -, -en праве́трыванне, вентыля́цыя
**Lúftverkehr** *m* -s паве́траныя зно́сіны
**Lúftwaffe** *f* -, -n авія́цыя, ва́енна-паве́т-

раныя сілы

**Lúftwarndienst** *m* -(e)s, -e *вайск.* слу́жба паве́транага апавяшчэ́ння

**Lúftweg** *m* -(e)s, -e 1) *анат.* дыха́льныя шляхі́ 2) паве́траны шлях; ***auf dem ~(e)*** па паве́тры, паве́траным шля́хам

**Lúftzug** *m* -(e)s, -züge 1) скразня́к 2) *тэх.* ця́га

**Lug** *m* -s хлусня́; **~ *und Trug*** адна́ хлусня́

**Lüge** *f* -, -n хлусня́; ***éine fáustdicke ~*** страшэ́нная [гру́бая] хлусня́; ***éine frómme ~*** хлусня́ [падма́н] дзеля́ рату́нку; ***j-n ~n stráfen*** выкрыва́ць каго́-н. у хлусні ◊ ***~n háben kúrze Béine*** у хлусні́ каро́ткія но́гі

**lúgen** *vi* выгля́дваць, падпільно́ўваць

**lügen*** *vi* ілга́ць, хлусі́ць, мані́ць; ***er lügt, dass sich die Bálken bíegen**** ≅ ён хлу́сіць без уся́кага со́раму

**lügenhaft** *a* ілжы́вы, хлуслі́вы

**Lügenmaul** *n* -(e)s, -mäuler *разм.* хлус, ілгу́н, мані́ока

**Lügner** *m* -s, - ілгу́н, хлус, мані́ока

**lügnerisch** *a* ілжы́вы, хлуслі́вы

**Lúke** *f* -, -n люк

**lukratív** *a* прыбытко́вы, дахо́дны

**lukúllisch** *a* раско́шны, пы́шны, бага́ты

**Lúlatsch** *m* -(e)s, -e *разм.* бамбі́за, калан-ча́, бе́йбус

**lúllen** *vt* закалы́хваць, люля́ць, супако́й-ваць

**Lümmel** *m* -s, - наха́бнік, хулiга́н, грубія́н

**Lümmeléi** *f* - не́вуцтва, наха́бства, гру-бія́нства

**lümmeln, sich** разва́львацца (*у крэсле*)

**Lump** *m* -en, -en 1) няго́днік, падлю́га 2) абарва́нец

**lúmpen** *vi* жыць у распу́сце [бяздзе́йна, бязла́дна] ◊ ***sich nicht ~ lássen**** не скупі́цца, не быць скна́рам [скна́рай]

**Lúmpen** *m* -s, - 1) ану́ча, шмато́к 2) *pl* лахманы́, рыззё, рызманы́ ◊ ***j-n aus den ~ schütteln*** *жарт.* ≅ прапясо́чыць каго́-н., даць ды́хту каму-н.

**Lúmpengesindel** *n* -s збой, зброд, дэкла-сава́ныя элеме́нты

**Lúmpenproletariat** *n* -s лю́мпен-прале-тарыя́т

**Lúmpensammler** *m* -s, - 1) стары́знік 2) *жарт.* апо́шні (начны́) цягні́к [аўто́бус, трамва́й]

**Lumperéi** *f* -, -en 1) глу́пства, дро́бязь; ***wégen éiner ~ stréiten**** сварыцца з-за дро́бязі 2) по́дласць

**lúmpig** *a* 1) абарва́ны, жабра́цкі 2) нік-чэ́мны, по́длы

**Lunch** [lanʃ] *m* - *i* -es, -s *i* -e ленч, другое сне́данне

**Lúnge** *f* -, -n *анат.* лёгкае; ***es auf der ~ háben*** мець хво́рае лёгкае; ***aus vóller [vóllster] ~ schréien**** крыча́ць на ўсё го́рла

**Lúngenentzündung** *f* -, -en запале́нне лёгкіх

**Lúngenheilstätte** *f* -, -n лёгачны санато́рый

**lúngenkrank**: ***er ist ~*** у яго́ туберкулёз (лёгкіх), ён хво́ры на сухо́ты

**Lúngenschwindsucht** *f* - сухо́ты, тубер-кулёз лёгкіх

**lúngern** *vi* ло́дарнічаць, гультаява́ць

**Lúnte** *f* -, -n 1) кнот 2) хвост (*пушнога звера*) ◊ ***~ ríechen**** *разм.* адчува́ць небяспе́ку

**Lúpe** *f* -, -n лу́па; ***j-n, etw. scharf únter die ~ néhmen**** прыглядзе́цца бліжэ́й да каго́-н., чаго́-н.

**Lupíne** *f* -, -n *бат.* лу́бін

**Lúpus** *m* -, - *i* -se *мед.* ваўча́нка

**Lúpus in fábula** ≅ лёгкі на ўспамі́н (*літаральна* воўк у ка́зцы)

**Lúrche** *pl заал.* земнаво́дныя, амфі́біі

**Lúsche** *f* -, -n *разм.* мало́дка , мі́зэр (*карта самай нізкай вартасці*)

**Lust** *f* -, Lüste 1) ра́дасць, уце́ха 2) жада́н-не, ахво́та; ***in ~ und Leid zusámmen-halten**** дзялі́ць ра́дасць і го́ра з кім-н.; ***ich hábe ~*** мне хо́чацца; ***j-m ~ máchen zu etw.*** зацікавіць каго́-н. чым-н.; ***~ zu etw. (D), auf etw. (A) háben*** жада́ць [хаце́ць] чаго́-н.; ***~ an etw. (D) fínden**** прыахво́-ціцца да чаго́-н.; ***j-m die ~ néhmen**** адбі́ць ахво́ту каму́-н.; ***mit ~ und Líebe bei éiner Sáche sein*** адда́цца ўсі́м сэ́рцам яко́й-н. спра́ве 2) *часцей pl* пачуццёвыя

жада́нні, пажадлі́васць, хаце́нне; ***séinen Lüsten frönen*** аддава́цца сваі́м жада́нням, захапле́нням

**Lústbarkeit** *f* -, -en весяло́сць, заба́вы, гу́льні

**Lüster** *m* -s, - 1) свяці́льнік, кандэля́бр 2) *тэкст*. люстры́н

**lüstern** *a* 1) пра́гны 2) юрлі́вы

**Lüsternheit** *f* -, -en юрлі́васць, пажадлі́васць

**Lústgarten** *m* -s, -gärten парк (сад) для гуля́ння

**Lústgefühl** *n* -(e)s, -e пачуццё задавальне́ння, асало́ды

**lústig 1.** *a* вясёлы, заба́ўны, сме́шны; ***sich ~ máchen (über A)*** смяя́цца, пацяша́цца (*з каго-н.*) **2.** *adv* ве́села; сме́шна; ***nun ~ an die Árbeit!*** дру́жна за рабо́ту [пра́цу]!; ***das kann ja ~ wérden!*** *іран*. гэ́та мо́жа быць ве́села!; ***nur ímmer ~!*** *разм*. не суму́й!, не журы́ся!

**Lústigkeit** *f* - вясе́лле; весяло́сць, до́бры настро́й, ра́дасць; заба́ўнасць

**Lüstling** *m* -s, -e сладастра́снік; юрлі́вец

**lústlos 1.** *a* бязра́дасны, су́мны, ну́дны **2.** *adv* неахво́тна, вя́ла

**Lústspiel** *n* -(e)s, -e каме́дыя

**Lústspielfilm** *m* -(e)s, -e кінакаме́дыя

**lústwandeln** *неаддз. vi* прагу́львацца, гуля́ць

**lútherisch** *a* лютэра́нскі

**lútschen** *vt* ссаць, смакта́ць

**Lútscher** *m* -s, - 1) со́ска 2) *разм*. цуке́рка (*карамель*)

**lütt** *a дыял*. малы́, мале́нькі

**Luv** [lu:f] *f* - *марск*. наве́траны бок карабля́

**Lux** *n* -, - *фіз*. люкс

**Lúxemburger** *m* -s, - жыха́р Люксембу́рга

**luxuriös** *a* раско́шны, пы́шны

**Lúxus** *m* - 1) раско́ша, пы́шнасць 2) марнатра́ўства; ***gróßen ~ tréiben**** купа́цца ў раско́шы

**Lúxusartikel** *m* -s, - прадме́т раско́шы

**Lúxushotel** *n* -s, -s гасці́ніца [атэ́ль]-люкс

**Lúxusindustrie** *f* -, -stri¦en прамысло́васць прадме́таў раско́шы

**Luzérne** *f* -, -n *бат*. люцэ́рна

**Lýmphe** *f* -, -n *мед*. лі́мфа

**lýnchen** [´linçən] *vt* лінчава́ць

**Lýnchjustiz** [ˈlintʃ- *і* ˈlynç-] *f* - суд Лі́нча

**Lýra** *f* - *муз*. лі́ра

**Lýrik** *f* - лі́рыка; (ліры́чная) паэ́зія

**Lýriker** *m* -s, - лі́рык

**lýrisch** *a* ліры́чны

**Lyzéum** *n* -s, -zé¦en ліцэ́й

# M

**Maar** *n* -s, -e *геал.* крáтэр патýхлага вулкáна

**Maat** *m* -(e)s, -e *i* -en *марск.* ýнтэр-афіцэ́р флóту, старшынá

**Mách¦art** *f* -, -en спóсаб выканáння [вы́рабу]; фасóн

**máchbar** *a* рэáльны, ажыццявíмы

**Máchbarkeit** *f* - рэáльнасць, выканáльнасць

**Máchbarkeitsanalyse** *f* -, -n анáліз на выканáльнасць (*праекта*)

**Máche** *f* - 1) рабóта, апрацóўка 2) хíтрасць, падмáн, фальсіфікáцыя; ***das ist bewússte*** ~ гэ́та свядóмы падмáн; ***óhne*** ~ натурáльна, без хíтрыкаў

**máchen 1.** *vt* 1) рабíць; выраблáць, выкóнваць 2) складáць, раўня́цца; ***zwei mal vier macht acht*** два ў чаты́ры бýдзе [раўня́ецца] вóсем; ***das macht viel*** гэ́та складáе вялíкую сýму; гэ́та ігрáе вáжную рóлю; ***das macht fünf Éuro*** гэ́та складáе пяць éўра; ***das macht nichts*** гэ́та нічóга не знáчыць 2) прывóдзіць у парáдак; ***das Bett*** ~ засцілáць лóжак; ***die Háare*** ~ прычэ́свацца; 3) з'яўля́цца, быць (*кім-н.*); ***den Léhrer*** ~ *разм.* настáўнічаць; 4) заключáць (*саюз*), утварáць (*грамадства*); ***búnte Réihe*** ~ сядзéць уперамéшку (*напр., мужчыны і жанчыны*) 5) мець вы́нікам; ***Pléite*** ~ пацярпéць фія́ска [няўдáчу], збанкрýціцца; 6) падымáць, рабíць (*шум*); ***Radáu*** ~ шумéць, скандáліць; ***gróßes Áufsehen*** ~ рабíць сенсáцыю 7) завяршы́ць, зрабíць; ***éine Partíe*** ~ згуля́ць пáртыю (*у шахматы*); ***Ánspruch auf etw. (A)*** ~ прэтэндавáць на што-н. 8) рабíць, прычыня́ць, выклікáць; ***j-m Angst*** ~ наганя́ць на кагó-н. страх; ***j-m Vergnügen*** ~ прынóсіць камý-н. задавальнéнне 9) рабíць (*сабе*); ***sich (D) über etw. (A) Gedánken*** ~ турбавáцца, непакóіцца, хвалявáцца аб чым-н.; ***es sich (D) bequém*** ~ уладкóўвацца зрýчна [ёмка, вы́гадна] 10): ***j-m Recht*** ~ дагадзíць (каму-н.); ***j-m etw. déutlich*** ~ растлумáчыць камý-н. што-н.; ***sich an etw. (D)*** ~ брáцца за што-н. (*напр., за работу*); ***sich auf den Weg*** ~ выпраўля́цца ў дарóгу; ***was macht dein Deutsch?*** як твaé пóспехі з нямéцкай мóвай?; ***mach, dass du fórtkommst!*** выбірáйся [прэч] адсю́ль! ◊ ***sich dünn(e) [aus dem Staub]*** ~ *разм.* знíкнуць, злiня́ць, уцячы́ **2.** *vi разм.* 1): ***acht Stúnden*** ~ працавáць вóсем гадзíн; ***mach schnell!, máche, máche!*** хутчэ́й!; ***ich mach ja schon!*** зáраз!, хвілíнку! 2) (*in D*) гандлявáць (*чым-н.*); ***in Textíli¦en*** ~ гандлявáць тканíнай

**Máchenschaft** *f* -, -en, *часцей pl* махінáцыі; падкóпы, інтры́гі

**Mácher** *m* -s, - 1) вытвóрца 2) дзялóк, камбінáтар

**Machinatión** [-x-] *f* -, -en махінáцыя

**Macht** *f* -, Mächte 1) сíла, магýтнасць, моц; уплы́ў; улáда; ***die ~ der Gewóhnheit*** сíла звы́чкі; ***die ~ gewínnen**** набы́ць улáду; ***j-m séine ~ fühlen lássen**** даць камý-н. адчýць сваю́ ўлáду; ***séine gánze ~ áufbieten***n* пусцíць у ход усю́ сваю́ ўлáду; ***die ~ an sich (A) réißen**** захапíць улáду; ***an die ~ gelángen [kómmen*]*** прыйсцí да ўлáды; ***an die ~ bríngen**** прывéсці да ўлáды 2) дзяржáва; ***die verbündeten Mächte*** саю́зныя дзяржáвы 3) вóйска, вóйскі; ***die bewáffnete*** ~ узбрóеныя сíлы ◊ ~ ***geht vor Recht*** ≅ прáва на бакý мóцнага [дýжага]

**Máchtanspruch** *m* -(e)s, -sprüche прэтэ́нзія на ўлáду, дамагáнне ўлáды

**Máchtantritt** *m* -(e)s, -e прыхóд да ўлáды

**Máchtbefugnis** *f* -, -se улáда, правамóцтва; ***mit ~sen áusstatten*** надзялíць улá-

дай [правамóцтвамі]; ***die ~se löschen*** паўнамóцтвы канчáюцца

**Máchtbereich** *m* -(e)s, -e сфéра ўлáды

**Máchtergreifung** *f* - захóп улáды

**Máchthaber** *m* -s, - уладáр, валадáр

**máchthaberisch** *a* дэспатычны, уладáрны

**mächtig 1.** *a* 1) магýтны, мóцны 2) веліч́эзны 3) які валóдае (*чым-н.*); ***séiner Gefühle nicht ~ sein*** не валóдаць сваімі пачýццямі **2.** *adv* вéльмі, надзвычай; ~ ***víel*** вéльмі мнóга

**Mächtigkeit** *f* - 1) моц, магýтнасць 2) *горн.* таўшчыня́ (*пласта*)

**Máchtkampf** *m* -(e)s барацьбá за ўлáду

**máchtlos** *a* бяссільны, безабарóнны, безулáдны; ***j-m, éiner Sáche (D) gegenüber ~ sein*** быць бяссільным [слабым] супрóць кагó-н., чагó-н.

**Máchtlosigkeit** *f* - бяссілле; безулáддзе

**máchtsüchtig** *a* прáгны да ўлáды, уладалюбівы

**Máchtverhältnis** *n* -ses, -se суаднóсіны сіл(аў)

**máchtvoll** *a* 1) магýтны 2) пераканáўчы

**Máchtvollkommenheit** *f* - паўнатá ўлáды, суверэнітэ́т; усемагýтнасць; ***mit ~ áusstatten*** надзяліць улáдай

**Máchtwort**: ***ein ~ spréchen**** сказáць рашáючае слóва

**Máchwerk** *n* -(e)s, -e дрэ́нная рабóта, халтýра; *перан.* махінáцыя; ***das ist séiner Hände ~*** гэ́та спрáва ягó рук, гэ́та ягó махінáцыя

**Mácker** *m* -s, - *дыял.* кампаньён, прыя́цель

**Madame** [-'dam] *f* -, Mesdames [mɛ'da:m *i* ma'dam] мадáм, пáні, спадáрыня (*пры звяртанні*)

**Mädchen** *n* -s, - 1) дзяўчынка, дзяўчына 2) пакаёўка, прыслýга 3) *разм.* любая, кахáная

**mädchenhaft** *a* 1) дзявóчы 2) сціплы, сарамлівы, сарамя́жлівы

**Mädchenname** *m* -ns, -n 1) жанóчае імя́ 2) дзявóчае прóзвішча (*замужняй жанчыны*)

**Máde** *f* -, -n *біял.* лічынка, чарвячóк ◊ ***er lebt wie die ~ im Käse*** ≅ ямý не жыццё, а мáсленіца

**Mädel** *n* -s, - *дыял. і разм.* дзяўчына

**Mademoiselle** [madəmoə'zɛl] *f* -, Mesdemoiselles [mɛdəmoə'zɛl] мадэмуазéль, панéнка, спадáрыня (*пры звяртанні да незамужняй жанчыны*)

**mádig** *a* 1) чарвівы 2) брыдкі, агідны, мярзóтны

**Madjár** *m* -en, -en венгр, мадзья́р

**Madónna** *f* -, -nnen мадóнна, Мáці Бóжая

**Madrigál** *n* -s, -e *літ., муз.* мадрыгáл

**Maéstro** *m* -s, -s *i* -ri маэ́стра

**Máfia** [Máffia] *f* - мáфія (*тс. перан.*)

**mag** *präs ад* mögen

**Magazín** *n* -s, -e 1) склад, схóвішча, кладóўка 2) *вайск.* магазін, магазінная карóбка, абóйма 3) (ілюстравáны) часóпіс

**Magd** [ma:kt] *f* -, Mägde хáтняя прыслýга, пакаёўка, батрáчка, парабчáнка

**Mägdlein** *n* -s, - *паэт.* дзяўчынка, дзяўчына

**Mágen** *m* -s, - стрáўнік; жывóт; ***der ~ knurrt*** у жывацé бурчыць (*ад голаду*); ***sich (D) den ~ verdérben**** сапсавáць сабé стрáўнік ◊ ***das hat sich ihm auf den ~ gelégt*** гэ́та сапсавáла ямý настрóй; ***er liegt mir schwer im ~*** я ягó не пераносу [не магý цярпéць]

**Mágenbitter** *m* -s, - (гóркая) гарэ́лка

**Mágendrücken** *n* -s боль пад дыхавіцай [лыжачкай]

**Mágengeschwür** *n* -s, -e *мед.* я́зва стрáўніка

**Mágenkatarrh** *n* -s, -e *мед.* катáр стрáўніка

**Mágenkrampf** *m* -(e)s, -krämpfe бóлі [кóлікі] у стрáўніку, гастралгія

**mágenkrank** *a* хвóры на стрáўнік

**Mágenkrebs** *m* -es рак стрáўніка

**Mágenleiden** *n* -s хварóба [захвóрванне] стрáўніка

**mágenleidend** *a гл.* mágenkrank

**Mágensaft** *m* -s *фізіял.* стрáўнікавы сок

**Mágenschmerzen** *pl* бóлі ў стрáўніку

**Mágenverstimmung** *f* -, -en расстрóйства жыватá; панóс

**máger** *a* 1) худы, хударля́вы 2) *тэх.* бéд-

ны, мізэ́рны 3) зня́ты, сабра́ны (*пра малако*); ***éine ~e Súppe*** по́сны суп; ***~er Gewínn*** нізкі [малы́] дахо́д

**Mágerkeit** *f* - худзізна́, хударля́васць

**Mágermilch** *f* - зня́тае малако́, адго́н

**Magíe** *f* - ма́гія, чараўні́цтва, чарадзе́йства

**Mágier** [-gi:ər], Mágiker *m* -s, - чараўні́к, маг

**mágisch** *a* магі́чны, чарадзе́йны, таямні́чы; ***~es Áuge*** электро́нны індыка́тар настро́йкі; апты́чны індыка́тар; «магі́чнае во́ка»

**Magíster** *m* -s, - магі́стр

**magistrál** *a* 1) магістра́цкі, муніцыпа́льны 2) магістра́льны

**Magistrále** *f* -, -n магістра́ль, магістра́льная лі́нія

**Magistrát** *m* -(e)s, -e магістра́т, муніцыпа́льная ра́да

**magistrátisch** *a* падпарадкава́ны магістра́ту

**Mágma** *n* -s, -men *геал.* ма́гма

**Magnát** *m* -en, -en вяльмо́жа, магна́т

**Magnésium** *n* -s ма́гній

**Magnét** *m* -s *і* -en, -e *і* -en магні́т ◊ ***ein unwiderstéhlicher*** ~ чалаве́к, які́ вало́дае вялі́кай прыцяга́льнай сі́лай

**Magnétband** *n* -(e)s, -bänder магнітафо́нная сту́жка

**Magnétfeld** *n* -(e)s, -er *фіз.* магні́тнае по́ле

**magnétisch** *a фіз.* магні́тны; ~ ***wérden*** намагні́чвацца

**magnetisíeren** *vt тэх.* намагні́чваць

**Magnetísmus** *m* - *фіз.* магнеты́зм

**Magnétnadel** *f* -, -n магні́тная стрэ́лка

**Magnetophón** [Magnetofón] *n* -s, -e магнітафо́н

**Magnetophónband** [-ˈfon-] *n* -(e)s, -bänder магнітафо́нная сту́жка

**Magnétpol** *m* -s, -e *фіз.* магні́тны по́люс

**Magnéttongerät** *n* -(e)s, -e *гл.* Magnetophón

**Magnétzünder** *m* -s, - *тэх.* магне́та

**Magnifizénz** *f* -: ***Éuer [Éure]*** ~ Ва́ша све́тласць, Ва́ша мі́ласць (*зварот, звычайна да рэктара ўніверсітэта*)

**Magnóli¦e** *f* -, -n *бат.* магно́лія

**Mahagóni** *n* -s чырво́нае дрэ́ва

**Mähbinder** *m* -s, - *с.-г.* снопавяза́лка

**Mahd** *f* -, -en 1) сенажа́ць, сенако́с, касьба́, пако́с 2) ско́шаная трава́; ско́шанае збо́жжа, ско́шаная збажына́

**Mähdrescher** *m* -s, - (збожжаўбо́рачны) камба́йн

**mähen I** *vt* касі́ць, жаць

**mähen II** *vi* бляя́ць (*пра жывёл*)

**Mäher** *m* -s, - касе́ц, жнец

**Mahl** *n* -(e)s, -e *і* Mähler абе́д, яда́, бясе́да, банке́т; ***ein ~ der Götter*** *часцей жарт.* часту́нак баго́ў

**máhlen** (*part II* gemáhlen) *vt* мало́ць, таўчы́, драбні́ць; ***die Räder ~ im Sand*** калёсы вя́знуць у пяску́

**Máhlen** *n* -s *с.-г.* памо́л, размо́л; *тэх.* размо́лванне, здрабне́нне

**Máhlstein** *m* -(e)s, -e жаро́н, бягу́н

**Máhlzahn** *m* -(e)s, -zähne *анат.* карэ́нны зуб

**Máhlzeit** *f* -, -en е́жа (*абед, вячэра*); ***éine ~ éinnehmen**** абе́даць; вячэ́раць; ***éine ~ hálten**** сядзе́ць за стало́м, е́сці, прыма́ць стра́ву; ***~en verábreichen*** падава́ць стра́вы, разно́сіць стра́ву (*у бальніцы і г.д.*); ***~!*** прые́мнага апеты́ту!; до́бры дзень!; быва́йце! (*прывітанне ў абедзенны час*) ◊ ***ja ~!, prost ~!*** *іран.* пако́рна [шчы́ра] дзя́кую!

**Mähmaschine** *f* -, -n касі́лка, жа́тка

**Máhnbrief** *m* -(e)s, -e пісьмо́вы напамі́н(ак)

**Mähne** *f* -, -n гры́ва; *жарт.* чупры́на; *тс. перан.* валасы́

**máhnen** *vt* 1) (*an, um A, wegen G*) напаміна́ць (*пра што-н.*) 2) (*vor D*) перасцерага́ць (*ад чаго-н.*); ***vor Sórglosigkeit ~*** папярэ́джваць ад бесклапо́тнасці 3) (*zu D*) заклі́каць (*да чаго-н.*); ***zur Órdnung ~*** заклі́каць да пара́дку; ***zur Éile ~*** застаўля́ць спяша́цца, прыспе́шваць

**Máhnmal** *n* -(e)s, -male *і* -mäler по́мнік (*ахвярам трагічных падзей*)

**Máhnruf** *m* -(e)s, -e *высок.* 1) напамі́н(ак) 2) перасцяро́га

**Máhnschreiben** *n* -s, - *гл.* Máhnbrief

**Máhnung** *f* -, -en 1) напамі́н(ак) (*an A – аб чым-н.*) 2) перасцяро́га, папярэ́джанне (*wegen G – аб чым-н.*) 3) за́клік (*zu D – да чаго-н.*)
**Mähre** *f* -, -n кля́ча, каня́ка
**mährisch** *a* мара́ўскі
**Mähzeit** *f* -, -en *с.-г.* час касьбы́, касаві́ца
**Mai** *m* -(e)s *i* - май, тра́вень
**Maid** *f* -, -en *паэт., жарт.* дзяўчы́на
**Máifeier** *f* - 1) першама́йскае свя́та, свя́та Пе́ршага ма́я 2) маёўка
**Máiglöckchen** *n* -s, - *бат.* ла́ндыш
**Máikäfer** *m* -s, - хрушч, ма́йскі жук
**Mais** *m* -es, -e кукуру́за, маі́с
**Máisanbau** *m* -(e)s выро́шчванне кукуру́зы
**Máisernte** *f* -, -n 1) ураджа́йнасць кукуру́зы 2) убо́рка ўраджа́ю кукуру́зы
**Máisertrag** *m* -(e)s, -träge ураджа́й кукуру́зы
**Máiskolben** *m* -s, - кукуру́зны пача́так
**Máiskorn** *n* -(e)s, -körner кукуру́знае зе́рне
**Máisstärke** *f* - кукуру́зны крахма́л
**Majestät** *f* -, -en 1) ве́ліч, вялі́касць 2) ***Íhre*** ~ Ва́ша вялі́касць (*зварот*)
**majestätisch** *a* ве́лічны
**Majonäse** *f* -, -n маянэ́з
**Majór** *m* -s, -e *вайск.* маёр
**Majorán** *m* -s, -e *бат.* маяра́н, мацярду́шка, мар’я́ннік
**majorénn** *a юрыд. уст.* паўнале́тні
**Majorität** *f* -, -en бо́льшасць (галасо́ў); ***absolúte*** ~ абсалю́тная бо́льшасць
**Majoritätsbeschluss** *m* -es, -schlüsse пастано́ва бо́льшасці [прыня́тая бо́льшасцю]
**makáber** *a* 1) жу́дасны, злаве́сны 2) памярцве́лы
**Mákel** *m* -s, - 1) га́ньба, (гане́бная) пля́ма 2) зага́на, хі́ба; ***an ihm ist kein*** ~ ён бездако́рны [беззага́нны]; ***mit éinem ~ beháftet sein*** мець які́-н. недахо́п [зага́ну]
**Mäkeléi** *f* -, -en перабо́рлівасць; прыдзі́рлівасць
**mäkelig** *a* перабо́рлівы, прыдзі́рлівы
**Mäkelige** *sub m* -n, -n перабо́рлівы [прыдзі́рлівы] чалаве́к
**mákellos** *a* бездако́рны, беззага́нны; незапля́млены
**Mákellosigkeit** *f* - беззага́ннасць, бездако́рнасць; незапля́мленасць
**mákeln** *vi камерц.* займа́цца пасрэ́дніцтвам
**mäkeln** (*an D*) *vi* 1) прыдзіра́цца, чапля́цца (*да чаго-н.*); перабіра́ць, капры́зіць 2) (*um A*) *разм.* таргава́цца; ***an állem*** ~ прыдзіра́цца да ўсяго́, га́ньбіць усё
**Make-up-Artikel** [me:ˈkap-] *m* -s, - касметы́чны сро́дак; *pl* касме́тыка
**Makkaróni** *pl* макаро́ны
**Mákler** *m* -s, - *камерц.* ма́клер, бро́кер
**Mäkler** *m* -s, - **1.** *гл.* Mákler **2.** *у знач. наз. м. р.* перабо́рлівы, нараві́сты, прыдзі́рлівы
**Makréle** *f* -, -n *заал.* макрэ́ль, ску́мбрыя
**Makróne** *f* -, -n міңда́льнае піро́жнае
**Makulatúr** *f* -, -en макулату́ра; ***réden Sie doch kéine ~!*** *разм.* не гавары́це глу́пстваў!, не вярзі́це абы-чаго́!
**mal** **1.** *adv* раз; ***zwei ~ zwei ist vier*** двойчы два [два ў два] – чаты́ры **2.** *prtc разм.* (*скар. ад* éinmal) ану́; ***sag ~!*** ану́, скажы́!; ***komm ~ her!*** хадзі́ сюды́!; ***das ist nun ~ so*** гэ́та так і ёсць
**Mal I** *n* -(e)s, -e *i* Mäler 1) радзі́мы знак, радзі́мка 2) знак, адзна́ка, прыкме́та; ме́тка (*у жывёл*)
**Mal II** *n* -(e)s, -e раз; ***ein éinziges*** ~ то́лькі адзі́н раз; ***das zwéite*** ~ другі́ раз; ***ein ánd(e)res*** ~ (у) другі́ [і́ншы] раз; ***(für) díeses*** ~ (на) гэ́ты раз; ***zum wíevielten ~?*** у като́ры раз?; ***méhrere [éinige] ~e*** не́калькі разо́ў; ***mánches*** ~ і́ншы раз; ***ein übriges*** ~ і́ншы раз; ***mit éinem*** ~ адра́зу; ***ein ~ über das ándere*** раз за ра́зам; ***vóriges*** ~ міну́лы раз; ***nächstes*** ~ насту́пны раз; ***nicht ein éinziges*** ~ на́ват ні ра́зу
**Malachít** *m* -(e)s *мін.* малахі́т; ***bláuer*** ~ лазуры́т
**maláde** *a разм.* хво́ры, нездаро́вы
**Malái¦e** *m* -n, -n мала́ец
**malái¦isch** *a* мала́йскі
**Malaise** [Maläse] [maˈlɛz(ə)] *f* -, -n 1) мло́снасць, недамага́нне 2) няёмкасць, збянтэ́жанасць 3) дрэ́нны настро́й

**Malária** *f* малярыя
**Málbuch** *n* -(e)s, -bücher кніжка для размалёўвання; кніжка-размалёўка
**málen 1.** *vt* 1) малявáць (*часцей фарбамі*) ◊ ***ich wérde ihm was ~!*** ён у мяне дачакáецца [дастýкаецца]! 2) фарбавáць, расфарбóўваць **2. ~, *sich*** адлюстрóўвацца, адбівáцца; ***auf séinem Gesícht málte sich Fréude*** на ягó твáры засвяцілася [адбівáлася] рáдасць
**Máler** *m* -s, - 1) жывапісец, мастáк 2) маляр
**Máleratelier** [-li̯e:] *n* -s, -s стýдыя [майстэрня] мастакá (жывапісу)
**Maleréi** *f* -, -en жывапіс (*мастацтва, твор*)
**málerisch 1.** *a* маляўнічы **2.** *adv* па-мастáцку, вóкам мастакá
**Málerscheibe** *f* -, -n палітра
**Málfahren** *n* -s спрынтэрская гóнка (*веласпорт*)
**Malheur** [ma'lø:r] *n* -s, -e *i* -s непрыéмнасць, няшчáсце; няўдáча, бядá
**maliziös** *a* злы, злóсны, зласлівы; яхíдны; кавáрны, вералóмны
**Málkasten** *m* -s, - *i* -kästen скрынка з фáрбамі
**Málkunst** *f* - *гл.* Maleréi
**málmen** *vt* расціскáць, раздýшваць, расцірáць (*на парашок*)
**málnehmen*** *аддз. vt* памнажáць, мнóжыць
**Málnehmen** *n* -s мнóжанне
**Maltéser** *m* -s, - 1) мальтыец, жыхáр Мáльты 2) *гіст.* рыцар Мальтыйскага óрдэна
**malträtíeren** *vt* дрэнна абыхóдзіцца (*з кім-н.*), мýчыць (*каго-н.*)
**Málve** [-v-] *f* -, -n *бат.* мáльва
**Malz** *n* -es сóлад
**Málzbier** *n* -(e)s, -e сóладавае піва
**Málzeichen I** *n* -s, - 1) радзімка, радзімы знак 2) знак, мéтка, рубéц
**Málzeichen II** *n* -s, - знак мнóжання
**Málzeichen III** *n* -s, - мемарыяльнае збудавáнне, мемарыял (*помнік і г.д.*)
**málzen** [mälzen] *vt* саладавáць
**Málzkaffee** *m* -s сóладавая кáва
**Mamá** (*разм.* Máma) *f* -, -s мáма
**Mámi** *f* -, -s *ласк.* мáма, мамýля
**Mámmon** *m* -s мамóн(а), багáцце, грóшы; ***der Götze ~*** залаты цялéц; ***dem ~ frönen*** служыць мамóне, пакланяцца залатóму цяльцý; ***der schnöde ~*** *пагардл.* нікчэмны метáл
**Mámmut** *n* -s, -e *i* -s мáмант
**mámpfen** *vt разм.* éсці на пóўную губý, малóць як у прóрву
**Mamséll** *f* -, -en *i дыял.* -s *разм.* 1) панéнка 2) аканóмка; праслýга, наймічка
**man I** 1) *pron indef* (*ва ўскосных склонах* man *замяняецца на* éiner: *G* éines, *D* éinem, *A* éinen) *не перакладаецца, ужываецца ў якасці дзейніка ў няпэўна-асабовых сказах*: ~ ***sagt*** кáжуць; ~ ***kann nie wíssen*** нікóлі не вядóма; ~ ***muss das tun*** трэба гэта зрабіць; ~ ***darf das nicht tun*** гэтага рабіць нéльга 2) *ужываецца ў няпэўна-асабовых пабуджальных сказах*: ~ ***stélle sich vor*** уявíце сабé; ***wenn éinem nicht wohl ist, bleibt ~ líeber zu Háuse*** калí хто-н. дрэнна сябé адчувáе, няхáй застаéцца дóма
**man II** *prtc разм.* тóлькі; ***er soll es ~ versúchen!*** хай тóлькі паспрабýе!
**Management** ['mɛnidʒmənt] *n* -s арганізáцыя, уладкавáнне (*чаго-н.*)
**manegen** ['mɛnidʒn] *vt* распараджáцца, кіравáць, загáдваць (*чым-н.*)
**Manager** ['mɛnɛdʒə] *m* -s, - мéнеджэр, распарáдчык; *разм.* заправíла
**manch** *pron indef* нéйкі, пэўны; сёй-той; *pl* шмат хто з; ***~e ságen*** некатóрыя [мнóгія] кáжуць; ***~er júnger Mann*** не адзін малады чалавéк; ***in ~em hat er Recht*** у мнóгім ён мáе рáцыю
**mánchenórts** *adv* у іншых [некатóрых] мéсцах, дзе-нідзé, сям-там
**máncherlei** [mancherléi] *a* рóзны, усялякі, размаíты
**Manchester** [mɑn'tʃɛstər] *m* -s *тэкст.* вельвéт, манчэстэр
**mánchmal** *adv* чáсам, раз-пóраз, час ад часу

**Mandánt** *m* -en, -en *юрыд.* 1) манда́нт, даве́рнік 2) *дып.* манда́тная тэрыто́рыя
**Mandaríne** *f* -, -n *бат.* мандары́н (*плод*)
**Mandát** *n* -(e)s, -e 1) манда́т; ***das ~ über etw. (A) bekómmen**** атрыма́ць манда́т на кірава́нне чым-н. 2) нака́з (*выбаршчыкаў*) 3) парла́менцкі манда́т; дэпута́цкае ме́сца
**Mándel I** *f* -, -n 1) мінда́ль 2) *анат.* мінда́ліна, міндалепадо́бная зало́за; ***die ~n heráusnehmen**** выраза́ць мінда́ліны
**Mándel II** *f* -, -n пятна́ццаць штук; ***gróße*** ~ шасна́ццаць штук
**Mándelentzündung** *f* -, -en *мед.* запале́нне мінда́лін, ангі́на
**mándelförmig** *a* міндалепадо́бны
**Mándelkern** *m* -(e)s, -e мінда́ліна (*арэх*)
**Mándelöl** *n* -(e)s мінда́льны але́й
**mándelweise** *adv* па паўтара́ дзеся́тка (*па 15–16 штук*)
**Mandolíne** *f* -, -n мандалі́на
**Mánen** *pl міф.* ду́шы нябо́жчыкаў
**Manege** [maˈneːʒə] *f* -, -n мане́ж, цыркава́я арэ́на
**Mangán** *n* -s *хім.* ма́рганец
**Mangánerz** *n* -es, -e ма́рганцавая руда́
**Mángel I** *m* -s, Mängel 1) (*an D*) няста́ча (*чаго-н.*), адсу́тнасць, дэфіцы́т (*чаго-н.*); ~ ***an Zeit*** брак ча́су 2) недахо́п, дэфе́кт; ***Mängel bei der Árbeit*** недахо́пы ў рабо́це; ***óhne ~ sein*** быць бездако́рным 3) бе́днасць, гале́ча; ~ ***léiden**** цярпе́ць няста́чу
**Mángel II** *f* -, -n ката́лка (*для бялізны*)
**Mángelbrett** *n* -(e)s, -er ката́лка, вало́к (*для качання бялізны*)
**mángelfrei** *a* бездако́рны, беззага́нны
**mángelhaft** *a* 1) недастатко́вы, дэфіцы́тны 2) нездавальня́ючы 3) дрэ́нны, дэфе́ктны; ***die Nóte «~»*** адзна́ка «нездавальня́юча»
**Mángelkrankheit** *f* - *мед.* дыстрафі́я
**mángeln I** *vi, vimp* (*an D*) бракава́ць, нестава́ць, не хапа́ць; ***es mángelt mir an nichts*** мне ні́чо́га не трэ́ба; ***an mir soll es nicht*** ~ за мной спра́ва не ста́не
**mángeln II** *vt* кача́ць бялі́зну
**mángels** *prp* (*G*) *канц.* з прычы́ны недахо́пу [няста́чы]
**Mángelware** *f* -, -n дэфіцы́тны тава́р
**Mángfutter** *n* -s *с.-г.* ме́шанка (*корм*)
**Mángold** *m* -(e)s, -e бура́к, бацві́нне
**Mángobaum** *m* -(e)s, -bäume ма́нга, ма́нгавае дрэ́ва
**Mángopflaume** *f* -, -n ма́нга (*плод*)
**maniakálisch** *a* маніяка́льны, апанава́ны ма́ніяй
**Maníe** *f* -, -ní¦en ма́нія
**Maníer** *f* -, -en 1) мане́ра, ме́тад, спо́саб; ***j-n auf éine gúte ~ lóswerden**** такто́ўна адвяза́цца [адчапі́цца] ад каго́-н.; ***das ist álles ~!*** гэ́та ўсё ненатура́льна [штý́чна]! 2) мане́ры, паво́дзіны
**manieríert** *a* жэма́нны, ненатура́льны, падро́бны
**maníerlich** *a* пачці́вы, до́бра вы́хаваны, прысто́йны
**Maníerlichkeit** *f* - пачці́васць, даліка́тнасць, вы́хаванасць, прысто́йнасць
**manifést** *a* відаво́чны, дэманстраты́ўны
**Manifést** *n* -(e)s, - маніфе́ст; ***ein ~ erlássen**** вы́даць маніфе́ст
**Manifestatión** *f* -, -en 1) маніфеста́цыя 2) прая́ва, выяўле́нне, выка́званне 3) апублікава́нне
**manifestíeren 1.** *vt* 1) праяўля́ць, выяўля́ць, пака́зваць 2) апублікава́ць **2.** *vi* дэманстрава́ць
**Maniküre** *f* -, -n 1) маніку́р 2) набо́р манікю́рных інструме́нтаў
**Manipulatión** *f* -, -en 1) маніпуля́цыя; карыста́нне, кірава́нне (*чым-н.*); (спры́тны) прыём (*у ручной працы*) 2) *pl перан.* маніпуля́цыі, махіна́цыі, хі́трыкі, штý́кі
**Manipulátor** *m* -s, -tóren 1) ілюзіяні́ст, фо́куснік, штука́р 2) *тэх.* маніпуля́тар
**manipulíeren 1.** *vt* маніпулі́раваць, рабі́ць [право́дзіць] маніпуля́цыю **2.** *vi перан.* маніпулі́раваць
**mánisch** *a* маніяка́льны, апанта́ны (ма́ніяй)
**mankíeren** *vi* 1) адсу́тнічаць, манкі́раваць, прагу́льваць 2) спыні́ць плацяжы́ [вы́плату], збанкрутава́ць

**Mánko** *n* -s, -s нястáча, дэфіцы́т, недахóп

**Mann** *m* -(e)s, Männer 1) мужчы́на; ***älter** ~* стары́ (чалавéк) 2) муж; ***éinen ~ bekómmen**** вы́йсці зáмуж 3) чалавéк, асóба (*у спалучэнні з лічэбнікамі не скланяецца*); ***húndert ~*** сто чалавéк; ***húndert ~ stark*** *вайск.* кóлькасцю ў сто чалавéк; ***álle ~ an Bord!*** *марск.* усé навéрх!; ***auf den ~, pro ~*** на чалавéка, на душý, на брáта; ***bis auf den létzten ~*** да апóшняга чалавéка 4) чалавéк (*з прысутнай яму характарыстыкай «які»*); ***ein ~ der Öffentlichkeit*** грамáдскі дзéяч; ***der ~ des Táges*** герóй дня; ***ein ~ von Wort*** чалавéк [гаспадáр] слóва; ***ein ~ von Mut*** мýжны чалавéк 5) -(e)s, *pl* Léute салдáт, радавы́, баéц; матрóс; рабóчы ◊ ***an den réchten ~ gelángen*** патрáпіць на патрэ́бнага чалавéка; ***séinen ~ stéhen**** пастаяць за сябé; ***~!*** (па)слýхай! (*зварот, фам.*); ***~ Góttes!*** *разм.* ты што! (*неадабральна*)

**Mánna** *n* -s, *f* - 1) мáнна 2) *бібл.* мáнна нябéсная

**mánnbar** *a* узмужнéлы, дарóслы

**Mánnbarkeit** *f* - стáласць, дарóсласць

**Männchen** *n* -s, - 1) чалавéчак 2) самéц (*у жывёл*); ***~ báuen [máchen]*** садзíцца на зáднія лáпы (*пра зайца*); служы́ць (*пра сабаку*); *іран.* стаць навы́цяжку; *разм.* супрацíўляцца чамý-н.; ≅ стаць на дыбкí

**Mannequin** [manəˈkɛ̃:] *n*, *m* -s, -s 1) манекéн 2) манекéншчыца

**Männerslip** *m* -s, -s трусы́ (*мужчынская бялізна*)

**Mánnesalter** *n* -s стáлы ўзрост; ***im ~ stéhen**** быць у стáлым узрóсце

**mánnhaft** *a* 1) мýжны, слáўны 2) мужчы́нскі, уласцíвы мужчы́нам 3) энергíчны, рашýчы

**Mánnhaftigkeit** *f* - мýжнасць, дóблесць

**mánnig|fach, ~faltig 1.** *a* разнастáйны, featureрознабакóвы **2.** *adv*: ***auf das mánnigfachste*** усялякім чы́нам

**Mánnigfaltigkeit** *f* -, -en разнастáйнасць, шматбакóвасць, мнóжнасць

**männlich** *a* 1) мужчы́нскі 2) мýжны 3) *грам.* мужчы́нскага рóду

**Männlichkeit** *f* - 1) мýжнасць, стóйкасць 2) стáласць, узмужнéласць

**Mánnsbild** *n* -(e)s, -er *разм.* мужчы́на

**Mánnschaft** *f* -, -en 1) *спарт.* камáнда; ***gástgebende ~*** камáнда гаспадарóў (пóля); ***éine ~ aufstellen*** вы́ставіць камáнду 2) экіпáж (*судна, самалёта*) 3) *вайск.* радавы́ састáў

**Mánnschaftsaufstellung** *f* -, -en *спарт.* склад [састáў] камáнды

**Mánnschaftsgeist** *m* -(e)s (калекты́ўны) дух камáнды

**Mánnschaftskondition** *f* - *спарт.* фізíчная падрыхтавáнасць камáнды

**Mánnschaftsmeisterschaft** *f* -, -en *спарт.* камáнднае першынствó

**Mánnschaftsraum** *m* -(e)s, -räume памяшкáнне экіпáжу [камáнды] (*на судне*)

**Mánnschaftssieg** *m* -(e)s, - *спарт.* камáндная перамóга

**Mánnschaftswagen** *m* -s, - 1) паліцэ́йская машы́на; *вайск.* бронетранспарцёр

**Mánnschaftswertung** *f* - *спарт.* камáндны залíк; ***in der ~*** у камáндным залíку

**Mánnschaftszusammen|setzung, ~stellung** *f* -, -en *спарт.* склад [састáў] камáнды

**mánnshoch** *a, adv* вышынёй з чалавéчы рост

**Mánnsperson** *f* -, -en *разм.* мужчы́на

**Mánnstollheit** *f* - *мед.* німфамáнія

**Mánnszucht** *f* - (ваéнная) дысцыплíна; ***~ hálten**** захóўваць стрóгую дысцыплíну

**Mánnweib** *n* -(e)s, -er мужчынападóбная жанчы́на

**Manométer** *n* -s, - *фіз.* манóметр

**Manöver** [-vər] *n* -s, - 1) *вайск.* манéўры 2) манéўр, хíтрасць; ***allerléi ~ máchen*** манеўравáць, выкрýчвацца

**manövrieren** [-ˈvri:-] *vi* 1) *вайск.* манеўравáць 2) *перан.* манеўравáць, дзéйнічаць абхóдным шляхам, выкрýчвацца

**Manövriergelände** [-ˈvri:r-] *n* -s, - *вайск.* аператы́ўная прастóра

**Mansárde** *f* -, -n мансáрда

**mánschen** *vt*, *vi* *разм.* мяшáць, перамéш-

ваць, размéшваць

**Manschétte** *f* -, -n манжэ́та

**Manschéttenknopf** *m* -(e)s, -knöpfe зáпінка

**Mántel** *m* -s, Mäntel 1) палітó, плашч, шынéль, фýтра 2) пóкрыва, схоў; ***únter dem ~ der Nacht*** пад пóкрывам нóчы 3) *тэх.* кажýх, абалóнка, пакры́шка ◊ ***den ~ nach dem Wínde hängen [dréhen, kéhren]*** ≅ трымáць нос па вéтру

**Mäntelchen**: ***éiner Sáche (D) ein ~ úmhängen*** *перан.* прыкрывáць [прыхарóшваць] што-н.

**Mántelkragen** *m* -s, - каўнéр палітó

**Manuál** *n* -s, -e 1) *уст.* давéднік, дзённік 2) *муз.* клавіятýра; клáвіш (*аргана*)

**manuéll 1.** *a* ручны́, зрóблены ўручнýю; ***~e Fértigkeit*** спры́тнасць рук **2.** *adv* уручнýю

**Manufaktúrwaren** *pl* мануфактýра, тэксты́льныя вы́рабы

**Mánuskript** *n* -(e)s, -e рýкапіс, манускры́пт; ***als ~ gedrúckt*** друкýецца на правáх рýкапісу

**Máppe** *f* -, -n пáпка; партфéль

**Mär** *f* -, -en 1) чýтка, пагалóска 2) падáнне, легéнда, сáга

**Marabú** *m* -s, -s *заал.* марабý

**Márathonlauf** *m* -(e)s, -läufe *спарт.* марафóнскі бег

**Märchen** *n* -s, - 1) кáзка 2) прыдýмка, небылíца; ***erzähle mir kéine ~!*** не раскáзвай мне кáзкі!, не манí!

**märchenhaft** *a* кáзачны, чарóўны, неймавéрны

**Märchenhaftigkeit** *f* - кáзачнасць, чарóўнасць, неймавéрнасць

**Márder** *m* -s, - 1) *заал.* кунíца 2) *разм.* драпéжнік, узлóмшчык

**Märe** *f*-, -n *гл.* Mär

**mären** *vi разм.* марýдзіць; цягнýць, заця́гваць

**Margaríne** *f* -, -n маргары́н

**Mári¦enkäfer** *m* -s, - бóжая карóўка

**Marináde** *f* -, -n 1) марынáд 2) ры́ба ў марынáдзе

**Maríne** *f* -, -n 1) ваéнна-марскí флот; ***bei der ~ díenen*** служы́ць на флóце 2) марскóе вéдамства

**Maríneflugzeug** *n* -(e)s, -e самалёт ваéнна-марскóга флóту

**Maríneinfanterie** *f* -, -ri¦en марскáя пяхóта

**Marínewesen** *n* -s ваéнна-марскáя спрáва

**Marionétte** *f* -, -n марыянéтка (*тс. перан.*)

**Marionéttentheater** *n* -s, - тэáтр марыянéтак, ля́лечны тэáтр

**maritím** *a* марскí; ***~es Klíma*** марскí клíмат

**Mark I** *f* -, - мáрка (*грашовая адзінка*); ***déutsche ~*** (*скар.* DM) *гіст.* мáрка ФРГ

**Mark II** *f* -, -en мяжá, гранíца, прымéжная зямля́ маркгрáфства

**Mark III** *n* -s 1) касцявы́ мозг 2) *бат.* асярóдак; ***er hat ~ in den Knóchen*** ён хрáбры; ***es geht [dringt] éinem durch ~ und Bein*** гэ́та пранíзвае ягó наскрóзь (*пра боль*); *перан.* (гэ́та) бярэ́ за жывóе

**markánt** *a* знáчны, вáжны, выдáтны; вáрты ўвáгі, знамянáльны; характэ́рны; ***~e Züge*** характэ́рныя ры́сы твáру

**Márke** *f* -, -n 1) мáрка (*паштовая*) 2) (кантрóльны) нýмар 3) кляймó, знак, жэтóн; талóн (*харчовых картак*); ***Zúteilung auf ~n*** прóдаж па кáртках 4) асабíсты знак (*салдата*)

**Márkenartikel** *m* -s, - мáрачны вы́раб

**Márkensystem** *n* -s, -e кáрткавая сістэ́ма (*нарміравання прадуктаў харчавання*)

**márkerschütternd** *a* нéмы (*пра крык*), прарэ́злівы, жахлíвы

**Markéting** *n* -s *эк.* маркéтынг

**markíeren 1.** *vt* 1) адзнáчаць, стáвіць кляймó, пазначáць, рабíць дэмаркáцыю (*мяжы*) 2) падкрэ́сліваць, вылучáць; ***die Líebenswürdigkeit zu j-m ~*** быць падкрэ́слена лáскавым [вéтлівым, прыя́зным] да кагó-н. 3) *разм.* удавáць з сябé, прыкíдвацца; ***den Dúmmen ~*** выдавáць з сябé дýрня 4) *спарт.* стры́млівацъ; ***den Gégner ~*** стры́мліваць сапéрніка (*футбол*) **2.** *vi* рабíць стóйку (*пра паляўнічага сабаку*)

**markíert** *a* мéчаны, пазнáчаны; ***~e Atóme*** мéчаныя áтамы

**Markíerung** *f* -, -en маркірóўка; размéт-

ка, клеймава́нне, дэмарка́цыя (*мяжы*)

**márkig** *a* 1) мо́цны, магу́тны, энергі́чны, жыццязд́ольны; ***ein ~es Gesícht*** энергі́чны твар; ***ein ~es Wort*** мо́цнае слоу́ца 2) мазгавы́ 3) *бат.* асяро́дачны

**Markíse** *f* -, -n 1) маркі́за (*навес*) 2) кашто́ўны ка́мень у ава́льнай апра́ве

**Markisétte** [-ˈzɛt] *m* -s, -s; *f* -, -n *тэкст.* маркізе́т

**Márkknochen** *m* -s, - мазгава́я ко́стка

**Márkstein** *m* -(e)s, - ме́жавы ка́мень; *пе-ран.* паваро́тны пункт, вяха́

**Márkstück** *n* -(e)s, -e мане́та ў адну́ ма́рку

**Markt** *m* -(e)s, Märkte ры́нак, база́р, кірма́ш; *эк.* ры́нак, збыт; ***den ~ ábhalten**** гандлява́ць на ры́нку (*у які-н. пэўны дзень*); ***den ~ drücken*** ака́зваць уці́ск на ры́нак ◊ ***séine Haut zu ~e trágen**** рызыкава́ць жыццём, падвярга́ць сябе́ небяспе́цы

**Márktanalyse** *f* -, -n *эк.* вывучэ́нне кан'юнкту́ры ры́нку

**Márktanteil** *m* -s *эк.* тава́рнасць

**Márktaufkommen** *n* -s, - *эк.* тава́рнасць (прадукцыі)

**Márktbude** *f* -, -n ры́начная пала́тка

**márkten 1.** *vt* гандлява́ць (*чым-н.*) **2.** *vi* таргава́цца

**Márktenge** *f* *эк.* ні́зкая кан'юнкту́ра ры́нку

**márktfähig** *a* хо́дкі, ходавы́, які́ ма́е збыт (*пра тавар*)

**márktfertig** *a* гато́вы да рэаліза́цыі [про́дажу]

**Márktforschung** *f* - *эк.* вывучэ́нне ры́нка

**Márktfreiheit** *f* - *эк.* 1) свабо́да га́ндлю 2) пра́ва га́ндлю

**márktgängig** *a* які́ ма́е по́пыт (*пра тавар*)

**márktgebunden** *a* *эк.* ры́нкавы; ***nicht ~*** пазары́нкавы

**Márktgestaltung** *f* - *эк.* стварэ́нне ры́нку

**Márkthalle** *f* -, -n кры́ты ры́нак; ры́нкавы павільён

**Márktkonjunktur** *f* -, -en *эк.* кан'юнкту́ра ры́нку

**Márkt|lücke** *f* -, -n, **~nische** *f* -, -n *эк.* ры́нкавая ні́ша (*наяўнасць незадаволенага попыту на пэўныя віды тавараў і паслуг*)

**Márktplatz** *m* -es, -plätze база́рная пло́шча, кірмашо́вы пляц

**Márktpreis** *m* -es, -e *эк.* ры́нкавы кошт

**Márktproduktion** *f* -, -en *эк.* тава́рная праду́кцыя

**márktreguliert** *a*: ***die ~e Wírtschaft*** свабо́дная ры́нкавая гаспада́рка

**Márktschreier** *m* -s, - 1) гандля́р на ры́нку 2) шарлата́н

**márktschreierisch 1.** *a* рэкла́мны; шарлата́нскі **2.** *adv*: ***~ préisen**** *іран.* го́ласна [мо́цна] рэкламава́ць

**Márktschwankung** *f* -, -en *эк.* вага́нне цэн на ры́нку

**Márkttag** *m* -(e)s, -e база́рны дзень

**Márktweib** *n* -(e)s, -er гандля́рка на ры́нку

**Márktwert** *m* -(e)s, -e *эк.* ры́нкавая [ры́начная] ва́ртасць

**Márktwirtschaft** *f* - *эк.* тава́рна-грашо́вая гаспада́рка; ***die fréie ~*** свабо́дная ры́нкавая экано́міка, свабо́дная ры́нкавая гаспада́рка; ***die soziále ~*** сацыя́льная ры́нкавая гаспада́рка

**márktwirtschaftlich** *a* які́ нале́жыць да ры́нкавай экано́мікі, ры́нкавы

**Marmeláde** *f* -, -n мармела́д, паві́дла

**Marmeládenglas** *n* -es, -gläser шкляны́ сло́ік з паві́длам

**Mármor** *m* -s, -e ма́рмур

**marmoríeren** *vt* падрабля́ць [расфарбо́ўваць] пад ма́рмур

**mármorn** *a* мармуро́вы, зро́блены з ма́рмуру

**maróde** *a* сто́млены, змо́раны, разбі́ты, знясі́лены

**Marodeur** [-ˈdøːr] *m* -s, -e марадзёр

**marodíeren** *vi* марадзёрстваваць

**Marokkáner** *m* -s, - марака́нец

**marokkánisch** *a* марака́нскі

**Maróne** *f* -, -n кашта́н (*плод*)

**Marótte** *f* -, -n вы́думка, дзіва́цтва, капры́з; ***j-m ~n áustreiben**** адвучы́ць каго́-н. ад капры́заў

**Marquis** [-ˈkiː] *m* - [-ˈkiː(s)], - [-ˈkiːs] маркі́з

**Marquise** [-ˈkiːzə] *f* -, -n маркі́за

**Mars I** *f* -, -en, *m* -, -e *марск.* марс

**Mars II** *m* - 1) Марс (*бог вайны*) 2) *астр.* Марс

**marsch!** *int* ідзí!; марш!, руш!; ***~! ~!*** бягóм марш [руш]!

**Marsch I** *m* -es, Märsche 1) пахóд, перахóд, марш; ***sich in ~ sétzen*** рýшыцца ў пахóд 2) *спарт.* хадзьбá 3) *муз.* марш ◊ ***j-m den ~ blásen**** *разм.* прагнáць кагó-н. з трэ́скам

**Marsch II** *f* -, -en урадлíвая нізíна (*каля ракі, каля мора*)

**Márschall** *m* -s, Marschälle 1) *вайск.* мáршал 2) маршáлак, сват 3) *гіст.* гóфмаршалак

**Márschall(s)stab** *m* -(e)s, -stäbe мáршальскае жазлó

**Márschbefehl** *m* -(e)s, -e *вайск.* загáд на марш

**bereit, ~fertig** *a* гатóвы да пахóду [да мáршу]

**Márschendorf** *n* -(e)s, -dörfer вёска ў забалóчанай мясцóвасці

**Márschfolge** *f* -, -n *вайск.* парáдак прахóджання [рýху], пахóдны парáдак

**marschíeren** *vi* (*s, h*) маршыравáць, ісцí, шыбавáць

**márschig** *a* балóцісты

**Márschkolonne** *f* -, -n *вайск.* мáршавая [пахóдная] калóна

**Márschroute** [-ru:tə] *f* -, -n маршрýт; ***mit versíegelter ~*** з пэ́ўнымі абавя́зкамі [даручэ́ннямі]

**Márschsäule** *f* -, -n калóна (*людзей, дэманстрантаў*)

**Márschsicherung** *f* -, -en *вайск.* пахóдная ахóва, ахóва на мáршы

**Márschverpflegung** *f* -, -en пахóдны паёк, правія́нт на мáршы

**Márschweg** *m* -(e)s, -e маршрýт, шлях прахóджання [рýху]

**Marseillaise** [-sɛˈjɛ:zə] *f* - марсельéза

**Márstall** *m* -(e)s, -ställe канíошня, стáйня (*памяшканне і коні*)

**Márter** *f* -, -n *высок.* пакýта, мучэ́нне; катавáнне

**mártern 1.** *vt* мýчыць, катавáць **2. *~, sich*** мýчыцца, пакýтаваць (*mit D – чым-н.*)

**Márterwerkzeug** *n* -(e)s, -e прылáда катавáння

**martiálisch** *a* баявы́, ваяўнíчы; дзíкі, злóсны

**Mártinofen** *m* -s, -öfen *тэх.* мартэ́наўская печ, мартэ́н

**Mártinshorn** *n* -(e)s, -hörner *муз.* ражóк

**Märtyrer** *m* -s, - (святы́) пакýтнік; ***j-n zum ~ stémpeln*** стварáць з кагó-н. пакýтніка

**Martýrium** *n* -s, -ri¦en пакýтніцкая смерць, пакýтніцтва

**Martyrológ** *m* -(e)s, Martyrológium *n* -s, -gi¦en *царк.* мартыралóг (*тс. перан.*)

**Marúnke** *f* -, -n буйнаплóдная слíва

**Marxísmus** *m* - марксíзм

**Marxíst** *m* -en, -en марскíст

**marxístisch** *a* марксíсцкі

**März** *m* -es *i* - сакавíк; ***Ánfang [Mítte, Énde] ~*** у пачáтку [сярэ́дзіне, канцы́] сакавікá

**Marzipán** [Márzipan] *m*, *n* -s, -e марцыпáн

**Másche** *f* -, -n 1) вóчка (*у вязанні, сетцы і г.д.*) 2) вýзел, бант; ***in die ~n geráten**** папáсціся ў сілó [пáстку]

**Máschendraht** *m* -(e)s, -drähte сéтка з дрóту, драцянáя сéтка

**máschig** *a* вя́заны, які́ [што] складáецца з пéтляў

**Maschíne** *f* -, -n машы́на, механíзм; ***die ~ in Gang [Betríeb] sétzen*** пусцíць машы́ну; ***die ~ läuft [ist im Gánge, im Betríeb, im Láufen]*** машы́на працýе; *перан.* спрáвы на хадý; ~ ***schreiben**** друкавáць на машы́нцы; ***sie schreibt Maschíne*** янá друкýе на машы́нцы; ***sie hat Maschíne geschríeben*** янá друкавáла на машы́нцы

**maschíne(n)geschrieben** *a* надрукавáны на машы́нцы

**maschinéll** *a* 1) машы́нны, механíчны, механізавáны 2) машынáльны

**Maschínenaufseher** *m* -s, - машынíст (*механік*)

**Maschínenbau** *m* -(e)s машынабудавáнне

**Maschínenbaubetrieb** *m* -(e)s, -e машынабудаўнíчы завóд

**Maschínenbedienung** *f* - абслугóўванне машы́н [станкá], дóгляд за машы́най [станкóм]
**Maschínenbetrieb** *m* -(e)s, -e абслугóўванне машы́н, эксплуатáцыя машы́н
**Maschíneneinrichter** *m* -s, - налáдчык машы́н
**Maschíneneinsatz** *m* -es механізáцыя, ужывáнне машы́ннай тэ́хнікі
**Maschínenfabrik** *f* -, -en машинабудаўнí-чы завóд
**Maschínengewehr** *n* -(e)s, -e кулямёт; ***léichtes ~*** ручны́ кулямёт; ***überschweres ~*** буйнакалíберны кулямёт
**Maschínenhalle** *f* -, -n *гл.* Maschínensaal
**Maschínenhaus** *n* -es, -häuser машы́ннае аддзялéнне, сілавáя стáнцыя
**Maschínenkanone** *f* -, -n аўтаматы́чная гармáта
**Maschínenkapazität** *f* -, -en *тэх.* прадукцы́йнасць машы́ны
**Maschínenleistung** *f* -, -en *тэх.* прадукцы́йная магу́тнасць машы́ны, прадукцы́йнасць машы́ны
**maschínenmäßig** *a* механíчны, машы́нны
**Maschínenmeister** *m* -s, - 1) машыніст 2) механік
**Maschínenöl** *n* -(e)s, -e машы́ннае мáсла, машы́нная алíва
**Maschínenpistole** *f* -, -n (*скар.* MP) *вайск.* аўтамáт; пісталéт-кулямёт
**Maschínenraum** *m* -(e)s, -räume *тэх.* машы́ннае аддзялéнне
**Maschínensaal** *m* -(e)s, -säle машы́нная зáла
**Maschínenschlosser** *m* -s, - слéсар па рамóнту машы́н
**Maschíne(n)schreiberin** *f* -, -nen машыністка
**Maschíne(n)schrift** *f* -, -en машы́напіс
**Maschínensetzer** *m* -s, - *палігр.* набóршчык набóрнай машы́ны
**Maschínenteil** *n* -(e)s, -e дэтáль машы́ны
**Maschínen-und-Traktóren-Statión** *f* -, -en (*скар.* MTS) *гіст.* машы́нна-трáктарная стáнцыя (*скар.* МТС)
**Maschínenwaffe** *f* -, -n *вайск.* аўтаматы́чная збрóя
**Maschínenwartung** *f* - абслугóўванне машы́ны [станкá], дагля́д за машы́най [станкóм]
**Maschineríe** *f* -, -rí¦en машы́ннае абсталявáнне, механíзм
**Máser** *f* -, -n 1) прóжылак, узóр (*у драўніне*) 2) *бат.* наплы́ў
**máserig** *a* пля́місты; з пражы́лкамі (*пра дрэва*)
**Másern** *pl мед.* адзёр
**Máserung** *f* -, -en узóрыстасць, узóрнасць драўні́ны, тэксту́ра
**Máske** *f* -, -n мáска; ***éine ~ trágen* [vórnehmen*]*** быць у мáсцы (*тс. перан.*); ***die ~ áblegen [von sich wérfen*]*** зняць [скíнуць] з сябé мáску (*тс. перан.*); ***j-m die ~ vom Gesícht réißen**** *перан.* сарвáць мáску з кагó-н.
**Máskenball** *m* -(e)s, -bälle (бал-)маскарáд
**Máskenbildner** *m* -s, - грымёр
**Maskeráde** *f* -, -n маскарáд
**maskíeren 1.** *vt* маскіравáць, прыхóўваць **2. ~, *sich*** надзявáць на сябé мáску, маскіравáцца
**Maskíerung** *f* -, -en маскірóўка
**Maskóttchen** *n* -s, - талісмáн, кудмéнь(чык)
**Máskulinum** *n* -s, -na *грам.* 1) мужчы́нскі род 2) назóўнік мужчы́нскага рóду
**maß** *impf ад* méssen*
**Maß** *n* -es, -e 1) мéра; ***ein vólles ~*** пóўная мéра 2) мéрка; ***nach ~*** па індывідуáльнаму закáзу (*пра вопратку*); ***~ néhmen**** здымáць мéрку 3) памéр; ***in natürlichen ~en*** у натурáльную велічыню́ 4) мéра, ступéнь, мяжá; ***das réchte ~ hálten**** знаць [вéдаць] мéру; ***über das ~ hinaús*** звыш мéры; ***im höchsten ~e*** у вышэ́йшай ступéні 5) ку́бак, ку́фаль (*пасля лічэбнікаў не скланяецца*); ***zwei ~ Bier*** два ку́флі півa
**Masságe** [-ʒə] *f* -, -n масáж
**Massáker** *n* -s, - бóйня, разня́, кровапралíцце
**massakríeren** *vt* учыня́ць бóйню, забівáць
**Máßangabe** *f* -, -n абазначэ́нне мéры
**Máßanzug** *m* -(e)s, -anzüge касцю́м на закáз

**Máßarbeit** *f* -, -en (пашы́вачная) рабóта на закáз
**Máßband** *n* -(e)s, -bänder рулéтка
**Máße** *f* -, -n *уст.* стры́манасць, памяркóўнасць; ***aus der ~, außer ~n*** празмéрна
**Másse** *f* -, -n 1) мáса, рэ́чыва 2) кýча, вялíкая кóлькасць 3) натóўп; ***in ~n kómmen**** прыхóдзіць натóўпам
**Máßeinheit** *f* -, -en *фіз.* адзíнка вымярэ́ння; мéра
**Máßen**: **mit** ~ з захавáннем мéры; ***über álle [die] ~*** звыш усякай мéры, празмéрна; ***etw. in ~ genießen**** умéрана [мéрна] карыстáцца [цéшыцца] чым-н.
**Mássenarbeit** *f* - 1) рабóта сярóд мас, мáсавая рабóта 2) *тэх.* мáсавая вытвóрчасць, мáсавы вы́раб
**Mássenartikel** *m* -s, - рэч шырóкага ўжы́тку; вы́раб мáсавай вытвóрчасці
**Mássenaufgebot** *n* -(e)s, -e мабілізáцыя мас
**Mássenauflage** *f* -, -n мáсавы тырáж, мáсавы вы́раб
**Mássenaufnahme** *f* -, -n *кіно* мáсавая зды́мка
**Mássenausrottung** *f* -, -en мáсавае знішчэ́нне
**Mássenausstoß** *m* -es мáсавы вы́пуск (*прадукцыі*)
**Mássenbedarf** *m* -(e)s 1) патрэ́бнасць мáс(аў) 2) шырóкі пóпыт; ***Güter [Wáren] des ~s*** рэ́чы [тавáры] шырóкага пóпыту [ужы́тку]
**Mássenbedarfsartikel** *m* -s, - рэч шырóкага ўжы́тку
**Mássenbedarfsgüter** *pl* тавáры шырóкага ўжы́тку [пóпыту]
**Mássenbeteiligung** *f* - мáсавы ўдзел (*у чым-н.*)
**Mássenbewegung** *f* -, -en мáсавы рух
**Mássenerzeugung** *f* - мáсавая вытвóрчасць
**Mássen|fabrikation** *f* -, **~fertigung** *f* - мáсавая вытвóрчасць
**Mássengebrauchsartikel** *m* -s, - *гл.* Mássenbedarfsartikel
**Mássengrab** *n* -(e)s, -gräber брáцкая магíла, агýльная магíла
**mássenhaft** **1.** *a* мáсавы **2.** *adv* мáсамі, у вялíкай кóлькасці
**Mássenherstellung** *f* - *гл.* Mássenerzeugung
**Mássenkundgebung** *f* -, -en мáсавы мíтынг, мáсавая дэманстрáцыя
**Mássenmedi¦en** *pl* срóдкі мáсавай інфармáцыі
**Mássenmord** *m* -(e)s, -e мáсавае забóйства
**Mássenorganisation** *f* -, -en мáсавая арганізáцыя
**Mássenrepressáli¦en** *pl* мáсавыя рэпрэ́сіі
**Mássenveranstaltung** *f* -, -en мáсавае мерапрыéмства
**Mássenverbreitung** *f* -, -en мáсавае распаўсю́джванне
**Mássenvernichtungswaffen** *pl* збрóя мáсавага знішчэ́ння
**Mássenversammlung** *f* -, -en мáсавы сход
**Mássenvertrieb** *m* -(e)s, -e *камерц.* мáсавы збыт
**Mássenvorführung** *f* -, -en мáсавае выступлéнне (*на стадыёне і г.д.*)
**mássenweise** **1.** *a* мáсавы **2.** *adv* мáсамі, натóўпам
**Masseur** [-ˈsøːr] *m* -s, -e масажы́ст
**Masseuse** [-ˈsøːzə] *f* -, -n масажы́стка
**Máßgabe** *f* - мéра, суразмéрнасць; ***nach ~ der Kräfte*** па мéры сіл
**máßgebend**, **máßgeblich** **1.** *a* вызначáльны, вырашáльны, аўтарытэ́тны, кампетэ́нтны; ***er ist für mich nicht ~*** ён для мянé не аўтарытэ́т **2.** *adv* у знáчнай ступéні
**massíeren** *vt* 1) масажы́раваць, рабíць масáж 2) *вайск.* масíраваць, засярóджваць
**mássig** *a* аб'ёмісты, масíўны, грýзны
**mäßig** **1.** *a* 1) памяркóўны, сярэ́дні 2) пасрэ́дны **2.** *adv* умéрана, мéрна; стры́мана; ***~ lében*** жыць скрóмна [сцíпла]
**=mäßig** *паўсуф. прыметнікаў, паказвае на адпаведнасць правілу, закону, абавязку, вызначанаму парадку:* régelmäßig рэгуля́рны
**mäßigen** **1.** *vt* змяншáць, суцíшваць, стры́мліваць; змякчáць; ***den Schritt ~*** прыцíшваць хадý; ***die Stímme ~*** сцíш-

ваць гóлас **2. ~, sich** стры́мліваецца

**Mäßigkeit** *f* - 1) памяркóўнасць, стры́манасць, устрымáнне 2) пасрэ́днасць

**Mäßigung** *f* - 1) стры́мліванне, уціхамíрванне, змякчэ́нне 2) змяншэ́нне

**massív** *a* 1) масíўны, ця́жкі, трывáлы 2) грýбы; ***~e Dróhungen*** нахáбныя пагрóзы

**Massív** *n* -s, -e *геал.* масíў

**Máßkleidung** *f* - індывідуáльная пашы́ўка, вóпратка на закáз

**Máßliebchen** *n* -s, - *бат.* маргары́тка, стакрóтка

**máßlos 1.** *a* бязмéрны; надзвычáйны; ***~e Wut*** неўтаймавáны гнеў; ***~e Beléidigung*** ця́жкае зневажáнне **2.** *adv* бязмéжна, бязмéрна, надзвы́чай, крáйне, вéльмі

**Máßlosigkeit** *f* - 1) бязмéрнасць, бязмéжнасць, празмéрнасць, неўмеркавáнасць 2) крáйнасць

**Máßnahme** *f* -, -n мерапрыéмства; ***~n tréffen* [ergréifen*]*** прымáць мéры, рабíць зáхады; ***~n verfügen*** назначáць мéры [мерапрыéмствы]; ***~n éinleiten*** намячáць мерапрыéмствы; ***~n féstlegen*** распрацавáць мерапрыéмствы; устанавíць мéры

**Máßregel** *f* -, -n мерапрыéмства, распараджэ́нне; ***~n gégen j-n tréffen* [ergréifen*]*** прымáць мéры супрóць кагó-н.

**máßregeln** *неаддз. vt* 1) карáць, наклáдваць дысцыплінáрнае спагнáнне 2) звальня́ць (*як карная мера*)

**Máßreg(e)lung** *f* -, -en 1) пакарáнне, спагнáнне 2) звальнéнне (*як карная мера*)

**Máßschneider** *m* -s, - кравéц (*у атэлье індывідуальнага пашыву*)

**Máßschneiderei** *f* -, -en атэльé інывідуáльнага пашы́ву

**Máßstab** *m* -(e)s, -stäbe 1) *тэх.* маштáб; маштáбная лінéйка, шкалá; ***verjüngter ~*** памéншаны маштáб; ***in größerem ~*** у больш шырóкіх памéрах [маштáбах] 2) крытэ́рый, мéрка; éinen ***hóhen ~ an etw. (A) ánlegen*** выстаўля́ць высóкія патрабавáнні да чагó-н.; высóка цанíць штó-н.; ***den éigenen ~ ánlegen*** мéраць штó-н. на свой аршы́н

**máßstabgerecht** *a* вы́трыманы ў маштáбе

**máßstäblich** *adv* у маштáбе

**máßvoll** *a* памяркóўны, стры́маны

**Mast I** *m* -es, -e *i* -en мáчта, слуп

**Mast II** *f* -, -en адкóрм (*жывёлы*)

**Mástdarm** *m* -(e)s, -därme *анат.* прóстая [прамáя] кíшка

**mästen** *vt* адкóрмліваць (*жывёл*)

**Mástfutter** *n* -s канцэнтравáны корм

**Mastítis** *f* - *мед.* масцíт

**Mástix** *m* - *i* -es масцíка

**Mástschwein** *n* -(e)s, -e адкóрмачная свіння́

**Máststation** *f* -, -en адкóрмачны пункт

**Mástviehzucht** *f* - мяснáя жывёлагадóўля

**Masút** *n* -(e)s *тэх.* мазýт

**Matadór** *m* -s *i* -en, -e *i* -en матадóр

**Mästung** *f* - адкóрм

**Match** [mɛtʃ] *m*, *n* -es, -e *спарт.* матч, сустрэ́ча, спабóрніцтва

**Materiál** *n* -s, -i¦en 1) матэрыя́л, сыравíна, запáс 2) матэрыя́лы (*дакументы*), першакрынíца 3) матэрыя́льныя срóдкі, матэрыя́льная чáстка, інвентáр; ***róllendes ~*** *чыг.* рухóмы састáў

**materiál** *гл.* materiéll

**Materiálaufwand** *m* -(e)s расхóд матэрыя́лаў

**Materiálbedarf** *m* -(e)s патрэ́ба ў матэрыя́лах

**Materiáleigenschaft** *f* -, -en уласцíвасць матэрыя́лу

**Materiálfestigkeit** *f* - *тэх.* супраціўлéнне матэрыя́лу

**Materialisatión** *f* - матэрыялізáцыя, арэ́чаўленне

**Materialísmus** *m* - матэрыялíзм

**Materialíst** *m* -en, -en матэрыялíст

**materialístisch** *a* матэрыялісты́чны, матэрыялíсцкі

**Materiálkosten** *pl* выдáткі на матэрыя́лы, кошт матэрыя́лаў

**Materiálprobe** *f* -, -n узóр матэрыя́лу

**Materiálprüfung** *f* -, -en *тэх.* выпрабавáнне матэрыя́лаў, выпрабавáнне ма-

тэрыя́льнай ча́сткі

**Materiálschaden** *m* -s, -schäden матэрыя́льная стра́та

**Materiálversorgung** *f* - матэрыя́льнае забеспячэ́нне, забеспячэ́нне матэрыя́ламі

**Matéri¦e** *f* -, -n *філас., фіз.* матэ́рыя

**materi¦éll** **1.** *a* 1) матэрыя́льны 2) рэ́чавы 3) эканамі́чны **2.** *adv* матэрыя́льна; ***er steht sich ~ gut*** ён до́бра забяспе́чаны матэрыя́льна

**Máthe** *f* - *гл.* Mathemátik

**Mathemátik** [Mathematík] *f* - матэма́тыка; ***ángewandte ~*** прыкладна́я матэма́тыка; ***höhere ~*** вышэ́йшая матэма́тыка

**Mathemátiker** *m* -s, - матэма́тык

**mathemátisch** *a* матэматы́чны

**Matinée** *f* -, -né¦en ра́нішнік (*ранішні спектакль, сеанс і г.д.*)

**Matrátze** *f* -, -n матра́ц; *спарт.* ма́та

**Mätrésse** *f* -, -n палюбо́ўніца, каха́нка, фавары́тка

**Matriarchát** [-ç-] *n* -(e)s *гіст.* матрыярха́т

**Matríkel** *f* -, -n 1) залі́ковая кні́жка (*студэнта*), матры́кул(а); ***Éinschreibung in die ~*** залічэ́нне [унясе́нне] у спі́сы студэ́нтаў 2) рэе́стр, спіс

**Matríze** *f* -, -n *палігр.* ма́трыца

**Matróne** *f* -, -n матро́на

**matrónenhaft** *a* пава́жная, самаві́тая (*пра жанчыну ў гадах*)

**Matróse** *m* -n, -n матро́с

**Matrósenbluse** *f* -, -n матро́ска

**Matsch I** *m* -es *разм.* ва́дкая гразь, сло́та

**Matsch II** *m, n* -es, -e *разм.* про́йгрыш, канчатко́вае паражэ́нне (*у гульні*)

**matsch** *a* 1) той, хто прайгра́ў (*у гульні*); ***j-n ~ máchen*** нане́сці каму́-н. паражэ́нне 2) *разм.* сла́бы, вя́лы; дрэ́нны, хво́ры; ***sein Mágen ist ~*** яго́ стра́ўнік расстро́іўся

**mátschen** *vi* (s) *разм.* пялёхаць па гра́зі

**mátschig** *a* 1) вя́зкі, гра́зкі 2) мя́ккі, расці́снуты; ***~er Schnee*** раста́лы снег

**matt** *a* 1) сла́бы, вя́лы, сто́млены; ***müde und ~*** (ве́льмі) сто́млены; ***éine ~e Entschúldigung*** неперакана́ўчае прабачэ́нне 2) ма́тавы, цьмя́ны 3) невыра́зны, неперакана́ўчы 4) *шахм.* ***мат; ~ in drei Zügen*** мат у тры хады́; ***j-n ~ sétzen*** зрабі́ць [аб'яві́ць] мат каму́-н.; *перан.* перамагчы́ [абясшко́дзіць каго́-н.]

**Matt** *n* -s, -s *шахм.* мат

**Mátte I** *f* -, -n альпі́йскі луг, па́ша, вы́ган

**Mátte II** *f* -, -n ма́та, цыно́ўка

**máttfarben** *a* бля́клы

**Máttglas** *n* -es, -gläser ма́тавае шкло

**Máttheit** *f* - 1) сла́басць, вя́ласць, знямо́га, мля́васць, сто́мленасць 2) ма́тавасць

**mattíert** *a* ма́тавы; ***~e Glühbirne*** ма́тавая ля́мпачка

**Máttigkeit** *f* - 1) змо́ранасць, сла́басць, вя́ласць, мля́васць 2) ма́тавасць, цьмя́насць

**Máttscheibe** *f* -, -n ма́тавае шкло́

**Matúr** *n* -s *уст.*, **Matúra** *f* - экза́мен на атэста́т ста́ласці, мату́ра

**maturíeren** *vi* здава́ць экза́мен на атэста́т ста́ласці

**Maturitä́tsprüfung** *f* -, -en выпускны́ іспы́т [экза́мен], экза́мен на атэста́т ста́ласці

**Maturitätszeugnis** *n* -ses, -se атэста́т ста́ласці

**Matz** *m* -es, -e *і* Mätze 1) *разм.* малы́ 2) ду́рань; ***da will ich ~ héißen!*** заві́це мяне́ ду́рнем, калі́ гэ́та не так!

**Mätzchen** *n* -s, - *разм.* малы́ш, дурне́нькі ◊ ***~ máchen*** стро́іць ду́рня, рабі́ць глу́пствы; ***mach mir kéine ~ vor!*** не загаво́рвай мне зу́бы!

**mau** *разм.*: ***mir ist ~*** мне нядо́бра; ***es geht ~*** спра́ва дрэ́нь

**Máuer** *f* -, -n 1) мур, (каме́нная, цагля́ная) агаро́джа 2) *перан.* апо́ра, надзе́йная абаро́на

**máuerfest** *a* надзе́йны, цвёрды, непахі́сны

**máuern** *vt і vi* кла́сці мур, мурава́ць

**Máuerstein** *m* -(e)s, -e (чырво́ная) цэ́гла

**Máuerwerk** *n* -(e)s мурава́нне, муро́ўка

**Maul** *n* -(e)s, Mäuler мы́са, зя́па, па́шча, пы́са; ***~ hálten!*** маўча́ць!; ***ein süßes ~ máchen*** надава́ць тва́ру ліслі́вы [падлі́злівы] вы́раз; ***ein (schíefes) ~ máchen*** скрыві́ць кі́слую мі́ну; ***ein gróßes ~ sein*** быць гру́бым; ***j-m das ~ verbíeten****

прымýсіць кагó-н. замóўкнуць; ***j-n in der Léute Mäuler bríngen**** распаў-сю́джваць дрэ́нныя чýткі пра кагó-н. ◊ ***dem geschénkten Gaul sieht [schaut] man nicht ins*** ~ дóранаму каню́ ў зýбы не глядзя́ць; ***sich (D) das ~ wíschen*** ≅ застáцца з нóсам [ні з чым]; ***j-m Hónig ums ~ schmíeren*** ≅ лíслівіць камý-н., лагóдзіць камý-н.

**Máulaffen**: ~ ***féilhalten**** быць разявáкай; утарóпліваццa (*на што-н.*), лавíць варóн

**Máulaufreißer** *m* -s, - *разм.* хвалькó

**Máulbeerbaum** *m* -(e)s, -bäume *бат.* тýтавае дрэ́ва, шаўкóўніца, мóрва

**máulen** *vi разм.* надзьмувáцца, капры́зіць

**Máulesel** *m* -s, - *заал.* лашáк

**máulfaul** *a груб*. негаваркí, маўклíвы

**máulfertig** *a* гаваркí, балбатлíвы

**Máulheld** *m* -en, -en *разм.* хвалькó, самахвáл

**Máulkorb** *m* -(e)s, -körbe намóрднік

**Máulschelle** *f* -, -n аплявýха

**Máulseuche** *f* - *вет*. я́шчур

**Máultier** *n* -(e)s, -e *заал.* мул

**Máulwerk**: ***ein gútes ~ háben*** *разм.* быць бóйкім на язы́к

**Máulwurf** *m* -(e)s, -würfe крот

**Máulwurfsarbeit** *f* - падпóльная [падрыўнáя] дзéйнасць

**Máurer** *m* -s, - 1) мýляр 2) тынкóўшчык 3) *гл.* Fréimaurer

**Máurerarbeit** *f* -, -en тынкавáльная рабóта; рабóта [прáца] мýляра

**máurisch** *a* маўрытáнскі

**Maus** *f* -, Mäuse 1) мыш; ***das trägt éine ~ auf dem Schwanz fort*** гэ́та вéльмі мáла 2) мя́кaць далóні (*каля вялікага пальца*) 3) *камп.* кнóпка, клáвіш(а)

**máuscheln** *vi разм.* ашýкваць, дуры́ць

**mäus¦chenstill** *a* ціхýткі, цíхенькі; ***sich ~ verhálten**** не пíкнуць

**Máusefalle** *f* -, -n, **Mäusefalle** *f* -, -n мышалóўка, пáстка на мышэ́й

**Máuseloch** *n* -(e)s, -löcher мышы́ная нóрка

**máusen 1.** *vi* лавíць мышэ́й **2.** *vt разм.* сцягнýць, спéрці

**Máuser** *f* - лíнька (*птушак*); ***in der ~ sein*** ліня́ць

**máusern** *vi i* **~, sich** 1) ліня́ць (*пра птушак*) 2) *разм.* мяня́ць сваé палíты́чныя пераканáнні 3) мяня́цца да лéпшага, (па)прыгажэ́ць

**máusig**: ***sich ~ máchen*** *груб.* быць пóўным пы́хі

**Mausolé¦um** *n* -s, -lé¦en маўзалéй

**Máustaste** *f* -, -n *камп.* кнóпка [клáвіш(а)] мы́шы; ***auf die ~ drücken*** націснуць на кнóпку [клáвіш(у)] мы́шы; ***mit der ~ dóppelt klícken*** шчóўкнуць кнóпкай [клáвішам] мы́шы два разы́; ***die ~ lóslassen**** *аддз.* адпусцíць кнóпку [клáвішу] мы́шы

**Máuszeiger** *m* -s, - *камп.* пакáзчык мы́шы (*на экране*); ***den ~ auf étwas zíelen*** перамясцíць пакáзчык мы́шы на што-н.

**Máxi** *n* -s, -s 1) даўжыня́ «мáксі» 2) вóпратка даўжынёй «мáксі»

**maximál** *a* максімáльны, найбóльшы, найвялíкшы

**Maximálbetrag** *m* -(e)s, -träge максімáльная сýма

**Maximálleistung** *f* - максімáльная магýтнасць

**Maximálprofit** *m* -(e)s, -e максімáльны прыбы́так

**Maximálwert** *m* -(e)s, -e максімáльная велічыня́, максімáльнае значэ́нне, мáксімум

**Maxíme** *f* -, -n 1) (галóўны) пры́нцып; нóрма павóдзін 2) выкáзванне

**Máximum** *n* -s, -ma мáксімум, максімáльная кóлькасць

**Mayonnaise** [majɔˈnɛːzə] *f* - *гл.* Majonäse

**Mazedóni¦er** *m* -s, - македóнец

**mazedónisch** *a* македóнскі

**Mäzén** *m* -s, -e мецэнáт

**Mechánik** *f* - механíка

**Mechániker** *m* -s, - механíк

**mechánisch 1.** *a* 1) механíчны, машы́нны 2) машынáльны **2.** *adv* 1) механíчна, механíчным чы́нам 2) машынáльна

**mechanisíeren** *vt* механізавáць

**mechanisíert** *a* механізавáны

**Mechanísmus** *m* -, -men механізм
**Meckeréi** *f* -, -en *разм.* бурчанне, ныццё
**Méckerer** *m* -s, - *разм.* буркатун, буркун, нцік
**méckern** *vi* 1) бляяць 2) *разм.* бурчаць, буркатаць
**mécklenburgisch** *a* мекленбургскі
**Medaille** [-ˈdaljə] *f* -, -n медаль; ***éine ~ schlágen* [prägen]*** чаканіць медаль
**medaillíeren** [-dalˈji:rən] *vt* узнагароджваць медалём
**Medaillon** [-dɑlˈjɔ̃:] *n* -s, -s медальён
**Mediáne** *f* -, -n *матэм.* медыяна
**Mediatión** *f* -, -en медыяцыя, пасрэдніцтва
**mediatórisch** *a* пасрэдніцкі
**Medikamént** *n* -(e)s, -e медыкамент, лякарства, лекі
**medikamentös** *a* медыкаментозны, лекавы
**médio** *adv у* сярэдзіне; ~ ***Mai*** у сярэдзіне мая
**Meditatión** *f* -, -en роздум, медытацыя
**meditíeren** *vi высок.* думаць, разважаць
**Médium** *n* -s, -di¦en 1) медыум 2) *фіз.* асяроддзе 3) *грам.* сярэдні стан
**Medizín 1.** *f* - медыцына **2.** -, -en лякарства, лекі, медыкамент
**medizinál** *a* лекавы, медыцынскі
**Medizíner** *m* -s, - 1) малады доктар 2) студэнт-медык
**medizínisch** *a* медыцынскі, лекарскі, лячэбны; ***~e Éinrichtungen*** лячэбна-прафілактычныя ўстановы; ***~e Áufklärung*** санітарна-асветная работа
**Medizínmann** *m* -(e)s, männer знахар, шаптун, лекар, вядзьмар, чараўнік, чарадзей
**Medúse** *f* -, -n *заал.* медуза
**Meer** *n* -(e)s, -e мора; акіян; ***übers ~ [auf dem ~] fáhren**** плаваць па моры
**Méeraal** *m* -(e)s, -e марскі вугор
**Méerbusen** *m* -s, - затока, заліў (*марскі*)
**Méerenge** *f* -, -n праліў, (марская) пратока
**Méeresflut** *f* -, -en марскі прыліў
**Méereshöhe** *f* - вышыня над узроўнем мора
**Méeresküste** *f* -, -n марскі бераг, марское ўзбярэжжа
**Méeresoberfläche** *f* - узровень мора, паверхня мора
**Méeresschlick** *m* -(e)s ілісты марскі грунт
**Méeresspiegel** *m* -s узровень мора
**Méeresstille** *f* - штыль (*на моры*)
**Méeresstrand** *m* -(e)s, -strände марскі бераг, пляж
**Méeresströmung** *f* -, -en марское цячэнне
**Méerkatze** *f* -, -n *заал.* мартышка
**Méerrettich** *m* -s, -e хрэн
**Méerschweinchen** *n* -s, - марская свінка
**Meeting** [ˈmi:-] *n* -s, -s мітынг; сход, сустрэча; ***stárk besúchtes ~*** многалюдны мітынг
**Mégahertz** *n* -, - *фіз.* мегагерц (*адзінка частаты*)
**Megaphón** [Megafón] *n* -s, -e мегафон
**Mehl** *n* -(e)s, -e мука; ***féines [gróbes] ~*** мука тонкага [буйнога] размолу; ***gláttes ~*** мяккая мука; ***gríffiges ~*** крупчастая мука; ***schwárzes ~*** жытняя [аржаная] мука
**Méhlerzeugnisse** *pl* мучныя вырабы
**méhlig** *a* мучністы; мучны
**Méhlkloß** *m* -es, -klöße клёцка, галушка
**Méhlschwitze** *f* -, -n *кул.* мучная падліўка
**Méhlspeise** *f* -, -n мучная страва
**Méhlwurm** *m* -(e)s, -würmer мучны чарвяк
**mehr** (*comp ad* viel) *adv* болей, больш, ***nicht ~*** больш не; ужо не; ***noch ~*** больш таго; ***um so ~ als*** тым больш, што; ***nicht ~ als*** не больш, чым; ***~ als éinmal*** не раз; ***~ denn je*** больш чым калі-н.; ***mehr tot als lebéndig*** паўжывы; ***nicht ~ und nicht wéniger*** не больш і не менш; ***um ~ als das Dóppelte*** больш чым у два разы; ***je ~, désto bésser*** чым больш, тым лепш; ***und desgléichen ~*** і да таго падобнае (*скар.* ***u.dgl.m.*** – і да т.п.); ***das darf nicht ~ vórkommen*!*** каб гэтага больш не было [не здарылася]!
**Mehr** *n* -(s) 1) лішак, рэшта, астатак; прыбытак 2) большасць, перавага
**Méhrarbeit** *f* - 1) *эк.* дадатковая праца 2) звышурочная работа
**Méhrausgabe** *f* -, -n перавыдаткаванне

**méhrbändig** *a* шматто́мны

**Méhrbedarf** *m* -(e)s узро́сшы по́пыт; узро́сшая патрэ́ба

**méhrdeutig** *a* шматзна́чны

**Méhreinnahme** *f* -, -n 1) даба́вачны пры-бы́так 2) дадатко́выя паступле́нні (*звыш плана, бюджэта*) 3) перабо́р

**méhren 1.** *vt* памнажа́ць, павялі́чваць **2. ~, sich** павялі́чвацца

**Méhrer** *m* -s, - *матэм.* мно́жнік

**méhrere** *pron indef* не́калькі; некато́рыя, ро́зныя

**méhreres, méhrerlei** *pron indef n* некато́рае; што́сьці

**Méhrertrag** *m* -(e)s, -träge *с.-г.* павы́шаная ураджа́йнасць

**méhrfach 1.** *a* неаднаразо́вы, шматразо́вы, ча́сты **2.** *adv* неаднаразо́ва, шматразо́ва

**Méhrfache** *sub n* -n: ***um [auf] das ~ [ein ~s] vergrößern*** павялі́чыць у не́калькі разо́ў; ***um ein ~s übertréffen**** перавыша́ць у не́калькі разо́ў

**Méhrfamili¦enhaus** *n* -es, -häuser шматкватэ́рны дом

**méhrfarbig** *a* шматко́лерны

**Méhrgewicht** *n* -(e)s, -e дадатко́вая [лі́шняя] вага́

**Méhrheit** *f* -, -en 1) бо́льшасць 2) мно́ства; ***überwíegende [überwältigende] ~*** перава́жная бо́льшасць; ***geringe [knáppe] ~*** нязна́чная бо́льшасць

**Méhrheitsbeschluss** *m* -es, -schlüsse рашэ́нне бо́льшасці

**méhrjährig** *a* шматгадо́вы, разлі́чаны на не́калькі [шмат] гадо́ў; *бат.* шматгадо́вы

**Méhrkampf** *m* -(e)s, -kämpfe *спарт.* мнагабо́р’е

**Méhrkosten** *pl* дадатко́выя вы́даткі [расхо́ды], перавыдаткава́нне

**méhrläufig** *a* шматство́льны (*пра зброю*)

**Méhrleistung** *f* -, -en 1) павы́шаная прадукцы́йнасць (*працы*) 2) вялі́кае дасягне́нне

**méhrmalig 1.** *a* шматразо́вы; ча́сты **2.** *adv* шматразо́ва, ча́ста

**méhrmals** *adv* не раз, не́калькі разо́ў

**méhrmotorig** *a тэх., ав.* шматмато́рны

**Méhrphasenstrom** *m* -(e)s *эл.* мнагафа́зны ток

**méhrpolig** *a эл.* мнагапо́люсны

**Méhrprodukt** *n* -(e)s, -e *эк.* дадатко́вы праду́кт

**méhrreihig** *a* мнагара́дны; мнагасеры́йны

**méhrröhrig** *a* 1) *радыё* мнагаля́мпавы 2) *вайск.* мнагаство́льны, шматство́льны

**méhrseitig** *a* 1) шматбако́вы 2) *матэм.* мнагаста́ронні, мнагабако́вы

**méhrsilbig** *a лінгв.* шматскладо́вы

**Méhrsitzer** *m* -s, - мнагаме́сны самалёт [аўтамабі́ль]

**méhrsitzig** *a* шматме́сны, шматме́сцавы

**méhrsprachig** *a* мнагамо́ўны, шматмо́ўны

**méhrstellig** *a матэм.* мнагазна́чны, шматзна́чны

**méhrstimmig** *a* шматгало́сы

**méhrstöckig** *a* шматпавярхо́вы

**méhrstufig** *a тэх.* шматступе́нны, шматступе́ньчаты; *гідр.* мнагакаска́дны; ***~e Kráftwerke*** *pl* каска́д гідраста́нцый

**méhrstündig** *a* шматгадзі́нны

**Méhrtagerennen** *n* -s, - шматдзённая (вела)го́нка

**méhrtägig** *a* шматдзённы, які́ ця́гнецца шмат дзён

**méhrteilig** *a* складны́; разбо́рны, раз’ёмны

**Méhrverbrauch** *m* -(e)s перарасхо́д, перавыдаткава́нне

**Méhrwert** *m* -(e)s дадатко́вая ва́ртасць

**méhrwertig** *a хім.* многавале́нтны; мнагазна́чны

**Méhrwertstheorie** *f* - *эк.* тэо́рыя даба́вачнай ва́ртасці

**Méhrzahl** *f* - 1) бо́льшасць 2) *грам.* мно́жны лік

**méhrzähnig** *a тэх.* мнагазу́бчаты

**méhrzellig** *a* шматкле́тачны, шмат’ячэ́йкавы

**Méhrzweckmöbel** *n* -s, - камбінава́ная мэ́бля, дастасава́ная да ро́зных мэт

**méiden*** *vt* пазбяга́ць, цура́цца, уніка́ць; ***der Erfólg méidet ihn nicht*** уда́ча яго́ не міна́е; яму́ шанцу́е

**Méier** *m* -s, - *уст.* 1) селянíн, фéрмер, арандáтар 2) стáраста (*у вёсцы*)

**Meieréi** *f* -, -en *уст.* фéрма, малóчная гаспадáрка

**Méile** *f* -, -n міля; ***énglische ~*** ангéльская міля

**Méilenstein** *m* -(e)s, -e 1) слуп [кáмень], які пакáзвае адлéгласць у мілях 2) *пе-ран.* вяхá

**méilenweit** *a, adv* на [за] шмат міляў

**Méiler** *m* -s, - 1) вóгнішча для выпáльвання вýгалю 2) *фіз.* рэáктар, кацёл (*атамны*)

**mein** *pron poss m* (*f* méine, *n* mein, *pl* méine; *без наз. m* méiner, *f* méine, *n* méin(e)s, *pl* méine) мой (мая́, маё, маé), свой (*які належыць дзеючай асобе*); ***ich lése ~ Buch*** я чытáю сваю́ кнігу; ***~er Méinung (nach)*** па-мóйму, на маю́ дýмку; ***~es Eráchtens*** па-мóйму, на мой пóгляд

**Méine**: ***das ~*** маё, маяá маёмасць; ***die ~n*** маé рóдныя, маé сваякí, маяá сям'я́

**Méineid** *m* -(e)s, -e фальшы́вая [ілжы́вая] прыся́га, клятвапарушэ́нне

**méineidig** *a* клятвапарушáльны, вералóмны; ***~ wérden*** парýшыць кля́тву

**Méineidige** *sub m, f* -n, -n клятвапарушáльнік, -ніца

**méinen** *vt* 1) меркавáць, дýмаць, мець на ўвáзе 2) выкáзваць сваю́ дýмку, казáць 3) мець намéр, хацéць (*што-н. зрабіць*); ***was ~ Sie dazú?*** што Вы дýмаеце аб гэ́тым?, што Вы скáжаце накóнт гэ́тага?; ***was ~ Sie damít?*** што Вы мáеце на ўвáзе?; ***etw. nicht böse ~*** не мець дрэ́ннага [злóга] намéру; ***es gut mit j-m ~*** дóбра абыхóдзіцца з кім-н., дóбра аднóсіцца [стáвіцца] да кагó-н. ◊ ***der Ófen meint es gut*** *разм.* печ дóбра нацéплена

**méiner** **1.** *pron pers G ад* ich; ***gedénkst du ~?*** ці пáмятаеш ты мянé? **2.** *pron poss гл.* mein

**méinerseits** *adv* з майгó бóку

**méinesgleichen** *a inv* падóбны да мянé; такí, як я

**méinesteils** *гл.* méinerseits

**méinet|halben**, **~wegen** 1) дзéля мянé, праз мянé 2) як хóчаш [хóчаце], я не пярэ́чу

**méinetwillen** *adv*: ***um ~*** дзéля мяне

**méinige** *pron poss*: ***der [die, das] ~*** мой [мая́, маё], свой [свая́, сваё]; ***die ~n*** маé (*які належыць дзеючай асобе*)

**Méinige** *гл.* Méine

**Méinung** *f* -, -en дýмка, меркавáнне, пóгляд; ***méiner ~ nach*** на маю́ дýмку, па-мóйму; ***éine vóreingenommene ~*** прадузя́тае меркавáнне; ***öffentliche ~*** грамáдская дýмка; ***ich bin der ~, dass…*** я лічý [такóй дýмкі], што…; ***wir sind éiner ~*** мы дýмаем [мяркýем] тое ж сáмае; ***séine ~ ságen*** вы́казаць сваю́ дýмку; ***sich der ~ híngeben****** прыйсцí да дýмкі; ***ganz méine ~!*** цáлкам (з Вáмі) згóдзен!

**Méinungsäußerung** *f* -, -en выкáзванне дýмак [пóглядаў]

**Méinungsaustausch** *m* -(e)s, -e абмéн дýмкамі [меркавáннямі]

**Méinungsverschiedenheit** *f* -, -en рознагалóссі, разыхóджанні ў дýмках

**Méise** *f* -, -n *заал.* сініца

**Méißel** *m* -s, - разéц, зубíла, дóлата

**méißeln** *vt* высякáць (*разцом*), выдзёўбваць; абсякáць зубíлам; дзяўбцí

**Méiß(e)ner** *a inv* мáйсенскі; ***~ Porzellán*** саксóнскі [мáйсенскі] фарфóр, мáйсенская парцэля́на

**meist** **1.** *a* найбóльшы; ***die ~en Stúdenten*** бóльшасць студэ́нтаў; ***die ~e Zeit*** бóльшасць чáсу; ***in den ~en Fällen*** у бóльшасці вы́падкаў; ***das ~e davón ist bekánnt*** бóльшая чáстка гэ́тага вядóма **2.** *adv* часцéй за ўсё; ***am ~en*** больш за ўсё

**méistbegünstigt** *a эк., дып.* найбóльш спрыя́льны

**meistbíetend** *a* які прапанýе найвышэ́йшую цанý (*на аўкцыёне*)

**méistens**, **méistenteils** *adv* найбóльш, пераважна, бóльшай чáсткай

**Méister** *m* -s, - 1) мáйстар, спецыялíст,

знáўца; ***ein ~ in séinem Fach sein*** быць знáўцам [мáйстрам] сваёй спрáвы ◊ ***es ist kein ~ vom Hímmel gefállen*** ≅ не святы́я гаршкí лéпяць; ***Übung macht den ~; früh übt sich, was ein ~ wérden will*** ≅ працу́й змáлку – бу́дзеш мець дóбрую гаспадáрку; нáвык мáйстра рóбіць; ***das Werk lobt den ~*** ≅ спрáва мáйстра баíцца 2) *спарт.* чэмпіён, мáйстар; ~ ***des Sports*** мáйстар спóрту, рэкардсмéн 3): ~ ***Petz*** Мядзвéдзь (*у казцы*); ~ ***Lámpe*** Лáмпэ-зáяц (*у казцы*); ~ ***Úrian*** Чорт, Д’я́бал (*у казцы*); ~ ***Pfriem*** *разм.* шавéц

**Méisterbrief** *m* -(e)s, -e пасвéдчанне [грáмата] выдáтніка [мáйстра, перадавікá]

**méisterhaft, méisterlich 1.** *a* майстэ́рскі, умéлы; мастáцкі **2.** *adv* па-майстэ́рску, умéла

**méistermäßig** *a спарт.* узóрна

**méistern** *vi* 1) майстравáць, выраблáць 2) авалóдваць (*чым-н.*); ***Schwíerigkeiten*** ~ пераадóльваць ця́жкасці; ***sein Fach*** ~ авалóдаць спецыя́льнасцю; ***séine Zúnge*** ~ *разм.* трымáць язы́к за зубáмі, прыкусíць язы́к

**Méisterprüfung** *f* -, -en íспыт [экзáмен] на звáнне мáйстра

**Méisterschaft** *f* - 1) майстэ́рства 2) *спарт.* чэмпіянáт, першынствó

**Méisterschaftsanwärter** *m* -s, - кандыдáт на звáнне чэмпіёна

**Méisterschaftskampf** *m* -(e)s, -kämpfe *спарт.* барацьбá за першынствó, рóзыгрыш першынствá

**Méisterschaftstitel** *m* -s, - *спарт.* звáнне чэмпіёна

**Méisterschütze** *m* -n, -n выдáтны стралóк; снáйпер

**Méistersinger** *m* -s, - *гіст.* майстарзíнгер

**Méister|stück** *n* -(e)s, -e, **~werk** *n* -(e)s, -e шэдэ́ўр

**Méisterung** *f* -, -en асваéнне (*чаго-н.*)

**méistgebräuchlich** *a* найбóльш ужывáльны

**méistgefragt** *a* хадавы́, хóдкі (*тавар*)

**Méiststufe** *f* -, -n найвышэ́йшая ступéнь

**Melancholie** [melaŋko'li:] *f* -, -lí¦en меланхóлія, засмучэ́нне, тугá

**melancholisch** [melaŋ'ko:-] *a* меланхалíчны, тужлíвы, паны́лы

**Melange** [-'lã:ʒə] *f* -, -n 1) су́месь, мешанíна 2) *тэкст.* мелáнж

**Melásse** *f* -, -n пáтака, мéлес

**Mélde** *f* -, -n *бат.* лябéднік, лебядá

**Méldeamt** *n* -(e)s, -ämter 1) бюрó прапíскі 2) міжгарóдняя тэлефóнная стáнцыя 3) *вайск.* прызыу́ны́ ўчáстак

**Méldebuch** *n* -(e)s, -bücher дамавáя кнíга, кнíга для прапíскі, спіс жыхарóў (*у доме*)

**Méldedienst** *m* -(e)s *вайск.* слу́жба су́вязі

**Méldefahrer** *m* -s, - *вайск.* сувязны́ самакáтчык, сувязны́ матацыклíст

**Méldegänger** *m* -s, - *вайск.* пéшы пасы́льны

**Méldehund** *m* -(e)s, -e *вайск.* сабáка су́вязі

**Méldekartentasche** *f* -, -n *вайск.* палявáя су́мка

**mélden 1.** *vt* (*D, bei D*) 1) паведамля́ць, даклáдваць, сігналізавáць, рапартавáць; ***er hat nichts zu*** ~ яму́ нямá чагó сказáць; ***die Zéitungen*** ~ газéты паведамля́юць 2) прапісáць; ***j-n bei der Polizéi*** ~ прапісáць [зарэгістравáць] когó-н. у палíцыі **2.** **~, sich** з’яўля́цца; ***sich zum Wort*** ~ прасíць слóва; ***sich krank*** ~ павéдаміць аб сваёй хварóбе (*па месцы працы*); ***sich ~ lássen**** прасíць далажы́ць [павéдаміць] аб сваíм прыбыцці [аб сабé]

**Méldeordnung** *f* -, -en *вайск.* парáдак я́ўкі

**Méldepflicht** *f* -, -en 1) абавя́зак своечасóвай прапíскі 2) *вайск.* абавязкóвая я́ўка

**méldepflichtig** *a* які́ падлягáе рэгістрáцыі, які́ абавя́заны прапісáцца

**Mélder** *m* -s, - *вайск.* сувязны́, пасы́льны

**Mélderakete** *f* -, -n сігнáльная ракéта

**Méldestelle** *f* -, -n 1) мéсца прапíскі, бюрó зая́вак (*ва ўстанове*) 2) *вайск.* пункт я́ўкі

**Méldewesen** *n* -s *вайск.* слу́жба су́вязі

**Méldezettel** *m* -s, - бланк на прапíску

**Méldung** *f* -, -en 1) паведамлéнне 2) *вайск.*

дакла́д, данясе́нне; ~ ***erstátten*** адрапартава́ць
**Méldungsfrist** *f* -, -en тэ́рмін пада́чы зая́ўкі
**melíeren** *vt* зме́шваць, мелі́раваць
**melíert** *a* зме́шаны, страка́ты; ***grau ~es Haar*** валасы́ з сівізно́й
**Melioratión** *f* -, -en *с.-г.* меліяра́цыя
**Melíssengeist** *m* -(e)s, -e *фарм.* насто́йка з мелі́сы
**Mélkanlage** *f* -, -n *с.-г.* даі́льная ўстано́ўка
**Mélkeimer** *m* -s, - даёнка
**mélken*** *vt* даі́ць; ***frisch gemólkene Milch*** сырадо́й; ***j-n (tüchtig) ~*** *разм.* (до́бра) даі́ць каго́-н., выманта́чваць гро́шы ў каго́-н.
**Mélkerin** *f* -, -nen доя́рка
**Mélkertrag** *m* -(e)s, -träge *с.-г.* удо́й(насць)
**Mélkkuh** *f* -, -kühe до́йная каро́ва
**Mélkmaschine** *f* -, -n даі́льная машы́на
**Melodéi** *f* -, -en *паэт. гл.* Melodíe
**Melodíe** *f* -, -dí¦en мело́дыя, напе́ў; ***nach der ~*** на маты́ў ◊ ***die éwige ~!*** *пагардл.* ве́чна адно́ і то́е ж [адна́ і та́я ж пе́сня]!
**Melódik** *f* -, -en *муз., літ.* мело́дыка
**melódisch** *a* мелады́чны, музыка́льны, мілагу́чны
**Melóne** *f* -, -n 1) ды́ня 2) *разм.* кацяло́к (*галаўны ўбор*)
**melónenartig** *a* падо́бны на ды́ню
**Melónenbau** *m* -(e)s бахчаво́дства
**Melónenfeld** *n* -(e)s, -er бахча́
**Melónenkürbis** *m* -ses, -se кабачо́к (*гародніна*)
**Membrán** *f* -, -en, **Membráne** *f* -, -n *тэх.* мембра́на; перапо́нка, пласці́нка
**Mémme** *f* -, -n баязлі́вец, баязлі́ўка; ***féige ~*** *пагардл.* ба́ба, ану́ча, мя́мля
**mémmenhaft** *a* труслі́вы, маладу́шны
**Memoiren** [me'moa:rən] *pl* мемуа́ры, запі́скі, успамі́ны
**Memorándum** *n* -s, -den *і* -da мемара́ндум, па́мятная запі́ска
**Memoriál** *n* -s, -e *і* -li¦en мемарыя́л
**Memoriálturnier** *n* -s, -e *спарт.* спабо́рніцтвы ў па́мяць вядо́мага спартсме́на
**memóriam**: ***in ~*** на [у] па́мяць
**memoríeren** *vt* заву́чваць на па́мяць, запаміна́ць
**Menage** [-'na:ʒə] *f* -, -n 1) судо́к (*сталовы прыбор для воцата, перцу і г.д.*) 2) судо́к для перано́су страў
**Menageríe** [-ʒə-] *f* -, -rí¦en звяры́нец; пака́з дзі́кіх жывёл
**Menetékel** *n* -s, - папярэ́джанне, пагро́за
**Ménge** *f* -, -n 1) мно́ства, бе́зліч, вялі́кая ко́лькасць, ма́са 2) нато́ўп, збой; ***éine ~ Ménschen*** нато́ўп лю́дзей
**méngeln** *vt* зме́шваць невялі́кімі до́замі
**méngen** **1.** *vt* зме́шваць, параме́шваць, збы́тваць; ***zu éinem Teig ~*** замясі́ць це́ста; ***eins ins ándere ~*** гавары́ць блы́тана **2. ~, sich** уме́швацца; ***sich in j-s Ángelegenheiten ~*** уме́швацца ў чые́-н. спра́вы
**Méngenangabe** *f* -, -n указа́нне ко́лькасці
**Méngenbegriff** *m* -(e)s, -e ко́лькаснае паня́цце
**Méngenlehre** *f* -, -n *матэм.* тэо́рыя мно́стваў
**méngenmäßig** **1.** *a* ко́лькасны **2.** *adv* па ко́лькасці, у ко́лькасных адно́сінах
**Menískus** *m* -, -ken *фіз., анат.* мені́ск
**Ménnige** *f* - *хім.* су́рык
**Ménsa** *f* -, -sen студэ́нцкая стало́ўка
**Mensch** *m* -en, -en 1) чалаве́к, асо́ба; чалаве́чы род, лю́дзі; ***víele ~en*** мно́га людзе́й; ***jéder ~*** любы́ [ко́жны] чалаве́к; ***ein ~ von Formát*** незвыча́йная [выда́тная] асо́ба; ***~en gúten Wíllens*** лю́дзі до́брай во́лі; ***ein únfertiger ~*** няста́лы чалаве́к 2) *разм. у звароце* ***~!*** чалаве́ча!, бра́це!; ***~, was machst du (da)?*** ты, што ты там ро́біш?; ***~, was soll das?*** паслу́хай, што (гэ́та) зна́чыць? ◊ ***únter die ~en kómmen**** быць [знахо́дзіцца] у грама́дстве [сяро́д людзе́й]
**ménschenähnlich** *a* чалавекападо́бны, антрапамо́рфны
**Ménschenalter** *n* -s 1) пакале́нне 2) сярэ́дняя праця́гласць чалаве́чага жыцця́; ***ínnerhalb éines ~s*** на праця́гу (жыцця́) аднаго́ пакале́ння
**Ménschenfeind** *m* -(e)s, -e чалавеканена-

вíснік, мізантрóп
**ménschenfeindlich** *a* чалавеканенавíсніцкі, мізантрапíчны
**Ménschenfresser** *m* -s, - людаéд, канібáл
**Ménschenfreund** *m* -(e)s, -e філантрóп
**ménschenfreundlich** *a* чалавéчны, гумáнны, дóбры
**Ménschenfreundlichkeit** *f* - чалавéчнасць, гумáннасць
**Ménschengedenken**: ***seit ~*** здавён, здаўнá, спрадвéку, спакóн вéку
**Ménschengeschlecht** *n* -(e)s, -er чалавéчы [людскí] род
**Ménschengestalt** *f* -, -en вóбраз чалавéка; аблíчча чалавéка
**Ménschengewühl** *n* -(e)s цісканíна, таўкатня́; ***im ~*** у гýшчы натóўпу
**Ménschenhass** *m* -es чалавеканенавíсніцтва
**Ménschenkenner** *m* -s, - чалавеказнáўца, знáўца людзéй
**Ménschenleben** *n* -s, - чалавéчае жыццё; ***víele ~ fórdern*** забрáць мнóга чалавéчых жы́ццяў
**ménschenleer** *a* бязлю́дны, пустэ́льны
**Ménschenmenge** *f* -, -n натóўп людзéй
**ménschenmöglich** *a*: ***das ist ja nicht ~!*** гэ́та (зусíм) немагчы́ма!; ***das Ménschenmögliche tun**** зрабíць усё, што ў чалавéчых сíлах
**Ménschenrechte** *pl* правы́ чалавéка
**Ménschenreserven** [-vən] *pl* людскíя рэзéрвы
**ménschenscheu** *a* нелюдзíмы, здзічэ́лы
**Ménschenschinder** *m* -s, - скуралýп, жывадзёр
**Ménschenschlag** *m* -(e)s парóда [тып] людзéй; ***verkümmerter ~*** заняпáлы род
**Ménschenseele** *f*: ***es war kéine ~ da*** там не былó ні душы́
**Ménschenskind** *n* -(e)s, -er *разм.*: ***~!*** дрýжа!, чалавéча!, дзівáк-чалавéк!
**ménschenunwürdig** *a* нечалавéчы (*пра ўмовы і г.д.*)
**Ménschenverstand** *m* -(e)s чалавéчы рóзум; ***der gesúnde ~*** разýмны сэнс; ***für den ~ únfassbar*** рóзуму недастýпна
**Ménschenwohl** *n* -(e)s дабрó [карысць] чалавéцтва
**Ménschenwürde** *f* - чалавéчая гóднасць
**ménschenwürdig** *a* вáрты чалавéчай гóднасці
**Ménschheit** *f* - 1) чалавéцтва 2) *уст.* чалавéчнасць
**ménschlich 1.** *a* чалавéчы, гумáнны, ***nach ~em Ermésssen*** як падкáзвае чалавéчы рóзум; ***Írren ist ~*** чалавéку ўласцíва памыля́цца **2.** *adv* гумáнна, па-чалавéчы, па-лю́дску
**Ménschlichkeit** *f* - чалавéчнасць, гумáннасць
**Ménschwerdung** *f* - пераўтварэ́нне ў чалавéка
**Ménses** *pl*, **Menstruatión** *f* -, -en менструáцыя, мéсячны крывацёк
**Mensúr I** *f* -, -en 1) *хім.* мензýрка 2) *муз.* мензýра; ***hínter die ~en tréten**** збíцца з тáкту
**Mensúr II** *f* -, -en 1) *студ., уст.* дуэ́ль на шпáгах 2) дыстáнцыя (*фехтаванне*); ***énge ~*** блíзкая дыстáнцыя
**Mentalität** *f* -, -en склад рóзуму, ментáльнасць
**Menthól** *n* -s ментóл
**Méntor** *m* -s, -tóren настáўнік, выхавáльнік, мéнтар
**méntorhaft** *a* мéнтарскі, павучáльны
**mentorisíeren** *vi* павучáць, апекавáць; быць настáўнікам
**Menü** *n* -s, -s 1) меню́ (*падбор страў*) 2) *камп.* меню́; ***das ~ öffnen*** адкры́ць меню́ ў прагрáме; ***das áufklappernde ~*** спіс меню́, якí адкрывáецца ў прагрáме
**Menuétt** *n* -s, -e *i* -s менуэ́т (*танец*)
**Menüleiste** *f* -, -n *камп.* радóк меню́
**Mérgel** *m* -s, - *геал.* мéргель
**Meridián** *m* -s, -e *геагр.* мерыдыя́н
**Meríno** *m* -s, -s мерынóс, мерынóсавая авéчка
**merkantíl** *a* 1) меркантыльны; камерцы́йны 2) меркантыльны, гандля́рскі, дрóбна-кары́слівы
**mérkbar** *a* прыкмéтны
**Mérkblatt** *n* -(e)s, -blätter пáмятка; запíс-

ка (*для памяці*)

**Mérkbuch** *n* -(e)s, -bücher натáтнік, дзённік

**mérken 1.** *vt* 1) заўважáць, прыкмячáць; бáчыць; ***óhne etw. zu ~*** без падазрэ́ння на што-н.; ***davón ist nichts zu ~*** гэ́та нікóлькі не прыкмéтна; ***j-n etw. ~ lássen**** даць зразумéць камý-н. што-н.; ***sich nichts ~ lássen**** не падавáць вы́гляду 2) запамінáць; ***sich (D) etw. ~*** запóмніць што-н., браць што-н. на замéтку **2.** *vi*: ***auf etw. (A) ~*** прыкмячáць што-н.; звяртáць увáгу на што-н.

**mérklich** *a* прыкмéтны, знáчны, адчувáльны

**Mérkmal** *n* -(e)s, -e прыкмéта, характэ́рная ры́са; ***ein hervórstechendes ~*** адзнáка, якáя кідаецца ў вóчы

**mérkwürdig** *a* дзіўны, дзівóсны; ***das ist mir ~*** гэ́та мянé здзіўляе

**mérkwürdigerweise** *adv* дзіўным чы́нам, як ні дзіўна

**Mérkwürdigkeit** *f* -, -en дзіўнасць, нязвы́класць

**Mérkzeichen** *n* -s, - памéтка, кляймó; мáрка, значóк; адмéтная [характэ́рная] адзнáка

**meschúgge** *a разм.* звар'яцéлы; дурнавáты

**Mésner** [Méssner] *m* -s, - *царк.* дзяк

**Méssapparat** *m* -(e)s, -e вымярáльны апарáт, вымярáльная прылáда, вымярáльнік

**Méssband** *n* -(e)s, -bänder *тэх.* рулéтка

**méssbar** *a* вымéрны; ***~e Größe*** *матэм.* вымéрная велічыня́

**Méssbarkeit** *f* - вымярáльнасць

**Mésse I** *f* -, -n 1) імшá, абéдня; ***die ~ lésen* [zelebríeren]*** служы́ць абéдню [імшý] 2) кірмáш

**Mésse II** *f* -, -n *марск.* каю́т-кампáнія

**Méssegast** *m* -(e)s, -gäste навéд(валь)нік кірмашý

**Méssegut** *n* -(e)s, -güter тавáр, прызнáчаны для кірмашý

**Méssehalle** *f* -, -n кірмашóвы [вы́ставачны] павільён

**Méssehaus** *n* -es, -häuser кірмашóвы павільён (*паказу ўзораў*)

**Mésseinheit** *f* -, -en адзінка вымярэ́ння

**méssen* 1.** *vt* 1) мéраць, вымярáць; 2) (*an D, mit D*) параўнóўваць (*з кім-н., з чым-н.*), супастаўля́ць (*з чым-н.*) **2.** *vi* мець памéр [велічыню́, вышыню́]; ***sich ~ mit j-m (an D, in D)*** мéрацца сíламі з кім-н. (*у чым-н.*) **3. ~, sich** ( *mit D*) мерáцца сíламі (*з кім-н., чым-н.*); раўня́цца (*з кім-н., чым-н.*)

**Mésser I** *n* -s, - нож; разéц, лязó; ***ein schárfes [stúmpfes] ~*** вóстры [тупы́] нож ◊ ***j-m das ~ an die Kéhle sétzen*** прыпéрці каró-н. да сцяны́; ***die Sáche steht auf des ~s Schnéide*** спрáва ў крыты́чным стáне [станóвішчы]; ***Kampf [Krieg] bis aufs ~*** барацьбá не на жыццё, а на смерць; ***ein ~ óhne (Heft und) Klínge*** пусты́ гук, фíкцыя, аднá бáчнасць; ***das ~ beim Heft háben*** захапíць улáду ў сваé рýкі; ***mit dem größen ~ schnéiden*, das gröβe [lánge] ~ führen*** хлусíць, хвалíцца

**Mésser II** *m* -s, - 1) вымярáльнік, вымярáльная прылáда; лічы́льнік 2) землямéр, камóрнік

**Mésser|griff** *m* -(e)s, -e, **~heft** *n* -(e)s, -e рýчка, дзяржáльна нажá

**Mésserheld** *m* -en, -en рубáка, галаварэ́з

**Mésserklinge** *f* -, -n лязó нажá

**mésserscharf** *a* вóстры як нож

**Mésserschärfer** *m* -s, - асялóк, тачы́ла, тачы́льны кáмень

**Mésserschneide** *f* -, -n *гл.* Mésserklinge

**Mésserspitze** *f* -, -n вастрыё [кóнчык] нажá

**Mésserstich** *m* -(e)s, -e 1) удáр нажóм 2) нажавáя рáна

**Méssestadt** *f* -, -städte гóрад, у якíм прахóдзяць кірмáшы; гóрад кірмашóў

**Méssestand** *m* -(e)s, -stände стэнд (*на кірмашы*)

**Méssgerät** *n* -(e)s, -e вымярáльная прылáда

**Méssgewand** *n* -(e)s, -wänder *царк.* ры́за

**Messías** *m* -, -se 1) *рэл., без pl* Месíя 2) *перан.* збавíцель (*ад рэлігійнага, сацыяльнага гнёту*)

**Méssing** *n* -s, -e жо́ўтая медзь, лату́нь, мо́сенж
**méssingen** *a* ме́дны, лату́нны, з жо́ўтай ме́дзі
**Méssinstrument** *n* -(e)s, -e вымяра́льны інструме́нт, вымяра́льная прыла́да
**Mésslatte** *f* -, -n вымяра́льная [ме́рная] рэ́йка
**Méssopfer** *n* -s, - *царк.* пры́часце, святы́я дары́
**Méssplan** *m* -(e)s, -pläne планшэ́т
**Méssung** *f* -, -en 1) вымярэ́нне; ***éine ~ vórnehmen**** вымяра́ць 2) межава́нне (*палёў*)
**Mésswerkzeug** *n* -(e)s, -e вымяра́льная прыла́да
**Mésswinkel** *m* -s, - *тэх.* вугламе́р
**Mésszahl** *f* -, -en пака́зчык (*лічбавы*)
**Mestíze** *m* -n, -n меты́с
**Met** *m* -s мёд (*напой*)
**Metáll** *n* -s, -e мета́л
**Metállarbeiter** *m* -s, - рабо́чы-металі́ст
**metállartig** *a* металападо́бны; металі́чны
**Metállbarren** *m* -s, - мета́л у злі́тках
**Metállbaukasten** *m* -s, - *i* -kästen металі́чны канстру́ктар (*цацка*)
**metállbearbeitend** *a* металаапрацо́ўчы
**Metállbearbeitung** *f* -, -en апрацо́ўка мета́лу, металаапрацо́ўка
**Metálldreher** *m* -s, - то́кар па мета́ле
**Metálllegierung** *f* -, -en металі́чны сплаў
**metállen** *a* металі́чны
**Metállerzeugnisse** *pl* металі́чныя вы́рабы
**Metállgewinnung** *f* - здабы́ча мета́лаў
**Metállgießer** *m* -s, - (рабо́чы-)ліцэ́йшчык
**Metállgießerei** *f* -, -en ліцэ́йная
**Metállguss** *m* -es, -güsse металі́чнае ліццё, металі́чная адлі́ўка
**metállhaltig** *a хім.* металано́сны; які́ ўтры́млівае мета́л
**Metállhütte** *f* -, -n заво́д па вы́плаўцы каляро́вых мета́лаў
**Metállhüttenindustrie** *f* - каляро́вая металургі́я
**Metállindustrie** *f* -, -stri¦en металаапрацо́ўчая прамысло́васць
**metállisch** **1.** *a* металі́чны **2.** *adv*: ~ ***blank*** з металі́чным бля́скам
**Metállspäne** *pl* металі́чная стру́жка
**Metállstaub** *m* -(e)s металі́чнае пілаві́нне, металі́чныя апі́лкі
**Metallurgíe** *f* - металургі́я
**metallúrgisch** *a* металургі́чны
**metállverarbeitend** *a* металаапрацо́ўчы
**Metállverarbeitung** *f* - апрацо́ўка мета́лаў
**Metállverbrauch** *m* -(e)s расхо́д мета́лу
**Metállwaren** *pl* металі́чныя вы́рабы
**Metállwarenfabrik** *f* -, -en заво́д вы́рабаў з мета́лу
**metállzerspanend** *a* металарэ́зны
**Metamorphóse** *f* -, -n метамарфо́за, пера(ў)тварэ́нне
**Metápher** *f* -, -n *літ.* мета́фара, іншасказа́льнасць, во́бразны вы́раз
**metaphórisch** *a* метафары́чны, во́бразны, іншасказа́льны
**Metaphráse** *f* -, -n *літ.* 1) метафра́за, дасло́ўны перакла́д 2) метафра́за, празаі́чны перакла́д ве́рша
**Metaphysík** *f* - *філас.* метафі́зіка
**metaphýsisch** *a* метафізі́чны
**Metastáse** *f* -, -n *мед.* метаста́з
**Meteór** *n*, *m* -s, -e *астр.* метэо́р
**Meteorít** *m* -en *i* -s, -e(n) *астр.* метэары́т
**meteorítisch** *a* метэо́рны, метэары́тны
**Meteorologíe** *f* - метэарало́гія
**meteorológisch** *a* метэаралагі́чны
**Méter** *n*, *m* -s, - (*скар.* m) метр; ***láufendes*** ~ паго́нны метр
**méterhoch** *a* вышынёй з метр
**méterlang** *a* даўжынёй з метр
**Métermaß** *n* -es, -e 1) метры́чная ме́ра 2) метр (*лінейка*); сантыме́тр (*стужка*) 3) разме́р [вымярэ́нне] у ме́трах
**Métersystem** *n* -s метры́чная сістэ́ма
**méterweise** *adv* ме́трамі, на ме́тры
**Methóde** *f* -, -n ме́тад ◊ ~ ***in etw. (A) bríngen**** наве́сці пара́дак у чым-н., упара́дкаваць што-н.
**Methódik** *f* -, -en мето́дыка
**Methódiker** *m* -s, - (педаго́г-)метады́ст
**methódisch** *a* метады́чны; ***~e Wínke*** метады́чныя ўказа́нні
**Methodíst** *m* -en, -en *рэл.* метады́ст

**Methodologíe** *f* - метадалóгія
**methodológisch** *a* метадалагíчны
**Methúsalem** *m* - *i* -s, -s *перан.* мафусаíл, глыбóкі стáрац
**Methýl** *n* -s *хім.* метыл
**Metier** [-ˈtje:] *n* -s, -s заня́так, прафéсія
**Metonymíe** *f* -, -mí¦en *літ.* метанíмія
**Métrik** *f* - вершаскладáнне, мéтрыка
**métrisch I** *a* метры́чны (*аб мерах*)
**métrisch II** *a літ.* метры́чны
**Métro** *f* -, -s метрó, падзéмка
**Metrologíe** *f* - метралóгія
**metrológisch** *a* метралагíчны
**Metronóm** *n* -s, -e *муз.* метранóм
**Metropóle** *f* -, -n метрапóлія, цэнтр
**Métrum** *n* -s, -ren *i* -ra *літ.* памéр (*верша*), метр, стапá
**Mett** *n* -s *дыял.* фарш са свінíны
**Métte** *f* -, -n *царк.* ю́трань; усянóчная
**Méttwurst** *f* -, -würste італья́нская (вэ́нджаная) каўбасá
**Métze I** *f* -, -n *уст.* асьмíна; гáрнец (*мера*)
**Métze II** *f* -, -n *уст.* прастыту́тка
**Metzeléi** *f* -, -en бóйня, разня́
**Métzger** *m* -s, -e мяснíк, разнíк
**Méuchelmord** *m* -(e)s, -e пóдлае забóйства, падку́пнае забóйства; забóйства з-за вуглá
**Méuchelmörder** *m* -s, - падку́пны забóйца, забóйца з-за вуглá
**méucheln** *vt* забівáць пóдла [па-ліхадзéйску, з-за вуглá]
**méuchlerisch** *a* здрáдніцкі
**méuchlings** *adv* па-здрáдніцку, злачы́нна; ***j-m ~ éinen Schlag versétzen*** нанéсці камý-н. удáр у спíну
**Méute** *f* -, -n 1) зграя сабáк 2) хéўра, бáнда
**Meuteréi** *f* -, -en бунт, мяцéж
**Méuterer** *m* -s, - бунтаўшчы́к, мяцéжнік
**méutern** *vi* бунтавáць
**Mexikáner** *m* -s, - мексікáнец
**mexikánisch** *a* мексікáнскі
**miasmátisch** *a* ядавíты; зарáзны
**miáuen** *vi* мя́ўкаць
**mich** *A ад* ich
**Míchel** *m* -s, - (*ад уласн.*) *разм.* дýрань, разявáка, прасця́к; ***der táube ~*** глухáя цяцéра
**míck(e)rig** *a* хваравíты, слáбы, нямóглы, квóлы
**mídi** *a* паўдóўгі, даўжынёй «мíдзі»
**mied** *impf ад* méiden*
**Míeder** *n* -s, - стáнік, лíфчык, гарсэ́т
**Míederwaren** *pl* жанóчая спóдняя бялíзна
**Mief** *m* -s *груб.* смурóд, дрэ́нны пах; спёртае павéтра
**Míene** *f* -, -n вы́раз твáру, мíна; ***gúte ~ zum bösen Spiel máchen*** рабíць вясёлую мíну пры дрэ́ннай гульні; ***kéine ~ verzíehen**** не падавáць [не пакáзваць] вы́гляду; ***éine ~ áufsetzen*** рабíць мíну, прыня́ць вы́гляд
**Míenenspiel** *n* -(e)s мíміка
**mies 1.** *a разм.* агíдны, дрэ́нны, пóдлы **2.** *adv*: ***das sieht ~ aus!*** гэ́та безнадзéйна!; ***die Sáche steht ~!*** спрáва дрэнь!; ***~ máchen*** бурчэ́ць, ныць
**Míesepeter** *m* -s, - *разм.* буркýн, ны́цік
**míesepet(e)rig** *a* бурклíвы, вéчна нездавóлены
**Míesmacher** *m* -s, - ны́цік, скéптык
**Míesmuschel** *f* -, -n *заал.* мíдыя
**Míetauto** *n* -s, -s таксí
**Míete I** *f* -, -n 1) кватэ́рная плáта 2) наём, пракáт; плáта за наём [пракáт, арэ́нду]; ***etw. in die ~ néhmen**** арэндавáць, наймáць што-н.
**Míete II** *f* -, -n 1) *с.-г.* торп, сцíрта, стог 2) капéц, бурт
**míetefrei** *a* бясплáтны (*аб жылым памяшканні*); ***~e Wóhnung*** бясплáтная кватэ́ра
**míeten I** *vt* 1) наймáць (*пакой*); арэндавáць, брáць напракáт 2) *марск.* фрахтавáць; наймáць (*рабочых і г.д.*)
**míeten II** *vt* склáдваць у сцíрту [стог, бурт, капéц]
**Míeter** *m* -s, - кватарáнт, (кватэ́ра)наймáльнік
**Míetling** *m* -s, -e нáйміт
**Míetshaus** *n* -es, -häuser дом з кватэ́рамі, што здаю́цца ў нáймы
**Míetskaserne** *f* -, -n шматкватэ́рны дом (*які заселены беднатой*), дом-казáрма

**Míetsvertrag** *m* -(e)s, -träge дагавóр аб нáйме
**míetweise** *adv у* наём, напракáт, у пазы́ку
**Miez** *f* -, -en, **Míezchen** *n* -s, -, **Míeze** *f* -, -n, **Míezekätzchen** *n* -s, - кóтачка, кíска
**Migräne** *f* - *мед.* мігрэ́нь
**Migratión** *f* -, -en мігрáцыя
**migríeren** *vi* (*s, h*) мігры́раваць
**Míka** *f* - *мін.* слюдá
**Mikádo I** *m* -s, -s мікáда, япóнскі імперáтар
**Mikádo II** *n* -s, -s мікáда (*гульня*)
**Mikróbe** *f* -, -n мікрóб
**Míkrodolmetscher** *m* -s, - сінхрóнны перакладчык
**Mikroelektrónik** *f* - мікраэлектрóніка
**mikroelektrónisch** *a* мікраэлектрóнны
**Mikrofon** [Mikrophón] *n* -s, -e мікрафóн
**Mikrométer** *m*, *n* -s, - мікрóметр
**Mikrón** *n* -s, - *фіз.* мікрóн
**Mikroorganísmus** *m* -, -men *біял.* мікраарганíзм
**Mikroprozéssor** *m* -s, -sóren мікрапрацэ́сар (*у электроніцы*)
**Mikroskóp** *n* -s, -e мікраскóп
**mikroskopíeren** *vt* разглядáць пад мікраскóпам
**Míkro|übersetzung** *f* -, -en, **~übertragung** *f* -, -en сінхрóнны перакладд (*праз мікрафон*)
**mikroskópisch** *a* мікраскапíчны, драбнюткі
**Milán** *m* -s, -e *заал.* каршу́н, шуля́к
**Mílbe** *f* -, -n клешч
**Milch I** *f* - малакó; ***dícke [sáure] ~*** сыраквáша, кíслае малакó; ***die ~ ábrahmen*** здымáць [знімáць] вяршкí; ***wie ~ und Bútter áussehen**** мецъ квітнéючы вы́гляд; ***das Korn steht in der ~*** жы́та каласу́е
**Milch II** *f* - малóкі (*рыб*)
**Mílchbart** *m* -(e)s, -bärte 1) пушóк на вéрхняй губé 2) *разм.* малакасóс, блазнюк, блáзан
**Mílchbrötchen** *n* -s, - здóбная бу́лачка
**Mílchdrüse** *f* -, -n *анат.* малóчная залóза
**Mílcheimer** *m* -s, - даёнка
**mílchen** *vi* давáць малакó, даíцца
**mílchend** *a* дóйны
**Mílchentrahmer** *m* -s, - малóчны сепарáтар
**Mílchergiebigkeit** *f* - *с.-г.* малóчнасць
**Mílchertrag** *m* -(e)s, -träge надóй
**Mílcherzeugnisse** *pl* малóчныя прадукты
**Mílcherzeugung** *f* - вытвóрчасць малакá, валавы́ надóй малакá
**Mílchfrau** *f* -, -en малóчніца
**Mílchglas** *n* 1) -es, -gläser шкля́нка пад малакó 2) -es малóчнае шклó
**mílchig** *a* малóчны (*тс. пра колер*)
**Mílchkaffee** *m* -s кáва з малакóм
**Mílchkanne** *f* -, -n малóчнік, гляк
**Mílchleistung** *f* -, -en удóй, удóйнасць
**Mílchner** *m* -s, - самéц рыб (*з малокамі*)
**Mílchrahm** *m* -(e)s вяршкí
**Mílchsäure** *f* - *хім.* малóчная кіслатá
**Mílch|seihe** *f* -, -n, **~seiher** *m* -s, - цадзíлка (*для малака*)
**Mílchserum** *n* -s, -ren *i* -ra малóчная сырóватка
**Mílchstraße** *f* - *астр.* Млéчны Шлях, Птушы́ная Дарóга
**Mílchvieh** *n* -s малóчная жывёла
**Mílchviehwirtschaft** *f* - малóчная жывёлагадóўля
**Mílchwaren** *pl гл.* Mílcherzeugnisse
**Mílchzahn** *m* -(e)s, -zähne малóчны зуб
**míld(e) 1.** *a* мя́ккі, лагóдны, цíхі, рахмáны; ***~es Klíma*** умéраны [сярэ́дні] клíмат **2.** *adv* мя́кка; ***~ geságt*** мя́кка кáжучы
**Mílde** *f* - 1) лагóднасць, мя́ккасць 2) мя́ккасць (*пра клімат*)
**míldern** *vt* змякчáць, аблягчáць, паслабля́ць
**Mílderung** *f* -, -en змякчэ́нне, паслаблéнне; сціíшванне (*болю*)
**Mílderungsgrund** *m* -(e)s, -gründe змякчáльная акалíчнасць
**míldherzig** *a* мяккасардэ́чны
**míldtätig** *a* дабрачы́нны
**Míldtätigkeit** *f* -, -en дабрачы́ннасць
**Milieu** [mi'ljø:] *n* -s, -s асярóддзе, атачэ́нне
**milieugeschädigt** [mi'ljø:-] *a* які знахó-

**nótschlachten** *неаддз. vt* прырэ́зваць, прыко́лваць (*жывёлу*)

**Nótsignal** *n* -s, -e сігна́л бе́дства [бяды́]

**Nótsitz** *m* -es, -e запасно́е крэ́сла (*у аўтамабілі і г.д.*)

**Nótstand** *m* -(e)s бяда́, бядо́тнае стано́вішча; ***nationáler ~*** бядо́тнае стано́вішча краіны; ***den ~ im Lánde verhängen*** аб'явіць [увéсці] надзвыча́йнае стано́вішча ў краіне

**Nótstandsgebiet** *n* -s, -e раён, які знахо́дзіцца ў бядо́тным стано́вішчы

**Nótunterkunft** *f* -, -unterkünfte *вайск.* часо́вае ме́сца размяшчэ́ння

**Nótverband** *m* -(e)s, -verbände *мед.* часо́вая павя́зка

**Nótverordnung** *f* -, -en надзвыча́йны зако́н

**Nótwehr** *f* - самаабаро́на; ***etw. in [aus] ~ tun**** зрабіць што-н., абараня́ючыся [абараня́ючы сябé]

**nótwendig 1.** *a* неабхо́дны, патрэ́бны; ***ein ~es Übel*** непазбе́жнае зло **2.** *adv* ве́льмі, надзвы́чай, абавязко́ва (*патрэбна і да т.п.*)

**nótwendigerweise** *adv* па неабхо́днасці, вы́мушана, непазбе́жна

**Nótwendigkeit** *f* -, -en неабхо́днасць, непазбе́жнасць

**Nótzucht** *f* - згвалтава́нне

**nótzüchtigen** *неаддз. vt* згва́лціць

**Novator** [-ˈvaː-] *m* -s, -tóren нава́тар

**Novelle** [-ˈvɛ-] *f* -, -n 1) наве́ла, апавяда́нне 2) дапаўне́нне да зако́ну, змяне́нне зако́ну

**novellíeren** [-v-] *vt* уно́сіць дапаўне́нне ў зако́н

**November** [-ˈvɛ-] *m* - *і* -s лістапа́д

**Novität** [-vi-] *f* -, -en навінка, но́вая рэч, но́вы вы́раб

**Nu**: ***im ~*** імгне́нна, вокамгне́нна

**Nuance** [nyˈãːsə] *f* -, -n адце́нне, нюа́нс

**nüchtern 1.** *a* 1) цвяро́зы (*не п'яны*) 2) разва́жлівы 3) які нічо́га не еў, на́шча 4) сухі, су́мны **2.** *adv* 1) на́шча; да яды́ 2) цвяро́за, разва́жліва, разу́мна 3) су́ха, су́мна

**Nüchternheit** *f* - 1) цвяро́засць 2) разва́жлівасць 3) пусты́ стра́ўнік

**Núckel** *m* -s, - *разм.* со́ска, смо́чак

**Núdeln** *pl* ло́кшына, вермішэ́ль; ***éine úlkige Núdel*** *разм.* дзіва́к, дзіва́чка

**núdeln** *vt* адко́рмліваць (*птушку*); ***ich bin wie genúdelt*** я нае́ўся ад пу́за

**Núdelsuppe** *f* - суп з ло́кшынай, суп з макаро́намі

**nukleár** *a фіз.* я́дзерны, нуклеа́рны

**null** *num* нуль; ***~ Grad*** нуль гра́дусаў; ***eins zu ~*** (1:0) адзін да нуля́; ***~ Uhr zwölf*** нуль гадзін двана́ццаць міну́т [хвілін]

**Null** *f* -, -en нуль; ***das Ergébnis ist gleich ~*** *перан.* вы́нік ро́ўны нулю́; ***zehn Grad über [únter] ~*** дзе́сяць гра́дусаў вышэ́й [ніжэ́й] нуля́

**Núllleiter** *m* -s, - *эл.* нулявы́ про́вад

**Núll-Lösung** [Núlllösung] *f* - нулявóе рашэ́нне

**Núllpunkt** *m* -(e)s, -e 1) *фіз.* пункт замярза́ння 2) *матэм.* нулявы́ пункт

**Numeràle** *n* -s, -li¦en *і* -lia *грам.* лічэ́бнік

**numeríeren** *vt* нумарава́ць

**Numeríerung** *f* -, -en нумара́цыя

**numérisch** *a* лічбавы, лікавы

**Númerus** *m* -, Númeri *грам.* лік

**Numismátik** *f* - нумізма́тыка

**Númmer** *f* -, -n ну́мар, паме́р (*адзення*); ***~ fünf*** ну́мар пяць, пя́ты ну́мар; ***láufende ~*** бягу́чы [пара́дкавы] ну́мар

**nun 1.** *adv* цяпе́р; ***von ~ an*** з гэ́тага часу; ***~ erst*** то́лькі цяпе́р; ***~ erst recht*** тым больш, і пагато́ў **2.** *prtc* ну, так, дык; ***~ éndlich!*** нарэ́шце!; ***~ wird's bald?*** ну, ху́тка?; ***~, ~!*** ну-ну!

**nunméhr** *adv* з гэ́тага часу, адгэ́туль, цяпе́р

**Núntius** *m* -, Núnti¦en (па́пскі) ну́нцый

**nur 1.** *adv* то́лькі **2.** *cj*: ***nicht nur…, sóndern auch…*** не то́лькі…, а [але́] і…; ***nicht ~ héute, sóndern auch mórgen*** не то́лькі сёння, а [але́] і за́ўтра **3.** *prtc* то́лькі, ж(а); ***~ Mut!*** (то́лькі) смяле́й!; ***sieh ~!*** глядзі ж!; ***lass doch ~!*** пакінь [пераста́нь] жа!

**Nuss** *f* -, Nüsse арэ́х; ***éine léere [hóhle,***

*táube]* ~ пусты́ арэ́х; ***éine hárte ~*** *перан.* цвёрды арэ́шак, ця́жкая зада́ча; ***éine hárte ~ knácken*** рашы́ць ця́жкую зада́чу, спра́віцца са склада́най спра́вай ◊ ***Muss ist éine hárte*** ~ ≅ узя́ўся за гуж – не кажы́, што не дуж

**Nússbaum** *m* -(e)s, -baüme грэ́цкі арэ́х (*дрэва*)

**Nússknacker** *m* -s, - 1) шчыпцы́ для арэ́хаў 2) Шчаўкуно́к (*казка*)

**Númssschale** *f* -, -n 1) шкарлупі́на арэ́ха 2) мале́нькае су́дна, я́лік

**Nüster** *f* -, -n но́здра

**Nut** *f* -, -en *тэх.* жо́лаб, паз

**Nútria** *f* -, -s *заал.* ну́трыя

**nútschen** *vt* 1) смакта́ць 2) фільтрава́ць нуч-фі́льтрам

**Nútte** *f* -, -n *груб.* прастыту́тка, пута́на

**Nutz** *уст.*: ***zu (j-s) ~ und Frómmen*** на карысць, у інтарэ́сах каго́-н.

**nutz** *гл.* nútze, nütze

**nútzbar** *a* карысны, прыда́тны; ***~ má-chen (zu D)*** вы́карыстаць (*для чаго-н.*)

**Nútzbarkeit** *f* - кары́сць, прыда́тнасць

**Nútzbarmachung** *f* -, -en 1) выкарыста́нне, утылiза́цыя 2) асвае́нне (*цалінных земляў*)

**nútzbringend 1.** *a* кары́сны, вы́гадны **2.** *adv* з кары́сцю, з вы́гадай

**nútze** [nütze] *a* кары́сны, патрэ́бны, прыда́тны

**Nútzeffekt** *m* -(e)s, -e *тэх.* каэфіцые́нт кары́снага дзе́яння; ***ökonómischer ~*** эканамі́чны эфе́кт

**nútzen** [nützen] **1.** *vi* гадзі́цца, быць кары́сным [прыда́тным] **2.** *vt* выкарысто́ўваць, карыста́цца

**Nútzen** *m* -s, - кары́сць, вы́гада, прыбы́так; ***es ist von ~*** гэ́та прыно́сіць кары́сць; ***~ bríngen* [trágen*]*** прыно́сіць кары́сць; ***aus etw. (D) ~ zíehen**** мець [атры́млiваць] кары́сць з чаго́-н.; ***j-m zum ~ geréichen*** быць кары́сным [на кары́сць] каму́-н.

**Nútzfaktor** *m* -s, -toren каэфіцые́нт выкарыста́ння

**Nútzfläche** *f* -, -n кары́сная пло́шча

**Nútzholz** *n* -es дзелава́я драўні́на

**Nútzlast** *f* -, -en кары́сны груз

**nützlich** *a* кары́сны, вы́гадны; ***zu [bei, in] etw. (D) ~ sein*** быць кары́сным для чаго́-н., чым-н.

**Nützlichkeit** *f* - кары́сць, выго́да, вы́гада

**nútzlos** *a* бескары́сны

**Nútzlosigkeit** *f* - бескары́снасць

**Nútznießer** *m* -s, - чалаве́к, які́ атры́млівае вы́гаду ад чаго́-н., які́ карыста́ецца чым-н.

**Nútznießung** *f* -, -en пра́ва карыста́ння

**Nútzpflanze** *f* -, -n кары́сная раслі́на, тэхні́чная культу́ра

**Nútzung** *f* -, -en выкарыста́нне

**Nútzwert** *m* -(e)s, -e эфе́кт; ***der reále ~*** рэа́льны эфе́кт

**Nylon** ['naelən] *n* -s 1) нейло́н (*тканіна*) 2) *pl* ***~s*** нейло́навыя панчо́хі

**Ný́mphe** *f* -, -n *міф.* ні́мфа

**ný́mphenhaft** *a* як ні́мфа

# O

**o!** *int* (*у спалучэнні з іншымі словамі*) о!, ах!; ~ ***ja!*** о, так!; ~ ***weh!*** які́ жаль!; ~ ***nicht doch!*** дык не (ж)!
**Oáse** *f* -, -n аа́зіс
**ob** *cj* ці; ***als*** ~ як бы́ццам, ні́бы́; ~ ***auch*** хоць і…; ***er frágte, ~ er kómmen sóllte*** ён спыта́ў, ці не прыйсці́ яму́; ~ ***ich líeber bléibe*** ці не лепш мне заста́цца; ***und ~!*** яшчэ́ б!; ***na (und) ~!*** яшчэ́ як!
**Óbacht** *f* - ува́га, назіра́нне; ***auf j-n, etw. (A) ~ gében**** звярта́ць ува́гу на каго́-н., што-н.; ***etw. in ~ néhmen**** прыня́ць што-н. да ўва́гі; ~***!*** ува́га!
**Óbdach** *n* -(e)s схо́вішча, пры́тулак, прыста́нішча; ***kein ~ háben*** не мець пры́тулку, быць бяздо́мным; ***j-m ~ gewähren*** даць пры́тулак каму́-н.
**óbdachlos** *a* бяздо́мны, беспрыту́льны
**Óbdachlose** *sub m, f* -n, -n бяздо́мны, -ая, беспрыту́льны, -ая; ***ein Asýl [Haus] für ~*** пры́тулак для бяздо́мных, начлёжка
**Obduktión** *f* -, -en анатамі́раванне (*трупа*), аўто́псія
**Ó-Beine** *pl* но́гі ко́лам, крывы́я но́гі
**ó-beinig** [Ó-beinig] *a* крывано́гі, які́ ма́е но́гі ко́лам
**Obelísk** *m* -en, -en абелі́ск
**óben** *adv* наве́рсе, уве́рсе, угары́; ***bis*** ~ даве́рху; ***nach*** ~ уго́ру, угару́; ***von ~ (heráb)*** зве́рху (уні́з); ***j-n von ~ heráb behándeln [ánsehen*]*** звысо́ку глядзе́ць на каго́-н., ста́віцца да каго́-н. як да ніжэ́йшай істо́ты; ~ ***erwähnt [~ genánnt]*** вышэйпамянёны, вышэйназва́ны запа́льчывым
**óben stéhend** *a* вышэйназва́ны, вышэйпрыве́дзены, вышэйпамянёны; ***im óben Stéhenden*** як было́ ска́зана вышэ́й
**obenán** *adv* на чале́, на пе́ршым ме́сцы
**obenáuf** *adv* наве́рсе, зве́рху
**obendráuf, obendréin** *adv* звыш [акрамя́] таго́
**obenhín** *adv* павярхо́ўна, злёгку
**obenhináus** *adv*: ~ ***wóllen**** мець вялі́кія наме́ры [пла́ны], зама́хвацца на вялі́кія рэ́чы; ~ ***sein*** мець шмат пы́хі; быць
**óber** *a* 1) ве́рхні, вышэ́йшы 2) гало́ўны, старэ́йшы, вярхо́ўны; ***die ~en Schúlklassen*** старэ́йшыя кла́сы шко́лы
**Óber** *m* -s, - 1) *разм.* (ста́ршы) афіцыя́нт 2) *карт.* да́ма
**Óber=** *паўпрэфікс назоўнікаў, азначае*: 1) ве́рхні 2) вышэ́йшы; вярхо́ўны; гало́ўны; ста́ршы; о́бер
**Óberarm** *m* -(e)s, -e плячо́
**Óberarzt** *m* -es, - ärzte гало́ўны [ста́ршы] ура́ч
**Óberaufsicht** *f* - гало́ўны кантро́ль; вярхо́ўны нагля́д
**Óberbefehl** *m* -(e)s *вайск.* гало́ўнае кама́ндванне; ***den ~führen [háben] (über A)*** кама́ндаваць, распараджа́цца (*кім-н., чым-н.*)
**Óberbefehlshaber** *m* -s, - галоўнакама́ндуючы
**Óberbau** *m* -(e)s, -ten 1) *буд.* надбудо́ва, ве́рхняя ча́стка буды́нка 2) ку́заў (*аўтамашыны*)
**Óberbett** *n* -(e)s, -en пакрыва́ла, ка́па
**Óberbürgermeister** *m* -s, - о́бер-бургамі́стр
**Óberdeck** *n* -(e)s, -e *i* -s ве́рхняя па́луба
**óberdeutsch** *a* верхненяме́цкі, паўднёваняме́цкі
**Óbere** *sub m*, *f* -n, -n кіраўні́к, нача́льнік, старэ́йшы
**Óberfeldarzt** *m* -es, -ärzte падпалко́ўнік ме́дыка-саніта́рнай слу́жбы
**Óberfläche** *f* -, -en паве́рхня; ***wíeder an die ~ kómmen**** зно́ў з’яві́цца на паве́рхні; *перан.* зноў вы́йсці на паве́рхню; ***an der ~ háften [schwímmen*]*** ко́ўзацца па паве́рхні, не ўніка́ць у су́тнасць спра́вы, схва́тваць вяршкі́
**óberflächlich** *a* павярхо́ўны

**Óberflächlichkeit** *f* -, -en лёгкаду́мнасць, павярхо́ўнасць

**Óbergeschoss** *n* -es, -e ве́рхні паве́рх

**Óbergewalt** *f* -, -en вярхо́ўная ўла́да

**óberhalb** *prp* (*G*) зве́рху, па́-над, над; ~ ***des Flússes*** вышэ́й па рацэ́

**Óberhand** *f*: ***die ~ gewínnen* (über A)*** узя́ць верх (*над кім-н.*)*;* ***er hat die ~*** ён тут гало́ўны, ён тут усі́м распараджа́ецца

**Óberhaupt** *n* -(e)s, -häupter галава́, на-ча́льнік, кіраўні́к

**Óberhaus** *n* -es ве́рхняя пала́та (*парламента*)

**Óberhemd** *n* -(e)s, -en ве́рхняя [мужчы́нская] саро́чка [кашу́ля]

**Óberherrschaft** *f* - панава́нне, вярхо́ўная ўла́да

**Óberhoheit** *f* - суверэнітэ́т

**Óberin** *f* -, -nen ста́ршая (медыцы́нская) сястра́

**óberirdisch** *a* надзе́мны; назе́мны, павярхо́ўны

**Óberkellner** *m* -s, - ста́ршы афіцыя́нт

**Óberkiefer** *m* -s, - *анат.* ве́рхняя скі́віца

**Óberkommando** *n* -s, -s гало́ўнае кама́ндаванне, штаб (*аб'яднання*)

**Óberkörper** *m* -s, - ве́рхняя ча́стка ту́лава

**Óberland** *n* -(e)s, -länder гары́стая мясцо́васць

**Óberlauf** *m* -(e)s, -läufe ве́рхняе цячэ́нне, вярхо́ўе (*ракі*)

**Óberleib** *m* -(e)s, -er *гл.* Óberkörper

**Óberleitung** *f* -, -en 1) гало́ўнае кіраўні́цтва; гало́ўнае ўпраўле́нне 2) надзе́мны [паве́траны] про́вад, ве́рхняя лі́нія

**Óberleitungsomnibus** *m* -ses, -se тралейбус

**Óberleutnant** *m* -s, -e *i* -s ста́ршы лейтэна́нт, оберлейтэна́нт

**Óberprima** *f* -, -men выпускны́ клас (*у некаторых школах Германіі*)

**Óberschenkel** *m* -s, - *анат.* клуб

**Óberschicht** *f* -, -en ве́рхні слой, ве́рхняя прасло́йка

**Óberschiedsrichter** *m* -s, - *спарт.* гало́ўны суддзя́

**Óberschule** *f* -, -en сярэ́дняя шко́ла

**Óberschwester** *f* -, -n ста́ршая (медыцы́нская) сястра́

**óberst** *a* вышэ́йшы, вярхо́ўны, найвышэ́йшы, гало́ўны; ***das ~e Gerícht*** вярхо́ўны суд; ***die ~e Gewált*** вярхо́ўная ўла́да

**Óberst** *m* -s *i* -en, -en палко́ўнік

**Óberstaatsanwalt** *m* -(e)s, -e *i* -anwälte вярхо́ўны пракуро́р

**Óberstleutnant** *m* -s, -e *i* -s падпалко́ўнік

**Óberstübchen** *n* -s, - манса́рда ◊ ***bei dem ist's wohl nicht ríchtig im ~*** *разм. у* яго́ не ўсе до́ма

**Óberstufe** *f* -, -n ве́рхняя ступе́нь (*напр., сярэдняй школы*)

**Óberteil** *n*, *m* -(e)s, -e ве́рхняя ча́стка, верх (*у абутку*)

**óberwärts** *adv* наве́рх, уве́рх

**Óberwasser** *n*: ~ ***háben [bekómmen*]*** перамага́ць, атры́мліваць перава́гу

**obgléich** *cj* хоць, хаця́, нягле́дзячы на, дарма́ што

**Óbhut** *f* - *высок.* нагля́д, апе́ка; ***jmdn. in séine ~ néhmen**** узя́ць каго́-н. пад сваю́ апе́ку [абаро́ну]

**óbig** *a* вышэйпамянёны; ***im ~en*** як было́ ска́зана вышэ́й

**Objékt** *n* -(e)s, -e 1) аб'е́кт (*у розн. знач*): рэч, прадме́т 2) *грам.* дапаўне́нне, аб'е́кт

**objektív** *a* аб'екты́ўны

**Objektív** *n* -s, -e аб'екты́ў

**Objektivismus** [-ˈvis-] *m* - аб'ектывí́зм

**objektivistisch** [-ˈvi-] *a* аб'екты́ўны

**Objektivität** [-vi-] *f* - аб'екты́ўнасць

**Objéktsatz** *m* -es, -sätze *грам.* дапаўня́льны [дада́ны] сказ

**Obláte** *f* -, -n *царк.* прасві́рка, апла́тка

**óbliegen*** *аддз.*, **oblíegen*** *неаддз.* (*але заўсёды*: óbgelegen, óbzulegen) *vi* (*h, s*) (*D*) 1) стара́нна займа́цца (*чым-н.*); ***den Wíssenschaften ~*** аддава́цца наву́цы 2) ста́віцца ў абавя́зак, нале́жаць; ***das liegt mir*** ob гэ́та мой абавя́зак

**Óbliegenheit** *f* -, -en абавя́зак, абавязáцельства
**obligát** *a* абавязкóвы; прыня́ты
**Obligatión** *f* -, -en аблігáцыя
**obligatórisch** *a* абавязкóвы, неабхóдны
**oblique** [ob'li:k] *a* 1) кóсы, нахíлены 2): ***~er Kásus*** *грам.* ускóсны склон
**Óbmann** *m* -(e)s, -männer *i* -leute стáраста, старшыня́
**Obó¦e** *f* -, -n *муз.* габóй
**Oboíst** *m* -en, -en *муз.* габаíст
**Óbolus** *m* -, - *i* -e лéпта, уклáд; ***séinen ~ entríchten [béisteuern]*** зрабíць свой невялíкі ўклáд
**Óbrigkeit** *f* -, -en начáльства, улáда
**obschón** *гл.* obgléich
**Observatión** [-va-] *f* -, -en назірáнне, сачэ́нне
**Observatórium** [-va-] *n* -s, -ri¦en абсерватóрыя
**observíeren** [-v-] *vt спец.* назірáць, сачы́ць (*за кім-н., за чым-н.*)
**óbsiegen** *vi* (*D, über, gegen A*) брáць верх (*над кім-н., чым-н.*); перамагчы́ (*каго-н., што-н.*)*;* ***ein obsiegendes Úrteil*** рашу́чы [аднаду́шны] прыгавóр
**obskúr** *a* 1) цёмны, цьмя́ны 2) падазрóны; ***die Sáche kommt mir étwas ~ vor*** гэ́та мне здаéцца падазрóным; ***ein ~es Blatt*** *разм.* бульвáрны лістóк
**Obskuránt** *m* -en, -en цемрашáл, абскурáнт
**Obskurantísmus** *m* - цемрашáльства, абскуранты́зм
**Obst** *n* -(e)s садавíна, фру́кты; ***gedörrtes ~*** сухафру́кты; ***gesüßtes ~*** цукáты
**Óbstbau** *m* -(e)s пладавóдства
**Óbstbaum** *m* -(e)s, -bäume пладóвае дрэ́ва
**óbsten** *vi* здымáць ураджáй пладóў [фруктáў]
**Óbsternte** *f* - збóр пладóў
**Óbstgarten** *m* -s, -gärten пладóвы сад
**Óbstladen** *m* -s, - läden магазíн садавíны і гарóдніны
**obstruíeren** *vt* рабíць абстру́кцыю (*каму-н., чаму-н.*)*,* зрывáць (*пасяджэнне і г.д.*)
**Obstruktión** *f* - абстру́кцыя
**Óbstsaft** *m* -(e)s, -säfte фруктóвы сок
**Óbstschále** *f* -, -n вáза для фру́ктаў
**Óbstwein** *m* -(e)s, -e фруктóвае віно́
**Óbstzucht** *f* - *гл.* Óbstbau
**obszön** *a* непрыстóйны, бры́дкі
**Óbus** *m* -ses, -se тралéйбус
**óbwalten** *аддз. vi канц.* мець мéсца, уладáрыць, панавáць
**óbwaltend** *a* існу́ючы, пану́ючы; ***únter den ~en Úmständen*** пры гэ́тых абстáвінах, у гэ́тых вару́нках
**obwóhl, obzwár** *гл.* obgléich
**Ochs** *m* -en, -en, **Óchse** *m* -n, -n 1) бык, вол 2) *лаянк.* ду́рань, ёлупень; ***dumm wie ein ~*** дурны́ як бот ◊ ***die ~n hínter den Pflug spánnen*** ≅ пачынáць спрáву не з тагó канцá; ***den ~n beim Horn fássen*** узя́ць быкá за рóгі
**óchsen** *vt разм.* зубры́ць
**Óchsenauge** *n* -s, -n 1) бычы́нае вóка 2) кру́глае [авáльнае] акнó 3) яéчня
**Óchsenziemer** *m* -s, - пу́га, бізу́н
**Ócker** *n*, *m* -s, - óхра
**óckergelb** *a* жóўты, кóлеру óхры
**Óde** *f* -, -n *літ.* óда
**öd(e)** *a* 1) пустэ́льны, незасéлены 2) су́мны, пусты́; ***ein ~es Geschwätz*** пустáя балбатня́
**Öde** *f* -, -n пусты́ня, глухмéнь
**Ódem** *m* -s *уст., паэт.* пóдых, павéў
**Ödém** *n* -s, -e *мед.* ацёк
**öden 1.** *vt* (*mit D*) наганя́ць нуду́ (*на каго-н. чым-н.*) **2. *~, sich*** ну́дзіцца, сумавáць, маркóціцца
**óder** *cj* ці, абó, альбó; ***entwéder…~…*** ці… ці…, абó… абó; ~ ***nicht?*** хíбá не?; ***wir fáhren (entwéder) héute ~ mórgen*** мы паéдзем абó сёння, абó зáўтра; ***so ~ so*** так ці інáкш [інáчай]; усё рóўна; ***~ (nicht)?*** ці не так?; ***~ áber*** абó [альбó ж]
**odiös** *a* адыёзны
**Ödland** *n* -(e)s, -länder пустэ́льня, пусты́р
**Odyssée** *f* - *перан.* адысéя
**Ófen** *m* -s, Öfen печ, пéчка ◊ ***hínterm ~ hócken*** не вылáзіць з дóму, тырчáць

до́ма; ***der ~ meint es gut*** пе́ч до́бра напа́лена

**Ófenbank** *f* -, -bänke ляжа́нка каля́ пе́чы

**Ófenherd** *m* -(e)s чарэ́нь

**Ófenkachel** *f* -, -n ка́фля

**Ófenrohr** *n* -(e)s, -e ко́мін, дымахо́д

**Ófenröhre** *f* -, -n духо́ўка

**Ófensetzer** *m* -s, - пячні́к, му́ляр

**Ófenzug** *m* -(e)s, -züge ко́мін, дымахо́д

**óffen** **1.** *a* 1) адкры́ты, адчы́нены; ***j-n mit ~en Ármen empfángen* [begrüßen]*** сардэ́чна прыня́ць [сустрэ́ць] каго́-н.; ***mit ~em Mund dástehen**** быць разявя́кай; стая́ць, разя́віўшы рот 2) адкры́ты, шыро́кі, свабо́дны 3) адкры́ты, шчы́ры 4) адкры́ты, публі́чны; ***ein ~er Brief*** адкры́тае пісьмо́; ***in ~er Ábstimmung*** адкры́тым галасава́ннем 5) незаня́ты, вака́нтны ◊ ***ein ~er Kopf*** све́тлая галава́; ***éine ~e Hand háben*** быць шчо́дрым; ***~e Türen éinrennen**** лама́цца [бі́цца] у адчы́неныя дзве́ры; ***mit ~em Visíer*** з адкры́тым забра́лам, адкры́та **2.** *adv* 1) адкры́та; ***~ bléiben**** застава́цца адкры́тым (*пра пытанне*); ***~ hálten**** пакіда́ць [трыма́ць] адчы́неным; пакіда́ць, захо́ўваць (*вакантным месца*); пакіда́ць за сабо́й пра́ва; ***~ lássen**** пакіда́ць адкры́тым [нявы́рашаным] (*пытанне*); пакіда́ць адчы́неным (*акно*); ***~ stéhen**** быць адчы́неным [адкры́тым]; ***die Wahl steht Íhnen ~*** Вам дае́цца пра́ва выбіра́ць; ***es steht ihm ~ zu géhen óder zu bléiben*** ён мо́жа пайсці́ ці заста́цца 2) адкры́та, шчы́ра; ***~ geságt*** шчы́ра ка́жучы; ***~ (zutáge, zu Táge) líegen**** быць відаво́чным

**óffenbar** **1.** *a* відаво́чны, я́ўны **2.** *adv* відаво́чна, віда́ць, як віда́ць

**offenbáren** *неаддз. vt* (*part II* offenbárt *i* geóffenbart) **1.** выяўля́ць; праяўля́ць, адкрыва́ць, пака́зваць, рабі́ць вядо́мым **2.** **~, *sich*** выяўля́цца; праяўля́цца, выяўля́цца; рабі́цца [станаві́цца] вядо́мым; ***sich j-m ~*** вы́казаць каму́-н. свае́ ду́мкі, адкры́ць каму́-н. душу́

**Offenbárung** *f* -, -en адкрыццё, выяўле́нне, праяўле́нне

**Óffenheit** *f* - адкры́тасць, шчы́расць

**óffenherzig** *a* шчы́ры, чыстасардэ́чны

**Óffenherzigkeit** *f* - адкры́тасць, шчы́расць, чыстасардэ́чнасць

**óffenkundig** *a* відаво́чны, я́ўны

**óffensichtlich** *гл.* óffenbar

**offensív** *a* 1) які́ наступа́е, наступа́льны, агрэсі́ўны 2) знява́жлівы, кры́ўдны

**Offensíve** [-və] *f* -, -n *вайск.* на́ступ, наступле́нне; ***die ~ ergréifen**** перайсці́ ў на́ступ [наступле́нне]

**öffentlich** **1.** *a* 1) грама́дскі, публі́чны; ***die ~e Méinung*** грама́дская ду́мка; ***~e Kláge*** *юрыд.* публі́чнае абвінава́чванне 2) дзяржа́ўны, грама́дскі, афіцыя́льны, афіцы́йны; ***~e Éinrichtungen*** дзяржа́ўныя [грама́дскія] устано́вы **2.** *adv* публі́чна

**Öffentlichkeit** *f* - грама́дскасць, публі́чнасць; ***an die ~ bríngen**** даве́сці да (ве́дама) публі́чнасці, апублікава́ць

**offeríeren** *vt камерц.* прапано́ўваць

**Offérte** *f* -, -n *камерц.* прапанава́нне, прапано́ва; ***éine hóhe ~*** прыва́бная [прые́мная] прапано́ва

**offizi¦éll** *a* афіцыя́льны, афіцы́йны

**Offizíer** *m* -s, -e афіцэ́р; ***aktíver ~*** ка́дравы афіцэ́р; ***~ áußer Díenst*** афіцэ́р у адста́ўцы; ***~ vom Trúppendienst*** дзяжу́рны афіцэ́р па ча́сці; ***~ des Beúrlaubtenstandes*** афіцэ́р запа́су; ***wáchhabender ~*** нача́льнік карау́ла

**Offizíersanwärter** *m* -s, - кандыда́т у афіцэ́ры

**Offizíersbursche** *m* -n, -n дзяншчы́к

**Offizíerskorps** [-ko:r] *n* - [ko:rs], - [-ko:rs] афіцэ́рскі ко́рпус

**Offizíersrang** *m* -(e)s, -ränge афіцэ́рскае зва́нне, афіцэ́рскі чын

**Offizíersschule** *f* -, -n вайско́вае вучы́лішча, вайско́вая вучэ́льня, афіцэ́рскае вучы́лішча, афіцэ́рскія ку́рсы

**offiziös** *a* афіцыёзны

**öffnen** *vt* адчыня́ць, адкрыва́ць, раскрыва́ць, адкарко́ўваць; ***j-m die Áugen ~***

адкрыць каму́-н. ісціну [пра́ўду] (*на што-н.*); ***j-m sein Herz ~*** *разм.* адве́сці душу́ (*каму-н.*)

**Öffnung** *f* -, -en 1) адту́ліна, пралом 2) раскрыццё, адчыне́нне

**oft** *adv* ча́ста, часцяко́м; ***wie ~?*** ко́лькі разо́ў?, як ча́ста?

**öfter 1.** *a* паўто́рны, даво́лі ча́сты **2.** *adv* ча́ста, няро́дка, частяко́м

**öfter(s)** *adv* 1) ча́ста, няро́дка, часцяко́м 2) пра́ма, про́ста

**óftmalig** *a* ча́сты

**óftmals** *adv* ча́ста

**oh!** *int* ах!, о!

**Óheim** *m* -s, -e *устар.* дзя́дзька

**Ohm** *n* -s, - *эл.* ом (*адзінка вымярэння супраціўлення*)

**óhne 1.** *prp* (*A*) 1) без; ***~ Zwéifel*** безумо́ўна, бясспрэ́чна 2) акрамя́, без; ***~ wéiteres*** акрамя́, не лі́чачы, без; ***~ Spaß*** без жа́ртаў, у гэ́тым ёсць зе́рне ісціны 3): ***das ist nicht (so) ~*** *разм.* гэ́та ма́е сэнс **2.** *cj*: ***~ dass*** без таго́, каб; ***nicht ~ zu*** не без таго́, каб; ***~ zu lésen*** не чыта́ючы; ***~ zu spréchen*** ніч́ога не ка́жучы; ***~ auch ein Wort geságt zu háben*** не сказа́ўшы ні сло́ва; ***~ dass er weiß*** без яго́ ве́дама

**ohnedém, ohnedíes** *adv* і без таго́, ва ўся́кім вы́падку

**ohnegléichen** *adv inv* непараўна́льны; выда́тны, цудо́ўны

**ohnehín** *adv* і без гэ́тага, усё адно́, і так ужо́

**Óhnmacht** *f* -, -en 1) бяссі́лле, сла́басць 2) непрыто́мнасць; ***in ~ fállen**** стра́ціць прыто́мнасць; ***aus der ~ erwáchen*** прыйсці́ да свядо́масці [памя́ці], ачну́цца, апрыто́мнець

**óhnmächtig** *a* 1) бяссі́льны 2) у непрыто́мнасці; ***~ wérden*** стра́ціць прыто́мнасць, самле́ць

**oho!** *int* ого́!

**Ohr** *n* -(e)s, -en 1) ву́ха; ***die ~en bráusen mir*** у мяне́ шумі́ць у вуша́х; ***die ~en klíngen [géllen] ihm*** у яго́ ў вуша́х звіні́ць; ***er hat ábstehende ~en*** ён аблаву́хі [лапаву́хі] 2) ву́ха, слых; ***auf éinem ~ taub sein*** быць глухі́м на адно́ ву́ха; ***die ~en spítzen*** наваструы́ць [натапы́рыць] ву́шы, насцяро́жвацца; ***ein féines ~ háben*** мець то́нкі слых; ***mit hálbem ~ hören*** слу́хаць кра́ем ву́ха; ***das geht zu dem éinen ~ hinéin, zu dem ánderen (wíeder) hináus*** гэ́та ў адно́ ву́ха ўвахо́дзіць, а з друго́га вылята́е; ***er ist ganz ~*** ён пі́льна слу́хае; ён ніво́днага сло́ва не прапуска́е мі́ма вушэ́й ◊ ***er ist noch feucht hínter den ~en*** ≅ у яго́ яшчэ́ малако́ на губа́х не абсо́хла; ***sich etw. hínter die ~en schréiben**** ≅ намата́ць сабе́ на вус; ***j-n übers ~ háuen**** ашука́ць, абдуры́ць каго́-н.; ***j-m das Fell über die ~en zíehen**** спусці́ць шку́ру з каго́-н.; ***bis über die ~en verlíebt sein*** закаха́цца па са́мыя ву́шы

**Öhr** *n* -(e)s, -e 1) ву́шка (*іголкі*) 2) *тэх.* во́чка

**óhrenbeteubend** *a* аглуша́льны, мо́цны

**Óhrenklappe** *f* -, -n наву́шнік (*шапкі*)

**Óhrensausen** *n* -s шум [звон] у вуша́х

**Óhrenschmalz** *m* -es (вушна́я) се́ра

**Óhrenschmaus** *m* -es уце́ха для слы́ху [вушэ́й]

**Óhrfeige** *f* -, -n апляву́ха; ***j-m éine ~ verábreichen*** заляпі́ць каму́-н. аплявуху

**óhrfeigen** *vt неаддз.* дава́ць аплявуху, дава́ць по́ўху

**Óhrläppchen** *n* -s, - вушна́я мо́чка

**Óhrmuschel** *f* -, -n вушна́я ра́кавіна

**Óhrring** *m* -(e)s, -e завушні́ца

**oje!** *int* о, Бо́жа!

**okay** [o'ke:] *int* усё до́бра!, усё ў пара́дку!, дамо́віліся!

**okkúlt** *a* аку́льтны, тае́мны

**Okkultísmus** *m* - акульты́зм

**Okkupatión** *f* -, -en акупа́цыя, захо́п

**okkupíeren** *vt* акупі́раваць, акупава́ць, захапі́ць

**Ökologíe** *f* - экало́гія

**ökológisch** *a* экалагі́чны

**Ökonóm** *m* -en, -en 1) эканамі́ст 2) кіраўні́к гаспада́ркі; *гіст.* акано́м

**Ökonomíe** *f* - 1) эканомія, беражлі́васць,

гаспада́рлівасць 2) экано́міка 3): ***die polítische*** ~ паліты́чная экано́мія

**Ökonómik** *f* - экано́міка, гаспада́рка

**ökonómisch** *a* 1) эканамі́чны; ***~er Nútzeffekt*** эканамі́чны эфе́кт 2) экано́мны, беражлі́вы, ашча́дны

**Ökonomíst** *m* -en, -en эканамі́ст

**Oktáve** [-və] *f* -, -en *муз.* акта́ва

**Október** *m* - *i* -s, - кастры́чнік

**oktroyieren** [-troa̯ˈjiː-] *vt* (*D*) навя́зваць сі́лай (*каму-н.*)

**Okulár** *n* -s, -e акуля́р

**okulíeren** *vt бат.* прышчапля́ць «во́чкам», акулі́раваць

**Okulíst** *m* -en, -en акулі́ст

**Ökuméne** *f* - хрысція́нскі свет, усе́ хрысція́не

**ökuménisch** *a царк.* сусве́тны; ***das ~e Konzíl*** *царк.* усяле́нскі сабо́р

**Okzidént** *m* -s За́хад, захо́днія краі́ны

**Öl** *n* -(e)s, -e 1) але́й; ***in ~ bácken**** смажы́ць на але́і; ***in ~ málen*** піса́ць, маля-ва́ць але́йнымі фа́рбамі 2) на́фта; ◊ ~ ***ins Féuer gíeßen* [schütten]*** падліва́ць смалы́ [ма́сла, але́ю] у аго́нь; ***~ in die Wúnden gíeßen**** аблягча́ць паку́ты, вылечваць душэ́ўныя ра́ны

**Ölbaum** *m* -(e)s, -bäume алі́ўкавае дрэ́ва, маслі́на

**Öldruck** *m* -(e)s, -e *тэх.* ціск ма́сла

**Öldruckbremse** *f* -, -n гідраўлі́чны ма́слены то́рмаз

**Oleánder** *m* -s, - *бат.* алеа́ндр

**ölen** *vt* зма́зваць, ма́заць, шмарава́ць ма́слам [але́ем] ◊ ***álles geht wie geölt*** усё ідзе́ як па ма́сле

**Ölfarbe** *f* -, -n а́лейная фа́рба

**Ölfirnis** *m* -ses, -se алі́фа

**Ölfrucht** *f* -, -früchte *с.-г.* але́йная культу́ра

**Ölgemälde** *n* -s, - карці́на, намалява́ная але́йнымі фа́рбамі

**ölhaltig** *a тэх.* які́ ўтры́млівае ма́сла [але́йнае рэ́чыва]

**ölig** *a* 1) ма́сляны, тлу́сты 2) маслі́сты, але́істы

**Oligarchíe** *f* -, -chí¦en аліга́рхія

**Ölindustrie** *f* -, -stri¦en на́фтавая прамысло́васць

**Olíve** [-və] *f* -, -n маслі́на, алі́ва

**Olívenbaum** [-vən-] *m* -(e)s, -bäume алі́ўкавае дрэ́ва, маслі́на

**Olívenöl** [-vən-] *n* -(e)s алі́ўкавы [права́нскі] але́й

**olívgrün** *a* алі́ўкавы, алі́ўкавага ко́леру

**Ölkanne** *f* -, -n *тэх.* маслёнка

**Ölkuchen** *m* -s, - *с.-г.* але́йная маку́ха

**Ölkultur** *f* -, -en але́йная культу́ра

**Ölleitung** *f* -, -en нафтаправо́д

**Ölmotor** *m* -s, -en на́фтавы рухаві́к

**Ölmühle** *f* -, -en але́йня

**Ölung** *f* -, -en шмарава́нне, зма́званне (*алеем*), прама́сліванне; ***die létzte ~*** *царк.* сабо́раванне

**Olýmpia-, olýmpisch** алімпі́йскі; ***die Olýmpischen Spíele*** алімпі́йскія гу́льні; ***Olýmpiasieger*** *m* –s, - алімпі́йскі чэмпіё́н; ***Olýmpiadorf*** *n* -(e)s, -dörfer, ***Olýmpisches Dorf*** *n* алімпі́йская вёска; ***Olýmpiagold*** *n* -(e)s алімпі́йскі залаты́ меда́ль; ◊ ***olýmpische Rúhe*** алімпі́йскі спако́й

**Olympiáde** *f* -, -n алімпія́да

**Olýmpiasieger** *m* -s, - алімпі́йскі чэмпіён

**Óma** *f* -, -s бабу́ля

**Omelétt** *n* -(e)s, -e, **Omeléttе** *f* -, -n амле́т

**Ómen** *n* -s, Ómina прыкме́та, прадве́сце

**ominös** *a* 1) злаве́сны, фата́льны 2) адыё́зны

**Ómnibus** *m* -ses, -se *уст.* аўто́бус, о́мнібус

**Onaníe** *f* - ананізм

**ondulíeren** *vt* завіва́ць (*валасы*)

**Ónkel** *m* -s, - дзя́дзька; ***der gélbe ~*** *разм., жарт.* бізу́н

**ónkelhaft** *a* (*часта іран.*) пабла́жлівы, спрыя́льны, дабрадзе́йны

**onamatopoétisch** *a лінгв.* гукапераймальны

**Ópa** *m* -s, -s дзяду́ля

**Opál** *m* -s, -e *мін.* апа́л

**Óper** *f* -, -n 1) о́пера 2) о́перны тэа́тр, о́пера

**Operateur** [-ˈtøːr] *m* -s, -e 1) хіру́рг 2) кі-

наапера́тар, кінамеха́нік 3) рады́ст
**Operatión** *f* -, -en апера́цыя (*у розн. знач.*)
**Operatiónsbuch** *n* -(e)s, -bücher *вайск.* журна́л вае́нных дзе́янняў
**Operatiónsbüro** *n* -s, -s аперацы́йны ад-дзе́л
**Operatiónssaal** *m* -(e)s, -säle аперацы́й-ная за́ла
**Operatiónstisch** *m* -(e)s, -e аперацы́йны стол
**operatív** *a* аператы́ўны
**Operétte** *f* -, -n аперэ́та
**operíeren** **1.** *vt* апер́ыраваць (*каго-н.*), ра-біць апера́цыю (*каму-н.*) **2.** *vi* дзе́й-нічаць, апер́ыраваць (*чым-н. – mit D*)
**Óperngias** *n* -es, -gläser тэатра́льны бі-но́кль
**Óperhaus** *n* -es, -häuser о́перны тэа́тр
**Ópfer** *n* -s, - ахвя́ра; ***j-m zum ~ fállen**** стаць ахвя́рай каго́-н.; ***j-m etw. zum ~ bríngen**** прыне́сці ў ахвя́ру што-н. ка-му́-н.
**ópferbereit** *a* гато́вы на ахвя́ры, сама-адда́ны, (сама)ахвя́рны
**Ópferlamm** *n* -(e)s, -lämmer нязі́нная ах-вя́ра
**ópfern** *vt* **1.** ахвярава́ць, прыно́сіць на ахвя́рнік **2.** ***~, sich*** ахвярава́ць сабо́й
**ópferreich** *a* які́ патрабу́е [вялі́кіх] ахвя́р
**Ópferstätte** *f* -, -n ахвя́рнік
**Ópferung** *f* -, -en ахвярапрынашэ́нне
**ópferwillig** *a* гато́вы на ахвя́ры
**Ópium** *n* -s о́піум, о́пій
**Opponént** *m* -en, -en апане́нт
**opponíeren** *vi* апані́раваць, пярэ́чыць
**opportún** **1.** *a* своечасо́вы; спрыя́льны, зру́чны; ***etw. für ~ hálten**** лічы́ць што-н. магчы́мым [прыма́льным, да-пушча́льным] **2.** *adv* своечасо́ва, дарэ́-чы, у са́мы час
**Opportunísmus** *m* - апартуні́зм
**opportunístisch** *a* апартуні́сцкі
**Oppositión** *f* -, -en апазі́цыя; ***in ~ stéhen* (zu D)*** знахо́дзіцца ў апазі́цыі (*да ка-го-н., да чаго-н.*)
**oppositionéll** *a* апазіцы́йны
**optíeren** *vi* (*für A*) аптава́цца
**Óptik** *f* - о́птыка
**Óptiker** *m* -s, - о́птык
**optimál** *a* аптыма́льны, найле́пшы
**Optimísmus** *m* - аптымі́зм
**optimístisch** *a* аптымісты́чны
**Optión** *f* -, -en апта́цыя, вы́бар грама-дзя́нства [падда́нства]
**óptisch** *a* апты́чны; ***~e Täuschung*** апты́ч-ны падма́н
**Óptimum** *n* -s, -ma о́птымум, найле́пшы пака́зчык
**opulént** *a* бага́ты, раско́шны
**Ópus** *n* -, Ópera *муз.* о́пус
**Orákel** *n* -s, - 1) *міф.* ара́кул 2) цьмя́нае [тума́ннае, зага́дкавае] прадказа́нне; ***er spricht in ~n*** ён гаво́рыць зага́дкамі [тума́нна]
**orákeln** *vi* 1) прадрака́ць, прадка́зваць 2) гавары́ць тума́нна [зага́дкамі]
**orál** *a* 1) ву́сны 2) звя́заны з ро́там, ара́льны
**Orange** [oˈrã:ʒə] *f* -, -n апельсі́н
**oránge**, **orángegelb** [oˈrã:ʒə] *a* ара́нжавы, ара́нжавага ко́леру
**orangenfarbig** [oˈrã:ʒən-] *a* аранжа́вы, ара́нжавага ко́леру
**Orangerie** [orã:ʒəˈri:] *f* -, -ri¦en аранжарэ́я
**Órang-Útan** *m* -s, -s *i* -e *заал.* арангута́нг
**Oratórium** *n* -s, -ri¦en *муз.* арато́рыя
**Orchester** [-ˈkɛs-] *n* -s, - арке́стр
**orchestríeren** [-kɛs-] *vt муз.* аркестрава́ць
**Orchidée** *f* -, -dé¦en *бат.* 1) архідэ́я 2) *pl* архі́дныя
**Órden** *m* -s, - о́рдэн; ***mit éinem ~ áus-zeichnen, éinen ~ verléihen**** узнагаро́-дзіць о́рдэнам
**órdengeschmückt** *a* ардэнано́сны
**Órdensband** *n* -(e)s, -bänder о́рдэнская сту́жка
**Órdens|schnalle** *f* -, -n, **~spange** *f* -, -n о́р-дэнская пла́нка [кало́дка]
**Órdensträger** *m* -s, - ардэнано́сец
**Órdensverleihung** *f* -, -en узнагаро́джан-не о́рдэнам [ардэна́мі]
**órdentlich** **1.** *a* 1) акура́тны, прысто́йны 2) пастая́нны, ста́лы; шта́тны; ***ein ~es***

***Mítglied der Akademíe*** правадзéйны член акадэ́міі навýк; ***ein ~er Proféssor*** ардынáрны [штáтны] прафéсар 3) *разм.* знáчны, немалы́; ***ich hábe éinen ~en Húnger*** я вéльмі хачý éсці **2.** *adv* 1) акурáтна 2) прыстóйна; парáдкам, лáдна, давóлі шмат; дóсыцьтакí, як след; ***ich bin ~ müde*** я давóлітакí стамíўся

**Órder** *f* -, -s *i* -n 1) óрдэр 2) загáд, распараджэ́нне

**Ordinália** *pl,* **Ordinálzahl** *f* -, -en *грам.* парáдкавы лічэ́бнік

**ordinär** *a* 1) звычáйны, ардынáрны 2) вульгáрны

**Ordinárius** *m* -, -ri¦en 1) ардынáрны прафéсар; загáдчык кáфедры 2) клáсны настáўнік, клáсны кіраўнíк 3) *царк.* бíскуп (*каталíцкі*)

**Ordináte** *f* -, -n *матэм.* ардынáта

**Ordinátenachse** *f* -, -n *матэм.* вось ардынáт

**ordiníeren** *vt* 1) *царк.* пасвячáць у сан 2) прыпíсваць (*лякарства*) 3) рабíць прыём (*хворых*)

**órdnen 1.** *vt* 1) прывóдзіць у парáдак, сíстэматызавáць 2) размяшчáць **2. ~, sich** стрóіцца, выраўнóўвацца ў рад

**Órdner** *m* -s, - 1) распарáдчык, дзяжýрны (*у класе*) 2) *камп.* пáпка; ***éinen ~ áblegen*** рабíць [стварáць] пáпку для фáйлаў

**Órdnung** *f* -, -en 1) парáдак, распарáдак; ***~ scháffen*** навéсці парáдак; ***in ~ bríngen**** прывéсці ў парáдак; ***der ~ hálber*** дзéля парáдку; ***das geht in ~!*** усё ў парáдку!, дамóвіліся!; ***j-n zur ~ rúfen**** заклікáць да парáдку кагó-н. 2) сістэматызáцыя 3) лад (*грамадскі*) 4) статýт, прáвілы, парáдак 5) *вайск.* баявы́ [пахóдны] парáдак; строй; ***geschlóssene ~*** самкнýты строй; ***zerstréute ~*** рассыпны́ [разгрупавáны] строй

**órdnungsgemäß 1.** *a* налéжны, адпавéдны **2.** *adv* па парáдку, па прáвілу, прáвільна

**órdnungshalber** *adv* дзéля парáдку, каб быў парáдак

**Órdnungshüter** *m* -s, - ахóўнік парáдку

**Órdnungsliebe** *f* - любóў да парáдку

**órdnungsmäßig 1.** *a* прáвільны, налéжны **2.** *adv* па парáдку, прáвільна

**Órdnungsruf** *m* -(e)s, -e зáклік да парáдку, заўвáга; ***éinen ~ ertéilen*** заклікáць да парáдку

**Órdnungsstrafe** *f* -, -n дысцыплінáрнае спагнáнне

**órdnungswidrig** *a* няпрáвільны, якí парушáе парáдак

**Órdnungszahl** *f* -, -en *грам.* парáдкавы лічэ́бнік

**Ordonnánz** [Ordonánz] *f* -, -en *вайск.* 1) загáд, інструкцыя 2) ардынáрац; веставы́

**Ordonnánzoffizier** *m* -s, - афіцэ́р для даручэ́нняў; афіцэ́р сýвязі; ардынáрац; веставы́

**Orgán** *n* -s, -e 1) *анат.* óрган; ***die ínneren ~e*** унýтранныя óрганы 2) гóлас 3) óрган дрýку 4) óрган (*дзяржаўны*); арганізáцыя (*грамадская*)

**Organisatión** *f* -, -en 1) арганізáцыя, арганізацы́йная рабóта, арганізáтарская дзéйнасць; 2) лад, парáдак; 3) арганізáцыя (*установа, аб'яднанне*) ***~ der Veréinten Nationen*** (*скар.* UNO) Арганізáцыя Аб'яднáных Нáцый (*скар.* ААН)

**Organisátor** *m* -s, -tóren арганізáтар

**organisatórisch** *a* арганізацы́йны

**orgánisch** *a* арганíчны

**organisíeren** *vt* арганізóўваць

**organisíert** *a* арганізавáны

**Organisíerung** *f* -, -en *гл* Organisatión 1); ***durch béssere ~*** за кошт лéпшай арганізáцыі

**Organísmus** *m* -, -men арганíзм

**Organíst** *m* -en, -en 1) арганíст 2) катры́ншчык

**Orgásmus** *m* -, -men *мед.* аргáзм

**Órgel** *f* -, -n *муз.* аргáн, аргáны

**Órgelmusik** *f* - аргáнная мýзыка

**órgeln** *vi* 1) іграць на аргáне 2) іграць як на катры́нцы 3) трубíць (*пра аленя*

*ў час гону*)
**Órgelpfeife** *f* -, -n арга́нная тру́бка
**Órgelspieler** *m* -s, - арганíст
**Órgi¦e** *f* -, -n óргiя, папóйка, вакханáлiя; ***~n féiern*** учынíць папóйку [гуля́нку]
**Óri¦ent** [Ori¦ént] *m* -s Усхóд; краíны Блíжняга i Сярэ́дняга Усхóду
**ori¦entálisch** *a* усхóднi
**Ori¦entalíst** *m* -en, -en усходазнáвец
**ori¦entíeren** **1.** *vt* арыентавáць; ***über etw. (A) ori¦entíert sein*** быць у кýрсе чагó-н., арыентавáцца ў чым-н. **2. ~, sich** арыентавáцца (*у чым-н. – in D*)
**Ori¦entíerung** *f* -, -en арыентавáнне, арыенцiрóўка; арыентáцыя
**originál** *a* арыгiнáльны, сапрáўдны, аўтэнты́чны
**Originál** *n* -s, -e 1) арыгiнáл, аўтэ́нтык 2) арыгiнáл, дзiвáк
**originär** *a* спрадвéчны, карэ́нны
**originéll** *a* 1) арыгiнáльны, своеасаблíвы 2) сапрáўдны, арыгiнáльны
**Orkán** *m* -(e)s, -e урагáн, бýра
**orkánartig** **1.** *a* урагáнны **2.** *adv* як урагáн, як бýра
**Órkus** *m* - *мiф.* пéкла, апраметная; ***j-n zum ~ hin ábsenden**** адпрáвiць кагó-н. на той свет
**Ornamént** *n* -(e)s, -e арнáмент
**ornamentál** *a* арнаментáльны
**ornamentíeren** *vt* аздабля́ць арнáментам
**Ornát** *m* -(e)s, -e *царк.* убрáнне, ры́за
**Ornithológe** *m* -n, -n арнiтóлаг
**Órpheus** *m* - *мiф.* Арфéй
**Ort I** *m* -(e)s, -e 1) мéсца 2) мясцóвасць, насéлены пункт; ***an ~ und Stélle*** на мéсцы; ***von ~ zu ~*** з мéсца на мéсца, з гóрада ў гóрад
**Ort II** *n* -(e)s, Örter *горн.* забóй; ***vor ~*** у забói
**órten** *vt* вызначáць месцазнахóджанне [каардынáты] (*самалёта, карабля*)
**Órter** *m* -s, - навiгáтар, штýрман
**orthodóx** *a* 1) артадаксáльны, прававéрны 2) праваслáўны
**Orthodoxíe** *f* - артадаксáльнасць
**Orthographíe** [Orthografíe] *f* -, -phí¦en арфаграфíя, прáвапiс
**orthográphisch** [orthográfisch] *a* арфаграфíчны
**Orthopädíe** *f* - *мед.* артапéдыя
**orthopädísch** *a* артапеды́чны
**örtlich** **1.** *a* мясцóвы, лакáльны; ***~ begrénzen [beschränken]*** лакалiзавáць **2.** *adv*: ***das ist ~ sehr verschíeden*** гэ́та ў рóзных мясцóвасцях па-рóзнаму
**órtsansässig** *a* мясцóвы, тýбыльны
**Órtsbestimmung** *f* - вызначэ́нне месцазнахóджання, лакáцыя
**Órtsbevölkerung** *f* - мясцóвае насéльнiцтва, насéльнiцтва пасёлка
**Órtschaft** *f* -, -en 1) насéлены пункт; пасёлак, пасéлiшча 2) мясцóвасць
**órtsfest** *a* нерухóмы, стацыянáрны
**órtsfremd** *a* пры́йшлы, нетутэ́йшы, прыéзджы
**Órtsgespräch** *n* -(e)s, -e мясцóвая тэлефóнная размóва
**Órtsgruppe** *f* -, -n мясцóвая арганiзáцыя (*партыйная альбо прафсаюзная*)
**órtskundig** *a* якí вéдае пэ́ўную мясцóвасць
**Órtsname** *m* -ns, -n нáзва насéленага пýнкта
**Órtssinn** *m* -(e)s умéнне арыентавáцца на мясцóвасцi; адчувáнне мясцóвасцi
**órtsüblich** *a* звычáйны [прыня́ты] у дáнай мясцóвасцi
**Órtsverkehr** *m* -s мясцóвыя знóсiны, мясцóвыя перавóзкi
**Órtsverwaltung** *f* -, -en мясцóвае [мунiцыпáльнае] (сама)кiравáнне
**Órtswechsel** *m* -s, - перамéна мéсца
**Órtszeit** *f* -, -en мясцóвы час
**Órtung** *f* -, -en арыенцiрóўка
**Öse** *f* -, -n пятля́, вýшка
**Ost** *m* 1) (*ужыв. без артыкля*) усхóд; ***in ~ und West*** скрóзь i ўсю́ды, ва ўсíм свéце 2) -(e)s, -e усхóднi вéцер, ост
**Ósten** *m* -s усхóд; ***der Férne ~*** Далёкi Усхóд
**ostentatív** *a* дэманстраты́ўны, абурáльны
**Ósterei** *n* -(e)s, -er велiкóднае я́йка
**ósterlich** [österlich] *a* велiкóдны

**Óstern** *n* - *рэл.* Вялікдзень, Пасха; ***an ~*** на Вялікдзень ◊ ***wenn ~ und Pfíngsten auf éinen Tag fállen*** ≅ пасля́ до́жджыку ў ча́цвер; калі́ рак сві́сне
**Österreich** (*n*) -s А́ўстрыя
**Österreicher** *m* -s, - аўстры́ец, аўстрыя́к
**österreichisch** *a* аўстры́йскі, аўстрыя́цкі
**ósteuropäisch** *a* усходнееўрапе́йскі
**östlich 1.** *a* усхо́дні; ***~er Länge*** усхо́дняй даўгаты́ **2.** *adv* на ўсход; ***~ von Berlín*** на ўсход ад Берлі́на
**óstwärts** *adv* на ўсход
**Oszilatión** *f* -, -en *фіз.* вага́нне, вібра́цыя
**Ótter I** *m* -s, - *заал.* вы́дра
**Ótter II** *f* -, -n *заал.* гадзю́ка
**Ottománe** *f* -, -n атама́нка (*канапа*)
**Output-Effékt** ['aut-] *m або n* -s, -s эфе́кт аб'ёма праду́кцыі
**Ouvertüre** [uvɛr-] *f* -, -n *муз.* уверцю́ра, усту́п
**oval** [-'va:-] *a* ава́льны
**Oval** [-'va:-] *n* -s, - ава́л
**Ovatión** [-va-] *f* -, -en ава́цыя; ***j-m éine ~ beréiten [bríngen*]*** сустрэ́ць каго́-н. ава́цыямі
**Overall** ['o:vərɔ:l] *m* -s, -s камбінезо́н
**Oxíd** [Oxýd] *n* -(e)s, - *хім.* во́кіс, аксі́д, во́кісел
**Oxydatión** *f* -, -en *хім.* акісле́нне
**oxydíeren 1.** *vt хім.* акісля́ць **2.** *vi* акісля́цца
**Ózean** *m* -s, -e акія́н
**ozeánisch** *a* акія́нскі
**Ozón** *n* -s *хім.* азо́н
**ozónhaltig** *a хім.* які́ ўтры́млівае азо́н
**ozonisíeren** *vt хім.* азанава́ць
**ozónreich** *a* бага́ты на а́зон

# P

**Páar** *n* -(e)s, -e пáра; ***ein ~ Stíefel*** пáра бóтаў; ***ein verhéiratetes ~*** муж і жóнка
**páar 1.** *a* цóтны, пáрны; ***~ óder únpaar*** цот ці [абó] не цот **2.** *num indef*: ***ein ~*** нéкалькі, кóлькі; ***vor ein ~ Tágen*** нéкалькі дзён тамý назáд
**páaren 1.** *vt* 1) злучáць пáрамі 2) спáрваць (*жывёл*) **2. ~, sich** 1) злучáцца 2) спáрвацца (*пра жывёл*)
**Páarhufer** *m* -s, - *заал.* парнакапы́тная жывёла
**páarig** *a* пáрны
**Páarlaufen** *n* -s пáрнае (фігýрнае) катáнне на канькáх
**páarmal** (*пры асаблівым падкрэсліванні тс.* paar Mal) *adv*: ***ein ~*** нéкалькі разóў
**Páarung** *f* -, -en 1) спалучэ́нне 2) спáрванне (*жывёл*)
**Páarungszeit** *f* -, -en час таквíшча (*у птушак*)
**páarweise** *adv* пáрамі, па два, па дзве
**Pacht** *f* -, -en 1) арэ́нда; ***etw. in ~ gében**** здавáць штó-н. у арэ́нду; ***etw. in ~ néhmen**** арандавáць штó-н., браць штó-н. у арэ́нду 2) арэ́ндная плáта 3) арандавáная зямля́
**páchten** *vt* арандавáць; ***er benímmt sich, als ob er die Schláuheit gepáchtet hätte*** ён павóдзіць сябé так, бы́ццам ён хітрэ́й за ўсíх
**Pächter** *m* -s, - арандáтар
**Páchtgeld** *n* -(e)s, -er арэ́ндная плáта
**Páchtvertrag** *m* -(e)s, -träge арэ́ндны дагавóр
**Páchtzins** *m* -es, -e *гл.* Páchtgeld
**Pack I** *m* -(e)s, -e *i* Päcke 1) пакéт, вя́зка, звя́зак 2) пак ◊ ***mit Sack und ~*** з усíм рыштýнкам
**Pack II** *n* -(e)s *зняв.* зброд ◊ ***~ schlägt sich, ~ verträgt sich*** ≅ крумкáч крумкачý вóка не вы́дзеўбе; сваé лю́дзі – палáдзім [разбярóмся]
**Päckchen** *n* -s, - пакéцік, пáчак ◊ ***jéder hat sein ~ zu trágen**** у кóжнага свой клóпат
**Páckeis** *n* -es пáкавы [плывýчы] лёд
**pácken 1.** *vt* 1) клáсці, пакавáць ◊ ***j-n in Wátte ~*** ≅ трымáць кагó-н. пад каўпакóм 2) хапáць, схапíць; ***es hat mich gepáckt*** мянé прыхапíла, я захварэ́ў 3) ахапля́ць (*пра пачуццё*) **2. ~, sich** *разм.* выбірáцца; ***pack dich!*** вымятáйся!, ідзí прэч!
**Pácken** *m* -s, - вялíкі пакéт, пак
**páckend** *a* захапля́ючы, цікáвы
**Páckesel** *m* -s, - ўючны асёл
**Páck|haus** *n* -es, -häuser, **~hof** *m* -(e)s, -höfe пакгáуз, склад
**Páckung** *f* -, -en 1) упакóўка 2) *тэх.* праклáдка 3) *мед.* абгóртванне, ухýтванне
**Páckwagen** *m* -s, - 1) фургóн, павóзка для паклáжы 2) *чыг.* багáжны вагóн
**Páckzeug** *n* -(e)s 1) упакóвачны матэрыя́л 2) *зняв.* зброд
**Pädagóge** *m* -en, -en педагóг
**Pädagógik** *f* - педагóгіка
**pädagógisch** *a* педагагíчны
**Páddel** *n* -s, - байдáрачнае вясλó, карóткае вясλó
**Páddelboot** *n* -(e)s, -e байдáрка
**páddeln** *vi* 1) катáцца на байдáрцы 2) хлю́паць па вадзé, плёскацца ў вадзé, плáваць
**paff I** *int* бабáх!, бац!; ~! ***ging der Schuss los*** бабáх! ля́снуў стрэл
**paff II: *ich war ganz ~*** *разм.* я быў урáжаны
**páffen** *vi разм.* дымíць, пускáць дым, кýрыць, палíць
**Páge** [-ʒə] *m* -n, -n паж
**paginíeren** *vt* нумаравáць старóнкі
**Pagóde** *f* -, -n 1) пáгада, інды́йскі [кітáйскі] храм 2) íдал (*фарфоравая фігурка*)
**pah**! *int* эгé!
**Paillette** [paˈjɛtə] *f* -, -n мішурá, блíшчыкі
**Pak** *f* -, -s *i* - (*скар. ад* Pánzerabwehrkanone)

*вайск.* супрацьта́нкавая гарма́та
**Pakét** *n* -(e)s, -e паке́т, пасы́лка
**Pakistáner** *m* -s, - пакіста́нец
**pakistánisch** *a* пакіста́нскі
**Pakt** *m* -(e)s, -e пакт, дамо́ва, дагаво́р, параднéнне; ***éinen ~ mit j-m (áb)schlíeßen* [máchen]*** заключы́ць з кім-н. пакт [дагаво́р]
**paktíeren** *vi часцей зняв.* заключа́ць пакт [дагаво́р] (*супраць каго-н.*)
**Palais** [pa'lɛ:] *n* - [pa'lɛ:(s)], - [pa'lɛ:s] пала́ц
**Paläontologíe** *f* - палеанталóгія
**Pálas** *m* -, -se галóўны буды́нак сярэдневякóвага за́мка
**Palást** *m* -(e)s, Paläste пала́ц
**palästinénsisch** [palästínisch] *a* палесці́нскі
**Palástrevolution** *f* -, -en пала́цавы пераварóт
**Palatál** *m* -s, -e, **~laut** *m* -(e)s, -e палата́льны [нёбны] гук
**Palatalisíerung** *f* - *лінгв.* палаталіза́цыя
**Paláver** [-vər] *n* -s, - *разм.* бяскóнцыя размóвы і перагавóры; бяскóнцая балбатня́
**palávern** [-vərn] *vi разм.* балбата́ць, ве́сці беспрадме́тныя размóвы
**Palétte** *f* -, -n *маст.* 1) палі́тра 2) *тэх.* паддóн, пале́та
**Palisáde** *f* -, -n *гіст.* тын, штаке́тнік, паліса́д
**Pallàdium** *n* -s пала́дый
**Pállasch** *m* -(e)s, -e пала́ш (*халодная зброя*)
**Pálme** *f* -, -n па́льма; ***die ~ (des Síeges, des Síegers) erríngen* [erhálten*]*** здабы́ць [атрыма́ць] па́льму першынства́; перамагчы́, стаць перамóжцам; ***die ~ des Síeges erstrében*** аспрэ́чваць па́льму першынства́ ◊ ***auf der ~ sítzen**** ≅ *разм.* не пóмніць сябе́ ад злóсці; ***j-n auf die ~ bríngen**** раззлава́ць кагó-н., вы́весці кагó-н. з сябе́
**Pálmöl** *n* -(e)s па́льмавы але́й
**Pálmsonntag** *m* -(e)s *царк.* Ве́рбніца, Ве́рбная нядзе́ля
**Pámpelmuse** *f* -, -n грэйпфру́т
**Pamphlét** *n* -(e)s, -e памфле́т
**pámpig** *a разм.* наха́бны
**Pánamahut** *m* -(e)s, -hüte пана́ма (*капялюш*)
**Panéel** *n* -s, -e *буд.* панэ́ль, філёнга
**panegýrisch** *a* хвале́бны
**Pánflöte** *f* -, -n жале́йка, ду́дка
**Paníer** *n* -s, -e хару́гва, штанда́р, сцяг; *перан.* сцяг, лóзунг
**paníeren** *vt кул.* паніра́ваць
**Pánik** *f* - па́ніка; ***in ~ geráten**** запанікава́ць
**pánikartig** *a* пані́чны
**Pánikmacher** *m* -s, - панікёр
**Pánikstimmung** *f* -, -en пані́чны настрóй
**pánisch** *a* пані́чны, неўсвядóмлены
**Pánne** *f* -, -n 1) ава́рыя (*аўтамабільная*) 2) зрыў (*у рабоце*)
**Panóptikum** *m* -s, -ken панóптыкум
**Panoráma** *n* -s, -men панара́ма
**pánschen** **1.** *vt* падме́шваць, разбаўля́ць **2.** *vi* плёскацца, плю́хацца (*у вадзе*)
**Pánsen** *m* -s, - 1) рубе́ц (*у вантробах*) 2) *разм.* пу́за
**pantheístisch** *a* пантэісты́чны
**Pántheon** *n* -s, -s пантэóн
**Pánther** *m* -s, - *заал.* пантэ́ра, барс
**Pantíne** *f* -, -n драўля́ны чараві́к
**Pantóffel** *m* -s, -n пантóфля; ***den ~ schwíngen* [führen]*** верхавóдзіць у сям'і́ [у дóме] (*пра жанчыну*) ◊ ***er steht únter dem ~*** *разм.* ён пад пятóй у жóнкі
**Pantóffelblume** *f* -, -n *бат.* кашалькі́
**Pantóffelheld** *m* -en, -en *разм.* муж, які́ знахóдзіцца пад пятóй у жóнкі
**Pantolétte** *f* -, -n лёгкі чараві́к без за́дніка
**Pantomíme** *f* -, -n *тэатр.* пантамі́ма
**Pánzer** *m* -s, - 1) па́нцыр 2) браня́ 3) танк
**Pánzerabteilung** *f* -, -en та́нкавы батальён
**Pánzerabwehr** *f* - супрацьта́нкавая абарóна
**Pánzerabwehrkanone** *f* -, -n супрацьта́нкавая гарма́та
**Pánzerartillerie** *f* - артыле́рыя та́нкавага злучэ́ння
**pánzerbrechend** *a* бранябóйны
**Pánzerfaust** *f* -, -fäuste *вайск.* фаустпатрóн, рэакты́ўнае супрацьта́нкавае ружжó
**Pánzergeschoss** *n* -es, -e бранябóйны

снара́д
**Pánzergraben** *m* -s, -gräben процітáнкавы роў
**Pánzerjägerabteilung** *f* -, -en знішчáльна-супрацьтáнкавы артылерыйскі дывізіён
**Pánzerkampfwagen** *m* -s, - танк
**Pánzerkraftwagen** *m* -s, - бронемашы́на, бранявíк
**Pánzerkreuzer** *m* -s, - ця́жкі крэ́йсер
**Pánzerschiff** *n* -(e)s, -e лінкóр
**Pánzerschrank** *m* -(e)s, -schränke незгарáльная шáфа, сейф
**Pánzer|soldat** *m* -en, -en, **~schütze** *m* -n, -n танкíст (*радавы*)
**Pánzerspähwagen** *m* -s, - бронеаўтамабíль, танкéтка
**Pánzersperre** *f* -, -n супрацьтáнкавая загарóда
**Pánzertruppen** *pl* бранятáнкавыя вóйскі
**Pánzerung** *f* -, -en *вайск.* 1) бранíраванне 2) браня́, бранявáя абарóна
**Pánzerwagen** *m* -s, - бранявíк
**Päóni¦e** *f* -, -n *бат.* півóня
**Papá** *m* -s, -s тáта, бáцька
**Papagéi** *m* -s *i* -en, -e *i* -en папугáй
**Pápi** *m* -s, -s *разм.* тáта
**Papíer** *n* -s, -e 1) папéра 2) дакумéнт 3) *pl* каштóўныя папéры, аблігáцыі
**papíeren** *a* папярóвы
**Papíerhandlung** *f* -, -en магазíн пісьмóвых прылáд
**Papíerkorb** *m* -(e)s, -körbe кóшык пад папéру
**Papiermaché** [papi͡ema'ʃe:] *n* -s, - пап'é-машэ́
**Papíerschlange** *f* -, -n серпанцíн
**Papíerwaren** *pl* папярóвыя вы́рабы
**Páppband** *m* -(e)s, -bände *палігр.* кардóнны пераплёт
**Páppdach** *n* -(e)s, -dächer тóлевы дах
**Páppe** *f* -, -n 1) кардóн 2) пáпка, тэ́чка; кардóнны пераплёт 3) толь 4) *разм.* клей, кáша, клéйстар ◊ ***das ist nicht von ~!*** ≅ гэ́та спрáва надзéйная!, гэ́та не жарт!
**Páppel** *f* -, -n *бат.* тапóля, тóпаль
**päppeln** *vi разм.* 1) кармíць, ускáрмліваць (*з ласкай – дзіця, зверaня, хворага*) 2) пéсціць
**páppen** *a* кардóнны
**Páppenheimer**: ***ich kénne méine ~*** я вéдаю, з кім мáю спрáву; ≅ я вáшага брáта вéдаю
**Pápp(en)schachtel** *f* -, -n кардóнка, кардóнная карóбка
**Páppenstiel** *m* -(e)s, -e *разм.* пусцякóвіна, драбязá; ***für éinen ~ bekómmen*** ***[káufen]*** купíць за ніштó [за бясцэ́нак]; ***das ist doch kein~!*** гэ́та не дрóбязь!; ***kéinen ~ wert sein*** быць ні грашá не вáртым
**papperlapápp!** *int* та-та-тá!; глу́пства [лухтá]!
**páppig** *a разм.* клéйкі, вя́зкі
**Páppschnee** *m* -s *спарт.* лíпкі снег
**Páprika** *m* -s, -s чырвóны (стручкóвы) пéрац
**paprizíeren** *vt* пéрчыць (*стручковым перцам*)
**Papst** *m* -(e)s, Päpste пáпа (ры́мскі) ◊ ***päpstlicher als der ~ sein*** быць бóльшым катóлікам, чым сам пáпа; перагінáць пáлку, перабірáць мéру
**päpstlich** *a* пáпскі
**Pápsttum** *n* -s пáпства
**Pápua** *m* -s, -s папуáс
**Papýrus** *m* -, -ri папíрус (*расліна, папера, рукапіс*)
**Parábel** *f* -, -n 1) *матэм.* парáбала 2) прыпавесць
**parábelhaft, parabólisch** *a* 1) *матэм.* парабалíчны 2) *літ.* іншасказáльны, алегары́чны
**Paráde** *f* -, -n 1) парáд; ***die ~ ábnehmen**** прымáць парáд 2) святóчны ўбóр 3) пары́раванне ўдáру (*бокс, фехтаванне*)
**Parádeanzug** *m* -(e)s, -anzüge *вайск.* парáдная фóрма (*адзенне*)
**Parádemarsch** *m* -(e)s, -märsche цырыманія́льны марш
**paradíeren** *vi* 1) *вайск.* прахóдзіць цырыманія́льным мáршам 2) (*mit D*) фарсíць, франціць (*чым-н.*)
**Paradíes** *n* -es, -e 1) рай 2) *разм.* галёрка
**Paradíesapfel** *m* -s, -äpfel 1) рáйскі я́блык

**Sónderangebot** *n* -(e)s, -e распро́даж тава́раў (*найчасцей па зніжаных цэнах*)
**Sónderausgabe** *f* -, -n спецыя́льны вы́пуск (*газеты і да т.п.*)
**Sónderausschuss** *m* -es, -schüsse спецыя́льная камі́сія
**sónderbar** *a* дзі́ўны, дзіво́сны; ***~er Kauz*** дзіва́к
**sónderbarerweise** *adv* дзі́ўным чы́нам
**Sónderbarkeit** *f* -, -en дзі́ўнасць; дзіва́цтва
**Sónderbeauftragte** *sub m, f* -en, -en спецыя́льны (**-**ная) упаўнава́жаны (-ная)
**Sónderbestellung:** ***auf*** **~** ма́ючы [выко́нваючы] спецыя́льнае зада́нне
**Sóndereinsatz** *m* -es, -sätze спецыя́льнае зада́нне
**Sónderfahrt** *f* -, -en спецыя́льны рэйс, пазапла́навая пае́здка
**Sónderfrieden** *m* -s сепара́тны мір
**Sóndergenehmigung** *f* -, -en спецыя́льны дазво́л
**sóndergleichen** *a inv* бяспры́кладны
**Sónderkorrespondent** *m* -en, -en спецыя́льны карэспандэ́нт
**sónderlich 1.** *a* асаблі́вы; ***óhne ~e Lust*** без асаблі́вага жада́ння **2.** *adv*: ***nicht ~*** не на́дта
**Sónderling** *m* -s, -e дзіва́к, арыгіна́л
**Sóndermaßnahmen** *pl* надзвыча́йныя ме́ры
**sóndern I** *cj* але́, адна́к, а (*пасля адмоўя*); ***nicht ich, ~ du*** не я, а(ле́) ты
**sóndern II** *vt* аддзяля́ць, сартава́ць
**Sóndernummer** *f* -, -n э́кстранны вы́пуск (*газеты, часопіса і г.д.*)
**Sónderrecht** *n* -(e)s, -e прывіле́й, прывіле́я
**sónders**: ***samt und ~*** усё ра́зам, усе́ без выключэ́ння
**Sónderschicht** *f* -, -en дадатко́вая зме́на, спецыя́льная ва́хта
**Sóndersprache** *f* -, -en прафесіяна́льная мо́ва, арго́
**Sónderung** *f* -, -en аддзяле́нне, сарціро́ўка
**Sónderurlaub** *m* -(e)s нечарго́вы во́дпуск [адпачы́нак]
**Sóndervollmacht** *f* -, -en спецыя́льная даве́ранасць; *pl* надзвыча́йныя паўнамо́цтвы
**Sóndervorlesung** *f* -, -en факультаты́ўная ле́кцыя
**Sónderzug** *m* -(e)s, -züge спецыя́льны цягні́к
**Sonderzuteilung** *f* -, -en дадатко́вая [спецыя́льная] но́рма, спецыя́льны паёк
**Sónderzuwendung** *f* -, -en аднаразо́вая [спецыя́льная] дапамо́га
**sondíeren** *vt* 1) *мед.* зандзі́раваць; дасле́даваць (зо́ндам) 2) вымяра́ць глыбіню́; разве́дваць (*зямлю*) 3) *перан.* нама́цваць, зандзі́раваць
**Sonétt** *n* -s, -e *літ.* сане́т
**Song** *m* -s, -s зонг, пе́сня (*часцей сацыяльна-крытычнага зместу*)
**Sónnabend** *m* -s, -e субо́та
**sónnabends** *adv* па субо́тах, у субо́ты
**sónnengebräunt** *a* загарэ́лы
**Sónne** *f* -, -n со́нца; ***in der ~ líegen**** ляжа́ць на со́нцы, загара́ць; ***éhe die ~ áufgeht*** давідна́, на до́світку, на світа́нні, на зо́лку; ***in der préllen ~ sítzen**** сядзе́ць на санцапёку [со́нцы]; ***die ~ meint es héute gut*** ≅ сёння я́рка све́ціць со́нца ◊ ***die ~ bringt es an den Tag*** ≅ грэх не схава́еш у мех, не уто́пчаш у бало́та; шы́ла ў то́рбе не схава́еш
**sónnen** *vt* **1.** выстаўля́ць на со́нца; праве́трываць **2. ~, sich** грэ́цца на со́нцы; ***sich in der Hóffnung ~*** спадзява́цца
**Sónnenaufgang** *m* -(e)s узыхо́д со́нца, зо́лак
**Sónnenbad** *n* -(e)s, -bäder со́нечная ва́нна
**Sónnenblume** *f* -, -n *бат.* сляне́чнік
**Sónnenbrand** *m* -(e)s 1) спяко́та 2) зага́р 3) *мед.* со́нечны апёк
**Sónnenenergieanlage** *f* -, -n энергеты́чная геліяўстано́ўка
**Sónnenfinsternis** *f* -, -se со́нечнае зацьме́нне
**Sónnen|glut, ~hitze** *f* - спяко́та, спёка, гарачыня́
**sónnenklar** *a разм.* я́сны як дзень, зусі́м відаво́чны
**Sónnenkorona** *f* - *астр.* со́нечная каро́на
**Sónnenlauf** *m* -(e)s *астр.* шлях Со́нца

**Sónnenpferd** *n* -(e)s, -e *міф*. Фébаў конь
**Sónnenpriester** *m* -s, -s жрэц Сóнца
**Sónnenschein** *m* -(e)s сóнечнае святлó
**sónnenscheu** *a* які́ баíцца [пазбягáе] сóнца
**Sónnenschirm** *m* -s, -e парасóн ад сóнца
**Sónnenschutz** *m* -(e)s засцярóга ад сóнца
**Sónnenseite** *f* -, -n сóнечны [паўднёвы] бок
**Sónnenstich** *m* -s, -e сóнечны ўдар
**Sónnenstrahl** *m* -es, -en сóнечны прамéнь
**Sónnenstrahlung** *f* - сóнечнае выпраméньванне
**Sónnenuhr** *f* -, -en сóнечны гадзíннік
**Sónnenuntergang** *m* -(e)s зáхад сóнца
**sónnenverbrannt** *a* загарэ́лы
**Sónnenwende** *f* -, -n *астр*. сонцаварóт, сонцастаянне
**sónnig** *a* 1) сóнечны; ***ein ~er Tag*** сóнечны дзень 2) *перан*. сóнечны, рáдасны
**Sónntag** *m* -s, -e нядзéля; ***am ~*** у нядзéлю ◊ ***álle Táge ist kein ~*** не заўсягды́, як на Дзяды́
**sónntägig** *a* нядзéльны, у нядзéлю
**sónntäglich 1.** *a* святóчны, нядзéльны; ***~es Kleid*** святóчнае адзéнне, святóчная вóпратка **2.** *adv* па нядзéлях
**sónntags** *adv* па нядзéлях, штонядзéльна, кóжную нядзéлю
**Sónntagsanzug** *m* -(e)s, -anzüge нядзéльны касцю́м [гарнітýр]
**Sónntagskind** *n* -(e)s, -er шчаслíвец, шчаслíўчык ◊ ***sie ist ein ~*** янá нарадзíлася ў кашýлі
**Sónntagskleid** *n* -(e)s, -er святóчны ўбор [гарнітýр, строй і г.д.]
**Sónntagsstaat** *m* -(e)s *разм., жарт* святóчны ўбóр [строй]
**sonór** *a* санóрны; гýчны; звóнкі
**sonst** *adv* 1) інáчай, інáкш, у адварóтным вы́падку 2) апрóч тагó, яшчэ́; ***~ noch étwas?*** яшчэ́ што-нéбудзь?; ***~ nichts*** нічóга бóлей; ***wer ~ als er*** хто яшчэ́ апрóч ягó; ***er denkt, er ist ~ wer*** ён дýмае, што ён невядóма [немавéдама] хто 3) звычáйна; ***álles wie ~*** як звычáйна [як ранéй, па-старóму]; ***mehr als ~*** бóлей [больш] як звычáйна, як заўсёды
**sonst was** *pron indef разм*. нéшта, што-нéбудзь (яшчэ́)
**sonst wer** *pron indef* хто-нéбудзь (яшчэ́)
**sonst wie** *pron indef* (як-нéбудзь) інáкш
**sonst wo** *pron indef* (дзе-нéбудзь) у íншым мéсцы
**sonst wohín** *pron indef* (куды́-нéбудзь) у íншае мéсца
**sónstig** *a* 1) ранéйшы, былы́ 2) íншы; звычáйны
**soóft** *cj* усякі раз як, кóжны раз калí
**Sophíst** *m* -en, -en сафíст
**sophístisch** *a* сафíсцкі
**Soprán** *m* -s, -e *муз*. сапрáна
**Sórbe** *m* -n, -n лужычáнін, сорб
**Sórge** *f* -, -n клóпат, турбóта, непакóй, хвалявáнне (*um A, für A – аб кім-н., чым-н.*); ***vóller ~n sein (um A)*** быць заклапóчаным (*чым-н.*); ***wégen (G) in ~n sein*** хвалявáцца [непакóіцца] з-за чагó-н.; ***sich (D) ~ en máchen (um, für A)*** хвалявáцца, непакóіцца (*аб кім-н., чым-н.*); ***das ist méine geríngste ~*** гэ́та менш за ўсё мянé турбýе [хвалю́е]; ***das lass méine ~ sein!*** гэ́та маé спрáва!, аб гэ́тым я паклапачýся!; ***ich wérde ~n trágen, dass…*** я паклапачýся аб тым, каб…
**sórgen 1.** *vi* (*für A*) клапацíцца (*пра кагó-н., штó-н.*); ***dafür lass mich ~!*** гэ́та мая́ спрáва!; я паклапачýся аб гэ́тым!; ***dafür ist gesórgt*** гэ́та ўжó ўладкавáна **2. ~, sich** (*um A*) клапацíцца, непакóіцца, турбавáцца, хвалявáцца (*пра кагó-н., штó-н.*); бая́цца (*за кагó-н., штó-н.*)
**sórgen|frei, ~los** *a* бесклапóтны, бестурбóтны
**Sórgenkind**: ◊ ***er ist mein ~*** ён маё гóра
**sórgen|schwer**, ***~voll*** *a* заклапóчаны
**Sórgfalt** *f* - 1) старáннасць, рýпнасць 2) клапатлíвасць
**sórgfältig** *a* старáнны, руплíвы, рýпны
**sórglich** *a* 1) *гл*. sórgfältig 2) клапатлíвы
**sórglos** *a* бесклапóтны, бестурбóтны
**Sórglosigkeit** *f* - бесклапóтнасць, бестурбóтнасць, ціхамíрнасць

**sórgsam** *a* стара́нны, руплі́вы; клапатлі́вы

**Sórgsamkeit** *f* - 1) стара́ннасць, руплі́васць, шчы́расць, дбáйнасць, пі́льнасць, дакла́днасць 2) клапатлі́васць

**Sorptión** *f* - *хім.* со́рпцыя, паглынáнне

**Sórte** *f* -, -n 1) гату́нак, сорт 2) род, сорт; ***sie sind álle von dérselben ~*** усé яны́ аднаго́ по́ля я́гада

**sortíeren** *vt* сартавáць

**Sortíerer** *m* -s, - сартавáльнік, сарціро́ўшчык

**Sortimént** *n* -s, -e асартымéнт (*тавараў і г.д.*)

**soséhr** *cj* як бы ні; ***~ ich mich fréue, dass…*** як бы я ні рáдаваўся [цéшыўся], што…

**sosó** **1.** *int*: ***~!*** ну до́бра!, так, так! **2.** *adv* сяк-так, так сабé; ***~ lalá*** *разм.* нічо́га, так сáбе; сяк-так

**SÓS-Ruf** ['ɛs|oː|'ɛs] *m* -(e)s, -e *марск.* сігнáл «SOS»

**Sóße** *f* -, -n со́ўс, падлі́ўка

**sott** *impf ад* síeden*

**Soubrétte** [zu-] *f* -, -n *тэатр.* субрэ́тка

**Souffleur** [zu'fløːr *і* su'fløːr] *m* -s, -e суфлёр

**Soufleurkasten** [zu'fløːr- *і* su'fløːr-] *m* -s, -kästen суфлёрская бу́дка

**Souffleuse** [zu'fløːzə і su'fløːzə] *f* -, -n суфлёр (жанчы́на)

**souflíeren** [-su-] *vt* 1) суфлі́раваць 2) падскáзваць

**Sound** [saond] *m* -s, -s *муз.* гучáнне (*пэўнай інструментальнай групы*)

**sóundso**: ***Herr Sóundso*** спадáр [пан] такí і такí

**sóundsovíel** *adv* пэ́ўная ко́лькасць, гэ́тулькі і гэ́тулькі

**Souper** [zu'peː] *n* -s, -s (урачы́стая) звáная вячэ́ра

**Soutáne** [su-] *f* -, -n сутáна (*у катал. святара*)

**Souterrain** [zutɛ'rɛ̃ː] *n* -s, -s (паў)падвáл

**Souvenír** [suvə-] *n* -s, -s сувенíр, пáмятка

**souverän** [zuvə-] *a* 1) суверэ́нны, незалéжны 2) упэ́ўнены

**Souveränität** [zuv-] *f* - суверэнітэ́т, незалéжнасць

**sovíel** *cj* (на)ко́лькі; ***~ ich weiß, hat er zúgestimmt*** нако́лькі мне вядо́ма, ён пагадзíўся

**sovíelmal** *cj* ко́лькі б разо́ў; ***~ ich dorthín ging…*** ко́лькі б разо́ў я туды́ ні хадзíў…

**Sowchos** [zɔf'xɔs] *m* -, -e, **Sowchose** [zɔf'xoːzə] *f* -, -n *гіст.* саўгáс

**sowéit** *cj* нако́лькі; ***~ mir bekánnt ist*** нако́лькі мне вядо́ма

**sowénig** *cj* нако́лькі (мáла); ***~ ich davón verstéhe…*** як ні мáла я гэ́та разумéю, нако́лькі я разумéю

**sowíe** *cj* 1) (таксáма) як і..., а таксáма; ***er ~ séine Fréunde*** ён, як і яго́ сябры́ 2) як то́лькі

**sowiesó** *adv* усё ро́ўна, і без таго́

**Sowjét** *m* -s, -s *гіст.* Савéт (*у былым СССР*)

**sowjétisch** *a гіст.* савéцкі

**Sowjétunion** *f* - *гіст.* Савéцкі Саю́з

**sowóhl**: ***~…, als auch…; ~…, wie (auch)…*** *cj* як…, так і…; не то́лькі…, алé і...; і…, і…

**soziál** *a* сацыя́льны, грамáдскі

**Soziálamt** *n* -(e)s, -ämter аддзéл сацыя́льнага забеспячэ́ння

**Soziáldemokrat** *m* -en, -en сацыя́л-дэмакрáт

**soziáldemokrátisch** *a* сацыя́л-дэмакраты́чны; ***die Soziáldemokratische Partéi Déutschlands (die SPD)*** Сацыя́л-дэмакраты́чная пáртыя Германíі (СДПГ)

**Soziálfürsorge** *f* - сацыя́льнае забеспячэ́нне

**Sozialísmus** *m* - сацыялíзм

**Soziaslíst** *m* -en, -en сацыялíст

**sozialístisch** *a* сацыялісты́чны

**Soziálpolitik** *f* - сацыя́льная палíтыка

**Soziálprodukt** *n* -(e)s, -e *эк.* (суку́пны) грамáдскі праду́кт

**Soziálprogramm** *n* -s, -e прагрáма сацыя́льных [грамáдскіх] мерапрыéмстваў

**Soziálversicherung** *f* -, -en 1) сацыя́льнае страхавáнне 2) аддзéл сацыя́льнага страхавáння

**Soziológe** *m* -n, -n сацыёлаг
**Soziologíe** *f* - сацыялóгія
**soziológisch** *a* сацыялагíчны
**Sózius** *m* -, -se 1) *камерц.* кампаньён 2) пасажы́р на зáднім сядзéнні матацы́кла
**Sózius(sitz)** *m* -(e)s, -e зáдняе сядзéнне (*у матацыкла*)
**sozuságen** *adv* так сказáць, гэ́так бы мóвіць; у нéйкай ступéні
**Spáchtel** *m* -s, -, *f* -, -n, **~eisen** *n* -s, -, **~messer** *n* -s, - *тэх.* шпáтэль; лапáтачка (*для шпаклявання*)
**spáchteln** *vt* 1) шпакля́ваць 2) *разм.* прáгнуць шмат éсці
**Spagát** *n, m* -es, -e 1) шпагáт, вярóвачка 2) шпагáт (*у гімнастыцы*)
**Spaghétti** [Spagétti] [-ˈgɛti:] *pl* спагéці
**spähen** *vi* (*nach D, auf A*) віжавáць, шпіёніць, падгля́дваць (*за кім-н.*)
**Späher** *m* -s, - 1) дазóрца, наглядáльнік, вывéдчы, развéдчык 2) лазу́тчык, віж, шпіён, шпег
**Spähtrupp** *m* -(e)s, -s *вайск.* дазóр; раз’éзд
**Spalíer** *n* -s, -e 1) двухбакóвы ланцу́г (*людзей*); ~ ***bílden [máchen, stéhen*]*** утвары́ць шпалéры, стая́ць шпалéрамі 2) сцéнка (*у футболе*) 3) частакóл
**Spalíerobst** *n* -es *с.-г.* шпалéрныя плады́
**Spalt** *m* -(e)s, -e 1) шчы́ліна; ***die Tür éinen ~ óffen lássen**** няшчы́льна зачыніць дзвéры, пакíнуць шчы́ліну 2) трэ́шчына, раскóліна
**spáltbar** *a* расшчапля́льны (*пра атам*) 2) які́ растрэ́скваецца
**Spáltbarkeit** *f* - расшчапля́льнасць, раздрабля́льнасць
**Spálte** *f* -, -n 1) шчы́ліна, раскóліна 2) *палігр.* калóнка, слупóк
**spálten 1.** *vt* 1) калóць, раскóлваць; сячы́ 2) расшчапля́ць, раздрабля́ць (*хімічныя злучэнні і да т.п.*); ***der Blitz spáltete den Baum*** малáнкай расшчапíла дрэ́ва **2.** *vi* (*s*) (*part II* gespáltet *i* gespalten); калóцца, раскóлвацца; ***das Holz spáltet gut*** дрóвы дóбра кóлюцца **3. ~, sich** калóцца, раскóлвацца; сячы́ся (*пра валасы*) 2) *перан.* раскалóцца, раздрабля́цца, раз’яднáцца
**spáltenweise** *adv* цэ́лымі слупкáмі [калóнкамі]
**Spáltkeil** *m* -(e)s, -e клін
**Spáltung** *f* -, -en 1) расшчаплéнне 2) раскóл 3) рознагалóссе, разлáд
**Span** *m* -(e)s, Späne 1) трэ́ска, лучы́на, стру́жка; дрáнка; *pl тс.* пілавíнне, апíлкі; ***Späne máchen [réißen*]*** шчапáць лучы́ну 2) варóжасць, свáрка ◊ ***nicht ein ~!*** нічóга!, ні грашá!; ***er hat Späne*** *разм.* у ягó вóдзяцца грóшы; ***wo man Holz haut [wo gehóbelt wird], fállen Späne*** ≅ лес сяку́ць – трэ́скі ляця́ць; ***mach kéine Späne!*** *разм.* не цырымóнься!; ***das geht über den ~!*** *разм.* гэ́та ўжó занáдта!, гэ́та выхóдзіць за ўся́кія мéжы
**spánen** *vt тэх.* апрацóўваць рэ́заннем
**Spánferkel** *n* -s, - малóчнае парася́
**Spánge** *f* -, -n зáсцежка, спрáжка
**Spáni¦er** *m* -s, - іспáнец, гішпáнец
**spánisch 1.** *a* іспáнскі, гішпáнскі; ***~er Pféffer*** стручкóвы пéрац; ***~e Wand*** шы́рма; ***~e Schlösser áufbauen*** будавáць павéтраныя зáмкі **2.** *adv* па-іспáнску ◊ ***das kommt mir ~ vor*** гэ́та мне здаéцца незразумéлым [дзíўным]; ***das sind ihm ~e Dörfer*** гэ́та для ягó незразумéлыя рэ́чы
**spann** *impf ад* spínnen*
**Spann** *m* -(e)s, -e пад’ём (*нагі*); ***der Schuh drückt über dem ~*** чаравíк цíсне ў пад’ёме
**Spánnbeton** [-to:n *i* -tɔ̃:] *m* -s, -s *i* -e *буд.* папярэ́дне напру́жаны бетóн
**Spánne** *f* -, -n 1) пя́дзя; ***kéine ~ breit*** ні пя́дзі 2) карóткі прамéжак (чáсу) 3) рóзніца; ***die ~ zwíschen Éinkaufs- und Verkáufspreis*** рóзніца памíж заку́пачнай і прадáжнай канóй
**spánnen 1.** *vt* 1) наця́гваць; ***die Wäsche ~*** развéшваць бялíзну; ***das Kleid spannt únter den Ármen*** сукéнка ця́гне [цíсне] пад пáхамі; ***die Fórderungen zu hoch ~***

ста́віць зана́дта высо́кія [завы́шаныя] патраба́ванні; ***den Hahn*** ~ узве́сці куро́к 2) напру́жваць (*мускулы*); ***die Óhren*** ~ настрыць ву́шы 3) заціска́ць (*у цiскi*); запрага́ць **2.** *vi* 1) цягну́ць 2) (*auf A*) падпільно́ўваць, чака́ць з нецярпе́ннем (*каго-н.*) **3. ~, sich:** ***die Brücke spannt sich über Fluss*** це́раз раку́ перакі́нуты мост

**spánnend** *a* 1) захапля́льны 2) напру́жаны (*момант*)

**spánnenlang** *a* даўжынёй у адну́ пя́дзю

**Spánner** *m* -s, - 1) *тэх.* нацяжна́я прыла́да 2) *pl заал.* пя́дзенік

**Spánnfeder** *f* -, -n спружы́на

**Spánnkraft** *f* - 1) пру́гкасць, эласты́чнасць, гну́ткасць; напру́жанасць (*мускулаў*) 2) жы́васць, руха́васць; эне́ргія; ***die ~ der Trúppen*** баявы́ дух во́йска

**Spánnung** *f* -, -en 1) напру́жанне; напру́жаная ўва́га; ***j-n, etw. mit [voll] ~ erwárten*** чака́ць каго́-н. [чаго́-н.] з нецярпе́ннем 2) *фіз.* напру́жанне (*току*) 3) наця́жка (*каната*) 4) пралёт (*маста*) 5) напру́жанасць, наця́гнутыя адно́сіны; ***Mílderung der internationálen ~*** паслабле́нне міжнаро́днай напру́жанасці

**spánnungslos** *a* без напру́жання

**Spánnungsmesser** *n* -s, - *эл.* вальтме́тр

**Spánnungswandler** *m* -s, - *эл.* трансфарма́тар напру́жання

**Spánnvorrichtung** *f* -, -en *тэх.* нацяжна́я прыла́да

**Spánnweite** *f* -, -n 1) праме́жак 2) размах (*крыла*) 3) *буд.* пралёт (*маста*)

**Spánplatte** *f* -, -n драўля́на-стру́жкавая [стру́жачная] пліта́ [ДСП]

**Spárbuch** *n* -(e)s, -bücher ашча́дная кні́жка

**Spárbüchse** *f* -, -n скарбо́нка

**Spáreinlage** *f* -, -n укла́д у ашча́дны банк

**spáren** *vt, vi* 1) запа́сіць, збіра́ць, ашчаджа́ць (*грошы*) 2) зберага́ць, экано́міць; ***wéder Mühe noch Geld ~*** не шкадава́ць ні намага́нняў, ні гро́шай; ***die Mühe hättest du dir ~ können*** ≅ не ва́рта было́ намага́нняў, ты дарэ́мна турбава́ўся ◊ ***auf der Néige ist nicht gut ~*** ≅ калі́ не нае́ўся, то і не налі́жашся

**Spárer** *m* -s, - 1) укла́дчык (*у ашчаднай касе*) 2) беражлі́вы [ашча́дны, экано́мны] чалаве́к

**Spárgel** *m* -s, - *бат.* спа́ржа

**Spárgelder** *pl* зберажэ́нні, ашчаджэ́нні

**Spárkasse** *f* -, -n ашча́дная ка́са

**spärlich** *a* мізэ́рны, бе́дны; ***~es Haar*** рэ́дкія валасы́

**Spärlichkeit** *f* мізэ́рнасць, бе́днасць; рэ́дкасць (*валасоў*)

**Spármaßnahme** *f* -, -n мерапрые́мства ў мэ́тах экано́міі

**Spárpfennig** *m* -s, -e зберажэ́нні [ашчаджэ́нні] на чо́рны дзень

**Spárren** *m* -s, - *буд.* кро́ква 2) *разм.* сплін, хандра́; ***er hat éinen ~ (zu viel)*** у яго́ не́шта з галаво́ю; ён з глу́зду з'е́хаў

**Spárring** *m* -s, -s спа́рынг (*бокс*)

**spársam** *a* ашча́дны, экано́мны

**Spársamkeit** *f* - ашча́днасць, беражлі́васць, экано́мнасць

**Spársucht** *f* - ску́пасць, празме́рная беражлі́васць

**Spartakiáde** *f* -, -n спартакія́да

**Spartáner** *m* -s, - 1) спарта́нец 2) *гіст.* спарта́нец, жыха́р Спа́рты

**spartánisch**: ***~e Lébensweise*** спарта́нскі [про́сты] лад жыцця́

**Spárte** *f* -, -n 1) ча́стка, аддзе́л 2) раздзе́л (*навукі*) 3) від (*спорту*)

**Spaß** *m* -es, Späße жарт; заба́ва, паце́ха, уце́ха; ***das macht mir ~*** гэ́та ро́біць [дае́] мне задавальне́нне; ***das geht über den ~*** гэ́та ўжо зана́дта; ***zum [aus] ~*** у жарт, жарту́ючы, жа́ртам; ***óhne ~*** без жа́ртаў; ***sich mit j-m éinen ~ erláuben*** дазво́ліць сабе́ пажартава́ць над кім-н.; ***~ tréiben* [máchen]*** забаўля́цца, жартава́ць; ***lass ihm doch den ~!*** няха́й ён сабе́ забаўля́ецца!; ***viel ~!*** жада́ю до́бра павесялі́цца!

**spáßen** *vi* жартава́ць; ***mit ihm ist nicht gut zu ~*** з ім жа́рты дрэ́нныя

**spáßeshalber** *adv* жа́ртам

**spáßhaft** *a* жартаўлі́вы, сме́шны

**spáßig** *a* 1) забáўны, смéшны 2) жартаўлíвы
**Spáß|macher** *m* -s, -, **~vogel** *m* -s, -vögel жартаўнíк, весялýн
**Spat** *m* -(e)s, -e *мін*. шпат
**spät 1.** *a* пóзні; ***am ~en Ábend*** пóзнім вéчарам; ***bis ~ in die Nacht hinéin*** да пóзняй нóчы; ***wie ~ ist es?*** катóрая гадзíна? **2.** *adv* пóзна; ***zu ~ kómmen**** пазнíцца ◊ ***wer zu ~ kommt, hat das Náchsehen*** ≅ хто зявáе, той фíгу мáе
**spätabends** *adv* пóзна ўвéчары
**Spátel** *m* -s, -, *f* -, -n шпáтэль, лапáтачка
**Spáten** *m* -s, - рыдлёўка, жалязня́к
**später 1.** *a* пóзні **2.** *adv* пазнéй
**späterhín** *adv* пазнéй, у далéйшым
**spätestens** *adv* не пазнéй як, сáмае пóзняе
**Spätlese** *f* -, -n 1) пóзні збор вінагрáду 2) вінó з пóзняга збóру
**Spätnachrichten** *pl* начны́ вы́пуск апóшніх паведамлéнняў (*па радыё, тэлебачанні*)
**Spatz** *m* -en, -en верабéй; ***er hat ~en im Kopf*** *разм*. ён задзірáе нос ◊ ***die ~en pféifen es von állen Dächern*** аб гэ́тым усé гавóраць [вéдаюць]; ***nach [auf] ~en mit Kanónen schíeßen**** страля́ць з гармáт па вераб’я́х
**Spätzle** *pl дыял., кул*. клёцкі з мукí пашвáбску
**Spä́tzündung** *f* - *тэх*. пóзняе запáльванне
**spazíeren** *vi* (s) гуля́ць, прагýльвацца; ~ ***géhen**** гуля́ць, прагýльвацца, шпацыравáць, выхóдзіць на шпáцыр, прахóджвацца; ~ ***fáhren**** катáцца; праéхацца
**Spazíerfahrt** *f* -, -en катáнне, прагýлка
**Spazíergang** *m* -(e)s, -gänge прагýлка, шпáцыр, прахóдка
**Spazíerritt** *m* -(e)s, -e прагýлка вярхóм
**Spazíerstock** *m* -(e)s, -stöcke кіёк (*для прагулак*)
**Speaker** [ˈspi:kər] *m* -s, - спíкер, прамóўца
**Specht** *m* -(e)s, -e *заал*. дзя́цел
**Speck** *m* -s, -e (свінóе) сáла, шпік ◊ ***er hat den ~ geróchen*** ён пачýў пах смáжанага (*спажывы*); ***wie die Máde im ~ sítzen**** ≅ плáваць як сыр у мáсле
**spéckig** *a* сáльны, тлýсты
**Spéckschwarte** *f* - шкýрка шы́нкі [кумпякá]
**spedíeren** *vt* адпраўля́ць, пасылáць
**Spediteur** [-ˈtø:r] *m* -s, -e экспеды́тар, адпрáўшчык (*груза і г.д.*)
**Speech** [spi:tʃ] *m* -es, -es прамóва, спіч
**Speedway** [ˈspi:dwe:] *n, m* -s, -s *спарт*. спідвэ́й, мóтагонкі
**Speer** *m* -s, -e дзíда, кап’ё (*тс. спарт*.)
**Spéerwerfen** *n* -s *спарт*. кідáнне кап’я́
**Spéiche** *f* -, -n 1) спíца 2) *анат*. прамянёвая кóстка ◊ ***j-m in die ~n fállen**** ≅ устаўля́ць камý-н. пáлкі ў кóлы
**Spéichel** *m* -s слíна; ***der ~ lief ihm im Múnde zusámmen*** у ягó слíнка пацяклá
**Spéichelabsonderung** *f* -, -en выдзялéнне слíны
**Spéicheldrüse** *f* -, -n слíнная залóза
**Spéichelfluss** *m* -es, -flüsse слінацячэ́нне
**Spéichellecker** *m* -s, - падлíзнік, падхалíм
**Spéicher** *m* -s, - 1) *с.-г.* свíран, склад, схóвішча 2) *эл*. акумуля́тар 3) *тэх., камп*. запамінáльная прылáда, накапля́льнік 4) вадасхóвішча, рэзервуáр (*гідрастанцыі*)
**Spéicherkapazität** *f* -, -en аб’ём пáмяці (*камп.*)
**spéichern** *vt* 1) захóўваць (*на складзе, у свірне і г.д.*) 2) *эл*. акумулíраваць 3) запамінáць (*камп.*)
**spéien* 1.** *vt* 1) плявáць, хáркаць; ***Blut*** ~ хáркаць крывёй 2) вывяргáць пóлымя; ***Gift und Gálle*** ~ вар’явáцца **2.** *vi* плявáць; *разм*. ***ich spéie daráuf*** мне напляваць на гэ́та
**Spéise** *f* -, -n 1) éжа, стрáва; ~ ***und Trank*** éжа і піццё, стол 2) *буд*. вáпна
**Spéise¦eis** *n* -es марóжанае
**Spéisefett** *n* -(e)s, -e сталóвы тлушч
**Spéisehalle** *f* -, -n сталóўка
**Spéisekammer** *f* -, -n кладóўка, склеп
**Spéisekarte** *f* -, -n менн́ю (*картка з пералікам страў*)
**spéisen 1.** *vi* éсці; сталавáцца; ***zu Ábend*** ~ вячэ́раць; ***zu Míttag*** ~ абéдаць **2.** *vt* кармíць; *тэх*. сілкавáць

**Spéisenfolge** *f* -, -n меню́, паслядо́ўнасць страў

**Spéiseöl** *n* -s, -e сталóвы алéй

**Spéiseröhre** *f* -, -n *анат.* стрававóд

**Spéisesaal** *m* -s, -säle сталóўка (*напр. у гатэлі і г.д.*)

**Spéisewagen** *m* -s, - *чыг.* вагóн-рэстарáн

**Spéisezimmer** *m* -s, - сталóвы пакóй (*у кватэры*)

**Spéisung** *f* -, -en 1) кармлéнне; частавáнне 2) *тэх.* сілкавáнне, забеспячэ́нне

**spéiübel**: ***mir ist ~*** мянé ця́гне ванітавáць [на вані́ты]; *перан.* мне бры́дка

**Spektákel** *m* -s, - 1) *разм.* шум, скандáл, вэ́рхал, ля́мант 2) відóвішча 3) *n* -s, - спектáкль, пакáз

**spektákeln** *vi разм.* лямантавáць, учыня́ць вэ́рхал [скандáл]

**spektakulär** *a* які́ прыця́гвае ўвáгу; сенсацы́йны

**spektrál** [sp- *і* ʃp-] *a* спектрáльны

**Spéktrum** *n* -s, -tren *і* -tra *фіз.* спектр

**Spekulatión** *f* -, -en 1) спекуля́цыя, гешэ́фт 2) *філас.* разумóвасць, абстрáкцыя

**Spekulátius** *m* - *кул.* пéрнік (*пэўнага гатунку*)

**spekulatív** *a* 1) спекуляцы́йны 2) *філас.* разумóвы, абстрáктны

**spekulíeren** *vi* 1) спекулявáць 2) абстрáктна ду́маць, філасóфстваваць

**Spelúnke** *f* -, -n прытóн, халу́па

**Spélze** *f* -, -n *с.-г.* мякі́на, асцюкі́

**spendábel** *a разм.* шчóдры

**Spénde** *f* -, -n ахвяравáнне, узнóс, дар (*für A – на што-н., an A – каму-н.*)

**spénden** *vt* 1) падавáць (*міласціну*), ахвяравáць 2): ***j-m Lob ~*** хвалі́ць кагó-н.; ***j-m Trost ~*** суцяшáць кагó-н.; ***j-m Dank ~*** выкáзваць каму́-н. падзя́ку

**Spénder** *m* -s, - ахвяравáльнік

**spendíeren** *vt* частавáць, дары́ць; *разм.* абдóрваць; ***éine Rúnde Bier ~*** частавáць усі́х прысу́тных півам

**Spéngler** *m* -s, - *дыял.* бляхáр

**Spérber** *m* -s, - *заал.* я́страб-перапёлачнік

**Sperénzchen** *pl іран.* цырымóніі; ~ ***máchen*** цырымóніцца

**Sperénzi¦en** *pl іран.* абстáвіны, вару́нкі

**Spérling** *m* -s, -e верабéй ◊ ***ein ~ in der Hand ist bésser als éine Táube auf dem Dach*** ≅ лепш верабéй у руцэ́, чым жóраў пад нéбам

**Spérma** *n* -s, -men *і* -máta *біял.* спéрма

**spérr¦angelwéit** **1.** *a* разнáсцежаны **2.** *adv* нáсцеж

**Spérrbaum** *m* -(e)s, -bäume 1) бар’éр 2) шлагбáум

**Spérrdruck** *m* -(e)s, -e *палігр.* разрáдка

**Spérre** *f* -, -n 1) загарóда; бар’éр; запру́да, гаць; плаці́на 2) *вайск.* блакáда; ***die ~ über etw. (A) verhängen*** абвясці́ць блакáду (*дзе-н.*) 3) забарóна 4) *эк.* эмбáрга, эканамі́чная блакáда

**spérren** **1.** *vt* 1) загарóджваць (*дарогу, уваход і г.д.*) 2) запру́джваць (*раку*) 3) закрывáць (*праезд*); запірáць (*вароты, браму*); ***j-n ins Zímmer ~*** запéрці кагó-н. у пакóі 4) блакі́раваць (*горад*) 5) пасадзі́ць (*у турму*) 6) *эк.* наклáсці эмбáрга; забараніць; ***éinen Úrlaub ~*** часóва забараніць вóдпуск [адпачы́нак] 7) вы́ключыць (*тэлефон, газ і г.д.*) **2. ~, sich** праці́віцца, супраціўля́цца; ***er spérrte sich mit Händen und Füßen dagégen*** *разм.* ён адбівáўся ад гэ́тага рукáмі і нагáмі

**Spérrfeuer** *n* -s *вайск.* загараджáльны агóнь

**Spérrgebiet** *n* -(e)s, -e забарóненая зóна, раён блакáды

**Spérrholz** *n* -es 1) фанéра 2) *тэх.* распóрка

**spérrig** *a* груваcткі

**Spérrmüll** *m* -s буйнагабары́тнае смéцце

**Spérrtag** *m* -(e)s, -e непрыёмны дзень

**Spérrung** *f* -, -en 1) загарóджванне 2) *вайск.* загарóда, забарыкадавáнне 3) *эк.* накладáнне эмбáрга 4) *палігр.* разрáдка 5) *вайск.* засцерагáльны ўзвод 6) *тэх.* блакірóўка; заклінóўванне

**Spérrzeit** *f* - непрыёмныя гадзі́ны

**Spérrzoll** *m* -s, -zölle забарóннае мы́та, забарóнная пóшліна

**Spérrzone** *f* -, -n забарóнная зóна

**Spésen** *pl эк.* выда́ткі
**spésenfrei** *a камерц.* фра́нка, бясплáтны
**Spezeréi** *f* -, -en во́стрыя прыпра́вы; бакале́я
**speziál** *a* адмысло́вы, спецыя́льны, асаблі́вы, часткóвы
**Speziálabteilung** *f* -, -en спецыя́льны аддзéл, спецаддзéл
**Speziálfach** *n* -(e)s, -fächer спецыя́льнасць
**Speziálgeschäft** *n* -(e)s, -e спецыялізава́ны магазі́н
**spezialisíeren, sich** спецыялізава́цца
**Spezialisíerung** *f* -, -en спецыялізá́цыя
**Spezialíst** *m* -en, -en спецыялі́ст
**Spezialität** *f* -, -en спецыя́льнасць
**speziéll 1.** *a* спецыя́льны, адмысло́вы **2.** *adv* асаблі́ва, менаві́та
**Spézi¦es** *f* -, - 1) *біял.* від 2) ***die vier ~*** *матэм.* чаты́ры дзе́янні арыфмéтыкі 3) спе́цыі, ле́кавыя тра́вы
**Spezifikatión** *f* -, -en спецыфіка́цыя
**Spezífikum** *n* -s, -ka 1) спецыфі́чнасць; характэ́рная своеасаблі́васць 2) *мед.* спецыфі́чны сро́дак
**spezífisch** *a* 1) спецыфі́чны 2) *фіз.* удзе́льны; ***~es Gewícht*** удзе́льная вага́
**Sphäre** [ˈsfɛ:-] *f* -, -n 1) *матэм.* шар, сфе́ра 2) *астр.* сфе́ра, нябе́сная прасто́ра 3) *перан.* сфе́ра, галіна́, асяро́ддзе; ***die höheren ~n*** вышэ́йшыя сфе́ры 4) галіна́ [ко́ла] дзе́йнасці; ***das líegt áußerhalb méiner ~ [nicht in méiner ~]*** гэ́та выхо́дзіць за ме́жы маі́х інтарэ́саў [маёй кампетэ́нцыі]
**sphärisch** *a* сферы́чны, шарападо́бны
**Sphinx** *f* -, *m* - *i* -es *міф.* сфінкс
**Spíckaal** *m* -(e)s, -e вэ́нджаны ву́гар
**spícken 1.** *vt* 1) шпігава́ць; ***den Béutel ~*** *разм.* набіва́ць кішэ́нь **2.** *vi* *разм.* карыста́цца шпарга́лкай; спі́сваць (*у школе*)
**Spíckzettel** *m* -s, - шпарга́лка
**spie** *impf ад* spéien*
**Spíegel** *m* -s, - 1) люстэ́рка; рэфле́ктар; ***sich im ~ beséhen**** глядзе́цца ў люстэ́рка ◊ ***j-m den ~ vórhalten**** ≅ паказа́ць каму́-н. яго́ сапра́ўдны твар, паказа́ць каму́-н. на яго́ недахо́пы 2) *перан.* люстэ́рка, адлюстрава́нне 3) узро́вень, паве́рхня; люстэ́рка (*вады*) 4) *вайск.* перыско́п; я́блыка (*мішэні*); пятлі́ца 5) закаўра́ш, абшла́г
**Spíegelbild** *n* -(e)s, -er 1) адлюстрава́нне, адбі́так (*у люстры*) 2) люстэ́ркавая [люстраная́] выя́ва
**spíegelblank** *a* 1) гла́дкі як лю́стра, бліску́чы
**Spíegel¦ei** *n* -s, -er яе́чня
**Spiegelfechteréi** *f* -, -en *пагардл.* ашука́нства
**Spíegelfläche** *f* -, -n люстраная́ паве́рхня
**Spíegelglanz** *m* -es люстраны́ бляск
**spíegelglatt** *a* гла́дкі як люстэ́рка
**Spíegelkarpfen** *m* -s, - *заал.* люстраны́ карп
**spíegeln 1.** *vi* (s) блішча́ць, зіхце́ць, адбіва́цца **2.** *vt* адлюстро́ўваць, (*тс. перан.*) **3. ~, sich** адбіва́цца, адлюстро́ўвацца (*тс. перан.*)
**Spíegelreflexkamera** *f* -, -s *фота.* лю́стравая ка́мера; ***éinäugige ~*** лю́стравая ка́мера з адны́м аб’екты́вам
**Spíeg(e)lung** *f* -, -en адлюстрава́нне, адбі́так (*тс. перан.*)
**Spiel** *n* -(e)s, -e 1) гульня́; ***sein ~ mit j-m háben*** здзе́кавацца з каго́-н, жартава́ць з каго́-н.; ***etw. wie im ~ lérnen*** навучы́цца чаму́-н. гуля́ючы [лёгка] 2) *карт.* гульня́; ***wer hat das ~?*** чыя́ гульня́?; ***ich hábe drei ~e gemácht*** я вы́йграў тры па́ртыі 3) *спарт.* гульня́, па́ртыя; ***das ~ ánpfeifen* [ábpfeifen*]*** даць сігна́л на пача́так [кане́ц] гульні́ (*футбол*); ***das ~ der Scháchmeister éndete remis*** [rəˈmi:] па́ртыя ша́хматных майстро́ў зако́нчылася ўні́чыю; ***das ~ in die Hand bekómmen**** захапі́ць ініцыяты́ву ў гульні́; ***das ~ léiten*** судзі́ць гульню́; ***wie steht das ~?*** які́ лік (гульні́)? 4) *тэатр.* дзе́янне 5): ***ein ~ Kárten*** кало́да карт 6) *тэх.* зазо́р, свабо́дны ход 7) хвост (*фазана*) ◊ ***ein gewágtes ~ spíelen*** ве́сці небяспе́чную

гульню́; ***álles áufs ~ sétzen*** *перан.* усё пастáвіць на кáрту ◊ ***die Hand im ~ háben*** быць ублы́таным у што-н., удзéльнічаць у чым-н.; ***viel aus dem ~ háben*** рызыкавáць мнóгім; ***der Téufel ist mit ihm im ~*** ягó чорт спакусíў [падбíў]; ***Éhrgeiz ist dabéi im ~*** тут закрáнута славалю́бства

**Spíel¦art** *f* -, -en манéра гульні́

**Spíelautomat** *m* -en, -en ігрáльны аўтамáт

**Spíelbericht** *n* -(e)s, -e *спарт.* пратакóл спабóрніцтваў

**Spíeldose** *f* -, -n музы́чная шкатýлка

**Spíel¦ecke** *f* -, -n кутóк для гýльняў, дзіця́чы кутóк

**Spíeleifer** *m* -s азáрт; ***in ~ geráten**** увайсці́ ў азáрт

**spíelen** *vt, vi* 1) гуля́ць; ***Ball ~*** гуля́ць у мя́ч(ык); ***falsch ~*** *разм.* махлявáць, ашýкваць; ***j-m etw. aus der Tásche ~*** *разм.* вы́цягнуць у кагó-н. штo-н. з кішэ́ні 2) (і)грáць; выкóнваць; ***die érste Géige ~*** іграць пéршую скры́пку (*тс. перан.*) 3) разы́грываць, прытвары́цца, прыкíнуцца, стрóіць з сябé; ***den (gróßen) Herrn ~*** кóрчыць з сябé (вáжнага) пáна 4) mit (*D*) жартавáць [бáвіцца] (*чым-н.*); ***er lässt nicht mit sich ~*** ён не дазваля́е жартавáць з сябé 5) адбывáцца, разы́грывацца; ***die Hándlung spielt in Berlín*** дзéянне [падзéя] адбывáецца ў Берлíне 6) гуля́ць, блішчáць, пералівáцца (*пра каштоўныя камяні і г.д.*); ***ins Bläuliche ~*** мець сíняе адцéнне, адлівáць сíнім; ***díeser Diamánt spielt schön*** гэ́ты брыльян́т чы́стай вады́; ***in állen Fárben ~*** пералівáць усíмі кóлерамі вясёлкі [рáдугі]; ***séinen Witz ~ lássen**** вытóнчвацца ў вóстрых жáртах; ***sie ließ álle íhre Künste ~*** янá пусцíла ў ход усé сваé чáры

**spíelend** *adv* лёгка, гуля́ючы, амáль што жáртам; ***etw. ~ lérnen*** вучы́цца чамý-н. без асаблíвых намагáнняў

**Spíeler** *m* -s, - гулéц, ігрóк

**Spíelergebnis** *m* -es, -se *спарт.* лік (*як вынік*); ***beim ~ von zwei zu drei*** пры лíку два-тры; ***das ~ láutet zwei zu eins für...*** лік мáтча два-адзíн на кары́сць...

**Spieleréi** *f* -, -en гульня́, ігрá; *пагардл.* балаўствó; дрóбязь, глýпства

**spíelerisch** *a* несур'ёзны, жартаўлíвы

**Spíelfeld** *n* -(e)s, -e 1) спарты́ўная пляцóўка, (тэ́нісны) корт 2) свабóда дзéянняў; магчы́масці; пóле дзéйнасці

**Spíelfilm** *m* -s, - мастáцкі фільм

**Spíelfolge** *f* -, -n *тэатр.* праграмá

**Spíelgefährte** *m* -n, -n ся́бар малéнства

**Spíelhölle** *f* -, -n прытóн, гульнёвы дом

**Spíelkamerad** *m* -en, -en тавáрыш [ся́бар] малéнства [дзіця́чых гýльняў]

**Spíelkarte** *f* -, -n кáрта (*для гульні*)

**Spíelkasino** *n* -s, -s казінó

**Spíelleiter** *m* -s, - 1) рэжысёр 2) *спарт.* суддзя́

**Spíelmann** *m* -(e)s, -leute музыкáнт, музы́ка

**Spíelmarke** *f* -, -n фíшка

**Spíelplan** *m* -s, -pläne *тэатр.* рэпертуáр, праграмá; ***auf dem ~ stéhen**** быць у рэпертуáры

**Spíelplatz** *m* -es, -e пляцóўка (*для гульняў*); дзіця́чая пляцóўка

**Spíelraum** *m* -(e)s, -räume 1) мéсца [пляцóўка] для гульні́ 2) *перан.* прастóр(а), свабóда дзéянняў 3) *тэх.* зазóр

**Spíelregel** *f* -, -n прáвіла гульні́

**Spíelsachen** *pl зборн.* цáцка

**Spíelstand** *m* -(e)s *спарт.* лік

**Spíel¦uhr** *f* -, -en курáнты (*гадзіннік*)

**Spíelverderber** *m* -s, - нехаўрýсны чалавéк; той, хто мяшáе весялíцца; занýда

**Spíelverlängerung** *f* -, -en *спарт.* дадаткóвы час

**Spíelverlauf** *m* -(e)s ход гульні́

**Spíelwaren** *pl* цáцкі (*як тавар*)

**Spíelwarenhandlung** *f* -, -en магазíн цáцак, цáцачная крáма

**Spíelzeit** *f* -, -en 1) *спарт.* час [праця́г] гульні́ 2) *тэатр.* сезóн

**Spíelzeug** *n* -(e)s, -e цáцка

**Spíeß** *m* -es, -e 1) пíка, дзíда, кап'ё; ***er brüllt wie am ~*** ён крычы́ць так, як

бы́ццам яго́ рэ́жуць 2) ражо́н, по́жаг 3) *вайск. разм.* фельдфе́бель ◊ ***den ~ úmdrehen*** змяні́ць та́ктыку

**Spíeßbürger** *m* -s, - абыва́цель, мешчані́н

**spíeßbürgerlich** *a* абыва́цельскі, мяшча́нскі

**Spíeßbürgerlichkeit** *f* - абыва́цельшчына, мяшча́нства; забабо́ны [пры́мхі] абыва́целя [мешчані́на]

**Spíeßbürgertum** *n* -s мяшча́нства, мяшча́не

**spíeßen** *vt* праніз́ваць, праціна́ць, пракол́ваць; ***auf éinen Pfahl ~*** пасадзі́ць на кол

**Spíeßer** *m* -s, - *гл.* Spíeßbürger

**spíeßerhaft** *a* абыва́цельскі

**Spíeßertum** *n* -s 1) мяшча́нства 2) мяшча́нства, псіхало́гія [ідэало́гія] мяшча́нства

**Spíeßgeselle** *m* -n, -n саўдзе́льнік, памага́ты

**Spíeßrute** *f* -, -n прут(о́к), дубе́ц; шпіцру́тэн; ***j-n ~n láufen lássen**** *гіст.* прагана́ць каго́-н. праз строй; *перан.* даць каму́-н. ды́хту [чо́су]

**Spíeßrutenlaufen** *n* -s *перан.* пакара́нне; ***das ist für mich ein ~*** гэ́та для мяне́ про́ста ка́ра

**Spíkes** [spaiks *i* ʃpaiks] *pl* шыпо́ўкі

**Spill** *n* -s, -e *i* -s *тэх.* калаўро́т, лябёдка

**Spillóverkosten** [-v-] *pl эк.* пабо́чныя вы́даткі

**spinál** *a анат.* пазвано́чны, хрыбе́тны; ***~e Kinderlähmung*** *f* - *мед.* поліяміэлі́т

**Spind** *n, m* -(e)s, -e ву́зкая аднаство́ркавая ша́фа

**Spinát** *m* -s, -e *бат.* шпіна́т

**Spíndel** *f* -, -n 1) верацяно́; ***dürr wie éine ~*** худы́ як шчэ́пка 2) *тэх.* шпі́ндэль

**spíndeldürr** *a* худы́ як прут [як па́лец, як шчэ́пка]

**Spinétt** *n* -s, -e *муз.* спіне́т

**Spínne** *f* -, -n *заал.* паву́к; ***pfui ~!*** фу, брыдо́та!

**spínnefeind**: ***j-m ~ sein*** страшэ́нна ненаві́дзець каго́-н.

**spínnen*** **1.** *vt* 1) пра́сці 2) *разм.* заду́мваць, наду́мваць; ***Ränke ~*** пле́сці інтры́гі **2.** *vi* 1) выдумля́ць; вярзці́ лухту́; ***du spinnst wohl!*** ты не ў сваі́м ро́зуме!; ***er spinnt ímmer an éinem Gedánken*** яго́ ўвесь час займа́е адна́ ду́мка 2) му́ркаць, мурлы́каць (*пра ката*) ◊ ***nichts ist so gut gespónnen, es kommt doch éndlich an die Sónnen*** ≅ шы́ла ў мяшку не схава́еш

**Spínn(en)gewebe** *n* -s, - павуці́на, павуці́нне

**Spínner** *m* -s, - 1) прадзі́льшчык 2) *заал.* шаўкапра́д 3) *разм.* фантазёр, вар'я́т

**Spinneréi** *f* -, -en прадзі́льня

**Spínnerin** *f* -, -en прадзі́льшчыца

**Spínnmaschine** *f* -, -en прадзі́льная машы́на

**Spínn|rad** *n* -(e)s, -räder, ***~rocken*** *m* -s, - калаўро́т(ак)

**Spi¦ón** *m* -s, -e віж, шпіён, шпег, лазу́тчык; ***éinen ~ schléusen*** засыла́ць шпіёна

**Spionage** [-ˊnaзə] *f* - шпіяна́ж

**Spionágeabwehr** [-зə-] *f* - контрразве́дка

**spioníeren** *vi* шпіёніць, віжава́ць, сачы́ць

**Spirálbohrer** *m* -s, - *тэх.* спіра́льны сві́дар [бур]

**Spiräle** *f* -, -n спіра́ль, заві́ток

**Spirálfeder** *f* -, -n спіра́льная спружы́на, рысо́ра

**spirálförmig** *a* спіра́льны, у вы́глядзе спіра́лі

**Spiritísmus** *m* -s спірыты́зм

**spiritístisch** *a* спірыты́чны

**Spiritu¦ál** *n, m* -s, -s спіры́чуэл, духо́ўны гімн (*спеў у негрыцянскім стылі*)

**Spiritualísmus** *m* - *філас.* спірытуалі́зм

**Spirituósen** *pl* спіртны́я напі́ткі [напо́і]

**Spíritus** *m* -, - *i* -se спірт

**Spírituskocher** *m* -s, - спірто́ўка

**Spitál** *n* -s, -e *i* Spitäler бальні́ца, шпіта́ль

**spitz** *a* 1) во́стры, востраканцо́вы 2) калю́чы, з'е́длівы; ***~e Wórte*** з'е́длівыя сло́вы

**Spitz** *m* -es, -e шпіц (*сабака*)

**Spítzbart** *m* -(e)s, -bärte казлі́ная баро́дка, эспаньёлка

**Spítzbube** *m* -n, -n 1) свавол́ьнік, ві́сус, гарэ́за 2) нягóднік, шэ́льма

**Spítzbubenstreich** *m* -(e)s, -e 1) хулiгáнства 2) жýльнiцтва

**spítzbübisch** *a* 1) свавóльны 2) махлярскi, жýльнiцкi

**Spítze I** *f* -, -n вастрыё; кóнчык; шпiль 2) вяршы́ня (*гары*); вершалíна (*дрэва*) 3) нóсiк (*чаравiка*) 4) галавá (*калоны*) 5): ***die ~n der Geséllschaft*** вяршкí грамáдства; ***an der ~ des Staátes stéhen**** стая́ць на чалé дзяржáвы; ***j-n an die ~ stéllen*** пастáвiць кагó-н. на чалé; ***an die ~ séiner Bemühungen stéllen*** iмкнýцца зрабíць штo-н. у пéршую чаргý; ***die ~ der Produktión hálten**** трымáць рэкóрд па вытвóрчасцi чагó-н. 6): ***j-m die ~ bíeten**** давáць адпóр, акáзваць супрацiўлéнне камý-н.; ***éiner Sáche (D) die ~ ábbrechen**** абясшкóдзiць штo-н., пазбáвiць спрáву вастрынí; ***auf die ~ tréiben**** давéсцi штo-н. да крáйнасцi; ***éine Sáche auf die ~ stéllen*** пастáвiць штo-н. дагары́ нагáмi 7): ***fréie ~n*** *с.-г.* звышплáнавыя прадýкты, лíшкi

**Spítze II** *f* -, -n карýнкi; ***~n klöppeln*** плéсцi [вязáць] карýнкi

**Spítzel** *m* -s, - шпег, вiж

**spítzeln** *vi* шпiёнiць, вiжавáць

**spítzen 1.** *vt* завастрáць, вастры́ць (*алoвак*) ◊ ***die Óhren ~*** навастры́ць вýшы **2. ~, sich** (*auf A*) настрóiцца, разлíчваць (*на штo-н.*); ***er spitzt sich auf díeses Buch*** ямý нáдта хóчацца прачытáць [атрымáць] гэ́тую кнíгу

**Spítzenerzeugnis** *n* -ses, -se найлéпшы прадýкт, прадýкт найвышэ́йшай я́касцi

**Spítzenfahrer** *m* -s, - *спарт.* лíдэр гóнак

**Spítzenklasse** *f* -, -n *спарт.* экстраклáс

**Spítzenklöpplerin** *f* -, -nen карýначнiца

**Spítzenkragen** *m* -s, - карýнкавы каўнéр

**Spítzenleistung** *f* -, -en 1) *тэх.* максiмáльная магýтнасць 2) *спарт.* рэкóрднае дасягнéнне, рэкóрд; ***die ~ hálten**** трымáць рэкóрд

**Spítzenqualität** *f* -, -en найвышэ́йшая я́касць

**Spítzensportler** *m* -s, - першаклáсны спартсмéн, найлéпшы спартсмéн

**Spítzenzeit** *f* -, -en час пiк, час максiмáльнай нагрýзкi

**spítzfindig** *a* хiтрамýдры, выкрýтлiвы

**Spítzfindigkeit** *f* -, -en 1) хíтрасць, хiтрамýдрасць, выкрýтлiвасць 2) кáверза

**Spítzhacke** *f* -, -n маты́ка, кíрка

**spítzig** *a* 1) вóстры 2) *перан.* калю́чы, з'éдлiвы

**Spítzname** *m* -ns, -n мянýшка

**spítzwink(e)lig** *a* востравугóльны

**Spleen** [spli:n] *m* -s, -e сплiн, хандрá, сýмны настрóй

**Spléiße** *f* -, -n лучы́на

**spléißen*** **1.** *vt* 1) калóць (лучы́ну) 2) *марск.* аплятáць (канáты) **2.** *vi* (s) раскóлвацца, трэ́скацца

**Splitt** *m* -es, -e 1) шчэ́бень, друз, жвiр 2) гóнта

**Splítter** *m* -s, - 1) аскóлак, аскалёпак 2) стрэ́мка; ***sich (D) éinen ~ in den Fínger (éin)stechen**** застрамíць сабé пáлец

**splítterig** *a* якí лёгка расшчэ́плiваецца [распадáецца на аскóлкi]

**splíttern 1.** *vt* расшчапля́ць, раскóлваць **2.** *vi* (*h, s*) расшчапля́цца, раскóлвацца, трэ́снуць; разляцéцца ўшчэ́нт

**splítternackt 1.** *a* зусíм гóлы **2.** *adv* дагалá

**Spondylóse** *f* -, -n *мед.* спандылёз

**spónsern** *vt* быць у я́касцi спóнсара, спансíраваць

**spontán** *a* стыхíйны, спантанíчны

**Spontane¦ität** *f* - самавóльнасць; стыхíйнасць, спантанíчнасць

**sporádisch** *a* спарады́чны, адзíнкавы, рассéяны

**Spóre** *f* -, -n *бiял.* спóра

**Spórenpflanzen** *pl бат.* спóравыя [раслíны]

**Sporn** *m* -(e)s, Spóren 1) шпóра 2) сты́мул

**spórnen** *vt* 1) прышпóрваць 2) заахвóчваць, стымулявáць

**Sport** *m* -s, -e спорт, фiзкультýра; ***~ tréiben* [áusüben]*** займáцца спóртам; ***éinen ~ pflégen*** займáцца адны́м вíдам спóрту

**Spórtabzeichen** *n* -s, -e спарты́ўны значóк

**Spórtanhänger** *m* -s, - амáтар спóрту, ба-

лéльшчык

**Spórtanlage** *f* -, -n спарты́ўнае збудавáнне

**Spórtanzug** *m* -(e)s, -anzüge спарты́ўны касцю́м, фóрма

**Spórtart** *f* -, -en від спóрту

**Spórtartikel** *pl* спарты́ўныя тавáры

**Spórtarzt** *m* -es, -ärzte фізкультýрны ўрáч [дóктар]

**Spórtausrüstung** *f* -, -en спарты́ўнае абсталявáнне; спарты́ўныя прылáды

**Spórtfan** [-fɛn] *m* -s, -s балéльшчык, заўзя́ты балéльшчык спóрту

**Spórtfanatiker** *m* -s, - балéльшчык; *разм.* фанáт

**Spórtforum** *n* -s, -ra *i* -ren спарты́ўны гарадóк, кóмплекс спарты́ўных збудавáнняў

**Spórtfreund** *m* -(e)s, -e амáтар спóрту

**Spórtgemeinschaft** *f* -, -en спарты́ўнае тавары́ства

**Spórtgerät** *n* -(e)s, -e спарты́ўная прылáда, спарты́ўны снарáд

**Spórthalle** *f* -, -n спарты́ўная зáла

**Spórthemd** *n* -(e)s, -en мáйка, трыкó

**Spórthose** *f* -, -n (спарты́ўныя) трусы́

**sportív** *a* спарты́ўны (*пра вопратку*)

**Spórtklub** *m* -s, -s 1) спарты́ўны клуб 2) спарты́ўны цэнтр

**Spórtlehrer** *m* -s, - настáўнік фізкультýры (*у школе*); спарты́ўны інструктар, трэ́нер

**Spórtleistung** *f* -, -en спарты́ўнае дасягнéнне

**Spórtler** *m* -s, - спартсмéн

**spórtlich** *a* спарты́ўны

**Spórtplatz** *m* -es, -plätze спарты́ўная пляцóўка, стадыён

**Spórtpreis** *m* -es, -e спарты́ўны прыз

**Spórt-Toto** *m* -s, -s *разм.* спарты́ўны таталізáтар

**Sport tréibend** *a* які займáецца спóртам

**Spórtveranlagung** *f* - схíльнасць да спóрту, спарты́ўныя задáткі

**Spórtveranstaltung** *f* -, -en спарты́ўнае мерапрыéмства [спабóрніцтва]

**Spórtverband** *m* -(e)s, -bände спарты́ўная федэрáцыя

**Spórt|verein** *m* -(e)s, -e спарты́ўнае таварыства

**Spórtwagen** *m* -s, - спарты́ўная машы́на, спарты́ўны аўтамабíль

**Spórtwelt** *f* - спарты́ўная грамáдскасць, спартсмéны; ***das Néueste aus der ~*** навíны спóрту

**Spórtwett|kampf** *m* -(e)s, -kämpfe, ***~streit*** *m* -(e)s, -e спарты́ўнае спабóрніцтва

**Spot** [spɔt] *m* -s, -s (карóткі) рэклáмны тэкст [фільм]

**Spott** *m* -(e)s насмéшка, ірóнія, кпíны; здзéкі; ***ein schárfer ~*** злáя насмéшка; ***béißender ~*** саркáзм; ***mit j-m, mit etw. (D) ~ tréiben**** здзéкавацца, кпіць з катó-н., з чагó-н.; ***séinen ~ mit j-m háben*** высмéйваць кагó-н., насміхáцца з кагó-н.; ***j-n dem ~ préisgeben**** зрабíць кагó-н. пасмéшышчам; ***Gégenstand des ~es sein*** быць пасмéшышчам

**Spóttbild** *n* -(e)s, -er карыкатýра

**spóttbillig** *a* вéльмі тáнна

**Spötteléi** *f* -, -en насмéшка, здзек, кпíны

**spötteln** *vi* (*über A*) пасміхáцца, здзéкавацца (*з каго-н.*)

**spótten** *vi* (*über A*) насміхáцца, кпіць (*з каго-н.*); высмéйваць, падымáць на смех; ***der Gefáhren ~*** пагарджáць [грэ́баваць] небяспéкай; ***es spóttet áller Beschréibung*** гэ́та не паддаéцца апісáнню, гэ́та нéльга апісáць

**Spötter** *m* -s, - насмéшнік

**Spötteréi** *f* -, -en насмéшка

**Spóttgedicht** *n* -(e)s, -e сатыры́чны [гумарысты́чны] верш, саты́ра

**Spóttgeld**: ***um ein ~ káufen*** купíць за бясцэ́нак [за бéсцань]

**spöttisch** *a* насмéшлівы, іранíчны, здзéклівы

**sprach** *impf ад* spréchen*

**Spráche** *f* -, -n 1) мóва; ***die álten ~en*** старажы́тныя мóвы; ***éine zéitgenössische ~*** сучáсная мóва; ***er kann éinige ~en*** ён вéдае нéкалькі моў 2) мóва, стыль; ***die ~ des täglichen Úmgangs*** мóва штодзённага ўжы́тку, размóўная [гутаркóвая] мóва; ***die Angst (be)náhm [ráubte,***

***verschlúg] ihm die*** ~ ад стра́ху ён не мог вы́мавіць ні сло́ва; ***mit der ~ nicht heráuswollen**** не жада́ць гавары́ць, не асме́львацца гавары́ць; ***heráus mit der ~!*** ну дык гавары́(це) ж!; ***mit der ~ heráusrücken [heráuskommen*]*** прызна́цца ў чым-н.; загавары́ць; ***álles kam zur*** ~ гавары́лі [размаўля́лі] аб усі́м ◊ ***er schweigt in síeben ~n*** ≅ ён бы́ццам вады́ ў рот набра́ў

**Spráchfehler** *m* -s, - 1) мо́ўная памы́лка 2) дэфе́кт мо́вы

**Spráchfertigkeit** *f* -, -en дар сло́ва, красамо́ўства; ~ ***besítzen**** 1) свабо́дна размаўля́ць на ро́зных мо́вах, до́бра ве́даць мо́вы 2) вало́даць да́рам мо́вы

**Spráchführer** *m* -s, - размо́ўнік (*якой-н. мовы*)

**Spráchgefühl** *n* -(e)s, - чуццё мо́вы, мо́ўнае чуццё

**spráchgewandt** *a* красамо́ўны

**Spráchkunde** *f* - мовазна́ўства, лінгві́стыка

**spráchkundig** *a* які́ ве́дае мо́ву [мо́вы]

**Spráchlehrer** *m* -s, - выкла́дчык [наста́ўнік] мо́вы

**spráchlich** **1.** *a* які́ даты́чыцца мо́вы **2.** *adv* у адно́сінах [дачыне́нні] да мо́вы

**spráchlos** *a* бязмо́ўны, зняме́лы, аняме́лы; ***ich bin éinfach ~*** я не знахо́джу слоў

**Spráchlosigkeit** *f* - стра́та да́ру мо́вы

**Spráchpflege** *f* - культу́ра мо́вы

**Spráchrohr** *n* -(e)s, -e ру́пар

**Spráchstörung** *f* -, -en расстро́йства мо́вы

**Spráchstudium** *n* -s, -di¦en вывучэ́нне мо́вы [моў]

**Spráchunterricht** *m* -s выкладанне мо́вы [моў]

**spráchwidrig** *a* не адпаве́дны ду́ху [пра́вілам] мо́вы

**Spráchwissenschaft** *f* -, -en мовазна́ўства, лінгві́стыка

**spráchwissenschaftlich** *a* мовазна́ўчы, лінгвісты́чны, філалагі́чны

**sprang** *impf ад* spríngen*

**Spray** [spre:] *m, n* -s *і* -, -s 1) аэразо́ль 2) пульверыза́тар

**sprayen** ['spre:-] *vt* распыля́ць

**Spréchart** *f* -, -en мане́ра гавары́ць

**Spréchbühne** *f* -, -n трыбу́на

**spréchen*** **1.** *vi* (*mit j-m über A, von D*) гавары́ць, размаўля́ць (*з кім-н. аб кім-н., чым-н.*); ***gut [geläufig, fließend] Deutsch*** ~ до́бра [бе́гла, свабо́дна] размаўля́ць па-няме́цку; ***durch [über] den Rúndfunk*** ~ выступа́ць па ра́дыё; ***wir ~ uns noch!*** мы яшчэ́ паразмаўля́ем!; ***ich hábe mit dir zu*** ~ мне трэ́ба з табо́й пагавары́ць; ***ich bin héute für ihn nicht zu*** ~ я не прыму́ [не магу́ прыня́ць] яго́ сёння; ***auf j-n, auf etw. (A) zu ~ kómmen**** загавары́ць аб кім-н., аб чым-н.; ***auf j-n gut zu ~ sein*** до́бра адкліка́цца аб кім-н., быць высо́кай ду́мкі аб кім-н. **2.** *vt* 1) гавары́ць; ***ein Úrteil ~*** выно́сіць прысу́д [прыгаво́р]; ***Recht ~*** выно́сіць рашэ́нне па спра́ве; ***j-m das Wort ~*** абараня́ць каго́-н.; ***man spricht*** ка́жуць, гаво́раць, хо́дзяць чу́ткі 2) размаўля́ць, ве́сці размо́ву (*з кім-н.*) 3) (*auf A*) нагаво́рваць (*што-н. на магнітафонную стужку*)

**Sprécher** *m* -s, - 1) прамо́ўца 2) ды́ктар 3) спі́кер 4) арты́ст, які́ дублі́руе ро́лю ў фі́льме; ***als ~ wírkten mit…*** ро́лі дублі́равалі 5) гавару́н

**Spréchfertigkeit** *f* -, -en на́вык ву́снай мо́вы

**Spréchfunk** *m* -s радыётэлефо́н

**Spréchstunde** *f* -, -n прыём (*наведвальнікаў*), прыёмны час

**Spréchtag** *m* -(e)s, -e прыёмны дзень

**Spréchverbot** *n* -(e)s, -e забаро́на выступа́ць (*у грамадстве*)

**Spréchweise** *f* -, -n мане́ра гавары́ць [размаўля́ць]

**Spréchzimmer** *n* -s, - прыёмная, прыёмны пако́й

**Spréize** *f* -, -n *буд.* распо́рка, падпо́рка

**spréizen** **1.** *vt* (шыро́ка) расстаўля́ць [распасціра́ць], растапы́рваць; падпіра́ць (*сцяну*), ста́віць падпо́ркі **2. ~, sich** 1) тапы́рыцца 2) упіра́цца 3) фанабэ́-

рыцца
**Spréngbombe** *f* -, -n фуга́сная авіябо́мба
**spréngen I** *vt* паліва́ць (*вуліцу, кветкі і г.д.*)
**spréngen II** *vt* 1) узрыва́ць, узло́мваць 2) *перан.* падрыва́ць (*адзінства і г.д.*) 3) узлама́ць; разрыва́ць (*путы*) 4) *карт.* сарва́ць (*банк*)
**spréngen III** *vi* (s) е́хаць вярхо́м; ***über den Gráben ~*** пераско́чыць це́раз роў
**Sprénggeschoss** *n* -es, -e *вайск.* фуга́сны снара́д
**Spréngkörper** *m* -s, - падрыўна́я ша́шка
**Spréngladung** *f* -, -en *вайск.* падрыўны́ зара́д
**Spréngstoff** *m* -s, -e выбухо́вае рэ́чыва
**Spréngung** *f* -, -en 1) вы́бух 2) *перан.* падры́ў
**Spréngwagen** *m* -s, - цыстэ́рна для паліва́ння ву́ліц
**Sprénkel** *m* -s, - 1) кра́пінка; пля́мка 2) сіло́
**Spreu** *f* - 1) мякі́на, высе́ўкі 2) *перан.* адкі́ды
**spréuig** *a* які́ лу́шчыцца
**spricht** *präs ад* spréchen*
**Spríchwort** *n* -(e)s, -wörter пры́казка, пры́маўка
**spríchwörtlich** *a* 1) які́ ўвайшо́ў у пры́маўку; ***~e Rédensart*** пры́маўка; ***~es Glück*** ка́зачнае шча́сце 2) агульнавядо́мы
**spríeßen*** *vi* (*h, s*) усхо́дзіць, распуска́цца (*аб раслінах*)
**Spríngbrunnen** *m* -s, - фанта́н
**spríngen*** *vi* (s) 1) скака́ць; уско́чыць; ***in den Sáttel ~*** уско́чыць у сядло́ 2) ло́пнуць, трэ́снуць 3) вырыва́цца, пы́рснуць, вылята́ць; ***Blut sprang aus der Wúnde*** кроў пы́рснула з ра́ны; ***aus dem Stein sprángen Fúnken*** і́скры пасы́паліся з ка́мня 4) *разм.*: ***fünf Éuro ~ lássen**** раскашэ́ліцца на пяць е́ўра
**Springer** *m* -s, - 1) скаку́н; скакуне́ц 2) *шахм.* конь
**Sprínginsfeld** *m* -(e)s, -e *пагардл.* ветраго́н, свісту́н
**Spríngkraft** *f* - пру́гкасць, пру́ткасць
**Spríngseil** *n* -(e)s, -e скака́лка
**spríntern** *vi спарт.* бе́гаць на каро́ткія дыста́нцыі
**Sprint** *m* -s, -s *спарт.* спрынт, бег на каро́ткія дыста́нцыі
**Sprínter** *m* -s, - спры́нтэр (*бягун на кароткія дыстанцыі*)
**Sprit** *m* -es, -e 1) (*скар. ад* Spíritus) спірт 2) ві́нны во́цат 3) *разм.* бензі́н, па́ліва
**Sprítzapparat** *m* -s, -e распыля́льнік, распыля́льны агрэга́т
**Sprítze** *f* -, -n 1) шпрыц; ***j-m éine ~ gében**** зрабі́ць каму́-н. уко́л 2) пажа́рная по́мпа; *разм.* пы́рскаўка
**sprítzen 1.** *vt* пдрскаць, а(б)пы́рскваць **2.** *vi*: 1) ***es spritzt*** дождж імжы́ць [імглі́ць] 2) ***er kam zu mir gesprítzt*** *разм.* ён забе́г да мяне́ (на хвілі́нку)
**Sprítzer** *m* -s, - дро́бны дождж
**Sprítzfahrt** *f* -, -en вясёлая (кароткатэрміно́вая) пагуля́нка
**sprítzig** *a* 1) шыпу́чы, пе́ністы; ***~er Wein*** шыпу́чае віно́ 2) дасці́пны, тра́пны; жва́вы, рэ́звы, гарэ́злівы
**Sprítzkanne** *f* -, -n ле́йка, паліва́чка
**Sprítzkuchen** *m* -s, - ала́дка
**Sprítztour** [-tur] *f* -, -en *гл.* Sprítzfahrt
**spröde** *a* 1) кро́хкі 2) непадсту́пны, чапуры́сты; ***~ tun**** мане́рнічаць, прытвара́цца [прыкі́двацца] непрысту́пнай
**Sprödigkeit** *f* 1) кро́хкасць 2) чапуры́стасць, недасту́пнасць
**sproß** *impf ад* sprießen*
**Spross** *m* -es, -e *і* -en 1) *бат.* па́растак 2) пато́мак, нашча́дак
**Sprósse I** *f* -, -n ступе́нь, прысту́пка
**Sprósse II** *f* -, -n рабаці́нка, вясну́шка
**spróssen** *vi* -s пуска́ць па́расткі, усхо́дзіць, узыхо́дзіць
**Spróssenwand** *f* -, -wände *спарт.* гімнасты́чная [шве́дская] сце́нка
**Sprössling** *m* -s, -e *гл.* Spross
**Sprótte** *f* -, -n *заал.* шпро́та
**Spruch** *m* -(e)s, Sprüche 1) вysло́ўе, сентэ́нцыя, пры́павесць; ***Sprüche máchen*** выхваля́цца 2) *юрыд.* прысу́д; ***éinen ~***

***fällen*** выно́сіць прыгаво́р 3) пры́тча; тэкст (*з Біблii*)

**Sprúchband** *n* -es, -bänder транспара́нт, пало́тнішча з ло́зунгам

**sprúchreif** *a* які́ падрыхтава́ны да рашэ́ння; ***die Fráge ist ~*** пыта́нне паспе́ла [актуа́льнае]

**Sprúdel** *m* -s, - 1) (мінера́льная) крыні́ца 2) мінера́льная [газірава́ная] вада́ 3) *перан.* пато́кі [струме́ні] слоў

**sprúdeln 1.** *vi* (*s*) біць крыні́цай, пе́ніцца 2) бурлі́ць, бульката́ць, клеката́ць, кіпе́ць **2.** *vi* (*h*) ху́тка [го́рача] гавары́ць; ***séine Líppen ~ Wítze*** ён так сы́пле дасці́пнымі вы́разамі [жа́ртамі]

**sprúdelnd** *a* які́ пе́ніцца

**sprühen 1.** *vt* 1) выкіда́ць, раскіда́ць; ***Fúnken ~*** сы́паць і́скры 2) выпраме́ньваць, вылуча́ць; ***der Ófen sprüht Wärme*** печ ды́хае гарачынёй **2.** *vi* (*h, s*) 1) разля́тацца (*пра іскры*) 2) імглі́ць, імжы́ць (*пра дождж*) 3) іскры́цца, блішчэ́ць (*пра дыяменты*)

**sprühend** *a* іскры́сты

**Sprühregen** *m* -s, - дро́бны дождж

**Sprung I** *m* -(e)s, -Sprünge скачо́к; *вайск.* перабе́жка, кідо́к; ***~ mit Ánlauf*** скачо́к з разбе́гу; ***zum ~ ánsetzen*** падрыхтава́цца да скачка́, разбе́гчыся (*каб скокнуць*); пачына́ць; ***ein ~ ins Dúnkel*** скачо́к у невядо́мае; ◊ ***auf dem ~e stéhen* [sein] wégzugehen*** быць гато́вым [наме́рвацца] пайсці́; ***er kann kéine gróßen Sprünge máchen*** ён не мо́жа дазво́ліць сабе́ вялі́кіх выда́ткаў; ***krúmme Sprünge máchen*** віля́ць, выкру́чвацца; ***auf éinen ~*** на хвілі́нку

**Sprung II** *m* -(e)s, Sprünge трэ́шчына

**sprúngbereit** *a* гато́вы ско́кнуць; *перан.* гато́вы дзе́йнічаць; насцяро́жаны

**Sprúngbrett** *n* -(e)s, -er трамплі́н; падкідна́я до́шка (*гімнастыка*); масто́к [мо́сцік] для скачко́ў

**Sprúngfeder** *f* -, -n спружы́на

**Sprúngfedermatraze** *f* -, -en спружы́нны матра́с

**Sprúnggelenk** *n* -s, -e *анат.* галёнкаступнёвы суста́ў

**sprúnghaft** *a* 1) скачкападо́бны 2) неўраўнава́жаны

**Sprúnglatte** *f* -, -n *спарт.* рэ́йка, пла́нка

**Sprúngschanze** *f* -, -n лы́жны трамплі́н

**Sprúngseil** *m* -(e)s, -e *спарт.* скака́лка

**Sprúngstab** *m* -(e)s, -stäbe шост для скачко́ў

**Sprúngtuch** *n* -s, -tücher выратава́льнае палатно́, се́тка (*для акрабатаў, у пажарнікаў*)

**sprúngweise** *adv* скачка́мі

**Sprúngweite** *f* -, -n даўжыня́ скачка́

**Spúcke** *f* - *разм.* слі́на ◊ ***da bleibt mir die ~ weg!*** гэ́та ашаламля́льна [нечува́на, небыва́ла]!

**spúcken 1.** *vi* плява́ць; ***auf j-n, auf etw. ~*** напліва́ць на каго́-н., на што-н.; ***in die Hände ~*** працава́ць энергі́чна **2.** *vt* ха́ркаць (*крывёю*), выплёўваць (*макрату*) ◊ ***er spuckt gróße Bógen*** ён (на́дта) задзіра́е нос ◊ ***j-m in die Súppe ~*** сапсава́ць каму́-н. усё

**Spúcknapf** *m* -s, -näpfe плява́льніца

**Spuk** *m* -s, -e 1) здань, пры́від 2) шум, гвалт; ***mach kéinen ~!*** не мяша́й!, не шумі́!

**spúken: *hier spukt es*** тут пры́віды; ***es spukt bei ihm (im Kópfe)*** *разм.* ён звар’яцёў, ён з’е́хаў з глу́зду

**Spúkgeschichte** *f* -, -n 1) апо́вяд пра пры́відаў 2) *разм.* чартаўшчы́на, д’я́бальшчына

**Spülbecken** *n* -s, - паласка́льніца

**Spúle** *f* -, -n шпу́ля, шпу́лька

**spúlen** *vt* намо́тваць на шпу́лю [шпу́льку]

**spülen** *vt* паласка́ць; прамыва́ць, мыць; ***aufs Land ~*** вы́кінуць на бе́раг

**Spül|fass** *n* -es, -fässer, **~gefäß** *n* -es, -e бале́я, таз

**Spülicht** *n* -(e)s, -e паммы́і

**Spülnapf** *m* -s, -näpfe *гл.* Spülbecken

**Spülung** *f* -, -en 1) паласка́нне 2) прамыва́нне 3) *тэх.* прамы́ўка, прадзіма́нне (*матора*)

**Spülwasser** *n* -s, -wässer *гл.* Spülicht

**Spúlwurm** *m* -es, -würmer *заал.* аска-

ры́да, кру́глы гліст
**Spund** *m* -s, Spünde заты́чка, уту́лка
**spúnden** [spünden] *vt* 1) затыка́ць 2) *буд.* шпунтава́ць
**Spúndloch** *n* -s, -löcher адту́ліна пад уту́лку
**Spur** *f* -, -en 1) след, адбі́так; ***éiner ~ fólgen [náchgehen*], éine ~ verfólgen*** ісці́ па сле́ду; ***éine ~ áufnehmen**** напа́сці на след, ісці́ па сле́ду; ***j-n auf j-s ~ bríngen**** навé́сці каго́-н. на чый-н. след; ***j-m auf der ~ fólgen*** прасле́даваць каго́-н. па пя́тах, ісці́ сле́дам за кім-н.; ***auf fríscher ~*** па гара́чых сляда́х; ***álle ~en vertílgen [verwíschen]*** заме́сці сляды́; ***j-n von der ~ ábbringen**** збіць каго́-н. з то́лку [панталы́ку] 2) *чыг.* каля́я 3) лыжня́; ***éine ~ légen*** пракла́дваць лыжню́ 4) *перан.* след; ***kéine ~ !*** ніче́га тако́га!
**spürbar** *a* чуллі́вы, адчува́льны
**spúren** *vi* 1) пракла́дваць лыжню́ 2) *разм.* сле́даваць пры́кладу і́ншых
**spüren** *vt* **1.** *vt* адчува́ць; чуць (*напр. пра сабаку*) **2.** *vi* (*nach D*) ісці́ па сле́ду; шука́ць, адшу́кваць
**Spürhund** *m* -(e)s, -e саба́ка-сы́шчык, саба́ка-віж
**spúrlos** *a* бяссле́дны, непры(к)ме́тны
**Spürnase** *f* -, -n *разм.* праны́ра
**Sprürsinn** *m* -es інтуі́цыя, чуццё, нюх
**Spurt** *m* -s, -e *i* -s *спарт.* спурт, рыво́к (*у бегу і г.д.*)*;* ***éinen ~ éinlegen*** зрабі́ць рыво́к
**spúrten** *vi* *спарт.* спуртава́ць, фінішава́ць; зрабі́ць рыво́к (*у бегу і г.д.*)
**Spúrweite** *f* - *чыг.* шырыня́ каляі́(ны)
**spúten, sich** спяша́цца, ляце́ць; ***spúte dich, áber háste nicht!*** (па)спяша́йся, але́ не міту́сіся
**Spútum** *n* -s, -ta *мед.* макро́та
**Square** [skwɛ:r] *m, n* - *i* -s, -s сквер
**Staat I** *m* -(e)s, -en 1) дзяржа́ва, краі́на 2) штат (*адзінка адм. дзялення*)
**Staat II** *m* -(e)s 1) убра́нне, строй; ***in vóllem ~ erschéinen**** з’яві́цца ў по́ўным пара́дзе [у свято́чным убра́нні] 2) франтаўство́, фарс; ***mit etw.(D) ~ máchen*** франці́ць, фарсі́ць (*чым-н.*); ***gróßen ~ máchen*** жыць на шыро́кую нагу́
**Stáatenbund** *m* -s, -bünde саю́з дзяржа́ў
**stáatenlos** *a* які́ не ма́е грамадзя́нства, асо́ба без грамадзя́нства
**stáatlich** *a* дзяржа́ўны; казённы
**Stáatsakt** *m* -s, -e урачы́стае пасяджэ́нне о́рганаў ула́ды
**Stáatsaktion** *f* -, -en 1) спра́ва дзяржа́ўнай ва́жнасці 2) мерапрые́мства дзяржа́вы
**Stáatsangehörige** *sub m, f* -n, -n грамадзя́нін, грамадзя́нка
**Stáatsangehörigkeit** *f* -, -en грамадзя́нства
**Stáasanwalt** *m* -(e)s, -wälte пракуро́р
**Stáatsaufbau** *m* -s дзяржа́ўны лад
**Stáatsbeamte** *sub m* -n, -n дзяржа́ўны слу́жачы; чыно́ўнік
**Staátsbehörde** *f* -, -n дзяржа́ўная ўстано́ва, ве́дамства
**Stáatsbesuch** *m* -(e)s, -e візі́т [пае́здка] дзяржа́ўнай дэлега́цыі
**Stáatsbürger** *m* -s, - *гл.* Stáatsangehörige
**stáatsbürgerlich** *a* грамадзя́нскі
**Stáatsbürgerrecht** *n* -(e)s, -e пра́ва грамадзя́нства
**Stáatsbürgerschaft** *f* - грамадзя́нства
**Stáatsdienst** *n* -es, -e дзяржа́ўная слу́жба
**Stáatseigentum** *n* -s, -tümer дзяржа́ўная ўла́снасць
**Stáatseinkommen** *n* -s, - дзяржа́ўныя дахо́ды
**Stáatsexamen** *n* -s, - *i* -mina дзяржа́ўны экзаме́н [іспы́т]
**Stáatsflagge** *f* -, -n дзяржа́ўны сцяг
**Stáatsgefährdung** *f* - антыдзяржа́ўная дзе́йнасць
**Stáatsgeheimnis** *n* -ses, -se дзяржа́ўная та́йна
**Stáatsgewalt** *f* - дзяржа́ўная ўла́да; ***óberste ~*** вярхо́ўная ўла́да
**Stáatsgut** *n* 1) -s дзяржа́ўная маёмасць 2) -s, -güter *гіст.* саўга́с, дзяржга́с
**Stáatshaushalt** *m* -s, -e дзяржа́ўны бюджэ́т
**Stáatshoheit** *f* - дзяржа́ўны суверэнітэ́т

**Stáatskosten** *pl* дзяржáўныя расхóды [выдáткі]; ***auf*** ~ на дзяржáўны кошт
**Stáatsmacht** *f* -, mächte *гл.* Stáatsgewalt
**Stáatsmann** *m* -s, -männer дзяржáўны дзéяч, палітычны дзéяч
**Stáatsoberhaupt** *m* -es, -häupter кіраўнíк [галавá] дзяржáвы, прэзідэ́нт
**Stáatsrat** *m* -es, -räte дзяржáўная рáда, дзяржáўны савéт
**Stáatsruder** *n* -s стырнó ўлáды; ***am ~ stéhen**** стаяць у кармíла ўлáды; кіравáць дзяржáвай
**Stáatsschatz** *m* -es, -schätze джяржáўная казнá
**Stáatsschulden** *pl* дзяржáўны доўг
**Stáatssicherheit** *f* - дзяржáўная бяспéка
**Stáatsstreich** *m* -s, -e дзяржáўны перавар́от
**Stáatsverlag** *m* -(e)s, -e дзяржáўнае выдавéцтва
**Stáatsvertrag** *m* -(e)s, -träge дзяржáўны дагавóр, дзяржáўнае пагаднéнне
**Stáatsverwaltung** *f* - 1) óрганы дзяржáўнага кіравáння 2) кіравáнне дзяржáвай
**Stáatswissenschaft** *f* -, -en грамáдска-палітычная навýка
**Stab** *m* -s, Stäbe 1) кій, пáлка 2) жазлó 3) *вайск.* штаб; ***ein Offizíer vom*** ~ штабны афіцэ́р
**Stábführung** *f* : ***das Orchéster únter der ~ von…*** аркéстр пад кіраўнíцтвам…
**Stábhochsprung** *m* -s, -sprünge скачóк (у вышыню) з шастóм
**stabíl** *a* устóйлівы, стабíльны; ***éine ~e Währung*** устóйлівая валюта
**stabilisíeren** *vt* стабілізавáць
**Stabilisíerung** *f* -, -en стабілізáцыя
**Stabilität** *f* - устóйлівасць, стабíльнасць; ***zur ~ gelángen*** набыць устóйлівасць, стабілізавáцца
**Stábreim** *m* -(e)s, -e *літ.* алітэрáцыя
**Stábsarzt** *m* -(e)s, -ärzte урáч у рáнгу капітáна, капітан мéдыка-санітáрнай слýжбы
**Stábschef** [-ʃɛf] *m* -s, -s *вайск.* начáльнік штáба
**Stábsoffizier** *m* -s, -e стáршы афіцэ́р; штаб-афіцэ́р; штабíст
**Stábsquartier** *n* -s, -e *вайск.* штаб-кватэ́ра, штаб; стáўка, месцазнахóджанне [раз мяшчэ́нне] штáба
**Stábwechsel** *m* -s, - *спарт.* перадáча эстафéты
**stach** *impf ад* stéchen*
**Stáchel** *m* -s, -n 1) джáла (*пчалы*) 2) шып, калючка; ***j-m ein ~ im Áuge sein*** быць у каго́-н. як бяльмó на вóку 3) вóстры жарт, з'éдлівасць; ***éiner Sáche (D) den ~ néhmen**** абясшкóдзіць што-н. ◊ ***wíder den ~ löcken [lécken]*** супраціўляцца (*чаму-н.*); пратэставáць (*супраць чаго-н.*)
**Stáchelbeere** *f* -, -n *бат.* агрэ́ст (*ягады*)
**Stáchelbeerstrauch** *m* -(e)s, -sträucher агрэ́ст (*куст*)
**Stácheldraht** *m* -(e)s, -drähte калючы дрот
**Stácheldrahtverhau** *m, n* -s, -e *вайск.* драцянáя загарóда
**stáchelig** *a* 1) калючы 2) *перан.* калючы, з'éдлівы
**stácheln** *vt* 1) джáліць, калóць 2) гаварыць з'éдліва, пацвéльваць, пакéпліваць, дражнíць
**Stáchelschwein** *n* -s, -e *заал.* дзікабрáз
**Stádion** *n* -s, -di¦en *спарт.* стадыён
**Stádium** *n* -s, -di¦en стáдыя, перыяд
**Stadt** *f* -, Städte гóрад; ***áußerhalb der*** ~ за гóрадам; ***im Wéichbild der ~ wóhnen*** жыць у мéжах гóрада; ***ábgelegene*** ~ глухí гóрад; ~ ***und Lánd*** гóрад і вёска
**Stádtamt** *n* -s, -ämter муніцыпалітэ́т, мэ́рыя
**Stádtauswahl** *f* -, -en *спарт.* збóрная камáнда гóрада
**stádtauswärts** *adv* за гóрадам, за гóрад
**Stádtbahn** *f* -, -en (*скар.* S-Bahn) гарадскáя (пазавýлічная) чыгýнка, электрычка
**stádtbekannt** *a* (які) вядóмы ўсямý гóраду
**Stádtbevölkerung** *f* - гарадскóе насéльніцтва
**Stádtbezirk** *m* -es, -e раён гóрада
**Städtebau** *m* -(e)s будаўнíцтва гарадóў

**städtebaulich** *a* архітэкту́рны, які́ даты́чыцца гарадско́га будаўні́цтва
**Städter** *m* -s, - гараджа́нін, гарадскі́ жыха́р
**Stádtgebiet** *n* -(e)s, -e мяжа́ го́рада
**städtisch** *a* 1) гарадскі́ 2) муніцыпа́льны
**Stádtkreis** *m* -es, -e го́рад-раён, го́рад акруго́вага падпара́дкавання
**stádtkundig** *a* знаёмы з го́радам
**Stádtplan** *m* -s, -pläne план го́рада
**Stádtrat** *m* -(e)s, -räte 1) муніцыпалітэ́т, гарадска́я ра́да, гарадскі́ саве́т 2) муніцыпа́льны саве́тнік, член гарадско́га саве́та
**Stádtteil** *m* -s, -e раён го́рада; кварта́л
**Stádttor** *n* -s, -e гарадска́я бра́ма
**Stádtverordnete** *sub m* -n, -n 1) член муніцыпалітэ́та 2) дэпута́т гарадско́га саве́та [гарадско́й ра́ды]
**Stádtviertel** *n* -s, - (гарадскі́) кварта́л
**Stafétte** *f* -, -n эстафе́та
**Staffage** [-ˈfa:ʒə] *f* -, -n ажыўля́льны мо́мант 2) бутафо́рыя, другара́дны рышту́нак
**Stáffel** *f* -, -n 1) ступе́нь 2) *вайск.* эшало́н 3) *ав.* эскадры́лля; *марск.* эска́дра 4) эстафе́та
**Staffeléi** *f* -, -en мальбе́рт
**Stáffellauf** *m* -(e)s, -läufe *спарт.* эстафе́тны бег, эстафе́та
**stáffeln** *vt* 1) размяшча́ць усту́памі 2) *вайск.* эшалані́раваць
**Stáffelung** *f* -, -en 1) размяшчэ́нне ўсту́памі 2) *вайск.* эшалані́раванне
**staffíeren** *vt* 1) прыбіра́ць, убіра́ць, упрыго́жваць 2) падшыва́ць (*вопратку і г.д.*)
**Stagnatión** *f* -, -en *эк.* стагна́цыя, засто́й; ***sich im Zústand der ~ befínden**** знахо́дзіцца ў ста́не засто́ю [стагна́цыі], перажыва́ць засто́й
**stagníeren** *vi эк.* знахо́дзіцца ў ста́не засто́ю [стагна́цыі], перажыва́ць засто́й
**stahl** *impf ад* stéhlen*
**Stahl** *m* -s, Stähle *i* -e 1) сталь; ***róstfreier [nicht róstender] ~*** нержавее́ючая сталь 2) була́т, хало́дная збро́я; ***Nérven von ~*** стальны́я [жале́зныя] не́рвы; ***ein Mann von ~ (und Éisen)*** чалаве́к жале́знай во́лі
**Stáhlbeton** [-to:n *i* -tɔ̃:] *m* -s, -s жалезабето́н
**stáhlblau** *a* сінява́та-сталёвага ко́леру
**Stáhlblech** *n* -(e)s, -e ліставая сталь
**stählen 1.** *vt* гартава́ць **2. ~, sich** гартава́цца
**stählern** *a* стальны́, сталёвы; ***ein ~er Wille*** стальна́я во́ля
**Stáhlgerüst** *n* -(e)s, -e стальны́ [сталёвы] карка́с
**Stáhlgießerei** *f* -, -en сталеліцэ́йня
**stáhlhart** *a* цвёрды як сталь
**Stáhlhelm** *m* -s, -e стальны́ [сталёвы] шлем, стальна́я ка́ска
**Stáhlhütte** *f* -, -n сталеліцэ́йны заво́д, сталеліцэ́йня
**Stáhlkammer** *f* -, -n сейф
**Stáhlmantel** *m* -s, -mäntel *тэх.* стальны́ [сталёвы] кажу́х
**Stáhlwerk** *n* -(e)s, -e *гл.* Stáhlhütte
**Stáhlwerker** *m* -s, - сталява́р, сталеліцэ́йшчык
**stak** *impf ад гл.* stécken*
**Stakét** *n* -s, - штыке́тнік, тын
**Stakétenzaun** *m* -(e)s, -zäune за́гарадзь, агаро́джа; тын, штыке́тнік
**stáksen** *vi разм.*, *дыял.* хадзі́ць, як на хаду́лях
**Stalagmít** *m* -s *i* -en, -e *i* -en сталагмі́т
**Stalaktít** *m* -s, *i* -en, -e *i* -en сталакты́т
**Stall** *m* -(e)s, Ställe хлеў, каню́шня, ста́йня; ***den ~ zúmachen*** *груб.* зашпілі́ць штаны́
**Stállknecht** *m* -s, -e ко́нюх, ста́йнік
**Stálllaterne** *f* -, -n перано́сны ліхта́р
**Stállung** *f* -, -en каню́шня, ста́йня
**Stamm** *m* -(e)s, Stämme 1) ствол 2) пень 3) пле́мя; род; сям'я́, дом; ***der männliche [wéibliche] ~*** мужско́е [жано́чае] кале́на ◊ ***der Ápfel fällt nicht weit vom ~*** я́блык ад я́блыні далёка не ко́ціцца 4) асно́ўны [ка́дравы] склад; ***der ~ der Besúcher*** заўсёдашні склад наве́двальнікаў 5) *грам.* асно́ва (*слова*)
**Stámmbaum** *m* -(e)s, -bäume радаслоўнае дрэ́ва, радаво́д

**stámmeln 1.** *vi* заіка́цца, запіна́цца **2.** *vt* мармыта́ць; лапата́ць

**stámmen** *vi* (s) 1) (*aus D*) пахо́дзіць (з), прыналéжаць па нараджэ́нні (да); быць ро́дам (*адкуль-н.*) 2) (*aus D*) пахо́дзіць, быць запазы́чаным; ***díeses Wort stammt aus dem Énglischen*** гэ́тае сло́ва англі́йскага пахо́джання 3) (*von D*) налéжаць; ***das Gedícht stammt von Góethe*** гэ́ты верш (налéжыць) Гётэ

**Stámmgast** *m* -es, gäste заўсёднік (*кафэ і да т.п.*)

**Stámmhalter** *m* -s, - прадаўжа́льнік ро́ду

**stämmig** *a* каржакава́ты, ду́жы, мо́цны

**Stámmkunde** *m* -n, -n заўсёднік, ста́лы [пастая́нны] кліéнт

**Stámmlokal** *n* -s, -e кавя́рня з пастая́нным скла́дам навéд(валь)нікаў, кавя́рня заўсёднікаў

**Stámmrolle** *f* -, -n *вайск.* спіс асабо́вага скла́ду ча́сці

**Stámmsitz** *m* -es, -e 1) ста́лае [пастая́ннае] месцазнахо́джанне 2) пастая́ннае мéсца (*у тэатры і г.д.*)

**Stámmspieler** *m* -s, - *спарт.* гулéц [ігро́к] асно́ўнага скла́ду кама́нды

**Stámmtisch** *m* -es, -e стол заўсёднікаў

**Stámmvater** *m* -s, -väter родапачына́льнік

**stámmverwandt** *a* 1) аднапляме́нны; ро́дны, свая́цкі 2) *грам.* адно́й асно́вы

**Stámmwort** *n* -(e)s, -wörter *грам.* карэ́ннае сло́ва

**stámpfen 1.** *vt* таўчы́, мяць; ***zu Púlver ~*** растаўчы́ ў парашо́к; трамбава́ць **2.** *vi* ця́жка ступа́ць; ту́паць (*нагамі ў знак пратэсту*)

**Stámpfer** *m* -s, - трамбава́льнік (*інструмент*)

**Stámpfmaschine** *f* -, -n трамбава́льная машы́на

**stand** *impf ад* stéhen*

**Stand** *m* -es, Stände 1) мéсца, месцазнахо́джанне; ***ein Sprung aus dem ~*** скачо́к з мéсца [без разбéгу]; ***éinen gúten ~ bei j-m háben*** мець до́брую рэпута́цыю ў каго́-н. 2) стано́вішча, стан; ***éinen schwéren ~ háben*** быць у ця́жкім стано́вішчы; ***etw. (gut) im ~e erhálten**** захо́ўваць што-н. у до́брым ста́не; ***er ist im gúten ~e*** у яго́ до́бры стан здаро́ўя 3) узро́вень ***éinen hóhen ~ erréichen*** падня́цца на высо́кі ўзро́вень; ***den ~ hálten**** захо́ўваць узро́вень (*тс. перан.*) 4) курс (*акцый*) 5) *гіст.* сасло́ўе; *перан.* зва́нне, прафéсія; ***der drítte ~*** трэ́цяе сасло́ўе; ***ein Mann von ~ und Würden*** уплыво́вы [зна́тны] чалавéк 6) кіёск, ларо́к 7) канто́н (*Швейцарыі*)

**Stándard** *m* -s, -s 1) станда́рт 2) но́рма, узро́вень

**standardisíeren** *vt* стандартызава́ць

**Stándardwerk** *n* -(e)s, -e 1) узо́рны твор [вы́раб] 2) стабі́льны падру́чнік 3) узо́рнае прадпрыéмства

**Standárte** *f* -, -n сцяг, штанда́р

**Stándbild** *n* -(e)s, -er ста́туя, по́мнік

**Standby-Kredít** ['stɛndbai̯-] *m* -(e)s *эк.* крэды́т садзéйнічання

**Ständchen** *n* -s, - 1) серэна́да 2) *разм.* невялі́кая размо́ва (*з сустрэчным*); ***ein ~ hálten**** спыні́цца пагавары́ць [пабалта́ць] (*з сустрэчным*); ***ein ~ bríngen**** спява́ць серэна́ду

**Ständer** *m* -s, - 1) сто́йка, прыла́вак 2) *тэх.* стая́к, сто́йка, стані́на 3) *эл.* ста́тар 4) вéшалка-стая́к

**Stándesamt** *n* -(e)s, -ämter аддзéл за́пісаў а́ктаў грамадзя́нскага ста́ну, аддзéл ЗАГС

**stándesgemäß** *adv* які́ адпавядáе [налéжыць] зва́нню [грама́дскаму ста́ну]

**stándfest** *a* усто́йлівы, трыва́лы

**Stándgeld** *n* -(e)s, -er 1) пла́та за мéсца на ры́нку 2) пла́та за прасто́й (*напр., чыгуначнага вагона*)

**Stándgericht** *n* -(e)s, -e ваéнна-палявы́ суд

**stándhaft** *a* непахі́сны, трыва́лы; ***ein ~es Herz*** адда́нае [вéрнае] сэ́рца

**Stándhaftigkeit** *f* - трыва́ласць, непахі́снасць

**stándhalten*** *аддз. vi* 1) (*D*) сто́йка трыма́цца, устая́ць (*перад чым-н.*) 2) аказа́цца абгрунтава́ным

**ständig** *a* пастая́нны, ста́лы, заўсёдны; ***~er Áufenthalt*** пастая́ннае [заўсёднае] месцазнахо́джанне

**ständisch** *a гіст.* саслóўны

**Stándkampf** *m* -(e)s, -kämpfe *спарт.* барацьба́ у стóйцы

**Stándort** *m* -(e)s, -e 1) ме́сца стая́нкі (*аўтамашын*) 2) ме́сца размяшчэ́ння (*вайсковай часці*); гарнізóн

**Stándortwache** *f* -, -n гарнізóнная ва́рта

**Stándpauke** *f* -, -n *разм.* наганя́й, прачуха́нка

**Stándpunkt** *m* -(e)s, -e 1) пазі́цыя, месцазнахо́джанне 2) пункт пóгляду; ***er ist von séinem ~ nicht ábzubringen*** ягó не́льга пераканáць; ***vom ~ der Wíssenschaft*** з пу́нкту пóгляду наву́кі; ***das kommt auf den ~ an*** гэ́та зале́жыць ад пу́нкту пóгляду

**Stándquartier** *n* -s, -e *вайск.* (пастая́нная) стая́нка

**Stándrecht** *n* -(e)s закóны ваéннага ча́су

**stándrechtlich** *a* 1) па прыгавóру [прысу́ду] ваéнна-палявóга суда́ 2) па закóнах ваéннага ча́су

**Stánge** *f* -, -n 1) шост, жэ́рдка; стры́жань; дрэ́ўка (*сцяга*); *спарт.* шта́нга; ***die ~ hében**** вы́ціснуць шта́нгу 2) *разм.* бамбі́за; ***bei der ~ bléiben**** праяўля́ць вы́трымку да канца́; ***das kóstet éine ~ Geld*** гэ́та кашту́е прóцьму грóшай; ***éine ~ ángeben**** хвалі́цца

**stank** *impf ад* stínken*

**Stänker** *m* -s, - *разм.* зва́днік

**Stänkeréi** *f* - *разм.* сва́ркі, кля́ўзы, зва́дкі

**stänkern** *vi разм.* 1) дрэ́нна па́хнуць, смярдзе́ць 2) учыня́ць зва́дкі (*gegen A – супраць каго-н.*)

**Stanniól** *n* -s, -e станіёль, алавя́нная [цы́нкавая] фóльга

**Stánze I** *f* -, -n *літ.* ста́нсы

**Stanze II** *f* -, -n *тэх.* штамп

**stánzen** *vt тэх.* штампа́ваць, чака́ніць

**Stápel** *m* -s, - 1) *марск.* ста́пель; ***ein Schiff vom [von] ~ láufen [géhen] lássen**** спусці́ць су́дна на ваду́ 2) склад 3) ку́ча, шта́бель (*дроў*) 4) валакнó (*бавоўны*)

**Stápellauf** *m* -s, -läufe спуск на ваду́ (*карабля*)

**stápeln** *vt* скла́дваць у шта́белі [у стос, ку́чу]

**Stápfe** *f* -, -n, **Stápfen** *m* -s, - след (*ад нагі*)

**stápfen** *vi* ця́жка ступа́ць

**Star I** *m* -s, -e шпак

**Star II** [sta:r] *m* -s, -s зóрка (*кіно, спорту*)

**Star III** *m* -(e)s, -e *мед.* катара́кта; ***gráuer ~*** бяльмó; ***grüner ~*** глаўкóма

**starb** *impf ад* stérben*

**stárblind** *a* хвóры на катара́кту

**stark 1.** *a* 1) мóцны (*тс. перан.*); ду́жы (*фізічна*); ***éine ~e Erkältung*** мóцная прасту́да 2) мóцны, інтэсі́ўны; ***ein ~er Frost*** мóцны [траску́чы] марóз; ***éine ~e Náchfrage*** вялі́кі пóпыт 3) тóўсты, мóцны, устóйлівы; ***~e Máuern*** мóцныя [тóўстыя] сце́ны; ***~e Nerven*** [-v-] мóцныя не́рвы 4) мóцны, канцэнтрава́ны, насы́чаны; ***~er Káffee*** мóцная ка́ва 5) шматлі́кі; ***ein ~es Heer*** вялі́кае [шматлі́кае] вóйска; ***éine zehn Mann ~e Grúppe*** гру́па (кóлькасцю) у дзе́сяць чалаве́к 6) *грам.* мóцны; ***ein ~es Verb*** мóцны дзеяслóў ◊ ***das ist ein ~es Stück!*** гэ́та наха́бства! **2.** *adv* мóцна, ве́льмі, на́дта; ***das Theáter ist ~ besétzt*** тэа́тр перапóўнены; ***es régnet ~*** ідзé мóцны дождж

**Stárkasten** *m* -s, - *i* -kästen шпакóўня

**Stärke I** *f* -, -n 1) сі́ла, моц 2) таўшчыня́ 3) кóлькасць 4) канцэнтра́цыя (*раствору*)

**Stärke II** *f* -, -n крухма́л

**Stärkemehl** *n* -s бульбяна́я мука́, крухма́л

**stärken I** *vt* **1.** умацóўваць, узмацня́ць **2. ~, sich** падсілкава́цца (*чым-н. – mit D*)

**stärken II** *vt* крухма́ліць

**stárkknöchig** *a* каржакава́ты

**Stárkstrom** *m* -s, -ströme *эл.* ток высóкага напру́жання

**Stärkung** *f* -, -en 1) падмацóўванне, падсілкóўванне 2) умацава́нне (*дружбы, сяброўства*)

**stárkwirkend** *a* моцнадзе́йны

**starr** *a* 1) нерухóмы; пі́льны, ува́жлівы (*позірк*); ***er war ~ vor Verwúnderung***

ён аслупянéў ад здзіўлéння; ~ ***und steif sein*** замéрці [засты́ць] (*ад жаху*) 2) скалянéлы (*ад холаду*) 3) цвёрды, каля́ны 4) упáрты; ***er hat éinen ~en Nácken*** ён упáрты чалавéк

**stárren** *vi* 1) (*auf A*) пільна, неадры́ўна глядзéць (*на каго-н., на што-н.*), утарóпіцца (*на каго-н., на што-н.*) 2) адубéць, скарчанéць, скалéць 3) змярцвéць, анямéць (*ад жаху*) 4) (*von D*) быць пакры́тым (*чым-н.*); ***sie starrt von Gold*** яна́ ўся ў зóлаце

**Stárrheit** *f* - 1) нерухóмасць 2) цвёрдасць, непахíснасць, упáртасць 3) закасцянéласць, нерухóмасць 4) жóрсткасць (*характару*)

**Stárrkopf** *m* -(e)s, -köpfe цвердалóбы [упáрты] чалавéк

**stárrköpfig** *a* упáрты, настóйлівы, цвердалóбы

**Stárrkrampf** *m* -s *мед.* слупня́к

**stárrsinnig** *a* упáрты, цвердалóбы

**Start** *m* -s, -e *i* -s 1) *спарт.* старт; ***~pistole*** *f* -, -n стáртавы пісталéт; ***~nummer*** *f* -, -n стáртавы нýмар; ***~block*** *m* –(e)s, -blöcke стáртавая калóдка [тýмбачка]; ***~platz*** *m* -es, -plätze стáртавая пляцóўка; ***an den ~ géhen**** выхóдзіць на старт 2) *ав.* старт, узлёт 3) пачáтак; ***der ~ ins Lében*** пачáтак (самастóйнага) жыцця́

**stártbereit** *a* 1) гатóвы да стáрту 2) гатóў прыступíць да выканáння нóвых задáч

**stárten 1.** *vi* (s) 1) стартавáць 2) *ав.* стартавáць, узляцéць 3) пачынáць рабóту **2.** *vt* 1) пачынáць (*эстафету*); ***ein néues Unternéhmen ~*** пусцíць нóвае прадпрыéмства 2) пускáць, запускáць (*ракету і да т.п.*)

**Stárter** *m* -s, - *спарт., тэх.* стáртэр

**Stártschuss** *m* -es, -schüsse *спарт.* стáртавы стрэл

**Stártverbot** *n* -(e)s, -e 1) *спарт.* забарóна ўдзéльнічаць у спабóрніцтвах, дыскваліфікáцыя 2) *ав.* забарóна вы́лету

**Stártzeichen** *n* -s, - *спарт.* сігнáл да стáрту

**Státik** *f* - стáтыка (*раздзел фізікі*)

**Statión** *f* -, -en стáнцыя; мéсца стая́нкі 2) стая́нка, прывáл, прыпы́нак 3) аддзялéнне, кóрпус (*у бальніцы*); ***der Kránke liegt auf der ~ 1*** хвóры ляжы́ць у пéршым аддзялéнні ◊ ***fréie ~ háben*** жыць на ўсíм гатóвым

**stationär** *a* стацыянáрны, пастая́нны

**stationíeren 1.** *vt* размяшчáць (*войска і г.д.*) **2.** *vi* размяшчáцца, мясцíцца

**Statiónsarzt** *m* -es, -ärzte ардынáтар

**Statiónsvorsteher** *m* -s, - начáльнік стáнцыі

**Statístik** *f* 1) - статы́стыка 2) -, -en статысты́чныя пакáзчыкі [дáныя]

**statístisch** *a* статысты́чны

**Statív** *n* -s, -e *тэх.* штаты́ў

**statt 1.** *prp* (*G*) замéст; ~ ***déssen*** замéст гэ́тага; ~ ***méiner*** за [замéст] мянé **2.** *cj* (*zu+inf*) замéст тагó, каб; ***~ zu árbeiten, unterhíelt er sich*** замéст тагó, каб працавáць, ён размаўля́ў

**Stätte** 1) мéсца (*здарэння, падзеі і г.д.*) 2) мéсца, жыллё; ***éine bléibende [áltgewohnte] ~*** пастая́ннае [насéджанае] мéсца 3) ачáг, крынíца, (асноўны) цэнтр (*хваробы, культуры і да т.п.*)

**státtfinden*** *аддз. vi* адбывáцца, мець мéсца

**státtgeben*** *аддз. vi* (*D*) *канц.* задавóльваць, выкóнваць (даручэ́нне), браць пад увáгу; ***éinem Ántrag ~*** прыня́ць прапанóву, задавóліць зая́ўку [прашэ́нне, хадáйніцтва]

**státthaft** *a высок.* дапушчáльны, прымáльны, дазвóлены

**Státthalter** *m* -s, - рэгéнт, намéснік

**státtlich** *a* 1) унушáльны, мажны́ (*пра чалавека*); знáчны (*пра грошы і г.д.*); ***éine ~e Súmme Geld*** знáчная сýма грóшай

**Státue** [-tuə] *f* -, -n стáтуя

**Statuétte** *f* -, -n статуэ́тка

**statuíeren** *vt* стáвіць, устанáўліваць

**Statúr** *f* -, -en пóстаць, рост

**Státus** *m* -, - стан, стáтус

**Státus quo** *m* -s стáтус кво (*стан, які існаваў і існуе да цяперашняга часу*)

**Statút** *n* -s, -en статýт, палажэ́нне

**Stau** *m* -s, -e *i* -s 1) *гідр.* падпóр 2) скóпішча [затóр] у вýлічным рýху; ***im ~ stécken bléiben**** засéсці [завя́знуць] у затóры

**Stáuanlage** *f* -, -n *гідр.* плацíна, воданапóрнае збудавáнне

**Staub** *m* -(e)s, *рэдка pl* -e *i* Stäube 1) пыл 2) прах; ***zu ~ wérden*** памéрці; пайсці́ [рассы́пацца] прáхам ◊ ***j-n in den ~ tréten**** змяшáць катó-н. з грáззю; ***j-n, etw. in den ~ zíehen**** знясла́віць кагó-н., штó-н.; ***vor j-m im ~ líegen**** валя́цца ў кагó-н. у нагáх; ***sich aus dem ~e máchen*** *разм.* непрыкмéтна ўцячы, даць лататы́ [ця́гу]; ***j-m ~ in die Áugen stréuen [blásen*]*** ≅ пускáць камý-н. пыл у вóчы

**stáubbedeckt** *a* абсы́паны пы́лам, запы́лены

**Stäubchen** *n* -s, - пылíнка

**stáubdicht** *a* пыланепранікáльны

**Stáubecken** *n* -s, - *гідр.* вадасхóвішча, басéйн

**stáuben** *vi* пылíць; пылíцца

**stäuben** **1.** *vi* распыля́цца, церушы́ць (*пра дождж*) **2.** *vt* выцірáць [выбівáць] пыл (*з чаго-н.*); ***das Zimmer ~*** выцірáць пыл у пакóі

**Stáubfaden** *m* -s, -fäden *бат.* тычы́нка

**Stáubfänger** *m* -s, - *разм.* пыласóс

**stáubig** *a* 1) пы́льны, запы́лены 2) парашкападóбны, пылападóбны

**Stáubregen** *m* -s, - дрóбны дождж

**Stáubsauger** *m* -s, - пыласóс

**Stáubzucker** *m* -s *кул.* цукрóвая пýдра

**stáuchen** *vt* 1) штурхнýць; стýкнуць, удáрыць, вы́цяць 2) *тэх.* кляпáць, плю́шчыць; абціскáць; асáджваць 3) *разм.* крáсці 4) грýба адчытáць [прабрáць], даць дóбрага прачухáнца

**Stáudamm** *m* -s, -dämme (вадапад’ёмная) плацíна

**Stáude** *f* -, -n 1) кýсцік 2) качáн

**stáudenartig** *a* 1) кустападóбны 2) качанападóбны

**stáuen** *vt* **1.** запрýджваць **2. ~, sich** застóйвацца, збірáцца, набірáцца (*пра ваду, лёд і г.д.*); утвары́ць затóр; *эк.* накóплівацца

**stáunen** *vi* (*über A*) дзівíцца, здзіўля́цца (*чаму-н.*); ***da stáunst du?*** ты гэ́тага не чакáў?

**Stáunen** *n* -s здзіўлéнне; ***aus dem ~ nicht heráuskommen**** не пакідáць здзіўля́цца

**stáunenswert** *a* дзíўны, вáрты здзіўлéння

**Stáupe** *f* -, -n зарáзная хварóба; чумá (*у сабак*)

**Stáusee** *m* -s, -n (вялíкае) вадасхóвішча, штýчнае мóра

**Steak** [ʃti:k] *n* -s, -s *кул.* антрыкóт; кавáлак смажанíны

**Stearín** *n* -s, -e *хім.* стэары́н

**stéchen*** **1.** *vt* 1) калóць, пракóлваць; ***es sticht mich im Rücken*** у мянé кóле спíну; ***den Wein ~*** браць прóбу вінá 2) калóць, рэ́заць (*свіней*) 3) джáліць (*пра насякомых*) 4) рэ́заць (*торф, дзёран*) 5) гравíравáць; ***ein Bild in Kúpfer ~*** гравíравáць карцíну на мéдзі 6) біць (*карту*) **2.** *vi*: ***die Sónne sticht*** сóнца пячэ́; ***in die Áugen ~*** кíдацца ў вóчы; ***in See ~*** вы́йсці ў (адкры́тае) мóра ◊ ***das ist nicht geháuen und nicht gestóchen*** ≅ гэта ні ры́ба, ні мя́са [ні тóе, ні сёе]

**Stéchmücke** *f* -, -n камáр (*звычайны*)

**Stéckbrief** *f* -s, -e загáд на áрышт злачы́нцы (*з апісання яго прыкмет*)

**Stéckdose** *f* -, -n *эл.* штэ́псельная разéтка

**stécken** **1.** *vt* 1) утыкáць; сóваць; уклáдваць, устаўля́ць; ***den Rest stéckte er sich in die Tásche*** рэ́шту ён сýнуў сабé ў кішэ́нь; ***den Ring an den Fínger ~*** надзéць пярсцёнак на пáлец; ***j-n ins Gefängnis ~*** кíнуць [пасадзíць] кагó-н. у астрóг [турмý] 2) садзíць (*расліны*) 3) *разм.* уклáдваць, змяшчáць (*грошы ў прадпрыемства*) 4): ***sich (D) ein Ziel ~*** пастáвіць сабé мэ́ту **2. *** *vi* знахóдзіцца, быць, тарчáць?; ***wo steckst du (wíeder)?*** дзе ты зноў тарчы́ш [падзéўся]?; ***dahínter steckt étwas*** за гэ́тым штóсьці мáецца [хавáецца]; ***bis in die Óhren in der***

***Árbeit*** ~ пóўнасцю пагрузíцца ў рабóту; ***ich möchte nicht in séiner Haut*** ~ *разм*. мне не хацéлася б быць у ягó скýры [на ягó мéсцы]; ~ ***bléiben**** 1) засéсці, затрымáцца 2) запінáцца; ~ ***lássen**** пакíнуць, не выця́гваць

**Stéckenpferd** *n* -(e)s, -e *перан*. канёк; любíмы заня́так; ***sein*** ~ ***réiten**** сéсці на свайгó канькá

**Stécker** *m* -s, - *эл. тэх*. штэ́кер, штэ́псель, штэ́псельная вíлка

**Stéckling** *m* -s, -e чаранóк; сáджанец, фля́нс(а)

**Stécknadel** *f* -, -n шпíлька

**Stéckzwiebel** *f* -, -n *с.-г.* цыбýля-сéянка

**Steg** *m* -s, -e 1) сцéжка 2) мастóк, схóды 3) *тэх*. папярэ́чына

**Stehaufmännchen** *n* -s, - вáнька-ўстáнька (*цацка*)

**Stégreif**: ***aus dem*** ~ экспрóмтам, без падрыхтóўкі, імправізýючы

**stéhen*** **1.** *vi* (*h, рэдка s*) 1) стая́ць, знахóдзіцца (*вертыкальна*); ***auf dem Kópfe*** ~ стая́ць на галавé; ***Modéll*** ~ пазíраваць (*мастаку*); ***j-m im Wége*** ~ стая́ць камý-н. папярóк дарóгі 2) стая́ць, знахóдзіцца (*дзе-н.*); ***Tränen stánden ihr in den Áugen*** на яé вачáх вы́ступілі слёзы 3) стая́ць (*быць у якім-н. стане*); ***Schlánge*** ~ стая́ць у чарзé; ***Réde und Ántwort*** ~ трымáць адкáз пéрад кім-н.; ***álles steht auf dem Spiel*** усё пастáўлена на кáрту; ***mit j-m im Bríefwechsel*** ~ перапíсвацца з кім-н.; ***im Begríff ~ etw. zu tun*** намéрвацца што-н. зрабíць; быць у мíласці ў каго-н.; ***ich stéhe Íhnen zu Díensten*** я да Вáшых паслýг; ***er soll kómmen, wie er steht und geht*** няхáй ён прыхóдзіць як ёсць; ***wie steht es um… (A)*** у якíм стáне знахóдзяцца спрáвы (*з кім-н., чым-н.*) 4) стая́ць, мéцца, прысýтнічаць, быць у ная́ўнасці; ***in der Zéitung steht*** у газéце надрукавáна [напíсана]; ***es steht geschríeben…*** напíсана… 5) (*für einander, zu D*) стая́ць (*адзін за аднаго, за каго-н., што-н.*); ***für j-n, für etw.*** ~ ручáцца за кагó-н., за што-н.; 6) (*zu D*) аднóсіцца, стáвіцца (*да каго-н., чаго-н.*); 7) стая́ць, не рýхацца; не дзéйнічаць, не працавáць; 8) быць да твáру, падыхóдзіць, пасавáць; 9) *з мадальным адценнем*: трэ́ба [мóжна] чакáць; ***es steht zu wünschen*** (па)жадáна; ~ ***bléiben**** спыня́цца; заставáцца ~ ***lássen**** пакíнуць (*на месцы*); ***álles ~ und líegen lássen**** пакíнуць усё (*рэчы, маёмасць*) 10): ***séinen Mann*** ~ пастая́ць за сябé; ***das wird ihm téuer zu ~ kómmen*** гэ́та бýдзе ямý дóрага каштавáць; ***wie steht's, wie geht's?*** як мáецеся [мáешся] **2. ~, sich**: ***hier steht es sich bésser*** тут стая́ць лéпей [зручнéй]; ***sich müde*** ~ стамíцца ад дóўгага стая́ння; ***er steht sich gut*** ён мáе дóбры зарóбак; ***sich mit j-m gut [schlecht]*** ~ [не] лáдзіць з кім-н.

**Stéhen** *n* -s стая́нне; ***etw. im ~ erlédigen*** зрабíць [вы́канаць] што-н. на хадý

**stéhend** *a* 1) стая́чы 2) нязмéнны, пастая́нны; ***~en Fúßes*** неадклáдна, адрáзу ж

**Stéher** *m* -s, - стáер (*у веласпорце*)

**Stéherrennen** *n* -s, - гóнка за лíдэрам (*веласпорт*)

**Stéhkragen** *m* -s, - стая́чы каўнéр

**Stéhlampe** *f* -, -n стая́чая ля́мпа, таршэ́р

**stéhlen*1.** *vt* крáсці, выкрадáць; ***du kannst mir gestóhlen bléiben!*** ≅ вóчы б маé цябé не бáчылі! **2. ~, sich** крадучы́ся [упóтай] прабірáцца (*куды-н.*)

**Stéhplatz** *m* -es, -plätze стая́чае мéсца

**steif 1.** *a* 1) жóрсткі, цвёрды 2) тугí; густы́ ***ein ~er Brei*** густáя кáша 3) накрухмáлены (*каўнерык*) 4) скарчанéлы, анямéлы 5) мóцны (*пра вецер, мускулы*); 6) чапуры́сты, вáжны, надзьмýты **2.** *adv*: ***j-n ~ ánsehen**** глядзéць на кагó-н. у вóчы; ***den Nácken ~ trágen**** заганары́цца, стаць чапуры́стым; ***etw. ~ und fest behấupten*** катэгары́чна сцвярджáць што-н.; ~ ***hálten****: ***die Óhren ~ hálten**** трымáць вýха вóстра; ***den Nácken ~ hálten**** не саступáць

**Stéife** *f* - 1) каля́насць, цвёрдасць; нерухóмасць 2) крухмáл 3) *буд*. -, -n падпóра 4) -, -n *тэх*. праклéйка

**stéifen** *vt* 1) (на)крухмáліць 2) надавáць цвёрдасць (*чаму-н.*)
**Stéifheit** *f* -, -en 1) тýгасць, нацягнутасць 2) адзеравянéласць; *перан.* здранцвéласць; анямéласць (*членаў*) 3) нацягнутасць, чапурыстасць
**Steig** *m* -(e)s, -e 1) сцéжка 2) мóсцік (*на караблі*)
**Stéigbügel** *m* -s, - стрэмя; ***j-m den ~ hálten**** *перан.* дапамагáць камý-н.
**Stéige** *f* -, -n стрóмая сцéжка
**Stéigeisen** *n* -s, - *тэх.* (манцёрскія) кóшкі
**stéigen*** *vi* (*s*) 1) падымáцца; ***der Nébel stieg*** падняўся тумáн; ***das Barométer steigt*** барóметр падымáецца; ***die Préise ~*** цэны падымáюцца 2) прыбываць, падымáцца (*аб вадзе*) 3) расці, павялічвацца (*пра славу і г.д.*) 4) ступíць (*на што-н.*); высáджвацца, схóдзіць (*на бераг*); садзіцца (*на каня, у трамвай, цягнік і да т.п.*); улáзіць (*у акно*); лéзці (*на дрэва*); пералáзіць (*цераз плот і г.д.*); ***mórgen stéige ich ins Exámen*** заўтра я ідý здавáць экзáмен
**Stéiger** *m* -s, - гóрны мáйстар, штáйгер
**stéigern** **1.** *vt* 1) павышáць, павялічваць (*цэны, патрабаванні і да т.п.*) 2) узмацніць (*боль, супярэчнасці*) 3) *грам.* утварыць вышэйшую і параўнáльную ступéнь **2. ~, sich** 1) расці, павялічвацца, павышáцца 2) узмацняцца
**Stéigfeuerwaffe** *f* -, -n *вайск.* зброя навяснóга агню
**Stéigflug** *m* -(e)s, -flüge *ав.* вертыкáльны палёт
**Stéigerung** *f* -, -en 1) па(д)вышэнне, павелічэнне 2) узмацнéнне 3) *грам.* утварэнне ступéняў параўнáння
**Stéigerungsstufe** *f* -, -n *грам.* ступéнь параўнáння
**Stéigleiter** *m* -s, - трап, схóды
**Stéigung** *f* -, -en пад'ём; нахіл, схіл
**steil** *a* стрóмы, крутый; ***ein ~er Fels*** стрóмая [стрóмкая] скалá 2) прамы (*пра почырк*)
**Stéilhang** *m* -(e)s, -hänge стрóмы [стрóмкі] бéраг, абрыў
**Stéilküste** *f* -, -n стрóмы [стрóмкі] бéраг
**Stein** *m* -(e)s, -e 1) кáмень ◊ ***mir fiel ein ~ vom Hérzen*** у мянé быццам гарá з плячэй звалілася; ***j-m ~e in den Weg légen [róllen]*** рабіць камý-н. перашкóды 2) кóстачка (*у пладах*) 3) *шахм.* фігýра; шáшка; ***der ~ der Wéisen*** філасóфскі кáмень ◊ ***bei j-m éinen ~ im Brett háben*** мець дóбрую рэпутáцыю ў кагó-н.; ***~ und Bein schwören*** клясціся ўсім на свéце, клясціся і бажыцца; ***es friert heute ~ und Bein*** *разм.* сёння траскýчы марóз
**Stéinadler** *m* -s, - *заал.* бéркут
**stéinalt** *a* старажытны, нáдта стары
**Stéinbock** *m* -(e)s, -böcke 1) *заал.* гóрны казёл 2) *астр.* Казярóг
**Stéinbrech** *m* -s, -e *бат.* каменялóмнік
**Stéinbruch** *m* -(e)s, -brüche каменялóмня
**Stéinbutt** *m* -(e)s, -e кáмбала
**Stéindruck** *m* -s, -e літагрáфія
**stéinern** *a* камéнны
**Stéinfrucht** *f* -, -früchte кóстачкавы плод
**Stéingut** *n* -s фаянс
**stéinhart** *a* цвёрды, як кáмень
**stéinig** *a* камяністы
**stéinigen** *vt гіст.* пабіць камянямі (*каго-н.*)
**Stéinkohle** *f* -, -n камéнны вýгаль
**Stéinkohlenbergwerk** *n* -(e)s, -s каменнавýгальныя капáльні [шáхты]
**Stéinkohlenlager** *n* -s, - радóвішча камéннага вýгалю
**Stéinmetz** *m* -en, -en каменячóс
**Stéinobst** *n* -es кóстачкавы плод
**Stéinpflaster** *n* -s, - брук
**Stéinpilz** *m* -es, -e баравік, бéлы грыб
**stéinreich I** *a* камяністы
**stéinreich II** *a* вéльмі багáты
**Stéinsalz** *n* -es, -e камéнная соль
**Stéinschlag** *m* -s шчэбень, жвір, друз
**Stéinschleifer** *m* -s, - гранільшчык
**Stéinschleuder** *m* -s, - прáшча
**Stéinzeit** *f* - *гіст.* камéнны век
**Steiß** *m* -es, -e зáд(ніца) (*у жывёл*); *анат.* ягадзіца
**Stéißbein** *m* -es, -e *анат.* хвасцéц
**Stélldichein** *n* -, *i* -s, - спаткáнне
**Stélle** *f* -, -n мéсца, пункт; ***etw. an die ríchti-***

***ge ~ stéllen*** паста́віць што-н. на ме́сца; ***an ~ (G, von D)*** заме́ст (*каго-н., чаго-н.*); ***an j-s ~ tréten**** замяшча́ць каго́-н.; стаць [заня́ць] чыё-н. ме́сца; ***sich an j-s ~ versétzen*** паста́віць сябе́ на чыё-н. ме́сца; ***nicht von der ~!*** ні з ме́сца!; ***die Zahl 100 hat drei ~n*** 100 – трохзна́чны лік 2) ме́сца, уры́вак, ча́стка; мо́мант; паса́ж 3) ме́сца, паса́да, рабо́та, слу́жба; ***sich um éine ~ bewérben**** дабіва́цца ме́сца 4) шта́тная адзі́нка 5) інста́нцыя, устано́ва; 6): ***auf der ~*** неадкла́дна; ***an Ort und ~ sein*** быць на ме́сцы; ***zur ~ sein*** *вайск.* прыбы́ць, з’яві́цца

**stéllen 1.** *vt* 1) ста́віць (*што-н. куды-н.*) 2) ста́віць, устана́ўліваць; ***die Uhr ~*** ста́віць гадзі́ннік 3) падава́ць; прыво́дзіць; прадстаўля́ць; ***zur Verfügung ~*** дава́ць [прадстаўля́ць] у распараджэ́нне; ***in Áussucht ~*** абнадзе́йваць 4) ста́віць, выстаўля́ць; ***éine Fráge ~*** зада́ць [паста́віць] пыта́нне; ***ein Gesúch ~*** пада́ць зая́ву 5) ста́віць, падвярга́ць; ***in Fráge ~*** ста́віць пад пыта́нне; ***etw. in Zwéifel ~*** ста́віць што-н. пад сумне́нне **2. ~, sich** 1) стаць, станаві́цца; ***sich auf éigene Füße ~*** стаць на но́гі [самасто́йным] 2) устанаві́цца (*пра цэны*) 3) з’яві́цца (*па выкліку*); ***sich dem Gerícht ~*** з’яві́цца ў суд 4) (*zu D*) адно́сіцца, ста́віцца (*да чаго-н.*); ***wie stellst du dich dazú?*** як ты да гэ́тага адно́сішся [ста́вішся]? 5) прыкі́двацца, прытвара́цца (*хворым, дурным і г.д.*)

**Stéllenangebot** *n* -s, -e прапано́ва (во́льных) рабо́чых ме́сцаў

**Stéllengesuch** *n* -s, -e зая́ва на пра́цу

**Stéllennachweis** *m* -es, -e *гл.* Stéllenvermittlung

**Stéllenplan** *m* -s, -pläne шта́ты, шта́тны раскла́д; ***den ~ mit dréißig Ángestellten besétzen*** залічы́ць у штат тры́ццаць службо́ўцаў

**Stéllenvermittlung** *f* -, -en бі́ржа пра́цы

**stéllenweise** *adv* ме́сцамі, дзе-нідзе́, сямта́м

**Stéllmacher** *m* -s, - *дыял.* карэ́тнік

**Stéllung** *f* -, -en 1) паста́ва, по́за; ***in kníˌender ~*** (сто́ячы) на кале́нях 2) размяшчэ́нне (*сузор’я*) 3) грама́дскі стан 4) паса́да, ме́сца; ***éine ~ ántreten**** прыступі́ць да выкана́ння службо́вых абавя́зкаў; ***j-n séiner ~ enthében**** вы́зваліць каго́-н. ад займа́емай паса́ды 5) устано́ўка, пункт по́гляду; ***zu etw. (D) ~ néhmen**** заня́ць пазі́цыю ў які́м-н. пыта́нні; ***für etw. (A) ~ néhmen**** абараня́ць які́-н. пункт по́гляду 6) *вайск.* пазі́цыя; ***die ~ bezíehen*, in ~ géhen**** заня́ць пазі́цыю

**Stéllungnahme** *f* -, -n выка́званне сваёй ду́мкі [свайго́ пу́нкту по́гляду, сваёй пазі́цыі]; ***sich (D) séine ~ vórbehalten**** пакі́нуць за сабо́й пра́ва вы́казаць сваю́ ду́мку [свой пункт по́гляду]; ***seine ~ ábgeben**** вы́казаць сваю́ ду́мку [свой пункт по́гляду, сваё меркава́нне]

**stéllungslos** *a* беспрацо́ўны

**stéllvertretend** *a* які́ замяшча́е (*каго-н.*); часо́ва выко́нваючы абавя́зкі (*каго-н.*); ***~er Miníster*** наме́снік міні́стра

**Stéllvertreter** *m* -s, - наме́снік, засту́пнік, выко́нваючы абавя́зкі [выкана́ўца абавя́зкаў] (*каго-н.*)

**Stéllwerk** *n* -(e)s, -e *чыг.* цэнтралізава́ны пост

**Stélze** *f* -, -n хаду́ля; ***auf ~n láufen* [géhen*]*** хадзі́ць на хаду́лях

**stélzen** *vi* хадзі́ць на хаду́лях; *перан.* хадзі́ць як на хаду́лях

**Stélzfuß** *m* -es, -füße драўля́ная нага́

**Stémmeisen** *n* -s, - stаме́ска, до́лата, зубі́ла

**Stémmmeißel** [Stémm-Meißel] *m* -s, - разе́ц, стаме́ска

**stémmen 1.** *vt* 1) выдзёўбваць (*стамескай і г.д.*) 2) упіра́цца; ***die Béine gégen den Bóden ~*** упіра́цца нага́мі ў зямлю́; ***die Árme in die Séiten ~*** узя́цца ў бо́кі 3) падпіра́ць (*сцяну і г.д.*) 4) *спарт.* вы́ціснуць (*вагу*) **2. ~, sich** 1) (*an, auf, gegen A*) упіра́цца (*у што-н.*); ***sich auf die Éllenbogen ~*** аблакаці́цца, абапіра́цца лакця́мі (*на што-н.*)

**Stémpel** *m* -s, - 1) штэ́мпель, пяча́тка, пя-

ча́ць, кляймо́ 2) *тэх.* штамп 3) *бат.* пе́сцік

**Stémpelmarke** *f* -, -n ге́рбавая ма́рка

**stémpeln** *vt* 1) штэмпелява́ць; ~ ***géhen**** адзнача́цца (*на біржы працы*), быць беспрацо́ўным 2) ста́віць [выпа́льваць] кляймо́; ***j-n zum Lügner*** ~ закляймі́ць каго́-н. ілгуно́м

**Stémpelpapier** *n* -s ге́рбавая папе́ра

**Sténgel** *m* -s, - 1) сцябло́ 2) шпень, прут

**sténgellos** *a* без сцябла́

**Stenograhíe** [Stenografíe] *f* -, -í¦en, *разм.* **Sténo** *f* - стэнаграфі́я, ху́ткапіс

**Stenográmm** *n* -s, -e стэнагра́ма

**stenographíeren** [stenografíeren] *vt* стэнаграфава́ць

**Stenotypístin** *f* -, -en машыні́стка-стэнагра́фістка

**Stepp** *m* -s, -s стэп (*танец*)

**Stéppdecke** *f* -, -n падшыва́ная ко́ўдра

**Stéppe** *f* -, -n стэп

**stéppen** I *vt* падшыва́ць (*коўдру і г.д.*)

**stéppen** II *vt* танцава́ць [та́нчыць] стэп

**Stéppenbewohner** *m* -s, - жыха́р стэ́паў

**Stéppengras** *n* -es *бат.* кавы́ль

**Stéppke** *m* -s, -s *разм.* хлапчу́к, мало́е хлапчанё

**Stéppnaht** *f* -, -nähte стро́чка, радо́к

**Stéppstich** *m* -s, -e шоў, шыво́к

**Stérbebett** *n* -(e)s, -en смяро́тнае ло́жа

**Stérbegeld** *n* -(e)s, -er гро́шы, які́я выдаю́цца дзяржстра́хам на пахава́нне

**stérben*** *vi* памі́раць, (с)кана́ць; ***séines natürlichen Tódes*** ~ памёрці сваёй сме́рцю; ***an éiner Kránkheit [aus Gram]*** ~ памёрці ад хваро́бы [ад го́ра] ◊ ***er stirbt nicht an Hérzdrücken*** ≅ ён не баі́цца каза́ць пра́ўду ў во́чы

**Stérben** *n* -s кана́нне, памі́ранне, скон, смерць; ***es geht um Lében und*** ~ гэ́та спра́ва жыцця́ і сме́рці

**stérbenskrank** *a* смяро́тна хво́ры

**Stérbens|wort, ~wörtchen** *n*: ***kein*** ~ ні сло́ва

**Stérbetag** *m* -es, -e дзень сме́рці [ско́ну]

**stérblich** *a* сме́ртны, смяро́тны

**Stérblichkeit** *f* - смяро́тнасць, сме́ртнасць

**stéreo** [st- *i* ʃt-] *a* стэрэафані́чны, стэ́рэа

**Stéreoanlage** [st- *i* ʃt-] *f* -, -n стэрэафані́чная ўстано́ўка

**Stéreofilm** [st- *i* ʃt-] *m* -s, -e стэ́рэафільм

**Stereometrie** [st- *i* ʃt-] *f* - *матэм.* стэрэаме́трыя

**stereotýp** [st- *i* ʃt-] *a* стэрэаты́пны, шабло́нны

**steríl** [st- *i* ʃt-] *a* стэры́льны, абеззара́жаны; бяспло́дны

**Stérlet(t)** [st- *i* ʃt-] *m* -s, -e *заал.* сце́рлядзь

**Stérling** [ˈʃtɛr- *i* ˈstɛr-]: ***Pfund*** ~ (*скар.* Pfd St.) фунт стэ́рлінгаў

**sterilisíeren** [st- *i* ʃt-] *vt* 1) стэрылізава́ць, абеззара́жваць 2) кастры́раваць

**Stern I** *m* -(e)s, -e 1) зо́рка; ***in den ~ en lésen**** варажы́ць (лёс) па зо́рках 2) *перан.* зо́рка, шча́сце; ***ihm schien kein*** ~ яму́ не шча́сціла 3) *перан.* зо́рка, знакамі́тасць 4) зо́рачка (*на пагонах і г.д.*) ◊ ***nach den ~en gréifen**** жада́ць немагчы́мага

**Stern II** *m* -(e)s, -e *марск.* карма́

**Stérnbild** *n* -(e)s, -er сузо́р’е

**Stérndeuter** *m* -s, - астро́лаг, звязда́р

**Stérnenhimmel** *m* -s *гл.* Stérnhimmel

**stérnförmig** *a* зоркападо́бны

**Stérngucker** *m* -s, - звязда́р, астро́лаг

**stérnhagelvoll** *a разм.* п’я́ны як цэп [як бот]

**Stérnhimmel** *m* -s зо́рнае не́ба

**stérnklar** *a* зо́рны

**stérnlos** *a* бяззо́ркавы, без зо́рак

**Stérnschnuppe** *f* -, -n зні́чка, метэары́т

**Stérnwarte** *f* -, -n абсервато́рыя

**stet** *a* (*высок.*), **stétig** *a* 1) пастая́нны, усто́йлівы 2) бесперапы́нны, заўсёдны

**Stétigkeit** *f* - **1.** пастая́нства, усто́йлівасць **2.** *матэм.* бесперапы́ннасць

**stets** *adv* заўсёды, пастая́нна

**Stéuer I** *f* -, -n пада́так; ***~n éinziehen**** браць [сы́скваць] пада́ткі; ***die ~n hinterzíehen**** ухіля́цца ад пла́ты пада́ткаў; ***die ~n entríchten*** плаці́ць пада́ткі

**Stéuer II** *n* -s, - стырно́, руль; ***sich ans ~ sétzen*** садзі́цца за руль ◊ ***das ~ ergréifen**** узя́ць у сваé ру́кі стырно́ ўла́ды [руль кірава́ння]

**stéuerbar** *a тэх.* кіру́емы, кірава́ны
**Stéuereinnahmen** *pl* дахо́ды ад пада́ткаў
**stéuerfrei** *a* вы́звалены ад пада́ткаў
**Stéuermann** *m* -(e)s, -männer *і* -leute стырнавы́, рулявы́; шту́рман
**steuern I 1.** *vt* 1) кірава́ць (*стырном, суднам*) 2) кірава́ць, накіро́ўваць **2.** *vi* (s) 1) накіро́ўвацца (*куды-н.*) 2) (*h*) (*D*) перашкаджа́ць, процідзе́йнічаць (*чаму-н.*); ***der Nótlage ~*** змага́цца з бядо́тным стано́вішчам
**stéuern II** *vi* плаці́ць пада́так
**stéuerpflichtig** *a* які́ падлягáе абкладáнню пада́ткам, які́ пла́ціць пада́ткі, падатко́вы
**Stéuerpflichtige** *sub m, f* -n, -n падаткаплаце́льшчык
**Stéuerrad** *n* -(e)s, -räder штурва́л, стырнаво́е ко́ла
**Stéuerrückstand** *m* -(e)s, -stände падатко́выя нядо́імкі
**Stéuerruder** *n* -s, - *марск.* стырно́, стырнаво́е вясло́
**Stéuerung** *f* -, -en 1) кірава́нне (*аўтамашынай, суднам, самалётам*); рулявóе кірава́нне 2) *тэх.* размеркава́льны механі́зм
**Stéuervergütung** *f* -, -en *фін.* падатко́вая амні́стыя
**Stéven** [-v-] *m* -s, - *марск.* штэ́вень
**Steward** ['stju:ərt] *m* -s, -s сцюа́рд
**Stewardess** ['stju:ərdɛs] *f* -, -dessen сцюардэ́са
**stibítzen** *vt разм.* сцягну́ць, скруці́ць, укра́сці
**Stich** *m* -(e)s, -e 1) уко́л (*іголкай і да т.п.*) 2) уку́с (*насякомага, змяі*); *перан.* шпі́лька 3) шыво́к 4) граві́ора 5) *карт.* бі́тка; 6): ***mit einem ~ ins Gráue*** з шэрава́тым адце́ннем; ***éinen ~ háben*** *жарт.* звар'яце́ць; пачына́ць псава́цца (*аб прадуктах*) ◊ ***j-n, etw. im ~ lássen**** пакі́нуць каго́-н., што-н. на во́лю лёсу; пакі́нуць яку́ю-н. спра́ву
**Stíchel** *m* -s, - *тэх.* разе́ц, шты́хель
**Sticheléi** *f* -, -e з'е́длівыя сло́вы, шпі́лькі
**stícheln** *vi* 1) кало́ць [пастро́чваць] іго́лкай 2) (*auf A*) гавары́ць з'е́длівыя сло́вы (*каму-н.*)
**stíchfest** *a* непрысту́пны, непаража́льны
**stíchhaltig** *a* абгрунтава́ны, грунто́ўны, надзе́йны; ***ein ~es Argumént*** ва́жкі аргуме́нт
**Stíchprobe** *f* -, -n вы́барачная праве́рка; ***éine ~ máchen*** праве́рыць што-н. на вы́трымку
**sticht** *präs ад* stéchen*
**Stichtag** *m* -(e)s, -e 1) тэ́рмін (*плацяжу*); дзень дастáўкі (*тавару*) 2) дзень я́ўкі ў суд
**Stíchwaffe** *f* -, -n ко́лючая збро́я; ***Stich- und Híebwaffe*** *f* хало́дная збро́я
**Stíchwort** *n* -es, -wörter 1) ло́зунг; паро́ль, ко́давае сло́ва 2) *тэатр.* рэ́пліка 3) загало́вачнае сло́ва (*у слоўніку*) 4) асно́ўнае [ключаво́е] сло́ва
**Stíchwunde** *f* -, -n *мед.* ко́латая ра́на
**Stíckarbeit** *f* -, -n *гл.* Stickeréi
**stícken I** *vt* вышыва́ць
**stícken II** *vi* (*s*) *гл.* erstícken; ***stíckend heiß*** уду́шліва го́рача
**Stíckdüngung** *f* -, -en азо́тнае ўгнае́нне
**Stickeréi** *f* -, -en 1) вышыва́нка 2) вы́шыўка, вышыва́нне
**Stíckgarn** *n* -s, -e ні́ткі для вышыва́ння
**Stíckgas** *n* -es, -e уду́шлівы газ
**Stíckhusten** *m* -s *мед.* ко́клюш, ко́хлік
**Stíckrahmen** *m* -s, - пя́льцы
**Stíckluft** *f* - уду́шлівае [заду́шлівае] паве́тра
**Stíckstoff** *m* -s *хім.* азо́т
**stíeben*** *vi* (s) рассе́йвацца, разлята́цца (*аб іскрах і да т.п.*)
**Stíefbruder** *m* -s, -brüder зво́дны брат
**Stíefel** *m* -s, - бот ◊ ***j-m die ~ lécken*** *разм.* ліза́ць каму́-н. пя́ты, падлі́знічаць; ***im álten ~*** *разм.* па-старо́му, як і было́
**Stíefelhose** *f* -, -n шарава́ры
**Stíefelétte** *f* -, -n паўбо́цікі (*жаночыя або мужчынскія*)
**stíefeln** *vi* (*s, h*) *разм.* ісці́ (вялі́кімі кро́камі), кро́чыць
**Stíefelschaft** *f* -, -en халя́ва (*у боце*)
**Stíefeltern** *pl* айчы́м і ма́чаха, прыёмныя

**triumphál** *a* трыумфáльны, перамóжны, слáўны
**Triúmphbogen** *m* -s, - *i* -bögen трыумфáльная áрка
**triumhíeren** *vi* святкавáць (перамóгу), трыумфавáць
**Triúmphsäule** *f* -, -n трыумфáльная калóна
**Triúmphzug** *m* -(e)s, -züge трыумфáльнае шэ́сце
**trivalént** [-v-] *a хім.* трохвалéнтны
**triviál** [-vi-] *a* трывія́льны, пóшлы
**Trochä¦us** *m* -, -chä¦en *літ.* трахéй
**trócken** *a* сухí; ***das Hemd ist schon ~*** сарóчка ўжо вы́сахла [сухáя]; ***das ~e Land*** сýша; ***die Kéhle ist mir ganz ~*** у мянé ў гóрле перасóхла 2) сухí (*пра чалавека, словы і. г.д.*) ◊ ***auf dem Tróckenen sein [sítzen*]*** *разм.* сядзéць на мялí [без грóшай]; ***im Tróckenen sein*** быць у бяспéцы ◊ ***wer im Tróckenen sitzt, lacht über den Régen*** ≅ сы́ты галóднаму не спачувáе; ***er ist noch nicht ~ hínter den Óhren*** ≅ у ягó яшчэ́ малакó на губáх не вы́сахла
**Tróckenanlage** *f* -, -n *тэх.* сушы́льная ўстанóўка
**Tróckenheit** *f* - сýхасць
**Tróckenkammer** *f* -, -n сушы́льная кáмера
**tróckenlegen** *vt аддз.* асýшваць; ***ein Kind ~*** пераспавівáць дзіця́
**Tróckenobst** *n* -es сýшаная садавінá
**Tróckenpflaumen** *pl* чарнаслíў
**Tróckenplatz** *m* -es, -plätze сушы́льня
**Tróckenrasierer** *m* -s, - электрабры́тва
**tróckenreiben*, sich** *аддз.* вы́церціся нáсуха
**Tróckenwind** *m* -(e)s, -e сухавéй
**trócknen 1.** *vt* сушы́ць, асýшваць; вя́ліць (*садавіну*); ***die Hände ~*** выцірáць рýкі **2.** *vi* (s) сóхнуць, высыхáць **3. ~, sich** сушы́цца
**Tróddel** *f* -, -n кутáс, цямля́к
**Trödel** *m* -s рыззё, стары́зна
**Trödeléi** *f* -, -en *разм. пагардл.* марýднае завіхáнне, марýдная прáца
**Trödelmarkt** *m* -(e)s, -märkte таўкýчка
**trödeln** *vi* 1) гандлявáць стары́знай 2) *разм.* марýдзіць, цягнýць (*з чым-н.*)
**Trödler** *m* -s, - 1) стары́знік 2) *разм.* марýдлівы чалавéк
**troff** *impf ад* tríefen*
**trog** *impf ад* trügen*
**Trog** *m* -(e)s, Tröge начóўкі, нóчвы; кары́та
**Troglodýt** *m* -en, -en траглады́т, пячóрны чалавéк
**Tróika** *f* -, -s трóйка (кóней)
**Troll** *m* -(e)s, -e *міф.* троль, гном (*горны дух у нямецкай міфалогіі*)
**tróllen 1.** *vi* (s) дрóбненька тýпаць [хадзíць], перабірáць нагáмі **2. ~, sich** *разм.* выбірáцца, ісцí (пакрыўджаным); уцякáць
**Trolleybus** ['trɔli-] *m* -ses, -se тралéйбус
**Trómbe** *f* -, -n тромб; смерч
**Trombóne** *f* -, -n *муз.* трамбóн
**Trómmel** *f* -, -n 1) барабáн, бýбен; ***die ~ rühren [schlágen*]*** біць у барабáн [у бýбен], барабáніць; ***die gróße ~ für etw. (A) rühren*** *разм.* усчáць вялíкую шумíху на кары́сць чагó-н. 2) *тэх.* барабáн 3) *вайск.* ды́скавы магазíн, барабáн
**Trómmelfell** *n* -(e)s, -e 1) скýра на барабáне 2) *анат.* барабáнная перапóнка [мембрáна]
**Trómmelfeuer** *n* -s, - *вайск.* урагáнны агóнь
**trómmeln 1.** *vi* біць у барабáн; барабáніць (*тс. перан.*) **2.** *vt* барабáніць, адбівáць (*марш*); ***j-n aus dem Schlaf ~*** разбудзíць кагó-н. шýмам
**Trómmelschlag** *m* -s, -schläge біццё барабáна(ў)
**Trómmelschläger** *m* -s, - барабáншчык
**Trómmelschlägel** *m* -s, - барабáнная пáлачка
**Trómmelwirbel** *m* -s, - барабáнны пóшчак
**Trómmler** *m* -s, - барабáншчык
**Trompéte** *f* -, -n трубá; ***die ~ blásen**** трубíць ◊ ***mit Páuken und ~en*** з вялíкім шýмам
**trompéten 1.** *vt* 1) (пра)трубíць; ***j-n wach***

~ разбудзíць кагó-н. 2) *перан.* трубíць (*аб чым-н.*); разнóсіць (*чутку, пагалоску*) **2.** *vi* 1) трубíць, іграць на трубé 2) *жарт.* гýчна смаркáцца

**Trompéter** *m* -s, - трубáч

**Trópe** *f* -, -n *літ.* вóбразны [фігурáльны] вы́раз, троп

**Trópen** *pl геагр.* трóпікі

**Trópenfieber** *n* -s трапíчная ліхамáнка

**Trópenhitze** *f* - трапíчная спёка

**Trópenkoller** *m* -s, - *мед.* трапíчнае шалéнства

**Trópenpflanze** *f* -, -n трóпікавая раслíна

**Tropf** *m* -(e)s, Tröpfe *разм.* прасця́к; разявáка

**tröpfeln 1.** *vimp* накрáпваць (*пра дождж*); ***es tröpfelt*** накрáпвае дождж **2.** *vi* кáпаць **3.** *vt* кáпаць, налівáць [пускáць] па крóплі

**trópfen 1.** *vi* (*h, s*) кáпаць; ***die Náse tropft*** з нóса цячэ́; ***das Wásser trópfte ihm vom Hut*** у ягó вадá кáпала з капелюшá **2.** *vt* накáпваць (па крóплі)

**Trópfen** *m* -s, - 1) крóпля, кáпля ◊ ***stéter ~ höhlt den Stein*** ≅ крóпля за крóпляй і кáмень дзяўбé; ***das ist wie ein ~ auf den héißen Stein*** ≅ гэ́та крóпля ў мóры 2) *pl* кáплі (*лякарства*)

**trópfenweise** *adv* крóплямі

**Trópfhöhle** *f* -, -n сталакты́тавая пячóра

**trópfnass** *a* зусíм мóкры

**Trópfstein** *m* -(e)s, -e сталакты́т

**Trophä¦e** *f* -, -n трафéй, здабы́ча

**trópisch** *a* трапíчны

**Tross** *m* -es, -e 1) *вайск.* абóз 2) свíта

**Trósse** *f* -, -n трос; лíна, канáт

**Trost** *m* -es уцéха, рáдасць; ***mit ~ erfüllen, ~ éinflößen*** уцéшыць, суцéшыць; заспакóіць; ***~ spénden [zúsprechen*]*** суцяшáць, заспакóйваць; ***~ schöpfen*** суцéшыцца, заспакóіцца; атрымáць уцéху; ***das geréichte mir zum ~*** гэ́та мянé суцéшыла ◊ ***er ist nicht recht bei ~e*** у ягó не ўсé дóма; ***du bist wohl nicht bei ~e?*** ты з глýзду з'éхаў, ці штó?

**tróstbringend** *a* суцяшáльны

**trösten 1.** *vt* суцяшáць, заспакóйваць **2. ~, sich** (*über A*) суцяшáцца (*чым-н.*)

**Tröster** *m* -s, - суцяшáльнік

**tröstlich** *a* суцяшáльны, суцéшны

**tróstlos** *a* 1) несуцéшны; ***er ist ganz ~*** ён у рóспачы [адчáі] 2) бязрáдасны, няўцéшны; безнадзéйны

**Tróstlosigkeit** *f* - 1) несуцéшнае гóра, рóспач 2) бязрáдаснасць; безнадзéйнасць

**Tróstpreis** *m* -es, -e суцяшáльны прыз, суцяшáльная прэ́мія

**tróstreich** *a* суцяшáльны, рáдасны, прыéмны

**Tröstung** *f* -, -en суцяшэ́нне, супакóйванне

**Trott** *m* -s, -e рысь (*бег каня*); ***es geht álles den álten ~*** усё ідзé па-старóму

**Tróttel** *m* -s, - дýрань, дурны́

**tróttelhaft** *a* дурны́, прыдуркавáты

**trótteln, trótten** *vi* (*s, h*) бéгчы трушкóм [дрóбнай ры́ссю], трýхаць

**Trottoir** [-'tua:r] *n* -s, -e *уст.* тратуáр

**trotz** *prp* (*G,D*) 1) нягле́дзячы на…; насýперак…; ***~ des Régens [dem Régen]*** нягле́дзячы на дождж; ***~ séines Beféhls [séinem Beféhl]*** насýперак ягó загáду; ***~ álledem*** нягле́дзячы ні на штó

**Trotz** *m* -es упáртасць; ***zum ~*** назлó; ***~ bíeten**** давáць адпóр

**trótzdem 1.** *cj* (*у складаназалежным сказе*) нягле́дзячы на тóе, штó; хоць; ***er ging fort, ~ es stark régnete*** ён пайшóў, нягле́дзячы на тóе, штó [хоць] ішóў мóцны дождж **2.** *cj* (*у складананезалежным сказе*) нягле́дзячы на гэ́та, ўсё ж; ***es régnete stark, ~ ging er fort*** ішóў мóцны дождж, нягле́дзячы на гэ́та [усё ж] ён пайшóў

**trótzen** *vi* 1) упáрціцца, наравíцца, натýрыцца; ***mit j-m ~*** дýцца, злавáцца на кагó-н. 2) грэ́баваць, пагарджáць; ***den Gefáhren [dem Tóde] ~*** пагарджáць [грэ́баваць] небяспéкай [смéрцю]

**trótzig** *a* упáрты, натýрысты, капры́зны

**Trótzkopf** *m* -(e)s, -köpfe упáрты (чалавéк)

**Troubadour** [truba'du:r *і* 'tru:badur] *m* -s,

-e *i* -s *гіст*. трубаду́р; пясня́р

**trüb** [trübe] **1.** *a* 1) (кала)му́тны, з аса́дкам (*пра ваду*); цьмя́ны (*пра святло*); хма́рны, пахму́рны; ~ ***wérden*** пакаламу́ціцца, засмуці́цца; не́ба хму́рыцца 2) су́мны (*пра думкі і г.д.*) **2.** *adv* 1) цьмя́на (*гарэць*) 2) су́мна, марко́тна, журбо́тна ◊ ***im Trüben físchen*** лаві́ць ры́бу ў каламу́тнай вадзе́

**Trübe** *f* - каламу́ць; аса́дак

**Trúbel** *m* -s 1) перапало́х, мітусня́, вэ́рхал; ***wir kómmen aus dem ~ nicht heráus*** у нас ве́чная мітусня́ [сумятня́] 2) *перан*. водаваро́т, вір

**trüben 1.** *vt* 1) муці́ць, каламу́ціць (*ваду*); ***es sieht so aus, als könne er kein Wässerchen ~*** здае́цца ён і вады́ не закаламу́ціць 2) затума́ньваць; азмро́чваць (*радасць*); ***kein Wölkchen trübte den Hímmel*** на не́бе не было́ ні во́блачка **2. ~, sich** затума́ніцца; ***der Hímmel trübte sich*** не́ба захму́рылася

**Trübsal** *f* -, -e сму́так, марко́та, жаль; ~ ***blásen**** хандры́ць, марко́ціцца, тужы́ць, сумава́ць

**trübselig** *a* засмучо́ны, марко́тны, журбо́тны, су́мны

**Trübsinn** *m* -s марко́та, сум, туга́, хандра́; ~ ***blásen* [spínnen*], in ~ verfállen**** *разм*. хандры́ць, засумава́ць, зажуры́цца

**trübsinnig** *a* тужлі́вы, су́мны, марко́тны

**Trübung** *f* -, -en зацямне́нне, памутне́нне

**Trúchsess** *m* -en *i* -es, -en *i* -e *гіст*. сто́льнік

**trúdeln** *vi разм*. цяга́цца, бадзя́цца, сно́ўдацца

**Trüffel** *f* -, -n *бат*. тру́фель

**trug** *impf ад* trágen*

**Trug** *m* -s падма́н, ашука́нства; ілю́зія

**Trúgbild** *n* -es, -er 1) пры́від, здань 2) сон, ма́ра; мро́я, летуце́нне

**trügen*** *vt* падма́нваць, ашу́кваць

**trügerisch** *a* падма́нлівы, падма́нны

**Trúgschluss** *m* -es, -schlüsse няслу́шная [няпра́вільная, памылко́вая] высно́ва

**Trúgwerk** *n* -(e)s, -e падма́н; ілю́зія

**Trúhe** *f* -, -n ку́фар, скры́ня; *дыял*. труна́

**Trümmer** *pl* абло́мкі; руі́ны; ***in ~ géhen**** разбі́цца, ру́шыцца; ***in ~ schlágen**** разбіва́ць на дро́бныя кава́лкі; разруша́ць, ператвара́ць у руі́ны; ***die Stadt sank in ~n*** го́рад ператвары́ўся ў руі́ны

**Trümmerhaufen** *m* -s, - гру́да руі́н(аў)

**Trumpf** *m* -(e)s, Trümpfe *карт*. ко́зыр; ***den létzten ~ áusspielen*** пусці́ць у ход апо́шні ко́зыр; ***was ist ~?*** што ў нас ко́зыр(ы)?; ***álle Trümpfe in der Hand háben*** мець усе́ ша́нсы [ша́нцы] на по́спех

**trúmpfen** *vi* 1) *карт*. казыра́ць 2) казыра́ць, хвалі́цца; ***er trumpft auf séine Bezíehungen*** ён хва́ліцца [казыра́е] сваі́мі су́вязямі

**Trunk** *m* -(e)s, Trünke 1) глыто́к; ***éinen ~ Wásser tun**** вы́піць глыто́к вады́ 2) напо́й, напі́так 3) -(e)s п’я́нства; ***dem ~ ergében sein*** быць п’я́ніцай, п’я́нстваваць

**trúnken** *a* 1) п’я́ны 2) *перан*. ап’яне́лы; захо́плены, зачарава́ны; ~ ***vor Fréude*** не ў сабе́ ад ра́дасці

**Trúnkenbold** *m* -s, -e п’я́ніца, п’янто́с

**Trúnkenheit** *f* - 1) ап’яне́нне 2) захапле́нне, зачарава́нне

**Trúnksucht** *f* - п’я́нства, запо́й; ***der ~ verfállen**** запі́ць, зап’я́нстваваць

**trúnksüchtig** *a* які́ п’е (запо́ем)

**Trupp** *m* -s, -s гру́па, гурт; *вайск*. звяно́, аддзе́л, атра́д, ка́манда

**Trúppe** *f* -, -n 1) тру́па 2) *вайск*. вайско́вая часць, аддзе́л, атра́д 3) *pl вайск*. во́йскі

**Trúppengattung** *f* -, -en род во́йскаў

**Trúppenparade** *f* -, -n вайско́вы пара́д, пара́д во́йскаў

**Trúppenschau** *f* агля́д во́йскаў

**Trúppenteil** *m* -(e)s, -e вайско́вая часць

**Trúppenübungsplatz** *m* -es, -plätze палiго́н

**Trúppenverband** *m* -(e)s, -bände агульнавайско́вае злучэ́нне

**Trúppenverbandplatz** *m* -es, -plätze *вайск*. батальённы медыцы́нскі пункт

**trúppenweise** *a* 1) *вайск*. аддзе́ламі, атра́дамі, падраздзяле́ннямі 2) гру́памі, нато́ўпам

**Trust** *m* -s, -e *i* -s трэст

**Trúthahn** *m* -(e)s, -hähne інды́к

**Trút|henne** *f* -, -n , **~huhn** *n* -(e)s, -hühner інды́чка

**Tscháko** *m* -s, -s кі́вер, фо́рменная ша́пка

**Tschárdasch** *m* - *i* -es, -e ча́рдаш (*танец*)

**Tschéche** *m* -n, -n чэх

**tschéchisch** *a* чэ́шскі

**tschechoslowákisch** *a гіст.* чэхаслава́цкі

**tschílpen** *vi* чыры́каць

**tschüs!** [tschüss] *int разм.* быва́й!, гаду́й-ся!, да пабачэ́ння!

**T-Shirt** [ˈtiːʃəːt] *n* -s, -s трыката́жная бавоўня́ная кашу́ля (*з кароткімі рукавамі*)

**T-Stahl** *m* -(e)s, -Stähle таўро́вая сталь

**Túba** *f* -, Túben 1) *муз.* ту́ба 2) *анат.* труба́

**Túbe** *f* -, -n 1) цю́бік 2) *анат.* еўста́хіева труба́ 3) *гл.* Túba

**tuberkulös** *a* туберкулёзны, сухо́тны

**Tuberkulóse** *f* -, -n туберкулёз, сухо́ты; ***an ~ erkránken*** захварэ́ць на сухо́ты [туберкулёз]

**tuberkulósenkrank** *a* хво́ры на туберкулёз [сухо́ты]

**Tuch I** *n* -(e)s, Tücher 1) ху́стка; хусці́на; касы́нка; ша́лік ◊ ***wie ein rótes ~ auf j-n wírken*** ≅ дзе́йнічаць на каго́-н. ве́льмі зласлі́ва [раздражня́льна] 2) ану́ча

**Tuch II** *n* -(e)s, -e сукно́; ***ráues*** ~ грубашэ́рснае сукно́; ***gróbes*** ~ драп

**túchartig** *a* падо́бны на сукно́

**Túchballen** *m* -s, - цюк сукна́

**túchen** *a* суко́нны

**Túchfühlung** *f* - 1) *вайск.* адчува́нне ло́кця 2) це́сная су́вязь, канта́кт; ~ ***miteinánder hálten**** падтры́мліваць це́сную су́вязь адзі́н з адны́м

**tüchtig** *a* 1) здо́льны, уме́лы, спра́ўны, стара́нны; до́бры; ***er ist in séinem Fach sehr ~*** ён до́бры спецыялі́ст, ён до́бры знато́к сваёй спра́вы 2) мо́цны 3) даво́лі вялі́кі, зна́чны; ***ein ~es Stück Geld*** даво́лі вялі́кая су́ма гро́шай

**Tüchtigkeit** *f* - спра́ўнасць, дзелавы́я я́касці, здо́льнасці

**Túchzeichen** *n* -s, - *вайск.* сігна́льнае пало́тнішча

**Tücke** *f* -, -n кава́рства, падсту́пства; ***List und ~*** падко́пы

**túckern** *vi* сту́каць (*пра матор*)

**tückisch** *a* кава́рны, зло́сны, падсту́пны, по́длы; ***auf j-n ~ sein*** *разм.* адчува́ць [мець] тае́мную злосць на каго́-н.; ***ein ~es Pferd*** нараві́сты конь; ***ein ~es Wétter*** кава́рнае надво́р'е

**Tueréi** *f* -, -en *разм.* прытво́рства; пыхлі́васць

**Tuff** *m* -s, -e , **~stein** *m* -s, -e *мін.* туф

**Tüfteléi** *f* -, -en дро́бязнасць; педанты́чнасць

**tüftelig** *a* 1) карпатлі́вы 2) дро́бязны, педанты́чны

**tüfteln** *vi разм.* капа́цца ў дро́бязі; мудраге́ліць

**Túgend** *f* -, -en дабрачы́ннасць, дабрадзе́йства

**túgendhaft** *a* дабрачы́нны, дабрадзе́йны, прысто́йны

**Tüll** *m* -s, -e цюль

**Tülle** *f* -, -n 1) *дыял.* ры́льца (*чайніка*) 2) разе́тка (*падсвечніка*) 3) уту́лка, накане́чнік, наса́дка

**Tülpe** *f* -, -n 1) *бат.* цюльпа́н 2) ке́ліх

**Tülpenzwiebel** *f* -, -n цыбу́ліна цюльпа́на

=**tum** *суф. назоўнікаў ніякага роду, утварае:* 1) *назвы стану, паводзін, складу думкі*: Héldentum *n* геро́йства, гераі́зм 2) *назоўнікі са зборным значэннем*: Ménschentum *n* чалаве́цтва

**túmmeln 1.** *vt* ганя́ць **2. ~, sich** дурэ́ць, сваво́ліць 2) спяша́цца; ***tümmle dich!*** паспяша́йся!

**Túmmelplatz** *m* -es, -plätze 1) пляцо́ўка для гу́льняў 2) арэ́на, мане́ж

**Tümmler** *m* -s, - дэльфі́н; марска́я свіння́

**Túmor** *m* -s, Tumóren *мед.* злая́касная пухлі́на

**Tümpel** *m* -s, - твань, дрыгва́, стая́чая вада́

**Tumúlt** *m* -s, -e шум, мітусня́, вэ́рхал

**tun*** **1.** *vt* 1) рабі́ць, выко́нваць; ***nichts ~*** нічо́га не рабі́ць; ***sein Möglichstes [sein***

***Béstes]*** ~ зрабíць усё магчы́мае; ***geságt – getán!*** ска́зана – зро́блена! 2) зрабíць, даста́віць, прычынíць; ***j-m Böses*** ~ зрабíць каму́-н. зло 3) пакла́сці (*што-н. куды-н.*); ***etw. beiséite*** ~ адкла́сці што-н. убок; ***Salz in die Súppe*** ~ пасалíць суп 4): ***Ábbitte*** ~ прасíць прабачэ́ння; ***Dienst*** ~ дзяжу́рыць; ***séine Pflicht*** ~ выко́нваць свой абавя́зак; ***j-m, éiner Sáche Ábbruch*** ~ шко́дзіць каму́-н., чаму́-н.; ***éiner Sáche (D) Éinhalt*** ~ прыпынíць што-н.; ***Éinblick in etw. (A)*** ~ пазнаёміцца з чым-н. 5): ***zu ~ háben*** быць заня́тым; ***er hat álle Hände (voll) zu*** ~ у яго́ спраў па са́мае го́рла; ***es mit j-m, mit etw. (D) zu ~ háben*** мець спра́ву з кім-н., чым-н.; ***ich hábe damít nichts zu*** ~ я не ма́ю да гэ́тага ніякага дачыне́ння, гэ́та мяне́ не ты́чыцца 6): ***des Gúten zu viel*** ~ перабо́льшваць; ***lésen tut er óhne Brílle*** ён чытáе без акуля́раў **2.** *vi* 1): ***es ist ihm sehr darúm zu*** ~ ён ве́льмі хо́ча…, яму́ гэ́та ве́льмі ва́жна…; ***es ist ihm nicht ums Geld zu*** ~ гро́шы яго́ не цíка́вяць, для яго́ спра́ва не ў грашáх 2): ***böse*** ~ прытвары́цца [прыкíнуцца] сярдзíтым; ***tu nicht so!*** не прыкíдвайся; ***tu nicht so beléidigt*** не разы́грывай з сябé пакры́ўджанага 3): ***es tut mir Leid*** мне шкадá; ***j-m (nichts) recht*** ~ (не) дагадзíць каму́-н.; (не) задаво́ліць чыé-н. патрабава́нні

**Tun** *n* -s спо́саб дзе́яння, паво́дзіны; ***das ~ und Lássen [Tréiben]*** паво́дзіны, учы́нкі, спо́саб дзе́яння

**Tünche** *f* -, -n 1) раство́р для пабе́лкі; клеява́я фа́рба 2) (зне́шні) бляск

**tünchen** *vt* 1) фарбава́ць, бялíць 2) *спарт.* размяча́ць (*поле, пляцоўку*)

**Túndra** *f* -, -Túndren *геагр.* ту́ндра

**Tunéser** [Tunési¦er] *m* -s, - тунíсец

**tunésisch** *a* тунíскі

**Túnfisch** *m* -(e)s, -e *заал.* ску́мбрыя, туне́ц

**Túnichtgut** *m* - *i* -s, -e *разм.* ло́дар, гультáй, абібо́к

**Túnika** *f* -, Túniken тунíка (*вопратка*)

**Túnke** *f* -, -n со́ус, падлíўка

**túnken** *vt* мача́ць, акуна́ць

**túnlich** *a* магчы́мы, патрэ́бны, які́ падыхо́дзіць

**túnlichst** *adv* калí (гэ́та) магчы́ма, па магчы́масці; ***bítte, ~ noch héute zu schícken*** прашу́ адпра́віць па магчы́масці сёння

**Túnnel** *m* -s, -s *i* - туне́ль

**Túnte** *f* -, -n *разм. пагардл.* незачэ́па, ма́мчына дзіцё

**Tüpfel** *m* -s, -,**Tüpfelchen** *n* -s, - кро́пка; кра́пінка; ***ein Stoff mit Tüpfelchen*** матэ́рыя ў кра́пінку [у гаро́шак]; ***das Tüpfelchen auf «i» sétzen*** пастáвіць кро́пку над «i»

**tüpfelig** *a* у кра́пінку, у гаро́шак

**tüpfeln** *vt* пакрыва́ць пля́мкамі [кра́пінкамі]

**túpfen** *vt* 1) злёгку крана́ць (*што-н.*), дакрана́цца, датыка́цца (*да чаго-н.*) 2) *гл.* tüpfeln

**Túpfer** *m* -s, - *мед.* тампо́н

**Tür** *f* -, -en дзве́ры, бра́ма; ***vor der ~ stéhen**** быць [мець адбы́цца] неўзабáве; ***von ~ zu*** ~ з до́ма ў дом; ***j-m die ~ wéisen**** паказа́ць каму́-н. на дзве́ры ◊ ***óffene ~ éinrennen**** ≅ бíцца за пусты́ мех; ***kéhre vor déiner éigenen ~!*** пагляздзí ле́пей на сябé, не лезь у чужы́я спра́вы

**Türangel** *f* -, -n дзвярна́я заве́са

**Túrban** *m* -s, -e турба́н, чалма́

**Turbíne** *f* -, -n *тэх.* турбíна

**Túrbogenerator** *m* -s, -toren *тэх.* турбагенера́тар

**Túrbo-Próp-Flugzeug** *n* -s, -e турбавінтавы́ самалёт

**turbulént** *a* 1) бу́рны, бурлíвы; ***~er Béifall*** бу́рныя апладысме́нты [во́плескі] 2) турбуле́нтны, віхравы́

**Turbulénz** *f* -, -en 1) вір, вадаваро́т 2) турбуле́нтнасць; завіхрэ́нне, віхравы́ рух 3) хваля́ванне, узбуджэ́нне

**Turf** *m* -s ска́чкі, ко́нны спорт

**Tűrflügel** *m* -s, - палавíнка дзвярэ́й

**Tűrfüllung** *f* -, -en філёнга

**türkblau** *a* цёмна-сíні

**Türke** *m* -n, -n тýрак
**Türkís** *m* -es, -e бірузá
**türkisch** *a* турэ́цкі
**Türklinke** *f* -, -n клям́ка, клям́ар (*на дзвярах*)
**Turkméne** *m* -n, -n туркмéн
**turkménisch** *a* туркмéнскі
**Turm** *m* -s, Türme 1) вéжа, званíца 2) *шахм.* турá, ладдзя́
**türmen 1.** *vt* грувáсціць, нагрувáшчваць **2. ~, sich** грувáсціцца, узвышáцца **3.** *vi* (s) уцякáць, збягáць
**túrmhoch 1.** *a* вышынёю з вéжу, вéльмі высóкі **2.** *adv* знáчна [нязмéрна] вышэ́й
**Túrmspitze** *f* -, -n шпіц, шпіль
**Túrmspringen** *n* -s скачкí з вы́шкі
**Túrmuhr** *f* -, -en вéжавы гадзíннік
**Túrnanzug** *m* -(e)s, -anzüge спарты́ўны касцю́м
**túrnen** *vi* займáцца фізкультурай [гімнастыкай]
**Túrnen** *n* -s гімнáстыка
**Túrner** *m* -s, - гімнáст
**túrnerisch** *a* гімнасты́чны, фізкультýрны
**Túrnfest** *n* -es, -e фізкультýрнае свя́та
**Túrngerät** *n* -es, -e гімнасты́чная прылáда, гімнасты́чны снарáд
**Túrnhalle** *f* -, -n гімнасты́чная зáла
**Túrnhemd** *n* -es, -en (спарты́ўная) мáйка [футбóлка]
**Túrnhose** *f* -, -n спарты́ўныя штаны́ [трусы́]
**Turníer** *n* -s, -e турнíр, спабóрніцтва
**Túrnlehrer** *m* -s, - выклáдчык фізкультýры [гімнáстыкі]
**Túrnplatz** *m* -es, -plätze пляцóўка для фізкультýрных практыкавáнняў
**Túrnschuhe** *pl* спарты́ўныя чаравíкі, кéды, красóўкі
**Túrnstunde** *f* -, -n урóк гімнáстыкі [фізкультýры]
**Túrnübung** *f* -, -en гімнасты́чнае практыкавáнне
**Túrnus** *m* -, -se цыкл
**túrnusmäßig** *a* цыклíчны
**Túrnverein** *m* -s, -e гімнасты́чнае тавары́ства
**Türpfosten** *m* -s, - вушáк
**Tűrschlüssel** *m* -s, - ключ ад дзвярэ́й
**Türschwelle** *f* -, -n парóг (*у дзвярах*)
**túrteln** *vi* буркавáць
**Tusch** *m* -es, -e *i* -s *муз.* туш; ***j-m éinen ~ blásen**** ≅ дóбра прабрáць кагó-н.
**Túsche** *f* -, -n туш (*чорнае чарніла*)
**túscheln** *vi* шаптáцца
**túschen** *vt* тушавáць
**Túte** *f* -, -n *разм.* 1) трубá, рог 2) *разм.* нос
**Tüte** *f* -, -n тóрбачка, мяшэ́чак, пакýначак ◊ ***nicht in die ~*** *разм.* ні ў я́кім рáзе
**túten** *vt, vi разм.* трубíць; ***auf éinem Horn ~*** трубíць у рог; ***Féuer ~*** падымáць пажáрную трывóгу
**Túthorn** *n* -(e)s, -hörner трубá, рог
**Tüttel** *m, n* -s, - крóпка, крóпелька
**tütti** *adv муз.* тýці, усé рáзам
**Tweed** [twi:d] *m* -s, -s *i* -e *тэкст.* 1) цвін 2) грýбае сукнó
**Twen** *m* - *i* -s, -s *часцей pl* малады́я лю́дзі ва ўзрóсце ад 20 да 29 год
**Twínset** *n, m* -s, -s двóйка (*камплект з шарсцяной кофты і камізэлькі*)
**Twist 1**. *m* -es, -e *тэкст.* баваўня́нае аснóўнае прáдзіва **2.** *m* -s, -s твіст (*танец*)
**Typ I** *m* -s, -e *i* -en тып (*у розн. знач.*)
**Typ II** *m* -s *i* -en *разм.* хлóпец, хлапéц, малады́ чалавéк
**Týpe** *f* -, -n *паліграф.* літара
**týpisch** *a* 1) тыпíчны, тыпóвы 2) тыпíчны (*пра вобраз і да т.п.*)
**typisíeren** *vt* тыпізавáць, прывóдзіць да тыпавы́х узóраў
**typhös** *a* тыфóзны
**Týphus** *m* - *мед.* тыф, ты́фус; ***an ~ erkránken*** захварэ́ць на тыф
**týpisch** *a* тыпóвы
**Typografie** [Typographíe] *f* - *паліграф.* кнігадрукавáнне; паліграфíчнае выканáнне
**typográfisch** [typográphisch] *a паліграф.* друкáрскі
**Týpus** *m* -, Týpen *гл.* Typ I
**Tyránn** *m* -en, -en тырáн, дэ́спат

# U

**Ú-Bahn** *f* - метрапалітэ́н, метро́, падзе́мная даро́га; ***mit der ~ fáhren**** е́хаць на [у] метро́

**übel 1**. *a* дрэ́нны, ке́пскі, благі́; ***mir ist ~*** мне мло́сна, мяне́ ну́дзіць; ***~ geláunt*** не ў гумо́ры, не ў (до́брым) настро́і; ***~ gesínnt*** варо́жа настро́ены, злам́ысны; ***~ láunig*** не ў гумо́ры, без настро́ю; ***~ néhmen**** *vt* (*D*) крыўдава́ць, кры́ўдзіцца за што-н. (*на каго-н.*); ***~ ríechend*** смярдзю́чы, смуро́дны; ***~ wóllen*** *vi* (*D*) быць нядобразычлі́вым (*да каго-н.*), жада́ць зла (*каму-н.*); ***~ wóllend*** незычлі́вы **2.** *adv* дрэ́нна, ке́пска; бла́га; ***es steht ~ mit ihm [um ihn]*** яго́ спра́вы дрэ́нныя; ***wohl óder ~*** хо́чаш не хо́чаш

**Übel** *n* -s, - 1) лі́ха, зло; ***das nótwendige ~*** непазбе́жнае зло; ***j-m ein ~ zúfügen*** зрабі́ць каму́-н. зло; бяда́; ***éinem ~ ábhelfen* [wéhren, stéuern]*** дапамагчы́ ў бядзе́ 2) хваро́ба, не́мач

**Übelkeit** *f* - мло́снасць, млосць

**Übelsein** *n* -s 1) недамага́нне, нездаро́ўе 2) мло́снасць

**Übelstand** *m* -(e)s, -stände недахо́п; беспара́дак, непара́дак; ***éinem ~ ábhelfen**** устараніць недахо́п

**Übeltat** *f* -, -en злачы́нства

**Übeltäter** *m* -s, - злачы́нец

**übel tun*** *vt* (*D*) рабі́ць зло (*каму-н.*)

**üben 1.** *vt* 1) практыкава́ць 2) *абазначае дзеянне, на характар якога ўказвае назоўнік*: ***Klavíer ~*** (і)гра́ць [практыкава́ць] на рая́лі; ***Gedúld ~*** праяўля́ць цярплі́васць; ***Kritík ~ (an D)*** крытыкава́ць (*каго-н., што-н.*) **2. ~, sich** (*in D*) практыкава́цца (*у чым-н.*); трэніра-ва́ць (*што-н.*)

**über 1**. *prp* 1) (*A – на пытанне «куды?», D – на пытанне «дзе?»*) над, паве́рх, на; ***die Hände ~ dem Kopf zusámmenschlagen**** заламаць ру́кі над галаво́й; ***éinen Hándschuh ~ die Hand zíehen**** нацягну́ць пальча́тку на руку́ 2) (*A*) це́раз, праз, па; ***~ den Hof géhen**** ісці́ праз двор; ***~ den Kopf stréichen**** гла́дзіць па галаве́; ***~ Berlín nach Léipzig fáhren**** е́хаць це́раз Берлі́н у Ле́йпцыг 3) (*A*) праз (*пэўны час*); ***héute ~ zwei Wóchen*** ро́ўна праз два ты́дні; ***ein Buch ~ Sónntag lésen**** прачыта́ць кні́гу за нядзе́лю; ***~ kurz óder lang*** ра́на ці по́зна 4) (*A*) больш, бо́лей як, звыш; ***er ist ~ zwánzig*** яму́ больш як два́ццаць (гадо́ў); ***das geht ~ séine Kräfte*** гэ́та звыш яго́ сіл 5) (*A*) аб, аба, пра; ***~ éinen Vórfall erzählen*** раска́зваць [апавяда́ць] пра здарэ́нне 6) (*D*) за, над; ***sie sitzt ~ den Büchern*** яна́ сядзі́ць над кні́гамі 7) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова*: ***~ den Feind síegen*** перамагчы́ во́рага; ***~ j-n hérfallen**** напа́сці на каго́-н. **2.** *adv* 1) на праця́гу; ***die Nacht ~*** на праця́гу усёй начы́; ***den Wínter ~*** усю́ зіму́ 2): ***das Gewéhr ~!*** *вайск.* на плячо́! (*каманда*) 3): ***das ist mir ~*** гэ́та мне надаку́чыла [абры́дла]; ***j-m ~ sein*** перасяга́ць, перавыша́ць (*каго-н.*); ***er ist mir ~*** ён ве́дае больш за мяне́, ён мяне́ перасягну́ў [перагна́ў]

**über= 1.** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на*: 1) *рух паверх чаго-н.:* überlegen палажы́ць (*звеху чаго-н.*); überspannen абця́гваць зве́рху [паве́рх] (*чаго-н.*) 2) *рух праз [цераз] што-н.*: überfliegen* пералята́ць 3) *перавышэнне былога узроўню*: überfließen* пераліва́цца (*цераз край*) 4) *няпоўнае выкарыстанне*: überlassen* пакіда́ць (*пра запас*), прыхо́ўваць **2.** *неаддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на*: 1) *рух паўзверх чаго-н., або цераз, праз што-н.*: überflíegen* праляце́ць (*над чым-н.*), пераляце́ць (*што-н.*); прабе́гчы вачы́ма 2) *распаўсюджанне дзеяння на ўвесь прадмет:* überséhen*

аглядáць, акíдваць пóглядам [пóзіркам] 3) *пропуск, недагляд:* überséhen* прапусціць (*памылку*) 4) *паўтарэнне дзеяння:* überárbeiten* перарабíць 5) *перадачу чаго-н.*: überlássen* уступáць; пакідáць; прадстаўля́ць 6) *празмернасць дзеяння*: übertréiben* перабóльшваць

**überall** [überáll] *adv* усю́ды, скрозь; ***von*** ~ адусю́ль; ***er kennt sich ~ aus*** ён ва ўсíм дóбра разбірáецца [арыентýецца]

**überallher** [überallhér] *adv* адусю́ль

**überallhin** [überallhín] *adv* усю́ды, ва ўсе канцы́, ва ўсíх накірýнках

**überáltert** *a* 1) занáдта стары́ (*для чаго-н.*) 2) які́ [пераж́ыў] зжыў сябé

**Überálterung** *f* - *эк.* марáльны знос

**Überangebot** *n* -(e)s, -e *эк.* перавышэ́нне прапанóвы над пóпытам

**ǘberängstlich** *a* звыш мéры палахлíвы [баязлíвы]

**überánstrengen 1**. *vt* ператамля́ць, празмéрна напрýжваць **2. ~, sich** ператамля́цца, празмéрна напрýжвацца

**Überánstrengung** *f* -, -en перагрýзка, перанапрýжанне; празмéрнае напрýжанне (*сіл*), ператамлéнне

**überántworten** *vt* (*D*) передавáць, накірóўваць (*каго-н., што-н., каму-н., куды-н.*); ***j-n dem Gericht*** ~ аддавáць пад суд кагó-н.

**Überántwortung** *f* -, -en передáча, накіравáнне (*an A – каму-н., куды-н.*)

**Überanzug** *m* -(e)s, -züge ахóўная (рабóчая) вóпратка (*зверху звычайнай вопраткі*)

**Überarbeit** *f* -, -en звышурóчная рабóта; ~ ***léisten*** працавáць звышурóчна

**überarbeiten I** *vt* працавáць звышурóчна

**überárbeiten II 1.** *vt* перарабляць (*што-н. нанава*) **2. ~, sich** ператамля́цца

**Überárbeitung** *f* - перарóбка, перапрацóўка

**Ǘberärmel** *m* -s, - нарукáўнік

**überaus** [überáus] *adv* надзвычáйна, надзвы́чай

**überbácken** *vt кул.* запякáць

**Überbau** *m* -(e)s, -e *i* -ten 1) надбудóва (*дома*) 2) -(e)s, -e *філас*. надбудóва

**überbeanspruchen** *vt* перагружáць, выстаўля́ць занáдта вялíкія патрабавáнні

**Überbein** *n* -es, -e *мед*. гáнглій

**überbekommen*** *vt разм*. 1) быць сы́тым па гóрла 2): ***éinen [eins]*** ~ атрымáць кухталя́

**überbelichten** *vt фота* перат́рымліваць

**überbewerten** *vt* пераацэ́ньваць, занáдта высóка ацэ́ньваць

**Überbewertung** *f* - пераацэ́нка

**überbíeten* 1**. *vt* 1) прапанавáць [давáць] больш высóкую цанý (*чым хто-н.*); ***j-n mit [um] húndert Éuro*** ~ даць на сто éўра бóлей, чым хто-н. 2) перавышáць, перавыкóнваць (*план, норму*); ***éinen Rekórd*** ~ палéпшыць рэкóрд **2.** ~ **sich** перасягнýць самóга сябé

**überblǻttern** *vt* перагóртваць

**überbleiben*** *vi* (s) застáцца жывы́м

**Überbleibsel** *n* - s, - 1) рэ́шта; рэ́шткі 2) перажы́так

**Überblick** *m* - es, - e 1) від (*über A – на што-н.*) 2) агля́д, рэзюмé, агýльнае ўяўлéнне на што-н.; ***éinen geráfften ~ über etw. (A) gében**** даць сцíслы [карóткі] агля́д чагó-н.; ***es fehlt ihm an*** ~ у ягó вýзкі кругагля́д;

**überblícken** *vt* 1) аглядáць, азірáць, акíдваць вóкам [пóзіркам] 2) *перан*. аглядáць

**überbríngen*** *vt* 1) передавáць (*пісьмо, прывітанне*) 2) *разм*. нагавóрваць

**Überbrínger** *m* -s, - падавéц, прад’яўнíк

**überbrǘcken** *vt* 1) навóдзіць мост (*цераз што-н.*) 2) пераадóльваць (*перашкоды*)

**Überbrǘckung** *f* -, -en 1) навядзéнне мóста (*G – цераз што-н.*) 2) пераадóленне (*перашкод*)

**überbǘrden** *vt* перагружáць (*працай*); празмéрна абцяжáрваць

**Überbǘrdung** *f* -, -en перагрýзка, абцяжáрванне

**überdáchen** *vt* крыць дáхам [навéсам]

**Überdáchung** *f* -, -en дах, страхá, перакры́цце

**überdáuern** *vt* перажы́ць; вы́чакаць,

дачакáцца
**Überdecke** *f* -, -en пакрывáла, пóкрыва
**überdecken I** *vt* накрывáць, засцілáць (*чым-н.*); ***sie hat das Tíschtuch übergedeckt*** янá накры́ла стол абрýсам
**überdécken II** *vt* накрывáць, акры́ць; *буд. тс*. перакрывáць; ***den Tisch mit Lack ~*** пакры́ць стол лáкам
**überdéhnen** *vt* 1) занáдта мóцна нацяг-ваць (*напр. струну*) 2) *мед*. пацягнýць (*сухажылле*)
**überdénken*** *vt* прадýмаць, абдýмаць
**überdíes** *adv* пры́тым, звыш тагó
**überdimensional** *a* бóльшых (*чым звычайна*) памéраў; агрóмністы, празмéрны
**Überdosis** *f* -, -dosen празмéрная дóза
**überdréhen** *vt* 1) перакрýчваць 2) сарвáць разьбý [нарэ́зку] (*вінта, шрубы*)
**Überdruck** *m* -(e)s, -drücke *тэх., фіз.* залíшні ціск; ціск звыш атмасфéрнага
**Überdruss** *m* -es нудá, сум, пéрасыць; ~ ***errégen*** (на)дакучáць
**ű́berdrüssig: ~ *wérden (G)*** дакучáць,назаляць; ***ich bin déssen ~*** мне гэ́та абры́дла [надакýчыла]
**überdurchschnittlich** *a* незвычáйны; выдáтны
**überéck:** *adv* 1) па дыяганáлі, папярóк, наўскóс 2) абы-я́к, у беспарáдку; ***etw. ~ stéllen*** пастáвіць што-н. абы-я́к [у беспарáдку]
**Übereifer** *m* -s празмéрная старáннасць, празмéрная рýпнасць
**übereifrig** *a* занáдта руплíвы, занáдта старáнны
**Überéignung** *f* -, -en перадáча ва ўлáснасць
**überéilen 1**. *vt* рабíць што-н. неабдýмана **2. ~, sich** 1) (*mit, in D*) занáдта спяшáцца; дзéйнічаць неабдýмана [неразвáжліва] (*з чым-н., у чым-н.*); ***óhne sich zu ~*** не спяшáючыся 2) дзéйнічаць неразвáжліва [неабдýмана]
**überéilt** *a* неабдýманы, няўзвáжаны
**Überéilung** *f* -, -en 1) паспéшлівасць 2) неразвáжлівасць, неабдýманасць
**überéin** *adv* заадно́, у згóдзе між сабóю
**übereinánder** *pron rez* 1) адзíн над адны́м 2) адзíн на аднагó
**überéinkommen*** *vi* (s) (*über A*) узгадніць (*што-н.*), дамóвіцца (*аб чым-н.*); ***wir sind darüber überéingekommen*** мы дамóвіліся аб гэ́тым
**Überéin|kommen** *n* -s, -, **~kunft** *f* -, -künfte пагаднéнне, дамóўленасць; ***mit j-m éine Überéinkunft [ein Überéinkommen] tréffen**** дамóвіцца з кім-н., прыйсці да пагаднéння з кім-н.
**überéinstimmen** *vi* (*mit D*) 1) супадáць (*з чыім-н. меркаваннем і да т.п.*) 2) адпавядáць; ***Náchfrage und Ángebot stímmen überéin*** пóпыт адпавядáе прапанóве 3) пагаджáцца, быць у згóдзе; ***ich stímme mit ihm überéin*** я пóўнасцю згóдзен з ім
**überéinstimmend** *a* згóдны, аднадýшны
**Überéinstimmung** *f* -, -en 1) пагаднéнне, згóда; ***éine béiderseitige ~ herbéiführen*** дасягнýць узаéмнага [двухбакóвага] пагаднéння 2) адпавéднасць; ***in ~ mit etw. (D)*** у адпавéднасці з чым-н.; ***in ~ hándeln*** дзéйнічаць узгóднена; ***etw. mit etw. (D) in ~ bríngen**** узгадніць што-н. з чым-н., прывéсці што-н. у адпавéднасць з чым-н.
**überéintreffen*** *vi* (s) (*mit D*) супадáць (*з чым-н.*); ***únsere Ánsichten tréffen überéin*** нáшы меркавáнні [дýмкі] супадáюць
**überempfindlich** *a* празмéрна ўрáжлівы
**ű́bererfüllen** *неаддз.* (*аддз. толькі ў inf з zu*) *vt* перавыкóнваць
**Ű́bererfüllung** *f* -, -en перавыканáнне
**überéssen*, sich** (*an, mit D*) аб’ядáцца (*чым-н.*), сапсавáць сабé стрáўнік (*чым-н.*)
**überetatmäßig** [-ˈeta:mɛ:-] *a* пазаштáтны, звышбюджэ́тны
**überfahren* I 1.** *vi* (s) пераязджáць (*на другі бераг*) **2.** *vt* перавóзіць, перапраўляць (*на другі бераг і г.д.*)
**überfáhren* II** *vt* 1) пераéхаць (*каго-н.*), наéхаць (*на каго-н., на што-н.*); праéхаць (*забаронены знак*) 2) *груб*. наду-

ры́ць, абдуры́ць (*каго-н.*)

**Überfahrt** *f* -, -en 1) пераéзд 2) перапрáва (*цераз раку і г.д.*)

**Überfall** *m* -(e)s, -fälle напáд, налёт

**überfallen*** **I** *vi* (s) пáдаць на другí бок

**überfállen*** **II** *vt* 1) нападáць (*на каго-н.*), атакавáць (*каго-н.*) 2) заспéць (*знянацку*) 3) нечакáна з'яві́цца (*напр. пра гасцей*)

**Überfallhose** *f* -, -n спарты́ўныя [лы́жныя] штаны́

**ű̈berfällig** *a* 1) які́ спазні́ўся (*самалёт і г.д.*) 2) пратэрмінавáны

**Überfallkommando** *n* -s, -s выязнáя паліцэ́йская камáнда, аператы́ўная грýпа

**ű̈berfärben** **I** **1.** *vt* накладáць слой фáрбы (*на што-н.*); **2.** *vi* бля́кнуць, ліня́ць

**überfä́rben** **II** *vt* перафарбóўваць

**überfléchten** *vt* аплятáць

**überflíegen*** *vt* 1) пралятáць (*над чым-н.*), пералятáць (*што-н.*) 2) прабягáць вачы́ма 3): ***ein zártes Rot überflóg íhre Wángen*** яé твар пакры́ўся прыéмнай чы́рванню [румя́нцам], янá пачырванéла [загарэ́лася]

**überfließen*** **I** *vi* (s) пераліва́цца (*цераз край*); ***von Lob*** ~ сы́паць пахвалáмі; ***von Gemüt*** ~ расчýліцца; ***die Ánschauungen flíeßen ineinánder über*** пóгляды супадáюць

**überflíeßen*** **II** *vt* залівáць (*што-н.*), разлівáцца (*пра раку*)

**überflű̈geln** *vt* 1) пераганя́ць, апярэ́джваць 2) *вайск.* абыхóдзіць флáнгі (*праціўніка*) 3) перавышáць (*норму*)

**Überflű̈g(e)lung** *f* -, -en 1) перавáга 2) *вайск.* абхóд з флáнгаў 3) перавышэ́нне (*нормы*)

**Überfluss** *m* -es (*in, an D*) багáцце, лíшак (*чаго-н.*) ◊ ***im ~ schwímmen**** плáваць [качáцца] нíбы сыр у мáсле [у смятáне]; ***zum*** ~ звыш тагó

**ű̈berflüssig** *a* (за)лíшні, празмéрны

**überflúten** *vt* 1) залівáць, затапля́ць 2) навадня́ць (*рынак таварамі*)

**Überflútung** *f* -, -en затаплéнне, павóдка, разлíў

**überfórdern** *vt* стáвіць завы́шаныя патрабавáнні (*да каго-н.*)

**Überfracht** *f* -, -en лíшак вагí [грýзу]

**überfráchten** *vt* перагружáць, празмéрна нагружáць

**überfrágen** *vt* 1) правярáць, апы́тваць (*урок*) 2): ***da bin ich überfrágt*** *разм.* спытáйце(ся) пра што-н. íншае [лягчэ́йшае], я не ў кýрсе (спрáвы)

**überfrágt** *a* закíданы пытáннямі

**überfrémden** *vt* падпарáдкаваць іншазéмнаму ўплы́ву

**Überfrémdung** *f* -, -en перавáга [узмацнéнне] замéжнага капітáлу [замéжнага уплы́ву], замéжнае засíлле

**überfréssen*, sich** *разм.* аб'ядáцца, абжырáцца

**Überfuhr** *f* -, -en парóм, перавóз

**ű̈berführen** **I** *vt* 1) перавóзіць 2) перавóдзіць (*у іншую ўстанову*) 3) перадавáць (*ва ўласнасць*); ***den Betríeb in privátes Éigentum*** ~ перадáць прадпры́емства ў прывáтную ўлáснасць, прыватызавáць прадпры́емства

**überfű̈hren** **II** *vt* (*G*) выкрывáць (*каго-н. у чым-н.*); ***er wúrde der Lüge überfű̈hrt*** ягó злавíлі на хлуснí, ягó абвінавáцілі ў хлуснí

**Ű̈berführung** **I** *f* -, -en 1) перавóз 2) перавóд (*у другую ўстанову*) 3) перадáча 4) шляхаправóд, віядýк

**Überfű̈hrung** **II** *f* -, -en выкры́ццё, выяўлéнне

**Ű̈berfülle** *f* - 1) багáцце, дастáтак 2) празмéрная паўнатá

**ű̈berfüllen** *vt* перапóўніць

**überfű̈ttern** *vt* абкóрмліваць, закóрмліваць

**Übergabe** *f* -, -en перадáча, уручэ́нне

**Übergang** *m* -(e)s, -gänge 1) перахóд 2) перапрáва, пераéзд; ***éinen ~ (über den Fluss) erzwíngen**** фарсíраваць ракý

**übergében*** **1.** *vt* перадавáць, уручáць, аддавáць; ***der Ö́ffentlichkeit*** ~ перадáць галóснасці; ***dem Gerícht*** ~ перадáць судý **2. ~, sich** ванітавáць; ***er übergíbt sich*** ён ванітýе

**übergéhen*** **I** *vt* 1) абміна́ць, праміна́ць, прапуска́ць, не заўважа́ць; ***etw. mit Schwéigen*** ~ абыйсці што-н. маўча́ннем 2) абыхо́дзіць (*каго-н. пры размеркаванні*) 3) паруша́ць (*закон*)

**übergehen*** **II** *vi* (s) 1) перахо́дзіць, пераязджа́ць, перапраўля́цца (*in A, zu D – куды-н., да каго-н., чаго-н.*); ***zum Ángriff*** ~ перахо́дзіць у наступле́нне 2) перахо́дзіць (*на чый-н. бок*); ***ins féindliche Láger*** ~ перайсці ў варо́жы ла́гер 3) (*zu D*) перахо́дзіць, прыступа́ць (*да чаго-н.*); ***zu éinem ánderen Théma*** ~ перайсці да друго́й тэ́мы 4) (*in A*) перахо́дзіць, пераўтвара́цца (*у што-н.*); ***der Régen ging in Schnee über*** дождж перайшо́ў у снег

**übergenau** *a* зана́дта дакла́дны

**übergenug** *adv* зана́дта, звыш ме́ры, аж залі́шне [шмат]

**übergeordnet** *a* 1) вышэйстая́чы (*пра інстанцыю*) 2): ***ein ~er Satz*** *грам.* сказ, да яко́га адно́сіцца другі́ сказ

**übergeschnappt** *a разм.* звар’яце́лы

**Übergewicht** *n* -s 1) лі́шняя вага́ 2) перава́га; ~ ***bekómmen*** [***erhálten****] атрыма́ць перава́гу

**übergewichtig** *a* з лі́шняй вагою

**übergießen*** **I** *vt* 1) пераліва́ць 2) разліва́ць

**übergíeßen*** **II** *vt* абліва́ць, заліва́ць

**űberglücklich** *a* ве́льмі шчаслі́вы; ~ ***sein*** не па́мятаць сябе́ ад ра́дасці

**übergólden** *vt* (па)залаці́ць (*тс. перан.*)

**Übergóldung** *f* -, -en залачэ́нне

**übergreifen*** *vi* ахо́пліваць, распаўсю́джвацца (*на што-н.*), пераки́двацца (*на што-н.*) (*пра пажар, забастоўку і г.д.*)

**Übergriff** *m* -(e)s, -e 1) перавышэ́нне ўла́ды, злоўжыва́нне (*уладай*) 2) пераги́б

**übergroß** *a* зана́дта [празме́рна, ве́льмі] вялі́кі

**überhaben** *vt* 1): ***er hat den Mántel über*** ён наки́нуў паліто́ 2): ***er hat es über*** *разм.* гэ́та яму́ надаку́чыла [абры́дла]

**überhánd néhmen*** *vi* браць верх, распаўсю́джвацца, узраста́ць; ***er hat überhánd genómmen*** ён узя́ў верх над усі́мі

**Überhang** *m* -(e)s, -hänge 1) заслóна 2) вы́ступ 3) перава́га (*у валюце, таварах*)

**űberhängen*** **1.** *vi* выступа́ць, звіса́ць **2.** *vt* наки́нуць (*паліто*)

**überhásten** *vt* распяша́цца (*з чым-н., у чым-н.*), зрабі́ць не паду́маўшы

**überhäufen** *vt* 1) завалі́ць, згрува́сціць 2) зава́льваць, перагружа́ць (*работай*) 3) засыпа́ць (*ласкамі, папрокамі*)

**Überhäufung** *f* -, -en 1) перапаўне́нне, лі́шак, загрува́шчванне 2) перагру́зка (*працай*)

**überháupt** *adv* нао́гул, уво́гуле; ~ ***nicht*** зусі́м не

**überhében*** **I** **1.** *vt* (*G*) пазбаўля́ць, вызваля́ць (*каго-н. ад клопату і г.д.*) **2. ~, sich** (*G*) пазбаўля́цца, вызваля́цца (*ад чаго-н.*)

**überhében*** **II: ~, sich** 1) надрыва́цца (*ад цяжару*) 2) набіра́цца пы́хі; фанабэ́рыцца (*перад кім-н.*); ***er überhébt sich über die ánderen*** ён зазнае́цца [фанабэ́рыцца]

**überhéblich** *a* ганары́сты, напы́шлівы

**Überhéblichkeit** *f* -, -en ганарлі́васць, пы́ха, фанабэ́рыя

**Überhébung I** *f* -, -en пазбаўле́нне [збаве́нне] (*ад клопату і г.д.*)

**Überhébung II** *f* -, -en *гл.* Überhéblichkeit

**überhéizen** *vt* зана́дта го́рача напалі́ць, пераграва́ць

**überhín** *adv* 1) зве́рху, звыш 2) на ско́рую руку́, спе́хам; павярхо́ўна

**überhítzen** *vt* пераграва́ць

**überhítzt** *a* ве́льмі ўзбу́джаны, па́лкі, гара́чы

**überhőhen** *vt* 1) узвыша́цца (*над чым-н.*), панава́ць (*над мясцовасцю*) 2) празме́рна павыша́ць [павялі́чваць]; узніма́ць, нагання́ць (*цэны*); надбудо́ўваць (*плаціну*)

**Überhőhung** *f* -, -en празме́рнае павышэ́нне [павелічэ́нне]

**überhólen I** *vt* 1) пераганя́ць, апярэ́джваць 2) рамантава́ць (*матор, пакой*)

**überholen II** *vt* перапраўля́ць (*на свой*

*бераг, на свой бок*)

**überhólt** *a* састарэ́лы; ***~e Nórmen*** састарэ́лыя нóрмы

**Überhólung** *f* -, -en 1) (бягу́чы) рамóнт 2) *тэх.* апярэ́джанне, абгóн

**überhö́ren** *vt* 1) недачу́ць, прапусцíць мíма вушэ́й 2) правяра́ць (*урок*)

**überirdisch** *a* 1) незямны́ 2) звышнатура́льны

**überkandidelt** *a разм.* пыхлíвы, фанабэ́рысты

**überkippen 1**. *vt* перакулíць, абярну́ць **2.** *vi* (s) губля́ць [тра́ціць] раўнава́гу; параку́львацца, абарóчвацца

**überklében** *vt* (*mit D*) заклéйваць (*што-н. чым-н.*), наклéйваць (*зверху на што-н.*)

**Überkleid** *n* -(e)s, -er (вéрхняя) вóпратка

**überkléttern** *vt* перала́зіць (*цераз што-н.*)

**überklíngen*** *vt* заглуша́ць, забіва́ць (*пра гук*)

**überkochen** *vi* (*s*) 1) перакіпа́ць 2) быць запа́льчывым; ***er kocht leicht über*** ён вéльмі запа́льчывы

**überkómmen*** *vt* 1) ахóпліваць, авалóдваць (*пра пачуцці*); ***es überkómmt mich heiß*** мянé кíдае ў гара́чку 2) (*von D*) атры́млíваць у спа́дчыну (*што-н. ад каго-н.*)

**überkriechen*** *vi* (*s*) перала́зіць

**überkrústen** *vt* 1) пакрыва́ць кóркай [на́кіпам] **2. ~, sich** пакрыва́цца кóркай [стру́пам, на́кіпам]

**überkúgeln** *vi* (s) *i* **~, sich** перакулíцца, пакацíцца кулём

**überláden*** **I** *vt* празмéрна нагружа́ць, перагружаць; ***sich (D) den Mágen ~*** набíць сабé стра́ўнік

**überladen*** **II** *vt* 1) перагружа́ць (*тавары*) 2) перасаджваць (*пасажыраў*) 3) *эл.* перазараджа́ць акумуля́тар

**überláden III** *a* перагру́жаны

**Überládung** *f* -, -en перагру́зка, празмéрная нагру́зка

**überlágert** *a* напластава́ны

**Überlágerung** *f* -, -en напластава́нне

**Überlandflug** *m* -(e)s, -flüge *ав.* палёт на далёкасць

**Überlandleitung** *f* -, -en электраперада́ча на далёкую адлéгласць

**Überlandverkehr** *m* -s *чыг.* шляхí знóсін на далёкую адлéгласць

**überlang** *a* зана́дта [празмéрна] дóўгі

**Ǘberlänge** *f* -, -n зана́дта вялíкая даўжыня́ [адлéгласць]

**überlassen*** **I** *vt разм.* пакіда́ць, прыхóўваць, зберага́ць

**überlássen*** **II 1.** *vt* 1) уступа́ць, аддава́ць, прада́ць 2) дава́ць (*магчымасць, права, дазвол і г.д.*); дазваля́ць; ***er hat es mir ~ zu entschéiden*** ён даў мне магчы́масць [пра́ва] вырaша́ць; ***sich (D) selbst ~ sein*** быць пакíнутым сам на сябé 3) перадава́ць, давяра́ць (*работу, хворага і г.д.*) **2. ~, sich** (*D*) аддава́цца (*развaжанням, адчаю і г.д.*)

**Überlast** *f* -, -en лíшні груз [ця́жар], лíшняя вага́

**überlásten** *vt* (*mit D*) перагружа́ць, празмéрна нагружа́ць, зава́льваць (*чым-н.*)

**Überlástung** *f* -, -en перагру́зка (*тс. пера н.*)

**überlaufen*** **I** *vi* (s) 1) перáліва́цца (*цераз край*) (*пра вадкасць, колер.*) 2) (*zu D*) перабяга́ць, перахóдзіць (*да каго-н.*)

**überláufen*** **II** *vt* **1.** *vt* 1) абміна́ць, абыхóдзіць (*каго-н.*); не лічы́цца (*з кім-н., з чым-н.*) 2) прабяга́ць вачы́ма 3) дакуча́ць, назаля́ць (*каму-н.*); абіва́ць (*чые-н.*) парóгі 4) перапа́ўняць (*напр., магазіны*) 5) ахапля́ць, апанóўваць; ***Angst überláuft mich*** мянé бярэ́ страх; ***es überláuft mich kalt*** мянé дры́жыкі бяру́ць **2. ~, sich** набéгацца да стóмы

**Ǘberläufer** *m* - s, - 1) перабéжчык 2) *паляўн.* малады́ дзік

**überlaut** *a* 1) зана́дта гу́чны 2) даку́члíвы, назóйлівы

**überlében 1.** *vt* 1) перажы́ць (*чалавека, славу*) 2) перажы́ць, зазна́ць, паранéсці 3) перажы́ць, дажы́ць, вы́жыць **2. ~, sich** аджы́ць; ***das hat sich überlébt*** гэ́та аджылó свой век

**Überlébende** *sub m*, *f* -n, -n які́ застаўся жывы́, якая засталáся жыва́я

**überlébt** *a* аджы́лы, састарэ́лы
**überlegen I** *vt* (*über A*) *разм.* 1) кла́сці, палажы́ць (*што-н. на што-н.*) 2) накі́нуць (*паліто*)
**überlégen II** *vt, часцей* ***sich (D)*** ~ абду́мваць, узва́жаць, меркава́ць; ***gut überlégt*** до́бра пра́думана
**überlégen III 1.** *a* (*D an D – каго-н. у чым-н.*) 1) які́ пераўзыхо́дзіць (*у чым-н.*); ***j-m an Kraft ~ sein*** пераўзыхо́дзіць каго́-н. у сі́ле 2) напы́шлівы, фанабэ́рысты, які́ глядзі́ць звысоку; ***ein ~es Lächeln*** пага́рдлівая ўсме́шка **2.** *adv* з вялі́кай перава́гай, упэ́ўнена; ~ ***in Führung sein*** ве́сці (гульню́) з вялі́кай перава́гай
**Überlégenheit** *f* - (*an D, über A*) перава́га (*у чым-н.*)
**Überlégung** *f* -, -en развaжа́нне, ро́здум, разва́га, меркава́нне; ***mit*** ~ з наме́рам, абду́мана; ***bei näherer*** ~ грунто́ўна абду́маўшы [узва́жыўшы]
**überleiten** *vt* переваво́дзіць, перано́сіць; ***zum nächsten Punkt des Prográmms*** ~ перахо́дзіць да насту́пнага пу́нкту прагра́мы
**Überleitung** *f* -, -en *чыг.* 1) перавóд на другу́ю лі́нію 2) перахо́д (*да наступнага пункту парадку дня і г.д.*)
**überlésen*** **1.** *vt* 1) прагля́дваць, бе́гла прачы́тваць 2) прапуска́ць, праглядзе́ць чыта́ючы **2. ~, sich** на́дта мно́га чыта́ць
**überlíefern** *vt* 1) выдава́ць (*каго-н.*); ***j-n dem Feind*** ~ выдава́ць каго́-н. во́рагу 2) перадава́ць (*з пакалення ў пакаленне*)
**Überlíeferung** *f* -, -en 1) вы́дача, перада́ча 2) пада́нне, трады́цыя
**überlísten** *vt* перахітры́ць
**überm** *разм.* = über dem
**Übermacht** *f* - перава́га (сіл); ***der ~ erlíegen**** уступі́ць пераважа́ючай сі́ле; ***erdrückende*** ~ зна́чная [вялі́кая] перава́га
**ű̈bermächtig 1.** *a* магу́тны **2.** *adv* ве́льмі, надзвы́чай, надзвыча́йна
**übermálen** *vt* 1) зафарбо́ўваць, зама́зваць 2) рэтушава́ць; паднаўля́ць, падпраўля́ць (*карціну*)
**übermánnen** *vt* адо́льваць, перамага́ць; ***der Zorn übermánnte ihn*** ён раззлава́ўся
**Übermantel** *m* -s, -mäntel плашч
**Übermaß** *n* -es, -e (*von, an D*) лі́шак (*чаго-н.*); ***álles im ~ háben*** мець усяго́ ўдо́сталь; ***zum ~ des Glücks*** для паўнаты́ шча́сця
**ű̈bermäßig 1.** *a* празме́рны **2.** *adv* (за)на́дта
**Übermensch** *m* -en, -en звышчалаве́к, надчалаве́к
**übermenschlich** *a* звышчалаве́чны, надчалаве́чны, нечалаве́чны
**übermítteln** *vt* перадава́ць, перасыла́ць
**Übermíttlung** *f* -, -en перада́ча, перасы́лка
**übermorgen** *a* паслязаа́ўтра ◊ ***ja, ~!*** *разм.* ≅ пасля́ до́жджыку ў чацве́р
**übermű̈den 1.** *vt*ператамля́ць **2. ~, sich** ператамля́цца
**Übermű̈dung** *f* -, -en ператамле́нне
**Übermut** *m* -(e)s 1) запа́л, заўзя́тасць; свaво́льства; ***aus*** ~ з гарэ́злівасці [свaво́льства] 2) пага́рда, фанабэ́рыстасць, ганары́стасць; ***j-m den ~ benéhmen**** збі́ць пы́ху з каго́-н. ◊ ~ ***tut sélten gut*** ≅ фанабэ́рыстасць да дабра́ не даво́дзіць
**ű̈bermütig** *a* 1) заця́ты, заўзя́ты, свaво́льны 2) фанабэ́рысты, ганары́сты; ***wérde nicht ~ !*** не зазнава́йся!
**übernáchten** *vi* (пера)начава́ць
**ű̈bernächtig** *a* 1) які́ праця́гваецца ўсю ноч 2) бле́дны [сто́млены] ад бяссо́нніцы
**Übernáchtung** *f* -, -en начо́ўка
**Übernahme** *f* -, -n 1) прыём(ка) (*заказу, новабудоўлі*) 2) узя́ццe, прыня́ццe на сябе́
**ű̈bernatürlich** *a* наднатура́льны, звышнатура́льны
**ű̈bernehmen*** **I** *vt* накі́нуць (паліто́); ***das Gewéhr*** ~ браць стрэ́льбу [вінто́ўку] на плячо́
**übernéhmen*** **II 1.** *vt* 1) атрыма́ць, прыня́ць (*груз, заказ і г.д.*) 2) браць на сябе́ (*кіраўніцтва, адказнасць*) 3) перайма́ць (*манеры*) **2. ~, sich** 1) (*in D*)

не вéдаць мéры (*у ядзе*) 2) (*bei D*) надарвáцца (*ад работы*)

**überordnen** *vt* стáвіць вышэ́й за íншага; ***er ist mir übergeordnet*** ён мой начáльнік

**überparteilich** *a* беспарты́йны, надпарты́йны

**überpflánzen I** *vt* (*mit D*) засáджваць (*што-н. раслінамі*)

**űberpflanzen II** *vt* перасáджваць (*расліны*)

**Überpflánzung** *f* -, -en перасáдка (*раслін*)

**überpflűgen** *vt a* пераарáць

**überpínseln** *vt* замалёўваць

**Überplanbestand** *m* -(e)s, -stände звышплáнавая наяўнасць

**űberplanmäßig** *a* 1) звышплáнавы, звыш плáна 2) *вайск.* нечаргóвы; датэрмінóвы; звышштáтны

**Überproduktion** *f* -, -en перавытвóрчасць

**Überprofit** *m* -(e)s, -e *эк.* звышпрыбы́так

**überprűfen** *vt* спрáўджваць, правярáць (*дадаткова*), пераправерыць

**Überprűfung** *f* -, -en перагля́д, (дадаткóвая) правéрка [рэвíзія], чы́стка

**überquellen*** *vi* (s) біць крыніцай, пераліваáцца цéраз край

**überquér** *adv* насу́праць, наўскóс, наўскася́к

**überquéren** *vt* перасякáць (*вуліцу*)

**überragen** *vi* выдавáцца, вытыркáцца, выступáць

**überrágen** *vt* 1) узвышáцца (*над чым-н.*), панавáць (*над мясцовасцю*) 2) (*an D*) перавышáць (*каго-н. у чым-н.*); ***an Áusdauer ~*** перасягáць [перавышáць] (*каго-н.*) у вы́трымцы

**überrágend** *a* першарáдны, вялікі (*пра значэнне*)

**überráschen** *vt* (*mit D, durch A*) 1) здзіўля́ць, урáжваць (*чым-н.*); ***ich war aufs ángenehmste überráscht*** гэ́та было́ для мяне́ прыéмнай нечакáнасцю; ***er überráschte uns durch séinen Besúch*** ягó візіт быў для нас нечакáнасцю; ***ich lásse mich gern ~*** я люблю́ сюрпры́зы 2) заспéць знянáцку; ***j-n bei frischer Tat ~*** заспéць кагó-н. на мéсцы злачы́нства 3) *вайск.* ашаламíць, нанéсці нечакáны ўдáр

**überráschend** *a* 1) нечакáны, раптóўны 2) здзіўля́ючы, сенсацы́йны

**Überráschung** *f* -, -en 1) неспадзявáнка, нечакáнасць, сюрпры́з; ***~en sind fällig*** магчы́мы (усякія) нечакáнасці; ***zu méiner größten ~*** на маё велізáрнае здзіўлéнне; ***j-m éine ~ beréiten*** рыхтавáць сюрпры́з камý-н. 2) *вайск.* раптóўнасць

**überréchnen** *vt* пералíчваць, разлíчваць, калькулявáць

**überréden** *vt* (*zu D*) угавóрваць, перакóнваць (*каго-н. зрабіць што-н.*); ***er ist schwer zu ~*** ягó ця́жка ўгавары́ць [перакана́ць]

**Überrédung** *f* -, -en угавóры, перакóнванне; ***etw. durch ~ erlángen*** дасягнýць чагó-н. шля́хам угавóраў

**Überrédungsgabe** *f* - здóльнасць перакóнваць íншых

**Überrédungskraft** *f* - сíла перакана́ння

**überreich** *a* вéльмі багáты, багáты (*an D – на што-н., чым-н.*)

**überréichen** *vt* перадавáць, уручáць; паднóсіць, дары́ць

**überreichlich 1**. *a* багáты, шчóдры **2.** *adv* багáта, шчóдра

**Überréichung** *f* -, -en перадáча, уручэ́нне

**überreif** *a* пераспéлы

**überréifen I** *vi* (s) пераспéць

**überréifen II** *vi* (s) пакрывáцца íнеем [шэ́ранню]

**überréizen** *vt* празмéрна раздражня́ць

**überrénnen*** *vt* 1) збіць з ног 2) змяць, знíшчыць (*войскі*) 3) заня́ць, захапíць (*горад, пазіцыю*)

**Überrest** *m* -(e)s, -e 1) рэ́шта, астáтак 2) *pl* рэ́шткі, перажы́ткі; ***die stérblichen ~e*** рэ́шткі, астáнкі

**überríeseln** *vt* струмéніць, струмéніцца (*пра ваду*); ***es überríeselt mich heiß und kalt*** мяне́ кíдае то ў гарáчку, то ў хóлад

**Überrock** *m* -(e)s, -röcke 1) сурдýт 2) палітó

**überróllen** *vt* абагнáць (*каго-н., што-н.*),

праéхацца (*над чым-н., па чым-н.*)
**überrúmpeln** *vt* заспéць [захапíць] зняняцку; ***sich nicht ~ lássen**** не даць заспéць сябé знянáцку; ***j-n mit séinem Besúch*** ~ нечакáна з'явíцца да кагó-н. у гóсці
**Überrúmp(e)lung** *f* -, -en напáд знянáцку, нечакáны напáд
**übers** *разм.* = über das
**übersä́en** *vt* (*mit D*) абсéйваць (*чым-н.*)
**übersálzen** *vt* перасалíць
**übersatt** *a* сы́ты па гóрла
**übersä́ttigen 1.** *vt* перанасычáць **2. ~, sich** (*mit, an D*) задавóліцца, нацéшыцца (*чым-н.*)
**Übersä́ttigung** *f* -, -en 1) перанасычэ́нне (*раствору*) 2) пéрасыць, сыць
**Überschallflugzeug** *n* -(e)s, -e звышгукавы́ самалёт
**Überschallgeschwindigkeit** *f* - звышгукавáя хýткасць
**überschátten** *vt* зацяня́ць, кíдаць цень (*на што-н.*)
**überschä́tzen** *vi* пераацэ́ньваць
**Überschä́tzung** *f* -, -en пераацэ́нка
**Überschau** *f* - агля́д
**überscháubar** *a* які́ магчы́ма аглéдзець, аглядáльны
**überscháuen** *vt* аглядáць (*тс. перан.*)
**ű́berschäumen** *vi* (s) (пéнячыся) пералівáцца цéраз край; біць крынíцай
**Überschicht** *f* -, -en звышурóчная [дадаткóвая] рабóта [змéна]
**überschießen*** **I** *vi* (s) 1) пералівáцца (*цераз што-н.*) 2) быць залíшне; быць з лíшкам
**überschíeßen*** **II** *vt вайск.* страля́ць паўзвéрх [з пералётам], страля́ць цéраз галавý (*сваіх войскаў*)
**überschießend** *a* залíшні, празмéрны
**überschláfen*** *vt* перачакáць да рáніцы (*з якім-н. рашэннем*)
**Überschlag** *m* -(e)s, -schläge 1) прыблíзны каштары́с 2) *спарт*. пераварóт 3) *эл.* прабóй, прабівáнне ізаля́цыі
**überschlagen*** **I 1.** *vi* (s) 1) перахóдзіць з аднагó стáну ў другí 2) перавéшвацца, перакýльвацца 3) праскóкваць (*пра іскры*) 4) ламáцца (*пра голас*) **2.** *vt* накíнуць (*хустку*); ***die Béine*** ~ паклáсці [закíнуць] нагý на нагý
**überschlágen*** **II 1.** *vt* 1) прапускáць (*старонку*) 2) складáць каштары́с, разлíчваць **2.** ~, **sich** 1) перавярнýцца, абярнýцца 2) залівáцца (*пра салаўя*)
**Überschlaglaken** *n* -s, - падкóўдранік; чахóл на кóўдру
**überschmíeren** *vt* замáзваць
**überschnappen** *vi* (s) 1) заскóкваць (*пра замок*); зрывáцца (*пра голас*) 2) *разм.* звар'яцéць
**überschnéiden*** **1.** *vt* перасякáць **2. ~, sich** перасякáцца
**überschreiben*** **I** *vt* 1) пісáць (*паўзверх чаго-н.*) 2) перапíсваць (*у другую кнігу, на другі лік*)
**überschréiben*** **II** vt 1) рабíць пóдпіс (*на чым-н.*); падпíсваць (*што-н.*), давáць загалóвак (*чаму-н.*) 2) (*j-m*) перапíсваць (*маёмасць на чыё-н. імя*) 3) перадавáць (*заказ*)
**überschréien*** *vt* перакрычáць
**überschréiten*** *vt* 1) перахóдзіць, пераступáць; ***die Grénze*** ~ перахóдзіць мяжý (*тс. перан.*) 2) перавышáць (*уладу*); парушáць 3) перавыкóнваць (*нормы*)
**Überschréitung** *f* -, -en 1) перахóд 2) перавыканáнне 3) перавышэ́нне, парушэ́нне
**Überschrift** *f* -, -en нáдпіс, загалóвак
**Überschuh** *m* -(e)s, -e галёш, бóцік
**Überschuss** *m* -es, -schüsse 1) лíшак (*an D – тавараў і г.д.*; (*G*) *– сіл, пачуццяў*); рэ́шта (*сумы*) 2) павелічэ́нне, рост (*у параўнанні з чым-н.*); ***der ~ der Éinnahmen über die Áusgaben*** перавышэ́нне дахóдаў над выдáткамі
**ű́berschüssig** *a* лíшні
**ű́berschütten I** *vt* 1) перасыпáць 2) *разм.* разлівáць (*ваду*)
**überschű́tten II** *vt* 1) засыпáць, закідáць, закíдваць 2) (*mit D – чым-н.*) абсыпáць; асыпáць (*тс. перан.*); ***j-n mit Vórwürfen*** ~ асыпáць кагó-н. папрóкамі
**Überschwang** *m* -(e)s лíшак, празмéр-

насць, багáцце

**ű̈berschwänglich** *a* празмéрны, бязмéрны (*пра радасць і г.д.*); экзальтавáны (*пра словы*)

**Ű̈berschwänglichkeit** *f* -, -en празмéрнасць, бязмéрнасць, экзальтавáнасць

**überschwappen** *vt разм.* пралівáць цéраз край

**überschwellen*** *vi* (s) перапаўня́цца, пералівáцца; ***vor Stolz [Fréude] ~*** быць прася́кнутым гóрдасцю [рáдасцю]

**überschwémmen** *vt* 1) залівáць, затапля́ць 2) наводня́ць (*рынак таварамі*)

**Überschwémmung** *f* -, -en разлíў, павóдка; затаплéнне; ***die Stadt wúrde von éiner ~ héimgesucht*** у гóрадзе адбылáся павóдка

**überschwer** *a* 1) нáдта [празмéрна] ця́жка 2) ця́жкі, прыгнятáльны

**überschwímmen*** *vt* пераплывáць

**Übersee** *f* - *inv* (*ужываецца без артыкля*) заакія́нскія краíны; ***in*** ~ за акія́нам; ***aus*** ~ з-за акія́на

**Überseedampfer** *m* -s, - акія́нскі парахóд, лáйнер

**übersee¦isch** *a* заакія́нскі, замóрскі, трансатланты́чны

**überséhbar** *a* аглядáльны, спасцігáльны (*і г.д.*)

**überséhen*** *vt* 1) акíдваць вóкам, азірáць 2) недаглéдзець, прапусцíць 3) *перан.* глядзéць скрозь пáльцы (*на што-н.*); (*bei D*) не заўважáць (*чыіх-н. памылак і г.д.*)

**übersénden*** *vt* перадавáць (*вестку*); перасылáць

**Übersénder** *m* -s, - адпрáўшчык

**Überséndung** *f* -, -en перасы́лка

**übersétzbar** *a* які́ мóжна перакласці, які́ паддаéцца перакладу (*з адной мовы на другую*)

**übersetzen I 1.** *vt* (*über A*) перапраўля́ць, перавóзіць (*каго-н., што-н. на другі бок*) **2.** *vi* (s) перапраўля́цца (*на другі бок*)

**übersétzen II** *vt* перакладáць (*на іншую мову*); ***ins Déutsche ~*** перакласці на нямéцкую мóву 2) выкладáць (*у другой форме*); ***ein Gedícht in Prósa ~*** вы́класці верш у прóзе

**Übersétzer** *m* -s, - перакладчык

**Übersetzmittel** *pl* перапрáвачныя срóдкі

**Übersétzung** *f* -, -en 1) переклáд (*на іншую мову*) 2) *тэх.* перадáча, трансмíсія

**Übersicht** *f* -, -en 1) агля́д (*über A – чаго-н.*); ***éine ~ über etw. gében**** даць агля́д чагó-н. 2) від (*über A – на што-н.*) 3) гарызóнт, кругагля́д; ***éine gewísse ~ háben*** мець пэ́ўны [давóлі шырóкі] кругагля́д; ***es fehlt ihm an ~*** у ягó вýзкі кругагля́д; ***sich (D) éine ~ verscháffen*** склáсці сабé (агýльнае) уяўлéнне (*аб чым-н.*); ***die ~ verlíeren**** згубíць [стрáціць] арыентáцыю; ***die ~ ist erschwért*** гэ́та абцяжáрвае [ускладня́е] арыентáцыю

**übersichtig** *a* дальназóркі

**übersichtlich** *a* 1) нагля́дны, навóчны, я́сны 2) агля́дны (*пра мясцовасць*)

**Übersichtlichkeit** *f* - 1) нагля́днасць, я́снасць, зразумéласць 2) агля́д

**übersiedeln** [übersíedeln] *vi* (*s*) перасяля́цца, перабірáцца

**Übersied(e)lung** *f* -, -en перасялéнне

**übersílbern** *vt* (па)серабры́ць

**Übersílberung** *f* - серабрэ́нне

**übersinnlich** *a* звышнатурáльны, звышчуллíвы, трансцэндэ́нтны

**Übersoll** *n* - *і* -s, - *і* -s 1) перавыканáнне задáння 2) перавы́кананае задáнне

**überspánnen** *vt* 1) абця́гваць 2) накрывáць, зацягваць; пераця́гваць (*струну і г.д.*); ***die Fórderungen ~*** стáвіць занáдта высóкія патрабавáнні; ***den Bógen ~*** *перан.* перагнýць пáлку

**überspánnt** *a* 1) занáдта мóцна нацягнуты 2) перабóльшаны, празмéрны 3) экстравагáнтны, дзівáцкі

**Überspánntheit** *f* -, -en 1) перабóльшванне 2) экстравагáнтнасць, эксцэнтры́чнасць; шалéнства, дзівáцтва

**Überspánnung** *f* -, -en перанапрýжанне, звышнапрýжанне (*тс. эл., тэх.*)

**überspíelen** *vt* 1) сыгрáць [прайгрáць] яшчэ́ раз (*музычную п'есу*) 2) *спарт.*

перагуля́ць (*свайго праціўніка*)

**überspítzen** *vt* 1) зана́дта завастра́ць 2) *перан.* перабо́льшваць, утры́раваць, перабіра́ць (*у чым-н.*); перагіна́ць па́лку

**überspítzt** *a* 1) на́дта во́стры 2) *перан.* перабо́льшаны, утры́раваны

**überspringen*** **I** *vi* (s) (*von D zu D*) 1) пераско́кваць (*з аднаго месца на другое*) 2) *перан.* пераско́кваць (*ад чаго-н. да чаго-н.*); ***auf ein ánderes Théma*** ~ перайсці́ на другу́ю тэ́му

**überspríngen*** **II** *vt* 1) пераско́кваць (*цераз што-н.*) 2) прапуска́ць (*пры чытанні*)

**übersprudeln** *vi* (*h, s*) біць крыні́цай (*тс. перан.*)

**überstaatlich** *a* наддзяржа́ўны

**überstéhen*** **I** *vi* (s) вытры́млiваць, пераадо́льваць (*цяжкасці*); пераживáць, перано́сіць; ***die Gefáhr*** ~ устая́ць пе́рад небяспе́кай

**überstehen*** **II** *vi* высо́ўвацца, выступа́ць

**übersteigen*** **I** *vi* (s) 1) перала́зіць, пераса́джваць 2) выступа́ць з берагóў (*пра раку*)

**überstéigen*** **II** *vt* 1) перахо́дзіць (*чераз што-н.*) 2) пераадо́льваць 3) перавыша́ць (*выдаткі, чаканні*); ***das überstéigt séine Kräfte*** гэ́та звыш яго́ сіл

**überstéigern** *vt* перабо́льшваць

**überstéigert** *a* перабо́льшаны, завы́шаны

**Überstéigerung** *f* -, -en перабо́льшванне

**überstímmen** *vt* 1) заглуша́ць 2) перамага́ць бо́льшасцю галасо́ў

**überstréichen*** *vt* накла́дваць фа́рбу (*на што-н.*), фарбава́ць

**überstréuen** *vt* пасыпа́ць, рассыпа́ць

**ǘberströmen** **I** *vi* (s) пералiва́цца це́раз край; ***von Lob*** ~ рассыпа́цца ў пахвала́х

**überstrǿmen** **II** *vt* затапля́ць, заліва́ць

**ǘberstülpen** *vt* накі́нуць (*што-н.*); (*über A*) накры́ць (*чым-н. што-н.*); ***den Hut*** ~ насу́нуць (нядба́йна) капялю́ш

**Überstunden** *pl* звышуро́чная пра́ца; ~ ***máchen*** працава́ць звышуро́чна

**überstǘrmen** *vt перан.* кі́дацца, бу́рна напада́ць (*на каго-н.*); ***er überstǘrmte ihn mit Frágen*** ён закі́даў яго́ пыта́ннямі

**überstǘrzen** **1.** *vt* зана́дта спяша́цца (*з чым-н.*) **2.** **~, sich** 1) дзе́йнічаць неабду́мана; ***die Eréignisse ~ sich*** падзе́і развіва́юцца ху́тка 2) набяга́ць адна́ на адну́ (*аб хвалях*); ху́тка змяня́ць адзі́н аднаго́; ***überstǘrze dich nicht!*** не спяша́йся!

**überstǘrzt** *a* 1) неабду́мана 2) на́дта паспе́шліва

**Überstǘrzung** *f* -, -en 1) паспе́шлівасць 2) неабду́манасць

**ǘbersüß** *a* пры́кры, пры́тарны (*тс. перан.*)

**übertáuben** *vt* заглуша́ць

**übertǿlpeln** *vt* (*mit D*) абду́рваць, перахітры́ць (*каго-н. чым-н.*)

**übertǿnen** *vt* заглуша́ць

**Übertrag** *m* -(e)s, -träge перано́с (*у розн. знач.*)

**übertrágbar** *a* 1) перано́сны 2) які́ мо́жна перакла́сці (*з адной мовы на другую*), перакладáльны 3) зара́зны (*пра хваробу*)

**übertrágen*** **I** *vt* 1) перано́сіць 2) перадава́ць, трансль́іраваць; ***durch den Rúndfunk*** ~ трансл́іраваць па ра́дыё 3) усклада́ць (*на каго-н.*), даруча́ць (*каму-н.*) 4) переклада́ць (*на іншую мову*); ***in Musík*** ~ перакла́сці на му́зыку

**übertrágen** **II** *a* перано́сны, фігура́льны

**Überträger** *m* -s, - *мед.* перано́счык

**Übertrágung** *f* -, -en 1) перано́с 2) перакла́д (*на іншую мову*) 3) трансля́цыя, перада́ча 4) заражэ́нне

**Übertrágungsweite** *f* -, -n *радыё* да́льнасць перада́чы

**Übertrágungswelle** *f* -, -n *тэх.* перада́тачны вал

**übertréffen*** *vt* (*an D, durch A*) перавыша́ць (*каго-н., што-н. у чым-н.*); перавыко́нваць но́рму; перагна́ць, перасягну́ць (*каго-н.*); ***j-n, etw. um víeles*** ~ перасяга́ць каго́-н., што-н. у мно́гім

**übertréiben*** *vt* перабо́льшваць, утры́раваць

**Übertréibung** *f* -, -en перабо́льшанне, утры́раванне

**übertreten*** **I** *vi* (s) 1) вы́йсці з берагóў 2) (*zu D, in A*) перайсці́ (*у іншую арганізацыю, на чый-н. бок*)

**übertréten*** **II** *vt* 1) пераступі́ць (*межы*) 2) пару́шыць (*закон*)

**Übertrétung** *f* -, -en парушэ́нне (*закону і г.д.*)

**übertríeben** *a* перабóльшаны

**Übertritt** *m* -(e)s, -e перахóд; вы́хад (*на пенсію*)

**übertrúmpfen** *vt* зацьмі́ць, перасягну́ць (*каго-н.*)

**übertun*, sich** *разм.*ператамі́цца, перанапру́жыцца

**übertǘnchen** *vt* 1) зафарбóўваць 2) прыхарóшваць, зама́зваць (*недахопы*)

**übervö́lkert** *a* перанасéлены

**Übervö́lkerung** *f* -, -en перанасялéнне

**übervoll** *a* перапóўнены (*тс.перан.*)

**übervórteilen** *vt* аблі́чваць; абвáжваць; абмéрваць; падмáнваць, ашу́кваць; абдзяля́ць

**überwáchen** *vt* сачы́ць, наглядáць (*за чым-н., за кім-н.*); кантралявáць

**Überwáchung** *f* -, -en нагля́д; кантрóль; інспéкцыя

**Überwáchungsdienst** *m* -(e)s, -e слу́жба нагля́ду; нагля́д, назірáнне; кантрóльная камі́сія

**überwä́ltigen** *vt* 1) (пера)адóльваць, браць верх (*над кім-н.*) 2) адóлець (*пра сон, зморанасць*); авалóдаць, ахапі́ць (*пра пачуцці*) 3) узру́шваць, хвалявáць (*пра відовішча*)

**überwä́ltigend** *a* 1) перавáжны 2) надзвычáйны, ашаламля́льны

**Überwä́ltigung** *f* -, -en перамóга (*G – над кім-н., чым-н.*)

**Überwásserschiff** *n* -(e)s, -e надвóдны карабéль

**überwechseln** *vi* (s) (*zu D, auf A*) перахóдзіць (*у якую-н. арганізацыю, на другую работу*)

**Überweg** *m* -(e)s, -e *чыг.* перахóд цéраз чыгу́нку [цéраз каляю]

**überwéisen*** *vt* 1) перавóдзіць (*грошы*) 2) перадавáць, накірóўваць; ***den Kránken éinem Fáchmann ~*** накіравáць хвóрага да спецыялі́ста

**Überwéisung** *f* -, - en 1) перавóд (*грошай*) 2) перадáча, адсы́лка, накіравáнне (*каго-н. куды-н.*)

**überwerfen*** *vt* 1) накі́нуць (*вопратку*) 2) перакі́дваць

**überwérfen*, sich** (*mit D*) (па)свары́цца (*з кім-н.*)

**überwérten** *vt* пераацэ́ньваць, ацэ́ньваць занáдта высóка

**Überwértung** *f* -, -en пераацэ́нка (*тс. перан.*); завы́шаная цанá

**überwíegen*** **1.** *vt* перавышáць **2.** *vi* перавawáць (*пра колькасць, уплыў*)

**überwíegend** *a* перавáжны, дамі́ну́ючы

**überwínden*** **1.** *vt* пераадóльваць, перамагчы́ **2. ~, sich** перамагчы́ сябé

**Überwíndung** *f* -, -en 1) пераадóленне, ліквідáцыя 2) намагáнне; ***es kóstet ihn gróße [viel] ~*** гэ́та кашту́е ямý вялі́кіх намагáнняў

**überwíntern** *vi* (пера)зімавáць

**Überwínterung** *f* -, -en зімóўка

**überwö́lben** *vt* утварáць скляпéнне (*над чым-н.*); накрывáць скляпéннем (*што-н.*)

**überwúchern** *vt* 1) разрастáцца 2) заглу́шаць (*пра пустазелле*)

**Überwurf** *m* -(e)s, -würfe 1) пóкрыва, накі́дка, пакрывáла 2) *тэх.* бу́кса, уту́лка 3) кідóк цéраз сябé (*барацьба*)

**Überzahl** *f* - кóлькасная перавáга; ***wir befínden* uns in der ~*** нас бóлей, кóлькасная перавáга на нáшым бакý

**überzáhlen** *vt* пераплаці́ць

**ǘberzählig** *a* лі́шні, звышкамплéктны

**überzéichnen** *vt* перабóльшваць

**Überzeit** *f* -, -en 1) звышурóчны час 2) лі́шні час

**überzeitlich** *a* вéчны, які́ не залéжыць ад чáсу

**überzéugen** **1.** *vt* (*von D*) перакóнваць (*каго-н. у чым-н.*) **2. ~, sich** перакóнвацца

**überzéugend** *a* перакана́ўчы

**Überzéugung** *f* -, -n (*von D*) перакана́нне (*у чым-н.*); ***die ~ gewínnen**** перакана́ц-

ца, упэ́ўніцца; ***von der ~ durchdrúngen*** глыбо́ка пераканáны, у пóўным пераканáнні

**Überzéugungskraft** *f* - сіла пераканáння, пераканáўчасць

**überziehen*** **I 1.** *vi* (s) пераязджáць, перабірáцца **2.** *vt* апранáць (*што-н. наверх чаго-н.*)

**überzíehen*** **II 1.** *vt* абцягваць, накрывáць (*тканінай і г.д.*); ***das Bett frisch ~*** паслáць свéжую бялізну; ***mit Rost überzógen*** пакры́ты іржо́й **2. ~, sich** (*mit D*) пакрывáцца, зацягвацца (*чым-н.*)

**Überzieher** *m* -s, - паліто́ (*мужчынскае*)

**überzǘchtet** *a перан.* нежыццяздо́льны, слабы́; занáдта вы́танчаны

**Überzug** *m* -(e)s, - züge 1) чахо́л, нáвалачка 2) *тэх.* пакры́шка, верх

**üblich 1.** *a* звычáйны, ужывáльны; ***so ist es ~*** так завéдзена, так прынята **2.** *adv* звычáйна; ***wie ~*** як звычáйна

**Ú-Boot** *скар. ад* **Únterseeboot** *n* -(e)s, -e падво́дная ло́дка

**übrig 1.** *a* 1) астáтні, які́ застаéцца; ***im Übrigen*** аднáк, зрэ́шты 2) лі́шні; ***ein Übriges tun**** зрабі́ць больш чым трэ́ба; ***ich hábe (nicht) viel für ihn ~*** ён мне (не) вéльмі даспадо́бы [сімпаты́чны]; ***~ bléiben**** заставáцца (*пра грошы і г.д.*); ***~ lássen**** пакідáць (*што-н. як астатак*) **2.** *adv* звычáйна

**übrigens** *adv* аднáк, зрэ́шты

**Übung** *f* -, -en 1) практыкавáнне, трэніро́ўка; прáктыка; семінáр, семінáрскія заняткі (*у ВНУ*) 2) практыкавáнне (*напр., па граматыцы і г.д.*) 3) нáвык, звы́чка; ***éinige ~ háben in etw. (D)*** мець некато́ры нáвык у чым-н., набі́ць руку́ на чым-н.; ***aus der ~ kómmen**** развучы́цца, стрáціць нáвык; ***wíeder in die ~ kómmen**** аднаві́ць нáвык

**Übungsbuch** *n* -(e)es, -bücher збо́рнік практыкавáнняў

**Übungsflug** *m* -(e)s, -flüge трэніро́вачны палёт

**Übungsplatz** *m* -es, -plätze *вайск.* вучэ́бны пляц

**Úfer** *n* -s, - берáг, узбярэ́жжа; ***am ~ gelégen [líegend]*** прыбярэ́жны, размéшчаны на бéразе; ***vom ~ ábstoßen**** адчáліць ад бéрага

**úferlos** *a* бяскрáйні, бязмéжны (*аб прасторы*); бяско́нцы (*пра спрэчкі*)

**Úferstraße** *f* -, -n набярэ́жная

**uff!** *int* ух!

**Úhr** *f* -, -en 1) гадзі́ннік; ***die ~ mit Schlágwerk*** гадзі́ннік з бо́ем; ***die ~ geht nach*** гадзі́ннік адстаé; ***die ~ geht vor*** гадзі́ннік спяшáецца; ***die ~ ist ábgelaufen*** гадзі́ннік спыні́ўся; ***die ~ auf Genáuigkeit überprǘfen*** правéрыць гадзі́ннік 2) гадзі́на (*пры вызначэнні часу*); ***wie viel ~ ist es?, was ist die ~?*** ко́лькі чáсу?; като́рая гадзі́на?; ***Schlag éine ~ nachts*** ро́ўна аднá гадзі́на [у адну́ гадзі́ну] но́чы; ***Punkt fünf ~*** ро́ўна (у) пяць гадзі́н 3) вымярáльны прыбо́р з цыферблáтам

**Úhrenfabrik** *f* -, -en гадзі́ннікавы заво́д

**Úhrenwerkstatt** *f* -, -stätten гадзі́ннікавая майстэ́рня

**Úhrgehäuse** *n* -s, - ко́рпус гадзі́нніка

**Úhrmacher** *m* -s, - гадзі́ншчык, гадзі́ннікавы мáйстар

**Úhrvergleich** *m* -(e)s, -e звéрка гадзі́ннікаў

**Úhrwerk** *n* -s, -e гадзі́ннікавы механі́зм

**Úhrzeiger** *m* -s, - гадзі́ннікавая стрэ́лка

**Úhrzeit** *f* -, -en час (*на гадзінніку*)

**Úhu** *m* -, -s *заал.* пугáч, фі́лін

**Ukraíner** *m* -s, - украі́нец

**ukraínisch** *a* украі́нскі

**Ulán** *m* -en *і* -s, -en *гіст.* улáн

**Ulk** *m* -s, -e жарт, свавo ́льства; ***~ tréiben**** дуры́цца, дурэ́ць

**úlken** *vi* жартавáць

**úlkig** *a* смéшны, пацéшны

**Úlme** *f* -, -n *бат.* вяз

**Úlster** *m* -s, - дэмісезо́ннае (мужчы́нскае) паліто́

**ultimatív** *a* ультыматы́ўны

**Ultimátum** *n* -s, -s *і* -ten ультымáтум

**Ultrakúrzwellen** *pl фіз.* ультракаро́ткія хвáлі

**um 1.** *prp* (*A*) 1) вакóл; ***éine Réise ~ die Welt*** падарóжжа вакóл свéту; ***~ den Tisch (herúm)*** вакóл сталá 2) у, каля́; ***~ zwei Uhr*** у дзве гадзíны 3) на (*пры абазначэнні колькасці, часта пры параўнанні*); ***~ drei Jáhre jünger*** на тры гады́ маладзéйшы 4) за, праз (*аб паслядоўнасці*); ***Wóche ~ Wóche*** ты́дзень за ты́днем 5) за, на (*у абмен*); ***~ zwei Éuro káufen*** купíць за два éўра; ***~ Geld spíelen*** гуля́ць на грóшы; ***~ nichts und wíeder nichts*** ні за што, ні пра што 6) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова*: ***wie steht es ~ ihn?*** як ягó здарóўе? 7): ***~ déinetwillen*** дзéля цябé **2.** *adv*: ***rechts um!*** напрáва! (*каманда*); ***~ und ~*** з усíх бакóў; ***~ sein*** канчáцца, мінáць (*пра час*) **3.** *cj*: ***um…*** (*zu + inf*) (дзéля тагó) каб; ***er kommt, ~ es mítzuteilen*** ён ідзé сюды́, каб гэ́та павéдаміць ◊ ***~ so bésser*** тым лепш; ***~ so mehr*** тым больш [бóлей]

**um**= 1) *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на паварот, абарот, перамяшчэнне, відазмяненне*: úmdrehen паварóчваць; úmziehen* пераязджáць 2) *неаддз. прыстаўка, указвае на акружэнне, абыход, рух вакол*: umflíegen* аблятáць

**úmackern** *vt* пераарáць

**úmändern** *vt* змяня́ць, перарабля́ць

**Úmänderung** *f* -, -en змянéнне, перарóбка, перапрацóўка

**úmarbeiten** *vt* перапрацóўваць, перарабля́ць, выпраўля́ць

**umármen** *vt* абдымáць

**Umármung** *f* -, -en абды́мкі

**Úmbau** *m* 1) -(e)s, -e перабудóва (*дзеянне*); ***die Stadt war im Úm- und Áusbau begríffen*** гóрад перабудóўваўся і пашырáўся 2) -(e)s, -ten перабудавáны дом (*будынак*)

**úmbauen** *vt* перабудóўваць (*тс. перан.*)

**úmbehalten*** *vt* не здымáць (*паліто, хусткі і г.д.*), (з)аставáцца (*у паліто і г.д.*)

**úmbenennen*** *vt* пераймянóўваць

**úmbetten** *vt* 1) праклáсці на íншы лóжак 2) перасцілáць пасцéль

**úmbiegen* 1.** *vt* перагінáць, згінáць **2.** *vi* (s) звярнýць (*з дарогі*)

**úmbilden*** *vt* пераўтварáць, перабудóўваць

**Úmbildung** *f* -, - en пераўтварэ́нне, перабудóва; ***in der ~ begríffen sein*** быць [знахóдзіцца] у стáне перабудóвы

**úmbinden*** *vt* абвя́зваць, завя́зваць (*хустку*); ***éine Krawátte ~*** надзéць гáльштук

**úmblättern** *vt* перагóртваць

**úmblicken, sich** аглядáцца, азірáцца; (*nach D*) аглянýцца (*на каго-н., што-н.*)

**úmbrechen*** *vt* 1) пераламáць, зламáць 2) пераарáць, ускапáць

**úmbringen*** *vt* забівáць; ***sich ~*** налажы́ць на сябé рýкі; *разм.* дабíць сябé

**Úmbruch** *m* -(e)s, -brüche пералóм

**Úmbuchung** *f* -, -en *бухг.* пералічэ́нне

**úmdenken*** *vi* (паступóва) памяня́ць сваé пóгляды

**úmdeuten** *vt* вытлумáчваць (на свой лад); тлумáчыць інáчай [інáкш]

**umdrängen** *vt* тóўпіцца (*вакол каго-н., чаго-н.*); абкружáць (*каго-н., што-н.*)

**úmdrehen** *vt* **1.** паварóчваць; круцíць; ***j-m den Hals ~*** звярнýць шы́ю камý-н. ◊ ***den Spieß ~*** змянíць тáктыку, (самóму) пайсцí ў наступлéнне **2.** **~ sich** паварóчвацца; абарóчвацца; ***er dréhte sich zu mir um*** ён павярнýўся да мянé (твáрам)

**Umdréhung** *f* -, -en паварóт, вярчэ́нне; *тэх*. абарóт, абарачэ́нне

**Úmdruck** *m* -(e)s, -e перадрýк, перадрукóўванне

**úmdrucken** *vt* перадрукóўваць

**umeinánder** *pron rez* 1) адзíн вакóл аднагó 2) адзíн за адны́м

**úmerziehen*** *vt* перавыхóўваць

**Úmerziehung** *f* -, -en перавыхавáнне

**úmfahren* I 1.** *vt* наéхаць (*на каго-н.*), збіць з ног **2.** *vi* (s) éхаць у аб’éзд (*кружным шляхам*)

**umfáhren* II** *vt* аб’язджáць, агінáць

**úmfallen*** *vi* (s) пáдаць, упáсці, (з)валíцца; перакýльвацца, абарóчвацца

**Úmfang** *m* -(e)s, -fänge 1) аб’ём 2) паме́р, разме́р 3) акру́жнасць, абхва́т; ***im vóllen*** ~ у по́ўным паме́ры, по́ўнасцю, зусі́м

**umfángen*** *vt* абдыма́ць, ахапля́ць, абхо́пліваць

**úmfänglich** *a* вялі́кі аб’ёмам

**úmfangreich** *a* шыро́кі, вялі́кі (*у аб’ёме*)

**úmfärben** *vt* пераафарбо́ўваць

**úmfassen I** *vt* устаўля́ць у другу́ю апра́ву [ра́му]

**umfássen II** *vt* 1) ахапля́ць, абдыма́ць 2) змяшча́ць (*у* сабе́); ахо́пліваць (*у дакладзе і г.д.*) 3) *вайск.* ахапля́ць (*праціўніка*)

**umfássend 1.** *a* 1) шыро́кі, вялі́кі, усеабды́мны 2) *вайск.* ахапля́ючы **2.** *adv* шыро́ка; ~ ***gebíldet*** шыро́ка адукава́ны

**Umfássung** *f* -, -en 1) агаро́джа 2) *вайск.* ахо́п (*праціўніка*)

**Úmfeld** *n* -(e)s, -er *спец.* навако́лле, бліжэ́йшае по́ле

**umfléchten*** *vt* (*mit D*) аплята́ць, абвіва́ць (*што-н. чым-н.*)

**umflíegen*** *vt* аблята́ць (*якую-н. прастору*)

**umflíeßen*** *vt* працяка́ць (*вакол чаго-н.*), абмыва́ць (*што-н.*)

**umflóren** *vt* затума́ньваць (*вочы, позірк*)

**Umflügelung** *f* -, -en *вайск.* ахо́п фла́нга

**úmformen*** *vt* 1) *эл.* пераўтвара́ць, трансфармава́ць 2) перарабля́ць, рабі́ць і́ншым (*сачыненне і г.д.*)

**Úmformer** *m* -s, - *эл.* пераўтвара́льнік, трансфарма́тар, умфо́рмер

**Úmformung** *f* -, -en *эл.* трансфарма́цыя, пераўтварэ́нне

**Úmfrage** *f* -, -n апыта́нне; анке́та; рэферэ́ндум; ***éine ~ hálten**** апы́тваць; ***éine ~ veránstalten*** право́дзіць анкетава́нне [апыта́нне]

**úmfragen** *vi* распы́тваць (*каго-н.*), право́дзіць апыта́нне

**Umfríed(ig)ung** *f* -, -en агаро́джа

**Úmgang** *m* -(e)s, -gänge працэ́сія, абхо́д 2) -(e)s зно́сіны, су́вязь, знаёмства; ~ ***hában*** мець ко́ла знаёмых, вярце́цца ў грама́дстве; ~ ***mit j-m pflégen*** падтры́млівацьзнаёмства з кім-н. 3) -(e)s кампа́нія, знаёмства; ***das ist ein schléchter ~ für dich*** гэ́та неадпаве́дная кампа́нія для цябе́

**úmgänglich** *a* даліка́тны, ве́тлівы

**Úmgangsformen** *pl* мане́ры, абыхо́джанне

**Úmgangssprache** *f* -, -n размо́ўная [гутарко́вая] мо́ва, размо́ўны [гутарко́вы] стыль

**úmgangssprachlich** *a* гутарко́вы, размо́ўны (*пра стыль мовы*)

**umgárnen** *vt перан.* аблы́тваць; зама́ньваць у сіло́ [па́стку]

**úmgeben* I** *vt* (*D*) накі́нуць на плёчы (*што-н. каму-н.*)

**umgében* II** *vt* а(б)кружа́ць (*плотам*); атача́ць; ***von Fréunden umgében*** акру́жаны сябра́мі, у атачэ́нні [сяро́д] сябро́ў

**Umgébung** *f* -, -en 1) навако́лле 2) блізкія, ха́тнія 3) *перан.* акружэ́нне, асяро́ддзе

**Úmgegend** *f* -, -en навако́лле, вако́ліца

**úmgehen* I** *vi* (s) 1) прахо́дзіць (*пра час*) 2) хадзі́ць, цыркуля́ваць (*пра чуткі*) 3) (*mit D*) мець зно́сіны (*з кім-н.*) 4) (*mit D*) абыхо́дзіцца (*з кім.н.*) ◊ ***ságe mir, mit wem du úmgehst, und ich will dir ságen, wer du bist*** скажы́ мне, хто твой ся́бра, і я скажу́ табе́, хто ты сам 5) (*mit D*) насі́цца (*з думкай*); 6) блука́ць, бадзя́цца 7) кру́ціцца (*пра кола*)

**umgéhen* II** *vt* 1) абыхо́дзіць (*тс. вайск.*) 2) пазбяга́ць 3) абыхо́дзіць, паруша́ць (*закон і да т.п.*)

**úmgehend 1.** *a* тэрміно́вы, спе́шны (*пра адказ*) **2.** *adv* тэрміно́ва, са зваро́тнай по́штай (*адказаць*)

**Umgéhung** *f* -, -en абхо́д

**úmgekehrt 1.** *a* 1) паравёрнуты, вы́вернуты (навы́варат) 2) адваро́тны; ***im ~en Fálle*** у адваро́тным вы́падку **2.** *adv* наадваро́т; насу́перак

**úmgestalten** *vt* пераўтвара́ць, перабудо́ўваць, рэарганізо́ўваць

**Úmgestaltung** *f* -, -en змяне́нне, пераўтварэ́нне, рэарганіза́цыя; ***dúrchgrei-***

***fende ~en*** радыка́льныя змяне́нні; ***éine ~ vórnehmen**** право́дзіць [рабі́ць] рэарганіза́цыю

**úmgießen*** *vt* 1) перaліва́ць 2) разліва́ць

**umgíttern** *vt* абгаро́джваць кра́тамі

**úmgraben* I** *vt* перако́пваць, перарыва́ць

**umgráben* II** *vt* скапа́ць (*усё навокал*), абкапа́ць

**umgrénzen** *vt* 1) абкружа́ць, абво́дзіць; ***umgrénzt von…*** які́ мяжу́е (з усі́х бако́ў) (*з чым-н.*) 2) (дакла́дна) вызнача́ць, устана́ўліваць (*мяжу, паўнамоцтвы*)

**Umgrénzung** *f* -, -en 1) устанаўле́нне ме́жаў, (дакла́днае) вызначэ́нне, устанаўле́нне (*паўнамоцтваў*) 2) абры́сы, ко́нтур 3) *тэх.* габары́т

**úmgruppieren 1.** *vt* перагрупо́ўваць **2. ~, sich** перагрупо́ўвацца

**Úmgruppierung** *f* -, -en перагрупо́ўка; пераразмеркава́нне; перастано́ўка

**úmgucken, sich** *разм.* азіра́цца

**úmgürten I** *vt* падпяра́зваць

**umgǘrten II** *vt* **1.** (*mit D*) апяра́зваць 2) *перан.* апяра́зваць, акружа́ць

**úmhaben** *vt* быць апра́нутым (*у што-н.*), мець на сабе́ (*што-н.*)

**umhálsen** *vt* абдыма́ць за шы́ю

**Úmhang** *m* -(e)s, -hänge накі́дка, плашч

**úmhängen I** *vt* 1) перавéшваць (*на другое месца*) 2) (*j-m*) накі́нуць (*паліто і г.д. на каго-н.*); ***sich (D) etw. ~*** накі́нуць што-н. на сябе́

**umhä́ngen II** *vt* (*mit D*) абве́шваць (*што-н. чым-н.*), ве́шаць (*вакол чаго-н. што-н.*)

**umhér** *adv* наўко́ла, наво́кал

**umhérblicken** *vt* агля́двацца, азіра́цца; ***sich nach j-m ~*** азіра́цца ў по́шуках каго́-н.

**umhérflattern** *vi* (s) пы́рхаць, лётаць (*вакол чаго-н.*)

**umhérfliegen*** *vi* (s) лётаць наво́кал [узад і ўпе́рад]

**umhérgehen*** *vi* (s) хадзі́ць узад і ўпе́рад, шпацырава́ць, праха́джвацца; ***die Áugen ~ lássen**** шука́ць вача́мі (*каго-н., што-н.*)

**umhérirren** *vi* (s) сно́ўдацца, блука́ць

**umhérlaufen*** *vi* (s) лётаць, бе́гаць узад і ўпе́рад

**umhérliegen*** *vi* ляжа́ць усю́ды ў беспара́дку, быць раскі́даным

**umhérschweifen** *vi* (s) бадзя́цца, блука́ць, швэ́ндацца, сно́ўдацца

**umhérspringen*** *vi* (s) скака́ць, гуля́ць, дурэ́ць

**umhérwerfen*** *vt* (у беспара́дку) раскіда́ць

**umhérziehen*** *vi* (s) вандрава́ць, качава́ць

**umhínkönnen*: *ich kann nicht umhín (zu bemérken)*** я не магу́ не (заўва́жыць)

**úmhören, sich** (*nach D*) *разм.* прыслухо́ўвацца (*да чаго-н., што кажуць навокал*), распы́тваць (*пра што-н.*)

**umhüllen** *vt* (*mit D*) заху́тваць, абклада́ць, засціла́ць (*чым-н.*)

**Umhüllung** *f* -, -en 1) абало́нка 2) упако́ўка 3) *тэх.* абшы́ўка, пакрыццё

**umjúbeln** *vt* ушано́ўваць

**Úmkehr** *f* - 1) паваро́т (наза́д), вярта́нне 2) *вайск.* адступле́нне, рух наза́д 3) паваро́т да ле́пшага

**úmkehren 1.** *vi* (s) паваро́чваць наза́д; *перан.* адступі́цца, пада́цца наза́д, адрачы́ся **2.** *vt* 1) пераваро́чваць, вываро́чваць; ***die Hand ~*** павярну́ць руку́ дало́нню ўве́рх 2) *перан.* перавярну́ць, прыве́сці ў беспара́дак; ***das gánze Haus ~*** перавярну́ць уве́сь дом уве́рх дном **3. ~, sich** пераваро́чвацца, паваро́чвацца

**úmkippen 1.***vt* пераку́львацць, абаро́чваць **2.** *vi* (s) пераку́львацца, абаро́чвацца, губля́ць раўнава́гу, па́даць

**umklámmern** *vt* 1) (су́таргава) схапі́ць, абхапі́ць; 2) *вайск.* а(б)кружы́ць, атачы́ць (*праціўніка*)

**Umklámmerung** *f* -, -en 1) абхва́т 2) *перан.* ціскі́ 3) *вайск.* а(б)кружэ́нне

**úmklappen** *vt* адкі́дваць (*сядзенне*)

**úmkleiden I** *vt* **1.** пераапрана́ць **2. ~, sich** пераапрана́цца

**umkléiden II** *vt* аббіва́ць (*сукном*); абшыва́ць (*дошкамі*)

**Úmkleideraum** *m* -(e)s, -räume раздзява́льня, гардэро́б

**úmknicken 1.** *vt* падгіна́ць, надло́мваць **2.** *vi* (s) падгіна́цца, надло́мвацца; *пера́н.* валі́цца з ног ад сто́мленасці

**úmkommen*** *vi* (s) **1.** гі́нуць (*пры аварыі і г.д.*); ***nichts ~ lássen**** не дава́ць нічо́му прапа́сці ◊ ***ich will gleich auf der Stélle ~, wenn ich (nicht)…*** правалі́цца мне на гэ́тым са́мым ме́сцы, калі́ я (не)… 2) (*vor D*) знемага́ць, пamіра́ць (*напр., ад гарачыні, суму і г.д.*)

**umkrállen** *vt* уціна́цца кіпцюра́мі (*у што-н.*)

**umkrámpfen** *vt* су́таргава абхо́пліваць

**Úmkreis** *m* -es, -e 1) навако́лле, вако́ліца; ***im ~ von 10 km*** на 10 км наво́кал; ***er ist im gánzen ~ bekánnt*** яго́ ве́дае ўсё навако́лле 2) *матэм.* акру́жнасць

**umkréisen** *vt* 1) а(б)кружа́ць 2) кружы́ць (*над чым-н.*)

**Umkréisung** *f* -, -en а(б)кружэ́нне (*дзеянне*) 2) навако́лле, асяро́ддзе

**úmkrempeln** *vt* 1) зака́чваць (*рукавы*) 2) вываро́чваць (*панчохі*) 3) *разм.* перарабля́ць, (грунто́ўна) перайна́чваць

**úmkriegen** *vt разм.* 1) адо́льваць, аду́жваць (*каго-н.*), спраўля́цца (*з кім-н.*) 2) угаво́рваць

**úmladen*** *vt* перагружа́ць (*тавар*)

**umlágern I** *vt* а(б)кружа́ць, учыня́ць абло́гу (*крэпасці*)

**úmlagern II** *vt* 1) перакла́дваць (*на складзе*) 2) перадо́дзіць на другі́ склад (*тавар*)

**Úmlauf** *m* -(e)s, -läufe 1) цыркуля́цыя, абаро́т (*грошай*); ***in ~ sein*** быць у абаро́це; ***in ~ kómmen**** паступа́ць у абаро́т; распаўсю́джвацца, быць агульнапрыня́тым; распаўсю́джвацца (*пра чуткі*); ***in ~ bríngen* [sétzen, gében*]*** пуска́ць у абарачэ́нне [абаро́т]; распаўсю́джваць (*паведамленні і г.д.*), распуска́ць (*чуткі, пагалоскі*) 2) *астр.* рух [абарачэ́нне] плане́т 3) цыркуля́цыя (*крыві*)

**úmlaufen* I** *vi* (s) 1) знахо́дзіцца ў абаро́це (*пра грошы*); ***ein Gerücht läuft um*** хо́дзіць чу́тка [пагало́ска] 2) цыркуля́ваць (*пра кроў*) 3) канча́цца, міна́ць (*пра час*)

**umláufen* II** *vt* а(б)бяга́ць (*каго-н., што-н.*), бе́гаць (*вакол каго-н., чаго-н.*)

**Úmlaufgeschwindigkeit** *f* -, -en ху́ткасць [ско́расць] вярчэ́ння

**Úmlaufmittel** *pl фін.* абаро́тныя сро́дкі

**Úmlaufschreiben** *n* -s, - цыркуля́р

**Úmlaut** *m* -(e)s, -e *лінгв.* умля́ут

**Úmlegekalender** *m* -s, - перакідны́ каляндáр

**Úmleg(e)kragen** *m* -s, - адкладны́ каўне́р

**úmlegen I** *vt* 1) перакла́дваць; *чыг.* перавóдзіць (*стрэлку*) 2) пераво́дзіць (*у другое месца*) 3) апрана́ць, накіда́ць (*паліто*) 4) *разм.* забі́ць, застрэ́ліць 5) перано́сіць (*тэрмін*) 6) пераво́дзіць (*тэлефонную размову на іншы апарат*)

**umlégen II** *vt* (*mit D*) абкла́дваць (*што-н. чым-н.*); кла́сці (*вакол чаго-н. што-н.*)

**úmleiten** *vt* (з)мяня́ць напра́мак (*ракі*); ***den Stráßenverkehr ~*** накірава́ць ву́лічны рух па но́вым маршру́це

**Úmleitung** *f* -, -en змяне́нне накіру́нку, аб'е́зд

**úmlenken 1.** *vt* паваро́чваць **2.** *vi* (*h, s*) паваро́чваць, зваро́чваць

**úmlernen 1.** *vt* вучы́ць нано́ва **2.** *vi* перавучвацца

**úmliegend** *a* навако́льны

**úmmachen** *vt* перарабля́ць

**úmmauern** *vt* агаро́джваць му́рам

**úmmelden, sich** змяні́ць свой а́драс**,** перарэгістрава́цца

**úmmodeln** *vt* перарабля́ць

**umnáchten** *vt* азмро́чваць, засмуча́ць, аху́тваць змро́кам

**umnáchtet** *a* 1) змро́чны 2) псіхі́чна хво́ры

**Umnáchtung** *f* -, -en *мед.* замарачэ́нне ро́зуму, вар'я́цтва

**úmnähen** *vt* перашыва́ць

**umnébeln** *vt* 1) пакрыва́ць тума́нам

2) *перан.* тума́ніць, затума́ньваць
**umnébelt** *a* 1) затума́нены 2) падвы́піты, на падпітку
**úmnennen*** *vt* перайменоўваць
**úmordnen** *vt* пераразмяркоўваць, змяня́ць пара́дак (*чаго-н.*); перастаўля́ць (*што-н.*)
**úmpacken** *vt* перапакоўваць
**úmpflanzen** *vt* перасаджваць (*расліны*)
**Úmpflanzung** *f* -, -en перасадка (*раслін*)
**úmpflügen** *vt* пераворваць
**úmpolen** *vt эл.* мяня́ць паля́рнасць
**úmprägen** *vt* 1) перачака́ніць (*манету*) 2) перарабля́ць, змяня́ць (*характар і да т.п.*)
**úmprogrammieren** *vt* перапраграмава́ць
**úmquartieren** *vt* перасяля́ць
**umrágen** *vt* узвыша́цца, вы́сіцца (*вакол чаго-н.*)
**umráhmen** *vt* 1) устаўля́ць у ра́мку, апраўля́ць; абрамля́ць (*пра валасы і г.д.*); ***ein Tréffen musikálisch ~*** суправаджа́ць сустрэ́чу музы́чнымі выступле́ннямі
**Umráhmung** *f* -, -en 1) абрамле́нне, уста́ўка ў ра́мку 2) абрамле́нне (*пра валасы і г.д.*); ***die kulturélle ~ éiner Féier*** маста́цкая ча́стка свя́та
**umránden, umrändern** *vt* акантоўваць
**umránken** *vt* віцца, абвіва́цца (*вакол чаго-н.*)
**úmrechnnen** *vt* 1) пералі́чваць 2) раша́ць зноў (*задачу*)
**úmreißen*** **I** *vt* павалі́ць, перакульваць
**umréißen*** **II** *vt* 1) накі́дваць ко́нтур, абрысоўваць 2) *перан.* абмалёўваць (*становішча*)
**úmrennen*** **I** *vt* павалі́ць, перакульваць, абаро́чваць (*на бягу*)
**umrénnen*** **II** *vt* абабяга́ць, абяга́ць (*вакол каго-н., чаго-н.*)
**umríngen** *vt* а(б)кружа́ць, атача́ць
**Úmriss** *m* -es, -e 1) абры́с, ко́нтур; ***in gróben [größen] ~en*** у агу́льных ры́сах 2) рысу́нак, чарцёж 3) на́рыс
**úmrühren** *vt* мяша́ць, пераме́шваць
**úmrüsten** *vt* пераабсталёўваць
**ums** = um das
**úmsatteln** **1.** *vt* перасядла́ць **2.** *vi* мяня́ць прафе́сію; мяня́ць (палі́ты́чныя) пераканáнні [по́гляды]
**Úmsatz** *m* -es, -sätze 1) абаро́т (*гандлёвы*) 2) *хім.* абме́н
**Úmsatzkapital** *n* -s, -e *эк.* абаро́тны капіта́л
**Úmsatzsteuer** *f* -, -n *эк.* пада́так з абаро́ту
**úmsäumen** *vt* 1) аблямоўваць 2) *кравец.* падру́бліваць
**úmschalten** *vt эл.* пераключа́ць; *перан.* пераво́дзіць (*эканоміку на новы напрамак*)
**Úmschalter** *m* -s, - *эл.* пераключа́льнік, камута́тар
**umschátten** *vt* зацяня́ць
**Úmschau** *f* - агля́д; ~ ***hálten**** агляда́ць, рабі́ць агля́д; ***nach Mítteln ~ hálten**** адшу́кваць сро́дкі
**úmschauen, sich** 1) агля́двацца, азіра́цца (*навокал*) 2) (*nach D*) агля́двацца (*назад на каго-н., што-н.*)
**úmschaufeln** *vt* перако́пваць, варушы́ць, пералапа́чваць (*збожжа*)
**úmschichten** *vt* мяня́ць размяшчэ́нне, кла́сці іна́чай, перагрупоўваць, пераразмяркоўваць (*сродкі*)
**úmschichtig** *a* пазме́нны; папераме́нны, па чарзэ́
**Úmschichtung** *f* -, -en перагрупіро́ўка; пераразмеркава́нне
**umschíffen** *vt* аб’язджа́ць, аб’е́хаць (*на караблі*) (*вакол чаго-н.*)
**Úmschlag** *m* -(e)s, -schläge 1) абго́ртка, во́кладка 2) канве́рт 3) кампрэ́с 4) абшла́г (*на вопратцы*) 5) *эк.* абарачэ́нне, абаро́т 6) пераме́на, перало́м, зме́на (*надвор’я, настрою*) 7) *марск.* перагру́зка (*тавараў*)
**úmschlagen*** **I** **1.** *vt* 1) надзява́ць, накі́нуць 2) абго́ртваць, абмо́тваць 3) адгіна́ць (*каўнер*) 4) перагортваць (*старонку*); 5) перагружа́ць (*тавар*); 6) перакульваць, зва́льваць **2.** *vi* (s) 1) рэ́зка мяня́цца (*пра вецер і г.д.*) 2) перакульвацца, абаро́чвацца

**umschlágen*** **II** *vt* заваро́чваць, заго́ртваць
**Úmschlagen** *n* -s: ~ ***von Quantität in Qualität*** перахо́д ко́лькасці ў я́касць
**Úmschlaghafen** *m* -s, -häfen перагру́зачны порт
**Úmschlag(e)platz** *m* -es, -plätze перава́лачны пункт
**Úmschlagsgeschwindigkeit** *f* - *фін.* ху́ткасць [ско́расць] абарачэ́ння [абаро́ту] (*капіталу*)
**umschléichen*** *vt* 1) ісці́ крадко́м, падкра́двацца 2) *разм.* віжава́ць, шпіёніць (*за кім-н.*)
**umschléiern** *vt* 1) накрыва́ць вэ́люмам 2) аху́тваць смуго́й 3) прыхо́ўваць; завуалі́раваць
**umschlíeßen*** *vt* 1) а(б)кружа́ць (*што-н., напр., сцяной*) 2) а(б)хо́пліваць; абдыма́ць 3) абляга́ць (*пра адзенне*) 4) уключа́ць (*напр., пра рэзалюцыю*)
**umschlíngen*** **I** *vt* 1) абвіва́ць (*пра шыю*) 2) абдыма́ць (*каго-н.*); абвіва́ць (*чыю-н. шыю рукамі*)
**úmschlingen*** **II** *vt* надзе́ць (*на шыю*), завяза́ць (*хустку, кашнэ*)
**úmschmeißen*** *vt разм.* перакýльваць, абаро́чваць
**úmschmelzen*** *vt тэх.* пераплаўля́ць; パератапля́ць (*сала*)
**úmschnallen** *vt* зашпі́льваць, падпяра́зваць
**úmschreiben*** **I** *vt* 1) перапі́сваць 2) (*auf A*) перапі́сваць (*што-н. на каго-н.*)
**umschréiben*** **II** *vt* 1) апі́сваць (*словамі*), выклада́ць (*у словах, перафразаваць*) 2) *матэм.* апі́сваць (*круг*)
**Umschréibung** *f* -, -en 1) апіса́нне 2) *муз.* парафра́за 3) *лінгв.* перыфра́за
**Úmschrift** *f* -, -en 1) перапі́ска (*чаго-н.*) 2) транскры́пцыя; транслітара́цыя
**úmschulen** *vt* 1) перакваліфікава́ць, перау́чваць 2) перавóдзіць у другу́ю шко́лу (*вучня*)
**Úmschulung** *f* -, -en 1) перакваліфіка́цыя 2) перавóд у другу́ю шко́лу
**úmschütten** *vt* 1) перасыпа́ць 2) развіва́ць; абаро́чваць
**umschwä́rmen** *vt* лята́ць ро́ем [чарадо́й] (*вакол чаго-н.*)
**Úmschweife** *pl*: ***óhne*** ~ про́ста, без хі́трыкаў
**úmschwenken** *vi* (s) 1) (з)мяня́ць напра́мак [кіру́нак] 2) (з)мяня́ць по́гляды [пераканáнні]
**Úmschwung** *m* -(e)s, -schwünge 1) вярчэ́нне, кручэ́нне (*кола*) 2) паваро́т, перало́м; пераваро́т (*у грамадскай думцы і г.д.*)
**umségeln** *vt* аб’язджа́ць, аб’е́хаць (*вакол чаго-н.*), агіба́ць (*на караблі*) (*што-н.*)
**úmsehen*, sich** 1) агля́двацца, азіра́цца, абаро́чвацца наза́д; ***óhne sich úmzusehen*** не агля́даючыся [не абаро́чваючыся] ◊ ***du wirst dich noch*** ~ ≅ ты яшчэ́ пашкаду́еш аб гэ́тым; ***sich nach állen Séiten*** ~ азіра́цца [агляда́цца] па бака́х 2) (*in D*) агляда́ць (*дом*, *мясцовасць*) 3) (*nach D*) шука́ць (вачы́ма); нагляда́ць; ***sich nach Árbeit*** ~ шука́ць рабо́ту
**úmseitig** *a* які́ знахо́дзіцца на адваро́це (*старонкі*)
**úmsetzen I** *vt* 1) перасáджваць (*расліны*) 2) перамяшча́ць; перавóдзіць; перасáджваць (*вучняў і г.д.*) 3) *матэм.* зрабі́ць перастано́ўку 4) пуска́ць у абаро́т [у про́даж]; ***etw. in Geld*** ~ ператвары́ць што-н. у гро́шы, рэалізава́ць што-н. 5) *хім.* пераўтвара́ць 6): ***etw. in Wírklichkeit*** ~ правóдзіць што-н. у жыццё, здзяйсня́ць, ажыццяўля́ць (*што-н.*); ***in die Tat*** ~ ажыццяві́ць (*план*)
**umsétzen II** *vt* (*mit D*) абса́джваць (*што-н. дрэвамі*), садзі́ць (*што-н. вакол чаго-н.*)
**Úmsichgreifen** *n* -s распаўсю́джванне (*аб эпідэміі і да т.п.*)
**Úmsicht** *f* - асцяро́жнасць, абáчлівасць
**úmsichtig** *a* асцяро́жны, абáчлівы
**úmsiedeln 1.** *vt* перасяля́ць **2.** *vi* (s) перасяля́цца
**Úmsiedelung** *f* -, -en перасяле́нне
**Úmsiedler** *m* -s, - перасяле́нец

**úmsinken** *vi* (s) пáдаць; *тс. перан.* валíцца з ног (*ад стомленасці*)

**úmso:** ~ ***éher*** тым хутчэ́й; ~ ***mehr*** тым бóлей

**umsónst** *adv* 1) дармá, бясплáтна 2) дарэ́мна, мáрна ***es war nicht*** ~ гэ́та былó не дармá; ***nicht*** ~ нездармá; недармá ◊ ~ ***ist der Tod*** ≅ дармá нічóга не даéцца

**úmspannen I** *vt* 1) перапрагáць (*коней*) 2) *эл.* трансфармавáць (*ток*), мянśць напрýжанне

**umspánnen II** *vt* (*mit D*) 1) абцśгваць (*што-н., чым-н.*) 2) а(б)хóпліваць; сцíскáць, абцíскáць

**Úmspanner** *m* -s, - *эл.* трансфармáтар

**Úmspannwerk** *n* -(e)s, -e трансфармáтарная падстáнцыя

**umspíelen** *vt перан.* гулśць (*вакол чаго-н.*); ***ein Lächeln umspíelte séinen Mund*** усмéшка гулśла на ягó губáх

**umspínnen*** *vt* 1) абвівáць [аплятáць] павуцíнай 2) *перан.* аблы́тваць, ашýкваць; ***j-n mit Lügen*** ~ аблы́тáць кагó-н. хлуснёй, абылгáць кагó-н.

**úmspringen* I** *vi* (s) 1) раптóўна мянśцца (*пра вецер*) 2) (*mit D*) аднóсіцца бесцырымóнна (*да каго-н.*), абыхóдзіцца бесцырымóнна (*з кім-н.*)

**umspríngen* II** *vt* скакáць (*вакол каго-н., чаго-н.*)

**umspülen** *vt* абмывáць (*пра мора і г.д.*)

**Úmstand** *m* -(e)s, -stände 1) акалíчнасць; ***Úmstände máchen*** цырымóніцца, валавóдзіцца; ***óhne Úmstände*** папрóсту; ***únter Úmständen*** у залéжнасці ад абстáвін; ***máchen Sie nur kéine Úmstände!*** не турбýйцеся!, не забівáйце сабé галавý!; ***in ánderen Úmständen sein*** быць цяжáрнай 2) *pl* умóвы (*жыцця*)

**úmständlich** *a* 1) грунтóўны, падрабśзны 2) цśжкі (*пра становішча*) 3) цырымóнны

**Úmständlichkeit** *f* -, -en 1) даклáднасць, падрабśзнасць 2) цśжкасць (*становішча*) 3) цырымóннасць

**Úmstandsbestimmung** *f* -, -en *грам.* акалíчнасць

**Úmstandsfürwort** *n* -(e)s, -wörter займéннае прыслóўе

**úmstandshalber** *adv* з прычы́ны асаблíвых абстáвін [умóў]

**Úmstandssatz** *m* -es, -sätze акалíчнасны дадáны сказ

**Úmstandswort** *n* -(e)s, -wörter *грам.* прыслóўе

**úmstechen*** *vt* перакóпваць (*градку*)

**umstéhen*** *vt* стаśць (*вакол каго-н., чаго-н.*); а(б)кружáць, атачáць (*каго-н., што-н.*)

**úmstehend** *adv* на адварóце, на настýпнай старóнцы

**Úmstehenden** *sub pl* прысýтныя, навакóльныя

**Úmsteigebahnhof** *m* -(e)s, -höfe перасáдачная стáнцыя

**Úmsteig(e)karte** *f* -, -en перасáдачны білéт

**úmsteigen*** *vi* (s) (*in A*) перасáджвацца (*на другі цягнік і г.д.*)

**úmstellen I 1.** *vt* 1) перастаўлśць 2) (*auf A*) перабудóўваць, пераключáць, перавóдзіць (*завод на вытворчасць іншай прадукцыі*) **2. ~, sich** (*auf A*) перабудóўвацца, пераключáцца (*на што-н.*); прыстасóўвацца (*да чаго-н.*)

**umstéllen II** *vt* ачаплśць, а(б)кружáць (*каго-н., што-н.*), рабíць аблáву; ***von Hass umstéllt sein*** быць у нянáвісці

**Úmstellung I** *f* -, -en 1) перастанóўка 2) перабудóва, пераключэ́нне, перавóд (*auf A – на што-н.*) 2) *матэм.* падстанóўка

**Umstéllung II** *f* -, -en ачаплéнне, акружэ́нне, аблáва

**úmsteuern** *vt* пераключáць; давáць зáдні ход (*машыны*); мянśць курс (*карабля*)

**úmstimmen** *vt* 1) *муз.* настрóйваць на íншы тон 2) перакóнваць (*у іншым*)

**úmstoßen*** *vt* 1) перакýльваць, абарóчваць 2) абвяргáць 3) адмянśць, скасóўваць (*закон*); ***ein Úrteil*** ~ *юрыд.* касавáць [скасавáць] прысýд

**umstráhlen** *vt* асвятлśць прóмнямі, асвéчваць

**umstrítten** *a* спрэ́чны
**úmstülpen** *vt* перакýльваць, пераварóчваць
**Úmsturz** *m* -es, -stürze 1) звяржэ́нне, пераварóт 2) падзéнне, разбурэ́нне
**úmstürzen** **1.** *vt* 1) перакýльваць, развáльваць, разбурáць 2) звяргáць, скідáць (*уладу*) **2.** *vi* (s) 1) пáдаць, абвáльвацца, абрынáцца 2) пáсці (*пра грамадскі лад, уладу*)
**Úmstürzler** *m* -s, - 1) удзéльнік [прыхíльнік] пераварóту 2) *pl* падрыўны́я элемéнты
**Úmtaufe** *f* -, -n перайменавáнне
**úmtaufen** *vt* 1) перайманóўваць 2) *рэл.* хрысцíць у другýю вéру
**Úmtausch** *m* -(e)s, -e абмéн; мéна
**úmtauschen** *vt* абмéньваць, мяня́ць, вымéньваць
**umtóben** *vt* вíравáць, лютавáць (*вакол каго-н., чаго-н.*); ***umtóbt von Wéllen*** атóчаны бурлíвымі хвáлямі
**úmtopfen** *vt* перасáджваць у вазóн (*расліны*)
**umtósen** *vt гл.* umtóben
**úmtransportieren** *vt* перасылáць [накíрóўваць] у другóе мéсца
**Úmtriebe** *pl* падкóпы, інтры́гі
**Úmtrunk** *m* -(e)s, -trünke чáрка, якýю пускáюць па крýгу
**úmtun*** *vt* **1.** накíнуць на сябé (*хустку*) **2. ~, sich**: ***sich nach etw. (D)*** **~** аглядáцца [азірáцца], шукáючы (*што-н.*); давéдвацца (*пра што-н.*)
**úmwälzen** *vt* 1) перакóчваць 2) звяргáць; рабíць пераварóт (*у грамадстве, жыцці, навуцы*)
**Úmwälzung** *f* -, -en 1) пераварóт; ***éine wíssenschaftliche*** **~** пераварóт у навýцы 2) перакóчванне; *тэх.* абкáтка
**úmwandeln I** *vt высок.* ператварáць, пераўтварáць
**umwándeln II** *vt* хадзíць вакóл (*каго-н., чаго-н.*)
**Úmwand(e)lung** *f* -, -en 1) ператварэ́нне, пераўтварэ́нне; перабудóва 2) *эк.* канвéрсія
**úmwechseln** *vt* мяня́ць, перамянíць; размéньваць (*грошы*)
**Úmweg** *m* -(e)s, -e кружны́ шлях, аб(ы)хóд, круг, крук; ***auf ~en erfáhren**** вы́ведаць абхóдным шля́хам; ***ein größer*** ~ вялíкі крук
**úmwegig** *a* кружны́мі шляхáмі
**úmwehen I** *vt* здзімáць; перакýльваць, абарóчваць (*пра вецер*)
**umwéhen II** *vt* абвявáць, абдзімáць (*пра вецер*)
**Úmwelt** *f* -, -en навакóльны свет; навакóльнае асярóддзе, навакóлле
**Úmwelteinfluss** *m* -es, -flüsse уплы́ў (навакóльнага) асярóддзя
**Úmweltgestaltung** *f* - добраўпарáдкаванне навакóльнага асярóддзя
**úmweltlich** *a* які́ ты́чыцца (навакóльнага) асярóддзя
**Úmweltschutz** *m* -es ахóва навакóльнага асярóддзя
**úmwenden*** **1.** *vt* 1) пераварóчваць, вываро́чваць; перагóртваць 2) паварóчваць, развярнýць (*аўтамабіль і г.д.*) **2. ~, sich** 1) пераварóчвацца; ***sich zur Flucht*** ~ кíдацца наўцёкі 2) (*nach D*) азірáцца (*на каго-н., што-н.*)
**umwérben*** *vt* заляцáцца (*да каго-н.*)
**úmwerfen*** *vt* 1) перакýльваць, валíць, збівáць (*з ног*); ***der Sänger hat úmgeworfen*** спявáк сфальшы́віў 2) накíнуць (*хустку і да т.п.*)
**úmwerfend** *a разм.* ашаламля́льны
**úmwerten** *vt* перааацэ́ньваць (*каштоўнасць*); ***das Geld*** **~** правóдзіць грашóвую рэфóрму
**Úmwertung** *f* -, -en перааацэ́нка (*каштоўнасцей*)
**úmwickeln I** *vt* 1) абмóтваць, абкрýчваць (*вакол чаго-н.*) 2) перапавівáць
**umwíckeln II** *vt* (*mit D*) укрýчваць, абкрýчваць, абмóтваць (*чым-н.*)
**Úmwick(e)lung** *f* -, -en абмóтка, абгóртванне
**umwíndeln** *vt* абвівáць, абмóтваць
**úmwinden** *vt* перамóтваць
**umwógen** *vt* 1) хвалявáцца (*вакол ча-*

*го-н., пра воды*) 2) а(б)кружáць (*пра натоўп, шум*)
**Úmwohner** *pl* навакóльныя жыхары́
**umwö́lken** *vt* **1.** засцілáць хмáрамі, захмáрваць **2. ~, sich** засцілáцца хмáрамі
**úmwühlen** *vt* 1) абшны́рваць, абшу́кваць 2) перакóпваць (*градку*)
**úmzaubern** *vt* (*in A*) ператварáць з дапамóгай чараўні́цтва
**umzä́unen** *vt* агарóджваць, абнóсіць плóтам
**Umzäunung** *f* -, -en агарóджа, плот
**úmzeichnen** *vt* перарысóўваць, перачэ́рчваць
**úmziehen* I 1.** *vi* (s) (*in A*) пераязджáць, перасяля́цца (*на другую кватэру і г.д.*) **2.** *vt* пераапранáць; ***die Schúhe ~*** пераабувáцца **3. ~, sich** пераапранáцца
**umzíehen* II 1.** *vt* 1) абвóдзіць, а(б)кружáць; ***éine Figúr ~*** накíдаць пóстаць 2) абця́гваць (*палатном*) 3) абкладáць, засцілáць **2.** ~, **sich** засцілáцца, зацягвацца (*хмарамі*)
**umzíngeln** *vt вайск.* а(б)кружáць, ачапля́ць
**Umzíngelung** *f* -, -en а(б)кружэ́нне, аблóга
**Úmzug** *m* -(e)s, -züge 1) пераéзд (*на іншую кватэру*) 2) працэ́сія, дэманстрáцыя, пахóд
**Úmzugsgelder** *pl* пад’ёмныя (грóшы)
**un=** *прыстаўка прыметнікаў і прыслоўяў, паказвае адмаўленне*: únabhängig незалéжны; únaufhörlich беспепапы́нны (-нна)
**Un=** *прыстаўка назоўнікаў, паказвае на*: 1) *адмаўленне:* Únruhe неспакóй 2) *адмоўную ацэнку*: Únmensch *m* вы́людак 3) *узмацненне значэння слова:* Únsumme *f* вялíкая су́ма
**unabänderlich** [únabänderlich] *a* 1) нязмéнны, непахíсны (*пра рашэнне*) 2) непазбéжны, немíну́чы, няўхíльны
**Unabänderlichkeit** [Únabänderlichkeit] *f* - нязмéннасць (*рашэння*)
**únabhängig** *a* незалéжны
**Únabhängigkeit** *f* - незалéжнасць
**unabkö́mmlich** [únabkömmlich] *a* неабхóдны, патрэ́бны
**únablässig** [unablä́ssig] *a* 1) безперапы́нны, безупы́нны 2) пíльны (*пра нагляд*) 3) нястóмны (*у барацьбе*)
**unabséhbar** [únabsehbar] **1.** *a* 1) неагля́дны, неабся́жны, бязмéжны 2) непрадбáчаны, сур’ёзны (*пра выніку*) **2.** *adv* бязмéжна, неабся́жна
**unabsétzbar** [únabsetzbar] *a* 1) нязмéнны 2) якí не знахóдзіць збы́ту
**únabsichtlich 1.** *a* ненаўмы́сны **2.** *adv* ненаўмы́сна
**unabwéisbar** [únabweisbar] *a* 1) неабвéржны 2) неадклáдны (*пра неабходнасць*)
**unabwéndbar** [únabwendbar] *a* няўхíльны, немíну́чы
**únachtsam** *a* 1) няўвáжлівы 2) нядбáйны; неасцярóжны; неахáйны (*пра вопратку*)
**Únachtsamkeit** *f* -, -en 1) няўвáжлівасць 2) нядбáйнасць, неасцярóжнасць
**únähnlich** (*D*) непадóбны (*да каго-н.*)
**unanféchtbar** [únanfechtbar] *a* 1) неаспрэ́чны, бясспрэ́чны 2) недатыкáльны (*пра ўласнасць*)
**Unanféchtbarkeit** [Únanfechtbarkeit] *f* -, -en 1) бясспрэ́чнасць 2) недатыкáльнасць (*уласнасці*)
**únangebracht** *a* недарэ́чны, неадпавéдны
**únangefochten 1.** *a* неаспрэ́чны **2.** *adv* спакóйна, бяспéчна
**únangemeldet 1.** *a* 1) не прапíсаны (*па месцы жыхарства*) 2) не запíсаны (*пра наведніка*) 3) не аб’я́ўлены (*пра конкурс і г.д.*) **2.** *adv* 1) без прапíскі 2) без папярэ́дняга зáпісу [даклáду, папярэ́джання]
**únangemessen** *a* 1) недарэ́чны (*пра заўвагу*) 2) неадпавéдны (*пра аплату*)
**únangenehm** *a* непрыéмны
**unangréifbar** [únangreifbar] *a* 1) непрысту́пны 2) недатыкáльны 3) бясспрэ́чны, неаспрэ́чны
**unannéhmbar** [únannehmbar] *a* непрымáльны

**Verschmítztheit** *f* -, -en хíтрасць
**verschmútzen** *vt* запэ́цкаць
**verschnáufen** *vi i* **~, sich** перавéсці дых, ачýцца, адысці (*пасля бегу*)
**verschnéiden*** **I** *vt* 1) парэ́заць, абрэ́заць 2) дрэ́нна скрóіць 3) абрэ́зваць, падразáць (*дрэвы*) 4) кастры́раваць
**verschnéiden*** **II** *vt* разбаўля́ць, змéшваць (*віны*)
**verschnéien** **1.** *vt* занóсіць снéгам **2.** *vi* (s) пакры́цца снéгам
**verschnéllern** *vt* паскарáць
**Verschnítt** *m* -(e)s 1) адкíды, абрэ́зкі (*дошак і г.д.*) 2) сýмесь спіртны́х напóяў
**verschnörkelt** *a* вы́чварны (*почырк, подпіс*)
**verschnupft:** ***er ist*** ~ у ягó нáсмарк [кáтар]; *разм.* ён раззлавáны, ягó ўгнявíлі
**verschnüren** *vt* 1) перавя́зваць (*шнурком, вяроўкай*), прашнурóўваць 2) мéраць па шнуры́
**verschóllen** *a* 1) які́ прапáў без вéсткі 2) даўнó забы́ты, дáўні; ***in ~en Zéiten*** у дáўнія часы́
**verschónen** *vt* не чапáць, (па)шкадавáць (*каго-н.*); ***vor díesem Kúmmer ist er verschónt geblíeben*** ямý не прыйшлóся (па)спытáць гэ́тага гóра
**verschönen** **1.** *vt* рабíць прыгажэ́йшым **2.** **~, sich** ужывáць касмéтыку 2) станавíцца [рабíцца] больш прыгóжым
**verschönern** *vt* прыхарóшваць (*рэчаіснасць*)
**Verschönerung** *f* -, -en упрыгóжванне, прыхарóшванне
**Verschónung** *f* -, -en лíтасць
**verschóssen I:** ***in j-n ~ sein*** *разм.* быць закахáным у кагó-н.
**verschóssen II** *a* вы́цвілы (*пра тканіну*)
**verschrámmen** *vt* падрáпаць, падрáць (*скуру*)
**verschränken** *vt* 1) скрыжавáць, паклáсці [склáсці] крыж-нáкрыж 2) абмяжóўваць
**verschráuben** *vt* зашрубóўваць, звíнчваць, сашрубóўваць
**verschréiben*** **1.** *vt* 1) прапíсваць (*лекі*) 2) перадавáць у валóданне (*маёмасць*) 3) выпíсваць (*кнігу і г.д.*) **2.** **~, sich** 1) памылíцца пры пíсьмé, дапусцíць апíску 2) даць пíсьмóвае абавязáцельства; прадáцца (*каму-н.*)
**verschréien*** *vt* гáньбіць, гáніць, (з)няслáвіць; ***verschrí¦en sein*** карыстáцца дрэ́ннай слáвай
**verschróben** *a* дзíўны, дзівакавáты; ***ein ~er Kerl*** дзівáк
**Verschróbenheit** *f* - дрэ́нная рэпутáцыя [слáва]
**verschrótten** *vt* пусцíць на злом
**verschrúmpeln** *vi разм. гл.* verschrúmpfen
**verschrúmpfen** *vi* (s) змóршчвацца, высыхáць
**verschüchtern** *vt* запалóхваць
**Verschüchterung** *f* -, -en запалóхванне
**verschúlden** *vt* быць вінавáтым (*у чым-н.*), завінавáціцца (*у чым-н.*)
**Verschúlden** *n* -s вінá; ***óhne mein ~*** не па маёй віне́; ***durch sein éigenes ~*** па ягó ўлáснай віне́
**verschúldet** *a* завінавáчаны, пóўны дáўгоў, абцяжáраны пазы́камі
**Verschúldung** *f* - 1) вінá, памы́лка 2) запазы́чанасць
**verschütten** *vt* 1) засы́паць (*чым-н.*) 2) рассы́паць (*што-н.*) 3) разлівáць (*што-н.*) ◊ ***es bei [mit] j-m verschüttet háben*** пазбáвіцца чыёй-н. прыхíльнасці
**verschütt géhen*** *vi* (s) *разм.* 1) прападáць, знікáць; гíнуць 2) папáсціся, быць арыштавáным
**verschwägern** **1.** *vt* парадніць **2.** **~, sich** (*mit D*) парадніцца (*з кім-н.*)
**verschwägert** *a* які́ знахóдзіцца ў свая́цтве; ***ich bin mit ihm ~*** мы з ім сваякí
**Verschwägerung** *f* -, -en свая́цтва па мýжу [жóнцы]
**verschwátzen** **1.** *vt* разбалбатáць **2.** **~, sich** прагавары́цца
**verschwében** *vi* (s) рассéяцца (*пра хмары*)
**verschwéigen*** *vt* маўчáць, замóўчваць; ***ich hábe nichts zu ~*** мне нямá чагó таíць [утóйваць]
**verschwénden** *vt* растрáчваць, мáрна трá-

ціць, марнатрáвіць

**Verschwénder** *m* -s, - марнатрáўца, марнатрáвец

**verschwénderisch** *a* марнатрáўны; ***ein ~es Mahl*** раскóшны баль

**Verschwéndung** *f* -, -en марнатрáўства

**Verschwéndungssucht** *f* - марнатрáўства, матаўствó

**verschwíegen** *a* маўклíвы, негаваркí, бязмóўны

**Verschwíegenheit** *f* - маўклíвасць, замкнёнасць, бязмóўнасць

**verschwímmen*** *vi* (s) *vimp* расплывáцца, плы́сці (*у вачах*); ***es verschwámm mir vor den Áugen*** у мянé ўсё паплылó пéрад вачы́ма

**verschwínden*** *vi* (s) прапáсці, знíкнуць; ***etw. ~ lássen**** укрáсці, сцягнýць што-н.; ***j-n ~ lássen**** даць схавáцца камý-н.

**verschwítzen** **1.** *vt* 1) прамачы́ць пóтам 2) *разм.* забывáць **2.** *vi* вы́пацець

**verschwítzt** *a* спацéлы

**verschwómmen** *a* расплы́вісты, невырáзны, цьмя́ны (*пра абрысы, успаміны*)

**Verschwómmenheit** *f* -, -en расплы́вістасць, няя́снасць, неакрэ́сленасць, невырáзнасць

**verschwören*** **sich** 1) заракáцца (*што-н., рабіць*) 2) (*mit D, gegen A*) рабíць змóву (*з кім-н., супроць каго-н.*)

**Verschworene** *sub m, f* -n, -n змóўшчык, -чыца

**Verschwörer** *m* -s, -, **~in** *f* -, -nen *гл.* Verschwórene

**Verschwörung** *f* -, -en змóва

**verséhen*** **1.** *vt* 1) (*mit D*) забяспéчваць (*чым-н.*); ***mit der Únterschrift ~*** падпісáць (*дакумент*) 2) выкóнваць, нéсці (*абавязкі*); ***j-s Stélle [Amt] ~*** замяня́ць кагó-н. па слýжбе, выкóнваць чыé-н. абавя́зкі **2. ~, sich** 1) (*mit D*) запасáцца (*прадуктамі, харчамі*), забяспéчваць сябé (*чым-н.*) 2) (*bei D*) памылíцца, недаглядзéць, дапусцíць памы́лку (*з-за няўважлівасці*) 3) (*G*) прадчувáць, прадбáчыць (*што-н.*); ***sich kéines Árg(e)s ~*** не падазравáць нічóга благóга; нічóга не падазравáць 4): ***éhe er sich's versáh…*** не паспéў ён азірнýцца [апáмятацца], як…

**Verséhen** *n* -s, - памы́лка, недагля́д; ***aus ~*** памылкóва, у вы́ніку недагля́ду [непаразумéння]; ***ein ~ erkénnen**** усвядóміць [зразумéць] памы́лку

**verséhentlich** **1.** *a* памылкóвы **2.** *adv* памылкóва, па недагля́ду

**veréhren** *vt уст.* парáніць, пашкóдзіць

**Veréhrte** *sub m, f* -n, -n парáнены, -ная, інвалíд, калéка

**versélb(st)ständigen, sich** стаць самастóйным

**versénden*** *vt* адпраўля́ць, пасылáць, рассылáць

**Versénder** *m* -s, - адпрáўшчык

**Verséndung** *f* -, -en адпрáўка, адпраўлéнне, рассы́лка

**versénġen** *vt* абпалíць, падпалíць; ***die Sónnenhitze verséngte den Rásen*** гарáчае сóнца вы́паліла травý

**versénkbar** *a* які́ апускáецца (*у ваду*)

**versénken** **1.** *vt* 1) апускáць (*напр., у ваду*) 2) затапля́ць (*судна*) **2. ~, sich** паглыбля́цца (*тс.перан.*); ***sich in ein Buch ~*** паглы́біцца ў кнíгу

**Versénkung** *f* -, -en 1) апускáнне 2) затаплéнне (*судна*) 3) *тэатр.* люк ◊ ***in der ~ verschwínden**** знíкнуць (*з вачэй*); сысцí са сцэ́ны; ***aus der ~ áuftauchen*** раптóўна з'явíцца, уваскрэ́снуць

**verséssen** *a* апантáны; ***auf etw.*** (*A*) ***~ sein*** быць апантáным у чым-н.

**Verséssenheit** *f* - апантáнасць, мóцнае захаплéнне

**versétzen** **1.** *vt* 1) перастаўля́ць, перамяшчáць 2) перасáджваць (*дрэвы*) 3) перавóдзіць (*вучняў у іншы клас*) 4) перамяшчáць (*па службе*) 5) заклáдваць (*у ламбардзе*) 6) нанóсіць (*удар*) 7) прывóдзіць (*у захапленне*) **2. ~, sich**: ***sich in j-s Láge ~*** увахóдзіць у чыё-н. station

**Versétzung** *f* -, -en рамяшчэ́нне, перанóс, перастанóўка 2) перавóд (*на новую працу*); ***~ in den Rúhestand*** звальнéнне

ў адстáўку 3) ссóўванне, зрух

**Versétzungszeichen** *n* -s, - *муз.* знак павышэ́ння [паніжэ́ння] тóну

**Versétzungszeugnis** *n* -ses, -se пасвéдчанне аб перахóдзе ў íншы клас

**verséuchen** *vt* заражáць, насылáць пóшасць, атрýчваць (*тс. перан.*)

**Verséuchung** *f* -, -en заражэ́нне, атрýчванне (*тс.перан.*); ***radioaktíve ~*** заражэ́нне (баявы́мі) радыёакты́ўнымі рэ́чывамі

**Vérsfuß** [fɛrs-] *m* -es, -füße *літ.* (вершавáная) стапá

**versíchern 1**. *vt* 1) (*G*) запэ́ўніваць, упэ́ўніваць (*у чым-н.*) 2) (*gegen A*) страхавáць (*ад чаго-н.*) **2. ~, sich** 1) застрахавáцца 2) забяспéчыць сабé падтры́мку

**Versícherung** *f* -, -en 1) запэ́ўненне (*G – у чым-н.*); ***éine ~ ábgeben**** запэ́ўніваць 2) страхавáнне 3) страхóўка (*дагавор страхавання*) (*gegen A – ад чаго-н.*); ***éine ~ ábschlíeßen**** застрахавáцца

**versíckern** *vi* (s) прасóчвацца, выцякáць, вычэ́рпвацца; высыхáць

**versíegeln** *vt* запячáтваць, апячáтваць; ***j-m den Mund [die Líppen] ~*** застáвіць маўчáць кагó-н.

**Versíegelung** *f* -, -en запячáтванне; апячáтванне

**versíegen** *vi* (s) канчáцца, знíкнуць (*тс. перан.*)

**versíert** [v-] *a* дасвéдчаны, кваліфікавáны

**versílbern** *vt* 1) пасерабры́ць 2) *жарт.* прадавáць; ***j-m die Hände ~*** даць хáбар камý-н.

**versímpeln** *vi* (s) *разм.* 1) падурнéць 2) апрасцíцца, стаць прымíты́ўным

**Versímpelung** *f* - 1) адурэ́нне 2) апрашчэ́нне, прымітывíзм

**versínken*** *vi* (s) 1) патанáць, апускáцца 2) *перан.* загрáзнуць 3) аддавáцца (*напр., рабоце*)

**versínnbilden, versínnbildlichen** *vt* сімвалізавáць

**Versínnbildlichung** *f* -, -en сімвалізáцыя

**Versión** [vɛr-] *f* -, -en 1) вéрсія, варыя́нт 3) фóрма выкладáння, рэдáкцыя 3) перакла́д

**versíppt** *a* рóдны, сваяцкі

**versklávеn** [-vən] *vt* занявóльваць

**Versklávung** [-fuŋ *і* -vuŋ] *f* - занявóленне, прыгнёт

**Vérslehre** [fɛrs-] *f* -, -n тэóрыя вершаскладáння

**Vérsmaß** *n* -es, -e *літ.* вершавáны памéр

**versóffen** *a* які спíўся, прапíты

**versóhlen** *vt* 1) падшывáць абýтак, рабíць падэ́швы 2) *разм.* адлупцавáць; ***j-m etw. ~*** *разм.* нахлусíць камý-н. што-н.

**versöhnen 1.** *vt* (*mit D*) прымíры́ць, замíры́ць **2. ~, sich** (*mit D*) замíры́цца, памíры́цца (*з кім-н., чым-н.*)

**versöhnend** *a* прымíры́цельны

**Versöhnler** *m* -s, - прымірэ́нец, згóднік

**versöhnlerisch** *a* прымірэ́нчы, згóдніцкі

**Versöhnlertum** *n* -(e)s прымірэ́нства, згóдніцтва

**versöhnlich** *a* міралю́бны, прымірэ́нчы

**Versöhnlichkeit** *f* - міралю́бства

**Versöhnung** *f* -, -en прымірэ́нне, замірэ́нне

**versónnen** *a* летуцéнны, забы́ўлівы

**versórgen 1.** *vt* (*mit D*) 1) забяспéчваць (*чым-н.*), абслугóўваць 2) выкóнваць **2. ~, sich** рабíць запáсы, забяспéчваць сябé (*mit D – чым-н.*)

**versórgt** *a* 1) забяспéчаны 2) заклапóчаны, прыгнéчаны клóпатам

**Versórgung** *f* -, -en 1) забеспячэ́нне 2) абслугóўванне; ***éine ~ fínden**** знайсцí мéсца [заня́так]

**verspäten 1.** *vt* затры́млíваць, зацягваць **2. ~, sich** спазня́цца, пазнíцца

**Verspätung** *f* -, -en спазнéнне, запазнéнне

**verspéisen** *vt высок.* з’ядáць, спажывáць

**verspérren** *vt* 1) перагарóджваць, загарóджваць 2) зачыня́ць, замыкáць 3) *палігр.* набірáць у разрáдку

**Verspérrung** *f* -, -en 1) загарóда 2) замыкáнне

**verspíelen** *vt* 1) прайгравáць, прагýльваць 2) згубíць (*сваё шчасце*) ◊ ***Kopf und Krágen ~*** злажы́ць галавý

**verspótten** *vt* насміхáцца, здзéквацца (*з

*каго-н., чаго-н.*), высме́йваць (*каго-н., што-н.*)

**Verspóttung** *f* -, -en здзе́кі, высме́йванне, насме́шка

**verspréchen*** **1.** *vt* 1) абяца́ць 2) абяца́ць, прадка́зваць (*пра барометр і г.д.*); ***er versprách sich viel davón*** ён мно́га чака́ў ад гэ́тага **2. ~, sich** 1) агавары́цца 2) (*mit D*) заручы́цца

**Verspréchen** *n* -s, *рэдка pl* абяца́нне; ***ein ~ gében**** дава́ць абяца́нне; ***ein ~ hálten* [éinlösen]*** стрыма́ць абяца́нне

**Verspréchung** *f* -, -en абяца́нне, абяца́нка; ***j-m ~en máchen*** дава́ць каму́-н. абяца́нні; ***~en hálten**** стрыма́ць абяца́нні

**versprengen** *vt* рассе́йваць, разганя́ць

**Versprengte** *sub m* -n, -n салда́т, які́ адста́ў [адбі́ўся] ад сваёй ча́сці

**Versprengung** *f* -, -en рассе́йванне, разго́н

**verspritzen** *vt* распы́рскваць; праліва́ць (*кроў*)

**versprochen** *a* абяца́ны

**versproch(e)nermaßen** *adv* зго́дна з абяца́ннем

**versprühen** *vt* рассыпа́ць, распы́рскваць, распыля́ць

**verspüren** *vt* адчува́ць

**verstáatlichen** *vt* нацыяналізаваць

**Verstáatlichung** *f* -, -en нацыяналіза́цыя

**verstädtern** *vi* (s) рабі́цца гарадскі́м [гараджа́нінам]

**Verstand** *m* -(e)s ро́зум, развaжа́нне, інтэле́кт; ***mit ~*** з ро́зумам, талко́ва; ***den [all séinen] ~ zusámmennehmen**** засяро́дзіцца; ***ich hábe ihm mehr ~ zúgetraut*** я лічы́ў яго́ больш разу́мным; ***da steht éinem der ~ still!*** я нічо́га не разуме́ю!; ***an ~ zúnehmen**** паразумне́ць, набра́цца ро́зуму; ***vom ~ kómmen**** звар'яце́ць; ***zu ~(e) kómmen**** абразу́міцца, прыйсці́ да ро́зуму; ***j-n um den ~ bríngen**** звесці каго́-н. з ро́зуму; ***bei vóllem ~ und úngetrübtem Gedächtnis*** пры сваі́м ро́зуме і цвёрдай па́мяці

**Verstándesmensch** *m* -en, -en развáжлівы чалаве́к

**verstándesmäßig** *a* інтэлектуа́льны, развáжны, разу́мны, цвяро́зы ро́зумам

**Verstándesschärfe** *f* - праніклівасць (*розуму*)

**verständig** *a* разу́мны, развáжны

**verständigen** **1.** *vt* паведамля́ць (*über A, von D – аб чым-н*) **2. ~, sich 1**) дамаўля́цца 2) вытлума́чвацца

**Verständigung** *f* -, -en 1) паведамле́нне, абве́стка; апавяшчэ́нне 2) пагадне́нне, дамо́ўленасць, узаемаразуме́нне; ***éine Fráge auf dem Wége der ~ lösen*** вы́рашыць пыта́нне шля́хам перамо́ў

**verständlich** *a* зразуме́лы, я́сны, выра́зны; апраўда́ны (*пра патрабаванні*); разбо́рлівы (*пра почырк*)

**verständlicherweise** *adv* натура́льна, (само́ сабо́й) зразуме́ла

**Verständlichkeit** *f* - 1) зразуме́ласць, я́снасць, выра́знасць 2) спачува́нне, разуме́нне

**Verständnis** *n* -ses, -se 1) (*für A*) разуме́нне (*чаго-н.*); ***j-m das ~ für etw.*** (***A***) ***béibringen**** дабі́цца ад каго́-н. разуме́ння чаго́-н.; ***mir geht das ~ für etw.*** (***A***) ***auf*** я пачына́ю разуме́ць што-н. 2) разуме́нне, спачува́нне; ***vólles ~ für etw.*** (***A***) ***háben*** быць ца́лкам і по́ўнасцю зго́дным з чым-н.; ***viel ~ für etw.*** (***A***) ***áufbringen**** адно́сіцца з вялі́кім спачува́ннем да чаго́-н.; ***ein beréitwilliges ~ zéigen*** адне́сціся да чаго́-н. добразычлі́ва 3) пагадне́нне, дамо́ўленасць; узаемаразуме́нне

**verständnisinnig** *a* 1) ця́млівы, ке́млівы 2) спачува́льны

**verständnislos** *a* няке́млівы, бесталко́вы, няця́млівы

**verständnisvoll** *a* 1) ця́млівы, ке́млівы 2) спага́длівы, спачува́льны, чу́лы

**verstärken** *vt* 1) узмацня́ць, умацо́ўваць, мацава́ць 2) павялі́чваць (*капіталаўкладанні*)

**Verstärker** *m* -s, - *тэх.*, *фота, радыё, хім.* узмацня́льнік

**verstärkt** *a* узмóцнены (*тс.вайск.*)

**Verstärkung** *f* -, -en узмацнéнне, умацавáнне, падмацавáнне, падтры́мка

**verstáuben** *vi* (s) запылíцца, пакрывáцца пы́лам

**verstäuben** *vt* распылЯць, распы́рскваць

**verstáuchen** *vt мед.* вы́віхнуць, вы́круціць, пацягнýць

**Verstáuchung** *f* -, -en *мед.* вы́віх, звіх, расцяжэ́нне

**verstáuen** *vt* грузíць, уклáдваць (*груз, багаж*); пасадзíць (*пасажыраў*)

**Verstéck** *n* -(e)s, -e прыстáнішча, прытýлак, схóвішча, схоў 2) засáда; **~ *spíelen*** гулЯць у хóванкі; ***im ~ líegen**** сядзéць [быць] у засáдзе

**verstécken** *vt* **1.** *vt* хавáць **2. ~, sich** хавáцца ◊ ***du musst dich vor ihm ~*** *разм.* ≅ ты ягóнага паднóска не вáрты; ***sich hínter Wórte ~*** прыкрывáцца слóвамі

**Verstéckenspielen** *n* -s, **Verstéckspiel** *n* -(e)s гульнЯ ў хóванкі

**verstéckt** *a* 1) нешматслóўны, замкнёны 2) няшчы́ры

**verstéhen*** **1.** *vt* 1) разумéць, цЯміць, кéміць; ***j-m etw. zu ~ gében**** даць зразумéць камý-н. што-н. 2) умéць (*што-н. рабіць*), разбірáцца (*у чым-н.*); ***von éiner Sáche nichts ~*** не цЯміць нічóга ў спрáве; ***er verstéht es, gut zu málen*** ён умéе дóбра малявáць; ***verstéht er viel von Musík?*** ён дýжа разбірáецца ў мýзыцы? **2. ~, sich** 1) разумéць адзін аднагó, знахóдзіць агýльную мóву, паразумéцца 2): ***es verstéht sich von selbst*** самó сабóй зразумéла

**verstéifen** **1.** *vi* (s) здранцвéць, анямéць **2. ~, sich 1)** (*auf A*) упáрціцца (*у чым-н.*); упірáцца 2) мацнéць; стабілізóўвацца (*пра эканоміку*) **3.** *vt буд.* умацóўваць, падпірáць

**Verstéifung** *f* -, -en 1) нерухóмасць, здранцвéнне 2) *буд.* умацавáнне, падпóра

**verstéigen*, sich** 1) ганары́цца 2) заблудзíцца (*у гарах*)

**verstéigern** *vt* прадáваць з аўкцыёна, прадавáць з малаткá

**Verstéigerung** *f* -, -en аўкцыён, таргí; ***éine ~ áusschreiben**** [ánsetzen] назнáчыць аўкцыён; ***zur ~ kómmen**** пайсцí з малаткá

**verstéinern** **1.** *vi* (s) акамянéць, скамянéць **2.** *vt* ператвары́ць у кáмень

**verstéinert** *a* акамянéлы, скамянéлы

**Verstéinerung** *f* -, -en 1) акамянéласць 2) акамянéнне

**verstéllbar** *a* перасóўны; перастаўны́, рэгулЮемы

**verstéllen** **1.** *vt* 1) перасóўваць, перастаўлЯць 2) загарóджваць, застаўлЯць 3) змянЯць (*голас, почырк*) **2. ~, sich** прыкíдвацца, удавáць з сябé

**Verstéllung** *f* -, -en 1) перастанóўка 2) двурýшнасць, сімулЯцыя, крывадýшнасць 3) змянéнне (*голасу, почырку*)

**verstérben*** *vi* (s) памéрці, сканáць

**verstéuern** *vt* 1) заплацíць мы́та [пóшліну, падáтак] (*за што-н.*) 2) наклáсці пóшліну [мы́та, падáтак]

**Verstéu(e)rung** *f* -, -en 1) плáта за мы́та [падáткаў] 2) абкладáнне мы́там [падáткамі]

**verstíeben*** *vi* (s) рассы́пацца (*у пыл*)

**verstíegen** *a* экзальтавáны, вы́чварны

**verstímmen** *vt* 1) расстрóйваць (*музычны інструмент*) 2) засмучáць

**verstímmt** *a* расстрóены, разлáджаны; **~ *sein*** быць не ў гумóры

**Verstímmung** *f* -, -en 1) дрэ́нны настрóй, засмучэ́нне 2) расстрóйства, разлáд

**verstócken** *vi* (s) закаснéць; разлютавáцца

**verstóckt** *a* 1) закаснéлы, закаранéлы 2) разлютавáны 3) запляснéлы, прэ́лы, пакры́ты плЯмамі [іржóй]

**verstóhlen** *a*: ***~er Blick*** упóтай кíнуты пóзірк **2.** *adv* крадкóм, упóтай

**verstópfen** *vt* 1) затыкáць, заканапáчваць 2) засóрваць (*страўнік*)

**Verstópfung** *f* -, -en 1) затыкáнне 2) закупóрка 3) *мед.* зацвярдзéнне, запóр

**verstórben** *a* памéрлы, памёршы

**Verstórbene** *sub m, f* -n, -n нябóжчык,

-чыца

**verstört** *a* разгу́блены, збянтэ́жаны, напало́ханы

**Verstörtheit** *f* - разгу́бленасць, спо́лах, збянтэ́жанасць

**Verstóß** *m* -es, -stöße парушэ́нне (*gegen A – чаго-н.*); про́мах, дрэ́нны ўчы́нак; ***in ~ geráten**** згубі́цца, прапа́сці

**verstóßen* 1.** *vi* (*gegen A*) (па)грашы́ць (*супраць чаго-н.*), паруша́ць (*што-н.*) **2.** *vt* выганя́ць, адхіля́ць, вырака́цца (*каго-н.*)

**verstréichen* I** *vt* зама́зваць (*шчыліны*)

**verstréichen* II** *vi* (s) прахо́дзіць, міна́ць (*пра час*)

**verstréuen** *vt* рассы́паць, раскі́даць, рассе́йваць

**verstrícken 1**. *vt* (*in A*) заблы́тваць, уця́гваць (*каго-н. у непрыемную справу*) **2. ~, sich** (*in A*) заблы́тацца (*у супярэчнасцях і г.д.*); ублы́тацца ў што-н.

**Verstríckung** *f* -, -en 1) збег абста́він 2) *перан.* канфлі́кт, калі́зія

**verstümmeln** *vt* 1) зняве́чыць, скале́чыць 2) сказі́ць, сапсава́ць

**Verstümmelung** *f* -, -en 1) кале́цтва, пашко́джанне 2) скажэ́нне, псава́нне, нявечанне

**verstúmmen** *vi* (s) 1) аняме́ць, зняме́ць 2) змо́ўкнуць (*пра музыку, галасы*)

**Versúch** *m* -(e)s, -e 1) спро́ба; ***éinen ~ máchen*** зрабі́ць спро́бу 2) про́ба, до́след, во́пыт; ***éinen ~ ánstellen [máchen, áusführen]*** паста́віць до́след 3) *юрыд.* зама́х (*на злачынства*)

**versúchen** *vt* 1) каштава́ць (*страву*) 2) спрабава́ць, прабава́ць, про́баваць; ***er versúchte sein Béstes*** ён паспрабава́ў зрабі́ць усё, што ад яго́ зале́жыць; ***sein Glück ~*** паспрабава́ць шча́сця 3) спакуша́ць (*каго-н.*); ***sein Schícksal ~*** спакуша́ць лёс

**Versúcher** *m* -s, - спаку́снік

**Versúchsanlage** *f* -, -n эксперымента́льная ўстано́ўка, эксперымента́льнае абсталява́нне

**Versúchsflieger** *m* -s, - лётчык-выпрабава́льнік

**Versúchsreihe** *f* -, -n шэ́раг [се́рыя] до́следаў

**Versúchsstation** *f* -, -en *с.-г.* до́следная ста́нцыя

**versúchsweise** *adv* як до́след, у я́касці до́следу; ***j-n ~ ánstellen*** прыня́ць каго́-н. з выпрабава́льным тэ́рмінам

**Versúchswerte** *pl* да́ныя [пака́зчыкі] до́следу [эксперыме́нта]

**Varsúchszwecke** *pl*: ***zu ~n*** дзе́ля [з мэ́тай] эксперыме́нта

**Versúchung** *f* -, -en спаку́са; ***éiner ~ náchgehen**** спакусі́цца; ***éiner ~ unterlíegen**** [erlíegen*] не ўстая́ць пе́рад спаку́сай

**versúdeln** *vt* запэ́цкаць, забру́дзіць

**versúmpfen** *vi* (s) 1) забало́чвацца 2) загра́знуць (*in D – у чым-н.*); *перан.* апусці́цца

**versúmpft** *a* 1) забало́чаны 2) *перан.* закасне́лы, які́ апусці́ўся

**versündigen, sich** (*an D*) правіні́цца, саграшы́ць (*супраць каго-н., чаго-н.*)

**Versündigung** *f* -, -en грэх, праві́ннасць

**versúnken:** ***in etw. ~ sein*** быць мо́цна апанта́ным (*напр., думкамі*)

**versüßen** *vt* падсаладзі́ць ◊ ***j-m éine bíttere Pílle ~*** падсаладзі́ць каму́-н. пілю́лю

**vertágen** *vt* адтэрміно́ўваць, адкла́дваць, перано́сіць

**Vertágung** *f* -, -en адтэрміно́ўка, перано́с (*на другі тэрмін*)

**vertändeln** *vt* тра́ціць дарма́, ма́рна тра́ціць (*час*)

**vertáuschen** *vt* 1) выпадко́ва абмяня́ць; ***die Róllen ~*** *перан.* памяня́цца ро́лямі 2) (*mit D*) змяні́ць (*што-н. на што-н.*); памяня́ць ме́сца жыха́рства

**vertáusend|fachen, ~fältigen** *vt* павялі́чваць у ты́сячу разо́ў

**vertéidigen 1.** *vt* (*gegen A*) абараня́ць, бараніць (*каго-н., што-н. ад каго-н., чаго-н*); ***j-n vor Gerícht ~*** абараня́ць каго́-н. у судзе́ **2. ~, sich** барані́цца, трыма́ць абаро́ну

**Vertéidiger** *m* -s, - абаро́нца; засту́пнік

**Vertéidigung** *f* -, -en абаро́на; ***tíef-gestaffelte ~*** глыбо́ка эшаланíраваная абаро́на; ***in der ~ líegen**** займа́ць [трыма́ць] абаро́ну

**Vertéidigungsanlage** *f* -, -n абаро́ннае збудава́нне

**Vertéidigungslini¦e** *f* -, -n лíнія абаро́ны

**Vertéidigungsstellung** *f* -, -en абаро́нчая пазíцыя [паласа́], абаро́нчы рубе́ж

**vertéilen 1.** *vt* размяркоўваць, раздава́ць **2. ~, sich** размяркоўвацца, драбнíцца

**Vertéiler** *m* -s, - 1) разда́тчык, размеркава́льнік 2) *тэх.* размеркава́льная прыла́да

**Vertéilung** *f* -, -en 1) размеркава́нне, разда́ча, вы́дача 2) размяшчэ́нне

**vertéuern** *vt* падаражы́ць, падня́ць цану́ (*на тавар*)

**Vertéu(e)rung** *f* -, -en падаража́нне

**vertéufelt 1.** *a* ве́льмі пры́кры (*справа і г.д.*) **2.** *adv разм.* на́дта, па д'я́бальску (*цяжка і г.д.*)

**vertíefen 1.** *vt* паглыбля́ць (*тс.перан.*) **2. ~, sich** паглыбля́цца (*у лес*) 2) паглыбля́цца (*у кнігу, успаміны*); ***in Ge-dánken vertíeft*** заду́маўшыся 3) паглыбля́цца, узмацня́цца, абвастра́цца (*пра крызіс*)

**Vertíefung** *f* -, -en 1) паглыбле́нне, я́мка, катлавíна 2) паглыбле́нне, узмацне́нне, абвастрэ́нне (*крызісу*)

**vertíeren** *vi* (s) азвярэ́ць, згубíць чалаве́чае аблíчча

**vertíert** *a* азвярэ́лы

**vertikál** [vɛr-] *a* вертыка́льны

**Vertikále** [vɛr-] *sub f* -, -n перпендыкуля́р, вертыка́ль, старча́к

**Vertiko** ['vɛr-] *n, m* -s, -s дэкараты́ўная ша́фа

**vertílgen** *vt* знішча́ць, вынішча́ць

**Vertílgung** *f* - 1) знішчэ́нне, вынішчэ́нне 2) паглына́нне (*стравы*)

**vertíppen, sich** памылíцца пры перадрукоўцы, пры набо́ры на клавіяту́ры камп'ю́тэра

**vertónen** *vt* пакла́сці на му́зыку, агу́чыць

**Vertónung** *f* - перакладáнне на му́зыку; агу́чванне

**vertráckt** *a разм.* 1) заблы́таны, хíтры 2) пры́кры, непрые́мны

**Vertrág** *m* -(e)s, -träge дамо́ва, дагаво́р, кантра́кт; ***kraft des ~es*** у сíлу дагаво́ру [дамо́вы]; ***laut ~*** зго́дна з дагаво́рам [дамо́вай]; ***ein leonínischer ~*** каба́льны дагаво́р; ***den ~ ánnehmen**** пагадзíцца на заключэ́нне дагаво́ру [дамо́вы, кантра́кта]; ***éinen ~ schlíeßen**** заключы́ць дагаво́р; ***éinen ~ bréchen**** пару́шыць дагаво́р; ***éinen ~ éinhalten**** выко́нваць дагаво́р [дамо́ву], прытры́млівацца дагаво́ру [дамо́вы]; ***éinen ~ ernéuern*** узнавíць дагаво́р [дамо́ву]; ***éinen ~ hin-terlégen*** *юрыд.* дэпанíраваць дагаво́р; ***éinen ~ unterschréiben* [unterzéichnen]*** падпíсаць дагаво́р [дамо́ву]

**vertrágen* I 1.** *vt* выно́сіць, трыва́ць, цярпе́ць (*боль і г.д.*); ***er verträgt kéinen Spass*** ён не разуме́е жа́ртаў; ***éinen Puff ~*** *разм.* быць выно́слівым **2. ~, sich** (*mit D*) ла́дзіць, жыць у зго́дзе; ***sich mit j-m wíeder ~*** памíры́цца з кім-н.; ***das verträgt sich nicht mit séi-nen Ánsichten*** гэ́та не вя́жацца з яго́ по́глядамі

**vertrágen* II** *vt* зно́шваць (*адзенне і г.д.*)

**vertráglich 1.** *a* дагаво́рны, дамо́ўны, кантра́ктны **2.** *adv* зго́дна з дагаво́рам

**verträglich** *a* 1) ужы́ўчывы, міралю́бны 2): ***díese Spéise ist schwer ~*** гэ́тая стра́ва ця́жкая

**Verträglichkeit** *f* - 1) згаво́рлівасць, ужы́ўчывасць 2) сумяшча́льнасць

**Vertrágsbetrieb** *m* -(e)s, -e майстэ́рня па гаранты́йнаму рамо́нту

**Vertrágsbruch** *m* -(e)s, -brüche парушэ́нне дагаво́ру

**verstrágs|gemäß, ~mäßig 1.** *a* дагаво́рны, адпаве́дны дагаво́ру **2.** *adv* паво́дле дагаво́ру

**Vertrágsgericht** *n* -(e)s, -e арбітра́ж

**Vertrágsmächte** *pl* дзяржа́вы, якíя дагаво́рваюцца; дзяржа́вы, звя́заныя дагаво́рам

**Vertrágspartei** *f* -, -en *юрыд.* дагаво́рны

бок

**Vertrágspartner** *m* -s, - *юрыд.* дагавóрны бок

**vertrágsrechtlich** *a* дагавóрна-прававы́

**Vertrágsverletzung** *f* -, -en парушэ́нне дагавóру

**Vertrágsverpflichtung** *f* -, -en абавязáцельства, якóе выцякáе з дагавóру

**vertrágswidrig** *a* які́ супярэ́чыць дагавóру

**vertráuen** *vi* (*D*) давярáць, вéрыць (*каму-н., чаму-н.*)

**Vertráuen** *n* -s давéр (*auf, in A, zu D – да каго-н., да чаго-н.*); ***im ~*** па сакрэ́це, канфідэнцы́йна; ***im ~ geságt*** памíж нáмі кáжучы; ***j-m, éiner Sáche*** (***D***) ***~ schénken; zu etw.*** (***D***) ***~ háben [hégen]*** адчувáць [мець] давéр да кагó-н., чагó-н.; ***zu j-m ~ fássen*** прасякнуцца давéрам да кагó-н.; ***er erwéckt ~*** ён выклікáе давéр да сябé; ***sein ~ in j-n, in etw.*** (***A***) ***sétzen*** ускладáць надзéю на кагó-н., штó-н.; ***sich in j-s ~ schléichen* [stéhlen*]*** укрáсціся [уцéрціся] у давéр да кагó-н.

**Vertráuen erwéckend** *a* які́ выклікáе (да сябé) давéр

**Vertráuensabstimmung** *f* -, -en галасавáнне па пытáнні аб давéры

**Vertráuensbeweis** *m* -es, -e дóказ [пасвéдчанне] давéру

**Vertráuensbruch** *m* -(e)s, -brüche парушэ́нне давéру

**Vertráuensfrage** *f* -, -n пытáнне аб давéры

**Vertrauens|mann** *m* -(e)s, -leute *i* -männer, **~person** *f* -, -en давéраная асóба

**Vertráuensposten** *m* -s, - адкáзная пасáда, адкáзны пост

**vertráuensselig** *a* давéрлівы, легкавéрны

**Vertráuensseligkeit** *f* давéрлівасць, легкавéрнасць

**Vertráuensstellung** *f* -, -en адкáзная пасáда

**vertráuensvoll** *a* давéрлівы, пóўны давéру

**Vertráuensvotum** [-vo:-] *n* -s, -ten *i* -ta вóтум давéру; ***j-m das ~ ertéilen*** вы́казаць камý-н. вóтум давéру

**vertráuenswürdig** *a* вáрты давéру

**vertráuern** *vt*: ***sein Lében ~*** пражы́ць у смýтку

**vertráulich 1.** *a* давéрлівы 2) канфідэнцы́йны; ***éine ~e Sítzung*** закры́тае пасяджэ́нне **2.** *adv* сакрэ́тна, па сакрэ́ту, канфідэнцы́йна

**Vertráulichkeit** *f* -, -en 1) давéрлівасць, інты́мнасць; натурáльнасць, прастатá 2) канфідэнцыя́льнасць 3) фамілья́рнасць; ***sich*** (***D***) ***~en heráusnehmen**** дазвóліць сабé вóльнасць

**verträumen** *vt* прамáрыць (*дзень*); аддавáцца мáрам [летуцéнням]; ***sein Glück ~*** праспáць сваё шчáсце

**verträumt** *a* летуцéнны, мрóйны, ідылісты́чны (*куток*)

**vertráut** *a* 1) блíзкі, інты́мны; дóбра знаёмы 2) (*mit D*) дóбра знаёмы (*з чым-н.*), дасвéдчаны (*у чым-н.*); ***sich mit etw.*** (***D***) ***~ máchen*** пазнаёміцца, асвóіцца (*з чым-н.*), прывы́кнуць, прызвычáіцца (*да чаго-н.*)

**Vertráute** *sub m, f* -n, -n давéраны, -ная, блíзкі ся́бар, блíзкая сябрóўка

**Vertráutheit** *f* -, -en 1) інты́мнасць, блíзкасць 2) грунтóўнае вéданне (*чаго-н.*)

**vertréiben* I** *vt* праганя́ць; ***j-m das Láchen ~*** адбíць у кагó-н. ахвóту смяя́цца; ***die Zeit ~*** правóдзіць час

**vertréiben* II** *vt* збывáць, прадавáць

**Vertréibung I** *f* -, -en выгнáнне, насíльнае высялéнне

**Vertréibung II** *f* -, -en прóдаж, збыт

**vertrétbar** *a* дапушчáльны, які́ мóжа быць апраўдáны

**vertréten*** *vt* 1) замяня́ць, замяшчáць; ***j-n im Amt ~*** замяня́ць кагó-н. па слýжбе 2) прадстаўля́ць, рэпрэзентавáць 3) абараня́ць (*інтарэсы*); ***éinen Stándpunkt ~*** займáць якýю-н. пазíцыю 4) перагарóджваць; ***j-m den Weg ~*** перагарадзíць камý-н. шлях [дарóгу] 5): ***sich*** (***D***) ***den Fuß ~*** вы́віхнуць сабé нагý; ***sich*** (***D***) ***die Béine ~*** *разм.* размя́ць нóгі, прайсцíся ◊ ***j-m die Brücke ~*** садзéйнічаць камý-н.

**Vertréter** *m* -s, - 1) прадстаўнíк, рэпрэзентáнт 2) намéснік 3) агéнт (*напр., у*

*фірме*)

**Vertrétung** *f* -, -en 1) прадстаўні́цтва; ***die ~ léiten*** узначальваць прадстаўні́цтва 2) замяшчэ́нне (*каго-н. у пасадзе*), выкана́нне чыі́х-н. абавя́зкаў; ***in ~…*** выко́нваючы абавя́зкі (*таго-та*); ***in j-s ~*** у я́касці чыйго́-н. наме́сніка

**vertrétungsweise** *adv* у я́касці прадстаўніка́; у я́касці наме́сніка

**Vertríeb** *m* -(e)s, -e збыт, про́даж

**Vertríebsrecht** *n* -(e)s, -e пра́ва про́дажу [распаўсю́джвання]

**vertrímmen** *vt разм.* адлупцава́ць, збіць на го́ркі я́блык

**vertrínken*** *vt* (s) прапіва́ць

**vertrócknen** *vi* (s) 1)) засыха́ць; ***~ lássen**** засушы́ць, вы́сушыць 2) высыха́ць, схудне́ць (*пра чалавека*) 3) *перан.* зачарсцве́ць, ачарсцве́ць

**vertrócknet** *a* 1) засо́хлы, вы́сахлы, чэ́рствы (*пра хлеб*) 2) *перан.* чэ́рствы, зачарсцве́лы

**Vertrócknung** *f* -, -en 1) высыха́нне, засыха́нне 2) засу́шванне

**vertrödeln** *vt* марнава́ць, марнатра́віць (*час*)

**vertrópfen** *vi* (s) 1) выцяка́ць (*кропля за кропляй*) 2) мару́дна прахо́дзіць, канча́цца (*пра час*)

**vertrösten 1.** *vt* (*auf A*) абнадзе́йваць (*каго-н. чым-н.*) **2. ~, sich** супако́йвацца, прымíры́цца

**Vertröstung** *f* - абнадзе́йванне

**vertrótteln** *vi* (s) (па)дурне́ць, (а)тупе́ць

**Vertúer** *m* -s, - гуля́ка, марнатра́ўца

**vertún*** *vt* змарнава́ць (*грошы, час*)

**vertúschen** *vt* замя́ць, прыхава́ць (*справу*)

**verübeln** *vt* (*D*) кры́ўдзіцца (*на каго-н., за што-н.*)

**verüben** *vt* твары́ць, рабі́ць, вытвара́ць (*што-н. дрэннае*); ***víeles verübt háben*** мець мно́га на сумле́нні

**verúlken** *vt разм.* пажартава́ць (*з каго-н,, над кім-н.*)

**verúnehren** *vt* абганьбава́ць, зга́ньбіць; зняславіць

**verúneinigen 1.** *vt* раз'ядна́ць, пасвары́ць **2. ~, sich** пасвары́цца

**Verúneinigung** *f* -, -en рознагало́ссе, нелады́

**verúnglimpfen** *vt* зга́ньбіць, зняславіць, узве́сці паклёп (*на каго-н.*)

**verúnglücken** *vi* (s) 1) пацярпе́ць ава́рыю; ***tödlich ~*** загíнуць ад няшча́снага вы́падку 2) (*mit D*) пацярпе́ць няўда́чу (*з чым-н.*)

**Verunglückung** *f* -, -en ава́рыя, кале́цтва [гíбель] у вы́ніку ава́рыі [няшча́снага вы́падку]

**verúnreinigen** *vt* 1) забру́джваць 2) зневажа́ць

**Verúnreinigung** *f* -, -en 1) забру́дж(в)анне; пры́месь (*тс.хім.*) 2) зневажэ́нне, прафана́цыя

**verúnsichern** *vt* зрабі́ць няўпэ́ўненым, збянтэ́жыць

**verúnstalten** *vt* 1) (з)няве́чыць 2) сапсава́ць, збры́дзіць, зга́ніць

**Verúnstaltung** *f* -, -en 1) зняве́ч(в)анне 2) скажэ́нне, псава́нне, збры́джванне

**verúntreuen** *vt* 1) растра́чваць, раскра́сці 2) злоўжыва́ць даве́рам

**verúnzieren** *vt* няве́чыць, псава́ць (*выгляд*)

**Verúnzierung** *f* -, -en *гл.* Verúnstaltung 2)

**verúrsachen** *vt* прычыня́ць, выклíка́ць, мець за прычы́ну, мець (сваёй) прычы́най, ствара́ць наго́ду

**Verúrsacher** *m* -s, - зачы́ншчык, віно́ўнік

**Verúrsachung** *f* -, -en 1) прычы́на, наго́да 2) узбуджэ́нне (*гневу і г.д.*), прычыне́нне

**verúrteilen** *vt* (*zu D*) 1) прысу́джваць, асу́джваць, засу́джваць 2) га́ніць, асуджа́ць; ***zum Schéitern verúrteilt*** асу́джаны на прова́л [пагíбель]

**Verúrteilte** *sub m, f* -n, -n асу́джаны, -ная

**Verúrteilung** *f* -, -en 1) асуджэ́нне 2) *юрыд.* прыгаво́р, прысу́д; ***~ in Ábwesenheit [in contumáciam]*** заво́чны прысу́д

**vervíelfachen** *vt* памнажа́ць, павялі́чваць, пабо́льшваць

**Vervíelfachung** *f* - памнажэ́нне, павелічэ́нне, пабо́льшванне

**vervíelfältigen** *vt* павялíчваць, размнажáць (*рабіць копіі*)
**Vervíelfältigung** *f* -, -en размнажэ́нне, памнажэ́нне (*у розн.знач.*)
**Vervíelfältigungsapparat** *m* -(e)s, -e мнóжыльны апарáт, гектóграф, ратáтар і г.д.
**vervóllkommnen 1.** *vt* удасканáльваць **2. ~, sich** удасканáльвацца, павышáць сваю́ кваліфікáцыю
**Vervóllkommnung** *f* -, -en 1) удасканáленне 2) павышэ́нне кваліфікáцыі
**vervóllständigen** *vt* 1) дапаўня́ць, папаўня́ць 2) удасканáльваць
**Vervóllständigung** *f* -, -en 1) папаўнéнне, дапаўнéнне 2) удасканáленне
**verwáchsen*** **I** *vi* (s) 1) загóйвацца, зарастáць 2) зрастáцца 3) зажывáць (*пра рану*)
**verwáchsen II** *a* 1) зарóслы 2) гарбáты, скры́ўлены
**Verwáchsung** *f* -, -en 1) зрастáнне, зрóшчванне 2) зарастáнне 3) скрыўлéнне, скру́чванне
**verwáhren 1.** *vt* (с)хавáць, захóўваць **2. ~, sich** (*gegen A*) 1) засцерагáць сябé (*ад чаго-н.*) 2) пратэставáць (*супроць чаго-н.*)
**verwáhrlosen 1.** *vi* (s) прыйсцí ў занядбáны стан [у беспарáдак] 2) застáцца без дóгляду **2.** *vt* запусцíць, занядбáць
**verwáhrlost** *a* 1) занядбáны, запу́шчаны, бездагля́дны 2) беспрыту́льны, закíнуты
**Verwáhrlosung** *f* - 1) занядбáнасць, запу́шчанасць, закíнутасць 2) адсу́тнасць дóгляду
**Verwáhrung I** *f* -, -en захавáнне, захóўванне; ***in ~ néhmen**** браць на захавáнне
**Verwáhrung II** *f* -, -en пратэ́ст, пярэ́чанне; ***gégen etw.* (*A*) *~ éinlegen*** заявíць пратэ́ст су́праць чагó-н.
**verwáisen** *vi* (s) асірацéць
**verwáist** *a* асірацéлы (*тс.перан.*)
**verwálten** *vt* кіравáць, загáдваць (*чым-н.*)
**Verwálter** *m* -s, - кіраўнíк, загáдчык, адміністрáтар
**Verwáltung** *f* -, -en кіраўнíцтва, адміністрáцыя; ***j-n mit der ~ betráuen*** дару́чыць каму́-н. загáдванне; ***er ist in der ~ tätig*** ён працу́е ў кіраўнíцтве
**Verwáltungsangestellte** *sub m, f* -n, -n слу́жачы, -чая апарáта кіраўнíцтва, афіцы́йная асóба кіраўнíцтва [адміністрáцыі]
**Verwaltungsbefugnis** *f* -, -se адміністрацы́йныя паўнамóцтвы
**Verwáltungsbehörde** *f* -, -n адміністрацы́йная ўстанóва
**Verwáltungsbezirk** *m* -(e)s, -e адміністрацы́йная акру́га
**verwáltungsmäßig** *a* адміністрацы́йны, упраўлéнчы
**Verwáltungsorgan** *n* -(e)s, -e адміністрацы́йная ўстанóва, дзяржáўная ўстанóва
**Verwáltungsrat** *m* -(e)s, -räte 1) кіраўнíцтва, праўлéнне, упрáва 2) член кіраўнíцтва [праўлéння, упрáвы]
**Verwáltungsstelle** *f* -, -n упраўлéнне, упрáва
**Verwáltungsvollmacht** *f* -, -en *гл.* Verwáltungsbefugnis
**verwámsen** *vt груб*. збíць (*на горкі яблык*), адлупцавáць
**verwándeln 1.** *vt* (*in A*) ператварáць, пераўтварáць (*што-н. у што-н.*); ***sich wie verwándelt fühlen*** адчувáць сябé як змянíўшымся [ператвары́ўшымся] **2. ~, sich** ператварáцца, пераўтварáцца
**Verwándlung** *f* -, -en 1) пера(ў)тварэ́нне 2) *тэатр*. перамéна дэкарáцый
**verwándt** *a* 1) рóдны, свая́цкі, рóднасны 2) *перан*. падóбны
**Verwándte** *sub m, f* -n, -n рóдзіч, свая́к, свая́чка
**Verwándtschaft** *f* -, -en 1) свая́цтва, рóднасць, рóднаснасць 2) радня́; ***die ~ mütterlicherseits [väterlicherseits]*** радня́ з бóку мáці [бáцькі] 3) *хім*. рóднасць
**verwándtschaftlich** *a* рóдны, свая́цкі
**Verwándtschaftsbezeichnung** *f* -, -en нáзва [указáнне] свая́цтва
**verwárnen** *vt* (*vor D*) перасцерагáць, папярэ́джваць (*каго-н. ад чаго-н.*)
**Verwárnung** *f* -, -en перасцярóга, папя-

рэ́джанне, заўва́га
**verwáschen*** **I** *vt* замыва́ць
**verwáschen II** *a* 1) вы́цвілы, ліня́лы 2) расплы́вісты, няя́сны
**verwässern** *vt* 1) разбаўля́ць вадо́ю 2) размыва́ць (*тс.перан.*)
**verwében*** *vt* сплята́ць, пераплята́ць, уплята́ць
**verwéchseln** *vt* (пера)блы́таць, прыма́ць адно́ за друго́е
**Verwéchs(e)lung** *f* -, -en блытані́на, пераблы́тванне 2): ***enharmónische ~*** *муз.* энгарманíзм
**verwégen** *a* адва́жны, сме́лы, дзёрзкі, бра́вы
**verwéhren** *vt* (*D*) перашкаджа́ць (*чаму-н.*) 2) забараня́ць; адмаўля́ць, пярэ́чыць (*каму-н.*)
**Verwéhrung** *f* -, -en забаро́на
**verwéhen 1.** *vt* 1) замята́ць 2) развéяць **2.** *vi* (s) рассе́йвацца, разве́йвацца
**verwéichlichen 1.** *vt* распе́сціць **2. ~, sich** распе́сціцца
**Verwéichlichung** *f* -, -en распе́шчанасць
**verwéigern** *vt* адмаўля́ць (*у чым-н.*); адхіля́ць (*просьбу*); ***éinen Beféhl ~*** *вайск.* не падпара́дкавацца зага́ду; ***jéde Ántwort ~*** адмо́віцца адка́зваць (*на пытанні*)
**Verwéigerung** *f* -, -en адмо́ва (*зрабіць што-н.*)
**verwéilen** *vi* знахо́дзіцца, быць, затры́млівацца; ***bei éinem Gedánken ~*** спыні́цца на ду́мцы
**verwéint** *a* запла́каны
**Verwéis I** *m* -es, -e заўва́га, вымо́ва; ***j-m éinen ~ ertéilen [gében*]*** аб'явíць [зрабíць] каму́-н. вымо́ву [заўва́гу]; ***éinen ~ éinstecken*** *разм.* вы́слухаць заўва́гу; ***éinen ~ lösen [tílgen]*** зняць вымо́ву [заўва́гу]
**Verweis II** *m* -es, -e спасы́лка (*на арыгінал, кнігу і г.д.*)
**verwéisen*** **I** *vt* (*j-m*) рабíць вымо́ву [заўва́гу] (*за што-н., каму-н.*)
**verwéisen*** **II** *vt* 1) (*an A*) адсыла́ць (*каго-н. да каго-н.*) 2) (*auf A*) адасла́ць (*каго-н. да чаго-н.*) 3) (*G*) высыла́ць, выганя́ць (*з краіны*) 4) *спарт.* выдаля́ць (*з поля*)
**verwélken** *vi* (s) (за)вя́нуць; бля́кнуць
**verwélkt** *a* звя́лы (*тс.перан.*), пабля́клы
**verwéndbar** *a* прыда́тны (*да ўжытку*); ужыва́льны
**Verwéndbarkeit** *f* - прыда́тнасць, ужыва́льнасць
**verwénden*** **1.** *vt* 1) ужыва́ць, скарыста́ць, прымяня́ць, тра́ціць; ***etw. zu séinem Nútzen ~*** скарыста́ць што-н. на сваю́ кары́сць; ***viel Fleiß auf éine Árbeit ~*** прыкла́сці мно́га намага́нняў у рабо́це 2) адво́дзіць (*убок вочы*); ***er verwándte kéinen Blick [kein Áuge] vom Kind*** ён не спуска́ў вачэ́й з дзіця́ці **2. ~, sich** (*bei j-m für A*) хада́йнічаць (*перад кім-н. за каго-н., што-н.*), прасíць (*каго-н., за каго-н.*), заступа́цца; ***sich für éinen Vórschlag ~*** адсто́йваць [абараня́ць] яку́ю-н. прапано́ву
**Verwéndung** *f* -, -en 1) ужы́так, ужыва́нне, прымянéнне, выкарыста́нне; ***~ fínden*, zur ~ kómmen**** знахо́дзіць ужы́так, ужыва́цца 2) хада́йніцтва
**verwérfen*** **1.** *vt* 1) закíнуць (*што-н., куды-н.*) 2) адхілíць (*прапанову*); адкíнуць (*думку*); ***die Berúfung wúrde verwórfen*** *юрыд.* касацы́йная ска́рга была́ адхíлена **2. ~, sich** караба́ціцца (*пра драўніну*)
**verwérflich** *a* зага́нны, дрэ́нны, няго́дны, непрыма́льны
**Verwérflichkeit** *f* - 1) непрыго́днасць, непрыда́тнасць 2) зага́ннасць, ганéбнасць; непрысто́йнасць
**Verwérfung** *f* -, -en 1) адхілéнне 2) *геал.* скід; *гл.* verwérfen*
**verwértbar** *a* прыда́тны (*для карыстання*)
**verwérten** *vt* 1) вы́карыстаць (*лом металаў*), утылізава́ць 2) рэалізава́ць (*вынаходніцтва*)
**Verwértung** *f* -, -en 1) выкарыста́нне 2) рэалíза́цыя; *гл.* verwérten
**verwésen** *vi* (s) тлець, трухлéць, гнíсці
**Verwésung** *f* -, -en тлéнне, гніéнне, раз-

лажэ́нне

**Verwésungsprodukt** *n* -(e)s, -e праду́кт разлажэ́ння [гніе́ння]

**verwétten** *vt* прайгра́ць (*у спрэчцы*)

**verwéttert** *a* агрубе́лы, агру́блены ад ве́тру [не́пагадзі]

**verwíchen** *a уст.* міну́лы, про́шлы

**verwíchsen** *vt разм.* адлупцава́ць

**verwíckeln** *vt* 1) заблы́тваць 2) заме́шваць, уця́гваць (*у што-н.*) 3) ублы́тваць, уме́шваць (*каго-н. у якую-н. прыгоду*)

**Verwíck(e)lung** *f* -, -en 1) ускладне́нне 2) завя́зка (*у п'есе*)

**verwíldern** *vi* (s) здзічэ́ць, апусці́цца (*пра чалавека*); ***etw.* ~ *lássen**** запусці́ць што-н.

**verwíldert** *a* 1) адзічэ́лы 2) заро́слы (*пра сад*)

**Verwílderung** *f* -, -en 1) здзічэ́нне 2) запусце́нне, запу́шчанасць, занядба́насць

**verwínden*** **I** *vt* перано́сіць, забыва́ць (*боль, крыўду*)

**verwínden*** **II** *vt* абвіва́ць, пераплята́ць

**Verwíndung I** *f* -, -en пераадо́ленне; *гл.* verwínden* I

**Verwíndung II** *f* -, -en перапляце́нне; *гл.* verwínden* II

**verwírken** *vt* стра́ціць (*што-н.*), пазба́віцца (*чаго-н.*); ***sein Lében* ~** паплаці́цца жыццём

**verwírklichen** *vt* ажыццяўля́ць, здзяйсня́ць, рэалізо́ўваць

**Verwírklichung** *f* -, -en ажыццяўле́нне, здзяйсне́нне, рэаліза́цыя

**Verwírkung** *f* -, -en пазбаўле́нне (*чаго-н.*), стра́та

**verwírren*** *vt* 1) заблы́тваць 2) саро́міць, сарамаці́ць, бянтэ́жыць 3) *перан.* пу́таць, заблы́тваць

**verwírrt** *a* 1) блы́таны, заблы́таны 2) *перан.* пераблы́таны, заблы́таны 3) збянтэ́жаны; ***j-n* ~*máchen*** збянтэ́жыць [сканфу́зіць] каго́-н.

**Verwírrung** *f* -, -en 1) блытані́на, беспара́дак, вэ́рхал 2) збянтэ́жанасць; ***in* ~ *geráten**** збянтэ́жыцца; **~ *stíften*** уно́сіць блытані́ну

**verwíschen I 1.** *vt* 1) сцíра́ць (*надпіс*) 2) згла́джваць, затушо́ўваць (*супярэчнасці*); замята́ць (*сляды злачынства*) **2. ~, sich** сце́рціся (*пра надпіс*), згла́дзіцца (*тс. перан., пра ўспамін і г.д.*)

**verwíschen II** *a* размы́ты, расплы́вісты, невыра́зны

**Verwíschung** *f* -, -en 1) сціра́нне 2) *перан.* сціра́нне, затушо́ўванне, зама́званне

**verwíttern** *vi* (s) *геал.* вы́ветрыцца

**verwíttert** *a* 1) стары́, трухля́вы 2) абве́траны, пакараба́чаны 3) маршчы́ністы

**Verwítterung** *f* -, -en *геал.* выве́трыванне

**verwítwen** *vi* (s) аўдаве́ць

**verwítwet** *a* аўдаве́лы

**verwöhnen 1.** *vt* пе́сціць, ба́лаваць (*durch A – каго-н. чым-н.*) **2. ~, sich** пе́сціцца, ба́лавацца

**verwöhnt** *a* 1) спе́шчаны, зба́лаваны 2) вы́танчаны, далíка́тны

**Verwóhntheit** *f* - зно́с, амартыза́цыя (*будынка, мэблі, іншых рэчаў хатняга ўжытку*)

**Verwöhntheit** *f* - спе́шчанасць, распе́шчанасць

**Verwöhnung** *f* - спе́шчванне, балаўство́

**verwórfen** *a* зага́нны, по́длы; разбэ́шчаны

**Verwórfenheit** *f* - по́дласць; разбэ́шчанасць

**verwórren** *a* блы́таны, няя́сны, беспара́дкавы; ***ein* ~*er Kopf*** блы́танік

**Verwórrenheit** *f* - 1) бязла́днасць; блы́танасць; збянтэ́жанасць 2) заблы́танасць, склада́насць

**verwúndbar** *a* ура́злівы; сла́бы, прысту́пны (*для нападаў*)

**verwúnden** *vt* (па)ра́ніць (*тс.перан.*)

**verwúnderlich** *a* дзі́ўны, дзіва́цкі

**verwúndern 1.** *vt* здзіўля́ць, шакі́раваць **2. ~, sich** (*über A*) здзіўля́цца (*каму-н., чаму-н.*)

**Verwúnderung** *f* -, -en здзіўле́нне; ***in* ~ *sétzen*** здзіўля́ць; ***in* ~ *geráten**** здзіў-

ля́цца
**verwúndet** *a* пара́нены
**Verwúndete** *sub m, f* пара́нены, -ная
**Verwúndung** *f* -, -en ране́нне, пашко́джанне
**verwúnschen** *a* зачарава́ны
**verwünschen** *vt* 1) праклiна́ць, кля́сцi 2) заваражы́ць
**verwünscht** *a* 1) пракля́ты 2) *уст.* зачарава́ны
**Verwünschung** *f* -, -en пракля́цце, ана́фема
**verwúrzeln** *vi* (s) 1) глыбо́ка ўкараня́цца 2) (*mit D*) *перан.* зрасцíся, быць кро́ўна звя́заным (*з кiм-н., чым-н.*)
**verwüsten** *vt* 1) спусташа́ць 2) падрыва́ць, нíшчыць (*здароўе*)
**Verwüstung** *f* -, -en спусташэ́нне, вынiшчэ́нне
**verzágen** *vi* сумава́ць, журы́цца; тра́цiць надзе́ю, адча́йвацца, па́даць ду́хам
**Verzágtheit** *f* - адча́й, ро́спач
**verzählen, sich** аблiчы́цца, пралiчы́цца
**verzáhnen** *vt тэх.* 1) счапля́ць, знiто́ўваць 2) злуча́ць у зубцы́ 3) нараза́ць зубцы́ (*на чым-н.*)
**verzánken, sich** пасвары́цца
**verzápfen** *vt* 1) змацо́ўваць шыпа́мi 2) прадава́ць распíвачна 3) цадзíць 4) *разм.* балбата́ць; ***dúmmes Zeug*** ~ не́сцi лухту́
**Verzápfung I** *f* -, -en *буд.* змацава́нне шыпа́мi
**Verzápfung II** *f* -, -en про́даж распíвачна
**verzärteln** *vt* спе́сцiць, распе́сцiць
**Verzärtelung** *f* -, -en спе́шчанне, распе́шчанне
**verzáubern** *vt* зачарава́ць, заваражы́ць (*тс. перан.*)
**Verzáuberung** *f* -, -en 1) чараўнíцтва, ча́ры 2) *перан.тс.* зачарава́нне
**verzäunen** *vt* абгарадзíць [абне́сцi] пло́там
**Verzäunung** *f* -, -en 1) абнясе́нне пло́там 2) плот, загаро́дка
**verzéchen** *vt* прапiва́ць
**Verzéhr** *m* -(e)s 1) спажыва́нне (*харчоў*) 2) раху́нак (*у шынку*)
**verzéhren 1.** *vt* 1) з’яда́ць, паглына́ць, спажыва́ць; ***j-n mit den Áugen*** ~ паглына́ць каго́-н. вача́мi 2) дайма́ць, знясíльваць (*пра хваробу*) **2. ~, sich** знясíльваць сябе́
**verzéhrend** *a* вынiшча́льны
**Verzéhrung** *f* -, -en 1) паглына́нне, спажыва́нне 2) знясíленне, змардава́нне
**verzéichnen 1.** *vt* 1) запíсваць, склада́ць спiс (*чаго-н.*) 2) адзнача́ць (*поспех*); ***er hat éinen gróßen Erfólg zu*** ~ ён ма́е вялíкi по́спех; у яго́ вялíкi по́спех 3) няпра́вiльна намалява́ць **2. ~, sich** памылíцца пры малява́ннi, няпра́вiльна намалява́ць
**Verzéichnis** *n* -ses, -se спiс; во́пiс; паказа́льнiк; рэе́стр, катало́г; ***ein ~ des Ínhalts*** змест (*у кнiзе*); ***ein ~ ánlegen*** заве́сцi спiс; ***im ~ áufführen*** паказа́ць у спíсе
**Verzéichnung** *f* -, -en 1) за́пiс, адзна́ка, пералíк 2) няпра́вiльнасць [памы́лка] у малю́нку, у пака́зе (*лiтаратурнага вобраза*)
**verzéihbar** *a* дарава́льны, выбача́льны
**verzéihen*** *vt* (*j-m*) дарава́ць, прабача́ць (*каму-н.*); ~ ***Sie!*** дару́йце, праба́чце!
**verzéihlich** *a* дарава́льны, выбача́льны
**Verzéihung** *f* - прабачэ́нне, дарава́нне; ~***!*** праба́чце!; ***j-n um ~ bítten**** прасíць у каго́-н. прабачэ́ння
**verzérren** *vt* скажа́ць; ***mit verzérrtem Gesícht*** з перако́шаным тва́рам
**Verzérrung** *f* -, -en 1) скажэ́нне 2) *тэх.* дэфарма́цыя 3) *матэм.* амарфо́за
**verzétteln I 1.** *vt* растра́чваць, марнава́ць **2. ~, sich** раскiда́цца, раскíдвацца; ***sich in Kléinigkeiten*** ~ разме́ньвацца на дро́бязi
**verzétteln II** *vt* зано́сiць на ка́рткi [у катало́г]
**Verzétt(e)lung I** *f* -, -en 1) растра́чванне 2) раскíдванне (*на дробязi*)
**Verzétt(e)lung II** *f* -, -en выпíсванне, занясе́нне на ка́ртку [у катало́г]
**Verzícht** *m* -(e)s, -e адмо́ва; адрачэ́нне; ***auf etw.*** (*A*) ~ ***léisten*** адмаўля́цца, ад-

рака́цца ад чаго́-н.; ***im ~ auf etw.*** (*A*) адмаўля́ючыся ад чаго́-н.

**verzíchten** *vi* (*auf A*) адмаўля́цца (*ад чаго-н.*), вырака́цца (*чаго-н. будучага, магчымага*)

**verzíeh** *impf ад* verzéihen*

**verzíehen*** **I 1**. *vt* 1) (з)крыві́ць, (з)мо́ршчыць, перакасі́ць (*твар*); ***kéine Míene ~*** не падава́ць вы́гляду 2) пераязджа́ць, перасяля́цца **2. ~, sich** 1) рассе́йвацца (*пра туман, хмары*); ***ich verzíehe mich*** *разм.* я зніка́ю 2) прахо́дзіць (*пра боль*) 3) каро́біцца (*пра драўніну*)

**verzíehen*** **II** *vt* (рас)пе́сціць, (раз)ба́лаваць

**verzíeren** *vt* упрыго́жваць, аздабля́ць (*mit D – чым-н.*)

**Verzíerung** *f* -, -en упрыго́жанне, аздо́ба; арна́мент

**verzímmern** *vt буд*. абшыва́ць до́шкамі; *горн*. мацава́ць

**verzínnen** *vt* лудзі́ць

**verzínsen 1.** *vt камерц.* плаці́ць [ralі́чваць] працэ́нты **2. ~, sich** дава́ць працэ́нты

**verzínslich** *a* працэ́нтны, працэ́нтавы, які́ прыно́сіць працэ́нты

**Verzínsung** *f* -, -en пла́та [вы́плата] працэ́нтаў

**verzógen I** *a* распе́шчаны, непаслухмя́ны

**verzógen II** *a* перако́шаны (*пра рот*)

**verzögern 1.** *vt* запаво́льваць, затры́млівваць, замару́джваць **2. ~, sich** заця́гвацца, запазня́цца, запаво́львацца

**Verzögerung** *f* -, -en замару́джванне, заця́гванне, цягані́на

**verzóllbar** *a* які́ патрабу́е апла́ты мы́та [по́шліны]

**verzóllen** *vt* апла́чваць мы́там [по́шлінай]

**Verzóllung** *f* -, -en апла́та мы́та [по́шліны]; ачы́стка мы́там [по́шлінай] (*тавараў*)

**verzóttelt** *a* калма́ты (*пра валасы*)

**verzücken** *vt* захапля́ць, прыво́дзіць у захапле́нне

**verzúckern** *vt* зацукро́ўваць

**verzückt** *a* захо́плены, у захапле́нні

**Verzücktheit** *f* -, **Verzückung** *f* - захапле́нне, экста́з

**Verzúg I** *m* -(e)s 1) прамару́джванне, заця́жка; ***in ~ geráten**** [kómmen*] пратэрмінава́ць; ***óhne ~*** неадкла́дна; за́раз жа 2) пратэрміно́ўка (*плацяжу*) 3) *часцей перан.* набліжэ́нне; ***im ~ sein*** набліжа́цца, прыбліжа́цца

**Verzúg II** *m* -(e)s пераéзд, перасяле́нне (*на іншую кватэру, у іншае месца*)

**Verzúgszinsen** *pl* пе́ня за пратэрміно́ўку плацяжу́

**verzwéifeln** *vi* (*h, s*) (*an D*) тра́ціць надзе́ю (*на што-н.*), быць у ро́спачы [адча́і] (*ад чаго-н.*); глыбо́ка расчаро́ўвацца (*у кім-н., чым-н.*)

**verzwéifelt** *a* у ро́спачы, по́ўны адча́ю; ***éine ~e Láge*** безнадзе́йнае стано́вішча

**Verzwéiflung** *f* - ро́спач, адча́й; ***in [vor, aus] ~ etw. tun**** зрабі́ць што-н. у [ад] ро́спачы [з адча́ю]; ***in ~ kómmen**** прыйсці́ ў ро́спач; ***j-n zur ~ bríngen**** прыво́дзіць каго́-н. у адча́й, даво́дзіць да адча́ю

**Verzwéiflungsakt** *m* -(e)s, -e акт адча́ю

**verzwéigen, sich** разгаліно́ўвацца

**verzwéigt** *a* разгалінава́ны

**Verzwéigung** *f* -, -en разгалінава́нне

**verzwíckt** *a* заблы́таны, склада́ны, ця́жкі

**Verzwícktheit** *f* - заблы́танасць, склада́насць

**verzwíefachen** *vt* падво́йваць

**Vesper** ['fɛ-] *f* -, -n 1) *рэл.* вячэ́рня 2) по́лудзень, вячэ́ра

**Vesperbrot** ['fɛ-] *n* -s вячэ́ра, вячэ́рняя гарба́та [ка́ва]

**vespern** ['fɛ-] *vi дыял.* палу́днаваць, вячэ́раць

**Vestibül** [vɛ-] *n* -s, -e вестыбю́ль

**Veterán** [ve-] *m* -en, -en ветэра́н

**Veterinär** [ve-] *m* -s, -e **~arzt** *m* -es, -ärzte ветэрына́р, ветэрына́рны ўра́ч

**Veterinärmedizin** *f* [ve-] - ветэрынары́я

**Veto** ['ve:-] *n* -s, -s ве́та, забаро́на; ***sein ~ gégen etw.*** (*A*) ***éinlegen*** накла́сці ве́та на што-н.; ***sein ~ zurückziehen**** зняць ве́та

**Véttel** *f* -, -n *груб.* старáя вéшалка [каргá]
**Vétter** *m* -s, -n дваю́радны брат, стрыéчны брат, кузэ́н
**vétterlich** *a* свая́цкі, рóднасны
**Vétternwirtschaft** *f* - кумаўствó, сямéйнасць
**Vexíerbild** [v-] *n* -(e)s, -er загáдкавы малю́нак
**via** [ˈvi:a:] *prp* праз, цéраз (*які-н. горад, пункт*)
**Viadúkt** [v-] *m, n* -(e)s, -e віяду́к
**Vibratión** [v-] *f* -, -en вібрáцыя, дрыжáнне, хістáнне
**vibríeren** [vi-] *vi* вібры́раваць, гайдáцца, дрыжáць, хістáцца
**Vibrióne** [vi-] *f* -, -n *біял.* вібрыён
**Videorecorder** [ˊvi-] *m* -s, - відэамагнітафóн
**Viech** *n* -(e)s, -er *разм., пагардл.* жывёла; скацíна; бы́дла
**Viecheréi** *f* -, -en *груб.* паску́дства, пóдласць
**Vieh** *n* -(e)s жывёла, скацíна, бы́дла; ***das gróße [kléine]*** ~ буйнáя [дрóбная] жывёла; [скацíна]; ***hóhes [gróßes]*** ~ *разм., груб.* вáжная асóба
**Víehaufzucht** *f* - 1) жывёлагадóўля, развіццё жывёлагадóўлі 2) маладня́к (*скацíны*)
**Viehbestand** *m* -(e)s пагалóўе жывёлы
**Víehbremse** *f* -, -n *заал.* сляпéнь
**Víehfutter** *n* -s корм (*для жывёлы*)
**Víehhändler** *m* -s, - жывёлапрамыслóвец
**Víehherde** *f* -, -n стáтак (*жывёлы*)
**Víehhof** *m* -(e)s, -höfe жывёльны двор, двор для жывёлы
**víehisch** *a груб.* жывёльны, свíнскі
**Víehmagd** *f* -, -mägde даглядчыца жывёлы
**Viehseuche** *f* -, -n *вет.* эпізаóтыя
**Víehstall** *m* -(e)s, -ställe хлеў, абóра
**Víehstand** *m* -(e)s пагалóўе жывёлы
**Víehwagen** *m* -s, - вагóн для перавóзкі жывёлы
**Víehweide** *f* -, -n вы́ган
**Víehzucht** *f* - жывёлагадóўля
**Víehzüchter** *m* -s, - жывёлавóд, жывёлагадóўца
**Víehzuchtfarm** *f* -, -en жывёлагадóўчая фéрма
**viel 1.** *pron indef* мнóга, шмат; мнóгае; ~***e*** мнóгія, мнóга; ~ ***Zeit*** мнóга чáсу; ~ ***Gútes*** мнóга дóбрага; ~***en Dank!*** вялíкі дзя́куй!; ~ ***Glück!*** (жадáю) мнóга шчáсця!; ~ ***Vergnügen!*** (жадáю) дóбра пазабáвіцца [пагуля́ць]!; ***wie ~e Mále?*** кóлькі раз(óў)?; ***víel*(*e*) *húndert Mále*** сóтні раз(óў); ***in ~em hat er Recht*** у мнóгім ён мáе рáцыю; ***gleich*** ~(***e***) аднóлькавая кóлькасць; ***sóundso*** ~ стóлькі-та ◊ (***gar***) ***zu*** ~ ***ist úngesund*** усяля́кая празмéрнасць шкóдзіць [не на кары́сць] **2.** *adv* мнóга, шмат, багáта, знáчна; ***er árbeitet*** ~ ён мнóга працу́е; ***er kam ~ zu uns*** ён чáста прыхóдзіў да нас; ***er fragt ~ danách!*** *іран.* ці вéльмі патрэ́бна яму́ гэ́та!, ці вéльмі гэ́та ягó цікáвіць!; ***das ist ein bíss¦chen ~!*** гэ́та ўжó занáдта [заду́жа]; ~ ***bésser*** (на)мнóга [знáчна] лепш; ***so*** ~ гэ́тулькі, стóлькі; ***noch ein Mal so*** ~ яшчэ́ гэ́тулькі [стóлькі]; ***zu*** ~ занáдта ◊ ***er hat éinen zu*** ~ *груб.* у ягó нéшта з галавóю
**víelartig** *a* разнастáйны, разнарóдны
**víelbändig** *a* шматтóмны
**víel beschäftigt** *a* заня́ты
**víeldeutig** *a* шматзнáчны
**Víeleck** *n* -(e)s, -e *матэм.* многавугóльнік, шматку́тнік
**víeleckig** *a матэм.* многавугóльны, шматку́тны
**vielerléi** *a* рóзны, усякі, усяля́кі
**víelfach 1.** *a* шматразóвы **2.** *adv* неаднаразóва, чáста; у мнóга разóў больш; ***den Schäden ~ ersétzen*** пакрывáць стрáту [шкóду] у мнóга [шмат] разóў
**Víelfach** *n* -(e)s, -e *матэм.* многавугóльнік, многаку́тнік, поліэ́др
**Víelfache** *sub n* -n *матэм.* крáтнае; ***um das*** ~ у шмат разóў
**Víelfalt** *f* - разнарóднасць, разнастáйнасць
**víelfältig** *a* разнастáйны, рознабакóвы
**víelfarbig** *a* шматкóлерны, поліхраматы́чны

**Víelfraß** *m* -es, -e 1) *разм.* абжо́ра 2) *заал.* расама́ха
**víelgeliebt** *a* каха́ны
**víelgeprüft** *a* шматпаку́тны, многапаку́тны
**víelgereist** *a* які́ шмат аб'е́здзіў
**víelgestaltig** *a* разнаста́йны
**Vielgötteréi** *f* - мнагабо́жжа
**Víelheit** *f* - мно́ства, вялі́кая ко́лькасць, шматлі́касць
**vielhúndertmal** *adv* со́тні разо́ў
**víeljährig** *a* шматгадо́вы
**víelköpfig** *a* шматгало́вы, шматлю́дны (*пра сход і г.д.*)
**vielléicht** *a* магчы́ма, мажлі́ва, мо́жа, мо́жа быць, ма́быць, бада́й (што); ~ ***wérden Sie so gut sein*** ці не бу́дзеце Вы так ласка́вы; ~ ***éine Tásse Tee?*** ці не жада́еце ку́бачак гарба́ты?; ***ich hábe mich ~ geírrt*** я, ма́быць, памылí́ўся
**Viellíebchen** *n* -s 1) арэ́х-спары́ш; ***gúten Mórgen ~!*** ага́, папа́ліся!; вінш́ую, прайгра́лі закла́д 2): ***mit j-m ein ~ éssen**** ісці́ ў закла́д з кім-н. (*падзяліўшы між сабой арэх-спарыш – жартаўлівы звычай*)
**víelmalig** *a* шматразо́вы
**víelmals** *adv* шматразо́ва, неаднаразо́ва; ***dánke ~!*** вялі́кі дзя́куй!
**víelmehr** *a* наадваро́т, хутчэ́й, дакла́дней, на́ват; ***er war misstráuisch oder ~ árgwöhnisch*** ён быў недаве́рлівым, дакла́дней, на́ват падазро́ным
**víelsagend** *a* шматзна́чны
**víelseitig** *a* рознабако́вы, разнаста́йны
**Víelseitigkeit** *f* - 1) шматбако́васць 2) рознабако́васць, разнаста́йнасць
**víelsprachig** *a* шматмо́ўны
**víelstimmig** *a* шматгало́сы
**víeltausendköpfig** *a* мнагаты́сячны (*аб дэманстрацыі*)
**víelversprechend** [viel verspréchend] *a* многаабяца́ючы, шматабяца́ючы
**Vielweiberéi** *f* - мнагажэ́нства, палігá́мія
**Víelwisser** *m* -s, - усяве́д
**Víelzahl** *f* - бе́зліч, ма́са, вялі́кая ко́лькасць
**Víelzeller** *m* -s, - *біял.* шматклé́тачны арганíзм
**víelzellig** *a біял.* мнагакле́тачны
**vier** *num* чаты́ры, чацвё́ра; ***auf állen Víeren*** на кара́чках; ***álle ~ von sich (D) strécken*** упа́сці пласто́м [ніц]; ***er kann nicht bis ~ zählen*** ≅ ён не разу́мны
**Vier** *f* -, -en (лік) чаты́ры, чацвё́рка
**Víereck** *n* -(e)s, -e *матэм.* чатырохвуго́льнік, чатырохку́тнік
**víereckig** *a* чатырохку́тны, чатырохвуго́льны
**víereinhálb** *num* чаты́ры з паловай
**Víerer** *m* -s, - *спарт.* чацвё́рка
**Víererbob** *m* -s, - *спарт.* чатырохме́сны бабсле́й
**víererléi** *adv inv* чатыро́х ро́даў [ві́даў, гату́нкаў]
**Víererreihe** *f* -, -n чацвё́рка (*у страі*); ***sich in ~n áufstellen*** стро́іцца па чаты́ры чалаве́кі
**víerfach** **1.** *a* чатырохразо́вы **2.** *adv* у чаты́ры разы́
**Víerfachbogen** *m* -s, - *i* - bögen чацвяртны́ а́ркуш (*паперы*)
**víerfältig** *гл.* víerfach
**Víerfarbendruck** *m* -(e)s, -e *палігр.* чатырохфа́рбавы друк
**Víerfüß(l)er** *m* -s, - *заал.* чатырохно́гае
**Víergespann** *n* -(e)s, -e чацвё́рка (*коней*)
**víerhändig** *adv муз.* у чаты́ры рукі́
**víerhúndert** *num* чаты́рыста
**víerjährig** *a* чатырохгадо́вы
**víerkantig** *a* чатырохгра́нны ◊ ***j-n ~ hináuswerfen**** вы́гнаць каго́-н. у ка́рак
**víermal** *adv* (у) чаты́ры разы́
**víermalig** *a* чатырохразо́вы
**víerräd(e)rig** *a* чатырохкалё́сны
**víerschrötig** *a* няўклю́дны, непаваро́тлівы
**víersilbig** *a* чатырохскладо́вы (*пра слова*)
**Víersitzer** *m* -s, - чатырохме́сны аўтамабі́ль [самалё́т]
**Víerspänner** *m* -s, - чацвё́рка (*коней*)
**víerspännig** *a* запрэ́жаны чацвё́ркай
**víerstellig** *a* чатырохзна́чны (*лік*)
**víerstimmig** *a муз.* чатырохгало́сы, у чаты́ры галасы́
**vierstöckig** *a* чатырохпавярхо́вы (*адпавядае беларускаму* пяціпавярхо́вы)

**víerstündig** *a* чатырохгадзíнны
**viert:** ***zu*** **~** учатырóх, учацвя́рых
**víertáusend** *num* чаты́ры ты́сячы
**víerte** *num* чацвёрты
**víerteilen** *неаддз. vt* 1) чацвертавáць 2) дзялíць на чаты́ры чáсткі
**víerteilig** *a* які́ [што] складáецца з чатырóх чáстак
**víertel** *num*: ***ein*** **~** чвэрць, аднá чацвёртая
**Víertel** *n* -s, - 1) чвэрць, чвэ́ртак, чацвёртая чáстка; ***es ist*** (***ein***) **~** (***auf***) ***acht*** (***Uhr***) зáраз чвэрць вóсьмай; ***es ist*** (***ein***) **~** ***vor acht*** (***Uhr***) без чвэ́рці вóсем 2) квартáл, раён (*горада*)
**víerteljährig** [vierteljährig] *a* 1) ва ўзрóсце трох мéсяцаў 2) тэ́рмінам у тры мéсяцы
**víerteljährlich** [vierteljährlich] трохмéсячны; квартáльны; пакартáльны; які́ паўтарáецца кóжныя тры мéсяцы **2.** *adv* кóжны квартáл, штоквартáльна
**víerteln** *vt* дзялíць на чаты́ры чáсткі
**Víertelnote** *f* -, -n *муз.* чарцвяртнáя нóта
**Víertelpause** *f* -, -n *муз.* чарцвяртнáя пáўза
**Víertelstunde** **[**Viertelstúnde] *f* -, -en чвэрць гадзíны
**víertelstündig** *a* на працягу чвэ́рці гадзíны
**víertelstündlich** *a* (праз) кóжную чвэрць гадзíны
**Víertelwendung** *f* -, -en *вайск.* паварóт на 90°
**viertens** *adv* па-чацвёртае
**víerundeinhálb** *num* чаты́ры з палóвай
**Viervíerteltakt** *m* -(e)s, -e такт у чаты́ры чвэ́рці
**vierzehn** *num* чатырнáццаць
**víerzehnjährig** *a* чатырнаццацігадóвы
**víerzehnte** *a* чатырнáццаты
**Víerzeiler** *m* -s, - верш у чаты́ры радкí
**víerzig** *num* сóрак
**víerziger** *a inv*: ***die*** **~** ***Jáhre*** саракавы́я гады́
**Víerziger** *m* -s, -, **~in** *f* -, -nen мужчы́на [жанчы́на] ва ўзрóсце ад 40 да 50 гадóў
**víerzigste** *num* саракавы́
**Víerzylinder** *m* -s, - аўтамабíль з чатырохцылíндравым матóрам [рухавікóм]
**vietnamésisch, vietnámisch** [vi̯ɛ-] *a* в’етнáмскі
**Vietnamése** [vi̯ɛ-] *m* -n, -n в’етнáмец
**Vignette** [vinˈjɛtə] *f* -, -n *паліграф.* віньéтка
**Vikár** [v-] *m* -s, -e вікáрый
**Viktória** [viːk-] *f* - перамóга; **~** ***rúfen*** ***** святкавáць перамóгу
**Villa** [ˈvilaː] *f* -, Víllen вíла, дáча
**Vióla** [v-] *f* -, -s *i* Viólen віёла (*музычны інструмент*)
**violétt** [vi-] *a* фіялéтавы
**Violétt** [v-] *n* -s фіялéтавая фáрба, фіялéтавы кóлер
**Violíne** [vi-] *f* -, -n скры́пка
**Violínschlüssel** [vi-] *m* -s, - скрыпíчны ключ, ключ соль
**Violoncello** [violɔnˈtʃɛlɔ] *n* -s, -s *i* Violoncelli віяланчэ́ль
**Viper** [ˈviː-] *f* -, -n *заал.* (ядавíтая) гадзю́ка
**virtuéll** [vir-] *a* віртуáльны, патэнцыя́льна магчы́мы, верагóдны, які́ [што] мáе [мáецца] быць
**virtuós** [vir-] *a* віртуóзны, майстэ́рскі
**Virtuóse** [vir-] *m* -n, -n віртуóз
**Virtuosität** [v-] *f* - віртуóзнасць, высóкае майстэ́рства
**virulént** [vi-] *a мед.* вірулéнтны; злая́касны; зарáзны
**Viruléz** [vi-] *f* - *мед.* вірулéнтнасць; злая́каснасць; зарáзнасць
**Vírus** [v-] *n, m* -, Víren *біял.* вíрус
**Vísa** [v-] *f* -, Vísen *гл.* Vísum
**vísafrei** [v-] *a* бязвíзавы
**Visage** [viˈzaːʒə] *f* -, -n *груб.* пы́са, мóрда
**vis-á-vis** [vizaˈviː] *a* насýпраць, адзíн сýпраць аднагó
**Visíer** [vi-] *n* -s, -e 1) забрáла; ***das*** **~** ***lüften*** паднЯць забрáла; паказáць свой твар; ***mit óffenem*** **~** ***kämpfen*** бíцца з паднЯтым забрáлам; *перан.* выступáць з адкры́тым забрáлам, змагáцца ў адкры́тую
**Visíereinrichtung** [vi-] *f* -, -en прыцэ́льная прылáда
**Visíereinschnitt** [vi-] *m* -(e)s, -e прóразь прыцэ́ла
**visíeren** [vi-] *vt* 1) візíраваць (*пашпарт*)

2) эталані́раваць (*меры і вагі*) 3) прыцэ́львацца, цэ́ліцца

**Visíerfernrohr** [vi-] *n* -(e)s, -e апты́чны прыцэ́л

**Visíerkreuz** [vi-] *n* -(e)s, -e перакрыжава́нне ў апты́чнай трубе́

**Visíerschuss** [vi-] *m* -es, -schüsse стрэ́л прамо́й наво́дкай

**Visíerschussweite** [vi-] *f* -, -n прыцэ́льная да́льнасць

**Visión** [vi:-] *f* -, -en 1) пры́від, здань 2) ба́чанне; галюцына́цыя

**visionär** [vi-] *a* пры́відны, таямні́чы, прaро́чы

**Visitatión** [vi-] *f* -, -en *юрыд.* агля́д, во́быск

**Visíte** [vi-] *f* -, -n візі́т, наве́дванне

**Visítenkarte** [vi-] *f* -, -n візі́тная ка́ртка, візіто́ўка

**visitíeren** [vi-] *vt* аглядáць, абшу́кваць

**viskós** [vis-] *a тэх.* вя́зкі

**Viskóse** [vis-] *f* - *хім.* віско́за

**Viskosität** [vis-] *f* - вя́зкасць, кле́йкасць

**Visum** [ˈvi:-] *n* -s, Vísa ві́за; ***das ~ ertéilen [áusstellen]*** вы́даць ві́зу; ***das ~ verwéigern*** адмо́віць у вы́дачы ві́зы; ***das ~ verlängern*** пралангава́ць [прадо́ўжыць, адтэрмінава́ць] ві́зу

**vitál** [vi-] *a* жыццёвы, жыццядзе́йны, по́ўны жыцця́; актуа́льны

**Vitalität** [vi-] *f* - 1) жыватво́рнасць; жыццёвасць; жыццязДо́льнасць 2) жыццёвая неабхо́днасць, актуа́льнасць

**Vitamín** [vi-] *n* -s, -e вітамі́н

**vitamínarm** [vi-] *a* бе́дны на вітамі́ны

**vitamínhaltig** [vi-] *a* вітаміно́зны, які́ ўтры́млівае вітамі́ны

**vitamínreich** [vi-] *a* бага́ты на вітамі́ны, які́ ўтры́млівае мно́га вітамі́наў, вітаміно́зны

**Vitríne** [vi-] *f* -, -n вітры́на

**Vitriól** [vi-] *m, n* -s, -e *хім.* купарва́с

**Vivat** [ˈvi:vat] *n* -s, -s здра́віца; ***ein ~ áusbringen**** гавары́ць здра́віцу

**vivat!** [ˈvi:vat] *int.* няха́й жыве́!

**Vize-** [ˈfi:- *і рэдка* ˈvi-] *у складаных словах* віцэ-

**Vizepräsident** [ˈfi:-] *m* -en -en 1) віцэ-прэзідэ́нт 2) наме́снік старшыні́

**Vlies** *n* -es, -e руно́

**Voal** [vo͜a:l] *m* -, -s вуа́ль (*матэрыя*)

**Vógel** *m* -s, -Vögel 1) пту́шка, птах 2) *перан.* пту́шка, гусь (*пра чалавека*); ***ein lóser ~*** *разм.* легкаду́мны чалаве́к; ***du hast wohl éinen ~ (im Kópfe)?*** *разм.* у цябе́, напэ́ўна, не́шта з галаво́й? ◊ ***wer éinen ~ hat, der muss ihn füttern*** ≅ лю́біш паганя́ць, любі́ і каня́ гадава́ць; ***friss ~, óder stirb!*** хоць памры́, але́ зрабі́!; ***den ~ erkénnt man an den Fédern*** па пе́р'і пту́шку пазнаю́ць; ***jédem ~ gefällt sein Nest*** ≅ дзе хво́я ні стаі́ць, а ўсё сваймУ́ бо́ру шумі́ць; ко́жны цыга́н сваю́ кабы́лу хва́ліць

**Vógelbauer** *n, m* -s, - кле́тка (*для птушак*)

**Vógelbeerbaum** *m* -(e)s, -bäume *бат.* (а)рабі́на

**Vógelbeere** *f* - рабі́на (*ягады*)

**Vógelbeize** *f* -, -n сакалі́нае палява́нне

**Vógelfänger** *m* -s, - птушкало́ў

**vógelfrei** *a* па́-за зако́нам, не ў зако́не; ***j-n ~ erklären*** аб'яві́ць каго́-н. па́-за зако́нам

**Vógel|perspektive** [-və], **~schau** *f* - перспекты́ва; ***etw. aus der ~ beóbachten*** назіра́ць што-н. з птушы́нага палёту

**Vógelscheuche** *f* -, -n пу́дзіла (*у гародзе*)

**Vógelschutz** *m* -es ахо́ва пту́шак

**Vógelsteller** *m* -s, - *гл.* Vógelfänger

**Vógelwarte** *f* -, -n арніталагі́чная ста́нцыя

**Vógelzucht** *f* - птушкагадо́ўля

**Vogt** *m* -(e)s, Vögte *гіст.* наме́снік, ландфо́гт, войт

**Vokábel** [vo-] *f* -, -n (асо́бнае) сло́ва

**Vokabulár** [vo-] *n* -s, -e спіс слоў, сло́ўнік, сло́ўнікавы запа́с

**Vokál** [vo-] *m* -s, -e гало́сны (гук)

**vokálisch** [vo-] *a лінгв.* вака́льны, гало́сны

**Vokatív** [vo-] *m* -s, -e *грам.* клі́чны склон

**Volant** [vɔˈlã:] *m* -s, -s фальбо́нка

**Voliere** [voli̯ˈɛ:rə] *f* -, -n валье́р (*для птушак*)

**Volk** *n* -(e)s, -Völker наро́д, люд, насе́ль-

ніцтва; ***viel*** ~ шмат людзе́й; ***das júnge*** ~ мо́ладзь; ***das kléine*** ~ дзятва́; *міф.* ка́рлікі, гно́мы; ***fáhrendes*** ~ вандро́ўныя арты́сты

**Völker|beschreibung** *f* -, **~kunde** *f* - этнагра́фія

**Völkerrecht** *n* -(e)s міжнаро́днае пра́ва

**völkerrechtlich** *a* заснава́ны на міжнаро́дным пра́ве

**völkerrechtswidrig** *a* які́ супярэ́чыць міжнаро́днаму пра́ву

**Völkerschaft** *f* -, -en (невялі́кая) наро́днасць

**Vőlkerverbrüderung** *f* - братэ́рства наро́даў

**Völkerverbundenheit** *f* - наро́днасць (*чаго-н.*); су́вязь з наро́дам

**Vőlkerverständigung** *f* -, -en узаемаразуме́нне памі́ж наро́дамі

**Völkerwanderung** *f* -, -en *гіст.* перасяле́нне наро́даў

**völkisch** *a* наро́дны (*звычайна ў шавіністычным разуменні*)

**Vólks|abstimmung** *f* -, -en, **~befragung** *f* -, -en наро́днае галасава́нне, рэферэ́ндум

**Vólksakti¦e** *f* -, -n наро́дная а́кцыя

**Vólksbegehren** *n* -s, - во́ля наро́да

**Vólksbildung** *f* - наро́дная адука́цыя

**vólksdemokratisch** *a* наро́дна-дэмакраты́чны

**Vólksdichtung** *f* -, -en наро́дная паэ́ма

**vólkseigen** *a* наро́дны, які́ нале́жыць наро́ду

**Vólkseigentum** *n* -s, -tümer наро́дны набы́так, наро́дная маёмасць [ула́снасць]

**Vólkseinkommen** *n* -s, - нацыяна́льны дахо́д

**vólksfeindlich** *a* антынаро́дны

**Vóksfest** *n* -es, -e наро́днае свя́та, наро́дны фэст

**vólksfremd** *a* 1) чужы́ наро́ду, далёкі ад наро́ду 2) іншапляме́нны, чужазе́мны

**Vólksfront** *f* - наро́дны фронт

**Vólkskunde** *a* - фальклары́стыка; этналінгві́стыка

**Vólkskunst** *f* - наро́днае маста́цтва

**Volkskunstausscheiden** *n* -s адбо́рачныя выступле́нні [спекта́клі] удзе́льнікаў маста́цкай самадзе́йнасці

**Vólkskunstgruppe** гурто́к наро́днай [маста́цкай] самадзе́йнасці

**Vólkskünstler** *m* -s, - наро́дны арты́ст

**Vólksleben** *n* -s наро́дны быт

**Vólkslied** *n* -(e)s, -er наро́дная пе́сня

**Vólksmund** *m* -(e)s 1) наро́дная му́драсць, наро́днае пада́нне 2) наро́дная мо́ва

**vólksnah** *a* блі́зкі да наро́ду

**vólksreich** *a* мнагалю́дны

**vólksschädlich** *a* варо́жы наро́ду, варо́жы

**Vólksschaffen** *n* -s наро́дная тво́рчасць

**Vólksschicht** *f* -, -en слой насе́льніцтва, грама́дскі слой

**Vólksstamm** *m* -(e)s, -stämme пле́мя

**Vólkstanz** *m* -es, -tänze наро́дны та́нец

**Vólkstracht** *f* -, -en нацыяна́льны ўбор [касцю́м]

**Vólkstümlerbewegung** *f* - наро́дніцтва (*у дарэвалюцыйнай Расіі*)

**vólkstümlich** *a* наро́дны (*пра ўбор, танец*); папуля́рны (*пра песню і г.д.*); ***etw.*** ~ ***máchen*** папулярызава́ць што-н.; ***sich*** ~ ***máchen*** заваява́ць папуля́рнасць, стаць папуля́рным

**Vólkstümlichkeit** *f* - 1) папуля́рнасць 2) наро́днасць

**Vólksverbrauch** *m* -(e)s наро́днае спажыва́нне

**Vólksverbundenheit** *f* - це́сная су́вязь з наро́дам

**Vólksvergnügen** *n* -s, - наро́днае гуля́нне

**Vólksvertreter** *m* -s, - наро́дны прадстаўні́к

**Vólksvertretung** *f* -, -en наро́днае прадстаўні́цтва

**Vólksweise** *f* -, -n наро́дная мело́дыя

**Vólkswirtschaft** *f* - наро́дная гаспада́рка, экано́міка

**vólkswirtschaftlich** *a* народнагаспада́рчы

**Vólkswirtschaftslehre** *f* - палі́ты́чная экано́мія

**Vólkswirtschaftsplan** *m* -(e)s, -pläne народнагаспада́рчы план

**Volkszählung** *f* -, -en пе́рапіс насе́ль-

ніцтва

**voll 1.** *a* 1) пóўны; ~ ***von Ménschen, ~er Menschen*** пóўны нарóду [людзéй]; ***ein Téller ~ Súppe*** талéрка пóўная сýпу; ***ein ~es Haus*** перапóўнены тэáтр; ***mit ~en Händen gében* [spénden]*** шчы́ра адóрваць; ***gestríchen ~*** пóўны да берагóў; ***zum Bérsten ~ gestópft*** набíты біткóм [да адкáзу]; ***~ bis óben sein*** быць сы́тым па гóрла, наéсціся ўвóлю; ***~ sein*** *разм.* быць ушчэ́нт п’я́ным; ***aus dem Vóllen schöpfen*** жыць у дастáтку 2) пóўны, перапóўнены (*якога-н. пачуцця*); ***mit ~em Ernst*** зусíм сур’ёзна; ***mit ~em Recht*** з пóўным прáвам; ***~ Bewúnderung*** пóўны захаплéння 3) пóўны, тóўсты (*пра твар, чалавека*) 4) пóўны, абсалю́тны (*пра цішыню, перамогу, упэўненасць і г.д.*); ***die ~e Wáhrheit*** чы́стая прáўда; ***bei ~er Besínnung*** пры пóўнай свядóмасці; ***mit ~em Recht*** з пóўным прáвам 5) пóўны, цэ́лы (*пра год і г.д.*) 6) махрóвы (*пра кветкі*) ◊ ***j-n nicht für ~ ánsehen* [néhmen*]*** не лічы́ць кагó-н. заслугóўваючым давéру **2.** *adv* пóўнасцю, цáлкам, зусíм (*ручацца і г.д.*); ***~ und ganz*** цáлкам і пóўнасцю

**voll=** 1) *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на напаўненне*: vóllgießen* налівáць давéрху 2) *неаддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на завяршэнне дзеяння*: vollführen здзяйсня́ць, выкóнваць

**=voll** *паўсуф. прыметнікаў, указвае на наяўнасць* (*у вялікай колькасці*) *у прадмета прыкметы ці ўласцівасці*: ángstvoll спалóханы

**vólladen*** *vt* нагрузíць давéрху [пóўным]

**volláuf** *a* удóсталь, увóлю, дóсыць; ***das genügt ~*** гэ́тага зусíм хапáе; ***~ zu tun* háben*** быць заня́тым па гóрла

**vóllaufen*** *vi* (s) напóўніцца

**vóllautomatisch** *a* цáлкам аўтаматы́чны

**Vóllbart** *m* -(e)s, -bärte аклáдзістая барадá

**vóllberechtigt** *a* 1) паўнапрáўны 2) паўнамóцны, які́ мáе ўсé паўнамóцтвы (*zu D – на што-н.*)

**vóllbeschäftigt** *a* заня́ты (прáцай) цэ́лы рабóчы дзень

**Vóllbeschäftigung** *f* - *эк.* пóўная заня́тасць

**Vóllblüter** *m* -s, - чыстакрóўны конь

**vóllblütig** *a* 1) паўнакрóўны (*тс.перан.*) 2) чыстапарóдны

**vollbríngen*** *vt* рабíць, здзяйсня́ць, выкóнваць

**Vollbrínger** *m* -s, - выканáўца

**vóllbürtig** *a* крóўны, рóдны

**Vólldampf** *m* -(e)s *тэх.* пóўны ход; ***mit ~*** пóўным хóдам

**vollénden** *vt* завяршáць, канчáць; ***er hat volléndet*** ён сканáў

**volléndet** *a* завéршаны, закóнчаны

**vóllends** *a* 1) зусíм, цáлкам 2): ***~ dass…*** бóлей, што…; ***wenn ~…*** тым бóлей, калí…

**Volléndung** *f* -, -en 1) заканчэ́нне, завяршэ́нне 2) дасканáласць

**vóller** *гл.* voll

**Völleréi** *f* -, -en няўстры́манасць, абжóрства, п’я́нства

**Volleyball** ['voli-] *m* -s *спарт.* 1) валейбóл; **~turníer** валейбóльныя спабóрніцтвы 2) мяч, які́ адбівáецца з лёту (*напр., у тэнісе*)

**vollführen** *vt* выкóнваць, рабíць, учыня́ць

**Vollführung** *f* - выканáнне, здзяйснéнне

**Vóllgas** *n* -es пóўны газ; ***~ gében**** даць пóўны газ (*на аўтамабілі*)

**vóllgestopft** *a* біткóм набíты, напхáны (давéрху), перапóўнены

**vóllgießen*** *vt* налівáць давéрху

**vóllgültig** *a* паўнацэ́нны, пóўны, сапрáўдны

**völlig 1.** *a* пóўны, абсалю́тны, канчаткóвы **2.** *adv* пóўнасцю, цáлкам, зусíм

**vólljährig** *a* паўналéтні

**Vólljährigkeit** *f* - паўналéцце

**vóllklimatisiert** *a* абсталявáны сістэ́май штýчнага клíмату (*пра памяшканне*)

**vollkómmen 1.** *a* 1) закóнчаны, пóўны; ***er ist*** (***noch***) ***ein ~es Kind*** ён (яшчэ́) зусíм дзіця́ 2) дасканáлы **2.** *adv* цáлкам, зусíм

**Vollkómmenheit** *f* -, -en дасканáласць

**Vóllkornbrot** *n* -(e)s, -e чы́ста жы́тні

[аржаны́] хлеб

**Vóllmacht** *f* -, -en паўнамóцтва, давéранасць; ***~en ertéilen [gében*]*** давáць паўнамóцтвы; ***j-n mit úneingeschränkten [wéitgehenden] ~en áusstatten*** надзяліць кагó-н. неабмежавáнымі [шырóкімі] паўнамóцтвамі; ***in ~ zéichnen*** падпісваць па паўнамóцтву [давéранасці]; ***éine ~ vórlegen*** падáць [прадстáвіць] давéранасць

**Vóllmilch** *f* - цэ́льнае малакó

**Vóllmond** *m* -(e)s, -e 1) пóўня 2) *жарт.* лы́сіна

**vóllmundig** *a* смáчны, прыéмны на смак

**vóllpfropfen** *vt* набівáць, напíхваць (*даверху*)

**vóllschlank** *a* пóўны, у цéле; ***éine ~e Figúr*** стáтная фігýра

**Vóllsitzung** *f* -, -en пленáрнае пасяджэ́нне

**vóllständig 1.** *a* пóўны, канчаткóвы, дасканáлы; ***die ~e Ábrüstung*** пóўнае раззбраéнне **2.** *adv* цáлкам, зусíм

**Vóllständigkeit** *f* - паўнатá, даклáднасць, закóнчанасць; ***der ~ hálber*** дзéля даклáднасці

**vóllstopfen** *vt гл.* vóllpfropfen

**vollstréckbar** *a юрыд.* які [што] падлягáе выканáнню

**vollstrécken** *vt юрыд.* выкóнваць, прывóдзіць у выканáнне (*прысуд*)

**Vollstréckung** *f* -, -en *юрыд.* прывядзéнне ў выканáнне (*прыгавору*)

**Vollstréckungsbefehl** *m* -(e)s, -e *юрыд.* выканáўчы ліст; загáд аб прывядзéнні ў выканáнне

**vólltanken** *vt* запраўля́ць пóўны бак (*у аўтамабілі і да т.п.*)

**Vólltreffer** *m* -s, - **1.** *вайск.* прамóе пападáнне **2.** *перан.* пóспех, удáча

**vólltrunken** *a* зусíм п’я́ны

**Vóllversammlung** *f* -, -en плéнум, агýльны сход; ***~ der ÚNO*** Генерáльная асамблéя ААН

**Vóllwaise** *f* -, -n крýглы [крýглая] сiратá

**vóllwertig** *a* паўнацэ́нны

**vóllwichtig** *a* 1) паўнавáжкі 2) даклáдны; верагóдны

**vóllzählig** *adv* у пóўным склáдзе, цáлкам

**vollzíehen* 1.** *vt* выкóнваць, учыня́ць, ажыццяўля́ць; ***die Éhe ~*** узя́ць шлюб **2. ~, sich** адбывáцца, рабíцца

**vollzíehend** *a*: ***~e Gewált*** выканáўчая ўлáда

**Vollzíehung** *f* -, -en прывядзéнне ў выканáнне

**Vollzúg** *m* -s выканáнне (*напр., прысуду, даручэння*)

**Vollzúgsausschuss** *m* -es, -schüsse выканáўчы камітэ́т

**Vollzúgsorgan** *n* -(e)s, -e выканáўчы óрган

**Volontär** [volɔ̃-] *m* -s, -e 1) (добра)ахвóтнік, валанцёр 2) вýчань, памóчнік мáйстра

**Volt** [vɔlt] *n* - *i* -es, - вольт (*адзінка вымярэння электрычнага напружання*)

**Voltaméter** [vɔlta-] *n* -s, - *фіз.* вальтмéтр

**Voltampere** [vɔltamˈpɛːr] *n* - *i* -s, - *фіз.* вольт-ампéр

**Volte** [ˈvɔltə] *f* -, -n *спарт.* вольт, паварóт

**Voltmesser** [ˈvɔlt-] *m* -s, - *фіз.* вальтмéтр

**Volúmen** [vo-] *n* -s, - *i* Volúmina 1) *фіз.* аб’ём 2) том, кнíга

**voluminös** [vo-] *a* 1) аб’ёмісты 2) масíўны 3) тóўсты, грýбы (*напр., кардон*)

**Volúte** [vo-] *f* -, -n *архіт.* завітóк, валю́та

**vom=** von dem

**von** *prp* (*D*) ад, з, у (*у прасторавым значэнні*); ***rechts ~ der Tür*** спрáва ад дзвярэ́й; ***~ wo?*** адкýль; ***~ dort*** адтýль; ***~ vorn*** спéраду 2) з, ад (*у тэмпаральным значэнні*); ***vom 1. Fébruar bis zum 20. März*** з пéршага лю́тага да 20 сакавікá; ***~ klein auf*** з дзяцíнства [малéнства]; ***~ álters her*** здаўнá 3) ад, з (*аб крыніцы чаго-н.*); ***müde ~ der Árbeit*** стóмлены ад прáцы; ***~ úngefähr*** незнарóк, выпадкóва 4) з (*якога-н. матэрыялу*); ***der Ring ist ~ Gold*** пярсцёнак з зóлата [залаты́] 5) з (*групы рэчаў цэлага*); ***éine Grúppe ~ Studénten*** грýпа студэ́нтаў 6) (*перадаецца родным склонам, указваючы на прыналежнасць*); ***die Wérke ~ Góethe*** твóры Гётэ

7) з, па (*перадаецца тс. родным склонам, указваючы на якасць*); ***ein Mann ~ Charákter*** [ka-] чалавéк з харáктарам; ***er ist Léhrer ~ Berúf*** ён настáўнік па прафéсіі; 8) (*перадаецца творным склонам, абазначаючы дзеючую асобу пры дзеяслове ў залежным стане*); ***die Áufgabe wúrde vom Schüler ríchtig gelöst*** задáча рэ́шана вýчнем прáвільна 9) фон (*ставіцца перад прозвішчам дваранскага саслоўя*); ~ ***Stein*** фон Штайн 10) аб, пра; ~ ***j-m, etw.*** (***D***) ***spréchen**** ***[schréiben*]*** гаварыць [пісáць] пра кагó-н., штo-н. [аб кім-н., чым-н.] 11) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова*: ***sich verábschieden ~ j-m*** развітáцца з кім-н. 12): ~ ***…aus*** (*з якога-н. пункту пгасторы*); ~ ***mir aus…*** што (да)тычыцца мянé…; ~ ***Grund aus falsch*** зусім [цáлкам] няпрáвільна 13): ~***… an*** з (*у тэмпаральным значэнні*); ~ ***Díenstag*** an з аўтóрка 14): ~ ***Rechts wégen*** па прáву

**voneinánder** *prn rez* адзін пра аднагó, адзін ад аднагó

**vonnöten:** ~ ***sein*** быць неабхóдным

**vonséiten** *prp* [von Séiten] (*G*) *канц.* з бóку (*каго-н.*)

**vonstátten:** ~ ***géhen**** працякáць, адбывáцца; ***álles ging glatt*** ~ усё ішлó [адбывáлася] глáдка

**vor 1.** *prp* (*A – на пытанне* «куды?», *D – на пытанне* «дзе», «калі»?) 1) пéрад (*у прасторавым значэнні*); ***ein Kilométer ~ dem Dorf*** адзін кіламéтр да вёскі; ~ ***das Tor géhen**** вы́йсці за варóты; ~ ***sich*** (***A***) ***hin brúmmen*** мармытáць сабé пад нос 2) пéрад, да (*у тэмпаральным значэнні*); ~ ***Sónnenuntergang*** пéрад захóдам сóнца; ***zehn Minúten ~ fünf*** без дзесяці (хвілін) пяць; ***nicht ~ acht*** не ранéй васьмі 3) тамý назáд; ~ ***drei*** Jáhren тры гады́ тамý назáд 4) ад (*аб прычыне*); ~ ***Angst*** ад стрáху 5) ад (*каго-н., чаго-н. – бараніць і г.д.*); ~ ***etw. schützen [wárnen]*** бараніць [перасцерагáць] ад чагó-н. 6): ~ ***állem*** перш за ўсё **2.** *adv*: ~***!*** напéрад!; ***nach wie*** ~ па-ранéйшаму

**vor=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на*: 1) *знаходжанне перад чым-н.*: vórliegen* ляжáць пéрад чым-н. 2) *папярэднічанне чаму-н.*: vórbereiten падрыхтóўваць 3) *дзеянне ў прысутнасці каго-н.*: vórlesen* чытáць угóлас (*каму-н.*) 4) *дзеянне, якое з’яўляецца ўзорам, прыкладам каму-н.*: vórmachen паказáць, як рабіць 5) *перавагу чаго-н.*: vórherrschen панавáць

**voráb** *a* найпéрш, спачáтку, напачáтку

**Vórabend** *m* -(e)s, -e пярэ́дадзень; ***am*** ~ напярэ́дадні

**vórahnen** *vt* прадчувáць

**Vórahnung** *f* -, -en прадчувáнне

**vorán** *a* 1) напéрадзе, на чалé 2) напéрад ◊ ***ímmer lángsam ~!*** ≅ памáлу éдучы, далéй заéдзеш!; ***j-m ~ sein*** ісці напéрадзе, быць пéршым; *спарт.* вéсці

**vorán=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае: 1*) *на тое, што дзеянне адбываецца наперадзе якога-н. аб’екта:* vorángehen* ісці на чалé 2) *на рух уперад*: voránkommen* рýхацца напéрад

**vorángehen*** *vi* (s) 1) ісці на чалé 2) папярэ́днічаць (*D – чаму-н.*) 3) *перан.* прасóўвацца, рýхацца [ісці] напéрад; ***die Árbeit geht gut*** ~ рабóта ідзé дóбра [ідзé спóрна]

**voránkommen*** *vi* (s) рýхацца напéрад (*тс. перан.*); ***kéinen Schritt*** ~ не прасýнуцца ні на крок (*тс. перан.*)

**Vóranmeldung** *f* -, -en (папярэ́дняя) заяўка (*zu D – на што-н.*)

**Vóranschlag** *m* -(e)s, -schläge папярэ́дні каштары́с

**vorántreiben*** *vt* паскарáць, фарсіраваць (*развіццё чаго-н.*)

**Vóranzeige** *f* -, -n папярэ́дняя аб’ява

**Vórarbeit** *f* -, -en падрыхтóўчая [папярэ́дняя] рабóта, падрыхтóўка

**vórarbeiten 1.** *vi* (*j-m in D*) 1) апярэ́джваць (*каго-н. у чым-н.*) [быць пéршым] у рабóце 2) *перан.* папярэ́джваць, прадухіляць (*што-н.*) **2.** *vt* (*D*) падрых-

тавáць (зáгадзя) (*што-н. для каго-н.*) 2) *перан.* падрыхтавáць глéбу (*для каго-н., чаго-н.*) 3) пакáзваць, як трэ́ба выкóнваць (*якія-н. прыёмы*) **3. ~, sich** 1) рýхацца напéрад (*пераадольваючы якія-н. перашкоды*), прабірáцца, прабівáцца 2) *вайск.* прасóўвацца напéрад перабéжкамі

**Vórarbeiter** *m* -s, - 1) стáршы рабóчы; дзесятнік 2) загатóўшчык, нарыхтóўшчык

**voráuf** *a* спéраду, напéрадзе; ***j-m ~ sein*** ісці́ напéрадзе [спéраду], быць пéршым; *спарт.* вéсці

**voráus** *a* упéрад, напéрад; ***im ~*** зáгадзя; ***j-m ~ sein*** перагнáць кагó-н.; ***im ~ erráten**** прадугадáць, угадáць (напéрад); ***mit béstem Dank im ~*** зáгадзя прынóсім [выкáзваем] глыбóкую падзяку

**voráus=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на дзеянне, якое папярэднічае чаму-н.*: voráusbestellen папярэ́дне закáзваць

**Voráusabteilung** *f* -, -en *вайск.* перадавы́ атрáд

**voráusbedingen*** *vt* папярэ́дне абумóвіць

**Voráusbedingung** *f* -, -en папярэ́дняя ўмова

**voráusberechnen** *vt* зáгадзя вылíчваць, прадуглéджваць

**voráusbestellen** *vt* папярэ́дне закáзваць [замаўляць]

**voráusbestimmen** *vt* п(е)радвызначáць

**voráusbezahlen** *vt* плацíць напéрад

**voráuseilen** *vi* (s) (*D*) апярэ́джваць, абганяць (*каго-н.*)

**voráusgehen*** *vi* (s) 1) ісці́ напéрад 2) (*D*) папярэ́днічаць (*чаму-н.*)

**voráusgehend**: ***im ~en ist erwähnt…*** вышэ́й памянёна

**voráusgesetzt: ~, *dass…*** пры ўмóве, што… [калí (тóлькі)…]

**voráushaben*** *vt* (*vor j-m*) мéць перавáгу (*у чым-н., перад кім-н.*)

**Vórausságe** *f* -, -n прагнóз, прадказáнне

**voráussagen** *vt* прадкáзваць, прагназíраваць

**voráusschauen** *vi* глядзéць напéрад

**voráusschicken** *vt* 1) пасылáць напéрад 2) давáць, рабíць (*што-н. перад чым-н.*)

**voráussehen*** *vt* прадбáчыць

**voráussetzen** *vt* браць пад увáгу як факт, мець за перадумóву

**Voráussetzung** *f* -, -en меркавáнне, гіпóтэза, перадумóва; ***únter der ~, dass…*** пры (той) умóве, што…

**voráussetzungslos** *a* без перадумóвы, неабгрунтавáны

**Voráussicht** *f* - прадбáчанне

**voráussichtlich 1.** *a* мяркýемы, дапушчáльны **2.** *adv* відáць, напэ́ўна

**voráuswissen*** *vt* зáгадзя вéдаць, прадбáчыць

**voráuszahlen** *vt* плацíць напéрад

**Vórbau** *m* -(e)s, -ten вы́ступ (*будынка*)

**vórbauen 1.** *vt* будавáць (*што-н. перад чым-н.*) **2.** *vi* (*D*) *разм.* прадухіляць, папярэ́джваць, быць абáчлівым; ***man muss ímmer ~*** трэ́ба быць заўсёды прадбáчлівым; ***éinem Zwécke ~*** падрыхтавáць глéбу для дасягнéння якóй-н. мэ́ты

**vórbedacht** *a* наўмы́сны

**Vórbedacht: *mit*** ~ наўмы́сна, з зáгадзя абдýманым намéрам

**vórbedenken*** зáгадзя абдýмваць, прадуглéджваць

**vórbedeuten** *vt* прадвяшчáць, прадракáць, прадкáзваць

**Vórbedeutung** *f* -, -en прадвéсце

**Vórbedingung** *f* -, -en папярэ́дняя ўмóва

**Vórbehalt** *m* -(e)s, -e агавóрка, выключэ́нне; ***mit [únter]*** ~ з агавóркай, з умóвай

**vórbehalten*** *vt*: ***sich*** (***D***) ~ пакíнуць за сабóю (*права*), забранíраваць (*квату і г.д.*); ***álle Réchte*** ~ усé (áўтарскія) правы́ захóўваюцца (*надпіс на выданні*)

**vórbehaltlich** *prp* (*G*) пры ўмóве; ~ ***des Éinspruchs*** пакідáючы за сабóй прáва пратэ́сту

**vórbehaltlos** *a* безагавóрачны, безумóўны

**vorbéi** *adv* (*an D*) мíма (*каго-н.,чаго-н.*);

~ ***sein*** (пра)міна́ць; ***es ist ~!*** (усё) ско́нчана! ~ ***ist ~!*** што было́, то́е сплыло́!

**vorbei=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на рух міма чаго-н.*: vorbéifahren* е́хаць мі́ма, праязджа́ць каля́ (*чаго-н.*)

**vorbéigehen*** *vi* (s) 1) (*an D*) прахо́дзіць мі́ма (*каго-н., чаго-н.*), прамі́на́ць; (*bei D*) зазірну́ць [зайсці́, загляну́ць] (*да каго-н.*) 3) прахо́дзіць, міна́ць (*пра небяспеку*)

**Vorbéigehen**: ***im*** ~ мімахо́дзь, між і́ншым

**vorbéikommen*** *vi* (s) (*an D*) прахо́дзіць (*міма каго-н., чаго-н.*), прамі́на́ць (*каго-н., што-н.*); ***nicht ~ können*** не мець магчы́масці прайсці́; ***er kann hier ~*** ён мо́жа тут прайсці́; ((*bei D*) зайсці́ [заско́чыць, зазірну́ць] (*да каго-н., у што-н.*)

**vorbéikönnen*** *vi*: ***er kann hier*** (***nicht***) ***vorbéi*** ён (не) мо́жа тут прайсці́

**vorbéilassen*** *vt* прапуска́ць (*каго-н., што-н.*), даць прайсці́ [прае́хаць] (*каму-н., чаму-н.*)

**Vorbéimarsch** *m* -es, -märsche *вайск.* прахо́джанне ўрачы́стым ма́ршам

**vorbéimarschieren** *vi* (s) (*an D*) прахо́дзіць урачы́стым ма́ршам, дэфілі́раваць мі́ма (*каго-н., чаго-н.*)

**vorbéireden** *vi*: ***aneinánder*** ~ гавары́ць, перапыня́ючы [не слу́хаючы] адзі́н аднаго́; ***an etw.*** (***D***) ~ гавары́ць не па тэ́ме

**vorbéiziehen*** *vi* (s) (*an D*) прахо́дзіць мі́ма (*каго-н., чаго-н.*)

**vórbelastet** *a* абцяжа́раны (*забабонамі і г.д.*)

**Vórbemerkung** *f* -, -en папярэ́дняя заўва́га, папярэ́джанне

**vórberaten*** *vt* папярэ́дне абмеркава́ць

**Vórberechtigung** *f* -, -en *юрыд.* прывіле́я (*auf A – на што-н.*)

**vórbereiten 1.** *vt* падрыхто́ўваць, рыхтава́ць (*auf A, für A, zu D – да чаго-н.*) **2. ~, sich** (*auf A, für A, zu D*) рыхтава́цца, падрыхто́ўвацца (*да чаго-н.*)

**Vórbereitung** *f* -, -en падрыхто́ўка, падрыхто́ўчая рабо́та [пра́ца]; ***die ~en tréffen**** рыхтава́цца, пача́ць [ве́сці] падрыхто́ўку

**Vórbereitungslehrgang** *m* -(e)s, -gänge падрыхто́ўчыя ку́рсы

**Vórbericht** *m* -(e)s, -e прадмо́ва, усту́пнае сло́ва

**Vórbestellung** *f* -, -en зая́ўка, папярэ́дні зака́з; папярэ́дняя падпі́ска (*für A – на што-н.*)

**vórbestraft** *a* які́ ма́е судзі́масць

**Vórbetrachtung** *f* -, -en папярэ́дні разгля́д [абмеркава́нне]

**vórbeugen I 1.** *vt* нахіля́ць упе́рад (*галаву, тулава*) **2. ~, sich** нагіна́цца напе́рад

**vórbeugen II** *vi* (*D*) прадухіля́ць, папярэ́джваць (*што-н.*)

**vórbeugend 1.** *a* папераджа́льны, прэвенты́ўны **2.** *adv* прэвенты́ўна

**Vórbeugung I** *f* -, -en нахі́л (*тулава*) напе́рад

**Vórbeugung II** *f* -, -en прадухіле́нне; *мед.* прафіла́ктыка

**Vórbeugungsmaßnahme** *f* -, -n папераджа́льная [засцерага́льная] ме́ра

**Vórbeugungsmittel** *n* -s, - *фарм.* прафілакты́чны сро́дак

**Vórbild** *n* -(e)s, -er пры́клад, узо́р; ***sich*** (***D***) ***j-n zum ~ néhmen**** браць каго́-н. за пры́клад, браць каго́-н. за ўзо́р; ***éinem ~ náchstreben [nácheifern]*** браць пры́клад з каго́-н., пераймаць чый-н. пры́клад

**vórbilden** *vt* рабі́ць [ствара́ць] нагля́дны ўзо́р (*чаго-н.*) 2) падрыхтава́ць (*каго-н.*), дава́ць першапачатко́вую адука́цыю (*каму-н.*)

**vórbildlich** *a* узо́рны, ва́рты перайма́ння

**Vórbildung** *f* -, -en першапачатко́вая адука́цыя, падрыхто́ўка

**Vórbote** *m* -n, -n прадве́снік, прыкме́та

**vórbringen*** 1) выка́зваць [гавары́ць, каза́ць] (*пратэст, скаргу*); ***Entschúldigungen*** ~ прыно́сіць прабачэ́нні 2) вы́маніць (*каго-н. адкуль-н.*)

**vórbuchen** *vt* папярэ́дне [за́гадзя] зарэгістрава́ць, забрані́раваць

**Vórbuchung** *f* -, -en папярэ́дняя рэгістра́-

цыя, бро́ня
**Vórbühne** *f* -, -n *тэатр.* авансцэ́на
**Vórdach** *n* -(e)s, -dächer паве́ць
**vórdatieren** *vt* датава́ць за́днім чысло́м
**vordém** *adv уст.* даўне́й, ране́й, (най)пе́рш
**vórder** *a* (*ужываецца толькі ў поўных формах*) 1) пярэ́дні, які́ знахо́дзіцца спе́раду; передавы́ (*напр., пра акоп*); ***die ~en Zähne*** пярэ́днія зу́бы; ***er steht in ~er Líni¦e*** ён стаі́ць у пе́ршых радах
**Vórderachse** *f* -, -en *тэх.* пярэ́дняя вось, пярэ́дні мост
**Vórderansicht** *f* -, -en фаса́д, від спе́раду
**Vórderarm** *m* -(e)s, -e *анат.* прадплё́чча
**Vódergaumenlaut** *m* -(e)s, -e *лінгв.* пярэднепаднябе́нны гук
**Vórdergrund** *m* -(e)s, -gründe пярэ́дні план; ***etw. in den ~ stéllen*** вы́сунуць што-н. на пярэ́дні план; ***im ~ stéhen**** быць на пярэ́днім пла́не
**vórdergründig** *a* 1) які́ знахо́дзіцца на пярэ́днім пла́не 2) неглыбо́кі, павярхо́ўны
**vórderhand** *adv* паку́ль
**Vórdermann** *m* -(e)s, -männer 1) які́ стаі́ць напе́радзе (*тс.вайск.*); ***auf ~ stéhen**** стая́ць адзі́н за адны́м; ***auf ~ tréten**** стаць адзі́н за адны́м; ***den ~ überspríngen**** апярэ́дзіць каго́-н.; атрыма́ць што-н. [дабі́цца чаго́-н.] без чаргі́ 2) старэ́йшы (*званнем, рангам, пасадай і г.д.*)
**Vórdersitz** *m* -(e)s, -e пярэ́дняе ме́сца
**vórderste** *a* са́мы пе́ршы, са́мы пярэ́дні
**Vórderteil** *m, n* -(e)s, -e 1) пярэ́дняя ча́стка 2) *марск.* нос (*судна*)
**vórdrängen 1.** *vt* ці́снуць, пхаць напе́рад **2. ~, sich** 1) прабіра́цца, прасо́ўвацца ўпе́рад, праштурхну́цца 2) выско́кваць напе́рад, быць вы́скачкай
**vórdringen*** *vi* (s) ру́хацца [прасо́ўвацца] напе́рад
**vórdringlich 1.** *a* першачарго́вы, тэрміно́вы, неадкла́дны; актуа́льны **2.** *adv* у пе́ршую чаргу́; у са́мым спе́шным пара́дку
**Vórdruck** *m* -(e)s, -e бланк, фармуля́р
**vórdrücken** *vt* (наступа́ючы) цясні́ць (*праціўніка*), напіра́ць
**vóreilen** *vi* (s) забяга́ць напе́рад, спяша́цца; ***j-m*** **~** абганя́ць каго́-н.
**vóreilig** *a* непраду́маны, паспе́шны, ачасны
**voreinánder** *pron rez* 1) адзі́н пе́рад адны́м 2) адзі́н ад аднаго́ 3) адзі́н аднаго́
**vóreingenommen** *a* 1) (*gegen A*) прадузя́ты (*супраць каго-н., чаго-н.*) 2) небесстаро́нні, неаб’екты́ўны (*für A – да чаго-н.*)
**Vóreingenommenheit** *f* - прадузя́тасць; небесстаро́ннасць, неаб’екты́ўнасць
**Vóreltern** *pl* про́дкі
**vórempfinden*** *vt* прадчува́ць
**vórenthalten*** *vt* (*j-m*) 1) затры́мліваць, не дава́ць (*каму-н. чаго-н.*); незако́нна пазбаўля́ць (*чаго-н.*) 2) утойваць, хава́ць (*што-н., ад каго-н.*)
**Vórentscheidung** *f* -, -en прадвызначэ́нне; датэрміно́вае вызначэ́нне (*пераможцы*); *спарт.* паўфіна́л
**vórerst** *adv* найпе́рш, перш, спярша́, паку́ль
**vórerwähnt** *a* вышэйзгада́ны, вышэйпамянёны
**Vórfahr** *m* -en, -en про́дак
**vórfahren*** *vi* (s) 1) (*vor A*) пад’язджа́ць (*да чаго-н.*) 2) (*bei D*) заязджа́ць (*да каго-н.*) 3) (*D*) е́хаць напе́радзе; абганя́ць
**Vórfahrt** *f* - *аўта* абго́н; ***óhne*** **~** без абго́ну
**Vórfahrtsregel** *f* -, -n пра́віла першачарго́васці праезду (*на скрыжаванні*)
**Vórfall** *m* -(e)s, -fälle 1) вы́падак, здарэ́нне, інцыдэ́нт 2) *мед.* выпадзе́нне
**vórfallen*** *vi* (s) 1) здара́цца, адбыва́цца 2) па́даць; нахіля́цца ўпе́рад
**Vórfeier** *f* -, -n пярэ́дадзень [пярэ́дадне] свя́та
**Vórfeld** *n* -(e)s, -er *вайск. спарт.* пярэ́дняя зо́на
**vórfertigen** *vt* (*загадзя*) падрыхто́ўваць
**vórfinden*** *vt* заспе́ць, знахо́дзіць
**Vórfreude** *f* - прадчува́нне ра́дасці
**vórfristig** *a* датэрміно́вы

**Vórfrühling** *m* -s, -e ра́нняя вясна́, прадве́сне
**vórfühlen** *vt перан.* прама́цваць, зандзіраваць грунт; ***im Wald*** ~ прачаса́ць лес (*у пошуках праціўніка*)
**vórführen** *vt* 1) выстаўля́ць напака́з, дэманстрава́ць, пака́зваць (*vor D – каму-н.*) 2) ігра́ць (*спектакль*), ста́віць (*п'есу*); дэманстрава́ць, пака́зваць (*фільм*)
**Vórführung** *f* -, -en 1) дэманстра́цыя, пака́з; відо́вішча, пастано́ўка 2) *юрыд.* (*прымусовы*) прыво́д
**Vórführgerät** *n* -(e)s, -e 1) прае́ктар 2) дэманстрацы́йны апара́т (*у мэтах рэкламы*)
**Vórgabe** *f* -, -n *спарт.* фо́ра, гандыка́п
**Vórgang** *m* -(e)s, -gänge 1) здарэ́нне; прэцэдэ́нт 2) працэ́с 3) вытво́рчы працэ́с
**Vórgänger** *n* -s, - папярэ́днік
**Vórgarten** *m* -s, -gärten кве́тнік, агаро́дчык
**vórgaukeln** *vt* (*j-m*) ашу́кваць, уво́дзіць у зман
**vórgeben*** **I** *vt спарт.* дава́ць фо́ру, дава́ць напе́рад (*фігуру і г.д.*)
**vórgeben*** **II** *vt* 1) засыпа́ць (*корм жывёле*); падава́ць (*на стол*) 2) адгаво́рвацца (*чым-н.*); ***er gab vor, er wäre krank*** ён удава́ў з сябе́ хво́рага
**Vórgebirge** *n* -s, - 1) п(е)радго́р'е 2) мыс
**vórgeblich 1.** *a* уя́ўны **2.** *adv* як бы́ццам, бы́ццам
**vórgedacht** *a* вышэйпамянёны
**vórgefasst** *a* прадузя́ты
**vórgefertigt** *a* (за́гадзя) падрыхтава́ны
**Vórgefühl** *n* -(e)s, -e прадчува́нне; ***ein ~ von etw.*** (***D***) (*без прыназ. – G*) ***háben*** прадчува́ць што-н.; ***im*** ~ у прадчува́нні
**vórgehen*** *vi* (s) 1) ісці́ ўпе́рад, выхо́дзіць напе́рад 2) *вайск.* прасо́ўвацца, наступа́ць; ***zum Ángriff*** ~ наступа́ць 3) (*mit D*) дзе́йнічаць, пастýпаць (*з кім-н.*) 4) (*gegen A*) прыня́ць ме́ры (*супроць каго-н., чаго-н.*) 5) адбыва́цца, здара́цца; ***was geht hier vor?*** што тут адбыва́ецца? 6) папярэ́днічаць 7) (*D*) перасяга́ць, перавыша́ць, быць больш ва́жным (*чым што-н.*) 8) спяша́цца (*пра гадзіннік*)
**Vórgehen** *n* -s 1) спо́саб дзе́яння 2) *вайск.* прасо́ўванне, наступле́нне; ***im ~ bléiben**** праця́гваць прасо́ўванне [рух напе́рад]
**Vórgelände** *n* -s, - мясцо́васць, яка́я ляжы́ць спе́раду
**Vórgelege** *n* -s, - *тэх.* перада́тачны механі́зм, зубча́тая перада́ча
**vórgenannt** *a* вышэйпамянёны
**Vórgenuss** *m* -es, -nüsse смакава́нне напе́рад
**Vórgericht** *n* -(e)s, -e заку́ска
**vórgerückt** *a* по́зні (*час*); стары́, пажылы́ (*узрост*)
**Vórgeschichte** *f* - 1) передгісто́рыя 2) дагістары́чны час
**vórgeschichtlich** *a* дагістары́чны
**Vórgeschmack** *m* -(e)s смакава́нне напе́рад, адчува́нне сма́ку напе́рад; прадчува́нне; ***éinen ~ von etw.*** (***D***) ***háben*** смакава́ць што-н. за́гадзя, прадчува́ць што-н.
**vórgeschoben** *a* вы́сунуты напе́рад, перадавы́ (*пра войскі*)
**vórgeschritten** *a* 1) перадавы́ (*у працы*); ***im ~en Sómmer*** у канцы́ ле́та 2) стары́, старэ́чы
**vórgesehen** *a* прадугле́джаны
**Vórgesetzte** *sub m, f* -n, -n шэф, нача́льнік, -ніца
**vórgestern** *adv* (па)заўчо́ра
**vórgestrig** *a* (па)заўчара́шні
**vórgreifen*** *vi* (*j-m in D*) апярэ́джваць (*каго-н. у чым-н.*), прадбáчыць (*адкрыццё*); ***éiner Fráge*** ~ прадвыраша́ць [прадвы́значыць] пыта́нне
**Vórgriff** *m* -(e)s, -e (п)апярэ́джанне; прадвырашэ́нне
**vórhaben*** *vt* 1) мець наме́р, збіра́цца; ***was hast du mórgen vor?*** што ты ро́біш за́ўтра? 2) насі́ць спе́раду (*пра вопратку*); ***éine Schürze*** ~ быць у фартуху́ 3) займа́цца (*чым-н.*), працава́ць (*над чым-н.*)
**Vórhaben** *n* -s, - наме́р, заду́ма, прае́кт; ***sein ~ áusführen*** ажыццяві́ць свой

намéр; ***j-n von séinem ~ ábbringen**** адгаварыць каго-н. ад ягó намéру; ***von éinem ~ ábstehen**** адмóвіцца ад намéру

**Vórhalle** *f* -, -n вестыбю́ль; цвінтáр (*каля царквы*); *перан.* пачáтак чагó-н.

**vórhalten* 1.** *vt* 1) трымáць (*перад чым-н.*) 2) (*D*) папракáць (*каго-н. за што-н.*) **2.** *vi* хапáць, ставáць; ***der Vórsatz hat nicht lánge vórgehalten*** (дóбры) намéр быў хýтка забы́ты

**Vórhaltung** *f* -, -en папрóк, вымóва; ***j-m ~en máchen*** папракáць кагó-н.

**Vórhand** *f* - 1) *спарт.* ігрóк [гулéц], які́ мáе прáва пéршага хóду; ***die ~ háben*** мець прáва пéршага хóду [пéршага ўдáру]; ***in der ~ sein [sítzen*]*** мець прáва пéршага хóду, хадзі́ць пéршым; ***in der ~ bléiben**** заставáцца [быць] у вы́йгрышы; вéсці гульню́ 2) паравáга; ***in der ~ bléiben**** захóўваць паравáгу

**vorhánden** *a* які́ ёсць (у наяўнасці), наяў-ны; *~ **sein*** мéцца, быць (у наяўнасці)

**Vorhándensein** *n* -s наяўнасць; гатóўка (*наяўныя грошы*)

**Vórhang** *m* -(e)s, -hänge 1) заслóна, штóра; ***der ~ geht auf [geht hoch, geht in die Hőhe, gibt die Bühne frei]*** заслóна падымáецца [раскрывáецца]; ***der ~ geht níeder [fällt]*** заслóна апускáецца; ***den ~ vórziehen* [schlíeßen*]*** даць заслóну 2) *перан.* завéса ◊ ***der Scháuspieler hátte víele Vórhänge*** арты́ста мнóга разóў выклікáлі

**vórhängen** *vt* завéшваць; вéшаць (*фіранкі, шторы*)

**Vórhängeschloss** *n* -es, -schlösser вісячы замóк

**Vórhaus** *n* -es, -häuser *дыял.* вестыбю́ль, сéні

**Vórhemd** *n* -(e)s, -en мані́шка

**vorhér** *adv* даўнéй, ранéй, зáгадзя; ***lánge ~*** задóўга (*да чаго-н.*); *~ **géhen**** пайсці́ заўчáсна [занáдта рáна]; ***éinige Táge ~*** за нéкалькі дзён (*да чаго-н.*)

**vorhér=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на дзеянне, якое папярэднічае чаму-н.*: vorhérsagen прадкáзваць; vorhérgehen* папярэ́днічаць

**vorhérbestimmen** *vt* прадвызначáць, прызначáць

**vorhérgehen*** *vi* (s) папярэ́днічаць

**vorhérgehend** *a* папярэ́дні; ***im ~en ist erwähnt…*** вышэ́й упамя́нута, назвáна…

**vorhérig** *a* папярэ́дні, міну́лы

**Vórherrschaft** *f* -, -en панавáнне, дамінавáнне, засі́лле

**vórherrschen** *vi* пераважáць, панавáць, дамінавáць

**Vorhérsage** *f* -, -n прадказáнне, прагнóз

**vorhérsagen** *vt* прадкáзваць, прагназі́раваць

**vorhérsehen*** *vt* прадбáчыць

**vórheucheln** *vt* крывадýшна ўпэ́ўніваць (*у чым-н.*)

**vorhín,** [vórhin] *adv* ранéй, нядáўна, тóлькі што

**Vórhinein:** ***im ~*** зáгадзя, адрáзу

**Vórhof** *m* -(e)s, -höfe 1) пярэ́дні двор 2) *перан.* пачáтак, пярэ́дадзень 3) *мед.* перадсэ́рдзе

**Vórhut** *f* -, -en *вайск.* авангáрд; ***die ~ bílden*** знахóдзіцца [быць] у авангáрдзе

**vórig** *a* міну́лы, ранéйшы, даўнéйшы; ***~e [in der ~en] Wóche*** на прóшлым ты́дні

**vórjährig** *a* лéташні, мінулагóдні

**Vórkämpfer** *m* -s, - перадавы́ баéц [змагáр]; застрэ́льшчык

**vórkauen** *vt* 1) разжóўваць 2) *перан.* разжóўваць, дэталёва тлумáчыць

**Vórkauf** *m* -(e)s, -käufe 1) скýпка, перакýпка 2) *перан.* прáва прывілéі пры кýплі

**vórkaufen** *vt* 1) скупляць (*для перапродажу*) 2) карыстáцца прывілéяй пры кýплі

**Vórkäufer** *m* -s, - скýпшчык, перакýпшчык

**Vórkaufsrecht** *n* -(e)s, -e прáва прывілéі пры кýплі

**vórkehren** *vt* прымáць мéры (*у адносінах да чаго-н.*), падрыхтóўваць (*усё неабходнае*)

**Vórkehrung** *f* -, -en мéра (*засцярогі*); ***~en tréffen**** прыняць мéры, зрабі́ць зáхады

**Vórkenntnis** *f* -, -se папярэ́дняя падрых-

тóўка (*да якой-н. дзейнасці*), папярэ́днія вéды

**vórknöpfen** *vt*: ***sich*** (***D***) (***j-n***) ~ *разм.* прапясóчыць, адчытáць, прабрáць кагó-н.

**vórkommen*** *vi* (s) 1) выхóдзіць напéрад 2) (*bei D*) захóдзіць (*да каго-н.*) 3) сустракáцца (*пра слова ў тэксце і г.д.*) 4) адбывáцца, здарáцца (*пра выпадак*); ***das darf nicht mehr ~!*** каб гэ́тага бóлей не былó! 5) (*D*) здавáцца; ***er kommt mir bekánnt vor*** мне здаéцца, што я ягó вéдаю

**Vórkommen** *n* -s, - 1) здарэ́нне, факт, вы́падак 2) радóвішча (*карысных выкапняў*) 3) існавáнне, нaя́ўнасць

**vórkommendenfalls** *adv* у вы́падку, калі́

**Vórkommnis** *n* -ses, -se здарэ́нне

**Vórkriegsstand** *m* -(e)s, -stände даваéнны ўзрóвень

**vórladen** *vt юрыд.* выклікáць (*у суд, у паліцыю і г.д.*)

**Vórladung** *f* -, -en вы́клік (*у суд, у паліцыю і г.д.*); ***der ~ Fólge léisten*** з’явíцца па вы́кліку [павéстцы, пóзве]

**Vórlage** *f* -, -n 1) праéкт, прапанóва; ***éine ~ dúrchbringen* [dúrchsetzen]*** дамагчы́ся зацвярджэ́ння праéкта 2) арыгінáл, узóр 3) *спарт.* пас, перадáча 4) *архіт.* вы́ступ 5) прадстаўлéнне (*von D – дакументаў*) 6) *тэх.* сýпарт

**vórlassen*** *vt* 1) прапускáць напéрад, прапускáць пá-за чаргóю 2) дапускáць, упускáць (*на сустрэчу, прыём і г.д.*)

**Vórlauf** *m* -(e)s, -läufe 1) паступáльны рух 2) *тэх.* пярэ́дні ход 3) *спарт.* забéг

**vórlaufen*** *vi* (s) забягáць напéрад; ***éinige Schrítte ~*** забягáць на нéкалькі крóкаў напéрад

**Vórläufer** *m* -s, - папярэ́днік, прадвéснік

**vórläufig 1.** *a* 1) папярэ́дні, пачаткóвы 2) часóвы **2.** *adv* пакýль (што), часóва

**vórlaut** *a* нясці́плы, дзёрзкі, нахáбны; ***~es Wésen*** нясці́плыя павóдзіны

**vórleben** *vt* пакáзваць пры́клад сваíм жыццём

**Vórleben** *n* -s мінýўшчына, папярэ́дняе жыццё

**vórlegen 1.** *vt* (*vor A*) (па)клáсці (*што-н. перад кім-н., чым-н.*); ***ein Schloss ~*** павéсіць замóк 2) падавáць (*напр., стравы*); ***órdentlich ~ разм.*** падмацавáцца, падсілкавáцца 3) пакáзваць (*тавар*) 4) прад’яўля́ць (*дакументы*); ***j-m Frágen ~*** задавáць камý-н. пытáнні 5): ***Témpo ~*** паскóрыць тэмп [хýткасць] **2. ~, sich** нахіля́цца ўпéрад

**Vórleger** *m* -s, - дыванóк (*перад ложкам*)

**Vórlegeschloss** *n* -es, -schlösser вiся́чы замóк

**vórleiern** *vt* 1) паражóўваць, паўтарáць аднó і тóе ж 2) адбубні́ць (*верш і г.д.*)

**Vórleistung** *f* -, -en папярэ́дняе дасягнéнне

**vórlesen*** *vt* (*j-m*) чытáць (ўгóлас) (*каму-н.*)

**Vórlesung** *f* -, -en 1) лéкцыя; ***éine ~ hálten**** чытáць лéкцыю 2) літаратýрныя чытáнні; твóрчы вéчар (*паэта*)

**vórletzt** *a* перадапóшні

**vórlieb néhmen*** *vi* (*mit D*) з(а)давóльвацца (*чым-н.*)

**Vórliebe** *f* - (*für A*) ця́га, схíльнасць (*да каго-н., чаго-н.*)

**vórliegen*** *vi* 1) ляжáць (*перад чым-н.*) 2) мéсца, быць у нaя́ўнасці, існавáць; ***es liegt nichts gégen ihn vor*** сýпраць ягó нямá нія́кіх абвінавáчванняў

**vórliegend** *a* дáдзены, які́ мáецца ў нaя́ўнасці; ***im ~en Fall*** у гэ́тым [дáдзеным] вы́падку

**vórlügen*** *vt* (*j-m*) нахлусíць, наманíць (*каму-н. што-н.*)

**vorm =** vor dem

**vórmachen** *vt* 1) прылáдзіць, дапасавáць (*што-н. перад чым-н.*); ***den Ríegel an der Tür ~*** зачынíць дзвéры на зáсаўку 2) (*j-m*) пакáзваць (*каму-н., як рабіць што-н.*); ***er máchte mir die Übung vor*** ён паказáў мне, як выкóнваць практыкавáнне 3) (*j-m*) ашýкваць, увóдзіць у зман; ***wir wóllen uns doch nichts ~ lássen**** мы не павíнны даць сябé падманýць [увéсці ў зман]

**Vórmacht** *f* - панавáнне, уладáрства

**Vórmachtstellung** *f* -, -en панýючае ста-

но́вішча (*якой-н. дзяржавы*)

**vórmalig** *a* 1) ране́йшы, былы́ 2) апо́шні, міну́лы (*аб сустрэчы і г.д.*)

**vórmals** *adv* не́калі, калі́сьці, калі́сь, ране́й

**Vórmarsch** *m* -(e)s, -märsche рух напе́рад, на́ступ

**vórmarschieren** *vi* (s) *вайск.* наступа́ць

**Vórmeldung** *f* -, -en 1) папярэ́джанне (*у чым-н.*) 2) зая́ўка

**vórmerken** *vt* 1) вызнача́ць, планава́ць (сабе́) 2) (за)рэгістрава́ць; ***sich ~ lássen**** (*für A*) ране́й [за́гадзя] запіса́цца (*на што-н.*), зарэгістрава́цца

**Vórmerkung** *f* -, -en папярэ́дні за́піс [рэгістра́цыя], зая́ўка (*на што-н.*)

**Vórmittag** *m* -(e)s, -e (перад)по́ўдзень, перадпаўдзённы час; ра́нак, пе́ршая пало́ва дня; ***am*** (***hóhen***) ~ пе́рад (са́мым) по́ўднем [абе́дам]; ***héute*** ~ сёння ра́ніцай

**vórmittägig, vórmittäglich** *a* перадабе́дзенны, ра́нішні

**vórmittags** *adv* да по́ўдня, у пе́ршай пало́ве дня, ра́ніцай

**Vórmund** *m* -(e)s, -e *i* münder апяку́н (*тс. перан.*); ***éinen ~ ánsetzen*** назна́чыць апекуна́

**Vórmundschaft** *f* -, -en апе́ка; ***die ~ führen*** ажыццяўля́ць апе́ку; ***die ~ übernéhmen**** узя́ць пад апе́ку; ***únter ~ stéhen**** быць [знахо́дзіцца] пад апе́кай

**vorn I** *adv* напе́радзе; спе́раду, спача́тку; ***nach*** ~ напе́рад, упе́рад; ***von*** ~ спе́раду; спача́тку

**vorn II** *разм.* = vor den

**Vórname** *m* -ns, -n імя́ (*у адрозненне ад прозвішча*); ***Vor- und Zúname*** імя́ і про́звішча

**vornán** *adv* спе́раду; пе́ршым (*ісці і г.д.*)

**vórne** *разм. гл.* vorn

**vórnehm** *a* 1) зна́тны, арыстакраты́чны, шляхе́тны 2) ва́жны; ~ ***tun**** задзіра́ць нос 3) высакаро́дны (*пра думкі*); ***die ~ste Pflicht*** вышэ́йшы доўг

**vórnehmen*** **I** *vt* 1) право́дзіць (*якую-н. работу*) 2) ***sich*** (***D***) ***etw.*** ~ узя́цца за што-н., заду́маць, распача́ць што-н.; ***sich*** (***D***) ***j-n*** ~ узя́цца за каго́-н., узя́ць каго́-н. у рабо́ту; прачыта́ць ната́цыю каму́-н.

**vórnehmen*** **II** *vt* падвя́зваць фарту́х [сурвэ́тку]; надзява́ць ма́ску

**vórnehmlich** *adv* перава́жна, асаблі́ва, гало́ўным чы́нам

**Vornehmteueréi** *f* - *разм.* задзіра́нне но́са, пыхлі́вая пабла́жлівасць

**vornheréin** [vórnherein]: ***von*** ~ з са́мага пача́тку, адра́зу, за́гадзя

**vornhín: *nach*** ~ упе́рад, напе́рад

**vór(n)hinein: *im*** ~ з са́мага пача́тку, адра́зу

**vornüber** *adv* напе́рад, ні́цма (*упасці*)

**vornübergebeugt** *adv* нахілі́ўшыся напе́рад [упе́рад] (*сядзець*)

**vórnweg** *adv* з са́мага пача́тку, адра́зу

**Vórort** *m* -(e)s, -e прадме́сце, пры́гарад

**Vórortzug** *m* -(e)s, -züge пры́гарадны цягні́к [по́езд], электры́чка

**Vórposten** *m* -s, - *вайск.* фарпо́ст, перадавы́ пост; *pl тс.* вартава́я [вартаўні́чая] ахо́ва

**vórprogrammieren** *vt* за́гадзя праграмі́раваць

**Vórprüfung** *f* -, -en залі́к, папя́рэдні іспы́т

**vórragen** *vi* (s) выдава́цца, вытырка́цца, тырча́ць

**Vórrang** *m* -(e)s перава́га, першынство́; ***den ~ vor j-m háben*** мець перава́гу пе́рад кім-н., пераўзыхо́дзіць каго́-н.; ***j-m den ~ éinräumen*** уступі́ць каму́-н. першынство́

**vórrangig 1.** *a* перава́жны **2.** *adv* перава́жна, гало́ўным чы́нам

**Vórrat** *m* -(e)s, -räte запа́с, назапа́шанае; *pl* запа́сы; ***etw. auf ~ ánschaffen*** набы́ць што-н. у запа́с, назапа́сіць што-н.; ***éinen ~ an Lébensmitteln ánlegen*** запасці́ся харча́мі ◊ ~ ***ist bésser als Réichtum*** ≅ беражлі́вы ле́пшы за бага́тага

**vórrätig 1.** *a* назапа́шаны, нарыхтава́ны, які́ ма́ецца ў запа́се **2.** *adv*: ***etw. ~ hálten**** мець [трыма́ць] што-н. у запа́се [на скла́дзе]

**Vórratskammer** *f* -, -n кладо́ўка, склеп

**Vórraum** *m* -(e)s, -räume пярэ́дні пако́й, гасцёўня, хол

**vórrechnen** *vt* налічы́ць; пералі́чваць

**Vórrecht** *n* -(e)s, -e перава́га, прывіле́я; ***~e áufheben**** скасава́ць прывіле́і; ***~e geníeßen**** карыста́цца прывіле́ямі; ***j-m séine ~e entzíehen****, ***j-n séiner ~e beráuben*** пазба́віць каго́-н. яго́ [сваі́х] прывіле́яў

**Vórrede** *f* -, -n прадмо́ва, уво́дзіны

**vórreden** *vt* 1) нагавары́ць, нахлусі́ць 2) перако́нваць, унуша́ць

**Vórredner** *m* -s, - папярэ́дні ара́тар

**vórrichten** *vt* падрыхто́ўваць, ла́дзіць, нала́джваць

**Vórrichtung** *f* -, -en 1) прыстасава́нне, прыла́да, апара́т, механі́зм 2) падрыхто́ўка

**vórrücken** **1.** *vt* пасу́нуць напе́рад; ***das Féuer ~*** *вайск.* перане́сці аго́нь упе́рад **2.** *vi* (s) ру́хацца напе́рад *вайск. тс.* наступа́ць; ***die Zeit rückt vor*** час ідзе́

**vórrufen*** *vt* выклі́каць (*каго-н.*)

**Vórrunde** *f* -, -en *спарт.* адбо́рачны круг

**Vórrundenspiel** *n* -(e)s, -s *спарт.* адбо́рачныя гу́льні

**vors** *разм.* = vor das

**Vórsaal** *m* -(e)s, -säle вестыбю́ль, пярэ́дні пако́й

**vórsagen** *vt* падка́зваць

**Vórsaison** [-sɛˌzɔ̃:] *f* - час да пача́тку сезо́на

**Vórsänger** *m* -s, - запява́ла; *царк.* ка́нтар

**Vórsatz I** *m* -es, -sätze наме́р, заду́ма (*тс. юрыд.*) ***éinen ~ fássen*** наме́рыцца, прыня́ць рашэ́нне

**Vórsatz II** *m* -es, -sätze *палігр.* фо́рзац

**vórsätzlich** **1.** *a* наўмы́сны **2.** *adv* наўмы́сна, знаро́к

**Vórschau** *f* -, -en 1) папярэ́дні прагля́д 2) *тэатр.* прагра́ма, рэпертуа́р (*наступнага сезону*)

**vórschauen** *vi* (*bei D*) захо́дзіць (*да каго-н.*), наве́дваць (*каго-н.*)

**Vórschein:** ***zum ~ bríngen**** вы́явіць, вы́крыць, раскры́ць; ***zum ~ kómmen**** з'яўля́цца, выяўля́цца

**vórschieben*** *vt* 1) прасо́ўваць напе́рад; высо́ўваць, выстаўля́ць; ***éinen Ríegel ~*** засо́ўваць за́саўку 2) адгаво́рвацца, прыкрыва́цца (*чым-н.*); ***éiner Sáche éinen Ríegel ~*** перашкаджа́ць спра́ве; ***er schob éine Sítzung vor*** ён адгавары́ўся тым, нібы ў яго́ пасяджэ́нне

**vórschießen*** **1.** *vi* (s) кі́нуцца [ры́нуцца] напе́рад **2.** *vt* выдава́ць ава́нсам, пазыча́ць (*каму-н.*)

**Vórschlag** *m* -(e)s, -schläge 1) прапано́ва; ***éinen ~ éinbringen* [unterbréiten]*** уне́сці прапано́ву; ***auf éinen ~ éingehen**** пагадзі́цца з прапано́вай; ***auf ~ von j-m*** па прапано́ве каго́-н.; ***etw. in ~ bríngen**** прапанава́ць што-н. 2) *муз.* фаршла́г

**vórschlagen*** *vt* прапано́ўваць

**vórschleichen*** *vi* (s) кра́сціся, прakра́двацца напе́рад

**vórschnell** *a* неабду́маны, няўзва́жаны; неразва́жлівы

**vórschreiben*** *vt* зага́дваць, прадпі́сваць; ***ich lásse mir nichts ~*** я не дазво́лю сабо́й кама́ндаваць

**vórschreiten*** *vi* (s) 1) прасо́ўвацца, ру́хацца напе́рад, прахо́дзіць напе́рад 2) прасо́ўвацца (*пра работу*); рабі́ць по́спехі

**Vórschrift** *f* -, -en 1) прадпіса́нне, зага́д, інстру́кцыя; ***nach ~*** па прадпіса́нні [палажэ́нні, стату́ту] 2) палажэ́нне, стату́т; ***j-m ~en máchen*** дава́ць прадпіса́нні каму́-н.

**vórschriftsmäßig** **1.** *a* прадпі́саны, які́ адпавяда́е прадпіса́нню [стату́ту] **2.** *adv* адпаве́дна прадпіса́нню, паво́дле стату́та [зага́ду]; ***~ gekléidet*** апра́нуты па фо́рме

**vorschriftswidrig** *a* які́ супярэ́чыць прадпіса́нню [стату́ту]

**Vórschub** *m* -(e)s -schübe 1) рух напе́рад; пада́ча (*на станку*) 2) дапамо́га, садзе́йнічанне; ***~ léisten (D)*** (па)спры́яць, (па)садзе́йнічаць

**Vórschüler** *m* -s, - дашко́льнік

**Vórschulerziehung** *f* - дашко́льнае выха-

ва́нне

**Vórschuss** *m* -es, -schüsse ава́нс, зада́так; ***sich*** (***D***) ***éinen ~ gében lássen**** браць зада́так; ***als*** ~ ава́нсам

**vórschussweise** *adv* ава́нсам

**vórschützen** *vt* апра́ўдвацца (*чым-н.*), прыво́дзіць у апраўда́нне (*што-н.*)

**Vórschützung** *f* -, -en адгаво́рка, апраўда́нне, падста́ва

**vórschwärmen** *vi* ма́рыць услы́х

**vórschwatzen** *vt* нагавары́ць, набалбата́ць

**vórschweben** *vi* (*D*) здава́цца, мро́іцца (*каму-н.*)

**vórschwindeln** *vt* (на)хлусі́ць, (на)выдумля́ць

**vórsehen*** **1.** *vt* прадугле́джваць **2. ~, sich** 1) (*bei, mit j-m, gegen etw. A*) берагчы́ся, сцерагчы́ся (*каго-н., чаго-н.*) 2) (*mit D*) запаса́цца (*чым-н.*)

**Vórsehung I** *f* - *рэл.* найвышэ́йшая сіла, лёс, наканава́нне

**Vórsehung II** *f* -, -en забеспячэ́нне, нарыхто́ўка

**vórsetzen** *vt* 1) падава́ць (*на стол*) 2) ста́віць на чале́, прызнача́ць кіраўніко́м 3) ста́віць спе́раду 4) *разм.* падста́віць; ***er wúrde dabéi vórgesetzt*** пры гэ́тым яго́ падста́вілі

**Vórsicht** *f* - асцяро́жнасць, абачлівасць; ***zur ~ máhnen*** заклiка́ць да асцяро́жнасці; ***~ üben*** быць асцяро́жным; ***~ wálten lássen**** дзе́йнічаць асаблі́ва асцяро́жна; ***~!*** сцеражы́ся! ◊ ***~ ist bésser als Náchsicht*** ≅ адсячэ́ш – не прыто́чыш

**Vórsichtigkeit** *f* - асцяро́жнасць, прадба́члівасць

**vórsichtshalber** *adv* у мэ́тах [дзе́ля] асцяро́жнасці

**Vórsichtsmaßregel** *f* -, -n ме́ра засцяро́гі

**Vórsilbe** *f* -, -n *грам.* приста́ўка, прэ́фікс

**vórsingen*** *vt* (*j-m*) пяя́ць, напява́ць (*каму-н.*)

**vórsintflutlich** *a разм., жарт.* дапато́пны

**Vórsitz** *m* -es старшы́нства; ***únter dem ~*** пад старшы́нствам; ***den ~ führen*** старшы́нстваваць, ве́сці сход

**Vorsitzende** *sub m, f* -n, -n старшыня́

**Vórsorge** *f* - 1) клапатлі́васць, прадба́члівасць 2) падрыхто́ўка за́гадзя (*да чаго-н.*); ***~ trágen**** праяўля́ць прадба́члівасць; ***~ tréffen**** за́гадзя паклапаці́цца (*аб усім неабходным*)

**vórsorgen** *vi* паклапаці́цца за́гадзя

**vórsorglich** *a* клапатлі́вы, прадба́члівы

**Vórspann** *n* -(e)s, -e 1) *уст.* перакладны́я ко́ні 2): ***nimm ~!*** *разм.* раска́звай [апавяда́й] хутчэ́й!; не цягні́!

**vórspannen** *vt* (*vor A*) запрага́ць

**Vórspeise** *f* -, -n заку́ска

**vórspiegeln** *vt* (*D*) маро́чыць; дуры́ць (*каго-н. чым-н.*)

**Vórspieg(e)lung** *f* -, -en падма́н, зман, містыфіка́цыя; ***éine ~ fálscher Tátsachen*** падтасо́ўка фа́ктаў, хлусня́

**Vórspiel** *n* -(e)s, -e 1) прэлю́дыя, уверцю́ра 2) прало́г, пача́так

**vórspielen** *vt* (*D*) сыгра́ць (*што-н., каму-н.*)

**vórsprechen*** **1.** *vt* 1) вымаўля́ць, гавары́ць (*дзеля таго, каб хто-н. паўтарыў*) 2) дэкламава́ць (*у прысутнасці каго-н.*) **2.** *vi* (*bei D*) заві́таць, захо́дзіць (*да каго-н.*), наве́дваць (*каго-н. з мэтай абгаварыць што-н.*)

**vórspringen*** *vi* (s) 1) выско́кваць (*з засады і да т.п.*) 2) вытырка́ць, выдава́цца напе́рад (*аб скале, скулах*)

**Vórspruch** *m* -(e)s, -sprüche усту́п, прадмо́ва, прало́г

**Vórsprung** *m* -(e)s, -sprünge 1) вы́ступ 2) перава́га; ***éinen ~ gewínnen**** атрыма́ць перава́гу; ***éinen ~ heráusholen*** дабі́цца перава́гі; ***den ~ hálten**** утры́млівaць перава́гу

**Vórstadt** *f* -, -städte пры́гарад, прадме́сце

**Vórstand** *m* -(e)s, -stände 1) упра́ва, праўле́нне, ра́да 2) прэзі́дыум; старшыня́

**Vórstecher** *m* -s, - шы́ла

**vórstecken** *vt* 1) прыкало́ць, прышпі́ліць (*спераду*) 2) ста́віць, намяча́ць (*мэту*)

**vórstehen*** *vi* 1) выдава́цца ўпера́д 2) (*D*) узнача́льваць (*установу*), загáдваць (*гаспадаркай*)

**vórstehend** *a* 1) што выступáе (*напр., скулы*) 2) вышэйпамянёны; ***im Vórstehenden wúrde erwähnt, dass…*** вышэ́й было́ зазнáчана

**Vórsteher** *m* -s, - начáльнік, шэф, загáдчык

**vórstellbar** *a* які́ [што] мóжна сабé ўявíць

**vórstellen** **1.** *vt* 1) (па)стáвіць спéраду 2) (*j-m*) пазнаёміць (*каго-н. з кім-н.*), адрэкамендавáць, прадстáвіць (*каго-н. каму-н.*) 3) уяўля́ць сабóю; стрóіць з сябé (*каго-н.*); выдавáць сябé (*за каго-н.*); ***er will ímmer etw. Besónderes*** ~ ён заўсёды хóча быць чы́мсьці асаблíвым 4): ***sich*** (***D***) ***etw.*** ~ уявíць сабé што-н. **2. ~, sich** (*j-m*) адрэкамендавáцца, прадстáвіцца (*каму-н.*)

**vórstellig** *a* : ***bei j-m ~ wérden*** падáць зая́ву [скáргу] камý-н., увайсці з хадáйніцтвам куды́-н.

**Vórstellung** *f* -, -en 1) азнаямлéнне, прадстаўлéнне (*каго-н.*); ***die ~ des Kandidáten*** знаёмства з кандыдáтам (*перад выбарамі*) 2) уяўлéнне (*von D – аб чым-н.*), разумéнне (*чаго-н.*); ***sich*** (***D***) ***éine ~ von etw.*** (***D***) ***máchen*** атрымáць уяўлéнне аб чым-н.; ***j-m éine ~ von etw.*** (***D***) ***vermítteln*** даць камý-н. уяўлéнне аб чым-н. 3) *тэатр.* пакáз, спектáкль, сеáнс (*кіно*) 4) хадáйніцтва, зая́ва 5) пярэ́чанне; *pl тс.* вымóва, напамíнак; ***~en erhében**** выстаўля́ць пярэ́чанні камý-н.; ***j-m ~en máchen*** рабíць вымóву [заўвáгу] камý-н.

**Vórstellungskraft** *f* - сíла ўяўлéння

**Vórstoß** *m* -es, -stöße 1) *вайск.* удáр, атáка, нáступ 2) *спарт.* напáд, нáступ; рывóк напéрад

**vórstoßen*** **1.** *vt* пхаць упéрад **2.** *vi* (s) атакавáць, наступáць, прасóўвацца 2) *спарт.* вы́рвацца напéрад

**Vórstrafe** *f* -, -n (ранéйшая) судзíмасць

**vórstrecken** *vt* 1) праця́гваць (*руку*), выця́гваць напéрад; ***den Kopf*** ~ вы́цягнуць шы́ю 2) пазычáць; выдавáць авáнс

**vórstreichen*** *vt буд.* папярэ́дне [спачáтку] пафарбавáць

**Vórstudi¦enanstalt** *f* -, -en падрыхтóўчыя кýрсы; падрыхтóўчае аддзялéнне ў (ВНУ)

**Vórstufe** *f* -, -n 1) (*zu D*) пéршая ступéнь, папярэ́дні этáп (*чаго-н.*), пéршы крок (*на шляху чаго-н.*) 2) першапачаткóвае навучáнне

**vórstürmen** *vi* (s) *вайск.* кíдацца напéрад, рýшыць [ры́нуцца] напéрад

**Vórtag** *m* -(e)s, -e папярэ́дні дзень, дзень напярэ́дадні чагó-н.; ***am ~e*** у папярэ́дні дзень

**Vórteil** *m* -(e)s, -e 1) кары́сць, вы́гада; прыбы́так; ***von ~e*** вы́гадны; ***~ aus [von] etw.*** (***D***) ***zíehen**** атры́млíваць кары́сць [вы́гаду] з чагó-н.; ***éinen ~ aus etw.*** (***D***) ***schlágen**** ***[heráusholen]*** атры́млíваць [здабывáць] вы́гаду [кары́сць] з чагó-н., вы́гадаць на чым-н.; ***auf séinen ~ séhen**** ***[bedácht sein]*** клапацíцца аб улáсным дастáтку [дабрабы́це]; ***sich auf séinen ~ verstéhen**** умéць атрымáць вы́гаду з усягó; ***im ~ sein*** быць у вы́йгрышы; ***j-m zum ~ geréichen*** пайсці на кары́сць камý-н. 2) перавáга; ***éinen ~ bíeten**** давáць перавáгу, даравáць прывілéю; ***die Vór- und Náchteile*** перавáгі і недахóпы ◊ ***kein ~ óhne Náchteil*** нямá лíха без дабрá

**vórteilhaft** *a* вы́гадны, выгóдны, кары́сны

**Vórtrag** *m* -(e)s, -träge 1) даклáд, лéкцыя; ***éinen ~ hálten**** (з)рабíць даклáд; ***~ hálten**** даклáдваць (*начальніку*); ***éinen ~ ábsagen*** адмянíць даклáд [лéкцыю]; ***etw. zum ~ bríngen**** далажы́ць аб чым-н. 2) выканáнне (*песні і г.д.*); ***ein Lied zum ~ bríngen**** праспявáць пéсню 3) ды́кцыя

**vórtragen*** *vt* 1) рабíць даклáд; чытáць лéкцыю; ***éinen Bericht*** ~ даклáдваць 2) дэкламавáць, выкóнваць (*на сцэне*) 3) (*j-m*) выкáзваць (*свае думкі, пажаданні*) 4): ***den Ángriff*** ~ развівáць наступлéнне; ***das Féuer*** ~ *вайск.* паранóсіць агóнь напéрад

**Vórtragende** *sub m, f* -n, -n даклáдчык, -чыца; выканáўца (*песні і г.д.*)

**Vórtragsart** *f* -, -en манéра даклáдваць [выступáць]; манéра выканáння; спó-

саб выражэ́ння

**Vórtragsreihe** *f* -, -n цыкл ле́кцый [дакла́даў]

**vórtrefflich** *a* выда́тны, до́бры, дасканáлы

**Vórtrefflichkeit** *f* - выда́тная я́касць, перава́га

**vórtreiben*** *vt* ру́хаць, прасо́ўваць напе́рад (*тс. працу*)

**vórtreten*** *vi* (s) выступа́ць [выхо́дзіць] напе́рад

**Vórtritt** *m* -(e)s (*vor D*) перава́га, першынство́ (*перад кім-н.*); ***j-m den ~ lássen**** уступі́ць пе́ршае ме́сца [першынство́] каму́-н.

**vórtrocknen** *vt* падсу́шваць

**Vórtrupp** *m* -s, -s *вайск.* гало́ўная пахо́дная заста́ва

**vórtun*** **1.** *vt* 1) пака́зваць, дэманстрава́ць (*які-н. прыём*) 2) надзява́ць, падвя́зваць (*фартух, сурвэтку*) 3) пакла́сці (*што-н. перад кім-н.*); ***éinen Ríegel ~*** зачыні́ць на за́саўку 4) дзе́йнічаць неабду́мана [неразва́жліва] ◊ ***vórgetan und náchbedacht hat mánchen in groß' Leid gebrácht*** ≅ перш чым адрэ́заць – сем разо́ў паме́рай **2. ~, sich** высо́ўвацца, выстаўля́ць сябе́ (*на пярэдні план*)

**vórturnen** *vi* (*D*) пака́зваць гімнасты́чнае практыкава́нне (*каму-н.*)

**vorüber** *a* мі́ма (*an D – каго-н., чаго-н.*); ***die Gefáhr ist ~*** небяспе́ка міну́ла(ся); ***~ sein*** мінава́ць, прайсці́

**vorüber=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на рух міма чаго-н.*: vorüberfahren* прае́хаць мі́ма, (пра)міна́ць

**vorübergehen*** *vi* (s) (*an D*) 1) прахо́дзіць мі́ма (*каго-н., чаго-н.*); ***j-n, etw. ~ lássen**** прапусці́ць каго́-н., што-н. 2) міна́ць, прахо́дзіць; ***etw. ~ lássen**** перачака́ць што-н.

**vorübergehend** **1.** *a* перахо́дны, часо́вы; ***schnell ~*** мімалётны **2.** *adv* часо́ва, на час

**vorüberhuschen** *vi* (s) (*an D*) прашмыгну́ць, прамільг(а)ну́ць (*міма каго-н., чаго-н.*)

**vorüberlassen*** *vt* перачака́ць, прапуска́ць

**vorüberziehen*** *vi* (s) прахо́дзіць мі́ма, (пра)міна́ць

**Vórübung** *f* -, -en папярэ́дняе [уво́днае] практыкава́нне

**Vóruntersuchung** *f* -, -en *юрыд.* папярэ́дняе сле́дства

**Vórurteil** *n* -(e)s, -e 1) *pl* забабо́ны, пры́мхі; ***sich über ~e hinwégsetzen*** быць вышэ́й за забабо́ны [за пры́мхі] 2) прадузя́тасць; ***gégen j-n, gégen etw.*** (***A***) ***ein ~ háben*** ста́віцца да каго́-н., да чаго́-н. прадузя́та

**vórurteils|frei, ~los** *a* без забабо́наў, без пры́мхаў

**Vórurteilslosigkeit** *f* - адсу́тнасць забабо́наў [пры́мхаў]

**Vórvater** *m* -s, -väter про́дак

**Vórvergangenheit** *f* -, -en *грам.* даўно́ про́шлы час, плюсквамперфе́кт

**Vórverhör** *m* -(e)s, -e *юрыд.* папярэ́дні до́пыт

**Vórverkauf** *m* -(e)s, -käufe папярэ́дні про́даж

**vórverlegen** *vt* 1) перано́сіць на больш ра́нні час 2): ***das Féuer ~*** *вайск.* перано́сіць аго́нь у глыбіню́ абаро́ны праці́ўніка; перано́сіць аго́нь упе́рад

**vórvorgestern** *a* тры дні таму́ наза́д

**vórvorig** *a* пазапро́шлы

**vórwagen, sich** асме́ліцца [адва́жыцца] прасу́нуцца [вы́йсці] напе́рад

**Vórwahlen** *pl* папярэ́днія вы́бары

**Vórwahlnummer** *f* -, -n (тэлефо́нны) код (*горада і г.д.*)

**vórwalten** *vi* перавaжа́ць; панава́ць

**Vórwand** *m* -(e)s, -wände наго́да, прычы́на; адгаво́рка; ***er nimmt das zum ~, um…*** гэ́та для яго́ [яму́] то́лькі прычы́на [наго́да], каб…

**Vórwärmer** *m* -s, - падаграва́льнік, эканама́йзер

**vórwärts** *adv* напе́рад, упе́рад; ***ein Schritt (nach) ~*** крок напе́рад (*тс. перан.*); ***~ bríngen**** садзе́йнічаць развіццю́, ру́хаць напе́рад; ***~ dénken**** ду́маць аб бу́дучым, арыентава́цца на бу́дучае; ~

***géhen*, ~ kómmen**** паляпшáцца, прагрэсíраваць, пасняхóва развівáцца; ~ ***schréiten**** ісцí напéрад; хýтка развівáцца

**Vórwärtsmarsch** *m* -(e)s, -märsche прасóўванне [рух] напéрад

**vorwég** *adv* 1) напéрад 2) ранéй, адрáзу, зáгадзя; ~ ***háben*** мець перавáгу

**vorwégnehmen*** *аддз. vt* папярэ́джваць (*чые-н. дзеянні*)

**vórweisen*** *vt* пакáзваць, прад'яўляць

**Vórweisung** *f* -, -en прад'яўлéнне

**Vórwelt** *f* - 1) старажы́тныя [прóшлыя, мінýлыя] часы́ [эпóхі] 2) прóдкі

**vórweltlich** *a* старажы́тны, які мáе дачынéнне да мінýлых часóў

**vórwerfen* I** *vt* кíдаць (упéрад); *вайск.* перакíнуць напéрад (*войскі*)

**vórwerfen* II** *vt* (*j-m*) папракáць, дакарáць (*каго-н.*)

**Vórwerk** *n* -(e)s, -e 1) фальвáрак, хýтар 2) *вайск.* перадавóе ўмацавáнне

**vórwiegen*** *vi* пераважáць

**vórwiegend** *adv* перавáжна, галóўным чы́нам

**Vórwinter** *m* -s, - зáмаразкі, перадзíм'е, пачáтак зімы́

**Vórwissen** *n* -s вéданне; ***óhne mein*** ~ без майгó вéдама

**Vórwitz** *m* -es 1) нясцíпласць 2) дзёрзкасць

**vórwitzig** *m* -es (залíшне) цікáўны, нясцíплы

**Vórwurf** *m* -(e)s, -würfe 1) папрóк, дакóр; ***j-m Vórwürfe wégen etw.* (*G*) *máchen*** папракáць кагó-н. у чым-н.; ***Vórwürfe an den Kopf wérfen**** грýба папракáць, рабíць папрóкі 2) сюжэ́т; ***ein Film, der die Befréiung des Lándes zum ~ hat*** фільм аб вызвалéнні краíны

**vórwurfs|frei, ~los** *a* бездакóрны

**vórwurfsvoll** *a* дакóрлівы, пóўны папрóкаў

**Vórzeichen** *n* -s, - 1) прыкмéта, знак; ***állerhand ~ für éinen wármen Sómmer*** рóзныя прыкмéты да цёплага лéта 2) *матэм.* знак (*плюс, мінус*)

**vórzeichnen** *vt* 1) (*j-m*) пакáзваць, як малявáць (*каму-н. што-н.*) 2) (*j-m*) укáзваць (*каму-н.*), павучáць (*каго-н.*); ***j-m sein Verhálten*** ~ інструктавáць кагó-н., як сябé павóдзіць 3) абазначáць

**Vórzéichner** *m* -s, - *тэх.* мéтчык

**Vórzeichnung** *f* -, -en *гл.* Vórzeichen

**vórzeigen** *vt* пакáзваць, прад'яўляць

**Vórzeiger** *m* -s, - прад'яўнíк

**Vórzeit** *f* -, -en старадáўнасць, дагістары́чны час, глыбóкая старажы́тнасць

**vórzeiten** *adv паэт.* калíсьці, даўнéй

**vórzeitig** *a* заўчáсны, дачáсны

**Vórzeitigkeit** *f* - *грам.* папярэ́дні час

**vórzeitlich** *a* першабы́тны

**vórziehen*** *vt* 1) завéсіць (*фіранку*) 2) (*D*) аддавáць перавáгу (*каму-н., чаму-н.*) 3) падцягваць напéрад (*войскі*)

**Vórzimmer** *n* -s, - пярэ́дні пакóй, гасцёўня

**Vórzug** *m* -(e)s, -züge 1) перавáга; ***j-m den ~ gében**** аддавáць перавáгу камý-н. 2) перавáга, вáртасць; ***sie hat víele Vórzüge*** у яé мнóга дóбрых якасцей

**vórzüglich 1**. *a* 1) выдáтны, вéльмі дóбры; перавáжны (*пра права*) **2.** *adv* перавáжна, галóўным чы́нам, перш за ўсё 2) выдáтна, цудóўна, надзвычáйна

**Vórzugspreis** *m* -es, -e ільгóтная цанá

**Vórzugsrecht** *n* -(e)s перавáжнае прáва

**Vórzugsstellung** *f* -, -en прывілеявáнае станóвішча

**vórzugsweise** *adv* перавáжна, найлéпш

**Votum** ['vo:-] *n* -s, Vóten *i* Vóta 1) вóтум 2) (урачы́стае) абяцáнне 3) рашэ́нне, прысýд

**Voucher** ['vautʃər] *m, n* -s, - *i* -s вáўчар, прапускны́ дакумéнт

**vulgär** [vul-] *a* вульгáрны, грýбы

**Vulkán** [vul-] *m* -s, -e вулкáн; ***tätiger*** ~ дзéючы вулкáн; ***erlóschener*** ~ патýхлы вулкáн; ***Áusbruch éines ~s*** вывяржэ́нне вулкáна ◊ ***Tanz auf dem*** ~ ≅ баль у час чумы́

**vulkánisch** [vul-] *a* вулканíчны

**vulkanisíeren** [vul-] *vt* вулканізавáць

**Vulkanisíerung** [vul-] *f* -, -en *тэх.* вулканізáцыя

# W

**Wáage** *f* -, -n 1) вáгі; шáлі; ***die ~ schlägt aus*** стрэ́лка вáгаў адхіля́ецца; ***der ~ den Áusschlag gében**** перацягнýць шáлі вáгаў (*тс. перан.*); ***schwer in die ~ fállen**** быць вáжкім [пераканáўчым]; ***sich (D) [einánder] die ~ hálten**** *перан.* узаéмна ўраўнавáжваць адзíн аднагó; быць рóўнымі адзíн аднамý; ***éiner Sáche (D) die ~ hálten**** *перан.* ураўнавáжваць што-н. 2) ватэрпáс, грунтвáга 3) раўнавáга (*гімнастыка*) 4) Шáлі (*сузор'е*)

**Wáagebalken** *m* -s, - карóмысел вáгаў

**wáag(e)recht** *a* гарызантáльны

**Wáagerechte** *sub f* -n, -n гарызантáльная лíнія

**Wáagezunge** *f* -, -n стрэ́лка вáгаў

**Wáagschale** *f* -, -n шáля ◊ ***schwer in die ~ fállen**** быць вáжкім [пераканáўчым]; ***etw. auf die ~ légen*** узвáжваць, абмяркóўваць

**wábbelig** *a* 1) мя́ккі, ры́хлы, дрýзлы 2) хíсткі, дрыгóткі

**wábbeln** *vi* гайдáцца

**Wábe** *f* -, -n (пчалíныя) сóты

**Wábenhonig** *m* -s сóтавы мёд

**wach** *a* 1) які́ не спíць; ~ ***wérden*** прачнýцца; ~ ***bléiben**** не спаць 2) жвáвы, бадзёры, кéмлівы; ***er hátte die ~ste Empfíndung*** у ягó былó зусíм я́снае адчувáнне; ***ein ~er Kopf*** жывы́ рóзум

**Wáchaufzug** *m* -(e)s, -züge *вайск.* развóд каравýла

**Wáchdienst** *m* -(e)s, -e *вайск.* каравýльная слýжба

**Wáche** *f* -, -n 1) *вайск.* вáрта, каравýл (*абавязак*); *марск.* вáхта; ~ ***stéhen**** стая́ць на вáрце [у каравýле, на вáхце]; ~ ***hálten* [tun*, háben]*** нéсці вáрту; вартавáць; ***auf ~ sein*** быць пíльным [насцярóжаным, напагатóве]; ***auf ~ zíehen* [die ~ bezíehen*]*** заступíць на вáрту [у каравýл] 2) каравýл; стрáжа, вартавы́; ***die ~ áblösen*** змянíць вáрту; ***ábziehende ~*** вáрта, якáя змяня́ецца; ***áufziehende ~*** вáрта, якáя заступáе

**wáchen** *vi* 1) не спаць 2) (*über A*) назірáць (*за кім-н., за чым-н.*); стаяць на вáрце (*чаго-н.*) ахóўваць, вартавáць (*што-н.*); ***bei éinem Kránken ~*** дзяжýрыць каля́ пасцéлі хвóрага

**Wáchen** *n* -s няспáнне; ***im ~ träumen*** снíць наявé; ***zwíschen ~ und Traum*** у паўснé

**wáchhabend** *a вайск.* вартавы́; *марск.* вáхценны; дзяжýрны (*на прадпрыемстве, у вайсковай часці*)

**Wáchhabende** *sub m* -n, -n *вайск.* начáльнік каравýла; *марск.* вáхценны; дзя́журны (*на прадпрыемстве, у вайсковай часці*)

**wáchhalten*** *vt* [wach hálten*] падтры́млівац (*зацікаўленасць і г.д.*)

**Wáchhund** *m* -(e)s, -e вартавы́ сабáка

**Wáchmann** *m* -s, -männer паліцэ́йскі, паліцыя́нт

**Wachólder** *m* -s, - *бат.* ядлóвец

**Wáchposten** *m* -s, - 1) каравýл; каравýльны [вартавы́] пост 2) каравýльны, вартавы́ (*наз.*)

**wáchrufen*** *vt аддз.* абуджáць, выклікáць у пáмяці

**wáchrütteln** *vt аддз.* раскатýрхаць, разбудзíць

**Wachs** *n* -es, -e 1) воск 2) (лы́жная) мазь

**wáchsam** *a* 1) пíльны 2) чýткі, чýйны (*сабака*)

**Wáchsamkeit** *f* - пíльнасць

**wáchsbleich** *a* мярцвя́на-блéдны, бéлы як палатнó

**wáchsen*** **I** *vi* (s) 1) расцí; ***sich (D) den Bart ~ lássen**** адпусцíць барадý 2) расцí, узрастáць, павялíчвацца; ***die Árbeit wächst éinem únter den Händen*** рабóты станóвіцца ўсё больш; ***die Árbeit wächst mir über den Kopf*** у мянé

рабóты па гóрла 3): ***er ist díeser Sáche (D) nicht gewáchsen*** гэ́та ямý не па плячý; ***sie wáren einánder gewáchsen*** яны́ былí вáртыя адзíн аднагó [не ўступáлі адзíн аднамý]

**wáchsen II** *vt* 1) вашчы́ць, васкавáць 2) змáзваць (*лыжы*)

**Wáchsen** *n* -s 1) рост; ***im ~ sein*** расцí 2) рост, узрастáнне, павелíчэ́нне

**wächsern** *a* вaскóвы, з вóску

**Wáchs|kerze** *f* -, -n, **~licht** *n* -(e)s, -lichter васкóвая свéчка

**Wáchspapier** *n* -(e)s, -e 1) васкóвая папéра, васкóўка

**wächst** *präs ад* wáchsen*

**Wách¦stube** *f* -, -n вартóўня; *вайск.* каравýльнае памяшкáнне

**Wáchstuch** *n* -(e)s, -e *i* -tücher цырáта

**Wáchstum** *n* -s рост, павелíчэ́нне 2) развíццё

**Wacht** *f* -, -en каравýл, вáрта; ~ ***hálten**** стая́ць на вáрце

**Wáchtdienst** *m* -(e)s, -e *гл.* Wáchdienst

**Wáchtel** *f* -, -n *заал.* перапёлка

**Wáchtelkönig** *m* -(e)s, -e *заал.* драч

**Wächter** *m* -s, - 1) вартаўнíк 2) кантрóльная прылáда

**Wắchterhäus¦chen** *n* -s, - вартóўня, старажавáя бýдка

**Wáchtlokal** *n* -(e)s, -e *вайск.* каравýльнае памяшкáнне

**Wáchtmeister** *m* -s, - 1) *вайск.* вáхмістр 2) паліцыя́нт, паліцэ́йскі ◊ ***hier ist áber ein ~ im Zímmer!*** *разм.* тут накýрана, хоць сякéру вéшай!

**Wáchtposten** *m* -s, - каравýл, вáрта

**Wáchtschiff** *m* -(e)s, -e вартавóе [старажавóе] сýдна

**Wáchtturm** *m* -(e)s, -türme вартавáя [старажавáя] вéжа, назірáльная вéжа [вы́шка]

**wáckelig 1.** *a* хíсткі, няўстóйлівы **2.** *adv* няцвёрда

**wáckeln** *vi* хістáцца, гайдáцца; ***mit dem Kopf ~***ківáць галавóй; ***ihm wáckelt der Kopf*** у ягó трасéцца галавá (*ад старасці*) ◊ ***da wáckelt die Wánd!*** ≅ гэ́та парушáе ўсé аснóвы!, гэ́та прóста ашаламля́льна [небывáла]!; ***bei dem soll's ~*** у ягó спрáвы мáбыць [здаéцца] дрэ́нныя [так сабé]

**wácker 1.** *a* 1) хрáбры 2) сумлéнны, руплíвы **2.** *adv* 1) брáва, хрáбра 2) (дóбра)сумлéнна 3) шмат (*выпіць*)

**Wáde** *f* -, -n *анат.* лы́тка; ***strámme ~n*** мóцныя лы́ткі; ***dünne ~n*** тóнкія лы́ткі

**Wádenbein** *n* -(e)s, - *анат.* малáя бярцóвая [стрэ́лкавая] косць

**Wádenstrumpf** *m* -(e)s, -strümpfe панчóха да калéняў

**Wáffe** *f* -, -n 1) збрóя, узбраéнне; ***blánke ~*** халóдная збрóя; ***~n an Bord*** карабéльная збрóя; ***atomáre ~n*** áтамная збрóя; ***automátische ~n*** аўтаматы́чная збрóя; ***hérkömmliche [konventionélle] ~n*** звычáйная збрóя; ***nukleáre [thermonukleáre] ~n*** я́дзерная [тэрмая́дзерная] збрóя; ***schwére ~n*** ця́жкая (пяхóтная) збрóя; ***~n und Gerät*** *вайск.* баявáя тэ́хніка; ~ ***mit éingraviertem Námenszug*** імяннáя збрóя; ***~n führen*** змагáцца (са збрóяй у рукáх); ***die ~n strécken [níederlegen]*** склáсці збрóю, здáцца, капітулíраваць; ***mit den ~n klírren*** брáзгаць збрóяй; ***únter die ~n tréten**** стаць пад ружжó; ***von der ~ Gebráuch máchen*** пусцíць у ход [прымянíць] збрóю; ***von den ~n stárrend*** ≅ узбрóены да зубóў; ***zu den ~n gréifen**** хапáцца за збрóю, падня́ць збрóю; ***die ~ aus der Hand schlágen**** абяззбрóіць кагó-н., вы́біць збрóю з рук у кагó-н.; ***die ~ gégen sich (A) selbst kéhren [wénden*]*** пакóнчыць з сабóю, павярнýць збрóю супрóць самóга сябé 2) *перан.* збрóя; ***die géistige ~*** ідэалагíчная зброя 3) род вóйскаў

**Wáffel** *f* -, -n вáфля

**Wáffenabzeichen** *n* -s, - знак адрóзнення рóду вóйскаў

**Wáffenbruder** *m* -s, -brüder тавáрыш па збрóі, баявы́ паплéчнік

**Wáffendienst** *m* -(e)s, -e *вайск.* вайскóвая слýжба

**Wáffenerfolg** *m* -(e)s, -e баявы́ пóспех

**wáffenfähig** *a* здóльны насíць збрóю;

го́дны да вайско́вай слу́жбы
**Wáffenfarbe** *f* -, -n ко́лер ро́ду во́йскаў
**Wáffengattung** *f* -, -en род во́йскаў
**Wáffengefährte** *sub m* -n, -n *гл.* Wáffenbruder
**Wáffengewalt** *f* - сі́ла збро́і
**Wáffenhaus** *n* -es, -häuser арсена́л, збраёўня
**wáffenlos** *a* бяззбро́йны, няўзбро́ены
**Wáffenoffizier** *m* -s, -e афіцэ́р збройнатэхні́чнай слу́жбы
**Wáffenrock** *m* -(e)s, -röcke вайско́вая фо́рма, вайско́вы мундзі́р
**Wáffenruhe** *f* - *гл.* Wáffenstillstand
**Wáffenschau** *f* -, -en 1) агля́д во́йскаў 2) агля́д збро́і
**Wáffenschein** *m* -(e)s, -e дазво́л на пра́ва нашэ́ння збро́і
**Wáffenschmied** *m* -(e)s, -e ма́йстар збро́і, збро́йны ма́йстар
**Wáffenstillstand** *m* -s пераміp’е, заміpэ́нне; ***den ~ schlíeßen**** заключы́ць перамі́р’е; ***den ~ bréchen**** пару́шыць перамі́р’е
**Wáffenstreckung** *f* -, -en капітуля́цыя
**Wáffentat** *f* -, -en во́інскі по́дзвіг
**Wáffenträger** *m* -s, - *гіст.* збраяно́сец
**wáffnen** **1.** *vt* узбро́йваць **2.** **~, sich** узбро́йвацца; ***sich mit Geduld ~*** набра́цца цярпе́ння; ***sich gégen etw. (A) ~*** сустрака́ць што-н. у штыкі́
**wägbar** *a* 1) ва́жкі; які́ [што] мо́жна ўзва́жыць 2) *перан.* які́ [што] мо́жна прадба́чыць за́гадзя
**Wágehals** *m* -es, -hälse смяльча́к, зух
**wágehalsig** *a* сме́лы, адва́жны, зухава́ты
**Wágemut** *m* -(e)s сме́ласць, адва́га
**wágemutig** *a* сме́лы, адва́жны, зухава́ты
**wágen** **1.** *vt* 1) рызыкава́ць 2) адва́жвацца, нава́жвацца ◊ ***wer wagt, gewínnt*** хто рызыку́е, той вы́йграе; ***den Hals [das Lében] ~*** рызыкава́ць галаво́й [жыццём]; ***frisch gewágt ist halb gewónnen*** ≅ сме́ласць гарады́ бярэ́; **2.** **~, sich** адва́жвацца, смець; ***ich wáge mich nicht zu ihm*** я баю́ся яго́ [падыйсці́ да яго́]
**wägen*** *vt* узва́жваць, ва́жыць (*што-н.*) ◊ ***erst ~, dann wágen*** ≅ дзе́сяць разо́ў мер, і то не вер
**Wágen** *m* -s, - 1) паво́зка, воз, калама́жка 2) (аўта)машы́на, аўтамабі́ль; ***der ~ liegt gut auf der Stráße*** у машы́ны пла́ўны ход; ***den ~ führen*** вадзі́ць машы́ну [аўтамабі́ль], кірава́ць машы́най 3) ваго́н; ***gepólsterter ~*** мя́ккі ваго́н 4) *астр*: ***der Gróße ~*** Вялі́кая Мядзве́дзіца, *разм.* Вялі́кі Воз; ***der Kléine ~*** Мала́я Мядзве́дзіца, *разм.* Малы́ Воз ◊ ***die Pférde hínter den Wágen spánnen*** ≅ пачына́ць не з таго́ канца́
**Wágenabteil** *n* -(e)s, -e *чыг.* купэ́
**Wágendeichsel** *f* -, -n ды́шаль
**Wágenfeder** *f* -, -n *аўта* рысо́ра
**Wágenführer** *m* -s, - 1) вагонаважа́ты 2) вадзі́цель, кіро́ўца
**Wágengestell** *n* -(e)s, -e *аўта* шасі́
**Wágenheber** *m* -s, - *аўта* дамкра́т
**Wágenkolonne** *f* -, -n 1) або́з 2) кало́на аўтамашы́н
**Wágenrille** *f* -, -n каля́іна ад калёсаў
**Wágenschlag** *m* -(e)s, -schläge *уст.* дзве́ры; дзве́рцы (*аўтамабіля*)
**Wágentritt** *m* -(e)s, -e прысту́пка (*вагона і г.д.*)
**Wágenzug** *m* -(e)s, -züge 1) або́з 2) кало́на аўтамашы́н
**Wágestück** *n* -(e)s, -e *высок.* рызыко́ўная спра́ва, адча́йны крок
**Waggon** ['gɔ̃: *і* -'go:n] *m* -s, -s *і з ліч.* - ваго́н
**wághalsig** *a гл.* wágehalsig
**Wágnis** *n* -ses, -se ры́зыка, рызыко́ўная спра́ва
**Wägung** *f* -, -en узва́жванне
**Wahl** *f* -, -en 1) вы́бар; ***nach ~*** на вы́бар, паво́дле вы́бару; ***die ~ tréffen**** зрабі́ць вы́бар; ***j-m die ~ (frei) lássen**** прадста́віць каму́-н. пра́ва вы́бару ◊ ***wer die ~ hat, hat die Qual*** ≅ каму́ выбіра́ць, таму́ і галаву́ лама́ць 2) *часцей pl* вы́бары, выбра́нне; ***die ~en áusschreiben**** назна́чыць вы́бары; ***die ~en ábhalten**** праве́сці вы́бары; ***j-n zur ~ vórschlágen**** вы́ставіць [вы́лучыць] чыю́-н. кандыдату́ру на вы́барах; ***zur ~ géhen**** ісці́ на вы́бары 3) гату́нак,

я́касць; ***Wáren érster [zwéiter]* ~** тавáры пéршага [другóга] гатýнку

**Wáhlagitation** *f* -, -en перадвы́барная агітáцыя

**Wáhlausfall** *m* -(e)s, -fälle вы́нік вы́бараў

**wählbar** *a* які́ мóжа быць вы́браным

**wáhlberechtigt** *a* які́ мáе прáва гóласу

**Wáhlberechtigung** *f* - вы́барчае прáва, прáва гóласу

**Wáhlbezirk** *m* -(e)s, -e вы́барчая акрýга

**wählen** *vt* 1) выбірáць, абірáць 2) набірáць (*тэлефонны нумар*)

**Wähler** *m* -s, - вы́баршчык

**Wählerauftrag** *m* -(e)s, -träge накáз вы́баршчыкаў

**Wáhlergebnis** *n* -ses, -se вы́нік вы́бараў

**wählerisch** *a* перабóрлівы; капры́зны; патрабавáльны

**Wählerliste** *f* -, -n спіс вы́баршчыкаў

**Wählerschaft** *f* -, -en вы́баршчыкі, вы́барчы электарáт

**Wählervertreter** *m* -s, - давéраная асóба (*на выбарах*)

**wáhlfähig** *a* які́ мáе прáва [мóжа] быць абрáным

**Wáhlgang** *m* -(e)s, -gänge вы́барчы тур

**Wáhlgesetz** *n* -es, -e вы́барчы закóн, закóн аб вы́барах

**Wáhlhandlung** *f* -, -en 1) *гл.* Wáhlgang 2) правядзéнне вы́бараў

**Wáhlkampagne** [-panjə] *f* -, -n перадвы́барная кампáнія

**Wáhlkreis** *m* -es, -e вы́барчая акрýга

**Wáhlliste** *f* -, -n вы́барчы спіс

**Wáhllokal** *n* -s, -e вы́барчы ўчáстак

**wáhllos** *adv* без разбóру, што пападзéцца [трáпіць] у рýкі

**wáhlmündig** *a* той, хто дасягнýў адпавéднага ўзрóсту, каб мець прáва выбірáць

**Wáhlpflicht** *f* - абавя́зак удзéльнічаць у вы́барах

**Wáhlrecht** *n* -(e)s вы́барчае прáва; ***das állgemeine, gléiche und dirékte* ~ *in gehéimer Ábstimmung*** усеагýльнае, рóўнае і прамóе вы́барчае прáва пры тáйным галасавáнні

**Wáhlrede** *f* -, -n прадвы́барчая прамóва

**Wáhlspruch** *m* -(e)s, -sprüche дэвíз, вы́барчы лóзунг

**Wáhltag** *m* -(e)s, -e дзень вы́бараў

**Wáhlurne** *f* -, -n вы́барчая ўрна

**wáhlweise** *a* на вы́бар

**Wáhlzelle** *f* -, -n кабíна для галасавáння

**Wáhlzettel** *m* -s, - вы́барчы бюлетэ́нь

**Wahn** *m* -(e)s мрóя, самападмáн, асляплéнне, трызнéнне; мірáж; ***fíxer* ~** неадчэ́пная ідэ́я [дýмка], мáнія; ***éitler* ~** хімéра; ***in [von] éinem ~ befángen sein*** памыля́цца ў чым-н.; ***j-m séinen ~ (be)néhmen**** пазбáвіць ілю́зій кагó-н, ацвярóзіць кагó-н.

**Wáhnbild** *n* -(e)s, -er хімéра, прывíд, фантóм

**wähnen** *vt, vi* **1**. мрóіць, уяўля́ць, (памылкóва) меркавáць **2. ~, sich:** ***sich glücklich* ~** лічы́ць сябé шчаслíвым

**Wáhnidee** *f* -, -ide¦en вар'я́цкая [бязглýздая, недарэ́чная] дýмка [ідэ́я], трызнéнне

**Wáhnsinn** *m* -s вар'я́цтва; ***héller* ~** відавóчнае вар'я́цтва 2) безразвáжнасць, утрапёнасць; ***schwérmütiger* ~** меланхóлія

**wáhnsinnig 1.** *a* вар'я́цкі, звар'яцéлы; ***du bist ja ~!*** ты звар'яцéў! **2.** *adv* утрапёна, вéльмі, празмéрна

**Wáhnvorstellung** *f* -, -en трызнéнне

**Wáhnwitz** *m* -es, -e безразвáжнасць, вар'я́цтва; дзівáцтва

**wáhnwitzig** *a* безразвáжны; шалёны, дзівáцкі; недарэ́чны, бязглýзды

**wahr** *a* сапрáўдны, праўдзíвы, прáвільны; ***das ist* ~** гэ́та прáўда; ***nicht ~?*** (ці) не прáўда? ◊ ***was ~ ist, muss bléiben**** ≅ што прáўда – то прáўда; ***der ~e Jákob*** *жарт.* той сáмы [патрэ́бны] чалавéк

**wáhren** *vt* захóўваць, берагчы́, шанавáць (*напр. гонар*); ***séine Réchte* ~** баранíць сваé правы́; ***wáhre dich!*** сцеражы́ся!; ***wáhre déine Zúnge!*** *разм.* прытрымáй язы́к!

**währen** *vi высок.* дóўжыцца, працягвацца

**während 1.** *prp* (*G*) у час, на працягу, падчáс **2.** *conj* у той час як, пакýль

**während|dém, ~dés(sen)** *adv* між тым, тым ча́сам

**wáhrhaben** *vt*: ***es [etw.] nicht ~ wóllen*** не прызнава́ць, не дапуска́ць магчыма́сць (*чаго-н.*)

**wáhrhaft(ig) 1.** *a* праўдзі́вы, сапра́ўдны **2.** *adv* па пра́ўдзе, сапра́ўдна, напра́ўду

**Wáhrheit** *f* -, -en пра́ўда; ***hínter die ~ kómmen**** даве́дацца пра́ўду; ***um die ~ zu ságen*** па пра́ўдзе ка́жучы; ***bei der ~ bléiben**** гавары́ць пра́ўду, прытры́млівацца пра́ўды; ***es mit der ~ nicht so genáu néhmen**** не на́дта прытры́млівацца пра́ўды; ***der ~ die Éhre gében**** адда́ць нале́жнае і́сціне

**Wáhrheitsbeweis** *m* -es, -e до́каз і́сціны; ***den ~ führen*** *юрыд.* дака́зваць і́сціну; ***den ~ ántreten**** прысту́піць да до́казу і́сціны

**wáhrheitsgemäß** *a* праўдзі́вы, рэалісты́чны

**wáhrheitsgetreu** *a* праўдзі́вы, слу́шны, які́ адпавяда́е пра́ўдзе

**wáhrheitsliebend** *a* шчы́ры, праўдзі́вы

**wáhrlich** *adv* сапраўды́, напра́ўду

**wáhrnehmbar** *a* ба́чны, заўва́жны, адчува́льны

**wáhrnehmen*** *vt аддз.* 1) заўважа́ць, успрыма́ць, адчува́ць, адро́зніваць 2) прытры́млівацца, пільнава́цца (*інтарэсаў, тэрмінаў*); скарыста́ць, вы́карыстаць (*што-н.*); ***éine Gelégenheit ~*** скарыста́ць вы́падак

**Wáhrnehmung** *f* -, -en 1) успрыма́нне, адчува́нне; назіра́нне 2) *вайск.* атрыма́нне ве́стак 3) прытры́мліванне (*інтарэсаў, тэрміну*); ***in ~ séiner Interéssen*** прытры́мліваючыся сваі́х інтарэ́саў

**wáhrsagen** *vt аддз. і неаддз.* прадка́зваць, гада́ць; ***aus Kárten ~*** гада́ць на ка́ртах

**Wáhrsagerin** *f* -, -nen прадказа́льніца; вяшчу́нка

**wáhrsagerisch** *a* вяшчу́нскі

**Wáhrsagung** *f* -, -en гада́нне, прадказа́нне

**wahrschéinlich 1.** *a* праўдападо́бны, верагóдны, імаве́рны **2.** *adv* ма́быць, му́сіць, верагóдна; ***höchst ~*** па ўсёй верагóднасці

**Wahrschéinlichkeit** *f* - верагóднасць, праўдападо́бнасць, імаве́рнасць; ***áller ~ nach*** па ўсёй верагóднасці [імаве́рнасці]

**Wahrschéinlichkeitsrechnung** *f* - *матэм.* тэо́рыя імаве́рнасці

**Wáhrspruch** *m* -(e)s, -sprüche *юрыд.* верды́кт (*прысяжных*)

**Wáhrung** *f* - *юрыд.* захо́ўванне, захава́нне; ***~ der Sélbstständigkeit [Sélbständigkeit]*** захава́нне самасто́йнасці

**Wähřung** *f* -, -en валю́та; ***konvertíble ~*** канверсава́льная [канверсу́емая] валю́та; ***Gold von échter ~*** зо́лата вышэ́йшай про́бы

**Währungseinheit** *f* -, -en *фін.* валю́тная адзі́нка

**Währungsreform** *f* -, -en *фін.* грашо́вая рэфо́рма

**Wáhrzeichen** *n* -s, - прыкме́та, адзна́ка, сі́мвал

**Wáise** *f* -, -n сірата́

**Wáisenhaus** *n* -es, -häuser прыту́лак для сіро́таў, сіро́чы дом

**Wáisenkind** *n* -(e)s, -er сірата́

**Wáke** *f* -, -n *дыял.* пало́нка

**Wal** *m* -(e)s, -e *заал.* кіт

**Wald** *m* -(e)s, -wälder; лес; ***ein tíefer ~*** густы́ [дрыму́чы] лес; ***ein líchter ~*** рэ́дкі лес; ***durch ~ und Feld schwéifen [stréifen]*** хадзі́ць па ляса́х і паля́х ◊ ***den ~ vor (láuter) Bäumen nicht séhen**** за дрэ́вамі не ба́чыць ле́су; ***wie es in den ~ hinéinschallt, so schallt es wíeder hináus*** ≅ як гукне́ш, так і адгукне́цца

**Wáldanpflanzung** *f* -, -en лесанасаджэ́нне

**Wáldbau** *m* -(e)s лесаво́дства (*занятак*)

**Wáldbaulehre** *f* - лесаво́дства (*навука*)

**Waldbestand** *m* -(e)s, -stände лясна́я паса́дка, лесапаса́дка

**Wáldeinsamkeit** *f* - адасабле́нне, цішыня́ (*у лесе*), лясна́я цішыня́

**wáldeinwärts** *adv* у глыбіню́ ле́су

**Wáldfrevel** *m* -s, - самаво́льная вы́сечка ле́су

**Wáld|gegend** *f* -, -en, **~gelände** *n* -s, - лясíстая мясцóвасць
**Wáldgürtel** *m* -s, - (ахóўныя) лясны́я пасáдкі, ляснáя паласá
**Wáldhorn** *n* -(e)s, -hörner *муз.* валтóрна, паляўнíчы ражóк
**Wáldhüter** *m* -s, - ляснíк
**wáldig** *a* лясíсты
**Wáldlauf** *m* -(e)s, -läufe *спарт.* бег па ляснóй мясцóвасці
**Wáldlichtung** *f* -, -en (ляснáя) паля́н(к)а
**Wáldmeister** *m* -s *бат.* дзярáчка
**Wáldrand** *m* -(e)s, -ränder узлéссе, узлéсак
**wáldreich** *a* лясíсты, багáты на лес
**Wáldsaum** *m* -(e)s, -säume узлéссе, узлéсак
**Wáldschneppe** *f* -, -n *заал.* вальдшнэ́п
**Wáldschutzstreifen** *m* -s, - полеахóўная ляснáя паласá
**Wáldteufel** *m* -s, - *міф.* лясýн
**Wáldung** *f* -, -en лясны́ масíў
**wáldwärts** *adv* у лес, у напрáмку да лéсу
**Wáldweg** *m* -(e)s, -e ляснáя сцяжы́на [сцéжка]
**Wálfang** *m* -(e)s, -fänge кітабóйны прóмысел
**Wálfänger** *m* -s, - кітабóй
**Wálfisch** *m* -(e)s, -e *заал.* кіт
**wálken** *vt тэкст.* валя́ць, мяць, камячы́ць; ***j-n* ~** *разм.* адлупцавáць кагó-н.
**Wálker** *m* -s, - *тэкст.* валю́шнік
**Wálkmaschine** *f* -, -n валю́шная [сукнавáльная] машы́на
**Wálkmühle** *f* -, -n сукнавáльня
**Wall** *m* -(e)s, Wälle вал, нáсып
**Wállach** *m* -(e)s, -e *заал.* мéрын, валáх
**wállen I** *vi* кіпéць, булькатáць, струмéніць; хвалявáцца (*пра мора, тс. пачуццi*)
**wállen II** *vi* (s) *паэт.* вандравáць
**Wáller** *m* -s, - *заал.* сом
**wállfahren*** *неаддз. vi* (s) пілігры́мнічаць, палóмнічаць
**Wállfahrer** *m* -s, - пілігры́м, палóмнік
**Wállfahrt** *f* -, -en палóмніцтва
**Wállfahrtskirche** *f* -, -n царквá, якýю навéдваюць пілігры́мы [палóмнікі]
**Wállung** *f* -, -en 1) кіпéнне; бурлéнне, хвалявáнне (*мора, нівы*); ***das Meer ist in* ~** мóра хвалю́ецца 2) *перан.* кіпéнне, хвалявáнне; успы́шка; ***j-n in* ~ *bríngen**** мóцна ўсхвалявáць кагó-н.; ***in* ~ *geráten**** расхвалявáцца; ***der Zorn bráchte das Blut in* ~** кроў кіпéла ад гнéву
**Wálmdach** *n* -(e)s, -dächer *буд.* вáльмавы дах
**Wálnuss** *f* -, -nüsse грэ́цкі [валóскі] арэ́х
**Walpúrgisnacht** *f* -, -nächte *міфал.* вальпýргіева ноч, шáбаш вéдзьмаў
**Wálross** *n* -es, -e *заал.* морж
**wálten** *vi* (*über A*) панавáць (*над чым-н.*); кіравáць (*чым-н.*); ***séines Ámtes* ~** выкóнваць сваé абавя́зкі; ***schálten und* ~** распараджáцца па-свóйму; ***hier* ~ *die Natúrkräfte*** тут дзéйнічаюць сíлы прырóды; ***Gnáde* ~ *lássen**** шкадавáць, мíлаваць, лíтаваць, прабачáць
**Wálze** *f* -, -n *тэх.* вал, цылíндр; катóк ◊ ***etw. auf der* ~ *háben*** зáгадзя мець штó-н. напагатóве; ***éine ándere* ~ *áuflegen*** *разм.* памяня́ць [перамянíць] тэ́му, загавары́ць аб íншым; ***ímmer die álte* ~!** *разм.* усё тáя ж пéсня!
**wálzen I** *vt тэх.* пракáтваць, вальцавáць
**wálzen II** *vi* танцавáць вальс
**wälzen 1.** *vt* 1) перакóчваць; каціць; ***Probléme* ~** *жарт.* варóчаць [рашáць] сусвéтныя праблéмы; ***Bücher* ~** *жарт.* прачы́тваць мóра кніг 2) (*in D*) укáчваць (*у што-н.*); *кул.* паніравáць 3) (*auf A*) звалíць (*на каго-н., што-н., тс. перан.*) **2. ~, sich** валя́цца, качáцца; варóчацца; ***sich vor Láchen* ~** пáдаць [кýрчыцца] ад смéху
**wálzenförmig** *a* цыліндры́чны
**Wálzer** *m* -s, - вальс
**Wälzer** *m* -s, - *разм., жарт.* тóўсты том
**Wálzgut** *n* -(e)s, -güter пракáт
**Wálzhütte** *f* -, -n пракáтны завóд
**Wälzlager** *n* -s, - *тэх.* катáльны падшы́пнік
**Wálzstraße** *f* -, -n *тэх.* пракáтны стан
**Walzwerk** *n* -(e)s, -e *гл.* Wálzhütte
**Wámme** [Wámpe] *f* -, -n *разм.* пузáн, пузáты чалавéк
**Wams** *n* -es, Wämser кýртка, фуфáйка, камізэ́лька; ***etw. aufs* ~ *kríegen*** атры-

ма́ць наганя́й

**wand** *impf ад* wínden*

**Wand** *f* -, Wände 1) сцяна́, перагаро́дка; ***spánische ~*** шы́рма 2) *pl* сце́нкі пераплёту 3) стро́мая [стро́мкая] скала́ ◊ ***j-n an die ~ drücken*** прыпе́рці каго́-н. да сцяны́; ***die Wände hóchspringen* vor Fréude*** скака́ць да сто́лі ад ра́дасці; ***es ist, um die Wände [an den Wänden] hináufzuklettern [hóchzugehen*]!*** *разм.* ад гэ́тага мо́жна на сцяну́ палéзці! (*ад абурэння і да т.п.*); ***zu den léeren Wänden réden*** гавары́ць дарэ́мна [ма́рна]

**Wandálen** *pl гіст.* ванда́лы

**Wandalísmus** *m* - вандалі́зм, ва́рварства

**Wándbekleidung** *f* -, -en абшы́ўка [шалёўка] сцен

**Wándbrett** *n* -(e)s, -er палі́ца

**Wándel** *m* -s 1) пераме́на, зме́на; ***éinen ~ erfáhren* [erléiden*]*** змяні́цца 2) паво́дзіны, лад жыцця́

**wándelbar** *a* пераме́нлівы

**Wándel|gang** *m* -(e)s, -gänge, **~halle** *f* -, -n (на)кры́тая галерэ́я; кулуа́ры

**wándeln 1.** *vi* (s) хадзі́ць, блука́ць; ***auf dem Wége des Rúhmes ~*** ісці́ па шляху́ сла́вы; ***auf Érden ~*** жыць на зямлі́ [све́це]; ***ein ~des Léxikon*** *жарт.* хадзя́чая энцыклапе́дыя; ***wie ein ~des Gespénst áussehen**** мець вы́гляд хадзя́чай сме́рці **2.** *vt* (з)мяня́ць,ператвара́ць (*у што-н.*) **3. ~, sich** мяня́цца; (*in A*) ператвара́цца (*у што-н.*)

**Wándelstern** *m* -(e)s, -e *уст.* плане́та

**Wándelung** *f* -, -en *гл.* Wándlung

**Wánderarbeit** *f* -, -en адыхо́дніцтва

**Wánderausstellung** *f* -, -en перасо́вачная вы́стаўка

**Wánderer** *m* -s, - вандро́ўнік, падаро́жнік, (пе́шы) туры́ст

**Wánderfahne** *f* -, -n перахо́дны сцяг

**Wánderfahrt** *f* -, -en туры́сцкі пахо́д

**Wánderjahre** *pl* гады́ вандро́ўніцтва

**Wánderleben** *n* -s вандро́ўнае жыццё; бадзя́жнае жыццё

**Wánderlust** *f* - ця́га да вандрава́ння [падаро́жжаў]; захапле́нне вандрава́ннем [падаро́жжамі]

**wánderlustig** *a* які́ лю́біць падаро́жжы [вандро́ўкі]

**wándern** *vi* (s) вандрава́ць (*пяшком*); займа́цца туры́змам; падаро́жнічаць; блука́ць; качава́ць; ***die Wólken ~*** во́блакі плыву́ць; ***die Gedánken wánderten in die Férne*** ду́мкі не́сліся ўдалеч; ***er ließ die Blícke von éinem zum ándern ~*** ён перраво́дзіў по́зірк з аднаго́ на друго́га

**Wánderpokal** *m* -s, -e *спарт.* перахо́дны ку́бак

**Wánderpreis** *m* -(e)s, -e *спарт.* перахо́дны прыз

**Wánderschaft** *f* - вандро́ўка (*пяшком*); вандрава́нне; ***auf ~ sein*** вандрава́ць; ***auf die ~ géhen**** адпра́віцца вандрава́ць (*пяшком*)

**Wándersmann** *m* -(e)s, -leute падаро́жнік, вандро́ўнік

**Wándersport** *m* -(e)s пешахо́дны туры́зм

**Wánderung** *f* -, -en 1) прагу́лка, вандро́ўка; прахо́дка, падаро́жжа (*пяшком*) 2) туры́сцкі пахо́д 3) мігра́цыя, перамяшчэ́нне

**Wándervogel** *m* -s, -vögel 1) пералётная птýшка 2) валацу́га, бадзя́га

**Wánderweg** *m* -(e)s, -e маршру́т туры́сцкага пахо́ду

**Wándlung** *f* -, -en змяне́нне, пера(ў)тварэ́нне; ***éine ~ erfáhren* [erléiden*]*** змяні́цца

**wándlungsfähig** *a* здо́льны да змяне́нняў

**Wándmalerei** *f* -, -en сце́нны жы́вапіс; фрэ́скі

**Wándspruch** *m* -(e)s, -sprüche ло́зунг, цыта́та (*на сцяне*)

**wándte** *impf ад* wénden*

**Wándtäfelung** *f* -, -en драўля́ная абшы́ўка сцен, абшы́ўка сцен пане́лямі

**Wándteppich** *m* -(e)s, -e габеле́н

**Wándung** *f* -, -en *буд., тэх.* сцяна́, сце́нка; таўшчыня́ сце́нкі

**Wándverkleidung** *f* -, -en абшы́ўка [шалёўка] сцяны́

**Wándvertiefung** *f* -, -en ні́ша

**Wánge** *f* -, -n 1) шчака́; ***ein Kuss auf die ~***

пацалýнак у шчáкý; ***j-m die ~ stréicheln*** паглáдзіць каго́-н. па шчацэ́ 2) *тэх*. абóйма

**Wángenknochen** *m* -s, - скýла

**Wángenrot** *n* -(e)s румя́нец

**Wánkelmut** *m* -(e)s нерашýчасць

**wánkelmütig** *a* нерашýчы, які́ вагáецца

**wánken** *vi* (*h, s*) 1) хістáцца, калыхáцца; пахіснýцца, пакалыхнýцца; ***ihm wánkten die Knie*** у яго́ задрыжáлі калéні; ***er wánkte nach Háuse*** ён пайшóў хістáючыся дадóму 2) вагáцца, быць нерашýчым 3) не вы́трымаць (*націску*); ***nicht ~ und nicht wéichen**** цвёрда стая́ць, вы́трымаць

**Wánken**: ***nach lángem Schwánken und ~*** пасля́ дóўгіх хістáнняў [вагáнняў]; ***etw. ins ~ bríngen**** расхістáць, раскалыхáць што-н.

**wann** *adv* калí; ***seit ~*** з які́х часóў?; ***dann und ~*** чáсам, раз-пóраз

**Wánne** *f* -, -n 1) вáнна, купéль 2) вы́варка

**Wánnenbad** *n* -(e)s, -bäder 1) вáнна (*працэдура*) 2) вáнны пакóй 3) лáзні з вáннамі [купéлямі]

**Wanst** *m* -(e)s, -Wänste 1) пýза, трыбýх 2) таўстýн, пузáн; ***sich (D) den ~ vóllschlagen* [füllen]*** *груб*. набíць сабé пýза

**Wánze** *f* -, -n клоп; ***du, so éine ~!*** *разм., груб.* ах ты, паразíт!

**Wáppen** *n* -s, - герб; ***Kopf óder ~?*** арóл ці [абó] рэ́шка?; ***sein ~ beschmútzen*** заплямíць свой гóнар [сваё імя́]

**wáppnen 1.** *vt* узбрóйваць (*тс. перан.*) **2. ~, sich** узбрóйвацца (*тс. перан*); ***ich hábe mich dagégen (nicht) gewáppnet*** я да гэ́тага (не) падрыхтавáўся, я гэ́тага (не) чакáў; ***sich mit Gedúld ~*** запасці́ся цярплíвасцю; набрáцца цярпéння

**war** *impf ад* sein*

**Waräger** *pl гіст.* варáгі

**warb** *impf ад* wérben*

**ward** *уст. паэт. impf ад* wérden*

**wäre** *impf conj ад* sein*

**Wáre** *f* -, -n тавáр; вы́раб; ***éine hálbfertige ~*** паўфабрыкáт; ***éine zurückgesetzte ~*** брак; ***éine ~ führen*** трымáць які́-н. тавáр, гандлявáць [таргавáць] які́м-н. тавáрам; ***die ~ ist áusgegangen*** тавáр распрадáны [распрадáдзены; *разм.* кóнчыўся] ◊ ***wie die ~, so das Geld*** па цанé тавáр, які́ тавáр – такíя грóшы

**Wárenaustausch** *m* -(e)s тавараабмéн

**Wárenbegleitschein** *m* -(e)s, -e накладнáя

**Wárenbestand** *m* -(e)s, -stände наяўнасць тавáраў

**Wáreneingang** *m* -(e)s, -gänge паступлéнне тавáраў

**Wárenhaus** *n* -es, -häuser (універсáльны) магазíн, універмáг

**Wárenkunde** *f* - таваразнáўства

**Wárenlager** *n* -s, - (тавáрны) склад

**Wárenmangel** *m* -s недахóп [дэфіцы́т] тавáраў

**Wárenmuster** *n* -s, - узóр тавáраў

**Wárenprobe** *f* -, -n *зборн.* узóры тавáраў (*якія высылаюцца па пошце*)

**Wárenproduktion** *f* - тавáрная вытвóрчасць, вытвóрчасць тавáраў

**Wárenrechnung** *f* -, -en *камерц.* фактýра

**Wárensendung** *f* -, -en пáртыя тавáру

**Wárenumsatz** *m* -es тавараабарóт

**Wárenverzeichnis** *n* -ses, -se *камерц.* наменклатýра тавáраў

**Wárenwert** *m* -(e)s, -e вáртасць тавáру

**Wárenzeichen** *n* -s, - тавáрны знак, фабры́чнае кляймó, мáрка фíрмы

**Wárenzirkulation** *f* - *эк.* тавáрнае абарачэ́нне

**warf** *impf ад* wérfen*

**warm 1.** *a* цёплы (*тс. перан.*); ***~e Spéisen*** гарáчыя стрáвы; ***~e Ánteilnahme*** гарáчае спачувáнне; ***es ist ~*** цёпла; ***es wird ~*** станóвіцца цёпла, наступáе пацяплéнне; ***für etw. (A) ~ wérden*** зацікáвіцца чым-н.; ***noch nicht ríchtig ~ sein*** не зусíм асвóіцца (*з новай работай*); ***bei j-m ~ sein*** *разм.* карыстáцца сімпáтыяй [давéрам] у каго́-н.; ***etw. ~ stéllen*** пастáвіць што-н. у цёплае мéсца **2.** *adv* цёпла (*тс. перан.*); ***er wúrde mir ~ empfóhlen*** мне яго́ гóрача рэкамендавáлі; ***j-n ~ sétzen*** *іран.* пасадзіць каго́-н. у турмý; ***~ sítzen**** *разм.* дóбра

~ я застáўся ні з чым

**Wíscher** *m* -s, - 1) анýча 2) растушóўка 3) *аўта* шклоачышчáльнік 4) *разм.* наганя́й

**Wíschlappen** *m* -s, - анýча для выцірáння

**Wíschtuch** *n* -(e)s, -tücher 1) пасýдны ручнíк 2) *гл.* Wíschlappen

**Wísent** *m* -s, -e зубр

**Wísmut** *n* -s *хім.* вíсмут

**wíspeln**, **wíspern** *vi* 1) шаптáць, шаптáцца 2) шапяля́віць

**Wíss|begier, ~begierde** *f* - дапы́тлівасць

**wíssbegierig** *a* дапы́тлівы, прáгны да вéдаў

**wíssen*** *vt* 1) (*von D, um A*) знаць, вéдаць (*што-н., аб кім-н., аб чым-н.*); ~ ***Sie es gewíss?*** Вы ў гэ́тым упэ́ўнены?; ***sovíel ich weiß*** накóлькі мне вядóма; ***ich weiß ihn in Sícherheit*** я вéдаю, што ён у бяспéчнасці; ***ich weiß ihn glücklich*** я вéдаю, што ён шчаслíвы; ***Beschéid*** ~ вéдаць што-н., разбірáцца ў чым-н.; ***j-m Dank*** ~ быць удзя́чным камý-н.; ***er weiß kéinen Rat*** ён не вéдае, што ямý рабíць ◊ ***was ich nicht weiß, macht mich nicht heiß*** ≅ чагó я не вéдаю, аб тым не турбýюся 2) (*zu + inf*) умéць (*што-н. рабíць*); ***sich zu fássen*** ~ умéць валóдаць сабóй

**Wíssen** *n* -s, - вéды, вéданне; ***méines ~s*** (на)кóлькі я вéдаю; ~ ***ist Macht*** ≅ вучэ́нне – святлó, а невучэ́нне - цéмра; ***zu viel ~ macht Kópfschmerzen*** ≅ шмат бýдзеш вéдаць – галавá аблéзе

**wíssend** *a* дасвéдчаны

**Wíssenschaft** *f* -, -en навýка; ***die ángewandte*** ~ прыкладная навýка; ***sich auf die ~ légen*** аддáцца навýцы

**Wíssenschaftler** *m* -s, - навукóвец, навукóвы супрацóўнік, вучóны

**wíssenschaftlich** *a* навукóвы

**Wíssens|drang** *m* -(e)s, **~durst** *m* -(e)s ця́га [імкнéнне] да вéдаў

**Wíssensgebiet** *n* -(e)s, -e галінá вéдаў

**Wíssenslücke** *f* -, -n прабéл у вéдах

**Wíssensniveau** [-vo:] *n* -s, -s узрóвень вéдаў

**Wíssensvermittlung** *f* -, -en перадáча вéдаў

**wíssenswert** *a* вáрты вывучэ́ння, цікáвы

**wíssentlich** *a* свядóмы, наўмы́сны

**wíttern** *vt* чуць (*носам*); *перан.* прадчувáць

**Wítterung** *f* -, -en 1) надвóр'е, стан надвóр'я 2) нюх (*у жывёлін*); ~ ***für etw. (A) hában*** мець дóбрае чуццё [дóбры нюх] на што-н.

**wítterungsbedingt** *a* абумóўлены надвóр'ем

**Wítterungs|umschlag** *m* -(e)s, -schläge, **~wechsel** *m* -s, - змéна надвóр'я

**Wítwe** *f* -, -n удавá

**Wítwer** *m* -s, - удавéц

**Witz** *m* -es, -e 1) дóсціп, жарт, дасцíпнасць; ***lass déine ~e!*** кінь сваé жáрты; ***~e réißen* [lóslassen*, máchen]*** жартавáць 2) *без pl* дасцíпнасць; ***dazú reicht sein ~ nicht aus*** на гэ́та ў ягó не хóпіць рóзуму; ***séinen ~ betätigen [zéigen]*** пакáзваць свой дóсціп [жарт]

**Wítzblatt** *n* -(e)s, -blätter гумарысты́чны часóпіс

**Wítzbold** *m* -(e)s, -e дасціпнíк, жартаўнíк

**Witzeléi** *f* -, -en 1) (недарэ́чны) жáрцік 2) ця́га да дóсціпу

**wítzeln** *vi* рабíць няўдáлыя [тупы́я] жáрты

**wítzig** *a* дасцíпны, трáпны; смéшны

**wítzlos** *a* пазбáўлены дасцíпнасці, без пачуцця́ дóсціпу [гýмару]

**wo 1.** *adv* дзе; ***von*** ~ (aus) адкýль; ~ ***ist es?*** дзе гэ́та (знахóдзіцца)? **2.** *cj* 1) *разм.* калí; ***der Tag, ~ ich krank war*** дзень, калí я быў хвóры 2) катóры, той, дзе; ***das Haus, ~ ich wóhne*** дом, дзе я жывý **3.** *int разм.*: ***ach wo!, i wo!*** кудý там!, вось яшчэ́!

**woánders** *adv* дзе-нéбудзь яшчэ́, дзе-нéбудзь у íншым мéсцы

**wob** *impf ад* wében*

**wobéi** *a* прычы́м

**Wóche** *f* -, -n ты́дзень; ***in der*** ~ у будзённыя дні; ***in díeser*** ~ на гэ́тым ты́дні; ***vor zwei ~n*** два ты́дні тамý назáд 2) *pl мед.* (пасля)рóдавы перы́яд; ***sie kommt bald in die ~n*** янá хýтка нарóдзіць

**Wóchenbett** *n* -(e)s, -en *мед.* ро́ды, пасляро́давы перы́яд
**Wóchenblatt** *n* -(e)s, -blätter (што)тыднёвая газе́та, (што)тыднёвік
**Wóchenende** *n* -s 1) уік-энд; штотыднёвы адпачы́нак (*з другой паловы пятніцы да панядзелка*) 2) агля́д за ты́дзень (*у газеце*)
**Wóchenendhaus** *n* -es, -häuser аднадзённы [нядзе́льны] дом адпачы́нку; да́ча
**wóchenlang** *adv* па ты́днях, ты́днямі
**Wóchenlohn** *m* -(e)s, -löhne тыднёвая зарабо́тная пла́та
**Wóchenschau** *f* -, -en агля́д за ты́дзень (*у газеце, кіначасопісе*)
**Wóchenschrift** *f* -, -en (што)тыднёвы часо́піс, (што)тыднёвік
**Wóchentag** *m* -(e)s, -e будзённы дзень, рабо́чы [праца́ўны] дзень
**wóchentags** *adv* у рабо́чы дзень, у будзённыя дні, па бу́днях
**wöchentlich 1.** *a* штотыднёвы **2.** *adv* штоты́дзень, раз у ты́дзень
**wóchenweise** *adv* штотыднёва; ад ты́дня (*пра аплату*)
**Wöchnerin** *f* -, -nen парадзі́ха
**Wódka** *m* -s, -s гарэ́лка
**wodúrch** *pron, adv* з-за чаго́, чым, дзя́куючы чаму́, праз што
**woférn** *cj* пако́лькі, калі́ (то́лькі); **~ *er nicht kómmen* söllte…*** у тым вы́падку, калі́ б ён не прыйшо́ў…
**wofür** *pron, adv* 1) за што, заме́ст чаго́, для чаго́ 2) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова*: **~ *sorgt er?*** пра што ён турбу́ецца?
**wog** *impf ад* wägen* *і* wíegen*
**Wóge** *f* -, -n хва́ля, вал; зыб; ***brándende ~n*** бурлі́выя хва́лі
**wogégen** 1) *pron, adv* супро́ць чаго́ 2) *conj* у той час як; тады як
**wógen** *vi* хвалява́цца, клеката́ць, бушава́ць; ***der Kampf wógte hin und her*** бой ішо́ў з пераме́нным по́спехам; ***der Platz wogt von Ménschen*** на пло́шчы мо́ра людскі́х гало́ў
**wohér** *adv* 1) адку́ль; **~ *hast du das?*** адку́ль [дзе] ты гэ́та ўзя́ў?; **~ *des Wéges?*** адку́ль ідзе́ш [ідзеце́]? 2) ад чаго́, чаму́
**wohín** *adv* куды́
**wohináus: ~ *gehst du?*** куды ты выхо́дзіш?
**wohingégen** *cj* у той час як, між тым як
**wohínter** *adv* за чым, ззáду чаго́
**wohl 1.** *a* здаро́вы; ***er ist wíeder*** **~** ён вы́здаравеў; **~ *bekómm's!*** на здаро́ўе!; ***lében Sie ~!*** усяго́ до́брага!, быва́йце!; **~ *óder übel*** до́бра ці бла́га **2.** *adv* 1) до́бра 2) мо́жа, мажлі́ва, бада́й (што); ***er wird ~ kómmen**** ён, мо́жа [магчы́ма], прые́дзе [прыбу́дзе]
**Wohl** *n* -(e)s дабрабы́т, даста́так, дабро́; ***zum ~ !, (auf) dein ~!*** (за) тваё здаро́ўе!
**wohlán!** *int* ну!, до́бра!, зго́да!
**wóhlanständig** *a* прысто́йны, добрапрысто́йны
**wohláuf** *adv* у до́брым здаро́ўі
**wohll bedácht 1.** *a* (до́бра) абду́маны **2.** *adv* абду́мана
**Wóhlbefinden** *n* -s здаро́ўе
**Wóhlbehagen** *n* -s до́брае самаадчува́нне, до́бры настро́й
**wóhlbehalten** *a* непашко́джаны, цэ́лы
**wohl bekánnt** *a* до́бра вядо́мы
**wóhl beléibt** *a* по́ўны, ма́жны
**wóhlbeschaffen** *a* у до́брым ста́не, дабрая́касны
**wóhl durchdácht** *a* до́бра праду́маны
**wóhlerfahren** *a* шматво́пытны
**wohl ergéhen: *lass es dir ~!*** будзь здаро́вы!
**Wóhlergehen** *n* -s дабрабы́т, здаро́ўе
**wohl erwógen** *a* до́бра праду́маны
**wóhlerzogen** [wohl erzógen] *a* до́бра вы́хаваны
**Wóhlfahrt** *f* - 1) кары́сць, агу́льнае дабро́ 2) дабрачы́ннасць; ***in die ~ kómmen**** пакі́нуць; ***er bezíeht [erhält]*** **~** ён атры́млівае дапамо́гу ад дабрачы́ннай ка́сы
**Wóhlfahrtspflege** *f* - дабрачы́нная дапамо́га
**wóhlfeil** *a* агульнадасту́пны, та́нны ◊ ***~en Kaufs davónkommen**** лёгка вы́круціцца [адчапі́цца]
**wóhlgebaut** [wohl gebáut] *a* стро́йны, згра́бны

**wóhlgebildet** [wohl gebíldet] *a* адукава́ны, вы́хаваны
**Wóhlgeboren:** ***Éuer*** **~** Ва́ша све́тласць, яснавяльмо́жны па́не
**Wóhlgefallen** *n* -s 1) прые́мнасць, задавальне́нне 2) сімпа́тыя, спачува́нне; ***j-s ~ errégen*** вы́клікаць чыё-н. распалажэ́нне [сімпа́тыю]; ***sich in ~ áuflösen*** ско́нчыцца да ўсеагу́льнага задавальне́ння
**wóhlgefällig** *a* прые́мны, прыхі́льны
**wóhlgemeint** *a* добразычлі́вы, прыхі́льны, спрыя́льны
**wóhlgemerkt:** ***~!*** звярні́це ўва́гу!
**wóhlgemut** *a высок.* вясёлы
**wóhlgenährt** [wohl genährt] *a* уко́рмлены, сы́ты
**wóhlgeneigt** *a* прыхі́льны, добразычлі́вы
**wohl geórdnet** *a* до́бра ўладкава́ны
**wóhlgeraten** [wohl geráten] *a высок.* уда́лы, тра́пны (*выраз*)
**Wóhlgeruch** *m* -(e)s, -gerüche паху́часць, духмя́насць
**Wóhlgeschmack** *m* -(e)s прые́мны смак
**wóhlgesinnt** *a* прыхі́льны, добразычлі́вы
**wóhlgesittet** *a* до́бра вы́хаваны
**wóhlgestaltet** *a* ста́тны; самаві́ты, пава́жны, го́жы; прыго́жа зро́блены; ***~e Form*** прыго́жая фо́рма
**wóhlhabend** *a* замо́жны
**Wóhlhabenheit** *f* - замо́жнасць
**wóhlig 1.** *a* прые́мны **2.** *adv* прые́мна
**Wóhligkeit** *f* - прые́мнасць; уту́льнасць
**Wóhlklang** *m* -(e)s мілагу́чнасць
**wóhlklingend** *гл.* wóhllautend
**Wóhllaut** *m* -(e)s мілагу́чнасць
**wóhllautend** *a* мілагу́чны
**Wóhlleben** *n* -s замо́жнае жыццё
**wóhlmeinend** *a* добразычлі́вы
**wóhlriechend** [wohl ríechend] *a* духмя́ны
**wóhlschmeckend** [wohl schméckend] *a* сма́чны
**Wóhlsein** *n* -s дабрабы́т, здаро́ўе; ***auf dein ~!, zum ~!*** за тваё здаро́ўе!
**Wóhlstand** *m* -(e)s замо́жнае жыццё, дабрабы́т
**Wóhltat** *f* -, -en дабрадзе́йства
**Wóhltäter** *m* -s, - дабрадзе́й
**wóhltätig** *a* дабрадзе́йны, дабрачы́нны, кары́сны
**Wóhltätigkeit** *f* -, -en 1) дабрачы́ннасць 2) дабрадзе́йнасць, кары́сць
**wóhltuend** *a* дабратво́рны, прые́мны
**wohl tun*** *vi* 1) быць прые́мным, прыно́сіць кары́сць, рабі́ць до́брае ўздзе́янне; ***das hat mir wóhl getán*** гэ́та пайшло́ мне на кары́сць 2) рабі́ць дабро́
**wohl überlégt** *a* до́бра абду́маны
**wohl unterríchtet** *a* до́бра дасве́дчаны
**wohlverdíent** *a* заслу́жаны (*пра ўзнагароду і г.д.*)
**wohl versórgt** *a* ца́лкам забяспе́чаны, до́бра ўладкава́ны
**wóhlverstanden 1.** *a* слу́шна [пра́вільна] зразуме́ты **2.** *adv* зразуме́ла
**wóhlweislich** *a* разу́мны, му́дры, прадба́члівы
**wohl wóllen** *vi* (*D*) быць прыхі́льным, спрыя́ць (*каму-н.*)
**Wóhlwollen** *n* -s прыхі́льнасць, добразычлі́васць; ***j-m ~ entgégenbringen**** добразычлі́ва ста́віцца да каго́-н.
**wóhlwollend** *a* прыхі́льны, спрыя́льны
**Wóhnblock** *m* -s, -s гру́па буды́нкаў, кварта́л
**wóhnen** *vi* жыць, мець жытло́; ***bíllig ~*** мець та́нную кватэ́ру
**Wóhnfläche** *f* -, -n жыла́я пло́шча
**wóhnhaft** *a* які́ жыве́ [пражыва́е]; ***~ sein in…*** жыць, пражыва́ць па а́драсу…
**Wóhnhaus** *n* -es, -häuser жылы́ дом
**Wóhnheim** *n* -(e)s, -e інтэрна́т
**wóhnlich** *a* уту́льны (*пра жытло*)
**Wóhnort** *m* -(e)s, -e месцажыха́рства
**Wóhnraum** *m* -(e)s, -räume жыла́я пло́шча; жыло́е памяшка́нне
**Wóhnsitz** *m* -es, -e месцапражыва́нне; рэзідэ́нцыя; ***ich hábe méinen ~ nach N verlégt*** я пераехаў на пастая́ннае жыха́рства ў N; ***ich hábe méinen ~ in N*** я ўве́сь час жыву́ ў N
**Wóhnstätte** *f* -, -n *гл.* Wóhnsitz
**Wóhnstube** *f* -, -n *гл.* Wóhnzimmer
**Wóhnung** *f* -, -en кватэ́ра, жытло́; ***sich***

***nach éiner ~ úmsehen**** шукáць кватэ́ру

**Wóhnungsbau** *m* -(e)s жыллёвае будаўніцтва

**Wóhnungsfrage** *f* -, -n жыллёвае пытáнне

**Wóhnungsinhaber** *m* -s, - кватэранаймáльнік

**wóhnungslos** *a* які́ не мáе жыллёя [кватэ́ры]

**Wóhnungsmiete** *f* -, -n кватэ́рная плáта

**Wóhnungstausch** *m* -(e)s абмéн кватэ́р

**Wóhnungswechsel** *m* -s змéна кватэ́ры

**Wóhnungszuweisung** *f* -, -en óрдэр на кватэ́ру

**Wóhnverhältnisse** *pl* жыллёвыя ўмóвы

**Wóhnwagen** *m* -s, - жылы́ вагóн

**Wóhnzimmer** *n* -s, - (жылы́) пакóй

**wölben, sich** утварáць скляпéнне; выгінáцца; акругля́цца

**Wölbung** *f* -, -en 1) крывізнá; хвáлістасць 2) скляпéнне

**Wolf** *m* -(e)s, Wölfe 1) *заал.* воўк 2) мясарýбка ◊ ***ein ~ im Scháfspelz*** воўк у авéчай шкýры; ***der ~ ändert sein Haar, áber nicht séine Art*** ≅ вóўка ў плуг, а ён – у луг; ***wie der ~ in der Fábel*** пра вóўка памóўка, а ён на парóг; ***mit den Wölfen muss man héulen*** ≅ як улéз у варóны, то і кáркай, як яны́; ***der ~ stirbt in séiner Haut*** ≅ з дугí аглóблі не зрóбіш; гарбáтага магíла вы́правіць

**wölfisch** *a* 1) вóўчы 2) ненажэ́рны

**Wólfseisen** *n* -s, - капкáн

**Wólfshund** *m* -(e)s, -e ваўкарэ́з (*парода сабак*)

**Wólfshunger** *m* -s *разм.* вóўчы апеты́т

**Wólfsmilch** *f* - *бат.* малачáй

**Wólfsrachen** *m* -s, - *мед.* вóўчая пáшча

**Wólke** *f* -, -n вóблака, хмáра; ***die ~ zieht sich zusámmen*** хмáра згушчáецца; ***der Hímmel ist ganz mit ~n bedéckt*** нéба заця́гнута хмáрамі; ***j-n in die ~n erhében**** *перан.* вéльмі [залíшне] расхвáльваць кагó-н.; ***in den ~n schwében*** лунáць у аблóках

**wölken, sich** зацягвацца [абкладáцца] хмáрамі

**Wólkenbruch** *m* -(e)s, -brüche лíвень, зáлева

**wólkenfrei** *a* бязвóблачны, бясхмáрны

**Wólkenkratzer** *m* -s, - небаскрóб

**wólkenlos** *a гл.* wólkenfrei

**wólkig** *a* 1) вóблачны 2) мýтны (*пра асадак*)

**Wólldecke** *f* -, -n шарсцянáя кóўдра

**Wólle** *f* -, -n вóўна, поўсць, шэрсць ◊ ***~ lássen*** *разм.* пацярпéць стрáту; ***in der ~ sítzen**** *уст.* мець цёплае мéсцейка; жыць з камфóртам; ***j-n (kräftig) in die ~ bríngen**** *разм.* вы́весці кагó-н. з сябé, раззлавáць кагó-н.; ***j-m in die ~ gréifen**** дасадзíць камý-н.; застáвіць раскашэ́ліцца кагó-н.; ***viel Geschréi und wénig ~*** мнóга шýму, а тóлку мáла

**wóllen I** *a* ваўня́ны, шарсцяны́

**wóllen II** *mod* 1) хацéць, жадáць, збірáцца; ***er will*** ён хóча, ён збірáецца; ***ich hábe es tun ~*** я хацéў гэ́та зрабíць; ***ob man will óder nicht*** вóляй-нявóляй; ***hier ist nichts zu ~*** тут нíчóга не даб’éшся; ***er wólle sofórt zu mir kómmen!*** няхáй ён зáраз жа пры́йдзе да мянé! 2): ***es will régnen*** збірáецца (на) дождж; ***méine Béine ~ nicht mehr*** маé нóгі адкáзваюцца служы́ць; ***das will überlégt sein*** аб гэ́тым трэ́ба падýмаць; ***es will mir nicht éinleuchten*** я не магý зразумéць; ***dem sei, wie ihm wólle*** няхáй бýдзе, як бýдзе 3) (*у знач. будучага часу*): ***wir ~ séhen*** паглядзíм 4) (*выражае запрашэнне, мяккі загад*): ***~ wir géhen!*** давáй(це) пóйдзем!, хадзéм!; ***~ Sie mir bítte hélfen*!*** дапамажы́це мне, калí лáска! 5) (*выражае катэгарычны загад*): ***willst du ántworten!*** зáраз жа адкáзвай! 6) (*выражае катэгарычнае сцвярджэнне*): ***er will es nicht getán háben*** ён кáжа [сцвярджáе], што ён гэ́тага не рабíў

**Wóllfaden** *m* -s, -fäden шарсцянáя нíтка

**Wóllgarn** *n* -(e)s, -e шарсцянáя прáжа (*ніткі*)

**wóllig** *a* пушы́сты, пýхкі

**Wólljacke** *f* -, -n шарсцянáя кóфтачка, кóфтачка з вóўны

**Wóllknäuel** *n, m* -s жмут вóўны; ву-

зе́льчык во́ўны

**Wóllust** *f* -, -llüste юрлі́васць

**wóllüstig** *a* юрлі́вы, пажа́длівы

**Wóllstoff** *m* -(e)s, -e во́ўна, шарсцяна́я матэ́рыя

**wóllte** *impf ад* wóllen*

**womít** *pron adv* 1) чым; з чым 2) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова:* ~ begínnen* wir? з чаго́ мы пачнём?

**womöglich** *adv* магчы́ма; чаго́ до́брага

**wonách** *pron adv* 1) адпаве́дна (*чаму*); зго́дна (*з чым*) 2) пасля́ чаго́ 3) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова:* ~ fragt er? аб чым ён пыта́е?

**Wónne** *f* -, -n асало́да, уце́ха; ***in (éitel) ~ schwímmen**** быць на вышыні́ шча́сця

**Wónnetaumel** *m* -s захапле́нне, зачарава́нне

**wónnetrunken** *a* зачарава́ны, у захапле́нні

**wónnig** *a* цудо́ўны, чаро́ўны

**worán** *pron adv* 1) на чым; на што; да чаго́; ***~ liegt es?*** у чым прабле́ма?; ***~ denkst du?*** пра што ты (то́лькі) ду́маеш? 2) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова*: ~ denkst du? аб чым ты ду́маеш; ich weiß nicht, ~ ich bin я не ве́даю, як мне быць

**woráuf** *pron adv* 1) на што, на чым 2) пасля́ чаго́ 3) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова:* ~ bestéht er? на чым ён насто́йвае?

**woráus** *pron adv* 1) з чаго́, адку́ль 2) пасля́ чаго́ 3) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова:* ***~ gehst du aus?*** з чаго́ ты выхо́дзіш?

**wórden** *part II ад* wérden*

**woréin** *pron adv* куды́, ува́ што

**wórfeln** *vt с.-г.* ве́яць

**worín** *pron adv* у чым, дзе

**Wort I** *n* -(e)s, Wörter (асо́бнае) сло́ва; ***~ für ~*** сло́ва за сло́ва, дасло́ўна; ***im wáhrsten Sínne des ~es*** у сапра́ўдным сэ́нсе сло́ва; ***das ~ liegt mir auf der Zúnge*** сло́ва кру́ціцца ў мяне́ на языку́

**Wort II** *n* -(e)s, -e 1) сло́ва (*мова*); ***j-m gúte ~e gében**** угаво́рваць [супако́йваць] каго́-н.; ***die ~e káuen*** мя́мліць; ***etw. in ~e kléiden*** вы́казаць што-н. сло́вамі; ***er braucht nicht lánge nach ~en zu súchen*** ≅ ён за сло́вам у кішэ́нь не палéзе; ***díeses ~ ist mir entschlüpft*** гэ́тае сло́ва сарва́лася ў мяне́ з языка́; ***kéines ~es mächtig sein*** стра́ціць мо́ву (*ад страху*); ***ein ~ fállen lássen**** прамо́віць сло́ва; ***j-n (nicht) zu ~e kómmen lássen**** (не) даць каму́-н. гавары́ць [сло́ва сказа́ць]; ***ein (gútes) ~ für j-n, für etw. (A) éinlegen*** замо́віць за каго́-н., за што-н. сло́ўца; вы́ступіць у падтры́мку каго́-н., чаго́-н.; ***j-m, éiner Sáche (D) das ~ réden*** стая́ць за каго́-н., за што-н.; падтры́млівaць каго́-н., што-н.; ***j-m ins ~ fállen**** перарыва́ць [перапыня́ць] каго́-н. 2) сло́ва (*выступленне*); ***ums ~ bítten*, sich zum ~ mélden*** прасі́ць сло́ва; ***das ~ ergréifen* [néhmen*]*** узя́ць сло́ва; ***das gróße ~ führen*** ігра́ць вяду́чую ро́лю 3) (чэ́снае) сло́ва (*абяцанне*); ***das ~ hálten**** (с)трыма́ць сло́ва; ***das ~ bréchen**** пару́шыць сло́ва; ***ein Mann von ~*** чалаве́к сло́ва; ***ein Mann, ein ~!*** сумле́нны чалаве́к сло́ва трыма́е! ◊ ***j-m das ~ aus dem Múnde néhmen**** прадугада́ць чые́-н. сло́вы

**Wórtableitung** *f* -, -en *лінгв.* вытво́рнае сло́ва

**wórtarm** *a* бе́дны на сло́вы

**Wórtart** *f* -, -en *лінгв.* часці́на мо́вы

**Wórtbau** *m* -(e)s структу́ра сло́ва

**Wórtbildung** *f* -, -en *лінгв.* словаўтварэ́нне

**Wórtbruch** *m* -(e)s, -brüche парушэ́нне (да́дзенага) сло́ва

**wórtbrüchig** *a* верало́мны, падсту́пны

**Wörterbuch** *n* -(e)s, -bücher сло́ўнік; ***erklärendes ~*** тлумача́льны сло́ўнік

**Wörterverzeichnis** *n* -ses, -se паказа́льнік, і́ндэкс 2) спіс слоў, сло́ўнік

**Wórtfamili¦e** *f* -, -n *лінгв.* гняздо́ слоў

**Wórtfassung** *f* -, -en рэда́кцыя, фо́рма вы́кладу

**Wórtfetzen** *pl* абры́ўкі слоў; ~ ***erláuschen*** улаві́ць уры́ўкі размо́вы
**Wórtfolge** *f* -, -n пара́дак слоў
**Wórtfügung** *f* -, -en спалучэ́нне слоў (*у сказе*), пабудо́ва мо́вы
**Wórtführer** *m* -s, - 1) ара́тар, прамо́ўца 2) прадстаўні́к, вы́разнік
**Wórtgebrauch** *m* -(e)s, -bräuche словаўжыва́нне
**Wórtgeklingel** *m* -s балбатня́, пустазво́нства
**wórtgetreu** *a* дасло́ўны
**wórtgewandt** *a* красамо́ўны
**Wórtgruppe** *f* -, -n *грам.* гру́па слоў
**Wórtgut** *n* -(e)s сло́ўнікавы склад (*мовы*)
**wórtkarg** *a* 1) негаваркі́ 2) лакані́чны
**Wórtklauberéi** *f* -, -en буквае́дства
**Wórtlaut** *m* -(e)s (дасло́ўны) тэкст
**wörtlich 1.** *a* дасло́ўны, літара́льны **2.** *adv* 1) дасло́ўна, літара́льна 2) на сло́вах, ву́сна
**wórtlos 1.** *a* маўклі́вы **2.** *adv* мо́ўчкі
**Wórträtsel** *n* -s, - шара́да
**wórtreich** *a* шматсло́ўны, мнагасло́ўны
**Wórtschatz** *m* -es запа́с слоў
**Wórtschöpfung** *f* - словатво́рчасць
**Wórtschwall** *m* -s фанта́н слоў
**Wórtspiel** *n* -(e)s, -e гульня́ слоў, каламбу́р; ***~e máchen*** каламбу́рыць
**Wórtstamm** *m* -(e)s, -stämme *грам.* асно́ва сло́ва
**Wórtstellung** *f* -, -en *грам.* пара́дак [расстано́ўка] слоў
**Wórtstreit** *m* -(e)s, -e спрэ́чка, пярэ́чанне
**Wórtverbindung** *f* -, -en словазлучэ́нне; ***erstárrte*** ~ усто́йлівае словазлучэ́нне
**Wórtwechsel** *m* -s, - спрэ́чка, сва́рка
**wórtwörtlich** *a* сло́ва ў сло́ва, дасло́ўна
**worüber** *pron adv* 1) над чым; зве́рху чаго́ 2) пра што 3) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова:* ~ freut er sich? з чаго́ ён це́шыцца?, чаму́ ён ра́ды?
**worúm** *pron adv* 1) пра што; вако́л чаго́ 2) за што, для [дзе́ля] чаго́ 3) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова:* ~ hándelt es sich? пра што (ідзе́) гаво́рка?, у чым праблема [спра́ва]?
**worúnter** *pron adv* 1) над чым 2) памі́ж чым, сяро́д які́х, сяро́д чаго́ 3) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова*: ***méine Fréunde, ~ ich dich zähle*** мае́ сябры́, да які́х я адно́шу таксама і цябе́
**wosélbst** *pron adv уст.* (менаві́та) дзе
**wovón** *pron adv* 1) ад чаго́ 2) з чаго́ 3) пра што
**wovór** *pron adv* 1) пера́д чым 2) ад чаго́ 3) *пераклад залежыць ад кіравання беларускага дзеяслова*: ~ ***fürchtest du dich?*** чаго́ ты баі́шся?
**wozú** *pron adv* да чаго́, для чаго́
**Wrack** *n* -s, -e *i* -s абло́мкі (*карабля, самалёта*)
**wráng** *impf ад* wríngen*
**wríngen*** *vt* выкру́чваць (*бялізну*)
**Wúcher** *m* -s ліхвя́рства; нажы́ва
**Wúcherer** *m* -s, - ліхвя́р
**wúchern** *vi* 1) ху́тка расці́, разраста́цца, ху́тка размнажа́цца 2) (*mit D*) дава́ць гро́шы пад працэ́нты
**Wúcherpreis** *m* -es, -e празме́рная цана́
**Wúcherung** *f* -, -en пы́шны рост, ху́ткае размнажэ́нне
**Wúcherzinsen** *pl* ліхвя́рскія працэ́нты
**wuchs** *impf ад* wáchsen*
**Wuchs** *m* -es, Wüchse 1) рост 2) павелічэ́нне; ***von hóhem*** ~ высо́кага ро́сту
**Wucht** *f* -, -en 1) ця́жар 2) сі́ла, магу́тнасць (*удару і г.д.; тс. перан. – доказаў*) ***mit vóller*** ~ з усёй сі́лы [сі́лай] 3) *фіз.* кінеты́чная эне́ргія, жыва́я сі́ла
**Wúchtbaum** *m* -(e)s, -bäume рыча́г
**wúchten 1.** *vt* ру́хаць, падыма́ць, грузі́ць (*вагаром, рычагом*) **2.** *vi* працава́ць [рабі́ць што-н.] з напру́жаннем усі́х сіл
**wúchtig** *a* 1) ця́жкі; цяжкава́гавы, ва́жкі 2) груваздкі, вялі́кі 3) ду́жы, во́латаўскі, атлеты́чны 4) уплыво́вы
**Wühlarbeit** *f* -, -en падрыўна́я дзе́йнасць
**wühlen 1.** *vi* 1) капа́ць, капа́цца; ***nach Schätzen*** ~ шука́ць ска́рбаў; ***in éiner Wúnde*** ~ верадзі́ць ра́ну 2) (*gegen A*)

падбухто́рваць (*супроць каго-н.*) **2.** *vt* рыць; ***der Fluss wühlte sich ein néues Bett*** рака́ пралажы́ла сабе́ но́вае рэ́чышча ◊ ***im Geld(e) ~*** ≅ купа́цца ў граша́х

**Wühler** *m* -s, - падбухто́ршчык

**Wühleréi** *f* -, -en 1) капа́нне, рыццё 2) падбухто́рванне

**wühlerisch** *a* падбухто́ршчыцкі

**Wühlmaus** *f* -, -mäuse *заал.* палёўка; палёўка шэ́рая

**Wúhne** *f* -, -n пало́нка

**Wulst** *m* -(e)s, Wülste; *f* -, Wülste 1) пухлі́на, патаўшчэ́нне, жаўла́к 2) паду́шка, ва́лік

**wúlstig** *a* пу́хлы, то́ўсты

**wund** *a* пара́нены, сцёрты да крыві́; ***éine ~e Stélle*** балю́чае ме́сца; ***sich (D) die Füße ~ láufen**** наце́рці сабе́ но́гі да крыві́

**Wúndarzt** *m* -es, -ärzte *уст.* хіру́рг

**Wúnde** *f* -, -n ра́на, пашко́джанне; ***an séinen ~n stérben**** паме́рці ад ра́наў; ***in der ~ herúmbohren [herúmwühlen]*** верадзі́ць ра́ну (*тс. перан.*)

**wúnder** *adv* немаве́дама; ***er glaubt ~ was getán zu háben*** яму́ здае́цца, бы́ццам ён немаве́дама што зрабі́ў

**Wúnder** *n* -s, - цуд, дзі́ва; ***~ tun* [wírken, verríchten]*** рабі́ць [здзяйсня́ць] цуд; ***~ der [an, von] Tápferkeit verríchten*** здзяйсня́ць цу́ды хра́брасці; ***kein ~, dass…*** нядзі́ўна, што… ◊ ***sein (bláues) ~ erlében [séhen*, hören]*** убачыць дзіва дзі́ўнае, наглядзе́цца ўсяля́кіх цу́даў, наслу́хацца небылі́цаў

**wúnder|bar, ~hübsch** *a* надзвы́чай прыго́жы, чаро́ўны

**Wúnderding** *n* -(e)s, -e дзі́ва, цуд; ***~ tréiben**** рабі́ць цуд

**Wúnderglaube** *m* -ns ве́ра ў цуд

**Wúnderkind** *n* -(e)s, -er вундэркі́нд, фенамена́льнае дзіця́

**Wúnderland** *n* -(e)s, -länder краі́на цу́даў

**wúnderlich** *a* дзі́ўны, дзіво́сны; ***ein ~er Kauz*** дзіва́к

**Wúnderlichkeit** *f* -, -en дзіва́цтва; вы́чварнасць

**wúndern 1.** *vt* здзіўля́ць; ***es wúndert mich, mich wúndert*** мяне́ здзіўля́е… **2. ~, sich** (*über A*) здзіўля́цца, дзіві́цца (*чаму-н.*)

**wúndernehmen*** *аддз. vimp*: ***es nimmt mich wúnder*** мяне́ здзіўля́е

**wúndersam** *гл.* wúnderbar

**wúnderschön** *a* цудо́ўны, надзвы́чай прыго́жы

**Wúndertat** *f* -, -en цуд, вялі́кае здзяйсне́нне

**Wúndertäter** *m* -s, - цудатво́рац, чарадзе́й, чараўні́к

**wúndertätig** *a* цудатво́рны

**Wúndertüte**: ***das war ein Griff in die ~*** *разм.* гэ́та быў про́мах, гэ́та была́ няўда́ча

**wúndervoll** *a* цудо́ўны

**Wúnderwerk** *n* -(e)s, -e цуд (*мастацтва, тэхнікі*)

**Wúndfieber** *n* -s *мед.* (траўматы́чная) ліхама́нка

**Wúndheit** *f* - траўматы́чнае пашко́джанне

**Wúndliegen** *n* -s про́лежань

**Wúndmal** *n* -(e)s, -e рубе́ц, след ад ра́ны

**Wúndstarrkrampf** *m* -(e)s *мед.* ра́навы слупня́к

**Wunsch** *m* -es, Wünsche жада́нне, пажада́нне; *pl* пажада́нні; ***mein séhnlichster ~*** маё са́мае мо́цнае жада́нне; ***auf séinen ~*** зго́дна з вы́казаным ім пажа́даннем; ***éinen ~ hégen*** мець жада́нне; ***j-s ~ státtgeben**** задаво́ліць чыё-н. (па)жада́нне; ***vom ~(e) geléitet*** кіру́ючыся жада́ннем

**Wünschelrute** *f* -, -n чарадзе́йная па́лачка (*у казках*)

**wünschen** *vt* жада́ць, зы́чыць; ***Sie ~?*** што Вы жада́еце?; ***das lässt viel zu ~ übrig*** гэ́та пакіда́е жада́ць (нашма́т) ле́пшага

**wünschenswert** *a* пажада́ны

**wúnschgemäß** *adv* у адпаве́днасці з жада́ннем

**Wúnschkonzert** *n* -s, -e канцэ́рт па зая́ўках (радыёслухачо́ў)

**Wúnschkost** *f* - спецыя́льны стол, меню́

па вы́бару (*напр., у санаторыі*)

**wúnschlos** *a* без вялікіх жада́нняў, ціхамі́рны

**Wúnschtraum** *m* -(e)s, -träume (запаве́тная) ма́ра

**Wúnschzettel** *m* -s, - спіс падару́нкаў (*якія хочуць мець дзеці перад Калядамі*)

**Wúppdich:** ***mit éinem ~*** адны́м скачко́м; за адзі́н прыём

**wúrde** *impf ад* wérden*

**Würde** *f* -, -n 1) го́днасць; ***er hielt es für únter séiner ~*** ён лічы́ў гэ́та ніжэ́й сваёй го́днасці 2) зва́нне, сан; ***mit éiner ~ bekléiden*** прысво́іць яко́е-н. зва́нне; ***ein Mann in Amt und ~n, ein Mann in [von] Rang und ~n*** чалаве́к з грунто́ўным [трыва́лым] стано́вішчам ◊ ***~ bringt Bürde*** ≅ стано́вішча абавя́звае

**würdelos** *a* зневажа́льны, які́ не ма́е го́днасці

**Würdenträger** *m* -s, - сано́ўнік

**würdevoll** *a* по́ўны го́днасці, ва́жны

**würdig 1.** *a* го́дны, пава́жны, ва́рты (*чаго-н.*), шано́ўны **2.** *adv* го́дна, з го́днасцю

**=würdig** *паўсуф. прыметнікаў, у сваім значэнні суадносны з адпаведным прыметнікам у прэдыкатыўным ужыванні:* frágewürdig спрэ́чны, няпэ́ўны

**würdigen** *vt* 1) (*G*) удасто́йваць (*каго-н. чым-н.*) 2) цані́ць, ацэ́ньваць (*каго-н., што-н.*); аддава́ць нале́жнае (*каму-н., чаму-н.*) 3) адзнача́ць (*поспехі; знамянальныя дні*)

**Würdigung** *f* -, -en 1) прызна́нне (*заслуг*); ***in ~ éiner Sáche (G)*** адзнача́ючы, улі́чваючы (*што-н.*); ***bei áller ~ séiner Verdíenste…*** пры ўсёй пава́зе да яго́ заслу́г… 2) ацэ́нка (*абставін, акалічнасцей*); ***nach éiner ~ der Erfólge*** адзна́чыўшы по́спехі…; *гл.* würdigen

**Wurf** *m* -(e)s, Würfe 1) кідо́к 2) кіда́нне; ***der ~ ist getán*** жэ́рабя кі́нута; ***álles auf éinen ~ sétzen*** усё паста́віць на ка́рту 3) прыпло́д, ко́дла ◊ ***j-m in den ~ kómmen**** папа́сціся каму́-н. якра́з дарэ́чы

**Wúrfbahn** *f* -, -en траекто́рыя

**Würfel** *m* -s, - 1) ку́бік 2) косць для гульні́ 3) *матэм.* куб ◊ ***die ~ sind gefállen*** жэ́рабя кі́нута

**Würfelbecher** *m* -s, - шкля́нка для касцэ́й (*у гульні*)

**Würfelform** *f* -, -en кубі́чная фо́рма

**würf(e)lig** *a* 1) кубі́чны; шасцігра́нны 2) клятча́ты, у ша́шачку (*пра малюнак тканіны*)

**würfeln** *vi* гуля́ць у ко́сці

**Würfelspiel** *n* -(e)s, -e гульня́ ў ко́сці

**Würfelzucker** *m* -s пі́лены [кускавы́] цу́кар

**Wúrfgeschoss** *n* -es, -e *вайск.* кіда́льны снара́д

**Wúrfgranate** *f* -, -n мі́на (*мінамёта*)

**Wúrfkreis** *m* -es, -e *спарт.* круг для кіда́ння

**Wúrfscheibe** *f* -, -n дыск (*для кідання*)

**Wúrfweite** *f* -, -n да́льнасць кіда́ння [кідка́]; *вайск.* дальнабо́йнасць

**würgen 1.** *vt* ці́снуць, душы́ць **2.** *vi* (па)даві́цца

**Würgengel** *m* -s, - *бібл.* анёл сме́рці

**Würger I** *m* -s, - *заал.* сараку́ш

**Würger II** *m* -s, - *паэт.* смерць (*казачны вобраз*)

**würgerisch** *a* згу́бны, смертано́сны

**Wurm** *m* -(e)s, Würmer чарвя́к, гліст ◊ ***der hat éinen ~ im Kopf*** у яго́ бзік у галаве́; ***j-m Würmer aus der Náse zíehen**** выпы́тваць та́йну ў каго́-н.; ≅ выцяга́ць абцуга́мі з каго́-н. яко́е-н. прызна́нне

**wúrmartig** *a* чэрвепадо́бны

**wúrmen** *vimp*: ***es wurmt mich*** 1) мне (ве́льмі) пры́кра 2) гэ́та не дае́ мне спако́ю

**wúrmig** *a* 1) чарві́вы 2) пану́ры, хму́рны, пахму́рны

**Wúrmmittel** *n* -s, - глістаго́нны сро́дак

**Wúrmstich** *m* -(e)s, -e чарвято́чына

**wúrmstichig** *a* сто́чаны чарвяка́мі

**Wurst** *f* -, Würste каўбаса́, кілбаса́; *pl* каўба́сы, кілба́сы; ***mit ~ belégtes Brot*** бутэрбро́д з каўбасо́й ◊ ***~ wíder ~*** як ты мне, так я табе́; ≅ што ві́нен, ад-

да́ць паві́нен; ***mir ist álles ~!*** *разм.* мне ўсё адно́; ***es geht um die ~!*** *разм.* наступі́ў рашу́чы мо́мант, ≅ або́ пан, або́ прапа́ў!; ***den Schínken nach der ~ wérfen**** *разм.* ≅ рызыкава́ць мно́гім дзе́ля мало́га; ***er will ímmer éine besóndere ~ gebráten háben*** ён прэтэнду́е на асаблі́вую ўва́гу да сябе́

**Würstchen** *n* -s, - сасі́ска

**Wúrstel** *m* -s, - жартаўні́к

**wúrsteln** *vi* працава́ць [рабі́ць] абы́ з рук

**wúrsten** *vi* выра́бля́ць каўба́сы

**wúrstig** *a* абыя́кавы

**Wúrstigkeit** *f* - *разм.* абыя́кавасць

**Wúrstwaren** *pl* каўба́сныя [кілба́сныя] вы́рабы

**Wúrstzipfel** *m* -s, - ко́нчык каўбасы́ [кілбасы́]

**Würze** *f* -, -n (во́страя) прыпра́ва ◊ ***in der Kürze liegt die ~*** сказа́ў, як звяза́ў

**Wúrzel** *f* -, -n 1) ко́рань; ***~ schlágen**** пуска́ць карэ́нні [карані́]; ***~ fássen*** укарані́цца, прыві́цца; ***ein Übel an der ~ fássen [pácken]*** вы́караніць зло ◊ ***éiner Sáche (D) an die ~n géhen**** глядзе́ць у ко́рань, шука́ць сапра́ўдную прычы́ну (*чаго-н.*) 2) *матэм.* ко́рань; ***die ~ aus éiner Zahl ziehen**** здабы́ць ко́рань з лі́ку

**Wúrzelexponent** *m* -en, -en *матэм.* пака́зчык ко́раня

**Wúrzelfrucht** *f* -, -früchte карняпло́д

**wúrzelig** *a* з вялі́кай ко́лькасцю каранёў

**wúrzellos** *a* 1) без ко́раня, які́ не мае́ ко́раня 2) *перан.* чужы́, пазба́ўлены асно́вы

**wúrzeln** *vi* 1) пуска́ць карэ́нне, укараня́цца 2) (*in D*) *перан.* караню́цца (*у чым-н.*); ***wir háben féste gewúrzelt*** *разм.* мы папрацава́лі як ма́е быць

**Wúrzelsilbe** *f* -, -n *лінгв.* карэ́нны склад

**Wúrzelstock** *m* -(e)s, -stöcke карнявíшча

**Wúrzelwerk** *m* -(e)s, -e карані́, карэ́нне

**Wúrzelzahl** *f* -, -en *матэм.* карэ́нны лік

**Wúrzelzeichen** *n* -s, - *матэм.* знак ко́раня; ***das ~ entférnen*** выво́дзіць з-пад ко́раня

**Wúrzelziehen** *n* -s *матэм.* здабыва́нне ко́раня

**würzen** *vt* прыпраўля́ць (*mit D – чым-н.*)

**würzig** *a* во́стры, рэ́зкі (*пра прыправу*)

**wusch** *impf ад* wáschen*

**Wúschelhaar** *n* -(e)s, -e кучара́вые валасы́ 2) растрапа́ныя валасы́

**Wúschelkopf** *m* -(e)s, -köpfe 1) кучара́вая гала́ва 2) раскудла́чаная галава́

**wússte** *impf ад* wíssen*

**wüst** *a* 1) пустэ́льны, бязлю́дны 2) *разм.* шалапу́тны, распу́сны 3) *разм.* зблы́таны, бязла́дны, хааты́чны

**Wust** *m* -(e)s 1) вэ́рхал, беспара́дак, 2) сме́цце, бруд

**Wüste** *f* -, -n пусты́ня, пустэ́льня

**wüsten** **1.** *vt* спусташа́ць (*краіну*) **2.** *vi* (*mit D*) *разм.* растра́чваць, мата́ць (*што-н.*); ***mit séiner Gesúndheit ~*** руйнава́ць сваё здаро́ўе

**Wüstenéi** *f* -, -en 1) пустэ́льня 2) беспара́дак, каварда́к

**Wüstling** *m* -s, -e распу́снік, п'я́ніца

**Wut** *f* - лю́тасць, раз'ю́шанасць; ***mich páckte die ~*** мяне́ ўзяла́ злосць; ***in ~ geráten**** раз'ю́шыцца; ***~ auf j-n háben*** мець зло́бу на каго́-н.; ***séine ~ an j-m áuslassen**** спагна́ць сваю́ злосць на кім-н.; ***sich in ~ réden*** разгарачы́цца, раз'ю́шыцца, раз'ярэ́цца (*у час палемікі*)

**Wút|anfall** *m* -(e)s, -fälle, **~ausbruch** *m* -(e)s, -brüche прыпа́дак шале́нства

**wüten** *vi* лютава́ць, бушава́ць

**wütend** *a* 1) лю́ты, раз'ю́шаны 2) па́лкі, заўзя́ты

**wútentbrannt** *a* раз'ю́шаны

**Wüterich** *m* -(e)s, -e вы́людак, тыра́н, кат, звер

**Wútgeheul** *n* -(e)s крык [рык] лю́тасці [раз'ю́шанасці]

**wútschäumend** *a* раз'ю́шаны

**wútschnaubend** *a* лю́ты, раз'ю́шаны

# X

**X, x** [iks] *n -, - матэм.* невядо́мая велічыня́, ікс ◊ ***j-m ein X für ein U vórmachen*** дуры́ць [гру́ба ашу́кваць] каго́-н.
**x-Áchse** *f* -, -n *матэм.* вось абсцы́с
**Xanthíppe** [ksa-] *f* -, -n *разм.* сварлі́вая жанчы́на, ве́дзьма
**X-Béine** *pl* крыввы́я но́гі
**x-belíebig** *a* любы́, ко́жны
**xenophíl** [kse-] *a* які́ любі́ць [які́ прыхі́льны да] іншазе́мцаў [замéжнікаў]
**xenophób** [kse-] *a*варо́жы [непрыя́зны] да іншазе́мцаў [заме́жнікаў]
**Xereswein** [ˈçe:-] *m* -(e)s, -e хе́рас *(віно)*
**Xerographíe** [Xerografíe] [kse-] *f* - í¦en *палігр.* ксерагра́фія
**Xerokopíe** [kse-] *f* -, -í¦en ксерако́пія
**x-fach, x-mal** *a* невядо́ма ко́лькі разо́ў, шматразо́ва, неаднаразо́ва
**X-Stráhlen** *pl* рэнтге́навыя про́мні
**Xylophón** [Xylofón] [ksy-] *n* -s, -e ксілафо́н
**Xyloplástik** [ksy-] *f* -, -en драўля́ная скульпту́ра

# Y

**y** [ˈypsilɔn] *n* -, - *матэм.* друга́я невядо́мая велічыня́, і́грык
**y-Áchse** *f* -, -n *матэм.* вось ардына́т
**Yacht** *f* -, -en *гл.* Jacht
**Yak** *m* -s, -s *заал.* як
**Yankee** [ˈjɛ:ŋki: *і* ˈjɛŋki] *m* -s, -s *пагардл.* я́нкі, амерыка́нец
**Yard** [ja:rd] *n* -s, - *і з ліч.* - ярд (*мера даўжыні*)
**Yóga** *m, n* -(s) *гл.* Jóga
**Yperít** [ipe-] *n* -s іпры́т, гарчы́чны газ
**Yperítnachweis** [ipe-] *m* -es, -e вызнача́нне [выяўле́нне] прысу́тнасці іпры́ту
**Ỳpsilon** *n* -s, -s іпсіло́н, і́грэк (*літара*)

# Z

**zach** *a дыял.* запалóханы, нерашýчы
**Zack**: ***auf ~ sein*** *разм.* быць напагатóве [пільным, насцярóжаным]
**Zácke** *f* -, - 1) зубéц, зазýбрына 2) зачэ́пка 3) *жарт.* нос
**zácken 1.** *vt* выразáць [рабíць] зубцы́ (*на чым-н.*) **2. ~, sich** утварáць зубцы́
**Záckenangriff** *m* -(e)s, -e *вайск.* атáка «клінáмі»
**Záckenrad** *n* -(e)s, -räder зубчáтае кóла
**záckig** *a* 1) зубчáсты 2) *перан.* малайцавáты, бадзёры; ***~e Musík*** бадзёрая [бравýрная] мýзыка 3) *разм.* дóбра прыгнáны, бездакóрны, беззагáнны
**zágen** *vi высок.* баяцца, палóхацца; марýдзіць, вагáцца
**zághaft** *a* 1) нясмéлы, баязлíвы, нерашýчы 2) павóльны, асцярóжны
**Zághaftigkeit** *f* - нясмéласць, баязлíвасць, нерашýчасць
**zäh 1.** *a* 1) цвёрды (*пра мяса*) 2) вя́зкі (*пра метал*) 3) упáрты, трывáлы; ***~es Gedächtnis*** дóбрая пáмяць **2.** *adv* 1) упáрта, цвёрда, стóйка 2) павóльна, з цяжкасцю
**Zähfestigkeit** *f* - *тэх.* вя́зкасць
**zä́hflüssig** *a* вя́зкі, густы́
**zähhart** *a тэх.* вя́зкі
**Zähheit** *f* -, **Zähigkeit** *f* - 1) жóрсткасць 2) вя́зкасць 3) упáртасць, трывáласць
**Zahl** *f* -, -en 1) лік; ***geráde ~*** цóтны лік; ***úngerade ~*** няцóтны лік; ***éine víerstellige ~*** чатырохзнáчны лік 2) кóлькасць; ***j-n an der ~ übertréffen**** перабóльшваць кагó-н. па кóлькасці; ***óhne [sónder] ~*** без ліку, незлічóны, незлічóнае мнóства; ***der ~ nach*** па кóлькасці; ***sie wären dréißig an der ~*** іх былó трыццаць (чалавéк); ***in vóller ~*** усé пóўнасцю 3) лíчба; цы́фры, дáныя
**Záhlamt** *n* -(e)s, -ämter казначэ́йства
**Zählapparat** *m* -(e)s, -e лічы́льнік
**záhlbar** *a* які павíнен быць аплáчаны
**zählbar** *a* які́ трэ́ба падлічы́ць
**záhlen** *vt* плацíць; ***bítte, ~!*** рахýнак, калí лáска! (*у рэстаране*)
**zählen 1.** *vt* 1) лічы́ць 2) налíчваць; ***die Stadt zählt éine Millión Éinwohner*** гóрад налíчвае мільён жыхарóў 3) (*zu D*) лічы́ць (*каго-н. кім-н., што-н. чым-н.*); прылíчваць, аднóсіць (*каго-н. да каго-н., што-н да чаго-н.*) **2.** *vi* 1) лічы́ць; ***von eins bis húndert ~*** лічы́ць ад аднагó да ста 2) лічы́цца, ісцí ў лік; ***das zählt nicht*** гэ́та не лíчыцца 3) (*zu D, unter A*) лічы́цца (*кім-н., чым-н.*); ***er zählt zu den bésten Schülern*** ён лíчыцца адны́м з лéпшых вýчняў 4) (*auf A*) разлíчваць (*на каго-н., на што-н.*)
**Záhlenangaben** *pl* лíчбавыя дáныя
**Záhlenfolge** *f* -, -n *матэм.* натурáльны рад, лíкавая паслядóўнасць
**Záhlenlotto** *n* -s, -s лíчбавае латó (*гульня*)
**záhlenmäßig 1.** *a* 1) кóлькасны 2) статысты́чны 3) лíкавы **2.** *adv* кóлькасна
**Záhlenverhältnis** *n* -ses, -se лíчбавыя аднóсіны
**Záhlenwert** *m* -(e)s, -e лíчбавае [лíкавае] значэ́нне
**Záhler** *m* -s, - 1) плацéльшчык 2) казначэ́й, касíр
**Zähler** *m* -s, - 1) *тэх.* лічы́льнік 2) *матэм.* лíчнік 3) лічыльнік (*чалавек*); маркёр (*пры гульні ў більярд*)
**Záhlkarte** *f* -, -n бланк грашóвага паштóвага перавóда
**záhllos** *a* незлічóны
**Záhlmeister** *m* -s, - *вайск.* казначэ́й
**záhlreich** *a* шматлíкі
**Záhlstelle** *f* -, -n кáса; мéсца вы́платы
**Záhltag** *m* -s, -e плацежны дзень, дзень вы́дачы зарóбку
**Záhlüberlegenheit** *f* - кóлькасная перавáга
**Záhlung** *f* -, -en плацёж, узнóс; ***éine ~ léisten*** зрабíць плацёж [узнóс], унéсці [заплацíць] грóшы; ***die ~ blieb aus***

плацёж не паступіў

**Zählung** *f* -, -en 1) лік, падлік 2) пéрапіс (*насельніцтва*)

**Záhlungsabkommen** *n* -s, - плацёжнае пагаднéнне

**Záhlungsanweisung** *f* -, -en чэк, óрдэр; плацёжнае даручэ́нне

**Záhlungsauftrag** *m* -(e)s, -träge плацёжнае даручэ́нне

**Záhlungsbedingung** *f* -, -en умóва плацяжý

**Záhlungseinstellung** *f* -, -en прыпынéнне плацяжóў

**záhlungsfähig** *a* плацежаздóльны

**Záhlungsfrist** *f* -, -en тэ́рмін плацяжý

**Záhlungskredit** *n* -(e)s, -e абарóтны крэды́т

**Záhlungskürzung** *f* -, -en *камерц.* скідка (*за недабраякаснасць тавару і г.д.*)

**Záhlungsmittel** *n* -s, - плацёжны срóдак

**Záhlungsstundung** *f* -, -en адтэрмінóўка плацяжý

**Záhlungsverbindlichkeiten** *pl* плацёжныя абавязáцельствы

**Záhlungsverkehr** *m* -(e)s плацёжны абарóт; ***bárgeldloser*** ~ безнаяўны плацёжны абарóт

**Záhlungsverzug** *m* -(e)s, -züge пратэрмінóўка плацяжý

**Zählwerk** *n* -(e)s, -e *тэх.* лічы́льнік, лічы́льная прылáда, лічы́льны механізм

**Záhlwert** *m* -(e)s *эк.* намінáльная вáртасць

**Záhlwort** *n* -(e)s, -wörter *грам.* лічэ́бнік

**Záhlzeichen** *m* -s, - лічба, цы́фра

**Záhlzettel** *m* -s, - чэк (*у магазіне*); ***éinen ~ áusstellen*** вы́пісаць чэк

**zahm** *a* 1) свóйскі, утаймавáны 2) лагóдны, пакóрлівы ◊ ***ich wérde dich schon ~ máchen!*** я ж табé пакажý!

**zähmen 1.** *vt* 1) прыручáць 2) *перан.* утаймóўваць, уціхамірваць; ***séine Zúnge*** ~ прытрымáць язы́к; ***séine Úngeduld*** ~ стрымáць сваё нецярпéнне **2. ~, sich** стрымáць сябé, уціхамірыцца

**Záhmheit** *f* - 1) прырýчанасць 2) пакóрлівасць, рахмáнасць, лагóднасць

**Zähmung** *f* -, -en прыручэ́нне, утаймавáнне

**Zahn** *m* -(e)s, -Zähne 1) зуб; ***éinen ~ zíehen**** вырывáць зуб; ***die Zähne flétschen*** вы́скаліць [вы́шчарыць] зýбы, скáліць зýбы; ***mit den Zähnen knírschen*** скрыгатáць зубáмі; ***mit den Zähnen kláppern*** ля́скаць зубáмі (*ад холаду і г.д.*); ***etw. zwíschen den Zähnen múrmeln*** мармытáць што-н. скрозь зýбы ◊ ***j-n auf den Zähnen fühlen*** прашчýпваць кагó-н.; ***die Zähne in die Wand háuen*** ≅ паклáсці зýбы на палíцу; ***Háare auf den Zähnen háben*** быць зубáстым; ***éinen ~ auf [gégen] j-n háben*** мець зуб на кагó-н.; ***sich (D) an etw. (D) Zähne áusbeißen**** *разм.* паламáць сабé зýбы на чым-н.; ***die Zähne hében**** éсці што-н. неахвóтна; ≅ круцíць нóсам ◊ ***Áuge um Áuge, ~ um ~*** вóка за вóка, зуб за зуб 2) *тэх.* зубéц

**Záhnarzt** *m* -es, -ärzte зубны́ дóктар, данты́ст

**Záhnbohrer** *m* -s, - бормашы́на

**Záhnbürste** *f* -, -n зубнáя шчóтка

**Záhncreme** [-kre:m] *f* -, -n зубнáя пáста

**zähnefletschend** *adv* скáлячы [выскаля́ючы] зýбы

**Zähneklappern:** ***mit*** ~ скрыгóчучы зубáмі

**zähneklappernd** *adv* ля́скаючы зубáмі

**zähneknirschend** *adv* скрыгучы́ зубáмі

**záhnen:** ***das Kind zahnt*** у дзіця́ці рэ́жуцца зýбы

**Záhnersatz** *m* -es штýчныя зýбы

**Záhnfäule** *f* - *мед.* кáрыес

**Záhnfleisch** *n* -(e)s дзяснá

**Záhnfüllung** *f* -, -en плóмба (*у зубе*)

**Záhngetriebe** *n* -s, - зубчáты прывóд

**Záhnheilkunde** *f* - стаматалóгія

**Záhnhöhle** *f* -, -n зубнáя пóласць

**záhnig** *a* 1) зубчáты; з зубáмі 2) зубáсты

**Záhnkrone** *f* -, -n карóнка зýба

**Záhnlaut** *m* -(e)s, -e *лінгв.* зубны́ гук

**záhnlos** *a* бяззýбы

**Záhnlücke** *f* -, -n пустóе мéсца ў рáдзе зубóў

**Záhnmedizin** *f* - стаматалóгія, зубнáя медыцы́на

**Záhn|pasta** *f* -, -en, **~paste** *f* -, -n зубнáя

паста

**Záhnpflege** *f* - дагляд за зубамі

**Záhnrad** *n* -(e)s, -räder *тэх.* зубчастае кола, шасцярня

**Záhnradgetriebe** *n* -s, - зубчатая перадача, рэдуктар

**Záhnschmelz** *m* -es, -e *анат.* зубная эмаль

**Záhnschmerz** *m* -es, -en зубны боль

**Záhnstocher** *m* -s, - зубачыстка

**Záhnweh** *n* -(e)s зубны боль

**Záin** *m* -(e)s, -e *тэх.* злітак, балванка

**záinen** *vt тэх.* выцягваць у палосы; раскоўваць

**Zánder** *m* -s, - *заал.* судак

**Zánge** *f* -, -n абцугі, клешчы; ***in die ~ néhmen**** *вайск.* узяць у клешчы; узяць каго-н. у абарот

**zángenförmig** *a* 1) у форме абцугоў 2) клюшнепадобны

**Zank** *m* -(e)s звада, сварка, лаянка

**Zánkapfel** *m* -s, -äpfel яблык разладу

**zánken** *vi i* **~, sich** сварыцца, лаяцца (*um A – з-за чаго-н.*)

**Zänker** *m* -s, - задзіра, спрачальнік

**Zankeréi** [Zänkeréi] *f* -, -en спрэчка, сварка, лаянка

**zánkhaft, zänkisch, zánksüchtig** *a* звадны, звадлівы, задзірысты

**Zank|lust** *f* -, **~sucht** *f* - задзірыстасць

**Zäpfchen** *n* -s, - *анат.* язычок

**zápfen** *vt* 1) цадзіць, наліваць (*віно з бочкі*) 2) адцэджваць, адводзіць (*вадкасць, газы*) 3) *буд.* злучаць пры дапамозе шыпоў; запускаць у паз

**Zápfen** *m* -s, - 1) затычка 2) *тэх.* цапфа, шып, чоп; шворан 3) шышка (*хваёвая*) 4) лядзяш

**Zápfenlager** *n* -s, - *тэх.* падшыпнік; утулка

**Zápfenstreich** *m* -(e)s, -e *вайск.* вячэрняя [вячаровая] зара; ***den ~ blásen**** іграць вячэрнюю зару

**Zápfhahn** *m* -(e)s, -hähne зліўны [спускны] кран; водаразборны кран

**Zápf|säule** *f* -, -n, **~stelle** *f* -, -n бензакалонка

**záppelig** *a* 1) трапяткі, дрыготкі, які боўтаецца 2) крутлявы, непаседлівы; нецярплівы

**záppeln** *vi* 1) трапятацца, біцца, боўтацца 2) круціцца (*на месцы*) ◊ ***vor Úngeduld*** ~ дрыжаць ад нецярпення; ***j-n ~ lássen**** прымусіць каго-н. чакаць сябе, стаміць [змарыць] каго-н. чаканнем

**Zar** *m* -en, -en *гіст.* цар

**Zárge** *f* -, -n 1) вобад, абадок, край 2) рама (*у акне*); дзвярная каробка; ***die ~ éines Édelsteines*** аправа каштоўнага каменя

**zarístisch** *a гіст.* царысцкі, царскі

**zart** *a* 1) пяшчотны, ласкавы; кволы; ***das ~e Geschlécht*** слабы [жаночы] пол 2) уразлівы, далікатны; чулы, тактоўны 3) тонкі, мяккі, лёгкі; прыемны; ***~e Fárben*** мяккія тоны (*фарбаў*)

**zártbesaitet** [zart besáitet] *a* далікатны, чулы, уразлівы

**zártblau** *a* пяшчотна-блакітны, лёгкаблакітны

**zártfühlend** [zart fühlend] *a* чулы, далікатны, тактоўны

**Zártgefühl** *n* -(e)s чуласць, далікатнасць, тактоўнасць

**Zártheit** *f* - 1) пяшчота, ласкавасць 2) мяккасць, лёгкасць, вытанчанасць 3) чуласць, далікатнасць 4) уразлівасць, кволасць

**zärtlich** *a* пяшчотны, ласкавы; ~ ***tun**** далікатнічаць

**Zärtlichkeit** *f* -, -en 1) пяшчота, ласкавасць, ласка 2) чуллівасць, уразлівасць; ***~en erwéisen**** быць ласкавым да каго-н.

**Zärtling** *m* -s, -e пястун

**Zásel** [Záser] *f* -, -n валакно

**záserig** *a* валакністы

**zásern** *vi* размачаліцца, раскудлаціцца

**Záster** *m* -s *разм.* грошы

**Zäsúr** *f* -, -en *літ., муз.* цэзура

**Záuber** *m* -s, - 1) чары, чароўнасць, зачараванне 2) вядзьмарства, магія 3) *разм.* мана, падман; ***mach doch kéinen*** ~ не дуры галаву!; ~ ***tréiben**** вядзьмарыць, чараваць; варажыць; ~ ***áusüben*** зачараваць, ачараваць; ***das ist fáuler ~!***

*разм.* гэ́та кругóм ашука́нства! ◊ ***den ~ kénnen wir!*** ве́даем мы гэ́тыя хі́трыкі!

**Zauberéi** *f* -, -en 1) чараўні́цтва 2) фóкус

**Záuberer** *m* -s, - 1) чараўні́к, чарадзе́й 2) фóкуснік

**záuberhaft, záuberisch** *a* чарадзе́йны, чарóўны

**Záuberkraft** *f* -, -kräfte чарóўная сíла

**Záuberkunst** *f* -, -künste 1) чараўні́цтва, вядзьма́рства, ма́гія 2) *pl* фóкусы [маніпуля́цыі] ілюзіяні́ста

**Záuberkünstler** *m* -s, - фóкуснік

**Záuberkunststück** *n* -(e)s, -stücke фóкус

**záubern** *vt* 1) вядзьма́рыць, чарава́ць, варажы́ць; ***ich kann doch nicht ~*** *разм.* адку́ль я табе́ гэ́та вазьму́! 2) пака́зваць фóкусы

**Záuberspruch** *m* -(e)s, -sprüche заклінáнне

**Záuberstab** *m* -(e)s, -stäbe чарóўная па́лачка

**Záubertrank** *m* -(e)s, -tränke чарóўны напі́так

**Zauderéi** *f* -, -en мару́днасць, нерашу́часць

**záuderhaft** *a* мару́дны, нерашу́чы

**záudern** *vt* (*mit D*) мару́дзіць, прамару́джваць, вага́цца; ***óhne zu ~*** не мару́дзячы, без ваганняў

**Zaum** *m* -(e)s, -Zäume 1) вуздэ́чка, абрóць 2) *тэх.* тóрмаз ◊ ***j-m den ~ ánlegen*** утаймава́ць, уціхамі́рыць каго́-н.; ***j-n im ~(e) hálten**** трыма́ць каго́-н. у цу́глях; ***séine Zúnge im ~(e) hálten**** трыма́ць язы́к за зуба́мі

**zäumen** *vt* 1) кілза́ць 2) *перан.* уціхамі́рваць, утаймóўваць

**záumlos** *a* 1) незакілза́ны 2) неўціхамі́раны, неўтаймава́ны

**záumrecht** *a* аб'е́зджаны (*пра каня*)

**Záumzeug** *n* -(e)s, -e вуздэ́чка [абрóць] з набóрам

**Záumzügel** *m* -s, - павады́

**Zaun** *m* -(e)s, Zäune плот, агарóджа ◊ ***wir wérden schon den ~ pínseln*** *разм.* мы гэ́тую спра́ву ўладку́ем; ***hínterm ~ stérben**** скана́ць пад плóтам; ***etw. vom ~e bréchen**** *разм.* справакава́ць што-н.; ***j-m über den ~ hélfen**** падтрыма́ць каго́-н. у якóй-н. спра́ве; дапамагчы́ каму́-н. вы́брацца з ця́жкага станóвішча

**záundürr** *a* сухí як жэ́рдка

**zäunen** *vt* абгарóджваць (плóтам)

**Záungast** *m* -(e)s, -gäste 1) пабóчны назіра́льнік 2) безбіле́тны глядáч

**Záunkönig** *m* -s, -e *заал.* валавóка

**Záun**(s)**pfahl** *m* -(e)s, -pfähle кол, слуп, шост ◊ ***j-m éinen Wink mit dem ~ gében**** зрабі́ць каму́-н. гру́бы [недвухсэнсóўны] намёк

**záusen 1.** *vt* трапа́ць, драць, дзе́рці; ***j-m die Háare ~*** трапа́ць каго́-н. за валасы́ **2. ~, sich** бі́цца

**Zébra** *n* -s, -s зе́бра

**Zébrastreifen** *m* -s, - *разм.* пешахóдны перахóд («зе́бра»)

**Zéchbruder** *m* -s, -brüder гуля́ка, п'янтóс, сабутэ́льнік

**Zéche** *f* -, -n 1) раху́нак (*у рэстаране, шынку і г.д.*) 2) гуля́нка 3) рудні́к, ша́хта, капа́льня 4) *гіст.* цэх, гі́льдыя; ***sich (D) von j-m die ~ bezáhlen lássen**** паéсці [вы́піць] за чужы́ кошт; ***séine ~ bezáhlen*** заплаці́ць [уне́сці] сваю́ дóлю; ***die ~ bezáhlen müssen**** паплаці́цца, [папаку́таваць, пацярпе́ць] за другі́х; ***mit der ~ dúrchbrennen*, (den Wirt um) die ~ préllen*** уцячы́, не заплаці́ўшы па раху́нку ◊ ***etw. auf der ~ háben*** ≅ мець што-н. на сумле́нні; мець ры́льца ў пу́ху

**zéchen** *vi* гуля́ць, п'я́нстваваць

**Zécher** *m* -s, - гуля́ка

**Zecheréi** *f* -, -en, **Zéchgelage** *n* -s, - гуля́нка, папóйка

**Zéchkumpan** *m* -s, -e сабутэ́льнік

**Zéchpreller** *m* -s, - наве́двальнік рэстара́на [шынка́], які́ не заплаці́ў па раху́нку

**Zechprelleréi** *f* -, -en неапла́та раху́нку (*у шынку, рэстаране*)

**Zécke** *f* -, -n *заал.* клешч

**zécken** *vt, vi дыял.* дражні́ць, пацве́львацъ

**Zéder** *f* -, -n *бат.* кедр

**Zeh** *m* -(e)s, -en, **Zéhe** *f* -, -n па́лец (*на

*назе*); ***auf den ~en géhen**** хадзíць на пáльчыках [дыбачках]; ***j-m auf die ~n tréten**** наступáць камý-н. на нагý; *перан.* пакрыўдзіць, задзéць кагó-н. 2) дóлька, зубóк (*часнаку*), карэ́ньчык (*хрэну*)

**Zéhenspitze** *f*: ***auf den ~n*** на дыбачках [пáльчыках]

**zehn** *num* дзéсяць

**Zehn** *f* -, -en (лік) дзéсяць, дзесятка, дзесятак

**Zéhner** *m* -s, - 1) дзесятак 2) *разм.* дзесяты нýмар 3) *разм.* купю́ра ў дзéсяць грашóвых адзíнак

**zéhn|fach, ~fältig 1.** *a* дзесяцíразóвы, дзесяцікрáтны, у дзéсяць разóў больш ы **2.** *adv* у дзéсяць разóў

**zéhnjährig** *a* дзесяцігадóвы

**zéhnjährlich** *a* якí паўтарáецца (праз) кóжныя дзéсяць гадóў

**Zéhnkampf** *m* -(e)s *спарт.* дзесяцібóр'е, дэкатлóн

**zéhnklassig** *a* дзесяцікласны

**zéhnmal** *adv* дзéсяць разóў, у дзéсяць разóў, дзесяццю́

**zéhnmalig** *a* дзесяціразóвы

**zéhnt:** ***zu*** ~ удзесяцёх, удзесяцярых

**zéhnte** *num* дзесяты

**zéhntel** *num*: ***ein*** ~ адна дзесятая

**Zéhntel** *n* -s, - дзесятая (чáстка)

**zéhntens** *adv* па-дзесятае

**zéhren** *vi* 1) (*von D*) харчавáцца, сілкавáцца (*чым-н.*); жыць (*з чаго-н.*); расхóдваць (*што-н.*); ***von den álten Vórräten*** ~ жыць старымі запáсамі; ***von Erínnerungen*** ~ жыць успамíнамі 2) (*an D*) падтóчваць (*каго-н., што-н.*); ***das Fíeber zehrt*** гарáчка знясíльвае 3) (*von D*) расхóдаваць, выдаткóўваць (*што-н.*); ***vom Kapitál*** ~ (патрóху) расхóдваць свой капітáл

**zéhrend** *a* цяжкі, знясíльны

**Zéhrfieber** *n* -s *мед.* знясíльная ліхамáнка [гарáчка]

**Zéhrgeld** *n* -(e)s, -er грóшы на пракóрм [харчавáнне]

**Zéhrung** *f* -, -en 1) харчавáнне, пракóрм 2) мардавáнне

**Zéichen** *n* -s, - 1) знак, сíмвал; ***im*** ~ пад знáкам; ***zum*** ~ у знак; ***j-m ein ~ gében**** падáць камý-н. знак; ***verábredete*** ~ умóўныя знáкі [сігнáлы] 2) прыкмéта 3) сігнáл ◊ ***séines ~s ein Schúster*** *уст.* па прафéсіі шавéц

**Zéichenblock** *m* -(e)s, -s *i* -blöcke блакнóт для малявáння

**Zéichenbrett** *n* -(e)s, -er чарцёжная дóшка

**Zéichenbuch** *n* -(e)s, -bücher альбóм для малявáння

**Zéichenerklärung** *f* -, -en тлумачэ́нне знáкаў

**Zéichenfilm** *m* -(e)s, -e мультыплікацыйны фільм

**Zéichengeräte** *pl* чарцёжныя прылáды [інструмéнты]

**Zéichenheft** *n* -(e)s, -e сшытак для малявáння

**Zéichensetzung** *f* - *лінгв.* пунктуáцыя

**Zéichensprache** *f* -, -n мóва знáкаў, пантамíма

**Zéichenvorlage** *f* -, -n узóр для малявáння [рысавáння, зрысóўвання]

**zéichnen 1.** *vt* 1) малявáць, крэ́сліць, чарцíць, рысавáць 2) адзначáць; ***vom Schícksal gezéichnet sein*** быць адзнáчаным пячáццю лёсу 3) падпíсваць **2.** *vi*: ***der Hund zéichnet*** *паляўн.* сабáка ідзé па слéду

**Zéichnen** *n* -s малявáнне (*навучальная дысцыпліна*); ***téchnisches*** ~ чарчэ́нне, крэ́сленне

**Zéichner** *m* -s, - рысавáльшчык, чарцёжнік

**zéichnerisch** *a* чарцёжны, рысавáльны, выкананы ў малю́нку [чарцяжы]

**Zéichnung** *f* -, -en 1) рысýнак, малю́нак, чарцёж 2) схéма, відарыс, апісáнне

**Zéigefinger** *m* -s, - указáльны пáлец

**zéigen 1.** *vt* 1) пакáзваць; ***der Freund zéigte mir die Stadt*** сябар паказáў мне гóрад; ***er ließ sich sein Zímmer*** ~ ён папрасíў паказáць ямý ягó пакóй 2) пакáзваць, праяўляць, выяўляць; ***Fréude an etw. (D)*** ~ праяўляць, пакáзваць рáдасць у сýвязі з чым-н.; ***sie hat mir ge-***

***zéigt, dass sie mich gern hat*** яна́ дала́ мне зразуме́ць, што я ёй падаба́юся **2.** *vi* (*auf A*) пака́зваць, ука́зваць (*на каго-н., што-н.*); ***er zéigte mit dem Fínger auf ein Haus*** ён паказа́ў па́льцам на дом **3. ~, sich** 1) пака́звацца, з'яўля́цца; ***so kann ich mich auf der Stráße nicht ~*** у такі́м вы́глядзе я не магу́ паказа́цца на ву́ліцы 2) пака́зваць [праяўля́ць] сябе́ (*які́м-н.*); ***sie zéigte sich uns gegenüber von íhrer bésten Séite*** яна́ паказа́ла сябе́ ў адно́сінах да нас са свайго́ ле́пшага бо́ку; ***es wird sich ja ~, wer Recht hat*** яшчэ́ вы́явіцца [ста́не я́сным], хто ма́е ра́цыю [чыя́ пра́ўда]

**Zéiger** *m* -s, - 1) стрэ́лка (*гадзі́нніка*) 2) паказа́льнік, і́ндэкс

**Zéigestock** *m* -(e)s, -stöcke ука́зка

**zéihen*** *vt* (*G*) *высок.* абвінава́чваць (*каго-н. у чым-н.*)

**Zéile** *f* -, -n 1) радо́к; ***etw. ~ für ~ dúrchgehen**** вывуча́ць што-н. дасканáла 2) рад, шэ́раг 3) баразна́

**Zéilenlänge** *f* -, -n даўжыня́ радка́

**zéilenweise** *adv* радка́мі, (па)радко́ва

**zéiseln** *vt* прыва́бліваць, зава́бліваць

**Zéisig** *m* -s, -e чыж; ***ein lóckerer ~*** *разм.* ветраго́н

**zéisigrün** *a* све́тла-зялёны

**zeit: ~ *méines Lébens*** за ўсё маё жыццё

**Zeit** *f* -, -en 1) час; ***zur ~*** у цяпе́рашні час; цяпе́р; ***es ist höchste ~*** даўно́ пара́, са́мы час; ***die gánze ~ über*** увесь час; ***von ~ zu ~*** ча́сам; раз-по́раз; зрэ́дку; ***die ~ drängt*** час падганя́е; ***das hat noch ~*** на то́е яшчэ́ ёсць час ◊ ***kommt ~, kommt Rat*** пераначу́ем – бо́лей [ясне́й] пачу́ем; ***die ~ bringt Rósen*** час прыно́сіць свой плён; ***die ~ heilt (álle) Wúnden*** час – са́мы ле́пшы ле́кар 2) час, перы́яд, эпо́ха; ***das war éine glückliche ~*** гэ́та была́ шчаслі́вая пара́; ***in álter ~*** у старажы́тны час; ***er war zu séiner ~ ein gróßer Künstler*** у свой час ён быў вялі́кім мастако́м; ***mit der ~ géhen**** кро́чыць у нагу́ з ча́сам

**Zéitabschnitt** *m* -(e)s, -e перы́яд [адрэ́зак] ча́су

**Zéitalter** *n* -s, - век, эпо́ха, часі́на

**Zéitangabe** *f* -, -n 1) да́та 2) зве́рка часу (*па радыё*)

**Zéitansage** *f* -, -n дакла́дны час (*які́ паведамляецца дыктарам, напр., па радыё*)

**Zéitaufwand** *m* -(e)s затра́та ча́су

**zéitaufwendig** [zéitauwändig] *a* які́ забіра́е [патрабу́е] шмат ча́су

**zéitbedingt** *a* абумо́ўлены ча́сам

**Zéitdauer** *f* - праме́жак ча́су

**Zéiteinheit** *f* -, -en 1) адзі́нка ча́су 2) *літ.* адзі́нства ча́су (*у драме*)

**Zéiteinteilung** *f* -, -en 1) размеркава́нне [арганіза́цыя] ча́су; ***die genáue Empfíndung für ~*** дакла́днае пачу́ццё ча́су 2) перыядыза́цыя

**Zéitfolge** *f* -, -n хранапагі́чны пара́дак

**Zéitersparnis** *f* -, -se экано́мія ча́су

**Zéitform** *f* -, -en *грам.* час, фо́рма ча́су

**zéitfremd** *a* варо́жы ду́ху ча́су

**Zéitgeist** *m* -(e)s дух ча́су

**zéitgemäß** *a* 1) суча́сны, адпаве́дны ду́ху ча́су 2) своечасо́вы

**Zéitgenosse** *m* -n, -n суча́снік

**zéitgenössisch** *a* суча́сны

**Zéitgeschehen** *n* -s цяпе́рашнія падзе́і; наві́ны дня

**Zéitgewinn** *n* -(e)s, -e экано́мія ча́су

**zéitig 1.** *a* 1) ра́нні 2) своечасо́вы 3) спе́лы **2.** *adv* своечасо́ва; за́гадзя, ра́на, заўча́сна

**zéitigen 1.** *vt* 1) даць паспе́ць (*чаму-н.*); вы́трымаць (*што-н.*) 2) выяўля́ць, пака́зваць; ***er hat gúte Kénntnisse gezéitigt*** ён паказа́ў до́брыя ве́ды **2.** *vi* (*h, s*) паспява́ць

**Zéitigung** *f* -, en 1) паспява́нне 2) выяўле́нне, пака́званне

**Zéitkarte** *f* -, -n сезо́нны біле́т

**Zéitkartenwagen** *m* -s, - трамва́йны ваго́н для прае́зду па сезо́ннаму біле́ту

**Zéitkino** *n* -s, -s кінатэа́тр храніка́льнага фі́льма (*з бесперапыннай дэманстрацыяй фільмаў*)

**Zeit lang**: ***éine ~*** пэ́ўны час

**Zéitlauf** *m* -(e)s, -läufe плынь [цячэ́нне] ча́су; ***in únseren Zéitläufen*** у на́шыя часы́

**zeitlébens** *adv* усё жыццё, на працягу ўсяго́ жыцця́
**zéitlich 1.** *a* часо́вы **2.** *adv* часо́ва
**Zéitliche:** ***das ~ ségnen*** *эўф.* наказа́ць до́ўга жыць; ***den Weg des ~n géhen**** *эўф.* паме́рці, скана́ць
**Zéitlohn** *m* -(e)s, -löhne пагадзі́нная апла́та пра́цы, штогадзі́нная зарабо́тная пла́та; ***im ~ stéhen**** працава́ць на ўмо́вах пагадзі́ннай апла́ты пра́цы
**Zéitlöhner** *m* -s, - пачасо́вы рабо́чы
**zéitlos** *a* 1) ве́чны, спрадве́чны 2) несвоечасо́вы
**Zéitlupe** *f* -, -n высокачасто́тная ка́мера (*для здымкі запаволеных кадраў у фільмах*)
**Zéitlupenaufnahme** *f* -, -n ху́ткасная [паско́раная] кіназды́мка (*для запаволенага паказу рухаў*)
**Zéitmangel** *m* -s недахо́п ча́су
**Zéitmaß** *n* -es, -e *муз.* тэмп, такт
**Zéitmesser** *m* -s, - храно́метр
**Zéitmessung** *f* -, -en 1) хронаметра́ж, заме́р ча́су 2) *літ.* прасо́дыя
**zéitnah(e)** *a* блі́зкі да сучаснасці, актуа́льны
**Zéitnähe** *f* - су́вязь з суча́снасцю
**Zéitnehmer** *m* -s, - хронаметражы́ст, хронаметры́ст; суддзя́-секундаметры́ст
**Zéitnot** *f* - 1) недахо́п ча́су 2) *шахм.* цэйтно́т
**Zéitplan** *m* -(e)s, -pläne 1) гра́фік (ча́су) 2) каляндарны план рабо́ты
**Zéitpunkt** *m* -(e)s, -e мо́мант, хвілі́на [хві́ля]
**Zéitraffer** *m* -s, - *гл.* Zéitlupe
**Zéitrafferaufnahme** *f* -, -n *гл.* Zéitlupenaufnahme
**zéitraubend** *a* [Zeit ráubend] *гл.* zéitaufwendig
**Zéitraum** *m* -(e)s, -räume перы́яд [праме́жак] ча́су
**Zéitrechnung** *f* -, -en летазлічэ́нне
**Zéitschrift** *f* -, -en часо́піс
**Zéitspanne** *f* -, -n праме́жак ча́су
**zéitsparend** *a* [Zeit spárend] які́ ашчаджа́е [экано́міць] час
**Zéitstück** *n* -(e)s, -e сучасная п'е́са, п'е́са пра сучаснае жыццё
**Zéittafel** *f* -, -n храналагі́чная табліца
**Zéitumstände** *pl* акалі́чнасці ча́су; акалі́чнасці, характэ́рныя для да́дзенага ча́су
**Zéitung** *f* -, -en газе́та; ***éine ~ abonníeren [bestéllen]*** падпі́сацца на газе́ту; ***was bringt die ~?*** што пі́шуць у газе́тах? ***~en áustragen**** разно́сіць газе́ты
**Zéitungsanzeige** *f* -, -n аб'я́ва ў газе́це
**Zéitungsartikel** *m* -s, - газе́тны арты́кул
**Zéitungsbeilage** *f* -, -n дада́так да газе́ты
**Zéitungsbericht** *m* -(e)s, -e (газе́тная) карэспандэ́нцыя
**Zéitungsberichterstatter** *m* -s, - (газе́тны) карэспандэ́нт, рэпарцёр
**Zéitungsente** *f* -, -n газе́тная ву́тка
**Zéitungsinserat** *n* -(e)s, -e газе́тная аб'я́ва, аб'я́ва ў газе́це
**Zéitungs|kiosk** *m* -(e)s, -e, **~stand** *m* -(e)s, -stände газе́тны кіёск [ша́пік]
**Zéitungskopf** *m* -(e)s, -köpfe загало́вак газе́ты
**Zéitungsmann** *m* -(e)s, -männer 1) газе́тчык, журналі́ст, карэспандэ́нт 2) газе́тчык, прадаве́ц [разно́счык] газе́т
**Zéitungsschau** *f* - агля́д газе́т
**Zéitungsspalte** *f* -, -n газе́тны слупо́к
**Zéitungswesen** *n* -s журналі́стыка, друк
**Zéitvergeudung** *f* -, -en ма́рная тра́та ча́су
**Zéitverlust** *m* -(e)s, -e (с)тра́та ча́су
**Zéitverschwendung** *f* -, -en *гл.* Zéitvergeudung
**Zéitvertreib** *m* -(e)s, -e праваддзе́нне ча́су
**zéitweilig 1.** *a* часо́вы **2.** *adv* часо́ва, на пэ́ўны час
**zéitweise 1.** *a* эпізады́чны **2.** *adv* час ад ча́су, зрэ́дку, раз-по́раз, эпізады́чна
**Zéitwende** *f*: ***vor der ~*** пе́рад наступле́ннем но́вай э́ры [но́вага ве́ку], на сты́ку двух вяко́ў
**Zéitwort** *n* -(e)s, -wörter *грам.* дзеясло́ў
**Zéitzeichen** *m* -s, - сігна́л праве́ркі ча́су (*па радыё*)
**Zéitzünder** *m* -s, - дэтана́тар запаво́ленага дзе́яння, дыстанцы́йны ўзрыва́льнік [запа́л]

**Zélle** *f* -, -n 1) *біял.* клéтка 2) кáмера, кабíна 3) ячэ́йка, камóрка; сóта 4) элемéнт; ***líchtelektrische*** **~** фотаэлемéнт
**Zéllenlehre** *a* - цыталóгія
**Zéllfaser** *f* - цэлюлёзнае валакнó
**Zéllgewebe** *n* -s, - *біял.* клятчáтка
**Zéllkern** *m* -(e)s, -e *біял.* ядрó клéткі
**Zéllstoff** *m* -(e)s цэлюлóза, клятчáтка
**Zéllteilung** *f* - *біял.* дзялéнне клéткі
**zellubár, zellulär** *a біял.* клéтачны
**Zelluloíd** *n* -s 1) цэлулóід 2) фільм, плёнка
**Zellulóse** *f* -, -n *гл.* Zéllstoff
**Zéllwolle** *a* - штáпельнае валакнó, штáпель, штáпельная тканíна
**Zelót** *m* -en, -en рэлігíйны фанáтык
**Zélt** *n* -(e)s, -e палáтка, шацёр, ю́рта; ***die ~e áufschlagen**** пастáвіць [разбíць] палáткі; стаць лáгерам; ***die ~e ábbrechen**** скруцíць палáткі; *перан.* зня́цца з мéсца, вы́правіцца ў дарóгу
**Zéltbahn** *f* -, -en брызéнт, плашч-палáтка
**Zéltbett** *n* -(e)s, -en пахóдны лóжак
**Zéltdach** *n* -(e)s, -dächer *архіт.* шатрóвы дах
**zélten** *vi* жыць у палáтках [намётах]
**Zélter** *m* -s, - інахóдзец (*конь*)
**Zéltler** *m* -s, - жыхáр кéмпінга, тyры́ст, якí жывé ў палáтцы
**Zéltlager** *n* -s, - палáтачны лáгер
**Zéltleinwand** *f* - палáтачнае палатнó
**Zéltpflock** *m* -(e)s, -pflöcke палáтачны калóчак
**Zéltplane** *f* -, -n брызéнт; палóтнішча палáткі
**Zéltstange** *f* -, -n палáтачная стóйка
**Zélttuch** *n* -(e)s брызéнт
**Zemént** *m* -(e)s, -e 1) цэмéнт 2) клей
**zementíeren** *vt* 1) цэментавáць 2) змацóўваць, умацóўваць
**Zementíerung** *f* -, -en 1) цэментавáнне, цэментáцыя 2) умацавáнне, змацавáнне
**Zenít** *m* -(e)s зенíт; ***sein Ruhm steht im*** **~** ён у зенíце сваёй слáвы
**zensíeren** *vt* 1) ацэ́ньваць; стáвіць адзнáкі 2) цэнзуравáць
**Zénsor** *m* -s, -sóren цэ́нзар
**Zensúr** *f* -, -en 1) ацэ́нка, адзнáка, бал 2) *тк. sg* цэнзу́ра; ***die ~ hat das Buch (nicht) zúgelassen*** цэнзу́ра (не) дазвóліла друкавáнне кнíгі 3) тáбель (паспяхóвасці)
**Zénsus** *m* -, - 1) цэнз (маёмасны) 2) пéрапіс насéльніцтва
**Zentiméter** *n* -s, - сантымéтр
**Zentimétermaß** *n* -es, -e рулéтка, мéрная сту́жка
**Zéntner** *m* -s, - (*скар.* Ztr.) паўцэ́нтнера; цэ́нтнер (*нямецкі роўны 50 кг*)
**Zéntnerlast** *f* -, -en *перан.* ця́жар, прыгнёт, ярмó
**zéntnerschwer** *a перан.* вéльмі ця́жкі
**zéntnerweise** *adv* цэ́нтнерамі
**zentrál** *a* цэнтрáльны, галóўны
**Zentrále** *f* -, -n 1) цэнтрáльная тэлефóнная стáнцыя 2) цэнтрáльны пункт, цэнтр, галóўнае аддзялéнне
**Zentrálheizung** *f* -, -en цэнтрáльнае ацяплéнне
**zentralisíeren** *vt* цэнтралізавáць, канцэнтравáць
**Zentrálkomitee** *n* -s, -s цэнтрáльны камітэ́т
**Zentrálnervensystem** [-v-] *n* -s цэнтрáльная нервóвая сістэ́ма
**zentríeren** *vt тэх.* цэнтравáць
**zentrifugál** *a фіз.* цэнтрабéжны
**Zentrifugálkraft** *f* -, -kräfte *фіз.* цэнтрабéжная сíла
**Zentrifúge** *f* -, -n *тэх.* цэнтрыфу́га
**zentripetál** *a фіз.* цэнтраімклíвы
**Zentripetálkraft** *f* -, -kräfte *фіз.* цэнтраімклíвая сíла
**Zéntriwinkel** *m* -s, - *матэм.* цэнтрáльны вýгал [кут]
**Zéntrum** *n* -s, -tren цэнтр, сярэ́дзіна
**Zéphir** [Zéphyr] *m* 1) -s зефíр (*ветрык*) 2) -s, -e зефíр (*тканіна*)
**Zépter** *n, m* -s, - скíпетр, цэ́птар; ***das ~ führen*** уладáрыць, трымáць у рукáх ўлáду; ***únter dem*** **~** пад улáдаю
**zer=** *неаддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на:* 1) *раздзяленне, раз'яднанне, раздрабленне:* zerhácken рассякáць 2) *пашкоджанне, знішчэнне*: zerschlágen* разбівáць 3) *пры дзеясловах з* «sich» – *на*

*поўнае змардаванне, знясіленне*: sich zermürben абяссілець, знясіліцца
**zerárbeiten** *vt* скрышы́ць [зні́шчыць] у працэ́се рабо́ты; ***zerárbeitete Hände*** спрацава́ныя [мазо́лістыя] ру́кі ◊ ***sich (D) den Kopf über etw. (A)*** **~** лама́ць галаву́ над чым-н.
**zerbéißen*** *vt* раску́сваць, разгрыза́ць
**zerbérsten*** *vi* (s) ло́пацца, лама́цца, трэ́скацца
**Zérberus** *m* -, -se 1) *міф.* Цэ́рбер 2) *перан. жарт.* цэ́рбер (*пільны і злы вартаўнік*)
**zerbréchen* 1.** *vt* лама́ць **2.** *vi* (s) лама́цца, разбіва́цца ◊ ***sich (D) den Kopf über etw. (A)*** **~** лама́ць сабе́ галаву́ над чым-н.
**zerbréchlich** *a* ло́мкі, кро́хкі
**Zerbréchlichkeit** *f* - ло́мкасць, кро́хкасць
**Zerbréchung** *f* -, -en 1) лама́нне, разбіва́нне 2) *юрыд.* узло́м
**zerbröckeln 1.** *vt* раздрабні́ць, (ра)скрышы́ць **2.** *vi* (s) раскрышы́цца
**zerdrücken** *vt* расці́снуць, раздушы́ць; ***éine Träne*** **~** праслязі́цца
**zerebrál** *a анат.* мазгавы́
**Zeremoníe** *f* -, -í¦en цырымо́нія, абра́д
**zeremoniéll** *a* 1) цырыманія́льны 2) цырымо́нны
**Zeremoniéll** *n* -s, -e цырымо́нія
**zeremoniös** *a* цырымо́нны
**zerfáhren* I** *vt* 1) раз’е́здзіць (*дарогу*) 2) задушы́ць, пераа́хаць
**zerfáhren II** *a* 1) раз’е́зджаны, разбі́ты (*пра дарогу*) 2) рассе́яны, разгу́блены
**Zerfáhrenheit** *f* - 1) рассе́янасць, разгу́бленасць 3) бязла́днасць, нясклáднасць
**Zerfáll** *m* -(e)s распа́д, разлажэ́нне, разру́ха
**zerfállen*** *vi* (s) 1) разва́львацца, разбура́цца 2) распада́цца, падраздзяля́цца ◊ ***er ist mit der gánzen Welt*** **~** ён злуе́цца на ўвесь свет; ***mit j-m ~ sein*** быць у сва́рцы з кім-н.
**Zerfállsprodukt** *n* -(e)s, -e праду́кт распа́ду
**zerfétzen** *vt* разрыва́ць на кава́лкі
**zerflättern** *vi* (s) разлята́цца па паве́тры, разно́сіцца ве́трам
**zerflédern** [zerfléddern] *vt* патрапа́ць, занасі́ць, парва́ць на кава́лкі
**zerfléischen 1.** *vt* парва́ць, зні́штожыць **2. ~, sich** му́чыцца, паку́таваць
**zerflíeßen*** *vi* (s) расплыва́цца; ***in Tränen*** **~** абліва́цца слязамі
**zerfréssen*** *vt* раз’яда́ць
**zerfúrchen** *vt* збаразні́ць
**zerfúrcht** *a* у змо́ршчынах
**zergéhen*** *vi* раствара́цца, растава́ць, распуска́цца; ***Bútter ~ lássen**** растапі́ць ма́сла; ***zergángener Schnee*** мо́кры снег
**zerglíedern** *vt* 1) расчляня́ць, раскладáць 2) разбіра́ць, аналізава́ць (*сказ*)
**zerhácken, zerháuen*** *vt* рассяка́ць
**zerkáuen** *vt* разжо́ўваць
**zerkléinern** *vt* раздрабня́ць, крышы́ць; драбні́ць, рэ́заць (*гародніну, садавіну*)
**zerklüften** *vt перан.* раскало́ць, расчапі́ць
**zerknácken** *vt* 1) разгрыза́ць 2) раско́лваць (*шчыпцамі*)
**zerknállen 1.** *vt* разбіва́ць **2.** *vi* (s) узрыва́цца, ло́пацца
**zerknírschen** *vt* **1**. раздушы́ць (*што-н. з хрустам*); *перан.* раздаві́ць, зні́шчыць
**Zerknírschung** *f* - знішчэ́нне, зруйнава́нне, разбурэ́нне
**zerkníttern**, **zerknüllen** *vt* змя́ць, скамячы́ць; ***ganz zerkníttert sein*** быць зусі́м [ца́лкам] прыгне́чаным
**zerkóchen 1.** *vt* разва́рваць **2.** *vi* (s) разва́рвацца
**zerkrätzen** *vt* разадра́ць, раздзе́рці
**zerlássen*** *vt* растапі́ць, распусці́ць (*масла, воск і г.д.*)
**zerlégbar** *a* 1) раскладáльны (*аб рэчыве*) 2) разбо́рны
**zerlégen** *vt* 1) раскладáць (*тс. перан.*) 2) разбіра́ць (*тс. грам.*)
**zerlésen*** *vt* зачыта́ць да дзі́рак (*кнігу*)
**zerlöchern** *vt* прадзіра́віць, зрашэ́ціць
**zerlúmpt** *a* абарва́ны, у лахмана́х
**zermálmen** *vt* 1) драбні́ць, крышы́ць, размо́лваць 2) *тэх.* плю́шчыць 3) знішча́ць
**zermártern 1.** *vt* зму́чыць, замардава́ць; ***sich (D) den Kopf*** **~** лама́ць сабе́ галаву́ **2. ~, sich** зму́чыцца, нацярпе́цца
**zermürben** *vt* аслабля́ць, знясі́льваць

**zernágen** *vt* згры́зці, стачы́ць (*пра чарвякоў*)
**zerpflücken** *vt* 1) абрыва́ць (*пялёсткі*); парва́ць, растрапа́ць 2) разбіра́ць (*крытычна*)
**zerplátzen** *vi* (s) парва́цца, ло́пнуць, трэ́снуць; ***er zerplátzte beináhe vor Wut*** ён ама́ль не ло́пнуў ад зло́сці
**zerpúlvern** *vt* 1) ператвары́ць у парашок 2) распыля́ць
**zerquétschen** *vt* 1) расці́снуць, раздушы́ць; *перан.* раздаві́ць
**zerráufen** *vt* растрапа́ць
**Zérrbild** *n* -(e)s, -er карыкату́ра, скажо́нае адлюстрава́нне
**zerréden** *vt* сапсава́ць сваі́мі размо́вамі
**zerréiben*** *vt* 1) сціра́ць (*у парашок*) 2) знясі́льваць; знішча́ць
**zerréißbar** *a* які́ рве́цца
**zerréißen*** **1.** *vt* раздзіра́ць **2.** *vi* (s) (па)рва́цца, разарва́цца; знасі́цца
**Zerréiß|festigkeit, ~grenze** *f* - мяжа́ трыва́ласці на разры́ў
**Zerréißprobe** *f* -, -n выпрабава́нне на разры́ў
**Zerréißung** *f* - 1) разры́ў 2) *перан.* разры́ў, раско́л, раздзяле́нне
**zérren** *vt* ту́заць, цягну́ць, рваць ◊ ***j-n durch den Schmutz [Kot] ~, j-n in den Staub ~*** га́ньбіць, знеслаўля́ць каго́-н.; ***die Tátsachen an die Öffentlichkeit ~*** перадава́ць гало́снасці які́я-н. фа́кты
**zerrínnen*** *vi* (s) 1) расцяка́цца, расплыва́цца 2) прапада́ць ◊ ***wie gewónnen, so zerrónnen*** ≅ як нажы́та, так і пражы́та
**zerríssen** *a* разарва́ны, разадра́ны
**Zerríssenheit** *f* - раздро́бленасць
**Zérrspiegel** *m* -s, - крыво́е люстэ́рка
**Zérrung** *f* -, -en 1) ту́занне 2) *мед.* расцяжэ́нне
**zerrúpfen** *vt* расску́бці
**zerrütten** *vt* разбура́ць, разбіва́ць; расхі́стваць
**Zerrüttung** *f* -, -en разбурэ́нне, разру́ха; расхі́станасць, разла́джанасць
**zerschéllen** **1.** *vi* (s) разбі́цца, раздрабні́цца **2.** *vt* раздрабня́ць, разбіва́ць на кава́лкі (*з трэскам, звонам*)
**zerschíeßen*** *vt* расстрэ́льваць, разбура́ць агнём
**zerschlágen*** **1.** *vt* 1) разбіва́ць; ***sich wie ~ fühlen*** адчува́ць сябе́ разбі́тым 2) разграмі́ць, зні́шчыць **2. ~, sich** разбіва́цца; цярпе́ць крушэ́нне; ***die Sáche hat sich ~*** нічо́га (з гэ́тага) не вы́йшла
**Zerschlágung** *f* -, -en разрушэ́нне, знішчэ́нне, крах
**zerschléißen*** *vt* зно́шваць
**zerschméißen*** *vt разм.* разбіва́ць
**zerschmélzen*** **1.** *vt* расплаўля́ць **2.** *vi* (s) расплаўля́цца, раста́ць
**zerschméttern** *vt* 1) разбі́ць, раздрабні́ць 2) разграмі́ць
**Zerschmétterung** *f* -, -en 1) раздрабне́нне 2) разгро́м
**zerschnéiden*** *vt* разрэ́заць; ***zerschníttenes Gelände*** перасе́чаная мясцо́васць
**zersétzen** *vt* расклада́ць, дзялі́ць на ча́сткі; *перан.* дэзарганізо́ўваць
**zerspálten** *vt* раско́лваць, расшчапля́ць (*тс. хім.*)
**zerspánen** *vt* рэ́заць (*метал*)
**zersplíttern** **1.** *vt* 1) раздрабня́ць 2) распыля́ць (*сілы*) 3) непрадукцы́йна расхо́даваць час **2.** *vi* (s) раскрышы́цца на дро́бныя ча́сткі
**Zersplítterung** *f* -, -en раздро́бленасць, распы́ленасць, раско́л
**zerspréngen** *vt* 1) разрыва́ць; узрыва́ць 2) разганя́ць (*натоўп*)
**zerspríngen*** *vi* (s) ло́пацца, раздзіра́цца, разлята́цца на кава́лкі
**zerstámpfen** *vt* 1) растапта́ць 2) растаўчы́ (*у парашок*)
**zerstäuben** *vt* распыля́ць, рассе́йваць (*тс. перан.*)
**Zerstäuber** *m* -s, - распыля́льнік, пульверыза́тар; фарсу́нка
**Zerstäubung** *f* -, -en распыле́нне, рассе́йванне (*тс.перан.*)
**zerstéchen*** *vt* скало́ць, пакало́ць
**zerstíeben*** *vi* (s) рассыпа́цца; разлята́цца; рассе́йвацца (*тс.перан.*)
**zerstören** *vt* разбура́ць, раскіда́ць; пса-

ва́ць, знішча́ць; ***j-s Glück*** ~ разла́дзіць чыё-н. шча́сце

**Zerstörer** *m* -s, - 1) разбура́льнік 2) *марск.* эска́драны мінано́сец; *ав.* знішча́льнік-бамбардзіро́ўшчык

**Zerstörung** *f* -, -en 1) разбурэ́нне, спусташэ́нне 2) парушэ́нне

**Zerstörungskraft** *f* -, -kräfte разбура́льная сіла

**Zerstörungswut** *f* - вандалі́зм

**zerstréuen 1.** *vt* 1) рассе́йваць, распыля́ць; ***j-s Verdácht*** ~ рассе́йваць чые́-н. падазрэ́нні 2) адця́гваць ува́гу **2. ~, sich** 1) рассе́яцца (*у розныя бакі*) 2) пазабаўля́цца, павесялі́цца; разве́яцца

**zerstréut** *a* 1) раскі́даны (*über A – па чым-н.*) 2) рассе́яны, няўва́жлівы 3) *фіз.* рассе́яны (*пра святло*)

**Zerstréutheit** *f* - 1) раскі́данасць 2) *перан.* рассе́янасць, няўва́жлівасць

**Zerstréuung** *f* -, -en 1) рассе́йванне, распыле́нне 2) рассе́янне (*святла і г.д.*) 3) рассе́янасць

**zerstückeln** *vt* 1) разбі́ць; (раз)дзялі́ць [разрэ́заць, разарва́ць] на кава́лкі; пакрамса́ць 2) *перан.* дзялі́ць на ча́сткі; драбі́ць, расчляня́ць

**Zerstückelung** *f* -, -en 1) (раз)дзяле́нне; разраза́нне 2) *перан.* драбне́нне; расчляне́нне; раско́л

**zertéilbar** *a* які́ дзе́ліцца, які́ мо́жа дзялі́цца

**zertéilen 1.** *vt* 1) дзялі́ць [разраза́ць] на ча́сткі; расклада́ць 2) раздзяля́ць, размярко́ўваць **2. ~, sich** раздзяля́цца, размярко́ўвацца; ***die Geschwúlst zertéilte sich*** пухлі́на спа́ла

**Zertéilung** *f* -, -en 1) (раз)дзяле́нне; разраза́нне 2) *мед.* разрушэ́нне

**Zertifikát** *n* -(e)s, -e пасве́дчанне, сертыфіка́т

**zertrámpeln** *vt* растапта́ць

**zertrénnen** *vt* распо́рваць (*сукенку і г.д.*)

**zertréten*** *vt* растапта́ць

**zertrümmern** *vt* разбуры́ць; разбі́ць (*шкло*); ***Atóme*** ~ расшчапля́ць а́тамы

**Zertrümmerung** *f* -, -en разрушэ́нне, разгро́м; раздаў́ліванне; раздрабле́нне

**Zervelátwurst** [tser- *i* -zer] *f* -, -würste сервела́т (*гатунак каўбас*)

**zerwühlen** *vt* прыво́дзіць у беспара́дак

**Zerwürfnis** *n* -ses, -se разры́ў; сва́рка; спрэ́чка

**zerzáusen** *vt* растрапа́ць

**zerzáust** *a* растрапа́ны

**Zessión** *f* -, -en 1) *юрыд.* усту́пка 2) *эк.* перада́ча право́ў

**Zéter: ~ *und Mórd(io) schréien**** *разм.* крыча́ць гвалт; клі́каць на дапамо́гу; крыча́ць на ўсё го́рла

**Zétergeschrei** *n* -(e)s, -e ля́мант, крык; ***ein ~ ánstimmen*** падня́ць (страшэ́нны) ля́мант [крык]

**zétern** *vi* 1) *разм.* лямантава́ць, крыча́ць ва ўсё го́рла 2) крыча́ць, ла́яцца

**Zéttel** *m* -s, - 1) запі́ска 2) этыке́тка, цэ́тлік; афі́ша

**Zeug** *n* -(e)s, -e 1) ткані́на, матэ́рыя 2) рэ́чы, прыла́ды; ***was soll ich mit dem ~ ánfangen*?*** што мне з гэ́тым рабі́ць? 3) *разм.* глу́пства, лухта́; ***dúmmes [álbernes]*** ~ глу́пства, ду́расць; ***glaub nur das ~ nicht*** не вер гэ́таму глу́пству ◊ ***das ~ zu etw. (D) háben*** мець здо́льнасць да чаго́-н.; ***j-m etw. am ~e flícken*** прыдзіра́цца да каго́-н. з-за чаго́-н.; ***was das ~ hält*** што ёсць сі́лы; ***er schúftet was das ~ und Léder hält*** ≅ ён працу́е як вол; ***tüchtig ins ~ géhen****, ***sich tüchtig ins ~ légen*** узя́цца за спра́ву закаса́ўшы рукавы́

**Zéugamt** *n* -(e)s, -ämter *вайск.* арсена́л; рэ́чавы склад

**Zéuge** *m* -n, -n све́дка; ***j-n zum ~n [als ~n] ánrufen**** заклі́каць [браць] каго́-н. у све́дкі

**zéugen I** *vi* 1) дава́ць паказа́нні, све́дчыць (*von D – пра што-н.*); ***für [gégen] j-n*** ~ выступа́ць све́дкай на кары́сць [супро́ць] каго́-н.

**zéugen II** *vt* зача́ць; нараджа́ць

**Zéugenaussage** *f* -, -n паказа́нне све́дкі; све́дчанне

**Zéugenschaft** *f* - выступле́нне ў я́касці

свéдкі
**Zéugenvernehmung** *f* -, -en дóпыт свéдкаў
**Zéughaus** *n* -es, -häuser арсенáл, збраёўня, цэ́йхгауз; рэ́чавы склад
**Zéugnis** *n* -ses, -se 1) (па)свéдчанне (*аб паспяховасці*); атэстáт 2) *юрыд.* паказáнне (*сведак*); ~ ***áblegen*** давáць паказáнне, свéдчыць 3) *бібл.* Слóва Бóжае
**Zeugs** *n* - *разм. пагардл.* 1) штýка, рэч 2) лухтá, абы-штó
**Zéugung** *f* -, -en 1) зачáцце; стварэ́нне
**Zéugungsakt** *m* -(e)s, -e палавы́ акт; злýчка
**Zéugungstrieb** *m* -(e)s, -e палавы́ інсты́нкт
**Zeus** *m* - *міф.* Зеўс
**Zichori¦e** [-ˈço:- *і* -ˈko:-] *f* -, -n *кул., бат.* цыкóрый
**Zícke** *f* -, -n 1) казýля (*самка*) 2) прастытýтка, шлёндра 3) *pl разм.* капры́зы, вы́думкі, штýчкі ◊ ***~n máchen [báuen]*** *разм.* дурэ́ць, свавóліць; выкрýчвацца
**Zícklein** *n* -s, - казляня́
**Zíckzack** *m* -(e)s, -e зігзáг
**Zíder** *m* -s сідр
**Zíeche** *f* -, -n *дыял.* нáвалачка, чахóл
**Zíege** *f* -, -n 1) казá 2) *пагардл.* кля́ча, каня́жка ◊ ***die ~ muss grásen, wo sie ángebunden ist*** ≅ вéдай, катóк, свой кутóк
**Zíegel** *m* -s, - 1) цэ́гла; цаглíна 2) чарапíца, дахóўка
**Ziegelbrenneréi** *f* -, -en цагéльня, цагéльны завóд
**Zíegeldach** *n* -(e)s, -dächer чарапíчны дах
**Ziegeléi** *f* -, -en цагéльня
**zíegelrot** *a* цагéльнага кóлеру
**Zíegelstein** *m* -(e)s, -e цаглíна
**Zíegenbart** *m* -(e)s, -bärte казлíная барадá
**Zíegenbock** *m* -(e)s, -böcke казёл
**Zíegenleder** *n* -s шаўрó, казлíная шкýра
**Zíegenpeter** *m* -s *мед.* свíнка, зáўшніца
**Zíegenzucht** *f* - козагадóўля
**zieh** *impf ад* zéihen*
**Zíehbrunnen** *m* -s, - стýдня, калóдзеж (*з жураўлём*)
**Zíeheltern** *pl* прыёмныя бацькí
**zíehen*** **1.** *vt* 1) цягнýць; валачы́ 2) выця́гваць, вымáць; выдзёргваць, вырывáць, даставáць; ***éinen Zahn*** ~ вырывáць зуб 3) правóдзіць (*лінію, баразну і г.д.*) 4) прыця́гваць (*каго-н. да ўдзелу ў чым-н.*); ***zur Verántwortung*** ~ прыця́гваць да адкáзнасці 5) гадавáць, выхóўваць (*дзіця*); развóдзіць (*жывёл, расліны*) 6) стрóіць (*грымасу*) **2.** *vi* 1) (s) ісцí, рýхацца, цягнýцца (*масай, гуртам*); ***die Ménschen zógen auf die Stráße*** лю́дзі вы́йшлі на вýліцу 2) (s) пераязджáць (*куды-н.*); ляцéць, пералятáць (*пра птушак*) 3) цягнýць, прадзімáць; ***der Ófen zieht*** печ мáе ця́гу 4) (*mit D*) *шахм.* рабíць ход **3. ~, sich** 1) цягнýцца; распасцірáцца 2) (*in A*) пранікáць (*у што-н.*) 3): ***die Sáche zieht sich in die Länge*** спрáва заця́гваецца
**Zíehgurt** *m* -(e)s, -e ля́мка; шлéйка
**Zíehharmonika** *f* -, -ken *і* -s гармóнік
**Zíehkind** *n* -(e)s, -er выхавáнец
**Zíehmutter** *f* -, -mütter прыёмная мáці
**Zíehung** *f* -, -en 1) тырáж; рóзыгрыш 2) жараб'ёўка, лёсаванне
**Ziel** *n* -(e)s, -e 1) мэ́та; ***sich (D) ein ~ stécken [sétzen]*** пастáвіць сабé мэ́ту; ***hóhe ~e verfólgen*** стáвіць пéрад сабóй высóкія мэ́ты; ***auf sein ~ lóssteuern*** імкнýцца да сваёй мэ́ты; ***éiner Sáche ein ~ sétzen*** паклáсці канéц чамý-н. 2) *спарт.* фíніш; ***durchs ~ géhen**** фінішавáць 3) *вайск.* цэль, аб'éкт, мішэ́нь; ***tótes*** ~ нерухóмая цэль [мішэ́нь]; ***das ~ tréffen**** папáсці ў цэль; ***das ~ verféhlen*** прамахнýцца, не папáсці ў цэль; *перан.* не дасягнýць мэ́ты 4) *камерц.* тэ́рмін 5) плáнавая лíчба, задáнне, прагрáма
**Zíelanflug** *m* -(e)s, -flüge *вайск., ав.* вы́хад на цэль
**Zíelaufklärung** *f* -, -en *вайск.* развéдка цэ́лей
**Zíelband** *n* -(e)s, -bänder *спарт.* фíнішная стýжка
**zíelbewusst** *a* мэтанакíравáны, свядóмы
**zíelen** *vi* 1) (*auf A, nach D, in A*) цэ́ліць(-цца), мéціць (*у што-н.*) 2) (*auf A, nach D*) імкнýцца (*да чаго-н.*), дабівáцца

(*чаго-н.*) 3) (*auf A*) мець на ўвáзе (*што-н.*), намякáць (*на што-н.*)

**zíelend** *a*: ***~es Zéitwort*** *грам.* перахóдны дзеяслóў

**Zíelfernrohr** *n* -(e)s, -e *вайск.* апты́чны прыцэ́л

**Zíelgebiet** *n* -(e)s, -e *вайск.* раён абстрэ́лу, цэль

**Zíelgerade** *sub f* -, -n *спарт.* фíнішная прамáя

**zíelgerichtet** *a* мэтанакíраванáны

**Zíelkorn** *n* -(e)s, -e мýшка (*прыцэльная*)

**Zíelkurve** [-və] *f* -, -n *спарт.* апóшні вíрáж [паварóт]

**zíellos** *a* бязмэ́тны

**Zíelpunkt** *m* -(e)s, -e 1) канцавы́ пункт 2) *вайск.* крóпка прыцэ́ла

**Zíelrichter** *m* -s, - *спарт.* суддзя́ на фíнішы

**Zíelscheibe** *f* -, -n мішэ́нь; ***j-n zur ~ des Spóttes máchen*** зрабíць кагó-н. аб'éктам насмéшак [кпíнаў]

**zíelsicher** *a* 1) мéткі, трáпны 2) упэ́ўнены 3) мэтанакíраваны

**zíelstrebig** *a гл.* zíelgerichtet

**Zíelstrebigkeit** *f* - мэтанакíравáнасць

**Zíelverlegung** *f* -, -en *вайск.* перанóс агню́

**zíemen** *vi i* **~, sich** падыхóдзіць, налéжаць; ***er weiß nicht, was sich ziemt*** ён не вéдае, як сябé павóдзіць; ***es ziemt mir nicht, darüber zu úrteilen*** мне нéльга дýмаць [меркавáць] аб гэ́тым

**zíemend** *a* налéжны, адпавéдны

**Zíemer** *m* -s, - 1) хваставáя [хрыбéтная] чáстка, азáдак, агýзак (*дзічыны*) 2) кнут, біч, бізýн

**zíemlich 1.** *a* дóсыць, давóлі; ~ ***groß [gut, bedeutend]*** досыть [давóлі] вялíкі, [дóбры, знáчны] **2.** *adv* дóсыць, давóлі, параўнáльна

**zíepen** *vi дыял.* пíскаць, чыры́каць (*пра птушак*)

**Zier** *f* -, **Zíerat** *m* -(e)s, -e *паэт.* аздóба, красá, упрыгóжанне

**Zíerbaum** *m* -(e)s, -bäume дэкараты́ўнае дрэ́ва

**Zíerde** *f* -, -n 1) аздóба, упрыгóжанне 2) *перан.* красá

**zíeren 1.** *vt* аздабля́ць, упрыгóжваць **2. ~, sich** 1) упрыгóжваць сябé 2) крыўля́цца, манéрыцца, цырымóніцца

**Ziereréi** *f* -, -en манéрнасць, крыўля́нне

**Zíerfisch** *m* -es, -e дэкараты́ўная ры́бка

**Zíerleiste** *f* -, -n дэкараты́ўная плáнка [лíштва]; *палігр.* віньéтка

**zíerlich** *a* згрáбны, грацыёзны, вы́танчаны

**Zíerlichkeit** *f* - грацыёзнасць; вы́танчанасць, прыгажóсць

**Zíerpflanze** *f* -, -n дэкараты́ўная раслíна

**Zíerpuppe** *f* -, -n манéрніца, кісéйная панéнка

**Zíesel** *m, n* -s, -, **~maus** *f* -, -mäuse *заал.* сýслік

**Zíffer** *f* -, -n 1) лíчба; ***mit ~n bezéichnen*** адзначáць лíчбамі; выражáць у лíчбах [цы́фрах]; ***in ~n schréiben**** запісáць лíчбамі; ***áufgebauschte ~n*** дýтыя лíчбы 2) арты́кул, парáграф 3) шыфр

**Zífferblatt** *n* -(e)s, -blätter цыферблáт

**zíffernmäßig 1.** *a* лíчбавы **2.** *adv* 1) кóлькасна 2) у лíчбах; на падстáве лíчбаў

**Zífferschrift** *f* -, -en шыфр

**Zigarétte** *f* -, -n цыгарэ́та [сігарэ́та], папярóса; ***sich (D) éine ~ ins Gesícht stécken*** закуры́ць цыгарэ́ту

**Zigaréttenetui** [-ɛtvi:] *n* -s, -s партабáк, партсігáр

**Zigaréttenkippe** *f* -, -n акýрак

**Zigaréttenpackung** *f* -, -en пáчак цыгарэ́т [папярóсаў]

**Zigaréttenrauch** *m* -(e)s папярóсны дым

**Zigaréttenspitze** *f* -, -n муштýк

**Zigaréttenstummel** *m* -s, - *гл.* Zigaréttenkippe

**Zigaréttentöter** *m* -s, - тушы́лка для сігарэ́т

**Zigaríllo** *n, m* -s, -s, *f* -, -s *разм.* цыгáрка, малéнькая цыгáрка

**Zigárre** *f* -, -n цыгáра; ***sich (D) éine ~ ánstecken [ánbrennen*], éine ~ ins Gesícht stécken*** *разм.* запалíць сігáру

**Zigárrenetui** [-ɛtvi:] *n* -s, -s *гл.* Zigaréttenetui

**Zigárrenkiste** *f* -, -n сігáрная карóбка

**Zigárrenspitze** *f* -, -n муштýк для сігáр

**Zigárrenstummel** *m* -s, - акýрак сігáры
**Zigéuner** *m* -s, - цыгáн
**zigéunerhaft 1.** *a* цыгáнскі **2.** *adv* на цыгáнскі лад
**zigéunerisch** *a* цыгáнскі
**Zigéunerlager** *n* -s, - цыгáнскі тáбар
**Zikáde** *f* -, -n *заал.* цыкáда
**Zílle** *f* -, -n 1) бáржа 2) *бат.* пралéска
**Zímbel** *f* -, -n *муз.* цымбáлы
**Zímmer** *n* -s, - пакóй; кабінéт; нýмар (*у гатэлі*); ***das ~ máchen*** прыбрáць пакóй; ***das ~ hüten*** сядзéць дóма (*з прычыны хваробы*)
**Zímmerarrest** *m* -es, -e хáтні áрышт
**Zimmeréi** *f* - цяслярства
**Zímmereinrichtung** *f* -, -en абсталявáнне пакóя
**Zímmerer** *m* -s, - цясляр
**Zímmerhandwerk** *n* -(e)s цяслярства, цяслярскія рабóты
**Zímmerholz** *n* -es будаўнíчы лес, будаўнíчы лесаматэрыял
**Zímmerlautstärke** *f* - сярэ́дняя гýчнасць (*голаса, радыёапаратуры*)
**Zímmermädchen** *n* -s, - пакаёўка
**Zímmermann** *m* -(e)s, -leute *гл.* Zímmerer ◊ ***j-m zéigen, wo der ~ das Loch gelássen hat*** *разм.* вы́правадзіць кагó-н.
**zímmern** *vt, vi* цяслярыць, майстравáць; будавáць; ***sich (D) séine Zúkunft ~*** уладкóўваць сваю бýдучыню
**Zímmernachbar** *m* -n, -n сусéд па пакóі
**Zímmernachweis** *m* -es, -e кватэ́рнае бюрó
**Zímmerpflanze** *f* -, -n хáтняя раслíна
**Zímmerung** *f* -, -en 1) *буд.* зруб 2) *горн.* умацавáнне шáхты
**zímperlich** *a* манéрны, цырымóнны, перабóрлівы
**Zímperlichkeit** *f* -, -en манéрнасць, перабóрлівасць, цырымóннасць
**Zímperliese** *f* -, -en *разм.* манéрніца, крыўляка; недаты́ка, незачэ́па
**zímpern** *vt* манéрыцца, цырымóніцца, чапуры́цца
**Zimt I** *m* -(e)s лухтá, глýпства; хлам ◊ ***mach nicht so viel ~!*** не валавóдзь!, не марýдзь!, не цягнí!
**Zimt II** *m* -(e)s, -e *кул.* кары́ца
**zímtbraun** *a* кары́чневы
**Zink** *n* -(e)s *хім.* цынк; ***mit ~ überzíehen**** ацынкавáць
**Zínkblech** *n* -(e)s *тэх.* цы́нкавая бляха
**Zínke** *f* -, -n зубéц, зуб (*грабляў, відэльца*)
**zínken** *a* цы́нкавы
**Zínken** *m* - *i* -s, - *разм.* вялíкі нос
**Zínkweiß** *n* -es цы́нкавыя бялíлы
**Zinn** *n* -(e)s *хім.* вóлава, цынк
**Zínne** *f* -, -n вóстры вы́ступ; зýбец (*сцяны*)
**zínnen** *vt* лудзíць
**zínnern** *a* алавяны
**Zinnóber** *m* -s кінавáр (*мінерал, фарба*) 2) *разм.* лухтá, абы-штó
**zinnóberrot** *a* кóлеру чырвóнай кінавáры
**Zínnsoldat** *m* -en, -en алавяны салдáцік
**Zins I** *m* -es, -e 1) арэ́ндная плáта 2) *гіст.* аброк, чынш
**Zins II** *m* -es, -en працэ́нт; ***von den ~en lében*** жыць на працэ́нты (*з капіталу*); ***~en trágen* [bríngen*]*** прынóсіць [давáць] працэ́нты; ***etw. mit ~ und Zínseszins zurückgeben**** вярнýць што-н. у сто разóў
**zínsbar** *a* які прынóсіць працэ́нты
**zínsen I** *vt* плацíць арэ́ндную [кватэ́рную] плáту; *рэдка* атры́млівацъ арэ́ндную плáту
**zínsen II** *vt* плацíць працэ́нты; *рэдка* атры́мліваць працэ́нты
**Zínsberechnung** *f* -, -en *эк.* вылічэ́нне працэ́нтаў
**Zínseszinsen** *pl* складáныя працэ́нты
**zínsfrei** *a* вы́звалены ад падáткаў, беспрацэ́нтны
**Zínsfuß** *m* -es, -füße *эк.* працэ́нтная стáўка
**zínslos** *a эк.* беспрацэ́нтны
**zínspflichtig** *a* які павíнен плацíць падáткі
**Zinsrechnung** *f* -, -en *матэм.* вылічэ́нне працэ́нтаў
**Zínssatz** *m* -es, -sätze працэ́нтная стáўка, памéр працэ́нтаў; працэ`нт за крэды́т
**Zínsschein** *m* -(e)s, -e працэ́нтны купóн
**zínstragend** *a* які прынóсіць працэ́нты [дахóд]
**Zípfel** *m* -s, - 1) кóнчык, краёк 2) крысó

◊ ***etw. beim réchten ~ ánfassen [ánpacken]*** умéла ўзя́цца за што-н.

**zípfelig** *a* 1) востраканéчны 2) з кóнчыкамі

**Zípfelmütze** *f* -, -n шáпачка з кутáсам, начны́ каўпáк

**Zípfeltuch** *n* -(e)s, -tücher хусцíнка

**Zipp:** ***nicht ~ ságen*** *разм.* не смець [бая́цца] пíкнуць

**Zírbe(l)** *f* -, -n кедр еўрапéйскі

**Zírbeldrüse** *f* -, -n *мед.* шышкападóбная залóза

**Zírbelnuss** *f* -, -nüsse кéдравы арэ́х

**zírka** *adv* каля́, прыблíзна

**Zírkel** *m* -s, - 1) цы́ркуль 2) круг, кóла 3) гуртóк; кампáнія; ***etw. im ~ behándeln*** абмяркóўваць што-н. у гуртку́ 4) цыкл; цыркуля́цыя, кругабéг

**Zírkelabschnitt** *m* -(e)s, -e *матэм.* сегмéнт кру́га

**zírkelförmig** *a* кру́глы

**zírkeln 1**. *vt* вымярáць цы́ркулем **2.** *vi i* **~, sich** круцíцца

**zírkelrund** *a* зусíм кру́глы

**Zírkelschluss** *m* -es, -schlüsse зачараванае кóла

**zirkulár** [zirkulär] *a* (зусíм) кру́глы

**Zirkulatión** *f* -, -en 1) цыркуля́цыя 2) *эк.* абарачэ́нне

**Zirkulatiónskosten** *pl эк.* выдáткі абарачэ́ння

**zirkulíeren** *vi* цыркулявáць, быць [знахóдзіцца] у абарачэ́нні; ~ ***lássen**** пускáць у абарачэ́нне; *перан.* распускáць (*чуткі*)

**zirkulíerend** *a*: ***~es Kapitál*** абарóтны капітáл

**Zirkumfléx** *m* -es, -e цыркумфлéкс (*фанетычны знак*)

**Zírkus** *m* -, -se цырк

**Zírpe** *f* -, -n *заал.* цвыркýн; кóнік

**zírpen** *vi* цвы́ркаць, стракатáць

**Zirrhose** [tsirˈo:zə] *f* - *мед.* цырóз

**Zírruswolke** *f* -, -n пéрыстае вóблака

**Zischeléi** *f* -, -en перашэ́птванне, шушу́канне, шаптáнне

**zíscheln 1.** *vi* шаптáцца **2.** *vt* шаптáць; ins ***Ohr*** ~ шаптáць на вýха

**zíschen** *vi* 1) шыпéць 2) шыпéць, шы́каць ◊ ***éinen ~*** *разм.* вы́піць кýфель (піва)

**Zíschlaut** *n* -(e)s, -e *лінгв.* шыпя́чы [свісця́чы] гук

**ziselíeren** *vt* чакáніць, гравíравáць

**Ziselíerer** *m* -s, - чакáншчык, гравёр

**Zistérne** *f* -, -n 1) цыстэ́рна 2) бóчка-вадазбóрнік

**Zitadélle** *f* -, -n цытадэ́ль, зáмак, фартэ́цыя

**Zitát** *n* -(e)s, -e цытáта

**Zitatión** *f* -, -en вы́клік (*да начальніка, у суд і г.д.*)

**Zither** [ˈts-] *f* -, -n *муз.* цы́тра; ~ ***schlágen* [stréichen*]*** ігрáць на цы́тры

**zitíeren** *vt* 1) цытавáць 2) выклікáць (*у суд і г.д.*)

**Zitróne** *f* -, -n лімóн; ***éine áusgepresste ~*** вы́цíснуты лімóн (*тс. перан.*)

**Zitrónenfalter** *m* -s, - *заал.* лімóнніца

**Zitrónensaft** *m* -(e)s лімóнны сок

**Zitrónenschale** *f* -, -n лімóнная скýрка

**Zítrusfrüchte** *pl* цы́трусавыя

**Zítteraal** *m* -(e)s, -e *заал.* вугóр электры́чны

**zítterhaft, zítterig** *a* дрыгóткі, якí калóціцца

**zíttern** *vi* 1) дрыжáць, трэ́сціся, калацíцца; ***vor Angst [Kälte]*** ~ дрыжáць ад стрáху [хóладу] 2) (*vor D*) дрыжáць (*перад кім-н.*), бая́цца (*каго-н.*); ***um j-n ~*** бая́цца за кагó-н. 3) дрыжáць, вібры́раваць

**Zittern** *n* -s 1) дрыжáнне; ***mit ~ und Zágen*** са стрáхамі і трапятáннем 2) дрыжáнне, вібры́раванне

**Zítterpappel** *f* -, -n *бат.* асíна

**zíttrig** *гл.* zítterhaft

**Zítze** *f* -, -n *разм.* 1) сасóк, цы́цка 2) вы́мя, дóйла

**zivil** [-ˈvi:l] *a* 1) цывíльны 2) вéтлівы, шляхéтны

**Zivil** [-ˈvi:l] *n* -s цывíльныя (лю́дзі), грамадзя́нскае насéльніцтва 2) цывíльная вóпратка; ***in ~ géhen****, ~ ***trágen**** хадзíць у цывíльнай вóпратцы

**Zivilcourage** [tsiˈvi:lkura:ʒə] *f* - грама-

дзя́нская му́жнасць
**Zivilehe** [-ˈvi:l-] *f* -, -n грамадзя́нскі шлюб
**Zivílgesetzbuch** [-ˈvi:l-] *n* -(e)s, -bücher *юрыд.* грамадзя́нскі ко́дэкс
**Zivilisatión** [-vi-] *f* -, -en цывілізá́цыя
**zivilisíeren** [-vi-] *vt* цывілізавá́ць
**zivilisíert** [-vi-] *a* цывілізавá́ны
**Zivilíst** [-vi-] *m* -en, -en цыві́льная асо́ба
**Zivílklage** [-ˈvi:l-] *f* -, -n *юрыд.* грамадзя́нскі іск
**Zivílrecht** [-ˈvi:l-] *n* -(e)s *юрыд.* грамадзя́нскае [цыві́льнае] прáва
**Ziviltrauung** [-ˈvil:-] *f* -, -en грамадзя́нскі шлюб
**Zóbel** *m* -s, - со́баль (*жывёла і футра*)
**Zóbelfell** *n* -(e)s, -e сабалі́нае фу́тра
**zóckeln** *vi* 1) бе́гчы [е́хаць] трушко́м; тру́хаць 2) паво́льна ісці́; пле́сціся
**Zófe** *f* -, -n *гіст.* пакаёўка, камеры́стка
**Zoff** *m* -s *разм.* зло, свáрка
**zog** *impf ад* zíehen*
**zögern** *vi* вагá́цца, мару́дзіць, не асме́львацца
**Zögling** *m* -s, -e выхавá́нец, гадуне́ц
**Zölibát** *n, m* -(e)s *царк.* цэлібáт, бясшлю́бнасць
**Zoll I** *m* -(e)s, - цá́ля, дзюйм (*мера даўжыні*); ***drei ~ stark*** таўшчынёй у тры дзю́ймы; ***kéinen ~ breit wéichen**** не адступі́ць ні кро́ку
**Zoll II** *m* -(e)s, -Zölle 1) по́шліна; мы́тны збор; *гіст.* мы́та 2) *без pl* мы́тня, тамо́жня 3) дані́на; ***der Natúr séinen ~ entríchten*** аддá́ць дані́ну пры́родзе (*памерці*)
**Zóllabfertigung** *f* - мы́тны кантро́ль [дагля́д]
**Zóllabgaben** *pl* мы́тныя збо́ры
**Zóllamt** *n* -(e)s, -ämter мы́тня
**zóllamtlich** *a* мы́тны
**zóllbar** *a* які́ абкладá́ецца падá́ткам
**Zóllbeamte** *sub m, f* -n, -n мы́тнік, -ніца
**Zóllbreit:** ***kéinen ~ Lándes ábtreten**** не ўступі́ць ні пя́дзі зямлі́
**Zólldeklaration** *f* -, -en мы́тная дэклара́цыя
**zóllen** *vt* 1) плаці́ць (*мыта*) 2) *гіст.* плаці́ць (*даніну*) 3) ***j-m Áchtung ~*** акá́зваць каму́-н. (нале́жную) пашá́ну [павá́гу]; ***j-m Béifall ~*** выкá́зваць каму́-н. адабрэ́нне; ***j-m Dank ~*** выкá́зваць каму́-н. падзя́ку; ***j-m Bewúnderung ~*** выкá́зваць каму́-н. захапле́нне, захапля́цца кім-н.
**zóllfrei** *a* бязмы́тны, які́ не абкладá́ецца мы́там
**Zóllgebühr** *f* -, -en мы́тны падá́так, мы́тная по́шліна
**Zóllkontrolle** *f* -, -n мы́тны кантро́ль [дагля́д]
**zólllang** *a* даўжынёй у (адну́) цá́лю
**Zöllner** *m* -s, - *гіст.* збо́ршчык падá́ткаў, мы́тнік
**zóllpflichtig** *a* які́ абкладá́ецца мы́там [по́шлінай]
**Zóllrevision** [-vi-] *f* -, -en мы́тны дагля́д
**Zóllschranke** *f* -, -n мы́тны бар’е́р
**Zóllsicherung** *f* -, -en *эк.* пратэкцыяні́сцкая сістэ́ма
**Zóllstab** *m* -(e)s, -stäbe лі́нейка з цалёвымі дзяле́ннямі [цалёвым маштá́бам]
**Zólltarif** *f* -(e)s, -e мы́тны тары́ф
**Zóll|verband** *m* -(e)s, -bände, **~verein** *m* -(e)s, -e мы́тны саю́з
**Zóllverschluss**: ***únter ~*** на склá́дзе мы́тні
**zonál, zonár** *a* занá́льны
**Zóne** *f* -, -n зо́на, сфе́ра; по́яс (*кліматычны*)
**Zóo** *m* - *i* -s, -s заалагі́чны сад, заапá́рк
**Zo¦ologíe** *f* - заало́гія
**zo¦ológisch** *a* заалагі́чны
**Zoom** [zu:m] *n* -s, -s *фота, кіно* зум (*аб’ектыў*)
**Zopf** *m* -(e)s, -Zöpfe 1) касá́ (*валасы*); ***das Háar zu éinem ~ fléchten*** заплятá́ць валасы́ ў касу́ 2) верхаві́на, вершалі́на (*дрэва*); ***j-m auf den ~ spúcken*** абля́яць каго́-н. ◊ ***álter ~*** пераржы́так даўніны́
**zópfig** *a* 1) з касо́й 2) *разм.* устарэ́лы
**Zorn** *m* -(e)s гнеў, лю́тасць, злосць, раз’ю́шанасць; ***séinen ~ an j-m áuslassen**** сарвá́ць свой гнеў на кім-н.; ***in ~ geráten**** раззлавá́цца, разлютавá́цца, раз’ю́шыцца
**Zórnausbruch** *m* -(e)s, -brüche вы́бух гне́ву
**zórnentbrannt** *a* які́ палá́е ад гне́ву

**zórnerfüllt** *a* пóўны гнéву, гнéўны

**zórnig** *a* гнéўны, сярдзíты, раз'юшаны, злóсны

**Zórnröte** *f* - чы́рвань гнéву

**zórnschnaubend** *a* раз'юшаны, раззлавáны, разлютавáны

**Zórnwut** *f* - ашалéласць, разлютавáнасць

**Zóte** *f* -, -n непрыстóйны жарт, непрыстóйнасць; ***~n réißen**** гавары́ць непрыстóйнасці [непрыстóйныя анекдóты]

**zóten** *vi* гавары́ць непрыстóйнасці

**zótenhaft, zótig** *a* непрыстóйны, бры́дкі

**Zóttel** *f* -, -n касмы́ль, віхóр, пук (*поўсці, валасоў*)

**zótteln** *vi* ледзь ісцí

**zóttig, zóttlig** *a* калмáты, кудлáты

**zu 1.** *prp* (*D*) 1) у, на (*пры абазначэнні месца*); ~ ***Füßen líegen**** ляжáць у нагáх 2) у, на (*пры абазначэнні часу*) ~ ***Néujahr*** на Нóвы год 3) да, у, на (*пры абазначэнні накірунку руху*) ***zur Stadt géhen**** ісцí ў гóрад 4) на (*пры абазначэнні спосаба перамяшчэння*) ~ ***Pférde réiten**** éхаць вярхóм на канí; ~ ***Schiff*** на караблí; ~ ***Fuß géhen**** ісцí пéшшу 5) для (*пры абазначэнні намечанай мэты дзеяння*) ***zur Berúhigung*** для заспакаéння 6) у (*пры абазначэнні выніку дзеяння*) ~ ***Staub*** wérden ператвары́цца ў пыл **2.** *prtc* 1) нáдта, занáдта; ~ ***groß*** (за)нáдта вялíкі 2) (*перад inf*) *не перакладаецца*: ***es ist Zeit, nach Háuse ~ géhen*** пара ісцí дамóў; ***die Réchnung ist ~ begléichen**** рахýнак трэ́ба аплацíць **3.** *adv*: ***die Tür ist ~*** дзвéры зачы́нены; ***mach ~!*** хутчэ́й!

**zu=** *аддз. дзеясл. прыстаўка, указвае на:* 1) *напрамак куды-н*: zúfließen* прыплывáць, прыцякáць 2) *закрыццё*: zúmachen зачыня́ць 3) *дабаўленне*: zúgießen* далівáць 4) *прысваенне, прыпісванне чаго-н.*: j-m etw. zúsprechen* прысвóіць камý-н. што-н.; zúschreiben* прыпíсваць

**zuallerérst** *a* перш за ўсё, найпéрш, у пéршую чаргý

**zuallerlétzt** *a* напаслéдак, пад канéц, у апóшнюю чаргý

**zuäußerst** *adv* на сáмым канцы́ чагó-н.

**Zúbau** *m* -(e)s, -ten прыбудóва

**Zúbehör** *n, m* -(e)s, -e 1) інвентáр, прылáда; арматýра 2) *тэх.* абсталявáнне 3) *марск.* рыштýнак

**zúbeißen*** *vi* схапíць зубáмі, укусíць; ***wácker ~*** *разм.* éсці з вялíкім апеты́там

**zúbekommen*** *vt* атрдмлíваць у дадáтак

**Zúber** *m* -s, - цэ́бар, чан

**zúbereiten** *vt* гатавáць (*страву, лекі*)

**Zúbereitung** *f* -, -en (пры)гатавáнне

**zúbilligen** *vt* 1) давáць згóду, дазвáляць, прызнавáць 2) (*j-m etw.*) прысуджáць (*каму-н., што-н.*)

**Zúbilligung** *f* -, -en 1) дазвóл, прызнáнне, згóда 2) прысуджэ́нне

**zúbinden*** *vt* завя́зваць

**zúblasen*** *vt* 1) задзімáць 2) *разм.* нашэ́птаваць

**zúbleiben*** *vi* (s) заставáцца зачы́неным

**zúblinzeln** *vi* (*j-m*) падмóргваць [падмíгваць] (*каму-н.*)

**zúbringen*** *vt* 1) прынóсіць, паднóсіць 2) правóдзіць (*час*) 3) (*з намаганнем*) зачынíць

**Zúbringer** *m* -s, - 1) срóдак трáнспарту для падвóзкі пасажы́раў (*да вакзала, аэрапорта, санаторыя і г.д.*) 2) канвéер

**Zúbringerbetrieb** *m* -(e)s, -e завóд-пастаўшчы́к

**Zúbrot** *n* -(e)s закýска; *кул.* гарнíр; *разм.* падзарóбак

**zúbuttern** *vt разм.* даплáчваць, прыплáчваць

**Zucht** *f* - 1) гадóўля (*жывёл*), вырóшчванне (*раслін*) 2) выхавáнне; нагля́д; дысцыплíна; ~ ***hálten**** захóўваць дысцыплíну; ***in ~ hálten**** трымáць у паслушэ́нстве [паслухмя́насці] 3) -, -en парóда; ***verdámmte ~!*** чóртава насéнне!

**züchten** *vt* развóдзіць, вырóшчваць, гадáваць 2) трымáць у стрóгасці, карáць

**Züchter** *m* -s, - 1) садавóд 2) жывёлавóд, жывёлагадóвец

**Zúchthaus** *n* -es, -häuser кáтаржная турмá, астрóг

**Zúchthausarbeiten** *pl* кáтаржныя рабóты
**Zúchthäusler** *m* -s, - кáтаржнік
**Zúchthengst** *m* -(e)s, -e племянны́ жарабéц
**Zúchtherde** *f* -, -n племянны́ стáтак
**züchtig** *a* сарамлíвы, сцíплы, шляхéтны, прыстóйны
**züchtigen** *vt* карáць
**Züchtigkeit** *f* - сарамлíвасць, сцíпласць, шляхéтнасць, прыстóйнасць
**Züchtigung** *f* -, -en кáра, пакарáнне
**zúchtlos** *a* разбэ́шчаны, распýшчаны, бесцырымóнны
**Zúchtsau** *f* -, -säue *і* -en племянная свінамáтка
**Zúchttier** *n* -(e)s, -e *с.-г.* вытвóрнік; племянная жывёла
**Züchtung** *f* -, -en *гл.* Zucht
**Zúchtvieh** *n* -(e)s племянная жывёла
**Zúchtwahl** *f* - *с.-г.* племянны́ адбóр; ***natürliche ~*** натурáльны адбóр
**Zuck** *m* -es *разм.* уздры́гванне; раптóўны [вокамгнéнны] рух; раптóўнае пачуццё; ***in éinem ~*** мíгам, у мiг, у мóмант
**zuck!** *int* раз!, мíгам!, жвáва!
**zúckeln** *vi* ісцí [éхаць] трушкóм
**zúcken** *vi* 1) здрыганýцца 2) *перан.* блíскаць, прабягáць; ***es zuckt mir in den Fíngern*** у мянé рýкі свярбяць; ***mit den Áchseln ~*** пацiскáць плячы́ма, сцепанýць плячы́ма; ***er hat mit kéiner Wímper gezúckt*** ён і брывóм не павёў
**zücken** *vi* агаляць (*зброю*)
**Zúcker** *m* -s цýкар ◊ ***séinem Áffen ~ gében**** *разм.* даць сабé вóлю, разысцíся
**Zúckerbäckerei** *f* -, -en канды́тарская
**Zúckerbackwerk** *n* -s пéчыва, пячэ́нне
**Zúcker|büchse, ~dose** *f* -, -n цýкарніца
**Zúckerfabrik** *f* -, -en цукрóвы завóд
**Zúckergehalt** *m* -(e)s утрымáнне цýкру, цукры́стасць
**Zúckerguss** *m* -es цукрóвы глазýр
**Zúckerhut** *m* -(e)s, -hüte галóўка цýкру
**zúckerig** *a* цукрóвы, салóдкі як цýкар; *перан.* саладжáвы
**Zúckerkand** *n* -(e)s ледзянéц
**Zúckerkrankheit** *f* - цукрóвая хварóба, цукрóвы дыябéт
**zúckern I** *vt* падсалóджваць, пасыпáць цýкрам
**zúckern II** *a* цукрóвы
**Zúckerproduktion** *f* - вытвóрчасць цýкру
**Zúckerrohr** *n* -(e)s, -e ***(échtes) ~*** цукрóвы трыснёг
**Zúckerrübe** *f* -, -n цукрóвы бурáк
**Zúckerrübenanbau** *m* -(e)s культýра цукрóвых буракóў
**Zúckersaft** *m* -(e)s, -säfte сірóп
**Zúckerspiegel** *m* -(s), - працэ́нт утрымáння цýкру ў крыві́
**zúckersüß** *a* салóдкі як цýкар
**Zúckerwerk** *n* -(e)s ласýнкі; цукéркі
**Zúckerzeug** *n* -(-e)s цукéркі, прысмáкі, ласýнкі, саладóсці
**Zúckung** *f* -, -en уздры́гванне, патýзванне; канвýльсія; ***die létzen ~en éiner Sáche*** апóшняя ўспы́шка [агóнія] чагó-н.
**Zuck-Zuck: *bei dem geht álles ~*** *разм.* у ягó ўсё ідзé як мáе быць
**Zúdecke** *f* -, -n *разм.* кóўдра
**zúdecken 1.** *vt* прыкрывáць, закрывáць, накрывáць; ***durch Féuer ~*** *вайск.* узяць пад абстрэ́л **2. ~, sich** накрывáцца, закрывáцца
**zudém** *conj* акрамя тагó, к тамý ж
**zúdenken*** *vt* 1) дабáвіць уяўлéннем, прыдýмаць 2) прызначáць, падрыхтóўваць; ***díeses Geschénk ist ihm zúgedacht wórden*** гэ́ты падарýнак прызапáшаны для ягó
**Zúdrang** *m* -(e)s 1) нáціск 2) наплы́ў, прылíў
**zúdrängen, sich** 1) працíсквацца 2) напірáць; ***er drängt sich überáll zu*** *пагардл.* ён лéзе ва ўсе шчы́ліны
**zúdrehen** *vt* 1) закрýчваць (*кран*) 2): ***j-m den Rücken ~*** павярнýцца да кагó-н. спíнáй
**zúdringen*** *vi* (s) пранікáць
**zúdringlich** *a* назóйлівы, дакýчлівы; фамільярны
**Zúdringlichkeit** *f* - назóйлівасць, дакýчлівасць; фамільярнасць
**zúdrücken** *vt* заціскáць; шчы́льна зачыняць

**zúeignen** *vt* (*j-m*) прысвячáць, дары́ць (*каму-н., што-н.*); ***sich (D) etw.*** ~ прысвóіць сабé што-н.

**Zúeignung** *f* - прысвячэ́нне, прысваéнне

**zúeilen** *vi* (s) (*auf A*) спяшáцца насу́страч (*каму-н., чаму-н.*)

**zueinánder** *pron rez* адзíн [аднó] да аднагó

**zúerkennen*** *vt* (*j-m*) 1) прысу́джваць (*узнагароду каму-н.*) 2) прызнавáць (*за кім-н. права*)

**zuérst** *adv* спачáтку, спяршá, найпéрш, перш за ўсё

**zúfahren*** *vi* (s) 1) (*auf A*) пад'язджáць (*да чаго-н.*) 2) (*auf j-n*) *разм.* накíдвацца (*на каго-н.*)

**Zúfahrt** *f* -, -en пад'éзд (*да будынку*)

**Zúfahrts|straße** *f* -, -n, **~weg** *m* -(e)s, -e пóдступ, падыхóд, пад'язны́ шлях

**Zúfall** *m* -(e)s, -fälle вы́падак, выпадкóвасць; ***durch*** ~ выпадкóва; ***blóßer*** ~ чы́стая выпадкóвасць; ***ein böser*** ~ непрыéмны вы́падак, ірóнія лёсу; ***der ~ wóllte es, dass…*** выпадкóва здáрылася так, што…; па вóлі лёсу…

**zúfallen*** *vi* (s) 1) зачыня́цца; ***ihm fállen vor Müdigkeit die Áugen zu*** ад стóмленасці ў ягó зліпáюцца вóчы 2) выпадáць на дóлю

**zúfällig** *a* выпадкóвы, непрадбáчаны

**zúfälligerweise** *adv* выпадкóва

**Zúfälligkeit** *f* -, -en выпадкóвасць, нечакáнасць

**Zúfallsergebnis** *n* -ses, -se выпадкóвы вы́нік

**Zúfallsglück** *n* -(e)s шчаслíвы вы́падак

**Zúfallstreffer** *m* -s, - выпадкóвае пападáнне, выпадкóвая ку́ля

**Zúfassen** *n* -s: ***rücksichtsloses*** ~ *вайск.* рашу́чыя [акты́ўныя] дзéянні

**zúfertigen** *vt* дастаўля́ць; пасылáць, адпраўля́ць

**zúfliegen*** *vi* (s) 1) (*D*) падлятáць, прылятáць (*да чаго-н.*) 2) (ху́тка) зачыня́цца (*пра акно і да т.п.*); ***die Tür flog zu*** дзвéры зачынíліся

**zúfließen*** *vi* (s) 1) прыцякáць; сцякáцца (*тс. перан.*); ***der Fluss fließt dem Méer zu*** ракá ўпадáе ў мóра 2) атры́млівацъ, паступáць (*ад каго-н.*); ***réiche Spénden flóssen íhnen zu*** яны́ атры́млівалі [ім накірóўваліся] вялíкія ахвяравáнні

**Zúflucht** *f* -, **Zúfluchts|ort** *m* -(e)s, -e, **~stätte** *f* -, -n прыту́лак, прыстáнішча, прыстáнак; ~ ***zu etw. (D) néhmen**** прыбéгнуць да чагó-н. як да парату́нку; ~ ***néhmen**** (*bei D*) шукáць [знайсці] прыстáнішча [прыту́лку-(ак)] у кагó-н.

**Zúfluss** *m* -es, -flüsse прытóк (*тс.перан.*)

**Zúflussrohr** *n* -(e)s, -e водаправóдная трубá

**Zuflüsterer** *m* -s, - шапту́н, нагавóршчык

**zúflüstern** *vt* (*j-m*) нашэ́птваць (*што-н., каму-н.*)

**zufólge** *prp* (*G, D*) згóдна з…, павóдле…

**zufríeden** *a* (*mit D*) задавóлены (*чым-н.*); ~ ***sein*** быць задавóленым; ***sich mit etw. ~ gében**** з(а)давальня́цца чым-н.; ~ ***lássen**** пакідáць у спакóі; ~ ***stéllen*** задавальня́ць

**Zufríedenheit** *f* - задавальнéнне, задавóленасць; ***zur béiderseitigen*** ~ да ўзаéмнага задавальнéння

**zúfrieren*** *vi* (s) замярзáць

**zúfügen** *vt* 1) дадавáць 2) прычыня́ць (*непрыемнасць*); ***j-m Schäden*** ~ рабíць камý-н. шкóду

**Zúfuhr** *f* -, -en 1) падвóз, завóз; упу́ск 2) падáча; забеспячэ́нне 3) гру́зы, якíя падвóзяцца

**zúführen** **1.** *vt* (*D*) падвóзіць (*каго-н., што-н., каму-н., чаму-н.*); падвóдзіць (*каго-н. да каго-н.*) 2) падавáць (*што-н. каму-н., чаму-н.*); забяспéчваць (*чым-н., каго-н., што-н.*); сілкавáць (*чым-н. што-н.*) 3): ***j-n dem Verdérben*** ~ прывéсці кагó-н. да гíбелі; ***die Verbrécher der Stráfe*** ~ пакарáць злачы́нцаў 4) знахóдзіць (*пакупніка каму-н.*); свáтаць (*каго-н. каму-н.*) **2.** *vi* вéсці (*аб дарозе*); ***die Stráße führt auf den Markt zu*** ву́ліца вядзé да ры́нка

**Zúführung** *f* -, -en падвóз, прывóз

**zúfüllen** *vt* 1) далівáць, падлівáць

